Пераклад Васіля Раманава 2015 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асьвятленні “Хрыстос”.

# Кніга 9

## Азіяцкія Хрысты

## Змест

# Частка Першая

## Азіяцкія Будды

# Глава I

## Неабходнае папярэджванне

Прыступаючы да вывучэння рэлігій Азіі, міжволі адчуваеш, як спускаешся у нізіны разумовай чалавечай культуры, дзе пануе яшчэ глыбокі змрок.

У разумовым жыцці буддыстаў, брамінаў і нават ісламітаў не было Лінееў, склаўшых шляхам глыбокага ўсебаковага вывучэння разнастайных матэрыялаў прыродную класіфікацыю жівёл, падмурак навуковай заалогіі; у іх не было Дэкандолей, зрабіўшых тое ж самае для свету расьлін, паклаўшага пачатак навуковай батанікі і яе дальнейшай распрацоўкі; не было Дарвінаў, даўшых на падмурку гэтых натуральных класіфікацый эвалюцыяністычную тэорыю ўзнікнення жыцця. У іх не было сваіх Капернікаў, паклаўшых пачатак правільным уяўленням пра рухі нябесных сьвяціл у непарарыўнай прасторы і пра сапраўднае становішча зямлі ў сонечнай сістэме, не было Ньютанаў, дапасаваўшых усе гэта да строгіх законаў нябеснай мяханікі, якая дала магчымасць з’яўленню навуковых прадказанняў нябесных з’яваў, якія заўсёды збываюцца замест падманваючых прадказанняў старажытнасьці; не было Лапласаў, даўшых эвалюціянісцкую тэорыю паходжання сусветаў, не было Лайелей, паклаўшых пачатак эвалюцыйным уяўленням пра паслядоўнае развіццё зямнога шара. У іх не было сваіх Лавуазье і Мендзялеевых, паклаўшых пачатак сучаснай тэарэтычнай хіміі; у іх не было Пастэраў вынайшаўшых мікробнае паходжанне ўсіх заразных хвароб і даўшых новыя сродкі для барацьбы з мі. У іх не было ні Калумбаў, ні Кукаў, знайшоўшых для сваіх народаў заморскія невядомыя землі, не было Лівінгстонаў і Пржавальскіх, здзейсніўшых тое ж на сушы і даўшых магчымасць навукоўцам Пякіна, Калькуты, Тэгерана і Самарканда ведаць пра Заходнюю Яўропу нашмат больш таго, чым ведалі яе асабістыя навукоўцы. У іх не было сваіх Уатаў, вынайшаўшых паравую машыну, не было Сантас-Дзюмонаў, паклаўшых пачатак кіруемаму паветраплаванню.

Хаця у іх было не менш, чым у Яўропе дыму і нагрэтага паветра, паднімаўшагася ўверх, але нікому із іх не прыходзіла ў галаву выкарыстаць іх для падняцца паветраных шароў і паляцець з імі ў вышыню. У іх не было Эдысонаў, вынайшаўшых фанограф і Яблачкіных, вынайшаўшых электрычнае асьвятленне. Іхная матэматыка – простая арыфметыка, і нават алгебра на смай справе ўзнікла не ў іх, а ў маўрытанскай Гішпаніі. У іх не ўзніка рамантызму, верагодна, дзякуючы шматжонству, а таму да гэтага часу няма і рамана, і уся іхная літаратура знаходзіцца на тым жа казачным узроўні, якй была і еўрапейская пад час сярэдневечча. Іхны жывапіс быў да еўрапейскіх настаўнікаў толькі пярвічным без перспектывы, іхная музыка пачаткова аднастайная, іхны тэатр – просты балаган, у параўнанні з еўрапейскім.

І калі мне скажуць, што замест гэтага у іхных навукоўцаў было высока развіта мастацтва гіпнозу, то я адкажу, што і яно, падобна толькі што тут мной пералічаным адкрыццям і вынаходніцтвам, хутчэй за ўсяго прыйшло туда із Яўропы, у якой пазней было пераіначана хрысьціянвам у хаўрусе са свецкімі

кіраўнікамі як меўшае на тым нізкім узроўні сярэдневечнай псіхікі, шкодныя і нават згубныя вынікі. Бо гэта ж і была тая "чорная магія" з выклікаемымі прывідамі і галюцынацыямі слыху і астатніх органаў адчування, якую хрысьціянскія аўтары адносілі на конт дзейнічання сатанінскіх магутнасьцей і само слова культ мае сваім коранем гучанне КЛД, сімвалізуючае ўсякае чарадзейства.

І гэтае самае еўрапейскае чарадзейства, надоўга знішчанае ў Яўропе, а зараз аднаўляемае на навуковым падмурку, як псіхатэрапеўтычны сродак, перайшоўшы ў Сярэднюю Азію, і адтуль у Індыю, засталося там на той жа сярэдняй прыступцы свайго развіцця, на якой яно было пад час сярэдніх стагоддзяў у Яўропе. Із гэтага відавочна, што не з Усходу старого света яно ішло на яго Захад, а, як і ўсе навейшыя вынаходніцствы, цалкам наадварот.

Гаварыць пра старажытную высокую культуру кітайцаў, індусаў і тыбетцаў, пасьля чаго гэтыя народы пастарэлі і "апусьціліся ў дзяцінства", з'яўляецца простай гульнёй слоў. Гэта так жа недарэчна, як сцвярджаць, што нейкі чалавек, нарадзіўшыся дарослым і пасталеўшы, зноў пачаў памяншацца ростам і нарэшце ператварыўся у хлопчыка для того, каб зноў пачаць расьці і развівацца, як толькі зараз пачынаюць азіяцкія народы, буддыйскай, брамінскай і нават ісламіцкай разумовых культур.

На еўрапейскае паходжанне сучасных азіяцкіх культаў, г. азн. чарадзейных вучэнняў, мы можам паказаць не мала адзнак. Вось, напрыклад, хоть бы лінгвістычныя карані.

Індуская тройца брамінаў мае назву Трымурці, г. азн. па-славянску Тры-Морды. Гэтае словаўтварэнне не жарт, а сапраўдны лінгвістычны корань індускай тройцы, паказваючы, што яна прыйшла туды із Балканскай паўвыспы, із Вялікай Рамеі, якая, як я ўжо паказаў у VI томе, была у сярэднія стагоддзі яшчэ напалову балканскай, напаполу анаталійскай дзяржавай, з нязначным развіццём грэцкай літературы, і слова морда тады азначала проста аблічча.

Такімі чыста славянскімі словамі перапоўнены ўвесь санскрыт, які пагэтаму і павінен быць прызнаны за перенесены на Далёкі Усход рамейскімі вястунамі хрысьціянва, тым больш, што і сам індускі Крышна ёсць не што іншае, як рамейскі Хрыстос, але толькі у яго далейшым развіцці. І само слова Крышна мае сэнс (памазанік на царства) толькі па-грэцку, гэта азначае, яно таксама прыйшло із Вялікай Рамеі. І вось, згодна з еўрапейскай тэалогіяй, Хрыстос ажыў із памёршых толькі адзін раз, і потым паляцеў на "сёмае неба", дзе і застаецца да гэтага часу, седзячы побач з богам-айцом, пад святым духам у выглядзе голуба, на нейкім пасадзе, нябачным з дапамогай самага моцнага із нашых тэлескопаў. А згодна з індускім вучэннем, гэты самы бога-чалавек ажываў ужо восем разоў і восемь разоў пагружаўся у нірвану, г. азн. у шчаслівае нябеснае заспакаенне ад жыццёвых турбот. Але ж гэтыя восем разоў ці не з'яўляюцца сем разоў паўтораным эхам яго аднаразовага евангельскага ажывання. Вось чаму, хаця б індуская фантазія, згодна са звычаем усёй сярэдневечнай і нават навейшай міфічнай творчасьці і адносіла іх у непамятаемыя часы, але само складанне такога міфа мы не маем права без самых важкіх доказаў, пераносіць за межы канца сярэдніх стагоддзяў, калі першае і адзінае ажыванне стала падмуркам хрысьціянскага вучэння.

Пойдем зараз і далей. Нірвана індусаў перакладаецца навейшымі ўсходаведамі не ў сэнсе абсалютнага нішто, як рабілі раней, а у сэнсе заспакаення пасьля сьмерці. А у рускай нараднай гаворцы і, відаць, у іншых славянскіх, памёршы мае назву пакойнік, г. азн. заспакоіўшыся ад жыццёвых спраў. Але ж гэта

тая ж самая ідэалогія пасьмяротнага стану, упадабляемая сну без сноў пры вызваленні свядомасьці ад разарваных ёю цялесных павязей, зведваючых пазней знішчэнне. Гэта азначае, і ўяўленне пра нірвану, як быццам бы прыйшло на ўсход са славянскага рамейскага захаду. Але можна дадаць і больш гэтага.

Падобна таму, як рамейскі Хрыстос, прыбыўшы ў Калькуту, выявіўся там ажыўшым замест аднаго разу восем, так і хрысьціянскі бог – адзіны у трох абліччах (тры морды) – ператварыўся на тым жа шляху ўжо у шматлікага, і нават з’явіліся выявы з мноствам галоў, а з імі і твараў на адным тулаве. І гэта памнажэнне твараў наглядна паказвае, што уяўленне пра адзінага бога ў трох абліччах, выпрацаванае рамейскай тэалогіяй шляхам чыстых разумовых высілкаў пра бога-айца, бога-сына і пра сьвяты дух деградзіравала на шляху у Індыю у выяву трох чалавечых твараў на адным тулаве, нападобе цяляці з трыма галовамі. А затым ужо ў самой Індыі, колькасць такіх галоў на адным божым тулаве даходзіла і да сарака. Так слова асоба у сэнсе пярсоны, дзякуючы перамяшанню сэнсаў у славянскіх мовах ператварылася ў простае аблічча, а затым і у асобную галаву.

Такім жа чынам ад кораня чало паходзіць слова чалавек, пярвічна чалавік, г. азн. маючы чало.

Само собой зразумела, што не рамейская рэлігійна-філасофская тройца выпрацавалася із гэтых першапачатковых выродлівых уяўленняў, а дэградавала ў іх, распаўсюдзіўшыся ў асяроддзі народа, найбольш адукаваная частка якога яшчэ не даспела да прынесеных да яе з Захаду філасофскіх уяўленняў. І гэтая акалічнасць наглядна паказвае, што рэлігія брамінаў (г. азн. служак бога-слова[1]), прыйшла ад заходніх багасловаў, а як следства таксама не за тысячы гадоў да хрысьціянства, а не раней як пад час сярэдневечча.

Разважаючы такім чынам, мы лёгка прыходзім да высновы, што і буддызм узнік дастаткова позна, як быццам нават не раней крыжовых паходаў. Усе яго паслядоўнікі лічаць, што ён узнік ужо пры поўным развіцці брамаізма, праз такія ж нагоды, як і пратэнтастызм ва ўлонні каталіцызму, і з гэтым нельга не пагадзіцца.

Што азначае буддыст? І гэтае слова мае славянскі корань – ад дзеяслова будзіць – і азначае, абуджаны. Еўрапейскія навукоўцы, імкнучыся прыдаць усходнім веравучэнням глыбока філасафічны характар, тлумачаць гэтае слова ў сэнсе абуджэння да разумовага жыцця. Але гэта наўрад ці так. У тых жа славянскіх мовах, із якіх узята так шмат азіяцкіх релігійных тэрмінаў, называюць памёршага ўсопшым, г. азн. заснуўшым, а таму і слова абуджаны хутчэй за ўсё тут патрэбна разумаць у сэнсе ажывання із памёршых. І мы сапраўды бачым, што ў будызме пад гэтым словам разумеецца пераўвасабленне ў новае цела пасьля сьмерці, г. азн. ажыванне ў новай асобе пасьля знаходжання больш ці менш доўга у нірване, г. азн. царстве заспакаення, царстве пакойнікаў. Першапачатковая ідэя хрысьціянскага веравучэння пра адзінкавае цудоўнае ажыванне аднаго чалавека, эвалюцыяніравала тут ужо ў шматкратнае ажыванне шматлікіх асоб, валодаючых дастатковай святасьцю, ажыўшы і сам (Будда), ён жа Крышна-Хрыстос гэтай рэлігіі ажывае і памірае без канца у выглядзе Тыбецкіх далай-ламаў.

С гэтымі небходнымі папярэджваннямі пра нізкі ўзровень мінуўшых азіяцкіх культур, не даўшых свету ні аднаго выбітнога навукоўцы, аж да XIX стагоддзя нашай эры, і пра запазычванне імі ад яўрапейцаў-хрысьціян амаль усіх важнейшых дасягненняў нават і ў вобласьці рэлігійнай думкі, якую яны толькі пераіначылі, я

[1] Брама па-санскрыцкі аначае слова.

перахожу да далейшага даследавання ў якім, на жаль, мне зноў даводзіцца разысьціся ў сваіх высновах з ужо замацаваўшыміся ўяўленнямі як нашых тэалагаў, так і ідушчых за імі арыенталістаў.

# Глава II.

## Дзіўныя падзеі, адбываючыяся зараз на нашай зямлі.

Ёсць шматлікае ў прыроде, сябар Гарацыо,
Што і не снілася нашым мудрацам!

Так паведала нам некалі адна із асоб у драме Шэкспіра "Гамлет", але на яго папярэджванне да гэтага часу не было звернута патрэбнай увагі, хаця і належала б звярнуць не раз.

Вось, напрыклад, каму-небудзь із сучасных нам этнографаў бачылася нават у сне, што сярод людзей, жывучых зараз на нашай зямлі, не ўсе сапраўдныя людзі, а ёсць і такія, якія толькі прынялі выгляд людзей, а пры бліжэйшым разгляданні выяўляюцца спусціўшыміся да нас з неба жыхарамі зусім іншай пароды, чым мы? Праўда, хрысьціянскія тэалогі ўжо папярэджвалі нас, што такой істотай быў Хрыстос, і што, хаця ён і памёр амаль дзьве тысячы гадоў назад, але зноў вернецца ў чалавечым выглядзе і будзе цараваць на зямлі 1000 гадоў, хаця чамусьці не спяшаецца. І вось, выяўляецца, што менавіта такія вярнуўшыяся з таго свету зараз ужо не малалікія сярод зямных людзей, але пасылаюцца яны чамусьці выключна на маладаступныя для нашых навукоўцаў пласкагор'і ўнутранай Азіі і выключна ў мужчынскім увасабленні. Іх бачаць і чуюць там усе жадаючыя, яны вучаць нас таму ж, чаму вучыў згодна з паведамленнямі евангеліста Мацвея, і Хрыстос у сваёй нагорной пропаведзі і ў размовах з вучнямі, і не маюць ні найменшага фізічнага жадання ў дачыненні да жанчын як, калі верыць евангеллям, не меў яго і настаўнік. Ці не сам гэта евангельскі Хрыстос, стаўшы адзіным, ужо не ў трох, а ў шматлікасьці асоб?

Называюцца там гэтыя адлюстраванні хубілханамі[2] і яны занімаюць у сярэдняй Азіі вышэйшыя святарскія пасады. Іх нават некалькі разрадаў, галоўнейшым із якіх з'яўляюцца Будзіцелі, па-тыбецкі Буды (ці, згодна з еўрапейскай транскрыпцыяй, Будды), такой жа кваліфікацыі, як і евангельскі Хрыстос.

Такіх Будд (Хрыстоў) налічваецца вельмі шмат. Яны, праз вялікую спагаду да усіх адушаўлённых істот і благу ім дастаўляемаму, упадабняюцца бацькам, турбуючымся пра сваіх дзяцей, – узыходзячаму сонцу мудрасьці, усіх асвятляючаму і г. д. Яны ўсюдыісныя: усё прайшоўшыя і будучыню ведаюць як сучаснасць. Не існуе ніводнай патаеннай думкі, якая магла б быць невядомай Сапраўды-Прыйшоўшаму (Будде-Хрысту); таму што ён, з дапамогай найвышэйшай мудрасьці бачыць усё ва ўсіх краінах, як у люстэрку. Ведаючы ўсе без выключэння здзяйсненні істот, пераважна здзяйсненні, адпавядаючыя яго думкам, ён гатовы неадкладна паўстаць у выглядзе настаўніка для пазбаўлення ад сансары. Сапраўды-Прыйшоўшы не адчувае ні найменшай радасьці пры выглядзе заможнасьці

[2] Ад кубілган – у бэе – прыняцце на сябе разнастайных выглядаў, як перакладае гэтае слова О. Кавалеўскі ў сваёй будыскай касмалогіі, 1837 г.

стварэнняў, ні засмучэння пры выглядзе беднасьці; але як толькі заўважыць справу праўды, адразу ж з бязмежным захапленнем паспяшаецца дапамагчы ім.

Не абмежаваныя часам, Будды (Хрысты) не падпарадкоўваюцца закону пераселення душ, але могуць з’яўляцца ў нашым цялесным сьвеце (сансары); браць на себя згодна са сваім жаданнем разнастайныя несапраўдныя віды матэрыі; пад найменнем увасобленых (Манушы-Будда) дзейнічаюць згодна з абавязковымі законамі бога-паслужніка для карысьці арганічных істот, не маючы іншай мэты, акрамя вызвалення іх ад повязей цялеснага свету, у якім стварэнні, сярод хваляў захапленняў і памкненняў плоці, без настаўніка часта гінуць. Пагэтаму "адушаўлённыя істоты павінны шукаць Сапраўды-Прыйшоўшага (Будду-Хрыста) і набыўшы ў ім надзейнага настаўніка, не пакідаць божага намеру, тварыць незлічоныя добрыя справы для хутчэйшага вызвалення сябе ад повязей цялеснага свету".

Із гэтага відаць, што згодна з сярэднеазіяцкімі ўяўленнямі евангельскі бог-сын прыходзіць у гэты свет ужо не раз, як у хрысьціян, а шмат разоў, і нават не ў адным, а ў шматлікіх асобах адначасова і мэта яго прыходу заўсёды была тая ж самая, як і ў евангельскага Хрыста.

Дык хто ж у каго пераняў усю гэтую ідэалогію? Ці буддысты ў хрысьціян, ці наадварот?

Пытанне вырашыць не цяжка, калі мы адкінем наданне, і будем класьці ў падмурак законы здаровага сэнсу.

Кожны міф з цягам часу разрастается і ўскладняецца, а не спрашчаецца і скарачаецца, а таму і буддыйская тэалогія і звязаная з ёю касмагонія павінны быць наступнай стадыяй развіцця хрысьціянства, а не наадварот. А лічыць гэтыя рэлігіі развіваючыміся самастойна і незалежна адна ад адной немагчыма праз агульнасць шматлікіх дэталей, якой, перш за ўсё, з’яўляецца не адпавядаючы чалавечай прыродзе цэлібат святарства, а затым і шэраг іншых агульных рыс. Бо і само выказванне "сапраўды прыйшоўшы" з’яўляецца толькі перефразіроўкай хрысьціянскага вялікоднага прывітання: "сапраўды ажыўшы!". А ідэя пра перасяленне душ знаходзіць свой зародак у евангеллі Яна, аўтар якога, як відаць із яго апошніх радкоў, лічыў себя пераўвасабленцам душы непасрэднага "вучня Хрыстова", якім ён з вышыні сучасных ведаў, ніколі не быў, таму што і сам яго "Хрыстос" у тым выглядзе, якім яго малюе аўтар евангелля Яна, не мог ніколі існаваць.

І так, вучэнне буддызма па ўсёй яго бачнасьці, з’яўляецца толькі пазнейшай стадыяй развіцця апакаліптычнага і нават больш позняга евангельскага хрысьціянства, а гэта азначае, не спусьцілася, як лічаць арыенталісты, з вяршынь Гімалайскіх гор пад час дахрысьціянскага перыяду часу, а прыйшло ў Сярэднюю Азію із Яўропы з хрысьціянскімі місіянерамі, прычым першапачатковыя дэталі былі даведзены да ўтрыравання, асабліва пад уплывам індускіх пандытаў. Пачаўшыся пасьля далучэння Індыі, спачатку да французкай, потым да вялікабрытанскай культур, г. азн. не раней пачатку XVIII стагодзя нашай эры, гэты працэс утрыравання хрысьціянства ў асяроддзі неадукаваных масс і яго прыстасаванне да еўрапейскай філасофіі ў асяроддзі больш адукаваных станаў, відаць, працягваецца аж да апошняга часу і зрабіў нарэшце індускую філасофію як бы завяршэннем класічнай еўрапейскай. Французкі філософ-эклектык першай паловы XIX стагодзя Віктор Кузен меў поўнае права сказаць:

"Індыйская філасофія такая шырокая, што ў ёй перакрыжоўваюцца ўсе філасафічныя (зразумела, толькі ідэалістычныя) сістэмы, гэта целы філасафічны свет, і можна сказаць, што індыйская філасофія – гэта рэзюме ўсёй гісторыі філасофіі".[3]

Із гэтага можна бачыць, што калі на эвалюцыю сярэднеазіяцкага буддызма Індыя і ўплывала, то толькі ў самы апошні час, а ніяк не ў глыбокай старажытнасьці, таму што, як мы пабачым далей і індускі Крышна – аналаг тыбецкга Будды і сама індуская тройца Тры-Мурці таксама прыйшлі із Вялікай Рамеі пад час сярэдніх стагодзяў нашай эры.

Зразумела, людзі ніколі не цікавіўшыяся "гісторыяй гісторыі", г. азн. не вывучаўшыя яе першакрыніцы з храналагічнага боку гледжання, зноў мне нагадаюць пра нейкія "старажытныя дакументы", якія існуюць толькі ў іхным уяўленні. Але хіба можна у сур'ёз спрачацца са стварэннямі ўяўлення? А калі звярнуцца да фактаў, то заўсёды выяўляецца, што самыя старажытныя рукапісы для гісторыі Індыі, Кітая і Сярэдняй Азіі не заходзяць глыбей за той час, калі ў іх ужо з'явіліся еўрапейцы.

Вось, напрыклад, самыя старажытныя рэлігійна-касмалагічныя рукапісы буддыстаў, прыводзімыя праф. О. Кавалеўскім:

1) Зярцала Сусвету (Іртынцу-Інтолі), атрыманае Бергманам у 1802-1803 гг. ад прыволжскіх калмыкаў, г. азн. верагодна, у Казані.

2) Затым у 1834 годзе праф. О. Кавалеўскі знайшоў у бібілятэцы Казанскага ўніверсітэта пад № 113 больш шырокі рукапіс на мангольскай мове пад назвай Чыхула тэкэус утхату шастыр, у які "зярцала сусвету" было ўключаа як падмурак.

3) Затым ён жа паказвае на тыбецкі рукапіс Шыджя рабду Шалва шіджя бі дзі ні кгэлункг Пакба Лодой Джялцпн Балдзан дзатба шусу. Ён прысутнічае толькі ў каталагу біблятэкі Казанскага ўніверсітэта і упершыню пазначаны ў яе каталагу, выдадзеным у 1834 годзе (пад № 116). Але і ён выявіўся ні чым іншым, як папоўненым тыбецкім перакладам папярэдняга мангольскага рукапісу (№115), скарочана называемага Шастра, замест Шастор.

4) Ён жа цытуе мангольскі летапіс, выдадзены ў 1892 годзе Шмідтам у арыгінале з нямецкім перакладам і каментарамі. Але і для гэтай кнігі першакрыніцай служыла "Зярцала Ссвету" ці тая ж "Шастра" (№ 115 біблятэкі Казанскага ўніверсітэта).

5) Той жа праф. Кавалеўскі згадвае пра "Скарб, насычаючы жаданні" (Эрылі хангакчы эрдэні). І пра яго ў сваёй кнізе "Буддыйская Касмалогія", выдадзенай у 1837 годзе, ён паведамляе толькі, што яна існуе ў рукапісе, які змяшчаецца ў яго біблятэцы.

6) Затым ён пазначае "Крыніцу мудрацоў" (па-тыбецкі Гайбі джу най і па-мангольску Мэргэт гарху-ін орон) – энцыклапедычны тыбецка-мангольскі слоўнік, які знаходзіўся ў 1837 годзе ў біблятэцы Казанскага ўніверсітета пад № 2.

7) І, нарэшце, праф. Кавалеўскі згадвае пра рукапісы "Сьвяты ажыўшы Малон-Тойн і выказаная падзяка яго маці" (Хутукту Малон Тойн экэ дурэн ачы Харыгулуксан) таксама ў біблятэцы Казанскага ўніверсітета (№№ 156, 157 і 158). Іхны змест у тым, што бацька Малона Тойна за дабрачынасць патрапіў у царства Брамы, а маці за распусту была кінута у пекла. Яе сын – адзін із набліжаных вучняў Шакья-Муні (Будды), ідзе па ўсяму сусвету, каб знайсьці яе і дапамагчы ёй. Адначасова апісваецца і сам сусвет.

[3] <...>

Першыя тры кнігі з’яўляюцца папаўненнем "Зярцала Сусвету", знойдзенага таксама, відаць, у Казані, і належачага, верагодна, концу XVIII стагодзя. Іхнае знаходжанне ў той жа самай мясцовасьці і толькі ў адным экзэмпляры красамоўна паказвае як іхную нядаўнасць паходжання, так і сувязь паміж сабой. У такім жа становішчы, наколькі мне вядома, знаходзяцца і ўсе астатнія рукапісы Азіі. Калі б яны былі даўнімі, то, бяспрэчна, былі б шмат разоў скапіраваны ў разных месцах Азіяцскага кантынента, як, напрыклад, існуе шмат копій евангелляў і біблейскіх кніг.

Але нічага падобнага тут няма. А для того, каб правільна разважаць пра прыдатнасць збіраемай сучаснымі еўрапейскімі навукоўцамі азіяцкай рукапіснай літературы, патрэбна перш за ўсё уяўляць сабе, як яна збіраецца.

Вось, напрыклад, некалькі гадоў таму назад мой старадаўні сябар Вольга Эрастаўна Азароўская была камандыравана на поўнач Архангельскай губерніі збіраць народныя паданні. Яна знайшла там старую жанчыну – выдатную казачніцу і запісала із яе слоў, а таксама са слаў іншых сялян і сялянак шэраг вельмі цікавых казак і паданняў, якія і выдала нядаўна асобнай кніжкай пад сваім імем.

Якое ж гістарычнае значэнне гэтых казак? Відавочна, ніякага, таму што не ведаеш, што ў іх прыдумалі самі апавядальнікі, і што прыдумалі іхныя непасрэдныя папярэднікі. Але яны маюць вельмі вялікае этнаграфічнае значенне, міжволі адлюстроўваючы не толькі напрамак фантазіі мясцовага насельніцства, але і яго светапогляд і нават сам побыт.

Якая ж характэрыстычная асаблівасць такіх запісаў?

Тая, што яны лакальныя і будучы этнограф знойдзе іх запісаннымі ў такім выглядзе амаль заўсёды толькі ў адным экзэмпляры, ці цалкам не знойдзе рукапіс, які збіральнік закіне як больш не патрэбны, пасьля того, як яе патрапаюць наборшчыкі. Нават і ў тым выпадку, калі замест аднаго спісу выявяцца і яшчэ дзьве-тры копіі, з невядомым часам і месцам, яе старажытнасць і большая распаўсюджанасць яшчэ далёка не гарантаваны. А адзінкавасць рукапісу з’яўляецца, бяспрэчным, верным прызнакам яе лакальнасьці, а не распаўсюджнасьці, і, па-другое, яе этнаграфічнасьці, а не гістарычнасьці, хаця б яе зместам і былі апавяданні пра падзеі агульнанароднага характару, здзейсняўшыяся толькі пад час прадзедаўскіх часоў, а не за сотні і нават тысячы гадоў таму.

Справа ў тым, што літаратурная творчасць не з’яўляецца індывідуальнай з’явай як можна было б пра гэта зрабіць выснову із верша Пушкіна:

Покуль не патрабуе паэта
Да свяшчэннай ахвяры Апалон,
У турботы марнага сьвету
Ён маладушна паглыблены;
Маўчыць яго святая ліра,
Душа задальняваецца салодкім сном,
І із людзей нікчэмных свету
Магчыма, усіх нікчэмней ён.
Але як толькі божы глагол
Да слыха чуткага дакранецца,
Душа паэта схамянецца,
Як абудзіўшыся арол.
Сумуе ён у забавах сьвету,
Людзкая не патрэбна яму вядомасць,

Да ног народнага куміра
Не хіліць гордай галавы.
Бяжыць ён, дзікі і суровы,
І гукаў, і разгубленасьці поўны,
На бераг пустынных хваляў
У шырокашумныя дубравы.

Калі ў дадзеным выпадку ён і правільна адлюстроўвае індывідуальнае самаадчуванне пісьменніка-мастака, то гэта яшчэ не азначае, што яго абудзіў да яго нейкі "божы глагол". Гэты глагол бяспрэчна паходзіць з нутра яго самога, а таму ён і ў турботах нікчэмнага сьвету, калі яго творчыя здольнасьці як быццам бы засынаюць, не з’яўляюцца нікчэмнасьцю. Пісьменнік з’яўляецца грамадзкай з’явай, вынікам складаных уплываў і магутнасьцей спадчынных і сацыяльных, а таму не можа выскачыць індывідуальна, у адзіночку, без того, каб тыя ж грамадзкія магутнасьці і ўплывы не стварылі і іншых пісьменнікаў, паэтаў і мастакоў. Узятая ў сваёй савакупнасьці літаратурная творчасць з’яўляецца грамадзкім працэсам, непазбежна пачынаючымся з таго моманту, калі поспехі культуры настолькі задавальняюць дабрабыт дадзенага народа ці хаця б асобнага яго стану, што ў яго застаецца вольны час, каб не выключна паглыбляцца "у турботы нікчэмнага сьвету", а падумаць і пра яго паходжанне. Із гэтага зразумела, што і ўсе апавяданні нашых класікаў і не класікаў пра Тыпархаў, Арыстоцеляў, Канфуцыяў, Буддаў, Хрыстоў, Магаметаў і Майсеяў, з’явіўшыхся адзінкава, з’яўляюцца ні чым іншым, як простым міфам. Ды і самі гэтыя складаныя міфы не маглі ўтварыцца адзінкава пад час глыбокай старажытнасьці дзякуючы аднаму "божаму голасу Апалона", і не маглі быць прадыктаваны самім богам, годным для гэтага людзям, як пераконваюць хрысьціянскія і магаметанскія тэалагі, – а былі вынікамі складанага грамадзкага працэса, які пад час той жа эпохі і ў асяроддзі таго ж народа павінен быў стварыць і шэраг іншых блізкага да іх узроўню твораў, так як эвалюцыя літаратурнай і мастацкай творчасьці ішла хаця і памкненнямі, але паслядаўна і ўсе наперад і наперад.

Усе гэтыя мяркаванні, маючыя характар агульнага закону, павінны быць нашымі вернымі правадырамі пры даследванні маючыхся ў нашым распараджнні гістарычных першакрыніц. Я толькі што паказаў, як рускія паўночныя казкі, сабраныя В. Э. Азароўскай, маюць вельмі вялікае этнаграфічнае значэнне, але ніяк не гістарычнае. А вось, напрыклад, тыя рукапісы па "Буддыйскай касмалогіі", якія знаходзіліся ў 1837 годзе ў бібліятэцы Казанскага ўніверсітэта і якія я пералічыў у гэтай самай главе згодна з праф. О. Кавалеўскім, – якую цікавасць маюць яны? Этнаграфічную ці гістарычную? Лакальную ці агульную?

Пра іх не паведамляецца, якім чынам яны патрапілі пад розныя нумары каталога Казанскай універсітэцкай бібліятэкі… Арфаграфія іх сучасная, маюцца яны ў адзінкавых экзэмплярах, а не тое, каб падобны твор быў знойдзены яшчэ дзе-небудзь у Манголіі ці Тыбеце ці ў індыйскіх буддыстаў, і занумераваны ў нейкай іншай універсітэцкай ці неуніверсітэцкай бібліятэцы.

Гэта азначае, што гэта лакальныя творы, і пры гэтым нядаўняга часу. Як жа яны ўзніклі? Усё гаворыць за тое, што згодна са спосабам Азароўскай. Нейкі калмык, атрымаўшы вышэйшую адукацыю па-руску ў Казанскім ці Маскоўскім універсітэце і вярнуўшыся на радзіму, пачаў запісваць касмалагічныя і міфічныя вусныя паданні сваіх гаварлівых старцаў, аб’яднаўшы іх на сваёй мове пад назвай "Зярцала Сусвету", "Крыніца мудрацоў", "Скарб, насычаючы жаданні" і нават

"Мангольскі летапіс" і потым пры выпадку сам (ці сын пасьля яго сьмерці) передаў іх у Казанскі ўніверсітэт ці прадаў праф. Кавалеўскаму.

Гэта азначае, гэтыя рукапісы (як і ўсе знаходзімыя падобным чынам у Індыі), маюць толькі этнаграфічнае лакальнае значэнне, адлюстроўваючы сучасныя ўяўленні адносна разных касмалагічных і рэлігійных пытаняў, але гэта яшчэ не азначае, што такім жа быў буддызм да Чынгіз-Хана (1155-1227), уладанні якога прасьціраліся ад Пякіна праз усю вобласць сучаснага буддызма да Інда, цераз Тыбет, на паўднёвы-усход і да Каспійскага мора праз Манголію на захад. Усе гэтыя непамерна працяглыя раз’яднаныя пустынямі і неўтрымліваемыя ў стратэгічным дачыненні пад адной гвалтоўнай уладай краіны, маглі быць аб’яднаны толькі тэакратычна і гэта тым больш абавязкова, калі б Чынгіз-Хан сапраўды пачаў свае "перамогі" (што цалкам неверагодна) із пустыннай Манголіі, рэдкія жыхары якой да гэтага часу з’яўляюцца самымі мірнымі качэўнікамі, гадуючымі вярблюдаў, коней і рогатае быдла. Теакратычны характар улады Чынгіз-Хана падцвярджаецца і паданнямі, што ён даў гэтым – зараз буддыйскім краінам – іхныя законы, на падмурку быццам бы "старажытных звычаяў", і тым, што яго племенік Батый (дастаткова сугучна з Будда) абагаўляецца манголамі.

Згадаем так сама, што і Далай-Ламы з’явіліся ў Тыбеце толькі з XIV стагоддзя, г. азн. адначасова з другой буддыйскай знакамітасьцю – Тымурам (г. азн. Жалезным, 1383-1463), улада якога распасьціралася над усёй цэнтральнай Азіяй і нават над Індыяй і Персіяй, што зноў жа немагчыма са стратэгічнага боку гледжання, але цалкам магчыма з теакратычнага, нападобе, напрыклад, улады рымскага папы над усімі каталікамі. У гэты ж час у Тыбеце з’яўляюцца Далай-Ламы, першыя даставерныя пераўвасабленцы вечна ажываючага Будды.

Усе гэтыя абставіны, і асабліва адзінкавасць і лакальнасць большасьці нашых першакрыніц па азіяцкай літаратуры, як быццам сабранных згодна са спосабам В. Э. Азароўскай і прыведенных пазней ва ўзаемную сувязь самімі калектарамі, вымушаюць лічыць іх больш этнаграфічным, чым гістарычным матэрыялам і абавязваюць сур’ёзнага гісторыка перагледзець занава ўсю гісторыю азіяцкіх краін.

# Глава III

## Непраўдападобнасць абставін, пры якіх знойдзены большасць нашых важнейшых старажытнаазіяцкіх кніг.

Калі культурная дзяржава, імкнучыся да свайго пашырэння, выходзіць за межы сваёй асноўнай нацыянальнасьці і далучае іншамоўны малакультурны народ, яна заўсёды імкнецца не толькі асіміляваць іх па знешняму выгляду, навязваючы ім сваю мову і адзенне, але і па ўнутранаму зместу, г. азн., як гаворыцца, па духу, справядліва бачачы ў гэтым, а не ў вайсковай магутнасьці, галоўны заклад сваёй трываласьці.

У старажытнасьці і пад час сярэдневечча, калі разумовая культура і ўся яе ідэалогія былі заснаваны на містычных рэлігійных пачатках, гэта выяўлялася ў імкненні навязаць нанова далучаным народам сваю рэлігію, для чаго ў іхных краях засноўваліся на дзяржаўныя сродкі прававерныя, згодна з меркаваннем валадарачых асоб, храмы, адзінкавыя парэшткі якіх мы і назіраем, напрыклад, у

Сірыі і паўночнай Афрыцы, дзе дзякуючы адсутнасьці зручных шляхоў рамейская культура не магла ўтрымацца, і ў сярэдне-еўрапейскіх і паўночных краінах, дзе першапачатковыя рамейскія храмы перарадзіліся ў сучасныя нам хрысьціянскія цэрквы і саборы.

У навейшыя ж часы, калі тэалагічны светапогляд замяніўся натуральна-навуковым і царква, адстаўшы ад жыцця, была адлучана ад дзяржавы, гэтае ж імкненне культурных народаў унутрана і знешне асіміляваць з сабой суседнія малакультурныя, натуральна пачало праяўляцца ў наладжванні ў іх ці на межах з імі ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школ.

Такім чынам, напрыклад, на мяжы з мусульманскімі татарамі і буддыйскімі калмыкамі быў яшчэ у 1804 году заснаваны Казанскі ўніверсітэт, з адмысловымі катэдрамі усходніх моў: каранічнай, калмыцкай (пры гэтым не будзе непатрэбным пазначыць, што калмык па-цюркскі азначае "адсталы") і турэцка-татарскай.

Падобным жа чынам у сваіх ост-індыйскіх уладаннях ангельцы спачатку пабудавалі некалкі храмаў, а потым (до 1900 года) там ўжо існавала пяць універсітэтаў: у Калькуцце (з абсерваторыяй), у Бомбе, у Мадрасе, у Алмагабадзе і ў Лагары, і акрамя іх 156 вышэйшых і больш чым 130 000 ніжэйшых школ.

Паглядзім жа зараз на натуральныя наступствы такога спалучэння вышэйшай культуры з іншамоўнай ёй ніжэйшай. Для зразумеласьці нашых уяўлнняў возьмем хаця б бліжэйшы да нас Казанскі ўніверсітэт, дзе з’явіўся першы (із рускіх) прафесар мангольскай мовы Восіп Міхайлавіч Кавалеўскі (1800-1873 гг.), "Буддыйскай Касмалогіяй" якога я тут карыстаюся. Яшчэ да паступлення на гэтую катэдру, ён быў ва ўзросьце 27 гадоў ад роду выпраўлены ў Іркуцк для вывучэння мангольскай мовы, затым праз тры гады ў Пекін, і нарэшце, ад 1836 па 1862 год быў прафесарам у Казані. Што ён рабіў на працягу гэтых дваццаці дзевяці гадоў сваёй прафесарскай і выкладальніцкай дзейнасьці, – гэта можна сказаць і не маючы ніякіх "сведчанняў відавочцаў", карыстаючыся толькі яго кароткімі заўвагамі, што ў яго асабістай біблятэцы меліся, сярод іншых кніг, некалькі цікавых рукапісаў на мангольскай мове па буддыйскай літаратуры. Дзе ён іх знайшоў у Казані? Ды так жа, як зрабілі б і вы, калі б былі там, на яго месцы. Сярод казанскіх студэнтаў, асабліва па гэтай спецыяльнасьці, абавязкова былі хоць бы тры-чатыры калмыцкія юнакі, бацькі якіх, жывучы паміж рускімі, пажадалі далучыць сваіх здольных дзяцей да еўрапейскай адукаванасьці, цуды якой яны не маглі не заўважыць нават і на пачатку XIX стагоддзя. Калі нават гэтыя студэнты і былі не на факультэце ўсходніх моў, то ўсё ж адразу патрапілі пад нагляд Кавалеўскага, як свайго натуральнага заступніка, і ён, як заўзяты арыенталіст, не мог не даручыць ім, калі яны ад’язжалі на канікулы да сваіх бацькоў, збіраць у родных стэпах і запісваць для яго па-калмыцкі ўсё, што можа служыць узорам іхнай літературы, ці ўяўленняў пра атачаючы свет і пра іхную мінулую гісторыю. Старанныя студенты, жадаючы дагадзіць свайму заступніку, на самай справе запісвалі паданні сваіх гаварлівых старцаў, камбінавалі іхныя асобныя апавяданні, у больш ці менш складны твор, падобна таму, як гэта мы маем на прыкладзе Іліяды ці Адысеі, і, вярнуўшыся, перадаваі гэта свайму настаўніку не як асабістую кампіляцыю, якая ў яго вачах страціла б усякую вартасць, а як цалкам запісанае імі са слаў аднаго чалавека, а больш хітрыя (якімі абавязкова бываюць усе дзеці першабытных народаў, сярод якіх містыфікацыя лічыцца справай годнай ухвалы), маглі выдаць свае запісы, знарок змяніўшы почырк, і за знойдзены у сваіх бацькоў ці сваякоў дакумент, заўважыўшы, што гэта больш спадабаецца іхнаму настаўніку.

Такім працэсам і тлумачыцца той здзіўляючы факт, што да самога друкавання ўсіх падобных дакументаў, яны выяўляюцца ўнікальнымі, нідзе больш не знаходзімымі, чаго не магло б быць ні ў якім выпадку, калі б мы мелі справу з дакументамі, з’яўляючыміся ўзорам сапраўднай націянальнай літаратуры, г. азн. распаўсюджаных у гэтай форме народных ці станавых уяўленняў нейкай мясцовасьці. Тады падобныя рукапісы з індывідуальнымі нязначнымі варыянтамі не лавілісь бы то тут то там сучаснымі еўрапейскімі ўсхода-шукальнікамі, як карасі із возера, чаго цалкам няма . Ёсць нават нешта значна горшае.

Што б вы сказалі, напрыклад, калі б нейкі заўзяты рыбак пачаў вас запэўніваць, што, праседзеўшы цэлую ноч на беразе возера, ён злавіў адну пасля другой: 1 шчуку, 1 карпа, 1 ліня, 1 ярша, 1 карася, 1 плотку, 1 жабу і г. д., пералічыўшы дзесяткі два істот, якія магчыма злавіць у дадзеным возеры і ўсе па аднаму экзэмпляру? Вы б засмяяліся, бяспрэчна, такой разнастайнай аднастайнасьці, і сказалі б, што для падабенства на праўду належала б хоць каго-небудь патроіць ці ўчацьвярыць і скараціць шэраг парод. А між іншым у вобласьці літаратуры мы знаходзім злоўленымі такім жа чынам па аднаму экземпляру не два дзесяткі, а некалькі соцень дакументаў із гісторыі ўсходу, лічымых намі за асоўныя. Усе яны выяўляюцца, рукапісамі, не меўшымі пашырэння. Усе яны знаходзяцца на ўзроўні вашага прыватнага ліста да свайго знаёмага, якога ён нікому не даваў чытаць. І ўсе яны відавочна новыя, так як захоўваць іх, нікому не даваючы, няма сэнсу. Асабліва гэтая "індывідуальная" творчасць распаўсюджана ў Індыі, дзе 5 універсітэтаў (не лічачы 150 вышэйшых ангельскіх школ), займаліся падобным спортам нашмат больш доўга і старанна, чым у нас А. Кавалеўскім у Казанскім універсітэце. Там нават плацілі прэмію за кажную новую знаходку. Дык чаму ж мы да гэтага часу не смяёмся над падобнай нелітаратурнай літаратурай?

Але тут выходзіць нешта нават больш дзіўнае. Нягледзячы на гэтую ўнітарнасць маючыхся дакументаў, часта атрымліваецца, што пасьля друкавання нейкага із іх, г. азн., пасьля таго як ён становіцца агульнавядомым для ўсіх цікавячыхся яго зместам, раптам хто-небудзь знаходзіць у тым жа азіяцкім акіяне вельмі папоўнены і ўдасканалены і зноў адзінкавы рукапіс на той жа мове ці зноў таксама аддзінкавы яго пераклад на іншую азіяцкую мову, ці нават арігінал на іншай мове, калі першая знаходка палічана пераладам.

Усе гэта вымушае сур’ёзна і грунтоўна даследаваць, у якой колькасьці экземпляраў знойдзены нашымі еўрапейскімі навукоўцамі ў аддаленых краінах Азіі дакументы па сучаснай гісторыі іхных народаў (да іхнага друкавання) і калі выявіцца, што статыстыка для шмат якіх з іх дае тыя ж лічбавыя вынікі, як тут у мяне адносна лаўлення аматарам рыбальства шчук, лінёў і карасей, то і ачысціць ад іх назаўсёды гісторыю ўсхода.

# Глава IV.

## Буддызм у Сібіры.

Прыступаючы да даследавання буддызма з боку гледжання вольна думаючага чалавека, я перш за ўсё буду гаварыць пра яго стан у Сібіры і памежных з ею краінах, так як тут я магу карыстацца нашай рускай літаратурай, мала вядомай на Захадзе, а між іншым вельмі арыгінальнай і маючай вельмі вялікі навуковы інтарэс.

Згодна са складам свойго народанасельніцства Сібір ніколі не была аднастайнай. Там на велізарнай прасторы паміж Таболам і Іртышом, ракой Об і Енісеем, аж да XIV стагодзя нашай эры раскінулася Татарыя. За Обскай губой, асабліва ў прыленскіх мясьцінах размяшчаліся шырокай паласой качэў'і якутаў, татарскіх адзінапляменнікаў, на поўнач ад рэк Віцім, Вілюй і Алекма да Ледавітага акіяна, на ўсход ад Енісея да Ахоцкага мора. На Камчацкай паўвыспе Крашаніннікаў у 1738 годзе налічваў тры народы – камчадалы, каракі і курыльцы. Каракі межавалі з чукчамі, юкагірамі і ламтуамамі, курыльцы з камчадаламі і японцамі.

Усе гэтыя разнастайныя плямёны належалі і належаць зараз выключна паўночнай паласе. На поўдні ж Сібіры рознаплямённасць амаль знікае.

Грунтоўныя даследванні сінолагаў не дазваляюць сумнявацца, што ў краінах, размешчаных на паўночны-ўсход ад Вялікай Кітайскай сьцяны, па стэпах, прылягаючых да паўночнага Кітая, з самых старажытных часоў жылі толькі тунгускія і мангольскія плямёны. Гэтыя ж племёны, і толькі яны адны, жылі на поўдні Сібіры і пры яе падпарадкаванні рускімі царамі.

Айчынай тунгусаў была сучасная Манчжурыя. Там і зараз розныя плямёны пад агульным найменнем манчжураў, складаюць большасць народанасельніцства. Межамі якой служаць: на поўдні Кітай, на поўначы – рака Амур, на ўсходзе Японскае мора і на захадзе Вялікая Манголія, пачынаючаяся некалькі вышэй зліцця Шылкі і Аргуні.

Але тунгус даўно пераступіў за межы сваёй краіны. Ён раскідвае свой шацёр на Даурскіх раўнінах, пасвіць статкі аленей на берегах Енісея і Лены, Калымы і Алдана; з'яўляецца з калчанам у руцэ сярод непраходных гор і леваў, на усіх працяжэнні ад Амура да Анадыра. Тунгусы доўга балі незалежнымі і пачалі плаціць падаткі рускаму цару не раней 1657 года. Вандруючыя тунгусы, амаль дзікуны, шануюць горы і лясы, яны пераходзяць з месца на месца невялікімі партыямі і маюць разнастайныя мясцовыя найменні, з разнымі адценямі ў мове. Яны вандруюць у Нерчанскім краі ад верхавін Нерчы да Аргуні, па Анону, Індзе, Турзе, Ачынзе, і па іншых рэках гэтага басейна.

Усе яны са старадаўніх часоў мелі агульную назву хамніганаў і ў XIX стагодзі складалі спадкаемны ўдзел князя Гантымура. Большасьць із іх у XVIII стагоддзі перайшла ў буддызм, а стаўшаяся частка яшчэ прытрымліваецца шаманства ці вагаецца паміж абодвума веравызнаннямі.

Другое мангольскае племя вядомае ва Ўсходняй Сібіры пад найменнем бураты. Яны самыя шматлікія із усіх іншародцаў і знаходзяцца пад непасрэдным кіраваннем сваіх спадкаемных князёў. У Дауры, за Ябланавым хрыбтом, іх налічваецца шаснаццаць плямён, і ўсе яны буддыйскага веравызнання.

А па гэты бок Ябланавага хрыбта, у Верхневудзінскай акрузе, па реках Уда і Хілка размешчаны качэўі харынцаў. На пачатку XIX стагодзя гэтае племя складала адну сям'ю з нерчынскімі манголамі і яму першаму было нададзена найменне харыяты, перамененага пазней у бураты.

Бураты-селенгінцы качуюць па рэках Селенга, Варга, Джыда (от джэдзе – мель) і Цемнік. Яны раней за ўсіх астатніх падпалі пад уплыў буддызма і вельмі яму адданыя.

Тункінскія і акінскія бураты жывуць на паўночны-захад ад Байкала у лажбінах і далінах паміж Байкальскімі і Саянскімі гарамі. Прыбярэжныя рэкі Іркута найбольш пакрыты іхнымі качавымі станамі.

Ідынскія бураты і 27 радаў балаганскіх размешчены ніжэй Іркуцка па стэпах, прылягаючых да Ангары.

Кудзінскія бліжэй чым астатнія да Іркуцка. Іхныя землі цягнуцца да Байкала і мяжуюць з уделам верхаленскіх бурат, улусы якіх рассыпаны ад Усходніх узвышшаў Байкала да Верхаленскага адгалінівання, і тут замыкаецца доўгі ланцуг бурацкага насельніцтва.

Архібіскуп Яраслаўскі Ніл, правёўшы ў гэтых краях у якасьці місіянера 16 гадоў і дора вывучыўшы мову мясцовага насельніцтва, так характэрызуе яго побыт у сваёй кнігe "Буддызм" (1838 г.).

"Хаця ад далучэння Сібіры да дзяржавы Расійскай прайшло ўжо каля 250 гадоў (у 1836 годзе), але побыт сібірскіх іншародцаў і зараз прыкметна не перамяніўся. Дзе са старажытных часоў жылі плямёны, там і зараз іх бачым, і бачым во усёй прастаце века Аўраамава. Іхнае домаўладкаванне абмежавана ўбогай палаткай, патрэбы ў ежы і адзенні не прасьціраюцца далей таго, што ён атрымлівае ад статкаў; дзейнасць і жыццевыя забавы засяроджваюцца ў пераходзе із нетры ў нетру, із стэпу ў стэп. Выключэнне складаюць толькі тыя із іншародцаў, якія пастаянна знаходзячыся пад уплывам рускага народанасельніцтва, міжволі звыкаюцца з яго ладам жыцця і пачынаюць разумець, што не вандроўная безклапотнасць, а праца, здзяйсняемая ў поце, з’яўляецца прамым прызначэннем чалавека".

"Вера, – гаворыць ён далей у сваёй цікавай, але цяжка чытаемай кнізе, якою я тут часта карыстаюся, – старажытных жыхароў Сібіры мела адзін агульны характар, следы якога бачым яшчэ ў шаманстве. Але гэтае адзінства даўно рушылася, будучы ўзрушана магутнасьцю абставін.

Пасьля раздраблення вялічэзнай Мангольскай манархіі, спачатку прыволжскія татары, стасуючыся з турэцкімі пакаленнямі, а потым і азійскія, пачалі адыходзіць ад ідалашанавання да магаметанства.

Рэлігійный пераварот пачаўся ў Заходняй Сібіры пры Кучуме. Кучум узяўся за меч, і да таго ж ён размясьціў і сайго бацьку Муртазу, бухарскага валадара. Ад апошняга было выпраўлена войска пад кіраваннем яго старэйшага сына Ахмет-Гірэя і разам з ім целы легіён мулаў. Для народа тады заставалася адно – пакарыцца неабходнасьці. Толькі жыўшыя ў аддалені ад ханскай сталіцы яшчэ мелі магчымасць захаваць сваё ранейша веравызнанне"[4].

"Але магаметанства, уварваўшыся ў паўночную Азію з захаду, не пранікла на Усход далей Енісея. Там заставалася старажытнае язычства, якое вядома пад найменнем шаманства. Але наўзамен магаметанства туды пачаў пранікаць буддызм і больш стагоддзя пануе там ад Амура да Лены, над значнай часткай мангола-бурацкага і тунгускага племені".

Так аўтар заканчвае сваё выкладанне, заснаванае на афіцыйных актах рускіх архіваў, сведчачых пра вельмі нядаўняе пранікненне буддызма на прыбярэжжы ракі Амур, таксама адначасова з магаметанствам, і працягвае яшчэ так: "Буддызм, народжаны пад час гамераўскай эпохі, прызнае сваім заснавальнікам Шыгемунія-Сакья-Муні, і ад яго вядзе сваю непарарыўную эру, згодна з якой (у 1857 годзе) яму налічваецца 2894-ы гады. Падзяляецца ён на дзве секты – фаістаў і лам. Першая замацавалася ў Кітаі, а другая ў Індыі, Тыбеце і Манголіі. Істотнае

[4] Ніл арцыбіскуп Яраслаўскі: Буддызм, стар. 12.

адрозненне паміж  сектамі заключаецца ў тым, што адна із іх мае іерархію, у другой, насупраць, яе няма"[5].

Але ў гэтай храналогіі мы ўжо не будем верыць яму на слова, а паспрабуем даследаваць пытанне самастойна, у астатнім жа на яго высновы можна палажыцца.

Бура, паднятая ісламам, выклікала жахлівыя ўзрушэнні ў асяроддзі турэцкага і татарскага племені, ад Каўказа да Ўрала. Недарэкі-шаманы ўсюды былі вымушаны ўступаць месца бязлітасным мулам. І, што не выклікае сумненняў, не шмат бы іх, асабліва ў Сібіры, перажылі б XVII стагоддзе, калі б паўночныя вобласьці Азіі не адышлі да хрысьціянскай Расіі.

Але яшчэ большы ўціск шаманы зведалі ад буддыстаў на прыканцы XVIII і пачатку XIX стагодзяў.

В раздзеле пра старажытную гісторыю Кітая я пакажу, што нельга надаваць серьёзнага значэння паведамленню пра паўднёвых гунаў пад 336 годом нашай эры (г. азн. пад час узнікнення хрысьціянства у Яўропе), у якім паведамляецца, што тады пад час царавання валадароў Шы-лэ, Шы-ху і Цзун-чжына двор, а з ім і арыстаратыя, былі адданыя буддызму.

Але нават і без спецыяльнай крытыкі  гэтага сведчання, мы маглі б давесьці няправільнасць уяўленняў пра яго вялікую старажытнасць.

Мы можам даказаць, што будызм вельмі нядаўняя рэлігія на сібірскай глебе, таму цяжка патлумачыць, як ён мог заставацца чужым для Сібіры, калі ён меў поспех у Сярэдняй Азіі, ды і ў самой Манголіі, за шмат стагодзяў пред гэтым. Бо ламаізм, аж да XVIII стагодзя нашай эры не знаходзіў сабе прыстанішча нават і ў Даурыі, сумежнай з кітайскай Манголіяй і спалучанай з рэзідэнцыяй Вургынскага патрыярха.

Первым яго прыняў Цангольскі род у 1741 годзе, калі Пунцук дабіўся старэйшынства над ламамі, са званнем протаірэя (Шырэта).

Рускі ўрад са здзіўленнем пабачыў, што за Байкалам, як із зямной нетры, раптоўна ўзніклі 11 храмаў са 150-ю ламамі. Было забаронена якое б то ні было далейшае пашырэнне ламаізма, але не гледзячы на гэта, гадоў праз 15 у 1756 годдзе, там ужо выявілася 324 ламы. Але і гэта былі толькі кветачкі, а ягадкі былі наперадзе.

Табліца 1.

| № | Назва дацана | храмы | сумэ | Колькасць вернікаў | Хамба (мітрапаліт) | Шэрэтуй (біскуп) | Лам ы | Данз іі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гусіна-азёрскі | 1 | 17 | 4136 | 1 | 1 | 7 | 1 |
| 2 | Цангольскі | 1 | 11 | 6625 | - | 1 | 12 | 1 |
| 3 | Джыдзінскі | 1 | 16 | 5113 | - | 1 | 9 | 1 |
| 4 | Ацайскі | 1 | 9 | 921 | - | 1 | 2 | 1 |
| 5 | Сартольскі | 1 | 3 | 2279 | - | 1 | 3 | 1 |
| 6 | Гнгетуеўскі | 1 | 4 | 1690 | - | 1 | 2 | 1 |
| 7 | Учатаеўскі | 1 | 6 | 1170 | - | 1 | 2 | 1 |
| 8 | Бултумурскі | 1 | 17 | 2473 | - | 1 | 4 | 1 |
| 9 | Аракірэтуеўскі | 1 | 2 | 2554 | - | 1 | 4 | 1 |
| 10 | Чогагуетаеўскі | 1 | 11 | 3035 | - | 1 | 5 | 1 |
| 11 | Кударынскі | 1 | 2 | 3666 | - | 1 | 6 | 1 |
| 12 | Іронскі | 1 | 10 | 2505 | - | 1 | 3 | 1 |
| 13 | Янгасінскі | 1 | 4 | 3705 | - | 1 | 6 | 1 |
| 14 | Хадонскі | 1 | 3 | 6400 | - | 1 | 12 | 1 |
| 15 | Анінскі | 1 | 4 | 5813 | - | 1 | 11 | 1 |

[5] Там жа, стар. 17.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 | Тугальгатаеўскі | 1 | 4 | 4864 | - | 1 | 9 | 1 |
| 17 | Агінскі | 1 | - | 10622 | - | 1 | 19 | 1 |
| 18 | Ацагацкі | 1 | 1 | 3305 | - | 1 | 5 | 1 |
| 19 | Яіцанаўскі | 1 | 9 | 3089 | - | 1 | 5 | 1 |
| 20 | Хохюртаеўскі | 1 | - | 3698 | - | 1 | 6 | 1 |
| 21 | Эгітуеўскі | 1 | 4 | 5250 | - | 1 | 9 | 1 |
| 22 | Цугілінскі | 1 | 1 | 5410 | - | 1 | 13 | 1 |
| 23 | Цулгінскі | 1 | 1 | 2105 | - | 1 | 3 | 1 |
| 24 | Гунінскі | 1 | - | 1067 | - | 1 | 2 | 1 |
| 25 | Такчынскі | 1 | - | 919 | - | 1 | 2 | 1 |
| 26 | Хажыртаеўскі | 1 | 1 | 896 | - | 1 | 2 | 1 |
| 27 | Тарбатараеўскі | 1 | 1 | 898 | - | 1 | 2 | 1 |
| 28 | Бырцуйскі | 1 | 1 | 1240 | - | 1 | 2 | 1 |
| 29 | Альхонскі | 1 | - | 1710 | - | 1 | 2 | 1 |
| 30 | Баргузінскі | 1 | 2 | 3428 | - | 1 | 8 | 1 |
| 31 | Кырэнскі | 1 | - | 2695 | - | 1 | 4 | 1 |
| 32 | Балакскі | 1 | - | 7957 | - | 1 | 14 | 1 |
| 33 | Баргатаеўскі | 1 | - | 2709 | - | 1 | 5 | 1 |
| 34 | Аларскі | 1 | 2 | 7972 | - | 1 | 15 | 1 |

Пераемнік Пунцука Зайяга пачаў дамагацца годнасьці біскупа (Бандыды), якую і паспеў атрымаць у 1764 годзе. Гэта было дазволена з мэтай скасаваць падпарадкаванне тутэйшых буддыстаў чужаземнаму патрыярху (Хутукце). Але вынік атрымаўся той, што праз десяць гадоў налічвалася ўжо 617 ламаў.

Потым пачаўся часовы раскол. Галдан, другі із лам па старшынству, абвясьціў сябя незалежным ад Заянгі і заснаваў асобнае кіраванне.

Абодва спаборнічаючыя бакі – Цангольскі і Гусіна-азёрскі, дзеля падтрымкі свайго аўтарытэта, навыперадкі імкнуліся павялічыць колькасць сваіх прыхільнікаў і толькі ў 1808 годзе, разам са сьмерцю Цангольскага біскупа Кетаркая, барацьба партый спынілася і ўлада засяродзілася у асобе Гусіна-Фаерскага Хамба-ламы. Шаманісты ўсюды былі пераследуемы: ні лясы, ні горы не хавалі іх ад гіпноза лам, рыскаўшых па ўсяму Забайкаллю і нават у наваколлях Іркуцка. Нават хрысьціянства адчула цяжар іхнага ўплыву. Із язычнікаў амаль ніхто не адважваўся прынімаць яго.

У 1822 годзе выявілася ужо больш за 2530 лам, пры 19 храмах-кляштарах і абуджэнства захапіла дзьве траціны іншароднаа насельніцства Ўсходняй Сібіры. Хрысьціянскае святарства спалохалася, і вось у 1825 годзе кіраўніцства Сібіры пастанавіла прыняць за крайнюю колькасць 20 буддыйскіх храмаў і 293 ламаў; астатнія ж ламы перtвараліся ў звышштатныя, але ў этым жа годзе быў складзены новы штат, згодна з якім у <…>

Следам за тым, пытаннем пра абмежаванне колькасьці ламаў і храмаў і пра вынаходніцства сродкаў да спынення далейшага распаўсюджвання буддызма занімаўся Сібірскі камітэт, і з гэтай мэтай быў выпаўлены, згодна з загадам генерал-губернатара Руперта, у Сібір служачы асобных даручэнняў.

У 1842 годзе заклапаціласяя гэтай справай Іркуцкае агульнае губернскае кіраванне і быў складзены штат у 34 храмы з 580-ю ламамі. Пры падлічэнні выявілася, што ў гэтым годзе ва Ўсходняй Сібіры налічвалася 120 035 адных мужчын, вызнаваўшых шыгемуніанскае веравызнанне і 5 545 ламаў, г. азн. пад час таго самага дваццацігодзя, калі старанна вёўся пошук сродкаў да іхнага абмежавання, буддысты больш чым падвоіліся.

У асяроддзі рускага хрысьціянскага святарства зноў узніклі трывожныя пытанні: якім чынам арганізуецца гэтае сонмішча ламаў, дзе крыніцы для іхнага існавання, якім з'яўляецца іхны разумовы і маральны стан.

Буддыйскі канон і грамадзянскія законы, заключаныя ў вядомым мангольскім улажэнні, патрабуючы ад ламаў несямейнага жыцця, прызначаючы ім знаходжанне ў кляштарах, разам з тым прызначала, каб яны прыніmaліся ў духоўнае званне не інакш, як із ведама і дазволу рускага кіраўніцтва, згодна з яго выбарам і сапраўднай неабходнасьцю, і пры абавязковай умове асабістага жадання з боку паступаючага. Якім жа чынам адбыўся такі ўражваючы поспех?

Бясспрэчна, зараз мы можам на гэта адказаць: дзейнічалі тыя гіпнатычныя метады, пра якія я вам ужо паведамляў пры апісанні сакрамэнту Джанан, але ў той час пра гіпноз яшчэ не было навуковых уяўленняў, а у чарцей ужо мала хто верыў. І вось пры назіранні такога поспеху ламаізма, параўнальна з поспехамі хрысьціянства, нічаго не заставалася рабіць, як усклікнуць: "Ламаізм вярбуе, дзе пажадае. Памнажае свае легіёны, і ў то жа час засьцерагае сябе з усіх бакоў. Чым больш сямействаў, звязаных з імі повязямі сваяцтва, тым лепш для іх. У іх ламы знаходзяць сваіх таемных агентаў, праз іх схіляюць агульнае меркаванне на сваю карысць і становяцца нябеспячнымі для сваіх праціўнікаў (г. азн. хрысьціянскіх місіянераў).

Як толькі лама з'яўляецца ў нейкім ўлусе, і лепшая сікера, лепшыя стравы, з усімі дагаджэннямі, будуць да яго паслуг".

І вось пачаліся ўрадавыя абмежаванні:

1) Ламам прызначана ў абавякак жыць толькі пры кляштарах, не інакш адлучацца із іх, як згодна са справамі службы і прытым заўсёды з ведама іхнага біскупа (шырэта).

2) Ім дараваны: землі: хамбо-ламе пяцьсот дзесяцін, а іншым сябрам у меньшай колькасьці, адпаведна іхнаму званню.

3) Для папярэджвання ранейшых злоўжыванняў, самым строгім чынам ім забаронена схіляць у сваю веру не толькі хрысьціян, але і шаманістаў, і нарэшце

4) Прызначаны цьвёрды штат для іхнага сьвятарства, які я і паказваю ў табліцы 1.

Але для нас тут больш за ўсё цікавы не гэты штат, а тое, што ў адзінай мясцовасьці, адносна якой былі сабраны дакладныя афіцыйныя запісы, буддызм пачаўся толькі ў палове XVIII стагодзя і з імгненнай хуткасьцю пачаў распаўсюджвацца сярод першапачатковага шаманскага насельніцтва толькі ў першай палове XIX стагодзя. Але гэтая мясцовасць не была адасоблена ад астатніх мясцовасьцей панавання буддызма адносна якіх няма ніякіх статыстчных паведамленяў і надзейных гістарычных звестак ніякімі непераадольнымі перашкодамі.

Дык, на чым жа грунтуюцца мяркаванні, што ён у іх узнік яшчэ дзве тысячы гадоў назад, але чамусьці не пажадаў распаўсюджваца ў Забайкалле і Амурскую вобласть? Эта проста недарэчна.

# Глава V.

## Шаманства і буддызм.

Зараз крыху пагаворым пра тэрытаяльна змешанных з буддыстамі шаманах.

Калі верыць буддыйскай кнізе Ўлігерундалін, то шаманства да апошняга із пяцісот ужо быўшых перараджэняў Будды было ўсеагульнай рэлігіяй і мела свой пісаны закон і шмат магічных кніг; а прадстаўнікі гэтай веры шаманы, трымаючы ў сваіх руках ключы ад таямніц прыроды – здзіўлялі свет метамарфозамі і разастайнымі цудамі.

Не будзем абмяркоўваць ўяўныя шаманскія чарадзейныя кнігі, а толькі адзначым тое, што згодна і з буддыйскімі першакрыніцамі рэлігія абуджэнцаў замясьціла шаманства і што чарадзейства на падмурку гіпнатызма характэрузуе і буддыйскае святарства.

Буддыйскія сьвятыя, якія змаглі выканаць "Тарнін санвар", згодна з паданнем кнігі Даг-Ік (гл. 8, л. 19), набываюць дар васьмі велікіх цудаў. Яны могуць:

1. Лекаваць усе нядугі.

2. Лётаць па паветры.

3. Рабіцца нябачнымі, калі пажадаюць.

4. Рабіць даступнымі для себя ўсе месцы на зямлі і пад зямлёй.

5. Здзяйсняць без якіх бы то ні было наступстваў рэзанне цела ў себя і ў іншых.

6. Усе бачыць і прадбачыць.

7. Вытвараць Пылдзен, г. азн. белую цяжкую семку, валодаючую здольнасцю прыцягваць да сябе.

8. Вырабляць зялёна-жоўтыя дзівосных уласьцівасьцей пілюлі (Рынчын кралу). Яны зараджаюцца ў валасах у пустыннажыхароў ці ў іх свяшчэных кнігах, ці падаюць звыш ў выглядзе манны. Часьцей жа ўсяго яны здабываюцца рукамі праведнікаў із пячоры <….>, дзе праводзіў дні сваёй нявіннасьці Шара Бычін, пакуль яго не спакусіла Ранчыса.

Крупінкі гэтага Пылдэна і Рынчына кладуць у вусны паміраючаму, каб засьцярэгчы яго ад уплыву дэманаў і адкрыць яму шлях да шчаслівай будучыні.

Буддысты лічаць, што ўсе гэта таямніца, недасягальная для шаманаў, а ў іншыя містэрыі (лікам 81) яны ўваходяць нароўні з ламамі, прысвяціўшымі сябе выключна богу пекла – Чайжылу.

Первым месцазнаходжаннем яго абраных маутнасьцей была цудоўная вобласць боскага хана, у лясах якой лятае птушка Галіндыга. Хан гэтай вобласьці, на імя Об-Гамбі, належаў да ліку самых старанных паслядоўнікаў Шыгемунія і па-царску спрыяў буддызму. Але яго малодшы брат уяўляў сабой ватую жалю ахвяру асьляплення. Шаманы атачылі яго, марочылі яго і рабілі з ім, што жадалі.

Об-гамбі, крыніца усіх магчымасьцей настаўлення брата на розум, адважыўся нарэшце паказаць нікчэмнасць шаманаў у параўнанні з Галомай (такое найменне меў Шыгемуні ў перыяд свайго апошняга перараджэння). І запрасіў на баляванне і яго і іх. Але баляваннем кіраваў ханскі брат, і таму шаманам быў нададзены вялікі гонар з'явіцца раней іншых і заняць ганаровейшыя месцы. Але вось прыйшоў Шыгемуній, не бачучы для сябе месца ў первых шэрагах, гнеўна глянуў на шаманаў – і што ж? Раптам усе яны захісталіся, як былінкі, і імгненна апынуліся на задніх шэрагах, адкінутыя туды нябачнай магутнасьцю. Такая катастрофа, здзейсніўшаяся над шасьцюдзесяццю чалавекамі, здзівіла усіх, але толькі не саміх шаманаў. Ім здавалася, што Шыгемуній сатварыў толькі пацешны фокус. Адгарадзіўшы сябе ад яго загаворам – “былга, тулгу, керчы, дзарык”, яны

кінуліся наперад скрозь шэрагі каб заняць ранейшыя месцы. Але адразу ж былі адкідаемы на ранейшыя месцы.

Усе засталося як і было і госьці пачалі мыць рукі, як таго патрабаваў звычай. Шаманы таксама падышлі да пасудзін. Але вада у іх закаменевала, як толькі шаман дакранаўся да яе. Пры ўсіх намаганнях яны не здолелі здабыць ні кроплі і да давяршэння ганьбы, ім сярод такога цудоўнага балявання давялося яшчэ і быць галоднымі. Падносімыя ім яствы адляталі ад іх так хутка, што яны не паспявалі нават дакрануцца да ласункаў, якімі ласаваліся шыгемуністы. Такія містыфікацыі давялі небарак да смутку. Яны сядзелі акамянелыя і нерухомыя. Так што ўсе вяльможы пакінулі чорную веру і перайшлі ў жоўтую. Шаманам больш нічаго не заставалася, як бегчы ад агульнага асьмейвання і таемна прыдумляць сродкі для выпраўлення справы.

І вось, калі яны сядзелі ў роспачы, да іх з'явіўся легіён падспудных духаў (шымнусаў) з прапановай паслуг, у выпадку абяцання пакарацца ім. Шаманы абяцалі. І тут жа із іхнага асяроддзя былі абраны шэсць правадыроў, якія, акрамя асабістых годнасьцей, яшчэ належалі да знакамітых радоў, з прадвеку захоўваўшых шэсць валадарачых у сьвеце ліхаў.

Гэтыя правадыры, прыняўшы пад сваё падпарадкаванне полчышчы падспудных духаў якія ішлі з імі разам, прабраліся ў месцазнаходжання Тойна Гадомы і напалі на яго. Адбылося жудаснае відовішча. Зямля затрэслася пад нагамі Гадомы, стыхіі забушавалі навокал яго; град і маланкі сыпаліся на яго галаву. Усе было дарэмна! Гадома стояў трывала і толькі ўсьміхаўся. Але яго паплечнікі спалохаліся. Гэтая акалічнасць надала смеласьці ворагам Будды звярнуцца да Об-Гамбы з прашэннем загадаць Шыгемуні, каб ён пагадзіўся на публічнае спаборніцтва з прадстаўніком чорнай веры, і Шыгемуні пагадзіўся.

Пачалася падрыхтоўка і ўсе былі перакананы, што шаманству рыхтуецца сьмяротны ўдар, пад цяжкасьцю якога яно павіна знікнуць назаўсёды. Але якім жа было агульнае здзіўленне, калі пранеслася чутка, што Шыгемуні і яго 1200 сьвятароў збеглі, не дачакаўшыся дня прызначанага для спаборніцтва, і хаваюцца ў вобласьці Вайсалі. Шаманы кінуліся за збегшымі, напаўняючы шлях пабеднымі крыкамі. Туды ж выправіўся і сам Об-Гамбі, каб даведацца нагоду дзіўнага ўчынку пераўтварыўшагася Будды. А ён паўтарыў тую ж гісторію і ў Вайсалі. Спачатку ён паказаў гатоўнасць спаборнічаць з шаманамі, а потым здрадзіў свайму слову і за дзень да тэрміну зышоў у вобласць Гаасамбір. Адтуль такім жа чынам ён перапраівіўся ў Баранзу а потым у Цігісары, у Варкасон, у Габалік і далей, – у такія ж таемныя краіны, якія пазней рупліва, але малапасняхова шукалі буддолагі. Пераходзячы із краіны ў краіну, ад аднаго народа да другому, ён дайшоў да краіны, дзе валадарыў Добрапераможны і тут вырашыў прыступіць да развязкі.

Пад час першай чвэрці Белага месяца, пасьля сытнага абеда і заходзячыся ў самым лепшым душэўным стане, ён утыкнуў у зямлю сваю зубачыстку, і яна, як некалі жазло Арона, да агульнага здзіўлення, імгненна расцьвіла і ператварылася ў вялікае галінастае дрэва, абцяжаранае вялікай колькасьцю разных пладаў і усе, акрамя шаманаў, частаваліся імі. Потым у той жа краіне ён стварыў дзве горы, із якіх адна запоўнілася незлічонымі скарбамі, а другая – кветкамі і травамі, лякуючымі ўсе нядугі.

Пры выказванні падзякі аднаму хану, ён папаласкаў свой рот і выплюнуў із яго столькі воды, што ўтварылася велічэзнае возера, напоўніўшае багаццем усю краіну. Адным узмахам сваёй рукі ён стварыў восем вялікіх рэчак. Гасьцюючы ў

аднаго хана, ён выпусьціў са свайго рота такі сьвет, які асьвяціў увесь сусвет і палекаваў усе хваробы. У вобласьці Лізей-оры ён надзяліў усіх насельнікаў здольнасьцю ведаць, што думаюць іншыя. А пасьля паразы шаманаў яго валоссе зрабілася светавыпраменьваючым, і яго вобраз адлюстраваўся на цвердзі нябеснай у 38 тысячах паўтораў (Уліг. Далай гл.3).

Яго слава загрымела паўсюдна і ва ўсіх выклікала захапленне і здзіўленне. Ханы і народ спяшаліся на ўшанаванне да вялікага настаўніка і праводзілі яго да самай вобласьці Бурхан-хана.

Але шаманы ні на што не звярталі ўвагі. Натхняемыя злым рокам, яны настойвалі на тым, каб змагацца з Шыгемуніем, і выступілі супраць яго, у колькасьці шасьцісот чалавек.

Шыгемуні ў гэты час адпачываў на ільвіным месцы, са сваімі паслядоўнікамі Асуры і Хагмузду. Астатнія асобы, у тым ліку і ханы, занялі месцы на некаторай адлегласьці ад іх у адзнаку павагі і ўсе, ад першага да апошняга, захоўвалі глыбокае маўчанне, спадзяючыся пабачыць небывалае ў сусвеце спаборніцтва.

Але адбылося тое, чаго ніхто не чакаў. Шыгемуні, не ганараваўшы шаманаў ні словам, ні позіркам, вырашыў іхны лёс адным узмахам рукі. Зямля завагалася, пачуўся аглушаючы гук, падобны на роў слана; із зямлі выйшла полымя і выскачылі геніі, якія ў выглядзе грозных асілкаў кінуліся на шаманаў і пачалі іх зьнішчаць. Няшчасныя спрабавалі выратавацца ўцёкамі. Але рака перагарадзіла ім дарогу і іхная пагібель зрабілася амаль усеагульнай. Із шасьці соцень тысяч ацалела ўсяго двьвесьці шаманаў. І яны-та, разышоўшыся па сьвету, паслужылі сродкам да захавання "чорнай веры", якая і да гэтага часу існуе дзякуючы яе паслядоўнікам.

Гэтая легенда дастаткова паказвае, што на поўначы Азіі буддызм, адкуль бы ён ні прыйшоў, суправаджаўся жорсткай барацьбой з шаманамі. Але па меры таго, як валадары падпадалі пад уплыў новага веравызнання, становішча шаманаў станавілася ўсё больш цяжкім. Адны з іх былі вымушаны скарыцца перад магутнасьцю, другія разышліся па менш культурных месцах.

Вядома, што вобласць гэтай веры некалі была вельмі шырокай. І да гэтага часу паслядоўнікі шаманізма знаходзяцца паміж манчжурамі, манголамі, тунгусамі, калмыкамі, якутамі, чукчамі, татарамі, астракамі, чувашамі, чарамісамі, вацякамі, кіргізамі і разнымі іншымі дробнымі плямёнамі, не выключаючы насельнікаў выспаў Ціхага акіяна. Іх дагматы і звычаі, паданні і вераванні адрозніваюцца толькі ўмовамі жыцця кожнага народу. Дапускаючы дзейнасць у Сусвеце двух пачаткаў: добрага і злога, шаманізм прызнае небходным служыць і таму і другому. У мангалоў гэтая дагматыка выражалася ў такіх пастулатах:

Паміж іхнымі багамі першае месца занімае Тангеры, як крыніца жыцця і ўсяго добрага, а яго дзеці Тэнгерыны ўяўляюць сабой атаясамленне магутнасьцей прыроды, стыхій і нават чалавечых захапленняў. Такімі напрыклад з’яўляюцца: 1) Багатор тэнгеры, геній смеласьці; 2) Дайсун тэнгеры – заступнік вайны і девяноста дзевяці геніеў, валадарачых над гарамі, рэкамі, лясамі, пустынямі, звярямі, як гэта відаць із наступнага напева:

Дзевяноста девяць Тэнгерынаў!
Слухайце словы нашы!
Алтай хан, Кунтэй хан…
Вы, валадарачыя паўсюды,
Паспяшайцеся да нас!

Духі, уключаныя ў гэтую катэгорыю, дзеляцца на добрых і злых. Першыя із іх не выклікаюць асьцярогі. Яны і з'яўляцца толькі там дзе патрэбна іхная дапамога і паслугі, а апошнія ставяцца варожа не толькі да людзей, але і да самога неба. Іх-та шаманізм баіцца і абавязвае ўтаймоўваць іхную злобу ахвярамі і малітвамі. Яны ж, аднак, тыя ж, як і ў буддыйскай духалогіі. Із іх Элье з'яўляецца ў выглядзе коршака, які, седзячы на дзікім кані і запусьціўшы кіпцюры ў яго грыву, стралой ляціць па гарах і стэпах. Албін, блукаючы па нетрах і ростанях, робіць воклічы, запальвае падманныя агеньчыкі, ладзіць фантастычныя выявы і прымушае путнікаў блукаць. А Вук належыць да ліку дамавых і, пасяліўшыся ў юрце, не дае спакою.

Сярэдняе становішча паміж добрымі і злымі духамі занімаюць ангоны, г. азн. душы людзей, якія вызначыліся ў жыцці злымі ці добрымі здзяйсненнямі і пасьля сьмерці не парвалі сваіх ранейшых стасункаў са светам і працягваючыя дзейнічаць то на шкоду, то на карысць жівучым. Першыя із іх прыносяць пошасьці, выклікаюць цяжкія хваробы і губяць дзяцей, знясільваюць быдла і з'яўляцца бічом таго племені, сярод якога ўсталяваліся.

Звычаёвая частка шаманства мае шмат падабенства з Докшыцкім адгалінаваннем буддызма.

Нараджэнне немаўляці і наданне яму імя суправаджаецца хатнім святам. Але калі адчуваюць нябяспеку за жыццё дзіцёнка, то завуць шамана. І ён, здзейсніўшы закляцці і ўзліванні, ставіць на ганаровае месца сваю пачварную маску, складаючую прыналежнасць службовага шаманскага ўбрання, і абавязкам шамана з'яўляецца даведвацца пра здароўе дзіцёнка  і выконваць пры ім абавязкі жраца, магіка і лекара.

Пры адружваннях ушаноўваецца полымя, цалкам так, як і буддыстамі. Але заплаціўшы калым, малады набывае тут усе правы чалавека часта без якіх бы-то ні было фармальнасьцей. У сваю чаргу і жонка, пасьля вяртання калыму, лічыцца вольнай, ці чалавек перадае яе другому за былык, г. азн. дарунак. Тут дапускаюцца якія заўгодна перамены, без найменшай увагі на адставіны сямейнага шчасьця.

Не вясёлыя і пахаванні, таму што ўсе перакана   ны, што памёршы ідзе ў царства цемры і ён пры поўнай цішыні, ці ж пры завыванні шамана ці шаманкі, так як да гэтага дапускаюцца і жанчыны, кладзецца ў магілу, чашчэй усяго ў седзячым становішчы. Шмат хто прытрымліваецца і старажытнага звычаю. Яны гатуюць асобнай формы яшчык і, паклаўшы туды труп, ставят яго на падмостках у лясах і гушчарах.

Шаманы ж абавязкова хаваюцца. Ім робяць пячоры, ці гроты, складваючы іх із валёжнага камення. Пасадзіўшы яго труп, пакідаюць толькі невялікую адтуліну, куды глядзіць постаць шамана во ўсім яго ўбранні. Потым тут жа працягваюць вяроўку, ад аднаго дрэва да другога, і развешваюць на ёй бубен, лук, кацёл і розныя рэчы, якімі карыстаўся памёршы. Пасьля гэтага навокал магілы абводзяць дзевяць разоў належаўшага шаману каня і потым забіваюць яго ці выпускаюць на волю.

Шаманісты запэўніваюць, што чалавек, бяручыся за шаманскае рамяство, павінен мець да яго ўнутранае прызванне і асаблівы душэўны настрой, адзнакамі якога лічацца: частыя непрытомнасьці і станы шаленства. Заўважыўшы такія якасьці ў падлетку, бацькі запрашаюць найбольш вядомага згодна са сваім вопытам шамана ці шаманку, а часам і некалькі такіх асоб і пры іхнай дапамозе імкнуцца праверыць свае здагадкі.

Калі прызнакі спрыяльныя, то адэпт абавязуецца тэарэтычна і практычна вывучаць не толькі службовыя чыны, але таксама тэрапію і розныя фокусы. Потым

выбіраюць у лесе такое месца, дзе б бярозы ўяўлялі сабой правільную алею, ці ж садзяць яе спецыяльна недалёка ад улуса. На каждым яе баку павінна быць па дзевяці бяроз, у тым ліку дзве, заканчваючыя сабой алею, павінны быць значнай вышыні. Усе яны ўпрыгожваюцца дзевяццю пародамі лясных жывёл, пачынаючы ад белкі да сабакі.

Шаман, апрануўшыся ў поўнае службовае адзенне і апрануўшы такое ж на свайго вучня, бярэ яго за руку і пачынае бегаць з ім вакол дрэва, робячы скокі і напевы. Потым ён заскоквае на вяршыню высокай бярезы, і становіцца там у спецыяльна прыгатаваным уступе, падобным на гняздо і ў такім становішцы яшчэ больш павялічвае сваю мітусню і крыкі, чаму павінен пераймаць і вучань, стоячы на вяршыні другой высокай бярозы.

Падобнае дзеянне паўтараецца тры дні, на кажны із 9 навучальных гадаў. Калі вучань прыдатны, то ён патроху пачынае вывучаць рамяство свайго настаўніка, а ў працілеглым выпадку робіцца выснова, што духі нечым незадаволены, і таму бацькі адмаўляюцца ад далейшых турбот. Тады апошні раз пасьля патрэбнай падрыхтоўкі здзяйсняецца апошні акт: настаўнік і прыдатны вучань залазаць на запаветныя бярозы, і першы, круцячыся ва ўсе бакі на верхавіне дрэва, абвяшчае мовай аракула, што вызначаныя да вывучэння сакрамэнтаў шаманізма гады прайшлі, ахвяравальныя звычаі выкананы, і пры іхнай дапамозе, такі-та выявіўся цалкам прыдатным да праходжання цяжкага шаманскага служэння. Юнак шаман вымаўляе як бы імправізаваны гімн у гонар свайго настаўніка, дзякуе яго і клянецца да канца жыцця быць у сыноўнім паслушэнстве ў яго. А на заключэнне чуюцца ўсеагульныя крыкі, нароўні з гулам бубнаў і суправаджаюцца гульнямі і піраваннямі.

# Глава VI

## Пабытова-рэлігійныя звычаі абуджэнцаў.

Агульнае распаўсюджванне з іх маюць наступныя: хрышчэнне, адружальны звычай, запрашэнне душы назад у цела, выкуп жыцця небяспечна хворага, провады душы памёршага. Разгледзім па чарзе кожны з іх.

### Хрышчэнне.

На трэцці дзень пасьля нараджэння немаўля заклікаюцца сваякі і запрашаецца лама. Святар вымавіўшы звычайныя малітвы, разгортвае кнігу, пад назвай Джурхейлітэ, і карыстаючыся ёю вызначае <…> 1) васьмі-вершныя пачаткі сусвету і знаходзячыхся ў стыхійнай сувязі з імі стыхійных духаў. 2) Дзевяці колеравыя адзнакі – якія служаць сімваламі розных рэчаў духоўнага сусвету, адзнакі Задыяка, вызначаючыя сабой значэнне дадзенага года, месяца, сутак і нават гадзіны. 3) Дзень тыдня, звычайна пачынаючагася з суботы і выкарыстоўваючыся ў якасьці бліжэйшага пазначальніка дзён спрыяльных для немаўляці і небяспечных. 4) Сутачны падзел, змяшчаючы ў сабе 360 прыступак (градусаў). 5) Кіруючыя сузор'і, асабліва 25-ці зоркавае сузор'е, і іншыя, маючыя ўплыў на лёс новага чалавека.

Вызначыўшы ўсе гэтыя ўмовы, сьвятар урачыста абвяшчае, што згодна з правільным указаннем яго кнігі, нараджэнне немаўляці адбылося, напрыклад, "у стыхіі полымя, пад чырвоным знакам, у год тыгра, месяца Авена, у дзень дзіка, у гадзіну дракона, пад час саракавой часткі сутак, пад уплывам дзесятай зоркі; і таму

немаўляці надаецца адпаведнае імя. У падобным сэнсе складаецца і пісьмовы акт, для даведак пад час наступнага жыцця. Затым здзяйсняецца хрышчэнне: сваякі мыюць немаўля асьвечанай вадой, пры гэтым сьвятар чытае малітвы і заклінанні па кніге пяці багаў (г. азн. анёлаў)-аберагальнікаў.

Гэтае хрышчэнне, бясспрэчна маючае тое ж паходжанне, што і хрысьціянскае, – заканчваецца хатнім сьвятам, маючым назву свята хрышчэння (Мілангора).

## Адружальны звычай.

Пры адружваннях спачатку зьвяртаецца ўвага на радство, пры гэтым па мужчыскай лініі не павінна быць радства да дзесятага калена, а па жаночай – да шостага, але так як ніхто не ведае такой колькасьці продкаў (126 па жаночай і 510 па мужчынскай лініі), то шляхетныя асобы пазбягаюць усіх носьбітаў свайго прозвішча, а нехляхетныя бяруць да ўвагі толькі чуткі, ды і, акрамя таго, існуючае далёкае радство можа быць скасавана пры дазваленні лам. Затым бяруцца да ўвагі стыхіі і сузор'і, пад уплывам якіх нарадзіліся маладыя. І калі выявіцца, што ўмовы нараджэння ўзаемна супралььеглыя, калі напрыклад, у крытычны момант на адну асобу дзейнічала полымя, а на другую вада, то такія асобы прызнаюцца не могучымі мецць радства адна з другой, а таму і адружанне паміж імі не дапускаецца да той пары, пакуль сьвятары не знойдуць магчымасць задобрыць варожых духаў і прымірыць варагуючыя паміж сабой стыхіі, шляхам сур'ёзных ахвяраванняў на іхную карысць.

Пераадолеўшы рэлігійныя абмяжаванні, пачынаюць фармальнае сватанне, цалкам як у старажытнай Русі. Бацькі будушчых маладых спачатку дзейнічаюць з дапамогай сватаў, потым непасрэдна самі, і наогул без згоды маладой, якая прызнаецца не маючай нікакага права вырашаць свой лёс. Ей нават не дазваляецца бачыць пры этым маладога, і нікога із маючых дачыненне да яго боку. Галоўная размова пры гэтым заўсёды засяроджвецца на памеры платы за маладую, г. азн. калыма, які служыць краевугольным каменем усіх буддыйскіх адружванняў. Дамовіўшыся пра гэта, запрашаюць сьвятара і разам з ім моляцца пра поспех плануемага адружвання, чым і заканчваюцца заручыны. У вызначаны пасьля гэтага дзень у другі раз з'яўляюцца пасланнікі да бацькоў маладой, ці сам бацька маладога, разам з ламай. Зайшоўшы ў юрту, станавяцца на калены і прыносяць ахвяру хатнім багам. Яна звычайна складаецца із гарбаты, якая разам з іншымі дарункамі кладзецца перад буддыйскімі іконамі – бурханамі. Усе ветліва вітаюць адзін аднаго з выкананнем правілаў этыкета. Пры блізкім знаёмстве, пры роўнасьці ўзросту і маёмасьці абдымаюць адзін аднаго, пры больш далёкім становішчы – абмяжоўваюцца ўзаемным пацісканнем рук і лёгкім нахіленнем галавы; старэйшы кладзе рукі на плечы малодшага, а малодшы мае права дакрануца не вышэй рэбраў сталага чалавека.

Выказаўшы такім чынам пачуцці сваёй радасьці і спагады, садзяцца вакол полымя і бяруцца за трубку, мандзу, кумыс, і іншыя задавальненні качавога пабыту. Пытанне калыма пры гэтым вырашаецца канчаткова, але гэта ўсе яшчэ толькі заручыны і з выкананнем дамоўленасьцей не спяшаюцца, асабліва ў тых выпадках, калі плацельшчык не мае вялікага статку, ці калі маладыя яшчэ канчаткова не выраслі. Выкананне звычаю адружвання ніколі не пачынаецца раней таго як увесь калым будзе сплочаны, і раней прысылкі гасьцінцаў, вядомых пад найменнем "сагал", даючых нагоду да адружальнага збору і весялосьці. Здараюцца выпадкі, калі заручаную маладую да адружвання аддаюць іншаму, а часам і

малады, пражыўшы з жонкай некалькі гадоў і не атрымаўшы дзяцей, адмаўляецца ад яе і выпраўляе яе бацькоў.

Адружальны звычай здзяйсняецца ў юрце, належачай бацьку маладога. Маладая прыводзіцца туды пад покрывам, і пераступіўшы цераз парог, станавіцца разам з двума сяброўкамі на калені перад полымем. Сьвятар перарывае маўчанне малітоўнымі воклічамі, на якія маладая адказвае зямнымі паклонамі. Спачатку яна кланяецца тройчы іконам і перадае ім праз старасту розныя рэчы. Потым кланяецца полымю і кідае ў яго кавалак жаранага жыру барана; стараста ўпрыгожвае стужкамі трохкутнік, ушаноўваючы стыхію полымя. Пасьля гэтага ідзе доўгі шэраг паклонаў сваякам і знаёмым, старэйшым і малодшым, блізкім і больш далёкім. І на долю кожнага із іх маладая кідае па кавалачку жыру, а староста раздае падарункі. А тыя ў сваю чаргу таксама абдорваюць маладую падарункамі. На працягу усёй гэтай пастановы лама, седзячы на ганаровым месцы, надае сваім чытаннем рэлігійны характар гэтаму звычаю.

Сяброўкі нарэшце вядуць маладую ў палатку маладога. Там з яе вачэй знімаецца павязка, каб паглядзець на свайго нарачонага, якога, дарэчы, яна часьцей за ўсё ўжо не раз бачыла.

Звычай запрашэння душы назад у цела.

Буддыйская псіхалогія прызнае ў чалавека дзве душы: матэрыяльную, г. азн. дыхаючую душу і духоўную, якая ў хрысьціян мае назву дух. Адной із іх падпарадкоўваецца фізічнае жыццё чалавека, другой разумовае і маральнае; адну ставят у непарыўную сувязь з целам, другую, наадварот, толькі знаходзячайся ў целе.

Гэтая галоўная душа можа быць скрадзена ў чалавека дэманамі, чым тлумачацца выпадкі страты розуму і можа самастойна пакідаць цела пры моцных узрушэннях. Але якім бы чынам ні здарылася пдобнае няшчасьце, яго наступствы заўсёды бываюць жудасныя. Чалавек, страціўшы гэтую сваю душу, хутка слабее розумам і памяццю. Дапамога лекара яму не на карысць, і толькі свяшчэнныя заклінанні даюць надзею на выздараўленне.

На гэтым і заснаваны звычай запрашэння душы вярнуцца ў цела. Калі не застаецца больш сумневаў, што чыя-небудзь душа скрадзена адным із дэманаў, то спачаку спрабуюць задобрыць пякельнага цара Чайджыла, каб пры яго дапамозе вызваць выкрадальніка і забраць у яго гэтую душу. З гэтай мэтай гатуюць выяву дзевяці іргачынаў, з надпісамі іхных найменняў. Дачакаўшыся поўначы, кладуць іх у мяшок із сырой стракатай скуры і завязваюць стракатым арканам у дзевяць абарачэнняў. Абраныя із грамадства дзевяць ахвочых, атачыўшы заняволеных сюды іргачынаў, са зброяй у руках, слухаюць заклінанні, вымаўляемыя ламай грунтуючыся на таямнічай кнізе Сідзіл. Пасьля заканчэнняга вымаўлення, адзін із гэтых смельчакаў, схапіўшы аркан і перакінушўы яго цераз плячо, выцягвае мяшок із юрты і тройчы аббягае вакол яе ў суправадэнні натоўпу, які імкнецца як можна больш напалохаць духаў ночы сваімі дзікімі крыкамі, грукатам зброі, гудзеннем труб і бубнаў. А калі мяшок з іргачынамі зноў з’яўляецца каля ўваходу ў юрту, яго сустракаюць стральбой і хуцелька выкідваюць істуканаў на зямлю, заўважаючы, як яны падаюць – на сьпіну ці ўніз аблiччам. Упаўшага аблiччам уніз тут жа разбіваюць молатам; а лежачыя на сьпіне прызнаюцца патрабуючымі новых ахвяр. Іх зноў кладзуць у мяшок і здзяйсняюць новыя заклінанні, паўтараючы разам з гэтым і бегатню. І падобныя дзеянні з дадатковымі для іх зарокамі, вызначанымі

той жа кнігай Сідзіл, паўтараюцца да тых пор, пакуль усе іргачыны патрапяць пад молат.

Іхныя парэшткі зноў збіраюцца ў мяшок і больш не выходзяць адтуль. Іх нясуць у пустыню, закопваюць і кладуць над імі чорны камень з надпісам, што хітрыя духі задаволены і на далей не будуць рабіць шкоду сям'і, дзеля якой здзяйсняўся звычай.

Усё абяцанае пры гэтым іргачынам, у тым ліку і быўшыя ў карыстанні прылады, аддаюцца выканаўцам гэтага сакрамэнту.

Але і гэтым не заўсёды справа заканчваецца. Вельмі часта здараецца, што хворы не адчувае ніякага паляпшэння. Тады пачынаюцца новыя мяркаванні пра нагоды знаходзячагася ў ім зла. Ранейшы здзяйсняльнік звычая, відавочна, абвяшчаецца не меўшым дастатковага вопыту і не выканаўшым усе патрэбныя дзеянні. Сямейства хворага ў другі раз асуджана здзяйсняць заклінанні, пакуль знаўцы таямніц не скажуць, што душа хворага, хаця і вызвалена із-пад улады іргачынаў, але не можа вярнуцца ў цела, не нахозячы да яго шлях; ці нават не маючы жадання гэта рабіць, грэбуючы яго заганамі.

Каб дапамагчы апошняму гору, вакол хворага рскладваюць яго лепшую вопратку і ўсе тое, чым ён найбольш даражыў, а сам ён абмываецца, абкурваецца і наогул прыводіцца ў магчыма найлепшы выгляд і спакойны стан. Тут жа павінна знаходзіцца і бліжэйшая радня, сябры і прыяцелі хворага. І ўсе гэтыя асобы тры разы важна абыходзяць юрту і замілавана завуць па імені бедную вандраўніцу, вышэйшую душу, молячы яе вярнуцца ў цела.

Для зручнасьці яе вяртання ў пакінутае ею, ці згубленае месца жыхарства, праводзіцца як шяхапазначальнік пяціколеравы шнурок даўжынёй дзевяць аршын, ад галавы хворага за дзверы юрты.

Сьвятар, апрануты ў сваю свяшчэнную вопратку, голасна чытае пра жудасьці пекла і пра небяспекі, у якія можа патрапіць душа, самавольна пакінуўшая цела. Ён звяртаецца да прысутнічаючых і да самога хворага з пытаннем: ці прыйшла? І ўсе ў адзін голос адкаваюць: прыйшла, прыйшла, прыйшла! Усе спяшаюцца з прывітаннямі да вярнуўшайся бадзяжніцы і ў адзнаку радасьці, кідаюць на хворага насенне. А шнурок, служыўшы правадніком для душы, скручваюць у маток і надзяваюць на шыю хвораму, з тым, каб ён сем сутак насіў яго не знімаючы. Усе асобы сям'і абавязуюцца не толькі не сварыцца на хворага на працягу гэтага часу і не палохаць яго якой-небудзь неспадзяванасьцю, але і ўсімі сродкамі дагаджаць яму. У іншым выпадку душа, яшчэ не звыкшаяся з целам, у другі раз разарве з ім сваю сувязь і паставіць жыццё і здароўе пацыента пад новую, яшчэ горшую, небяспеку. Так яшчэ ў XIX стагоддзі лекавалі буддыйскія сьвятары-лекары ад гарачкі і ўсіх хвароб, якія суправаджаліся з'явамі трызнення. Аналогічным чынам лекаваліся аж да нашага часу і ўсе небяспечныя хваробы.

## Звычай выкуплення жыцця.

Калі ўсе захады, здзейсненыя дзеля пазбаўлення звычайнага хворага ад хваробы, выяўляюцца не маючымі карысьці, прыступаюць да здзяйснення звычая, маючага назву выкупленне душы, – нешта падобнае на праваслаўнае сабараванне.

Здзяйснялькамі гэтага звычая пераважна былі ламы Докшыцкага чына. Пад іхным кіраўніцтвам із травы рыхтуецца пудзіла, яно апранаецца ў лепшае адзенне пацыента і яму надаецца па магчымасьці прыстойная пастава. Вакол пудзіла ставяцца лепшыя выявы ўсіх тых духаў, якія лічацца цешацца горам і бядой чалавека. Гэтыя выявы ўпрыгожваюцца атрыбутамі атаясамляемымі з кожным

такім духам. Замест жа ахвяр ім кладуцца валасы разных жывёл, прыносімых у выкуп за душу. Тут жа павінен знаходзіцца ў поўнай збруі лепшы конь хворага, ці яго вол, каб выганяемы дух мог без перашкод з'ехаць у пустыню.

Зрабіўшы такія прыгатаванні і дачакаўшыся глыбокай ночы, сьвятары прыступаюць да выканання звычаю. Спачатку чытанне здзяйсняецца ціха, духаў пераконваюць пакінуць хворага і перасяліцца ў зробленае пудзіла, забраўшы ў дадатак і прапанаваныя ахвяры. Але, паступова, тон пачынае змяняцца, мяняючы і становішча пудзіла: яно паварочваецца і размяшчаецца тварам да сьвятара. Чытаючыя паступова даходзяць да раз'юшанага казлагалосся і ім акампануе такая ж музыка. Самы майстэрскі із лам выходзіць у докшыцкім поўным убранні на падмосткі, скача пад акампанемент бубнаў і іншых музычных інструментаў, і дасягнуўшы апагея свайго шаленства, раз'юшана лётае па ўсіх накірунках юрты, прадказваючы нешта безсэнсоўнае, рэжа сябе, а часам і хворага сваім нажом, кідаючы ў полымя нейкія хімічныя складанні, утвараючы полымя, треск, дым і задушваючы смурод, каб прымусіць духаў пакінуць хворага ў спакоі і перасяліцца ў пудзіла, ці з'ехаць куды-небудзь. І сапраўды, гаспадар ужо больш не бачыць свайго шануемага каня ці вала. Нейкі дух з'ехаў на ім, а куды? – пра тое ведае толькі выканаўца сакрамэнту. Тады спальваюць пудзіла разам з выявай чарцей у некаторым аддаленні ад жытла. А іхнае адзенне, і ўсе жывёлы, выракаемыя на ахвяраванне, дастаюцца ламам.

Падобныя звычаі, здзяйсняюцца і пры агульнаграмадзкіх бедствах, з мэтай залагодзіць злых багаў. Паблізу месца, аточанага дрэвамі, гатуецца драўляная статуя, уяўляючая сабой аднаго із варожых гэтаму свету духаў. Ей надаецца грозны выгляд, і яна апранаецца ва ўсе вайсковыя даспехі. А само месца і атачаючыя яго дрэвы ўпрыгожваюцца разнымі дробязнымі рэчамі.

Згодна з агульным правілам заклінання, спачатку ўпрыгожваюць багаў, асабліва Армузду, а потым сыплюць праклёны на Асуры і на ўсё мяцежнае царства, якое знаходзіцца, як вядома, пад свяшчэннай гарй Сумберам. Абвяшчаецца перамога над варожымі духамі; іхны прадстаўнік – Лінга – растрэльваецца і хаваецца на тым жа самым месцы, дзе быў выстаўлены для ганьбавання. А ўся арда працягвае піраваць і весяліцца. Часам жа, замест расправы з Лінгай, утаймоўваюць мясцовых духаў і заклінаюць іх у адной із змяшчаючыхся пры кожным храме малелькіх капніц. У іх духі-заняволеныя ўтрымліваюцца безвыхадна круглы год, потым, вынесшы, іх абдорваюць ахвярамі, і зноў занявольваюць на год, пакуль час не наложыць на іх сваю руку.

Да звычаяў ратуючых ад бедстваў далучаецца і гаданне. За гэтую справу бяруцца ламы чырвонага ордэна. Аўгур-гіпнацізёр перш за ўсё аглушае сваіх адэптаў сотнямі пытанняў, як бы не маючых дачынення да справы, але патрэбных у гаданні. Ён намякае на розныя містэрыі, маючыя дачыненне да дэманалогіі і тых спосабаў, якімі мудрацы заўсёды ўмелі карыстацца для выведвання патаемных таямніц. Затым ён разгортвае кнігу лёсаў, і яна дае шукаемы адказ.

Але ў некаторых выпадках лічыцца патрэбным выкарыстоўваць і вышэйшыя ступені гіпнозу. Гадацель, сеўшы на землю, трымае ў адной руцэ кнігу, а другую кладзе на маленькі столік, да якога прывязана даўгая вяроўка. І вось усе бачаць, як пасьля больш ці менш працяглага чытання столік падпарадкоўваецца рухам яго рукі. Гадацель спачатку выносіць яго із юрты, потым ідзе за яго самастойнымі рухамі. Столік нарэшце вырываецца із яго рук і хістаецца ў той і другі бок, ён паднімаецца ў паветра і нясецца, валакучы вяроўку. І гледачам здаецца, што

гадацель хапаецца за яе і скача на кані следам за летуном, пільна назіраючы, куды і як ён паварочвае і як упадзе.

Але калі ўказанні століка не вызначаны, карыстаюцца яшчэ стралой. Сьвятар ставіць яе вастрыём на далонь і злёгку падтрымлівае, а яго памочнікі пачынаюць манатонна чытаць. Стрэлка пачынае рухацца на далоні ўсе хутчэй і намагаецца вырвацца із рук. І вось яе вымушаюць пісаць на пяску, падобна таму, як і зараз пішуць алоўкі ў руках нашых еўрапейскіх самнамбулаў. Але гэта ўжо не мае дачынення да звычаю "выкуплення жыцця", які мы абмяркоўвалі на пачатку.

Звычай провадаў душ памёршых.

Патрэбна апрануць цела памёршага прыстойна, закрыць яму твар хадакам і пакласьці на правы бок, каб адна рука магла знаходзіцца пад яго галавой, а другая на сьцягне. Левая нага павінна быць некалькі сагнутай. Гэтая пастава мае назву ільвіная. Перад выявамі сьвятых запальваюцца сьвечкі, пачынаецца чытанне "малебнай кнігі", якое працягваецца да бліжэйшага са шчаслівых для дадзенага чалавека дзён. Тады да яго юрты прыводзяць асядланага каня і ставяць насупраць дзвярэй з левага боку, а чалавек, трымаючы яго, садзіцца пасярэдзіне юрты на дыбачкі.

Пасьля заканчэння адпявання, старэйшы сьвятар усклікае: хек! хек! хек! І следам за гэтым, адмыслова абраны чалавек дакранаецца да памёршага рукой, а часам стралой, ці іншай зброяй. Усе выходзяць із юрты і садзяцца на коней, а памёршага кладуць на павозку або сані.

Прыйшоўшыя ў маўчанні, пад правадыртвам сьвятара, на месца пахавання, кідаюць белы войлак, даўжынёй каля сажані; забіваюць па яго кутам чатыры палкі. Гэтае месца звычайна купляецца па вельмі вялікаму кошту, згодна з велічынёй якога ладзіцца і ўвесь цырыманіял службы, з большай ці меньшай урачыстасьцю.

Пасьля выкупляння зямлі пад войлакам, кожны са сьвятараў, тры разы абыходзіць войлак, праводзячы баразну па зямлі. Чатыры маленькія пасудзінкі, з манетамі і рознымі бліскучымі дробязямі, закопваюцца па чатырох кутках купленай зямлі.

Пачынаюць капаць магілу. Памінальныя спевы і чытанне лам перарываюцца толькі звонам званочкаў: іншыя музычныя інструменты тут не дазваляюцца.

Прыгатаваўшы магілу, пасярод яе закопваюць такую ж пасудзінку, як і на кутах. У яе размяшчаюць памёршага, павёрнутага тварам на захад.

Пахаванне закончана. Усе прысутнічаўшыя пры ім вярнуўшыся, робяць ачышчэнне, г. азн. спыніўшыся перад полымем асяродка, мыюць рукі цёплай вадой, над распаленымі камянямі здзяйсняюць каждэнне, слухаюць ачышчаючыя малітвы, а юрта яшчэ да прыходу гасьцей пераносіца на іншае месца.

Памінкі па памёршых у асяроддзі заможных людзей спраўляюцца на працягу 48 дзён, раніцай, апоўдні і вечарам. А бедныя людзі абавязаны выканаць гэта ва ўсякім разе яшчэ тры разы: на 3, 7, і 49 дзень. Ахвярная жывёліна дзеліцца на шмат частак, і адна із іх адаецца на долю душы памёршага і спальваецца. Астатнія ж часткі забіраюць сьвятары, якія яшчэ ў дадатак атрымліваюць па жывёліне за кожны здзяйсняемы імі звычай і агульную падзяку за ўсе свае намаганні пры памінках.

Падобна сімвалу веры хрысьціян буддысты таксама маюць нешта падобнае, маючае назву ключ закона. Вось некоторыя із яго складовых частак:

1) Я веру, што ўсё ў сусвеце мае свой пачатак, усе стварэнні жывыя падзелены на шэсць вялікіх частак. Сонм хубілганаў, свяшчэнны сонм, упрыгожваючы сабой усе краіны свету, усе часы.

2) Я веру і ў лам, веру ў Бога, веру ў закон.

3) Веру ў Ідамаў, Дакшытаў і ў грозных багінь.

4) у чатыры пачаткі боскіх натур.

5) у бадзісадаў і хутукт, праванаў і брадзігабут, з усімі іншымі згуртаваннямі багаў і геніеў благіх: я верую і ўшаноўваю іх.

Наступныя за гэтым дзве часткі ўтрымліваюць малітву пра выратаванне ад ліха і дараванне ўсім і кажнаму шчасьця ў жыцці сучасным і будучым і гэтым справа абмяжоўваецца.

Але так як усё гэта напісана на мове чужой для мангола, то закон робіць да іхных плебеяў паблажку, дазваляючы ім завучваць толькі другую часку, якая па-мангольску чытаецца так: Ламадор итегемой, Бурхан-дор итегемой, Ном-дор итегемой (веру ў лам, веру ў бога, веру ў закон).

Але акрамя гэтага сімвала веры, у вуснах і ў сэрцы сапраўднага прыхільніка пабожнасьці не павінна замаўкаць малітва, змяшчаючая шасьць слоў: Ом, ма, ні, бад, ме, хом.

Таянічасць гэтых слаў нарабіла нямала турбот навукоўцам арыенталістам. Пра іх напісаны цэлыя дысертацыі і выказана шэраг гіпотэз. Але ўсе гэтыя намаганні ў вачах буддыстаў дарэмныя. Гэта, – гавораць яны, – сімвал шасьці класаў жівых істот, заклік да ўсіх жывучых, а тым больш да багоў, апякаючых іх.

Але і яны не прыводзяць для гэтага ніякіх доказаў. Так, да гэтага часу гэта і застаецца нерастлумачаным.

Не менш дасьціпная ў гэтым кульце і так званая "малітоўная машына" курду. Гэта шасьціграны цыліндр, размаляваны па наружнасьці шасьцю свяшчэннымі колерамі – белым, зялёным, жоўтым, чорным, чырвоным і сінім, – круцячыся на сваёй восі. Гэтя вось да апошняй магчымасьці абвіваецца папяровымі світкамі, тысячаразова паўтараючымі толькі што прыведзеную малітву разам з другой, кароценькай да сонмішча богаў. Усярэдзіне ж цыліндра даецца месца богу спагады – Арыябадаю. А часам размяшчаюцца і кнігі малітоўнага зместу.

Шэсць граняў цыліндра, – паведамляюць нам, – паказваюць на шэсць светавых істот. Але "душа ўсяго" засяроджана каля восі, як прадстаўніцы сьвяшчэннай гары Сумбера.

Хто з пабожнасьцю круціць гэты цыліндр, той ставіць себя ў такае блізкае дачыненне да ўсіх істот, што яны як бы працуюць з ім і для яго. Кожнае абарачэнне курду прыраўноўваецца да тысячы малітваў. А калі тут круцяцца яшчэ і свяшченныя кнігі, то кожны колаабарот замяняе сабой усе намаганні выдаткоўваемыя на чытанне ўсіх свяшчэнных кніг.

Акрамя цыліндрычнай існуе і ветравая курда (салкін). Гэта рознакаляровы кусок тканіны, спісаны малітвай і пастаўлены ў выглядзе флюгера на юрце, магілках, і іншых месцах, маюшчых ганаровае значенне. Каждае іхнае калыханне з’яўляецца здзяйснннем напісанай павесіўшым малітвы.

Акрамя такіх малітваў таксама і пост занімае ганаровае месца паміж сродкамі да маральнага ўдасканалення абуджэнцаў. Хаця час пастоў у іх і не вызначаны, але кожны (акрамя малых і састарэлых), абавязаны пасьціцца ва ўсякім разе адзін раз на год, выконваючы пры гэтым правілы паставання выкладзеныя ў асобнай кнізе.

Усе поснікі паступаюць у распараджэнне абіраемага на сонме лам духоўнага айца, пред якім дазваляецца кожнаму расчыняць сваё сумленне, хаця і не існуе закона абавязваючага да спавядання.

На працягу першага дня пастуючыя могуць адзін раз прынімаць ежу, чаму гэты дзень і лічыцца напалову посным. Але на другі дзень, пастуючаму не дазваляецца ні браць ежу ў рот, ні размаўляць, ні нават глытаць сліну. Патрэбна толькі тры разы на дзень з цярпеннем выслухоўваць працяглыя павучанні і паўтараць клятву ўстрымання ад грахоў. Ноч жа належыць правесьці ў бадзёрасьці і малітве. На трэцці дзень зноў дазваляецца прыняць ежу, як і ў першы дзень, але не раней, як пасьля прачытання ламай малітвы на дазвол ежы.

Такі подзвіг, з пераходам ад паста да напаловупаста і назад, патрабуе для свайго здзяйснення 16 дзён. І хто яго здзейсніў, той атрымлівае поўнае вызваленне ад грахоў.

Што ж да слабых і не мючых магчымасьці з нейкай нагоды вытрымаць 16-дзённае ўстрыманне з выкананнем усіх умоў аскетызма, то закон дазваляет ім памяншаць яго да аднаго дня ці падмацоўваць сябя пд час напаловупосных дзён піццём мандзы (сорт гарбаты). Да таго ж пасцячымся даюць праз кожныя двое сутак па чарцы настою із імбіра, карыцы, шафрана і іншых араматычных траў і каранёў, і гэты напой для постнікаў здаеца няктарам безсмяроных жыхароў Алімпа.

Цікава, што ўсе выдаткі, якіх патабуе ўтрымане поснікаў, часта прыходзячых вялікімі натоўпамі, робяцца за кошт саміх храмаў ці прыватных ахвяравальнікаў.

# Глава VII

## Гіпнатычныя сродкі буддыйскіх настаўнікаў для падтрымання аскетычнай карпарацыі.

Буддызм, усклаўшы на сваіх адэптаў ярмо падзвіжніцтва, не мог дасягнуць гэтага без гіпнатычных сродкаў, і яны ім выкарыстоўваюцца і зараз. І мы павінны папярэдзіць чытача, што гэтыя містэрыі ў галіне буддызма амаль тое ж, што ў кабалістаў брама вядзення Сефірытычным небам. Буддысты верацъ, што іхнымі містэрыямі чалавек уводзіцца ў свет цудаў і стасункаў з багамі.

Вось чаму яны лічаць недапушчальнай усякую прысутнасць староннях асобы, асабліва ж іншаверцаў, пры сваіх сакраментах і строга забараняюць паведамляць прафанам што-небудзь маючае дачыненне да сакрамэнтаў.

Адэпта спачатку падрыхтоўваюць чытаннем містычных кніг, затым над ім вымаўляюць джанан, пры гэтым пераконваюць, што ў адэпта адбываецца збліжэнне з багамі, даходзячае да того, што яго душа жадала б назаўсёды пакінуць сваю зямную абалонку і ўзнесьціся да роднаснага ёй улоння вечнасьці.

Да ўдзелу ў гэтым сакрамэнце дапускаюцца абедзве стаці, не маладзей 15 гадоў. Сабраўшыся ў прызначаным месцы, усе садзяцца шэрагамі на зямлю, запазычваючы, па магчымасьці, паставу ў таго бога, якога выбралі сваім патронам. Сьвятар апранаецца ва ўсё сваё поўнае ўбранне і садзіцца на ўзвышанай катэдры. З боку яго правай рукі размяшчаецца ахвярнік з усімі яго прыналежнасьцямі, а наперадзе столік з чаркай, жазлом, званочкам і іншымі атрыбутамі Будды.

Падрыхтаваныя да сакрамэнту робяць пакланенне і падносяць жрацу мандал, г. азн. увагнуты металічны кружок велічынёй са сподачак для гарбаты, з дадаваннем да яго манет і разных рэчаў.

Мандал ладкуецца так, што за ім цягнуццаласкуты шаўковай тканіны (хадакі), прывязаныя адзін да другога як даўгая вяроўка. Гэта патрэбна для того, каб усе ўдзельнікі сакрамэнту мелі магчымасць дакранацца да бліжэйшага шаўковага кавалачка ў той самы час, калі мандал будзе ў руцэ сьвятара-гіпнатызёра.

Дакрануўшыяся станавяцца яго духоўнымі дзецьмі, а ён іх духоўным бацькам.

Пакуль усё гэта адбываецца, не замаўкаюць чытанне і манатонныя спевы. У песьнях славіцца Будда і той бог, дзеля якога ладзіца сакрамэнт. Не забываюцца і іншыя богі, ды і сам здзяйсняльнік звычаю, у гонар якога спяваюцца гімны.

Пасьля заканчэння спеваў песень, Ачыту Лама, не мяняючы сваю нерухомасць і з’яўляючыся натхнёным, звяртаецца да прысутных з адмысловай прамовай, прыблізна такага зместу:

"Слухайце словы прэмудрасьці! Шчасьце, якім богі надзяляюц вас, з’яўляецца доляй нешматлікіх. Недасягаема царства Сукавадзі, а вы зараз блізкія да яго парогу. Шчыльна злучана душа ваша з целам; але пад магутным уплывам сакрамэнту, яна гатова пакінуць цела на тры крокі, каб сблізіцца з істотамі вышэйшага сусвету, каб атрымаць асалоду ад сузірання нават вярхоўных Буддаў. Умейце ж скарыстацца гэтым. Павярніцеся справай, словам і думкай да свяшчэннага сакрамэнту. Пасудзіна вашага цела і душы, нячыстая, бядуючая, адкінутая, ператварыце яе ў пасудзіну, годную ўтрымліваць у сабе скарбніцу багоў. Будзьце ў тым перакананні, што жыццё наша – сон, а сьмерць – шлях да шчасьлівых пераўтварэнняў. Усе вашы пачуцці ды апусцяцца ў гэтае бяздонне лёсаў".

Гэтым заканчваецца першы акт сакрамэнтальнага звычаю. Пераходам да другога служыць прынашэне ахвяраванняў, складаючыхся із плодаў і насення, суправаджаемае гімнам. Усіх непатрэбных людзей адводзяць ад шатра на такую адлегласць, каб ніводнае слова, ні адзін гук не маглі быць імі пачуты. Адэптаў прыводзяць у стройныя шэрагі, патрабуюць ад іх пабожнага маўчання і нерухомасьці, даходзячых да таго, што іхныя вочы павінны быць увесь час накіраваны на свой нос.

Калі ўсё зборышча ўяўляе із сябе нерухомых статуй, галоўны лама маркотным магільным голасам пачынае спяваць песьні на выхад душы. Адзін за другім, да яго далучаюцца ўсе ламы. Утвараецца хор забіваючы ўсе пачуцці.

Па меры набліжэння заканчэння, павялічваецца магутнасць плачучага тону, і нарэшце, пераходзіць у прыпеў, шматразова паўтараючы нападобе: слава сьмяртнаму ўмеючаму паміраць.

Раптам усе замаўкаюць і чуюцца словы галоўнага:

"Хек, хек, хек" – магутнасць гэтых слаў пасьля ўсіх прыгатаванняў чароўная. Пад яе сакрамэнтальным уплывам усе адэпты, і толькі яны адны, засынаюць. Яны маглі б і цалкам не праснуцца, калі б ім не была дадзена хуткая дапамога. Папярэдне падрыхтаваныя ламы, не губляючы ні хвіліны, пачынаюць выцягваць людзей із шатра, брызкаюць вадой у твары і абліваюць вадой галовы; і ледзь толькі выявіцца жыццё, прымушаюць загіпнатызаванага прамовіць: га-га-га, г. азн.

вымаўляюць яму гэтыя словы самі. І калі гэта здараецца, небяспека заснуць навекі лічыцца мінуўшай.

Хуткае вяртанне да ўсьведамлення пры гэтым звычаі лічыцца за добры знак, а маруднае і цяжкае вяртанне сьвядомасьці прыводзіць да высновы пра непрыдатнасць дадзенай асобы ісьці далей па прыступках пасьвячэння і пра немажлівасць ім здзяйсняць сакрамэнты. Такому на далей нават не дазваляецца браць удзел у падобных падзеях.

Бываюць таксама і моцныя натуры, на якіх першае хек галоўнага ламы не дзейнічае і ён не засынае. У такім выпадку паўтараюцца ўсыпляючыя прыпевы разам з хекам і чалавек нарэшце падпарадкоўваецца сакрамэнту.

Вера ў непераможную магутнасць хека валадарыць над кожным буддыстам. Усе перакананы, што слова "хек!", вымаўленае іхным патрыярхам (хутукту) і падобнымі яму сьвятарамі, можа прывесьці да сьмерці каго б та ні было, як і слова "га" у яго вуснах – вяртае да жыцця памёршых.

Пасьля гэтага адэпта запэўніваюць, што яму дараваны ўсе ранейшыя грахі; што ён прызнаны памёршым для жыцця на гэтым сьвеце і пераступіўшым у вобласць безсмяротных богаў, што ён вольны ад баязні сьмерці; дзе б ён яе ні сустрэў, богі абараняюць яго, ці неадкладна бяруць да сябе.

Такім чынам, усё буддыйскае святарства складаецца із пажыццёва загіпнатызаваных людзей, і ў то жа час із гіпнатызёраў: адно не толькі не перашкаджае другому, але нават як быццам бы садзейнічае.

Гэтым, дарэчы, і заканчаюцца асноўныя рытуальныя сакрамэнты, але час ад часу ў абуджэнцаў ладзяцца і спешныя ўсенародныя маленні, на якія вернікі збіраюцца з усіх бакоў. Яны ў мангалоў маюць назву ванаў і я тут паведамлю толькі пра два із ніх: Абіягарын-ван і Мідор-дзагін-ван.

Каб зразумець адрозненне паміж імі, небходна ведаць, што як у тыбецкім, так і ў мангольскім свяшчэнным кодэксе, адны месцы напісаны на звычайнай кніжнай мове, іншыя ж на мовах, вядомых пад агульнай назвай: тарнін-келе. Напісанае на апошніх мовах лічыцца ў вышэйшай ступні сакрамэнтаьным, але для буддыстаў абедзве мовы то е ж самае, чым былі іерогліфы для еўрапейцаў у недалёкім мінулым

Калі абраным слухачам, з прытрымліваннем вызначаных правілаў, чытаюць толькі тыя месцы закону, якія напісаны на звычайнай кніжнай мове, тады здзясняемае атрымлівае назву Абіягарын-ван, і на яго выкананне патрабуецца сорак дзён. А калі да гэтага далучаецца і ўсё астатняе, то звычай мае назву Мідор-дзаргін-ван і патрабуе для себя ўжо не сорок, а шесцьдзесят дзён.

У такім выпадку значная падрыхтоўка патрабуецца ад здзяйсняльніка. Ён ужо павінен сумяшчаць у сваёй асобе пабожнасць з духоўнай сталасьцю і добрае веданне свяшчэнных моваў.

Ён павінен быць ужо ў сане патрыярха (хутукту) ці ва ўсякім разе ў сане мітрапаліта (хубілгана), з неаспрэчваемым правам на здзяйсненне сакрамэнтаў і з самымі станоўчымі доказамі ва ўсякім разе хаця б трох сваіх перараджэнняў.

А так як людзі, якім нададзена памяць пра некалькі ранейшых жыццяў, рэдка сустракаюцца нават і там, дзе буддызм укараніўся, то лёгка сабе ўявіць, якімі рэдкімі былі падобныя містэрыі. У паўночной Манголіі нават не захавалася і паданняў пра здзесненыя ў іх некалі ваны. І па усёй верагоднасьці там не было здзейснена ніводнага із іх да 1842 года, калі із Сярэдняй імперыі з’явіўся, як бы із іншага сьвету, сакрамэнтальны прышэлец, меўшы імя Лу-дуп. Ён хутка звярнуў на

сябе ўвагу сваімі рэлігійнымі, лекавальнымі і іншымі ведамі. Але не лёгка было вызначыць – хто ён? Самыя навучаныя із лам вызначалі, абмяркоўвалі ўсе абставіны і, нарэшце, зрабілі выснову: Лу-дуп прайшоў шэраг ганаровых перараджэнняў, а пад час сучаснага перыяду свайго жыцця працуе згодна з воляй лёсу, на глебе аднаўлення буддызма во усёй яго чысьціні.

Следам за астралагічнымі вылічэннямі, такімі спрыяльнымі прышэльцу, хутка з'явіліся і фактычныя доказы. Знайшліся людзі паўсюдна паведамляўшыя, што Лу-дуп пераскочыў раку Селенгу, пакуль яго спадарожнікі шукалі сродак пераправіцца; што жахлівыя вышыні Цахолды і іншыя горы наведваюцца ім пасярод глыбокай ночы, для адпачынку пасьля дзённых турбот; што самыя магутныя і злыя духі бездапаможныя перад Лу-дупам.

Яго прывабнасьці не было межаў. Яна павялічылася да такой ступені, што не гледзячы на лютаўскія маразы, вырашылі пачаць выкананне саракадзённага Абіагарын-вана.

Месцам пастановы быў абраны Цукгольскі храм, які знаходзіцца ў Нерчынскай акрузе каля ракі Анон. Там Лу-дуп, у якасьці патрыярха, урачыста з'явіўся на падмостках.

Далейшае апавяданне я бяру са слаў місіянера Мікалая Нілава-Даржэева, родам із мангалоў, пазней прызнаўшага хрысьціянва. Ён быў відавочцай гэтага вана на працягу ўсіх яго сарака дзён і яму мы абавязаны найбольшай часткай тых паведамленняў, якія так старанна хаваюць ламы.

Яго бацька качаваў у першай палове XIX стагоддзя ў стэпах, прылягаючых да ракі Анон і размешчаных паміж Нерчынскім і Акшынскім памежнымі ўмацаваннямі. А Нагмат – такое імя меў яго сын – яшчэ з самага юнацкага ўзросту пачаў выяўляць асаблівую павагу да чытання і адзіноты. Бацьку не заставалася нічаго як прызначыць яго да ламскага звання. Пасьля хатняга навучання ён быў запісаны ў школу Гуджыртайскага храма-кляштара і знаходзіўся ў ёй пад наглядам лам да 18-гадовага ўзросту, калі ўжо дыяканам-гецулам, ён выправіўся за 500 кіламетраў для слухання ўрокаў Дандарапа, кіраваўшага Цугольскім храмам і лічыўшагася адным із самых адукаваных людзей сярод манголаў. Негледзячы на сваю маладосць (21 год), ён быў ганараваны сьвятарскім (гелунскім) санам.

У стэпавым побыце ў асярддзі буратаў такае ўзвышэнне лічылася тады ледзь ці не мяжой усіх жаданняў. Але для Нагмата новы сан паслужыў толькі пераходам у новую вобласць духовных подзвігаў. Ён прыняў абет пустыннажыхарства і зрабіўся строгім аскетам і трохгадовы перыяд яго падарожжаў выявіў шэраг незвычайных прыгод.

Ён шмат чаго даведаўся і пра буддызм і пра хрысьціянства, параўноўваў годнасьці абодвух веравызнанняў і раптам у яго здарылася галюцынацыя. Ён з незвычайнай выразнасьцю пабадыў у сне крыж, ззяўшы цудаўным светам, подач з тым як глыбокі змрок пакрываў буддыйскую Даурыю.

І ў той жа дзень з ім сустрэўся будучы яраслаўскі арцыбіскуп Ніл, із кнігі якога "Буддызм", надрукаванай у 1858 годзе, я ўзяў галоўную частку сваіх ведаў. Пад яго ўплывам Нагмат, вызваліўшыся ад свайго прафесійнага гіпнозу, далучыўся да хрысьціянва і на прыканцы 60-х гадаў пераклаў Біблію на мангола-бурацкую мову. Згодна з яго паведамленнямі і напісана тое, пра што гаворыцца далей.

Рыхтуючыся да Абіагарын-вана ў 1842 годзе, больш за ўсё турбаваліся пра наладжванне пасярод храма вялікага (не менш кубічнай сажані) ахвярніка. Яго накрылі шаўковай тканінай чатырох свяшчэнных колераў, з напісанымі на ёй 360-

ю найменнямі "богаў чатырох каранёў". На іх знаходзіліся ахвяравальныя прыналежнасьці ва ўсёй паўнаце і стройнасьці; а каля вялікага крэсла для Лу-дупа і стол для рэчаў, якімі карыстаюцца богі, як выключнымі адзнакамі сваёй годнасьці.

Пасьля гэтага, выбраўшы найбольш спрыяльнае размяшчэнне сузор’яў, сьвятары ў сваім прафесійным адзенні выправіліся натоўпам да жылля свайго патрыярха. Гэта быў сьціплы шацёр, недалёка ад храма. Легіён жрацаў набліжаўся да яго ціха і ў маўчанні, маўчаў і народ.

Але вось завеса паднялася, і ўсё ператварылася ў захоплены рух. Усе музычныя інструменты, зліваючся з голасам шматлікіх соцень лам і тысячаў народу, громападобным эхам адазвалася на прасторы Цугольскай пустыні і паведамілі пра ўрачыстае шэсьце патрыярха на вялікі подзвіг Абіягарын-вана.

Ён з’явіўся ў сваім поўным адзені, здзейсніў пасьля прыходу ў храм звычайныя ўшанаванні бога, тройчы (па ходу сонца) абышоў ахвярнік і сеў на прыгатванае для яго месца. Сьвятары спяшаліся прыняць яго добраславенне і паднесьлі яму ад усяго сабрання запрашальную ахвяру, з пабожным падняццем рук і ўсенародным апусканнем на калені.

Саракадзённыя размовы Лу-дуп пачаў прамовай пра важнасць падзеі, якую зараз пачыналі слухачы. Урачыстыя павучанні і сходы для гэтай мэты ладзіліся кожны дзень тры разы. Толькі пад час вячэрняй службы да яго дапускаліся ганаровыя асобы, звяртаўшыяся з прашэннем пра выратаванне іх ад злых духаў і іншых злыдняў, а ноч прысвячалася разнастайным заклінанням.

Хай жа чытач у думцы перанясецца на стромкія берагі Анона: перад ім самотны храм-кляштар і неаглядная пустыня. І вось пасярод змроку зімовай ночы з’яўляецца таямнічая істота, асьвятляемая толькі блукаючымі агеньчыкамі. У яе руцэ толькі чырвоная дзідападобная зброя Дакджур; яе вопратка блішчыць срэбрам і бразгаціць тысячамі навешаных на яе званочкаў; яе маркотная песня пранікае ў душу і здаецца духі гор і логаў прыслухоўваюцца да яе, выглядваючы із пячор вялізнымі ценямі.

Але ніхто не адважыцца наблізіцца да дзіўнага мага: ён ад усіх адзелены запаветнай рысай. Цэлая арда людзей, зліўшыся ў адзіны натоўп і злучаная ў выглядзе кола, стаіць перад ім дранцвеючы і пакараючыся якому б то ні было яго ўнушэнню, асабліва калі вымаўляючы свае заклінанні, ён выконвае пад гукі музыкі свяшченныя скокі. Потым ён заходзіць у гарачы шацёр і там змагаецца са з’явіўшыміся дэманамі і праганяе іх сваёй дзідай.

Захапенне народа доходзіць да шаленства. Пустыня напаўняецца крыкамі:

– Энэ-іну бурхану іке агога куцун мун. (Гэта вялікая магутнасць божая)

І вось на рухомых, дастаткова высокіх слупах пабудавалі квадратны амвон каля 6 метраў у папярэчніку, з 4 прыступкамі, із якіх кожная мела з лішкам два з паловай метры ў шырыню. Па кутах ніжэйшага яруса і ў цэнтры верхняга паставілі слупы, вышынёй да 6 метраў і замацавалі іх паміж сабой зверху трыма ярусамі перакладзін, заканчваючыхся зоркавымі выявамі. Такую ж выяву паставілі і на вяршыні цэнтральнага слупа.

Гэты каркас начынілі нападобе карабля. І як начыненне, так і слупы абвешалі шаўковай тканінай чатырох свяшчэнных колераў, імкнучыся пры гэтым, каб пад гэтымі сьцягамі зніклі з вачэй усе іншыя часткі пабудовы. На пірамідальным падмурку із чатырох прыступак зрабілі ляпныя выявыя ўсіх відаў жывых істот, пачынаючы ад чалавека. Тут жа паклалі і ахвяравальныя рэчы, прысвечаныя багам.

Гэтая пабудова на імя Гандой, была сімвалам і як бы выявай гары Сумбера і чатырох галоўных прыступак сусвету. Яна ж было гарантыяй, што богі не дазволяць варожым духам зрабіць народу шкоду на працягу целых пяцісот гадоў!

Пад уплывам такіх уяўленняў пра Гандое, бураты і тунгусы з усіх бакоў імчаліся да Цугольскага дацану і на саракавы дзень, якім павінен быў завяршыцца Абіягарын-ван, заканчваючы яго ўсёспаленнем, роў труб не замаўкаў, жрацы мітусіліся, а народ не адводзіў вачэй ад Гандоя. Каля трох гадзін папоўдні пачалася служба.

Шэсьце із капішча пачыналі грозныя духі Дакшыты, выявыя якіх у ліку дзесяці неслі на высокіх жэртках. За жэрткамі ішлі ламы ўсіх рангаў, з усімі атрыбутамі іхнай годнасьці і, нарэшце, сам Лу-дуп.

Прыняўшы ад усіх прывітанне і паклоны, ён пачаў з вышыні свайго месца вялікую ахвярную службу пералічэннем згодна з найменнем усіх істот вышэйшага сусвету. Усе яны запрашаліся да ахвяравання і быць пасярэднікамі. Звычай працягваўся да ночы; і не гледзячы на тое, што не было заклікаў, вырабіў глыбокае ўражанне, так як патрыярх здаваўся такім пабожным, што ў гледачоў, пры яго малітоўных ускліцаннях цяклі слёзы.

І вось была запрошана вялікая колькасць людзей для перанясення Гадоя, – наладзілі шэрагі зброяносцаў і стралкоў, запалілі агнішчы, факелы і кітайскія агеньчыкі і Лу-дуп перамяніў сваё адзенне на докшыцкае.

Зараз усё адклікалася непакоем: таму што належала мець справу ўжо не з мірнымі, а са злымі духамі. Сам патрыярх не хаваў свайго хвалявання. Яго голас трымцеў, вочы ззялі; во ўсіх яго рухах праяўлялася таямнічая барацьба. На завяршэнне ўсяго пачаўшыся начны буран вымусіў думаць, што нават стыхіі бяруць удзел у справе і разам з патрыярхам намагаюцца даставаць духаў цемры із іхных глыбокіх прыбежышчаў.

Так пачаўся "чорны звычай". Пасьля раз’юшаных заклінанняў пачалі чуцца сьвісты і громы музычных прылад, з усіх бакоў чуліся крыкі і стогны, страляніна і ўсё што толькі можа выкарыстоўвацца да павелічэння жаху. Духі, – крычалі ламы, – як мага хутчэй несьліся да Гандоя, хаця і ведалі, што іх тут чакае не гонар і не радасць.

Лу-дуп, пераадолеўшы пачатковую збянтэжанасць, выкрыў шмат із іх за ўчынкі супраць буддызму, нагадаўшы ўсяму іхнаму сонмішчу пра перашкоды, якія са старажытных часоў наладжаны для карысьці чалавецтва паміж магутнымі багамі і насельнікамі цёмнага царства; нагадаў ім на маючае адбыцца спаленне, як на вялікую ахвяру, павінную служыць дастатковым выкупам і патрабаваў ад духаў шчырага слова, што яны, да наступлення прызначанага тэрміну, нічога не будуць ладзіць для агульнай шкоды тых краін і асоб, ад імя якіх прыносіцца ў ахвяру Гандой.

Бедныя духі былі вымушаны скарыцца перад небходнасьцю і прыняць Гандой у якасьці выкуплення. Быў дадены сігнал, і натоўпы народу, як бурны струмень, накіраваліся да пабудовы, паднялі яе і накіраваліся з ёю ў пустыню на захад ад храма.

Там яна ператварылася ў начны палаючы слуп, і іскры з дымам паляцелі ў далечыню, як духі. Усе гледачы былі перакананы, што зараз для іх адчынена брама мудрасьці.

С наступленіем летніх месяцаў пастанова, подобная Цугольскай, была наладжана ў Гусіна-азёрскім храме тым жа Лу-дупам. Шматчікасць

прысутнічаўшых пры гэтых "ванах" ужо перашкаджала выкарыстанню массавага гіпноза.

# Глава VIII.

## Царкоўная іерархія абуджэнцаў.

Шыгемуніянсая царква, у агульным сваім выглядзе ўяўляе нешта падобнае на рымска-каталіцкія духаўныя ордэны. Як гэтыя ордэны разлічаюцца паміж сабой не толькі колерам і формай вопраткі, але і прыватнасьцямі сваіх статутаў, так і ў буддызме святарства, якому цалкам забаронена адружванне, падзяляецца на чатыры ордэны: жоўты, чырвоны, белы і чорны. І кожны із іх мае свае асабістыя прызнакі, як знешнія, так і ўнутраныя.

Так, ламы жоўтага ордэна ў сваім адзенні надаюць больш месца жоўтаму колеру і сваім галоўнейшым абавязкам лічаць дабрачыннасць. Гэта ордэн будды Шыгемунія, як найвышэйшага ўзору спагады і шанавання.

Другі ордэн – чырвоны – адрозніваецца ад першага перавагай чырвонага колеру і яго сябры знаходзяцца ў пастаянных стасунках з дакшытамі, грознымі духамі, у якіх просяць дапамогу супраць варожых магутнасьцей, і дзейнымі памагатымі лічацца: Ямандага, маючы 36 рук, 16 ног і зьвярыную з рагамі галаву; Гамбо, зрабіўшы вельмі вялікія паслугі буддызму; Сендуме і Лхама, праславіўшыяся пераўтварэннямі і чарадзействамі.

Астатнія два ордэны, г. азн. белы і чорны – сходны з чырвоным як сваёй мэтай так і ўмовамі звычаёвых дзеянняў. Іхнымі заступнікамі прызнаюцца тыя ж грозныя духі, толькі не чырвоныя, а белыя і чорныя.

І ўсе гэтыя ордэны маюць акультны характар і ўключаны ў адну і тую ж іерархію, падобную на папскую ці на рускую патрыярхальную. Мы з першага ж погляду заўважаем такія ж яе ступені пасьвячэння. Уся разніца толькі ў назвах чужой нам мовы. Вось прыблізнае параўнанне:

| рускія | буддыйскія |
|---|---|
| 1) псаломшчык | убаш |
| 2) дзяк | ховарак |
| 3) дыякан | гуцул |
| 4)сьвятар | гелун |
| 5) протаіерэй | шырэгету |
| 6) біскуп | бандыта-хамбо |
| 7) і аднаўленцы архібіскупы | Шаваран і хубілган-першапрышэлец |
| 9) патрыярх | хутукту |
| 10) намесьнікі Будды | Далай-Лама |

Як у нас псаломшчык і псамолшчыца, так і ў іх убашы і ўбасініцы з'яўляюцца асобамі, сярэднімі паміж кліром і цывільнымі. Прынімаючы малое пасвячэнне і нават часам, як і манахі, новае імя, яны не абавязваюцца да якога б то было служэння ў храме. Даючы восем пабожных абетаў, яны не вызваляюцца ні ад сямейных абавязкаў, ні ад жыццёвых стасункаў. Вызначаючай прыкметай іхнага звання служыць жоўты, ці чырвоны пояс, тройчы ахінаючы свайго адэпта; затым пацеркі, складаючыяся із 109 пацерачак і чарка, якою яны павінны карыстацца толькі для сябе (прызнак того, што ад агульных царкоўных пасудзін і тут ўжо былі

выпадкі заразных захворваняў). Акрамя таго ім яшчэ даваўся неадлучны настаўнік – бакшы, із ліку састарэлых і пабожных ламаў. Гэта ж мае дачыненне і да жонак прычта; толькі замест пояса яны носяць павязкі цераз левае плячо. Адавядаючыя рускім дзякам буддыйскія хаваракі ці баньдзі ў храмах выконваюць абавязкі не толькі прыслужнікаў, але і музыкантаў. Пры сваім пасьвячэнні яны атрымліваюць пацеркі, чарку і пояс – больш шырокі і працяглы, чым у псаломшчыкаў. Ім таксама даецца, адпаведна іхнаму ордэну, жоўты, чырвоны, ці чорны адмысловага пакрою каптан, які з'яўляецца іхнай службовай і прыватнай вопраткай. Яны прынімаюць на сябе ўжо 14-ць абетаў, у тым ліку і абет неадружвання.

Гецулі ці ўнзаты адпавядаюць праваслаўным дыяканам. Пасьвечанаму ў гэты чын даецца паміж іншым два кавалкі чырвонай і жоўтай тканіны і пояс у 7 аршын даўжынёй. Пры кажным з іх яшчэ маецца памагаты. Раней імі бывалі і жанчаны, як і пад час сярэдневечча дыяканісы пры храмах, але зараз гэта не дазвляецца.

Сьвятары – гелуны – атрымліваюць жоўты камзол з чырвонымі абшлагамі і некалькі іншых прыналежнасьцей вопраткі, у тым ліку жоўта-чырвоныя шапкі, падобныя на петушыны грабеньчык, і іншыя шапкі з доўгімі навушнікамі, падаючымі на грудзі, ці з навешанымі гроначкамі, прыкрываючымі сабой патыліцу.

Яны апранаюцца ў мантыі жоўтага ці чырвонага колеру з кароткім сямізубым каўняром, лежачым на плячах. Гэтыя мантыі апранаюцца паверх іншай вопраткі і імі карыстаюцца пры разных цырымоніях. Абавязковай прыналежнасьцю сьвятароў з'яўляецца разнакаляровы кілімак з разнымі нашыўкамі, даўжынёй у тры локці, які выконвае ролю абароны супраць варожых уздзеянняў.

Усе гэтыя атрыбуты святарскага чыну з'яўляюцца прыналежнасьцю, з некаторымі адрозненнямі, усім прадстаўнікам вышэйшага святарства так званага жоўтага ордэна. А калі служба здзяйсняецца згодна з чырвоным звычаем ці ў гонар "дзевяці духоў" (дакшытаў), то сьвятар з'яўляецца ў адмысловым убранні, на падобе хітона, апранаемага паверх звычайнага адзення. Яно таксама бывае разных колераў, згодна з рангам дакшытаў, якім прыносіцца ахвяра.

Іншай адзнакай святарскага сану з'яўляецца доўгі чырвоны каптан, падобны на рускі падрызнік, на якім зверху да нізу нашыты эмблематычныя выявы геніеў, прывешаны гронкі, пазванкі, забаўкі і ўсё тое, што можа служыць для выраблення гуку і стракатасьці, металічныя поручы, упрыгожаныя маржанамі і рознымі бліскучымі дробязямі, востраканечная чорная каска. Яе заўсёды завяршаюць літымі выявамі пяці буд і столькімі ж памёршымі галовамі. Ад макушкі гэтага шлёма звісаюць чорныя валасы, закрываюшчыя твар. Гронкі і яго доўгія навушнікі падаюць на грудзі і плечы.

Адзначым, што для служэння згодна са звычаем трох апошніх ордэнаў яшчэ мала звычайнага пасьвячэння ў сьвятары, патрабуецца яшчэ асобны сакрамэнт. І хто ім ганаруецца, той, будучы нават цівільным, мае права служыць згодна з докшыцкім звычаем, хаця на справе такога і не бывае.

Протаіярэямі – шырэту – называюцца, як і ў праваслаўных, сьвятары кіруючыя храмам. Права на гэтую годнасць набываецца доўгачасовай службай у святарскім чыне, прыняццем чатырох сакрамэнтаў, а больш за ўсё веданнем веры. Пры кожным шырэту, на выпадак хваробы ці сьмерці, існуюць два кандыдаты, старэйшы і малодшы; а для гонару і для дапамогі пры богаслужэннях ён мае двух прыслужнікаў. У рускай Манголіі паловы XIX стагоддзя вялікую вядомасць меў

цугольскі шырэту, для мангалоў гэта быў сапраўдны аракул, і бураты гаварылі, што яму вядомы ўсе глыбіні мудрасьці.

Біскупы "абуджэнцы" (бандыда-хамбо) лічацца пасланнікамі ад Далай-Ламы і яго суперніка Баньчэнь-эрдэні. У сярэдзіне XIX стагоддзя у рускіх буратаў быў толькі адзін – каля Гусінскага возера, якое бураты называюць Кулун-нур, у змрочным стэпе, прылягаючым у Забайкаллі да Новага Селенгінска.

Адпавядаючымі нашым мітрапалітам – шавараны, хубілганы і бішырэлту – пачынаецца шэраг сьвятароў-перараджэнцаў, прыходзячых да нас із іншых сусветаў. Із іх хубілганы належаць да ніжэйшага разраду перараджэнцаў. Для таго каб быць такім, дастаткова вызнаваць ў сабе тры перараджэнні. Яны, – запэўніваюць нас, – валодаюць здольнасьцю імгнення пераносіцца з месца на месца; з'яўляцца там, дзе іх не чакаюць, і дапамагаць бядуючым, калі лічаць гэта патрэбным.

Шавараны вызнаюць у сабе некалькі перараджэнняў і выяўляюць светласць розуму, чысьціню волі і палымяную схільнасць да абуджэнства. І, нарэшце, бішырэлты, звыш згаданых дасканаласьцей, маюць яшчэ здольнасць рабіць цуды.

Патрыярхі (хутукту) – лічацца ламістамі за сьвятых, якія, прайшоўшы працяглы шэраг перараджэнняў, набылі сабе высокія духаўныя годнасьці. Саноўнікаў гэтага ўроўню ў Кітаі знаходзіцца чатыры: Ургінскі, Уамдомскі, Цзара-кутукту і Пекінскі.

І вось, нарэшце, паднімаючыся ўсё вышэй і вышэй па гэтай іерархіі, мы дабраліся да саміх Далай-Ламы і Баньчэнь-багды – намесьнікаў Хрыста, нешта падобнае на рымскага папу.

Стоячы на чале буддыйскай іерархіі, Далай-лама і Баньчэнь-багла жывуць – адзін у паўночна-заходнім Тыбеце, а другі ў паўднёва-усходняй яго частцы, і обадва здаюцца асуджанымі на тое, каб быць у стане ўзаемнага сутыкнення.

Карэнным месцазнаходжаннем Баньчэня была Індыя. А для доступу да яго былі небходны трохмесяцовыя ачышчальныя подзвігі і яшчэ спрыяльнае становішча сьвяцілаў, без чаго не дапамагала ніякае ачышчэнне. Абраннік, уведзены ў харомы Баньчэня, яшчэ у сярэдзіне XIX стагоддзя ўзыходзіў праз шматлікія аддзяленні ўсё вышэй і вышэй. Нарэшце ён дасягаў да нейкага сакрамэнтальнага храма, здзіўляючага прыгажосьцю і дзівоснымі іерогліфамі. Там яму з'яўляўся сам светазарны Баньчэнь-багда.

Годнасьці Далай-ламы пры ўсёй яго вышыні саступаюць годнасьцям Баньчэня. Але той і другі, хаця і жывуць на гэтым сьвеце, але да яго не належаць, таму што іхныя душы вольныя ад усіх уплываў зла, і ад усіх пачуццяў, прывязваючых чалавека да зямлі. Яны і зараз толькі выконваюць вызначэнні вышэйшых лёсаў і жывуць сярод людзей адзіна для іхнай агульнай карысьці.

Буддысты, дапускаючы істотнае адрозненне паміж сваімі мітрапалітамі і звычайннымі людзьмі, глядзяць на першых як на пасвечаных самой прыродай, а для пасьвячэння ніжэйшых прыступак свайго святарства лічаць патрэбнымі розныя звычаёвыя дзеянні.

Дзеянні пасьвячэння на ніжэйшыя пыступкі здзясняюцца не ў храме, а ў юрце. Псаломшчыкі і псаломшчыцы прызначаюцца простым сьвятаром; даваемыя імі абеты могуць быць самавольна паўтараемымі, з паўтарэннем самага звычая.

Але пасьвячэнне ў льячкі (хаваракі) і ў шымнанцы можа здяйсняць толькі біскуп (шырэт), з адным ці двумя сьвятарамі, пры гэтым біскуп, перакінуўшы цераз плячо нешта нападобе рымскай тогі (аркімідж), садзіцца і голасна чытае сімвал

веры, пасьля заканчэння чытання якога пасьвячаемы падносіць біскупу залагоджваючую ахвяру, ад якой той бярэ некалькі зярнят і кідае ў паветра багам. Пасьвячаемы ж, зрабіўшы па тры зямныя паклоны, станавіцца на калені. Яму падаюць драўляную чарку, пацеркі і пояс. Здзяйсняльнік звычаю прыкрывае яго руку краем сваёй тогі і выслухоўвае абет прысвячаемага. Пасьля гэтага на яго ўскладаецца сяшчэнны пояс: і калі гэта дзяк – то састрыгаюцца яго апошнія валасы, адмыслова пакідаемыя для гэтага дзеяння на макушцы галавы, пры суцэльным яе выбрыванні на пацягу падрыхтоўкі да прыняцця новага звання, а калі ён яшчэ псаломшчык, то толькі пакарочваецца, але не цалкам абразаецца яго каса.

Падобным жа чынам здзяйсняецца пасвячэнне ў дыяканы. Але пасьвячэнне ладзіцца ўжо ў храме, пры удзеле ва ўсякім разе пяці сьвятараў і біскупа, прычым даецца абет чысьціні, безстароннасьці, пільнасьці і міласэрднасьці да ўсяго, што мае жыццё. І хто верны свайму абяцанню, той не можа зрабіць ні кроку, не пераканаўшыся наперад, што якая-небудзь казюлька не зведае ад яго шкоды.

А прысвячаемыя ў святарскі сан спачатку абавязаны паведаміць пра свае грахі духоўнаму бацьку. Здзяйсняльнікам звычаю над імі бывае арцыбіскуп з сонмам лам. Яны ў полным убранні садзяцца на свае месцы, перад кіруючым із іх кладуць з аднаго боку званочак, чарку, жазло і бубенчык, а з другога свяшчэнную вопратку для рыхтуючыхся да прыняцця святарства.

Усе пасьвячаемыя разам выводзяцца на падмосткі храма, хаця б іх было і некалькі дзесяткаў.

Там, зрабіўшы звычайныя пакланенні і выслухаўшы вучэнне веры, яны прыносяць улагоджваючую ахвяру, а потым знімаюць з сябе ўсю вопратку да поўнага агалення і выконваюць па тры паклоны перад "буддамі" і першынствуючым сьвятаром. Прыняўшы першую вопратку – зноў пачынаюць кланяцца. І гэта паўтараецца столькі разоў, колькі ім даецца рэчаў. На заканчэнне ўсяго, пасьвячаемыя даюць 255 абетаў, выкладзеных у IV томе Кейба Джумнейна, і прыносяць падзячную ахвяру і пасьля выхаду із храма, стаўшы шэрагам з кнігамі ў руках, дабраслаўляюць кожнага падыходзячага да іх.

Пастаўленне ў далейшыя чыны, у тым ліку і абвяшчэнне пераараджэнцамі абмяжоўваецца як у Расіі, так і ў Кітаі пастановамі ўрада.

А каб чытач не падумаў, што я жартую ці здзекваюся над буддыстамі, вось выпіска із улажэння кітайскай палаты знешніх сувязей, надрукаваная ў 1826 годзе Ліпаўцавым.

"Ды будзе вядома ўсіх манголам і іншым народам, вызнаючым ламскую веру, што тыя, якім нададзена права паведамляць пра сьмерць каго-небудзь із патрыярхаў-перараджэнцаў (хутукты), ці ламы вышэйшай ступені, і абвяшчаць пра месца іхнага адраджэння, каб не паказвалі на тых дзяцей мужчынскай стаці, якія злучаны радством з самім Далай-ламай і з Баньчэнь-эрдэні, а таксама і на дзяцей і ўнукаў усіх мангольскіх ханаў, рознаступенных князеў і тайцзыеў узначальваючых дывізіі, у іншым выпадку яны зведаюць самую строгую адказнасць. Але яны могуць паказваць на дзяцей тайцзыяў, якія не знаходзяцца на грамадзкіх пасадах, роўна на малалетніх сыноў простых монгалоў і тангутаў, і могуць абвясьціць, што памёршы перарадзіўся, ці стаў перараджэнцам у тым, ці другім сямействе".

"Ні пад якім выглядам не дазваляецца знаходзіць новых перараджэнцаў, асабліва пасьля сьмерці ламаў кіраваўшых у нязначных кляштарах, у якіх раней не было перараджэнцаў.

Ніякі перараджэнец не можа быць прызнаны такім, калі не будзе зацверджаны ў гэтым званні законным парадкам урадам… Абранне ж і зацверджанне "перараджэнцаў" павінна здзяйсняцца наступным чынам: пісаць у жарэбях, адмыслова для гэтага прыгатаваных, найменні малалетніх кандыдатаў на годнасць перараджэнцаў; жэрабі класьці ў чарку, якая знаходіцца ў вялікай залатой духоўнай пасудзіне, захоўваемая ў тыбецкім храме Чжоо, або ў Пекінскім жуля-сун-хуля-кігурун. Вынімаць жа гэтыя жэрабі належыць у Тыбеце Далай-ламай, разам з тамашнім генералам, а ў Пекіне сябрам Палаты з галоўным пекінскім патрыярхам; шчаслівае жэрабя павінна вырашыць гэтую справу, якая прыводзіцца ў выкананне вышэйпазначанымі ўладамі".

"Што ж да адраджэння (Сінеазёрскага) Намун-хагана, то яго абранне не павінна падпарадкоўвацца агульнаму правілу. Але з улікам таго, што з яго высокім духоўным санам злучана светская ўлада – кіраванне цэлым княствам, належыць у гэтыт выпадку звяртаць увагу не столькі на род і паходжанне абіраемага, колькі на размяшчэнне і адданасць яму таго народа, які мае быць пад яго кіраваннем. Такім чынам народнае жаданне павінна суправаджаць жэрабя абіраемага ў залатую пасудзіну-бумба, і вынімаць яго із яе да агульнага задавальнення" (т. 11, стр. 203-7).

Ад такіх абмежаванняў не пазбаўлены ні Далай-лама ў Тыбеце, ні яго супернік Баньчэнь-эрдэні ў Кітаі. І пры іхных перараджэннях, нірвана не можа наступіць, не запытаўшы папярэдне згоду зямной улады…

Буддыйскія храмы вядомы ў Сібіры пад найменнем дацанаў, яны пабудаваны ў пустынных месцах, згодна з узорамі, запазычанымі ў Тыбеце і Кітаі.

Сонмішча ламаў у суправаджэнні протаіярэя (шырэты) і шматлюднага натоўпу, выпраўляецца да абранага месца і там, здзейсніўшы малітвы духам кіруючымі стыхіямі, і вызначыўшы памеры будучай пабудовы, капаюць у пызначаных яго кутах і на сярэдзіне ямкі футы на тры глыбінёй. У іх закопваюць па пасудзіне, запоўненай разным насеннем, з дадаваннем да ім манет і іншых рэчаў, больш ці менш каштоўных, складаючыхся із таго што могуць даць прыхажане. Над імі забіваюць невялікія колікі із акацыі, іспісанныя малітвамі, і працягваюць паміж імі пяціколеравы шаўковы шнурок, а прастору ўсярэдзіне засьцілаюць белымі валокамі.

Тады пачынаецца трэцці і апошні акт. Натоўп, пастаўлены ў адзін ланцуг, прыступае да рысы, пазначанай шнурком, і пачынае капаць баразну, выкарыстоўваючы ўсе хатнія прылады ад стралы да сахі. Тут жа павінен браць удзел і род адзінарога. Усё гэта, падобна на вакхічны карагод і паўтараецца тройчы, і столькі ж разоў пракапаная баразна паліваецца малаком вярблюдзіц, караў, авечак і іншых доячыхся жывёл, выключна белых.

Само сабой зразумела, што і ламы ў гэта час не застаюцца бяздзейнымі назіральнікамі. Іхныя спевы і стуканне ў гонгі і дамары суправаджаюць кажны акт.

С вялікай урачыстасьцю здзяйсняецца асьвячэнне храма з аглушаючай музыкай і спевамі і ён прысвячаецца якому-небудзь сьвятому.

У канчатковым выглядзе будуецца кляштар, уяўляючы із сябе некалькі пабудоваў, маючых часткова рэлігійнае, часткова гаспадарчае прызначэнне.

Сярэдзіну храмавага двора заўсёды занімае галоўная кумарня, вызначаючаяся сярод іншых пабудоваў як сваімі памерамі, так і стракатасьцю страхі, з некалькімі канічнымі ўзвышэннямі, завершанымі складанымі фігурамі, якія складаюць выразаныя выявы – солнца, месяца, званочкаў і г. д.

Вокны дапускаюцца з двух бакоў – усходняга і заходняга. Над вокнамі шырокая стрэшка, накрываючая сабой колападобны балкон так, што ў храм пранікала мала святла. Ды і ён значна памяншаецца, запоўнены звязкамі тканіны – у вялікай колькасьці развешваемай на перакладзінах паміж калонамі.

Месцам сядзення для лам служаць нізкія лаўкі. Яны стаяць і пасярэдзіне, і па баках. Месцы для шэрагу лавак паступова ўзвышаюцца прыступкамі у накірунку да ганаровага крэсла, пры гэтым выявы багоў застаюцца ў іх за спінамі на паўночным баку храма.

Першае месца паміж імі занімаюць "багі вянка" і сам Шыгемуні, г. азн. Сакья-Суні, з яго неаддзельнымі спадарожнікамі, ламамі Чадбо і Зунхаба, адпавядаючымі Пятру і Яну. Яны на прыступках за ахвярнікамі, а часам і на саміх ахвярніках, якія служаць для буддыстаў прадметам глыбокага шанавання.

На адным з іх, акрамя мандала і толі – сімволаў неба і зямлі, пастаянна знаходзяцца наступныя прынашэнні:

Вада трох сартаў, як ахвяра мораў, насенне – ад зямлі, пахучыя рэчы – ад паветра, лампада – ад полымя, апрэснакі – ад чалавека і музычныя прылады – ад усяго сьвету.

Гэтыя ахвяры штодня павінны перамяняцца, але з’яўляюцца і такія рэчы, якія лічацца недатыкальнымі. Да гэтай катэгорыі належаць:

1) Пірамідка, складзеная із шарыкаў, прыстаўленых як бы ў выглядзе парасона. У ёй бачаць узор далёкай гары Сумбера і ўсіх таямнічых магутнасьцей прыроды, якія лічацца прадстаўленымі ў саміх шарыках. Хто карыстаецца імі па-майстэрску, той лёгка становіцца цудатворцам, маючым магчымасць паспрачацца з усімі магамі старажытных і новых часоў.

2) Дзве залатыя рыбкі – адлюстроўваюць трох гіганцкіх рыб, якія, ахопліваючы зямлю, не дазваляюць ей адхіліцца ад раўнавагі.

3) Пасудзіна з салодкай і пахучай вадой, якая сімвалізуе тую салодкасць, якую ўжываюць жыхары неба.

4) Таямнічая кветка, як эмблема царства Сукавадзі.

5) Ракавіна, лічымая згодна з буддыйскай сімволікай за вестуна, паведамляючага слава богаў.

6) Сеткаватая хустка авальнай формы, якой выказваецца гатоўнасць чалавека прынесьці ў ахвяру цела.

7) Чатырохколеравая харугва, нагадваючая сабой пра чатыры звычаі.

8) Курду – звычайная малітоўная прыналежнасць, бываючая ў разных выглядах і формах, у адпаведнасьці з месцам і прызначэннем.

9) Свяшчэннае кола, адлюстроўваючае сабой сусвет і ўсе няспадзяваныя падзеі лёсу. Яно мае назву першае із "сямі скарбаў".

10) Саноўнік, які лічыцца ідэалам дабрачыннасьці, – другі із сямі скарбаў.

11) Дзівосная жонка – атаясамленне даброт жыцця – трэцці скарб.

12) Слон волат, на спіну якога міфалогія змяшчае тысячы свяшчэнных кніг, і вымушае яго пераходзіць із края ў край, із краіны ў краіну, для паўсюднага пашырэння святла веры – чацьвёрты скарб.

13) Палымяны талісман, нагадваючы, што душа чалавека толькі тады прасвятляецца, калі палае нябесным полымем.

14) Чароўны конь, які мае тое ж значэнне, як і Пегас старажытных грэкаў.

15) Мужны ваяр, які змагаецца з усімі ў імя славы буддызма. І гора таму супраць каго ён агаліць свой палымяны меч. Гэта сёмы і апошні скарб храма.

А за сям’ю скарбамі стаяць пяць нябесных паненак, пры дапамозе якіх да неба ўзносяцца прыносімыя ахвяры, маленні і зарокі. Іх лічаць сімвалам пяці пачуццяў, якімі надзелены чалавек і якімі ён павінен працаваць на карысць бога, але магчыма, гэта пяць планет.

Ахвярнік аточаны балдахінам, які апяразаны бахрамой з пазванкамі і масіўнымі гронкамі па кутах. На правым і левым баку ад яго знаходзяцца два невялікія балдахіны, заўсёды пустыя і недатыкальныя. Але пры рэлігійных шэсьцях яны ўрачыста выносяцца із храма і ганаровыя "будды" пераносяцца пад іхным пакрыццём.

У размяшчэнні другаступеньчаных куміраў не захоўваецца ніякага ўпарадкавання і яны маюць малое значэнне. Із 34-х храмаў, якія размяшчаліся ў сярэдзіне XIX стагодзя ва Ўсходняй Сібіры, толькі пра Цангольскі і Анінскі можна было сказаць, што яны стракацеюць выдатным разнароддзем куміраў.

У Цагольскім храме былі вялікія істуканы Аюлі і Аточы і Махаранзы – разнакаляровыя ахоўнікі неба. У аднаго із іх у руках меч і рог, у другага развяваючаяся змяя, у трэццяга жазло і белая мыш, чацьвёрты выконвае музыку на лютні. За імі размешчаны пякельны бог кіпцюрысты Чайжыл, шасьцірукі Гун-гар, трохгалавы Дзукдзер, багіня Сендуме і магутны абаронца буддызма Гамбо. Ён увесь абвіты зьмеямі і ўпрыгожаны вянком із памёршых галоў; а так як у яго шэсць рук, ён трымае ў адной трызубец з выявай сьмерці, у другой крук і зашмаргу, у трэццяй бубен із двух складзеных адна каля другой чарак, у чацьвёртай пацеркі, у пятай чарку із чэрапа, у шостай сякеру.

У Анінскім храме, акрамя такіх жа ці падобных ім упрыгожванняў, размешчаны са знешняга боку каменнай пабудовы фігуры, маючыя дачыненне да буддыйскага дванаццаціпазначэння: тыгр, змяя, дракон, заяц, конь, баран, чалавек, певень, сабака, сьвіння, мыш, карова.

Другарадныя "будды" звычайна размалёўваюцца разнакаляровымі фарбамі на тканіне і паперы. Але бываюць як выразаныя так і злеплевыя. У апошнім выпадку масіўнасць і пачварнасць з’яўляюцца іхнай галоўнай годнасьцю. Пры кожным храме-кляштары маюцца дзевяць галоўных кіруючых асоб: настаяцель, благачыннік, паплечнік благачынніка, загадчык, статутнік, іспытнік, наглядчык за кумірным упарадкаваннем, пачынальнік службы, скарбнік. І калі чытач далучыць да гэтага дзесяткі і сотні музыкаў, спевакоў, чытальнікаў і разнастайных прыслужнікаў са шматлікімі ламамі, то ён атрымае адпавядаючае рэчаіснасьці ўяўлянне пра буддыйскі храм.

Першую каштоўнасць буддыйскага храма складаюць зборы свяшчэнных кніг (ганджур-данджур), колькасць якіх налічваецца да 360, адпаведна градусам нябеснага кола.

Але кніг маючых кананічнае значэнне толькі 108. Усе яны прыпісваюцца часткова самому Шыгемунію, часткова яго бліжэйшым вучням Анандзе, Сабадзі і іншым. Астатнія 252 маюць назву Данджура, і іх прызнаюць за індыйскія каментары на першапачатковае вучэнне. Але большасці із іх як быццам бы ніхто не бачыў. Іхныя аўтары колькасьцю 9 х 9 = 81 далучаны да шэрагу геніеў з ганаровым тытулам індыйскіх цудатворцаў.

На гэтыя кнігі глядзяць, як на законы жыцця. Вераць, што ў іх усе памерана, пералічана "ад кедра да ісопа, ад чалавека да чарвяка, ад глыбінь тартара да найсвятлейшага царства". Прынімаецца за аксіёму, што яны напісаны на санскрыцкай і на тыбецкай мовах. А потым у розныя часы перакладзены, з

большай ці меньшай паўнатой, і на іншыя мовы і, асабліва, на кітайскую і мангольскую, згодна з загадам кітайскіх імператараў.

Але гэта ўсе вядома грунтуецца не на наяўнасьці пазначаных кніжак, а на чутках пра іх існаванне недзе далёка-далёка.

Згодна з канонам індыйскіх і сібірскіх буддыстаў у асноўных кнігах (Ганджура) дазволена ўсяго тры часткі: асноўныя правілы веравызнання (сутры), статуты (віна) і касмагонія (абідармы). Вось чаму і ўвесь кодекс мае назву трохскладовая пасудзіна.

Але тыя хто ведаюць гэтыя кнігі – рэдкая з'ява ў буддыйскім сьвеце. Веды ламаў не прасьціраюцца далей тых, без якіх немагчыма абысьціся пры здзяйсненні богаслужэнняў. Да і наогул агульнаўжываемымі ў сярэднеазіяцкіх буддыстаў толькі 53 творы. Гэта:

1) Кніга Юм, якая адпавядае Браманскім Ведам і служыць падмуркам буддыйскай дагматыкі і маралі.

2) Брандза-бараміда, у якой гаворыцца пераважна пра здзяйсненні Будды, праслаўляецца яго вучэнне і шчасьце тых, якія яму аддадзены.

3) Джыдамба – панегірык усяму сонму богаў, напісанны вершамі.

4) Додзі дзамлун – апавяданне пра барацьбу Будды з паслядоўнікамі чорнай веры, асабліва пра яго цуды.

5) Шыгемуні намтар – поўная біяграфія  Абуджанага.

6) Чыхула Керэглекчы лічацца лепшым дапаможнікам пры вывучэнні падмуркаў буддыйскай касмалогіі.

7) Санан-сецэнь спрабуе растлумачыць вялікія касмалагічныя пытанні, маючыя дачыненне да пачатку сусвету і тых пераўтварэнняў, якія ўжо пройдзены ім, ці яшчэ толькі пагражаюць.

8) Саін-цак дае разуменне пра першапачатковы стан сусвету і ў асаблівасьці пра паходжанне багоў – кіраўнікоў сусвету.

9) Арапсал – службоўнік жоўтага ордэна. У яго 72-х частках утрымліваюцца службы ўсяго года, здзяйсняемыя: а) пры трох богаслужбовых порах: ранак, поўдзень, вечар; б) пры трох згуртаваннях багоў-светакіраўкоў, г. азн. багоў сучаснага, мінуўшага і будучага; в) пры трох згуртаваннях істот божай натуры, у ліку якіх не забыты і перараджэнцы, асабліва Банчын-багдо, Далай-лама і ўргынскі Хутукту, вядомы пад найменнем Дзібдзаг дамбейн геген.

10) Дакшыт – зяшчае службы чырвонага, белага і чорнага ордэнаў. У ім перш за ўсё ушаноўваюцца дзевяць грозных духаў, Дакшытаў; а за імі і іншых пудзілаў.

11) Гурумун-ном – утрымлівае звычаі, якія служаць збліжэнню з добрымі духамі і пазбаўляюць ад злых.

12) Сундай – утрымлівае заклінанні, якія вымушаюць варожыя магутнасьці шукаць для сябе новае прыбежышча.

Астатнія 41 кніга чужыя справе веры і служаць як бы энцыклапедыямі, ад граматыкі да метафізікі і ад фантастычнай геалогіі да астралогіі. Але іх ніхто не чытае. Адна медыцына складае некаторае выключэнне, таму што са званнем сьвятара злучаецца званне лекара. Да і яна – простае знахарства ў перамежку з шарлатанствам.

Якім жа з'яўляецца богаслужэнне?

Падняўшыся на світанку, усе богаслужбоўцы, апрануўшыся ў сваё рытуальнае адзенне, ідуць да храма, спыняюцца на ганку, а гебгой спяшаецца

расчыніць браму. Жрацы знімаюць з галоў іхныя ўборы і робяць тры паклоны. Але брама перед імі зачыняецца. Не зыходзячы з месца, яны пачынаюць манатонна прамаўляць – шматлітасьцівы госпадзі адчыні нам гэтую браму!

Малітва спяваецца тройчы. Брама адчыняецца. Ламы заходзяць у сенцы і пачынаюць адзін за другім круціць курду, а сьвятар здзясняе пакланенні перад ахвярнікам, датыкаючыся да яго тварам. Ён апранаецца ў полны строй і садзіцца ў ганаровае крэсла, пры гэтым яму звычайна прыслужваюць два памагатыя. Ламы, перастаўшы вярцець курду, звяртаюцца да яго з адзнакамі глыбокага ўшанавання і прынімаюць яго добраславенне, якое перадаецца ім ускладаннем на галаву кожнага іх іх "кнігі трох скарбніц".

Ламы садяцца на свае месцы і спяваюць "ключ закона". Адны із іх накіроўваюцца ў верхнюю частку храма ці ў боковыя для здзяйснення службаў духам; іншыя застаюцца на месцы і працягваюць ранішнюю службу.

Гэты звычай ужо не паўтараецца пры паўдзённым і вячэрнім богаслужэннях. Гэта – увядзенне да службаў усяго дня.

Пры іх здзяйсненні ўсе сьвятары сядзяць з падагнутымі нагамі. Малітвы спяваюцца усім сонмам служачых, з большым ці меншым узвышэннем голасу, але наогул манатонна. Адны толькі докшыцкія службы дапускаюць разнастайныя экстазы.

Кожнае патэтычнае месца патрабуе сваіх рухаў: хуткае вярчэнне рукамі ці хапанне чаго-небудзь, а потым пляcканнем ў далоні яны нагадваюць пра няспынную барацьбу са злымі духамі і пра адбіванне іх магутнасьцю малітваў. Далонь прыкладзеная да другой, паказвае на дзесяць грахаў і на гатоўнасць чалавека ўстрымацца ад іх, а падняцце складзеных рук азначае пачуццё замілавання.

У малітвах, на ранішніх службах, на імёнах прызываюцца на дапамогу ўсе богі. Пад час паўдзённай службы праслаўляюцца здзяйсненні багоў-светакіраўнікоў і тых, у гонар якіх здзясняецца служба. На вечэрніх – дзякуюць богаў і здзясняюць малітвы за жывых і памёршых.

Пасьля малітваў і ўхвальнага спявання пераходзяць да дагматычнай кнігі Юм, гісторіка-релігійнай Мані гамбум, ці да іншых падобных кніг, кіруючыся часам статутам, часам абставінамі і замаўленнямі, якія калі-нікалі рабяцца пабожнымі прыхожанамі. Мэта ў іх адна – прачытаць як мага хутчэй, для чаго кіруючы сьвятар бярэ на сваю долю некалькі лістаў із кніжнага скрутка, а іншыя размяркоўваюцца паміж усімі прысутнымі ламамі, і ўсе разам пачынаюць чытаць выпаўшыя на іхную долю фрагменты. Словы чытальнікаў толькі калышуць паветра, нічаго не разбярэш, але ўсе ведаюць, што гукі, незразумелыя для людзей, разумеюць богі; і чым большае зліццё галосаў, тым хутчэй яны дойдуць да нябесных вышынь і прывядуць адтуль добраславенне.

Пасьля заканчэння звычайных малітваў адзін, ці двае із малодшых ламаў ідуць да ахвяравальнага месца і там рыхтуюць пучкі сухога верасу з разнымі іншымі травамі і ваду з дамешкай малака, маючую назву аршыян. Яна падносіцца на сподачках удзельнікам святадзейства, і яны, пачынаючы ад апошніх да першага, асьвячаюць ваду з малаком і траву сваім подыхам, да і дуюць самі на сябе, пры спевах і выкананні музыкі. Затым і ваду, і траву выкарыстоўваюць у якасьці лекаў супраць апаганьвання і дрыжыкаў, адчуваемых ад уздзеяння злых духаў.

Ахвяраванне, прыносімае за жывых і памёршых, бывае ранішнім і вячэрнім. Пасьля прачытання шасьці папярэднічаючых малітваў, абавязак ахвяравальнікаў

зрабіць звычайныя пакланенні, разліць мандзу і паднесьці яе ў асьвечаных чарках кожнаму ламе. А тады на падмостках з'яўляецца служка храма з маналогам наступнага зместу:

"Светазарныя ўваскрашэнцы, прайшоўшыя моры жіццёвай мітусні і нівы вялікага сусвету, служачыя выратавальнай прыладай супраць трох галоўных ліхаў! І вы, шаноўныя ламы! Паглядзіце на стаячых перад вамі. Гэта дабрачынцы. Прыносячы гэтую ахвяру (піццё, грошы і інш.), яны жадаюць вашых малітваў: ды будуць яны выратаваны ад бядот сучаснага жыцця, і ганаруюцца дасягнуць дасканаласьці у будучым стагоддзі".

Паслухаўшы прамову, сьвятары співаюць малітву, трымаючы у руках чаркі і паказваючы рухамі рук, што яны прыносяць ахвяру багам. Потым мандза выпіваецца, а ахвяраваццелі, пакланіўшыся тройчы да зямлі, станавяцца на калені каля ламскіх месцаў. У гэта час біскуп чытае малітву і вымаўляе добраславенне ўсім, бяручым удзел у прынашэнні ахвяры.

Пасьля гэтых папярэднічаючых дзеянняў вяртаюцца да агульнага правядзення службы. Діякан пачынае сваё співанне, а ламскі хор на кожны праспяваны ім верш адказвае прыпевам: тунжур! Нарэшце прачытваецца, падзячная малітва, і служба заканчваецца. Ламы узначальваемыя сваім біскупам выходзяць, і калі спрыяе надвор'е ці выпадак, здзяйсняюць абыход вакол храма, а потым разыходзяцца.

Больш напышліва бывае пад час вялікіх сьвятаў. Тады буддыйскі свет дае магчымасць бачыць сябе з усёй рэлігійнай помпай. Пустынныя наваколлі храмаў-кляштароў напаўняюцца дзікім, мітусьлівым народам, даючым волю ўсім сваім рeлігійным захапленням: гараць вогнішчы, льецца кроў ахвярных жывёл. Далёка нясецца эха, – там грымяць барабаны і мноства іншых музыкальных прылад уражваюць слых. Звіняць ханхо – званочкі, на паверхні якіх малююцца вопраткавыя прыналежнасьці докшыцкага чыну, і пішуцца малітвы, вядомыя пад найменнем Мані, а дзержаком служаць выявы <…>, са скіпетрам, як эмблемай улады, якую маюць "богі вянка". Яму дапамагае дамара – бубенчык, складзены із двух пасудзін, для выказвання той думкі, што здзейсненае на зямлі адклікаецца на нябёсах і вяртаецца. Грыміць Кенрэрэ – вялікі, пляскаты барабан і дударма – малы барабан. Сялніны і цаны, нападобе тымпанаў, утвараюць адмысловыя гукі пры іхным устрасанні і ўзаемных ударах. Мычыць Укырь-бурэ.

# Глава IX

## Першапачатковае рэлігійнае пачуццё чалавека і дзіцячыя паданні сучасных сібірскіх буддыстаў.

Прыступаючы да навуковага даследавання чужых нам азіяцкіх аскетычных рэлігій з адценнем пантэізму, мы, перш за ўсё, не павінны ставіцца да іхных настаўнікаў з папярэдне вызначанай варожасьцю. Найбольш правільна ставіцца да іх як да дзецёй, яшчэ гуляючых у свае цацкі, лічачы гэта за сур'ёзную справу і уяўляючы, што драўляныя рэчы разумаюць.

Што такае рэлігійнае пачуццё?

Сучасны нам інтылігентны еўрапейскі тэіст, ужо адышоўшы ад рабскай залежнасьці перад усімі існуючымі культамі, як эвалюцыйна ўтварыўшыміся

адгалінаваннямі першапачатковага чарадзейства[6], звычайна адкажа: "Рэлігійнае пачуццё – гэта пачуццё захопленай глыбокай павагі перад нечым такім, што мы лічым бясконца і недасягальна лепшым за нас саміх, што нам здаецца дасканалым. Гэта падобна на пачуццё закаханага, гатовага на ўсё дзеля асобы свайго захаплення. Яго адчувае хрысьціянская дзяўчына, стоячы на каленях перад выявай Хрыста, яго адчувае каталіцкі хлопчык перад выявай Мадоны, і гэтае ж пачуццё вызнае сучасны пантэіст, гледзячы зорнай ноччу ў бясконцую глыбіню нябеснай прасторы, поўную таямнічай магутнасьці, па волі якой існуем і мы, хаця і не ведаем, для чаго мы ёй патрэбны. Мабыць, для чагосьці добрага.

У хрысьціянскай тэалогіі гэтае пачуццё ўпершыню выказаў евангеліст Ян, выказваючыся: "бог – гэта шанаванне".

Калі выказваючыся такім чынам тэіст ужо вызваліўся ад чараў усякага звычаёвага рэлігійнага чарадзейства, то тут для нас застаецца толькі адказаць на пытанне: адкуль у тэіста з’явілася гэтае пачуццё глыбокай павагі не толькі перад бясконцасьцю сусвету і вечнасьцю яго ствараючага жыцця, але і наогул перад нечым вышэйшым, чым ён?

Ці яго існуе ад нараджэння ва ўсіх людзей як, напрыклад, спевы для жаваранка ці ўсталявана выхаваннем, г. азн. з’яўляецца ўмоўным рэфлексам, які можна і далей культывіраваць практыкаваннямі і падаўляць, аж да знішчэння, не даючы яму магчымасьці выявіцца ў дзеяннях?

Ужо адна тая абставіна, што рэлігійнае пачуццё абуджаецца не ва ўсіх (як, напрыклад, стацевая прыхільнасць, у вядомым узросьце), дастаткова паказвае нам, што яно яшчэ не перешло ў вобласць неусведамляемых інстынктаў, г. азн. не з’яўляецца вельмі даўнім і таму замацаваўшымся ў арганізме чалавека, а можа быць як культывавана так і знішчаема. І, акрамя таго, яно і наогул ніколькі не зраслося з якой-небудзь із сучасных нам рэлігій, так што дзейнічае цалкам незалежна ад іх. Яно і выяўляецца нават не столькі ў нейкіх сучасных веравучэннях, колькі ў мастацкай музыцы і паэзіі, жывапісе і скульптуры высокакультурных народаў, а нізка культурныя народы і вялікія пласты ўсіх культурных, усе яшчэ гуляюцца ў сваіх багаў, як дзеці ў куклы. Вось чаму і рэлігійныя веравучэнні таго ці іншага народа ці яго часткі немагчыма вывучаць без сувязі з яго паэзіяй, музыкай і мастацтвам, якія служаць фонам. І перад намі паўстае ўражваючая выява, калі параўноўваем наша сучаснае еўрапейскае мастацтва з азіяцкім.

---

[6] Яшчэ раз нагадаю чытачу, што корань слова культ той жа самы, як і слова вядзьмарства (колдовство) (КЛД = КЛТ). Дакладна так жа і царкоўна-славянскае слова бог і грэцкае бахус – аднолькавага паходжання, і гэта лёгка даказаць, таму што яно толькі па-славянску мае рэальны сэнс: багатыр, бага-тыр, як і маг азначае проста – магутны. Слова бахус першапачаткова бохас <...> толькі атрымала да бога звычайны канчатак імёнаў мужчынскага роду – "ос", а затым дзякуючы таму, што грэцкі гук <...> з’яўляецца прыдуўным Б, як бы сярэднім паміж Б і В, а славянскі гук Г, больш падобны на нямецкі h, не выкарыстоўвамы ў сярэдзіне слова <...> транскрыпцыя слова Бог <...> перайшла ў транскрыпцыю Вакх <...>. Такім чынам вакхічны культ, у перакладзе на рускую мову азначае проста боскае вядзьмарства. І гэта цалкам адпавядае ўжо зробленым мной высновам, што славянскі ўплыў у сярэднявечнай Вялікай Рамеі (Візантыі) пераважаў над грэцкім і лацінскім, аж да Кірылы і Мяфодзія, калі славянскія навукоўцы Балканскай паўвыспы, а з імі і Цар-Горада, не задавальняючыся тым, што самі паміж сабой размаўлялі па-славянску, пажадалі і пісаць на сваёй роднай мове. Але перaслед славянскай мовы пачаўся не з Цар-Горада, які заахвочваў, а із ўзмацніўшагася тады дзякуючы хаўрусу з Заходняй Яўропай папскага Рыма пасьля 871 года, калі Мяфодзій быў зняволены Зальцбургскім каталіцкім арцыбіскупам ў Швабіі.

Я не буду тут разважаць пра ўрачыстую музыку, якая непасрэдна ўсталявана як у каталіцкім так і праваслаўным богаслужэннях, як абуджальнік рэлігійнага пачуцця, ці пра спяванне ўрачыстых гімнаў, нападобе каталіцкага "<…>", – для гэтага мне давялося б перапоўніць гэтую частку маей кнігі нотамі. Але калі ў вас існуе музычны слых і вы былі ў кітайскім тэатры ці чулі хоць бы на грамафоне той шум і гам, якія суправаджаюць азіяцкія богаслужэнні, то вы і без мяне ўжо ведаеце, што разніца паміж імі ў мастацкасьці такая ж вялікая, як у санат Бетховена ў параўнанні з "Чыжык, пыжык, дзе ты быў", выконваемым дзецьмі на раялі адным пальчыкам.

Дакладна тое ж і ў жывапісе і ваянні еўрапейцаў у параўнанні з азіятамі.

Параўнайце, напрыклад, карціны перадрэфалеітаў – нападобе "Анёлаў Тварэння" ці "Залатой лесвіцы" Берн Джонса з творамі лепшых азіяцкіх мастакоў, пазаўленых нават перспектывы. Гэта ж нават не гледзячы на незвычайную працавітасць ў выкананенні дэталяў у японцаў, можна сказаць пазбаўлена душы:

І лёд блішчыць, і гэты бляск цяплом
Не напоўніць зімы халоднай сцюжу!

Усё гэта рамяство, а не жівапіс. Гэта добрыя куклы і бразготкі, якімі мастацкі адукаваны еўропеец можа захапіцца толькі ў такой жа ступені, як добрым столікам ці шафай з інкрустацыямі. А пра скульптуру я ўжо і не гавару. Яна цалкам адсутнічае ў магаметанскіх краінах, а у буддыйскіх і брамінскіх выяўляецца толькі ў адмыслова прыдуманых жудасна-выродлівых формах, але і ў Яўропе, дарэчы, скульптура яшчэ не дасягнула апошняй ступені свайго развіцця як следства ўстрымання ад ужывання фарбаў, і знаходзіцца на узроўні гравюры.

Зараз пяройдзем і да літаратуры. Ці чулі вы пра нешта падобнае на еўрапейскі раман? Ці існуюць там свае Дыкенсы, Тэкерэі, Вікторы Гюго, Шыллеры, Гётэ, Шпільгагены, Тургеневы, Дастаеўскія, Ільвы Таўстыя? Вам смешна нават і падумаць? – І мне смешна.

Здавалася б, што лірычная паэзія, як самы старажытны род літаратуры, здольны існаваць і да вынаходніцства альфабэта, магла б дасягнуць у Азіі такога ж развіцця, як і наша. Але дзе там хоць адзін верш годны ўзроўня нашых сучасных?

Вось, напрыклад, хаця б верш пра колеры: мангольскага аўтара, запісаны А. Д. Рудневым[7]:

На макушцы высокай вялікай гары
І з поўдня і з поўначы скрозь
Растуць розныя дрэвы, лісты і кветкі
І ўсе яны прыемныя для позірку.
Калі на цудоўных калышучыхся дрэвах
У восеньскія месяцы года
Із лісцяў чуюцца спевы птушак
Гэта чудаўная асалода.
У летні час на вырасшай траве
Квітнеюць разнастайныя кветкі,
Калі назіраеш іхную прыгажосць і жыццяздольнасць
Гэта цудоўна для вачэй.
І мы ўсе жывыя істоты
Пад час сумеснага з імі жыцця

[7] А. Д. Руднеў, "Матэрыялы па гаворках ўсходняй Манголіі". 1911.

Уславім і ўхвалім тут
Усе мірныя і прыгожыя кветкі.

Ён із лепшых, але мы тут не бачым яшчэ рыфмы[8], а памер дрэнна адпавядае нашаму рэчытатыву.

А вось і яшчэ размова з пералётнымі птушкамі:

– Пад час засушлівых месяцаў радаснага лета
Крылатыя птушкі са звонкімі гукамі
Навошта прыляцелі вы з дзікімі крыкамі
З берегоў знешняга мора?

– Пры пераменах чатырох пор года
Пад час засушлівых месяцаў спякотнага лета
Ганімыя надвобдачным ветрам
Вярнуліся мы на сваё чыстае возера.

– Прыляцеўшы на сваё жаданае возера,
Да якога вы так імкнуліся
Навошта ж вы халаднаватай восенню
Злятае чарадой?

– Калі на вяршынях высокіх гор
Воблакі лажацца, і снег упаў
І ўжо пачынаюцца халады
Вяртаемся мы ў сваю цёплую краіну.

Гэта манатонна пявучы верш – як і ўся першабытная рэчытатыўная паэзія. Але хіба можна яго параўнаць, напрыклад, з вершам Лермантава:

На поўначы далёкай стаіць самотна
На голай вяршыні хвоя
І драмае хістаючыся і снегам сыпучым
Апранута як рызай яна.

І мроіцца ёй, што на поўдні далёка
На раўнінах, дзе сонца стаіць
Адна і самотна на кручы гаручай
Прыгожая пальма стаіць.

Ці, напрыклад, із нашых пазнейшых пісьменніц:

Я адчуваю сябе як падарожнік на зямлі
І цягне вечна ў далечыню, і няма нідзе заспакаення.
Чароўная краіна мне мроіцца ў імжы
І чуецца мне там грукат прыбоя.

Так позняй восенню ў жаданні зляцець
Нудзяцца птушкі тут, не знаходзячы заспакаення.

---

[8] Вось пачатак:

Ундор ба йсхе алян аргільдо
Абор ба аро дурэн мадасні
Унге бурын набчы чычэк дэльгерэн
Уджехойе сяхан бяхо чагдаган.

Хутчэй у далёкі шях! Яны жадаюць зноў
Пачуць пад сабой пявучы грукат прыбоя.

І, мабыць, таму смутак сціскае грудзі
І думкі цяжкія мне не даюць заспакаення,
Што хутка я пайду ў іншы далёкі шлях
Дэ мне не пачуць пявучы грукат прыбоя[9].

Той сімвалізм, які з'яўляецца ўсёй красой мастацкай паэзіі, на ўсходзе яшчэ цалкам адсутнічае і душа тамтэйшага аўтара выяўляецца як яшчэ знаходзячаяся на ўзроўні нашага дзіцёнка.

Пяройдзем зараз і да празаічнай казкі. Возьмем для прыкладу апавяданне са зборніка таго ж А. Д. Руднева:

**Малайчына з жалезнымі кіпцюрамі.**

Жылі-былі некалі два браты; у старэйшага былі простыя ногці, а ў малодшага – жалезныя. Яны залазілі ў ханскую клець і кралі адтуль розныя рэчы. Аднойчы ноччу яны абодва залезлі на клець, і старэйшы вымавіў:

"Ты, як малодшы, залазь першы".

Малодшы адказаў:

"Нет, ты, як старэйшы, ідзі первым".

Старэйшы брат залез першым і плюхнуўся ў бочку з раслінным маслам. А малодшы брат збег дадому.

Ранкам ханскія служкі, зняўшы галаву старэйшага брата і прывязаўшы яе да хваста каня, пусьцілі каня бегаць паміж шматлікім народам, каб пабачыць, хто будзе яе шкадаваць. Яго жонка збіралася плакаць. Нехта ей гаворыць:

"Калі ты збіраешся плакаць, то лепш вазьмі сваю ежу, занясі на чорную каменную пліту і заплач, разбіўшы на кавалкі пасудзіну з ежай, каб усе думалі, што табе стала шкада сваю ежу".

Яна панесла сваю лепшую страву на чорную каменную пліту і разбіўшы пасудзіну з ежай, заплакала. Яе не пачалі падазраваць.

На наступную ноч яго брат, чалавек з жалезнымі нагцямі пайшоў адзін красьці ў ханскую клець. А хан, перапрануўшыся у дрэнную вопратку, сядзеў у кутку клеці. Вось ён пытае:

"Гэта вы навошта тут?"

Хан адказаў:

"Ідзі і паглядзі праз вакно, што робяць мае служкі?"

Чалавек з жалезнымі нагцямі знік, затым прыйшоў і паведаміў:

"Вашы служкі на печы нешта ставяць у слянках, і згаворваюцца, што заўтра, калі прыйдзе хан, дадзім яму выпіць".

Хан прамовіў:

"Ідзі са мной, а калі мне наллюць таго, што ў слянцы, я, раз сербануўшы, выкіну на паўночную сьцяну, а ты адрубай галовы ўсім служкам".

І даў хан таму малайцу свой залаты меч.

Раніцай служкі пасадзілі хана на залатую павозку і завёзшы яго да хаты, падалі яму нешта са слянкі. Хан раз сербануў і выкінуў на паўночную сьцяну, а малайчына адрубаў тым служкам галовы.

Пасьля таго хан запытаў:

---

[9] Ксенія Марозава. "Веснік Яўропы"...

"Што ж ты возьмеш у мяне?"

Малайчына адказвае:

"Нічаго я з вас не возьму, а буду жыць па-ранейшаму злодзеем".

Хан адказаў яму:

"Калі ты такі вялікі злодзей, то сходзі і скрадзь залатую душу ў Шалмос-хана".

Малайчына сеў у лодку і паплыў. Плыў ён, плыў, і вось бачыць палац. Пайшоў да яго. А там жалезныя дзверы. Ён зайшоў у жалезныя дзверы. Далей срэбныя дзверы; ён і ў срэбныя дзверы зайшоў; далей залатыя дзверы; ён і ў залатыя дзверы зайшоў. Сядзіць там Шалмос-хан з рагамі ў сем сажань, з трыма вокамі, залатую сваю душу ён схаваў у правую сьцяну, і гаворыць:

"У мой дом ні мошка, ні муха не залятала, а як жа ты зайшоў?"

"З лекамі на вялікім пальцы, з зеллем на ўказальным пальцы".

Шалмос-хан спужаўся і пачаў гарбату варыць, а малайчына забраў яго залатую душу і пайшоў. А Шалмос-хан застаўся, енчучы:

"Ах! Залатая душа мая!"

Малайчына сеў у лодку і паплыў. Бачыць зноў палац. Пайшоў да таго палаца, зайшоў у жалезныя дзверы, зайшоў у срэбныя дзверы, а калі ў залатыя дзверы зайшоў, сядзіць там сын Шалмос-хана, з рагамі ў шэсць сажаняў, з трымя вокамі, і гаворыць:

"У мой дом не заляталі ні мошка, ні муха, а ты як зайшоў?"

Малайчына адказаў:

"У мяне на руках лекі і зелле".

"А чаму гэта ў цябе толькі два вокі? Зрабі, каб і ў мяне было два".

Той растапіў свінцу поўны сямімерны кацёл, паклаў сына хана тварам уверх, выліў кацёл на ўсе яго тры вокі, а сам пабег прэч; выйшаў цераз залатыя дзверы, выйшаў цераз срэбные дзверы, а калі намерыўся выйсьці праз жалезныя дзверы, жалезныя дзверы не адчыніліся. Зайшоўшы ва ўсходняе памяшканне, падлез ён пад халашчонага казла, прывязаўся да яго барады і бачыць; асьлепшы сын Шалмос-хана кажа:

"Ты ж напэўна, у казліным памяшканні, я заб’ю цябе".

Ён пахапаў казлоў і павыкідваў іх вон; ды і халашчонага казла таксама выкінуў вон, а з ім і малайчыну. Тады малайчына, дразнячы яго, заспяваў: "Што, ўзяў? Што, ўзяў? Вось так ты! Прывязаўшыся да казла, я збег, што ўзяў, што ўзяў, вось так ты!"

Сын Шалмос-хана прамовіў:

"Зараз ужо ні адзін із нас адзін другога не пераможа, я дам табе гэты залаты меч".

Малайчына адказаў:

"Кінь мне яго!"

"Калі нешта даюць, то хіба не із рук бяруць?"

Малайчына наблізіўся, схапіўся за меч і прыліп. Але ён адрэзаў сабе руку, адбег і дражніць Шалмоса:

"Што ўзяў, што ўзяў, вось так ты! Адсёк я руку, збег, што ўзяў, што ўзяў, вось так ты!"

Малайчына сеў на сваю лодку і паплыў да хаты. Зноў бачыць палац; пайшоў да таго палаца, зайшоў цераз жалезныя дзверы, зайшоў цераз срэбныя дзверы,

зайшоў цераз залатыя дзверы, і сядзіць там дачка Шалмос-хана, з рагамі ў пяць сажаняў, з трыма вокамі, і гаворыць яму:

"Стань хутчэй маім чалавекам!"

Ён стаў яе чалавекам. Яго жонка кожны дзень хадзіла есьці людзей. І вось яна нарадзіла хлопчыка з рогам у дзьве сажані, з трымя вокамі. Хлопчык той быў плакса. Кожны раз калі жонка зыходзіла з'ядаць людзей, малайчына залазіў на палац і глядзеў, а дзіцёнак пачынаў плакць і вымушаў яго вяртацца назад. Аднойчы, калі жонка адышла і ён залез на палац паглядзець, дзіцёнак не заплакаў. Ён сеў у лодку і хутка сплыў.

Жонка, вярнуўшыся дадому, перасекла хлопчыка па сярэдзіне, і ніжнюю частку яго цела кінула наўздагон за сваім чалавекам. Хлопчык дагнаў і прымацаваўся да лодкі. А малайчына перасёк лодку ўпоперак, сеў на адну палавіну, хутка прыплыў да свайго хана і аддаў яму душу Шалмос-хана".

Такія ж і большасць із 23 апавяданняў, запісаныя са слаў саміх апавядальнікаў А. Д. Рудневым у другім і трэццім выданнях яго кнігі "Хары-бурацкі говар" 1913 г. І ці не маю я права сцвярджаць, што пераходзячы да азіяцкага светапогляду, мы спускаемся да самых пачаткаў чалавечай культуры?

Каб некалькі падахвоціць засмучанага гэтай безсэнсоўнасьцю чытача, я прывяду зараз яшчэ самы лепшы із ніх:

### Царэвіч Шым-Бэпіральту.

"Жыў-быў у ранейшыя часы ў бенгальскай краіне хан Банга. У хана жыў беззаганны знакаміты лама, сапраўдны пераўтварэнец самога бога айца (Абіла бурхана). Гэта была сям'я не маючая дзяцей. Аднойчы, запрасіўшы яго да сябе, папрасілі ў яго сына. Беззаганны знакаміты лама адказаў:

"Добра", – і з'ехаў.

У тую ж ноч яго жонка бачыла сон:

"З'явіўся, – кажа, – бог Ар'ябала і ўсклаў мне на галаву кветкі, потым таксама з'явіўся бог Ачырвані і кінуў у мяне срэбным мечам, які з бляскам уводзіць мне ў жывот".

Хану таксама прысьнілася:

"З'явіўся мне, – кажа, – бог Шанджуршы, і даў мне дыхаючы полымем залаты меч, а я ўзяў і схаваў яго".

І разважаюць яны паміж сабой:

"Гэта, верагодна, наш лама дае нам сына".

Праз некаторы час, жонка зацяжарыла. З'явіліся разнастайныя знаменні і калі яна нарадзіла, пайшоў з неба дождж кветак. Немаўля было вельмі здольнае і, не ні ў кога не навучаючыся, было перапоўнена ведамі.

Хутка ён стаў дарослым; была там на паўднёвым баку гара і расло дрэва жыцця маці і дрэва жыцця бацькі. Хан выправіў людзей паглядзець:

"Якія, – кажа, – усе кветкі і лісты на тых дрэвах, ці ў добрым яны стане?"

Пасланнікі схадзілі і паведамілі, што на дрэве жыцця маці кветкі і лісты ў поўным парадку, але толькі па баках ад яго існуюць логавы вялікіх драпежных звяроў, і карані дрэва трохі агаліліся.

Тады хлопчык прамовіў:

"Хай туды пойдзе шмат людзей і пастраляюць із лукаў, застрэляць звяроў і бьюць у кімвалы і барабаны".

Яны пайшлі і пабачылі, як з абодвух бакоў ад дрэва жыцця маці збеглі: жоўта-стракатая і чорна-стракатая сьвінні. Гэтыя людзі пагналіся за імі, б’ючы ў кімвалы і барабаны і страляючы із лукаў.

А царэвіч залез на лесвіцу і кажа:

"Калі тут ёсць злыя ворагі, то прыходзьце сюды".

У лук здольнасьцей ён ўставіў стралу ведаў, нацягнуў яе цецівой спагады, і сідзіць там, прамаўляючы малітву пра перамогу над знешнім ворагам.

І вось з паўднёвага боку імклівa бягуць да яго, кідаючыся з боку ў бок, наперадзе чорна-стракатая сьвіння, а за ёю следам жоўта-стракатая сьвіння. Ён стрэліў і патрапіў у чорна-стракатую сьвінню, а жоўта-стракатая кінулася ў бок і пабегла на ўсход. Царэвіч намерыўся было стрэліць і ў яе, ды пашкадаваў і спыніўся; і тады з неба спусьцілася белае, як вата, воблака; беззаганны знакаміты лама, паказаўшы сваю галаву ў аблоках, сказаў царэвічу:

"Упусьціў ты праз сваю спагадлівасць злоснейшага ворага, гэта пашкодзіць жыццю тваей маці", – і знік.

Трохі пазней, яго маці захварэла і памёрла пасьля гэтага. Царэвіч залез на гару жыцця ў пошуках той жоўта-стракатай сьвінні. І вось на паўднёва-ўсходнім баку гары сядзіць прыгажуня-дзяўчына ў пяціколеравым шаўковым адзенні, выпраменьваючы із правай шчакі святло рубіна, а із левай шчакі – святло ўсё выконваючага чароўнага каменя зендамані. Ён падышоў да яе бліжэй:

"Чыя, – пытаецца, – ты дачка?"

"Я нябесная дзева; пабачыўшы, што ідзе такі прыгажун, пераўвасабленец бога, я падумала, ці не заблудзіўся ён у бязлюднай мясцовасьці, і ці не правесьці мне яго ў населеныя месцы".

Царэвіч падумаў – ці не тая самая гэта жоўта-стракатая сьвіння і намерыўся было стрэліць, як толькі яна пабяжыць. Але, так як яна сядзела, ён падумаў:

"Не буду страляць, пакуль сядзіць", – і сказаў:

"Я не маю намеру пытаць у цябе пра свой шлях", – і пайшоў прэч.

Дзяўчына пайшла да паўночных дзвярэй ханскага палаца і паказалася саноўнікам. Калі царэвіч вярнуўся дадому, ханскія саноўнікі паведамілі яму:

"Тут такая дзяўчына-прыгажуня ходзіць! А што, калі б мы яе прапанавалі вашаму бацьку-хану ў якасьці другой жонкі, а вам – мачахі?

"Не, – адказаў царэвіч, – я вам забараняю нават згадваць майму бацьку пра гэта". – і зайшоў у палац.

"Наш царэвіч, відаць, не хоча сабе мачахі", – вырашылі саноўнікі і самі ад сябе паведамілі хану. А хан загадаў: "Гэтую дзявіцу, калі яна калі-небудзь зноў тут з’явіцца, прывядзіце паказаць да мяне".

І вось, калі саноўнікі былі на вуліцы, дзяўчына прайшла каля задніх дзвярэй, так, каб царэвіч не заўважыў. Хан у яе закахаўся і ўзяў сабе ў жонкі. Царэвіч зайшоў да хана. Хан-бацька паведаміў яму: "Я ўзяў сабе жонку, а калі яна ў далейшым не спадабаецца, то прагонім яе".

"Ну, добра, гэта азначае, у мяне зараз ёсць мачаха", – прамовіў царэвіч.

Тым часам новая ханская жонка заклала за правую шчаку чырвоную нітку, а за левую – сінюю, і ляжыць, усё выплёўваючы то чырвона-стракатую, то сіне-чырвоную слюну, і гаворыць: "Хворая я".

"Што ж мне зрабіць, каб ты акрыяла?" – запытаў хан.

"Я чалавек із нябесных краін, – адказала яна, – а людзі заўсёды лякуюцца лекамі, кожны са сваёй краіны; калі б ваш сын прывёз мне ад дзесяцігаловага хана аракшасаву кветку "мядок-гушана", то я б акрыяла".

Хан загадаў сыну:

"Едзь", а сын адказаў:

"Я не магу ехаць: гэты ваш дзесяцігалавы аракшасаў хан бядовы – ён мяне з’есць".

"Хіба ў мяне мала войска, – адказаў хан-бацька; возьмі сабе людзей і выпраўляйся".

Сын адказаў: "Я войска з сабой не возьму; калі ўжо так, пайду адзін".

Ён пачаў збірацца адзін, хан пашдаваў яго, але, так як ён больш за ўсё шкадаваў сваю новую жонку, то і пусьціў сына.

Ідзе царэвіч па бязлюднаму роўнаму беламу стэпу, і вось на самым яго краю паказалася гара. Каля гары, калі ён да яе пад’ехаў, паказалася вялікае станавішча, а каля станавішча вялікая рака і паміж імі маленькая сьцежка, дзе раней хадзілі людзі. Мінаваўшы гэтую сьцежку, ён паехаў далей, а там невялікая цясьніна. Паглядзеў ён наверх у гэтую цясьніну, а там сядзіць волат жудасна жахлівы, з барадой да каленяў, з жалезным кіем у левай руцэ і з залатым мечам, палаючым полымем, у правай.

І вось заве той волат царэвіча: "Ідзі сюды!"

І пайшоў царэвіч да яго ў вялікім жаху. Волат заытаў яго:

"Адкуль ты прыйшоў? Ты мабыць чый-небудзь пераўвасабленец; калі б ты быў простым чалавекам, то не трэба б было табе сюды прыходзіць".

"Я прыйшоў із бенгальскай краіны; я сын Банга хана".

Стары яшчэ запытаў яго:

"З якой патрэбыты ты ідзеш?"

"Маці мая захварэла, выправіла мяне – прынясі, маўляў, із краіны дзесяцігалавых аракшасаў кветку мядок-гушана".

Чалавек адказаў:

"Ты ўжо прыйшоў у краіну хана аракшасаў; я стары аракшас, прыстаўлены, каб назіраць за памежнай дарогай; табе нельга ісьці далей, цябе з’ядуць аракшасы; вяртайся-ка дадому; мы харчуемся людзьмі і толькі тры разы на месяц, пад час малітоўных дён, нам загадана не есьці чалавечыну. Гэта бог Будда прымусіў нас пасьціцца тры разы на месяц, пад час малітоўных дён. Ты вязучы чалавек, прыйшоў да мяне 8-га дня, калі ў мяне пост; вяртайся, у мяне сёння вельмі лагодны настрой, і я цябе не з’ем, гэта вельмі цікава: колькі гадоў тут ніводны чалавек не праходзіў".

Царэвіч адказаў:

"Я пайду туды, куды ішоў: усё роўна, лепш аддамся на з’ядзенне аракшасам, чым не паслухаюся слаў майго бацькі".

Аракшас прамовіў:

"Калі ты усё-такі думаеш ісьці, то пакінь гэтага каня; твой конь не дойдзе; я дам табе майго магутнага каня-слана: ён увесь сусвет за адзін дзень абыходзіць. На ім ты даедзеш, куда б ты ні пажадаў. Да ўсхадняй брамы хана аракшасаў ты дабярэшся ці на 15-ты, ці на 30-ты дзень. Дом – з дзвярамі з чатырох бакоў, аракшасы куды больш жахлівыя за мяне. Загадаеш іх адчыніць дзверы і зайдзеш. І будзе там сяміпавярховы дом; як паднімешся на шосты паверх, будзе там смаляны горад, а там будзе хан аракшасаў; ад таго хана аракшасаў ты паднімешся па

лесвіцы наверх; на доме будзе залатое возера; вышэй гэтага возера ты падымешся па 399 прыступках; там на вышыні 2000 будзе сем розных дамоў із сямі каштоўнасьцей; каля кожных дзвярэй будзе па дзяўчыне ахоўніцы брамы; загадаеш ім адчыніць дзверы і зайдзеш, і вось у самым сярэднім памяшканні, будзе дзяўчына мядок-гушана з сарака дзевяццю дзяўчынамі; але сярод іх не знайсьці табе кветачку мядок-гушаны. Маці цябе падманула: у хана аракшасаў няма кветкі мядок-гушаны: мядок-гушана, дачка хана аракшасаў сапраўнае пераўтварэнне зялёнай Дары-эхе. Твая маці выправіла цябе, каб аракшасы цябе забілі".

Царэвіч пусьціў свайго каня, а калі пачаў збірацца ехаць далей на магутным кані-слане, стары аракшас сказаў яму:

"Калі ты вернешся жывым, заедзь да мяне".

Царэвіч паехаў далей. Наперадзе папярок яго дарогі біліся чорная і белая змеі. Царэвіч ўзяў кол і разбараніў іх. Змеі папаўзлі ў розныя бакі. Царэвіч едзе сабе далей.

Яга сустракае хан белых драконаў, на белым кані, у футры белага шоўку і запрашае хлопчыка да сябе. Царэвіч пытае:

"Чаму вы мяне запрашаеце?"

Хан белых драконаў адказвае:

"Напярэдадні, калі мы змагаліся з ханам чорных драконаў, ты нам абодвум выратаваў жыццё. Я валадар лясаў – хан белых драконаў, а той – валадар вадзяных драконаў, хан чорных драконаў, і вось мы, хвалячыся адзін перад адным – ён водамі і я лясамі – пабіліся, а ты нас разбараніў".

Царэвіч выправіўся да хана белых драконаў, дзе быў вельмі годна прыняты, выпіў гарбаты паеў садавіны і намерыўся ісьці. Хан белых драконаў даў яму чатыры круглыя белыя каменчыкі бірузы і паведаміў:

"У дарозе спатрэбяца. Будзеце вяртацца, заязжайце да нас выпіць гарбаты". Царэвіч выправіўся далей.

На шляху сустракае яго, перагарадзіўшы яму дарогу, нейкі чалавек на чорным як сажа кані, у футры чорнага шоўку. Царэвіч пад’ехаў да яго, а той запрасіў яго да сабе.

"Навошта вы мяне запрашаеце?"

"Напярэдадні, калі мы біліся з ханам белых драконаў, вы выратавалі нам абодвум жыццё і развялі нас на два бакі".

Царэвіч заехаў. Пачаставаўшыся у яго гарбатай, і будучы вельмі годна прынятым, ён пачаў збірацца ў дарогу. Хан чорных драконаў даў яму тры круглыя чорныя каменчыкі бірузы і паведаміў:

"Дарогай спатрэбяцца. Калі назад будзеце ехаць, заязджайце да нас, пачаставаць гарбаты". Царэвіч паехаў далей.

15-га дня пад’ехаў ён да ўсходняй брамы палаца аракшаскага хана. Там стаіць жудасна жахлівы аракшас з залатым мечам у правай руцэ і з жалезным кіем у левай. Царэвіч загадаў аракшасу:

"Адчыняй дзверы".

Той адчыніў. Царэвіч заехаў на кані ў палац, а там жывой істоце не праехаць: па ўсёй падлозе натыканы шылы. Але магутны конь-слон усё ішоў і зайшоў у смаляны горад, а там мноства дзяцей і жанчын з маленькімі немаўлятамі. У іх ён запытаў:

"Дзе хан аракшасаў"?

Тыя перабіваючы адзін аднаго пачалі гаварыць:

"Тут".

І зайшоў ён да хана: сядзіць нешта з дзесяццю галовамі, на ільвіным пасадзе, з падасланым дываном із чалавечай скуры, са спінкай із чалавечай скуры і перабірае пацеркі із чалавечых галоў. Хан паказаў царэвічу на лаўку без спінкі, і кожная із яго дзесяці галоў задала па пытанню.

Царэвіч адказваў без запінкі на ўсе пытанні, і затым сказаў хану аракшасаў: "Я прыйшоў за тваей дзяўчынай Мядок-гушань; калі ты моцны, то і я моцны", і шчоўкнуў пальцам. Ад гэтага шчаўчка раптам спусьцілася з неба маланка і разбурыла ўсе горы. Але хан аракшасаў нават не пачуў гэтага. Царэвіч яшчэ раз шчоўкнуў пальцам і загадаў маланцы спусьціцца на дом. Толькі калі смаляны горад пачаў раставаць і вагацца, хан аракшасаў спусьціўся з ільвінага пасада, пакланіўся ў ногі царэвічу і прамовіў:

"Будзь літасьцівы да мяне".

Пасьля гэтага ён цалкам перастаў ужываць чалавечыну і зрабіўся манахам, выконваючым абеты настаўніка Будды.

Ён спаліў і дыванок із чалавечай скуры, спінку із чалавечай скуры і зрабіў замест іх шаўковы дыванок і шаўкавую спінку.

Царэвіч падняўся па лесвіцы на верхні паверх палаца, а там – залатое возера; калі ён падняўся вышэй яго па 399 прыступках, то там выявілася на вышыні 2000 прыступак сем разных дамоў із сямі каштоўнасьцей.

На самым краю бірузовы дом: каля дзвярэй бірузовага дома бірузовая дзяўчына сядзіць і сукае бірузовую нітку. Царэвіч загадаў:

"Адчыні дзверы".

Дзяўчына адказала: "Што гэта такое? Хто гэта жадае зайсьці сюды, сказаўшы мне як сабаку, лежачаму каля дзвярэй – прэч".

Царэвіч адказаў:

"Неўжо, пасьпяхова прайшоўшы каля шматлікіх аракшасаў і іхнага хана, я буду затрымлівацца праз нейкую блакітную дзяўчыну".

Тады дзяўчына адчыніла дзверы. Царэвіч даў ей адзін каменчык бірузы і зайшоў.

У сярэдзіне выявіўся срэбный дом; каля дзвярэй срэбнага дома срэбная дзяўчына сукае срэбную нітку. Гэтая дзяўчына, гледзячы левым вокам на нітку, а правым на царэвіча, зрабіла яму правай рукой знак добразычлівасьці і прамовіла:

"Як добра было б адным правесьці ноч з такім прыгажуном перараджэнцам бога", – і адчыніла дзверы.

Царэвіч зноў аддаў адзін каменчык бірузы і зайшоў.

А там залаты дом, і сядзіць каля дзвярэй залатога дома залатая дзяўчына і сукае залатую нітку. Гэтая дзяўчына, прамовіўшы тое ж, што і срэбная, адчыніла дзверы. Царэвіч зноў аддаў адзін каменьчык бірузы і зайшоў.

А там хрустальны дом, і сядзіць каля дзвярэй хрустальная дзяўчына і сукае хрустальную нітку. Зрабіўшы як папярэднія, і гэтая адчыніла дзверы. Царэвіч аддаў ей адзін каменьчык бірузы і зайшоў.

А там дом із рубіну. Каля дзвярэй рубінавага дома сядзіць рубінавая дзяўчына і сукае рубінавую нітку. Яна, зрабіла як папярэднія, таксама адчыніла дзверы. Царэвіч аддаў яшчэ адзін каменьчык бірузы і зайшоў.

А там дом із лазурыка; каля дзвярэй дома із лазурыка сядзіць лазурыкавая дзяўчына і сукае лазурыкавую нітку; і гэтая дзяўчына, зрабіла як ранейшыя, адчыніла дзверы. Царэвіч аддаў яшчэ адзін каменьчык бірузы і зайшоў.

А там дом із выконваючага ўсе жаданні каменя зендамані; каля дзвярэй сядзіць зендамані-дзяўчына і сукае нітку зендамані. І гэтая дзяўчына, зрабіўшы як папярэднія, адчыніла дзверы. Царэвіч аддаў ей круглы каменьчык бірузы і зайшоў.

А далей – сорак дзевяць дзяўчын, усе па сямі. Сем трымаюць ахвяры, сем – кадзільніцу, яшчэ семь спяваюць салодкагучныя сьвятыя напевы. Яны, забаўляючыся, разам павялі яго.

Паглядзеў царэвіч і бачыць: ад сямі каштоўнасьцей працягнуліся па палацу прамяні, а сам палац із унутранага боку ўвесь упрыгожаны парасонамі, падвескамі і шарамі з пахучымі травамі. Але сам царэвіч, выпраменьваючы із сябе тысячу сонечных прамянёў, ледзь ці не перавысіў усё гэта сваёй веліччу і пайшоў далей.

Яга завялі і пасадзілі на залаты пасад. Сорак дзевяць дзяўчын, стоячы перад ім, засьпявалі свяшчэнную песьню. На чале іх была дзяўчына больш высокая; знаходзячыся на першым месцы, яна заспявала свяшчэнную песьню, а астатнія паўтаралі за ёй. Упрыгожванні і адзенне сарака дзевяці дзяўчын былі ўсе з боскімі адзнакамі. Царэвіч падумаў пра галоўную дзяўчыну, якая была вышэй за ўсіх:

"Верагодна, гэта і ёсць мая дзяўчына Мядок-гушана". Ён прывітаў яе.

"Дачка дзесяцігаловага хана аракшасаў Мядок-гушана, сапраўднае пераўтварэнне Дары-эхе, як ваша зрароўе?" – памовіў ён.

"Добра, а вы царэвіч бенгальскай краіны – сапраўднае пераўтварэнне Ханшым бадзісаці, ці ўдала даехалі?"

"Добра", – адказаў ён. Яны добра пачаставалі царэвіча і паклалі спаць.

Вечерам, перад сном, дзяўчына Мядок-гушана сказала:

"Пайду ж я ды паслухаю, як нашы аракшасы маюць намер паставіцца да цябе".

Ранкам яна прыйшла і паведаміла:

"Яны кажуць, што сёння вас завязуць на могілкі Сенгель[10], а там вас з’ядуць". Яна дала яму залатое люстэрка і прамовіла: "калі вы пачнеце баяцца, то пакажыце гэта". Царэвіч ўзяў залатое люстэрка і чакае, што адбудзецца. Знізу прыйшоў ліст:

"Калі ласка сюды".

Царэвіч прыйшоў, а аракшасы сказалі:

"Ідзіце на нашы могілкі". Царэвіч адказаў:

"Можна".

І вось адзін аракшас, не давёўшы яго да самога месца, паказаў:

"Вось, – кажа, – па гэтай дароге ідзіце", і вярнуўся назад. Царэвіч пайшоў на могілкі. Там бягуць памёршыя коні, ператварыўшыяся ў адны белыя косткі, і ржуць:

"З’ем, з’ем".

За імі памёршыя тыгры, ільвы і разнастайныя звяры і мерцвякі падступаюцца да яго, крычучы: "з’ем, з’ем ". Целы натоўп. Паглядзеў ён угару, а там засталася дзірачка велічынёй з дымавую адтуліну юрты. Забаяўшыся, ён выцягнуў люстэрка і паказаў. Раптам усё знікла.

Пахадзўшы там крыху, ён вярнуўся. Аракшасы пачалі распытваць яго:

"Царэвіч, ці добра правёў час?"

"Добра", – адказаў ён. Калі ён зноў наблізіўся да хана, той зноў загадаў яму ісьці наверх. Калі ж ён падняўся на верхні паверх, сорак дзевяць дзяўчын зноў

[10] Апавядальнік сам не разумеў гэтае слова: відавочна, што Сінгаля – г.зн. Цэйлон, месца жыхарства аракшасаў.

сустрэлі яго каля дзвярэй лазурыковага палаца і з музыкай правялі яго адтуль. Дзяўчына Мядок-гушана запытала:

"Ці добра пагулялі?"

"Добра", – адказаў ён.

Затым ён паеў, а як пачалі класьціся спаць, дзяўчына Мядок-гушана зноў пайшла паслухаць, – "пра што размаўляюць аракшасы".

А поўначы яна прыйшла, разбудзіла царэвіча і кажа:

"Заўтра аракшасы намераны выправіць вас у сто-пакаёвы палац". Яна дала яму ключы ад ста пакояў і яшчэ нейкі пухлы белы прадмет, падобны на жабу, і кажа:

"Калі будзеце ў сотым памяшканні, то пакажыце яго, калі забаіцеся, а калі будзе магчымасць, то паспрабуйце наогул не заходзіць у сотае памяшканне". Ранкам прыйшоў ліст:

"Прагуляйцеся па нашаму сто-пакаёваму дому".

Ён пайшоў. Адзін аракшас пайшоў правесьці яго. Царэвіч, адчыніў адным ключом першае памяшканне, зайшоў у яго. А там вада і ў ёй разнастайныя дрэнныя невядомыя істоты, – гэта ў вадзе-та! Перайшоўшы ўброд цераз яе, ён выбраўся на другі бок і зайшоў у другое памяшканне. Там зноў вада і яшчэ горшыя істоты; і так далей. Нагледзеўшыся на ўсе гэтыя жахлівыя істоты, падышоў ён да дзвярэй сотага памяшкання і намерыўся было вярнуцца, але быўшы пры ім аракшас пачаў прасіць яго:

"У нашым сотым памяшканні ёсць цікавыя рэчы, дык вы ж зайдзіце ў яго".

Царэвіч, адчыніў яго сваім ключом, зайшоў. А там крывавае мора, у крывавым моры істота, нападобе павукоў, толькі велічынёй з дом – вось якія вялікія істоты прыбягалі, каб з’есьці яго. Царэвіч спалохаўся і паказаў ім свой прадмет, падобны на жабу. Усе яны, перапалохаўшыся, збеглі.

Калі царэвіч вярнуўся, аракшасы запыталі яго:

"Ці добра вы правялі час?"

Ён адказаў:

"Добра!" – і пайшоў наверх. Сорак дзевяць дзяўчын зноў сустрэлі яго каля дзвярэй бірузовага палаца і павялі адтуль з музыкай. Дзяўчына Мядок-гушана пытае яго:

"Ці добра вы пагулялі?"

Царэвіч адказаў: "Добра".

Затым ён зноў паеў, і пайшоў спаць.

А дзяўчына Мядок-гушана зноў выправілася падслухоўваць. У поўнач яна прыйшла назад і паведаміла:

"Заўтра яны згаварыліся ўзяць вас гвалтоўна. Але мы з вамі ўдваіх паднімемся рана і паедзем на магутным кані-слане: вы чытаючы замову розуму, а я буду чытаць замову мудрасьці. Тады нам абодвух ніхто не пашкодзіць; вы заўтра пойдзеце да майго бацькі і паведаміце пра наш ад’езд; калі ён вам на гэта адкажа – дам пасаг, – то адкажыце яму, што возьмеце толькі тады, калі дадзіце каштоўную чароўную пасудзіну". Ранкам дзяўчына выправілася пытацца ў бацькі. Хан адказаў:

"Едзьце, а калі я буду падаваць знак, ты кожны раз прыязджай: вы мне абодва будзеце паказваць шлях у сучасным і ў будучым жыцці. Што б ні здарылася, я буду трымацца вас.

Дзяўчына паднялася наверх, а царэвіч таксама пайшоў пытацца. Хан адказаў: "Едзьце. І ў гэтым, і ў будучым жыцці вы абадва будзеце абараняць маё жыццё і,

калі я буду падаваць знак, вы кожны раз прыязджайце. А што ж вы возьмеце ў пасаг?"

Царэвіч адказаў: "Пасагу нам не патрэбна".

Хан прамовіў:

"Мне абавязкова патрэбна даць зяцю з дачкой пасаг. Я лічу, што ў гэтым сьвеце няма нікога больш заможнага чым я, так што мне сорамна не даць пасаг зяцю з дачкой".

Царэвіч адказаў:

"Калі дадзіце вашу чароўную пасудзіну, то мы возьмем; нічаго іншага нам не патрэбна".

Хан прамовіў:

"Ва ўсім гэтым сьвеце ні ў кога такой рэчы няма; чаго б вы ні захацелі – усе будзе выходзіць із гэтай пасудзіны"; і ён аддаў яму пасудзіну.

Дзяўчына і царэвіч селі на магутнага каня-слана, і пры выпраўленні загадалі сямі дзяўчынам, сямі каштоўнасьцям, сямі брамніцам:

"Калі мы будем падаваць знак, вы кожны раз прыходзьце.

На шляху іх намерыліся пабіць гарамі. А яны, чітаючы замову разуму і замову мудрасьці і перадаўшы павады Чатыром Невымяральным Дасканаласьцям, – едуць сабе далей. І ніхто не асьмеліўся ладзіць ім перашкоды.

Калі яны ехалі далей, сустракае іх хан чорных драконаў з вялікім войскам і запрашае да сябе. Яны абодва заехалі. Ён іх вельмі добра пачаставаў, паразмаўляў з імі, а як наступіў ім час ехаць, і – пасьля тага, як хан чорных драконаў выйшаў у іншы пакой гатаваць падарункі – прыйшла найпрыгажэйшая дзяўчына і, схапіўшы царэвіча за правую руку, прамовіла:

"Што, калі б я паехала з вамі ў якасьці вашай малодшай жонкі?"

Царэвіч запытаў у жонкі:

"Ці спатрэбіцца яна нам, калі мы яе возьмем з сабой?"

Мядок-гушана адказала:

"Вельмі спатрэбіцца".

Царэвіч сказаў дзяўчыне:

"Можна", – і дадаў: "ты запытай у свайго бацькі".

Яна запытала, а бацька адказаў:

"Навошта ты будзеш яму патрэбна? Чалавек вязе з сабой сапраўднае пераўтварэнне зялёнай Дары-эхе, дачку хана аракшасаў Мядок-гушану! Што ён будзе з табой рабіць, з валасатым жоўтым чарвяком?"

"Будзе яму і ад мяне карысць, яны самі сказалі – забярэм цябе". Бацька адказаў:

"Добра".

Дачка яму яшчэ сказала:

"Ты паднясі мяне гэтаму царэвічу – даю, маўляў, яе вам у падарунак".

А потым прыйшла да яго і гаворыць яму:

"Мой бацька пагадзіўся; калі ён пры нашым выпраўленні ў дарогу пажадае даць пасаг, вы адкажыце, што пасаг не патрэбен, а калі ён абавязкова пажадае даць, то адкажыце: дайце вунь тую падвешаную чорную казіную шкуру і палку, што ляжыць побач".

Тады хан чорных драконаў аддаў дачку са славамі: "даю ў падарунак вам гэтую маю дачку", – і царэвіч прыняў яе з вялікай падзякай. Як прыйшоў ім час ехаць, хан кажа: "я дам пасаг", а царэвіч адказаў: "не патрэбна пасагу". "Не", –

запярэчыў хан, – мне патрэбна вам даць пасаг: на гэтым сьвеце, я лічу, няма чалавека больш заможнага за мяне; мне патрэбна даць пасаг". Царэвіч адказвае: "дайце вунь тую падвешаную чорную казіную скуру з кіем, што каля яе", – хан аддае і гаворыць: "У гэтым сьвеце акрамя мяне ні ў кога такой рэчы няма. Калі вы, стукнуўшы па ёй, прамовіце – з'явіся, якая заўгодна, вада, – то з'явіцца вам такая вада, якую вы толькі пажадаеце".

Забраўшы з сабой гэта, яны паехалі далей.

На іхных шляху хан белых драконаў з вялікім войскам сустракае іх, частуе іх і запрашае:

"Заедзьце да нас, пачастуйцеся гарбатай".

Яны заехалі; былі годна прыняты, а як пачалі збірацца ў дарогу, – як толькі хан белых драконаў выйшаў у другі пакой гатаваць падарункі – прыйшла найвялікшая прыгажуня дзяўчына і, узяўшы царэвіча за правую руку, запытала яго:

"А што, калі б і я паехала з вамі ў якасьці вашай жонкі?"

Ён запытаў у сваіх абодвух жонак. Яны абедзьве адказалі:

"Патрэбна ўзяць яе з сабой".

Царэвіч сказаў ей:

"Ідзі запытай у бацькі".

Дзяўчына запытала ў хана белых драконаў; ён адказаў: "Навошта ты яму патрэбна? Ад такога, як ты, валасатага жоўтага чарвяка якая будзе карысць для чалавека, які вязе з сабой дачку дзесяцігаловага хана аракшасаў і дачку хана чорных драконаў?"

Дачка адказала яму:

"Не, я ім спатрэблюся, і сам царэвіч сказаў: дайце мяне ім і прамоўце: падношу ў дар, і тады яны возьмуць".

Хан белых драконаў адказаў:

"Добра".

Дзяўчына прыйшла да царэвіча і кажа: "Мой бацька пагадзіўся; калі ён пры нашым выпраўленні пажадае даць пасаг, то адкажыце, што пасаг не патрэбен; а калі ён скажа – дам абавязкова, – то адкажыце: дайце падвешаны вунь там драўляны коўш". Царэвіч адказаў: "Добра". Зайшоў хан белых драконаў і кажа: "Даю вам у падарунак маю дачку". Царэвіч прыняў яе са славамі:

"Як гэта добра!" Калі прыйшоў час ехаць, хан прамовіў:

"Мне патрэбна даць зяцю з дачкой пасаг".

Царэвіч адказаў: "Пасаг не патрэбен".

Хан белых драконаў адказвае:

"Мне патрэбна вам даць пасаг; я лічу, што на гэтым сьвеце я самы заможны чалавек".

Тады царэвіч папрасіў:

"Дайце ваш драўляны коўш, што вісіць вунь там".

Хан адказаў:

"Добра", – аддаў і сказаў: "На гэтым сьвеце ні ў каго акрамя мяне такой рэчы няма. Калі раз ударыць ім аб зямлю, сказаўшы пра якае заўгодна дрэва – з'явіся, – то з'явіцца дрэва, якае б вы ні пажадалі".

Калі яны, забраўшы гэта, паехаў і ўсе верхам на магутным кані-слане, то ім было і чацьвярым вольна.

Калі яны пачалі набліжацца да старога аракшаса, царэвіч сказаў сваім тром жонкам:

"Так як я еду на чужым кані, то не годна, пасадзіўшы на яго верх траіх, яшчэ і самому з імі ехаць".

Ён злез з каня, і павеў яго за аброць, кіруючыся да старога. Стары кланяецца ім да каленяў і вітае іх. А Мядок-гушана, калі яны блізка пад’ехалі да старога, прамовіла:

"Навошта ты прапусьціў гэтага малайца? Ці не табе мы даручылі сьцерагчы дарогу. Навошта ты прапусціў? Праз тое, што ты прапусьціў, вось ён і вязе мяне з сабой!"

Стары адказаў ей:

"Чалавек, які вязе вас з сабой, сапраўднае пераўтварэнне зямной Дары-эхе. Ён абавязкова пройдзе, праз такога трухлявага, абадранага старога, як я, толькі надаваўшы аплявух".

Мядок-гушана адказала:

"Гэта ты правільна сказаў. Які ты добры чалавек: не будем больш гаварыць пра тое, што ты яго прапусьціў".

Яны памаліліся чароўнай пасудзіне, і яна пабудавала для старога трохпавярховы замак і дастала яму з неба ўсе пяць радаў быдла па сотне кожнага роду; з неба ж далі яму пастухоў, надглядальнікаў за быдлам, служак, кухара і дастаткова ўсякага дабра; цалкам забаранілі яму ўжываць чалавечыну, і прызначылі яго прычотнікам. Стары аракшас быў вельмі рады, царэвіч пачаў прасіць у яго магутнага каня-слана. Стары з вялікай радасьцю аддаў яго яму і, калі яны паехалі на ім у чатырох далей, ён застаўся вельмі задаволены.

Так царэвіч са сваімі трыма жонкамі даехаў да Банга-ханскіх уладанняў, пакінуў сваіх трох жонак у сваім палацы, а сам зайшоў да хана-бацькі і прамовіў:

"Я прывез кветку Мядок-гушана: у якім стане хвароба нашай матухны, ці ў стане яна прыняць кветку?"

Матухна адказала:

"Ранейшая мая хвароба за гэты час прайшла, а зараз мяне напаткала іншая. Калі з’ем кветку Мядок-гушана, то гэта зараз не дапаможа".

Сын пайшоў да бацькі і кажа яму: "Запытай у яе – якія ж, маўляў, нам выкарыстаць сродкі, каб вы акрыялі".

Царыца адказала:

"Пабудуйце такі сяміпавярховы палац, каб у ім размясьціўся ўвесь народ бенгальскай краіны, каб на даху гэтых сямі паверхаў было залатое возера, каб вышэй залатога возера было 299 прытупак, а вышэй іх семь розных палацаў із сямі каштоўнасьцей з тысяччу веж, па чатырох баках палаца каб было чатыры вялікія возеры, па васьмі прамежкавых накірунках сусвету; каб было чатыры маленькіх возеры, каб былі вакол гэтых васьмі азёр разнастайныя плады і выдатныя дрэвы, каб былі лясныя птушкі, а ў вадзе вадзяныя птушкі: паўліны, лебедзі і нават птушкі розных сартаў з пявучымі салодкагучнымі галасамі. Вось, калі такі дом пабудуеце і я пачну жыць у тым доме, то я і акрыяю".

Хан сказаў свайму сыну:

"Матухна гаворыць, што калі такі дом пабудуеце, то, маўляў, ачуняе".

Тады старэйшая жонка, даўшы знак сямі брамніцам-дзяўчынам, загадала гэтым дзяўчынам гуляць са сваім чалавекам. Усе тры жонкі дасталі тыя каштоўнасьці, якія кожнай із іх далі іхныя бацькі. Мядок-гушана, памаліўшыся чароўнай пасудзіне, пабудавала палац згодна з тым як паведаміла тая жанчына; а затым сказала дачцэ хана чорных драконаў:

"Пакажыце вашы здольнасьці".

Дачка хана чорных драконаў як стукнула восем разоў па казінай скуры, дык па чатырох баках палаца ўтварыліся чатыры вялікія возеры, а па васьмі прамежкавых баках чатыры маленькія возеры. Мядок-гушана сказала дачцы хана белых драконаў:

"Пакажыце вашы здольнасьці".

Тая стукнула па зямлі два разы драўляным каўшом. І выраслі дрэвы згодна з тым як загадала тая жанчына. Яна памалілася на чароўную пасудзіну, і заспявалі ў лясах лясныя птушкі, у вадзе вадзяныя і усё, як загадала тая жанчына. Тады тры жонкі пайшлі да царэвіча і паведамілі яму; ён вярнуў сем дзяўчат па дамах і, зайшоўшы да хана-бацькі, сказаў:

"Я выканаў".

Хан пайшоў да жонкі і перадаў ей. Жонка зайшла ў той вялікі палац і, калі, зайшоўшы ў возера, мылася, хан запытаў:

"Як твая хвароба?"

Яна адказала: "дзьве траціны засталося".

"Што ж мне зрабіць, каб ты акрыяла цалкам?"

Жонка адказала:

"Вось гэты паўднёвы горны хрыбет зрабіць велічынёй са скарлупіну яйка, на яго вяршыні пакінуць расьці вялікае дрэва галварбарас; па чатырох яго баках утварыць чатыры крыніцы, каб із тых крыніц ва ўсе бакі цякла вада па залатых канавах. Каб былі на берегах чатырох азёр такія ж чатыры дрэвы, каб былі вакол чатырох азёр дрэвы, перапоўненыя выдатнымі пладамі і кветкамі; каб на гары запар былі дрэвы; каб вакол чатырох азёр спявалі ў водах вадзяныя птушкі, у лясах – лясныя птушкі; каб на верхавіне дрэва галварбарас, што на макушцы гары, напалову багі чыталі свяшчэнныя кнігі. Калі вы мне пабудуеце вось такую пабудову, то я ачуняю".

Хан перадаў сыну:

"Зрабіце вось такую пабудову".

Сын адказаў: "Добра". Ён зайшоў у свой палац і перадаў сваім тром жонкам. Мядок-гушана, памаліўшыся на сваю пасудзіну, ператварыла гару ў памеры яйкавай скарлупіны. Дачка хана чорных драконаў, стукнуўшы чатыры разы па сваёй казінай скуры, наладзіла па чатырох баках гары чатыры крыніцы, і вада пацякла із іх па залатых канавах. Дачка хана белых драконаў стукнула некалькі разоў сваім драўляным каўшом па зямлі, і вырасла на вяршыні гары залатое дрэва галварбарас, і з’явіліся ўсе дрэвы згодна з загадам той жанчыны. Дачка хана аракшасаў памаліўшыся на сваю чароўную пасудзіну, пасадзіла на вяршыні дрэва галварбарас, што на макушцы гары, напалову багоў бадзісатваў, і загадала ім чытаць свяшчэнныя кнігі. Стварыла у лясах – лясных, у водах вадзяных птушак, словам, усе зрабіла так, як загадала тая жанчына, і паведаміла царэвічу. Ён выправіў семярых дзяўчат вяртацца дадому, зайшоў да свайго хана-бацькі і паведаміў яму гэта. Той перадаў сваёй жонцы:

"Усё выканаілі".

А яна адказала: "Яшчэ адна частка маёй хваробы засталася".

Тады ўсе тры жонкі царэвіча разам з ханам зайшлі да яе і прамовілі:

"Мы прыйшлі вас ацаліць; два жаданні мы ўжо выканалі; як вы зараз сябе адчуваеце?"

Яна адказала:

"Дзьве траціны маёй хваробы зніклі, а адна засталася".

Тады Мядок-гушана запытала:

"Чья вы дачка?"

"Я дачка небажыцеля".

Мядок-гушана прамовіла:

"У нашых нябесных краінах такіх дзяўчат не бывае; я дачка хана аракшасаў і такой дзяўчыны не бачыла".

"Я нябесная дзева із ведамства хана чорных драконаў".

Тады дачка хана чорных драконаў сказала:

"Не, я дачка хана чорных драконаў, у нашай краіне такой дзяўчыны не бывала".

"Я нябесная дзева із ведамства хана белых драконаў".

Тады дачка хана белых драконаў сказала:

"Я сама дачка хана белых драконаў, і ў яго краіне такой дзяўчыны не бачыла".

Тады хан сказаў:

"Што гэта ты запэўнівала, што ты чалавек із нябесных краін? Чаму ты блытаешся? Чыя ж ты ўсё ж такі дачка?"

Жанчына збянтэжылася. Мядок-гушан сказала:

"У нябесных краінах яна, магчыма, была, а адкуль я магу ўсіх ведаць". І вось усе тры прапанавалі ёй:

"Вам нельга больш выказваць свае жаданні, ці нельга зараз нам самім прыгатаваць для вас лекі?"

"Можна".

Усе тры выйшлі і пачалі раіцца. Мядок-гушан загадала дачцы хана чорных драконаў:

"Зрабі з дапамогай чарадзейства залатую крыніцу; а потым, падаўшы знак вашаму бацьку, паспрабуем забіць гэтую ведзьму".

Дзяўчына адказала: "добра"; стварыла залатую крыніцу і дала знак бацьку. Бацька адказаў: "прыйду". Гэтыя тры дзяўчыны прынесьлі ханшу ў залатое возера і кажуць:

"Калі вы ў гэтае наша возера ўвойдзеце, то напэўна акрыяеце".

Яна зняла вопратку, зайшла ў возера і мыецца. І вось із самой сярэдзіны возера выйшла істота з адным рогам на галаве і, толькі было яна намерылася выйсьці на бераг, як яна зачапіла яе на рог і зацягнула ў ваду.

Тады Мядок-гушана, ператварыўшыся ва ўзор жонкі хана, зайшла да яго і, сеўшы побач з ім, прамовіла:

"Я ведзьма; твайго сына, увасабленца бога я не змагла загубіць. Падманліва прыкінуўшыся хворай, я выправіла яго да хана аракшасаў з намерам, каб ён быў з'едзены аракшасамі. Ён вярнуўся цэлы і непашкоджаны імі. Потым, калі я загадала – пабудуй вялікі палац і іншае – я думала, што ён не здолее і што, напэўна, збянтэжыўшыся, сыдзе прэч, а ён выканаў усё, што я загадала. Я ужо не магу з'есьці твойго сына, я з'ем цябе".

Яна адышла да дзвярэй, перакулілася на спіну, а калі пачала паднімацца, то ператварылася ў вострa-кіпцюрную чорна-стракатую сьвінню і кінулася да хана. Хан закрычаў і паклікаў сына. Сьвіння выбегла прэч і, выбегшы за палац, ператварылася ў Мядок-гушану і зайшла ў палац.

Сын падышоў да хана. Хан, плачучы, сказаў сыну:

"Ад гэтага часу я не буду браць сабе жонак; зраблюся мніхам; запрасіце майго беззаганнага знакамітага ламу". Сын пайшоў і сказаў Мядок-гушане:

"Ці не тая гэта самая ведзьма палохае нашага бацьку?" Жонка адказала:

"Нет, гэта я зрабіла, каб вызваліць хана-бацьку ад захапленняў".

"Добра! А ці запрасіць нам да яго беззаганнага знакамітага ламу, ці не?"

Мядок-гушана адказала: "Няма патрэбы спяшацца".

Яна ператварыла свой безыменны палец у жанчыну непараўнальна больш прыгожую чым  яго ранейшая жонка-ведзьма, і загадала прыслужваць хану. І яна пакінула пры ім тую жанчыну амаль на месяц. Але хан цалкам не выказваў захаплення. Тады, выдаліўшы жанчыну, Мядок-гушана прывяла да яго беззаганнага знакамітага ламу і зрабіла бацьку мніхам.

Тры жонкі яго сына зайшлі да яго і прамовілі:

Я дачка хана аракшасаў,

Я дачка хана чорных драконаў,

Я дачка хана белых драконаў, – кожная назвала свайго бацьку; хан бацька вельмі ўзрадаваўся гэтаму і, сышоўшы ў бязлюднае месца, пасяліўся там самотнікам.

Тады царэвіч, застаўшыся з трыма найпрыгажэйшымі жонкамі, пачаў жыць вельмі весела. Старэйшая із жонак – увасабленне зялёнай Дары-эхе – дачка хана аракшасаў; сярэдняя із жонак – увасабленне Дулма Таныржані – дачка хана чорных драконаў; малодшая із жонак – увасабленне …[11] – дачка хана белых драконаў, а сам царэвіч быў увасабленнем Ханшым-банісатвы".

Ці магчыма нават і гэтую казку паставіць у паралель, напрыклад, з мастацкімі казкамі Андэрсана? Ці вось, напрыклад, хоць казкай Ксенні Марозавай "Зоркі":

"Была ціхая калядная ноч. Неба іскрылася і ззяла бясконцымі мірыядамі яскрава зіхацячых зорак, пяшчотна струмяніўшых сваё залацістае сьвятло. Здавалася, кожная зорка жадала гарэць як мага яскравей і паказаць сябе ва усім сваім бляску і прыгажосьці.

– Па-праўдзе, яшчэ, здаецца, ніколі не было такой цудоўнай ночы, – гаварылі людзі, гледзячы на неба.

– А зоркі-та! Так і гараць! Можна падумаць, што яны сёння апранулі свае самыя бліскучыя строі і разам з намі святкуюць калядную ноч.

Так гаварылі людзі, глядзеўшыя на неба. Але такіх людзей было няшмат.

Ужо даўно прайшлі тыя часы, калі ўсе дзеці зямлі шукалі вырашэнне сваіх жыццёвых лёсаў у вышынях небеснага сусвету, калі яны з тужлівым маленнем паварталі свае погляды да ззяючага начнога неба, імкнучыся прачытаць суцяшэнне і адказ у той цудаўнай сакрамэнтальнай кніге зоркнага сусвету, цудоўней за якую чалавецтва яшчэ ніколі не чытала.

Большасць людзей перастала разумець гэтую кнігу, – неба зрабілася для іх незразумелым і маўклівым. Але калі б яны змаглі вярнуць сабе веру і шанаванне ранейшых стагоддзяў, і змаглі б прачытаць у гэтую ночь тое, што гаварылі ім зоркі, – іхныя сэрцы запоўніліс бы бясконцай радасьцю і чаканнем. І гэтая радасць была б такой вялікай і чаканне такім магутным, што яны пажадалі б пераліць іх у сэрцы будучых пакаленняў.

А на небе, як і заўсёды, ішло сваё асобнае сусветніцкае жыццё…

– Ці ўсе вы тут, сястрычкі-зоркі? – звярнулася бліскучая Вега да бясконцага мноства сваіх нябесных сяброўак.

[11] Апавядальнік забыўся імя

– Ці ўсе вы адкрылі свае ззяючыя твары, ці ўсе вы ведаеце, чаму мы так асабліва ўрачыста святкуем сёняшнюю ноч?

– Мы ўсе тут. Мы ведаем, мы даўно чакалі гэтага часу! – адказалі ёй зоркі сваім міргаценнем.

– Вось прайшлі ўжо білліёны і білліёны стагодзяў нашага жыцця, – зноў загаварыла Вега, – але што для нас, нябесных сьвяцілаў, азначае час? Стагоддзі і тысячагоддзі – нашы імгненні, але нават і нам, зоркам, чаканне здалося доўгім. Нарэшце сёння настала тая велічная і ўрачыстая ноч, калі згодна з цудаўным абяцаннем звыш павінна з'явіцца на небе наша малодшая сястра, якая мае назву зорачка Надыходзячага Шчасьця Зямлі. Сёння яна выйдзе із ззяючага хаоса Пляяд і загарыцца такім яскравым бляскам, перад якім пацямнее святло астатніх сьвяцілаў.

– Толькі людзі яшчэ не хутка заўважаць яе, – прамовіла сваімі шматкаляровымі пералівамі чароўная Капэла. – Пройдзе яшчэ цэлая тысяча гадоў, перш чым яе дайшоўшыя да Зямлі прамяні паведамяць людям пра яе з'яўленне. Яны толькі яшчэ мараць пра гэтую зорку і не ведаюць, наколькі блізкае ці далёкае іхнае будучае шчасьце.

– Нам адным вядома будучыня дзяцей зямлі, – зноў зашапталі сваім міргаценнем менш бліскучыя сёстры асляпляюча яскравых Капэлы і Вегі. – Мы так даўно начамі праліваем сваё святло на Зямлю, нашу любую маленькую сяброўку, што даўно шануем яе і жывучых на ёй людзей. Мы ведаем і бачым, колькіх цяжкіх ахвяр, страт, крыві каштуе ім іхнае жыццё. Мы ўсе сёння жывем жыццём Зямлі і таму ўсе святкуем гэтую ноч. Пашлём жа нованароджанай сястры – заступніцы Зямлі, – наша зоркавае прывітанне і праспяваем ёй сімфонію сусветаў, полную трапятання нашых светаносных сэрдцаў.

– Прывітанне табе, новая сястра! – заспяваў хор незлічоных зорак.

– Прывітанне табе, чароўная Зорка Надыходзячага Шчасьця Зямлі! Мы ўсе зараз жадалі б быць з табой, мы ўсе чакаем цябе. Адкрый жа свой светлы погляд, міргні нам сваім зіхацячым промнем!

І нованароджаная зорка шырока адчыніла на божы сусвет свае яскравыя здзіўленыя вочы; яна заззяла лагодным блакітнаватым сьвятлом, і ў яе прывітальным міргаценні пасылаўся адказваючы радасны шэпт.

– Мне мроілася ў зіхацячым хаосе Пляяд, што я створана для шчасьця зямных людзей. І так, гэта азначае, што мая мара збылася. Я буду асьвятляць шлях шчасьлівых. Хвала Сусвету! Хвала светламу туману, даўшаму мне жыццё!

І яе радасны голас зліўся з трыумфуючым гімнам зорак…

І вось, хаця яскравыя прамяні нованароджнай Зоркі Надыходзячага Шчасьця Зямлі павінны будуць дайсьці да нашай планеты толькі праз тысячу гадоў, але іхны таямнічы ўплыў ужо і зараз адчуваецца на людзях. Некаторыя із іх, гледзячы на неба ў гэтую ноч, адчулі ў сваёй душе не адну так лёгка знікаючую надзею, але і непераадольную ўпэўненасць у наступленні шчаслівых будучых часоў.

А мацней і непераадольней за іншых адчуў гэта цёмнавокі бледны дзіцёнак, прагна прыпаўшы тварам да вакна невялікага пакоя далёкага гарадка.

Ён увесь дзень чакаў, калі пакажацца першая зорка. Ён выпрасіў у маці дазваленне пасьціцца цэлы дзень, але і зараз, хаця ўсё неба ззяла зоркамі, яго немагчыма было адарваць ад вакна.

Што гэта? Гірлянды святла, нябесныя гукі! Усё неба іскрыцца і гарыць!.. Зорныя прамяні перакрыжоўваюцца, пераплятаюцца, цягнуцца і ўюцца. Усюды гімны ўрачыстасьці і карагоды зорак!

– Мама, мілая мама, гэта не сон, не, не сон! Сёння нарадзілася маленькая, шчаслівая зорка. Людзі будуць шчаслівыя, яны павінны ў гэта верыць і гэта ведаць! Я пачуў сёння размову зорак.

Задыхаючыся ад хвалявання, ён падбег да маці, прытуліўся галавой да яе каленаў і, захлынаючыся ад радасьці, паведаміў ёй усё, пра што ў гэты вечар гаварылі зоркі. Вочы яго гарэлі, бледны тварык быў пакрыты яскравымі плямамі чырвані.

– Любы мой хлопчык, ты, мабыць, крыху заснуў, – пяшчотна сказала маці, ласкава перабіраючы яго шаўкавістыя валасы. – Так, мой любы хлопчык стаміўся чакаць першую зорачку і пабачыў такі добры сон… А магчыма, ён будзе паэт? Ён будзе, як і іншыя паэты, распавядаць людзям пра песьні зорак і радоваць іхныя сэрцы светлымі далячынямі будучага.

– Не, мама, любая, – упэўнена пярэчыць дзіцёнак, – я зусім не спаў. Я ні на хвіліну не закрываў вачэй. Я сядзеў так ціха, як мышка, і мне толькі хацелася даведацца, ці адчуваюць і думаюць зоркі так, як і мы, і чаму яны сёння незвычайна яскрава ззяюць. І вось я пачуў, так выразна пачуў іхныя пяшчотныя галасы! Яны перапляталіся з іхным залацістым святлом, і здавалася, зліліся ў адно, яскравае і разам лагоднае ззянне. І вось які гімн я пачуў новай маленькай зорачцы: "Прывітанне, прывітанне табе, малодшая шчаслівая сястра". Ён і зараз гучыць у маіх вушах.

І ён пачаў паўтараць пачутую ім у нябёсах зоркавую мелодыю чуллівым, дзіцячым галаском.

– Ну, гэта азначае, ты будзеш ў мяне музыкай, – вымавіла, усьміхаючыся, маці.

Яна задумліва паглядзела ў вакно.

– Так, мой любы хлопчык! Ты, як вялікі Бетховен, здолееш падслухаць і перадаць музыку месяцовых і зоркавых прамянёў.

І яна не здавалася на гарачыя перакананні свайго сына, быццам бы ён сапраўды чуў размову і гімн зорак.

Яе вочы з пяшчотнай матулінай клапатлівасьцю глядзелі на яго разгарачаны і ўсхваляваны твар. Усё жыццё яна чакала лепшых, але ніколі не наступіўшых для яе, часоў. Яе розум ужо адмаўляўся верыць у іх, але ў яе змучаным жыццём сэрцы, міжвольна, нараджалася невыразная, як першы вясенні матылёк, трапяткая надзея, што, магчыма, яе хлопчык ўсё ж выявіцца маючым рацыю і людзі пабачаць хоць калі-небудзь, хоць праз сотні стагоддзяў, – яскравае сьвятло новай зоркі, абяцаючай ім будучае шчасьце".

У мяне няма ніякай магчымасьці перапісваць тут для параўнання з азіяцкімі казкамі больш працяглыя еўрапейскія мастацкія казкі, якімі можна напоўніць сотню тамаў, тым больш немагчыма перепісаць еўрапейскія раманы ці нашы курсы астраноміі, мяханікі, хіміі і г. д. Для разумення кантрасту сучаснай мастацкай еўрапейскай навукі з чыста першабытнымі азіяцкімі творамі, нападобе толькі што прыведзеных мной, цалкам дастаткова таго, што я тут размясьціў.

Нам застаецца толькі здзіўляцца, як магуць нават і зараз існаваць людзі, лічачыя сябе адукаванымі, але верачыя таму, што недзе ў цэнтры Азіі, у Тыбеце, у Далай-ламы ці ў неведомых яшчэ адгалінаваннях Гімалайскіх гор існуюць мудрацы, веды якіх пераўзыходзяць нашы еўрапейскія? Якім чынам магуць быць людзі, здолныя верыць, што ў вельмі старажытныя часы ў азіяцскіх краінах ужо існавала высокая разумовая культура, але загіўшая і зараз забытая?

Бо сьвятло ведаў, як і фізічнае сьвятло, распасьціраецца ва ўсе бакі, і толькі непераадольныя фізічныя перашкоды магуць яго засланіць ад той ці іншай мясцовасьці, а ніякіх такіх перашкод, якіх нельга было бы абысьці, мы не знаходзім ні паміж рознымі часткамі Азіі, ні паміж Азіяй і Яўропай.

Цалкам зразумела, што пры вялікіх фізічных катастрофах, нападобе, напрыклад, сутыкнення зямлі з каметай, можа загінуць целая палова зямнога шара, але ніякіх прызнакаў такога сутыкнення на азіяцскім кантыненце няма. Эндэмічныя хваробы, нападобе чумы ці воспы, бывала знішчалі значную частку насельніцтва Яўропы, але і яны не мелі наступствам яе здзічэнне; рэвалюцыі ў канчатковым выніку мелі толькі паляпшэнне грамадзкага ўладкавання, і новы

пад’ём навукі, тэхнікі і нават вытанчаных мастацстваў, якія заўсёды здаваліся асабліва пацярпеўшымі ў первыя гады грамадзкіх узрушэнняў.

Дык якім жа чынам у вялізнай Азіі, дзе столькі прасторы для знаходжання прытулку, магло ранейшае высокае і вялікае ператварыцца ў тое наіўнае, што мы тут чытаем? Мы шмат чытаем дзіўнага ў сучасных гісторыях азіяцскага ўсходу. Уласна кажучы, усе там поўніцца цудамі. Возьмем хаця б з’яўленне адтуль, як із табакеркі з фокусам, вялікіх настаўнікаў: Выратавальніка Хрыста з берагоў Мёртвага мора, распаўсюдзіўшага сваё вучэнне па усёй Яўропе, а затым і Амерыцы, і Аўстраліі, і дастаслаўнага прарока Магамета, напісаўшага сярод пустыняў Аравіі свой Каран і распаўсюдзіўага сваё вучэнне па усёй паўначы Афрыкі і па ўсёй паўднёва-захадняй Азіі. А вось із гэтай жа табакеркі з фокусам з’явіўся і Будзіцель-Будда, у нейкай невядомай зараз Капэле Басту, размяшчаўшайся, як пераконваюць нас, недзе ў глыбіні Гімалаяў. І дзіўная справа! У той час, калі ў еўрапейскіх культурных гарадах – Парыжы, Рыме, Лондане, Берліне, Вене, Пецярбургу – выбітныя навукоўцы, аднойчы ўзнікшы, ужо не пераводзіліся да нашага часу і, верагодна, будуць працягваць існаваць і далей, у гэтых глухіх гарадках з’яўляўся заўсёды на ўсім працягу іхнага існавання толькі адзін найвялікшы, пераўзыходзячы ўсю колькасць парыжскіх ці берлінскіх навукоўцаў геніяльны чалавек, які, заззяўшы на ўвесь сусвет асьляпляючым святлом, пазней прападаў невядома куды, а нарадзіўшы яго гарадок зноў апускаўся ў цемру нікчэмнага існавання ў той час, як выйшаўшыя із яго магутныя хвалі несьліся па астатняму сьвету.

Але ж гэта недарэчна!

# Глава X

## Буддызм прыйшоў у Азію не з Гімалайскіх, а з Карпацкіх гор.

Так! Сучасная гістарычная навука, калі яна мае намер сапраўды стаць сапраўднай навукай, павінна раз і назаўсёды парваць з такімі ўяўленнямі. Калі геніяльныя людзі нярэдка і нараджаліся ў глухой правінцыі, то ўсе яны сфармаваліся ў культурных цэнтрах свайго часу. Інакш быць не магло. І калі б нам паведамілі, што Хрыстос, нарадзіўшыся на берегах Мёртвага мора, атрымаў сваю адукацыю ў Канстантынопалі, а Магамет хаця б і ў Каіры, а Буда ў старажытным культурным горадзе Буда на правым беразе Дуная, у Вугоршчыне, які разам з горадам Печ на левым беразе той жа ракі зараз атрымаў падвойнае найменне Буда-Пешт (першапачаткова Будзі-Печ, па-немецку ён да гэтага часу мае назву Offen), – то мы нічаго не маглі б сказаць супраць гэтага. Цалкам наадварот.

Бо ўсе гісторыкі Вугоршчыны запэўніваюць нас нават у тым, што Буда-Пешт, ён жа “Будзі-Печ”, быў заснаваны Будай, якога лічаць братам Аціла, аб’яднаўшым пад сваёй уладай, а як следства і рэлігіяй усе гунскія плямёны ад Дуная да Волгі. І тая абставіна, што гэтага Буду-Будзіцеля пазнейшыя хрысьціянскія аўтары ператварылі, праз сугучнасць у Блуду (ці Бляду) <…>, паказвае, што ён быў заснавальнікам нейкага свайго асобнага культа. І вось узнікае пытанне: ці не распаўсюдзіўся буддызм не із нікому невядомага гарадка ў Гімалаях, а із Вугоршчыны на ўсход у V стагодзі нашай эры?

У апошнім выпадку я мог бы нагадаць чытачу тое, што ўжо згадваў у другой кнізе “Хрыста” у главе “Дамаск ці Дармецк?”. У той час, як Дамаск по-жыдоўску

мае недарэчны сэнс “Мяшок Крыві”, слова Дармецк, наадварот, мае вельмі прыдатны для культурнага цэнтра сэнс: горад Спадчыннага Кіравання. І вось ва ўсіх выпадках, калі ў біблейскай кнізе Цароў ці ў “Прароках" ён по-жыдоўску пішацца Дамаск <…>, ён жа ў кнізе Забытыя Справы (Параліпаменон) пішацца Дармецк. Із гэтага зразумела, што гэтае найменне агульнае, сэнс якога проста «Сталічны горад", не пазначаючы яго асабістага наймення, а ўсе прыкметы яго месцазнаходжання паказваюць менавіта не на Палестыну, а на Вугоршчыну, але само сабой зразумела, што калі Вялікая Рамея была перанесена сярэднестагоддзевымі тэолагамі ў Палестыну, а Цар-Горад патрапіў у Эль-Кудс (псеўда-Ерусалім), у наваколлі Мёртвага мора, то і знаходзіўшыся на поўнач ад Дармецка-Будапешта горад Спадчыннага Кіравання перакачаваў у такае ж становішча адносна Эль-Кудса, а потым пачаліся розныя асіміляцыі яго да новай уяўляемай мясцовасьці, і паміж іншым перасяленне туды знакамітага хрысьціянскага тэолага сярэдніх стагодаў Яна Дамаскіна (г. азн. Яна Спадчыннага Кіравання, 676–777), які жыў на адно стагоддзе раней Карла Вялікага, якому я, між іншым, прыпісваю і евангелле Яна, напісанае ўжо на грэцкай мове. У ім упершыню бог прыраўноўваецца да Слова, перадаючага ўяўленне пра прадмет, і там жа упершыню мы бачым выразны намёк на перасяленне душ, так як аўтар не двухсэнсоўна уяўляе сябе адраджэнцам непасрэднага вучня Хрыста. Вось гэта цікавае месца:

"Паглядзеўшы назад, Пятро бачыць ідучага за ім вучня, якога шанаваў Езус, і які на вячэры, прытуліўшыся да яго грудзей, вымавіў: «Гасподзь, хто здрадзіць табе?" Заўважыўшы яго, Пятро сказаў (адыходзячаму назаўсёды) Езусу: “А ён што”?

– Калі я жадаю, каб ён існаваў, калі я прыду (другі раз на зямлю), што табе да таго?

І пранеслася слова паміж братамі (ў Хрысьце), што вучань той не пamрэ. Але Езус не сказаў яму: «не памрэ", а толькі «калі я жадаю, каб ён існаваў, калі я прыду другі раз на зямлю, то што табе да таго".

Гэты вучань і сведчыць, і напісаў усё гэта (глава 21, 20-24)".

Такое заканчэнне выразна паказвае, што аўтар, які, грунтуючыся на складзе і ідэалогіі дадзенай кнігі, мог быць толькі Янам Дамаскінам, сапраўды лічыў сябе адраджэнцам уяўляемага ім шануемага вучня Езуса, г. азн. прыйшоў да пераканання пра перасяленне душ.

Адным словам, у Буда-Пешце VIII стагоддзя Ян Дамаскін, якім нам яго малююць нашы першакрыніцы, цалкам на сваім месцы, а у сірыйскім Дыметку ён уяўляецца выскачыўшым як із табакеркі з фокусам.

Нагадаем зараз і агульную гісторыю Вугоршчыны пад час сярэдніх стагоддзяў.

Нас пераконваюць, што першапачаткова яна была заселена славянамі, але пад час «Вялікага перасялення народаў" яе захапілі мангольскія народы гуны, а у IX стагоддзі мадзяры ці вугры, інакш венгры, як быццам бы прыйшоўшыя із Азіі праз Волгу, разам з хазарамі і захапіўшыя гэты край.

Я не буду тут выказваць сумневы супраць магчымасьці такіх пераТасовак народаў пры качавым побыце, а толькі пазначу, што калі качавыя народы мангольскага паходжання і прыйшлі ў Вугоршчыну із Сярэдяй Азіі, то з’явіліся яны сюды не як прадстаўнікі нейкай вышэйшай культуры, а наадварот, самі падпалі пад тут пад такую і перамяшаўшыся са славянскім насельніцтвам і яшчэ захаваўшы лінгвістычную сувязь са сваёй радзімай, як напрыклад ангельцы і гішпанцы пры перасяленні ў Амерыку, самі панесьлі на сваю ранейшую радзіму тую рэлігію і культуру, якую яны запазычылі ад Вялікай Рамеі і ад сутыкаўшыхся з

ёю і з імі германскіх і паўночна-італьянскіх народаў. Але першае, што яны маглі тут засвоіць, гэта рэлігійнае веравызнанне, г. азн. вучэнне пра ўвасабленне бога, пра яго сьмерць, ажыванне, адлёт на неба і пра яго маючае адбыцца вяртанне для ўцаравання на зямлі.

Хрысьціянскія аўтары адносяць першыя народа-перасяленні яшчэ да часоў Дыяклетыяна, на прыканцы IV стагоддзя, што супадае, з нашага боку гледжання, з арыянскім рухам і тлумачыцца рэзкім абуджэннем сейсмічнай дзейнасьці Везувія, адлюстраваным у Бібліі ў збяганні божага (г. азн. па-грэцку зеўсава) народа із Міц-Рыма, што тэолагі тэндэнцыйна пераносяць у глыбіню стагоддзяў і акрамя таго перамяшчаюць гэта найменне, азначаючае Высакамерны Рым з берагоў Тыбра на берагі Ніла. Само найменне гэтых перасяленцаў – вандалы – паказвае, што першыя іхныя правадыры выйшлі із Вандэі, г. азн. із заходняй Францыі, пры гэтым да іх далучыліся зрабіўшыяся актыўнымі франкскія і германскія плямёны аж да ракі Одэр у сучаснай Усходняй Германіі да межаў з палякамі і іншымі славянскімі народамі.

Але як жа гэта магло здарыцца?

З нагоды таго, што ў старажытнасьці і нават на пачатку сярэдніх стагоддзяў у сярэдняй Яўропе яшчэ не існавала ніякіх пратаптаных пастаянных калёсных шляхоў, усе аддаленныя падарожжы ў ёй маглі здзясняцца толькі па плыні рэк, і мы такім чынам можам лічыць за факт, што із Вандэі ў Італію можна было патрапіць толькі па плыні Луары, перайшоўшы у басейн Роны і разышоўшыся па яе прытоках, перабрацца ў басейн старажытнага Эрыдана-Ярдана у Ламбардыі, а затым ужо берагам мора ад вусьця адной папярэчнай рэчкі, служыўшай зручнай гаванню, да вусьця другой, дабрацца і да Цудоўных краін Неапалітанскага заліва, пасьля тага, як больш культурнае жыццё насельнікаў паўднёвай Італіі зведала жахлівы удар ад пачаўшыхся ў ёй мясцовых тэктанічных узрушэнняў верхняга пласта зямнога шара, нарэшце закончыўшыхся жахлівым вывяржэннем даўно заснуўшага к таму часу Везувія.

Збегшыя на поўнач па тых жа водным шляхах у спакойныя мясцовасьці служкі культу разам з натоўпамі суправаджаўшага іх народу, спачатку падпарадкавалі гэтыя краіны свайму акультурваючаму ўплыву, а потым, калі ўсё супакоілася і іхныя дзеці пажалі вярнуцца на чароўную радзіму сваіх продкаў, яны ж самі, стаўшы правадырамі гэтых напалову дзікіх краёў, і захапілі іх з сабой. І цікава, што і да гэтага часу паблізу вусьцяў Луары (?) існуе горад Сьвяты Назарэт <…>, найменне, з якім злучаецца евангельская легенда пра месца нараджэння яе «Вялікага цара". Ды і старажытная назва сучаснай ракі По, толькі ў навейшыя часы згубіўшай у Ламбардыі сваё ранейшае найменне Ярдан, і само найменне Галіі (таго ж лінгвістычнага кораня, як і евангельская Галілея) і найменне горада Каны <…> Галілейскай бліз Ніцы, цэнтра вінаробства, адлюстраваўшайся, як у люстэрку, у евангельскай Кане Гальскай (Галілейскай), дзе Хрыстос ператварыў ваду ў віно; усе гэтыя лінгвістычныя сляды, застаўшыяся ў мовах заходнееўрапейскіх народаў, вядуць нас да паходжання хрысьціянскай рэлігіі із Вандэі, ад вяртаўшыхся адтуль на радзіму дзяцей першапачатковых уладароў сярэдзіннай Італіі. І з гэтага боку гледжання гістарычныя паданні пра нашэсьце на Італію вандалаў, г. азн. вандэйцаў, быццам бы зруйнаваўшых валадарачую да той пары у ёй класічную культуру (згодна з карэннем першапачатковым значэннам класічнае чарадзейства), атаясамляюць першае "перасяленне народаў" з распаўсюджваннем із Галіі-Францыі першапачатковага, яшчэ архаічнага хрысьціянства.

Потым у IV стагоддзі, як нас пераконваюць, – гэтыя “вандалы” завалодалі (не столькі зразумела, колькасцю перакачаваўшага насельніцства, колькі сваім тэакратычным уплывам) Сілезіяй і Маравіяй і нават Панoніяй (г. азн. зямлёй панаў – Польшай), а на захадзе Яўропы Гішпаніяй і, перебраўшыся праз Гібралтарскі пралів, прылягаючай да яе часткай паўночна-афрыканскага берага, хаця і патрэбна вельмі і вельмі сумнявацца, што “Вандальскае каралеўства” Гензерыха, адносімае да 439 года нашай эры, мела сваім цэнтрам быццам бы невядома для чаго разбураны ў VII стагоддзі арабамі міфічны Карфаген. Размешчаны на краю Туніскай пустыні і аддзелены ад Італіі морам і ад Гішпаніі пустынямі, ён мог бы быць у пазначаным нам для яго месцы толькі прыбежышчам адшчапенцаў ад свету, ці адной із прыморскіх факторый сярэднестагоддзевага рамейскага гандлю, дзе жылі як у высылцы, а не ў сталіцы магутнай дзяржавы, для якой ён цалкам не прыдатны са стратэгічнага боку гледжання.

Калі король вандалаў Гензерых і сапраўды заваяваў (тасама, бяспрэчна, у тэакратычным значэнні слова) у палове V стагоддзя Корсіку, Сардынію і Сіцылію, і нават разрабаваў Рым у 455 годзе, то ён мог зрабіць гэта толькі із так званага Новага Карфагена класікаў[12], зараз маючага назву проста Картагена, і да гэтага часу квітнеючага як вайсковая гавань і месца значнага гандлю на паўднёвым беразе Гішпанскай паўвыспы. Толькі із гэтага месца і можна дапусціць яго рымскую экспедыцыю і ўсе іншыя, якія яму прыпісваюцца. І мы бачым, што лінгвістычныя сляды прыводзяць нас прама да той высновы, што ўварванне вандалізму із паўночнай і заходняй Яўропы ў Італію, было толькі зваротным адбіццём хвалі панічнага збягання туды італьянскіх тэакратаў і іхных служак із межаў іхнай устрасаемай і засыпаемай вулканічным попелам роднай зямлі.

Зараз пяройдзем і да другой фазы таго ж псеўда-перасялення целых народаў. І тут лінгвістычныя сьляды прыводзяць нас да адваротных высноваў, чым тыя, якія нам усляюць перайшоўшыя ў міфы паданні нашых старажытных продкаў.

Першая вандэйская хваля перасялення народаў прайшла, як мы толькі што бачылі, у Італію, Гішпанію і Афрыку із Вандэі з крайняга французкага захаду Яўропы, а наступная за ёй другая – гунская ці ханская – хваля нахлынула на Вялікую Рамею з Усходу на прыканцы IV і пачатку V стагоддзя, калі з’явіўся згодна з нашымі вылічэннямі Апакаліпсіс, і яе нагодай зноў маглі быць толькі папярэднічаўшыя сейсмічныя падзеі, у саміх адзіна культурных тады Рамейскіх краінах.

Аміян-Марцэлін, лічымы за гісторыка канца IV стагодзя, і Кратонскі біскуп Ярдан-Ярнанд, адносімы да VI стагоддя, апісваюць іхны знешні выгляд згодна з мангольскім узорам. Але справа ў тым, што абодва гэтыя аўтары апакрыфічны, Іхныя кнігі, грунтуючыся на іхным складзе і ідэалогіі, належаць ужо Эпосе Адраджэння, ды і астранамічна я ўжо даказаў[13] не існаванне сонечнага зацьмення, як быццам бы назіраемага Марцэлінам у 360 годзе нашай эры, што адразу кампраментуе і ўсё астатняе апавяданне, у тым ліку манголападобнасць гунаў. Наш гісторык Д. Я. Ілавайскі лічыў іх за славян, што нашмат больш праўдападобна, а некаторыя навейшыя даследчыкі спрабавалі атаясаміць іх з продкамі сучасных вугорцаў. Аднак ўсе гэтыя здагадкі былі чыста субъектыўнымі меркаваннямі, так як найменне гуны ў першы раз ужытае на прыканцы IV стагоддзя, ужо знікае із нашых першакрыніц у VI, калі яны згадваюцца ў ліку іншых народнасьцей у

[12] Хаця і само найменне Картаген азначае Новы Горад.

[13] Хрыстос, кн. IV, стар. 354-356.

войску рамейскага вайскавога правадыра Нарзэса, змагаўшагася з готамі ў 554 годзе.

Найбольш праўдападобным лічыцца іхнае атаясамленне з Хун-Ну некаторых летапісаў знойдзеных у Кітаі, і напісаных ідэаграфічным малюначным пісьмом, так што дакладнае вымаўленне вызначыць немагчыма. І калі ўжо кіравацца лінгвістычнімі слядамі, то тут мы зноў прыходзім да дастаткова нечаканых высноваў: слова гуны <…>, хун-ну і ханы відавочна аднаго і таго ж кораня, але **h** пастаянна пераходзіць у **й**, як мы гэта назіраем у гішпанскіх словах Хуан замест Іаан, Хасэ замест Ёсіф і г. д. Але ж ад хуана да хана прамежак не больш вялікі, чым ад карла да караля. І калі ад найменя Карл утварыўся тытул кароль, то чаму ж і ад Хуана (г. азн. Першасьвятара Яна, правільней Іаана) не ўтварылася на ўсходзе тытул хан[14]? Пры гэтым Іаан (згодна з юдэйскай транскрыпцыяй ЙУН, а пры звычайным пераходзе Й у прыдыханне ХУН) азначала проста іаніец, г. азн. грэк і з гэтага боку гледжання гунамі давялося б лічыць грэкаў, паміж якімі к таму часу павінна было мець вялікае пашырэнне апакаліптычнае хрысьціянства, прадказваючае хуткі прыход на зямлю ажыўшага Хрыста і знікненне усіх зямных цароў.

Не будзе вялікай нацяжкай, калі і імя Іаан перакласьці Божы Князь, лічачы, як і заўсёды, у імёнах юдэйскага паходжання першы склад ІО за скарачэнне імя Іегава, канчатак АН за згубіўшае сваё прыдыханне пад час сярэдніх стагоддяў слова ХАН (так і Магамет па-грэцку пішацца Маамет, без прыдыхання). Тады і найменне грэкаў іанійцы можа паходзіць ад іанітаў, а не ад лётаючых там горлінак.

З такога боку гледжання гунны (ці ханы, ці яны, ці іоны) з'яўляюцца толькі мясцовым найменнем іанітаў-апакаліптыкаў, і ўвесь гунскі рух у Яўропе набывае характар распаўсюджвання апакаліптычнага хрысьціянства, якое, будучы пераможаным у Вялікай Рамеі, якая ў гэты час не была знясілена ніякімі сейсмічнымі катастрофамі, накіравалася на еўрапейскі захад, а потым і за Урал на азіяцкі ўсход. З гэтага боку гледжання брат Аціла – Будда, магчыма гістарычная асоба, і быў вынаходнікам доменнай печы для массавай вытворчасьці чыгуну, наступствам чаго і горад, дзе ён дзейнічаў, атрымаў назву Буда-Печ, па-славянску Буда-Пешч, ператварыўшуюся пазней (дзякуючы таму, што гук шч з'яўляецца шьч) у Будапешт, а па-нямецку проста ў Печ (Ofen), пад гэтым найменнем ён і да гэтага часу вядомы ў немцаў.

Якім жа быў тады этнаграфічны склад насельніцтва гэтай краіны?

Зараз яна на сваёй мясцовай мове мае назву <…> – краіна мадзьяр, по-славянску Вугрыя, і яе насельніцтва складаюць каля 42% мадз'яры, 15% сербы і харваты, 11% славакі, 2% русіны, 4% жыды, 13% румыны, 12% немцы, а астатнія – каля 1% – прыпадаюць на баўгар, албанцаў, грэкаў, італьянцаў, цыган і г. д. А ў рэлігійным дачыненні ў ёй каля 51 % рымска-каталікоў, галоўным чынам, мадз'яры, а із астатніх веравызнняў каля 15% праваслаўныя, каля 10% – уніяты, каля 13% – пратэстанты, каля 4% юдэі.

Уся гэтая разнастайнасць народнасьцей і веравызнанняў сведчыць пра былую складанасць і неустойлівасць яе рэлігійнага жыцця, дзякуючы разнароднасьці яе племяннога складу, уяўляючага сумесь разнастайных моваў, із якіх галоўная, мадзьярская, належыць да галіны вугорска-урала-алтайскіх моваў, відаць, раней быўшых больш распаўсюджанымі па ўсёй Яўропе, чым зараз.

[14] Аналагічна гэтаму і імя Ганна першапачаткова гучала Ханна, г. зн. княгіня, жонка хана.

Галоўнае із яе адгалінаванняў – вугорска-фінскае (фіна-вугорскае). Важнейшай із усіх моваў гэтага адгалінавання, па сваёй культурнасьці і па сваёй літаратуры і з'яўляецца вугорская, да якай асабліва блізка стаяць гаворкі асьцякоў і вагулаў, распаўсюджаныя па паўночнаму Ўралу і за ім у Табольскай і Томскай губернях, якія аддзелены ад Вугоршчыны вялікімі прасторамі рускай мовы, распаўсюдзіўшайся не інакш як ад балканскіх славян, і замяніўшую існаваўшую тут раней вугорскую мову. Дакладна так жа адрэзана рускай мовай ад свайго вугорскага цэнтра і найбольш адышоўшая ад яе фінская – суомі – якую, дарэчы, дарэмна лічаць старажытнейшай і нават першапачатковай у гэтым адгалінаванні; яшчэ эстонская ў Эстыі, ліфляндская, лапландская і хутка знікаючыя ў рускім моры выспачкі чарамiскай паміж Казанню і Ніжнім Ноўгарадам, мардоўскай паміж сярэдняй плынню Волгі і паўднёвым Уралам, зыранскай, вацякскай і пермякскай, на паўночным-усходзе Еўрапейскай Расіі.

Другое адгалінаванне вугорска-ўрала-алтайскіх моваў – самаедзкая, – распаўсюджана ў колькасьці чатырох гаворак па прыбярэжжу Паўночнага акіяна ад Белага мора да Янісея; (самаеды, як і папярэднія, належыць да хрысьціян і знаходзяцца яшчэ на самай нізкай ступені культуры, дзякуючы ўласьцівасьцям сваёй краіны).

Трэцяе адгалінаванне вугорска-ўрала-алтайскіх моваў – цюркска-татарскае – асабліва шматлікае, прасьціраецца ад Балканскай паўвыспы з нязначнымі перарывамі да возера Байкал і ракі Лены. Яго самая распрацаваная і пашыраная гаворка асманлі ці турэцкая на прыканцы XIX стагоддзя ахоплівала, як валадарачая мова, усю еўрапейскую Турцыю і Малую Азію, а вельмі роднасная яму чувашская гаворка, як выспачка, захавалася паміж Ніжняй Волгай і ракой Урал. Нагайская гаворка выкарыстоўваецца крымскімі татарамі і па паўночнаму ўзбярэжжу чорнага мора, кумыкская на паўночна-ўсходнім Каўказе, туркмена-джадатайская і ўзбекская – у Туркестане, кіргізкая – у Кашгарыі і паўднёвай Сібіры, і якутская – па плыні Лены.

Чацьвёртае адгалінаванне гэтых моваў, мангольскае, складаецца із: прыватна мангольскай гаворкі, пашыранай у паўночнай частцы Кітая і маючай сваю сілабічную пісьмовасць, на якой напісаны псеўда-пераклады тыбецкіх буддыйскіх твораў; некалькіх выспачак манчжурскай гаворакі, з'яўляючайся разам з папярэдняй выбітным прадстаніком гэтага адгалінавання, так як таксама мае з 1599 года самастойны альфабэт і некалькі літаратурных помнікаў; бурацкай гаворкі па Байкалу; калмыцкай, маючай гукавы альфабэт, на захад ад яе; розныя тунгускія гаворкі, ахопліваючыя паўночны-ўсход Азіі ад Янісея да Ціхага акіяна, і ад Ледавітага акіяна да Цэнтральнага Кітая.

Гэтыя чатыры галоўныя адгалінаванні гэтых моваў маюць мала сугучных словаў, і іхнае падабенства выяўляецца галоўным чынам у агульнасьці граматычнага ўладкавання, але гаворкі аднаго адгалінавання, за выключэннем першага – вугорска-фінскага, – настолькі мала адрозніваюцца адна ад другой, што не прашкаджаюць прамым стасункам; гэта падобна, напрыклад, на верхне-нямецкую і ніжне-нямецку, рускую і ўкраінскую.

Звычайна думаюць, што кожнае роднаснае адгалінаванне моваў распаўсюдзілася із той краіны, у якой валадарыць яго самая простая гаворка, але няма нічага больш памылковага чым такое меркаване. Больш шансаў за тое, што шырока распаўсюджаная мова нарадзілася менавіта ў той мясцовасьці, дзе яна паспела дасягнуць найвялікшай складанасьці. Прыклад гэтага мы бачым,

напрыклад, у французкай Канадзе, дзе амаль закансервавана французкая гаворка XVIII стагоддзя, ці ў Ісландыі, у якой захаваліся скандынаўскія сагі, ужо знікшыя на сваёй радзіме. Так і ва ўсіх іншых выпадках.

Што да разумовай культуры, то яе распаўсюджванне із вялікіх культурных цэнтраў у менш культурныя краіны, а не наадварот, здавалася б, цалкам не патрабуе ніякіх доказаў, і калі мне ў якасьці падцверджання такога натуральнага закона давялося напісаць восем тамоў, то выключна таму, што ранейшыя аўтары як бы загіпнатызавалі нас, і таму немагчымае пачало нам здавацца не падлягаючым ніякім сумневам ці пярэчанням, якія толькі раздражняюць, а не пераконваюць.

Вось, напрыклад, хаця б і ў гэтым выпадку. Мы бачым, што спачатку кожная рэлігія развівалася толькі ў вызначаным лінгвістычным басейне. Так, каталіцызм, пачаўшыся у Рыме, як у культурным цэнтры, спачатку ахапіў краіны з раманскімі мовамі: Італію, Францыю, Гішпанію. А калі ён перабраўся ў чужыя лінгвістычныя басейны, то следам за тым, як у дастатковай ступені была распрацавана іхная нацыянальная культура, ён быў адкінуты, даўшы пачатак новым, больш дасканалым культам пратэстнцкага накірунку. Так і ўсходняе праваслаўе спачатку распаўсюдзілася пераважна ў асяроддзі народаў славянскага лінгвістычнага басейна, і таксама са свайго цэнтра – Вялікай Рамеі, якая пад час сярэдніх стагоддзяў мела напалову славянскае насельніцства, захапіла разам з тым і параўнальна нязначную прастору грэцкай мовы.

Але вось з’явілася магаметанства са сваім Каранам… Здавалася б і яно, як ахапіўшае ўвесь цюркска-татарскі лінгвістычны басейн, культурным цэнтрам якога была Малая Азія, павінен быў адтуль атрымаць першпачатковы імпульс для свайго распаўсюджвання і па лініі найменьшага супраціўлення накірвацца на ўсход, а нас пераконваюць, што справа адбывалася наадварот, і яно прыйшло ў Малую Азію і завалодала із яе самім Цар-Горадам, пачаўшыся ў Аравійскай пустыні, і мы верым гэтай недарэчнасьці.

Возьмем зараз і буддызм. Нічым не падцверджаныя паданні, стаячыя на ўзроўні міфаў, пастаянна пераносяць месца дзейнасьці сваіх герояў калі не пряма ў завоблачныя краіны, то заўсёды за трыдзевяць зямель у трыдзесятае царства, пераконваючы, што ён з’явіўся із засыпаных снегам цясьнін паднябесных Гімалайскіх гор і абвешчаны там, згодна з узорам евангельскіх паданняў, увасобіўшымся богам са славянскім найменнем Будзіцеля (Буды)[15]. Еўрапейскія навукоўцы-тэолагі, прыязджаючы ў Індыю, даўно шукаюць гэтую мясцовасць, але да гэтага часу не змаглі знайсьці, і абмежаваліся суб’ектыўнымі меркаваннямі. Не знайшлі яе і сучасныя географы і этнографы. Відавочна, што там не было радзімы заснавальніка буддызму, і яе даводзіцца шукаць дзе заўгодна на зямным шары, нават і вельмі далёка ад галоўных мясцовасьцей пашырэння сучаснага буддызму, так як на сваёй першапачатковай радзіме ён мог даўно замяніцца іншай больш высокай рэлігійнай формай, чым тая якая была на самым пачатку. Бо нават і ў аддаленых краінах – Манголіі і Тыбеце – ён мог дастаткова моцна перамяніцца з той пары, як туды ўпершыню прыйшоў.

---

[15] Еўрапейскія навукоўцы, карыстаючыся сваім аднабокім лацінскім альфабэтам, пішуць гэтае, ўжо атрымаўшае ўсходні каларыт славянскае слова, напісаннем <...>. Але тут цалкам не адчуваецца падвойнага ***Д***, яны толькі спадзяваліся такім спосабам наблізіцца да гартаннага ўсходняга вымаўлення гука ***А*** на прыканцы гэтага словы, што добра памятаюць тыя жыхары Масквы і Пецярбурга, якія назіралі за людзьмі збіраўшымі паношаную вопратку і татарамі хадзіўшымі па дварах, пры гэтым крычаўшымі: "халат, халат!" Гэтае вымаўленне ***А*** вы лёгка адновіце, калі будзеце выкрыкваць гэты гук не адчыняючы шырока вусны, адным горлам.

Мы па усёй зямной паверхні шукаем нейкі культурны гарадок, які б захаваў такае імя для свайго заснавальніка, і раптам знаходзім толькі адзін: у Вугоршчыне, і пры гэтым яшчэ з дадаткам знакавага прыметніка: Пешч па-славянску і Offen па-нямецку з тым жа значэннем.

Для кожнага зразумела, што такая выключная назва горада не магла з’явіцца без асабліва значных падставаў, і таму яна можа быць больш надзейным кіраўніком нашых меркаванняў, чым розныя «сведчанні старажытных аўтараў", якія большай часткай служаць доказам іхнай уласнай недасведчанасьці і неадукаванасьці. А ў дадзеным выпадку мы можам смела сцвярджаць, што «Пешч Будзіцеля (Буды)", брата гуна Аціла, вакол якой утварыўся буйны прамысловы горад такога ж наймення, была не нейкай звычайнай хатняй печчу, а нечым грандыёзным і небывалым да той пары, нападобе той «вогненнай пешчы", у якую, згодна з біблейскай кнігай Даніiл, быў кінуты гэты прарок разам з трымя таварышамі, але ўсё ж не згарэў.

Усё гэта прыкметы «доменнай печы" для массавага вырабніцства чыгуна із руд, якія сапраўды існавалі ў гэтай мясцовасьці пад час сярэдніх стагоддзяў. Храналагічная сувязь гэтай падзеі з баляваннем Валтасара, які жыў ужо ў наступным пакаленні, і са з‘яўленнем пад час яго жыцця на небе каметы «Вогненная рука", напісаўшай на небе грозныя словы: «мен-мене, тэкел у парсін", што азн. вымяральнік адмераў: у Шалях і Пярсеі, – дазваляе вызначыць нават і прыблізную дату гэтай падзеі – грунтуючыся на летапісах, знойдзенных у Кітаі і прыведзеных у VI томе майго даследавання. Каметы з незвычайным шляхам ад Змеятрымальніка-Вымяральніка, да Шаляў і Персея – былі толькі два разы у 568 і 837 гадах, і першы выпадак быў сапраўды пад час другога пакалення пасьля біблейскага апавядання. Ці магчыма падумаць, што «Вогненная пешч" Навухаданосара існавала не ў Месапатаміі, а у Буда-Пешце?

У такім выпадку і тлумачэнне, якое аўтар прадказання даў шляху гэтай каметы: ад Шаляў да Персея “тваё царства згодна з рашэннем нябеснага суда пяройдзе да мідзян і персаў" – даводзіцца перакласьці: «да мадзяраў і франкаў", так як старажытная назва французаў была парысы, адкуль і назва іхнага галоўнага горада Парыс. Так і рускія некалі мелі назву маскавіты, аднайменную са сваім галоўным горадам[16], а цікавей ўсяго тое, што ў самой Азіі, куды зараз змяшчаюць “персаў” і “мідзян”, няма і следу такіх краін, а толькі вядомы наймені Іран і Ірак, як жыхары называюць тую краіну, у якую тэолагі Эпохі Адраджэння выслалі сапраўдную тагачасную Персію – Францыю, а сябе нашы азіяцкія псеўда-персы паміж Каспійскім морам і Аравійскім залівам называюць выключна <…>.

Такім чынам лінгвістычныя сляды, а таксама і міфы, якія ніколі не будуць зразуметымі, пакуль мы не прывядзем іх у сувязь з лінгвістычнімі каранямі найменняў іхных дзеючых асоб, паказваюць нам на Буда-Пешт, як на першы металургічны цэнтр, дзякуючы ўзнікненню на гэтым месцы першай доменнай печы. Руда для яе магла ў дастатковай колькасьці прывозіцца із вугорскіх рудных гор і із іншых месцаў, так як уся гэтая краіна славілася пад час сярэдніх стагоддзяў сваімі рудамі. Гэтая ж акалічнасць павінна была ў свай час зрабіць Вугоршчыну цэнтрам прамысловай культуры, пакуль удасканаленне метадаў выплаўкі, вынаходніцства новых значных руднікоў у Багеміі і Эльзасе і спусташэнне ўласных не адсунулі яе на другі план. Але з развіццём прамысловых цэнтраў

[16] Слова "парысы" ўжываецца і ў Біблії (ПАРІДЗІ), але пераіначана ў рускім перакладзе ў “ферэзеі”, а мідзійцы (МДІ) таго ж кораня, як і мадзяры.

неразлучна связаны і пад’ём разумовай культуры, якая пад час сярэдніх стагоддзяў, дзякуючы яшчэ зародкаваму стану прыродазнаўства, была яшчэ непарыўна злучана з містыкай, а таму было б нават дзіўным падумаць, што Вогненная Печ Буды-Будзіцеля сапраўды не прабудзіла ўсю гэтую мясцовасць да разумовага жыцця, асноўная асаблівасцю якога, як і яго носьбіта «слова", з’яўляецца ўласцівасць распаўсюджвацца ва ўсе бакі, абыходзячы цяжкапераадольваемыя перашкоды.

Мы ўжо бачылі, што насельніцтва гэтай краіны і да гэтага часу вельмі перамешанае з перавагай мадзяраў, размаўляючых на вугорскай мове, якая з’яўляецца адгалінаваннем сямейства вугорска-ўрала-алтайскіх моваў. Пагэтаму цалкам натуральна, што і разумовы ўздым, пачаўшыся ў гэтай мясцовасці, павінен быў распаўсюдзіцца на ўсход, па прыбярэжжах Чорнага мора, дзе тады пераважала татарскае насельніцтва, і адтуль праз Каўказ, кіргізкія стэпы ў Манголію.

Але для тага, каб гэтая гіпотэза ператварылася ў тэорыю, небходна паказаць, што і згодна са сваёй асноўнай ідэалогіяй буддызм выводзіцца із апакаліптычнага хрысьціянства, нікольki не аспрэчваючы пры гэтым яго далейшага самастойнага развіцця, і нават яго прыстасавання да існаваўшых да яго ў тых краінах мясцовых культаў. Ужо адзін толькі пераход якой заўгодна рэлігіі ў басейн другой гаворкі мае наступствам яе аперцыпцыённае ўспрыманне мясцовым насельніцтвам.

# Глава XI

## Суд над буддыйскай душой. Буддыйскія дэманы Чой-Жыл і Эрлік-Хан. Буддыйскае пекла.

Уяўленні буддыстаў пра стан душы пасьля яе разлукі з цела з’яўяюцца, па сутнасьці, толькі варыянтным ускладненнем хрысьціянскіх. Толькі не патрэбна звяртаць увагу на адрозненне найменняў, што непазбежна пры пераходзе тых жа ўяўленняў у чужы лінгвістычны басейн.

Душу атачаюць два згуртаванні духаў, аналогічныя хрысьціянскім анёлам і дэманам. Адны маюць суровы выгляд, другія – прывабны; адны сыплюць ласкі і абяцанні, а другія ледзь ганурують полядам. Але гора душы, якая паддаецца лісьлівасьці, спакуснікі збіваюць яе з правільнага шляху і прымушаюць расплочвацца стогадовымі пакутамі.

А калі душа па-майстэрску пераможа іхныя спакусы, то ўяўна суровыя, але па сутнасьці добрыя духі (намун сакігулсан) бяруць яе пад сваю абарону і праводзяць да бога спагады Арыябала, які ў сваю чаргу уяўляе сабой асобны род сатаны, Чай-жылю, інакш Эрлік-Яамун-хану, для суда.

Чай-жыл некалі ўзначальваў паўшых анёлаў тэнгерынаў, і быў самым магутым з іх. Для яго щтаймавання бог выпраўляў шмат дакшытаў, але ні адзін із іх не мог яго адолець. Нарэшце справа была даручана Ўранманджу-шыру. У яго было 36 рук і 16 ног, ён загарадзіў імі адначасова щсе дзверы і вокны чай-жыльскага жалезнага палаца. Заняволены Чай-жыл даў клятву пакорлівасьці і абяцаў быць правасудным, а у гонар гэтага свайго абавязацельства павінен быў прыняць новае імя Намун-хан і атрыбуты – люстэрка і шалі. Але пры усіх сваіх паўнамоцствах узважваць справы кожнага, і затым накіроўваць кожнага ці ў царства святла ці ў пекла, ён служыць для ўсіх буддыстаў жахлівай постаццю.

Суд над душой у яго працягваецца сорак дзён, пры абароне добрага бога Арабола і ўсіх богаў, якім душа пры жыцці дагадзіла. Але ўсе ж вызначэнне яе лёсу залежыць ад аднаго Намун-хана. Ён уважліва вывучае справы душы і нарэшце ставіць яе перад люстэркам, здольным адлюстроўваць у сабе не толькі знешнія формы, але і самые таемныя якасьці. Даследаваная усімі такім чынам, сама сябе даследаваўшая, душа выслухоўвае яго прысуд, і следам за тым накіроўваецца нябачнай магутнасьцю на адзін са шляхоў, бяручых пачатак із палаца Намун-хана. Адзін вядзе ў пекла, другі да выпрабаванняў, трэцці да перараджэнняў і чацьвёрты у царства Сукавадзі.

Пекла – там, падзяляецца на дзьве часткі, у адной із якіх вечна гарыць полымя, а ў другой царуе жахлівы холад і цемра. У адной ад гарачыні нават горы растаюць, як воск, а у другой яны трэскаюцца ад холаду. Дзякуючы адсутнасьці друкавальнага станка і кананізаваных узораў, яго падрабязнасьці дастаткова адрозныя ў разных варыянтах.

Так, згодна з паданнем Мені-Гамбума, у ім існуе 16 аддзелаў: у 1-м аддзеле грэшнік адаецца ў ахвяру разным пачварам, у тым ліку і птушцы Гаруда. У 2-м – прыладай пакарання служаць дзьве чорныя гары, безперапынна то зближающыяся, то разыходзячыяся, зноў і зноў хапаючы грэшніка яны трушчаць яго косткі. Самі ж горы маюць падабенства з галавой барана. 3-е аддзел падобны на вялікую жалезную накавальню, і на ёй асуджаныя раздрабляюцца молатам на часткі. У 4-м драпежныя птушкі і розныя гадзіны з ненасытнай прагнасьцю нападаюць на прыйшоўшага і аб’ядаюць яго цела да костак. У 5-м аддзеле грэшніка распілоўваюць. У 6-м – усе жанчыны тысячаразова абварваюцца кіпенем. У 7-м – расьцягнутыя і прыбітыя цвікамі па руках і па нагах грэшнікі, асабліва паклёпнікі, абпальваюцца з ўсіх бакоў. У 8-м аддзеле вялікі ястраб перш за ўсё выклёўвае ў няшчаснай ахвяры вочы, а потым рве яе кіпцюрамі на часткі. У 9-м – яго колюць жалезнымі іголкамі. У 10-м жалезная птушка – Угулі, рве яго кіпцюрамі і потым з’ядае і цела і косткі. У 11-м прыладай пакарання служыць камень, падобны на карову, якім грешніку на гарачай пліце разбіваюць галаву. У 12-м з’яўляюцца пачвары, у здабычу якім дастаюцца чалавеканенавіснікі. У 13-м не спыняюцца дейнічаць пліты і накавальні, камні і молаты для пакарання праліўшых чалавечую кроў. У 14-м пакаранне здзяйсняецца шляхам варэння ў закрытым катле. У 15-м аддзеле пануе невыносны холад, ад якога цела пакрываецца пухірамі і распаўзаецца. У 16-м так дрэнна, што скрыгатанне зубамі, аб’яднанае з лямантам, не магуць заглушыць адзін аднаго.

Чытач бачыць, што гэтыя апісанні проста мазаічныя і відавочна выпадковыя ў сваіх дэталях, паказваючы яшчэ дзецкую фантазію. Але ці не такія ж мы бачым і ў творах нашых «натаўнікаў закона божага"?

Іншыя апісанні, не распавядаючыя пра гэтыя 16 аддзелаў, паведамляюць, што ўсё пекла складаецца із галоўнага пекла Аюстама, г. азн. Геены, прызначанага для вінаватых у сьмяроных грахах; за Геенаю ідзе пяць вузілішч, дзе пакутуюць вінаватыя ў грахах блізкіх да сьмяротных, а астатнія аддзелы занімаюць здейсніўшыя чорныя грахі.

Аюстам, – кажуць, – утрымлівае восемдзесят тысяч квадратных міль. Ён абгароджаны жалезнымі сьценамі і напоўнены расплаўленым чыгуном, у якім плаваюць грэшнікі, то апускаючыся да дна, то ўсплываючы на паверхню. Пры кожным апусканні цела згарае да костак, а пры кожным усплыванні адраджаецца, каб зноў згарэць і зноў адрадзіцца для новых пакутаў! А працягласць такіх пакут

вымяраецца 8 кубічнымі сажанямі дробных зярнят, якія вынімаюцца із вялікай пасудзіны, па адным праз сто гадоў.

Здараецца, што няшчасныя, заўважаюць із сярэдзіны адчыненую вонкі адтуліну пекла і імчацца да яе натоўпамі ў надзеі збегчы. Але пекла, пасмяяўшыся над зняволенымі, з ровам і клакатаннем сьціскае над імі сваю пастку, дадаючы да жахаў пакут яшчэ і жахі роспачы.

Гэтае паданне згадвае і іншыя 15-ць аддзелаў пекла, з тым толькі абмежаваннем, што пакуты ў пяці бліжэйшых да Аюстама – удвая, а у астатніх дзесяці аддаленых – утрая лягчэйшыя і карацейшыя. І ўсе гэта знаходзіцца непасрэдна пад нашымі нагамі ў сярэдзіне зямлі.

Другі шлях із палаца Эрлік-намун-хана прызначаны для ачышчэння тых грахоў, якія ўключаюцца ў катэгорыю слабасьцей. А так як чалавечых слабасьцей 48 тысяч, то і нягоды падзелены на такую ж колькасць частак.

Адны з іх размешчаны ў ярусах зямлі, на прасторы паміж пеклам і светам перараджэнняў, чаму і маюць назву пераходных і ўтвараюць сапраўды тужлівы і цесны шлях для душы. Вартая жалю вандраўніца не толькі зведвае тут розныя мытарствы, але часам нават бывае вымушана выцягвацца ў нітку, каб прайсьці праз тую ці іншую шчыліну.

Іншыя мытарствы адбываюцца згодна з узорам здзіўлення, усё спачатку размяшчае да заспакаення і радасьці. Душа бачыць тут перад сабой тыя самыя рэчы, якія некалі лашчылі яе самапавагу ці былі чуллівымі да яе, яна сустракаецца са сваімі старымі сябрамі, гатовымі да розных паслуг. Яна ўжо забываецца пра свае тысячагадовыя нягоды і збіраецца асьвяжыцца з імі каля ціха журчачага ручая. Але раптам адтуль замест ручая выходзіць гняздо шыпячых змей; працягвае руку каб абхапіць шануемага чалавека, – і агортвае пачвару; збіраецца сесьці пад цень дрэва – і садзіцца на гарачыя вуглі.

Усе гэта прыдумляюць для яе стыхійныя духі ў якасьці карнікаў за злоўжыванні ёю знешнімі пачуццямі. Яны хітрыкамі вядуць душу ад аднаго разачаравання да другога, то маняць, то палохаюць, то суцяшаюць, то робяць яе ахвярай свайго вераломства, пакуль, нарэшце, знясіленая ўзрушэннямі, але разам з тым і ачышчаная, душа робіцца неадчувальнай, каб пайсьці за межы сваіх нягод у сьвет перараджэнняў.

А якое ж перараджэнне і перасяленне душ?

Згодна з буддыйскай псіхалогіяй, душы падзяляюцца на рэчавыя і духоўныя. Рэчавыя нараджаюцца разам з целам пад уплывам цеплыні і вільгаці і робяць учынкі механічна пад кіраўніцтвам цела, і з яго разбурэннем знікаюць.

А вышэйшыя душы не маюць нічога агульнага з матэрыяй, яны пасяляюцца ў целе са знешняга свету і, кіруючыся меркаваннямі свайго розуму, здзяйсняюць стагоддзевае калоабарачэнне перараджэнняў.

Але гэта не таму, аднак жа, каб такой была першапачатковая воля лёсу, але дзякуючы сваім злоўжыванням, якія маюць наступствам тое, што першапачатковая душа вымушана цярпець перараджэнні ў асяроддзі чалавечага роду, і нават перасялення ў целы ніжэйшых істот.

Так, ганарыстым рыхтуецца выпрабаванне пасьля перараджэння ў асяроддзі людзей. Скваліныя будуць зведваць голад і смагу. Лянівых і неразважлівых чакае перасяленне ў цела бязмоўных стварэнняў. Вылюдкі і ўсе разбэшчаныя сэрцам не магуць мінуць лёсу дэманаў ірчагінаў і падобных ім істот. Тое ж павінны адчуць на сабе і шаманы.

А калі чалавек змог ачысьціць сваё сэрца ад каранёў зла і пасеяць у ім насенне дабра, у такім выпадку ён паднімаецца шляхам шчасьлівых перараджэнняў усе вышэй і вышэй да душэўнай дасканаласьці. Прыступкі падобнага ўзыходжання шматлікія: але вось важнейшыя із іх.

I. Нараджэнне ў правільнай веры пасьля нараджэння ў асяроддзі няверных.

II. Нараджэнне без ранейшых душэўных і цялесных недахопаў.

III. Нараджэнне, збліжаючае з мудрымі настаўнікамі.

IV. Нараджэнне, даючае магчымасць слухаць урокі закона.

V. Нараджэнне са здольнасьцю да навучання закону і да пасялення яго ў сваім сэрцы.

VI. Нараджэнне здольным да выканання законаў веры.

VII. Нараджэнне на прыступцы правадыра і настаўніка ісьціны.

VIII. Нараджэнне, даючае чалавеку магчымасць знаходзіцца да канца свайго жыцця вольным ад якога б то ні было граху.

Шчасьлівы той, хто здолеў падняцца на гэтую вышыню: ён потым пяройдзе прама ў царства Сука-вадзі.

Гэтае царства вельмі далёка ад зямлі. Адлегласць да яго вызначаецца трыма тысячамі вялікіх тысяч засусветнай прасторы. Але негледзя на такую адлегласць, яно вельмі падобна на хрысьціянскі рай, як ён апісаны ў Апакаліпсісе пад найменнем “Новы Ерусалім”. Яго ўпрыгожвае свяшчэннае дрэва. Ён асвятляецца полымем боскай мудрасьці, саграваецца цеплынёй пабожнасьці. У ім насычаюцца толькі духоўнай ежай, п’юць із крыніц, выконваючых кожнае жаданне, там не старэюць і не паміраюць, і не ведаюць іншых шляхоў, акрамя шляхоў праўды. Там жыллё духаў-богаў заспакаення і валадаранне таго, хто жыве ў бясконцым сьвятле і аб’ядноўвае у сабе дзесяць магутнасьцей сусвету, чатыры існасьці і восемдзесят даброт, ніколі не насычаючых сабой позірк[17].

Але не гледзячы на такую далечыню, зямны сьвет не перастае быць бачным адтуль. Але якое гэта відовішча! Наша жыллё падобна адтуль на змяінае гняздо.

Уся земля падобна на геену, дым і полымя якой, безперапынна ўзмацняемыя выпарэннямі чалавечых здзяйсненняў, паднімаюцца да неба і апускаюцца да апошніх глыбінь зямлі.

На подступах да царства Сукувадзі душу вітае жывая духмяная кветка – бадма лінхова, такая цудоўная, што пры адным позірку на яе забываюцца ўсе жіццёвыя выпрабаванні. І калі душа прынесла з сабой ў райскі сусьвет хаця б цень нейкай заганы, то кветка разгортвае перад ёю свае чароўныя лісты і, прыняўшы яе ў іх, дае ёй магчымасць ачысьціцца, напоўніцца духмянасьцю, як яна.

Адноўленую душу ў раю сустракаюць службовыя духі – анёлы хрысьціян і, прыняўшы яе з радаснымі ўсклiцаннямі, вядуць да прыступак пасада, які падтрымліваюць восем ільвоў.

Седзячы на пасаде Абіда, – адпавядаючы хрысьціянскаму богу-айцу, – кінуўшы позірк на перасяленку, вымаўляе ёй словы суцяшэння і прызначае месца, адпавядаючае яе годнасьцям.

Там яна і застаецца навекі. І толькі некаторыя, асабліва «выдатныя душы" дзеля агульнага дабра не застаюцца доўга на прызначанай ім ступені асалоды і, будучы вярнутымі на зямлю, пачынаюць новы шэраг перараджэнняў у выглядзе такіх асоб, як Далай-лама, Баньчэнь-багдо, і ўсе мітрапаліты-хутукты. Душы такіх

[17] Гл. Мані Гамб., т. 1, л. 1 і д.

перараджэнцаў ужо не належаць зямному свету, а служаць для яго праваднікамі божай волі.

Такім з’яўляецца ў агульным выглядзе вучэнне «культу абуджаных", а што із яго зрабіла навейшая фантазія індыйскіх тлумачальнікаў, грунтуючаяся на еўрапейскіх філосафах, пабачым далей.

# Глава XII

## Буддыйскія багі і іхнае стаўленне адзін да аднаго і да людзей.

Буддыйскае багаслоўе различае багаў і багінь, паўбагоў і геніеў і падзяляе іх не толькі грунтуючыся на асабістым значэнні, але і на іхным стаўленні да класаў іншых істот. Але ў агульным, у разных кнігах няма пагаднення.

Хрысьціянская тройца ў некаторых кнігах ужо ператварылася ў пяцёрку найвышэйшых небажыхароў, у багоў Вянка размешчаных такім чынам: пасярэдзіне гэтага нябеснага вянка знаходзіцца Бірузана, нападобе сьвятога духа, перад ім на ўсходнім баку – бог-айцец Аб-іда, але ўжо відаць напалову ачалавечаны; на заходнім – Ачыр; на двух астатніх баках – Радна і Амога. Яны, – запэўніваюць нас, – усё пачынаюць і ўсё здзяйсняюць, яны ўтварылі сусвет і нарадзілі чалавека[18].

Як святло полымя тысячу разоў адбіваецца ў крысталах, так сутнасць Аб-Іды, пры адзінкавасьці яго боскай натуры, выяўляе сябе ў бясконцым мностве сваіх біскупаў-пераўвасабленцаў, не губляючы тоеснасці, а тым больш не парушаючы свайго заспакаення, непарушнасць якога з’яўляецца неад’емнай і вечнай сутнасьцю бога.

У слове Аб-Іды – бога-айца – заключаецца крыніца жыцця; праз яго боскія загады разыходзяцца па ўсяму сусвету, пераходзяць із рода у род і із стагоддзя ў стагоддзе.

Думка Аб-Іды ўсемагутна. Да чаго б ён ні звярнуўся, усе ёй скараецца. Розум Аб-Іды ўсеахопліваючы. Бацька богаў, ён усё бачыць, усё ведае як у сучасным так і ў мінуўшым і будучым. І накіроўваючы ход сусветных падзей да сваіх высокіх мэтаў, усюды дае адчуць бязмерную магутнасць сваёй мудрасьці.

Пра дасканаласьці бога-айца Аб-Іды даюць разуменне прыпісваемыя яму буддыйскімі кнігамі эпітэты: безпачатковы, усявышні бог, ствральнік усіх сусветаў, змяшчаючы ў сабе незлічоныя стагоддзі, усёбачучы і усёздзяйсняючы, насадзіцель дабра і крыніца ўсякага існавання, усё ўтрымліваючы і ўсё абдымаючы сваёй уладай.

Кніга Манін-намтар выказваецца пра яго: «лягчэй пералічыць нябесныя зоркі, чым вызначыць якасьці божыя. Зручней пагэтаму раскласьці ўсю зямлю, чым зразумець мудрасць божую. Лягчэй злічыць кроплі 12-гадовага дажджу, чым вызначыць памеры дабрачыннасьці хаця б аднаго із яго шасьці свяшченных слоў"[19].

Усе гэта мы сустракаем і пры характэрызаванні бога-айца ў еўрапейскіх тэолагаў эпохі Адраджэння і навейшага часу, напрыклад у Абеляра, і мы ведаем із усяго ходу развіцця еўрапейскай тэалогіі, што яны выпрацаваліся на захадзе

[18] Санан цецен закіаксан Ном; Чыхула керэглечы рад. 3, стар. 48. Космас Будды ў кнізе Кавалеўскага, § 43.

[19] Мані-Гам і Манін-намтар.

Яўропы самастойна і перайшлі на Ўсход. Із гэтага зразумела, што і далей яны маглі распаўсюдзіцца толькі праз Візантыю.

Із павагі да такіх годнасьцей бога-айца Аб-Іды і таго, што ўсе крыніцы даброт знаходзяцца пад яго непасрэдным кіраванне, буддысты не гледзячы на існаванне шматлікіх сваіх богаў, як і хрысьціяне, не гледзячы на шматлікасць сваіх сьвятых і анёлаў, пры вельмі важных жыццёвых абставінах звяртаюцца да яго. Так, пры пахаваннях у іх сумна спяваецца верш: «Боскі Аб-Іда! Праз літасьцівасць сваю накіруй на шлях памёршага: бо ў цябе аднаго месца заспакаення"[20].

У храмах яго выявы занімаюць ганаровейшыя месцы, але яго ўжо уяўляюць, як і ў хрысьціян, увасобленым у чалавечы выгляд. Полымепадобны Будда Аён сядзіць на пасадзе, напалову прыкрыты барвовай хламідай. На галове ў яго чорная скуф'я, а у руках чарка, служачая эмблемай асалоды, якую ужывае ён і якой ганаруюцца ўсе прыходзячыя да яго. Гэта адлюстраванне прычашчальнай чаркі усходніх хрысьціян.

Пасьля пяцярыцы богаў вянка, ідуць сем кіраўнікоў сусвету, адпаведна сямі анёльскім чынам хрысьціян. Як у хрысьціян маюцца: анёлы, арханёлы, херувімы, серафімы, валадарствы, улады і магутнасьці, так і ў буддыстаў, але яны ўжо ўвасоблены ў выглядзе адмысловых постацей: Шыга, Бісвава, Дыван-гара, Пана-гамоні, Гарга-сондзі, Гашыба і Шынг-муні. Апошняму із іх – Сакья-Муні індусаў – спяваецца між іншым:

"Кланяемся богу Шыгемуні, які прыйшоўшы ў свет, атрымаў над сваімі ворагамі рашучую перамогу і скінуў іх, дасягнуўшы сапраўднай дасканаласьці"[21].

Аднак, паданне пра Шыге-Муні, г. азн. пра галоўнага «Будзіцеля» (Будду) поўныя супярэчнасцей і недарэчных выдумак.

Сучасныя еўрапейскія арыенталісты лічаць, што ён не чыста міфічная асоба і існаваў гадоў за тысячу да нараджэння Хрыста, так як пачатак буддыйскага летазлічэння, пачынаючыся ад Шыге-Муні, прыпадае на гэты перыяд часу.

Лічаць, што ён быў, як і Хрыстос хрысьціян, царскага роду, што гэты род быў цалкам зьнішчаны буддыйскім царом Ірадам – Віруддакам і адзін Сіддарці (так звалі Будду) змог выратавацца (як Хрыстос) дзякуючы ўцёкам, але не на берагі Ніла, а на берагі ракі Піраджаны. Яго вандроўнае жыццё, – кажуць нам, – не магло не размясьціць яго да назіранняў і нават да аскетызму. І таварыства, заснаванае ім, спачатку было ні чым іншым, як таварыствам шаснаццаці жабруючых людзей, якія адважыліся быць вечнымі бадзяжнікамі апосталамі і толькі пазней, з цягам часу, знешні і ўнутраны характар гэтага згуртавання пачаў зведваць змены і самая тэорыя буддызма, зрабіўшыся больш агульнай, дала падставу да ўзнікнення разнастайных адгалінаванняў і падзелу прыхільнікаў Будды на секты.

У асобе Будды, першага перыяду – хананы, бачны, – кажуць нам, – чалавек, які ўмеў вызваліць сябе ад повязей жыццёвай мітусьні; але гэты чалавек яшчэ не валадар сусвету і не робіцца такім пасьля сьмерці. Будда другога перыяду – Махаяны – ужо ў стасунках з усімі сусветамі; ён і пасьля сьмерці падтрымлівае сваю асобу і свой аўтарытэт; толькі пачатак жыцця яго не прасьціраецца ў далечыню, і гэтая акалічнасць яшчэ зблiжае яго са звычайнымі сьмяротнымі. І

[20] Згерэлун арон басот-тор угей балай нігуласкуй-бер удорыдун саірха, лама Абіда!

[21] Іладжу тэгус нукчыксен, Цегунчылен ірэксен, Даііі дараксан, Унен тегус тогулаксан Бурхан Шынемуні-дор <....>

нарэшце, Будда апошняга – містычнага – перыяду, з'яўляецца існуючым ужо з незапамятных часоў і ад пачатку часоў трымае за сабой божыя правы і атрыбуты[22].

Але тое ж самае мы бачым і ў развіцці хрысьціянства, пачынаючы з IV стагоддзя нашай эры. Аднак, выяўляецца яшчэ і іншы паралелізм.

Першы перыяд, – кажуць нам, – абмежаваны амаль адным стагоддзем і уяўляў просты патрыярхат. Другі перыяд быў часам спрэчак. Тут ладзіліся як і ў хрысьціян, саборы, разглядаліся супярэчнасьці і імкнуліся зблізіць варагуючыя партыі. У трэццім перыядзе кожная із 18 школ, захоўваючы свае адметныя рысы, працягвалі існаваць аж да злучэння ў дзва галоўныя накірункі Байбашыкаў і Саутранцікаў, падобна ўсходняй і заходняй цэрквам, із якіх пазней ўтварылася новая сістэма, вядомая пад найменнем шахаяны або новага рефармаванага буддызму[23].

Шыгемуні, – кажуць нам, – памёр 80-гадовым старым і яго цела было спалена.

Падобна таму, як Хрыста розныя народы малявалі згодна са сваім уяўленнем і ў сваім адзенні, так і Шыгемуні манголамі малюецца жоўтым і ў жоўтым жрэцкім адзенні, але ўсё ж з чаркай у руцэ. Пры ім знаходзяцца ў якасьці асістэнтаў, двое із яго бліжэйшых вучняў Ананда і Сабадзі, адпаведна Пятру і Яну. Яны трымаюць па кію і лічацца адзін – яго глашатаем, а другі хуткапісцам.

Да гэтага ж разраду заступнікаў чалавечага роду прылічваюцца бадзісады, нешта накшталт арханёлаў, якія, хаця яшчэ і не дасягнулі годнасьцей Будды, але як боганароджаныя схільныя да ўсяго добрага і заўсёды гатовы дапамагчы людзям.

Затым ідуць такія багі, якія магутныя, але не вельмі блізкія да чалавека; і больш грозныя, чым дабрадзейныя. Гэта Армузда, Бімала, Шакджын, Актаргойн і Эрлік-хан.

Першы із іх кіруе духамі-тэнгерынамі, накшталт геніяў, а другі духамі асурынамі, накшталт гномаў. Армузда, з 33 ганаровымі тэнгерынамі, жыве на вяршыні вялікай гары Сумбера. Бімала ў пячорах пад гэтай гарой. Шакджын наогул пануе над бязмоўнымі стварэннямі. Актаргайн над бірытамі, а Эрлік-намун-хан, інакш Чай-жыл, кіруе ў пекле.

Гэты Плутон заўсёды мае перад сабой люстэрка, адлюстроўваючае ўсе таямніцы чалавечай душы, і шалі праўды, паказваючыя праўдзівы кошт кожнай справы, слова і чалавека. Нішто не можа ад яго схавацца, не мажа быць прапушчаным. Усе здзейсненае чалавекам у яго пазначаецца з найвялікшай дакладнасьцю. Калі душа стане перад ім, Чай-жыл глядзіць, дзе больш яе справаў – на белым або чорным баку яго скіпетра. І грунтуючыся на гэтым вырашае яе лёс. І калі ён гэта зробіць, тады магутнасць неадольнага року нясе душу, як парушынку, у прызначаную ёй сферу; і там яна пачынае адчуваць наступствы свайго ранейшага жыцця і ўступае ў шэраг новых пераўтварэнняў. Толькі адна сапраўдная дабрачыннасць не падпарадкоўваецца такой волі лёсу. У такім выпадку душа мінае царства Чай-жыла.

Духі ўсіх сусветаў, краін і месцаў, духі ўсякага выгляду і роду вельмі шматлікія. З іх тэнгерыны бываюць як добрыя так і злыя. Яны жывуць на вялікай сярэднеземнай гары Сумбера і наогул у гарах, лясах і ў паветры. Паміж імі бываюць і арцыбіскупы.

---

[22] Васільеў, ч. 1, стар. 12.

[23] Васільеў: Ханаяна, або першапачатковы буддызм, ч.1, стар. 9-32.

Хубілгары – разумеюцца наогул у сэнсе перараджэнцаў і патрыярхаў, хутукты, брадзігабуты і бутхалісы – душы сьвятых, праславіўшыхся добрымі справамі і падзвіжніцтвам, і шанараны – такія істоты, якія ганараваліся чуць словы мудрасьці із вуснаў самога Будды і якія пазней выконвалі або выконваюць на зямлі даручэнні пасланнікаў і прапаведнікаў. Імі на тым сьвеце часьцей за ўсё станавяцца буддыйскія жрацы; але першынство застаецца за 18 вучнямі Шыгемуні.

У свеце духаў летаюць бадзісады і махасады, якія лічацца як бы напалову багамі, і будды або бурханы – вярхоўныя і істоты добрай памяці.

Што да паходжання гэтых істот, то за выключэннем вышэйшых, усе іншыя народжаны белымі і зялёнымі жаночымі духамі Дарамі створанымі богам першапачаткова, якіх налічваецца 42, і яны ўтвараюць нешта сярэдняе паміж богам і людзьмі як істоты цялесна-духоўныя.

Варта адзначыць, што ўсе галоўныя духі пры сваім стварэньні кляліся перад Абідай быць вернымі выканаўцамі яго волі. Армузд даў зарок знішчаць ў тэнгрыянах ўсякія нячыстыя намыслы. Рахулі абяцаў трымаць асурынаў у прызначаных ім межах і спрыяць ім на шляху перараджэнняў. Шыгемуні ўзяў на сябе клопаты пра чалавечы род ва ўсіх абставінах жыцця кожнага – ад калыскі да труны. Тае ж зрабілі і іншыя богі.

Пра гару Сумбара (Сумэру, мэру) часта згадваецца ў буддыйскай міфалогіі. Яна мае эпітэт царыца гор і сярод-зямельная гара. Але ніхто яе не бачыў. Кніга Кайба джумнейн-даг-ік (гл. III), паведамляе, што яна ў стыхійным сьвеце мае вышыню 100 тысяч бераў і на 80 тысяч апушчана ў бездань вады. Яна чатырохбаковая, складаецца із чатырох ярусаў і вакол яе здзясняюць свае рухі сонца і месяц. На першым ярусе Сумберы жывуць якчысы, трымаючыя ў сваіх руках нейкія пасудзіны з віном; на другім якчысы з пацеркамі, на трэццім – вечна п'яныя якчысы, на апошнім чатыры махаранзы; – нарэшце, на самым версе жыве Армузда з 33 абранымі тэнгерынамі. Грунтуючыся на ўсім гэтым апісанні, як быццам бы нельга нават і сумнявацца, што буддыйскі Алімп існуе толькі ва ўяўленні. Аднак і тут знайшліся вернікі. Так Паулінус лічыць за гару Сумбер Гімалаі і ў падцверджанне сваёй думкі выказваецца:

<...................>

А ламы новага часу ўжо пагадзіліся на тым, што тут “маецца на ўвазе ўся наша планета”.

Дадам яшчэ пра распушчаных тэнгерынаў. Сюды адносяцца: якчысы-вартавыя. Рачысы, складаючыяся із душ жаночай паловы чалавечага роду. Асоры – племя буянае і, нарэшце, гандагі, гінары, махаракі, манокі і аманакі – глыбока разбэшчаныя, ад якіх утварыліся безгалосыя стварэнні і пякельныя злапамятныя істоты.

Верны свайму прызначэнню тэнгерын атрымлівае згодна са сваімі заслугамі вышэйшыя годнасьці, можа нарадзіцца чалавекам і адчыніць сабе шлях ва ўсе добрай памяці краіны. У адваротным выпадку ён выпадае із эфірнай сферы, губляе свой бляск і магутнсць і станавіцца ахвярай прыніжаючых перараджэнняў і перасяленняў, напрыклад, у асурына.

Гэтыя асурыны далучаюцца да катэгорыі злых духаў і лічацца нагодай шматлікіх ліхаў, адбываючыхся на зямлі. Самі тэнгерыны не ведаюць ад іх спакою, так як асурыны ні пра што так не клапоцяцца, як пра выкраданне ў іх нектару. З гэтай мэтай яны вядуць з імі безперапынную вайну, часам вымушаючы самога Армузда браць у ёй асабісты ўдзел. І гэта не проста здагадка: нашы бураны і

грымоты служаць для нас яе прыкметамі. А канчатковая перамога добрых геніяў над злымі будзе толькі тады, калі ў нашым сьвеце духоўнае зло канчаткова заменіцца дабрачыннасьцю.

Шміт справядліва выводзіць буддыйскае вучэнне пра Армузда, з яго 33 асістэнтамі, із Зараастрава вучэння. У Армуздзе ён бачыць пярсідзкага Армузда, а ў яго суперніку Рахуле – Арымана. Што ж да вайны асурынаў з тэнгерынамі і з царамі драконаў, то жадаючы атрымаць  пра яе ўяўленне, можа прачытаць урывак із Чухула каленлекчы, які ёсць у Буддыйскім Космасе Кавалеўскага 8. 21.

Зараз мы нарэшце дайшлі і да людзей. Людзі далучаюцца да трэццяга класа істот. Для жыхарства ім дадзены шырокія краіны, ахопліваючыя сабой Поўдзень, Усход і Поўнач. Паўднёвыя краіны уяўляюць кола, акружнасць якога раўняецца шасьці з паловай тысячам міль і рост тамашніх людзей усяго 4 локці, а іхны век не падпарадкаваны вызначаным законам. Усходняя прастора трохкутная, і занімае плошчу ў 6350 міль. Людзі там удвая вышэйшыя, чым жыхары паўднёвых краін і жывуць па 250 гадоў. Паўночны, худасочны край з’яўляецца квадратам ў 8000 міль і людзі жывуць у ім па тысячы гадоў, а ростам яны ў 32 локці! Ды і прырода кожнай із гэтых краін сусвету незвычайная. Так, дрэва Дзамбудашы – здабытак Поўдня, і растучы на моры, маючым назву Мапама, вырабляе дзівосныя плады. Калі яго плод падае ў мора, то чутны гук “дзамбу”, ад чаго і сама краіна атрымала назвай “Дзамбу тыба”. Цар драконаў Нагон-рыджа ўжывае частку гэтых пладоў у ежу, а астатнія ператвараюцца ў золата ракі Дзамбу.

Другое дрэва Галбарбарас расьце паміж Паўночным і Ўсходнім краем сусвету. Яно высіцца на 100 міль і сваімі галінамі закрывае плошчу ў 50 міль. Яму ўласьцівы дар слова. Але на жаль гэтае дрэва толькі тады пачынае размаўляць, калі патрэбна прадказаць чалавеку яго блізкую сьмерць. Акрамя гэтых дрэваў, у нашым сусвеце існуе шмат і іншых дзівосаў. Існуюць у ім дыяментавыя палацы, існуюць нівы, напоўненыя як пацеркамі залатымі нізкамі, існуюць азёры, вечна спакойныя і сілкуючыя цара кветак Лінхаву.

Не ўмеючыя размаўляць духі прылічаны да ніжэйшага класу адушаўлённых істот. Найвялікшая і самая ганаровая іхная частка жыве ў моры. У вялікай колькасьці яны водзяцца на захадзе зямлі, дзе мае сваё месцазнаходжанне і іхны вярхоўны правадыр. Астатнія раскіданы па разных частках свету і знаходзяцца ў большай ці меньшай залежнасьці ад чалавека. Самыя няшчасныя із іх бірыты, марнуючыя сваё жыццё перад уваходам у пекла і ўяўляючыя сабой істоты вартыя жалю. У іх страўнік з гару, а рот і горла з вушка іголкі, і пры такой жахлівай неадпаведнасьці частак свайго цела, ім немагчыма задаволіць ні голад, ні смагу. Ды і праглынутыя імі кроплі ўнутры іх ператвараюцца ў смалу і полымя. А згодна з іншымі паведамленнямі іхнае становішча яшчэ горшае.

У Буддыйскіх Космасе, перакладзеным прафесарам Кавалеўскім (§ 33) пра бірытаў мы знаходзіўся між іншым наступнае: “За пяцьсот міль пад горадам Раджагрыха размешчаны горад бірытаў Кабалі, у якім знаходзіцца іхны вярхоўны валадар Намун Эрлік, з 36-ю паплечнікамі. Там адны не магуць ні есьці ні піць, у другіх, калі пажадаюць прыняць ежу, рот робіцца такім малым, як вушка іголкі, а горла як валасок; калі ж яны ўсё-такі паспеюць нешта праглынуць, то іхнае чэрава, зрабіўшыся падобным на гару, нічым немагчыма насыціць, а калі насыціццца, то іхныя ногі робяцца тонкімі, як спічкі, або як трава (кавыль) і яны не ў стане трымаць цяжар свайго цела. Звычайнай жа ежай бірытаў з’яўляюцца іскры растопленага чыгуна, ад якіх у іх гараць ўсе часткі цела. Раскіданыя па месцах жыхарства людзей, яны часта набываюць выгляд розных пачвар. Жыццё іх працягваецца да 500 гадоў, лічачы кожны наш дзень за месяц. У іх пераходзяць

душы зайздройстлівых людзей, людзей не даючых падаянняў. Суседняе з бірытамі пякельнае царства складаецца із разнастайнейшых істот, галоўнымі месцазнаходжаннямі якіх служаць: пекла, зямныя бездані, пустыні, горы, лясы, воды і нават жыллё людзей. І чым яны бліжэй да чалавека, тым больш яны імкнуцца назіраць за яго ўчынкамі і накіроўваць іх, па магчымасьці, у накірунку да сваіх благіх мэтаў".

Такімі з'яўляюцца ўяўленні сьвятых кніг буддызма пра жывыя духоўныя істоты. Але ж гэта толькі разнастайныя варыяцыі тых жа русалак, дамавікоў, лясуноў, чарцей, дэманаў, анёлаў-ахоўнікаў славянскай міфалогіі, і іхных аналагаў ў класічнай міфалогіі. Хто ж у каго запазычыў?

Паглядзім зараз, якой уяўляецца ў буддыйскім светапоглядзе прырода. Вось, напрыклад, урывак пра нябесныя целы і пра з'явы, якія адбываюцца ў нашым сьвеце.

Сонца, – кажуць яны нам, – складаецца із вогненнага хрусталю, і ў папярочніку мае 31 мілю, у акружнасьці 133, у таўшчыню з гакам 6 міль. Яго рух залежыць ад паветра, гнанае якім, яно абыходзіць краіны свету. Яно дадзена для жыцця тым із духаў-тэнгерынаў (анёлаў), якія вядомы пад найменнем сыноў сонца, і раскашуюць там у цудоўных палацах, на поўначы – у залатым, на ўсходзе – у срэбным, на поўдні – у лазаравым, на захадзе – у хрусталёвым.

Месяц не ўтрымлівае ў сабе ніякіх вогненных элементаў і складаецца із хрусталя. Таўшчынёй ён роўны з сонцам, а ў папярочніку меншы за яго на адну мілю. Ва ўсіх жа іншых дачыненнях ён нават пераўзыходзіць сонца; мае шмат чысьцейшай вады і дзівосных расьлін.

Зоркі падобныя на месяц, але па велічыні не магуць з ім параўнацца. Іх 285 млн., самыя вялікія з іх велічынёй ў тры тысячы, а меньшыя ў пяцьсот лукаў. І якая ні вялікая іхная колькасць, але ўсе яны заселены сынамі і дочкамі жыхароў неба.

Увесь наш сусвет уяўляецца ў выглядзе плоскасьці, падзеленай на шмат частак і аточанай безперапынным ланцугом гор і нават жалезных сьцен. Зверху ж гэтага аплота, на адлегласьці 10 тысяч міль на зямную атмасферу налягаюць масы іншых сусветаў, ідучых адзін за другім на адлегласьці, прапарцыянальна павялічваючайся па меры аддалення ад зямлі.

А чаму ж адбываюцца сонечныя і месяцовыя зацьменні? Вельмі проста. У чараўніка скіпетратрымальніка Ачырвані некалі захоўвалася жывая вада. Даведаўшыся пра такую каштоўнасць, злы дух Арахола пачаў шукаць зручны выпадак, каб скарыстацца ёю. І гэта яму ўдалося. Пад час адсутнасьці Ачырвані, ён пракраўся ў яго жыллё і, выпіўшы ваду да кроплі, запоўніў пасудзіну сьмерценоснай вадкасьцю.

Затым, каб пазбегнуць заслужанага ім пакарання, гэты дэман збег у аддаленыя сусветы. І дзе ні пралятаў, пагражаў нябесным сьвяцілам вечнай варожасьцю, калі яны якім-небудзь чынам пакажуць яго таемны шлях раззлаванаму Ачырвані.

Але сонца і месяц не забаяліся яго пагроз і паведамілі праўду. Арахола быў насьцігнуты і зведаў суровае пакаранне. Ачырвані рассёк яму чэрава сваім мячом, але не змог забіць яго, як набыўшага дзякуючы жывой вадзе ўласьцівасць неўміручасьці.

З тых часоў для Арахолы існуе адна мэта і адно жаданне – помсьціць сонцу і месяцу. Але хоць ён і можа пры спрыяльным выпадку праглынуць тое, ці іншае, але трымаць іх у сваім страўніку ніяк не ў стане. Яны выскокваюць вон, і таму кожны зробіць добра, калі, заўважыўшы знікненне месяца або солнца, пачне

ўстрасаць паветра крыкамі і стукам. Гэта прыводзіць у збянтэжаны стан Арахола, а праглынутаму ім свяцілу даецца магчымасць хутчэйшага вызвалення.

Падобнымі ж нагодамі тлумачацца дождж, гром, землятрусы і г. д.

У кнізе Лумбум-гарбо пішацца, што адзін із чатырох багоў, пануючых над царствам прыроды – Лусунжан – валадарыць над геніямі, вядомых пад агульнай назвай Лу.

Кожны Лу валодае здольнасьцю 73-х пераўтварэнняў. Зіму ён праводзіць у бяздзейнасьці, пагрузіўшыся ў бездані; летам носіцца ў паветранай сферы, аточаны 9-ю пластамі аблокаў і трымае пры сабе водакрысталічны скарб, накшталт радугі, які можа прыцягваць ваду з рэк і мораў. Забяспечаны такой прыладай, Лу, згодна з меркаваннем Лусун-хана, паднімае ваду на вышыню нябёсаў і пралівае яе дажджом.

Калі гром адклікаецца глухім і аддаленным рэхам, то патрэбна зрабіць выснову, што Лу заняты сваёй справай, і збірае дождж, а калі зіхаціць зарніца, гэта верная адзнака таго, што ён знаходзіцца ў дабрым настроі.

Руйнуючыя грымоты і маланкі, а таксама град і каменны дождж часцей за ўсё знаходзяцца ў сувязі з вайной, якую вядуць гномы Асугіны супраць геніяў тэнгерынаў. Іхныя каменна-метныя стрэлы, з громамі і маланкамі, нясуцца ва ўсе бакі сусвету і даюць магчымасць адчуць, якія магутныя праціўнікі і якая жорсткая іхная вайна. Наступствы яе маглі б быць жудаснымі і для людзей. Але пагібельныя стрэлы маланак магуць уражваць толькі вінаватых перад багамі. І таму чалавек, забіты громам, прызнаецца праклятым і не заслугоўвае гонару быць пахаваным. А нагодай землятрусаў заўсёды бывае Залатая жаба, Алтан-Мелекей, на жываце якой ляжыць цэнтр сусвету – велічная гара Сумер, а ў лапах чатыры часткі сусвету. І таму кожны рух гэтай жывёлы натуральна мае наступствам ўзрушэнне зямлі. Інакш, вядома, і быць не можа.

Вось якімі з’яўляюцца буддыйскія рэлігійныя астраномія і метэаралогія, а іншых навук не было ў яе самастойных навукоўцаў. Адсюль сам чытач бачыць, на што прыдатны апавяданні некаторых із нашых “самавочных сведак” пра цуды сярэднеазіяцкіх магаў.

Пяройдзем зараз да іх.

# Глава XIII

## Мангольска-бурацкая “кніга быцця” (Ганджур-Данджур) і яе касмагонія.

Буддыйская касмагонія была прадметам вывучэння шматлікіх навукоўцаў. Шмат із іх імкнуліся прывесьці да адзінства раскіданыя па буддыйскіх кнігах паданні пра сусвет і яго стваральніка.

У літаратуры буддызма знаходзяць усе дасягненні старажытнай рэлігійнай паэзыі і на яго філасофію глядзяць як на прадстаўляючую ўсе філасофскія сістэмы. Гісторыю індыйскай філасофіі лічаць як бы скарачэннем поўнай гісторыі філасофіі. Ужо Паллас меў падставы думаць, што паміж буддызмам і некаторымі хрысьціянскімі напрамкамі існуе вялікае падабенства. Вось яго словы: “Годна здзіўлення, што калмыцкая вера ва ўсіх вонкавых звычаях, таксама і ў меркаваннях пра

перамены сусвету[24] і ў шмат якіх іншых пытаннях, мае вялікае падабенства з некаторымі ерэтычнымі хрысьціянскімі сектамі. Брамінская і ламайская вера вельмі сходныя з нестарыянскім расколам".

Але нявыразнасць выказванняў кнігі Ганджур-Данджур мелі наступствам тое, што даследнікі губляліся ў здагадках і складалі сістэмы, чужыя разуменням, пад уплывам якіх жыве і паміpae буддыст.

У гэтым прызнаюцца і самі сладальнікі сістэм. Вось словы аднаго з іх:

"Спытайце якога заўгодна бурата або тунгуса, – выказваецца Паллас, – пра прадвечную падставу ўсяго бачнага, і вы атрымаеце адказ, што гэта Бурхан, г.зн. Будда[25]. Інакш кажучы, Будда, як і Хрыстос, лічыцца ўвасобіўшымся богам, якога свяшчэнны буддыйскі кодэкс сторазова называе не маючым пачатку і вечным, стваральнікам усяго бачнага і нябачнага[26], крыніцай жыцця і пачатковай нагодай усякага існавання[27]. Такая ж і іхная малітва: "Богу, які стварыў гару Сумбер і ўвесь сусвет, які дараваў зямлі багацце пладоў, а неба ўпрыгожыў сонцам і месяцам, павінны мы прыносіць хвалу і падзяку[28]".

Усявышні – бог Абіда, – кажуць нам, – пршапачаткова выявіў сваю магутнасць у стварэньні незлічонага мноства верхніх не рэчавых сусветаў, вядомых пад найменнем Нірваны, г. азн. Заспакаення, з тым жа самым сэнсам, як і нябесны Ерусалім, г. азн. Рай[29].

Там – вечнае святло, спакой і радасць, там не ведаюць мітусьні і турбот, не старэюць і не паміраюць; там цякуць крыніцы жывой вады і прыемна пахне свяшчэнная дыяна, там усё апранута ў найчысьцейшую вопратку, усё асьвятляеца мудрасьцю вярхоўнага Валадара (Мані Гам-бум І). Сьвятыя багі цешацца там шчасьцем, і яны вартыя яго. Але для істот менш дасканалых, патрабуюцца іншыя ўмовы побыту. І таму выявіўся неабходны і сьвет стыхійны.

Яго падмуркам паслужыла райская кветка Бадма Лінхова. Сярэднюю частку гэтай расьліны выкарыстаў творца Аб-Іда для стварэння паветра.

Стварыўшы потым падставу сусвету і зацьвердзіўшы яе сваёй магутнасьцю, Аб-Іда палічыў патрэбным застацца ў спакоі. І справу далейшага наладжвання сусвету прадаў іншым такім чынам:

Са сьвятла правага вока Аб-Іды нарадзіліся два багі – Манджушыры і Арыябола. Вось ўласныя словы кнігі Мані Гамбум: "Чароўны Абіда, праз сваю вялікую спагаду, накіроўваючы сваю думку адзіна да карысьці істот, выпусьціў із правага свайго вока белы сьвет, і такімі чынам стварыў мудрага Манджушыры і шматміласьцівага Аріяболу"[30].

Па волі першага, у пустаце над паветранай сферай утварылася воблака і прайшоўшы із яго дождж утварыў вадзяную сферу, бяздоннае мора, якая насілася ў паветры і падтрымлівалася толькі ім. Спачатку яно бушавала і пенілася, але яго паверхня паціху зацьвярдзела, утварыўшы "залаты мацярык".

Гэта была золатасардэчная зямля першай эпохі сусвету, зямля залатога веку. Яна мела форму сэрца, але далёка не адпавядала мэтам тварэння. Пакрываўшыя яе незлічоныя горы зеўралі прорвамі. Усе яе часткі былі падобныя на перакулены

[24] Падарожжа Палласа, ч. 1, стар. 491 ў Навуковых запісках Казанскага ўніверсітэта 1835, кн. ІІ, стар. 385-7.

[25] Навуковыя запіскі Казанскага ўніверсітета 1835, кн. ІІ, стар. 389.

[26] Па мангола-бурацкі: Тэрыгулешы ўгей Мунку.

[27] Аміні заягакчы – анхан, тэрыгутэн.

[28] Гадзар дэлекей балон, Сумбер-агула тэрыгутэні бутуген, Куджысь-ер Сурчыджу, Октаргай-гі наган сарань-эр чымексен Бурхандор ачы мандал ургуйе.

[29] І пабачыў я...

[30] Абійа бурхаг, урушчыенгуй-бер амітану туса уілетку, камеку дыана тэкшы ороцахой, барагун нідун-еце ніген-цаган герыл цацораксан-еце ўран аргату Манджушыры, іке нікулесекчы Аріаболо хоірі хобілгагат.

кацёл. Пазбаўленая вільгаці, яна не магла быць прыдатнай для жыцця арганічных істот. Яна была агіднай і пустой, але вось праліўся новы дождж із чароўнага воблака, змяшчаўшага ўсе дары прыроды, і падзьмула бурнае паветра пачуццёвага сусвету (Сансары). Пад уплывам гэтых магутных рухавікоў утварылася Павярхневае Салёнае мора і з’явілася гара Сумбер – ёмішча чатырох каштоўнасьцей – золата, срэбра, яханту і лазуры, з атачаючымі яе сям'ю залатымі гарамі і сям'ю вясёлымі морамі, прызначанымі для Лусун-хана, цара вады.

Да гэтага ж часу адносіцца і падзел зямлі на бакі сусвету, атачэнне яе жалезнымі сьценамі і ўтварэнне на ёй раслiннасьці.

Першымі насельнікамі зямлі былі добрыя духі, называўшыя сябе тэнгерынамі, накшталт анёлаў. Іхныя парэшткі і зараз знаходзяцца пад кіраваннем слаўнага Армузды і жывуць адны на гора Сумбер, другія на сонцы, месяцы і зорках, а некаторыя на зямлі і ў разных прасторах паветранай сферы. Хаця яны і здольны прынімаць розныя выгляды, аднак жа не магуць называцца чыста духоўнымі. Іхная сутнасць злучана з матэрыяй, якая робіцца для іх неабходнай ежай, складаючайся із няктара (аршыакэ) і паміж імі існуе стацевы падзел, як у людзей.

Але вось з цягам часу некаторыя з іх праз неасцярожныя захапленні пачалі піць сок белакветкавай расьліны, смакам падобны на мёд. Іншыя пачалі ўжываць масла зямных пладоў і такія іхныя паводзіны натуральна мелі наступствам і згубныя ўчынкі.

З нагоды сілкавання зямнымі ласункамі, іхнае эфірнае цела рабілася грубым, бляск знікаў, захапленні бралі верх над здольнасьцямі іхнага розуму і волі, і іхная жаночая частка пачала ператварацца ў нешта накшталт русалак і німфаў.

Як раз у гэты час вярхоўны Будда загадаў свайму сыну Арiабола паглядзець, што робіцца на зямлі. І калі гэты чуллівы бог зірнуў на нас з вяршыні Сумбера, то яму явілася вартае жалю відовішча: духі пачалі падаць з вышыні, як снег, завабліваемыя ўніз нейкай магутнасьцю. Арiабола не ведаў, што яму рабіць пры такім бедстве. Ён плакаў і пакутаваў да таго, што яго галава падзялілася на дзесяць частак. Уражаны гэтым бог Аб-Іда вырашыў здзейсніць найвялікшыя пераўтварэнні.

Але перш чым рабіць пераўтварэнні ён вярнуў падзяліўшайся галаве свайго сына ранейшую цэласць. Затым ён даў яму адзіннаццаць твараў і даў яму тысячу рук з такую ж колькасць вачэй, і ўзброіў яго шасьцю таемнымі словамі: ом, ма, ні, бад, ме, хом, нешта накшталт шасьці тонаў музычнай гамы.

Затым ён выпрамяніў, але ўжо не із вачэй, а са свайго цела шэсць прамянёў, чым стварыў шэсць магутных духаў-настаўнікаў. Гэта былі: Армузда, Бімалазедэры, Шынемуні (г. азн. Сакья-Муні) і Намун-хан. Усе яны павінны былі выправіцца ў прызначаныя ім месцы і ўзяць на сябе кіраванне над тым ці іншым класам істот, якія ўступілі на шлях перараджэнняў і перасяленняў.

У гэты ж час былі створаны сонца, месяц і зоркі, так як пацямнеўшая натура заняпалых істот ужо не магла абыйсьціся без вонкавага святла.

Наладзіўшы такім чынам упарадкаванне сусветнымі справамі, бог-айцец Аб-Іда прызнаў патрэбным утварыць новую істоту са святла сваёй левай далоні. Гэта быў першы чалавек на імя Мандза[31], па-жыдоўску Адам.

[31] Мані Гамбун, гл. 33, ліст 68.

Бог запытаў яго, ці згодзен ён выправіцца ў паўночныя краіны і там у якасьці пустынніка здзейсніць выпрабавальны подзвіг, каб пазней зрабіцца памочнікам багоў у справе памнажэння чалавечага роду?

І калі першы чалавек пагадзіўся на гэта, дык Бог-айцец даў яму патрэбныя здольнасьці, паказаў шлях і вызначыў правілы жыцця.

Духмяны сад, дзе ўсталяваўся Мандза-Адам, сустрэў прышэльца з таямнічай маўклівасьцю і явіў яго вачам усю веліч горных краін, усе дзівосы прыроды. І наш пустэльнік узнамерыўся даказаць, што яму належыць права быць прадстаўніком мудрасьці багоў на зямлі.

Але на жаль! Яму гатавалася іншая доля. Сярод глыбокіх назіранняў, пад час малітоўнай праявы пачуццяў, невядома адкуль і калі паўстала перад ім буддыйская Ева – німфа Ракчыса або Дара (фея), уяўленні пра якую адрозніваюцца дзякуючы яе падвойнаму найменню. У адных месцах на Дару глядзяць, як на хрысьціянскую Панну Марыю, роўную па сваіх вартасьцях з Арыябола. Яна і ўтварылася адначасова з ім, але толькі не із белага, а із блакітнага святла правага вока бога-айца[32]. А згодна з іншымі паведамленнямі, дзе яна мае назву проста Ракчыса, яна паўтарае паданне пра Еву. Гэтая русалка прапанавала першаму чалавеку быць яе мужам. Мандза-Адам, – кажуць нам, – толькі здзівіўся гэтаму і не ганараваў Ракчысу-Еву ні словам, ні позіркам, хоць яна і выказвала яму ласкі, перамяняючы не раз свой выгляд на яшчэ больш прывабны і нарэшце пачала пагражаць, што калі ён не выканае яе жадання, то яна будзе вымушана адружыцца з падобным сабе духам. І тады гора жывым стварэнням! Усе яны зробяцца ахвярай племені, якае ўтворыцца ад гэтага. Пад прыгнётам такіх выпрабаванняў, Мандза-Адам выправіўся да вярхоўнага бога і выказаў перад ім усе свае пачуцці. Будда адказаў, што дамаганні Ракчысы не будуць мець за сабой благіх наступстваў і дабраславіў іхнае адружанне, паабяцаўшы Мандзе першынство над усімі плямёнамі, якія маюць утварыцца ад яго.

Мандза зрабіўся мужам Ракчысы, а потым і бацькам шасьцярых яе дзяцей. Але яго шчасьце, мільгануўшы як прывід, імгненна знікла. Па меры таго, як дзеці раслі, павялічвалася і яго гора. Кожны дзень ён выяўляў у іх новыя недахопы, адчуваючы ад іх новыя засмучэнні. Яго дзеці мелі чырвоны колер твару, галовы пляшывыя, целы махнатыя, былі крыважэрнымі. І адрозніваліся ад звяроў толькі тым, што мелі здольнасць размаўляць. (Мані Гамбун, гл.33).

Першы із ягоных сыноў быў лянівы і безтурботны. Другі шукаў толькі варажнечы і крамолаў. Трэцці не быў сталым ні ў дабрым, ні ў злым і толькі сквапнасць яго ніколі не пакідала. Чацьвёрты не вызначаўся розумам большым чым у маўчачых стварэнняў. Пяты быў абжора, заўсёды адчуваючы голад і смагу. Шосты аб’ядноўваў у сабе зацятасць і хваравітасць (Мані Гамбун, гл. 33).

Але якімі ні благімі яны былі, а яго жонка Ракчыса зрабіла з ўзрост яшчэ горшай за іх. Сварлівасць гэтай фурыі не мела межаў і таму Мандза вырашыў збежчы ад яе. Забраўшы з сабой дзяцей, ён пайшоў у правы бок ад іхнага жылля і пасяліўся ў стэпе. Ён пазбавіў Мандзу ад Ракчысы, але не ад трывог і згрызотаў. Асабліва цяжкім зрабілася яго становішча, калі яго сямейства, павялічыўшыся да чатырох соцень чалавек, ужо не магло знайсьці ў стэпе сродкаў для харчавання і павінна было памерці з голаду.

У гэтай крайнасьці Мандза зноў з'явіўся да бога-стваральніка Аб-Іды і ўпаў ніцма. “Я нешчаслівы – паведаміў ён, – повязі адружання цягнуць мяне, як невука,

[32] Дзергун нідун-еце куку герыл цацарула-кса-еце ўкін тэнгерын дурыбер ногёон цаган Дара экей-гі хубілган.

да непазбежнай пагібелі. Але ты сам дазволіў мне адружыцца. Будзь жа зараз маім выратавальнікам!"

Прыслухаўшыся да еньчання няшчаснага чалавека і бацькі, Аб-Іда пераканаў яго не сумнявацца ў непахіснай вернасьці дадзенаму яму абяцанню і з цярпеннем чакаць таго часу, калі яго нашчадкі пераменяць свой звярынападобны выгляд на выгляд годны чалавека і пачнуць турбавацца пра сваё маральнае ўдасканаленне. Надзяліўшы Мандзу-Адама сямю родамі насення, ён загадаў апрацоўваць зямлю і харчавацца ад яе пладоў. І сам у дадатак прыняў на сябе абавязак засеяць снежныя краіны золатам, срэбрам і разнастайнымі каштоўнымі камянямі. А ў давяршэнне сваіх даброт, ён паведаміў, што ў тых краінах, дзе будуць жыць нашчадкі Мандзы, ніколі не перавядуцца мудрыя правадыры і настаўнікі.

Мандза, вярнуўшыся да дзяцей, выбраў самыя зручныя месцы для сеяння. І з таго часу зямныя плады сталі ежай чалавека.

А яго дзеці, пасьля шматлікіх жыццёвых урокаў, былі вымушаны ад драпежніцтва перайсьці да мірных заняткаў. З пераменай стылю жыцця, паступова пачалі лагоднець і іхныя норавы, знікла іхная ранейшая пачварнасць, прабудзілася ўсведамленне чалавечай годнасьці і, нарэшце, утварылася і замацавалася ўпарадкаванне, якое паслужыла пачаткам залатога веку.

Верны свайму абяцанню бог-айцец надзяліў зямлю новымі дабротамі. Утварыўшы са сьвятла сваёй правай рукі пабожнейшага біскупа, ён выправіў яго ў якасьці настаўніка. Нязграбныя нашчадкі першага чалавека глядзелі на яго, як на цуд і імкнуліся толькі даведацца пра нагоду яго незвычай прывабнасьці. “Я ўстрымоўваўся ад дзесяці чорных грахоў, я здабыў дзесяць годнасьцей, выканаў шэсць барамітаў і зараз працую над пытаннем распаўсюджвання законаў” – адказваў ён ім.

Тады людзі пажадалі мець цара. І жэрабя абрання, якое напаткала аднаго із іх, умацавала агульнае шчасьце. Першыя пяць цараванняў былі толькі падрыхтоўкай да залатога веку, які пачаўся пад час дынастыі Загарвадана. Ён вызначаўся вышынёй свайго розуму і сэрца; ўсе чатыры бакі сусвету квітнелі пад яго мудрым скіпетрам.

Жонкі гэтага Саламона, – а іх было больш за тысячу, – жылі ў асобных палацах, сярод пацех, ніколі не ўхіляліся ад правілаў строгай маральнасьці, і асабліва яны вызначаліся годнасьцю гасьціннасьці. Кожны прыходзіўшы, асабліва ж вандруючы брамін, знаходзіў прыстанішча пад іхным дахам. А цар першы служыў ім прыкладам, павучаючы, што не слава і багацце, а дабрачыннасць робіць чалавека шчаслівым.

Але ён не меў спадкаемца. І гэтая акалічнасць непакоіла ўсё яго царства, і атручвала засмучэннем весялосць і радаснае жыццё яго жонак. Але сам ён, верачы ў праўдзівасць неба, не губляў надзеі і заўсёды заспакойваў сябе той думкай, што богі згадаюць пра яго і скончаць яго цяжкае выпрабаванне.

І вось аднойчы ў царскі палац заходзіць бедны стары ў вопратцы ніжэйшага храмавага прыслужніка. Царыцы прынялі яго радушна, супакоілі і падаравалі шчодрае падаянне. І раптам стары прамовіў:

– Ці не магу я быць чым-небудзь карысным для сваіх дабрадзеек і чаго б яны жадалі?

Тысяча жонак у адзін голас адказалі:

– Мы бязьдзетныя і маем вялікае жаданне мець сына спадкаемцу.

Старац спакойна адказаў:

– Ваша жаданне збудзецца. Праз год у кожнай із вас будзе сын, але не без маёй ўмовы. – Ён плюнуў на зямлю і закончыў. – Вы, жадаючыя мець дзяцей, перамяшайце гэты бруд з зямлёй і, дадаўшы да яго масла, прыгатуйце праснакі і з'ешце па аднаму.

Якой ні дзіўнай была гэтая прапанова, але царыцы, за выключэннем траіх, не браўшых удзел у частаванні гэтага вартага жалю бадзягі, ні на хвіліну не завагаўшыся, паспяшаліся выканаць параду. І вось праз год увесь двор Загарвадана святкаваў нараджэнне ў яго тысячы сыноў.

А што ж адчувалі тры царыцы, не надаўшыя ўвагі прапанове старца? Жадаючы выправіць сваю памылку, яны ўсюды яго шукалі, усюды пыталіся пра яго. Але іхныя пошукі былі дарэмнымі! Засмучаныя горам, яны звярнуліся да апошняга сродку. Зрабіўшыся больш сьціплымі чым авечкі, яны пабеглі на тое месца, дзе плюнуў старац і палілі гэтую зямлю гарачымі слязамі, прыгатавалі з яе поліўку і з'елі. І вось праз год і гэтыя тры царыцы мелі па сыну чароўнай прыгажосьці.

Пачулася адкрыццё, што стары, які наведаў царскі двор у выглядзе ніжэйшага служыцеля храма, быў нікім іншым, як самім богам-айцом Аб-Іда. І радасць цара павялічвалася па меры таго, як яго дзеці падрасталі. Ад першага да апошняга яны былі надзелены незвычайнымі здольнасьцямі. Яны поўніліся павагай да бога і да блізкіх, і былі заўсёды гатовымі на ўсякі годны падзвіг.

Адчуўшы, нарэшце, што ён блізкі да агульнай для ўсіх сьмяротнай мяжы, ён пазваў сваіх сыноў і сказаў ім:

– Дзеці, плынь майго жыцця падыходзіць да завяршэння. Але перш чым адыйсьці ў царства Сукавадзі[33], я павінен выканаць волю бацькі багоў. Не надзяляю вас скарбамі: усё зямнае ніжэй вашага прызначэня. Вось тут стаяць таямнічыя залатыя скрыні. Вазьміце па адной; але не дакранайцеся да пячатак, якімі яны запячатаны. Толькі мая смерць дасць вам права даведацца пра іхнае ўтрыманне. Тады ўшануйце бога-айца і няўхільна ідзіце яго шляхам.

Пасьля сьмерці Загавадана дзеці, хвалюючыся баязьню і надзеяй, адчынілі запячатаныя скрыні. І што ж выявілася? Кожная скрыня ўтрымлівала наканаванне Аб-Іды, якое мела дачыненне да той асобы, якой яна дасталася. А ў агульным усе тысяча тры сыны Загарвадан-хана ўзводзіліся на прыступку багоў светакіраўнікоў і кожны з іх павінен быў валадарыць вызначаны лік тысячагоддзяў і пад час вызначаных эпох, па сямі светакіраванняў кожная з асобным характарам, з перавагай дабра або зла.

Дзеці выказалі хвалу і падзяку богу-айцу і ўступілі ў сваю чараду светакіраванняў.

Першым з іх, па праву старэйшынства, быў Шыгі. Час яго кіравання быў самым блажэнным: людзі жылі па дзесяткі тысяч гадоў сярод заспакаення і радасьці, не хвалюемыя нічым, самі стыхіі тады знаходзіліся ў пастаяннай гармоніі адна з адной і памнажалі шчасьце насельнікаў зямлі.

Пры наступных пяці валадараннях, сусвет патроху пачаў хіліцца да ўпадку, так што пры ўцараванні сёмага – сучаснага нам, – Шыгемуні, людзі пачалі жыць не больш ста гадоў і зрабіліся закладнікамі сваіх захапленняў. А калі гэтаму богу давядзецца перадаць свой скіпетр, пасьля заканчэння пяцідзесяці тысяч гадоў, то

---

[33] Сукавадзі, царства Аб-Іды (бога-айца), дзе ён сядзіць на пасадзе на "трохтысячнай вялікай тысячы" сусветнай прасторы ад зямлі.

час жыцця чалавека паменшыцца да дзесяці гадоў. І людзі не будуць адрозніваццa ад бязмоўных жывёл.

Але калі кіраванне пяройдзе да бацькі новай напалову боскай дынастыі Майдары і пачне новую сядзьміцу ўсеагульным пераінaчваннем чалавечага роду і ён пойдзе ў накірунку ўдасканалення на працягу наступных сямі кіраванняў. Затым увесь сусвет зноў пойдзе ў накірунку заняпаду. І падобны сусветны колазварот будзе паўтарацца да апошняга із тысячы трох цароў-багоў – да Ачырвані.

Пад час яго фатальнага валадарання жахі адсутнасьці маралі і жахлівыя знаменні будуць павялічвацца з кожным годам, прадказваючы заканчэнне сусвету. На небе з'явяцца два сонцы, потым чатыры, і нарэшце шаснаццаць. Ад іх невыноснай спякоты расьліны і жывёлы высахнуць і зямля будзе ўяўляць із сябе, як напісана ў кнізе "Санан Бурхан Судэр", распаленую печ, і ўсе горы будуць дыхаць палымем. Нават Залатая жаба, гэтая знакамітая істота, якая жыве пад вялікай гарой Сумбер, адчуўшы памяншэнне патрэбнай для яе вільгаці, будзе вымушана парушыць сваё сучаснае становішча і павярнуцца, праз што – на жаль! – увесь сусвет павернецца ўверх дном.

Але гэтыя ўяўленні пра ход сусветных спраў не ва ўсіх буддыйскіх кнігах аднолькавыя. Згодна з іхнымі іншымі паведамленнямі, існаванне нашага сусвету будзе абмежавана шасьцю перыядамі. Першы з іх – перыяд заснавання, – абдымае час ад з'яўлення паветранай стыхіі да ўтварэння пякельных істот. Другі перыяд з'яўляецца перыядам землятрусаў: атрымаўшы свой пачатак у той час, калі людзі жылі незлічоныя гады, гэты перыяд працягваецца і зараз і закончыцца, калі яны пачнуць жыць не больш за дзесяць гадоў. Трэцці перыяд будзе прамежкавым з адваротныхі ўласьцівасьцямі. Людзі ад дзесяцігадовай працягласьці жыцця паступова пяройдуць да васьмідзесяці тысячнай. Чацьвёрты перыяд будзе перыядам разбурэнняў, ад спусташэньня зямлі мячом ён пяройдзе да яе спусташэння полымем і вадой. Пяты перыяд будзе перыядам спусташэння і працягнецца ад часу зруйнавання сусвету полымем і вадой да аднаўлення яго ў ранейшым выглядзе паветрам. Шосты перыяд будзе вялікім перыядам, ад аднаўлення паветра да заканчэння перыяда запусьцення. У ім будзе сто малых перыядаў і кожны з іх, працягваючыся 500 гадоў, будзе адначасова суправаджацца адчувальнымі для сусвету ўзрушэннямі.

# Глава XIV

## Касмалагічныя ўяўленні сучаснага нам тунгускага, бурацкага і калмыцкага буддызму.

Касмалагічныя рукапісы ад імя разнастайных словаахвотлівых старцаў-святароў Індыі, Цэйлона, Тыбета, Манголіі і Кітая моцна адрозніваюцца паміж сабой.

"Запытайце якога заўгодна бурата або тунгуса буддыйскага веравызнання, – выказваецца праф А. Кавалеўскі[34], – пра прадвечную нагоду ўсяго бачнага і вы атрымаеце адказ, што творчым пачаткам з'яўляецца бурхан (бог)". І гэты бурхан атаясамляецца з Буддай, гэтак жа, як і Ісус-Выратавальнік ў хрысьціян са сваім богам-айцом, прычым лічыцца, што ён таксама існаваў спрадвеку і праз яго бог-

[34] А. Кавалеўскі "Буддыйская касмалогія".

айцец ўсё стварыў, так што ён толькі набыў чалавечы вобраз з дапамогай Марской панны[35].

Але бог-сын у хрысьціян увасобіўся толькі раз, а ў буддыйскай тэалогіі шмат разоў. Упершыню ён з'явіўся ў выглядзе Шак'я-Мунія, потым у выглядзе яго вучня Бадзісатвы (інакш Арыяпала, аднайменны з Арыем). Потым гэты Арый увасабляўся пасьлядоўна, як брамінскі сын Крэйксэн.

Царэвіч Тарху Ўкгэй
Царэвіч Хамукга-Баясхуланк
Царэвіч Тэгры Турулкіту
Царэвіч Эрдэні Хaралік
Царэвіч Чынк Бітралту
Цар Аайн Цокту
Царэвіч Машы Чынгк Бішкрэлту
Царэвіч Арбін Айоту
Баясхуланг-барыкчы
Тойна Ўбашы
Магінадра
Саран Кубэкгун
Ратна гар і кубекчун
Падма кубекгун
Крэгэл кубакгун
Царэвіч Дэкгэду джыргаланкг
Цар Дава-раджа
Царэвіч Бурсанг-Хуварагі арбытхакчы
Кпэс эр хан
Хубілган Таалай
Найман насуці Наган
Сурукчы
Брамін Дэкгэду Эрдэні
Сайн Дыян Кгелункгра
Укэнгерун Іакгачары
Цар малога двіпа
Птушка Бітун ябакчы сралонкі
Цар Абурал уккеукчы
Цар Найман саба барыкчы
Цар Буяну Вакту

І ў шэрагу іншых у Індыі. А потым, перасяліўшыся ў Тыбет, Будда-Хрыстос увасабляецца так:

Цар Куцукэун сандаліту

Цар Сронгдзам Кгамбо, як розныя ламы і вяльможы, і нарэшце, як сучасны Далай-Лама.

У гэтых Далай-Ламах Будда-Бог увасабляецца і зараз да прыходу апошняга Будды Мойтрэя (або Майдары).

Сусвет складаецца із трох светаў:

1. Верхні свет.

---

[35] Панна Марыя або панна Марына азначае Марская панна, але тэндэнцыйна выводзіцца ад жыдоўскага (MPIM) – горкая.

Гэта царства сапраўднага заспакаення (Нірвана), там існуе найчысьцейшы дух (г. азн. розум), нябачны і не ўспрымаемы дотыкам, першабытная вярхоўная мудрасць. Дасягнуўшыя яго маюць назву "пераправіўшыяся на супрацьлеглы бераг мудрасьці", зліваюцца з бажаством, запаўняючым верхні сьвет. Там 4 вобласьці: 1. вобласць самых аддаленых межаў думкі, 2. вобласць нерэчавога існавання, 3. вобласць бязмежнага ўсёведання і 4. вобласць бязмежнага эфіру. Гэты сьвет прасьціраецца да бясконцасьці.

2. Сярэдні свет.

Гэта месца з'яўлення Будды-Хрыста ў поўным бляску і велічы яго духоўна-бачнага стану. Тут знаходзіцца боская мудрасць, падзеленая на незлічваемую колькасць асобных духоўных індывідаў, надзеленных жыццём. Гэтыя індывіды духу і апускаюцца ў наш ніжні сьвет для ажыўлення яго істот. Гэта сьвет нематэрыяльныных формаў, і ў яго прыляцаюць душы людзей, якія дасягнулі дасканаласьці. Яго 4 аддзелы маюць найменне "дыяны", г. азн. боскія сузіранні.

**А**. Самы верхні аддзел дыяна (г. азн. сярэдняга сьвету) 4-ы пры злічэнні знізу ўверх, складаецца із дзевяці паверхаў. Самы верхні із іх з'яўляецца вобласьцю знаходжання прыпадобненых Буддзе-Хрысту і бадзісатваў. Зверху яе, на шостым ярусе, жывуць толькі стаўшыя Буддамі-Хрыстамі. У ёй не чуваць ніякіх слоў, няма дрэў, акрамя дрэва Разуму (Боды), няма рэк і мораў, акрамя чароўнага фантана, падзяляючагася на 8 рэк. Там няма ночы і дня, солнца і месяца, а толькі яркае святло мудрасьці ўваскрашэнцаў (хутуна), няма цароў і царадворцаў, няма майго і твайго, няма страў, акрамя жыватворнага чароўнага сузірання, няма напояў, акрамя чароўнага нектару (рашыяны), які задавальняе ўсе жаданні, няма адзення, акрамя вопраткі духоўнага абета, няма ні старосьці, ні хвароб[36].

На наступных пяці паверхах сярэдняга свету жывуць пераўвасабленцы (хутухты). Із іх на пятым ярусе (лічачы ад зямлі) рост насельнікаў = 16000 буддыйскіх міль[37] і жывуць яны 16000 сусветных эпох[38].

На чацьвёртым ярусе рост насельнікаў 8000 міль і жывуць яны 8000 сусветных эпох. На трэццім ярусе рост складае 4000 міль, а працягласць жыцця 4000 сусветных эпох. На другім ярусе рост жыхароў 2000 міль, а працягласць жыцця 2000 сусветных эпох. На першым ярусе рост жыхароў неба 1000 міль і працягласць жыцця 1000 сусветных перыядаў. Ніжэй іх знаходзіцца тры ярусы-паверхі, прызначаныя для "заслужыўшых". Із іх трэцці (ад зямлі) – вобласць найвялікшых заслугаў і патрапіўшыя ў яго атрымліваюць рост у 500 міль і час жыцця 500 сусветных перыядаў.

Другі ярус – вобласць вызначыўшыхся сваімі цнотамі. Рост патрапіўшых туды складае 250 міль, а час жыцця 250 сусветным перыядаў. Першы ярус мае найменне безвоблачны і патрапіўшыя туды набываюць рост у 125 міль і час жыцця 125 сусветных перыядаў.

**Б.** Трэцці. Лічачы ад зямлі, нябесны аддзеў сярэдняга свету (III дыяна) прызначаны для дабрадзейных і складаецца із трох ярусаў. У верхнім ярусе размешчаны "атрымліваючыя асалоду ад дасканалага шчасьця" і ім дадзены рост у

---

36 Магі Кгамбо, ліст 2. Некаторыя іншыя рукапісы над гэтай сёмай вобласьцью паказваюць яшчэ восьмую – вобласць вялікага Валадара, брамінскага бога Шывы.

37 Па-мангольску БЭРЭ, па-санскрыцкі ІАДЖАНА, згодна з меркаваннем Джонса (<…>., IV, 157; VI, 168) яна параўноўваецца з 4 нямецкімі мілямі, каля 32 кіламетраў, на думку Самберса яна ад 9 да 12 геаграфічных міль. Абель-Ремюза (у <…>, 1831 з 602) различае тры іаджаны: большая каля 40, сярэдняя каля 30 і малая каля 20 кіламетраў, а Шлегель надае для іаджаны 8 кіламетраў.

38 Кожная сусветная эпоха = 4320000000 гадоў.

64 мілі і час жыцця ў столькі ж сусветных перыядаў. На сярэднім ярусе жывуць “бязмежна шчаслівыя”, і маюць рост у 32 мілі і працягласць жыцця ў столькі ж сусветных перыядаў, а ў ніжнім ярусе жывуць проста “шчаслівыя”, атрымаўшыя рост у 16 міль і час жыцця 16 сусветных перыядаў.

**В.** Другі ярус (па ліку знізу ўверх) нябеснага сярэдняга сьвету (II дыяна) заключает ў сабе тры сьветлыя ярусы. Верхні – найсьвятлейшы, сярэдні вельмі сьветлы і ніжні – маласьветлы. Патрапіўшыя ў верхні атрымліваюць рост у 8 міль, патрапіўшыя ў сярэдні ў 4 мілі, і ў ніжні – 2 мілі, а жывуць там такіж лік сусветных перыядаў.

**Г.** Першая па ліку знізу ўверх небесная вобласць сярэдняга свету (I дыяна) населена анёламі (тэгрыямі) раней усіх аднаўляючыміся пасьля сьмерці, у ёй таксама тры ярусы. Верхні ярус – гэта, так званы, паверх Вялікага Брамы (бога-айца, у чым праглядаецца сувязь з брамаізмам Індыі), насельнікі якога атрымліваюць рост у 1½ мілі і такую ж колькасць сусветных перыядаў для знаходжання. Сярэдні ярус – паверх міністраў Брамы і яго насельнікі атрымліваюць рост у 1 мілю і 1 сусьветны перыяд для жыцця, і ніжні ярус, паверх дзяцей Брамы, з ростам у ½ мілі і працягласьцю жылля ў ½ сусветнага перыяду. Цікава тут тое, што Брама (г. азн. Бог Слова) лічыцца сапраўдным светатворцам і ў хрысьціян і ў індусаў і ў буддыстаў, гэта ён сатварыў цялесны ніжні сьвет.

3. Ніжні сьвет.

Гэта сьвет з'яўлення жывога духу ў рэчыве. У ім арганічныя істоты безперапынна памнажаюцца пад разлічнымі відамі. Вышэйшыя арганічныя істоты, гэта тэгрыі, сярэдныя – людзі і ніжэйшыя – жывёлы. У ім шэсць ярусаў, накшталт паверхаў.

**А.** У першым ярусе (лічачы зверху) знаходзіцца жыллё “спрыяючых перараджэнням" – шымнусаў з іхным царом Шымнусун-ханам, ворагам заспакаення (нірваны), валадаром пачуццёвага свету (сансары). Ён вельмі падобны на хрысьціянскага сатану, робіць перашкоды на шляху распаўсюджвання вучэння Будды, заваблівае ў грахоўныя ўчынкі, прынімае выгляд і мужчын, і жанчын, і звяроў, насылае пераследы, заразлівыя хваробы. Сам Будда неаднаразова зведваў ад яго спакусы.

На санскрыцкай мове ён мае назву Сьмерць (Мара, сугучна з Марс), а на мангольскай Магутнейшы. Яго жонка мае назву “Чаткона сіцэй” і із яе галавы выходзяць пяць стрэл: гонару, асьляплення, бяздушнасьці, памрачення і пераіначання розуму, ад паразы імі і ўзнікаюць гэтыя недахопы. У яе чатыры сяброўкі: адна падбухторвае да сварак, другая да забойстваў, трэццяя да асалодаў, чацьвёртая да ліхіх задумак.

Пад уладай цара шымнусаў знаходзяцца цірцікі (рускія чорцікі), але і яны служаць не толькі да заваблівання ў грэх, але і да абуджэння самасьвядомасьці. Вось, напрыклад, апавяданне, прыведзенае А. Кавалеўскім у яго “Буддыйскай касмалогыі”.

"Двае юнакоў падрыхтаваліся да паступлення ў духоўны сан. Шымнус, прадбачачы, што яны (стаўшы вучнямі Гадама, г. азн. Шакамунія), будуць супрацьстаяць яго ўплыву і праз гэта апусьцее царства шымнусаў, узнамерыўся, прыняўшы на сябе іншы выгляд, супраціўляцца ім і завесьці ў грахоўныя справы. У адно імгненне, ператварыўся ў драдцу Асвачы, са свайго палаца ён пераляцеў на шлях, якім ішлі пабожныя юнакі. “Дарэмна, – прамовіў ён, – раней я вам раіў шукаць Гадама. Яго дапамога для вас не мае карысьці. За добрыя і кепскія справы ўсюды можаце знайці адплату. Атрымлівайце зараз асалоду ад жыццёвых задавальненняў, не звяртаючы ўвагу на пакуты ідучыя поруч з

нараджэнне, хваробамі, старасьцю і сконам людзей”. У гэтых словах адзін із юнакоў, заўважыўшы хітрасць Шымнуса, маючага жаданне ўхіліць іх ад прыняцця звання Тойна, ужыў усе сродкі для пераканання свайго таварыша, каб ён не пакідаў ранейшага намеру набыць духоўнае званне, а потым запярэчыў Шымнусу, запэўніваючы яго, што ніякая магутнасць не зможа паслабіць у іх жаданне, накіраванае да набыцця годнасьці Тойна і здабывання перамогі над усімі цялеснымі прыманкамі. Твой голас, падобны на голас лісы ў ільвінай скуры, не спакусіць нас! Нябесныя Цегрыі адразу ж ухвалілі непахіснасць юнакоў, дадаўшы, што на такім шляху паспеюць уцахімыць усе пакуты на сьвеце, пераважна таму, што яны выбралі для сябе за ўзор паводзіны Сапраўды-ідучых, ухваленыя ўсімі дасканалейшымі Буддамі. Потым Шымнус ператвараўся яшчэ ў жудаснейшую скалу, каштоўную, прасьціраючуюся на тысячу міль гару, выдаючы на ёй гнеўны голас, падобны рыку тысячы ільвоў; але, пад уплывам Дасканалейшага Будды, пабожныя юнакі не заўважылі ні скалу, ні гару, не чулі ільвінага рыку і нарэшце, атрымалі званне Тойна”[39].

**Б.** На другім, лічачы зверху, ярусе, размяшчаюцца істоты, якія згодна з ўласнай воляй магуць прынімаць розны выгляд, або ператварацца ў абраную імі істоту.

**В.** На трэццім (лічачы зверху) ярусе ніжняга свету – усёрадасным – Будды прапаведуюць сваё вучэнне геніям. Там Будда нашага сьветавога перыяду Шак’я-Муні навучае духаў, перад прыходам да людзей. Там жыве зараз і Чакаемы Будда на імя Хутукту-Майтрэй (Майдары).

**Г.** Чацьвёрты (лічачы зверху) ярус ніжняга сьвету мае назву мірны, таму што там няма варожых дзеянняў.

**Д.** Пяты ярус ніжняга сьвету знаходзіцца ўжо ў зямной атмасферы. У ім жывуць 33 геніі, маючыя па-мангольску назву тэрыі, на-санскрыце траястрынсы. Яны жывуць разам са сваім валадаром Хармуздай (Армузд), заступнікам зямлі, на вялікай сяродземнай гары Сумбер. Восем із гэтых геніяў кіраўнікі, адзіннадцаць – гнеўныя, дванаццаць – сыны солнца і двае – юнакі. Яны пастаянна змагаюцца са злымі духамі асурыямі, якія жывуць каля падножжа той жа вялікай гары і жадаюць выпіць іхнага чароўнага напою.

Вось як апісвае гэта кніга “Чыхула Кэрэкчлэгчы”[40]:

"За 81 тыс. міль, пад вадой, каля падножжа гары Сумэру, знаходзіцца сталічны горад Бахулі цара асурыяў. Пад ім, за 11 тыс. міль, у горадзе Адон-эрыкэту знаходзіцца цар такіх жа асурыеў, і яшчэ ніжэй, за 11 тысяч міль, у горадзе Чынгк-бату жыве цар Машы-дарукчы, і яшчэ ніжэй за 11 тысяч міль, у горадзе Кгун, сталіцы асурыеў, жыве Сайн-аймакту. У асурыеў, таксама як у вобласьці Хамузды, знаходзяцца гарады, дрэвы, камяні. Асурыі бываюць абодвух стацей. Падчас барацьбы за сьвяты напой з тэнгерыямі, яны апранаюць панцыры із золата, срэбра, лазурыта, хрусталя і ўзяўшы лукі са стрэламі і іншымі даспехамі, выступаюцца ў паход чатырма арміямі, пад правадырствам сваіх вышэй пералічаных цароў. Насустрач ім з'яўляюцца цары драконаў (Нага-раджа); і калі не маюць поспеху ў змаганні, то, адступіўшы ў вобласць гар-тэгрыеў, разам з імі робяць напады на асурыяў; у выпадку паразы яны пераходзяць у іншую вобласць тэгрыяў і там разам з імі зноў пачынаюць змаганне з агульным ворагам. Калі ж і тут не змогуць пераадолець яго, то, пазваўшы на дапамогу іншых геніяў, аднаўляюць напады, а калі і зараз іхныя намаганні не маюць пажаданага выніку, яны ідуць у вобласць чатырох вялікіх цароў (махараджа) і, апрануўшы панцыры ўсыпаныя каштоўнымі камянямі, і ўзброіўшыся мячамі, ладзяць рашучы напад на асурыяў і часьцей за ўсё вяртацаюцца пераможцамі.

---

[39] Малон Тойн, л. 6, 7, 8.

[40] А. Кавалеўскі. – Буддыйская Касмалогія, стар. 71.

Калі і на гэты раз зведваюць паразу, то Махараджа, ідучы ў вобласць трыццаці трох тэгрыяў, звяртаецца да іхнага цара Хармузды з наступнымі словамі:

"Уладар, уваж наша прашэнне! Пяць атрадаў нашага абарончага войска не змаглі пераадолець варожых асурыеў. Прыйшла пара пакласьці канец іхнай магутнасьці".

Даведаўшыся пра гэта, Хармузда садзіцца на свайго слана і дае загад 33 геніям выступіць у поле.

"Паплечнікі мае! – прамаўляе ён, – вам вядома, што нашы ворагі асурыі ад падножжа гары Сумэру прабраліся да месца нашага жыхарства. Надзявайце крэпкія панцыры, паўстаньце супраць ворагаў!"

Тады тэгрыі, неадкладна апрануўшы на сябе каштоўнныя панцыры, пры поўным узбраенні выпраўляюцца ў гай, і як смелыя ваяры нападаюць на асурыяў з гарада Сударасун. Калі асурыі і на гэты раз атрымліваюць перамогу над добрымі геніямі, то апошнія адступаюць да горада Сурасун; калі ж тэнгрыі пераадольваюць ворагаў, то пераследуюць іх да мора. Падчас бойкі, параненыя ў галаву  тэнгрыі або асурыі, страчваюць жыццё; але астатнія часткі іхных цэлаў, хоць б і былі пасечаныя на кавалкі, зноў аднаўляюцца. Калі ў сьвеце знаходзіўся Усёдасканалейшы Будда-Хрыстос і сусветны цар, асурыі не мелі жадання змагацца з тэгрыямі, а калі ж калі-небудзь і адважваліся падняць зброю, заўсёды былі прымушаемы пакарыцца сваім пераможцам. Ды і зараз, калі зямлю насяляе шмат дабрадзейных істот, тэнгрыі бяруць верх; калі колькасць грэшнікаў занадта павялічваецца, перамога застаецца на баку асурыяў. З гэтай нагоды, тэнгрыі і абараняюць людзей, захавальнікаў дабрачыннасьці".

Барацьба тэгрыяў з асурыямі, на думку прыхільнікаў Будды, адбываецца і на зямлі, пераважна падчас буры. Гром, уражваючы якую заўгодна адушаўлённую істоту, лічыцца яе следствам; і ўражаная громам істота, згодна з перакананнямі бураташ не павінна заставацца на паверхні зямлі. Сабраўшы святарства для чытання прыстойных малітваў, сярод шматлікага натоўпу крычачага народу, нявінную ахвяру маланкі яны паднімаюць на спецыяльна наладжаныя бярвёны на высокіх слупах. Падобнае відовішча наведвальнікі Забайкальскага краю магуць бачыць у селенгінскіх буратаў, на даліне, вядомай пад найменнем Тамчы-Тала.

**Е.** Шосты (лічачы зверху) ярус ніжняга сьвету ўжо знаходзіцца на самай нашай зямной паверхні. Ён мае назву вобласць "чатырох вялікіх цароў" (Чатур-Мага-раджа). Першы із цароў жыве на паўночным баку Вялікай гары Сумбера і кіруе геніямі, сілкуючыміся чалавечым мясам, другі цар жыве на ўсходнім схіле і кіруе нябеснымі музыкамі; трэцці жыве на паўднёвым схіле і кіруе махарагамі, а чацьвёрты цар жыве на заходнім схіле і кіруе духамі-драконамі.

Усе геніі добрыя, заступнікі зямлі, мораў, гор, рэк, солнца, месяца, зорак, падпарадкоўваюцца гэтым чатыром махараджам, якія, у сваю чаргу, прызнаюць над сабой уладу Хармузды.

Гэтыя шматлікія геніі знаходзяцца ў ніжнім сьвеце пад разнымі выглядамі: добрым нададзены прывабны выгляд, злым – жудасны. У Шастры Чыхула, як зборніку касмалагічных уяўленняў, прыведзены шматлікія падрабязнасьці пра розныя ўласьцівасьці тэгрыяў у параўнанні з жыхарамі іншых частак сьвету. Каб не абцяжарваць ўвагу чытача, паўторым тут некаторыя важнейшыя заўвагі: 1) геніі, насяляючыя шэсць разглядаемых намі абласьцей, сілкуюцца толькі духмянымі стравамі і рашыянам (боскі няктар), між тым, як істоты на вышэйшых над імі узроўнях не прынімаюць ніякай ежы; 2) яны не ведаюць баязьні; у іх ужо існуе падзел на станы, чаго не існуе ў першых двух вышэйшых узроўнях. Ужо існуюць мужчыны і жанчыны, але іхнае ўзаемашанаванне заключаецца толькі ў абдымках, пацісканні рук, усмешках або толькі ў адных поглядах. Яны магуць існаваць пад выглядам чалавека, але із іх толькі самым вышэйшым дадзена права ўвасаблення ў

падобныя нам істоты. Людзі не магуць іх бачыць, калі самі тэгрыі не пажадаюць паказацца ім у сваёй форме. Адны бадзісатвы і ўсе стварэнні, ганараваныя станам нірваны, надзелены здольнасьцю пазнаць кожнага генія, у якім бы абліччы ён ні існаваў.

Я прывяду адну легенду пра гэтыя істоты.

"Аднойчы чуў я, – пападаляе ананімны апавядальнік, – што, калі Усёдасканалейшы Будда знаходзіўся ў мясьціне аднаго падаяннедавальніка, дзе бездапаможныя атрымлівалі ежу, пяць соцень купцоў, здзясняўшыя падарожжа для адшукання каштоўных камянёў, пагадзіліся выбраць са свайго асяроддзя надзейнага даведніка, аднаго ўбаці[41]. Калі яны плылі з ім у адкрытым моры, мясцовы тэгры, узяўшы на сябе выгляд жахлівай пачвары, з чорнымі жудаснымі клыкамі і полымедыхаючай галавой, з’явіўся перад імі, патрабуючы сабе іхны карабель, кажучы:

– Ці ёсць у вас такія жахлівыя людзі, як я?

– У нас ёсць людзі, – адказваў убаці, – значна больш жалівыя за цябе. Гэта тыя, якія праз вар'яцтва і неразважлівасць вядуць злачыннае жыццё, забіваюць іншыя істоты, забіраюць чужую ўласнасць, патакаючы заганным жаданням, вымаўляюць хлусню і няпраўду, ўжываюць падман, здзяйсняюць жорсткасьці, аддаюцца гневу і пачуццёвым задавальненням, і ідуць благім шляхам: яны-та ў будучым жыцці пойдуць у пекла, у рукі пякельных вартавых, эрлікаў. Там некаторых з іх рассякаюць мячамі; некаторых прывязваўшы да калясніц, разрываюць на кавалкі, або, кінуўшы ў ступы, таўкуць, або ламаюць ў жоранах; некаторых выракаюць праходзіць паміж двума гарамі, усеяных мячамі, спальваюць на палаючых вогнішчах, заціскаюць у лёд, вараць у медных катлах, кідаюць у смуродную і нячыстую ваду. Там яны на працягу ста тысяч гадоў пакутуюць пад невыснымі карамі. Такія людзі непаўнальна больш жахлівыя за цябе!

Пачуўшы гэта, марскі геній неадкладна схаваўся ў сваю бездань. Потым, пераўтварыўшыся ў чалавека змардаванага худзізной, у якога жылы прыкарэлі да костак, зноў наблізіўся да мараходаў з пытаннем:

– О, людзі! Аддайце мне ваш карабель і скажыце: ці ёсць у вас настолькі высахшая істота?

– Ёсць, – запярэчыў шляхаводнік убашы, – ёсць шмат такіх, якія больш высахлі.

– Хто яны? – запытаў тэнгры.

– Тыя, – адказаў убашы, – якія праз вар'яцтва і сваю неразумнасць становяцца зайздрослівымі, карысьлівымі, не падаюць падаянняў, і за гэта пасьля сьмерці нарадзіўшыся бірытамі, маюць цела велічынёй з вялікую гару, а горла як вушка іголкі; у іх валасы ўскудлачаныя; яны цалкам высыхаючы, знемагаюць і на працягу шматлікіх соцень гадоў нават не чуюць назву вады. Такія значна больш жахлівыя за цябе!

Пасьля гэтых слоў геній зноў схаваўся ў марскую бездань, а праз некаторы час, прыняўшы на сябе выгляд прыгожага юнака, зноў з'явіўся перад мараходамі, і па ранейшаму запатрабаваў у іх карабель, кажучы:

– Ці ёсць у вас такія прыгожыя людзі?

– Ёсць, – запярэчыў убашы, – у сто тысяч разоў больш прыгожыя за цябе!

– Хто ж яны?

– Мудрыя, дакладныя выканаўцы цнотаў цялесных, вусных і духоўных, згодна са сваімі ўчынкамі цалкам чыстыя і схільныя да трох скарбаў, прыносячыя ахвяры са сваёй маёмасьці. Яны-та, скончыўшы сваё існаванне, перасяляюцца ў царства шчасьлівых тэгрыяў і атрымліваюць знешнасць ў сто тысяч разоў больш прыгожую за тваю, так, што ты ў параўнанні з імі будзеш не чым іншым, як малпай перад ільвом.

Тады марскі геній, зачарпнуўшы жменю вады, запытаў убашы:

– У жмені ці ў моры змяшчаецца больш вады?

[41] Убашы або Абушы, назва цывільнага чалавека, які прыняў на сябе духоўныя абавязкі, але яшчэ не прысвечаны.

– У жмені, – адказваў убашы, – больш, чым у моры!

– На мой погляд, гэта не адпавядае рэчаіснасьці, – прамовіў тэгры.

– Не, – запярэчыў убашы, – мае словы цалкам адпавядаюць рэчаіснасьці. Уважліва паслухай мае доказы! Мяркуючы па знешнасьці, у моры сапраўды вады больш; але надыйдзе час, калі яна цалкам высахне. Пры разбурэнні сусьвету, акрамя сучаснага сонца з'явіцца другое, якае высушыць усе ручаі і малую ваду; трэццяе сонца высушыць сярэднюю, а чацьвёртае ўсе вялікія рэкі, пятае знішчыць частку марской вады, а калі ўзыдзе шостае і сёмае сонца, тады знікнуць не толькі вялікія моры, але і Сумеру-гара будзе знішчана полымем і ўсё, што б ні знаходзілася ніжэй першай дыяны. А хто із людзей ад шчырай сваёй стараннасьці паднясе ў якасьці ахвяры для Будды жменю вады, хто падае падаянні святарству, хто душэўна шануе сваіх бацькоў, хто дапамагае бедным і жабракам і платаядным жывёлам, – цноты таго застануцца да заканчэння сусветнага перыяду. Такім чынам, марскія воды згубяць сваё значэнне, а жменя вады ўзвялічыцца.

Абрадаваны гэтымі адказамі тэгрын паднёс у дар убашы вялікую колькасць каштоўных камянёў і самыя лепшыя даў для Будды і святарства. Убашы з купцамі, задаволіўшыся атрыманымі скарбамі, спакойна і мірна вярнуліся дадому. Потым, прыбыўшы да месцазнаходжання Усёдасканалейшага Будды, і пакланіўшыся да ступняў яго і сьвятарства, паднёс ахвяры, як ад сябе, так і ад імя марскога тэгрыя, і стоячы на каленях, вымавіў шчырую малітву:

– О, Будда! Даруй нам духоўны сан згодна са сваім законам!

Будда ледзь паспеў пахваліць іхную стараннасць, як валасы з іхных галоў пападалі самі сабой[42], і старанныя прыхільнікі, апрануўшы сьвятыя рызы, зрабіліся галунгамі[43] і выслухаўшы павучанні сьвятога пісання і ачысьціўшы свае грахі, ганараваліся сьвятасьцю пераможцы варожай мгутнасьці (г. азн. Архаша). Прысутнічаўшыя натоўпы народу, радасна ўхваляючы словы Ўсёдасканалейшага Будды, павялічылі сваё да яго шанаванне.

Тэгрыі складаюць першы галоўнейшы із ліку шасьці разрадаў адушаўлённых істот нашага зямнога яруса. Вось гэтыя разрады: 1) тэгрыі, добрыя геніі; 2) асурыі, злыя духі; 3) людзі; 4) неразумныя жывёлы; 5) бірыты; 6) прэта, г. азн. жыхары вобласьці голаду і смагі, пякельнага пераддзьвер'я і 6) пякельныя істоты.

Часам буддысты замест шасьці разрадаў налічваюць толькі пяць, размяшчаючы ў першым усіх геніяў, пераўзыходзячых чалавека. Фаісты, г. азн. кітайскія буддысты, даюць ім найменні грунтуючыся на іхным спосабе перасялення душ: 1) нябесным, 2) чалавечым, 3) зямным, 4) пякельным, 5) дэманскім (быдлячым). Із іх добрыя духі (або абалонкі пераселенай душы) насяляюць сьветлую вобласць над зямной паверхняй, а злыя – цёмную пад ёю. Добрыя геніі, будучы больш ці менш абмежаванымі матэрыяй, у якую яны ўключаны, зведваюць розныя перамены нароўні з насяляемым імі наваколлем і карыстаюцца шматлікімі перавагамі перад людзьмі: у прывабнасьці, магутнасьці, працягласьці жыцця і задавальненнях. Дзякуючы сваім учынкам, яны пераходзяць у вышэйшыя або ніжэйшыя станы і вобласьці.

Да другога разраду адушаўлёных істот належаць злыя, жорсткія геніі, із якіх важнейшыя асурыі, займаюць чатыры вобласьці пад зямлёй, кіруемыя асобнымі царамі, пра якіх ужо паведамлялася пры апісанні большай гары Сумбер. Да іх адносяць і шматлікіх іншых злых духаў, якія размяшчаюцца на паверхні і ўнутры зямлі, не перамешваючыся, аднак, з жыхарамі пекла; але разам з імі лічацца здзяйсняльнікамі розных бедстваў у сьвеце.

Трэцці разрад істот нашага зямнога яруса шматпавярховага сусьвету – гэта людзі. Яны – сярэдняе звяно ў ланцугу, які злучае вышэйшыя стварэнні з

[42] Буддыйскае святарства голіць галовы.

[43] Трэццяя прыступка буддыйскага пасьвячэння.

ніжэйшымі. Яны павінны з дапамогай самасьвядомасьці ўзвышацца духам да верхняга абстракнага пачатку, целам жа прымацаваны да матэрыяльнай сансары. Нягледзячы на безперапынныя спакусы, чалавек дзейнічае вольна, чакаючы расплаты за свае асабістыя ўчынкі. Для яго адкрыты шлях да адраджэнняў як у коле людзей так і ў колах вышэйшых або ніжэйшых істот.

За заслугі, набытыя пад час зямнога жыцця, пасьля сьмерці ён перасяляецца ў царства тэгрыяў; адтуль за новыя цноты пераходзіць у верхнія краіны шчасьця; калі ж пад час жыцця імкнецца толькі да адных задавальненняў, то пасьля сваёй сьмерці накіроўваецца ў пякельныя вобласьці.

Чацьвёрты разрад істот надземнага яруса сусьвету – гэта неразумныя жывёлы, пакутуючыя ад змроку ці полымя. Тут слабая істота або гіне ад моцнай, або зведвае розныя пакуты. Так, рагатае быдла або пакутуе ад цяжкай працы, або забіваецца для ўжывання ў ежу або для здабывання скур і г. д. Іхнае жыццё часам працягваецца цэлы перыяд светаўтварэння (г. азн. 4320000000 гадоў), а часам занадта хутка заканчваецца.

Чацьвёрты разрад зямнога ярусу сусьвету – гэта бірыты (па-санскрыцку прэта), знемагаючыя ад вечнага голаду і смагі. “За пяцьсот міль, – паведамляе кніга Чыхула кэрклэкчы, – пад горадам Раджа-грыха, знаходзіцца горад бірытаў Кабалі, у якім размяшчаецца іхны вярхоўны валадар Мамун-эрлік з 36 паплечнікамі. Там бірыты не магуць ні ёсьці, ні піць. Калі яны ўзнамерацца прыняць ежу, іхны рот робіцца такі малы, як вушка іголкі, а горла, як колас, а калі пасьпяваюць праглынуць ежу, то іхнае чэрава, зрабіўшыся падобным гары, нічым немагчыма насыціць, а калі яно і напоўніцца, то іхныя ногі робяцца тонкімі, як запалкі або як трава кавыль, так што яны не магуць трымаць цяжар іхнага цела. Звычайнай ежай бірытаў з’яўляюцца іскры распаленага чыгуну, ад якіх у іх гараць ўсе часткі цела. З'яўляючыся ў месцах людзкога жылля, яны часта набываюць выгляд якіх-небудзь пачвараў. Іхнае жыццё працягваецца да пяцісот гадоў, лічачы кожны дзень за наш месяц. У іхным выглядзе адраджаюцца душы зайздросьлівых людзей, людзей не даючых падаяняў, рабаўнікоў і перамюбцаў.

Апошні разрад адушаўлёных істот зямнога яруса сусьвету складаецца із жыхароў апраметнай. Мангольская назва гэтага вузілішча пачвар, “таму”, відавочна паходзіць ад нашага слова цьма і яно часта заменяецца іншым найменнем “нарака”, г. азн. змрок. Ужо адно гэта словаўтварэнне паказвае на крыніцу гэтых уяўленняў, калі не ад рускіх, то ад славян. Ды і само яго апісанне вельмі блізкае да народным рускіх уяўленняў.

Так, буддыйскія пісьменнікі аднагалосна пераконваюць, што ***пекла дзеліцца на чатыры часткі***, у ліку якіх **першае месца** занімае гарачае пекла, якое складаецца із васьмі абласьцей.

У першай вобласьці прыслужнікі пекла безперапынна перакідаюць грэшнікаў із нажа на нож, і потым, ажывіўшы напалову памёршых, зноў катуюць па-ранейшаму. Падобнае пакаранне працягваецца пяцьсот гадоў, у якіх кожны дзень заключае ў сабе 50 нашых звычайных гадоў.

У другой вобласьці ахоўнікі пекла дэманы эрлікі распілоўваюць небарак вогненнай пілой, расьцягнуўшы іх на вогненнай пліце. Гэтая пакута працягваецца тысячу гадоў, у якіх кожны дзень складае сотні нашых гадоў.

Скінутыя ў трэццюю вобласць трапляюць паміж двума жалезнымі гарамі, якімі і сьціскаюцца да таўшчыні пераносіцы авечкі. Пасьля гэтага дэманы, прывёўшы грэшнікаў у першапачатковы стан, аднаўляюць катаванне. Падобнае

пакаранне працягваецца дзве тысячы гадоў, у якіх адзін дзень складаецца із 200 нашых гадоў.

У чацьвёртай плачэўнай вобласьці вінаватыя, пазбегнуўшы накаленага жалеза, хаваюцца ў дрымучым лесе, дзе і гараць на працягу чатырох тысяч гадоў, кожны дзень якіх складаецца із чатырохсот ншых гадоў.

Істоты пятай вобласьці зведваюць жудасныя пакуты ў жалезным доме, які мае падвойную агароджу, із якой яны не магуць вызваліцца раней заканчэння 8000 гадоў, кожны дзень якіх змяшчае ў сабе ўсё жыццё аднаго рода тэгрыяў.

Асуджаныя ў шостую вобласць гараць на вогненных жалезных вілках ў вялізных чанах, напоўненых растопленым чыгуном. Іхная пакута доўжыцца не менш за 16 000 гадоў, у якіх адзін дзень складае цэлае жыццё другога роду тэгрыяў.

У сёмай вобласьці дэманы эрлікі, пратыкнуўшы вінаватых трызубцам, і потым загарнуўшы ў распалены жалезны ліст, вараць у кіпячым чыгуне. Такая пакута працягваецца тут удвая больш папярэдняй.

Восьмая ж вобласць з’яўляецца несгасаючым полымем, у якім гараць грэшнікі без найменшай палёгкі на працягу 32 000 гадоў, дзе кожны дзень працягваецца палову сусветнага перыяду.

Апісанныя тут вобласьці пекла маюць выгляд чатырохкутніка, кожны бок якога прасьціраецца на 2000 міль. Перад брамай ў сьценах выкапаны глыбокія вогненныя равы, якія не дазваляюць грэшнікам самавольна пакідаць месцы, прызначаныя ім грунтуючыся на меры злачынстваў, здзейсненых імі на працягу жыцця.

**Другае аддзяленне пекла** – ледзяное, якае з'яўляецца ўжо далейшым развіццём хрысьціянскага, а таму і павінна было ўзнікнуць пазней, – складаецца таксама із васьмі абласьцей, размешчаных на снежнай раўніне, і аточанае снежнымі гарамі.

У першай вобласьці ўся скура вінаватых ад халоднага ветру пакрываецца бурбалкамі. Пакуты тут працягваюцца столькі часу, колькі патрэбна для ачышчэння мяшка, змяшчаючага ў сабе дваццаць мер кунжутнага насення, вынімаючы праз стагоддзе па аднаму зерню.

У другой вобласьці гэтыя бурбалкі прарываюцца па ўсяму целу пакутнікаў ад большага халоду. У трэццяй сціскаюцца зубы, у чацьвёртай халод узмацняецца да такой ступені, што выклікае жудасныя пакуты, якія дасягаюць сваёй навышэйшай степені ў наступнай, пятай вобласьці, маючай назву пакутніцкая. Шостая вобласць змяшчае ў сабе злачынцаў, цела якіх растрэскваецца нападобе кветкі махровай астры, у сёмай растрэскваецца нападобе лістка крываўніка, а ў восьмай яшчэ больш.

Але гэтага яшчэ мала.

З чатырох бакоў гарачага пекла маюцца:

1) Палымяны роў, у якім цела грэшніка згарае да костак; але выйшаўшы адтуль набывае свой ранейшы выгляд.

2) Паганае балота, у якім чарвякі з’ядаюць вінаватага таксама да костак.

3) Лес мячоў, дзе замест галін і лісьця на дрэвах замацаваны мячы, якія прыходзяць у рух ад павеву найменшага ветру і разразаюць на кавалачкі асуджаных туды. А сабакі з жалезнымі зубамі кідаюцца на парэшткі пакутнікаў, якія шукаюць выратавання на жудасным дрэве Шылмалі, не ведаючы, што там іх чакаюць новыя пакуты ад 16-вяршковых іголак і ад птушак з жалезнымі дзюбамі.

І, нарэшце, там ёсць непераадольная рака, запоўненая распаленым пяском, якая абцякае тры вобласьці “пекла з мячамі”. Упаўшыя ў яе істоты плаваюць там, нападобе сарачынскага пшана ў кіпячым катле.

Розныя буддыйскія пісьменнікі згадваюць і яшчэ пра некаторыя вобласьці пекла, дзе злачынцаў living рознымі спосабамі катуюць эрлікі. Але так як гэта толькі варыянты хрысьціянскіх паданняў на тую ж тэму, то лепш не будзем выдаткаваць на іх час, і пяройдзем із пекла зноў на зямную паверхню, апішам яе цудоўны выгляд, грунтуючыся галоўным чынам (як і ва ўсім гэтым апісанні пекла) на кнізе А. Кавалеўскага “Буддыйская касмалогія”.

4. Жыццё на зямлі.

Зямля ў буддыстаў лічыцца не шарападобнай, а шырокай плоскасьцю, якая пасярэдзіне змяшчае найвышэйшую гару Сумбер, аточаную чатырма большімі і васьмю малым часткамі сьвету (шаіб), з усімі сваімі морамі і водамі, прасьціраючыміся гарызантальна. Да гэтай сістэмы сьвету належыць сонца, месяц і ўсе зоркі, як празрыстыя месцы жыхарства багоў. І зародак такіх уяўленняў мы бачым у Касьма Індыкаплеўста, грэцкага аўтара, якога адносяць да IV стагоддзя (мал. із т. 1, стар. 20). Я прадстаўляю пра гэта адзін урывак із Шастры-Чыхул у перакладзе.



Пры стварэнні сусьвету ўзнікла першая із гор Сумэру, якая, падчас светаразбурэня знікне пасьля астатніх. Яе называюць царом гор (агусалун жаган), “яна ўтварылася із усхваляваўшагася акіяну, із верхніх хваляў, а іх сярэдніх утварыліся сем залацістых гор, адна жалезная, а із змешаных хваляў чатыры часткі сьвету (швіб).

"Сумэру складаецца із чатырох каштоўнасьцей: яе ўсходні бок із срэбра, паўднёвы із лазурыка, заходні із яханту, паўночны із золата. Сем залатых гор складаюцца із аднаго золата, а часткі сьвету із зямлі і іншых рэчываў і абведзены жалезам. Частка гары Сумэру, схаваная ў моры, паглыбляецца на 80000 міль, і другая ўзвышаецца над паверхняй вады таксама на 80000 міль.

Адна із сямі залатых гор падобна на хамут і мае ў вышыню 40000 міль. Другая падобна на сашнік і мае ў вышыню 20000 міль. Трэццяя падобна на кветку айвы і мае ў вышыню 10 000 міль. Чацьвёртая вызначаецца прыгажосьцю і мае ў вышыню 5000 міль. Пятая падобна на вуха каня і мае ў вышыню 2 500 міль. Шостая сваёй вяршыняй нахілена да Сумэру і ўзвышаецца на 1250 міль. Сёмая падобна на абечак кола і мае ў вышыню 625 міль.

Сярод гэтых залатых гор знаходзіцца месца забавы і баляванняў цароў драконаў і сем мораў, вядомых пад найменнех забаўляльных. Першае з іх, паблізу гары Сумэру, мае 80000 буддыйскіх міль у шырыню. Другае – 40 000 міль, трэццяе – 20000; чацьвёртае – 5000; шостае – 2500, і сёмае – 1250 міль. Вада ў іх халодная, салодкая, лёгкая, празрыстая, духмяная, гаючая і няшкодная. Сумэру і сем залатых гор і сем мораў размешчаны чатырохкутнікам. Па-за імі знаходзіцца салёнае мора. Ад разнакаляровых прамянёў, якія ідуць ад чатырох бакоў гары Сумэру, вада ў салёным моры на ўсходнім баку здаецца белай, на паўднёвым блакітнай, на заходнім чырвонай і на поўначым жоўтай. Таму гэтыя чатыры моры і атрымалі найменні: белае, блакітнае, жоўтае і чырвонае. Іхная мяжа заключае 3.600.750, а звонку атачаючая іх жалезная гара цягнецца на 3600625 буддыйскіх міль.

Ад гары Сумэру бяруць пачатак чатыры большія часткі сьвету і паблізу ад іх выспы (дзьвіды). Вось яны згодна з кнігай Чыхул-кэрэкглэкчы:

"На ўсходнім баку вонкавага мора ляжыць выспа ў выглядзе трохкутніка[44], бок якога, павёрнуты да Сумэру прасьціраецца на 350 міль, астатнія на 6000, а ўся перыферыя складае 6350 міль. З поўначы да яе прылягае адна, а з поўдня – дзве малыя выспачкі (зямля прыгожых і рослых асобаў[45]).

"На паўночным баку вонкавага сьвету чатырохкутная выспа, кожны бок якой прасьціраецца на 2000, а перыферыя складае 8000 міль. З усходу да яе прылягаюць яшчэ дзве малыя выспы. Багацце тутэйшых жыхароў заключаецца ў дрэве Калбарыс, якае сваім злавесным голасам паведамляе людзям пра іхную сьмерць за сем сутак наперад. Ад таго і гэты сьвет атрымаў назву злавеснага.

На заходнім баку вонкавага мора ляжыць выспа Абарагадонія, зямля Ўкэрту Дзвіб – прыдатная для рагатага быдла. Гэта колападобная зямля, маюшчая ў папярочніку 2500, а ў акружнасьці 7 500 міль.

Каля яе размешчаны дзве малыя выспы, адна з поўдня, другая з поўначы. Яе ж назва паходзіць ад таго, што тутэйшыя жыхары пераважна займаюцца жывёлагадоўляй[46]".

На паўднёвым баку вонкавага мора ёсць выспа, у выглядзе вазы, пад назвай выспа Дрэва-Джамбу[47], у якой адзін, павёрнуты да жалезнай гары бок небольшi, а астатнія маюць у даўжыню па 200 міль. Уся яго перыферыя складае 600372 міль і 4 голасы. Каля яе знаходзяцца дзве малыя выспы. А на самай яе сярэдзіне знаходзіцца царства Макгада, у якім Будды трох часоў (мінулага, сучаснага і будучага) навучаюць веры. Джонс із кніг Пурана здабыў нават 81 цара гэтай міфічнай Макгады. Пачатковыя дваццаць пералічаны без храналагічных пазначэнняў. Астатнія ж размяркаваны на пяці дынастыях, із якіх у першай, ад Прадыёты да Нанды налічваецца 16 цароў (2100-1502 гг. да н. х.), цараваўшых у сярэднім па 37 гадоў. У другой Мунея, дзесяць асоб, цараваўшых да 1365 год да н. х., з працягласьцю ў сярэднім па 14 гадоў; у трэццяй Сунга, таксама дзесяць асоб па 1253 год, цараваўшых у сярэднім па 11 гадоў; у чацьвёртай Кана, чатыры цары па 908 год да н. х., цараваўшых у сярэднім па 86 гадоў; у пятай Андра дваццаць адзін цар па 456 год, з сярэднім цараваннем 21 год, а далей, згодна са сведчаннем Пандыты, больш не згадваецца пра самастойнае царства Макгада.

Так даўно яно знікла з паверхні зямлі. Але ўсё ж і зараз на поўнач ад яе за дзевяццю чорнымі гарамі знаходзіцца гара Гандэша, якую санскрыты лічаць за Гімалаі, хаця гэтае найменне і больш сугучна з Гіндукушам у Афганістане, а яшчэ далей гара Духмянасьці.

Паміж гэтымі двума гарамі знаходзіцца жыллё цара драконаў, па імя Арога (у іншых спісах Мадой, сугучна із Мідыяй) і чатырохкутнае возера Мапама, кожны бок якога прасьціраецца на 50 міль а ўся акружнасць складае 200 міль. Вада яго халодная, салодкая, лёгкая, празрыстая, духмяная, гаючая і не шкодная.

На гэтай жа выспе дрэва-Джамбу, і на паўднёвым баку зямлі, знаходзіцца, як у біблейскім зямным раю, чатыры вялікія ракі, бяручыя пачатак са скалаў, якія знаходзяцца на беразе цудоўнага возера Мапама і маючых выгляд нейкай жывёлы. З усходняга боку гэтага райскага возера, са скалы, падобнай на слановы хобат, выцякае срэбраносная рака Ганга, якая, злучыўшыся з пяцюстамі рэчкамі,

---

[44] Па іртынцуй толі ў Бергманна, 1926.

[45] Абель-Рэмюза.

[46] А. Ремюза.

[47] Джамбудвіб, на санскрыце азначае ўласна выспа, на якой расьце дрэва Джамбу. Вільсан тлумачыць гэта такім чынам....

зліваецца з гэтым морам. Яе вада смачная, але густая, як малако. Са скалы, падобнай на нос міфічнай птушкі Гагудыя, бярэ пачатак рака Сінду (Інд?), якая разам з пяцюстамі іншымі рэчкамі ўліваецца з паўднёвага боку ў мора Мапама. Са скалы, падобнай на морду каня, выцякае хрусталеносная рака Бакчу (Окс-ур), якая, злучыўшыся ў пяцюстамі іншымі, зліваецца з морам з заходняга боку. Нарэшце, са скалы, падобнай на ільвіную морду, выцякае залатаносная рака Сата (Сіста), якая, злучыўшыся з пяцюстамі іншымі, зліваецца з морам з паўночнага боку. І кожная із гэтых рэчак, сем разоў абвёўшы сваё цудоўнае возера Мапаму, цячэ далей і нарэшце зліваецца са знешнім морам[48]. У шастры пад назвай Нэрэйдуксен паведамляецца, што рака Ганга, Сіндзі, Бакчу і Сіша вельмі бурлівыя і асвяжаюць прылягаючыя да іх краіны.

Само сабой зразумела, што шукаць тут нешта геаграфічнае сьмешна, тут толькі адчуваюцца адгалоскі пачутых аўтарамі міфа некаторых сапраўдных назваў, якія яны размяшчалі згодна з іхнымі  фантастычнымі ўяўленнямі.

Але тут уяўляе цікавасць кідаючаяся ў вочы аналогія з чатырма рэкамі біблейскай кнігі Быццё. Таму што выспа Джамбу тое ж самае, што і біблейскі зямны рай, у сярэдзіне якога расло Дрэва выведвання дабра і зла.

"Із Эдэма, – паведамляецца ў кнізе Быцця (2, 10), – выходзіла рака для арашэння раю і падзялялася на чатыры ракі: найменнне адной Фісон, яна абцякае ўсю зямлю Жавіла, дзе золата і камень анікс. Найменне другой Ціхон, яна абцякае зямлю Кучы; найменне трэццяй Хідэкель, яна працякае па зямлі Ашур і найменне чацьвёртай Еўфрат".

Хто ж ад каго запазычыў?

Гэта не цяжка бачыць. У толькі што выкладзеным буддыйскім паданні зроблены лагічны пераскок: пачатак чатырох рэк перанесены на нейкую паўднёвую выспу старога сьвету, накшталт Цэйлона, а потым, як у сне, гэтыя ж рэкі выяўляюцца бягучымі і па ўсяму азіяцкаму кантыненту... Біблейскае паданне, размяшчаючае зямны рай пасярэдзіне зямлі і прасьцей і лагічней, а таму і буддыйская выспа Дрэва Джамбу, з’яўляецца яго далейшым развіццём і прытым яшчэ і пераіначаннем.

Разгледзім жа гэтую буддыйскую геаграфію далей.

На той жа выспе Дрэва, у дваццаці мілях, на поўначы Духмянай гары, знаходзіцца чатырохкутная Залатая скала, належачая асурыям, маючая 30 міль у даўжыню, а ў шырыню 300 міль і 4 галасы.

Далей, на поўнач, у двадцаці мілях знаходзіцца цар дрэў Сала, карані якога ў зямлю прасьціраюцца на 40, а пень мае вышыню ў 80 сажан. Малые дрэвы ў сем шэрагаў ўюцца вакол яго нападобе пацерак.

Там жа, на ўсходзе, у дваццаці мілях знаходзіцца круглае возера, якае мае ў шырыню 50 міль, а ў яго ваколіцах 100 000 малых азёр, вада якіх славіцца васьмю каштоўнымі якасьцямі. На іх растуць кветкі Лілхоа, ствол якіх падобны на саху, а самі кветкі, таўшчынёю як скура вала, падобны на калёсы. Іхны пах мядовы.

"На цудоўным возеры Мапама растуць дрэвы, пад назвай Джамбудашы, хаця іхныя плады не такія смачныя, як у Лінхоа. Калі іхны спелы плод падае ў ваду, чуецца гук Джамбу, які даў нагоду назве выспы Джамбу-двыпа. Частка гэтых пладоў, ператвораная ў рыбу, служыць ежай цару драконаў (Магараджа), а астатнія ператвараюцца ў золата ракі Джамбу.

[48] На думку Д. Буханана, міфічнае возера ці мора Анудаша павінна быць вытокай кітайскай Жоўтай ракі, Окса, які бяжыць у Кітайскае мора, Іртыша ў Сібіры і вядомага Ганга.

На той жа Джамбудвыпе, з захадняга боку, у царстве Ўдыяна (што азначае проста гай, парк, сад), знаходзіцца вялізны дыяментавы палац, населены асобнымі істотамі дакіямі, ад якіх даведаліся большую частку таемных ведаў, служачых да выратавання людзей ад варожых уздзеяняў.

На паўднёвым баку выспы Дрэва знаходзіцца гара з найменнем <...> (падтрымка карабля ці каўчэга), на ўступе якой мае месцазнаходжанне Хэнгшым Бадзісатва, увасабляючыся ў Далай-Ламах, а каля падэшвы жыве Дара-экэ, жонка тыбецкага цара. На ўсходзе ўзвышаецца пяцівершная гара, месца жыхарства Манджушрыя. І вось Абель-Ремюза, кіруючыся кітайскімі аўтарамі, паведамляе нам, што ў старажытнасьці краіна Джамбудвіп (пачаўшыся нечым накшталт выспы Цэйлон, як у сне пашырыўшыся ўжо ва ўсю зямную паверхню), падзялялася на чатыры дзяржавы, кіруемыя рознымі царамі, із якіх 1) на поўначы жыў цар людзей; 2) на поўдні – цар сланоў; 3) на захадзе – таксама цар сланоў (у краіне, прылягаючай да мора, насельнікі якой, не ведаючы ні звычаяў веры, ні грамадзкага ўладкаваня, заніmaліся адзіна скарбамі); і 4) на ўсходзе – цар каней, у краіне халоднай і няплоднай. І нават выяўляецца, што пад найменнем першага цара патрэбна разумець кітайскага імператара; другі цар – гэта вялікі індыйскі Раджа; трэцці Шах Фарсі, а апошні – цар паўночных намадаў, скіфаў, гунаў, туркаў, манголаў і інш.

"Каля выспы Дрэва Джамбу размешчана выспа Сінгала-йн, несумненна водгалас Цэйлона, жыхары якога і зараз завуцца сінгалезцамі, затым яшчэ выспы: Залаты (Алтан двіп), Месяцовы (Саран двіп) і шматлікія малыя, як бы падпарадкаваныя першаму галоўному".

Да гэтай сістэмы ніжэйшага сьвету належыць і сонца, і месяц, і зоркі. “У атмасферы, прасьціраючайся ўверх на 40000, віднеюцца сонца, месяц і зоркі, здзяйсняючыя вярчэнне каля гары Сумэру. Там жа знаходзяцца і паветраныя тэгрыі".

”Сонца складаецца із вогненнага крышталя. Яно ў папярочніку мае 51 мілю, у акружнасьці 153 (суаднясенне акружнасьці і дыяметра ўзята роўзным 3, замест 3,14169), у таўшчыню 6 з лішкам міль. На ім знаходзіцца высокая сьцяна із золата; на ўсходнім баку палац срэбны; на поўдні лазурыкавы; на захадзе хрусталёвы; на поўначы залаты. У пасадным памяшканні жыве тэгрыя Наран са сваімі таварышамі. Сонца, рухаючыся па накірунку паветра, на працягу сутак мінае чатыры галоўныя выспы зямлі. Калі яно на поўначы, дні бываюць доўгімі і час летні, калі пяройдзе на поўдзень, дні памяншаюцца і час бывае зімовы; а калі знаходзіцца на сярэдзіне паміж поўначчу і поўднем, тады раўнадзенства. Ад дзеяння сонечных прамянёў паходзіць як жар так і халод, зіма, лета і ўсе астатнія поры года. Сонца шэсць месяцаў ідзе да поўдзень, і столькі ж на поўнач”.

“Месяц складаецца із вадкага крышталя і мае ў папярочніку 50, у акружнасьці 150 і ў таўшчыню 6 з лішкам міль. На ім чатыры палацы: залаты, срэбны, лазурыкавы і хрустальны, займаемыя сынам тэгрыя на імя Саран, з яго таварышамі. Калі месяц набліжаецца да сонца, тады ён, пакрыўшыся ценем для абароны ад сонечных прамянёў, робіцца нябачным. Пятнаццатага дня кожнага месяца, сонца ад месяца бывае далёка, і таму месяц робіцца добра бачным нашым вачам. А што ж азначаюць плямы на месяцы? Вельмі проста. Некалі Шакямуні Будда прыняў на сябе выгляд зайца, а Хармузда размясьціў яго на месяцы, каб паказаць людзям. Там, у сярэдзіне агароджы прасьціраючайся на 12 міль,

знаходзяцца свае царствы, азёры, чыстыя воды, разнастайныя кветкі і дрэва Калбаравас".

"Зоркі таксама складаюцца із вадкага крышталя, і ўсе колападобныя. Самыя вялікія із іх прасьціраюцца на 3000, сярэднія на 1000, малыя на 500 палётаў стралы. Колькасьцю яны набліжаюцца да 185 мільёнаў. На зорках знаходзяцца месцы жыхарства сыноў і дачок тэгрыяў, якія падпарадкаваны чатыром вялікім царам (Махараджа)".

Але наш трэцці – ніжні сьвет – сьвет з'яўлення духу ў матэрыі, сьвет арганічны, складаецца не із аднаго нашага старога кантынента, з пакрываючым яго нябесным скляпеннем, а із мноства кантынентаў, уладкаваных нападобе толькі што апісаннага (відавочны водгалас адкрыцця Калумбам "Новага сьвету", г. азн., што гэта складзена пасьля 1504 года). Кожны мае сваю гару Сумэру, свае чатыры вялікія і восем малых выспаў, месца жыхарства багоў, сваё сонца, месяц і зоркі. Усе гэтыя сьветы маюць назву тысяча трохтысячаў сьветаў. Із гэтай колькасьці – Малы Хіліякосм (г. азн. малая тысяча кантынентаў) складаецца із тысячы асобных, але цалкам падобных з нашым кантынентам. А так як наш "стары сьвет" уяўляецца ў выглядзе плоскасьці, пакрытай небам, то і ўся тысяча кантынентаў размешчаная на прасторнай плоскасьці, у парадку адзін за другім і вялікія горы служаць іхнымі межамі. Над гэтым-та малым хіліякосмам, ва ўсёй яго прасторы, узвышаецца самы ніжэйшы ярус сярэдняга сьвету, г. азн. маласветны.

Па-за межамі гэтага малога хіліакосма, але ў той жа плоскасьці і атачаючы яго з усіх бакоў, размешчаны сярэдні хіліякосм, які складаецца із мільёна сьветаў і таксама аточаны горным хрыбтом, а зверху пакрыты ўжо сярэднім ярусам (вельмі сьветлым), другой дыяны, і вобласьцю "шчасьлівых", належачай ужо да трэццяй дыяны.

За межамі сярэдняга хіліякосма, у той жа плоскасьці, але навокал яго, размешчаны вялікі хіліякосм, які, разам з папярэднімі складае тысячу мільёнаў сьветаў, і сваёй прасторай дасягае крайніх межаў сусьвету. На ім размешчаны: верхні ярус другой дыяны, г. азн. святлейшы, другая вобласць трэццяй дыяны (г. азн. бязмежна шчаслівых) і вобласць з'яўлення буддаў із чацьвёртай дыяны. Усе пералічаныя сьветы ўтварыліся, насяляліся і разбурацца разам аднačасова з нашым сьветам, і тады ва ўсёй прасторы, ім занімаемай, утворыцца сапраўдная пустэча, да новага сьветаўтварэння праз адзін сьветавы перыяд.

Што ж мы тут бачым, чітач?

Мы бачым адзін і той жа працэс мульціплікацыі ўсіх сярэдневечных і нават больш позніх "дасягненняў" еўрапейскай філасофіі.

У хрысьціян Хрыстос толькі адзін, а тут ужо мноства Хрыстоў-Абуджальнікаў (Будд), у хрысьціян Хрыстос увасобіўся, памёр і ажыў толькі адзін раз, а тут у выглядзе Будд ён і паміраў і ажываў ужо шмат разоў.

У юдэяў маецца толькі адно нябеснае скляпенне над зямлёй, якая складаецца із трох частак – Яўропы, Азіі і Афрыкі. Хрысьціянскія астролагі мульціпліцыравалі яго да сямі нябёсаў, а тут мы маем ужо цэлых 19, не лічачы 6 ярусаў зямнога сьвету[49].

Хрысьціянскі бог уяўляецца толькі ў трох асобах (г. азн. пярсонах), а на азіяцкім усходзе, перамяшаўшы асобу з тварам, пачалі адвобржваць "стваральніка сьветаў" ледзь не з 40 галовамі. Юдэйская тэолагія давяла час жыцця самага

---

[49] У верхнім сьвеце 4 ярусы; у сярэднім сьвеце 4 аддзелы; із іх у чацьвёртым знізу 6 ярусаў; у трэццім 3 ярусы; у другім знізу аддзеле 3 ярусы; у першым знізу 3 ярусы. У ніжнім сьвеце 6 ярусаў.

доўгажывучага чалавека Мафусаіла да 969 гадоў, а тут мы бачым злічэнне ўжо “сусветнымі перыядамі”.

У Яўропе Калумб каля 1500 года нашай эры адкрыў толькі адзін “новы сьвет”, падобны нашаму па свайму ўладкаванню, а тут азіяцкая фантазія давяла колькасць гэтых “новых сьветаў” ужо да трох мільёнаў.

Ва ўсім гэтым мы бачым настолькі аднастайную эвалюцыю рэлігійных і філасофскіх уяўленняў па меры нашага руху ад захаду “старога сьвету” да яго ўсходу, што няма ніякай магчымасьці паверыць, быццам бы справа адбывалася наадварот. А тая акалічнасць, што тут утысячыкраціласяя нават і адкрыццё Калумбам Новага сьвету каля 1500 года нашай эры, дастаткова паказвае, што і выкладаемая намі “буддыйская касмалогія” з’явілася ў такім выглядзе не раней XVI стагоддзя нашай эры, а значна больш верагодна і пазьней.

* * *

Паглядзім зараз наогул і на буддыйскую міфалогію.

У народных хрысьціянскіх уяўленнях мы маем акрамя бога-айца, яго ўвасаблення і ўчалавечвання з дапамогай панны Марыі і яго праяўлення ў выглядзе сьвятога духа, таксама і мноства добрых і злых духаў: арханёлаў, анёлаў, херувімаў, серафімаў, сатаны, дэманаў, чарцей, а таксама разнастайных дамавікоў, ведзьмакоў, русалак, німфаў, гномаў, сьвятых, манахаў і манахінь, цэлы ворах сьвятых асоб. У такой жа колькасьці, але толькі пад іншымі нацыянльнымі строямі мы маем іх і ва ўнутранай Азіі і буддыстаў. Евангелля паведамляюць нам пра асобы, у якія ўсяляліся такія духі, аднойчы быццам бы Хрыстос прагнаў іх цэлы легіён із аднаго чалавека, перасяліўшы іх у статак сьвінней, якія ўслед за тым кінуліся ў мора. Мы тут бачым зародак уяўленняў пра перасяленне душ, так моцна развіўшыся ў буддыйскіх настаўнікаў. Ідэі, што ў гэтым ці іншым чалавеку, адрадзілася душа нейкага із яго продкаў, хоць і не была ўключана у канон хрысьціянскага вучэння, але час ад часу з’яўлялася і ў хрысьціянскіх настаўнікаў. Асабліва цікавы ў гэтым дачыненні канец евангелля Яна, дзе прама намякаецца, што яго вучань будзе жыць, калі Хрыстос зноў прыйдзе на зямлю, хаця гэта зусім не азначае, што ён не памрэ[50].

Такім чынам, нават і вучэнне пра перасяленне душ маецца ў хрысьціянскай тэолагіі, а тым больш існавала як бы ў хаўрусе з ёю ў народных уяўленнях сярэднeвечча, і толькі зведала ў буддыстаў далейшую распрацоўку, прычым яны значна дапрацавалі і ўдасканалілі хрысьціянскі рай (нірвану) і хрысьціянскае пекла.

* * *

Паглядзім зараз і на самога буддыйскага вярхоўнага суддзю ўсіх смяротных.

“Не паўтараю тут, – выказваецца А. Кавалеўскі у сваім "Буддыйскім космасе” (стр.140), – меркаванні, якія лічаць Буду стваральнікам сусьвету і галоўным судзьддзёй усіх адушаўлёных істот", і матывуе гэта тым, што такае меркаванне падзяляецца не ўсімі сучаснымі буддыйскімі тэолагамі, ад якіх мы маем усе нашы паведамленні. Частка із іх лічаць Будду-Будзіцеля (як і некаторыя пасьлясярэдневечныя хрысьціянскія секты свайго Хрыста), толькі ўвасабленнем

[50] Гл. Евангелле Яна (21, 22-23): “Пятро кажа Езусу (пра Яна):

– А ён што?

– Калі я захачу, каб ён быў (на зямлі) калі я прыйду, то што табе да гэтага?

І пранеслася слова паміж браціяй, што чалавек той не памрэ. Але Езус не сказаў: не памрэ, а толькі: калі я пажадаю, каб ён быў (на зямлі), калі я прыйду, то што табе да гэтага? Гэта вучань і напісаў гэтае (евангелле)».

усёдаруючага шанавання, а не строгасьці, чаму яны і даюць больш лагічнае вызначэнне, чым мы бачым нават і зараз у артадаксальных хрысьціянскіх тэолагаў. І гэта зноў паказвае, што буддызм, якім мы яго бачым зараз, з‘яўляецца далейшай прыступкай развіцця нейкай із усходніх сект хрысьціянства.

Калі верыць грэцкім першакрыніцам, то можна дапусціць, што гэта былі першапатковыя нестарыяне, так як і само іхнае наймене азначае “вяртальцы" (відавочна, з таго сьвету), а гэта цалкам адпавядае “адраджэнцам” буддызму. У адпаведнасьці з гэтым, гісторыкі хрысьціянскай царквы паведамляюць нам, што яны першапачаткова распаўсюдзіліся із Канстантынопля ў 498 годзе нашай эры па Персіі, із яе па Індыі і Кітаю, а як следства НЕ маглі не захапіць і Тыбет, а ў Манголію маглі патрапіць праз паўночную Персію, калі не па ўзбярэжжу Чорнага мора, і гэта быў як раз разгар апакаліптычных прароцстваў пра блізкае вяртанне Езуса з таго сьвету.

Першым гэтае вучэнне абвясьціў, – кажуць нам, – канстантынопальскі патрыярх Нестар (г. азн. Вяртальнік), які памёр у 440 годзе і быў асуджаны на Эфескім саборы 431 года за тое, што прызнаваў боскую прыроду толькі за безсмяротным духам Езуса, а яго цела лічыў, як і сучасныя буддысты ў свайго шматувасабляўшагася Будды, толькі часовай матэрыяльнай абалонкай яго несьмяротнага духу, якая не мае ў сабе нічога чароўнага, а такая ж, як у астатніх людзей. І вельмі цікава, што як раз падчас Эфескага сабору, асудзіўшага патрыярха-Вяртальніка, брат Аціла Будда заснаваў горад Буда-Пешч, відавочна, у выглядзе вынайдзенай ім доменнай печы для выплаўлення жалеза, што дало магчымасць яго брату і сукіраўніку Аціле аб'яднаць пад сваёй тэакратычнай уладай ўсе мадзярскія і славянскія плямёны Балканскай паўвыспы, паўднёвай Расіі ад Дуная да Волгі і Кіргізскіх стэпаў на ўсходзе. А на захад яго улада дахадзіла нават да Францыі і Італіі. Усё гэта вельмі сбліжае Буду-Абуджэнца з Нясторыем-Вяртальнікам і з Будай-Будзіцелем манголаў і тыбетцаў. І, акрамя таго, імя Будда, г. азн. будзіцель, вельмі сбліжае яго носьбіта, кім бы ён ні быў, з сучаснымі гіпнатызёрамі, так як асноўнае ўздзеянне гіпнозу менавіта і змяшчаеццца ва ўсыпленні схільных да гэтага людзей стамляючымі маніпуляцыямі і гукамі і потым абуджэнне іх згодна з загадам “будзіцеля” да новага жыцця, і пры гэтым нярэдка нават з цалкам новымі паводзінамі, як быццам ранейшая “душа” падменена іншай. Гэтае “будзіцельства” і ўнушэнне падчас сну і было асноўным прыёмам распаўсюджнай пад час сярэднявечча па Паўднёвай Яўропе чорнай магіі, якая аддзялілася ў Яўропе ад звычайных прыёмаў распаўсюджвання пабожніцства ўжо пад час сярэдніх стагоддзяў, але і да гэтага часу ўжываецца буддыйскімі і брамінскімі клерыкаламі ў шырокіх памерах для ўтрымання насельніцства ў межах свайго культу і сьветапогляду, пра што мне давядзецца падрабязна паведаміць у главе “Культ і вядзьмарства”.

Але вернемся да нашага пытання. Мы бачылі, што шэраг параўнанняў паказаў нам, што месцам першага з'яўлення легенды пра Будду, які ў тым выглядзе, у якім яго малююць зараз, з’яўляецца, вядома, асобай міфічнай, даводзіцца лічыць не снежныя вяршыні Гімалаяў у Індыі, а сучасны Буда-Пешт, г. азн. Буда-Пешч, як гэта ні здаецца дзіўным з першага погляду, і што міф пра Будду з’яўляецца толькі адгалінаваннем візантыйскага міфа пра Хрыста.

– Бачыў я, – кажа ён, увасобіўшыся ў Шак’я-Муні, – усе пакуты адушаўлённых істот, і жадаючы вызваліць іх ад падобнага няшчастнага становішча, указываў ім шлях да выратавання. Са спагады да іх, я імкнуўся

здабыць годнасць Будды (будзіцеля) пры дапамозе добрых спраў. Чыніце дабро, абагачайцеся заслугамі для ўласнага дабра і дабра сваіх блізкіх! Баючыся зла і немінучага пакарання, рабіце дабро! Гора грэшнікам!”.

Пры такім стаўленні яму, вядома, не было да твару быць строгім суддзёй грэшнікаў і выракаць іх на толькі што апісанныя жорсткія пакуты ў пекле. І вось буддыйская тэалогія палепшыла евангельскую, перадаўшы суд Сатане – цару дэманаў Эрлік-хану.

Седзячы на ільвіным пасадзе, Эрлік-хан узважвае ўчынкі істот і прызначае сваім падсудным месца адраджэння. Яго паказваюць, сярод полымя, з жазлом у руцэ, на верхавіне якога замацаваны галаўны чэрап, а ў левай руцэ – аркан. У яго асобе праглядаецца гнеў, як у бога-айца Іегавы ў яго біблейскіх апісаннях. Каля шыі і грудзей павешаны ланцуг таксама із чарапоў.

Яму падпарадкаваны незлічоныя дэманы эрлікі, якіх таксама паказваюць у жудасным выглядзе. Іхная галава пакрыта цёмна-русымі валасамі; позірк накіраваны ва ўсе бакі; ашчэраныя іклы і жахлівыя мячы ў руках служаць прыладамі для катавання няшчасных ахвяр патрапіўшых у падзямельнае судзілішча.

“Адзін пабожны юнак, згодна з парадай Будды, увасобіўшагася ў выглядзе Шак’я-Муні, выправіўшыся ў пякельныя вобласьці, сустрэў там грэшнага брамiна, аточанага полчышчамі лютых дэманаў, якія цягнулі яго на аркане. Ззаду асуджанага дэманы выраблялі жудасныя скокі; а іншыя дэманы, ідучыя наперадзе яго ў выглядзе лісіц, выдавалі ў паветра пранізлівыя крыкі. Із цела браміна кроў лілася ручаямі, із рота і вачэй клубіўся дым. Натоўп апантаных дэманаў нясцерпна жудаснымі галасамі паўтараў:

– Цягніце злачынцу, які на працягу свайго жыцця здзяйсняў толькі злачынныя ўчынкі! Гэта быў закляты вораг ўсіх адушаўлёных істот!

Сярод гэтых жахлівых крыкаў быў ледзь чутны плач браміна:

– На жаль! – казаў ён, – няма мне зараз карысьці ні ад ранейшага багацця, ні ад сяброў і родных!

На пытанне юнака пра нагоду такога пакарання, адзін із дэманаў адказваў:

– Ён ястрабамі забіваў птушак, сабакамі забіваў звяроў, пераследаваў духоўных, крыўдзіў жабракоў, аддаваўся п'янству. На зямной ніве яго атачалі жонка, дзеці, родныя: пры апошнім уздыханні не было ў яго ні таварышча, ні сябра, а зараз побач з грешнікам ідуць толькі адны пакуты”.

Скажы сам, чытач, ці не спісана ўсё гэта з хрысьціянскіх паданняў пра чарцей? Цалкам, як у рускіх народных паданнях!

Нам зараз застаецца толькі выкласьці пра стварэнне сусьвету грунтуючыся на сучасных нам буддыйскіх аўтарах.

“На начатку, – кажуць яны, – была пустэча. Із пустой прасторы ўтварылася масса працягласьцю 1.600.000 міль, масса надзвычай крэпкая, тонкая, блакітнаватага колеру. Гэта была стыхія паветра, ад моцнага руху якой утварылася так званае залатое воблака. Із яго паліўся працяглы дождж, даўшы пачатак ніжняму мору, глыбінёй у 1.120.000, шырынёй у 1203450, а акружнасьцю ў 3.610.350 міль. На гэтым хвалюючымся моры ўтварылася залатая паверхня зямлі, як пенка на малацэ, пакрываючая прастору на 320000 міль; астатнія ж 800,000 міль былі пакрыты вадой.

На гэтым моры паднялася бура; із верхніх хваляў утварылася гара Сумэру, із сярэдніх сем залатых гор, із апошніх адна жалезная і із розных хваляў – чатыры

выспы сьвету. А згодна з касмагоніяй Ману, наш сьвет знаходзіўся ў непраглядным змроку, як бы ў сне. Але самасутнасны і недасягальны для пачуццяў Валадар, жадаючы зрабіць яго бачным, зьявіўся і асьвяціў цемру. Потым ён стварыў ваду, і ў яе паклаў зародак, із якога ўтварылася яйка, бліскучае як золата, сьветлае як прамянеючая зорка. У такім выглядзе быў зачаты сам Брама, прабацька усіх істот. Пасьля заканчэння года валадар, адзіна сваёй думкай, падзяліў яйка на дзве часткі і із іх утварыў неба і зямлю, паветра, восем царстаў нябесных і пастаяннае водасховішча.

Брама мае свае дні і ночы, размеркаваныя перыядычна. Наш сонечны год складае толькі адны суткі ў валадара. Дванаццаць тысяч божых гадоў складаюць адно стагоддзе багоў; тысяча такіх стагоддзяў не што іншае, як адзін дзень Брамы.

Таму (згодна з паведамленнямі Ману) той цалкам разумее значэнне дня і ночы, каму вядома, што тысяча стагоддзяў складаюць толькі святы дзень Брамы.

Ці не праўда, чытач, што гэта вельмі падобна на спробы сучасных хрысьціянскіх тэолагаў пагадніць сем дзён біблейскага тварэння з геалагічнымі перыядамі?

Адзін добры дух спусьціўся з неба для адраджэння на зямлі. Яго нашчадкі, патроху памнажаючыся, нарэшце запоўнілі семнаццаць бачных царстваў, чатыры нябачныя вобласьці і дваццаць абласьцей ў сьвеце пажадлівасьці і склалі шэсць родаў істот. У ліку гэтых істот меў перавагу чалавек як увасабленец тэгрыя і жыў несмяротным. І хаця людзі насялялі паверхню зямлі, але яны не хадзілі, а лёталі па паветры; не ўжывалі ніякіх зямных нячыстых пладоў, і сілкаваліся толькі чыстай самадзіяй. Тады яшчэ не існавала падзелу на стаці, і людзі не нараджаліся, а памнажаліся шляхам перасялення душ. Іхнае цела было прамяністым, і таму ніхто не адчуваў патрэбнасьці ні ў сонцы, ні ў месяцы. Тады не было слова чалавек, і ўсе называліся адушаўленнымі істотамі.

Але адна з іх, знайшоўшы зямное масла, не толькі паспрабавала яго, але і іншых заахвоціла да таго ж. Таму самадзі знікла. Людзі страцілі здольнасць лётаць па паветры, страцілі свой прыродны бляск, апусьціліся на зямлю і былі вымушаны хадзіць у цемры. Тады і паўсталі сонца, месяц і зоркі і рассылалі свае прамяні на зямлю, населеную жывымі істотамі.

У іншы час адзін чалавек вынайшаў яшчэ новую ежу нагагану і пачаў ужываць яе. Іншыя зрабілі так жа і тады адбыўся падзел на дзве стаці мужчынскую і жаночую; з’явілася каханне; нарадзіліся сыны і дочкі.

Потым людзі, для забяспячэння свайго ўтрымання, пачалі сеяць салу, паўсталі дакоры, а спрэчкі пра абробленую ніву давялі да гневу і забойстваў. Некаторыя, у вялікай колькасьці здабываючы плён земляробства, началі хавацца ад тых, якія мелі значна менш за іх. Адчынілася крыніца скупасьці.

Нарэшце, з'явіўся адзін прыгожы, правасудны і разумны чалавек, які, забяспечыўшы ўласнасць кожнага, прымусіў вярнуць ўсё набытае няпраўдай. Палеткі былі падзелены на роўныя долі. Увесь народ, абраўшы яго сваім правадыром, аднагалосна ўсклікнуў:

– Мы даём табе поўную ўладу і будзем без пярэчанняў выконваць твае загады.

Гэты першы манарх праславіўся на чатырох частках сьвету пад найменнем Сусветнага хана.

Тады ж пачалася і гісторыя народаў... А якім жа будзе далейшы лёс сьвету?

Уяўленні пра стварэнне сусвету таксама ўжо больш складаныя, у параўнанні з хрысьціянскімі ўяўленнямі. Уся прырода адушаўлёная. Істоты, насяляючыя матэрыяльны сьвет, безперапынна адраджаюцца. Душы, перамяняючы матэрыяльную абалонку, пераходзяць із аднаго стварэння ў другое, пакуль не ачысьцяцца да стану дасканаласьці і ператворацца ў зацішнае адзінства. Такім чынам, пры садзейнічанні ўвасобіўшыхся Будд, арганічны сьвет паціху губляе сваіх насельнікаў, жыхары ніжэйшай вобласьці пекла, пасьля заканчэння пэўнага часу пакут, перасяляюцца на чатыры выспы вакол гары Сумэру, а тыя, якім прызначана яшчэ цярпець пакуты, пераходзяць у іншыя мясьціны, не такія пакутлівыя, як раней, да поўнага вызвалення адтуль. Тое ж самае адбываецца ў царстве бірытаў і не маючых розуму жывёл, пакуль усе істоты не ганаруюцца вырataваннем і іхныя месцазнаходжанні апусьцеюць. Людзі паціху будуць адраджацца ў краінах першага нябеснага яруса, за імі туды ж ідуць і ўсё духі. А калі ў цэлай сістэме сусьвету не застанецца ніводнай адушаўлённай істоты, і ўсе вышэйшыя геніі знікнуць із яго, тады ў ім пачнуцца вялікія бязладдзі. Ад адсутнасьці дажджу і сонечнай спёкі завянуць усе расьліны і дрэвы. Потым зьявіцца другое сонца і высушыць усе крыніцы, ручаі і рэчкі. Трэццяе сонца высушыць усе вялікія рэкі, а ад чацьвёртага вычарпаецца возера Мапама, ад пятага і шостага знікне акіян, ад сёмага ўспыхне гара Сумэру, чатыры выспы і ўсё вобласьці геніяў; нарэшце, згарыць і першы ярус неба, і ўся прастора ад яго да самага ніжэйшага аддзялення пекла разбурыцца і заменіцца пустэчай. Прырода, пазбаўленая ажыўляючага яе духа, сама сабой знікне. Разбурэнне ўсяго сусьвету патрабуе дванаццаці сярэдніх сусветных перыядаў.

Але перыяд пустэчы, прыйшоўшай на змену прыродзе, працягнецца таксама дваццаць сярэдніх перыядаў. Пасьля гэтага згуртаванне часьцінак духоўнасьці ў другой дыяне, якія да гэтага часу былі змешчаны ў матэрыю, але яшчэ не паспелі задаволіць ўсім умовам лёсу, збяруцца ў зародак для развіцця новага сусвету, у якім і будуць працягваць раней пачатую барацьбу з рэчаваcьцю. Як смерць лічыцца пачаткам другога жыцця, так знікненне хавае ў сабе насенне будучага аднаўлення сусьвету.

Такім чынам здзяйсняецца ўвесь кругазварот сусветаў, прычым у кожным для шчасьця жывых істот з'яўляюцца тысячы Буддаў. Кожны із іх, увасобіўшыся ў чалавека, аднаўляе забываемае людзьмі вучэнне пра веру і, абуджаючы ў іх самасвядомасць, узводзіць на прыступку новай дасканаласьці. Ужо чатыры Будды прыходзілі у наш сьвет для распаўсюджвання веры: Каракуччанда, Канакамуні, Кашапа і Шак’ямуні. За ім следам прыйдзе Майтрэя (Майдары) і іншыя згодна з пэўнай чарговасьцю так, што пасьля тысячнага Роча-Будды адбудзецца разбурэнне сусьвету. Усе яны царскай крыві ці із брамінскай касты і з'яўляюцца ў сьвятых месцах сярэдняй Індыі, і калі паміж імі існуе нейкае адрозненне, то хіба ў іхнай дзейнасьці і працягласьці іхнага вучэння на зямлі: Шак’ямунява вучэнне прадоўжыцца 5000 гадоў.

Буддыйскія кнігі сцвярджаюць, што пасьля сямі разбурэнняў сусьвету ад полымя восьмае здарыцца ад вады. Потым зноў сем светаразбурэнняў здзейсьніцца ад уздзеяння полымя, і восьмае ад вады. Пасьля такога сямікратнага паўтарэння, сусвет будзе знішчаны полымем, і потым паветрам у выглядзе неўтаймоўваючайся буры. Такім чынам, пасьля 56 разбурэнняў ад полымя, сямі ад вады і аднаго ад паветра, шэсцьдзесяць чацьвёртае светазнішчэнне будзе апошнім, і тады нават

вычарпаецца крыніца будучага аднаўлення сусьвету, а са знікненнем матэрыяльнай прыроды духоўнасць пераселіцца ў вышэйшыя вобласьці, якія лічацца вечнымі.

І вось, у той час, калі вернікі хрысьціяне зараз чакаюць толькі другога прышэсьця Хрыста, буддысты штогод здзяйсняюць ўрачысты ход з малітвавымаўленнямі ў гонар ужо пятага яго прыходу пад найменнем Будда-Майтрэя, але і ён згодна з іхнымі ўяўленнямі не будзе апошнім, нас чакаюць яшчэ 995 прыходаў да знішчэння нашага сусьвету. Мы бачым, што ў Сярэдняй Азіі сярэдневечная хрысьціянская ідэалогія пайшла наперад значна далей, чым у Яўропе. А чаму?

Адказ на гэтае пытанне цалкам відавочны: еўрапейская думка перайшла ад уяўленняў і містыцызму да рэалізму, і тэалагія не толькі спыніла сваё развіццё, але нават пачала паміраць, не здолеўшы прыстасавацца да даследніцкага і назіральніцкага прыродазнаўства і да натуральнай філасофіі еўрапейскіх народаў, слабае рэха якой мы бачым і ў выкладзеных тут буддыйскіх уяўленнях, маючых для нас ні ў якім разе не гістарычнае, а толькі этнаграфічнае значэнне.

Выкладзеная намі (галоўным чынам грунтуючыся на працах праф. А Кавалеўскага) буддыйская касмаграфія дастаткова паказвае нам бязрадасны стан навукі ў буддыйскай Азіі. Калі ж святло прыродазнаўства, так ярка зараз зіхацячае ў еўрапейскіх краінах, пранікне і ў гэтыя яшчэ цёмныя вобласьці азіяцкага кантынента? Мы можам прама сказаць, што гэта будзе хутка, і таксама прадказаць, што барацьба праўдзівай навукі з такім застаўшымся ззаду сьветапоглядам, як толькі што акрэсленае тут, не пройдзе для азіятаў не без жахлівых сацыяльных узрушэнняў.

# Глава XV
# Некалькі думак з нагоды класічнага ідэалізму, матэрыялістычнай механізацыі прыроды і природанавуковай энергетыкі.

Для таго, каб зразумець тыя перамены, якія зведала за гістарычны перыяд часу ўяўленне, злучанае са славамі “душа”, “дух”, неабходна перш за ўсё высветліць сабе агульную эвалюцыю чалавечага сьветаўяўлення.

Сучаснае прыродазнаўства вучыць нас, што ўся бясконцая прастора сусьвету напоўнена фізічнай энергіяй, якая дзейнічае згодна з законам, матэматычна адлюстраваным здабыткам масы **M** на квадрат яе хуткасьці C, разлічаным для кожнага моманту часу **T**, дзе $T = T_0$ і скарачаецца да абсалютнай адзінку часу, у кожным кубічным сантыметры трохмернай сусветнай прасторы.

<...>

Яе справядлівасць безумоўная, так як на ёй заснаваны ўсе далейшыя формулы механікі, спраўджваючыяся на практыцы дакладна так жа, як формулы тэарэтычнай астраноміі на вылічэнннях сонечных і месяцовых зацьменняў. У механіцы гэта тое ж, што двойчы два чатыры ў арыфметыцы. Гельмгольц увёў каэфіцыент **S** таму, што ў прыродзе ўсякае дзеянне раўняецца супрацьдзеянню. Гэта азначае, кожнае аднабаковае ўздзеянне фізічнай энергіі адпавядае такому ж яе ўздзеянню ў адваротным накірунку. Пры вектарыяльным складанні мы атрымліваем нуль, але не ў сэнсе самазнішчэння, а ў сэнсе заспакаення, г. азн. адсутнасьці ўсякага ўздзеяння ў дадзены момант часу ў дадзеным аб'ёме

трохмернай сусветнай прасторы. Гэтая ўсюдыісная энергія, не ствараемая і не знішчаемая, г. азн. у сваёй суме вечна нязменная, як паверхня акіяна, нягледзячы на ўсе яе ўзрушэнні хваляваннямі, можа пры пераходзе ад аднаго моманту часу да другога або перамяняць свае праявы, або вядомы час захоўваць ранейшае становішча.

У першым выпадку, у кожным дадзеным аб'ёме яе масса М, г. азн. велічыня інэртнасьці, або велічыня супраціву перамяшчэнню, часам застаецца замацаванай у дадзеным аб'ёме і форме, і яна выклікае ў нас фізіялагічнае адчуванне цьвёрдага і больш ці менш цяжка перамяшчаемага цела, а квадрат яе ўнутранай хуткасьці выклікае фізіялагічнае адчуванне тэмпературы. Гэта прыводзіць да высновы, што такое цьвёрдае цела складаецца із асобных індывідаў інэртнасьці, маючых назву малекул фізічнай энергіі, кожная пара якіх таксама выяўляецца ўнутры цела, а ў суме складае адзінку спакою, нешта накшталт буддыйскай нірваны. Акрамя таго, усе гэтыя малекулы фізічнай энергіі аб’ядналіся там паміж сабой у нешта накшталт сеткі або павуціны па кожнаму із трох вымярэнняў прасторы, пры існаванні крысталічных формаў, і бязладных у аморфных цьвёрдых целах, а шчыльнасць такіх целаў залежыць ад колькасьці першапачатковых атамаў той жа фізічнай энергыі, засяроджаных у кожнай яго малекуле, што разам з тым тлумачыць і адрозненне іхнай удзельнай вагі.

Але ўнутраныя хваляванні ў малекулярных павуцінах цьвёрдых целаў прапарцыянальны іхнай абсалютнай тэмпературы, лічымай каля -273° па Цэльсію ў нашай сонечнай сістэме на адлегласьці зямной арбіты. Калі абсалютная тэмпература дастаткова павялічваецца, кінетычная энергія гэтых набліжэнняў і разыходжанняў разрывае гэтыя сеткі і кожная молекула станавіцца цалкам самастойнай і ўвесь іхны рой атрымлівае назву вадкасць, якая можа набываць выгляд кропель або форму пасудзіны толькі дзякуючы ўздзеянню нейкага асяроддзя, накшталт задыякальнай атмасферы нашай сонечнай сістэмы, прыціскаючай іх адна да другой[51]. Потым, калі яшчэ больш павяліўшыяся ад павышэння цемпературы ваганні малекул пераадолеюць і гэтае асяроддзе (на што даводзіцца выдаткаваць нямала калорый цеплыні), вадкасть ператварааецца ў газ, які таксама імкнецца ўраўнаважыць сваю шчыльнасць пашэрэннем ва ўсе бакі, чаму зараз ужо нішто не перашкаджае. У такім стане знаходзіцца наша атмасфера, больш значная шчыльнасць якой у ніжніх пластах абумоўліваецца толькі прыцягненнем складаючых яе малекул азота, кіслярода, аргона, неона-крыптона і іншых дамешак да зямнога шара, дзякуючы адрозненню ўдзельнай вагі якіх адбываецца выцісканне больш лёгкіх із сумесі гэтых газаў у больш высокія пласты, чым абумоўліваецца і яе невыразна пазначаючаяся з нагоды ўзаемнай дыфузіі газаў, але ўвогуле цалкам правільная слаёвасць нашай атмасферы.

З нагоды разсоўваемасьці малекул вадкасьцяў і газаў, яны ўжо не выяўляюць поўнага супраціву ціснучым на іх цьвёрдым целам, а выяўляюцца для іх праніцаемым асяроддзем, так як, разсоўваючыся наперадзе цьвёрдага цела, малекулы вадкасьці ці газу зблiжаюцца за цьвёрдым целам, струменьчата абцякаючы яго.

Такімі з’яўляюцца тры важнейшыя цялесныя станы фізічнай энергіі. Мы зараз паказалі іхны метамарфозіс адзін у другі з нагоды павышэння і паніжэння тэмпературы, г. азн. квадрату іхнай хуткасьці, якая вядома не можа змяняцца інакш, як за кошт яе памяншэння дзе-небудзь у іншым месцы, падобна таму, як і

[51] Гл. пра гэта ў маім артыкуле “Чаму мы не рассыпаемся?” у кніжцы “на ўзмежжы невядомага”.

вяршыня хвалі марской паверхні не можа існаваць інакш, як на кошт яе западзення. І вось перад фізікай паўстала пытанне пра поўнае вывучэнне ўсіх магчымых праяваў вечнага метамарфозіса фізічнай энергыі ў кожным асобным аб'ёме сусветнай прасторы, у кожным асобным фізічным целе. Разуменне пра рэчыва, пра матэрыю як пра нешта асобнае знікла. Вось, напрыклад, гэты стол. Што ён такое? Простая матэрыя (г. азн. матэрыял для чагосьці[52]), або энергія? Кіньце яго, паламаўшы, у печ паравоза, і ён, метамарфазуючы дзякуючы яе высокай тэмпературы ў газ, выканае адпаведную працу па перамяшчэнню цягніка на пэўную адлегласць. Гэта азначае, што гэта схаваная заснуўшая магутнасць прыроды, а не “мёртвая масса”. Так не існуе і нічога іншага памёршага ў прыродзе.

Вось, напрыклад, яшчэ кавалак жалеза або медзі. Яны не будуць метамарфазаваць у печы паравоза толькі дзякуючы адной яго тэмпературы. Але кіньце іх у азотную кіслату. Яны адразу прачнуцца ад свайго сну, пачнуць выціскаць із яе вадарод, занімаючы яго месца, а яго малекулы паляцяць адтуль прэч, як статак перапалоханых вераб'ёў.

Дакладна тое ж самае можна сказаць і пра кожны камень, і пра кожную жывую істоту. Усе працэсы так званага расьліннага жыцця нашага цела – пасутнасьці хімічныя працэсы, і праявамі гэтай жа вечнай і фізічнай энергыі сусьвету з'яўляюцца і ўсе астатнія. Хімічнае прыцягненне прадметаў ператвараецца ў іхную цяплыню, цяплыня ў сьвятло, гук у электрычнасць, электрычнасць у працэс прыцягнення і ў чалавечую думку, а чалавечая думка ператвараецца назад у сьвятло, цеплыню, электрычнае, хімічнае прыцягненне і г. д. Нават сама адасобленасць індывідаў з’яўляецца толькі іхным суб'ектыўным адчуваннем, а на справе ўсё начыненне пастаянна пераліваецца ў іншыя, так што і ўсе складаючыя адзінкі цела, а з імі і свядомасьці, якія мы мелі некалькі гадоў таму назад, знаходзяцца ўжо ў іншых істотах. Кожны індывід у прыродзе тое ж, што фантан: ён захоўвае сваю форму, але вада ў ім з кожнай сякундай ўжо іншая.

З падобнага боку гледжання ніякага падзелу жывой істоты на душу і цела няма і не можа быць. Як наша сьвядомасць, так і наша цела толькі мясцовыя праявы бясконцай ў прасторы і вечнай ў часе фізічнай энергіі[53], усёагульная формула дзеяння якой азначае раўнавагу заспакаення.

Людзі, не знаёмыя з фізічнай матэматыкай, лёгка аб’ядноўваюць энергію і магутнасць, але гэта цалкам два розныя ўяўленні. Магутнасць ёсць праца энергіі на дадзенай працягласьці, і яе падмуркавая формула $(MV^2)/2$ з першага погляду паказвае, што гэта фактар, вытвараючыся ад энергіі, як чагосьці самадастатковага, і ад даўжыні шляху, на якім выяўлецца дзеянне гэтага фактара.

Такімі з’яўляюцца высновы сучаснага нам прыродазнаўства, але шлях чалавечай думкі да гэтых высноваў быў вельмі цяжкім.

Вазьмем, перш за ўсё, Біблію.

“Чалавек, – сведчыць Стары запавет, – шмат разоў быў злеплены богам як статуя із зямной гліны[54]”, а евангеллі ні разу не згадваюць пра гэтую скульптуру.

---

[52] Ад лацінскага <...> – маці, г. азн. маці прыроды.

[53] Гэтыя ідэі былі мной падрабязна распрацаваны ў ранейшых працах па фізіцы і хіміі. Асабліва ў кнігах: 1) “асновы якаснага фізіка-матэматычнага аналізу і новыя фізічныя фактары, выяўляемыя ім у разнастайных з'явах прыроды”, 402 стар. 22 табл. 89 мал. 1908 года. 2) Перыядычныя сістэмы ўладкавання рэчыва. Тэорыя ўзнікнення сучасных хімічных элементаў 483 стар. і 55 табліц. 1907 г. 3) на ўзмежжы невядомага – Навуковые напалову фантазіі. 1910 г. І ў іншых кнігах і артыкулах.

[54] Быццё 2,7; 3,19; 18,47. Ёў 10,9; 34,15. Псалмы 102,14. Эклезіяст царкоўнік 3,20; 12,7. Ісайя 64,8. І Карынфянам 15,47. І ніводнага разу ў евангеллях.

Але статуя чалавека яшчэ не была жывой, пакуль Бог не ўдыхнуў у яе дыханне жыцця і яна ператварылася ў жывую душу[55].

А што ж такае душа згодна з бібліяй і евангеллямі? У юдэйскай Бібліі яна мае назву Нефеш, але не лічыцца несмяротнай ці не матэрыяльнай. Яна знаходзіцца ў крыві і разам з ёю мажа быць выпіта – сведчыць Другазаконне (12,23). Яна і сама можа піць і ёсці[56]. Яна можа датыкацца да зямных рэчаў, яе можна злавіць і забіць[57]. Яна памірае і траплае ў магілу. Яна атаясамляецца з воляй[58] і мае свае захапленні[59] і сваё дыханне[60] і пах, адкуль бярэ пачатак і наша слова духмяны і часта змешваецца з духам[61].

Дакладна таксама і ў Новым запавеце, дзе яна па-грэцку мае назву Псіхэ, адкуль паходзіць і найменне псіхалогія. А звяртаючы ўвагу на слова дух, мы знаходзім для яго цалкам тыя ж прыкметы, як і для душы, хоць яно па-юдэйску і мае дзве назвы: пешама і рух. Першае слова перакладаецца як дыханне[62], а другае – рух, як вецер шмат разоў, але таксама і як дыханне[63], і як розум[64], а ў Новым запавеце пастаянна як дыханне (па-грэцку Пнеўма, адкуль і пнеўматычная машына).

У Старым запавеце Бібліі слова “душа” сустракаецца 858 разоў, а слова “дух” – 466 разоў. У Новым запавеце душа – 105 разоў і дух – 385, так што ў суме мы маем 1709 выпадкаў выкарыстання гэтых словаў і ніваднага разу са значэннем безсьмяротнасьці. Выказвання “безсьмяротная душа” і “несьмяротны дух” ў святым пісанні не сустракаецца ні разу. Гэта навейшая тэалогія, а таму і буддызм са сваім перасяленнем душ і канчатковым апусканнем іх у стан шчасьлівага заспакаення з’яўляецца толькі пераходнай прыступкай ад біблейска-евангельскіх уяўленняў да самавольных філасофскіх разважанняў сучасных хрысьціянскіх тэолагаў. А адносна тэрміналогіі ніяк нельга вызначыць, чым “дух” адрозніваецца ад “душы”. У аснове ўяўленняў пра душу несумненна знаходзілася ўяўленне пра дыханне, а ў аснове ўяўленняў пра дух – вецер, нябачны, але адчуваемы, адкуль і словы евангелля Яна: дух дыхае дзе хоча, яго прысутнасць адчуваеш, але не ведаеш, адкуль ён прыходзіць і куды адыходзіць.

А пачынаючы з таго часу, як склалася ўяўленне пра суцэльную атмасферу, як дыханне так і вецер ператварыліся для нас у адно і тое ж: у рух суцэльнай атмасферы, запаўняючай усю населеную жывымі істотамі прастору.

Ад уяўленняў пра чалавечую душу, як пра адмысловую істоту, тоесную з дыханнем, было недалёка да думкі, што яе можна перасяляць із аднай у другую істоту. Калі бог ажывіў злепленае із гліны цела Адама ўдунуўшы ў яго “дыханне жыцця”, праз што ён стаў жывой душой, то чаму ж не перадунуць той жа самы выдых ў іншага чалавека, або выдыхнуць сабе із яго? Магчыма, што на гэтай падставе ўзнік і пацалунак, як сродак зацягнуць у сябе частку душы шануемага чалавека.

---

[55] Быццё 2,7; 7,15-22; Ёў 12,10; 27,3; 33,4; І ў месіянцаў і прарокаў: Ісая 2,22; 42,5; Езекііл 37,5-10; Здзяйсненні Апосталаў 17,25; пасланне Якава 2,26.

[56] Лічбы 11,6; 21,5; Прыпавесьці 6,30; 27,7; Ісайя 55,2.

[57] Лічбы 19,22; Псалмы: 55,7; 123,6; Іезекііл 13,20; Ёў 7,15; Другазаконне 19,6-11; Суддзі 9,17.

[58] Лічбы 23,10; Лічбы 16,30; І Цары 17,4; 20,31; Ёў 13,14. Псалмы 32,19; 55,14; 114,8; 118178; Ёна 4,8; Псалмы 93,17.

[59] Другазаконне 23,24. Псалмы 26,12; 40,3; Іезекііл 16,27; 25,15; ІІ Самуіла 17,8; ІІ Цароў 9,15; Зыход 15,9.

[60] Псалмы 9,24. Міхей 7,3; Авакум 2,10.

[61] Ёў 41,13. Плач Ераміі 2,12; Псалмы 104,22.

[62] Быццё 2,7; 7,22. Другазаконне 20,16; Псалмы 150,6. Ісайя 2,22; 30,33; 42,5; 57,16.

[63] Быццё 6,17; Ёў 10,12; 15,30; 17,1; 33,18. Ісайя 11,4; 26,18; 30,28 і г. д.

[64] І Параліпаменон 28,12. Псалмы 33,19 і г. д.

Для вучэння пра перасяленне душ маглі лёгка паслужыць, напрыклад, словы ад імя Езуса ў евангеллі Марка 12,26: “Хіба вы не чыталі ў кнізе Майсея, як бог паведаміў яму: Я бог Авраама, Ісаака і Якава. Бог не з’яўляецца богам памёршых, а богам жывых”. Пры адсутнасьці ўяўленняў пра вечную душу, пра што мы гаворым <...> Дакладна так жа і размова Езуса з фарысеем:

– Ты бачыў Аўраама? Праўду, праўду кажу: вам раней, чым быў Авраам, я быў...

Хіба не былі павінны гэтыя словы прывесьці да думкі, што сын божы яшчэ раней, чым нарадзіцца ад панны Марыі “у 31 годзе пад час каравання Актавіяна-Аўгуста”, быў народжаны яшчэ і раней Авраама, г. азн. згодна з юдэйскай храналогіяй у 2008 годзе да пачатку нашай эры?

Тае, што ідэя перасялення душ існавала ў евангельскія часы ў юдэяў, бяспрэчна даказваецца і словамі фарысеяў, што ў Хрысьце ажыў прарок Ілля, які жыў згодна з сярэднявечнымі хрысьціянскімі ўяўленнямі за 900 або 1000 гадоў да “Нараджэння Хрыстова” (Евангелле <...>). А потым мы знаходзім і на прыканцы евангелля Яна, што праз апакаліптычную тысячу гадоў, калі чакалася другае прышэсьце Хрыста, будзе зноў таксама жывым і яго шануемы вучань Ян.

І калі дзякуючы такой бязглуздзіцы, як словы евангелля Мацвея пра скапцоў <...> магла ўзнікнуць і нават доўга існаваць секта скапцоў, нягледзячы на яе прынцыповую ўласьцівасць – адсутнасць нашчадкаў і абуральныя звычаі далучэння да яе, то чаму б не ўтварыцца ў хрысьціянскім сьвеце таксама і секце якая верыла ў перасяленне душ (г. азн. выдыханняў) людзей і жывёл, і ў неаднаразовае ажыванне самога Хрыста, то ў выглядзе сучасніка Авраама, то ў выглядзе прарока Іллі, то ў выглядзе евангельскага Езуса, то ў выглядзе тыбецкага Далай-ламы? У такім выпадку ўвесь буддызм з’яўляецца толькі далейшым развіццём ідэй, зародкі якіх выказаны ў евангеллях.

У Еўропе ж, якая была хутка захоплена прыродазнаўствам, развіццё дуалістычнага вучэння пра “цела” і “душу” пайшло па-за межамі рэлігійных уяўленняў. І па-французку <...> першапачаткова – душа, таго ж кораня, як і нямецкае <...> – дыханне[65] з’яўляюцца толькі водгаласам грэцкага <...>, а французкае <...> і ангельскае <...> з’яўляюцца толькі водгаласам італьянскага <...>, першапачаткова азначаўшага дыханне, як сведчыць і дзеяслоў <...> – дыхаць. І нават па-нямецку <...> аднолькава гучаць як дух, так і сьпірт.

Усё гэта паказвае на першапачаткую адсутнасць разумення пра атмасферу і на містычныя ўяўленні пра газы і вецер.

Некалі, яшчэ ў Шлісельбурзе, я выказаў усё гэта ў вершы

У альтанцы.

<...>

У адпаведнасьці з гэтым, і ў хрысьціянскіх уяўленнях “духі” насяляюць галоўным чынам тую ж самую “пустую прастору” паміж зямной паверхняй і прыкрываючым яе нябесным скляпеннем, як і лётаючыя птушкі.

А пра “душы” памёршых людзей, г. азн. пра іхныя адляцеўшыя ў гэтую ж вобласць паміж небам і зямлёй нябачныя, але памятаючыя пра сваё мінулае дыханні, згадваецца ва ўсіх хрысьціянскіх і язычніцкіх паданнях, і пра іхнае ўвасабленне ў целы іншых істот з выгнаннем адтуль першапачатковых душ дастаткова сведчылі тыя выпадкі псіхозаў, калі чалавек пасьля хваробы галаўнога мозгу губляў памяць пра сваё мінулае, перамяняў свой характар і паводзіны. А пра

[65] Напрыклад, у выказванні <...>.

магчымасць выгнання першапачатковай душы із чалавека і яе замену новай дастаткова нагадаць, што ўнушэнне, як спосаб чарадзейства, практыкавалася чараўнікамі ў Яўропе нават яшчэ пад час сярэдніх стагоддяў.

Пазней пачынаючы з часу вынаходніцства друкавальнага станка (адкуль толькі і можна пачынаць гісторыю сапраўднай навукі і культуры) шмат якія містычныя духі былі разжалаваны да не маючых сьвядомасьці газаў, але містыка ўсё ж захавалася ў разуменні пра асаблівую душу містычнага чалавека, здольную лётаць па паветры па-за якім бы то ні было целам. Гэтае ўяўленне, падмацоўваемае перажыткамі сярэднявечнай містычнай тэалогіі, мудрагелістым чынам жыло ў шматлікіх нават асьвечаных галовах, з іхнымі прыродазнаўчымі ведамі. І на гэтай глебе паўстала ідэалістычная філасофія, якой няправільна далі найменне ідэалістычная таму, што ідэя і ідэал не адно і тое ж.

Яна бярэ пачатак, уласна кажучы, ад евангелля Яна, якое я прыпісваю Яну Дамаскіну, дзе ён вызначае бога як Слова, відавочна ў тым жа сэнсе, як я гэта адлюстраваў у сваім вершы пра гарадзкую альтанку. Згодна з гучаннем гэтых словаў узнікла ўсё на сьвеце, г. азн. найменне ўзнікала раней чым рэч, якім яна называлася. Адсюль у XI стагоддзі і паходзіць наміналізм камп'енскага каноніка Яна Расцэліна. Але аўтар евангелля Яна, як бывае з усімі ведаючымі толькі сваю мову, наіўна не ўлічыў, што найменні рэчаў па рознаму гучаць на разных мовах, і таму вучэнне пра Логас (а таксама і наміналізм) хутка замянілася вучэннем не пра развіццё рэчаў, а пра іхныя ідэі, якія выклікалі іх да жыцця. Такімі былі ўяўленні таго, каго гісторыкі завуць Шырокім філосафам (Платонам па-грэцку), хоць, як я ўжо паказаў у трэццім томе Хрыста, яго творы належаць некалькім аўтарам XV стагоддзя, сабранымі ў 1481 г. Марчалінам Фічына і выдадзеннымі Лаўрэнціем Бенетам[66].

Потым біскуп Берклін (1684-1753), які нарадзіўся ў Ангельшчыне як раз праз тры гады пасьля выдання фічынава “Шырокага Філасофа” (Платона па-грэцку) павёў гэта вучэнне далей, і прыйшоў да высновы, што ўсе матэрыяльныя неразважаючыя рэчы існуюць толькі ва ўяўленні <...> душ, якія толькі адны рэальныя, і акрамя іх ды бога, як усёахопліваючай бясконцай сусветнай душы, нічога няма. Усё не разважаючае толькі прыкметы душ або духаў, лётаючых у выглядзе анёлаў або дэманаў у пустой прасторы паміж зямлёй і небам або пад зямлёй.

Потым з'явіўся так званы крытычны ідэалізм Канта (1724-1804), развіўшыся ў Германіі ў Кёнігсбергу, і ўжо адышоўшы, дзякуючы развіццю доследнай навукі, ад хрысьціянскага сімвала веры, і ад лётаючых паўсюдна ў атмасферы духаў, якіх стала ўжо немагчыма атаясамляць са сьвядомымі газамі, ад якіх узнікла і сама ідэя пра іхнае існаванне, застаўшаяся зараз без якой бы та ні было знешняй падпоркі, выключна ў сьвеце суб'ектыўных ідэй. Пры далейшым лагічным развіцці ідэалізма, і само наша жыццё з гэтага боку гледжання пачало ўяўляцца нічым не адрозніваючымся ад сну, акрамя большай складнасьці і сістэматызацыі яе ўяўленняў і суб'ектыўных ўражанняў. І вось Кант абвясьціў ”немагчымасць вывучэння саміх па сабе” нагод, нараджаючых ў нашай свядомасьці з'явы і рэчы знешняга сьвету, да якога належыць і само наша цела разам з усімі яго органамі пачуццяў. Для дакладнага ведання, – сцвярджае Кант, а за ім і яго пасьлядоўнікі, – даступны толькі з'явы ў нашай свядомасьці, якое па-сутнасьці таксама непазнавальна. Самі прастора і час толькі нашы суб'ектыўныя ўяўленыя і самі па

[66] Хрыстос, кн.III, стар. 138.

сабе не існуюць, а таму і ўсё, што ў іх памяшчаецца, таксама не існуе па-за намі і з'яўляецца толькі ўяўленнямі нашай сьвядомасьці. Усё пазнанае нашым розумам, ствараецца ім жа самім згодна з уласьцівымі яму законамі ў сьвядомым стане і бязладна ў сне ці пры страце розуму. Наша сьвядомае жыццё з’яўляецца толькі нашым сістэматычным сном, а хто спячы – мы ніколі не даведаемся.

Але калі ўвесь знешні сьвет з’яўляецца сном, то і ўсе атачаючыя нас людзі, як належачыя да яго, толькі нашы ж ўяўленні і не існуюць у рэчаіснасьці. Існуе толькі адно сьвядомае я – нічога іншага, як сам я, адзіны цэнтр сусьвету, хоць мне і мроіцца навакол вялізная колькасць цалкам такіх жа Я, і нават абодвух стацей – мужчынскай і жаночай. Але гэта – міраж.

Да якіх высноваў абавязкова прыводзіць ідэалістычная філасофія ў сваім канчатковым развіцці бачна, напрыклад, у Ніцшэ:

– Скажы, філосаф новы, у чым сутнасць існавання?

– Просты яго падмурак: існуе ў сьвеце толькі я. Адзін я ёсьць і буду, адзін я ёсць і быў.

– А твая маці адкуль?

– Я сам яе нарадзіў!

Цалкам зразумела, што падобная філасофія, якая і сама сябе прыпадабняе сну, – магла развіцца толькі ў пессімістычным усведамленні і таму злучана з пессімізмам, які атрымаў канчатковую распрацоўку ў Шопенгауэра (1788-1860), які чалавечую свядомасць атаясаміў з воляй, пад уяўленне пра якую падвёў не толькі свядомыя жаданні, але і несвядомыя імкненні, уключаючы сюды і ўсе магутнасьці неарганічнай прыроды.

Ва ўсіх падобных сістэмах галоўнай цяжкасьцю была відавочная шматлікасць асобных розумаў, на што я і спрабаваў паказаць ў толькі што прывядзеным вершы, напісаным яшчэ пад час сярэдзіны ллісельбургскага заняволення, дзе пажыццёвасць ізаляцыі ад знешняга сьвету натуральна рабіла некаторых вельмі схільнымі да падобных уяўленняў.

Некаторы час, пасьля таго, як (дзякуючы страце розуму шмат кім із нас) нам былі дазволены гулянні па дваіх, мне давялося зведаць вялікія пакуты ад гэтай філасофіі. Маім спадарожнікам быў прызначаны адзін із маіх таварышаў па зняволенню Сяргей Іванаў, як раз пасьля таго, як ён прачытаў кнігу Гертмана ці Шопенгауэра, ці Ніцшэ, дадзеную нам для пераплятання і так захапіўся суб'ектыўным ідэалізмам, што не мог разважаць пра нешта іншае. Гэта быў сапраўдны псіхоз, і ён працягваў бясконца паўтараць тыя ж самые доказы, пакуль нарэшце я не сказаў яму аднойчы з тонам глыбокага перакананання:

"Я цалкам не разумею, Сяргей, як ты можаш спрачацца са мной! Бо цябе ж няма, ты існуеш толькі ў маім уяўленні".

Ён раззлаваўся і заявіў з раздражненнем, што са мной не варта размаўляць пра філасофскія пытанні.

Але гэта было справядлівым не толькі ў дачыненні да мяне, але і наогул. Усякая спрэчка патрабуе існаванне двух раўнапраўных спрачаючыхся, а што ж атрымліваецца тут? Адзін кажа другому:

"Цябе няма! Ты існуеш толькі ў маім уяўленні".

А другі яму адказвае:

"Хлусіш! Ты сам існуеш толькі ў маім уяўленні!"

Як тут вырашыць, хто мае рацыю? А калі мы дапускаем сумеснае абмеркаванне хаця б двума асобамі гэтага пытання, то тым самым ужо прызнаем,

што ў сьвеце існуе не адно “Я”, хаця кожнаму “Я” і здаецца, што яно, нягледзячы на ўсе свае перамяшчэнні, увесь час застаецца цэнтрам сусьвету, што магчыма толькі ў разе яго бясконцасьці (дзе кожная кропка прасторы з’яўляецца яе цэнтрам, падобна таму, як мы гэта бачым на паверхні шара).

З гэтага боку гледжання цалкам правільна сказаць, што з кожным нараджаючымся чалавекам адраджаецца сусвет, і з кожным паміраюшчым ён знікае, каб зноў і зноў адраджацца ў жывых істотах, маючых органы пачуццяў. І зразумела, што гэтыя адлюстраванні агульнага макракосма ў незлічонасьці мікракосмаў, якімі з'яўляемся мы, надзвычай разнастайныя. У містычна настроеных яны набываюць цудоўную афарбоўку, а ў паспытаўшых прыродазнаўства набываюць рэалістычны выгляд. Але мы можам прама сказаць, што прыроднанавуковы светапогляд адпавядае рэчаіснасьці, так як толькі адзін ён дазваляе нам беспамылкова прадказваць будучыя вынікі тых ці іншых працэсаў у атачаючым нас мікракосме.

Для гэтай маёй кнігі, – дзе мне даводзіцца выкладаць і разглядаць філасофію сучасных усходніх рэлігій, – якім без дастатковых доказаў нададзена глыбокая старажытнасць, цікава адзначыць, што пессімізм Шопенгауэра (1880-1860), разглядаючы існаванне як пакуту, а не існаванне як пазбаўленне ад яе, яскрава выявіўся і ў буддыйскай рэлігіі, пачатак якой адносяць за 2000 гадоў да гэтага філасофа, хаця ўсе сведчанні пра такі сьветапогляд буддыстаў, наколькі мне вядома, выяўлены еўрапейскімі навукоўцамі ў Індыі ў той жа перыяд часу, і рукапісы не маюць прыкмет глыбокай старажытнасьці.

Я не буду, вядома, настойваць на тым, што буддыйскія філосафы запазычылі гэта ў еўрапейскіх філосафаў-ідэалістаў, а хутчэй на тым, што і тыя і іншыя толькі завяршылі гэтым яшчэ сярэднявечныя хрысьціянскія ўяўленні, што зямное жыццё з’яўляецца месцам пакут, а смерць уяўляе сабой толькі перасяленне душы туды, дзе няма “ні хвароб ні турбот”, як спяваецца і ў пахавальных гімнах.

Як антытэзіс ідэалізму ў Яўропе з паловы XVII стагоддзя ўзнік механічны матэрыялізм, а таму і лічыць, што яго абвясьціў яшчэ Дэмакрыт і яго настаўнік Белы Конь (Ляўкіп па-грэцку), як звалася планета Юпітэр, разам з атамістычнай тэорыяй, за паўтысячы тысячы гадоў да пачатку нашай эры, – азначае, проста не лічыцца ні з якімі б то ні было эвалюцыйнымі законамі.

Першыя дакладныя ўяўленні пра атамістычнасць рэчываў мы знаходзім толькі ў Гасэндзі (1592-1655), адкуль зразумела, што і шаноўны Лукрэцый пісаў сваю паэму “Пра сутнасць рэчаў” (<...>) не раней XVI стагоддзя. На працягу ўсяго сярэднявечча пра атамістычную тэорыю не было і згадак. А пышна расквітнела гэтая тэорыя ў сувязі з фізікай і хіміяй толькі ў XIX стагоддзі, адначасова з механістычным матэрыялізмам.

Упершыню механістычныя ідэі мы знаходзім ў творах Ла-Метры (1709-1750), адны назвы якіх: “Натуральная гісторыя душы” (1745 г.), “Чалавек-Машына” (1748 г.), “Чалавек-расліна” (таксама 1748 г.) дастаткова тлумачаць яго погляды.

Затым у 1770 г. выйшла ў сьвет “Сістэма прыроды” Паля Гольбаха, з’яўляючаяся як бы евангеллем матэрыялізму, дзе даводзіцца, што чалавечая думка зводзіцца да рухаў, а маральнасць паходзіць ад імкнення да самазахавання, і аспрэчваецца існаванне бога ў якой бы то ні было форме.

Завяршальнікам гэтага сьветапогляду ў XIX стагоддзі быў Фейербах (1804-1872) са сваімі “Асновамі філасофіі будучыні”, якія выйшлі ў 1843 годзе і іншымі

кнігамі падобнага накірунку. А пазней распрацоўка гэтага сьветапогляду перайшла ад чыстых філосафаў да прыродадаследчыкаў. Першым із іх быў фізіёлаг Малешот (1822-1895), напісаўшы "Кругазварот жыцця" ў 1852 годзе. І затым Бюхнер (1824-1900) выпусьціў у сьвет у 1855 г. сваю знакамітую кнігу "Матэрыя і магутнасць" і цэлы шэраг іншых зведаўшых шмат выданняў.

Галоўнейшай цяжкасьцю для механістычнага матэрыялізму было пагадніць разуменне пра нібыта інертны і не маючы пачуццяў атам рэчыва з праявамі адчувальнасьці і ўсведамлення свайго існавання ў складаючыхся толькі із такіх атомаў вышэйшых біялагічных істот. А гэтыя ж адчувальнасць і самаўсведамленне выяўляюцца ў псіхіцы ўсіх людзей, хоць бы і вас саміх, чытач, калі не браць да ўвагі ўсіх жывёл. Без дапушчэння існавання адчувальнасьці ўжо ў саміх складаючых вас пяршапачатковых атамах, хаця б, напрыклад, на дакрананне да яго іншага сутыкаючагася з ім атама[67], чым растлумачыць гэтую вашу ўласцівасць? Сучаснае ўяўленне пра першапачатковы атам, як пра электрон, ў якім адгукваецца ўсякі найменшы рух іншых атамаў-электронаў і складзеных з іх малекул, і кожны рух якога адклікаецца на іх нават і без сутыкнення, моцна палегчыць навуковае тлумачэнне нашай псіхікі і ўсіх яе ўласцівасьцей, але для канчаткова падвядзення яе пад матэматычныя формулы з магчымасьцю дакладных вылічэнняў спатрэбіцца яшчэ нямала часу і напружання чалавечай думкі.

Само сабой зразумела, што ўсе нашы ўяўленні пра ўласнае цела і пра яго непасрэдны працяг – увесь бясконцы сусьвет, здаючыся нам нечым пабочным толькі таму, што ў яго не пранікае наша нервовая сістэма, носяць своеасаблівую афарбоўку ад уладкавання нашых органаў адчування, прыстасаваных толькі да невялікай часткі магутнасьцей прыроды.

Хто мы? Падабенства людзей,
Толькі для погляду звычайнага
У асьвятленні разнастайных прамянёў
Усе мы – уладкавання разнастайнага.
У самым усведамленні сваім
Нібы мільгаценне імгненняў,
Мы як міражы плывём,
Толькі на імгненне нязменныя.
Усе мы ў катодных прамянях
Здаёмся лёгкімі дымкамі,
У электронных хвалях
Рухаемся мы нябачнымі.
У сьвеце вольных ідэй
Мы як быццам бы сны нерэальныя
Да мэты прадвечнай сваёй
Гоняць нас магутнасьці фатальныя.
Усе мы – мікробаў кангрэс,
Часовай плазмы сляценне.
Хто мы? Мы толькі працэс,

---

[67] Спроба такога тлумачэння была мной зроблена яшчэ ў Шлісельбургскім умацаванні ў выглядзе навуковай напаловуфантазіі <...> надрукаванай у кніжцы "На мяжы невядомага" ў 1910 годзе, дзе я для прастаты дапускаў, што так называемую душу складае толькі адзін першапачатковы атам нашага мозгу, на якім засяроджваюцца ўсё дзеянні нашай нервовай сістэмы. Пры дапушчэньні, што ён адчувае дотыкі мяжуючых із ім атамаў, гэта выходзіць нават і без атаясамлення атама з электронам.

Жыцця стыхійнаха з'ява.

Аднак жа ад гэтага ўяўлення пра нас саміх, як пра мясцовыя працэсы бясконцага і вечнага паўсюднага жыцця яшчэ цэлая бездань да ніцшыянства або крайняга суб’ектывізму. Калі ні адзін із нашых органаў пачуццяў і не адлюстроўвае нам прыроду ў яе нагаце, а толькі ў апранаемай ім жа на яе своеасаблівай вопратцы, то гэта яшчэ не азначае, што наш розум не можа вызначыць грунтуючыся на адных яе пераменах пры разных умовах якая яна і без яе. Так вы самі, чытаючы маю гэтую кнігу, не бачыце ў ёй нічога, акрамя чорных фігурак на белых лістках паперы, а між тым ваш розум паўтарае паслядоўна ўсе мае думкі і нават не як просты феерверк чужога розуму, а крытычна, пагаджаючыся з аднымі і адкідваючы іншыя, калі лічыце больш разумным замяніць іх чым-небудзь прасьцейшым.

Таму што сучасны даследчык ведае і пра падманныя ўяўленні сваіх органаў адчування, із якіх кожнаму вядомы галюцынацыі слыху, калі вы, “недачуўшы”, лічыце нейкае слова за падобнае на яго, і вам здаецца, што вы выразна пачулі, як яго прамовілі. Хаця неба і здаецца вам блакітным скляпеннем, а зоркі іскрынкамі на ім, якія абыходзяць зямлю кожныя суткі, але розум адукаванага чалавека ўжо даўно адкінуў падобныя ўяўленні пра сусвет. А ў справе вывучэння мінулага я ў гэтай маёй працы ўжо не раз рабіў выпраўленні літаральнага сэнсу старажытных дакументаў на падставе законаў псіхалагічнай аперцэпцыі пры перадаванні іхнага зместу ад адной асобы да іншай, і аднаўляючы іхны першапатковы сэнс і час з дапамогай шэрагу дапамагаючых метадаў.

Адсюль зразумела, што наша думка, хаця і працуе не інакш, як пры дапамозе нашых органаў адчування, але яны толькі сродак для яе агульных высноваў.

У межах гэтай глаўкі ў мяне няма магчымасьці выказацца пра суадносіны найноўшага дыялектычнага матэрыялізму з яго тэзісамі і антытэзісамі, да выкладзенага тут энергетычнага сьветапогляду натуралістаў. У сваім агульным выглядзе дыялектычны матэрыялізм быў упершыню прыменены да прыродазнаўства ў цудоўнай кніжцы Фрыдрыха Энгельса, якая маецца на рускай мове “Ад класічнага ідэалізму (г. азн., згодна з нашай тэрміналогіяй, ідэізма) да дыялектычнага матэрыялізму”[68]. І згодна з маімі ўяўленнямі як пра яго, так і пра электронную энергетыку сучасных фізікаў і хімікаў, яны толькі дапаўняюць адзін аднаго, асьвятляючы пытанне з двух розных бакоў.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Хрысты ў Індіі і на Цэйлоне

# Глава I

## Цуды ўсходу

Вывучаючы сыры матэрыял, сабраны заходне-еўрапейскімі калектарамі па старажытнай гісторыі Малой Азіі, Сірыі, Персіі, Месапатаміі, Ірана, Індыі і Кітая,

[68] Па-нямецку яна мае некалькі іншы загаловак: <...>.

міжволі здзіўляешся вялізнай колькасьці змяшчаючыхся ў ім наўмысных і ненаўмысных містыфікацый. Безстаронняму даследчыку здаецца, як быццам бы ён чытае гісторыю сьвятых мошчаў нейкага кляштара ў адной із клерыкальных манаграфій, дзе атмосфера цудаў заўсёды носіцца вакол мошчаў сьвятога, як пах падалі вакол гнілога трупа.

І ўсе гэтыя кляштарскія цуды, галоўным чынам ацаленні цяжка хворых, падцверджаны дакладнымі сведчаннямі асабіста прысутнічаюх сведак, з указаннем іхных імёнаў, месца жыхарства і мінулага жыцця і з пазначэннем дакладнага часу і абставін цуда, пры якіх яно адбылося. І здаецца, што ніякага сумневу ў праўдзівасьці сведчанняў тут быць не можа, асабліва, калі іх прыведзена, як у некаторых "апісаннях парэшткаў" цэлыя сотні. І аднак жа пры аглядзе такіх парэшткаў (якае было, напрыклад, у нас у першыя гады рэвалюцыі) заўсёды выяўлялася, што яны проста высахшыя ад спёкі і сухасьці трупы невядомых людзей, якія нікога не маглі ацаліць.

Як маглі адбыцца такія грандыёзныя містыфікацыі? Ці магчыма гэта растлумачыць толькі своеасаблівым эканамічным матэрыялізмам манахаў і манахінь із кляштара, прыдумаўшых усё гэта з мэтай здабывання сродкаў для свайго існавання? Вядома, у шматлікіх выпадках гэта несумненна. Кіраўнікі кляштароў, у якіх із засохшых трупаў ужо ўтварыліся сапраўдныя пачвары, не маглі гэтага не бачыць пры ўступленні на пасаду пасьля сьмерці свайго папярэдніка і сьвядома хавалі сапраўднае становішча справы. Але "гісторыі" асобных мошчаў з апісаннямі шматлікіх ацаленняў з іхнай дапамогай, часта маюць цалкам праўдзівы характар. Няўжо, – запытаеце вы, – усе прыходзіўшыя сюды прыхільнікі і прыхільніцы таксама былі сьвядомымі ашуканцамі? Адказ на гэта вельмі просты. Із тысяч цяжка хворых, якія прыводзіліся сюды сваякамі для лячэння, не ўсе ж паміралі пры самым выхадзе із кляштара, а некаторая частка і сапраўды мела наступствам ацаленне, і асабліва эфектнымі былі выпадкі з істэрычнымі хворымі, якія часта сапраўды адчувалі сябе імгненна ацалеўшымі, што і пратакаліравалася з пажадай манахамі. А пра тое, што праз нейкі месяц істэрыя ў шматлікіх выпадках аднаўлялася пасьля ад'езду ці ўжо дома далёка ад кляштара і пра тое, што вялізная большасць цяжка хворых ад'язджалі не паправіўшыся – пра гэта маўчалі. І вось, бяручы да ўвагі такую папраўку і тое, што існавалі сотні тысяч шукаўшых ацаленьня, даводзіцца здзіўляцца не вялікай колькасьці цудаў, апісанных у такіх манаграфіях, а наадварот іхнай малалікасьці.

Але такую ж папраўку мы павінны рабіць і ў дачыненні да "гістарычных парэшткаў" знойдзенных да гэтага часу ў азіяцкіх краінах заходне-еўрапейскімі шукальнікамі-спецыялістамі. Не ўсе із іх былі містыфікатарамі, а ў пераважнай большасьці самымі сумленнымі і спрактыванымі археолагамі. Але такія даследнікі часьцей за ўсё вярталіся ні з чым, ці з нязначным матэрыялам. І толькі меншасць із іх з авантурыстычнымі схільнасьцямі, здольныя на містыфікацыі, або, наадварот, занадта прастадушныя навукоўцы, здольныя паверыць мясцовым містыфікатарам, натуральна злятаўшыміся з усіх бакоў на такіх шукальнікаў, як мухі на мёд, прывозіла з сабой у Яўропу сапраўдныя "цуды ўсходу". У шматлікіх выпадках іхныя знаходкі, пры бліжэйшым вывучэнні, выяўляліся такімі ж як нядаўнія апавяданні пра сьвятыя парэшткі і падымалі гісторыю ўсходніх народаў вышэй усякіх натуральных эвалюцыйных законаў прыроды, ставячы першапачатковую культуру гэтых народ цалкам на звышнатуральны грунт. Вось чаму гэтую вобласць

і варта асабліва ўважліва даследаваць і калі тут сапраўды выявіцца шмат шарлатанства, то не дакараць гэтым гісторыкаў-мысьляроў.

Мы павінны заўсёды памятаць, што не ўсякі калектар мае права на годнасць навукоўцы. Вось, напрыклад, я сам яшчэ быўшы гімназістам першых классаў, сабраў калекцыю і рассадзіў па яшчыках на булаўках верагодна амаль усе віды і разнавіднасьці казявак Яраслаўскай губерніі, дзе праводзіў лета. Яны пазней згубіліся падчас хваляванняў майго наступнага жыцця, але былі б несумненна даволі каштоўным матэрыялам для энтамолага, асабліва цікавячага распаўсюджваннем казявак. Але сам я быў тады энтамолагам? Не, я быў простым гімназістам.

Вось, напрыклад, нешта і большае – карэспандэнт амерыканскай газеты Стэнлі. Па даручэнні гэтай газеты і на яе сродкі ён быў накіраваны ў 1877 г. на пошукі згубіўшагася ў Афрыцы Лівінгстона і апісаў шэраг ўсходне-афрыканскіх краін і народаў, а больш за ўсё свае цікавыя прыгоды. І затым, па даручэнні той жа газеты, у 1874-1877 гадах ён праехаў па рэкам і прайшоў па ўсіх лясах папярок Афрыкі, што і апісаў, і нарэшце, трэцці раз ён быў выпраўлены на пошукі Эміна-Пашы, г. азн. нямецкага падарожніка Эдуарда Шнітцэра, адрэзанага ад цівілізаванага сьвету паўстаўшымі ягіпецкімі магдыстамі і знайшоў яго ў Верхнім Ягіпце, даследаваўшы і апісаўшы на шляху вытокі ракі Конга каля 1889 гада. Я буду апошнім із маючых жаданне аспрэчыць яго заслугі ў якасьці калектара геаграфічных матэрыялаў, але на пытанне пра тое, ці быў ён навукоўцам географам, г. азн. здольным да абагульнення гэтага матэрыялу, і фармавання агульных асноў географічнай навукі, я прама адкажу: не! Ён быў выдатным падарожнікам-авантурыстам, але не навукоўцам-географам.

Вазьмем, нарэшце, і яшчэ нешта большае чым нават Стэнлі – выдатнага калектара ягіпецкіх старажытнасьцей Генрыха Бругша. Ён быў выпраўлены із Берліна консулам і дыпламатам у Каір і ў Персію, паступіў на службу да ягіпецкага хедзыва пад імем Бругаш-паша, знайшоў і зрабіў копіі шмат якіх іерагліфічных і дэматычных антыкаў і надрукаваў іх. І вось, хаця пазней, вярнуўшыся ў Германію, ён і стаў прафесарам Берлінскага ўніверсітэта і напісаў шмат каштоўных твораў па ягіпталогіі, я прама павінен сказаць, што падзяляю яго жыццё на два перыяды. У маладосьці ён быў проста авантурыстам і калектарам і толькі ў другую палову свайго жыцця стаў навукоўцай. У першай палове свайго жыцця ён, як калектар і авантюрыст быў вельмі значнай асобай, хаця падобна ім і безцырымонным, што пакажуць нам у наступных главах гэтага тома яго “Чатыры ягіпецкія таблеткі часоў дзядулі астраноміі Гіпарха”, зводзімыя да наўмыснай падробкі. А як навуковец ён быў, вядома, хаця і вельмі дасведчаным у фактычным матэрыяле, але без якіх бы то ні было абагульняючых здольнасьцей, дзякуючы чаму і стварыў тую недарэчную храналогію старажытнага Ягіпта, аспрэчаць якую нам давялося ў другой палавіне VI тома “Хрыста”.

Усё гэта я тут паведаміў для таго, каб у чытача не ўзнікла здзіўлення пры чытанні наступных старонак. Знаходзячы шматлікія падробкі ў старажытнай гісторыі азіяцкіх народаў (не вядомай, дарэчы, ім самім, але ствaранай для іх еўрапейскімі навукоўцамі і грунтуючыся на прывозімых ад іх жа і невядомых ім самім дакументах) я ні ў якім разе не маю намеру кінуць цень на сумленнасць нашых навукоўцаў-усходазнаўцаў. Я рэзка аддзяляю навукоўцу гісторыка ад простага збіральніка старажытных і рэдкіх гістарычных дакументаў, асабліва сенсацыйных і ў аддаленых краінах, мала вядомых адукаванай публіцы на іх

радзіме. Другі больш падобны на паляўнічага за рэдкай дзічынай, а першы на навукоўцу заолага, прэпарыруючага яе, а розніца паміж імі вялікая: бо ўсе ж ведаюць, што мы называем “апавяданнямі паляўнічых”.

З псіхалагічнага боку гледжання цалкам зразумела, што шукальніку рэдкіх дакументаў, які здзейсніў за імі вельмі далёкае падарожжа з вялізнымі выдаткамі ўласнага часу і нярэдка чужых сродкаў, амаль немагчыма, калі ён не сьвяты, вярнуцца дадому ні з чым, асабліва калі галовы суайчыннікаў, як і яго галава на пачатку падарожжа, былі перапоўнены фантазіямі наконт цэлых ворахаў старажытных парэштках і разнастайных клінапісных надпісаў, валяючыхся там ледзь ці не на кожным кроку. Ды і хто ж паверыць, калі, вярнуўшыся, ён абвесьціць, што там іх яшчэ менш, чым у яго на радзіме, дзе таксама можна капаць зямлю ў разных месцах цэлае жыццё і ўсё-такі не знайсьці нічога асабліва сенсацыйнага? Жаданне ў такім выпадку нешта падрабіць із роспачы амаль неперэадольнае. Вось чаму і патрэбна дакладна размяжоўваць навукоўцаў-гісторыкаў ад калектараў сырых гістарычных матэрыялаў. Гэта дзьве цалкам розныя катэгорыі людзей і кожная катэгорыя вельмі адрознага псіхалагічнага гатунку. Калектары заўсёды схільны да авантурызму, і пры выпадку не супраць містыфікацый, а другія, асабліва вельмі вузкія спецыялісты, якім цяжка зрабіць шырокія абагульненні, часта занадта даверлівыя, тым больш, што гісторыя, як сурёзная навука, шукаючая ў назіраемым хаосе гістарычных падзей прыродную падстаўнасць і эвалюцыйную заканамернасць, узнікла толькі з часу выдання ў 1858 годзе геніяльнай кнігі Томаса Бокля “Гісторыя цівілізацыі ў Ангельшчыне”. Праўда, што першыя падобныя спробы былі зроблены яшчэ Вальтэрам у палове XVIII стагоддзя і часткова Агюстам Контам у першай палове XIX стагоддзя. Але Бокль ўпершыню стаў на натуральна-навуковую і фактычную глебу, а таму і рэальную “гістарычную навуку“ даводзіцца пачынаць толькі ад яго, і гэтае маё даследаванне толькі надстройка над закладзеным Боклем фундаментам.

Навуковая гісторыя пачынаецца толькі ад Бокля, а ўсё, што было да яго пад назвай “Сусьветных гісторый”, толькі размеркаваныя па стагоддзях (ды і то з вельмі грубымі памылкамі) матэрыялы для стварэння навуковай гісторыі чалавечества.

# Глава II

## Некалькі агульных заўваг.

Каля Лукамор'я дуб зялёны, залаты ланцуг на дубе тым. І днём і ноччу кот вучоны ўсе ходзіць па ланцугу тым. Ідзе направа – песьню заводзіць, налева – казку апавядае. Там цуды, там лясун блукае, русалка на галінах сядзіць. Там на няведамых дарожках сьляды нябачанных звяроў; хаціна там на курыных ножках стаіць без вокнаў, без дзьвярэй. Там лес і дол прывідаў поўныя. Там на світанні нахлынуць хвалі і на бераг пяшчаны і пусты – той жа час выходзяць трыццаць статных віцязяў і з імі дзядзька іхны марскі...

І я там быў, і мёд я піў, каля мора бачыў дуб зялёны, пад ім сядзеў, і кот вучоны свае мне казкі гаварыў...

Гэтую прадмову Пушкіна да яго паэмы “Руслан і Людзьміла” даўно належала б паставіць эпіграфам да ўсёй нашай старажытнай гісторыі, так як пры сістэматычных пошуках першакрыніц яе сапраўды старажытных паведамленняў,

мы ў канчатковым выніку заўсёды дабіраемся да “вучонага кота”, і тут нашы пошукі спыняюцца. А змест першапачатковага кацінага апавядання заўсёды бывае, як і ў паэме Пушкіна, і з русалкамі на галінах, і з марскімі трыццаццю волатамі, якіх з цяжкасьцямі даводзіцца аддзяляць ад астатняй больш праўдападобнай часткі апавядання. Але ж і із “Руслана і Людзьмілы” Пушкіна можна нарабіць гістарычных асоб, выкінуўшы із яе ўсё куплеты з не адпавядаючымі рэчаіснасьці паведамленнямі і пакінуць толькі адны праўдападобныя. Чым, напрыклад, не гістарычны сам пачатак гэтай паэмы?

“Падзеі даўно мінулых дзён, паданні старыны глыбокай: з сябрамі ў грыдніцы высокай Уладзімір Сонца баляваў. Меньшую дачку ён адружваў з князем храбрым Русланам, і мёд із цяжкага стакана за іхнае здароўе выпіваў. Не хутка елі продкі нашы, не хутка рухаліся кругам каўшы, срэбраныя чашы з кіпячым півам і віном. Яны веселле ў сэрцы лілі, шыпела пена па краях, іх паважна чашнікі насілі і нізка кланяліся гасьцям”.

Чым жа гэта не гістарычна? Тут нават прысутнічае і вельмі праўдападобнае апісанне побыту, і не менш праўдападобны ўсе апісваемыя падзеі, як толькі мы выключым із іх цудоўныя эпізоды і дапусьцім, што выкрадальнік Людзмілы Чарнамор толькі праз легкавернасць аўтара палічаны чараўніком, а ў рэчаіснасьці быў печанежскім царом з берагоў Чорнага мора. Нават і час апісваемых падзей мы лёгка вызначым: яны былі паміж 938 і 1015 гадамі нашай эры. Памылкі тут быць не можа, нават і на некалькі гадоў: так дакладна вядомым лічыцца час знаходжання Ўладзіміра ў Кіяві.

Цалкам падобны ж выгляд маюць і ўсе нашы астатнія гістарычныя першакрыніцы, час з'яўлення якіх мы маем падставы лічыць перад надыходам эпохі друкавання. Вазьмем, напрыклад, апавяданні пра цароў Савула, Давыда, Саламона, і нават пра наступных за імі цароў народа божага, нападобе, напрыклад, грэшнага цара Ахава з грымячым перад ім прарокам Іллёй. Чым гэтыя апавяданні – узятыя цалкам, больш гістарычныя за казкі Пушкіна пра Руслана і Людзьмілу, хаця пра іх і кажуць, што яны напісаны не самім “катом-навукоўцай” пад зялёным дубам каля Лукамор'я, а прадыктаваны кату “сьвятым духам”.

Я тут адмыслова падкрэсліў, што кажу гэта толькі пра кнігі, час напісання якіх да пачатку эры кнігадрукавання, г. азн. раней 1450 гада нашай эры мы можам лічыць даказаным. Цудоўны або містычны інгрэдыент заўсёды з'яўляецца іхнай адметнай прыкметай, і ён цалкам адпавядае першапачатковай і нават сярэдняй стадыі літаратурнай творчасьці, калі рэалістычнасць ўяўленняў і адлюстравання падзей чалавечага жыцця і прыроды яшчэ не выпрацаваліся дыялектычным шляхам унутры самога канчаткова саспеўшага містычнага светаўяўлення.

Ужо адна гэтая акалічнасць павінна б прымусіць сучасных, чужых містыкі аўтараў, асабліва марксістаў-дыялектыкаў, прызнаць апокрыфамі ўсе шырокія творы рэалістычнага прыродна-навуковага і жыццяапісальнага накірункаў, прыпісваемыя глыбокай старажытнасьці, накшталт, напрыклад, Герадота, Фукідыда, Плінія і іншых “класікаў”. Не кажучы ўжо пра астраномію Пталямея, ужо ўтрымліваючую механістычныя ўяўленні пра Сусьвет. Таму што прызнаць, што чалавечая думка, падняўшыся пад час другога стагоддзя нашай эры пры астраноме і географе Пталямеі да чыста матэрыялістычных уяўленняў, зноў пад час сярэдніх стагоддзяў вярнулася да містыкі, гэта з боку гледжання дыялектычнага эвалюцыянізму тое ж самае, як абвясьціць, што нейкае ўжо нарадзіўшаяся дзіця, замест таго, каб дасягнуўшы сталасьці, самому стаць бацькам іншых дзяцей, нейкім чынам вярнулася ўжо дарослым ва ўлонне сваёй маці, каб адрадзіцца пад час нейкай “Эпохі Адраджэння”.

Але для таго, каб адрозніць сапраўды старажытныя дакументы ад ўзнікшых пад час Эпохі Адраджэння або нават ад наўмысных падробак нашага часу, стварэнне якіх, на жаль, не спынілася і да гэтага часу, нам няма патрэбы спасылацца на Маркса і Энгельса, і даводзіць, што кожны навуковец-марксіст, не стаўшы на наш бок гледжання, будзе толькі біцца, як на карась на патэльні ў справе прывядзення старажытных гісторый (таму што іх існуе некалькі, цалкам адрозных) у дыялектычную сувязь з сярэднявечнай і з найноўшай гісторыяй чалавецтва.

Ёсць некалькі вельмі простых прыкмет для адрознення сапраўды старажытнага літаратурнага твора ад нядаўняга. Перш за ўсё мы тут можам спаслацца на закон памнажэныя рукапісаў пад час дадрукаскага перыяду згодна з геаметрычнай прагрэсіяй з кожным новым дзесяцігоддзем існавання мовы, на якой яны напіліся.

Я ўжо абгрунтоўваў гэты закон у шостым томе майго даследавання, разважаючы пра падробленыя біяграфіі Магамета, надрукаваныя ў XIX стагоддзі нашай эры д-рам Шпрэнгерам, на грунце якіх звычайна і пішуцца біяграфіі міфічнага заваёўніка Ісламу, але для разумення паўтару і тут, патлумачыўшы на наглядным прыкладзе із нядаўняга рускага жыцця.

Калі каля 1840 гада Лермантаў напісаў сваю паэму “Дэман”, то яе друкаванне было забаронена царкоўнай цэнзурай, але яна ўсё ж хутка распаўсюдзілася ў асяроддзі чытаючай публікі. Чалавекі чатыры (будзем лічыць, што не больш) спісалі яе ў самога аўтара на працягу першага ж года. У кожнага із іх спісалі на працягу наступнага года будзем лічыць таксама па чатыры знаёмыя і такім чынам на другі год ужо існавала не менш за 16+4, г. азн. 20 асобнікаў. Із кожнага із гэтых асобнікаў на працягу наступнага года было спісана (будзем лічыць) таксама па 4 экзэмпляры, і гэта азначае, хадзіла ўжо 80+20, ці каля сотні асобнікаў і г. д. з кожным годам павялічваючыся, будзм лічыць, толькі ў чатыры разы, а не больш.

Што ж атрымалася? Мала знаёмы з матэматыкай чытач нават і не падазравае, якім на самай справе цудатворным памнажальнікам з’яўляецца геаметрычная прагрэсія, яе дзеянне спыняецца толькі пры поўным насычэнні цікавячыхся гэтай кнігай. Так і “Дэман” Лермантава праз некалькі гадоў быў ужо ў хатняй бібліятэцы кожнага памешчыка, г. азн існаваў ў шматлікіх сотнях. Яго перапісванне спынілася толькі тады, калі было дазволена друкаванне гэтай паэмы ў поўным выданні твораў Лермантава і рукапісныя асобнікі, як больш непатрэбныя, пачалі выкідвацца прэч. Аднойчы я знайшоў такі асобнік, хупава пераплецены і з размаляваным тытульным лістком, закінутым у ніжняе аддзяленне кніжнай шафы свайго бацькі і ён мне паведаміў, што перш чым гэтая паэма з’явілася ў друкаваным выглядзе, усе яе перапісвалі.

І само сабой зразумела, што калі б друкарскі станок адразу памножыўшы творы Лермантава, не памножыў з імі і гэтую паэму адразу ў тысячах асобнікаў, то працэс яе рукапіснага памнажэння працягваўся б і зараз. Яна была б, ва ўсякім разе, настолькі распаўсюджанай у Расіі, што жадаючаму надрукаваць яе варта было б толькі даць аб'яву ў газетах з абяцаннем прыстойнага ганарару, для таго, каб атрымаць  дзясяткі спісаў, а не знайсьці адзіны на зямным шары яе асобнік ў нейкага гідальга ў аддаленай ад цэнтраў культуры гішпанскай сядзібе ў Пірынейскім гарах, куды цяжка дабрацца.

І калі б які-небудзь сучасны рускі пісьменнік, з'ездзіўшы Гішпанію, раптам абвясьціў, што ён знайшоў там у парэштках адной сядзібы ў Пірынеях яшчэ

невядомае ў Расіі апавяданне Лермантава і прапанаваў бы рэдактарам нашых журналаў купіць яго ў сябе за буйную суму грошай, то хто б над гэтым не пасьмяяўся і не сказаў, што напісаў гэтае апавяданне ён сам – падарожнік?

Але вось, як я ўжо паказаў у шостым томе, згодна з менавіта такім жа шаблонам д-ра Шпрынгера ў XIX стагоддзі, у недасягальным для праверкі мястэчку ўнутранай Індыі ўнікамі знойдзены біяграфіі Магамета, якімі і зараз карыстаюцца навукоўцы-жыццяапісальнікі пророка. Чаму гэтыя біяграфіі, як надзвычай цікавыя для кожнага адукаванага магаметаніна, не распаўсюдзіліся за тысячу гадоў іхнага існавання згодна з законам геаметрычнай прагрэсіі ў тысячах асобнікаў, як распаўсюдзіліся рукапісы Бібліі, якія існавалі ў кожным кляштары перад тым як яе надрукаваў Гутэнберг? Чаму іхныя адзіныя на нашым сьвеце асобнікі выявіліся знойдзенымі арабістам Шпэнглерам на краю сьвету ў трыдзесятым царстве ад месца, каля якога адбываліся падзеі, падобна таму, як я выказаў здагадку адносна Лермантава.

Із гэтага можна зрабіць такую выснову.

Кожны агульнавядомы літаратурны твор старажытнасьці, знойдзены да гэтага часу (або больш дакладна: да свайго друкавання) толькі у адным экзэмпляры апрыёрна павінен лічыцца падробкай. І гэта ў сто разоў больш справядліва ў дачыненні да тых выпадкаў, калі ён знаходзіўся не на тэрыторыі таго народа, на мове якога пісаў аўтар, а ў чужых для яго краях.

Але ж у такім выпадку, – як ужо гаварылі мне, – давядзецца прызнаць падробкамі ўсе лепшыя творы класічнай старажытнасьці! Ці не лепш дапусьціць, што іх вынішчылі іншаверцы наступных часоў?

Але якія ж іншаверцы валодалі, напрыклад, магаметанскімі краінамі? Ды і ў дачыненні да зьнішчэньня класічных твораў хрысьціянскімі манахамі ў нас няма ніякіх паведамленняў. Таму што для гэтага было б неабходна рабіць пагалоўныя ператрусы ў дамах усіх адукаваных грамадзян, пра што нам ніхто не паведамляе. І, акрамя таго, у нас нават маюцца дакументы, накшталт лацінскіх кодэксаў забароненых кніг, цалкам аспрэчаючыя такія дапушчэнні: у іх няма ніводнай класічнай кнігі.

Пра псеўда-старажытныя “ўнікі”, пакладзеныя ў аснову сучаснай нам старажытнай гісторыі часта кажуць: “Відавочна, яны захаваліся ў сховішчах нейкага аднаго роду, беражліва перадаючыся ад бацькі да сына, у сакрэце ад староніх”.

Але ж падобнае тлумачэнне па-першае, адразу ж зьнішчае ўсю каштоўнасць дакумента: яно малюе яго як ніколі нікому не вядомы, акрамя аднаго чалавека, як індывідуальны выпадковы твор, не цікавы астатняму свету.

Па-другое, такое зберажэнне не ўласьціва чалавечай прыродзе. Хавалася ад усіх вачэй толькі золата сквапнымі людзьмі, якія хавалі яго нават і ад старэйшага сына, грунтуючыся на цалкам іншых падставах. Ды і перадача рукапісаў ад бацькі да старэйшага сына не магла здзяйсняцца шмат пакаленняў запар, так як вельмі часта здараецца, што ў тым ці іншым родзе нараджаюцца толькі адны дочкі. Усе падобныя тлумачэнні існавання агульнацікавых літаратурных рукапісных твораў на працягу соцень гадоў у адным экзэмпляры, без іхнага натуральнага памнажэння ў геаметрычнай прагрэсіі, здольны задаволіць толькі дзяцей.

Разглядаючы агульнацікавыя літаратурныя творы, прыпісваемыя буддызму, мы таксама, як і ў выпадку знаходак Шпрынглера, перш за ўсё сутыкаемся з

пазначанымі намі прыкметамі іхнага нядаўняга ўзнікнення, або наўмыснай падробкі.

Завяршэннем будызму ва ўнутранай Азіі з'яўляецца ламаізм, які ўзнік толькі на прыканцы XIV стагоддзя нашай эры пад уплывам Ізанканы (1357-1417) і ламаізм уяўляе сабой толькі простае адгалінаванне рэлігіі “абуджэнцаў”, на чале якога стаіць нехта накшталт рымскага папы – Далай-Лама ў горадзе Ласа – валадар Тыбета, першасьвятар усяго Кітая і суседніх з ім краін, у якім, – кажуць нам, – увасабляецца першапачатковы “абуджэнец” (Будда).

Раней 1357 гада ніякага Далай-Ламы, г. азн. ўвасаблення Будды, не было, і як следства, здавалася б і першаабуджэнец жыў ужо не так задоўга да першага свайго ўвасаблення на прыканцы XIV стагоддзя. А між тым нас пераконваюць у адваротным.

Адны нас запэўніваюць, што заснавальнік Абуджэнства жыў аж паміж -560 і -480 гадамі, а іншыя, што гэта было ў -1037 годзе, ад чаго буддысты вядуць сваю “святую Эру”.

А калі звяртаешся да першакрыніц, то на прыканцы і тут даходзіш да “вучонага кота” із “Руслана і Людзьмілы”.

Астранамічных доказаў у мяне для гэтага выпадку яшчэ няма, але і грунтуючыся на чыста рацыянальным разважанні не цяжка бачыць, што ўзнікненне буддызма-абуджэнства з выключна манаскім сьвятарствам не магло быць розначасовым з развіццём манаства і ў Яўропе, таму што для такой ненатуральнай ўстановы не магло быць у чалавечай гісторыі двух самастойных і разначасовых нагод.

Нагодай для яго развіцця магло быць толькі моцнае распаўсюджванне венерычных хвароб, дзякуючы вакхічнаму культу, як выніку адкрыцця вінаробства, перажыткам чаго з'яўляецца сакрамэнт прычашчэння ў хрысьціянскай усходняй царкве. А гэты звычай бярэ пачатак ад часоў Васіля Вялікага, сучасніка, калі не варыянта імператара Юліяна (361-363 гг.) нашай эры.

Гэта азначае, і легенда пра “абуджанага” хутчэй за ўсё ўзнікла на прыканцы IV стагоддзя і занесена ў Тыбет не із Індыі, а із Вялікай Рамеі, а адтуль патрапіла ў Індыю і на Цэйлон, ледзь ці раней, як у перыяд распаўсюджвання ісламa, тады як брамаізм з яго тройцай, быў занесены туды ж разам з вінаробствам із той жа Вялікай Рамеі, яшчэ пад час сярэдніх стагоддзяў.

Нам застаецца толькі разгледзець, наколькі існуючыя ў нас – і ўсе вельмі позняга часу – паданні падцвярджаюць такую папярэднюю здагадку.

# Глава III

## Буддыйскія культы ў Індыі, на Цэйлоне і ў Індакітаі.

Два разы на месяц, падчас маладзіка і поўнага месяца, калі адбываюцца зацьменні сонца і месяца, – паведамляе нам кніга “Церагата” (стар. 1062), – збіраліся манахі, жывучыя ў акрузе, каб трымаць пост. Буддызм з’яўляецца рэлігіяй без малітваў. Самай значнай праявай гэтага культу былі пакаяльныя сходы манахаў падчас пасту, нешта накшталт праверкі, наколькі строга братыя выконвае абавязкі духоўнага жыцця.

Старэйшы із манахаў кожнай акругі прызначаў месца сходу, і вечарам перад днём пасту збіраліся ў абраным кляштары або ў нейкім іншым месцы, дома ці ў пячоры, усе манахі, якія жылі ў акрузе.

У месцы сходу, асьветленаму факеламі, манахі занімалі прыгатаваныя для іх месцы на нізенькіх стулічках. Цывільныя, паслушнікі і манахіні не мелі права прысутнічаць, таму што правілы, якія выкладаліся на гэтым сходне ў форме спавядальнага трэбніка, лічыліся сакрэтам манахаў. Але нягледзячы на гэты сакрэт Альдэнберг так апісвае буддыйскую літургію.

Старэйшы із братоў ці нейкі іншы манах, – кажа ён (стар. 339), – гучна чытаў гэты спавядальны трэбнік, літургію "адпушчэння".

"Няхай суполка, шаноўныя, паслухае мяне, – пачынаў ён. – зараз пост, пятнадцаты дзень месяца. Калі суполка гатовая, то будзе пасьціцца... Я буду чытаць спавядальны трэбнік" .

Прысутныя адказвалі:

"Усе мы, прысутныя тут, слухаем і памятаем".

"Няхай той, хто здзейсніў правіну, – працягвае чытаючы, – прызнаецца ў ёй. А хто не здзейсніў ніякага ўчынку, можа маўчаць. Манах, не прызнаўшыся пасьля трохразовага запытання пра правіну, якую ён здзейсніў, і пра якую памятае, вінаваты ў сьвядомай хлусні. А сьвядомая хлусня, шаноўныя, прыносіць пагібель – – так сказаў Ўсявышні. Таму манах, які здзейсніў нейкую правіну і памятае пра яе, павінен прызнацца ў ёй, калі ён жадае ачысьціцца. Калі ён прызнаецца, яму будзе лёгка".

Пасьля гэтага пачынаўся пералік правін. Спачатку агучваюцца самыя цяжкія правіны. "Калі манах, – працягваў чытальнік, – меў стацевыя стасункі з нейкай істотай, нават з нейкай жывёлай, то ён выключаецца і праганяецца із суполкі". Такімі ж словамі гаворыцца пра іншыя тры цяжкія грахі: пра крадзяжы, забойствы і ілжывыя дамаганні на духоўную годнасць. Затым чытальнік звяртаецца да прысутных з трохразовым запытам:

«Я пытаю вас, шаноўныя, ці чыстыя вы ад гэтых злачынстваў? І ў другі раз пытаю вас: "ці чыстыя вы? І ў трэцці раз пытаю: ці чыстыя вы"?

І калі ўсё маўчаць[69], то чытальнік абвяшчае: "Шаноўныя, прысутныя тут, чыстыя, таму яны і маўчаць – я так разумею іхнае маўчанне".

Далей пералічваюцца менш значныя злачынствы і правіны, маючыя наступствам часовае паніжэнне па прыступках сьвятасьці або такія, за якія не прызначаецца ніякае пакаранне і справа абмяжоўваецца гэтым простым прызнаннем перад усёй суполкай. Так, напрыклад:

"Той манах, які прынізіцца да таго, што дакранецца да цела жанчыны з грахоўнымі думкамі, які вазьме яе за руку ці за валасы або дакранецца да той ці іншай часткі яе цела, караецца часовым паніжэннем у стане".

---

[69] У пазнейшых тэкстах ёсць указанне, што на сьвяце пакаяння не павінен прысутнічаць манах, які не адкупіў свой грэх. Ён павінен прызнацца і зведаць належнае пакаранне раней. Калі ж ён успомніць пра нейкую правіну падчас сьвята, то не павінен адказваць на пытанні чытальніка, а павінен вызваліцца часова ад свайго греху на час сьвята тым, што паведаміць суседу: "брат, я здзейсніў такую-та і такую-та правіну: я ачышчуся ад яе, калі выйду адсюль". Хто ведае пра правіну іншага, той павінен пераканаць вінаватага ачысьціцца да сьвята пакаяння, або, калі той не жадае адбываць пакаянне, павінен забараніць яму прысутнічаць на сьвяце. У палажэнні: "ніхто, на кім ляжыць правіна, не можа адбываць сьвята пасту", добра відаць адрозненне пазнейшых разуменняў ад старажытных уяўленняў, стварыўшых сьвята пакаяння менавіта для тых манахаў, якія здзейснілі нейкую правіну.

“Калі адзін манах ў гневе і праз варажнечу прагоніць другога із хаты, якая належыць суполцы, то яму прызначаецца пакаянне”.... І г. д.

Такім чынам больш, чым у двух сотнях даволі несістэматычна склададзеных параграфаў выкладаюцца абмяжаванні адносна штодзённага жыцця манахаў, іхнага жылля, ежы і пітва, адзення, іхных стасункаў адзін з адным з цывільнымі і паслушнікамі. Часта гаворка ідзе пра самыя нязначныя і дробныя пытанні.

Акрамя паловумесяцовага сьвята пакаяння патрэбна згадаць яшчэ пра штогадовае сьвята, маючае назыву “Запрашэнне”. Пасьля заканчэння трохмесяцовага дажджлівага часу да пачатку вандровак збіраліся манахі кожнай дыяцэзіі; усе, ад старэйшяга манаха да самага маладога, садзіліся ў пачцівай постаці на падлогу і, падняўшы складзеныя рукі, прасілі братоў назваць тую памылку супраць іх, у якой яны правініліся за гэты час. Увесь клопат ў гэтых культавых цырымоніях быў накіраваны толькі на прыстойныя паводзіны і правільнасць учынкаў сябраў суполкі. Усё ж выходзячае за гэтыя межы – навучанне і пабожнае самапаглыбленне – аддавлася на волю дзейнасьці асобных сябраў суполкі або асобных згуртаванняў.

А якім жа было стаўленне да жанчын? Нават і зараз грамадзянскае права індусаў трымае жанчыну ў залежнасьці на працягу ўсяго яе жыцця. “У дзяцінстве, – паведамляе вядомае выслоўе законаў Ману, – яна павінна падпарадкоўвацца волі бацькі, у маладосьці волі чалавека, а калі памрэ яе чалавек, волі сына; жанчына ніколі не павінна карыстацца незалежнасьцю”. Правілы ўсталяваныя буддыйскім супольным рэгламентам для духоўнага жыцця манахінь магуць служыць дадаткам да гэтага правіла Ману. Як жонка падпарадкоўваецца апецы чалавека, а маці сына, так ордэн манахінь падпарадкаваны нагляду ордэна манахаў.

Асноўным законам суполкі манахінь служылі “восем высокіх правілаў”, дадзеных ад імя Будды першым манахіням пры іхным прысьвячэнні.

“Кожная манахіня, хаця б яна атрымала прысьвячэнне сто гадоў таму назад, павінна пачціва вітаць кожнага манаха, хаця б ён толькі што атрымаў прысьвячэнне, павінна стаць перад ім, падняць да яго складзеныя рукі і вітаць яго, як гэта належыць. Гэтае правіла яна павінна паважаць, заўсёды прытрымлівацца, шанаваць і не парушаць на працягу ўсяго жыцця”.

“Манахіня не павінна праводзіць дажджлівую пару года ў той акрузе, дзе няма манахаў”.

“Двойчы на месяц манахіні павінны звяртацца да суполкі манахаў: яны павінны запытаць іх пра сьвятое пакаянне і слухаць, як манахі павучаюць (сьвятому слову)”.

“Пасьля дажджлівай пары манахіні павінны звяртацца да абаюднай суполкі з трохразовым запрашэннем выкрыць іх у грахах, ці не заўважылі чаго за імі, ці не чулі пра іх чаго-небудзь, ці не падазраваюць іх у чым-небудзь”.

“Манахіня, здзейсніўшая цяжкую правіну, павінна выканаць паловумесячнае пакаянне, прызначанае для яе абаюднай суполкай”.

“Абаюдная суполка толькі тады дазволіць прысвячэнне жадаючай, калі тая прожыла два гады, выконваючы шэсць правілаў”.

“Манахіня ні ў якім разе не павінна насміхацца над манахам або сварыцца з ім”.

“Закрываецца рот манахіні супраць манаха, але манаху не закрываецца рот супраць манахіні”.

Кожныя два тыдні манахіні выпраўляюцца да манаха, прызначанага для гэтага рашэннем брацііі, каб атрымаць  ад яго духоўныя павучанні і парады. Гэты манах ў прысутнасьці іншага чакае манахінь седзячы і, калі яны з’явяцца і аддадуць яму зямны паклон, то ён пачынае павучаць іх пра восем высокіх правілаў, выказвае іх у форме павучання або ў форме пытанняў і адказаў.

Зразумела, што манахі былі строга аддзелены ад манахінь. Нават той манах, які быў абавязаны выказваць манахіням павучанні, не меў права заходзіць у жаночы кляштар, за выключэннем толькі таго выпадку, калі адна із сясцёр была хворай і мела патрэбу ў павучанні. Манахам строга забаранялася ісьці ў падарожжа разам з манахіняй, плыць з ёю на адным караблі і знаходзіцца разам з ёю без сведак. Штодзённае жыццё і рэлігійныя практыкаванні манахінь нічым істотным не адрозніваліся ад жыцця і практыкаванняў манахаў. Адрозненне было толькі ў тым, што адзінота для манахінь была калі не забаронена, то ва ўсякім разе моцна абмежавана: ім забаранялася жыць самотна ў лесе, а толькі ў межах вёскі ці горада, у хаціне або кляштарскай келлі, ўдваіх ці больш, але не ў адзіноце. Із кляштароў яны выходзілі на збіранне падаянняў і выпраўляліся ў доўгія вандраванні, лічыўшыяся для іх, так жа як і для манахаў, неабходнай умовай аскетычнага жыцця. Лічаць, што і іхная колькасць была значна меншай, чым манахаў[70].

Але без цывільных ордэн жабруючых манахаў немагчымы, а таму ён і не прэтэндаваў на ўсеагульнае далучэнне да сябе, а толькі каб яго шанавалі, і для далучэння да ліку іхных “шанавальнікаў” не патрабавалася ніякіх умоваў, а толькі павучалася, што для свайго ж выратавання ім неабходна ўтрымліваць жабруючую брацію. Суполка манахаў нават магла загадаць “не падстаўляць такому-та парафіяніну чарку (гэта азначае, не прынімаць ад яго падаяння) і адмовіць у агульнай трапезе”[71]; а калі ён каяўся, то выносілася адваротнае рашэнне: “падстаўляць яму чарку і падзяляць з ім трапезу”.

Для цывільных не ладзілася ніякіх правільных духоўных сходаў і ім не дазвалялася нават прысутнічаць пры ўрачыстых актах суполкі. Толькі штодзённыя зборы падаянняў падтрымлівалі пастаянныя стасункі паміж манахамі і цывільнымі, пры гэтым апошнія атрымлівалі дабраславенне. Свецкія са свайго боку прыходзілі ў сады суполкі, знаходзіўшыяся звычайна за горадам, з разнастайнымі падарункамі, з прыпасамі і лекамі, з вянкамі і духмянасьцямі; там яны аддавалі манахам падабаючыя ўшанаванні і слухалі чытанне сьвятых прамоваў і выслоўяў. Вернікі якой-небудзь вясковай акругі часам патрабавалі, каб манахі правялі дажджлівы час паблізу іхнай вёскі; яны ладзілі для сваіх гасьцей жытло і давалі ім штодня пры іхных абыходах ежу. Калі пасьля заканчэння дажджлівага часу манахі збіраліся выправіцца ў шлях, цывільныя звычайна ладзілі ім развітальны абед, прычым звычайна сыходзячым духоўным вандраўнікам раздавалі адзенне або тканіну для яе прыгатавання. Часта цывільныя дамаўляліся ладзіць для суполкі абеды па чарзе; а пад час галодных часоў, калі адзін парафіянін не быў у стане частаваць усіх братоў, ладзіліся “абеды па прызначанню”, “абеды па запрашенню”, “абеды на базарах”, “абеды паловумесячныя”. Абавязваліся або назаўсёды або на вызначаны

---

[70] Пра гэта даюць уяўленне напрыклад, указанні пра колькасць манахаў і манахінь, прысутнічаўшых на вялікім сьвяце, наладжаным Асокай. Там было 800 мільёнаў манахаў і толькі 96000 манахінь.

[71] Гэтае адлучэнне не выкарыстоўвалася ў выпадку дрэнных паводзін, а як пакаранне за абразу. Прыводзіцца восем выпадкаў, калі цывільным прызначалася такае пакаранне: ”калі цывільны чалавек прыкладаў намаганні, каб манахі не атрымлівалі падарункаў; калі ён прыкладаў намаганні, каб манахі зведвалі нястачы; калі ён прыкладаў намаганні, каб у манахаў не было жылля; калі ён насміхаўся і ганьбаваў манахаў; калі ён сеяў паміж імі сваркі; калі ліхасловіў самаго Будду, калі блага выказваўся пра суполку”.

прамежак часу дастаўляць манахам лекі, якія ім будуць патрэбны; а часам дабрачынныя жанчыны прыходзілі ў кляштарскі сад і ў кожным доме пыталі: “Ці няма хворых у вас, шаноўныя. Каму і што трэба прынесьці?“ Зразумела, што і манахі не скупіліся на абяцанні разнастайных нябесных узнагарод. “Будда хваліў, як чароўнейшы дар, – гаворыцца у адным із тэкстаў, – падарункі суполцы, жытло, месцы прытулку і радасьці, дзе можна аддацца самапаглыбленню і сьвятаму назіранню. Таму хай мудры чалавек, разумаючы сваю ўласную выгоду, будуе добрыя дамы і прынімае ў іх дасведчаных у вучэнні. Няхай ён з радасным сэрцам дась ім, справядлівым, ежу і пітво, адзенне і ложак. А яны хай прапаведуюць яму вучэнне, знішчаючае ўсякія пакуты; і калі ён выведае вучэнне, то ён без граху ўвойдзе ў Нірвану”. Цалкам натуральна, што часам мяккадушныя давальнікі, залішне падпадаючыяся пад абяцанні нябеснай узнагароды, моцна эксплуатаваліся асабліва назойлівымі і безсаромнымі із гэтых жабруючых раздавальнікаў нябесных даброт. Паведамляеццца гісторыя пра пабожнага ганчара, у якога манахі запатрабавалі такую вялізную колькасць чарак, што ён цалкам агалеў.

Цывільныя лічыліся толькі хаўруснікамі і не болей. Ім адмаўлялася ва ўсьведамленні, што і яны бяруць удзеў у царстве Будды – іхнае адрозненне ад манахаў было яшчэ большым, чым у брамінскім ахвяравальным кульце адрозненне брамінаў ад цывільных, якія ўсё-такі, хаця б і з дапамогай брамінаў, маглі таксама наблізіцца да бога, як і самі жрацы. Вернік буддыст, не маючы магчымасьці адрачыся ад сьвету, мог толькі цешыцца надзеяй, што ў будучым жыцці яму наканавана надзець манаскае адзенне і зведаць даброты адкуплення.

Але калі ўсё гэта так, чытач, то хто ж напісаў усе гэтыя філасофскія трактаты, знаходзімыя “ўнікамі” у лясах Індыі сучаснымі еўрапейскімі навукоўцамі? Няўжо гэтыя ўбогія гультаі і валацугі-пустэльнікі? Або тыя цывільныя, якіх яны не дапускалі нават на свае сходы?

Тут нашы мудрыя даследчыкі індыйска-буддыйскай філасофіі даводзяць нас да крайніх межаў неадпаведнасьці, далей якіх ісьці немагчыма. У гэтых індыйскіх слупнікаў ледзь ці было больш літаратуры і філасофіі, чым у індыйскіх пеўняў.

# Глава IV

## Перараджэнне буддызму ў Індыі.

Згодна са сведчаннем Рыс-Дэвідса пры прысвячэнні ў стан буддыйскага сьвятарства не ладзіцца нічога містычнага. Цывільны чалавек, маючы жаданне ўступіць у ордэн, павінен быць, ва ўсякім разе, васьмі гадоў для прыняцця ў лік паслушнікаў і не менш дваццаці для поўнага прысьвячэння. У вызначаны дзень збіраецца капітул, які складаецца ў крайнім выпадку із дзесяці манахаў; старшыня павінен быць із ліку манахаў, належачых да ордэна не менш за дзесяць гадоў. Манахі, складаючыя капітул, сядзяцца на цыноўкі ў два шэрагі адзін насупраць аднаго; старшыня сядзіць на чале аднаго із шэрагаў. Кандыдат, у цывільным адзенні, але маючы на руках тры жоўтыя манаскі адзенні, ўводзіцца тым, хто яго прапануе (гэтая асоба павінна быць із ліку манахаў), ўчыняе “салам” перад старшынёй і прапануе яму маленькі падарунак у адзнаку павагі. Затым ён тройчы просіць прыняць яго ў лік паслушнікаў. “Будзь міласэрдны, Госпадзі, вазьмі гэтыя кашулі і дазволь мне быць прысвечаным, каб я пазбег засмучэнняў і зведаў Нірвану”. Тады старшыня бярэ звязку кашуль і абвязвае іх вакол шыі кандыдата,

прамаўляючы формулу, змяшчаючаю ў сабе разважанні пра ранейшы стан чалавечага цела. Затым кандыдат выходзіць і перамяняе адзенне, паўтараючы формулу, утрымліваючую думку пра тое, што, хаця ён і носіць вопратку, але робіць гэта толькі праз сьціплась і для абароны ад спёкі, халоду і г. д. Калі ён зноў з'яўляецца, апрануты жабраком, ён становіцца на калені перад старшынёй і тройчы паўтарае за ім дзьве добра вядомыя буддыйскія формулы. Першая з іх мае назву "тры прыстанішчы".

"Я шукаю прыстанішча ў Будды, я шукаю прыстанішча ў Закона, я шукаю прыстанішча ў Ордэна".

Другая носіць назву "дзесяці запаветаў", заключаючыхся ў наступным:

1. Я даю зарок не разбураць жыццё.

2. Я даю зарок не красьці.

3. Я даю зарок стрымлівацца ад нечысьці.

4. Я даю зарок не падманваць.

5. Я даю зарок стрымлівацца ад ап'яняючых напояў, якія перашкаджаюць поспеху і цнотам.

6. Я даю зарок не есьці ў забаронены час.

7. Я даю зарок не браць удзел ў скоках, спевах, музычных і тэатральных пастановах.

8. Я даю зарок не карыстацца вянкамі, пахучымі рэчывамі і ўпрыгожваннямі.

9. Я даю зарок не карыстацца высокім або шырокім ложкам.

10. Я даю зарок не прынімаць золата і срэбра.

Затым кандыдат паднімаецца, выказвае сваю пашану старшыні і выдаляецца паслушнікам. На гэтым і заканчваецца цырымонія прыняцця ў шэрагі паслушнікаў.

А паслушнік, прэтэндыючы на поўнае прысвячэнне, павінен зняць адзенне і, у якасьці цывільнага, зноў выканаць вышэйпералічаныя фармальнасьці. Затым кандыдат вяртацаецца, зноў учыняе "салам" старшыні, аддае свой падарунак і тройчы пачціва просіць яго стаць яго "настаўнікам". Калі на гэта (значэнне чаго мы зараз растлумачым) выказваецца згода, кандыдат накіроўваецца ў канец залы, дзе на яго шыю вешаюць чарку для падаянняў. Затым асоба, якая прапануе яго, ідзе за старшынёй, у той час як іншы манах із капітула паднімаецца і становіцца побач з кандыдатам, які, такім чынам, знаходзіцца паміж двума манахамі. Апошнія як бы выконваюць ролю экзаменатараў. Адведзены ў бок, ён паведамляе ім сваё імя і імя свайго настаўніка; потым, што ён атрымаў чарку для падаяння і адзенне; што ён не пакутуе ні ад якой апаганьваючай хваробы, што ён мужчынскай статі, дасягнуў дваццаці гадоў і самастойны, і што ён заручыўся згодай сваіх бацькоў. Тады экзаменатары паведамляюць капітулу пра задавальняючыя вынікі іхнага апытання і, згодна з дадзеным дазволам, кандыдат зноў выступае наперад і, стаўшы на калені, тройчы просіць пра прысьвячэнне. "Жабруючыя, я прашу капітул пра дапушчэнне; майце спагаду да мяне і падніміце мяне". Пасьля гэтага экзаменатары паўтараюць свае пытанні ў прысутнасьці капітула і тройчы пытаюцца ў капітула, ці мае хто-небудзь пярэчанні супраць прыняцця кандыдата. Калі пярэчанняў не будзе, яны кланяюцца старшыні і прамаўляюць: "...прыняты таварыствам, яго настаўнік... Капітул згодзен з гэтым і таму маўчыць. Мы разумеем так".

У наш час, у буддыйскіх краінах царква не такая заможная, як у Ангельшчыне[72], манахі часта гультаяватыя і нярэдка сквапныя. Але, на Цэйлоне або ў Бірме, ва усякім разе, яны, як карпарыцыя, не заплямілі сябе абжорствам і

[72] Рыс-Дэвідс, стар. 159 рускага перакладу.

п'янствам і ніколі не выяўляюць шыкоўнасьці ў адзенні або шыкоўнасьці і ўрачыстасьці ў звычаях. У буддыйскай сістэме няма месца для цэркваў; прынашэнні кветак перад святым дрэвам або выявай Будды заменяе рэлігійнае служэнне.

Дзякуючы недахопу пісьменства развіццё буддызма ў Індыі не закончылася і зараз.

“У наш час, – выказваецца Рыс-Дэвідс[73], – як у Сіяме, так і на Цэйлоне, узнікаюць яго новыя адгалінаванні і з'яўляюцца рефарматары.

Дык чаму ж, – запытаю я, – належыць думаць, што такіх адгалінаванняў і рефарматараў не ўзнікала і ў XIX і XVIII і ў папярэдніх стагоддзях, калі буддызм быў яшчэ маладзейшы?

Цалкам зразумела, што маладая, яшчэ толькі фарміруючаяся рэлігія, заўсёды нашмат больш гнуткая, чым старая, закансерваваная ў “асьвечаных старажытнасьцю” формах.

Гэта азначае, што гэта і зараз не такая ўжо старажытная закансерваваная рэлігія, якой яе лічаць сучасныя еўрапейскія тэолагі, а яшчэ растучая, ва ўсякім разе да таго часу, пакуль яе рост не будзе спынены хутка распаўсюджваючымся прыродазнаўствам і поспехамі тэхнікі, падобна таму, як, напрыклад, бакінскае полымяшанаванне, з яго ахвярнікамі перад вечнымі вогнішчамі, існаваўшае яшчэ і ў XIX стагоддзі, само сабой знікла пры ўварванні туды нафтаперапрацоўваючай прамысловасьці.

Разгледзім жа асноўныя ідэі буддызму ў тым выглядзе, у якім яны выпрацаваны зараз не столькі самімі буддыстамі, колькі ад іхнага імя самімі еўрапейскімі даследчыкамі.

Па меры таго, як дзіця расьце, – кажа Рыс-Дэвіс, (стар. 85) – яго самасвядомасць адлюстроўвае падобна цьмянаму люстэрку, выяву атачаючага сусьвету, і фактычна, хаця і несвядома, яно глядзіць на сябе, як на цэнтр, вакол якога існуе сусвет. Паціху яго кругагляд пашыраецца, але і дарослы чалавек ніколі цалкам не вызваляецца ад памылак “сваёй выключнасьці”.

Вучэнні падобныя панпсіхізму не ўласцівы выключна буддызму і індыйскім філасофскім сістэмам. Яны сустракаюцца таксама і ў іншых сістэмах, цалкам адасобленых як згодна з часам, так і месцам. Стаўшы носьбітам ісьціны, заключанай у гэтых ідэях, буддызм, – робіць здагадку аўтар, уяўляючы буддыстаў згодна са сваім уяўленнем і падабенствам, – надаў бы ёй больш рашучае і больш працяглае распаўсюджванне, калі б ён таксама не запазычыў цікавую веру ў перасяленне душ – вучэнне, якае ўзнікла, відаць, незалежна і амаль адначасова ў даліне Ганга і ў даліне Ніла.

Пасьля гэтага ўступлення, у якім выклікае асаблівую цікавасць параўнанне Індыі з Ягіптам, Рыс-Дэвідс, грунтуючыся на апокрыфах сучасных індускіх пандытаў, таксама асьвячаючых нацыянальныя паданні звыш еўрапейскай натуральнай філасофіі, пералічвае пяць родаў якасьцей жывых істот:

I. Матэрыяльныя якасьці, лікам дваццаць восем:

– чатыры элементы: зямля, вада, полымя, паветра, пры гэтым згодна з Калбрукам, буддысты, быццам бы думаюць, што элементы рэчаў складаюцца з атамаў і што складаныя рэчы па-сутнасьці злучэнне першапачатковых атамаў.

– пяць органаў пачуццяў: вачы, вушы, нос, язык, цела.

[73] Буддызм, стар. 76.

– пяць уласцівасьцей матэрыі: форма, гук, пах, смак, рэчыва. У некаторых рукапісах гэта прапушчана, і пазней дададзена “ежа”.

– два стацевыя адгалінаванні: мужчынскае і жаночае.

– тры асноўныя ўмовы існавання: думка, жіццёвая магутнасць, прастора.

– два спосабы стасункаў: рухі цела, вымаўленне.

– скм якасьцей жывых істот: лёгкасць, пругкасць, прыстасоўваемасць, магутнасць шчаплення, працягласць, разбураемасць, зменлівасць.

II. Адчуванні. Яны распадаюцца на шэсць разрадаў, гледзячы па тым, ці адчуваюцца яны непасрэдна кожным із пяці пачуццяў, ці розумам (пры дапамозе памяці); і далей на васямнадццаць падразрадаў, так як кожны із гэтых шасьці разрадаў можа быць прыемным, непрыемным або абыякавым.

III. Абстракныя разуменні.

Яны падзяляюцца на шэсць разрадаў адпаведна шасьці разрадам адчуванняў; напрыклад, разуменні “блакітны”, “дрэва” маюць дачыненне да зроку, разуменне “салодкасць” – да смаку і г. д.

IV. Схільнасьці або здольнасьці (літаральна, тварэнне). Яны маюць пяцьдзесяць два падзелы, некаторыя із якіх утрымліваюць разуменні, якія ўваходзяць у папярэднія разрады і каб не перабіваць асноўнага выкладання, я даю іх асобна ў табл. I.

V. Думка, розум (органам разумення лічыцца сэрца[74]). Яна падзяляецца ў залежнасьці ад заслуг або правінаў на восемдзесяць дзевяць разрадаў, якія я не пералічваю, каб не засмучаць чытача, які яшчэ не мае ўяўлення пра такі падзел із табл. I.

Немагчыма ўявіць, каб усё гэта стварылі самі апакрыфісты-пандыты, каб задаволіць пад час студэнцкіх гадоў настойлівыя прашэнні сваіх калькуцкіх, бамбейскіх, мадраскіх і іншых брытанскіх прафесароў міжнароднай тэалогіі. Шчыра верыўшыя, што індускія тэолагі хаваюць ад іх нейкую вялізную, сакрамэнтальную літаратуру, перад якой уся еўрапейская навука – адна нікчэмнасць, гэтыя наехаўшыя прафесары, вядома, сваёй першай справай лічылі пераканаць сваіх індускіх студэнтаў разздабыць або скапіяваць для іх у бацькоў і знаёмых ўсякія маючыяся там рукапісы. Бо калі б яны не рабілі гэтага, яны не былі б прафесарамі ост-індскай літаратуры, і ім бы не было патрэбы ехаць у гэтую краіну, гэта азначае, падобныя прашэнні былі не толькі адным маім меракаваннем, а рэальнай атмосферай тамтэйшага жыцця. А ў такой атмасферы рукапісы, якія дастаўляліся студэнтамі сваім прафесарам, непазбежна павінны былі ўзнікаць так жа, як грыбы восенню ў паўночных краінах.

Галоўная частка із іх, вядома, складалася із запісаў мясцовых апавяданняў, часткова дакладных, часткова адрэгаваных студэнтамі згодна з іхнымі аеўрапеіўшыміся ўяўленнямі, а другая частка магла быць і сапраўднымі апокріфамі, дзе мясцовы фальклор служыў толькі канвой для ўласнай фантазіі аўтараў.

Толькі такім чынам туды і маглі патрапіць, напрыклад, атамістычная тэорыя пабудовы рэчыва і шэраг іншых такіх жа нечаканасьцей для сучасных прыродазнаўцаў. Ва ўсякім разе, гэты сучасны нам народны эпас і яго сапраўднае значэнне, як я ўжо выказваўся, мае толькі этнаграфічнае, а ніяк не гістарычнае значэнне. І назіраючы гэты містычны сьветапогляд, міжволі параўноўваеш ўсходнія народы з дзецьмі, яшчэ гуляючымися ў лялькі, і шчыра перакананымі, што

[74] Гаджэры 1867, стар. 122.

яны іх да таго ж яшчэ чуюць і разумаюць... Ды хіба ж не лялькі і ўсе еўрапейскія панны і розныя цудатворныя і не цудатворныя іконы?

Назіраючы ў нашай рэчаіснасьці вялізную розніцу паміж сучаснымі прыродазнаўчымі навукамі і тэалагічнымі перажыткамі мінулага, якія яшчэ ахопліваюць вялікія масы насельніцтва, асабліва на азіяцкім кантыненце, міжволі згадваецца верш Дабралюбава:

Сонца асьвяціла гор вяршыні,
А ў нізе пануе густы цень.
Ціха спяць глыбокія даліны,
А наверсе ззяе яркі дзень.

Апусьцімся ж зноў у гэтыя глыбокія даліны і вывучым далей іхны сьветапогляд.

“Прыведзенае вышэй пералічэнне змяшчаючае ў сабе ўсе цялесныя і духоўныя часткі і магутнасьці чалавека, але ні адно із іх паасобку не мае пастаянства. Первае згуртаванне, – выказваецца ад імя індусаў Спенс Гардзі, – матэрыяльныя якасьці, падобна пене, якая то ўтвараецца, то знікае. Другое згруртаванне, адчуванні, падобна бурбалцы, вагаючайся на воднай паверхні. Трэццяе згуртаванне, разуменні, падобна невыразнаму адлюстраванню, ўзнікаючаму ў сонечным сьвятле. Чацьвёртае згуртаванне, разумовыя і духоўныя схільнасьці, падобны бананаваму сцяблу, без цьвёрдасьці і ўстойлівасьці. А апошняе згуртаванне, думкі, падобны прывіду або здані”.

У Пітаках, – сведчыць Рыс-Дэвідс (стар. 89), – неаднаразова сцвярджаецца, што ніводная із гэтых якасьцей надзеленай адчуваннем істоты, не з’яўляецца душой. Само цела пастаянна змяняецца, і так жа кожнае із астатніх згуртаванняў, якія з'яўляюцца толькі функцыямі жывога цела, выклікаемымі дотыкамі знешніх прадметаў да органаў адчування цела. У два пасьлядоўныя моманты чалавек ніколі не бывае адным і тым жа і ў ім няма ніводнага пастаяннага прынцыпу. Але ж падобныя высновы, чытач, зроблены толькі найноўшымі еўрапейскім фізіёлагамі! Якім чынам яны маглі патрапіць да людзей, якія яшчэ не мелі ніякага ўяўлення пра фізіялогію! А вось і яшчэ старонка із сучаснай спрэчкі паміж ідэалістамі і матэрыялістамі.

“Апосталы мае! – кажа Гаутамі-Хрыстос, – з якога б боку навукоўцы ні глядзелі на душу, яны лічаць, што яе складаюць пяць уласцівасьцей або адна із пяці. Неўвасоблены чалавек лічыць душу або тоеснай з матэрыяльнымі якасьцімі, або ўтрымліваючую іх у сабе або ўтрымліваючайся ў іх; ці ж тоеснай з адчуваннямі, або ўтрымліваючай іх у сабе, або ўтрымліваючуюся ў іх”. “Разглядаючы, ён набліжаецца да думкі  “я ёсьць”. Із адчуванняў (выклікаемых датыкамі) адчувальны невуцкі чалавек выводзіць разуменні: “я ёсьць”, “гэта я існую”, “я буду”, “я не буду”, “я буду мець матэрыяльныя якасьці ці не буду мець такіх”, “я буду ці не буду мець разумення”. А асьвечаны вучань увасобленага, валодаючы тымі ж самымі пяццю органамі адчуванняў, вызваліўся ад невуцтва і набыў мудрасць; і таму думка “я ёсьць” не прыходзіць яму ў галаву.

Адным словам, нават уяўленне пра сваё ўласнае існаванне з’яўляецца падманам адчуванняў і наше ”я” тоесна з усім сусьветам.

Але ж усё гэта, чытач, ужо ўзята із Шопенгауэра (1788-1860), а таму і не магло бць напісана раней паловы мінулага стагоддзя! Каб далёка не хадзіць за яго творамі, паглядзіце хаця б у малым энцыклапедычным слоўніку Брокгауза і Эфрона і там пад словам Шопенгауэр вы знойдзеце: “Вышэйшай прыступкай

маральнасьці ў Шопенгауэра з’яўляецца забойства не жыцця, а волі да жыцця. Дактрына Шопенгауэра амаль тоесная з буддыйскім вучэннем пра Нірвану, г. азн. пра шчаслівы стан сьвятых, ачышчаных падзвіжніцтвам ад якіх бы то ні было жыццёвых захапленняў”.

Але для Шопенгауэра такі сьветапогляд з’яўляецца натуральным вынікам знаёмства з папярэднічаўшымі яму творамі Гегеля і Канта, а адкуль жа ён у індускіх буддыстаў? Вынікае, што яны ўжо знаёмы з ідэямі Шопенгауэра, паспеўшымі толькі да канца першай паловы XIX стагоддзя, калі яны сапраўды зрабіліся вельмі моднымі ў асяроддзі філосафаў. І ва ўсякім разе надзвычай цікава тое, што яны былі знойдзены ў Індыі як раз у перыяд распаўсюджвання ў еўрапейскіх, а разам з імі і ў індыйска-еўрапейскіх універсітэтах шопенгаўераўскай філасофіі.

А цікавей за ўсё тое, што вучэнне пра адсутнасць індывідуальнай душы знаходзіцца ўжо ў кантэксце з асноўным пастулатам звычайнага зараз брамаізма пра перасяленне душ.

Ідэя пра перасяленне душ не патрабуе для сябе асобнага апавяшчальніка. Яна ўзнікла ў тым цікавым стане памяці, калі мы часам вельмі выразна адчуваем, што перажываемыя намі адчуванні ўжо перажываліся намі раней, але мы не ведаем, якім чынам  і менавіта калі [75].

І гэтая вера была зафіксавана буддызмам. Згодна з гэтым вучэннем, як толькі маючая адчуванні істота (чалавек, жывёла ці анёл) памірае, узнікае новая істота, у больш ці менш матэрыяльным стане існавання, з’яўляючыся вынікам таго якія заслугі ці правіны мела памёршая істота. Але гэтыя перараджэнні не бясконцыя; калі істота цалкам удасканаліцца, яна атрымлівае бясконцае шчаслівае заспакаенне, як у хрысьціянскім раі.

“Таму, тым чые адчуванні супакоіліся, падобна на добра вымуштраванага каня; таму, хто вызваліўся ад ганарыстасьці і цялесных жаданняў, і імкнення да існавання, і бруду невуцтва, – завідуюць нават багі. Той, хто вядзе пабожнае жыццё, застаецца непахісным, падобна зямлі, непахісным, падобна гарадзкой браме, непарушным, падобна празрыстаму возеру. Для яго больш не існуе нараджэнняў. Заспакоены дух, заспакоеныя словы і ўчынкі таго, хто такім чынам супакоіцца і вызваліцца шляхам пазнання”[76].

“Што ж такае Нірвана, – пытаецца Рыс-Дэвідс (стар. 106), – азначаючая проста заспакаенне? Зразумела, што тут не мажа быць гаворкі пра знікненне душы. Гэта з’яўляецца знікненнем таго грахоўнага стану душы і сэрца, які ў іншым выпадку з'явіўся б нагодай аднаўлення індывідуальнага існаваныя. Нірвана тое ж самае, што бязгрэшны, спакойны стан духу і калі наогул гэтае слова перакладаць, то магчыма, лепш за ўсё перадаць яго словам “сьвятасць” – сьвятасць у сэнсе дасканаласьці ў сусьвеце, дабрыні і мудрасьці.

Пяройдзем зараз да ўяўленняў пра жыццёвы працэс.

Адна буддыйская прыпавесць паведамляе, што жыццё чалавека падобна на полымя лампы, у якую апушчаны папяровы кнот. Адно жыццё бярэ пачатак ад іншага, падобна таму, як адно полымя запальваецца ад папярэдняга; гэта не тое ж самае полымя, але без папярэдняга яно б не існавала. Як полымя не можа існаваць без масла, так і індывідуальнае жыццё залежыць ад прывязанасьці да нізкіх зямных

[75] Некалькі цікавых прыкладаў гэтага прыводзіцца сучаснымі псіхолагамі. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца выпадакі, прыведзеныя доктарам Карпентэрам і Б. Бродзі.
[76] Дхамапада (94-96).

рэчаў, праз грахоўнасць сэрца. Калі полымя ў лампе перарвецца, яна патухне, і тады новае полымя атрымаць ад яе немагчыма. Падобным жа чынам вычэрпваюцца складовыя часткі дасягнуўшага дасканаласьці чалавека, і ад яго не народзіцца ніводная новая істота[77].

Але гэта ўсё ж не будзе знішчэннем.

"Калі разгледзець у Дхама-падзе кожны із выпадкаў, у якім згадваецца Нірвана, – кажа Макс Мюлер[78], – то не выявіцца ніводнага, у якім гэтаму слову надавалася б значэнне знішчэння, у той час як вялікая іх частка, калі не ўсе, выявіліся б незразумелымі, калі б мы прызналі за Нірванай такое значэнне".

# Глава V

## Кніга Даранаты.

Вазьмем для прыкладу "Гісторыю буддызма ў старажытнай Індыі", прыпісваемую Даранаце, у рускім перакладзе В. П. Васільева. У тыбецкім тэксце маецца такі загаловак:

*"Крыніца счасьця або зразумелае выкладанне, якім чынам каштоўная вярхоўная рэлігія, складзеная дзякуючы прашэнням некаторых, адчуваўшых у ім патрэбу і згодна з асабістым перакананнем аўтара, што яно будзе карысным для іншых. Даранатай із пераможнага Хама, на яго 34 годзе ад нараджэння, у палацы веры (кляштары) Враг-Дод. Ды распаўсюдзіцца і памножыцца каштоўная вера ва ўсіх краінах і ды будзе там вечна! Манголам!"*

Скажам спачатку некалькі слоў пра самога Даранату. Гэта імя не вельмі вядома ў ламайскім асяроддзі; яно вядома нам больш з тых часоў, як існуе Ўргінскі хутукта, увасабленне Даранаты. Аднак жа, нягледзячы на яго блізкасць да нас, пра сам арыгінал ургінскіх хутукт мы маем вельмі мала сведчанняў. Як мы тут бачылі, Дараната пазначае свой узрост роўным 34 гады, калі ён напісаў сваю кнігу. Год гэты – год зямлі і малпы згодна з храналагічнымі табліцамі Сумба Хутукты, у яго гісторыі буддызма адпавядае нашаму 1608 г., а год нараджэння пазначаны годам дрэва і сьвінні. І тут мы із гэтых жа табліц даведваемся, што ўласным імем Даранаты было Гунь-Ньюінг. "Вось усё, што мы ведаем, – сведчыць В. Васільеў, – пра Даранату. Мы не ведаем, ці існуе яго асобная біяграфія, але дакладна тое, што існуе біяграфія ўргінскага хутукты Чжэбацунь Дамбы, у якой абавязкова павінна паведамляцца пра Даранату. Аднак жа, нягледзячы на ўсе нашы намаганні, мы не змаглі яе набыць".

Відавочна, дададзім мы, яна яшчэ не напісана ад святога духа, як і сама даследуемая кніга, у якой мы маем цэлых 270 старонак сціслага шрыфту вялікага фармату.

Яе гістарычная каштоўнасць вызначаецца ўжо тым, што яна напісана, – як нас запэўніваюць, – у 1608 годзе нашай эры, а апавядае пра падзеі, якія былі амаль за 2000 гадоў да яе. Праўда, яна згадвае пра знаёмства аўтара з Лалітай Вістарай і некаторымі іншымі кнігамі, але і супярэчыць ім шмат у чым і яшчэ больш дадае свайго.

---

[77] Мана Сута, стар. 14.

[78] Прыпавесьці Будда-Кгошы, стар. 51.

Ды і ці сапраўды “34 год пераможнага Хама” з’яўляецца 1608 годам нашай эры, як вызначаецца згодна з храналагічнымі табліцамі “Сумба Хутукты” ў яго гісторыі буддызму? Бо нават само месца, дзе пісалася гэтая кніга, знікла.

А як жа тады знайшлі гэты рукапіс? Цалкам так жа і тады ж, як і ўсе яму падобныя.

Вось апавяданне самага В. Васільева:

“Мы, можна сказаць, амаль нечакана ганараваліся рэдкім выпадкам пазнаёміць вучоны сьвет з Данаратай. У той час, калі мы яшчэ толькі пачыналі вывучаць усходнія мовы ў Казані, прыехаўшы туды ў 1835 годзе із Забайкалля Лама Мікітуеў, які першым паведаміў нашаму шматшаноўнаму настаўніку і вядомаму ва ўсім вучоным сьвеце прафесару В. М. Кавалеўскаму пра існаванне такой гісторыі і сам яе рукапіс неўзабаве быў знойдзены ў калмыцкіх стэпах.

Так як с. прафесар Кавалеўскі не быў моцным у тыбецкай мове, то Мікітуеў, з якім мы жылі для практыкавання ў мангольскай мове, на маіх вачах пераклаў усяго Даранату на мангольскую мову для шаноўнага прафесара”.

Вось, чытач, як хутка з'явіўся і пераклад з тыбецкай мовы на мангольскую, які без гэтага тлумачэння В. Васільева мог быць прызнаны здзейсненым у глыбокай старажытнасьці і падцвярджаючым праўдзівасць арыгінала.

“На мангольскай мове, – працягвае тыбеіст В. Васільеў, – амаль цалкам няма заслугоўваючых увагі памнікаў, таму грэшна было б вырываць із-пад рукі прафесара гэты матэрыял”.

“Але, – запытаем мы, – чаму ж “грэшна”? Калі мангольскі пераклад быў зроблены на вачах у Васільева набыўшым універсітэцкую адукацыю ламай Мікітуевым і таму меўшы не большую самастойную каштоўнасць, чым і зроблены з яго рускі або нямецкі пераклад? Бо гэта “на нашых вачах” як быццам (і нават не быццам, а прама) намёк на тое, што мангаліст В. Кавалеўскі меў немер схаваць нядаўнасць мангольскага перакладу і да падобнай жа высновы прыводзяць і апошнія радкі “было б грэшна вырваць із-пад рукі прафесара гэты (не маючы ніякага самастойнага значэння і зроблены на вачах В. Васільева!) матэрыял”. Але тут мы маем і яшчэ адну нагоду для здзіўлення. Чаму, калі “тыбецкі арыгінал” быў ужо ў руках, за ім праз 5 гадоў В. П. Васільеву давялося ехаць у Пекін? Ён цалкам не тлумачыць гэта, а проста паведамляе: “пасьля прыезду ў Пекін ў 1840 годзе, мы лёгка набылі тыбецкі асобнік Даранаты і паказалі яго айцу Авакуму, вывезшаму копію з яго для Азіяцскага дзепартаменту” (стар. XII прадмовы.).

Мы бачым, што з нейкай нагоды пазначаны нават і сведка айцец Авакум, і знаходка чамусьці выпраўлена не ў Казанскі ўніверсітэт, а ў міністэрства ўнутраных спраў у Пецярбург.

Але яшчэ больш нас уражвае зробленая да гэтага месца кароценькая заўвага В. П. Васільева. “Вось што азначае звяртаць ўвагу людзей на шукаемы вамі прадмет – як бы наіўна ўсклікае ён у заўвазе да стар. XII сваёй прадмовы – можна хадзіць побач з рэдкімі кнігамі і не ведаць пра іхную коштоўнасць. Г. Кавалеўскі таксама быў у Пекіне; яму, праз яго знаёмства з Ман Чжул Хутуктай, якога мы ўжо не засталі ў жывых, было лягчэй набыць разнастайныя гісторыі, калі б ён ведаў хаця б іхныя тыбецкія назвы”.

Але ці так, чытач, ці сапраўды гэтая заўвага толькі наіўная? Навошта раптам, не маючы ніякай нагоды рабіць вылазку супраць свайго прафесара, пра павагу да якога В. П. Васільеў толькі што паведаміў? Бо гэтая заўвага відавочна была непрыемнай для В. Кавалеўскага. І вось, падобна заолагу, які грунтуючыся на

адным зубе аднаўляе выгляд жывёлы, мы грунтуючыся на гэтым зубе Васільева супраць Кавалеўскага можам вызначыць і яго падставу. Відавочна праф. Кавалеўскі з самага пачатку не давяраў рукапісу, прадстаўленаму яму Мікітуевым, а таму не спяшаўся і друкаваць яго. Яшчэ менш давяраў ён і другому тыбецкаму асобніку, знойдзенаму Васільевым у 1840 годзе і паведаміў яму, што ён сам быў там у Ман Чжул Хутукты, у якога не было ніякіх рукапісаў. І вось, каб адразу папярэдзіць магчымасць з'яўлення ў друку яго пярэчанняў, В. Васільеў першым і напаў на яго. Інакш гэта была б нічым не патлучаная задзірка.

Мы выразна адчуваем тут таемную канкурэнцыю тыбеіста і манґаліста ў справе адкрыцця Даранаты. Тыбеіст пераконвае, што ўпершыню знойдзены манґалістам манґольскі манускрыпт зроблены “на яго вачах” ламой Мікітуевым, а манґаліст падвергае сумневу сапраўднасць вывезенага тыбеістам тыбецкага экземпляра і апошні, адчуваючы гэтае падазрэнне, загадзя прызывае сведкам сваёй праўдзівасьці пекінскую знаходку айца Авакума і посылае яе не ва ўніверсітэцкую або акадэмічную бібліятэк, а ў міністэрства ўнутраных спраў, як бы загадзя аддаючы сябе пад ахову ад сваіх калег.

Але ўсё ж ён не спяшаецца перакладаць і друкаваць сваю знаходку. “Толькі пад час апошняга году знаходжання ў Пекіне мы (г. азн. В. Васільеў усюды называючы сябе ў множным ліку) прыступілі да поўнага перакладу Даранаты, усё яшчэ не маючы намеру яго друкаваць (што, дададзім мы, цалкам не адпавядае рэчаіснасьці, калі сам В. Васільеў добра чытаў і па-тыбецку).

Так было, – сведчыць ён, – да 1866 года, калі ён звярнуўся да акадэміка Шыфнера з лістом, надрукаваным у С-Пецярбургскіх Ведамасьцях 26 траўня 1866 года (№ 141), вынікам якога была справаздача на паседжанні Акадэміі Навук[79].

У гэты час, – працягвае аўтар, стар. XIII, – ужо не было чаго спадзявацца на тое, што с. Кавалеўскі надрукуе свой пераклад з манґольскай (г. азн. быццам бы зроблены на вачах В. П. Васільева з тыбецкай мовы для самога ж Кавалеўскага ламай Мікітуевым, і таму могучы быць надрукаваным толькі для асмяяння тыбетыстаў). Гэты навуковец ужо амаль 15 гадоў таму пакінуў сваю катэдру[80].

Акадэмік Шыфнер перш за ўсё пачаў выдаваць тыбецкі тэкст грунтуючыся на некалькіх асобніках, якія былі ў В. Васільева, так што пераклад Даранаты мог быць выкананы толькі ў адным нашым Пецярбургу”, – (стар. XV) сведчыць сам Васільеў.

Такім чынам і тут мы назіраем характэрную асаблівасць усіх шырокіх азіяцкіх твораў. Хаця ў гэтым выпадку знойдзены тэкст выяўляецца не ў адным асобніку, а нават на двух мовах, але ўсе яны знойдзены амаль адначасова адным і тым жа гуртком асоб, а больш нікім, што зноў выклікае абгрунтаваныя падазрэнні.

Паглядзім зараз і на ацэнку гэтага адкрыцця самім В. Васільевым.

---

[79] Паседжанне 19 красавіка 1866 года (запіскі імп. Акадэміі Навук, т. X, кніжка 1, стар. 42.

[80] Адзначым, што Восіп Міхайлавіч Кавалеўскі (1800-1879) быў родам паляк. У 1827 годзе ён быў выпраўлены ў Іркуцк, дзе вывучыў манґольскую мову. У 1830 годзе быў выпраўлены ў Пекін, у 1833 годзе стаў першым прафесарам манґольскай мовы ў Казанскім універсітэце, у 1862 годзе перайшоў прафесарам у Варшаўскі ўніверсітэт. А сам Васіль Паўлавіч Васільеў, які знайшоў гэты рукапіс, нарадзіўся ў 1818 годзе і з 1840 па 1850 год працаваў у Пекіне, з 1851 па 1854 ён быў прафесарам кітайскай і тыбецкай славеснасьці ў Казанскім універсітэце, але хутка перайшоў у Пецярбургскі, з 1855 года прафесарам, затым стаў акадэмікам, і напісаў шмат сур'ёзных даследаванняў па кітайскай і тыбецкай пісьмовасьці. Западозрыць як аднаго так і другога із гэтых навукоўцаў у наўмыснай падробцы немагчыма, а ў захапленні, наіўнай даверлівасьці, нават зайздрасці, можна.

“Галоўная гістарычная годнасць твору Даранаты, – выказваецца В. Васільеў, – бязспрэчна заключаецца ў тым, што ён упершыню знаёміць навуковы сьвет з цалкам невядомымі да гэтага асобамі такой эпохі, якая можа быць безпамылкова названа гістарычнай. Працягласць часу, ахопліваемага гэтай эпохай да поўнага знікнення буддызму із унутранай Індыі, павінна налічваць звыш тысячы гадоў, і да гэтага часу мы не ведалі амаль ні слова пра гэты час, асабліва пра тое, што адбывалася пасьля падарожжа знакамітага кітайца Сюань-цзэна, які паведамляе толькі цьмяныя намёкі пра розныя асобы.

Іхнае параўнанне з гісторыяй Даранаты палегчыць вывучэнне гэтай эпохі. У Даранаты мы ўпершыню пасьлядоўна крок за крокам даведваемся пра тое, якія дзеячы выступалі ў буддызме, якія ў яго былі заступнікі і ворагі, якія накірункі набывала яго багаслоўская дзейнасць. Нам няма чаго падказваць навуковаму сьвету, што калі выстаўляемых нашым аўтарам чарадзеяў з усім смешным для нас легендарным атачэннем выкрыць, то яны таксама выявяцца працаўнікамі, пісьменнікамі, хаця пайшоўшымі па цалкам іншаму шляху, які яны расчысьцілі са сьцежкі, пракладзенай буддыстамі. Мы гаворым пра містыцызм, які выявіўся ў жахлівым памерам у так званым “пачатку назірання”.

“Весткі, павядомленыя Даранатай пра казачную эпоху, маюць за сабой усю бачнасць дакладнасьці. Яму ўжо вядомы навуковы прыём для вызначэння часу жыцця той ці іншай асобы, – із яго прац і са спасылак на яго іншых. Верагодна ў гэтым выпадку тыя гісторыкі, якімі ён карыстаўся, са свайго боку мелі пад рукамі асобныя біяграфіі. Гісторыя Даранаты станавіцца яшчэ каштоўней таму, што падае надзею на адкрыццё гісторый яшчэ больш аутэнтычных. Ужо із Сюаньцзэна мы ведаем, што Індыі не былі чужымі ні гісторыя, ні апісанні даўніны; Даранатa зараз дакладна паведамляе нам пра тры невядомыя да гэтага часу гістарычныя творы, складзеныя ў самой Індыі, знаходжанне якіх не падлягае сумневу[81], таму што, калі аўтар меў іх пад рукой на пачатку XVII стагоддзя, то яны не маглі знікнуць з таго часу і адшукаюцца не толькі ў Тыбеце, але і ў Няпале. Шкада, што да гэтага часу нашы навукоўцы не ведалі, што шукаць.

Ці збылося гэтае прадказанне? Як быццам і яго спасьціг той жа лёс, які не пашкадаваў і біблейскіх прарокаў.

Вядома, В. Васільеў магчыма і шчыра верыў у сапраўднасць  друкуемай ім гісторыі буддызму, г. азн. што яна напісана Даранатай – буддыстам XVII стагоддзя ў Тыбеце, а не аб’еўрапеіўшымся ламай Мікітуевым, назбіраўшым каля сярэдзіны XIX стагоддзя вялікую колькасць сваіх народных паданняў і перечытаўшым усе сабраныя да яго еўрапейцамі кнігі на тэму буддызма. Бо я і сам не аспрэчваю этнаграфічную каштоўнасцьгэтай кнігі, хаця і адмаўляю ёй у гістарычным значэнні. У Васільева ўтрымліваецца шмат і правільных меркаванняў.

Мы зусім не хочам сказаць, – кажа ён, напрыклад, – што легенды, перадаваемыя Даранатай, дайшлі да нас без якіх бы то ні было дапаўненняў; насупраць, на іх патрэбна глядзець скрозь некалькі акуляраў. Не будзем забывацца, што наша гісторыя напісана ў Тыбеце, які пераняў да сябе буддызм у самым крайнім яго варыянце – у містыцызме. У ёй праглядаецца імкненне ўсё перанесьці ў старажытнасць, г. азн. перанесьці факты із блізкага на больш аддалены час. В. Васільеў правільна адзначае, што гісторыя буддызму часта заходзіць у не належачую яму старажытнасць, дзякуючы схільнасьці аўтараў ставіць апавяданні,

[81] Г. азн. твораў Кшэмендрабады, Індрадаты і Батагаты, пра якія будзе на прыканцы гэтага агляду.

не памяшчаючыся ва ўжо занятай апавяданнем сярэдзіне гістарычнага часу, у вольныя дагістарычныя часы.

І маё адрозненне ад В. Васільева заключаецца толькі ў тым, што я іду далей у рэчышчы гэтай высновы і схільны думаць, што і прадказанні сучаснага фальклору, г. азн. народных паданняў і былін, узнікаючых у наш час, пераносяцца ў дагістарычныя часы толькі таму, што іхны змест не адпавядае рэальнаму жыццю дастаткова добра вядомаму нам для нядаўніх стагоддзяў. Так і гэтая Дараната, хаця б яна нават і была напісана па-мангольску Мікітуевым для свайго прафесара манголіста Кавалеўскага, а яе ўяўляемы тыбецкі арыгінал быў насамрэч перакладам мікітуевага рукапісу, каб задаволіць заахвочаныя пошукі В. Васільева, не дапускаўшага думкі, каб такая кніга магла існаваць на мангольскай мове – ўсё адно!

Яна не выйшла із галавы свайго аўтара, як багіня Афіна із галавы Зеўса ў поўным узбраенні. Яе храналогія, несумненна, фікцыя, і ўся канва, на якой вышыты разнастайныя паданні – таксама фікцыя, але самі паданні, узятыя паасобку, не прыдумкі самога аўтара, а буддыйскі фальклор, і ён можа даць каштоўны матэрыял нават і для гісторыка, а таму я дам тут іхную характарыстыку.

Вось пачатак кнігі.

“Ом, блага тварям! Тлумачэнне распаўсюджвання ў Індыі благадатнага, богам упрыгожанага, дабра крыніцы, вярхоўнай каштоўнай веры, названай скарб пахаваных жаданняў.

Пакланяюся Будде з яго вучнямі і пасьлядоўнікамі.
Пакланяюся валадару магутнасьці, валадару воблакаў,
Выліваючаму благадатны дождж нектару лёсаў,
Прыйшоўшаму із нетраў быцця нябесным шляхам,
Упрыгожанаму вясёлкай прыкмет і адзнак,
Тут і самыя дасведчаныя ў летапісах і гісторыях,
Калі звернуцца да пагаднення індыйскіх паданняў,
Сустракаюць неўдачы ўсіх намаганняў,
Падобна бедняку перад размешчанымі таварамі.
Таму бачачы дастаткова шмат значных памылак
У навучанні гісторыі веры некаторымі мудрацамі,
Я тут напісаў коратка для карысьці іншых
Пагадненне паданняў, развейваючае памылковыя мяркаванні”.

Затым дадзены, як і ў кнізе Быцця, або хутчэй у “Параліпаменоне” спіс усіх нібыта цараваўшых цароў, брамінаў і патрыярхаў, а затым прыводзяцца на гэтай сухой канве апавяданні пра іх, відавочна запазычаныя із мясцовага фольклора, напрыклад, у главе пра падзеі пад час цара Аджаташатру (Ардаміра?).

Калі прайшло каля 15 гадоў, як Арыя Ананду (шануемы вучань Будды) кіраваў навучаннем, прыйшоў у Магаду брамін, вельмі спрытны ў магічных заклінаннях і пачаў спаборнічаць з усімі ў магічнай магутнасьці. Ён у прысутнасьці цара і ўсіх сабраўшыхся грамадзян зрабіў з дапамогай магіі чатыры гары: залатую, срэбную, хрусталёвую і лазурыкавую, і ў кожнай гары было па чатыры сады із каштоўнасьцей, у кожным садзе па чатыры сажалкі, пакрытых ненюфарамі і напоўненых рознымі птушкамі. Арыя Ананда (у адказ яму) стварыў мноства лютых сланоў, якія пажралі ўсе ненюфары і перамяшалі ваду ў сажалках; потым Ананда наслаў моцны вецер, які паламаў усе дрэвы, а насланы ім дыяментавы дождж цалкам зьнішчыў усе агароджы і горы. Пасьля таго Арыя Ананда зьявіўся ў 500 разнастайных формах цела: адны із іх выпраменьвалі сьвятло, із іншых ішоў дождж, адны з'яўляліся ў чатырох разнастайных выглядах у паветры, у іншых із верхняй часткі выходзіла полымя, а із ніжняй цякла ключом вада; явіўшы такія пераўтварэнні, ён сабраў іх пазней у сваім целе. Калі здзіўлены брамін і іншыя

сабраўшыяся выказалі з гэтай нагоды вялікую ўхвалу, Ананда шмат павучаў і на працягу сямі дзён прывёў да ісьціны і мага і браміна і іншых 500 брамінаў і звыш таго 80000 жыхароў.

Пасьля Аджашатару цараваў яго сын Субаху (Хорашэрукій), які на працягу 10 гадоў свайго каравання выказваў павагу рэлігіі.

Яшчэ пры жыцці яго бацькі былі два чалавекі із касты брамінаў, не ведаўшыя веры, лютыя і жорсткія, еўшыя розную нечысць, забіваўшыя разнастайных жывёл. Ім абодвум за крадзяжы царом былі адсечаны рукі і яны, раззлаваныя гэтым, выказалі жаданне зрабіцца (пры наступным перараджэнні) якшамі, каб адпомсціць цару і ўсім магадыйцам. Пасьля таго яны абодва памёрлі адзін за другім і нарадзіліся якшамі, і на сёмым ці восьмым годзе царавання цара Субаху наслалі на яго царства моцную эпідэмію; ад гэтага памёрла шмат людзей і быдла, але хвароба не спынялася. Калі варажбіты пабачылі нагоду, тады ўсе магадыйцы запрасілі арыю Шанавасу і малілі яго ўтаймаваць гэтых двух якш. Ён прыйшоў на абітаемую гару і сеў у іхнай пячоры; але якшы ў гэты час сышлі да іншых, і, папярэджаныя таварышамі, вельмі раззлаваліся і завалілі пячору скаламі, але тады раптам з'явілася іншая пячора, у якой сядзеў Шанаваса, і гэта паўтаралася тры разы. Тады два якшы пусьцілі полымя, але архан выпусьціў полымя значна мацнейшае, якое распаўсюдзілася ва ўсе дзесяць краін; перапалоханыя якшы збеглі, але так як паўсюль было полымя, то, не змогшы знайсьці прытулак; яны звярнуліся да Шанавасы з прашэннем пра літасць і полымя згасла. Пасьля таго ён паведаміў ім вучэнне і калі яны цалкам выправіліся, размясьціў іх у недры вучэння і эпідэмія адразу спынілася, і гэты цуд бачылі сотні тысяч брамінаў і грамадзян.

Пасьля сьмерці гэтага цара цараваў яго сын Судану (г. азн. добры лук) у той самы час, як Мадз'янцыка перанёсся звышнатуральнай магутнасьцю ў Кашмір і сеў на беразе возера, населенага драконамі. Яны вырабілі моцную буру, але не маглі зварухнуць нават край яго адзення, наслалі дождж стрэл, але тыя ператварыліся ў кветкі; тады дракон, з'явіўся асабіста запытаць арыю, што яму заўгодна? Дай зямлі столькі, колькі можна заняць седзячы з крыжападобна складзенымі нагамі. Дракон пагадзіўся, а Мадз'янтыка адным прысестам заняў пад сабой зямлю дзевяці кашмірскіх абласьцей. Мадз'янтыка, прызваўшы з гары Ўшыра 500 паўдзённікаў і з Бенараса некалькі соцень тысяч брамінаў і грамадзян, пасяліўся разам з імі ў Кашміры і яшчэ пры сваім жыцці ўпрыгожыў царства дзевяццю вялікімі гарадамі, мноствам горных паселішчаў, царскім палацам і 12 храмамі са шматлікім сьвятарствам. Затым, узяўшы з сабой усіх жыхароў Кашміра, перанёсся з імі магічнай магутнасьцю на гару Гандамана і, вырабленым цудоўнай магутнасьцю полымем, утаймаваў драконаў; яны абяцалі даць яму шафрану, столькі, колькі пакрые цень ад сьвятарскага адзення. А архан ператварыў сваё духоўнае адзенне ў вельмі вялікае, і яго народ узяў шафран, на які ўпала цень і ў адно імгненне яны зноў вярнуліся ў Кашмір. Так Мадз'янтыка распаўсюдзіў перапрацоўку шафрана па ўсяму Кашміру, кажучы, што гэта ўтварае яго выключнае багацце, і, прывёўшы ўсіх жывучых у гэтай вобласьці да буддыйскай веры, памёр. Паведамляюць, што ён навучаў у Кашміры каля дваццаці гадоў.

Я зараз пераскокваю праз некалькі караванняў (з такімі ж казкамі) да патрыярхата арыя Нагаджуны пад час царавання цара Ўданы, каб паказаць чытачу, што і далей змест гэтай кнігі носіць той жа фальклорны характар, а тут толькі зноў адзначу, што назва патрыярхаў арыямі відавочна сведчыць пра арыянскае паходжанне гэтага культа.

Так як арый Нагарджуна, – паведамляе аўтар, – меў жыццёвы эліксір, колер яго скуры зрабіўся падобным на колер каштоўнасьці; а займаючыся сузіраннем на гары Шрыпарвата, ён дасягнуў першай нябеснай вобласьці (першага неба еўрапейскіх сярэднявечных тэолагаў) і яго цела ўпрыгожылася 32 адзнакамі.

Малодшая жонка тагачаснага цара трохі ведала санскрыцкую граматыку, а цар Удана не ведаў. Аднойчы, калі яна бавіла час у вадзе саду для забаў, ён плёснуў на яе вадой і яна вымавіла: мамадака сінча (гэта азначае, не плёскай на мяне вадой), а цар

зразумеў гэта на гаворцы паўднёвых краін: дай піражок, звараны ў кунжутным масле, – і падаў яго ёй. Тады яна падумала, што лепш памерці, чым жыць з такім царом, падобным на быка, і вырашыла ўдавіцца, але была ўтрымана царом, які абяцаў вывучыць санскрыцкую мову і дбайна ўзяўся за навучанне пад кіраўніцтвам брамінa Вараручы. А брамін Вараручы, не знаходзячы ніякага настаўніка, які б мог цалкам ведаць папіньеву граматыку і даведаўшыся, што толькі дракон Нагараджа Шэша ведае яе цалкам, вызваў яго магутнасьцю заклінання. Дракон пачаў выкладаць шматслоўнае тлумачэнне на папіні, якое змяшчала да ста тысяч шлок, а Вараручы запісваў із яго слоў. Іх абодвух падзяляла занавеска. І вось, калі было напісана 25000 шлок, то настаўнік, жадаючы паглядзець, якім з’яўляецца цела дракона, адтуліў занавеску і пабачыў выгінаючагася вялікага дракона, які збег ад сораму. Пасьля таго ён пачаў пісаць тлумачэнні і закончыў іх, напісаўшы не больш за 12 000 шлок. Гэтыя два творы разам набылі вядомасць пад найменнем граматыкі, выкладзенай драконам. Тут шмат гаворыцца не толькі пра ўіалогію, але і пра іншыя навукі.

А гісторыя Калідасы наступная. У той час брамін Вараручы карыстаўся ўшанаваннямі варанасінскага цара Бімакшулы, гэты цар меў намер адружыць з ім сваю дачку Васанці, але яна, праз ганарыстасць лічачы сябе разумнейшай чым Вараручы, адказала, што не будзе яго служанкай. Тады Вараручы, маючы намер падмануць яе, каб адпомсціць, паведаміў царю: “У мяне ёсць мудры настаўнік, які разумнейшы за мяне ў сто разоў, пакліч яго і адружы з ім Васанці. Атрымаўшы згоду на гэта, Вараручы сустрэў магадыйскага пастуха Калідаса, прыгожай знешносьці, які, залезшы на дрэва, сек пад сабой галіну і зрабіўшы із гэтага выснову пра яго бязмежнае глупства, паклікаў яго да сябе і пасьля некалькіх дзён стараннага абмывання і націрання мазямі, апрануўшы яго ў адзенне брамінскага пандыта і навучыўшы яго вымаўляць словы“ом свасьці”, загадаў яму, калі ён з’явіцца перад царом, аточаным сьвітай, кінуўшы ў яго кветку, вымавіць гэтае слова, а акрамя таго не адказваць ні на адно пытанне. Калі пастух, выконваючы гэта, вымавіў замест “ом сваці” “ўшатара”, Васанці пачала распытваць пра сэнс яго слоў, але пастух нічога не адказваў, а брамін Вараручы прамовіў: ”ці будзе такі мудры настаўнік адказваць на пытанні жанчыны?” Яна адружылася з ім, а Вараручы збег пасьля вяселля на поўдзень. Пасьля таго Калідасу пачалі вадзіць па ўсіх храмах, але ён нічога не выказваў; нарэшце, калі на знешняй сьцяне аднаго храма, на якой былі намаляваны фігуры разных жывёл, ён, заўважыўшы выяву быка, узрадаваўся і набыў выгляд пасучага статак. Тады Васанці ўсклікнула: “На жаль гэта пастух!” і зразумела, што была падманутай. Але, сказала яна, калі ён разумны, то я навучу яго санскрыцкай мове; аднак выявілася, што ён вельмі неразумны. Раззлаваная Васанці кожны дзень выпраўляла свайго чалавека збіраць кветкі. У адным месцы Магады быў кумір багіні Калі, зроблены нябесным архітэктарам. Калідаса кожны дзень ахвяраваў яму шмат кветак і з пабожнасьцю ўшаноўваў малітвамі. Аднойчы, калі для ахвяравання Калі Калідаса выправіўся з самага ранку збіраць кветкі, служанка Васанці дзеля жарту схавалася ззаду куміра багіні Калі, жуючы аладкі. У той час, калі пастух як заўсёды маліўся, яна сунула яму ў руку кавалак аладкі і ён праглынуў яго, думаючы, што гэта падарунак самой багіні. Але ў тую ж хвіліну ён набыў сьветлы розум і зрабіўся вялікім знаўцам дыялектыкі, граматыкі і паэзіі. Трымаючы ў правай руцэ кветку ненюфара, а ў левай кветку ўтпалу, ён сказаў ёй вершамі:

“У маёй правай руцэ кветка ненюфар,
А ў левай руцэ кветка ўтпала;
Адна з далікатным, другая з жорсткім сьцяблом,
Выбірай якую пажадаеш.

Жонка, зразумеўшы, што ён зрабіўся мудрым, пачала весьмі шанаваць яго. А так як ён зрабіўся такім дзякуючы надзвычайнаму шанаванню багіні Калі, то яго празвалі Калідаса, г. азн. рабом Калі. Хутка ён стаў першай велічынёй паміж усімі паэтамі. Ён стварыў вяшчуна аблокаў і шмат якія іншыя паэтычныя шастры. Калідас належаў да неправаслаўных.

Такой з’яўляецца гісторыя буддызму ў выкладанні сярэднеазіяцкага гісторыка Даранаты на пачатку яе сярэдняй часткі. Зараз разгорнем гэтую кнігу наўздагад і на прыканцы сярэдняй часткі. Трапляем на 23 главу “Пра здарэнні падчас настаўніка Дыгнага”, дзе чытаем:

“Цару Шубасаран здалося ў сне, што калі ён запрасіць у сваё царства Арыя Авалакітэшвара, то ў Джамбудзвіпе спыніцца голад і эпідэмія і прыйдзе росквіт, і каб дзеля гэтага ён выправіў Упасака, які жыў у лесе. Цар пазваў Упасака і даў яму жамчужныя каралі і запрашальны ліст да Авалакітэшвара, ды на дарогу грошай. Упасака падумаў: шлях далёкі і цяжкі і можа з’явіцца небяспека для жыцця; але так як мяне выпраўляюць у жыллё бога, то нельга не паслухацца. І так, узяўшы пуцёўнік на Патала, ён выправіўся ў шлях і нарэшце прыбыў да манументу цудоўнага саспявання пладоў. Адсюль шлях на Патала ішоў некаторы час пад зямлёй і зноў выходзіў на паверхню; але кажуць, што зараз гэтае месца заліта морам і шлях для людзей перакрыты. Але ў той час шлях яшчэ існаваў і па яму-та Ўпасака выправіўся. Тут яму шлях перагарадзіла вялікая рака, але ён, як гаварылася ў дарожніку, памаліўся Тары і з’явілася адна старая, якая і перавезла яго на лодцы. І зноў шлях быў перагароджаны возерам, але пасьля малітвы Байкуце, адна дзяўчына перавезла яго на плыце; далей ён сустрэўся з палаючым лесам, але пасьля малітвы Хаягрыве, пайшоў дождж і полымя патухла, а гром паказаў шлях. Яшчэ шях перагарадзіла бездань, прасьціраючаяся ў глыбіню на некалькі міль, але пасьля малітвы Зкаджаці, вялізны змей наладзіў із сябе мост, па якому Упасака перайшоў. Затым шлях перагарадзіла мноства малпаў, ростам са слана, але пасьля малітвы Амагапашу, гэтыя вялізныя малпы ачысьцілі дарогу і забяспечылі добрай ежай. Калі патым ён прыбыў да падэшвы гары Патала, то шлях быў перагароджаны скалой, але пасьля малітвы Арыю Авалакітэшвары, спусьцілася вяровачная лесвіца, па якой ён узлез на скалу; тут усё было пакрыта імглой, праз што ён не мог знайсьці дарогу, але пасьля працяглай малітвы, туман развеяўся і пайшоўшы ў гару, ён сустрэў на трэццяй частцы гары кумір Тара, а на сярэдзіне кумір Брыкуці; калі ён дасягнуў вяршыні гары, то знайшоў пусты палац, у якім нікога не было, акрамя кветак то там то тут. Тут ён пражыў у адным месцы ў малітве цэлы месяц; аднойчы з’явілася нейкая жанчына, якая паведаміла яму: “прыйшоў Арыя, ідзі сюды за мной” і павяла праз тысячу разчыняўшыхся адна за другой брам палаца і кожны раз, як толькі адчынялася адна брама, у ёй нараджалася па адной Самадзі. З’явіўшыся перад тварам пяці сьвятых багоў, ён кінуў ім кветкі і падаў ліст цара і падарунак, молячы прыбыць на Джамбудвіпу, на што была дадзена згода; пасьля чаго было дадзена на дарогу шмат пана і загадана: сілкуючыся гэтым ты можаш вярнуцца на радзіму, а калі закончацца паны (залатыя грошы), там і з'явімся. Яму паказалі дарогу і куміры, якія стаялі на сярэдзіне трэцціны горада, з'явіліся яму ва ўласным целе жывых багінь. На зваротным шляху, калі ён прайшоў чатырнаццаць дзён із ліку пятнаццаці, за якія ён мог прыбыць на месца свайго жыхарства, пабачыўшы з далёку горы Пундавардана, ён прыйшоў у стан надзвычайнага захаплення і на астатнія грошы купіў лепшыя стравы і лепшае піtво, так што, яшчэ не прыбыўшы да царскага горада, але знаходзячыся непадалёку ад таго месца, у якім ён ладзіў здзяйсненне, ён выдаткаваў усе грошы. Седзячы на тым месцы, ён падумаў на прыканцы дня, ці прыйдзе Арыя, але ён не прыходзіў; а апоўначы яго зваліў сон, ад якога яго абудзілі гукі музыкі і ён пабачыў, што ў небе багі прыносяць ахвяру; на яго пытанне, каго яны ўшаноўваюць, яму адказалі: неразумнае дзіця Джамбудвіпа! На дрэва, якае за тваёй сьпіной, прыбыў са світай Арыя. Прыгледзеўшыся, ён пабачыў, седзячых на верхавіне дрэва пецярых багоў, і, здзейсніўшы ўшанаванне і малітву, запрасіў іх прыйсьці ў царства цара, але яны адказалі: гэта здарылася б, калі б не былі выдаткаваны грошы, але зараз мы застанемся толькі тут. Тады ён паведаміў пра гэта цару і кажуць, што той, незадаволены гэтым, не даў Упасаку ніякай узнагароды. Пасьля гэтага ён пабудаваў там у лесе храм, які стаў вядомы пад найменнем вісары Касарпана. Слова Касарпана азначае “ходзячы па небу”, таму што Авалакітэшвара прыбыў сюды па паветру, ці ж гэта азначае “выдаткаванне грошай”, таму што грошы былі выдаткаваны. Але значна лепш

перакладаць “хадзячы па небу”, таму што слова “караса” азначае плата за ежу, а пана з’яўляецца срэбнай або залатой манетай, вядомай зараз пад найменнем “тангка” (дзеньга) і як следства ўсё слова Касарапана мае значэнне манеты, заплочанай за ежу.

Скажы сам, чытач, што тут цябе больш за ўсё ўражвае: цудоўнасць апавядання ці тое, што аўтару гэтай кнігі ўжо вядома манета, называемая манголамі і тыбетцамі па-руску “дзеньга”? Таму што слова тангка з’яўляецца толькі мангольскім вымаўленнем рускага словы “дзеньгі”, як гэта тлумачыць і сам В. Васільеў (стар. 149, радок 26), ды і ў тэксце сказана, што першапачатковая манета пана набыла пры ім назву тангка? Ці не падцверджвае гэта маё меркаванне, што кніга Даранаты сабрана із былін XIX стагоддзя, адмыслова для прафесароў Кавалеўскага і В. П. Васільева, іхнымі руплівымі вучнямі?

Але я зноў паўтараю, што ў падобных складаннях, як і наогул у зборніках сучасных нам народных паданняў, можна знайсьці каштоўны матэрыял і для гісторыі, асабліва пры філалагічным даследаванні. Вось мы толькі што сустрэлі тут рускае слова “дзеньгі”, і прытым таксама ў якасьці назвы манеты. Але не менш цікава і тое, што буддыйскія сьвятары тут маюць назву арыянаў. Гэтае найменне мы сустракаем у Даранаты больш чым 70 разоў у назвах арыя-Бадзісатва, арыя-Вімуктасена, арыя-Дзева, арыя-Дэша, – усюды ў сэнсе сьвятога, і акрамя таго шмат разоў і проста арыя ў сэнсе сьвятога.

Адсюль зразумела, што і ўвесь буддызм гэтай мясцовасьці з’яўляецца толькі развіццём прынесенага сюды арыянства, прычым і сама назва арыйцы першапачаткова азначала арыяне.

Я не буду тут даследаваць паходжанне іншых уласных імёнаў, пакідаючы гэта спецыялістам, а толькі, каб скончыць характарыстыку ўсёй кнігі, разгарну яшчэ хаця б адну старонку на прыканцы. Трапляю на 33 главу, пра падзеі пад час цара Чанака (стар. 227).

“Настаўнік Вагішваракірці (г. азн. Знакаміты Валадар Слова) нарадзіўся ў царстве Варанасі і паходзіў із кшатрыяў. Стаўшы пандытам, цудоўна ведаўшым логіку, філалогію і шматлікія творы, ён кінуў у раку Ганг чырвоную кветку дрэва каравіра, якая перад наступленнем поспеху выдавала гук і сьвятло, і яна у адно імгненне была аднесенна плынню ракі на некалькі міль і зноў вярнулася ўверх па плыні. З'еўшы яе разам з вадой, ён набыў такія разумовыя здольнасьці, што мог кожны дзень цалкам вывучваць тэкст і сэнс твору памерам у тысячу шлок. Праз гэта ён і быў названы “знакаміты валадар слова”. Набыўшы дакладныя веды ў Сутрах, Тантрах і ва ўсіх навуках, ён не сустрэў ніякіх цяжкасьцей ў навучанні, спаборніцтве і складанні кніг; і не сустрэў ні ў чым непаразуменняў, таму што ўвесь час бачыў твар арыя Тару. Пра яго распаўсюдзілася вялікая слава і цар прызначыў стражам заходняй брамы каля Наланда. Падрыхтаваўшы вялікую колькасць жыццёвага эліксіру, ён раздаў яго іншым і тады старыя, якім было ўжо 150 гадоў і ім падобныя пачалі маладзець. Гэтым і падобным ён зрабіў карысць 500 духоўным і цывільным набожным. Яму варта было толькі звярнуць ўвагу на ваду, як яна закіпала; калі ён накіроўваў свой розум на кумір, той паднімаўся або пачынаў рухацца. Такіх і іншых цудоўных здзяйсненняў ад яго было шмат. Аднойчы ён разважаў пра веру з бікшу Авадуці, які прывёў пры гэтым тэкст із твораў Васубанду, а ён жартуючы выказаў некалькі з’едлівых заўваг на конт твораў Васубанду. Тым жа вечарам у яго распух язык, так што ён не змог навучаць. Прабыўшы такім чынам нездаровым некалькі месяцаў, ён запытаў тлумачэнне ў Тары і тая адказала, што гэта за тое, што ён пасмяяўся над Васубанду, і каб ён стварыў ухвальны гімн гэтаму настаўніку. Сапраўды, як толькі ён склаў оду, яго хвароба прайшла. Працуючы такім чынам на працягу шматлікіх гадоў на карысць сутнасьці, ён пад канец жыцця прыйшоў у Няпал, дзе асабліва захапіўся чародзейскімі заняткамі і толькі невялікі час выдаткаваў на навучанне вучэнню

сакрамэнтальнай Яны, а больш нічому іншаму не навучаў. Так як пры ім знаходзілася шмат жонак, то большая частка людзей лічыла, што ён прыйшоў сюды не будучы ў стане выконваць патрабаванні маральнасьці. Аднойчы цар, пабудаваўшы храм, пажадаў пры яго асьвячэнні сабраць вялікі сход і, сабраўшы па-за храмам шмат вырабляўшых чарадзействы людзей, выправіў да настаўніка пасланніка з прапановай быць старшынёй сходу. Але пасланнік сустрэў на парозе яго жылля прыбраную жанчыну і раз'юшаную чорную дзяўчыну, якія паведамілі, што настаўнік дома. Зайшоўшы туды, ён запрасіў яго быць старшынёй сабранага царом сходу, а настаўнік адказаў: "ты ступай хутчэй, а я зараз прыйду", хаця той і хутка ехаў, але на адным скрыжаванні сустрэўся з настаўнікам, які апярэдзіў яго і якога праводзілі дзьве жанчыны, а настаўнік сказаў яму: "я доўга чакаў цябе, пакуль ты прыйдзеш". Пасьля паспяховага заканчэння шырокага кола сходу, пры самым асьвячэнні, настаўнік выдаліўся ў сярэдзіну храма з двума жонкамі, узяўшы з сабой прыпасаў больш чым для 60 чалавек. Цар падумаў: у храме не больш чым тры чалавекі, навошта ж спатрэбілася столькі прыпасаў і, паглядзеўшы скрозь дзвярную абтуліну, пабачыў, што 62 багі сядзяць асабіста ў коле і цешацца прыпасамі. А сам настаўнік ператварыўся ў вясёлкавае цела і сеў із імі. Кажуць, што ён і зараз тут сядзіць.

Гэтым сядзеннем, чытач, я мог бы і закончыць характарыстыку "Гісторыі буддызму ў Індыі", складзеную тыбетцам Даранатай. Але не магу не спыніцца на яго пасьляслоўі, дзе ён сам дае характарыстыку свайму зборніку.

"Некаторыя тыбетцы, якія маюць славу вялікіх мудрацоў, лічаць следам за сям'ю пераемнікамі Будды, з'яўленне іншых; яны лічаць, што ледзь ці не адразу ж пасьля сьмерці Ашокі зацаравала дынастыя цароў Чандра. Яны запэўніваюць, што пры сямі царах із роду Чандра і сямі царах із роду Пала з'явіліся ўсе без выключэння буддыйскія настаўнікі, пачынаючы ад Сараха да Абалкара і на працягу гэтага часу, дастаткова кароткага, размяшчаюць без храналагічнага ўпарадкавання настаўнікаў, якім для пазбягання непаразуменняў, надаецца дастаткова працяглае жыццё. Усе гэтыя лёгкадумныя памылкі, у якіх выяўляюцца доўгія прамежкі, знікнуць, як толькі ты добра вывучыш гэты гістарычны твор. Што ж да таго, на чым заснавана маё апавяданне, то, хаця у Тыбеце і складзена шмат урыўкавых гісторый веры і апавяданняў, але я, не заўважаючы ў іх суцэльнай сістэмы, не знайшоў у іх нічога, акрамя трохі заслугоўваючай увагі верагоднасьці. Сустрэўшы твор магадыйскага пандыты Кгемандрабандра, складаючыся із 2000 шлок, у якіх выкладаецца гісторыя да цара Рамапалы, я ўзяў яго за падмурак, дапоўніўшы пачутым ад некаторых маіх пандыт-настаўнікаў; да гэтага я зрабіў дадатак із двух твораў: із Буддашураны велічынёй 1200 шлок, складзенай Індрадатай, у якой дастаткова паведамляцца пра падзеі да 4 цароў Сена, і із існуючых старажытных апавяданняў пра пераемнасць настаўнікаў, складзеных брамінам пандытай Батагаці.

Пра маючую адбыцца знаходку гэтых твораў і прадказваў у сваёй прадмове В. П. Васільеў, але – на жаль! – наколькі мне вядома, яны і да гэтага часу не знойдзены, хаця іх шукаюць паўсюдна ўжо больш за 60 гадоў пасьля выдання гэтай кнігі ў 1866 годзе.

Што да прызначэня ўпарадкавання часоў, то, не звяртаючы ўвагі на дробязі, усе гэтыя тры творы ў асноўным пагадняюцца. Кароткія ж апавяданні пра пазнейшыя здарэнні, хаця і не сустракаюцца ў ранейшых апісаннях, але дайшлі да мяне і заслугоўваюць верагоднасьці. Звыш таго я змясьціў у гэта тое, што сустрэў у паданнях Пушпамалы.

"Ітак, каштоўнасьцямі дзівосных апавяданняў
Нанізаных на нітку добра разумеевых слоў,
Я стварыў прыстойныя каралі
Для ўпрыгожвання шыі людзей, надзеленых сьветлым розумам.
Патрэба гэтага заключалася ў тым, каб даць разуменне
Пра грунтоўныя і негрунтоўныя творы,
І каб павялічыць шанаванне ўзнёслых істот,

Якія выказалі паслугі пераможнаму вучэнню.
Яшчэ мае быць патрэбнасць даказаць дакладнасць тых
Добрых учынкаў і ўплываў, якія тварылі
Майстэрскія прыхільнікі чарадзействаў,
Распаўсюдзіўшыя глыбокую павагу да вярхоўнага вучэння.
Мэтай выкладання было,
Каб іншыя, ушанаваўшы гэтых асоб і іхныя шляхі,
Захапляючыся тым ці іншым вучэннем,
Зрабіліся найвышэйшымі Буддамі.
Ды, дзякуючы гэтай маёй добрай справе, усе адушаўлёныя істоты,
Ступіўшы на шлях добрай маральнасьці
І зрабіўшыся самімі непараўнальнымі Буддамі.
Ды ўпрыгожацца ўсе маімі годнасьцямі!”

Але... чытач ўжо бачыў, наколькі адпавядае фантастычны змест гэтай кнігі такой высновы пра яе яе аўтара. Гэта не гісторыя, а зборнік народных паданняў, сабраных рознымі асобамі і скампанаваны пазнейшым збіральнікам не на грунце нейкіх як быццам бы існаваўшых у яго, а пазней знікшых з зямной паверхні першакрыніц, а ім самім згодна з уласным жаданнем. Падобную ж каштоўнасць маюць і ўсе нашы астатнія першакрыніцы пра ранейшую гісторыю азіяцкіх дзяржаў.

Ніякай дзяржаўнай гісторыі да прыходу еўрапейцаў у іх не існавала.

# Глава VI

## Індуская тэасофія. Брамаізм і буддызм у параўнанні з хрысьціянвам.

У шостым томе гэтага майго даследавання я паказаў, што сучасныя магаметане ўпершыню даведаліся пра біяграфію свайго прарока Магамета із Лондана, ад нашчадкаў містэра Пакокка, якія ўпершыню знайшлі Ібн-Гішомаву біяграфію прарока ў пакітунатай ім бібліятэцы, і больш нідзе ніхто не знайшоў яе другога экзэмпляра. А вось зараз мне зноў даводзіцца гаварыць, што і сучаснае індускае вучэнне пазнаёмілася з падмуркамі сваёй уласнай філасофіі таксама ад прыехаўшых да іх ангельскіх прафесароў.

Аднак у дадзеным выпадку я буду карыстацца перш за ўсё кнігай нямецкага санскрытолага праф. Германа Альдэнберга.

Гісторыя буддыйскай рэлігіі, – кажа ён, – пачынаецца міфам пра суполку жабруючых манахаў. Гэта былі вандруючы настаўнік і яго вучні, некалькі падобныя на тых людзей, якія пранеслі па Галілеі добрую вестку, што блізка царства нябеснае.

Арыйскае насельніцства Індыі, як вядома, прыйшло на паўвыспу з паўночнага-захаду.

Хвалі вялікага перасялення прывялі натоўпы арыйцаў, вялікую колькасць хаўрусных плямёнаў, якія, духоўна больш развітыя, чым іхныя індускія браты, стварылі найстаражытнейшыя цудоўныя помнікі індускага духу, вядомыя пад назвай Веды. Гэтыя плямёны пад час эпохі, адлюстраванай у гімнах Рыгведы, мы сустракаем пры ўваходзе на індыйскую паўвыспу: на Індзе і ў краіне пяці рэк, пазней яны пранікл далей на паўднёвы ўсход і заснавалі ў мясцовасьцях верхняй

плыні Ганга і на Ямуні дзяржавы, якія ў законадаўчым зборніку Ману названы краінай брамы Мудрага, месцам і ўзорам праведнага жыцця[82].

У ведыйскім творы “Брамана ста шляхоў” захавалась легенда, у якой відавочна адлюстраваўся напрамак распаўсюджвання ведыйскага культу і культуры. Пламянеючы бог Агні[83] Вайсварана, падарожнічае ад ракі Сараваці, ад старажытнай айчыны ведыйскага культу, на ўсход. На яго шляху сустракаюцца рэкі, але Агні пералятае ўсе іх і за ім ідуць князь Матгава і Брамін Гатама. Так яны дайшлі да невядомай дагэтуль ракі Саданіра, выток якой знаходзіцца ў снежных гарах поўначы: праз яе Агні не перебраўся, “яе не перайшлі” браміны, так як праз яе не пераляцеў Агні Вайсванара. Але зараз на ўсход ад яе жывуць шмат што із брамінаў[84].

Мы не можам пазначыць, – працягвае аўтар далей, – гадамі ці нават стагоддзямі падзеі пераможнай барацьбы, вынікам якой арыйская (г. азн. арыянская) і ведыйская культуры заваявалі краіну Ганга. Мы можам толькі дадаць да гэтага, што із арыйскіх місіянераў і вырасла каста служак бога. Словы (па-санскрыцку) брамінаў, і па шматлікіх <...> можна бачыць, што гэта было злучана з тым вялікім перасяленнем народаў, якае ішло із паўднёва-ўсходняй Яўропы не толькі на захад, як думаюць, але і на ўсход, хаця і не ў выглядзе массавага руху, а ў выглядзе далучэння ўсхадніх народаў да больш высокай рамейскай культуры, што не магло быць раней заснавання вялікім царом (Васілём Вялікім Чэцці-Мінеі) хрысьціянскага містычнага набажэнства з яго оргіямі, перажыткам якога да гэтага часу з’яўляецца звычай прычашчення ва ўсходняй царкве. Гэта азначае што пачатак ведыйскай культуры ў Індыі не мог быць раней V стагоддзя нашай эры, а прыйсьці яна магла натуральна разам з “гуннамі” із горада Будда (зараз Буда-Пешт), г. азн. Пешч Будды, як упершыню называлася доменая печ, пабудаваная тут братам Атылы Буддай.

Як і ў Яўропе дзе разумовая творчасць спачатку пачалася ў асяроддзі святарства, так было і ў Індыі.

Пачатак індыйскага рэлігійна-філасофскага мышлення, вельмі падобнага на юдэйска-хрысьціянскае, добра адлюстроўваецца ў паэтычных гімнах Рыгведы. У ёй сярод малітваў Агні-Агнцу і Індры, богу-бацьку, пра абарону, росквіт і перамогу, мы сустракаем спробу вырашыць загадкі існавання. І гэта ў тым жа духу, як і ў біблейскай паэзіі.

“Тады не існавала ні быцця, ні нябыту,
Не было ні зямлі, ні неба над ёй.
Ці рухалася што? Дзе? І згодна з чыім загадам?
Ці існавала вада і глыбокая бездань?
Тады не было ні сьмерці, ні несмяротнасьці:
Дзень не быў аддзелены ад ночы.
Толькі Адзін жыў сам па сабе:
Вышэй яго не існавала нічога.
І вось у Яго ўпершыню прабудзілася імкненне.
Гэта было першае насеньне духу.
Сувязь існавання выявілі ў нябыце
Мудрацы, зазірнуўшы ў свае сэрцы.

---

[82] Альдэнберг, стар. 24, рускі пераклад.
[83] Злучэнне славянскіх слоў “Агнец” і “Агонь”, праз сугучча якіх і паўстаў звычай ахвярапрынашэння Ягняці, г. азн. Агняца і сузор'е Авена, так што гэты звычай павінен быць славянскага паходжання, а не юдэйскага.
[84] Альдэнберг, стар. 25.

Хто ведае? Хто можа паведаміць нам,
Адкуль пачалося, адкуль з'явілася ўтварэнне?
І ці былі створаны багі пасьля яго?
Хто ведае, адкуль яны з'явіліся?
Адкуль прыйшло такае ўтварэнне?
Створана яно ці не створана?
Гэта ведае толькі той, вака якога глядзіць на яго.
З вышыні неба, – ці і Ён гэтага не ведае?”[85]

Параўнаць з пытаннямі якой-небудзь біблейскай кнігі: хто паведаміць, як памераць марскі пясок і г. д. У другім гімне паэт, шукае бога, “усяго што рухаецца” і кажа:

“Хто дае нам жыццё? Хто дае нам магутнасць?
Чыёму загаду падпарадкоўваюцца ўсе багі?
Чыя цень з’яўляецца несмяротнасьцю і сьмерцю?
Кім з’яўляецца бог, якога мы ўшаноўваем ахвярамі?
Той, чыя веліч гэтыя снежныя горы,
Злучаючы мора з далёкімі плынямі,
Чые рукі па-сутнасьці бакі сусвету?
Кім з’яўляецца бог, якога мы ўшаноўваем ахвярамі
Ён, стварыўшы неба празрыстым, зямлю цьвёрдай,
Ён, вымераўшы святло і вышэйшае неба,
Ён, кідаючы сьвятло ў эфірную прастору,
Кім з’яўляецца бог, якога мы ўшаноўваем ахвярамі?
Ён знаходзячыся вышэй аблокаў,
Ён даючы магутнасць і ствараючы полымя,
Ён адзіны Бог над усімі багамі, –
Кім з’яўляецца бог, якога мы ўшаноўваем ахвярамі?

І гэты гімн непазнаваемаму богу <........> маецца ў біблейскіх псалмах <...........> цэлая бездань аддзяляе такі гімн ад даверлівай веры старажытных часоў, якая добра ведала багоў, якім патрэбна было прыносіць ахвяры.

Пасьлядоўнае развіццё думкі ці, правільней сказаць, вылучэнне яе із сусьвету прывідаў пачынаецца ў гэтую эпоху.

Старажытнасць індускіх твораў, – далей выказваецца Альдэнберг (стар. 32), – мы можам вызначыць толькі здагадкава, аднак ледзь ці мы істотна памылімся, калі будзем лічыць, што іхнае з'яўленне належыць IX або VII стагоддзю да хрысьціянскай веры.

І вось на падмурку аднаго “ледзь ці памылімся” і ўсталёўвалася індуская храналогія. Але чаму б нам не сказаць са свайго боку “мы ледзь ці памылімся, калі будзем гэтую паэзію лічыць належачай да IX стагоддзя нашай эры”?

Сама складанасць індускай рэлігійнай філасофіі сведчыць пра яе новы час. У ёй існуюць тыя магутнасьці, якія бачаць, чуюць і адчуваюць прастору – “бакі сусвету” і час, са сваёй ствараючай і разбураючай магутнасьцю, і поры года і месяцы, і дні і ночы, зямлю і паветра, і сонца, і вецер, які там вее, і магутнасьці дыхання, праходзячыя “па чалавечаму целу”, і думкі, і словы. Тут часта ўжо не індывідуальныя багі, а перапляценне і ўздзеянне гэтых таемных магутнасьцей кіруюць сусветам і прыносяць яму шчасьце і пакуты.

Утвараецца асяроддзе, напоўненае містэрыямі і сімваламі. Ва ўсім атачаючым брамiна на ахвярным месцы зараз павінны прысутнічаць не толькі бог

[85] Рыгведа, 129, пер. Гельднэра і Кэці.

Агні, г. азн. апакаліптычны Агнец (сузор'е Авена) і бог Саватар (г. азн. Выратавальнік), але і ўсе схаваныя магутнасьці сусветнага цэлага: "таму што ўпарадкаванне ахвяры вырабляе ўсё гэта". Тое што з'яўляецца перад вачамі падчас ахвяры, з'яўляецца не толькі тым, што ёсць, ці тым што здаецца, але яшчэ і нечым іншым – гэта менавіта тым, што яно азначае. Слова і справа маюць падвойны сэнс: бачны і сакрамэнтальны, і калі чалавечыя веды імкнуцца да бачнага, то богі шануюць сакрамэнтальны і ненавідзяць ўсе бачнае.

Лічбы тут, як і ў сярэднявечных еўрапейскіх навукоўцаў, маюць таемную магутнасць, словы, склады, рыфмы таксама. Паміж фантастычнымі магутнасцьмі рухаюцца фантастычныя з'явы, не звязаныя ніякімі законамі чалавечага разумення. Кожная пара года падае свой голас.

Існаванне і значэнне прадметаў зліваюцца адно з адным. "Праджапаці (відаць, перанаіначанае славянскае – ранейшы (прэжні), г. азн. Стваральнік) стварыў ахвяру Агні-Агнца, праз сугучнасць перайшоўшую ў ахвярнае полымя, як свой вобраз". Прамяні сонца – гэта павады, якімі запрэжаны ў жыццё ўсе стварэнні. Яно прыцягвае імі да сябе і ўзносіць наверх жыццё кожнага, каго захоча. І ён тады памірае. Але мудрэц ведае ахвярнае полымя, паднімаючае яго над царствам праходзячых дзён і начэй, дзе сонца кіруе жыццём і сьмерцю.

Ён ратуе з дапамогай полымя сваё жыццё ад сьмерці: "у спаленні Агні-Агнца заключаецца адкупленьне ад сьмерці". А гэтая гульня слоў Агні-Агнца паказвае на паходжанне ахвярапрынашэнняў Авену ад балканскіх славян.

Куды б ні накіроўвалася думка аўтара Браманы Ста Шляхоў, усюды перад ёй паўстаюць новыя багі і новыя чароўныя магутнасьці, і над усім узнімаецца бог, існаваўшы раней за ўсіх багоў і ўсяго існага, Стваральнік сусвету Праджа-паці (Папярэдні Бацька), які на пачатку быў адзін, але прамовіў "я хацеў бы быць мноствам" і ў той жа час стварыў із сябе сьвет багоў і людзей, прастору і час, мышленне і слова. Але мы нідзе ў індускіх кнігах не заўважаем нейкай барацьбы магутнай думкі, якая б імкнулася да ўсведамлення вялікіх задач жыцця. Забабоны усёведаючыя і ўсётлумачачыя, самадастаткова пануюць сярод сваіх вар'яцкіх вобразаў. І пад гэтай уладай пераблытаных ідэй і зараз вырастае адно пакаленне за другім, і адно за другім нястомна далучае да ідэй мінулых пакаленняў свае ідэі. Цяжка агледзецца ў гэтым цьмяным асьвятленні, у якім рухаюцца неаформленыя фантастычныя выявы. Але і тут існуе нейкі псіхічны натуральны закон.

Магутнасьці, на дзейнасьці якіх, на думку індускіх мысляроў, грунтуецца сусветнае цэлае, з'яўляюцца такімі не самі па сабе: чым далей пранікае думка, тым відавочней гэтыя магутнасьці выяўляюць залежнасць ад вялікіх асноўных магутнасьцей, ад якіх паходзіць іхнае жыццё, і да якіх яны вяртацаюцца, дасягнуўшы мэты свайго існавання.

Ні ў адным із індыйскіх тэкстаў немагчыма з такой выразнасьцю прасачыць крок за крокам генезіс слабых прыкмет думкі да яе поўнай выразнасьці, як у творы "Брамана Сто шляхоў", заслугоўваючага назву самага значнага ва ўсёй індыйскай літаратуры.

"Брамана ста шляхоў" паказвае перш за ўсё, як пры гэтай пераблытанай массе ўяўленняў вылучаецца ўяўленне пра "Я". На мове індусаў Атман – (грэцкае Атмас, адкуль слова атмасфера) – ёсць суб'ект, у якім знаходзяцца карані ўсіх жыццёвых магутнасьцей і жыццёвых функцый чалавека. Магутнасьці дыхання пранізваюць чалавечае цела; валадаранне над усімі магутнасцьмі дыханыя

з'яўляецца сутнасьцю Атмана-атмасферы, цэнтрульная магутнасць дыхання, із якой чэрпаюць сваё існаванне іншыя асобныя магутнасьці дыхання.

Як чалавечае вока падобна на вака сусьвету – сонца, так і паветра, будучы цэнтральнай сутнасьцю "Я", выходзіць за межы чалавечай асобы і робіцца ствараючай магутнасьцю, рухаючай вялікае цела сусветнага цэлага. Па-сутнасьці атмасфера з'яўляючаяся разам з тым і валадаром багоў, стваральнікам ўсяго існуючага, стварыўшая са свайго ўласнага "Я" ўсе сусьветы, і ёсць Перша-Бацька Праджа-Паці. Шмат асобных фігур адцягваюць увагу людзей ад яго, які з'яўляецца ўусім. Але ён толькі чакае той момант, калі пра яго зноў згадаюць.

А із другой сферы ўяўленняў вылучаецца другая магутнасць – слова, таксама прызнаваемае вялікай касьмічнай магутнасьцю.

Па-санскрыцку "слова" мае назву "брамі" (адкуль шляхам перастаноўкі гукаў і рускае слова бармот-барматанне) і на ім трымаецца неба і зямля.

Але гэта ўжо гаворыць пра знаёмства з евангеллем Яна, пачынаючагася славамі: "На пачатку было слова і слова было ў бога (бацькі) і слова было бог". Такім чынам, у брамінаў "Брама з'яўляецца першанароджаным у гэтым сусьвеце"; ён першы народжаны перша-бацькай сусвету, г. азн. Атмасам (атмасферай).

Як ні адрозніваюцца разуменні, злучаныя з гэтымі абодвума ўяўленнямі, але, як і ў хрысьціян, ў працэсе развіцця ідэй пра Атмана і Браму – пра перша-бацьку і яго сына слова – яны ўсё больш і больш атаясамляліся. Казалі, што "першанароджаным ў сусьвеце з'яўляецца Брама"; але і пра Атмана выказваліся: "із усяго існуючага спачатку існаваў Атман". Брама меў годнасць твару сусьвету, а Атман годнасць "першынца сусьвету". Пэўны змест, раней уласцівы ўяўленням пра Атмана і пра Браму, пашыраецца да бязмежнасьці і разам з гэтым усё больш і больш знікае адрозненне падобных уяўленняў. Фантазія, імкнучаяся да адзінства, ужо не мае магчымасьці ўспрымаць гэтыя вобразы з іхныя асаблівасьці як асобныя. Цалкам так жа, як і ў сучаснай хрысьціянскай тэасофіі.

Паўтараючы выказванні Апакаліпсіса, брамін, – згодна з паведамленнямі Альдэнберга (стар. 41), – выказваецца: "я шаную таго, хто быў, і хто будзе: Вялікага Браму, Адзінага вечнага". "Будзем шанаваць Атмана, духа, цела якога – дыханне, форма – сьвятло, сутнасць – эфір, рыхтуючага сабе формы, якія пажадае, хуткага, як думка, поўнага праведнай волі, поўнага праведнага быцця, пачатак усяго духмянага, усяго як сок, пранікаючага ва ўсе часткі сьвету, існуючага ва ўсім. Гэты дух малы, як зерне рысу або ячменю, або пшаніцы, існуе ў Я і ён жа больш неба, больш эфіру, больш зямлі і больш усяго існуючага; ён ёсць Я, дыханне, ён ёсць маё Я. З ім я злучуся, калі пайду адсюль. Сапраўды, сапраўды, што хто так думае, у таго няма сумневаў. Так выказваецца Чандылія".

Пра сутнасць, як пра усёствараючую атмасферу, у брамінаў у цэлай массе іхных думак выявіліся самыя разнастайныя плыні, прычым цалкам не заўважалася іхнай унутранай супярэчнасьці.

"Атман, – гаворыцца ў "Брамане Ста Шляхоў", – напачатку аформіўся падобным чалавеку. Ён агледзеўся навакол і не пабачыў навокал нічога, акрамя сябе самога; ён вымавіў першае слова "я існую", адкуль паходзіць імя "Я "; таму і зараз яшчэ той, каго клічуць іншыя, перш за ўсё адказвае: "гэта я ", а патым называе сваё імя... Яму стала боязна, што ён адзін, але ён падумаў: "так як няма нічога, акрамя мяне, то чаго ж я баюся?" Тады жах знік. Каго яму было баяцца? Баяцца іншага. Ён адчуў сябе незадаволеным, таму што той, хто адзін, адчувае сябе незадаволеным. Ён пажадаў іншага. У ім перапляталіся сутнасьці жанчыны і

мужчыны. Ён падзяліў гэтую сутнасць на дзве часткі, із іх стварыў чалавека і жонку; таму кожны із нас, – сведчыць Яджнавалькія, – толькі палавіна; гэты недахопок (прырода мужчыны) дапаўняецца жанчынай. Ён злучаецца з ёю; і так былі ўтвораны людзі“

Далей тлумачыцца, як абедзве палавіны стварылі Атмана, як чалавек і жонка, пасьля чалавечага ўвасаблення, прынімалі выгляд усіх жывёл і стварылі жывёльны сьвет, як пазней Атман утварыў із сябе полымя і вільгаць ці багоў Агні і Сому. “Ён стварыў больш высокіх багоў, чым ён сам; ён, сьмяротны, стварыў несьмяротных”.

Наколькі гэты тэкст падобны з першага погляду на касмагоніі ранейшых часоў, паведамляючыя: “спачатку быў бог-айцец (Праджапаці)”, на столькі ж і з унутранага боку гэтае наіўнае разуменне вышэйшай сутнасьці не адрозніваецца ад таго, што думалі пад час папярэдніх стагоддзяў пра стваральніка і валадара сусьветаў Праджа-паці. Атман тут больш падобны на першабытнага чалавека, чым на бога, у якім існуе ўсякае іншае быццё. Гэты Атман баіцца ў сваёй адзіноце, як чалавек, ён адчувае жаданні, як чалавек, ён стварае і нараджае, як людзі. Праўда, ён стварае багоў, але гэтыя стварэнні вышэй свайго стваральніка.

Альдэнбург параўноўвае з гэтай касмагоніяй другі ўрывак із таго ж тэкста, які па часе не пазнейшы, чым прыведзены вышэй.

Знакаміты брамін Яджнавалькія мае намер сысьці з дому і зрабіцца жабракам, і развітваючыся, выказваецца адной са сваіх жонак пра Атмана: “як кавалак солі, кідаемы ў ваду, растае ў вадзе і яго нельга вычарпаць, але затае вада робіцца салёнай, так і гэтая вялікая сутнасць, бясконцая, бязмежная паўната ведання: із зямных сутнасцей выступае яна ў з'явах і з імі яна знікае. Праўду, праўду, кажу табе: пасьля сьмерці няма свядомасьці”.

“Гора мне, узнёслы, – усклікнула Майтрэйя, – не разумею я слоў: пасьля сьмерці няма свядомасці”.

“Не гора паведамляю я табе, – адказвае Яджнавалькія, – а даброту, калі зразумееш гэта. Дзе існуе дваістасць сутнасьці, там адзін можа бачыць другога, адзін можа размаўляць з другім, адзін можа слушаць другога. Але там дзе ўсё зрабілася Я (Атман), каго яно-та можа бачыць? З кім яно можа тады размаўляць? Каго яно можа слухаць, ўяўляць? Праз каго яно можа выведаць выведваючага?”

Адзінасутнае ні вялікае, ні малое, ні доўгае, ні кароткае, ні ўтоенае, ні адкрытае, ні ўнутранае, ні вонкавае. Імя яго “Не”, таму што яго нельга вызначыць ніякімі вызначэннямі і адна яго выява з’яўляецца словам зацверджання.

Але чым жа гэтая філасофія адрозніваецца ад еўрапейскага хрысьціянскага пантэізму? Падобна хрысьціянскаму выказванню пра бога “іжэ ўсюды прысутны і ўсё напаўняе”, так і ў брамінаў бог-бацька з’яўляецца несьмяротным “існуючым у вадзе, існуючым у полымі, існуючым у эфіры, існуючым у ветры, існуючым у сонцы, месяцы і зорках, існуючым у прасторы, існуючым у громе і маланцы, існуючым ва ўсіх сусветах, існуючым ва ўсіх водах, ва ўсіх ахвярах, ва ўсіх істотах, асобных ад усіх істот, якога ўсе істоты не ведаюць, але целам якога яны па-сутнасці з’яўляюцца і які кіруе ўсімі імі – такі Атман-Атмасфера, унутраны кіраўнік, несьмяротны”. “Ён увайшоў сюды (ў цела) да самых кіпцюроў, як брытва, лежачая ў футляры або скарпіён ў гнязьдзе”. А ў іншым месцы таго ж тэкста, із якога ўзята гэтая цытата, гаворыцца. “Дзякуючы загаду гэтай нязменнай сутнасьці цвёрда стаяць зямля і неба, цвёрда стаяць сонца і месяц, зацверджаны дні і ночы, паўмесяцы, месяцы, поры году і гады. Дзякуючы загаду гэтай нязменнай сутнасьці адны рэкі са снежных гор бягуць на ўсход, іншыя да захад, і ва ўсе краіны сьвету.

Але калі ўшаноўваюць Атмана, “які вышэй голаду і смагі, вышэй турбот і гора, вышэй радасьці і сьмерці”, то гэтым міжволі зьвяртаюць ўвагу і на пачуццёвы бок, у якім лютуюць голад і смага, турботы і гора, у якім старацца і паміраюць. Ужо тое было нешчасьцем, што Адзіны, шчасьлівы Атман вырашыў стварыць сусьвет разнастайнасьці, сусьвет стварэння і разбурэння. Было б лепш, калі б не было ніякага “мноства”. Гэтага індускія мысляры не высказваюць, таму што баяцца думкі прыпісаць сусветныя пакуты сваёй адзінай Узнёслай істоце і нават вінаваціць у іх яе; але падобанае меркаванне непазбежна ўзнікае, і таму і з’явілася думка пра свавольствы створаных атмасферай із сябе стварэнняў, пра ўзнагароды і пакаранні і пра злыя магутнасьці-спакушальніцы.

У Рыгведзе ўжо гаворыцца па месца жыхарства шчаслівых, дзе ў царстве Ямы цешацца вечнай радасьцю.

“Дзе існуюць шчасьце і радасць,
шчасьце, і весялосць, дзе жаданні
Атрымліваюць выкананне”.

Згадваюцца таксама месцы змроку і жахі, чакаючыя ліхадзеяў у замагільным жыцці. Але пры гэтым лічыцца, як і ў хрысьціян, што з адыходам у сьвет шчаслівых або ў сьвет вечнага змроку жэрабя людзей вырашана назаўсёды.

А эпоха, наступіўшая за Рыгведай, утварыла яшчэ новую выяву сусвету: паўсюдна змагаюцца адна з другой і пагражаюць небяспекамі чалавечаму лёсу жахлівыя не маючыя формы магутнасьці, бачныя або схаваныя ў таемных сімвалах. Улада сьмерці над чалавекам не абмяжоўваецца адным нанесеным яму ўдарам. Яе магутнасць над не ўмеючым выкупіць сябе праўдзівым словам і праўдзівай ахвярай, прасьціраецца і на замагільнае жыццё, з'яўляюцца ўяўленні пра шматлікасць магутнасьцей сьмерці, із якіх адна валадарыць над чалавекам у замагільным сьвеце, а іншыя пры зямным жыцці. “Хто сыходзіць у той сьвет не вызваліўшыся ад сьмерці, той і на тым сьвеце заўсёды будзе годнай здабычай сьмерці; як на гэтым сьвеце, так і на тым смерць не ведае літасьці і забівае, калі пажадае”.

Але калі смерць забівае шмат разоў, то істота столькі ж разоў адраджаецца, і гэта прыводзіць да ідэі пра перасяленне душ. Душы памёршых лётаюць ўсюды вакол нас, і як толькі дзе заўважаць пачатак новага існавання, так і пасяляюцца ў ім, прытрымліваючыся вядомых правілаў, душа саграшыўшага пасяляецца ў горшы зародак, чым тая, у целе якой здзяйсняліся добрыя ўчынкі. Гэтым усход апярэдзіў захад ва ўскладненні псіхалагічных уяўленняў.

Таксама вандраванне душы із цела ў цела з’яўляецца вынікам яе непаяднання з Брамой, карацей – вынікам хлусні. Але перамогшы свае благія жаданні дух, вызваліўшыся ад валадарання сьмерці, вяртацаецца на радзіму ўсякага жыцця – да Брамы. “Як швачка, – выказваецца “Брамана Ста Шляхоў”, – бярэ кавалак стракатай тканіны і дае яму іншую, больш прывабную форму, так і дух кідае і пакідае ў недасведчанасьці гэтае цела і рыхтуе для сябе іншую новую форму і робіцца боскай, чалавечай або нейкай іншай істотай. Хто здзяйсняе дабро, робіцца яшчэ больш добрай істотай, хто здзяйсняе зло, робіцца злым; чыстым робіцца ён дзякуючы чыстай дзейнасьці і злым дзякуючы злой справе... Так бывае з тымі, хто загразае ў жаданнях; але што робіцца з тым, хто желае толькі Атмана. Ён – Брама і ідзе да Брамы. Пра гэта паведамляе верш:

“Смяротны, вызваліўшыся ад якога б то ні было жадання свайго сэрца,
Заходзіць несьмяротным у Браму”.

Па-хрысьціянскі злучаецца з Хрыстом.

На што ж падобна злучэнне з Брамай? Падобна, на сон без сноў. “Калі хто спіць і ў сне не адчувае ніякіх жаданняў і не бачыць ніякіх сноў, то гэта і з’яўляецца станам, калі ён дасягнуў свайго жадання, калі ён без жаданняў”[86], як Атман.

Але часта вызначаючым лёс чалавека апошнім момантам лічыцца замест адсутнасьці жаданняў – веданне. “Для набываючага веды, для каго ўсе істоты становяцца ўласным Я, для таго, хто сузірае адзінства – як магчымы для яго аблуды, як магчыма гора?” “Хто знайшоў і вывучыў Атмана, існуючага ў змроку цялеснага сусьвету, той усёстваpаючы, таму што ён стваральнік усяго. Сусвет належыць яму і ён сам з’яўляецца сусветам.

Відавочна, – працягвае Альдэнберг, аб’ядноўваючы брамаізм з буддызмам (стар. 58), – што гэта цалкам тое ж кола ідэй, якое прапаведуе вучэнне Будды. Пытанне, на якім заснаваны буддыйскія ідэі пра адкупленне, тут ставіцца такім жа чынам, як і ў гэтым вучэнні і на яго даецца такі ж падвойны адказ. Што трымае душу ў колазвароце нараджэнняў, сьмярцей і адраджэнняў? Буддызм адказвае цалкам так жа: “захапленні і невуцтва”. Найглыбейшым злом з іх двух з’яўляецца невуцтва; яно з’яўляецца першым звяном ў доўгім ланцугу падстаў і вынікаў, у якіх здзяйсняецца прыносячы пакуты лёс сусьвету. Калі дасягнута веданне, усякая пакута пераможана. Пад дрэвам ведаў, дасягнуўшы выкупляючага ведання, Будда выказвае наступныя словы:

“Калі адкрываецца вечнае ўпарадкаванне
Пякучаму адчуванню брамана,
Войска спакушальніка ён перамагае,
Падобна сонцу, льючаму святло ў сусветную прастору”.

Але веданне, г. азн. вынік навукі, навучання, бывае першапачатковым, містычным і канчатковым прыродазнаўчанавуковым. Яўропа пайла з канца сярэдніх стагоддзяў па апошняму накірунку і аддзялілася, як антытэза ад тэзіса, а у Азіі, за выключэннем школ, перанесеных еўрапейцамі ў даступныя для іх мясцовасьці, яна і да гэтага часу працягвае далей развіваць прынесеныя ў яе із Яўропы ж першапачатковыя метафізічныя вучэнні.

Браманская метафізіка і буддызм аднолькавыя, як у ідэях, так і ў выказваннях. Яшчэ і зараз яна пачынае ўжываць тыя ж самыя моўныя выказванні, якія служаць суполцы Будды для выказвання яе рэлігійных уяўленням. У “Брамане Ста Шляхоў” адкупленым называецца той, які “выведвае” ў ім Атмана, для выказвання разумення “выведаць” ўжываецца слова <...>, азначаючае таксама і абуджаны, слова ўжываемае буддыстамі, калі яны паведамляюць пра тое, як Будда ва ўрачысты час пад дрэвам Асватха спасьціг збаўляючую ісьціну, г. азн. прабудзіўся для выкупляючай ісьціны; само імя Будда азначае “набыўшы веды і абудзіўшыся”.

Альдэнберг, які прытрымліваецца меркавання, што буддызму папярэднічаў брамаізм, кажа: “Буддызм атрымаў у спадчыну ад брамаізма не толькі шэраг сваіх асноўных дагматаў, але – і гэта для гісторыка не менш важна, – і настрой рэлігійнай думкі і адчуванняў, якія прасьцей успрымаюцца, чым выказваюцца славамі”.

А мы, прытрымліваючыся супрацьлеглага мяркавання, што буддызм з’яўляецца толькі далейшым лакальным развіццём біблейскага месіянства, а брамаізм такое ж лакальнае развіццё трынітарнага хрысьціянства, выкарыстоўваў

[86] Альдэнберг, стар. 57.

тое ж выказванне толькі з адваротнай перастаноўкай дзейніка, пакідаючы сам выказнік, які цалкам правільны. Але і буддызм да нашага часу запазычыў, як і Біблія шмат чаго із евангельскага хрысьціянства.

Мне не вядома, ці знойдзены ў Індыі індыйскі верш Катака-Ўпанішад толькі ў адным экзэмпляры, што згодна са сфармуляваным мной законам, памнажэння агульнацікавых рукапісаў у геаметрычнай прагрэсіі, служыла б доказам яго нядаўняга паходжання, але ў ім мы відавочна бачым далейшае развіццё легенды пра выпрабаванне Езуса Сатаной, а таксама і яго буддыйскага варыянта.

Тут мы знаходзім Сатану буддыйскага сьвету, Мару, дэманічнага ворага "адкупіцеля", у форме Мрытыу, бога сьмерці (наша памры). Тоеснасць канцэпцый тут прасвечваецца даволі выразна, нягледзячы на адрозныя формы, і прытым ведыйскі верш захаваў агульныя яму з буддыйскімі легендарнымі ўяўленнямі, відавочна, у іхнай першапачатковай форме.

Хлопчык Начыкетас, адпавядаючы евангельскаму Хрысту, сказаў свайму бацьку: "бацька, каму ты мяне аддасі?". І ў другі і ў трэцці раз ён запытаў яго тое ж самае. Тады бацька адказваў яму: "я цябе сьмерці аддаю". Начыкетас ідзе ў царства сьмерці, але бог сьмерці Яма не бачыць яго і ён як і Хрыстос знаходзіцца ў царстве сьмерці незаўважаным тры дні. Пазней яго пазналі служкі бога сьмерці і паведамілі яму:

Яма, дай вады госьцю, каб патушыць
Полымя, бо брамін забярэ надзею і сяброўства,
Радасць дзяцей і дабраславенне статкаў у таго,
Хто не прызнае яго госьцем.
Яма (бог сьмерці)
Ты незаўважаным жыў у маім царстве тры ночы,
Годны госць, Брамін.
Прывітанне табе і выкананне трох жаданняў
Даю табе, Брамін, толькі выбірай.

Начыкетас выбірае ў якасьці першага жадання, каб бацька, калі ён вернецца із царства памёршых, прыняў яго без гневу. Пасьля ён просіць, каб бог сьмерці паведаміў яму сакраментальныя веды пра ахвярнае полымя пры дапамозе якога дасягаецца нябеснае царства. Смерць паведамляе яму гэтае вучэнне і кажа, што яно будзе называцца людзьмі полымем Начыкетаса. Тады Начыкетас выказвае яму і сваё трэццяе жаданне.

Начыкетас:

Невядомы лёс памёршых:
Яны існуюць, – кажа адзін, – іх няма, – кажа другі.
Вось што хачу я ведаць, вось што паведамі мне,
Вось трэццяе жаданне, якае я выбіраю.

Бог сьмерці:

Самі багі спрадвеку не ведаюць пра гэта:
Цёмны гэты сакрэт, яго цяжка зразумець.
Іншае жаданне выкажы, Начыкетас,
Не настойвай на гэтым, вызвалі мяне ад абяцання.

Начыкетас:

Самім богам гэта ўтоена -
І цяжка зразумець, кажаш, ты, о, сьмерць.
Адзіна ты мне можаш гэта патлумачыць
І толькі гэта жаданне я выбіраю.

Бог сьмерці:

Выбірай шматгоддзе для дзяцей і ўнукаў,
Грошы, статкі, сланоў і каней;
Выбірай на зямлі вялізнае царства;
Хай жыццё тваё будзе доўгім, як ты жадаеш.
Калі заменіш жаданне тваё, выбірай
Хаця б багацце, хаця б доўгае жыццё;
Будзь царом над зямлёй, Начыкетас,
Усіх асалодаў удзельнікам будзь.
Усё, што сьмяротным з цяжкосьцю дастаецца,
Усякае задавальненне вазьмі, да якога сэрца імкнецца.
Дам я табе найпрыгажэйшых дзяўчат,
Прыгажэй якіх не існуе на зямлі;
Дам іх табе, – хай будуць тваімі; -
Толькі не пытайся пра смерць, Начыкетас.

Начыкетас:

Усё тое прыдатна толькі ненадоўга.
Магутнасць пачуццяў у людзей знікае,
У жыцці ўсё хутка праходзіць;
Спевы і скокі, коні, статкі, – усё гэта – тваё.
Людзям задавальненні багацця не даюць.
Што для нас грошы, калі мы пабачым цябе?
Усе мы жывем, толькі пакуль дазваляеш ты –
Пагэтаму толькі адно гэтае жаданне выбіраю.
Пра тое пра што, поўныя сумневаў, думаюць людзі,
Пра тое паведамі мне; пра сьмерць, пра будучае царства.

Супраціў бога сьмерці пераможаны. Ён выконвае жаданне Начыкетаса. Далёка, – кажа ён, – разыходзяцца два шляхі: шлях ведаў і шлях невуцтва. Тыя, якія ідуць па шляху невуцтва, бязмэтна блукаюць па зямлі, як сляпыя, кіруемыя сляпымі. Мудрэц, выведваючы адзінае, вечнае, старажытнага бога, знаходзячагася ў глыбіні ўсяго існуючага, пакідае радасць і пакуты, вызваляецца ад усяго як ад справядлівага так і несправядлівага, робіцца вольным як ад сучаснасьці так і ад будучыні. Такім з’яўляецца адказ Ямы на пытанне Начыкетаса. Такой з’яўляецца браманская легенда, у якой падарожжа Хрыста ў пекла ўжо злучана ў адзінае цэлае з яго адкупленьнем і ўсяму наданы больш філасофскі, чым фантастычны характар яе евангельскай першакрыніцы.

Паглядзім зараз, якой жа з’яўляецца буддыйская легенда. Абраны на годнасць Будды імкнецца да ведаў, якія б адкупілі яго ад сьмерці і адраджэння. Яго вораг – Мара. Як бог Мрытыу абяцае Начыкетасу панаванне над зямлёй, калі ён толькі адмовіцца ад ведання будучага жыцця, так і Буддзе Мара прапануе незямных прыгажунь, так і Будду спакушаюць дочкі Мары на імя: Жаданне, Захапленне, Пажаднасць. Начыкетас і Будда супраціўляюцца ўсім спакусам і дасягаюць ведаў, якія пазбаўляюць ад магутнасьці сьмерці. Найменне Мара тое ж самае, што і Мрытыу, Бог сьмерці з’яўляецца разам з тым і князем гэтага сьвету, валадаром усіх задавальненняў і асалод, ворагам ведаў; для браманскай або буддыйскай метафізікі, усякае задавальненне павялічвае повязі, прымацоўваючыя да царства сьмерці, а веданне з’яўляецца магутнасцю, якая знішчае гэтыя повязі. Гэты бок бога сьмерці, як спакушальніка ўладай і асалодамі, выступае ў асобе Мары буддыйскай легенды на першы план, а браманскі верш Упанішад ўжо набывае больш філасофскі характар, чым і выяўляецца больш позняе ўзнікненне брамаізма. Тая акалічнасць, што Бог слова Брама малюецца як невыразны, не

маючы афармлення Абсалют у шматлікіх індускіх рукапісах, сведчыць пра той вялізны ўплыў, які мелі ў Індыі найноўшыя еўрапейскія метафізічныя разважанні. Але для менш разважаючых брамінаў такі бог быў ужо занадта некарэктным богам і із Брамы ўзнік бог Браман, “продак усіх сьветаў”, першанароджаны із усіх істот.

І ледзь ці нейкі іншы бог так знаёмы не толькі браманам, але нават і сучасным буддыстам, як Брама Сагампаці. Пад час усіх важных момантаў жыцця Будды і яго вернікаў Брама пакідае сваё неба і з'яўляецца на зямлю, згодна з запаветам Хрыста – апошнія ды будуць першымі пакорлівымі і паслухмянымі служакамі сьвятых людзей. І із гэтага галоўнага Брамана фантазія ўтварыла цэлыя шэрагі багоў Брам, існуючых на розных нябёсах.

# Глава VII.

## Манаскія ордэны буддыстаў і іхнае здзіўляючае падабенства з каталіцкімі.

Падобна таму, як у Яўропе пад час сярэдневечча існавала захапленне аскетызмам і пустэльніцкім манаствам, а затым і вышэйшае сьвятарства стала абавязкова манаскім, так было і ў Азіі. Як і ў Яўропе нарэшце пачалася рэакцыі супраць гэтага, так і буддыйскія манахі пачалі замяняцца сямейнымі брамінамі. Але брамаізм там не быў пратэстантызмам, як у Яўропе пасьля Лютэра і Кальвіна, так як існаваў там ужо да прыбыцця ангельцаў, а таму мы можам лічыць яго ўплывам усходняй царквы, якая дазваляла царкоўнае служэнне адружаным і нават патрабавала грунтуючыся на апостале Паўлу, каб “біскуп быў чалавекам адной жонкі”. А падабенства сучаснай буддыйскай ламаіцкай неадружальнасьці і аскецізму з ранейшым еўрапейскім і асабліва з каталіцкім, настолькі ўражваючае, што не застаецца ніякай магчымасьці сумнявацца ў іхным агульным паходжанні.

Як жыціі сьвятых – творы не пазней XVII стагоддзя – поўняцца аскетычнымі здзяйсненнямі сьвятых, так імі поўняцца і сучасныя буддыйскія паданні.

У Індыі існуе такі ж грамадзкі настрой, як у Рыме пад час найцяжэйшага перыяду каталіцызму: заможныя і шляхетныя, яшчэ больш, чым беднякі і просты люд; юнакі і старыя, якім ужо няма чаго чакаць ад жыцця; жанчыны і дзяўчаты пакідаюць сьвет і апранаюць манаскае адзенне. Пашыраюцца апавяданні пра здзяйсненні людзей непераможнай магутнасьці, якія памёрлі, нягледзячы на вялікія намаганні парваць свае сувязі з цывільным жыццём.

Пад абаронай абсалютнейшай верацярпімасьці, якая калі-небудзь існавала, утвараліся секта за сектай і сярод іх. Чым патлумачыць такую ненатуральнасць? Вядома тым жа самым, чым я ўжо тлумачыў і еўрапейскае манаства: вялізным пашырэннем нейкай венерычнай хваробы нападобе пералоя, з яго булонамі і ганакокамі, як следства апякуемай тагачаснай царквой храмавай прастытуцыі “ў славу божую”, перажыткам чаго і зараз застаюцца баядэркі пры браманскіх храмах.

Як і ў хрысьціян тут былі аскеты, якія жылі ў самотнасьці, прынімаючы ежу толькі праз доўгія прамежкі часу, не мыўшыяся, ніколі не сядаўшыя, спаўшыя на цярновым ложку; былі прыхільнікі веры ў ачышчаючую магутнасць вады, спадзяваўшыяся вызваліцца ад якога б то ні было грэху пастаяннымі абмываньнямі; некаторыя імкнуліся да стану духоўнага самапаглыблення і намагаліся аддзяліцца ад якога б то ні было ўспрымання пачуццёвай рэчаіснасьці і

напоўніцца адчуваннем "бясконцасьці прасторы" ці "бясконцасьці думкі" і г. д. Паміж такімі разнастайнымі сьвятымі людзьмі, натуральна, з'яўляліся і дзіўныя сьвятыя; так, напрыклад, апавядаюць пра сьвятога "пеўня", зарок якога складаўся ў тым, што ён кляваў сваю ежу, як певень, ды і наогул імкнуўся наблізіцца да паводзін гэтай птушкі. Другі падобны сьвяты жыў як "каровіны сьвяты". Буддыйскія справаздачы даюць нам наогул нямала апісанняў разнастайных падобных сьвятых таго часу, із якіх вельмі нешматлікія былі настолькі шчаслівымі, каб не зрабіць сваю сьвятасць смешнай.

Ці магла ўзнікнуць нейкая культура пры такім ладзе жыцця?

# Глава VIII

## Сафістыка індускіх буддыстаў і яе паходжанне ад ісламістаў і хрысьціян.

Мы не ведаем у індусаў ні Сакрата, ні Платона ці нейкіх іншых знакамітых віртуозаў рыторыкі і дыялектыкі, і аднак жа амаль усе галаваломныя спрэчкі еўрапейскіх схаластаў існуюць у іхнай літаратуры; гісторыя гэтай сафістыкі, як яе нам малююць індолагі – па-сутнасьці такая ж, як і грэцкай сафістыкі.

Як жыціі сьвятых – творы не пазней XVII стагоддзя – поўняцца аскетычнымі подзвігамі святых, так і сучасныя буддыйскія паданні.

"За людзьмі, – сведчыць Альдэнберг (стар.43), – адчыніўшымі ў Грэцыі, сваімі вялікімі і простымі ідэямі, шляхі мышлення, як напрыклад, за элеатамі і змрочным Эфесцам, рушылі ўслед Горгій, Пратагор і цэлы натоўп спрытных віртуозаў рыторыкі і дыялектыкі. Цалкам падобным жа чынам і ў Індыі за сур'ёзнымі мыслярамі класічнай метафізікі браманскага часу рушыла ўслед малодшае пакаленне дыялектыкаў – мастакоў спрэчак – з пераважаючымі матэрыялістычнымі ці скептычнымі схільнасцямі. Яны паднімаюць пытанні пра вечнасць ці пераменлівасць свету і "майго я" і пра замірэнне гэтых кантрастаў; пра канечнасць ці бясконцасць сьвету, ці пра адкіданне як таго так і іншага меркавання. Існуюць сляды і лагічнага скептыцызму, і два вучэнні, лозунгі якіх змяшчаюцца ў выказваннях: "усё здаючаяся мне праўдзівае" і "ўсё здаючаяся мне не праўдзівае", і нават ставіцца пытанне дыялектыку, які лічыць усё за несапраўднае: ці прызнае ён несапраўднай і сваю ўласную тэорыю? Там ёсць і пра існаванне іншага свету, і пра замагільнае жыццё, і пра свабоду чалавечай волі, і пра існаванне маральнай адплаты. Макалі Газалі нават прыпісваецца і адмаўленне свабоднай волі: "усё дыхаючае, усё бачачае, усё жывое – кажа ён – нямоглае, бязвольнае; усё прыводзіцца да сваёй апошняй кропкі лёсам, прыродай". Кожная істота перажывае вызначаны шэраг адраджэнняў, пад канец якога, як для дурня, так і для мудраца, "наступае канец пакут". У некаторых кнігах адмаўляецца таксама і існаванне абсалютнай маральнасьці. Так кніга Пурана Кесапа вучыць: "калі пераходзяць на паўднёвы бераг Ганга, калі забіваюць і прымушаюць забіваць, калі разбураюць і прымушаюць разбураць, паляць і прымушаюць паліць, – то гэтым не здзяйсняюць грэх: за гэты грэх не існуе пакарання. Калі пераходзяць на паўночны бераг Ганга, калі раздаюць дарункі, калі прыносяць і прымушаюць прыносіць ахвяры, то гэтым не робяць добрых спраў; за гэтыя добрыя справы не існуе ўзнагароды. Іншае выкладанне падобных жа вучэнняў паведамляе: "Мудры і дурань аднолькава трапляюць пад уладу разбурэння і нікчэмнасьці, яны аднолькава не існуюць пасля сьмерці".

Але ўсё ж гэта толькі рэха тых навук, якія ў нашых курсах ці гісторыях філасофіі выкладаюцца ад імя псеўда-старажытных настаўнікаў, самыя імёны якіх перайшлі ў Індыю ўжо не як асабістыя, а як намінальныя.

Хто ж у каго запазычыў? Еўрапейскія навукоўцы ў індусаў ці наадварот? І тысячы прыкмет кажуць нам, што наадварот. Але і ў гэтым апошнім выпадку большасць твораў індускай філасофскай літаратуры, якую выдаюць нам ледзь ці не за самую старажытную на зямлі, не можа быць больш даўняй чым дзве ці тры сотні гадоў.

# Глава IX

## Буддыйская мараль.

Запаветы "справядлівасьці" буддыстаў выказваюцца ў пяці адмаўляючых вызначэннях:

1) Не забіваць ніводнай жывой істоты.
2) Не рабіць замах на чужую ўласнасць.
3) Не дакранацца да чужой жонкі.
4) Не выказваць хлусню.
5) Не піць узбуджаючых напояў.

А для манахаў замест трэцяга із гэтых запаветаў прадпісваецца абсалютная цнатлівасць; акрамя таго, яны абавязваюцца да ўстрымання ад усіх цывільных выгод і раскошы, ад якіх бы то ні было дзелавых заняткаў і забаваў. Але тут толькі апошняе абмежаванне не хрысьціянскае, а агаранскае, і магчыма, з'яўляецца забаронай усходняга прычашчэння віном, атаясамляемага з оргіямі.

Ужо і да мяне імкнуліся зблізіць буддызм з хрысьціянвам і лічылі ядром пабожнай маральнасьці буддыстаў шанаванне і паблажлівае стаўленне да ўсяго існуючага. Цалкам такім жа чынам шчасьце Нірваны – шчасьце ад бясконцага сузірання бога ў раю, – набліжаецца да хрысьціянскай ідэі. "Гняўлівасць утаймоўваецца міралюбнасьцю, зло утаймоўваюць дабром, скупога падарункамі, а ісьцінай утаймоўваюць падманшчыка". "Варажнеча не ўтаймоўваецца на зямлі з дапамогай варажнечы: яна ўтаймоўваецца шляхам замірэння – такім з'яўляецца вечнае ўпарадкаванне". Так, хрысьціянская думка, што жаху адсутнічае ў шанаванні, што поўнае шанаванне праганяе жах, існуе і ў буддыйскай маралі. Але тут жа мы знаходзім, як і ў хрысьціян, ідэю пра добрыя справы, як пра самы блізкі шлях да шчасьця. Звычайна гаворка ідзе пра сьвятога, якога пытаюць, за якую добрую справу ў мінулым існаванні ён атрымаў у якасьці ўзнагароды нябеснае шчасьце. На гэта ён звычайна адказвае, што за падарунак, прынесены сьвятому чалавеку або царкве.

Я прывяду тут некалькі апавяданняў, якімі фантазія вернікаў упрыгожыла ўяўленні пра мінулыя існаванні Будды. У свяшчэнным каноне існуе наступнае кароткае апавяданне.

"Я жыў, – кажа Будда, – у лесе на горным хрыбце, як чорны бык, якога стварыў Сакка (бог Індра). Я прываблівав да сябе магутнасьцю зычлівых дачыненняў ільвоў і тыграў. Аточаны ільвамі, тыграмі, пантэрамі, мядзведзямі і буйваламі, антылопамі, газелямі і кабанамі, жыў я ў лесе. Ніводная істота не баялася мяне і я таксама не баяўся ніводнай із гэтых істот. Магутнасць пагадлівага стаўлення была маёй абаронай – і так я жыў на горным хрыбце".

Пад час перадапошняга са сваіх зямных існаванняў Будда жыў як царскі сын, не прызнаны народам і несправядліва прагнаны са свайго царства. Ён аддаў тым, хто прасіў свае апошнія скарбы, нават коней і павозку, на якой ён ехаў і пайшоў далей пешшу падчас пякучай спёкі, суправаджаемы жонкай і дзецьмі. “Калі дзеці пабачылі ў лесе дрэвы, пакрытыя пладамі, ім захацелася пладоў, і яны плакалі. І высокія, магутныя дрэвы, бачачы плачушых дзяцей, самі схіляліся да іх”. Нарэшце, яны прыйшлі да гары Ванка. Там яны жылі, як пустэльнікі, у лесе, у хаціне із галін і лісьця.

“І жылі мы там у пустыні, я і прынцэса Маддзі і двое дзяцей, Джалі і Канхаджына, праганяючы засмучэнні адзін ад аднаго. Я заставаўся ў хаціне даглядаць за дзецьмі, а Маддзі збірала лясныя плады і прыносіла на ежу. Калі я жыў у лесе на гары, прыйшоў жабрак і папрасіў у мяне маіх дзяцей. Я ўсміхнуўся, узяў абодвух сваіх дзяцей і аддаў іх браману. І калі я аддаў дзяцей браману Джуджаку, то завагалася зямля, упрыгожаная як вянком лесам Меру. Патым здарылася тое, што сышоў з неба бог Сакка ў выглядзе брамана; і ён папрасіў у мяне маю Маддзі, дабрадзейную і верную прынцэсу. І ўзяў я Маддзі за рукі, зачарпнуў у рукі вады і з радасьцю аддаў яму сваю Маддзі. І калі я аддаў Маддзі, то багі на небе ўзрадаваліся і зноў завагалася зямля, упрыгожаная як вянком, лесам Меру. Я аддаў дзяцей і верную сваю княгіню Маддзі і не засмучаўся гэтым, абы мне дасягнуць годнасьці Будды”.

А другім із такіх апавяданняў пра мінулыя існаванні Будды з’яўляецца “Гісторыя пра мудрага зайца”.

“І быў я ў другім жыцці зайчыкам і жыў у лесе на гары; еў я траву, карані, лісьце і плады, і нікому не рабіў шкоды. Малпа, шакал, маладая выдра і я – жылі ў адным месцы і з раніцы да ночы заўсёды былі разам. Я навучаў іх абавязкам і вучыў іх адрозніваць дабро ад зла: устрымлівайцеся ад благога і схіляйцеся да добрага. На сьвята, у час поўнага месяца, я паведаміў ім: сёння сьвята, давайце падарункі згодна з годнасьцю і ўшануем сьвята пастом. І яны адказвалі мне: “няхай будзе так” і па магчымасьці рыхтавалі падарункі і мяркавалі, хто годны атрымаць іх. А я сеў і шукаў у сваім розуме, які падарунак магу даць я: “калі я сустрэну годнага, што я яму дам? У мяне няма ні кунжутнага насення, ні бабоў, ні рысу, ні масла. Сам я сілкуюся травой; нельга ж даць яму травы. Калі прыйдзе да мяне годны чалавек і будзе прасіць у мяне паесьці, то я яму аддам самога сябе; не павінен жа ён сысьці галодным”. І праведаў Сакка (цар багоў) думкі мае і прыйшоў да маёй нары ў выглядзе брамана, каб выпрабаваць мяне. Калі я пабачыў яго, я радасна сказаў яму: “гэта добра, што ты прыйшоў шукаць ў мяне ежы. Сёння я табе дам высокароднейшы падарунак, якога табе ніхто ніколі не даваў. Ты справядлівы чалавек – табе не даводзіцца прыносіць каму-небудзь пакуты. Ідзі, назбірай галінак і распалі вогнішча: я сам сябе падсмажу і падсмажанага ты зможаш мяне з'есьці”.

І ён адказаў: “хай будзе так” і пачаў весела збіраць галінкі і складаць іх у вялікую кучу. У сярэдзіну вогнішча ён паклаў гарачыя вуглі і хутка вогнішча запылала, пасьля гэтага ён абтрос пыл, пакрываючы яго магутныя члонкі і сеў каля вогнішча. Калі вогнішча разгарэлася, я падскочыў угару і кінуўся ў полымя. Як халодная вада памяншае пакуты спёкі, як яна дае прахалоду і радасць, так і полымя, у якае я кінуўся, дало прахалоду, падобна халоднай ваддзе, усім маім пакутам. І так я аддаў браману і скуру, і мех, і мяса, і звязкі, і косткі, і сэрца, і мускулы – усё маё цела, з усімі яго члонкамі”.

А вось гэты дакумент, чытач, ужо носіць прыкметы гістарычнасьці, не тое, што індусская тэасофія, напалову спісаная із Шопэнгауэра! Але і тут, чытач, праглядаецца кур'ёзнае падабенства. У 1852 годзе Дарвін выпусьціў у сьвет свай геніяльны твор “Паходжанне відаў шляхам натуральнага адбору”, якое сярод публікі ремюзавалася ў выглядзе: “чалавек паходзіць ад малпы”, а малпа ад іншых ніжэйшых жывёл. І вось цікава параўнаць, ці былі “знойдзены” гэтыя апавяданні пра ранейшыя існаванні Будды ў выглядзе слана і ў выглядзе зайца да выдання

кнігі Дарвіна, або ўслед за яе з'яўленнем? Бо, па-сутнасьці, усё вучэнне пра перасяленне духу із цела ў цела з імкненнем палепшыцца, – толькі своеасаблівае адлюстраванне дарвінізма ў містычна настроеных розумах.

Для прастадушнага буддыста (як і для хрысьціян сатана) спакушальнік Мара з’яўляецца асабістай істотай, – выказваецца Альдэнберг (стар. 287), настолькі ж реальнай, абмежаванай у прасторы і часе асобай, як і Будда, як і ўсе людзі і ўсе багі. Але філасофскае мышленне натуральна імкнулася адцiснуць на задні план разуменне пра Мару або, ва ўсякім разе, перамяніць яго асабістую сутнасць на ўсеагульную. Мару (як і сатану ў хрысьціян) працягвалі лічыць асобай, але межы яго існавання пашырыліся да таго, што яны захапілі прастору ўсяго сусьвету, зведваючага пакуты. Ўсюды, дзе існуе вока і ўспрымаемыя ім формы, усюды, дзе існуе вуха і ўспрымаемыя ім гукі, усюды, дзе існуе разумовая думка – там і Мара. Радха кажа Буддзе: “Госпадзі, у чым заключаецца магутнасьць Мары?” – “Усюды, дзе існуе цялеснасць, Радха, там і Мара (сьмерць), там і забойца, там і той, хто памірае. Таму глядзі на цялеснасьць як на Мару”.

Аднак, у павучаннях і легендах, у якіх гаворыцца пра Мару-спакусіцельніцу, не маецца таго трагізму, якім хрысьціяне прывыклі атачаць ворага ўсяго добрага. Яны ўяўляюць із сябе маленькія, па-дзіцячы прыдуманыя гісторыі пра напад Мары на Будду і на яго пасьлядоўнікаў, апавядаюць пра тое, як ён з'яўляецца то брамінам, то земляробам, то царом сланоў і ў разных іншых выглядах, каб спакусіць іхную сьвятасць рознымі спакусамі, а іхную веру і іхныя веды хлуснёй.

“У час оны, – гаворыцца ў тэксце, – існаваў Усявышні ў краіне Козала ў Гімалаях, у хаціне ў лесе. І ў яго розуме з’явілася думка: “Сапраўды можна кіраваць сусьветам справядліва, каб не забівалі і не давалі загадаў забіваць, каб не прыгняталі і не загадвалі прыгнятаць, каб не зведвалі пакут і не прымушалі пакутаваць іншых”.

І выведаў злы Мара думкі Ўсявышняга, пайшоў да яго і сказаў:

“Няхай Усявышні кіруе як цар, хай Дасканалы кіруе як цар, справядліва, каб не забівалі і не давалі загадаў забіваць, каб не прыгняталі і не давалі загадаў прыгнятаць, каб не зведвалі пакут і не прымушалі пакутаваць іншых”.

Будда адказваў яму:

“Што ты пра мяне думаеш, злыдзень, навошта ты так размаўляеш са мной?”

Мара адказаў:

“Усявышні мае надзвычай магутныя здольнасці – калі б Усявышні пажадаў, ён мог бы загадаць, каб Гімалаі зрабіліся залатымі і яны зрабіліся б залатымі”.

Якая карысць мудраму мець цэлыя горы срэбра або золата? Хто ведае, што зямное існаванне з’яўляецца ланцугом, прывязываючым да гэтага сьвету, той імкнецца вызваліцца ад яго.

І зразумеў тады злы Мара:

“Усявышні пазнаў мяне “ – і засмучаны і незадаволены сышоў ён ад яго”.

Такім пастаянна з’яўляецца заканчэнне ўсіх гэтых апавяданняў. Будда разгадвае намеры злыдня і гэтым разбурае яго задумы. Дакладна як Хрыстос у Евангеллях, або святыя ў “Жыціях”.

Несумненна, што разнастайныя і метадычныя намаганні дасягнуць стану самапаглыблення мелі асабліва выдатную ролю ў жыцці буддыйскіх манахаў. У творах паэтаў-манахаў часта выказвалася павага да лясной адзіноты, поўнага сьвятога самапаглыблення. “Як выдатна жыць аднаму ў лесе, калі мае вочы не бачаць нікога ні перада мной, ні ззаду мяне. Пайду я ў пустыню, у лес, ухваляемы Буддай; добра там самотнаму манаху, які імкнецца да дасканаласьці. Адзін, упэўнены ў сваёй мэце, зайду я ў чароўны лес, які прыносіць радасць пабожнаму змагару, у гэтае жыллё магутных сланоў. У багатым кветкамі лесе Сіта, у

халаднаватай горнай пячоры, памыю я цела сваё, і буду вандраваць там самотны. Адзін, без таварышаў, у шырокім, чароўным лесе – калі я дасягну мэты? Калі я вызвалюся ад грахоў?"

Падрабязнае апісанне такага душэўнага стану не пакідае ніякага сумневу ў тым, што ў гэтым стане, акрамя аффектаў, магчымых і для здаровага розуму, справа не абыходзілася і без з'яў паталагічных. У сьвятых тэкстах часта згадваецца пра галюцынацыі слыху і зроку, пра "нябесныя формы" і "нябесныя гукі".

Звычайны тып самапаглыблення вельмі падобны на сярэднявечнае стоўпніцтва хрысьціян. Манах садзіцца "са скрыжаванымі нагамі, з выпрастаным тулавам, надаючы свайму твару выгляд паглыбленага мышлення". Нам кажуць, што перад хрысьціянамі ў хвіліны экстазу адкрываліся таямніцы стварэння сусьвету; а буддысты ў такіх выпадках бачылі мінулае свайго я пад час незлічоных перыядаў перасялення душ, пазнавалі істоты, вандруючыя па сьвету, бачылі, як яны паміраюць і адраджаюцца, пранікалі ў думкі іншых.

Але ці праўдзіва гэта, калі нешта падобнае і апавядалі пра сябе "стоўпнікі"?

У шматлікіх паданнях пра Будду ён з'яўляецца не сынам Божым, а толькі ўсыноўленым чалавекам, як было і ў некаторых хрысьціянскіх сектах. І таму маглі быць і іншыя ўсыноўленыя.

З гэтага, вядома, не вынікае, што асоба Будды не перайшла нарэшце межаў зямной і чалавечай рэальнасці, што дагматыка не атачыла яго бліскучым вянком велічы, азараючай увесь сусьвет. Першапачатковая асоба аднаго Будды павінна была ва ўсходняй дагматыцы ператварыцца ў незлічоную колькасць Буддаў, якія жылі ў мінулыя стагоддзя і якія маюць з'явіцца ў будучыні. Хрысьціянская вера, якая вымярала мінулае існаванне гэтага сусьвету тысячагоддзямі, а яго будучыню толькі гадамі, або днямі, магла задаволіцца існаваннем аднаго Выратавальніка, з'яўленне якога было прадказана ў мінулым, і другое прышэсьце якога азначала канец сьвету. Але для індуса ў перыяд стварэння ім сваёй рэлігіі межы сусвету пачалі ўжо ўяўляцца бязмежнымі. У бясконцай далечыні ранейшых стагоддзяў і ў бясконцай далечыні будучыні – паведамляла ім нейкая новая філасофія – вечна паўтараецца адзін і той жа працэс: паходжання, знішчэння і з'яўлення.

Пры з'яўленні і знікненні ўсіх сусветных эпох, ва ўсім змрочным па прыродзе існаванні бесперапынна выяўляецца імкненне да святла адкуплення і пагэтаму ў вядомыя пэўныя эпохі[87] некаторыя асобы павінны былі дасягнуць адкуплення; такія асобы абвяшчаліся буддамі і здзяйснялі наканаваную ад стагоддзяў ніву. Усе яны нарадзіліся ва ўсходняй частцы сярэдняй Індыі, усе паходзілі із радаў браманаў і кшатрыяў; усе дасягнулі выкупляючага ведання пад дрэвам. Жылі яны на зямлі неаднолькавы час, гледзячы на тую эпоху, пад час якой яны з'явіліся, і абвешчанае імі вучэнне трымалася таксама разны час. "Пяцьсот гадоў, Ананды, будзе існаваць сапраўднае вучэнне, – паведаміў Будда свайму шануемаму вучню – пасьля гэтага вера знікае да таго часу, пакуль не з'явіцца новы Будда і не прывядзе ў рух кола закона".

[87] З'яўленне Буддаў пад час разных сусветных перыядаў не было аднастайным па працягласьці. У адной із Палійскіх сутраў маюцца ўказанні, што апошнія із Буддаў з'яўляліся ў такія прамежкі часу: адзін у 91 сусветным стагоддзі да часу Будды, два ў 31 стагоддзі, сучаснае сусветнае стагоддзе з'яўляецца "шчаслівым", у ім было пяць Буддаў, із якіх чацьвёртым з'яўляецца Гатама і чакаецца з'яўленне пятага, Метэйя. Здаецца няма патрэбы выказвацца на конт таго, што ўсе гэтыя тры Будды цалкам фантастычныя асобы.

Буддысты лічаць, – паведамляе за іх Альдэнберг (стар. 202), – што як і пад час нязменных па працягласьці Сусветных Перыядаў з'яўляецца цэлы шэраг Буддаў, так і невымяральныя прасторы Сусьвету маюць сваіх Буддаў. У сусветах, аддаленых ад нас на бясконца вялікія адлегласьці, ідзе такая ж барацьба дзеля адкуплення, як і на зямным шары. “Не можа здарыцца, вучні, – выказваецца Будда, – каб у адной і той жа сусветнай сістэме адначасова не раней і не пазьней, з'явіліся два сьвятыя сусьветныя Будды”. І вось Альдэнберг робіць выснову, што ў гэтых словах мы маем права бачыць указанне на тое, што ў іншых сусьветных сістэмах, незалежна ад таго, што адбываецца ў нашым сьвеце, здзяйсняюцца такія ж перамогі сьвятла над змрокам, якую здзейсніў на зямлі пад дрэвам пры Ўрвеле Будда. Але ў гэтай філасофіі ўжо адчуваецца ўплыў еўрапейскага вучэння пра незлічонаць населеных сусьветаў!

Ці наступіць калі-небудзь канец іх з'яўленням? Ці будзе калі-небудзь перамога настолькі поўнай, што ўсе істоты дасягнуць адкуплення?

У апавяданні пра сьмерць Будды прыводзіцца выслоўе, выказанае богам Брамай, калі сьвяты пайшоў у нірвану:

“У сьвеце ўсё істоты целы свае пакідаюць –<br>Так і Будда зараз, пераможны настаўнік сусьветаў<br>Дасканалы, магутны, у Нірвану пайшоў”.

Гэта азначае, – робіць выснову Альдэнберг (стар. 304), – усё істоты калі-небудзь дасягнуць Нірваны.

Ці застанецца навекі плынь узнікненняў і знішчэнняў сусьвету, нават і тады, калі ўсе адушаўлёныя, здольныя да пакут істоты, знікнуць із царства існавання? Ці, пасьля знікнення якой бы та ні было свядомасьці, у якой адлюстроўваецца сьвет падзей, пачуццёвы сьвет знікне? Ці будзе толькі Нірвана адзінай і існуючай, у глыбіню якой пагрузяцца ўсе царствы бачнага сусьвету?

“Для буддызма, – адказвае за яго Абльдэнберг, – гэтыя пытанні не існуюць. Усявышні не адкрыў гэтага; бо гэта не патрэбна для выратавання, не патрэбна для пабожнага жыцця, для вызвалення ад усяго зямнога, для знішчэння жаданняў, для заспакаення, набыцця ведаў, прасвятлення да стану Нірваны”.

Як гэта падобна на словы хрысьціянскага веравучэння: – гэта загадкава для чалавечага розуму!...

Згодна з думкай буддыстаў заканадаўчае права належыць толькі Буддзе. Усе запаветы і забароны маюць магутнасць толькі таму, што згодна з цвёрдым перакананнем вернікаў, так загадаў Будда. Суполка павінна толькі карыстацца і тлумачыць правілы Будды, дакладна так жа, як яна абавязана захоўваць адкрытае Будай вучэнне, але яна і не абавязана і не мае магчымасьці паляпшаць або развіваць гэтыя правілы далей. Як і ў хрысьціян прынімаемыя падзяляюцца на паслушнікаў і манахаў. І так жа, як у Евангеллях, хто кажа “я пмятаю маці” ці “я памятаю бацьку” ці “жонку забыць не магу”, хай лепш вернецца ў сьвет.

# Глава X

## Філасофія індыйскага буддызму, разглядаемая ў сувязі з позняй хрысьціянскай філасофіяй.

Вялікая частка цвerджанняў, сустракаючыхся ў буддыйскім вучэнні, могуць лічыцца не характарнымі для гэтага веравызнання, а проста агульным здабыткам

усіх рэлігійных людзей. Такімі з'яўляюцца вучэнні пра перасяленне душ, пра экстазы, разуменне сьвятасьці. Але так званыя "чатыры сьвятыя ісціны" складаюць тое, што адрознівае буддыстаў ад не буддыстаў і складае аснову іхнага закону.

Ноччу пад сьвятым дрэвам, паблізу Ўрувелы, яму адкрываюцца гэтыя чатыры ісьціны і ён робіцца Будай. Гэтыя сцверджанні паўтараюцца і абмяркоўваюцца ў кананічных тэкстах незлічоную колькасць разоў. Пра іхную важнась там гаворыцца ў празмерна гіпербалізаванных выразах.

Вось яны:

1. "Сьвятая ісьціна пра пакуты, манахі, такая: нараджэнне з'яўляецца пакутай, хвароба з'яўляецца пакутай, сьмерць з'яўляецца пакутай, злучэнне з нямілым з'яўляецца пакутай, разлука з мілым з'яўляецца пакутай, недасягненне жадаемага з'яўляецца пакутай, – карацей кажучы, пяцікратнае прымацаванне да зямнога з'яўляецца пакутай".

2. "Сьвятая ісьціна пра паходжанне пакут, манахі, такая: імкненне да існавання і асалод і да заахвочваняў, знаходзячых свае асалоды на зямлі, імкненне да задавальненняў, імкненне да стварэння, імкенне да ўлады вядуць ад адраджэння да адраджэння".

3. "Сьвятая ісьціна пра знішчэнне пакут, манахі, такая: знішчэнне гэтага імкнення праз поўнае знішчэнне жаданняў, праз пазбаўленне ад іх, праз пазбяганне іх, праз знішчэнне ўсякага апірышча для іх".

4. "Сьвятая ісьціна пра шлях да знішчэння пакут, манахі, гэта сьвяты сьмяротны шлях – а менавіта: праўдзівая вера, праведнае рашэнне, праведнае слова, праведная справа, праведнае жыццё, праведнае імкненне, праведнае ўспрыманне і праведнае самапаглыбленне".

Гэтыя сцверджаннііні добра адлюстоўваюць аднабокі пессімізм аўтара, цалкам такі ж як і ў біблейскай кнізе "Ёў шматпакутны". Яны відавочна паказваюць, што іхным аўтарам быў саслабелы, ужо насыціўшыся жыццём, мудруючы, лядашчы стары, якімі несумненна былі і аўтары ўсіх тых, мудрагельнічаюх біблейскіх кніг. Гэтая жалобная арыя, манатонна распяваемая і ва ўсіх хрысьціянскіх цэрквах, настолькі гіпнатызавала іхных парафіян, што яны ўжо былі няздольнымі заўважыць яе відавочную аднабаковасць.

Таму што калі б наша жыццё сапраўды было толькі пераходам ад адной пакуты да другой, то хіба большасць баялася б яго страціць? І калі аўтары такіх кніг замест таго, каб іх пісаць, пакончылі б сваё жыццё самагубствам, то гэтым бы толькі даказалі, што і самі не зразумелі пра што яны так жалобна спяваюць.

Ці дамавіка хаваюць,
Ці ведзьму адружваюць?

Кожны разумны чалавек разумее, што жыццё з'яўляецца шчасьцем, якое шануе ўсё жывучае. Нават і для містычна настроенай душы гэта зразумела, як бачым із верша Лермантава:

Калі хвалюецца жаўцеючая ніва,
І цёмны лес шуміць,
І хаваецца ў садзе малінавая сьліва
Пад салодкім ценем зялёнага ліста.
Тады зміраецца душы маёй трывога,
І маршчыны на ілбе,
Я шчасьце на зямлі
А ў небе бачу бога.

Адзіна правільным меркаваннем з'яўляецца тое, што моманты шчасьця пераважаюць ва ўсім арганічным існаванні над мамантамі засмучэння, ды і самі моманты стомленасьці і пакут служаць толькі падрыхтоўкай да больш інтэнсіўнага ўспрымання шчасьця. А наша сьмерць? Яна існуе толькі для іншых, а сваёй

ўласнай сьмерці яшчэ ніхто не адчуў, і калі сапраўды нешта існуе, што з’яўяецца існуючым толькі ва ўласным ўяўленні асобнага чалавечага “Я “, а не ў рэчаіснасьці, то гэта ўяўленне пра яго ўласную сьмерць.

Звычайна цэнтральныя ідэі буддыйскага пессімізму еўрапейцы знаходзяць у той думцы, што сапраўднай сутнасьцю ўсяго існуючага з’яўляецца нябыт.

Але такае разуманне буддызма ўяўляе дзіўную памылку: кожны, каго цікавяць не метафізічныя разважанні апошніх стагоддзяў, а тое, што прызнаецца вучэннем Будды і вераваннем яго суполкі, не знойдзе ніводнай думкі пра нябыт. Пералічэнне сьвятых ісьцін відавочна паказвае нам, што калі буддысты ўзважылі і знайшлі занадта лёгкім гэты сьветт, то падмуркам гэтага было зусім не тое, што ён з’яўляецца падманлівым, уяўляемым нечым, ці дакладней кажучы, проста нічым, а толькі тое, што гэты сьветт, як і ў хрысьціян, з’яўляецца пакутай і хавае ў сабе толькі пакуты.

Узнёслы, – як кажа традыцыя, – паведаміў пяці манахам наступнае[88]:

“Цялеснасьць не ёсьць “Я”. Калі б цялеснасьць была “Я”, то яна б не была падуладнай хваробам і можна было б сказаць: маё цела павінна быць такім; маё цела не павінна быць такім”.

“Адчуванні не сутнасць Я” – затым і адносна пачуццяў паведамляецца тое ж, што сказана адносна цела[89]. Пазней такія ж разважанні паўтараюцца адносна астатніх трох элементаў, складаючых на думку буддыстаў, фізічнае і духоўнае існаванне чалавека, г. азн. адносна ўяўленняў і формаў існавання сьвядомасьці. Далей Будда працягвае:

– Як вы лічыце, ці пастаянная цялеснасьць ці не?

– Непастаянная, божа.

– А ўсё непастаянне з’яўляецца пакутай ці радасьцю?

– Так, божа, усё непастаяннае з’яўляецца пакутай.

– Ці можна сказаць пра непастаяннае, пра пакуты, схільныя да перамен, што гэта я сам?

– Так, сказаць нельга, божа.

Далей ідуць тыя ж разважанні адносна адчування ўяўлення, формы і існавання свядомасць. Патым Будда працягвае:

“Таму цялеснасць, адчуванні, уяўленні і інш., усё адно ці існуюць яны ў нас ці ў вонкавым сьветце, ці будуць яны моцныя ці слабыя, далёкія ці блізкія – не Я, не Я сам. Так сапраўды павінен думаць кожны, маючы пабожнае веданне. Мудры, прыстойны слухач слова, думаючы такім чынам, адварочваецца ад цялеснасьці, адварочваецца ад адчуванняў і ўяўленняў, ад формаў і ведання. Адвярнуўшыся ад іх, ён вызваляецца ад жаданняў, знішчэннем жа жаданняў ён атрымлівае адкупленне. У адкупленым з'яўляецца веданне пра яго адкупленне, знішчана адраджэнне, завершана сьвятое жыццё, выкананы абавязак; больш не існуе магчымасьці вяртання да гэтага сьвету”.

У гэтай прамове, прыпісваемай Буддзе, відавочна паўтараюцца пастулаты асноўных поглядаў таксама і браманскага вучэння, галоўнай ідэяй якога было ўяўленне пра існаванне ў сьветце дуалізму. З аднаго боку, вечна нязменнае, маючае прэдыкаты вышэйшага шчасьця. Гэтае слова (Брама) не што іншае, як уласцівае чалавеку сапраўднае Я (Атман). З другога боку, сьветт стварэння і знішчэння,

---

[88] Гэтае выказванне звычайна называюць Сутта пра адзнакі вонкавага сьвету (“Не-Я”).

[89] Адчуванні не сутнасць Я. Хто, напрыклад, бачыць Я ў пачуцці асалоды, той павінен быў бы пасьля таго, як гэта адчуванне прайшло, сказаць: маё Я сышло. Тое ж самае можна сказаць і адносна адчування пакуты і адносна індэферэнтных адчуванняў: “такім чынам, чалавек гаворачы, што яго адчуванні сутнасць Я, лічыць сваё Я існуючым ужо ў гэтым бачным існаванні, чымсьці нясталым, перапоўненай асалодай і пакутай, схільным да ўзнікненняў і знішчэнняў. Таму, Ананда, і несправядліва разглядаць адчуванні, як Я”.

сьветт нараджэння, старасьці і сьмерці, адным словам, сьветт пакут. Менавіта із гэтага-та дуалізма і вынікае асноўная аксіёма, вынікае цверджаннене, што выратаванне магчыма толькі там, дзе няма ні тварэння, ні знішчэння. Вынікае нарэшце, перакананне, што Я чалавека (Атта, тое ж самае, што па-санскрыцкі Атман) не можа належаць да сьветту здзяйсненняў.

Але што ж такае гэтае Я? Ці яно нешта вышэйшае, чым сьветт здзяйсненняў, ці яго цалкам не існуе? І што такае адкупленьне? Ці з’яўляецца яно вяртаннем Я, знаходзячагася ў сьветце здзяйсненняў, да самога сябе, вызваленне гэтага Я, або пасьля знікнення хуткапраходзячага не застаецца нічога, што б выявілася істотным і пастаянным? Мы бачым, што апакрыфічная прамова Будды ў Бенарэсе пакідае гэтае пытанне цалкам адкрытым.

Будду робіць Буддай яго веданне чатырох сьвятых ісьцін. Формула каузальнай сувязі, адкрыўшаяся яму яшчэ да дасягнення ім годнасьці Будды, цікавіць яго розум, калі ён сядзіць пад дрэвам ведання, “атрымліваючы асалоду ад адкуплення”.

Сярэднявечнае вучэнне еўрапейскай схаластыкі пра намены і фепамены пранікла і ў Індыю.

Дыялог, у якім Будда тлумачыць свайму шануемаму вучню Анандзе вялікую частку формулы падстаўнасьці, дае нам вельмі канкрэтнае тлумачэнне гэтага псеўда-філасофскага пастулата, дакладна перадаючага яго першапачатковы сэнс:

“Калі б сьвядомасць, Ананда, не ўваходзіла ў цела маці, то ці ўтварыліся б у ёй імя і цялеснасьць?”. “Не, божа”.

“А калі свядомасць, Ананда, пасьля таго, як яна ўвайшла ў цела маці, зноў пакінуне яго, то ці з'явіцца “імя і цялеснасьць” пры нараджэнні?” – “Не, божа”. – “А калі ў хлопчыка або ў дзяўчынкі свядомасць страціцца зноў, калі яны яшчэ малыя, – ці будуць імі дасягнуты тады імя і цялеснасць, рост, павелічэнне і развіццё?” – “Не, божа”.

Такім чынам, цверджанне: “са сьвядомасьці ўзнікаюць імя і цялеснасьць” дапасуецца да моманту зараджэння. Згодна з буддыйскімі ўяўленнямі, пры сьмерці ўсе астатнія элементы, складаючыя фізічнае і духоўнае існаванне чалавека, знішчаюцца; цела, адчуванні і ўяленні знікаюць, але не знікае сьвядомасць. Як чалавечае цела ўтворана із рэчавых элементаў, дакладна так жа сьвядомасць уяўляецца ўтворанай із адпаведных духоўных элементаў. “Існуе шэсць стыхій, вучні, – кажа Будда, – стыхія зямлі, стыхія вады, стыхія полымя, стыхія паветра, стыхія эфіру і стыхія свядомасьці”. Рэчыва, із якога складаецца сьвядомасць, вышэй за ўсе іншыя стыхіі, яно як бы існуе ў сваім уласным сьветце. “Свядомасць, – гаворыцца ў адным із тэкстаў, – непаказваемая, бясконцая, усе навучаючая; яна там, дзе няма ні вады, ні полымя, ні зямлі, ні паветра; яно там, дзе цалкам знішчаецца вялікае і малое, нікчэмнае і магутнае, прыгожае і агіднае, там, дзе цалкам знішчаецца імя і цялеснасьць”.

Пакуль істота зведвае перасяленні душ, да таго часу свядомасць з’яўляецца звяном, якое злучае розныя існаванні. Толькі калі дасягнута мэта адкуплення – Нірвана, ў ёй знікае і свядомасць сапраўды паміраючага.

Тае, што ўзнікае ў чалавеку са стыхіі свядомасьці – у тую самую хвіліну, калі памірае старая істота, робіцца зародкам новай; гэты духоўны зародак шукае і знаходзіць у целе маці той матэрыял, із якога ён стварае новае існаванне, надзеленнае імем і цялеснасьцю.

Як імя і цялеснасьць грунтуюцца на свядомасьці, так і свядомасць, у сваю чаргу, грунтуецца на іх. “Ананда, імя і цялеснасьць па-сутнасьці базіс ведання”.

“Каб існавалі імя і цялеснасць, павінна было існаваць навучанне. А каб існавала навучанне, павінны былі існаваць імя і цялеснасьць; ад іх паходзіць навучанне.

У іншым месцы Сарыпуттэ, самому шануемаму із вучняў Будды, прыпісваецца наступнае параўнанне: “як стаяць два снапы, падпіраючы адзін аднаго, так, шаноўны, веданне грунтуецца на імені і цялеснасьці, а цялеснасць на веданні”.

Але якім чынам адбываецца, што істота, якая з'яўляецца на сьветт, набывае менавіта гэтае, пэўнае цела, а не нейкае іншае? “Гэтае цела, вучні, не ваша цела, і не цела іншых, яго трэба лічыць вынікам мінулых ўчынкаў, набыўшым вядомую форму, ўвасобіўшуюся і стаўшую адчуваючай з дапамогай думкі”.

Самі мы ўяўляем вынік таго, што мы робім. У адным із браманскіх тэкстаў мы сустракаем такую думку: “якія справы чалавек робіць, да такога існавання ён і прыходзіць”. А буддызм вучыць: “мая справа з’яўляецца маёй спадчынай, яна з’яўляецца нараджаючым мяне ўлоннем маці, справа мая з’яўляецца родам, да якога я належу, яна з’яўляецца маім прыстанішчам.

Закон падстаўнасьці прынімае тут форму маральнай сусьветнай патэнцыі. Яго ўздзеяння ніхто не можа пазбегнуць. “Ні ў паветраным царстве, – гаворыцца ў Дхаманадзе, – ні пасярод мора, ні ў горных пячорах, нідзе на зямлі не знойдзеш ты прыстанішча, куды б ты змог збегчы ад твайго злога ўчынку”.

І наадварот: “як прывітанне сваякоў, сяброў і таварышаў сустракае падарожнік, здалёку вяртаючыся дадому, – дакладна так жа і таго, хто рабіў дабро, калі ён пераходзіць з гэтага жыцця ў замагільнае, сустракаюць яго добрыя справы, як сваякі свайго вяртаючагася сябра”. Магутнасць нашых спраў праводзіць нас па пяці царствах перасялення душ, праз боскае і чалавечае існаванне, праз царства прывідаў, праз жывёльны сьвет і праз пекла. Добрага чакае веліч неба. Злога ж пякельныя вартаўнікі вядуць да пасада цара Ямы. Той пытаецца яго – ці не бачыў ён, калі жыў на зямлі, пецярых божых пасланнікаў, выпраўляемых для папярэджання людзей, ці не бачыў ён пяць выяваў чалавечых заганаў і чалавечых пакут, а менавіта: дзіцёнка, старога, хворага, злачынцу, адбываючага пакаранне за сваё злачынства і памёршага.

– Так, – скажа злы чалавек, – я бачыў іх.

– І як жа ты, чалавек, калі ты быў ўжо у сталых гадах і калі ты пастарэў, не падумаў пра сябе: я ж таксама не пазбегну старасьці, нараджэння і памірання. І таму буду рабіць дабро ў думках, словах і справах? Чалавек адказвае:

– Я не мог зрабіць так, божа; праз сваю лёгкадумнасць я не думаў пра гэта.

І тады цар Яма адказаў яму:

– Гэта зрабілі твае злыя ўчынкі, не твая маці, не твой бацька, не твой брат, не сястра, не твае сябры і дарадцы, не твае сваякі, не аскеты, не браманы, не багі. Ты адзін зрабіў гэта і адзін ты павінен зведаць пакаранне.

І пякельныя вартаўнікі вядуць яго на месца пакут. Яго кладуць на распаленую накавальню, кідаюць ў кіпячае мора крыві, катуюць на кучах гарачага вугалля і ён не памірае да таго часу, пакуль не будзе адкуплена апошняя рэшта яго правіны.

У дыялогу Міліндапанха кола ўсёаднаўляючыхся існаванняў параўноўваецца з верцячымся каля восі колам або з папераменным паходжаннем дрэва із насення, а насення з плада дрэва, курыцы із яйка, а яйка із курыцы.

Калі дух знайшоў сваё цела, а цела свой дух, тады гэтая духоўна-цялесная істота ўтварае сабе органы, каб з іхнай дапамогай пачаць стасункі са знешнім сьветам. “Ад імя і цялеснасьці бяруць пачатак шэсць ворганаў суб’екта: вочы, вушы, нос, язык, цела (як орган дотыку) і мышленне.

Органы суб'ектаў уступаюць ў пэўныя дачыненні з аб'ектыўным сьветам. “Адбываецца іхны судотык са знешнім сьветам, а із судотыку ўтвараюцца адчуванні”. “Ад ўспрымання паходзіць жаданне, вядучае ад адраджэння да адраджэння”. Мы існуем таму, што жадаем існавання, мы адчуваем пакуты таму, што жадаем задавальненняў. “Каго захапляюць нікчэмныя жаданні, прывязваючыя да сьвету, пакута таго расьце, як расьце трава. Хто перамагае вартае пагарды жаданне, праз якое цяжка адрачыся ад сьвету, ад таго адступаюцца пакуты, як кроплі расы адпадаюць ад кветкі лотаса”. “Калі корань не сапсаваны, ссечанае дрэва зноў расьце. Дакладна так жа ўсё зноў і зноў з'яўляюцца пакуты, пакуль не забіта жаданне. Дары ісьціны вышэй за ўсякія дары, асалода ісьціны вышэй за ўсякую асалоду, знішчэнне жадання перамагае ўсякія пакуты. “Ад жадання – паведамляе формула, – бярэ пачатак прыхільнасць”.

Існаванне кожнай істоты падобна на полымя; як полымя, так і наша існаванне з’яўляецца у пэўным сэнсе бесперапынным працэсам гарэння. Адкупленне з’яўляецца згасаннем полымя (нірвана). Але полымя не пагасае да таго часу, покуда ў яго існуе гаручы матэрыял, да якога яно “схільна”. І як полымя, схільнае да ветру, распаўсюджваецца ў далечыню, так і полымя нашага існавання не застаецца на адным месцы, а здзяйсняе пры перасяленні душ пэўныя падарожжы ад неба да пекла, ад пекла да неба.

Што мае назву формаў у вучэнні, прыпісваемым нашымі еўрапейскімі навукоўцамі буддыйскім і браманскім настаўнікам?

Філасофія пазнейшых браманскіх школ, – выказваецца Альдэнберг, асабліва надаваўшы ўвагу буддыйскай філасофіі (стар. 223), – наступным чынам выказваецца пра Майну (Майю), якая паведамляе Адзінаму Нестворанаму падманчывую выяву сусьвету, маючага быць створаным: “калі ён, Ведаючы, пагрузіўся ў сон прыгатаваны Майяй, ён пабачыў сны, маючыя шмат формаў: гэта я, гэта мой бацька, гэта мая маці, гэта маё поле, гэта маё багацце”. І буддыйскае вучэнне ўжо параўноўвалася з гэтым сном браманскай тэасофіі.

У тэксьце “Пра ўдаскаленне ведаў”, які буддысты лічаць асабліва сьвятым, мы чытаем[90]:

“Будда сказаў Сарыпуце:

– Рэчы, Сарыпутта, існуюць не так, як лічыцца.

– Як жа яны існуюць, божа? – запытаў Сарыпута.

– Яны існуюць, о, Сарыпута, – адказаў Будда, – толькі так, што яны на самай справе не існуюць. Да іх моцна прывязаны звычайныя, не атрымаўшыя навучання. Яны уяўляюць сабе існуючымі ўсе рэчы, із якіх на самай справе ніводная не існуе.

Потым Будда запытаў сьвятога вучня Субхуці:

– Як ты лічыш, Субхуці, ці з’яўляюцца падманам цялеснасьць, успрыманні, уяўленні, форма; ці не падман гэта ведання?

– Не, пане, – адказваў Субхуці, – не. Яны падман. І цялеснасць, і ўспрыманні, і формы, і ўяўленні – усё падман.

– Падман робіць істоты тым, чым яны з’яўляюцца па-сутнасьці”.

Такім чынам, разважанне, выкладзенае ў творы “Пра дасканаласць ведання” робіць няведанне канчатковай падставай стварэння сусьвету і разам з тым істотнай уласцівасьцю яго існавання, якае ў рэчаіснасьці з’яўляецца нябытам.

Аднак сам Альдэнберг даводзіць, што гэтай філасофіі не магло існаваць у першапачатковым будызме або брамаізме.

---

[90] Гэтае месца паведамляецца Бюрнуфам.

Для браманскага ведыйскага мысляра неведанне з’яўляецца неведанем тоеснасьці ўласнага Я з тым вялікім Я, якае складае крыніцу і вынік ўсіх Я. А ў буддыстаў неведанне з’яўляецца крыніцай формаў існавання[91]. Прычым форма існавання цела складаецца із дыхання і выдыхання, форма існавання вымаўлення ў разважанні і ўзважванні, а форма стану духа складаецца із ўражанняў і ўспрыманняў.

Аднак гэтае агульнае вучэнне пра формы існавання ў іншых дакументах змяшчаецца ў больш простым выглядзе: “здарылася, – гаворыцца ў Санкгарупаці Сутанта[92], – што манах, надзелены верай, справядлівасьцю, веданнем, самаадрачэннем і мудрасьцю, падумаў пра сябе: “хацеў бы я адрадзіцца пасьля сьмерці ў магутным царскім родзе”. Гэты ўнутраны стан і прывёў яго да такога існавання. Такім, вучні, з’яўляецца шлях вядучы да адраджэння ў дадзеным існаванні”.

Веруючы і справядлівы манах, пры жыцці накіраваўшы свае думкі і жаданні на нейкія формы існавання, адраджаецца ў іх уключна да самага вышэйшага класа багоў, аддзеленых ад Нірваны вельмі нязначнымі рэшткамі зямнога. Нарэшце сутра паведамляе і пра манаха, падумаўшага пра сябе: “маю жаданне праз знішчэнне грахоўнай істоты ў гэтым жыцці зведаць і пабачыць вольнае ад грахоў адкупленне ў памкненнях і мудрасьці і ў ёй знайсьці свой прыстанак”. Такі манах праз знішчэнне грахоўнай істоты яшчэ ў гэтым жыцці зведае і пабачыць вольнае ад грахоў адкупленне ў памкненнях і мудрасьці і ў ёй знойдзе свой прыстанак. Гэты манах, вучні, нідзе не адрадзіцца”.

А вось мы сустракаем і параду не думаць пра пачатак сусвету: “Вучні не думайце, як іншыя: сусьвет вечны, ці сусьвет не вечны, сусьвет мае заканчэнне ці сусьвет бясконцы... А думайце лепш так: “сусьвет з’яўляецца пакутай”, і яшчэ думайце: “якім з’яўляецца шлях да знішчэння пакутаў”.

Нас часта пераконвалі, быццам бы буддызм, як яго выкладаюць еўрапейскія навукоўцы, адкідае існаванне душы, але гэта ў тым жа сэнсе, як і існаванне цела. “Цела, – кажа Альдэнберг (стар. 236), – дакладна та жа як і душа, існуе не як замкнёная, самавызначаючаяся сутнасць, а толькі як сума разнастайна накіраваных працэсаў узнікнення і знішчэння. Ўспрыманні, уяўленні і ўсе тыя з'явы, якія складаюць ўнутранае існаване чалавека, перасякаюцца. У цэнтры гэтай разнастайнасьці знаходзіцца веданне; калі цела параўнаць з горадам, то веданне параўноўваецца з валадаром гэтага горада[93]. Але веданне не мае прыроджаных адрозненняў ад уяўленняў і ад адчуванняў, над узнікненнеем і знікненнем якіх яно пануе. Веданне таксама зьменлівае і не уяўляецца сутнасьцю. Буддыйскае вучэнне прызнае, што існуюць з'явы зроку, слыху, самаўсведамлення і перш за ўсё пакут, але яно не прызнае існаванне сутнасьці, якая была б бачачай, чуючай і пакутуючай.

Пакінем на час сьвятыя тэксты і пяройдзем да вельмі зразумелых разважаняў пра гэтыя пытанні, якія мы знаходзім у “Пытаннях Мілінды”, г. азн. іянійскага князя Мянандра.

Цар Мілінда звяртаецца да вялікага сьвятога Нагасены:

[91] Альдэнберг, стар. 228.

[92] Альдэнберг, стар. 230.

[93] Параўнайце яшчэ наступнае месца, якое часта паўтараецца ў сьвяшчэнных тэкстах: гэта маё цела рэчывавае, складзенае із чатырох элементаў, утворанае бацькамі, а гэта ёсць маё веданне, прымацаванае да цела, злучанае з ім. Яно – як каштоўный камень, цудоўны, васьмігранны, добра апрацаваны, празрысты і чысты, упрыгожаны ўсякай дасканаласьцю, замацаваны на блакітнай або цёмнай стужцы, чырвонай або белай, або жаўтаватай.

– Як завуць цябе, шаноўны, як імя тваё, айцец?

Святы адказвае:

– Я завуся Нагасена, вялікі цар.

І сказаў тады цар Мілінда:

– Добра, шлях пяцісот явана (грэкаў) і васьмідзесяці тысяч манахаў слухаюць як Нагасена кажа: суб'екта тут няма. Ці можна яго за гэта ўхваліць?

І цар Мілінда сказаў глыбокашануемаму Нагасене:

– Ці ўтвараюць Нагасену валасы?

– Не, вялікі цар.

– Ці ўтвараюць Нагасену пазногці або зубы, скура або мяса або косткі?

– Не, вялікі цар.

– Ці ўтварае Нагасену цялеснасьць?

– Не, вялікі цар.

– Ці ўтвараюць Нагасену ўспрыманні?

– Не, вялікі цар.

– Ці ўтвараюць Нагасену ўяўленні формы і веданне?

– Не, вялікі цар.

– Ці можа гэты Нагасена з'яўляецца злучэннем цялесных успрыманняў, уяўленняў, формаў і ведання?

– Не, вялікі цар.

– Такім чынам, пра што я не запытваю, я нідзе не бачу Нагасены. Нагасена, божа, проста слова. Што ж такае Нагасена? Ты кажаш няпраўду і хлусіш. Ніякага Нагасены не існуе.

І адказаў тады шаноўны Нагасена цару Міліндзе:

– Прыйшоў ты пешшу або прыехаў на павозцы?

– Я не хажу пешшу, я прыехаў на павозцы.

– Калі ты прыехаў на павозцы, вялікі цар, то растлумач мне павозку: ці з'яўляецца вось павозкай, вялікі цар?

І святы выкарыстоўвае супраць цара яго ўласную аргументацыю. Повозка не з'яўляецца ні воссю, ні коламі, ні кузавам, ні аброццю. Яна таксама не з'яўляецца злучэннем усіх гэтых складаючых частак і нічым іншым, акрамя іх.

– Пра што я ні запытаю, вялікі цар, нідзе я не бачу павозкі; гэтая повозка з'яўляецца простым словам. Што ж такае повозка? Няпраўду кажаш ты, цар, і падманваеш: не існуе ніякай павозкі. Ты, вялікі цар, валадар ўсёй Індыі. Каго ж ты баішся, што кажаш няпраўду? Хай чуюць гэта пяцьсот явана і восемдзесяць тысяч манахаў: гэта цар Мілінда вымавіў: “я прыехаў на павозцы” і запытаў я яго: “калі ты, вялікі цар, прыехаў на павозцы, то растлумач мне павозку”. А ён не змог апісаць мне павозку. Ці можна яго за гэта ўхваліць?”

І калі шаноўны Нагасена сказаў так, то пяцьсот явана ўхвалілі яго і звярнуліся да цара Мілінды з такімі словамі: “Зараз, вялікі цар, выказвайся, калі можаш!”...

І цар Мілінда сказаў глыбокашаноўнаму Нагасене:

– Я не выказваў няпраўды, шаноўны Нагасена, у дачыненні да сукупнасьці восі, колаў, кузава, дышла, ужываецца слова: “павозка”.

– Сапраўды, вялікі цар, ты ведаеш павозку. І дакладна так жа да сукупнасьці маіх валасоў, маёй скуры і костак, да цялеснасьці, ўспрымання, уяўленняў, формаў і ведаў ўжываецца слова: “Нагасена”, але субъекта ў строгім сэнсе гэтага слова тут няма. Дакладна так жа, вялікі цар, адказвала перад Узнёслым Буддай манахіня Веджыра такімі словамі: “як у тым выпадку, калі злучаюцца часткі павозкі, тады ўжываецца яе найменне, так і ў тым выпадку, калі існуюць пяць згуртаванняў элементаў, складаючых існаванне чалавека (цялеснасць, ўспрыманні, уяўленні, формы існаваныя і веданне), ужываецца слова асоба – такім з'яўляецца звычайнае меркаванне.

– Выдатна, шаноўны Нагасена! Дзіўна, шаноўны Нагасена! Шмат разных пытанняў прыходзіла мне ў галаву і ты адказаў на іх. Калі б жыў Будда, ён бы цябе ўхваліў.

Гэтае месца із "Пытанняў Міліндьі" палемізуе супраць уяўлення пра субстанцыйнасць душы значна выразней чым кананічныя тэксты. Але, пасутнасьці, і яны стаяць на той жа глебе. І дыялог толькі цытуе іх. Хаця відавочна, што Мілінда-Панха напісана на паўночным-захадзе індыйскай паўвыспы, а святыя тэксты ў той форме, у якой яны захаваліся (!) у цэйлонскіх кляштарях, аднак, у гэтых тэкстах сустракаюцца цытаваныя ў гэтым діялогу словы манахіні Ваджыры. І абставіны, пры якіх яны былі вымаўлены, не пкідаюць для нас ніякіх сумневаў у тым, што гэтая размова сьвятога Нагасены і грэцкага цара цалкам дакладна перадае старажытнае царкоўнае вучэнне пра асобу. Мара, спакуснік, заўсёды жадаючы зацягнуць людзей у аблуды і ерасі, з'яўляецца перад манахіняй і пытаецца ў яе: "Кім створана асоба? Дзе знаходзілася нараджаючаяся асоба? Дзе асоба, якая знікае?" Яна адказвае яму: "Вучэнне тваё ілжывае – асобай з'яўляецца толькі сума зменлівых формаў існавання, асобы няма. Як у тым выпадку, калі пры злучэнні частак утвараючых павозку, ужываецца слова павозка, дакладна так жа і ў тым выпадку, калі злучаюцца пяць зменлівых формаў існавання, то гэта і ёсць асоба – такім з'яўляецца звычайнае меркаванне. Утвараецца толькі адна пакута, існуе і знішчаецца толькі адна пакута. Не ўзнікае нічога іншага, акрамя пакуты; акрамя пакуты нішто іншае не знішчаецца".

Калі пакута ўзнікае дзякуючы няспынным пераменам ўсяго існуючага, то ўжо нельга сказаць, што адчуваю пакуты я, што адчуваеш пакуты ты; застаецца толькі ўсведамленне, што пакута існуе, ці, калі выказацца больш правільна, што пакута знаходзіцца ў пастаянным працэсе ўзнікнення і знішчэння. Існуюць толькі прывіды Я і Ты, і гэтым прывідам памыляючыся натоўп дае найменне "асоба".

Але ж гэта, чытач, толькі далейшае развіццё прыпісваемых Геракліту выслоўяў: "усё цячэ", "усё гарыць, як вечна існуючае полымя". І выказванні буддызма дакладна так жа ўжываюць уяўленні плыні і полымя, як сімвалаў няспыннага руху ўсяго існуючага.

"Усё, вучні, знаходзіцца ў полымі. І што ж, вучні, азначае гэта ўсё, што знаходзіцца ў полымі. Яно запальваецца полымем шанавання, полымем нянавісьці, полымем аблуды; яно запальваецца нараджэннем, старасьцю і сьмерцю, горам і маркотай, турботай, пакутамі і роспаччу, – так кажу я. – увесь сусьвет знаходзіцца ў полымі, увесь сусьвет пакрыты дымам, увесь сусьвет пажыраецца полымем, увесь сусьвет трымціць".

А куды ўсё гэта вядзе?

"Калі ты праплыў ўсе жахлівае, бурлівае мора,
Поўнае хваляў, і глыбінь і пачвараў разнастайных –
Мудрасць і сьвятасць табе выпадаюць на долю,
Берага ты дасягнеш – мэты ўсяго існавання".

Такі адказ дае нам Саміута Нікайя. Смага быцця нясе душу ад аднаго да другога існавання гэтак жа, як вецер нясе полымя.

У "Пытаннях Міліндьі" размова таксама ідзе пра тоеснасць ці нятоеснасць чалавека ў яго разных існаваннях. Сьвяты Нагасена кажа, што ў шэрагу існаванняў замяняюць адзін аднаго не адны і тыя ж людзі, але, аднак, і не розныя.

"– Растлумач гэтае параўнанне, – загадвае цар Мілінда.

– Калі чалавек, вялікі цар, запальвае свечку, то ці будзе яна гарэць усю ноч?

– Так, Госпадзі, яна будзе гарэць усю ноч.

– Але ці тоесна, вялікі цар, полымя пад час першай начной варты з полымем пад час сярэдняй начной варты?

– Не, Госпадзі.

– А ці тоесна полымя пад час сярэдняй начной варты з полымем пад час апошняй начной варты?

– Не, Госпадзі.

– Гэта азначае, вялікі цар, свечка пад час першай начной варты была адна, пад час сярэдняй начной варты была другая, а пад час апошняй трэццяя?

– Не, Госпадзі, яна гарэла ўсю ноч, так як полымя было злучана з адной і тай жа рэччу.

– Дакладна так жа, вялікі цар, – заключыў Нагасена, – злучаецца ланцуг элементаў чалавека. Адзін з'яўляецца, другі знікае, таму што гэта і не адзін і той жа чалавек, але і не іншы чалавек".

Мы бачым, што тут буддызм апярэдзіў ужо і вучэнне сучасных еўрапейскіх фізіёлагаў пра пастаянны абмен рэчываў у жывым арганізме. І няўжо яшчэ больш за 2000 гадоў таму назад, і нават не маючы ні найменшага разумення пра арганічную хімію?

Набываючы веды із полымя ўтварэння, знішчэння і пакут, накіроўваецца ў месца заспакаення (Нірвану), – гэта сведчыць пра разуменне нірваны як пра месца, атаясамляемае з прасторай, не створанай, вечнай і бясконцай. "Я не ведаю заканчэння пакутам, – выказваецца Будда, – калі не дасягнуты канец сусьвету. Але я паведамляю вам, што ў гэтым адушаўлёным целе, якае велічынёй менш за сажань, існуе цэлы сусьвет, у ім змяшчаецца і ўтварэнне і знікненне сусьвету, у ім жа і шлях да яго знішчэння". Але буддыйскія паэтычныя выслоўі пастаянна прыпісваюць валоданне нірванай сьвятаму, які яшчэ жыве на зямлі.

"Вучань, багаты мудрасьцю, адмовіўшыся ад асалод і жаданняў, дасягае тут на зямлі адкупленьня ад сьмерці, дасягае заспакаення, нірваны, вечнага прытулку".

"Таго, хто, паглыбіўшыся ў сябе, без ваганняў і сумневаў дасягае берага; таго, хто адмовіўшыся ад зямнога, дасягае нірваны, таго я называю сапраўдным браманам"[94]. Калі нірванай называюць не толькі замагільнае жыццё, чакаючае адкупленага сьвятога, але і тую дасканаласць, якой ён дасягае ў зямным жыцці, – то гэта не з'яўляецца простай наўмыснай памылкай, а абсалютна дакладнае выказванне дагматычнай думкі.

Калі Буддызм лічаць рэлігіяй нябыту і спрабуюць з гэтага боку гледжання патлумачыць саму яго сутнасць, то ў рэчаіснасьці гэтым дасягаюць толькі таго, што цалкам выпускаюць із пад увагі тыя ідэі, якія ў ім з'яўляюцца самымі істотнымі, – выказваецца Альдэнберг (стар. 248).

Але ці азначае канец зямнога існавання канец існавання наогул? Ці прынімае памёршага Дасканалага пад сваю ўладу нябыт?

Лічылі, што адказ знаходзіцца ў самым слове "Нірвана", г. азн. згасанне. Самым натуральным тлумачэннем гэтага слова здавалася здагадка, што згасанне з'яўляецца згасаннем існавання ў нябыце. Але супраць падобнага тлумчэння вельмі хутка з'явіліся цалкам справядлівыя пярэчанні. Бо можна гаварыць пра згасанне і ў тым выпадку – і індусы сапраўды выказваліся пра яго ў такім сэнсе – калі існаванне цалкам не знішчана. Пра згасанне можна казаць і тады, калі вызваліўшыся ад полымя пакут, людзі знаходзяць шлях да спакою шчасьця. Макс Мюлер з асаблівым захапленнем абараняе меркаванне, што Нірвана з'яўляецца

[94] Бярлінскі манускрыпт, 414. У празаічных тэкстах сустракаецца вельмі шмат падобных жа заўваг. Так, напрыклад, адзін браманскі аскет пытае Сарыпуту: "Кажуць, Нірвана, Нірвана, а што такае гэтая Нірвана, шаноўны Сарыпута". – "Знішчэнне задавальненняў, знішчэнне нянавісьці, знішчэнне памылак – вось што, шаноўны, мае назву Нірвана".

дасканаласьцю існавання, а не яго поўнае знішчэнне[95]. Гэта пераход да стану шчаслівага заспакаення, гэтак жа далёкага ад радасьцей сусьвету, як і ад яго пакут. Ці была б рэлігіяй, – узнімае пытанне Макс Мюлер, – тая рэлігія, якая на прыканцы даходзіць да нябыту? Яна не была б ўжо тым пераходам ад канчатковага да бясконцага, чым павінна быць кожная рэлігія. Яна была б раптоўна знікаючай, падманнай сьцяжынкай, ідучы па якой чалавека скідваюць ў прорву нябыту ў тую самую хвіліну, калі ён чакае дасягнуць мэты вечнага існавання.

Але вось наступныя еўрапейскія індолагі Джэймс Д'Альві і асабліва Чайльдэрс і Трэнкнер раптоўна "знайшлі" матэрыялы пра нірвану. Грунтуючыся на гэтых матэрыялах Альдэнберг і патлумачыў самім індусам, што іхнае вучэнне, для якога за часовым існаваннем знаходзіцца будучая вечная дасканаласць, не можа лічыць царства Вечнасьці пачынаючымся толькі там, дзе заканчваецца сьвет хуткапраходзячага і не можа ўтварыць яго непасрэдна із нябыту. Ён паказаў індыйскім навукоўцам, што ў самім царстве хуткапраходзячага, хаця і магчыма існаванне, і толькі ў зародкавай форме, павінен існаваць элемент, які, не будучы падуладным закону стварэння і знішчэння, носіць у сабе зародак вечнага існавання.

Для буддыйскай дагматыкі, – пераконваў ён буддыстаў, – канчатковы сьвет уяўляецца існуючым сам па сабе. Усё, што мы бачым, усё, што мы чуем, нашы адчуванні, цалкам так жа, як і ўяўляючыяся нам аб'екты, – усё гэта ўключаецца ў колазварот паходжання і знішчэння. Але адкуль гэты колазварот бярэ пачатак? Усё адно, адкуль бы ён ні паходзіў, – ён існуе спрадвеку. Умоўнае тут прызнаецца, як факт, розум не адважваецца атаясаміць яго з безумоўным.

Паглядзім, – працягвае ён далей, але не прыводзіць выказванняў, ці так разумеюць гэтае пытанне буддыйскія тэксты.

"І прыйшоў вандруючы манах, Вахагота, у тое месца, дзе знаходзіўся Ўсявышні".

– Як патрэбна лічыць, Гатама, ці існуе Я?

Узнёслы маўчаў.

– Магчыма, шаноўны Гатама, Я не існуе?

І зноў Узнёслы не адказваў нічога. Тады вандруючы манах Вахагота падняўся са свайго месца і пайшоў.

Калі ён зышоў, шаноўны Ананда запытаў Узнёслага:

– Чаму ж, шаноўны Ўзнёслы ты не адказваў на пытанні?

– Калі б я, Ананда, на пытанне "ці існуе Я? "адказаў яму: "Я існуе ", то гэта б, Ананда, падцвердзіла вучэнне саманаў і браманаў, якія вераць у вечнасць[96]. А калі б я, Ананда, на другае пытанне адказваў: "Я не існуе", то гэта б, Ананда, пацвердзіла б вучэнне саманаў і браманаў, якія вераць у знішчэнне".

Такім чынам, – выказваецца Альдэнберг (стар. 256), – афіцыйнае царкоўнае вучэнне прызнае, што Ўзнёслы Будда нічога не тлумачыць адносна пытання: "ці існуе Я?" і адносна таго, ці працягвае жыць пасьля сьмерці Дасканалы Сьвяты, ўхіліўшыся ад адказу на пытанне пра замагільнае жыццё.

Із іншых тэкстаў, у якіх знаходзіцца такае ўхіленне ад пытанняў пра апошнюю мэту, прывядзем яшчэ наступны дыялог.

Да настаўніка прыходзіць шаноўны Малункіапута і выказвае сваё здзіўленне наконт таго, што яго павучанне пакідае без адказу шэраг самых важных і самых глыбокіх пытанняў. Ці вечны сьвет ці абмежаваны ў часе? Ці бясконцы сьвет, ці ён мае заканчэнне? Ці будзе жыць Дасканалы Будда пасьля сьмерці? "Мне не падабаецца, што ўсе гэтыя пытанні пакідаюцца без адказу, – кажа манах, – і гэта

---

[95] Уводзіны да твораў Рожэрса.

[96] Некаторыя саманы і браманы, якія вераць у вечнае існаванне, павучаюць, што "Я і сьвет будуць вечнымі".

мне здаецца несправядлівым. Няхай Будда адкажа, калі ён можа". "Шчыры чалавек, калі ён нечага не ведае, калі нечага не разумее, то так прама і адказвае: "Я гэтага не ведаю, я гэтага не разумею".

Мы бачым, што пытанне пра Нірвану ставіцца для Будды гэтым манахам вельмі прама. Што ж адказвае Будда? Ён адказвае:

"– Ці казаў я табе, Малункіапута, будзь маім вучнем? Ці казалі, што я буду вучыць цябе, ці вечны сьвет ці не вечны, ці абмежаваны ён ці бясконцы. Ці тоесна з целам жыццёвая магутнасць ці адрозная ад яго. Ці жыве пасьля сьмерці Дасканалы, ці не? Ці жыве Дасканалы пасьля сьмерці і разам з тым не жыве?

– Ты мне не казаў гэтага, божа.

– Ці, магчыма, – працягвае Будда, – ты сам мне казаў: я хачу быць тваім вучнем, адкрый мне, ці вечны сьвет ці не вечны? Таму, Малункіапута, хай застанецца не адкрытым тое, што я не адкрыў, і хай будзе адкрыта тое, што я адкрыў".

Але ўхіленне ад адказу на пытанне, якое ўвесь час павінна было ўзнікаць у рэлігійнай сьвядомасьці, не магло выкарчаваць із розумаў вучняў Будды неабходнасьці ў нейкім адказе – станоўчым або адмоўным.

І вось адзін із тэкстаў паведамляе, што цар Козалы сустрэў на дарозе паміж двума сваімі сталіцамі знакамітую сваёй мудрасьцю вучаніцу Будды, манахіню Кхему.

Цар выказаў ёй пашану і пачаў яе распытваць пра сьвяшчэннае вучэнне.

"– Ці існуе, шаноўная, – пытаецца цар, – Дасканалы пасьля сьмерці?

– Ўзнёслы не паведаміў, вялікі цар, каб Дасканалы існаваў пасьля сьмерці.

– Гэта азначае, Дасканалы не існуе пасьля сьмерці, шаноўная?

– І гэтага, вялікі цар, не паведаміў Узнёслы, каб Дасканалы не існаваў пасьля сьмерці.

– Гэта азначае, шаноўная, Дасканалы існуе пасьля сьмерці і разам з тым не існуе?

Адказ заўсёды адзін і той жа:

– Узнёслы не паведаміў гэтага.

Цар здзіўлены.

– Што ж за падстава, шаноўная, што за нагода, дзеля якой Узнёслы гэтага не паведаміў?

– Дазволь, вялікі цар, мне запытаць у цябе самога, – адказвае манахіня, – ці няма ў цябе лічыльніка, які б мог пералічыць пяшчынкі Ганга, які мог бы сказаць: тут столькі-та пяшчынак ці столькі-та сотняў, ці тысяч, або сотняў тысяч пяшчынак?

– Такага лічыльніка ў мяне няма, шаноўная.

– Ці ў цябе, магчыма, існуе лічыльнік, які мог бы памераць колькасць вады ў вялікім акеане і сказаць: у ім столькі-та вёдраў вады?

– Такага ў мяне няма, шаноўная.

– А чаму няма? Вялікі акіян глыбокі – бяздонны, нявымяральны. Дакладна так жа, вялікі цар, і сутнасць Дасканалага не можа быць палічана лічбамі цялеснага сьвету; яна глыбокая, бяздонная, невымяральная, як вялікі океан. Нельга сказаць, што Дасканалы існуе пасьля сьмерці, але таксама нельга сказаць, што Дасканалы не існуе пасьля сьмерці; можна сказаць, што Дасканалы існуе пасьля сьмерці і ў той жа час не існуе.

Тады цар Козалы прыняў з ухвалай тлумачэнні манахіні, падняўся са свайго месца, з павагай схіліўся перад ёю і з'ехаў".

І Альдэнберг фармулюе індусам сутнасць адказу іхнай манахіні так: "Той, хто выкарыстоўвае ў дачыненні да безумоўнага такія прэдыкаты, як існаванне і нябыт, прыдатныя толькі для пазначэння канчатковага ўмоўнага, падобны на чалавека, які паспрабаваў бы пералічыць пясок у Гангу або кроплі ў моры. Але ён не адзіны:

“Ніякай меркай нельга вымераць таго, хто пайшоў із жыцця; не існуе слоў, якімі можна выказвацца пра яго. Як усе формы інавання забраны ў яго, так і ў гаворцы не хапае выразаў для яго вызначэння”.

Пакажам яшчэ адзін тэкст, у якім выказваецца стаўленне да гэтага пытання.

“Нейкі манах, на імя Ямака, выказваў ерэтычнае меркаванне:

“Я разумею абвешчанае Ўзнёслым вучэнне такім чынам, што манах, які вызваліўся ад грахоў, калі распадаецца яго цела, падлягае знішчэнню, што ён знікае, што ён не існуе пасьля сьмерці”.

Навукоўцы, лічачыя, што буддыйскае веравызнанне прызнае мэтай жыцця Дасканалага нябыт, магуць із гэтага месца зрабіць выснову, што манах Ямака менавіта за гэтае меркаванне названы ерэтыкам. Шаноўны Сарыпута бярэ на сябе яго зварот.

“– Як ты лічыш шаноўны Ямака, ці ўяўляе цела Будды яго сапраўднае Я? Ці думаеш ты такім чынам?

– Не, дружа, я так не думаю.

– А ці тоесны Дасканалы з яго адчуваннямі? Ці тоесны ён з уяўленнямі, формамі існаванія, веданнем? Ці лічыш ты такім чынам?

– Не, дружа, я так не лічу.

– Ці лічыш ты, дружа Ямака, што Дасканалы змяшчаецца ў цялеснасьці, у адчуваннях і г. д.?

– Не, дружа, я так не лічу.

– Ці лічыш ты, што Дасканалы аддзелены ад цялеснасьці... і г. д.

– Не, дружа, я так не лічу.

– Ці лічыш ты, дружа Ямака, што Дасканалы адрозны ад цялеснасьці, адчуванняў, уяўленняў, формаў і ведаў?

– Не, дружа, я так не лічу.

– І так, дружа Ямака, ты сапраўды не можаш зразумець Дасканалага нават у гэтым сьвеце. Якае ж права ты маеш выказвацца: “Я разумею абвешчанае Ўзнёслым вучэнне такім чынам, што манах, які вызваліцца ад грахоў, калі яго цела распадаецца, падлягае знішчэнню, што ён знікае, што ён не існуе пасьля сьмерці?

– Дружа Сарыпуці, – адказвае тады яму зняслаўлены манах, – гэта (пра знішчэнне пасьля сьмерці) я прыдумаў дзякуючы свайму невуцтву. Але зараз, калі я пачуў вучэнне шаноўнага Сарыпуты, я адмовіўся ад свайго ерэтычнага меркавання і зведаў яго вучэнне.

Існуе, вучні, не народжанае, не створанае, не зробленае, не маючае формы. І калі б гэта не народжанае, не створанае, не зробленае, не маючае формы не існавала, то для народжанага, створанага, зробленага, маючага форму не было б выйсьця – паведамляе рукапіс Удана”.

Відаць, гэтыя словы нагадваюць нам выказванні браманскіх філосафаў пра Браму, не народжанага, не часовага, які ні вялікі ні малы, імя якога “не тое, і не гэтае”, так як ніводнае слова не ў стане ахапіць яго сутнасць. І, аднак, гэтыя выказванні ў дачыненні да ўсяго буддыйскага складу думак набываюць цалкам іншае значэнне. Для брамана рэчаіснасць не створанага настолькі вялікая, што перад ёй блякне рэчаіснасць створанага. Існаванне і жыццё створанага бяруць пачатак толькі ад створанага. Для буддыста ж словы: “існуе не створанае” азначае толькі тое, што не створанае мажа быць выкуплена ад пакут стварэння, што існуе шлях із сусьвету створанага у бясконцую невядомасць. Але ці вядзе гэты шлях да новага існавання ці ён вядзе да нябыту? Буддыйскае веравызнанне вагаецца паміж гэтымі абодвума рашэннямі. Думка пра бясконцае, пра вечнае ні ў адной із рэлігій не заходзіць у такую бязмежную далечыню, як у буддызме. Для буддыста гэтая думка лёгкае дыханне, пагражаючае знікнуць кожную хвіліну, пагрузіцца ў нябыт.

Усе гэтыя высновы Альдэнберга пра складанасць буддыйскай рэлігійнай філасофіі вельмі цікавыя, і таму было б вельмі добра, калі б буддыйскія мудрацы і адраджэнцы Індыі, Тыбету, Кітая і Манголіі прачыталі іх хаця б у гэтым маім скарочаным і папулярызаваным выкладанні.

Немагчыма ж на самай справе, каб мы, еўрапейцы, ведалі пра іх нашмат больш таго, што яны самі ведаюць пра сябе!

# Глава XI

## Першапачатковыя ўяўленні будыстаў.

Апакрыфічнасць высокафіласафічных буддыйскіх кніг лепш за ўсё даказваецца вялізнай колькасцю паданняў цалкам адрознага тону.

Ад імя Будды ніколі не пішуць на санскрыце, а толькі на гаворцы ўсходняга Індастана. Дарэчы, яго слова не злучана ні з якім дыялектам і традыцыя прыпісвае яму наступны наказ: “Я загадваю, вучні, каб кожны вучыў на сваёй мове”.

Яго разуменні ў сапраўдных дакументах такія блізкія да еўрапейскай метафізікі сярэдневечча, што сам Альдэнберг (стар. 172) выказваецца:

“Разглядаючы буддызм з гэтага боку, мы павінны паставіць Будду побач не з заснавальнікам хрысьціянства, а з кім-небудзь із яго пазнейшых тэалагічных пасьлядоўнікаў, накшталт Арыгена”.

Сінтактычная пабудова яго выказванняў мае ўрачысты гіератычны характар і размеранасць выказванняў хутчэй пераходзіць у цяжкаватую значнасць. У выказваннях яго дабраславення не гучыць ніякай унутранай духоўнай працы, у іх няма той магутнасьці, якую маюць выказванні выдатнага чалавека, няма і суровасьці, неаддзельнай ад гэтай магутнасьці. Не заўважаецца ніякага бурлівага імкнення да веравызнання, ніякай горычы супраць няверання. У яго прамовах адно цьверджанне аднастайна размяшчаецца побач з другім – ўсё адно, ці гаворыцца пра нікчэмныя пытанні ці пра значныя. Кожная думка мае аднолькавае права быць выказанай на вядомым пэўным месцы, праз што і ўзнікаюць бясконцыя паўтарэнні. Вось хаця б цікавая прамова ад імя Будды, што ў чалавека столькі ж пакут, колькі і шанавання:

“Хто мае сторазовае шанаванне. Той мае сторазовыя пакуты; у каго дзевяностаразовае шанаванне – у таго дзевяностаразовыя пакуты”. І так далей, пакуль не перабралі ўвесь шэраг лічбаў без якіх бы то ні было выняткаў і на прыканцы наступнае заключэнне: “у каго адно шанаванне ў таго і адна пакута, а хто не мае шанаванняў, той не мае і пакут”. І вялікая частка павучальных прамоваў падобныя на гэту. Такім жа з’яўляецца, напрыклад, адно із самых знакамітых павучанняў, выказваючае думку, што ўсе адчуванні чалавека і ўвесь сьвет ахопліваецца і пажыраецца, як полымем, прыносячымі пакуты магутнасцьмі зямнога і хуткапраходзячага існавання.

І паведаміў Узнёслы вучням сваім:

“Усё, вучні, знаходзіцца ў полымі і што ж гэта ўсё, што знаходзіцца ў полымі? Усё бачнае знаходзіцца ў полымі; вывучэнне бачнага знаходзіцца ў полымі; адчуванні, якія ўзнікаюць ад судотыку з бачным – будзе гэта радасць ці пакута, ці будзе гэта ні радасць, ні пакута – таксама знаходзіцца ў полымі.

Якім жа полымем запальваецца ўсё гэта? Запальваецца гэта полымем жадання, полымем нянавісьці, полымем асляплення, запальваецца нараджэннем, старасьцю, сьмерцю, маркотай, смуткам, пакутамі, клопатам і роспаччу – так гавару я.

Вуха знаходзіцца ў полымі, усе чуемае знаходзіцца ў полымі, стаўленне да пачутага знаходзіцца ў полымі, адчуванне ўзнікаючае ад стаўлення да пачутага – будзе гэта радасць ці пакута, ці будзе гэта ні пакута, ні радасць – таксама знаходзіцца ў полымі.

Якім жа полымем запальваецца ўсё гэта? Запальваецца гэта полымем здзяйсненняў, полымем нянавісьці, полымем асляплення, запальваецца нараджэннем, старасьцю, сьмерцю, маркотай, смуткам, пакутамі, клопатам і роспаччу – так гавару я.

Нюх знаходзіцца ў полымі, язык знаходзіцца ў полымі, цела знаходзіцца ў полымі і розум знаходзіцца ў полымі” і так далей і затым кожны раз цалкам паўтараецца той жа прыпеў. Затым выказванне працягваецца такім чынам:

“Уведаўшы гэта, вучні, мудры, прыстойны слухач слова робіцца незадаволеным усім бачаным, уведаннем бачанага, судатыканнем з бачаным, робіцца ён незадаволеным адчуваннем, якое ўзнікае ад судотыку з бачаным – ці будзе гэта радасць або пакута, ці будзе гэта ні радасць, ні пакута. Ён робіцца незадаволеным слыхам”, – і зноў паўтараюцца тыя ж самыя шэрагі разуменняў, як і раней, і Будда такім чынам заканчвае сваю прамову:

“Калі ён робіцца незадаволеным усім гэтым, то ён вызваляецца ад здзяйсненняў, ён робіцца адкупленым, у адкупленым жа ўзнікае веданне: я адкуплены, адраджэнне знішчана, абавязак выкананы, для мяне больш няма вяртання да зямнога жыцця – так уведвае выкуплены”.

Вядома, і ў Бібліі мы назіраем выпадкі, калі часта паўтараюцца тыя ж самые выказванні, але тут гэта ўжо даведзена да крайняй мяжы. І гэта ж не апокрыф нашага часу, а сапраўды запісаны кімсьці ўзор буддыйскай мудрасьці. А вось яшчэ прыклад, таксама ўзяты із кнігі Альдэнберга (стар. 176).

“І пайшлі восемдзесят тысяч вясковых старэйшын да глыбокашануемага Сагаты. Прыйшоўшы да яго, яны прамовілі:

– Прыйшлі восемдзесяць тысяч вясковых старэйшын пабачыць Ўзвышанага. Дазволь нам бачыць яго.

– Пачакайце трохі, сябры, пакуль я паведамлю Ўзвышанаму.

І знік Сагата з ганку пры ўваходзе ў дом кляштарскі, з вачэй васьмідзесяці тысяч вясковых старэйшын. Ён з'явіўся перад тварам Узнёслага і сказаў яму:

– Госпадзі, восемдзесят тысяч вясковых старэйшын прыйшлі пабачыць Узнёслага. Што пажадае Ўзнёслы зараз зрабіць, ды на тое будзе воля яго.

– Падрыхтуй жа для мяне месца, Сагата, у цені кляштарскага будынку.

– Ды будзе так, госпадзі, – адказаў Узнёсламу шаноўны Сагата, узяў крэсла, знік з вачэй Узнёслага і з'явіўся на ганку перад тварам васьмідзесяці тысяч вясковых старэйшын і падрыхтаваў месца ў цені кляштарскай пабудовы. І выйшаў тады Ўзнёслы із кляштарскай пабудовы і сеў на месца прыгатаванае ў цені.

І падышлі да Ўзвышанага восемдзесят тысяч вясковых старэйшын; падышоўшы да яго, сталі перад ім на калені і селі побач адзін каля другога. Але думкі свае восемдзесят тысяч вясковых старэйшын накіроўвалі толькі на шаноўнага Сагату, а не на Ўзнёслага. І ўведаў Узнёслы ў духу сваім думкі васьмідзесяці тысяч вясковых старэйшын і сказаў глыбокашануемаму Сагаце:

– Здзейсні ж, Сагата, перад імі вялікі цуд нечалавечай магутнасьці.

– Ды так будзе, госпадзі, – адказаў Узнёсламу шаноўны Сагата.

Ён падняўся ў паветра, і ў вышыні, у паветранай прасторы, хадзіў, стаяў, апускаўся, садзіўся, выпускаў дым і полымя, і потым знік.

І калі шаноўны Сагата ў вышыні, у паветранай прасторы здзяйсняў такія цуды, то схіліў ён галаву сваю да ног Узвышанага і сказаў яму:

– Госпадзі, настаўнік мой – Узнёслы, а я яго вучань.

І падумалі тады восемдзесят тысяч вясковых старэйшын:

“Сапраўды, гэта велічна, сапраўды гэта цудоўна; калі вучань такі вялікі і магутны, то які́м жа павінен быць настаўнік”.

І накіравалі яны свае думкі на Ўзнёслага, а не на шаноўнага Сагату. І ўведаў Ўзнёслы ў розуме сваім думкі васьмідзесяці тысяч вясковых старэйшын і павучаў ім слова сваё па парадку: пра падаянні, пра справядлівасць, пра неба, пра пагібельнасць і марнасць задавальненняў, пра ўзнагароду вызвалення ад задавальненняў.

Калі Ўзнёслы ўведаў, што іхныя думкі вызвалены ад розных перашкод, узвышаныя і схільныя да яго, тады павучаў ён ім галоўнае вучэнне Будды: пра пакуты, пра з'яўленне пакут, пра знішчэнне пакут і пра шлях да знішчэння пакут.

Як чыстае адзенне пасьля мыцця атрымлівае належачы колер, так і ў гэтых васьмідзесяці тысячах вясковых старэйшын выявілася чыстае, незаплямленае веданне ісьціны, што ўсё, падпарадкаванае закону ўзнікнення, падпарадкавана і закону знішчэння. І ўведаўшы вучэнне, прасякнутыя ім, ведаючы вучэнне, пагрузіўшыся ў яго, перамогшы сумневы, вызваліўшыся ад ваганняў, паверыўшы ў словы настаўніка, прамовілі яны Ўзнёсламу:

– Сапраўды так, госпадзі, як падымаюць нахіленае, як знаходзяць схаванае, або паказваюць шлях заблудзіўшамуся, або як наладжваюць у змроку сьветач, каб кожны мог бачыць атачаючае, так і Ўзнёслы ў сваёй прамове абвясьціў нам вучэнне. Звяртаемся, госпадзі, да Ўзвышанага, да Законаў і да Суполкі вучняў. Хай Ўзнёслы лічыць нас сваімі сьвецкімі вучнямі, бо ад гэтага часу і на ўсё наша жыццё мы звяртаемся да яго”.

Гэтае апавяданне пра наведванне Будды старэйшынамі, – кажа Альдэнберг, – можа лічыцца тыповым: у сьвятых тэкстах пры ўсіх падобных выпадках без канца паўтараюцца тыя ж самыя падрабязнасьці.

Час ад часу знешняя форма гэтых апавяданняў змяняецца, замест павучанняў з'яўляюцца дыялогі, Будда задае пытанні, або нехта задае пытанні яму. Аўтары сьвятых тэкстаў, нягледзячы на штучную, прыдуманую імі тэорыю пра розныя роды пытанняў, рашуча не здольны намаляваць жывую выяву. У іх не заўважаецца ні найменшай прыкметы драматычнага таленту. Людзі, размаўляючыя з Буддай, вымаўляюць толькі “так” або, калі яны яго злыя праціўнікі, то з сорамам замаўкаюць і нарэшце падзяляюць яго вучэнне.

Цікавы прыклад таго, як сьвятыя тэксты ставяцца да мастацкіх патрабаванняў, уяўляе гісторыя пра размову Будды з нявесткай Анатапіндыкі.

Будда падыходзіць да сядзібы свайго заможнага і шчодрага прыхільніка, купца Анатапіндыка, ён чуе там гучную размову і пытаецца:

“Пра што крычаць людзі ў гэтай сядзібе? Можна падумаць, што ў рыбакаў рыбу скралі”.

Анатапіндыка паведамляе Буддзе пра сваё гора: у яго сядзібу прыйшла нявестка із заможнай сям’і і не жадае слухацца ні свайго чалавека, ні яго бацькоў і адмаўляецца даваць належачыя ўшанаванні Буддзе. Будда кажа ёй:

“– Ідзі, Суджата, сюды.

– Іду, госпадзі, – адказвае яна і падыходзіць да Будды, а ён кажа ёй:

– Суджата, існуе сем родаў жонак, якія магуць дастацца мужчынам. Адна падобна на забойцу, другая на рабаўніцу, трэцяя на спадарыню, чацьвёртая на маці, пятая на сястру, шостая на сяброўку, сёмая на служанку. Такімі, Суджата, з’яўляюцца сем родаў жонак, якія магуць дастацца чалавеку. Да якога роду жонак належыш ты?

Суджата забываецца пра ўсю сваю ўпартасць і напышівасць і сціпла адказвае:

– Не разумею, госпадзі, сэнсу таго, што сказаў Узнёслы. Паведамі мне сваё вучэнне, каб я магла зразумець тое, што ты коратка сказаў.

– Слухай жа, Суджата, і прымі да сэрца тое, што я табе паведамлю.

– Слушаю, госпадзі, – адкажала Суджата”.

Будда апісвае ёй сем родаў жанчын, ад самых дрэнных, прывязваючыхся да іншых мужчын, пагарджаючых сваім чалавекам і робячых замах на яго жыццё, да лепшых, адданых волі чалавека, як служанкі і без нараканняў пераносячых усё, што ён ні скажа і ні зробіць.

"– Такімі, Суджата, з'яўляюцца сем родаў жонак, якія магуць дастацца мужчыне. Да якога рода жонак належыш ты?

– Ад гэтага часу, божа, хай Узнёслы лічыце мяне жанчынай, якая падобна на служанку свайго чалавека".

Але амаль падобнае мы чытаем ў жыціях сьвятых, як яны ганьбавалі сваіх супернікаў.

У іншай размовае паміж Будай і браманам гаворка ідзе пра дачыненні паміж чатырма кастамі і пра дамаганні. У гэтай размове Будда надае сваёй крытыцы форму пытанняў і адказаў.

"Калі запытаць кшатрыю (шляхетнага) такім чынам: каму ты будзеш служыць? Ці таму, у каго за тваю службу табе будзе не лепш, а горш, ці таму, у каго табе будзе не горш, а лепш. Кшатрыя, калі пажадае адказаць то адкажа, адкажа так: "я не буду служыць таму, у якога за сваю службу мне будзе не лепш, а горш, а я буду служыць таму, у каго за маю службу мне будзе не горш, а лепш". Потым індукцыя ідзе далей:

"Калі запытаць брамана, – калі запытаеш вайсію, калі запытаеш шудру".

Натуральна, што адказ кожны раз атрымліваецца адзін і той жа і вось Будда прыходзіць да наступнай канчатковай высновы.

"Я кажу, што служыць патрэбна тады, калі, дзякуючы службе іншаму, павялічваецца вера, павялічваецца дабрачыннасць, павялічваюцца веды і ўведванне".

Евангельскім алягорыям адпвядаюць і буддыйскія. Так павучанне Будды пра адкупленне параўноўваецца з дзейнасьцю лекара, дастаючага із раны атручаную стралу і гаючымі травамі перамагаючага магутнасць атруты. Суполка яго вучняў прыпадабняецца мору, у глыбіні якога ляжаць пярліны і крысталы, у якім жывуць вялізныя пачвары, у якое прыцякаюць рэкі, дзе яны і губляюць сваё імя і робяцца морам. Як земляроб апрацоўвае сваё поле, засявае насеннем і праводзіць да яго ваду, але не мае пры гэтым магчымасьці сказаць: "сёння расліна пачне расьці, а заўтра яна паспее", а павінен чакаць належнага часу, калі вырасьце і паспее яго хлеб, – так бывае і з вучнем, імкнучымся да выратавання: ён не можа сказаць: "сёння або заўтра дух мой будзе адкуплены ад усяго нячыстага", а павінен чакаць, пакуль не прыйдзе яго час і пакуль ён не атрымае адкуплення.

"У лесе, на горным узвышшы, – кажа ён, – вялікая нізіна, напоўненая вадой; жыве тут вялікі статак дзікіх жывёл. І прыходзіць сюды чалавек, жадаючы зрабіць дзікім жывёлам шкоду, пакуты і няшчасьце. Ён хавае правільны шлях, па якім хадзіць бяспечна, і адкрывае ілжывы багністы шлях, балоцістую сцежку. І тады вялікі статак дзікіх жывёл пакутуе ад шкоды і небяспекі і памяншаецца. А пазней прыходзіць чалавек, жадаючы дабра і росквіту гэтаму статку жывёл; ён паказвае правільны шлях, па якім хадзіць небяспечна, закрывае ілжывы багністы шлях, балотную сьцежку. Тады вялікі статак дзікіх жывёл будзе квітнець, расьці, памнажацца. Сэнс гэтага параўнання, вучні, такі: вялікая нізіна і вада па-сутнасьці задавальненні, вялікі статак дзікіх жывёл – людзі; чалавек, які імкнецца да шкоды, пакут і нястач – злы Мара; ілжывы шлях, вучні, з'яўляецца васьмірадным шляхам, а менавіта: падманнае веравызнанне, падманнае рашэнне, падманныя словы, падманныя справы, падманнае жыццё, падманныя імкненні, падманныя ўспаміны і падманнае самапаглыбленне; багністым шляхам з'яўляецца юрлівасць і жаданні; балоцістай сцежкай з'яўляецца невуцтва. Чалавек, які імкнецца да дабра, квітнення, шчасьця, – гэтым чалавекам, вучні, з'яўляецца Дасканалы Сьвяты, Найвялікшы Будда. Верны, бяспечны шлях, па якому карысна ісьці – гэта сьвяты васьмірадны шлях, а менавіта: праведнае веравызнанне, праведныя рашэнні, праведныя словы, праведныя

справы, праведнае жыццё, праведныя імкненні, праведныя ўспаміны і праведнае самапаглыбленне. Такім чынам я, вучні, паказаў правільны бяспечны шлях, па якому карыснаісьці. Ілжывы шлях – закрыты; багністы шлях, балоцістая сьцежка – знішчаны. Усё, што павінен рабіць настаўнік, які імкнецца да выратавання сваіх вучняў, які мае да іх міласэрнасць – усё гэта я зрабіў для вас, мае вучні”.

Усё гэта ўжо нагадвае ўплыў Евангелляў, але да іх існуюць і дадаткі, накшталт пазнейшых гімнаў хрысьціянскай царквы, пададобе Іжэ Херувімскага. Я прывяду толькі адзін із Альдэнберга (стар. 184).

“Доўгая для няспячага ноч,
І шлях для стаміўшагася падарожніка доўгі, -
Доўгая адраджэння пакута,
Пакуль не пабачыў ён сапраўдны сьвет.
Як глыбокае мора спакойнае,
Як люстэркава празрыстыя глыбокія воды –
Так слухаючы ісьціны словы
Знаходзіць заспакаенне каля мудрага сэрца
Плынь існавання падаўляй ты насільна,
Асалоды із сэрца ты ўсе прагані.
Усведамляючы канец існавання.
Вечнае той назірае.
У бясконцым шэрагу адраджэнняў
Стваральніка існуючага ўсё я шукаў.
Сумнае народжанага жэрабя.
Будаўнік, цябе я нарэшце знайшоў.
Зноў не пабудуеш ты дом мой.
Разбурана будоўля твая,
Разбурэны хаты асновы.
Ад сусьвету пайшоўшае сэрца
Дасягнула жаданага межаў”.

Як Хрыстос прадказаў сваю сьмерць вучням, так і Будда. Узнёслы паведаміў манахам: “Праўду, праўду кажу вам, манахі – усё зямное схільна да пагібелі, маліцеся няспынна; хутка наступіць для Дасканалага Нірвана, праз тры месяцы пойдзе Дасканалы ў Нірвану”. Так паведаміў Узнёслы, і потым настаўнік працягваў выказвацца так:

“Плён мой паспеў, блізка мэта майго жыцця,
Я сыходжу, – вы застаецеся, гатова для мяне месца прыстанішча.
Будзьце пастаянна пільнымі, жывіце заўсёды ў сьвятасьці.
Захоўвайце, вучні, дух ваш пастаянна рашучым і гатовым.
Хто жыве без ваганняў, верны слову праўды,
Той пазбаўляецца ад нараджэння і сьмерці і дасягае канца ўсякіх пакут”.

Нарэшце Будда прыйшоў да Кузінара, там на беразе ракі Гіраніаваці (Хота-Кондак) знаходзіўся густы лес. “Ідзі, Ананда, – кажа Будда – Падрыхтуй мне ложак паміж двума дрэвамі галавой на поўнач. Я стаміўся, Ананда, і хачу легчы”.

Гэты час не быў часам цвіцення дрэваў, але гэтыя два дрэвы зверху да нізу былі пакрыты кветкамі. Будда лёг пад квітнеючымі дрэвамі і кветкі пачалі падаць на яго. З дрэваў падаў цэлы дождж кветак і мудрацы на небе ў гонар паміраючага сьвятога спявалі ўрачыстыя песьні.

Пры наступленні ночы прыйшлі ў лес з Кузінары шляхетныя жыхары гэтага горада з жанчынамі і дзецьмі, каб у апошні раз пакланіцца паміраючаму настаўніку.

Перад самай сваёй сьмерцю Будда сказаў Анандзе: “магчыма, вы, Ананда, падумаеце: слова страціла свайго настаўніка; ў нас няма больш настаўніка. Так вы не павінны думаць, Ананда: вучэнне, якае я абвясьціў вам, і правілам, якога я навучыў, – вось ваш настаўнік, калі я пайду ад вас”.

І звяртаючыся да вучняў, ён прамовіў: “Праўду, праўду кажу вам, вучні мае, усё створанае хутка праходзіць, змагайцеся няспынна” – такімі былі яго апошнія словы.

І падняўся яго дух ад аднаго да другога экстазаў па ўсіх прыступках ухвалення; і патым ён накіраваўся ў Нірвану. І вось Брама вымавіў наступнае выслоўе:

“У сьвеце ўсе істоты цела сваё пакідаюць –
Так і зараз Будда пераможны, сусьвету вялікі настаўнік,
Найдасканалейшы, магутны, у Нірвану сышоў”.

Мы бачым, што эпізод пра ўкрыжаванне Хрыста цалкам выключаны із буддыйскай легенды, як не існуе ён і ў іншых варыянтах таго ж паходжання; у міфе пра прарока Ілію, які ўзнёсся на неба перад сваім вучнем Елісеем – Анандай буддыйскага міфа; як няма яго і ў міфе пра Ісуса Навіна і пра вялікага цара-месію; ды і ў лягендзе Чэцці-Мінеі пра вялікага цара (Васіля Вялікага). Ці вынікае із гэтага, што і ўсё апавяданне Евангелляў пра слупаванне Хрыста і пра месяцовае зацьменне здарыўшаяся пры гэтым з’яўляецца міфам? Пра тое, што само зацьменне 21 сакавіка 368 года пры Васілю Вялікім адбылося ў рэчаіснасьці, у гэтым няма сумневаў, як мне здаецца і ў тым, што яно было пад час нейкіх здзекаў над патрапіўшым у рукі свайго суперніка заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства, якае і выратавала яго і пасьля яго ён, ператварыўшыся ў хадзячага настаўніка, жыў яшчэ не адзін год, як і вялікі цар у Жыціях Сьвятых. Евангеллі ж толькі паспяшаліся выправіць яго на неба.

# Глава XII

## Характарыстыка нашых ведаў пра Будду.

Знойдзеныя ў Непале тэксты: Лаліта Вістара, Дывія Авадана і Магавасту, знойдзены, наколькі мне вядома, да гэтага часу толькі ў адным экзэмпляры, а як следства не мелі распаўсюджвання аж да іх знаходжання, што безумоўна паказвае на іхную сфальсіфікаванасць. Такімі ж павінны лічыцца і слаўныя адкрыцці тэкстаў секты Джайна Мюллераі і Якбі.

Біяграфій Будды ад эпохі Палійскіх сьвятых тэкстаў не захавалася, і мы можам з упэўненасьцю сказаць, што яна і не існавала[97].

Але калі б гэта было так, то замест трох кошыкаў, мы б ужо мелі столькі перапісанных з іх асобнікаў, што іх магчыма было б знайці ў кожным буддыйскім храме. А ці так гэта?

Але чаму ж паданні пра жыццё Будды з'явіліся толькі праз некалькі стагоддзяў пасьля яго ўяўлеямага жыцця. Цалкам падобная ж з'ява заўважаецца і ў старажытных хрысьціянскіх суполках, – адказвае нам Альдэнберг (стар. 87). –

[97] Доказы на карысць такой здагадкі знаходзяцца ў некаторых сведчаннях у тэкстах Палійскай літаратуры; а таксама і ў адсутнасьці ў ёй некаторых дадзеных. У помніках гэтай літаратуры мы не знаходзім ні найменшага намёка на існаванне біяграфіі Будды і гэта ўжо само па сабе вельмі значна. Знікненне тэкстаў, некалі існаваўшых, і знікненне якіх бы та ні было ўспамінаў пра іхнае існаванне справа нечувалая ў гісторыі.

Яшчэ задоўга да таго часу, калі пачалі апісваць жыццё Езуса ў нашых Евангеллях, у хрысьціянскіх суполках былі ўжо распаўсюджаны зборы прамоваў і выслоўяў Езуса.

Гэтыя зборы прамоваў Езуса не маюць ніякіх дамаганняў на нейкі гістарычны прагматызм або на храналагічную пасьлядоўнасць; тое ж самае можна сказаць і пра ўспаміны Ксенафона пра Сакрата: у іх спосаб дзейнасьці Сакрата высвятляецца з дапамогай яго асобных размоваў. Але пра жыццё Сакрата нам не паведамляюць ні Ксенафен, ні нехта іншы са старажытных сакратыкаў, – ды і што магло прымусіць іх заняцца гэтым пытаннем? Для сакратыкаў асоба Сакрата мела значэнне дзякуючы мудрым выказванням, якія рабіў вялікі філосаф, а не дзякуючы аднастайным знешнім падзеям яго жыцця.

Цалкам падобным жа чынам ішло развіццё паданняў пра Будду. Спачатку ў суполцы пачалі запамінаць і перадаваць выказванні вялікага настаўніка, або, ва ўскім разе, манеру яго выказванняў. Пазначалі таксама дзе і калі ён выказваў або павінен быў выказаць кожнае слова; гэта было патрэбна для канкрэтнага вызначэння становішча і для таго, каб праўдзівасць слоў Будды была вышэй усякіх сумневаў; але менавіта калі Будда выказваў тое або іншае, пра гэта не пыталіся. Апавяданне пра гэта пачыналася звычайна такім чынам: “пад час оны” або: “у гэты час Узнёслы Будда знаходзіўся ў такім-та і ў такім-та месцы”. У Індыі наогул ніколі не існавала прыраднага адчування.

І вось згодна са сведчаннем самога Альдэнберга гістарычнае адчуванне з'явілася толькі ў еўрапейскіх гісторыкаў, прыехаўшых у Індыю ў нашы часы, і яно хутка зрабіла там цуды. Уся гісторыя гэтай краіны паўстала перад яе здзіўленымі насельнікамі, як па чарадзейству. І ў гэтым чароўным сьвятле жыццё настаўніка малявалася, як пры ўспыхванні бенгальскага агню. Нават у момант яго зачацця невымяральна яскравае святло запоўніла ўвесь сусьвет, сусьвет задрыжаў, чатыры багі, вартавыя чатырох бакоў сьвету прыйшлі ахоўваць цяжарную маці.

Але дзе ж ён нарадзіцца і жыў? Нават на індыйскай глебе было б немагчымым, каб суполка, назваўшаяся згодна з найменнем сына Сакіеў, не захавала б, як выходзіць, ужо праз сто гадоў пасьля яго сьмерці, хаця б і ў легендарнай форме, правільных успамінаў пра найбольш значных асоб, якія мелі дачыненне да Будды, і пра самыя вядомыя знешнія факты яго жыцця.

Або, – кажа Альдэнберг (стар. 98), – мае рацыю тая крытыка, якая бачыць тут просты падман? Або, нават назва роднага горада Будды, Капілавату, выклікае падазрэнні? Магчыма, гэта проста міфічная Капіла, месца першапачатковай істоты Капіла, заснавальніка вучэння Санкхіа[98] (аднайменна з Будда-Сакія). Не трэба шукаць у такіх найменнях міфалагічных, гістарычных і літаратурных таямніц? Асабліва калі прытрымлівацца думкі Сенара, што мы не маем дастатковых доказаў існавання такога горада і што само яго найменне азначае Паветраны Горад.

Нам кажуць, што кітайскія пілігрымы, вандраваўшыя па Індыі ў V і VII стагоддзях да Нараджэння Хрыстова, бачылі парэшткі Капілаваты. Але, – пярэчыць Сенар, – назіраючы парэшткі немагчыма зрабіць выснову, што назіраеш менавіта разбураны горад Капілавату.

Бачыць гэтага, вядома, нельга, – адкажае яму Альдэнберг (стр. 99), – але з іншага боку нельга не надаваць значэння традыцыям, захаваўшымся пра гэты горад, і манументам, якія яшчэ існавалі там падчас падарожжа кітайцаў. Але самае лепшае падцверджанне сведчанняў кітайскіх пілігрымаў заключаецца ў тым, што з

[98] У шматлікіх даследаваннях паходжанне буддызма ад філасофіі Санкхіа мае немаловажную ролю.

аднаго боку прамыя і ўскосныя ўказанні Палійскіх сьвятых кніг па месцазнаходжанне горада, а з другога боку маршруты наведваўшых яго індускіх пілігрымаў, калі іх прасачыць па мапе Індыі, цалкам супадаюць; акрамя таго, там, дзе, згодна з гэтымі сведчаннямі, знаходзілася айчына Будды, і зараз існуе рэчка, маючая тую ж назву (Рагіні), як і тая рэчка ў краіне Сакіяў, пра якую згадвае буддыйская традыцыя. Я лічу, што немагчыма знайсьці больш моцных доказаў ранейшага існавання гэтага рана загінуўшага горада.

Аднак, якімі б пераканаўчымі ні здаваліся праф. Альдэнбергу гэтыя яго доказы, яны ніяк не тлумачаць, чаму ж такае знакамітае месца пазней было цалкам забыта, тады як нейкая чорная рэчачка яшчэ захавала сваё імя? Чаму ні археолаг Кунінгем, ні Карлейль у пошуках на ёй парэшткаў не знайшлі ні іх, ні ўспамінаў пра гэты горад сярод тубыльцаў.

Маці Будды, Майя таксама, дзякуючы свайму выразнаму найменню, таксама зрабілася значнай для крытыкі. На думку Сенара, Майя, паміраючая праз некалькі хвілін пасьля нараджэння свайго сына, з'яўляецца ранішнім туманам, знікаючым пад прамянямі ранішняга сонца.

А ці не прасьцей падумаць, што гэта евангельская Марыя?

Само слова Сакія – азначае магутны, іншымі словамі, маг, і тады Сакія-Муні будзе азначаць Мудры Маг[99], а адносна горада Капілавату, дзе ён нарадзіўся, можна яшчэ сказаць, што ён цалкам невядомы ў браманскай літаратуры, хаця у адным старажытным буддыйскім дыялогу пра яго і гаворыцца, як пра багатае населенае месца, у вузкіх вуліцах якога ціснуліся сланы, павозкі, коні і людзі. Яго імя спрабавалі перакладаць як "чырвонае месца" і вось, робіць із гэтага выснову Альдэнберг (стар. 105). – гэтага цалкам дастаткова для тлумачэння наймення Капілавату, калі прыняць да ўвагі, што навадненні выраблялі змены зямной паверхні на працягу перыяду, большага за 2000 гадоў.

Што ж можа быць больш пераканаўчым за такі доказ?

"Тут былі, – фантазіруе далей аўтар, – І цяністыя сады з сажалкамі, на плавучых кветніках якіх кветкі лотаса блішчэлі ў сонечным сьвятле і вечарам далёка распасьціралі свой водар. Тут былі і загарадныя паркі, куды выпраўляліся кавалькады на сланах, дзе ў далечыні ад гарадзкога шуму ў цені высокіх густалістых манго і тамарынд панавалі спакой і адзінота (стар. 106)".

"Нам вядома, – працягвае ён далей, – што будучы Будда быў адружаны, толькі невядома з адной або з некалькімі жанчынамі, і што ў яго быў сын Рагула, які пазней зрабіўся сябрам яго духоўнага ордэна. Гэтыя сведчанні мы можам лічыць тым больш адпавядаючымі рэчаіснасьці, што тэндэнцыя стваральнікаў падання складалася б хутчэй у тым, каб замаўчаць адружанне будучага Будды, чым у тым, каб прыдумляць неіснуючае адружанне. Відавочна, што тут мы маем справу з фактамі, а не з прыдумкамі.

Але хто можа ведаць пра тое, у якой форме да яго пранік накірунак той эпохі, прымушаючы тады як мужчын так і жанчын пакідаць свае сядзібы і весьці манаскае жыццё?

Сьвятыя тэксты, у вельмі простых вобразах паказваюць нам гэта, – кажа Альдэнберг, які верыць у гістарычнае існаванне Будды. Вось словы яго самога:

"Якім багаццем, вучні, быў я надзелены і ў якой велічы я жыў. І вось узнікла ў ва мне такая думка; невуцкі звычайны чалавек, схільны да старэння і не могучы пазбегнуць яго, адчувае незадавальненне, жах і агіду, калі ён бачыць іншага ў

[99] Альдэнберг, стар. 101.

старасьці. Я таксама схільны да старэння і не вольны ад яго ўздзеяння. Ці павінен я, чалавек, схільны да старэння і не вольны ад яго ўздзеяння, адчуваць незадавальненне, жах і агіду, калі я бачу іншага ў старасьці? Гэта мне не спадабалася, і калі я так думаў пра сябе, о, вучні мае, то ў мяне знікала ўся радасць і весялосць, уласцівыя юнацтву. Невуцкі, звычайны чалавек, хаця ён і сам схільны да хваробаў і не вольны ад іхнага ўздзеяння”, – і так далей – тое ж самае, што гаварылася адносна старасьці і маладосьці паўтараецца адносна хваробы і здароўя і потым адносна сьмерці і жыцця. “Калі я, о, вучні, – такім чынам заканчваецца гэтае месца, – так думаў пра сябе, знікла ў мяне радасць існавання, уласьцівая жыццю”. І вось ён кінуў усё ў 26-гадовым узросьце. Але чаму ж не робяць таго ж самага і ўсе заможныя і шляхетныя юнакі, нягледзячы на ўсе буддыйскія і евангельскія заклікі?

Усё гэта бясплодныя фантазіі і мы ніколі нічога не зразумеем у развіцці манаства да таго часу, пакуль не прызнаем, што гэтае пазбяганне аднай стаці другой магло ўзнікнуць толькі на падставе павальнага пашэрэння венерычных захворванняў, на грунце бязладнага канкубіната жанчын са сьвятарствам на рэлігійных святкаваннях. У штодзённым жыцці гэтаму перашкаджала натуральна ўзнікаючае пачуццё рэўнасьці чалавека да жонкі і жонкі да чалавека, якое таксама выпрацавалася не без падстаў, а як сродак захавання чалавечага роду, процідзейнічаўшае пашырэнню венерычных хвароб. Узнікшае пазней пры першапачатковым нараджэнні хрысьціянства, г. азн. асьвячэнства, уяўленне пра сьятасць памазанага на духоўную ўладу сьвятарства і ўселенае ім насельніцтву ўяўленне, што <............................> для жонак і дачок, тое ж самае, як пры звычаі прычашчэння ў хрысьціян, ўспрыманне ў сябе самой божай сутнасьці, парушыла дзеянне натуральнага адчування ўласнасьці жонкі на чалавека і чалавека на жонку, і як і належала чакаць, мела пагібельныя для чалавечага рода наступствы. Толькі гэтым і магчыма растлумачыць той факт, што у абодвух пасвячальніцкіх рэлігіях зарок неадружання абавязковы для кожнага пасвечанага, але гаворыцца больш мякка, “што біскуп павінен быць чалавекам толькі адной жонкі” (Апостал Павел).

Але насельнікі, нарэшце, заўважылі, што кепскія хваробы пашыраюцца ў іхным асяроддзі, галоўным чынам, пасьля служэння іхных жонак “шаноўнай багіні” (Венеры па-латыні), відаць, першапачаткова атаясамляемай з самай яркай зоркай, заўсёды спадарожнічаўшай сонцу, хаця пазней (уяўленні пра яе, як у сне, на які падобна ўся міфічная творчасць), гэтая багіня пачала атаясамляцца то з сузор'ем Панны, то з дзевай Марыяй, імя якой ні ў якім разе нельга перакладаць словам “горкая” (як робіцца) з жыдоўскай мовы, яно павінна выводзіцца ад італьянскага словы “марына” – марская, так як Венера і лічылася выходзячай раніцай із пены марскіх хваляў, што між іншым паказвае на тое, што яе культ першапачаткова ўзнік у Мясене або ў Сіракузах, дзе Венера, і таксама сузор'е Панны, сапраўды заўсёды выходзяць із мора. Гэта азначае, што насельнікі зрабілі выснову – гэты культ ненавісны для богамаці.

Як антытэза яго першапачатковай распусты, ад яго пачалі патрабаваць манаскага жыцця, чаму аўтар Апакаліпсіса і называе першапачатковую візантыйска-рамейскую царкву маці блудадзеяў. Само сьвятарства, бачачы, што яго захворванні маюць пачатак ад аддаючыхся ім, пачало лічыць ўсіх жанчын пасудзінамі змяшчаючымі розную брыдоту і пазбягаць іх, як сатану-спакушальніка. Гісторыкі-пратакалісты, якіх не мала і зараз, вядома, мяне запытаюць: у якім старажытным дакуменце вы ўсё гэта вычыталі? А я адкажу на гэта, нават не спасылаючыся на Апакаліпсіс: гісторыя народаў, не асьвечаная

мяркаваннямі агульнага характару пра падставы яе падзей, падобна на чалавека без галавы. Неабходна не толькі пратакаліраваць, але і развамжаць пра ўсе падзеі адбыўшыяся і адбываючыяся ў гісторыі чалавецтва, як прыродадаследчык разважае пра ўсе адбываючыяся з'явы і лічыць сваю справу закончанай толькі тады, калі зразумеў нагоды іх узнікнення.

А з гэтага боку гледжання і на буддызм немагчыма глядзець інакш, як на ўсходняе адгалінаванне візантыйска-рамейскага апакаліптычнага хрысьціянства. Знакамітае дрэва Будды, дзе ён атрымаў сваё адкрыццё, пересажана туды з Балканскай паўвыспы і там дало толькі новыя галіны.

Апавяданні пра пераходы Будды і яго вучняў з мэтай павучання, якія захаваліся ў сьвятых тэкстах, нашмат больш разнастайныя, чым пераходы Хрыста ў Евангеллях. Мы чытаем пра яго сустрэчы ў вольных гарадах з пануючымі там дваранскімі радамі. Із Кузінары насустрач Буддзе выходзяць Мала, царуючае сямейства гэтага горада, і выдаюць загад: “хто не выйдзе насустрач Ўзнёсламу, плаціць штраф”. Із заможнага Везалі, самага бліскучага із індыйскіх вольных гарадоў, насустрач Буддзе ў пышных павозках выязджае шляхетная моладзь із роду Лікхаві – адны ў белым адзенні з белымі ўпрыгожваннямі, а іншыя – у жоўтым, чорным і чырвоным адзенні. Заўважыўшы Лікхаві здалёк, Будда сказаў сваім вучням: “хто із вас, вучні, не бачыў чароўны натоўп із трыццаці трох багоў, той няхай паглядзіць на натоўп Лікхаві”. Акрамя шляхетных юнакоў і з не меншай раскошай выехала насустрач Буддзе і іншая знакамітасць гарада, куртызанка Амбапалі; яна запрасіла Будду і яго вучняў на абед у свой парк і пасьля заканчэння абеду падаравала гэты парк Буддзе і суполцы. І зноў рыса, сбліжаючая яго з Хрыстом, які не цураўся куртызанак.

Для папаўнення выявы публікі, якая збіралася каля Будды, трэба згадаць яшчэ пра дыялектыкаў і пра разнастайных тэалогаў, нагадваючых евангельскіх фарысееў. Спрачальнікі-сафісты, людзі як духоўнага, так і цывільнага станаў, якія, пачуўшы, што Саман Гатама жыве недалёка, рыхтаваліся задаваць яму двухсэнсоўныя пытанні і якім бы ні быў адказ, заблытаць яго ў супярэчнасьцях.

І на прыканцы гэтых размоваў і прыхільнікі і пераможаныя праціўнікі Будды запрашаюць яго разам з вучнямі на абед: “хай Ўзнёслы і яго вучні прыйдуць да мяне на абед”. Будда дае сваю маўклівую згоду і калі на другі дзень перад поўднем абед гатовы, гаспадар посылае да яго паведвміць: “прыйшоў час, госпадзі, абед гатовы”.

Будда бярэ сваю верхнюю вопратку і чарку і ідзе са сваімі вучнямі ў горад або ў вёску ў сядзібу гаспадара. Пасьля абеду, пад час якога гаспадар імкнецца прапанаваць самае лепшае, і пры якім сам гаспадар і яго сямейства прыслужваюць гасьцям, і пасьля абмывання рук, гаспадар і дамачадцы садяцца побач з Буддай і Будда прамаўляе ім словы павучання.

Калі не маецца ніводнага запрашення, то Будда згодна з манаскім правілам выпраўляецца ў вёску або ў горад збіраць падаянне.

Пасьля вяртання із абыходжання і пасьля абеду наступаў час калі не спання, то адасобленага адпачынку. У ціхім пакоі або, яшчэ лепш, у халаднаватым змроку густога лесу, Будда праводзіў ціхія, душныя пасьляабедзенныя гадзіны – у самотных разважаннях, пакуль не наступаў вечар і пасьля “святога маўчання” зноў пачыналіся шумныя наведванні сябраў і ворагаў – сведчаць яго біёграфы (у еўрапейскай літаратуры).

Знешняй адзнакай адрачэння ад сьвету ў буддыстаў была жоўтая манаская вопратка і танзура; адмаўленне ад сямейных сувязей, адмаўленне ад якой бы та ні было ўласнасьці, строгая цнатлівасць – былі абавязковымі абавязкамі аскетаў, ідучымі за сынам Сакіяў.

Падобна таму, як у хрысьціян, пастрыгшыяся ў манахі выпадаюць са свайго першапачатковага стану, так і ў буддыстаў.

У адной із прамоваў прыпісваемых Буддзе, захаваўшайся ў сьвятых тэкстах, гаворыцца: "як вялікія рэкі, колькі б іх ні было: Ганг, Ямуна, Ачыраваці, Сарабгу, Магі, калі яны дасягаюць вялікага акіяну, губляюць сваё старое імя і свой ранейшы род і набываюць толькі імя вялікага акіяну; так, вучні, і з гэтымі чатырма кастамі – кшатрыямі і браманамі, вайсіямі і шудрамі: калі яны, згодна з вучэннем і законам, абвешчаным Дасканалым, адмовяцца ад бацькаўшчыны і пайдуць на чужыну, то губляюць сваё старае імя і ранейшы род і набываюць толькі імя аскетаў, ідучых за сынам Сакіяў".

Адзін із вучняў Будды пахадзіць на Юду Іскарыёта. Адрозненне толькі ў тым, што ён не здрадзіў яму, а падаслаў забойцаў, але калі выпраўленыя падышлі да Будды, іх напаткаў жах і трымценне: ён рахмана паразмаўляў з імі і яны павярнуліся да яго вучэння; кавалак скалы, які павінен быў раздавіць Будду, упаў на дзьве нахіліўшыяся адна да другой вяршыні, так што Будда толькі злёгку пашкодзіў сабе нагу; дзікі слон, выпушчаны на Будду на вузкай вуліцы, уражаны чароўнай магутнасьцю яго "прыязнага мышлення", спыніўся перад ім і патым пакорліва вярнуўся назад. Нарэшце яго супернік – вучань Дзевадата паспрабаваў іншым шляхам дасягнуць старэйшынства ў суполцы. Ён выставіл пяць выказванняў, у якіх патрабаваў, каб манах усё сваё жыццё жыў бы абавязкова ў лесе, тады як сам Будда і сам звычайна жыў і дазваляў жыць іншым паблізу вёсак і гарадоў; каб манах жыў толькі дарамі, атрыманымі ім падчас збору падаянняў, і не прынімаў ніводнага запрашэння пабожных цывільных на абед; апранацца ён павінен толькі ў адзенне, пашытае із сабраных лахманоў і г. д. Дзевадата абвяшчаў гэтыя правілы, як падмурак праўдзіва строгага духоўнага жыцця, тады як правілы Будды ён лічыў саступкай чалавечым слабасьцям; ён спрабаваў пераманіць да сябе прывязанных да Будды манахаў, і, як настойвае традыцыя, спачатку з некаторым поспехам, хаця і скончыўшымся пазней поўнай паразай. Канец Дзевадаты быў сумным. Згодна з найноўшымі і вельмі распаўсюджанымі апавяданнямі раптам з'явіўся пякельны дракон і праглынуў яго жывым.

Такі трагічны канец вучня, меўшага жаданне давесьці аскетызм да абсурду, быў, вядома, непазбежным. Само сабой зразумела, што з таго часу, як з'явіліся жабруючыя манахі, павінны былі існаваць і пабожныя заможныя людзі, даваўшыя ім падаянні ад сваіх лішкаў, і вельмі хутка павінна была ўтварыцца хаця б і не маючая пэўнай формы сувязь паміж манаскімі ордэнамі і заможнымі цывільнымі, атрымліваючымі ад манахаў духоўныя павучанні.

Здаецца, – кажа Альдэнберг (стар. 156), – што заможных і высокапастаўленых спачатку было больш сярод прыхільнікаў буддызму, чым бедных?

Сапраўды так і малюецца ў легендах пра першапачатковае распаўсюджваннне буддызма, ды і хрысьціянва ж таксама распаўсюдзілася па Яўропе яе князямі, не рэдка сілком хрысьціўшых сваіх падначаленых. Згадаем толькі Ўладзіміра Сьвятога.

Разуменні пра жанчын у вучэнні буддыстаў здаюцца як быццам бы спісанымі непасрэдна із Чэцці-Мінеи. І для буддыста, як і для хрысьціянскіх манахаў, жанчына уяўляе самую вялікую із небяспек, якія насылае спакушальнік на людзей; у жанчыне збіраюцца ўсе неразумна-чароўныя магутнасьці, прывязваючыя дух да гэтага сьвету. Кнігі буддыстаў поўняцца апавяданнямі і роздумамі пра непапраўныя хітрыкі жанчын: "схаваны шляхі жанчын, як шляхі рыбы ў вадзе – выказваецца адна із іх, – для іх хлусня ўсё адно, што ісьціна, а ісьціна ўсё адно, што хлусня".

"– Як нам, господзі, – пытаецца вучань Ананда ў Будды, – ставіцца да жанчын?

– Пазбягайце яе выгляду.

– Але калі мы пабачым яе, господзі, што тады нам патрэбна рабіць?

– Не размаўляйце з ёю.

– Але калі, господзі, мы з ёю ўжо загаварылі, тады што?

– Тады, Ананда, будзьце асьцярожнымі".

Традыцыя кажа нам, што спачатку ў шэрагі буддыйскіх манахаў, як і ў хрысьціянскіх, дапускаліся толькі мужчыны, і што Будда з вялікай неахвотай саступіў жаданню сваёй роднай маці, каб жанчыны таксама пасвячаліся ў манахіні. "Калі на рысавым полі, Ананда, якае ўжо саспела, пачынаецца хвароба, маючая найменне іржаўчына, то не доўга будзе працягвацца працвітанне гэтага рысавага поля; дакладна так жа, калі да вучэння і ў ордэн дапускаюцца жанчыны, адрокшыяся ад знаходжанні ў сьвеце, то не доўга будзе квітнець святое жыццё.

Але жанчыны і ў Індыі імкнуліся дапамагаць манаскім суполкам і служылі ім.

У буддыйскіх сьвятых тэкстах апісваецца Вісакха, заможная грамадзянка. Яна, як і Алімпіяда ў паданнях пра Яна Залатавуста, наладзіла першыя вялікія дабрачынныя ўстановы, забяспечваўшыя прыходзяўшых у Саваці вучняў Будды неабходнымі жыццёвымі сродкамі.

Аднойчы Будда са сваімі вучнямі абедаў у яе доме. Пасьля абеду Вісакха сядае каля яго і пытае:

"– Споўні, господзі, восем маіх жаданняў.

– Дасканалыя, Вісакха, занадта ўзвышаны, каб выконваць нейкія жаданні.

– Але мае жаданні, о, господзі, дазваляемыя і ўхвальныя.

– Калі так – дык кажы, Вісакха.

– Я б жадала, господзі, усё сваё жыццё даваць суполцы дажджавое адзенне, даваць ежу чужым прыходзячым манахам, карміць праязджаючых манахаў, карміць хворых братоў, карміць даглядаючых за хворымі, даваць хворым лекі, раздаваць штодня рыс і падараваць суполцы манахінь купальнае адзенне. Вось мае восем жаданняў.

– Чаму, Вісакха, ты звяртаешся да Дасканалага з восьмым жаданнем?

– Аднойчы здарылася, што манахіні аголенымі купаліся ў рацэ Ачыраваці на адным месцы з цівільнымі дзяўчынамі, якія казалі: навошта вы, шаноўныя, вядзеце святое жыццё, пакуль вы маладыя? Ці не лепш аддавацца асалодам? Калі пастарэеце, то можаце пачаць сьвятое жыццё, і тады земное жыццё і замагільнае – абодва будуць вашымі. І манахіні рассердзіліся на іх. Не чыстая, господзі, аголенасць жанчыны, ганебная і шкодная. Такім з'яўляецца, господзі, маё жаданне, а таму я жадаю ўсё сваё жыццё даваць суполцы манахінь купальнае адзенне.

І Будда адказаў:

– Выдатна, Вісакха. Добра ты робіш, што выказваеш Дасканаламу гэтыя восем жаданняў. Я згодзен, Вісакха, на твае восем жаданняў.

І ўхваліў сьвяты Вісакху, маці Мігары, такім выслоўем:

Поўная высокароднай радасьці, раздае ежу і піццё

Вучаніца сьвятога, багатая цнотамі.
Прыносячая падарункі, дзеля нябеснай узнагароды,
Суцяшаючая гора, прыносячая радасць,
Атрымлівае жэрабя нябеснага жыцця.
Па лёгкаму, ухвальнаму шляху ідзе яна.
Вольная ад няшчасцяў, радасная, будзе доўга атрымліваць асалоду яна
Узнагародай добрай справы ў шчаслівым царстве нябесным".

Але ці сапраўды такія заможныя жанчыны-патранэсы маглі існаваць у Індыі, дзе раўнапраўнасьці абодвух стацей не было да апошняга часу? Зноў як быццам бы запазычана із Яўропы...

"Пра буддызм звычайна гавораць, як пра суперніка браманізму і, прытым, пра такога суперніка, якім было лютаранства ў дачыненні да папізма. Але падобная паралель будзе цалкам недарэчнай, калі б мы надумалі ўявіць сабе нейкую адзіную браманскую царкву, варажую пачынанням Будды і супраціўляўшуюся яму, як звычайна супраціўляюцца кожнай навізне. У эпоху Будды, у тых месцах, дзе ён дзейнічаў, не існавала браманскай іерархіі".

Так выказваецца адзін із самых галоўных заснавальнікаў гісторыі буддызму – прафесар Альдэнберг (стар. 162), і гэта толькі дапаўняе нашы высновы пра тое, што буддызм папярэднічаў брамаізму, а таму і ўсе яго нападкі на брамінаў і іхнае каставае ўладкаванне, з'яўляюцца напісанымі ўжо пазней і такімі ж нямоглымі, як і евангельскія заклікі да сацыяльнай роўнасьці; падобна евангельскаму Хрысту, ганячаму кніжнікаў, і Будда з іроніяй выказваецца пра ведыйскую кніжную вучонасць, як пра пустое глупства.

Хто шануе песьні і выслоўі старажытных мудрых паэтаў і таму лічыць і сябе мудрым, – кажа ён, – той падобны на чалавека із ніжэйшага стану або на раба, які стаўшы на месца, дзе прамаўляў цар, і, прамаўляючы тыя ж словы, уявіў сябе царом. Вучань верыць таму, чаму верыць настаўнік, а настаўнік таму, што ён запазычыў ад ранейшых настаўнікаў. "І думаю я, што прамовы браманаў падобны на шэраг сьляпых і той, хто наперадзе, нічога не бачыць і той хто ў сярэдзіне, нічога не бачыць і той, хто ззаду, нічога не бачыць. А калі так, то ці не дарэмная вера браманаў".

Буддызм, як і хрысьціянва, падзяляўся на шматлікія секты.

"Мы не можам сабе выразна скласьці уяўленне пра той тон, які валадарыў у манахаў супернічаючых суполак, – кажа Альдэнберг (стр.167). Наогул, здаецца, што не існавала відавочнай варажнечы. Было звычайнай справай, што наведвалі адзін аднаго ў кляштарах, абменьваліся ветлівасьцю і спакойна і прыязна размаўлялі пра дагматычныя пастулаты, хаця, само сабой зразумела, што пры гэтым справа не абыходзілася без інтрыг; для набыцця прыхільнасьці ўплывовых асоб выкарыстоўвалі розныя сродкі. Із духоўных супернікаў Будды і буддыстаў асабліва дастаецца Макалі-Газале. У адной із прамоваў прыпісваемых Буддзе нават гаворыцца: "із усіх існуючых тканін валасяная самая горшая – яна халодная падчас халоду, цёплая падчас спёкі, яна бруднага колеру, мае дрэнны пах і грубая навобмацк, – так, і із усіх вучэнняў аскетаў і манахаў самым горшым з'яўляецца вучэнне Макалі".

Але як манахі пустэльнікі ў Яўропе ператварыліся ў манахаў-сібарытаў, так і ў буддызме першапачатковы аскетызм замяніўся больш мяккай формай. Пабожнае духаўнае жыццё параўноўваецца з лютняй, якая выдае сапраўдны гук толькі тады, калі яе струны не занадта нацягнуты і не занадта паслаблены. Ад імя Будды рэкамендуецца імкненне толькі да раўнавагі, да ўнутранага задавальнення. Цалкам натуральна, што падобныя погляды буддыйскай суполкі наклікалі на яе з боку папярэднічаўшых манаскіх суполк папрокі ў схільнасьці да камфорту.

Як гэта гаворыцца ў джайскім вершы, надрукаваным Лецманам[100]:

“Ноччу спаць на мяккім ложку,
Раніцай добра выпіць,
Апоўдні паабедаць, і да ночы выпіць
З салодзенькім у роце заснуць –
На заключэнне адкупленне
Спрытна прыдумаў Сакіе”.

Адным словам, вопратка разная, а ўнутраны змест той жа, што і ў Яўропе.

# Глава XIII

## Чароўная казка пра пераўвасабленца Будзіцеля.

Перш за ўсё дадзім краткую схему маючага быць выкладзеным пытання, якая будзе служыць нам як бы геаграфічнай мапай для маючага адбыцца падарожжа па амаль непраходных зарасьлях чалавечай фантазіі, у якія мы тут таксама патрапім, як і ў нашых папярэднічаўшых даследаваннях.

Перш за ўсё адзначым, што буддызм распаўсюдзіўся выключна ва ўнутранай і ўсходняй Азіі і мяжуе з магаметанскімі краінамі. Да яго сябе далучалі на пачатку стагоддзя каля 40% вернікаў, як пра гэта сведчаць статыстычныя дадзеныя, сабраныя каля 1900 года[101].

Слова “буддыст” азначае проста “абуджэнец” ці “відушчы”, у сэнсе асветы. І яно адно яшчэ нічога не паведамляе пра імя заснавальніка буддызма, г. азн. абуджэнства. Але, вядома, ніводная складаная рэлігія або нават проста яе звычаёвасць не звалілася прама з неба, а узнікла эвалюцыйна, бяручы свой пачатак ад нейкай выбітной асобы, якая ў рэчаіснасьці заўсёды павучала цалкам не тое, што пазней вырасла з цягам стагоддзяў на яе магіле і распаўсюдзілася далёка ад месца яе жыхарства. Вядома, і яна мела нейкае імя, але яно даўно замянілася на цалкам іншае, як мы бачылі гэта і ў хрысьціян, найменне якіх па-грэцку азначае “памазанікі”, г. азн. пасьвечаныя ў таямніцы боскіх ведаў, і ў магаметан, найменне якіх азначае “дастаслаўныя”.

“Памазанікі” абвясьцілі сваім першанастаўнікам нейкага “Памазаніка”, па-грэцку Хрыста, дадаўшы да яго мянушка “Выратавальнік” – па-жыдоўску Езус; “дастаслаўныя” абвясьцілі сваім першанастаўнікам нейкага “Дастаслаўнага”, дадаўшы да яго мянушку Бацька Сусьвету – Абул Козем па-грэка-сірыйску[102], а “абуджэнцы” вывелі сваё паходжанне ад нейкага абуджэнца, па-санскрыцку Будды (ад кораня будзіць, падобна таму як і карані шматлікіх іншых санскрыцкіх слоў падобны на славянскія словы таго ж значэння).

Як і ў двух папярэднічаўшых рэлігіях, яны таксама далі свайму абуджэнцу і другое найменне, напрыклад, Гаутама-Будда і Магутны Мудрэц-Сакія-Муні – у паэзіі абуджэнцаў. Але гэтае ж слова Сакія-Магутны, паслужыла і для вызначэння яго роду: ён, – зрабілі із гэтага выснову тлумачальнікі, – быў із рода “Магутных”, а бацькам яго быў не інакш як Судхадана. Маці яго была “Цудаўная Магутнасць” (Майя па-санскрыцку, але вельмі сугучна з маці Хрыста – Марыя), а горад, дзе ён нарадзіўся, меў назву “Паветраны горад” (Капіла Васту), і таму зразумела, што

[100] Альдэнберг, стар. 169.
[101] Рыс-Дэвідс, Буддызм, глава 1.
[102] Козем або Касім – з’яўляюцца толькі варыянтамі грэцкага слова Космас, г. азн. сусвет.

нягледзячы на ўсе пошукі археологаў яго да гэтага часу не змаглі знайсьці на зямлі, хоць і палічылі магчымым чытаць гэтае найменне Каніла-ватта і перакласьці чырвоным месцам, хоць "кітайскія пілігрымы" і выразна бачылі яго парэшткі, як раз каля часу, калі павінен быў жыць Магутны Абуджаны (каля V-VII стагоддзя да Нараджэння Хрыстова)[103].

Нарэшце прызналі, што гэты горад павінен знаходзіцца не інакш, як на поўнач ад ракі Ганг, што прыроджанае найменне заснавальніка "абуджэнцаў", дадзенае яму маці, было "Дасягнуўшы сваёй мэты" (Сідхарта), а пазней яго пачалі называць: Блажэнны, Настаўнік, Заваёўнік, Благаславенны, Валадар Сьвету, Усёведаючы, Цар Справядлівасьці і г. д[104].

Мы бачым, што з боку гледжання дакладнай станоўчай навукі асоба заснавальніка буддызму настолькі ж міфічна, як і жыццё "евангельскага Хрыста". І падобна таму, як міф пра "Хрыста" на працягу сярэдніх стагоддзяў перанёс падмосткі свайго апавядання ў іншы бок і аднёс, пераіначыўшы да непазнавальнасьці ўсе падзеі, назад на трыста з гакам гадоў ад часу сапраўднага ўзнікнення хрысьціянства пры рымскім імператары Юліяне Філосафе (361-363 г.), так і міф пра асветленага – заснавальніка буддызму, мог моцна дыслатыраваць падмосткі першапачатковага ўзнікнення гэтай рэлігіі і амаль цалкам замяніўшы рэчаіснасць фантазіяй, перанесьці ўсе падзеі назад на шмат стагоддзяў ад таго часу, калі гэтая рэлігія сапраўды ўзнікла.

Цікава перагледзець з гэтага боку гледжання ўсе нашы першакрыніцы.

Галоўнай із іх лічыцца санскрыцкая Лаліта Вістара[105], г. азн. даводзячая жыццё "Магутнага Мудраца" толькі да таго часу, калі ён выступіў згодна з іншымі апавяданнямі у ролі публічнага прапаведніка. Напісана яна часткова прозай, часткова вершамі, і поўніцца вычварнымі прыдумкамі пра нараджэнне і спакушэнні "абуджанага". Але час яе ўзнікнення вызначыць немагчыма, і нават можна выказаць здагадку, што яна першапачаткова была напісана па-тыбецку, і ўжо пазней яе санскрыцкі пераклад, які Фуко адносіць без сур'ёзных доказаў да VI стагоддзя нашай эры, быў палічаны за арыгінал, а тыбецкі арыгінал – за пераклад.

Другім асноўным дакументам з'яўляецца кітайская "Кніга вялікага адрачэння"[106], выкладаючая пра адмаўленне "абуджанага" ад сваёй сядзібы і сям'і. Яна таксама без якіх бы то ні было грунтоўных падставаў аднесена гісторыкамі да VI стагоддзя нашай эры.

А трэцім і чацьвёртым асноўнымі дакументамі з'яўляюцца "Нататкі пра жыццё Сакіі" із "Тыбецкіх аўтарытэтаў" Аляксандра Чома і "Тыбецкая біяграфія Сакія Муні", знойдзеная Антонам Шыфнерам і напісаная буддыйскім навукоўцай манахам Ратна Дхарма-Раджа ў 1734 нашай эры. Першы дакумент цалкам грунтуецца на Лаліце Вістары, а заканчэнне другога паўтарае, акрамя таго, і частку "Кнігі вялікага адрачэння".

Такім чынам і сама "Лаліта" і "Кніга вялікага адрачэння" выяўляюцца фактычна цесна злучанымі з творам Ратна-Дхарма-Раджы, напісаным у 1743 годзе нашай эры. А прамежкавых дакументаў на працягу ад VI стагоддзя, куды аднеслі

[103] Альдэнберг, Будда, стар. 98 рускага перакладу, 1897 г.

[104] Пакідаючы для асьляплення саміх сябе, а таксама і чытачоў артадаксальныя гісторыкі пастаянна пакідаюць іх без перакладу і таму пішуць замест нашага, у тым жа парадку: Сугата, Сатха, Джына, Багава, Лока-Натха, Сарваджыя, Дхарма-Раджа і г. д.

[105] Рыс-Дэвідс, стар. 14.

[106] Рыс-Дэвідс, стар. 15.

“Лаліту” і “Кнігу вялікага адрачэння” няма... Але ці не варта із гэтага зрабіць выснову, што і яны абедзьве напісаны не раней XVI стагоддзя? Бо інакш згодна з ужо патлумачаным мной законам памнажэння агульнацікавых і асабліва рэлігійных рукапісаў з кожным годам у геаметрычнай прагрэсіі да поўнага насычэння патрэбы чытачоў “Лаліта Вістара”, калі б яна сапраўды належала VI стагоддзю нашай эры, была б знойдзена ва ўсякім разе ў сотнях рукапісных асобнікаў, як гэта было, напрыклад, з Бібліяй перад яе друкаваннем.

Але акрамя гэтых, знойдзенных яшчэ ў XIX стагоддзі, тыбецка-кітайскіх дакументаў, да пачатку XX стагоддзя былі знойдзены яшчэ некалькі іншых. Так, у Індакітаі, у Бірмане быў знойдзены Бігандэтам манускрыпт на бірманскай мове 1773 годзе, г. азн. толькі на 39 гадоў пазней вышэйапісанага, знойдзенага Антонам Шэфнерам у Тыбеце. Бігандэт назваў яго Малалінкара Вутту, і палічыў не за арыгінал, а за пераклад невядомага ў арыгінале твора на палійскую мову, і надрукаваў у 1858 годзе па-ангельску. Гэты твор у шматлікіх месцах слова ў слова супадае з “Камэнтарамі да Джатакі”, якія адносяцца без важкіх доказаў да V стагоддзя нашай эры, што пры адсутнасьці прамежкавых рукапісаў таксама немагчыма згодна з законам памнажэння агульнацікавых манускрыптаў з кожным годам у геаметрычнай прагрэсіі. Такім чынам і самі “Каментары да Джатакі” немагчыма палічыць напісаннымі раней XVII стагоддзя і хутчэй за ўсё сфальсіфікаваныя.

Палійскі тэкст гэтага “Камэнтару да Джатакі” быў “знойдзены” на Цэйлоне, як і пастаянна здараецца пры фальсіфікацыі старажытных дакументаў ужо пасьля стварэння яго перакладу, і яго першая частка была надрукавана на ангельскай мове Рыс-Дэвідсам пад назвай “Буддыйскія Калядныя апавяданні”.

Гэты твор амаль даслоўна змяшчае ў сабе усё жыццё Гаутамы, як такое перададзена Торнерам.

Наступны прыклад выдатна паказвае каштоўнасць гэтых крыніц. Згодна з сінгалезскім рукапісам, ён робіць цуды з дапамогай лука, які тысяча чалавек не маглі нацягнуць, пры гэтым гудзенне цецівы было чуваць на сем тысяч міль. Ён у дасканаласьці валодаў васямнаццацю майстэрствамі, хаця ніколі не меў настаўніка і быў аднолькава добра знаёмы са шматлікімі іншымі навукамі. А апавяданні “Лаліты Вістары” ў перакладзе Фуко яшчэ больш вычурныя і цудоўныя.

Палійскае апавяданне пра сьмерць Гаутамы, “із другой Пітакі”. Ён мае назву “Махапарынібана Сута”[107].

Гэтая крыніца адносіцца да часоў той эпохі, калі Патна ператварылася ў значны горад, а ўшанаванне мошчаў у Буддыйскай царкве стала ўсеагульным. Ён перабольшвае падзеі, быццам бы адбыўшыяся пасьля сьмерці, і большосць доўгіх павучанняў, якія ён прыпісвае Гаутаме перад яго сьмерцю, відавочна з'яўляючыяся тварэннем самога аўтара апавядання.

Асноўнай літаратурай па індыйскаму буддызму з'яўляюцца так званыя “Зборы” (Пітакі). Із іх Нікайя Пітака (Збор Пастаноў) выдадзена па-палійскі прафесарам Альдэнбергам.

Сутта-Пітака (павучанні для цывільных) выдадзена у першай частцы прафесарам Рыс-Дэвідсам і Д. Эстлін Карпентэрам, а ў другой Трэнкнерам і Чалмерсам. Затым ідуць перамешаныя разважанні. Зборнік вершаў, выдадзены ў 1855 годзе праф. Фаусбедлем у Капенгагене, перакладзены Максам Мюллерам у 1881 годзе.

[107] Поўнае яго выданне надрукавана прафесарам Чайлдэрсам.

“Песні захаплення” – восемдзесят два кароткія лірычныя вершы, 110 вытрымак, пачынаючыхся славамі: “так сказаў Благасловенны”. Зборнік сямідзесяці дыдактычных вершаў, перакладзеных ў 1881 г. Фаўсбелем у яго “Сутта Пітака”.

Пра нябеснае жыллё. Пра безцялесных духаў. Вершы манахаў. Вершы манахінь (№№ 8 і 9 выдадзены Таварыствам палійскіх тэкстаў).

Джатака. – Пяцьсот пяцьдзясяць апавяданняў, казак і баек, найбольш значны зорнік захаваўшагася да гэтага часу фальклора. Ангельскі пераклад выдадзены Рыс-Дэвідсам. Пра магутнасць як ведаў так і разважання, якімі валодаюць буддыйскія Арахаты. – Ападана. Апавяданні пра буддыйскія Арахаты. Будда-ванса – караткія жыццяапісанні дваццаці чатырох папярэднічаўшых Буддаў і Гаутамы. Пра якасьці духу. Пра спрэчныя пытанні. Пра ўзаемадачыненні характараў. Выдадзена для таварыства палійскіх тэкстаў. І, нарэшце, “Кніга паходжанняў” – пра падставы існавання.

“Існуе, – кажа Рыс-Дэвідс (стар. 24), – памылковае ўяўленне адносна вялізнага аб’ёму пералічаных твораў. Так, Спенс Гардзі кажа: “Па аб'ёму Пітакі пераўзыходзяць усе заходнія пісанні”, а сэр Кумара Свамі выказваецца пра “шырокую массу арыгінальных твораў, у якіх, незалежна ад камэнтараў, ўключаны вучэнні буддызму”. Але гэта моцна перабольшана.

Падлічыўшы словы на дзевяці старонках нашай Бібліі, я знайшоў, што, за выключэннем апокрыфаў, яна змяшчае да 950 000 слоў. Колькасць слоў у першых 221 вершах Джамма-пады, з’ўляючыхся добрым прыкладам для астатніх, раўняецца 3 001. Пагэтаму 431 верш гэтай кнігі павінен утрымліваць менш за 6 000 слоў. Згодна з пералікам Торнера, Джамма-пада напісана на пятнаццаці лістах, а ўсе тры Пітакі на 4382 лістах прыблізна таго ж фармату. Для ўсяго тэкста гэта складае 1.752.800 слоў. Такім чынам, буддыйскія пісанні, разам з уключэннем усіх шматлікіх паўтораў і ўсіх кніг, зяшчаюць у сабе не больш за падвойную колькасць слоў нашай Бібліі, а без паўтораў нават менш яе.

З гэтым вылічэннем Рыс-Дэвідса, зробленым у 1900 годзе і павінен пагадзіцца чытач, чакаючы грандыёзнай, але нікому не вядомай браманскай літаратуры...

Як ілюстрацыю да гэтага дададзім, што аж да XVI стагоддзя ад пачатку нашай эры, калі туды прыбылі еўрапейцы, адзіным матэрыялам прыдатным для пісання, там маглі быць толькі драўняныя лісты, высушаныя як у нашых гербарыях. Але сам чытач разумае, што ломкасць гэтага матэрыялу мала садзейнічала іхнаму доўгаму захоўванню і таму і ніякіх сапраўдных пісьмовых дакументаў раней еўрапейскай эпохі (г. азн. да XVI стагоддзя) там няма. Із буддыйскіх пабудоваў маналітныя “Слупы Асокі”, распаўсюджвальніка буддызма ў Індыі, не даюць пакуль магчымасьці вызначыць час іхнага стварэння, так жа як і Руанвелійская топа ў 30 сажань вышыні на в. Цэйлон і пячорныя храмы ў разных месцах Індыі. А ўсе пабудовы браманскага перыяду, які замяніў буддыйскі (як і ў Яўропе згодна з нашымі высновамі трымуртнае хрысьціянва папярэднічала апакаліптычнаму, да якога адносяцца і біблейскія месіянскія прарокі – Ісайія, Іеремія, і інш), ужо прызваны індолагамі за пазнейшыя сярэднявечныя, напрыклад, знакамітая Чаганацкая, пабудаваная ў 1198 годзе, ды і іншыя, адносна якіх існуюць дакладныя паведамленні, выяўляюцца не ранейшымі за XI-XII стагоддзі.

**1. Веру у адзінага бога бацьку Ўсётрымальніка, стваральніка неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага.**

**2. І ў адзінага гаспадара нашага Выратавальніка Хрыста, сына божага, адзінароднага, іжэ ад бацькі народжанага перад усімі пад час стагоддзя, сьвятла ад сьвятла, бога сапраўды, народжанага, не створанага, адзінасутнага бацьку і праз яго ўсё стварылася, дзеля нас людзей і дзеля нашага выратавання сышоўшага з нябёсаў і прыняўшага цела ад духа сьвятога, ад Марыі панны ўчалавечыўшагася, і зноў маючага прыйсьці са славай судзіць жывых і памёршых, яго ж царству не будзе канца.**

Такімі з'яўляюцца два першыя параграфы хрысьціянскага сімвалу веры, адзіныя, якія маглі быць прыняты на Цар-Гародзкім саборы 381 года, так як Нікейскі сабор 325 года не мог выпрацаваць параграф пра Выратавальніка-Хрыста, легенда пра якога была створана толькі пасьля рамейскага імператара Клаўдыя Юліяна Філасофа (331-363), так моцна нагадваючага і Александра Македонскага познейшых грэцкіх паданняў, і Міц-Рымскага вялікага цара Месію (Рэ-Мессу-Міамуна) ягіпецкіх іерогліфаў, і нават біблейскага Выратавальніка-Прарока (Езуса Навіна), асабліва калі злучыць паданні пра яго з евангельскім міфам пра Выратавальніка Хрыста і з апавяданнем у Жыціях сьвятых пра вялікага цара (Васіля вялікага) як заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. Пра аднолькавае паходжанне апошніх міфаў я ўжо выказваўся, а пра атаясамленне вялікага цара (Васіля) з Юліянам і з Аляксандрам Македонскім я доўга саромеўся нават і намякаць чытачам, лічачы, што для гэтага глеба яшчэ не была дастаткова мной падрыхтоўвлена. Зараз жа я магу паведаміць, што Клаўдзій Юліян вельмі падобны на міфічнага заснавальніка астраноміі Клаўдыя Пталямея. Першае прозвішча абодвух, якое маецца ў нас – лацінскае, і азначае: кульгавы; із іншых найменнняў Юліян азначае Сонечны і пры ім, як я ўжо даводзіў, быў афіцыйна ўсталяваны, (а не пры міфічным Юліі Цэзары) сонечны (юліянскі) каляндар з працягласьцю года роўнай 12 месяцам, адпаведна праходжанню сонца па 12 сузор'ях пталемеева задыяка. З евангельскім жа Хрыстом яго зблізжаюць і 12 пасланнікаў апошняга, адпавядаючыя 12 сузор'ям задыяка, із якіх адзін – Юда-Скарпіён стаў адступнікам, г. азн. заснавальнікам юдэйства, не прызнаваўшага Хрыста за бога. Як Хрысту прыпісваецца ў Евангеліях 33 гады жыцця, так і Юліяну (ад 331 да 363 г. уключна), прычым як евангельскі Выратавальнік павучаў 3 гады, так і сонечнаму цару (Юліяну) даюць тры года царавання (361-363). Як евангельскі Хрыстос быў быццам бы пырнуты дзідай рымскага ваяра падчас укрыжавання, так і Юліян быў, – кажуць нам, – уражаны дзідай нябачнага духа (а згодна з больш праўдзівымі паданнямі ўласнага ваяра) пад час паходу ў Паўднёвую Азію, калі ён быў ужо ў Месапатаміі за ракой Тыгр, г. азн. у накірунку да Індыі, што ў вялікім уяўленні яго наступных жыццяапісальнікаў лёгка магло ператварыцца ў той немагчымы згодна з ўмовамі мясцовасьці паход Александра Македонскага, мапу якога я тут паўтараю[108], пазначыўшы, што азіяцкія межы, прыпісваемыя гэтай мапай яго імперыі, тоесны ўжо з межамі Атаманскай імперыі ў XV стагоддзі, так як і паходы Македонскага "Храбрага Ваяра" (што азначае імя Аляксандр геаграфічна намалявана не раней XV стагоддзя, калі назвы некаторых мястэчак ўнутранай Азіі ўжо сталі вядомымі ў Яўропе). Як Аляксандр Вялікі быў вучнем міфічнага бацькі ўсіх наук Арыстоцеля, так і Юліян – адначасова быў як храбрым ваяром (г. азн. Аляксандр па-грэцку), так і навукоўцам філосафам. А ў біяграфіі Хрыста, лічачы гэты тэрмін проста за "памазанік божы", гэтыя дзве спецыяльнасьці мы бачым спачатку падзеленымі, як у двухлікага Януса, па двух Езусах-прароках. Вайсковая

[108] Гл. Хрыстос, кн. VI, стар. 578.

годнасць цалкам перададзена Езусу Навіну – вайсковаму правадуру Майсея, а навуковая Езусу Хрысту, боскаму філосафу.

Мне запярэчаць, вядома, што “Вялікі Храбры Ваяр” не хадзіў у Галію як Юліян, але гэта пярэчанне лёгка тлумачыцца: гальскія паходы Юліяна апакрыфіраваны яго двайніку Юлію Цэзару, напалову спісанаму з Канстанцыя Хлора, а ў біяграфіі Аляксандра паход на лацінскія народы застаўся, як война з “грэкамі”, недарэчная ўжо праз адно тое, што пазней ён сам мае назву правадыра грэкаў у барацьбе з персамі.

А калі мяне запытаюць, якім жа чынам я тут адношу забойства Юліяна да 363 года, калі згодна з маімі ж астранамічнымі вылічэннямі слупаванне евангельскага Хрыста адбылося 21 сакавіка 368 года, то і на гэта адказ надзвычай просты: я тут пазначыў (як і ў маіх папярэдніх табліцах) традыцыйную храналогію падзей IV стагоддзя нашай эры, якая не магла быць мной праверана астранамічна. Уявьце толькі сабе, што перыяды праўленняў першай паловы IV стагоддзя зрушаны назад на пяць гадоў і вы атрымаеце дакладнае пагадненне ўсёй біяграфіі Юліяна з маімі астранамічнымі вылічэннямі. А што азначае для старажытнага храналагіста зрух на 5 гадоў, калі ён з лёгкасьцю перамяшчаў перыяды не тое што на сотні, але нават на і тысячы гадоў?

Усе гэтыя мяркаванні, пачынаючы ад цытаваных першых двух параграфаў сімвала веры і заканчваючы атаясненнем заснавальніка хрысьціянскага набажэнствы з імператарам Юліянам, ператвораным із заснавальніка хрысьціянскага набажэнства ў адступніка ад арыянства і адступніка ад існаваўшага, быццам бы, ужо трыста гадоў да яго часу хрысьціянства (хаця самі тэолагі прызнаюць, што хрысьціянская літургія была ўпершыню ўсталявана менавіта пад час яго праўлення), маюць прамае дачыненне да прадмета гэтага майго даследавання.

Мы бачылі зараз, што другі параграф сімвала хрысьціянскай веры нам паведамляе: “Веру ў Выратавальніка-Хрыста, народжанага перад усімі вякамі, адзінасутнага стваральніку сьвету, які сышоў з нябёсаў і прыняў цела (г. азн. атрымаў чалавечае цела) з дапамогай святога духа (г. азн. павеву) і ўчалавечыўся ад панны Марыі. І зноў маючага з’явіцца (ў чалавечым жа целе) са славай судзіць жывых і памёршых”. А ў апакаліпсісе сказана больш складана, чым тут і абяцаны яшчэ паўторны  прыход Хрыста на зямнае царства за тысячу гадоў да канца сьвета:

“Пабачыў я, – кажа Ян (Апак. 20, 4-18) пасады і седзячых на іх, каб судзіць і душы страціўшых галаву за пропаведзь Езуса і божага слова, якія не пакланіліся выяве Звера (імперыі) і не прынялі яго кляйма на сваю руку. Яны ажылі і царавалі з Хрыстом тысячу гадоў. Гэта першае ажыванне. Шчаслівы і сьвяты, біручы ўдзел у першапачатковым ажыванні, над ім не мае месца другая смерць...”. “Калі ж закончыцца тысяча гадоў, сатана будзе вызвалены са сваёй цямніцы і выйдзе спакушаць народы, якія знаходзяцца на чатырох кутах зямлі Гога і Магога (верагодна, гунаў і манголаў) і збіраць іх на вайну, колькасць іх як пясок марскі...”. “Але паслаў полымя з неба і пажраў іх”. “І мора, і пекла, і смерць аддалі памёршых, якія былі ў іх і судзімы быў кожны згодна са сваімі справамі”.

Што ж мы тут бачым? Хрыстос, – кажуць нам, – увасобіўся праз панну Марыю, яна ж па-руску Мар’я, а ў грэцкай класічнай міфалогіі Майя, атаясамляемая з зоркай у сузор'і Пляяд. Яна была, – кажуць, – дачкой Атланта, падтрымліваючага на сваіх плячах ўсю зямлю, г. азн. трымаўшага цара, як і маляваліся старажытныя манархі на малюнках з жазлом у адной руцэ і зямным

шарам у другой. Яна, згодна з грэцкімі крыніцамі, нарадзіла дзяўчынай ад бога багоў Зеўса сына Гермеса, першапачаткова хадзіўшага сярод пастушак прыгожанькім аркадзкім пастушком з жалейкай, а пазней стаўшага богам вынаходніцтва і адкрыццяў. А згодна з грэка-ягіпецкімі крыніцамі ён стаў Герміем, тройчы найвялікшым, ўвасабіўшымся як і евангельскі Хрыстос, у выглядзе месяца, вынаходнікам пісьменьства, мастацтваў і навук, асабліва ж тэасофскага вучэння і герметычнай філасофіі (г. азн. быццам бы сэнс сярэднявечных забабонаў), якія былі адкрыты ў XV стагоддзі ў выглядзе 14 лацінскіх трактатаў, пад агульнай назвай Пэмандра[109].

Мы бачым із гэтага, што і міф пра Гермія, тройчы найвялікшага, з'яўляецца толькі адным із міфаў пра Хрыста, і пазней не здзіўляемся, што яго маці Марыя (першапачатковае імя якой, верагодна, было Марына – марская дзева, г. азн. наяда, сімвал сузор'я Панны, якое выходзіць на Сіцыліі із хваляў Міжземнага мора) зноў патрапіла на небёсы ў выглядзе зоркі Майі ў Пляядах, і так жа стала багіняй вясны, пераўтварыўшыся ў месяц травень (май). Але вось іншае непараўнальна больш значнае для сучаснага гісторыка-даследчыка супадзенне, якае нарадзілася быццам бы ў цясніне Малайскіх гор і павучаўшага ў Сярэдняй Азіі "ўвасабленца" Будды (г. азн. будзіцеля) Гаутаму, чароўная казка пра якога мае ўсе рысы далейшага развіцця евангельскага міфа пра ўвасобіўшагася Езуса. Прыпісаць ёй незалежнае паходжанне цалкам немагчыма, нават і ў тым выпадку, калі вы не пагадзіцеся з выкладзеным мной ў папярэдняй главе законам паходжання ўсіх распаўсюджаных складаных філасофій і складаных міфаў із аднаго месца зямнога шара і з адной чалавечай галавы, адкуль яны нясуцца на крылах чалавечага слова паўсюль, дзе іх магуць ўспрыняць па накірунках найменшага супраціўлення.

Падрабязнасьці гэтай чароўнай казкі пра Будду-Будзіцеля я выкладу далей пры параўнанні з евангельскай легендай, а зараз толькі адзначу, што яе пранікненне із Цар-Горада ў Тыбет і нават у Індакітай і ва ўсе іншыя мясціны, дзе існуе буддызм, цалкам пагадняецца і з гістарычнымі дакументамі, як толькі мы адкінем уяўленні пра глыбокую старажытнасць азіяцскіх рэлігій.

Імкненне на ўсход Азіі і асабліва ў Індыю, пра каштоўнасьці якой пад час сярэдневечча паведамляліся цуды, было наогул ўласціва для сярэдневечных рамейцаў-візантыйцаў. Сама легенда пра Аляксандра Македонскага (ці сапраўды яна была міфам пра імператара Юстыніяна з яго паходам за межы Месапатаміі або легенда пра кагосьці іншага) паказвае, што ўяўленне рамейцаў было накіравана на Індыю і прыведзеная мной у III томе легенда пра далучэнне да хрысьціянства індыйскага царэвіча Іаасафа, сынам Ламы (Бар-ламам па-жыдоўску) заслугоўвае асаблівай увагі.

А адносна таго, што вучэнні ламаізма і буддызма, не кажучы ўжо пра брамаізм, не існуюць у індусаў з незапамятных часоў, не варта нават прыводзіць доказаў. Бо іх распаўсюдзілі ў Індыі толькі ангельцы, стварыўшыя агульнавядомым шляхам друкарскага станка такія складаныя міфы, пра якія да той поры не ведаў ні адзін індыйскі навуковец, і якія маглі быць напісанымі толькі ў недаўнія часы, калі еўрапейская тэолагія-тэасофія ўжо шырока распаўсюдзілася па дэканскай паўвыспе.

---

[109] Першае грэцкае выданне было толькі ў 1854 годзе, а лацінскі псеўда-пераклад (на справе ж арыгінал) быў выдадзены Марсімам Фіцынам у 1471 годзе. Як заўсёды, услед за знаходкай лацінскага асобніка, выдаваемага за пераклад із грэцкага згубленага арыгінала, быў "знойдзены" іншай асобай і сам арыгінал, а ў гэтым выпадку нават на невуцкай грэцкай мове.

Камбінуючы паміж сабой разнастайныя паведамленні пра першапачатковае пранікненне буддызму ў Сярэднюю Азію, нам прасьцей за ўсё кіравацца спачатку геаграфічнымі, а потым філалагічнымі дадзенымі.

Геаграфічныя дадзеныя выдатна паказваюць нам старажытныя шляхі паходаў і караванаў, у выглядзе і дагэтуль бягучых рэк, плыні якіх відавочна паказваюць нам, што амаль такімі ж яны былі і ў незапамятныя часы, толькі вельмі павольна падмываючы, дзякуючы вярчэнню зямлі, свой правы бераг і таму злёгку перасунуліся ў гэтым накірунку. "Памёршыя рэкі", ад якіх зараз засталіся толькі адны сухія руслы, настолькі рэдкія і нязначныя, ды і мала прыдатныя для тлумачэння якіх бы то ні было аджыўшых шляхоў стасункаў на зямной паверхні, што пра іх не варта і згадваць пры нашых разважаннях пра шляхі распаўсюджвання культуры пад час гістарычнага перыяду. І як зараз па лініях чыгунак мы ведаем асноўныя шляхі эканамічнага жыцця і культуры, так і ў старажытнасьці мы можам вызначыць іх па плынях рэк.

Бо было б па-дзіцячаму наіўна думаць, што цэлыя войскі, хаця б яны і складаліся толькі з некалькіх соцень чалавек, маглі без геаграфічных мапаў праходзіць цэлыя краіны, асабліва пры панаванні чужой мовы. Аднойчы пад час моцнай завеі і восенню, калі ўсе ранейшыя, летнія дарогі ў сярэдняй Расіі засыпаны сьнегам, а новыя яшчэ не былі пракладзены, адзін селянін, з дзяцінства добра ведаўшы ўсё мясцовае наваколле, вёз мяне на станцыю чыгункі. Як было даведацца, у якім накірунку мы едзем? Я кажу яму, што мы едзем у адваротны бок, таму што вецер, які раней дзьмуў мне ў правы бок, зараз дзьме ў левы. А ён спачатку не звярнуў на накірунак ветру ніякай увагі і натрапіўшы на нейкую дарогу, прывёз мяне назад, адкуль мы выехалі.

Але ў яшчэ горшым становішчы знаходзілася старажытнае войска, якое не маючы геаграфічных мап, не ведала нават і накірунак на тыя краіны, куды яно ішло. Але калі б яны і ішлі нават па компасу, то як яны маглі б папярэдне ведаць, ці не сустрэнуцца на шляху непраходныя горы, або бязводныя стэпы, дзе яны памруць ад смагі і голаду? Ідучы па рэчышчах рэк, яны ва ўсякім разе маглі быць упэўнены, што заўсёды знойдуць ваду і вельмі верагодна чалавечыя пасяленні, у якіх змогуць здабыць з дапамогай зброі харчовыя прыпасы. Так геаграфічныя дадзеныя паказваюць нам, што першая разумовая культура, як і першыя гандлёвыя караваны і першыя атрады заваёўнікаў павінны былі пранікаць із Вялікай Рамеі праз Антыёхію, якой нездарма прыпісвалася вялізнае значэння, як сталіцы Селеўкіі, з часу пасялення ў ёй Селеўка Пераможцы, правадыра вершнікаў Аляксандра Македонскага, быццам бы яшчэ каля 220 года да пачатку нашай эры, згодна з традыцыйным злічэннем.

Але калі мы атаясамім Аляксандра з Юліянам, то, лічачы згодна з той жа традыцыяй, што дынастыя Селеўкідаў царавала ў Антыёхіі каля 259 гадоў (ад -323 да -64 года) і што Юліян, згодна з той жа традыцыяй, памёр у 363 годзе, прыходзім да высновы, што яны закончылі сваё існаванне ў 622 годзе, г. азн. як раз у год Геджры, калі водгукі метэарытнай катастрофы ў Чырвоным моры аддзялілі агаран ад еўрапейскай часткі Вялікай Рамеі і тады замест заваявання Антыяхійскага царства Селеўкідаў Рымам вынікае іхнае заваяванне Міц-Рымам, як называўся ў сярэднявечных жыдоў Ягіпет.

Назіраецца зрух храналогіі на 686 гадоў, і ўсе гэтыя Селеўкі і Антыёхі нібыта цараваўшыя да пачатку нашай эры, выяўляюцца там васаламі Вялікай Рамеі, так што Антыёх Сотэр (405-425) прыпадае на цараванне Феадосія II (408-450), Антыёх

Вялікі (464-499) на цараванне Ільва Вялікага (457-474) і Антыёх Эпіфан (511-523) на час Юстыніяна І (518-527), і адбыўшаяся пры ім паўстанне месіанцаў Молатаў (Маккавеяў па жыдоўску, 519 г.) на другі год caравання Юстына (і цікава, што назву молатаў (мартэлаў) мелі і франкскія каралінгі, із якіх найбольш вядомы Карл Мартэлл (638-741).

Але настойваць на правільнасьці толькі што агучанай храналогіі Селеўкідаў, як заснаванай на нічым не падмацанаванай гістарычнай традыцыі і на недастатковa падмацаваным дапушчэнні, немагчыма нават і ў тым выпадку, калі лічыць правільнай маю здагадку пра тое, што міф пра Аляксандра Македонскага мае дачыненне да цара філосафа і вайсковага правадыра Юліяна. Ды і мая мэта ў дадзены момант цалкам іншая: паказаць, якімі шляхамі арыянскае і евангельскае хрысьціянва грунтуючыся на геаграфічных мяркаваннях магло пранікнуць у паўднёвую і ўнутраную Азію і набыць там форму буддызму. Адказ на гэта атрымліваецца такі: такім жа шляхам, як і паходы, прыпісваемыя Юліану і ў міфах Аляксандру Македонскаму.

А на пытанне пра тое, калі мог брамаізм прыйсьці ў Індію з яго санскрыцкай літаратурай, магчымы толькі адзін: ён прыйшоў безумоўна із Балканскай паўвыспы, так як санскрыцкая мова, як я ўжо паказваў у III томе, з’яўляецца сумессю славянскіх слоў індыйскіх атачаючых гаворак, як відаць пры простым азнаямленні з яе слоўнікам. Такая сумесь трох еўрапейскіх моў магла ўтварыцца толькі на Балканскай паўвыспе, дзе яна існуе і да гэтага часу, а часам распаўсюджвання хутчэй за ўсё патрэбна прызнаць IX стагоддзе, калі Кірыл і Мяфодзій перакладалі Евангеллі на славянскую мову. І пачалася як і ў заходняй так і ў паўночнай Яўропе хрысьціянская місіянерская горачка.

Так слова Будда, больш дакладна Буда, таксама несумненна славянскае і азначае: “будзіцель” і толькі з нацяжкай “абуджаны”. Але будзяць людзей толькі ад сну, а таму і майстар такога майстэрства павінен таксама ўмець і ўсыпляць людзей паводле сваёй волі, гэта азначае быць гіпнатызёрам. Лічыць такае імя (у яго пачатковым паходжанні) за фігуральнае, у сэнсе разумовага абуджэння, азначала б ужо занадта ўскладняць першабытную сімвалісцыку, тым больш, што для гэтага цалкам адсутнічае нейкая нагода. Бо ўсе мы ведаем, што гіпнатычныя ўнушэнні складаюць неад'емную прыналежнасць індускай і тыбецкай рэлігій, без выразнага разумення якіх нельга нават і прыступаць да іх вывучэння.

Яны ж былі прыналежнасьцю і першапачатковага месіянскага культу ў Вялікай Рамеі, як не цяжка бачыць із апісання цудаў Майсея перад нападам Міц-Рыма, і нават із апісанняў евангельскіх цудаў цара Юдэйскага. Але гэтыя грубыя прыёмы гіпнатычных ўсыпленняў і абуджэнняў з абцяжарваннем галавы ўсыпляемага разнастайнымі галюцынацыямі, былі зьнішчаны на прыканцы сярэдніх стагоддзяў у хрысьціянскіх краінах самой царквой і цывільнай уладай. Іх прыраўналі, нарэшце, да стасункаў з ворагам чалавечага роду – сатаной, так як манапалізацыя іх у руках “прысвечаных” прыводзіла да пагібельных наступстваў для ўсяго грамадства і нават для ўласнага існавання царквы. Бо кожны яе правадыр мог ужываць такія сродкі супраць іншых, і вынікам падобных і, бяспрэчна, маючых падмацаванне на фактах меркаванняў, чорная магія (гэта азначае чорная магутнасць гіпнозу) была абвешчана вядзьмарствам, ненавісным для бога і ўсіх яго сьвятых і настолькі знішчана да эпохі Адраджэння, што доўгі час нават немагчыма было прыступіць да яго навуковага вывучэння з псіхалагічнага пункту гледжання. Але вось зараз реальная навука асьвяціла для нас гэты цёмны бок чалавечай псіхікі,

і звяла з'явы гіпнатычных унушэнняў да галюцынацый таго ж гатунку, як і сны падчас спання, але толькі без вядомых для нас прызнакаў засынання, а менавіта нерухомасьці цела і адсутнасьці адчуванняў да падзей знешняга сьвету, і разам з гэтым мы атрымалі магчымасць рацыянальна даследаваць і тыя рэлігіі Азіі, дзе гіпнатычныя прыёмы практыкуюцца і зараз, даючы нам магчымасць вызначыць грунтуючыся на захаваўшыхся ўрыўках старажытных еўрапейскіх паданняў і тое, што адбывалася ў першапачатковым арыянстве і хрысьціянве ў краінах міжземнаморскага этнічнага басейна.

Паглядзім жа на тое, што і зараз здзяйсняецца ў Азіі, каб лягчэй зразумець што некалі адбывалася і ў Яўропе.

# Глава XIV
# Сучасны буддыйскі фальклор.

Вось некаторыя ўрыўкі із сучаснай нам буддыйскай маральна-рэлігійнай паэзіі, адпавядючай біблейскім псалмам:

**Дзева:** Шмат багоў і людзей
Розныя рэчы лічылі шчасьцем.
У пошуках шчасьця
Вышэйшае ты нам дабро пакажы.
**Гаутама:** Шчасьце – неразумным не служыць,
А служыць мудрацам,
Выказваць ўшанаванні заслужыўшым:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Жыць у краіне багатай, але
Першае жыццё пражыўшы дабратворна
У сэрцы трымаць толькі добрыя жаданні.
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Шмат ведаў і выхавання,
Слоў высокароднасьці пячатка нязменнага.
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Падтрымкай быць бацьку і маці,
Жонцы падпоркай і дзяцям,
Прызначэнне мірнае ў надзел свой атрымаць:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Даваць падаянні і жыццё правільнае весьці
І сваякам у час нястачы дапамагаць,
Ва ўчынках бездакорным быць:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Грэх ненавідзець і не здзясняць,
Ад моцных утрымлівацца напояў,
У добрых справах не стамляцца:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Глыбокае шанаванне і пакора,
Дастатак і лагоднасць,
Слухацца закон у свой час:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Цярплівасць і лагоднасць,
З міралюбнымі стасункі,
Духаўная размова ў свой час:

Вышэйшая ў гэтым асалода.
Самаабмежаванне і чысьціня,
Вывучэнне годных ісьцін,
Ажыццяўленне Нірваны:
Вышэйшая ў гэтым асалода.
Дух непахісны
Сярод падзей гэтага пераменлівага жыцця
Спакой здабыўшы ад захапленняў і гора
Вышэйшая ў гэтым асалода.
З усіх бакоў непрыступныя
Так робячыя ўсе,
Іхны шлях паўсюль бяспечны,
І вышэйшая асалода іхная доля".

Із павучальных выслоўяў Дхама-Бады:

Для чаго тут смех? Для чаго тут радасць?
Гарыць полымя захапленняў, невуцтва, нянавісьці;
Што ж вы, аточаныя цемрай,
Свет не шукаеце?
Хай чалавек сам стане тым, кім раіць быць ён іншым.
Хто сам сабой валодае, хай падпарадкоўвае іншых; цяжка сябе ўтаймаваць;
Хто, неразумнасць пакінуў, цьвярозы погляд набыў,
Свет асвячае, як месяц, із-за хмар выглянуўшы.
На ўсякае здольны зло, хто хаця адзін закон парушыў
І хлусіць і будучае жыццё высмеймае неразважліва.
Будзем жа жыць шчасліва без варажнечы да ненавідзячых нас;
Сярод ненавідзячых мы без нянавісьці пражывем.
Будзем жа жыць шчасліва, паміж хворымі карыстаючыся здароўём,
Будзем жыць без смутку сярод пакутуючы сэрцам людзей.
Будзем жа жыць шчасліва, без турбот паміж людзей мітусьлівых,
Без захапленняў сярод трывожных хваляванняў натоўпу.
Будзем жа жыць шчасліва, хаця сваім нічога не называем мы;
Станем падобнымі багам, ежа якіх – асалода.

Сучасныя нам буддысты маюць той жа тыдзень, як і мы, і яго дні, падобна нашым, атрымалі назву згодна з сонцам, месяцам і пяццю спрадвеку вядомымі планетамі, што было запазычана, несумненна, у рамейска-візанційскіх астраномаў, не раней шостага стагоддзя нашай эры. Але ж астралогія тады была непарыўна злучана з тэалогіяй, а таму ўплыў сярэднявечнага апакаліптычнага хрысьціянства на буддызм з'яўляецца гістарычным фактам.

Устрыманне ад скокаў, музыкі, спеваў, тэатральных пастаноў для буддыйскага сьвятарства таксама ўзята із хрысьціянскіх правілаў, як і выкананне пастоў.

Адпаведна дзесяці запаветам хрысьціян і ў іх маюцца забароны:

Тры цялесныя:

– Пазбаўленне жыцця (не забі ў Майсея).
– Крадзяжу (не ўкрадзі).
– Незаконнае стацевыя стасункі (не пралюбадзейнічай).

Чатыры славесныя:

– Хлусня.
– Паклёп (девяты запавет Майсея).
– Бажба (трэці запавет Майсея).
– Пустыя размовы.

Тры духоўныя:
– Сквапнасць (дзесяты запавет Майсея)
– Злобнасць
– Сумневы.

Мы бачым, што колькасць і характар запаветаў тыя ж самыя, але тут яны больш сістэматызаваны.

З боку гледжання гістарычнага рацыяналізму ідэалогія буддызму, у якой няма нават вызначанага наймення для бога-бацькі, акрамя бурхана, г. азн. самога ж увасобленага ў чалавека Будды-Хрыста, ні ў якім разе не можа быць вельмі старажытнай. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Бо і ў Евангеллях Хрыстос выказваецца: “Я і бацька – адно і тое ж”. І, акрамя таго, нельга не адзначыць дзіўны факт: ва ўсходніх хрысьціян існуюць храмы, прысвечаныя і Хрысту (пад найменнем  Спаса) і багародзіцы, і арханёлу Міхалу, і ўсім святым, але няма ніводнага храма, прысвечанага богу-айцу. Ці звычайная гэтая акалічнасць? І вось яна ж паўтараецца і ў буддыстаў. Дык ці магчыма згодна з адной гэтай нагодай назваць іхную рэлігію атэістычнай? Вядома, ні ў якім разе. Тым больш, што рацыяналістычны буддызм, як мы бачылі, мае характар толькі найноўшага апакрыфізму. Непасрэднае даследванне (акрамя выклікаючых падазрэнне трактатаў, вывозімых із Усходу) паказвае, што буддысты пастаянна ўшаноўваллі магутнасьці прыроды, займаліся астралогіяй, верылі ў дз’ябла, чараўніцтва, заклінанні і чарадзейсва.

# Глава XV
# Нараджэнне Будды-Хрыста пад імем Гаутамы.

Доўга не ведалі індусы, дзе ў іх нарадзіўся буддыйскі Хрыстос, але нарэшце, з дапамогай прыехаўшіх туды еўрапейскіх буддолагаў вызначылі.

Гэта было пад 27° 37' паўночнай шыраты і 83° 11' усходняй даўгаты ад Грынвіцкага мерыдыяна, і ў 130 мілях на поўнач ад Бенарэса, на беразе рэчкі Рахіні на адгор’і магутнага Гімалайскага хрыбта, велічэзныя вяршыні якога былі відаць удалечыні на празрыстым фоне індыйскага блакітнага неба.

Там жыло невялікае, але магутнае племя Сакія сілкаваўшаяся прадуктамі сваёй жывёлагадоўлі і рысавых ніваў, а ваду яно атрымлівала із Рахіні, на другім баку якой жылі каліяне, іхныя сваякі.

“З імі ў сакіяў, – сведчыць Рыс-Дэвідс (стар. 29), – часам адбываліся спрэчкі праз валоданне каштоўнай вільгаццю рэчкі, але як раз у гэты час (вады, відаць, у рэчцы было шмат) яны жылі ў міры і дзьве дачкі аднаго із правадыроў каліянаў былі жонкамі Судхаданы, аднаго із правадыроў сакіяў. Гісторыя паведамляе, што абедзве не мелі дзяцей – акалічнасць дастаткова сумная і ў іншыя часы і ў іншых народаў, але асабліва цяжкая ў арыйцаў, лічыўшых, што становішча чалавека пасьля сьмерці залежыць ад звычаяў, здзяйснаемых яго нашчадкамі. Таму вельмі вялікай была радасць, калі старэйшая із сясцёр, Мая (г. азн. Марыля) на сорак пятым годзе свайго жыцця абнадзеіла свайго чалавека паведамленнем пра нараджэнне сына. Згодна са звычем, яна ў належны час выправілася для вызваленя ад цяжарнасьці ў бацькаву сядзібу, але яе сын, будучы Будда, нечакана з'явіўся на сьвет падчас падарожжа пад ценем некалькіх высокіх дрэвў, у гаі, меўшым назву Лумбіні. Маці і дзіця былі перанесены ў дом Судхаданы, дзе праз сем дзён маці памёрла. Але хлопчык знайшоў клапатлівую выхавацельку ў асобе сястры сваёй маці, другой жонкі бацькі (што ўжо падобна на дзяцінства Магамета).

Яму далі імя Сідхарта, што азначае “дасягнуўшы сваёй мэты” і вось яго радавод.

Мянушка яго была Гаутама (сугучна з жыдоўскім Га-Адам), г. азн. “увасобіўшыся чалавекам”, і такое прозвішча згодна са сведчаннем Рыс-Дэвідса існуе і зараз ў вёсцы Нагара, памылкова атаясамляемай Канінгэмам з міфічнай Каміла-Васту, радзімай Будды”.

Іншыя найменні, даваемыя заснавальніку буддызма, таксама з’яўляюцца не імёнамі, а тытуламі. Пабожнаму буддысту здаецца непачцівым называць Гаутаму яго штодзённым чалавечым імем, і таму ён выбірае адну са шматлікіх яго мянушак. Такімі з’яўляюцца: Сакія-Сінха – “леў племені”; Сакія-Муні – “магутны мудрэц”; Сугата –“шчасьлівы”; Сатха –“настаўнік”; Джына – “заваёўнік”; Багава – “чароўны”; Лока-Натха – “валадар сусьветаў”; Сарваржыя – “Ўсёведаючы”; Дхурма-Раджа – “цар справядлівасьці” і шматлікія іншыя.

Здаецца, няма падставаў, – выказваецца Рыс-Дэвідс, – сумнявацца ў вельмі раннім адружанні Гаутамы са стрыечнай сястрой, дачкой каліянскага раджы. І вось, неўзабаве пасьля яго адружання яго сваякі калектыўна паскардзіліся раджы Судхадану на тое, што яго сын, седзячы каля ног жонкі, пагарджае практыкаваннямі, неабходнымі чалавеку, на якога можа ў далейшым легчы абавязак быць правадыром сваіх родзічаў на вайне. Гаутама ж, пачуўшы пра гэта, абвясьціў барабанным боем пра дзень, калі ён пакажа свой спрыт кожнаму жадаючаму. Пераўзыйшоўшы ў гэты дзень самых трапных стралкоў, ён зноў набыў павагу племені.

Але раптам, на 29-м годзе жыцця, яму ўявіўся вярхоўны бог ў чатырох выявах: у выглядзе чалавека, сагнутага пад цяжарам гадоў, у выглядзе хворага чалавека, у выглядзе гнілога памёршага цела і, нарэшце, у выглядзе шануемага затворніка. Гэта было амаль праз дзесяць гадоў пасьля адружання, калі яго жонка нарадзіла іхнага адзінага сына на імя Рахул. Вестка пра нараджэнне сына застала Гаутаму ў садзе, на беразе ракі, куды ён выправіўся пасьля чацьвёртага бачання – у выглядзе затворніка. Сяляне былі ў захапленні ад нараджэння дзіцёнка, адзінага ўнука іхнага раджы. Вяртанне Гаутамы дало нагоду да бурнага выказвання пачуццяў, і маладая дзяўчына, яго стрыечная сястра, заспявала: “Шчасьлівы бацька, шчасьлівая маці, шчасьлівая жонка такога чалавека і сына”. Ён зняў свае жамчужныя каралі і паслаў іх ёй, а яна пачала будаваць паветраныя замкі, думаючы: “малады Сідхарта закахаўся ў мяне і прыслаў мне падарунак”, а ён выправіў свайго калясьнічага Чхану, каля поўначы, за сваім канём, і падчас яго адсутнасьці накіраваўся да дзвярэй пакоя сваёй жонкі, якую пабачыў, пры сьвятле мігаючай лампы, спячай сярод кветак, з рукой, пакладзенай на галаву немаўляці. Ён пажадаў у апошні раз перад разлучэннем абняць немаўля, але пабачыў, што не можа зрабіць гэтага, не разбудзіўшы маці. Ён нерашуча адарваўся ад сына, і, суправаджаемы толькі Чханай, пакінуў свой бацькоўскі дом, багацці, маладую жонку і адзінага сына, каб стаць жабракам і бяздомным вандраўнікам.

Так паведамляе “Сутра вялікага адрачэння”, а далей апавядаецца тое ж самае, як і пры спакушэньні евангельскага Хрыста сатаной.

Мара – дух зла, з'яўляецца на небе і пераконвае Гаутаму спыніцца, абяцаючы яму праз сем дзён сусветнае панаванне над чатырма вялікімі матэрыкамі, калі ён адмовіцца ад сваёй задумы. Але і зведаўшы паразу ў гэтым сваім пачынанні, спакуснік цешыць сябе надзеяй на тое, што ён усё-такі калі-небудзь адолее свайго ворага, і кажа:

“Рана ці позна ў яго душы павінна з’явіцца хоць адна шкодная або злая думка; ў такі момант я і стану яго валадаром”. І з гэтага часу, – дадае летапісец Джатакі, – Мара сачыў за ім, чакаючы якой-небудзь памылкі, прырос да яго, як

цень, якая ідзе за прадметам. Гаутама ў гэтую ноч праехаў вялікую адлегласць і спыніўся толькі дасягнуўшы берага міфічнай ракі Аномы, за межамі калійскай вобласьці. Там, зняўшы свае ўпрыгожванні, ён аддаў іх і каня свайму вазнічаму, абрэзаў свае доўгія валасы і, памяняўшыся адзеннем з бедным жабраком, выправіў засмучанага і засумаваўшага Чхану дадому, а сам паспяшаўся ў накірунку да Раджагрыхі, каб пачаць жыццё бяздомнага жабруючага-самтніка.

Раджагрыха, галоўны горад Магадхі, была сталіцай Бімбісары, аднаго із магутнейшых валадароў усходняй даліны Ганга. Яна была размешчана ў вясёлай даліне, цесна абмежаванай пяццю пагоркамі, самымі паўночнымі адгор’ямі Віндыйскіх гор[110].

Імкнучыся паказаць, што брамаізм з яго тройцай і Крышнай існаваў яшчэ раней за буддызм, нас пераконваюць, што яшчэ задоўга да нараджэння Гаутамы, брамiны звярталі вялікую ўвагу на глыбокія пытанні існавання і этыкі і падзяляліся на разнастайныя школы, із якіх у той ці іншай ўжо існавала вялікая частка будучых метафізічных вучэнняў Гаутамы.

Адным із найбольш настойліва распаўсюджваемых вучэнняў брамінаў, – кажуць нам, – была нават і ў той час вера ў эфектыўнасць самаздзеквання як сродку дасягнення звышчалавечай магутнасьці (г. азн. велічы гіпнатычнага ўздзеяння на сябе і іншых) і разам з тым звышчалавечых ведаў; і Гаутама, вывучыўшы сістэму Алары і Ўдракі, выдаліўся ў лясы Ўрувелы, паблізу сучаснага храма Будда-Гайі, і там на працягу шасьці гадоў у прысутнасьці пяці верных вучняў аддаваўся самаму строгаму пакаянню, пакуль паставаннем і самаздзекамі не давёў сябе да цені ранейшага Гаутамы. І слава яго распаўсюджвалася, падобна гуку вялікага колакала, узвышаючыся да нябеснага скляпення. Нарэшце, аднойчы ён раптоўна пахіснуўся і ўпаў на зямлю. Некаторыя із вучняў падумалі, што ён памёр; але ён зноў апрытомеў і, расчараваўшыся ў карысьці такага способу, адмовіўся ад самаздзекванняў.

Усе вучні пакінулі яго і выправіліся ў Бенарэс. Для іх было аксіёмай, што духаўная перамога магла быць дасягнута толькі з дапамогай забойства плоці. Тады ў душы Гаутамы зноў паўсталі сумневы, і спакусьнік скарыстаўся імі. Вось як кажа пра гэта рукапіс[111]:

“Калі пачалася барацьба паміж Выратавальнікам сусьвету і Князем зла, пачалі падаць тысячы бліскучых метэораў; хмары і цемра атачылі яго. Нават зямля, з яе акіянамі і гарамі, была ўскалыхнута, падобна свядомай сутнасьці, падобна пяшчотнай маладой, гвалтоўна разлучанай з маладым, падобна вінаграднай лазе падчас урагану. Акіян падняўся ад хваляў землятрусу; рэкі пацяклі назад да сваіх вытокаў; вяршыні высокіх гор, на якіх на працягу стагоддзяў расьлі незлічоныя дрэвы, паваліліся на зямлю, ператвараючыся ў пясок. Усё гэта суправаджалася парывамі ўрагану; трэск станавіўся жудасным; нават сонца засланіла жудасная імгла; і натоўп безгаловых духаў запоўніў паветра”.

Як бы цалкам спісана з Мільтонавага “Вернутуга Рая”, які выйшаў каля 1670 года:

“... з аднаго канца неба да другога загрымеў гром; хмары, жудасна разрываючыся, з апантанасьцю вылівалі струмені дажджу, перамешанага з маланкамі; вада мірыліся з полымем дзеля разбурэння. Не спалі і вятры ў іхных каменных пячорах: з усіх чатырох бакоў сьвету наляталі яны і ўрываліся ў пашматаваную пустыню; самыя высокія хвоі, хаця іхныя карані былі такімі ж глыбокімі, якімі высокімі былі вяршыні, самыя моцныя дубы

[110] Сучасны Раджгір.

[111] Матхуратха Віласіна згодна з Торнерам.

схілялі свае тугія шыі пад цяжарам іхнага бурлівага дыхання або вырывалісь з каранямі. Дрэнна быў ты абаронены, о шматцерплівы сын божы, але застаўся непахісным. Жахі ночы гэтым яшчэ не скончыліся: духі цемры, пякельныя фурыі атачылі цябе; яны рыкалі, вішчалі, вылі, накіроўваючы ў цябе вогненныя стрэлы; але ты застаўся адважным сярод іх, ніштo не парушыла твайго сьвятога замірэння”[112].

Цікавая рыса падабенства паміж апавяданнем Мільтана і буддыйскім міфам заключаецца ў тым, што і згодна з ім рай вяртацаецца сыну госпада ў пустыні цалкам так жа, як Гаутаме пад дрэвам Во, на якае буддысты глядзяць, як хрысьціяне на крыж, пры гэтым мы не павінны забывацца, што і па-славянску крыж мае назву слуп і дрэва, а па-грэцку прама стаўрас, г. азн. ствол дрэва. У буддыстаў дрэва Во выконвала такую ж ролю, як крыж у хрысьціян. Яно зрабілася прадметам ушанавання, і яго адростак, – кажуць нам, – яшчэ расьце ў тым месцы, дзе яго знайшлі буддыйскія паломнікі і дзе, згодна з іхнай думкай, расло першапачатковае дрэва ў старажытным храме ў Водх Гайе, паблізу Раджгіра, які, – кажуць нам, – быў пабудаваны каля 500 года пасьля Н. Х. знакамітым Амара Сінхай. Галінка ж ад яго, пасажаная ў Анурадхапуры на Цэйлоне, усё яшчэ расьце там – як найстаражытнейшае гістарычнае дрэва міру.

Калі гэты дзень ужо хіліўся да заканчэння, ён здабыў перамогу; яго сумневы развеяліся; ён стаў Буддай, г. азн. Абуджэнцам. Але перамога дасталася яму не без страт. Самакатаванне, якому ён так доўга і рашуча аддаваўся, не вытрымала выпрабавання. З гэтага часу ён не толькі перастаў шанаваць яго, а карыстаўся ўсякай магчымасьцю паказаць на тое, што ад такога пакаяння ніякай карысьці быць не можа. Выратаванне магчыма выключна шляхам самавыхавання і павагі. Так нам паведамляюць некаторыя буддыйскія рукапісы, але ўсе яны адзінкавыя і як быццам бы і на самай справе сёе-тое запазычылі ў Мільтана. Але паглядзім і далей.

Перш за ўсё, – кажуць нам, – ён вярнуўся да сваіх ранейшых настаўнікаў Алары і Ўдраку, але даведаўшыся, што яны памёрлі, выправіўся прама ў Бенарэс, дзе тады жылі яго былыя вучні. Па дарозе ён сустрэў знаёмага на імя Ўпака. Браман запытаў яго:

“Чым тлумачыцца, што твая пастаць такая дасканалая, твой твар такі прыемны, знешні выгляд такі мірны? Якая рэлігійная сістэма напоўніла цябе такой радасьцю і такім сьвятлом?”

Гаутама адказвае яму стызамі, што гэта таму, што ён перамог ўсе мірскія захапленні, невуцтва і аблуды.

Брамін пытаецца, куды ён ідзе, і “Шануемы сьветам” адказвае вершамі:

“Зараз чароўнага закону кола вярцець жадаю.
І з гэтай мэтай я іду ў той горад Бенарэс,
Каб сьвятлом асьвяціць у змрок апушчаных,
Каб людзям адчыніць безсмяротнасьці браму”.

Не будучы ў стане даўжэй цярпець такія напышлівыя дамаганні, брамін коратка адказвае:

“Шаноўны Гаутама, ідзі туды”. А сам накіроўваецца ў процілеглы бок.

Новы прарок працягвае шлях у Бенарэс і пад час вячэрняй прахалоды ўступае ў парк Аленяў, дзе тады жылі пяць із яго былых вучняў. Яны, пабачыўшы яго набліжэнне, вырашылі не прызнаваць яго настаўнікам, так як ён адступіўся ад сваіх абяцанняў, і называць яго проста згодна з імем; але разам з тым, так як ён

---

[112] Вернуты Рай, песьня IV, пераклад Шульгоўскай.

паходзіў із самай высокай касты, прапанаваць яму для сядзення цыноўку. А ён выклаў ім “Падмуркі Царства Праведнасьці”.

Пры гуках яго голасу, багі злятаюцца каб пачуць яго прамовы, і нябесы пусцеюць; шум пры іхным набліжэнні падобны на роў буры, але вось пасьля гуку нябеснай трубы яны заціхаюць, падобна мору пад час штылю. Уся прырода ўстрапянулася; вечныя пагоркі, на якіх пабудаваны сусьвет, прыгаюць ад радасьці і схіляюцца перад настаўнікам, у той час як валадары паветра прыводзяць ўсё ў парадак; дзьме лёгкі ветрык, і цудоўныя кветкі наполняюць паветра сваім водарам. Гэты вечар быў падобны на прыгожую дзяўчыну: зоркі былі жамчужынамі на яе шыі, цёмныя хмары – яе сплеценымі валасамі, ідучая ў бясконцасць прастора – яе развяваючайся сукенкай. Каронай ёй служылі небесы, дзе жывуць анёлы; гэтыя тры сусьветы былі падобныя на яе цела; вочы яе былі белымі кветкамі лотасу, раскрываючыміся перад ўзыходзячым месяцам, а яе голас быў як гудзенне пчол.

Усе прыйшлі, каб пакланіцца Буддзе і пачуць першае слова павучання. Хаця Гаутама выказваецца на палійскай мове, але кожнае із сабраўшыхся тут згуртаванняў лічыць, што ён выказваецца на іхнай роднай мове, і так жа лічылі разныя роды жывёл, вялікія і малыя. Але толькі кітайскае жыццяапісанне і Лаліта Вістара ўтрымліваюць да некаторай ступені падрабязнае апавяданне пра вышэйапісанае, але і яны амаль цалкам адрозніваюцца, як і патрэбна чакаць, у апісанні цудаў і адносна паэтычных прыватнасьцей.

Гаутама асабліва настаівае на неабходнасьці ісьці “сярэднім шляхам”, г. азн. з аднаго боку, быць вольным ад “уплыву разбэшчваючых нервы пачуццёвых задавальненням”, а з другога боку, “ад усякай веры ў карыснасць самакатавання”, што было ў звычаі ў індускіх пустэльнікаў.

Гаутама некаторы час застаецца ў лесе Аленяў, прапаведуючы сваё новае вучэнне. І Канінгэм сведчыць: “Мрыгадаву, або парк Аленяў, утварае цудоўны гай, яшчэ і зараз (!!!) занімаючы паверхню прыблізна ў палову-мілі і прасьціраючыся ад вялікай Дхамекскай вежы на поўначы да Чхаукундыйскага пагорка на поўдні.

Першыя яго вучні былі простымі цывільнымі і двае із самых першых былі жанчыны. Першым новаўвасабленцам стаў заможны малады чалавек, на імя Яза, які далучыўся да нешматлікага згуртавання асабістых прыхільнікаў; наступнымі затым былі бацька Язы, яго маці і жонка, якія, аднак, засталіся цывільнімі вучнямі. Цывільны вучань, хаця і не быў яшчэ ў стане скінуць кайданы айчыны або адмовіцца ад вытворчага жыцця, усё-такі мог “ступіць на шлях” і з дапамогай пабожнага жыцця і міласэрднасьці забяспечыць сабе ў будучым існаванні больш спрыяльныя ўмовы для самаўдасканалення.

Праз пяць месяцаў пасьля крізісу пад святым дрэвам і тры месяцы пасьля прыходу Гаутамы ў лес Аленяў ён паклікаў усіх сваіх вучняў, колькасць якіх ужо наблізілася да шасьцідзесяці, і выправіў іх, як і Хрыстос сваіх вучняў, у 70 розных напрамках павучаць і вучыць, кажучы:

“Ідзіце і павучайце найцудоўнейшаму закону, тлумчце кожную яго літару і рупліва тлумачце яго сэнс і асаблівасьці. Тлумачце пачатак, сярэдзіну і заканчэнне закону ўсім, без выключэння, людзям: няхай усё маючае дачынене да яго зробіцца агульнавядомым і будзе асьветлена яркім вонкавым сьвятлом. Пакажыце людзям і багам шлях, які вядзе да здзяйснення чыстых і добрых спраў. Вы, без сумневу, сустрэнеце вялікую колькосць людзей, яшчэ не адданых безпаваротна сваім захапленням, якія скарыстаюцца вашымі павучаннямі, каб зноў здабыць згубленую свабоду і скінуць з сябе ярмо захапленняў. Што да мяне, то я накіроўваюся ў вёску Сену, размешчаную паблізу Ўрувельскай пустыні”.

На працягу ўсёй сваёй дзейнасьці Гаутама меў звычай вандраваць на працягу большай часткі лепшай пары года, павучаючы народ; але на працягу чатырох дажджлівых месяцаў, ад чэрвеня да кастрычніка, ён заставаўся на адным месцы, прысвячаючы гэты час больш усебаковым павучанням, накіраваным на яго новых вучняў. Але зараз замест вандруючых манахаў мы бачым аседлае неадружанае прыходзскае сьвятарства. Але і яно, на працягу некалькіх месяцаў пакідаюць свае пастаянныя сядзібы і пасяляюцца ў часовых хацінах, пабудаваных пасялянамі, якія іх запрашаюць. Там яны ладкуюць шэраг публічных службаў, падчас якіх чытаюць і тлумачаць палійскія Пітакі ўсім жадаючым слухаць, якога б ўзросту або стаці яны ні былі, альбо да якой бы касты не належалі. Гэты перыяд на Цэйлоне з'яўляецца лепшай парой года, і так як у іншы час не бывае правільных рэлігійных службаў, то сяляне лічаць чытанне Баны (г. азн. Слова, як у хрысьціян слова Божага) вялікім рэлігійным сьвятам. Яны наладжваюць пад пальмавымі дрэвамі падмосткі з дахам, адкрытыя на усе бакі і ўпрыгожаныя пышнымі хусткамі і кветкамі. Пры ззянні месяца яны садяцца вакол гэтых падмосткаў на зямлю і на працягу ночы слухаюць з вялікім задавальненнем, хаця і не асабліва разумеючы, сьвятыя словы, паўтараемыя некалькімі пераменамі пастрыжаных манахаў.

Іхнай шануемай кнігай з'яўляецца “Джатака”, утрымліваючая шмат казак і апавяданняў, агульных для ўсіх арыйскіх народаў. Прастадушныя сяляне, апранутыя ў сваё лепшае адзенне, слухаюць гэтыя цудоўныя апавяданні на працягу ўсёй ночы з непадробным захапленнем, хаця час ад часу перакідваюцца з суседзямі жартоўнымі заўвагамі і ўвесь час жуючы выраблючае слабае наркатычнае ўздзеянне лісьце бетэля. Запасы гэтыга лісьця (і пастаянных іхных спадарожнікаў – белай вапны і арэкавых арэхаў) даюць пастаянныя выпадкі актам ветлівасьці, уласцівых добраму сяброўству.

Але вернемся да жыццяапісання Будды-Гаутамы.

Яго пазнейшымі вучнямі зрабіліся вогнепаклоннікі і першы з іх Касьяпа. Калі яны выправіліся ў накірунку да Раджгрыхі, якая была ў той час сталіцай магутнага валадара ў даліне Ганга, царства якога прасьціралася прыблізна да 100 міль на ўсход ад ракі Соны, як Гаутама, так і Касьяпа, былі добра вядомымі ў горадзе, і калі раджа выйшаў, каб прывітаць настаўнікаў, то натоўп знаходзіўся ў сумненні, хто з іх настаўнік, і хто вучань. Таму Гаутама наўмысна сам запытаў Касьяпу, чаму ён адмовіўся прыносіць ахвяру Агні? Апошні зразумеў афарбоўку пытання і адказаў, што некаторыя знаходзяць задавальненне ў відовішчах і гуках, у гусьце і пачуццёвых выказваннях прыхільнасьці, а некаторыя у ахвярапрынашэнні; ён заўважыў жонцы, што ўсё гэта аднолькава не мае каштоўнасьці, і адмовіўся ад ахвяраванняў, вялікіх і малых. Кажуць, што потым Гаутама паведаміў народу джатацкае апавяданне пра цноты Касьяпы пры ранейшым нараджэнні, і, бачачы, якае ўражанне апавяданне вырабіла на народ, перайшоў да тлумачэння яму чатырох Высакародных Ісьцін. На прыканцы гэтага павучання раджа прызнаў сябе пасьлядоўнікам новага вучэння, а на наступны дзень усе гараджане пачалі збірацца, каб паглядзець на яго і паслухаць, што новага ён мае распавясьці. Калі ж Гаутама каля апоўдні выправіўся ў горад у сядзібу раджы, каб атрымаць штодзённую ежу, ён быў аточаны захопленым натоўпам. Раджа прыняў яго з вялікімі ўшанаваннямі, прызначыў для яго месцазнаходжання блізка размешчаны бамбуковы гай, стаўшы знакамітым, як месца, дзе Гаутама правёў шмат дажджлівых перыядаў і вымавіў шмат якія із самых закончаных сваіх павучанняў.

Потым Гаутама выправіўся ў Капілавасту на сваю радзіму і, прыбыўшы туды, згодна са сваім звычаем, спыніўся ў гаі па-за горадам. Туды прыйшлі яго бацька, дзядзькі і іншыя сваякі, каб сустрэцца з ім, але зусім не былі абрадаваны свайму бядуючаму сваяку. Неўзабаве да ведама раджы дайшло, што яго сын ходзіць па вуліцах, просячы падаянне. Напалоханы гэтай весткай, ён падняўся і, прытрымліваючы верхняе адзенне, хутка накіраваўся да месца, дзе знаходзіўся Гаутама.

“Навошта, настаўнік, – сказаў ён, – ты ганьбуеш нас? Навошта ты ходзіш выпрошваючы ежу. Хіба ты лічыш немагчымым здабыць ежу столькім жабруючым?”

“О, махараджа, – быў адказ, – такі звычай нашага роду”.

“Але мы паходзім са слаўнага роду ваяроў, і ні адзін із нас ніколі не здабываў сабе ежу жабрацтвам“.

“Ты і твая сям'я, – адказаў Гаутама, – можаце выводзіць свой род ад цароў; я паходжу ад старажытных прарокаў, а яны, выпрошваючы сваю ежу, заўсёды жылі падаяннямі”.

Сказаўшы гэта, ён павярнуўся да свайго бацькі з тлумачэннем зместу свайго вучэння, у форме двух вершаў, адноўленых у Дхама-Падзе:

“Паўстань! Не марудзь!
І мудрасць ў жыццё ўкладзі, і права.
Хто дабрачыннасць выбраў, выбраў шчасьце
І ў гэтым і ў будучых сусветах.
Ўкладзі ж мудрасць ў жыццё
І зло адкінь!
Хто дабрачыннасць выбраў, выбраў шчасьце
І ў гэтым і ў будучых сусветах”.

На гэта Судхадана нічога не адказаў, але, узяўшы чарку свайго сына, павёў яго ў свой дом, дзе ўсе асобы сям'і і хатнія служкі выйшлі ўшанаваць яго, але яго жонка Ясадхара не выйшла.

“Калі я ў яго вачах нешта азначаю, – адказала яна, – то ён сам прыйдзе”.

Гаутама заўважыў яе адсутнасць і ў суправаджэнні двух вучняў пайшоў да яе, папярэдзіўшы іх, каб яны не пярэчылі ёй, калі яна пажадае абняць яго, хаця ніводны сябра іхнага ордэна не мог дакранацца да жанчыны, і жанчына не магла дакранацца да яго. Калі яна пабачыла яго ўваходзячым у дом у выглядзе манаха, у жоўтай вопратцы, з абстрыжанымі валасамі і барадой, то, хаця яна і чакала пабачыць яго такім, яна не змагла стрымацца і, упаўшы на зямлю, абняла яго калені і заплакала. Потым, згадаўшы пра разлучаючую іх непераадольную бездань, яна паднялася і стала ў баку.

Яна ператварылася ў сур'ёзную слухачку новага вучэння і калі пазней Гаутама, хаця і з вялікай неахвотай, заснаваў ордэн жабруючых манахінь, то яго заўдавеўшая жонка Ясадхара стала адной із першых буддыйскіх манахінь.

Прыблізна праз тыдзень Ясадхара апранула Яхуру, свайго сына ад Гаутамы, у лепшае адзенне і сказала яму, каб ён ішоў да бацькі і запатрабаваў сваю долю спадчыны.

“Я не ведаю іншага бацькі, акрамя раджы”, – адказаў хлопчык.

Ясадхара, падняўшы яго да вакна, паказала яму на Будду, прамовіўшы:

“Гэты манах з такой велічнай постаццю твой бацька; ён валодае вялікім багаццем, якога мы не бачылі з таго дня, як ён пакінуў нас; ідзі да яго і запатрабуй

тое, што належыць табе па праву; скажы: я твой сын і буду правадыром роду і мне спатрэбіцца мая спадчына; дай мне яе".

Рахула выправіўся да Гаутамы і бязбоязна, надзвычай сардэчна прамовіў:

"Бацька, які я шчаслівы быць каля цябе".

Рахула быў прыняты ў ордэн. Пасьля некалькіх спатканняў са сваім бацьам Гаутама вярнуўся ў Раджагрыху.

На шляху ён спыніўся на некаторы час у Анупійе на беразе Аномы, у маннавым гаі, паблізу той мясьціны, дзе ён пад час знамянальнай ночы "Вялікага адрачэнне"выправіў Чхану назад дадому, і пакуль ён заставаўся там, іхнае таварыства атрымала некалькі важных прырашчэнняў. Із іх асаблівага згадвання заслугоўваюць Ананда, Дзевадата, Упалі і Ануруда. Першы стаў самым інтымным сябрам свайго стрыечнага брата Гаутамы. Другі, таксама яго стрыечны брат, пазней стаў яго праціўнікам, і таму малюецца як надзвыча благі і разбэшчаны чалавек. Трэцці, Упалі, быў цырульнікам згодна з заняткам, але дзякуючы глыбокаму рэлігійнаму пачуццю і вялікім разумовым здольнасцям пазней стаў адным із галоўных кіраўнікоў. Апошні, Анруда, стаў найвялікшым прадстаўнікам буддыйскай метафізікі.

Затым Гаутама наведаў горад Аравасьці на беразе ракі Рапца, які Вінцэнт Сміт атаясамляе з парэшткамі, знаходзячыміся ў Непале на 28,7° паўночнай шыраты і 81,50° усходняй даўгаты. Але нам паведамляюць, што гэта быў адзін із найвялікшых гарадоў у даліне Ганга, сталіца косальскага цара. Гаутама наведаў яго па запрашенню аднаго купца, слухаўшага яго павучанні і прапанаваў таварыству гай пад назвай Джэтавана. Пазней Гаутама часта там спыняўся, і кажуць, што шмат прамоваў і джатакскіх апавяданняў упершыню былі створаны менавіта тут.

На гэтым заканчваецца паслядоўнае апавяданне пра жыццё Будды Гаутамы (згодна з найменнем сугучна з Адамам, што азначае проста чалавек па-жыдоўску) як у палійскай кнізе "Джатака", так і ў санскрыцкай "Лаліта Вістара".

Скажы сам, чытач, ці не нагадвае вам усё гэта пра падарожжы евангельскага Хрыста па Юдэі, Самарыі і Галілеі. Але, падобна таму, як народнае ўяўленне, працаваўшае аж да пачатку кнігадрукавання, папаўняла Евангеллі мноствам мясцовых легенд, так і пра Будду назапасілася нямала асобных непаслядоўных апавяданняў. Так, апавядаюць, што аднойчы ён узнёсся на неба навучаць закону сваю маці Майю (г. азн. Марылю), памёршую праз сем дзён пасьля яго нараджэння. Потым ён сыходзіць з неба ў Санкісе і ідзе ў Сравасьці. Падчас яго знаходжання тут варожыя яму настаўнікі, накшталт фарысеяў, падгаворваюць жанчыну на імя Чхынчха, абвінаваціць яго ў парушэнні цнатлівасьці, але іхны падман хутка выкрываецца. У вёсцы, паблізу Раджагрыхі, ён схіляе да свайго веравызнання браміна Бхараваджу з дапамогай прыпавесьці пра сейбіта, якая, зрэшты, значна адрозніваецца ад евангельскай:

"Заможны брамін, на імя Бхараваджа, быў заняты жнівом, калі настаўнік прыйшоў і стаў са сваёй чаркай. Некаторыя падышлі і выказалі яму сваю павагу, але брамін рассердзіўся і прамовіў:

– Жабрак! Я абрабляю палеткі і сею і, абрабіўшы і пасеяўшы, ем; было б лепш, калі б і ты такім жа чынам араў і сеяў, тады ты меў бы ежу.

– О, брамін! – быў адказ. – І я ару і сею і, узраўшы і пасеяўшы, ем.

– Але мы не бачым ніякіх прыкмет гэтага, – прамовіў брамін. – дзе твая вада і насенне, і плуг?

– Вера, – адказаў настаўнік, – тое насеньне, якое я сею, і добрыя справы падобна дажджу, апладняюць яго; мудрасць мае плугі, а дух мой кіруе вожкамі. Рука мая трымае

дышла закону; цвярозы погляд з’яўляецца бічом, якім я карыстаюся, а стараннасць – мой вол. Такім чынам узорваецца мая ніва і вынішчаецца пустазелле аблуд. Жатва, здзяйсняемая ёю, з’яўляецца плодам, падобным амброзіі, а маё аранне кладзе канец усякай скрусе.

Тады і брамін-фарысей далучаецца да яго веравызнання”.

Затым, калі бацька яго жонкі Ямад-Хар пракляў яго за тое, што ён пакінуў яе, зямля праглынула дзёрзкага. Пазней ён далучае да свайго веравызнання міфічную пачвару, еўшую дзяцей.

Падобна спрэчкам пра чыстае і не чыстае ў ежы, змяшчаючыхся ў Евангеллях, і ў буддыстаў мы бачым тое ж у легендах пра Гаутаму, які загадаў: хай сябры маёй царквы ядуць звычайную ежу той краіны, у якой яны знаходзяцца, пакуль яны ядуць без патурання сваім прымхам. Можна стаць чыстым як пад дрэвам, так і ў сядзібе; як у цудоўным адзенні, так і ў вопратцы, падараванай іншымі; устрымліваючыся ад мяса, або ўжываючы такое. Усталяваць адзін аднастайны закон азначала б ставіць перашкоды тым, якія шукаюць царства нябеснага, але людзям варта паказваць туды шлях, што з’яўляецца адзінай мэтай.

Але нават і ў наш час, як у Сіаме, так і на Цэйлоне, узнікаюць новыя секты і з'яўляюцца рэфарматары. Як Хрыстос не чураўся блудніц, так і Будда-Гаутама аднойчы, недзе ў Амбапалі, да вялікай скрухі арыстакратаў, быў госьцем галоўнай мясцовай куртызанкі. Адсюль ён выправіўся ў Белу-Гамаку, дзе правёў 45-ы дажджлівы перыяд, падчас якога зведаў цяжкую і пакутлівую хваробу і абвясьціў, што доўга не пражыве. Ён пачаў павольна хадзіць па весалійскіх вёсках, усюды збіраючы сябраў ордэна і пераконваючы іх заставацца вернымі яго вучэнню.

“О, апосталы мае! Грунтоўна вывучайце і выконвайце, і ўдасканальвайце, і распаўсюджвайце закон, абвешчаны мной, для таго, каб гэтая мая рэлігія існавала доўга і была ўвекавечана для дабра і шчасьця народаў, праз спачуванне да сьвету, да выгады і дастату багоў і людзей... На жаль, я адыхожу. Праз тры месяца ад гэтага дня Дасягнуўшы Ісьціны памрэ. Мой век мінуў, маё жыццё пражыта. Пакідаючы вас, я адыходжу, аддадзены самому сабе. Будзьце руплівымі, ўдумлівымі і чыстымі. Цьвёрдыя ў рашучасьці, захоўвайце свае ўласныя сэрцы! Хто б ні быў нястомным пасьлядоўнікам гэтага закону і вучэння, ён пераплыве акіян жыцця і пакладзе канец пакутам!”.

Пасьля прыходу ў Паву, ён быў прыняты мясцовым майстрам залатых спраў, належаўшым да адной із ніжэйшых каст, які пачаставаў яго абедам із рысу і парасяці, і выправіўся ў Кусінагару пакупаўся на шляху ў рацэ Кукуштэ і, адпачыўшы некалькі гадзін, дасягнуў гаю каля Кусінагары, дзе доўга і сур'ёзна размаўляў са сваім шануемым вучнем, адпавядаючым евангельскаму Яну, Анандай, пра сваё пахаванне. Ананда упаў духам і, плачучы, адышоў у бок: “Я яшчэ не дасягнуў дасканаласьці, а мой настаўнік памірае, той, які такі добры”. Але Гаутама, выправіўшы за ім, суцешыў яго надзеяй на царства нябеснае (Нірвану). “О, Ананда не паддавайся хваляванню, не плач. Хіба я не казаў табе, што мы павінны разлучыцца з усім, што мы лічым найбольш шануемым і любым. Ніводная істота, народжаная або складзеная із частак, не можа пазбегнуць уласцівага яму разбурэння; такога становішча быць не можа, Ананда. Ты быў вельмі блізкі да мяне добрым словам і думкамі. Ты заўсёды рабіў добрыя учынкі; працягвай, і ты таксама цалкам вызвалішся ад гэтага жадання жыцця, ад гэтых ланцугоў невуцтва”. Затым, павярнуўшыся да іншых вучням, ён падрабязна размаўляў з імі.

Ноччу прыйшоў брамінскі філосаф і прапанаваў Буддзе некалькі пытанняў. “Зараз не час для такіх, спрэчак – адказаў Будда, – слухай, я буду навучаць цябе майму закону”. І Гаутама пачаў тлумачыць, што выратванне немагчыма знайсьці ні

ў адным із вучэнняў, якое не звяртае ўвагу на дабрадзейнае жыццё, на восем прыступак шляху сьвятасьці, які пачынаецца чысцінёй і заканчваецца шанаваннем. Гэтая прамова пераканала Субхадру.

Хутка пасьля гэтага паміраючы настаўнік сказаў Анандзе: “Вы, магчыма, думаеце: зараз слова скончана, наш настаўнік памёр; але вы не павінны так думаць. Пасьля маёй сьмерці, хай закон і правілы царквы, якія я вам даў, будуць вашымі настаўнікамі”.

Праз некаторы час ён сказаў: “Апосталы мае! Разбурэнне ўласьціва для ўсіх складаных рэчаў; старанна працуйце над сваім выратаваннем!” Гэта былі апошнія словы настаўніка. Хутка пасьля гэтага ён страціў прытомнасць і ў гэтым стане памёр.

Яшчэ за тры гады да яго сьмерці, яго родны горад Каніла-Васту быў разбураны, і яго племя сакіяў было пераможана Відудабхаю, сынам і спадкаемцай касальскага цара, і пра яго больш нічога не было чуваць[113]. І толькі на прыканцы XIX стагоддзя ангельскія буддолагі пачалі яго шукаць ў няпальскіх цясьнінах Гімалаяў, пад 27° 37' паўночнай шыраты і 83° 11' усходняй даўгаты ад Грынвіцкага мерыдыяна з такой стараннасьцю, што нарэшце (як і належала чакаць пры такім вялікім жаданні) знайшлі: у выглядзе парэшткаў, пра вялікае значэнне якіх мясцовыя жыхары нават і не падазравалі.

# Глава XVI

## Некаторыя роздумы з нагоды заснавальніка рэлігіі абуджэнства.

Уяўляемая нязменнасць установаў і веравызнанняў Усходу ўвайшла амаль у прыказку; але, з пашэрэненнем нашых ведаў пра Ўсход, гэтае меркаванне даводзіцца пакінуць, – выказваецца Рыс-Дэвідс (стар. 189).

У палійскіх і санскрыцкіх тэкстах слова Будда заўсёды ўжываецца як тытул, а не як імя. Будда-Гаутама (імя якога сугучна з жыдоўскім А-Адам), г. зн. увасобіўшыся ў чалавеку, пра якога вядома, як перадаюць, што ён толькі адзін із доўгай серыі Буддаў, якія час ад часу з'яўляюцца ў нашым сьвеце і вучаць адной і той жа сістэме. Пасьля сьмерці кожнага Будды яго веравучэнне квітнее на працягу некаторага часу і затым прыходзіць у заняпад, пакуль, нарэшце, цалкам не забываецца і на зямлі не наступае царства зла і гвалту. Пасьля гэтага сьвет паступова паляпшаецца, пакуль, нарэшце, не з'явіцца новы Будда, які зноў навучае страчанай ісьціне. Да нас дайшлі назвы дваццаці чатырох Буддаў, папярэднічаўшых учалавечыўшамуся Гаутаме і калі, праз 5000 гадоў пасьля чарговага адкрыцця ім ісціны пад дрэвам Во, яго веравызнанне забудзецца, новы Будда зноў адкрые людзям дзверы Нірваны, і імя яго будзе Майтрэйя Будда, Будда Дабрыні. У Буддавансе (Гісторыі Буддаў), апошняй кнізе Кхудака Нікайі ў другой Пітацы, да апавядання пра жыццё самога Гаутамы, дададзены жыццяапісанні ўсіх папярэдніх Буддаў; палійскі каментар на Джатакі ўтрымлівае некаторыя падрабязнасьці адносна кожнага із чатырох дваццаці.

Дастаткова зразумела, што амаль усе гэтыя падрабязнасьці з'яўляюцца толькі перайманнямі існуючых падрабязнасьцей у лягендзе пра Гаутаму. У асобных

[113] Рыс-Дэвідс, стар. 76.

месцах другой Пітакі мы маем некаторыя выслоўі, прыпісваемыя Касьяпе Буддзе, апошняму із дваццаці чатырох. У ёй тлумачыцца, што не ўжыванне нячыстай ежы ганьбіць чалавека, а хутчэй злыя ўчынкі і звычкі, пры гэтым разважанні маюць уражваючае падабенства з добра вядомымі месцамі ў Евангеллях, маючымі дачыненне да тых жа пытанняў[114].

Самога Гаутаму ўжо з вельмі ранніх часоў лічылі ўсюдыісным і абсалютна бязгрэшным. Дасканаласць яго мудрасьці пазначаецца эпітэтам "Цалкам Прасветлены", які сустракаецца на пачатку кожнага палійскага тэкста; у наш час на выспе Цэйлон звычайная назва Гаутамы – Сарваджньян Вахансе, "Паважаны Ўсёведаючы".

Як выснова із гэтага вучэння неўзабаве з'явілася вераванне, што ён не мог быць народжаным, што ён не нарадзіўся, як нараждаюцца звычайныя людзі; што ён не меў зямнога бацьку; што ён згодна з уласным жаданнем сышоў са свайго нябеснага пасада ў чэрава сваёй маці і што адразу пасьля свайго нараджэння ён выявіў несумненныя прыкметы сваёй будучай велічы. Пры яго нараджэнні зямля і неба злучыліся для яго ўшанавання; самі дрэвы, згодна з уласным жаданнем, схіліліся над яго маці, і анёлы і арханёлы з'явіліся, нясучы сваю дапамогу. Яго маці (Майя, г. азн. Марыля) была лепшай і цнатлівейшай із дочак, народжаных ад людзей, а бацька паходзіўшы із царскага роду, быў заможным і магутнейшым гасударом[115].

Пасьля сямідзённага пасту і адзіноты чыстая і святая Майя-Марыля бачыць у сне, што яна ўзносіцца архангеламі да неба і што там будучы Будда пранікае ў яе правы бок пад выглядам цудоўнага белага слана. Калі яна паведаміла пра гэта чалавеку, апошні паклікаў шэсцьдзесят чатыры галоўных брамінаў для нарады. Яны абвясьцілі, што народзіцца сын, які будзе ўсясьветным манархам, ці ж, калі ён стане пустэльнікам, то будзе Буддай, які "здыме покрыва невуцства і грахоў" з сусьвету[116]. Але белы слон, падобна беламу каню Апакаліпсіса, быў эмблемай Зеўса, сусветнага манарха неба.

Пры зачацці Будды здарылася трыццаць два знаменні; 10 000 сусьветаў запоўніліся сьвятлом, сляпыя пачалі бачыць, глухія пачалі чуць, нямыя загаварылі, заняволеныя былі вызвалены і г. д.; уся прырода расквітнела і ўсе істоты на зямлі ўзрадаваліся, у той час як полымя пекла патухла і пакуты асуджаных былі паменшаны. На працягу дзесяцімесячнага знаходжання ў чэраве маці дзіця было выразна бачным: яно сядзела са скрыжаванымі нагамі, поўнае годнасьці і павучала ахоўваючых яго анёлаў, працягваючы сваю руку, але не робячы гэтым шкоды сваёй маці.

Пасьля свайго нараджэння дзіця выступае на сем крокаў наперад і ўсклікае ільвіным голасам: "Я валадар сусьвету, гэта маё апошняе нараджэнне", і зноў на зямлі і на небе з'явіліся трыццаць два знаменні радасьці.

Святы стары, адасобіўшыся для роздумаў у Гімалайскія горы, пабачыўшы гэтыя знаменні, накіроўваецца, як у евангельскай лягендзе магі, у Капілавасту, і дзіця выносіцца да яго для ўшанавання. Мудрэц тлумачыць здзіўленаму бацьку,

---

114 Праф. Фаусбель. Сутта Ніпата, стар. 40, Евангелле ад Мацвея, XV, 10-21 і Марка, VII, 12-14.

115 Чома Карэсі паказвае на веру мангольскіх будыстаў, што Майя была цнатлівай, а св. Еранім сведчыць: "У індыйскіх сафістаў існуе паданне, што Будда, заснавальнік іхнай сістэмы, нарадзіўся із бока нявінніцы".

116 Джатака, стар. 50. У "Лаліце Вістары" (Фуко, 61) гэты сон ператвараецца ў рэчаіснасць, і Будда спускаецца з неба ў пазначаным месцы.

што дзіця стане Буддай, і плача з нагоды таго, што яму самому не давядзецца дажыць да гэтага дня.

На пяты дзень здзяйснялася святкаванне “абрання імя”, калі 108 брамінаў, дасведчаных у трох Ведах, а із іх восем асобна спрактыкаваныя ў прадказаннях, частуюцца ў “палацы”. Сем із васьмі, агледзеўшы прыкметы на целе дзіцёнка, падымаюць два пальцы і прадказваюць, што ён стане або ўсясьветным манархам, або Буддай; але адзін, Кандання, пазней першы вучань Гаутамы, падымае адзін палец і прадказвае, што ён несумненна стане Буддай, які здыме покрыва невуцтва і граху з сусьвету. Чацвёра із першадалучыўшыхся былі сынамі чатырох із гэтых пракокаў.

Гэтага эпізоду няма ў “Лаліце Вістары”, але замест яго (глава VIII), маюцца вершы, апісваючыя, як дзіця было прынесена ў храм і як ўсе багі падняліся і схіліліся перад ім.

“Вялікі цар” Судхадана выехаў, каб адсвяткаваць пачатак сяўбы, узяўшы з сабой прынца. Яго пасадзілі пад дрэва і вось, хаця цень ад усіх астатніх дрэваў павярнуўся ўжо ў процілеглы бок, дрэва, пад якім сядзеў Гаутама, усё яшчэ працягвала закрываць яго. “Лаліта Вістара”, якая адрозніваецца ва ўсіх прыватнасьцях гэтага міфа, дадае, што пяць анёлаў, пралятаўшых па паветры, былі цудам спынены, калі пралятали над дзіцёнкам. Яны заспявалі гімн у яго гонар:

“Ты – Вада сярод полымя граху, якае жарэ сьвет,
Ты – Сьвятло ў змроку невуцкага сьвету,
Ты – карабель сярод небяспекі акіяна чалавечых бедстваў,
Ты – Вызваліцель закаваных ў ланцугі граху,
Ты – Лекар пакутуючых ад разбурэння і хвароб,
Дзякуючы табе будзе дасягнута ісьціна,
Якая з’явіцца выратаваннем усіх надзеленых пачуццямі істот”.

Тут усё адпавядае Евангеллям, акрамя апавядання пра яго перавагу над усімі іншымі ў юнацкай адвазе і апісання яго атачэння, служак, гарэмаў і трох палацаў, а таксама каня Катхака, на якім ён, нарэшце, з’язджае із сядзібы свайго бацькі. Але, як і ў Евангеллях, ён яшчэ ў дзяцінстве вучыць сваіх настаўнікаў майстэрствам і навукам, і зведвае спакушэнні ад сатаны Мары.

Часовае ачышчэнне ракі, із якой ён пажадаў напіцца, нагадвае легенду пра хрышчэнне Езуса. Эпізод з пераўвасабленнем таксама нагадвае апавяданне пра пераўвасабленне Езуса.

Аднак у індускай практыцы спалення памёршых замест пахавання, праводзіны “настаўніка” на неба натуральна набылі нацыянальнае адценне. Вогнішча, на якое яго паклалі, само сабой загараецца, і калі ўсё, за выключэннем костак, адляцела ў вышыню, то ліўні з неба тушаць яго.

Я не магу тут не спыніцца на спробе падвесьці легенду пра Будду, як гэта рабілая і ў дачыненні да Хрыста, пад сонечны міф.

Сенар, падзяліўшы паданне на дванаццаць частак, наступным чынам рэзюмуе гісторыю Будды ў колазвароце сонца, даўшы свае заўвагі ў косках.

1. Рашэнне пакінуць неба. Будда да свайго нараджэння – вочы багоў. Ён не народжаны, але хоча ўвасобіць сябе сярод людзей дзеля іхнага дабра і выратавання (сонца пераходзіць із Авена ў Цяля, сгараючы ў полымі вечаровай зарніцы).

2. Зачацце. Яно цудоўнае. Ён не мае смяротнага бацькі, яго сыходжанне з неба суправаджаецца сімваламі бога сьвятла, схаваўшагася за хмарай – улоннем

яго маці. Яго прысутнасць выяўляецца яго першымі прамянямі, якія склікаюць ўсіх багоў на малітву і абуджаюць іх да жыцця (Сонца ўваходзіць із Цяляці ў Двайнят).

3. Нараджэнне. Ён нараджаецца як герой сьвятла і полымя, із сьветаўтвараючага дрэва, з дапамогай Майі (Марылі). Гэтая дзева-маці, Зарніца, – прадстаўніца ўсёахопліваючай вытворчай магутнасьці і ў той жа час напаловуцёмная багіня ранішніх выпарэнняў, як бы памірае з першай жа сваёй гадзіны ў слепячым ззянні свайго сына. А ў рэчаіснасьці яна працягвае жыць пад імем стваральніцы, карміцелькі сусьвету і яго бога. Яе сын, магутны, непераадольны з самага свайго нараджэння, пранікае ў прастору, асьвечваючы сьвятлом і абвяшчае сваё вярхоўнае валадарства, якому падпарадкоўваюцца і перад якім схіляюцца ўсе багі. (Сонца ўваходзіць з Двайняі ў Яслі Хрыста ў Раку).

4. Выпрабаванні. Ён расьце, аточаны “маладымі дочкамі” паветра, сярод якіх яго магутнасць і яго бляск схаваны і невядомы, ці толькі зрэдку выяўляюцца, пакуль не настае дзень, пад час якога ён адкрываецца, выпрабоўвае сябе ў першых змаганнях супраць сваіх цёмных ворагаў і ззяе, не маючы супернікаў. (Сонца пераходзіць із Рака ў Ільва).

5. Адружанне і задавальненні гарэма. Разам з ім выраслі маладыя німфы, зараз сяброўкі яго дзяцінства становяцца яго жонкамі і каханымі; бог знаходзіцца ў бяздзейнасьці і забываецца ў сваіх нябесных палацах, сярод задавальненняў свайго воблачнага гарэма. (Сонца пераходзіць з Ільва ў Панну. Дастаткова трапна!).

6. Выдаленне із бацькоўскай сядзібы. Але час яго настаў. Ён гвалтоўна, цудоўным чынам, адрываецца ад сваёй цудоўнай цямніцы; нябесны конь пераскоквае праз сьцены д'яблавага ўмацавання і нясецца па паветраных струмянях. (Сонца пераходзіць із Панны ў Шалі).

7. Здзяйсненні. З гэтага моменту пачынаецца барацьба. Герой спачатку выпрабоўвае спакусы і знясілены вандроўкамі ў прасторы. Неўзабаве ён зноў набывае сваю магутнасць на нябесных нівах, дзе ён п'е амброзію і купаецца ў вадзе несмяротнасьці. (Сонца пераходзіць із Шаляў у Скарпіёна).

8. Параза Дэмана. Ён саспеў для прызначанай яму задачы, заваявання амброзіі і кола (арбіты), робячага дождж і святло плёнымі. Ён завалодвае чароўным дрэвам; дэман Бры накіроўваецца, каб пачаць з ім барацьбу із-за гэтага дрэва, але цёмная магутнасць Мары пераможана, парвана і раскідана: дочкі дэмана Апсары, апошнія лёгкія выпарэнні, нясучыяся па небу, дарэмна спрабуюць ахапіць і затрымаць пераможцу; ён вызваляецца з іхных абдымкаў, адштурхоўвае іх; яны выгінаюцца, губляюць сваю форму і знікаюць. (Сонца пераходзіць у Стральца).

9. Поўнае прасвятленне. Тады ён з'яўляецца ва ўсёй сваёй славе і ў поўным бляску; бог дасягнуў вяршыні свайго шляху; гэта момант трыумфу (Сонца пераходзіць у Казярога – вельмі няўдала).

10. Прывядзенне ў рух кола. Не сустракаючы перашкод і праціўнікаў, адпомсціўшы свайму вечнаму ворагу, ён рухае ў прасторы свой зіхацячы тысячамі прамянёў дыск (Сонца пераходзіць із Козерога ў Вадаліва, пачынаецца яго новы ўздым на лета).

11. Нірвана. Праз некаторы час ён дасягае заканчэння свайго шляху; ён напярэдадні сьмерці, стаўшы у сваю чаргу ахвярай дэмана: змрочнага, дзікага кабана. Але спачатку ён бачыць увесь свой род, усё сваё сьветлае атачэнне знікаючымі ў крывавых грамадах вячэрніх хмар. (Сонца пераходзіць у сузор'е Рыб на скрыжаванні нябеснага экватора і экліптыкі).

12. Пахавальныя звычаі. Ён сам знікае на захадзе, палаючы сваімі апошнімі прамянямі, падобна вялічэзнаму вогнішчу і толькі малочныя аблокі ў стане патушыць на гарызонце апошнія водбліскі гэтага боскага пахавання. (Сонца ўступае ў Авена).

Такой з’яўляецца спроба Сенара астрамізаваць міф пра Будду, але яна, як чытач бачыць із маіх заўваг ў косках, вельмі не вытрымана, а таму і зародак гэтага міфа даводзіцца шукаць не самастойна, а толькі як далейшае развіццё евангельскіх легенд пра Хрыста, сапраўды маючых чыста астральны характар. І не цяжка бачыць, што ўсе гэтыя Пітакі, Лаліты і іншыя індыйскія кнігі з'яўляюцца сборнікамі сучасных нам легенд, якія ўзніклі ўжо пры шырокім распаўсюджваннні Евангелляў шляхам друкавання. Гэта ўсё фальклор, даючы цікавы этнаграфічны матэрыял, але не маючы ніякага гістарычнага значэння.

Ушанаванне мясцовых святынь, вядома, мела наступствам таксама і мясцовыя дадаванні. Так, ушанавальнікі аднаго знаходзячагася на Цэйлоне чалавечага зуба, згодна з паданнем належаўшага Буддзе, дадалі да апавяданняў пра яго сьмерць падрабязнасьці, што Арахат Кшэма ўзяў гэты зуб з попелу пахавальнага вогнішча. Бірманцы перадаюць, што брамін, ладкаваўшы яго парэшткі, выкраў і яшчэ адзін зуб, а сінгалезцы, якія сцвярджаюць, што парэшткі ад шыі Будды да гэтага часу захоўваюцца пад Махіянганскай Дагабай, дадаюць, што царкоўны староста, на імя Сарабху, пры тых жа абставінах ўзяў і гэтыя парэшткі, із чаго відаць, што ўшанаванне парэшткаў ужо квітнела ў той час, калі была напісана пазначаная кніга.

Цікаўную главу ў гісторыі буддыйскай легенды, – кажа Рыс-Дэвідс, – складае наданне ёй хрысьціянскай формы адным із бацькоў хрысьціянскай царквы, пры гэтым герой гэтай легенды быў прыняты ў лік сьвятых рымска-каталіцкага календара, і памяць яго сьвяткуецца 27 лістапада пад імем св. Іасафата, пра што я ўжо згадваў у ІІІ томе Хрыста (частка 1, гл. V). А як гэта атрымалася, патлумачана Рыс-Дэвідсам. У ліку твораў, прыпісваемых Яну Дамаскіну, знаходзіцца рэлігійны раман “Жыццё Варлаама і Іасафа”, апавядальная частка якога з'яўляецца прататыпам гісторыі Будды, як яна выкладзена ў джатакскім каментары або Лаліце Вістары. Грэцкі тэкст гэтага рамана, з лацінскім перакладам, знаходзіцца ў патралогіі Міна. Галоўны змест твора заключаецца ў доўгіх тэалагічных і маральных павучаннях прынца Іасафа з боку яго настаўніка Варлаама (г. азн. сына Ламы), прычым у яго тэксце змяшчаецца некалькі буддыйскіх апавяданняў.

Перакананы ў глыбокай старажытнасьці буддызму, Рыс-Дэвідс, вядома, нітрохі не сумняваецца, што еўрапейцы перапісалі ў буддыстаў, а не буддысты ў еўрапейцаў. Але з эвалюцыйнага і нават з проста навуковага, а не фантастычна-гістарычнага боку гледжання выходзіць цалкам наадварот. Не буддысты выпраўлялі сваіх місіянераў у Яўропу, а наадварот. У гэтым ніхто не сумняваецца, а як следства не можа быць сумневаў і ў тым, што ўсе вытрымкі на санскрыцкай мове (якая і сама, як я ўжо пазначаў у ІІ томе Хрыста, прыйшла ў Індыю із Балканскай паўвыспы) із гісторыі пра сына ламы (Вар-Лаама) і яго вучня царэвіча Іасафа – ён жа Будда – прыйшлі на азіяцкі ўсход із Рамеі ўжо пазней VIII стагоддзя нашай эры.

Развіццё буддыйскага вучэння ў Пенджабе, Няпале і Тыбеце, – кажа той жа Рыс-Дэвідс, – надзвычай цікавая і каштоўная справа, з нагоды падабенства з развіццём хрысьціянства ў рымска-каталіцкіх краінах. Яно завяршылася поўным

зацверджаннем ламаізму – рэлігіі, шмат у чым адрозніваючайсяч ад індыйскага буддызма.

Развіццё грунтуецца на тэорыі, якая выкладзена на пачатку апошняй главы. Дух дабрыні, ад якога бяруць пачатак усе дабрачыннасьці і магутнасьцю якога буддыстская царква яшчэ раз заваладарыць над сьветам і пераможа ўсякі грэх і адсутнасць веры, увасоблены ламаізмам у Майтрэйя Буддзе, будучым Буддзі дабрыні. Гэтае вучэнне складае частку Сістэмы Малога Экіпажа – найменне, даваемае пазнейшай школай вучэнню Пітак, у адрозненні ад вялікага Экіпажа (Махайяна), як пазнейшая школа называе саму сябе. Малы Экіпаж таксама ўжо разважае пра асабістых Буддаў; і пра Бодзісатваў, абраных Буддах, г. азн. падобных Хрысту. Да ліку асабістых Буддаў належаць тыя, якія валодаюць дастатковай мудрасьцю і сьвятасьцю не толькі для спасьцігання Нірваны, г. азн. царства нябеснага, але і будства для саміх сябе, не будучы, аднак, здольнымі патлумачыць ісьціну іншым. А Бодзісатва, г. азн. Абраны Будда, з’яўляецца тытулам, даваемым між іншым і кожнаму чалавеку, анёлу і жывёле, які вырабляе іншыя істоты на безперапынна-ўзыходзячай лесвіцы дабрыні, пакуль не ператворацца ў Будду. Але разуменне Бодзісатваў невызначанае, і пры гэтым яны цалкам адсутнічаюць ў Бірме, Сіяме і на Цэйлоне. Із гэтых прыпадобніўшыхся Хрысту Мілаславаў (Мандж-сры) утвараецца цэнтр Мудрасьці і, у асаблівасьці, містычнага рэлігійнага досведу, а ўсявышні Гасподзь (Авалакітэсвара) з’яўляецца міласэрдным заступнікам і абаронцай сусьвету і людзей. І той, і другі часта згадваюцца ў “Лотасе добрага Закону” (містычная назва сусвету), перакладзеным Бюрнуфам. І Міласлаў лічыцца нават містычным аўтарам “Кнігі Пун-дарыкі”, дзе цэлая глава прысвечана ўхваленню характара, магутнасьці і выгод, якія набываюцца праз глыбокае шанаванне Ўсявышняга Госпада.

А акрамя іх ісуе яшчэ і трэцці Бодзісатва “Носьбіт Грома” (Ваджрадхара або Ваджрапані). “Громаручнаму” – два эпітэты, раней дапасуючыяся і да бога Індры. Гэта старажытнейшая тройца паўночнага буддызму. У Гэтай Тройцы Громаручны-Ваджрапані з’яўляецца Юпітэрам-Громавержцам, Міласлаў (Манджусры) – абагаўлённым настаўнікам і ўсявышні Гасподзь (Авалакіесвара) – сьвяты дух Будд, прысутнічаючы ў цэрквах. Гэтыя істоты ператварыліся ў практычных багоў, хаця і маюць найменне абраных Буддаў.

У дзесятым стагоддзі нашай эры, – кажуць нам, – існавала адна бясконцая, самабытная і прадбачлівая істота, маючая назву Ады-Буда, Першапачатковы Будда. Пазней прыйшлі да высновы, што ён вылучыў із сябе пяць Дыяні (Боскіх) Буддаў шляхам разважанняў; яны вылучылі із сябе шляхам мудрасьці і назіранняў адпаведных Бадзісатваў, і кожны із іх, у сваю чаргу, вылучыў са сваёй нематэрыяльнай істоты Космас, матэрыяльны сьвет. Зараз лічаць, што наш сучасны сьвет з’яўляецца тварэннем чацьвёртага із іх.

Варта заўважыць, – выказваецца Рыс-Дэвідс (стар. 193), – што гэтыя вылучэнні маюць аддаленае падабенства з эонамі (вылучэннямі) гнастычных школ, і ўяўляецца немагчымым, што падобныя буддыйскія багі абавязаны сваім паходжаннем уплыву пярсідзкага хрысьціянства.

Але ўсё гэта, відаць, індывідуальныя меркаванні асоб новага часу, так як яны існуюць толькі ў рукапісах, вядомых толькі ў адзіных экзэмплярах. А ў массавым існаванні буддыстаў існуе цалкам іншае.

У кляштарях і храмах і зараз пераважаюць выродлівыя выявыя багоў са шматлікімі вачамі, галавамі і рукамі. Яны намаляваны ў кнігах і на сьценах, і

пастаўлены адапал дарог. Вера ў містычныя чары і выказванні і зараз не мае межаў і ўяўляемая карысць ад бясконцых паўтарэнняў адной і той жа малітвы складае адну із выбітнейшых рыс сучаснай рэлігіі Тыбету. Кожны тыбецец мае пацеркі, якія складаюцца із 108 шарыкаў, з дапамогай якіх ён адлічвае свае прашэнні. Як у публічных, так і ў прыватных рэлігійных учынках найвялікшае значэнне надаецца колькасьці слоў.

Хаця мы і на больш блізкай ад нас адлегласьці чуем пра падобныя ж, да некаторай ступені, вучэнні, але тыбетцы выстаўляюць іх з не маючай баязьні логікай, уражвачай нас. Магчыма самым дзіўным вынахдніцтвам, зробленым імі з мэтай атрымання даброт ад тых уяўляемых імі істот, якімі іхнае дзіцячае разуменне запоўніла неба, з'яўляюцца добра вядомыя малітоўныя колы, гэтыя своеасабівыя прылады, напоўнныя малітвамі, заклінаннямі і вытрымкамі са сьвятых кніг і ўсюды стаячых у гарадах на адкрытых месцах, рзмешчаныя па баках сьцяжынак і шляхоў, вярцячыяся ў кожнай рацэ і нават (пры дапамозе асаблівых ветразей) круцячыхся кожным ветрыкам, дуючым над сьвятымі далінамі Тыбета. Так падчас публічных набажэнстваў гімны спяваюцца то ва ўнісон, то ў выглядзе антыфонаў – адзін верш адным хорам, другі верш – другім. Але гэта патрабуе шмат часу, і вось у выпадку доўгіх спяванняў, час скарачаецца арыгінальным чынам: кожны манах спявае асобны радок, так што клір можа праспяваць цэлую главу на працягу адной хвіліны. Дакладна так жа буддысты паважаюць будаваць так званыя "Дрэвы Закона", г. азн. высокія жэрдкі з шаўковымі сьцягамі, якім прыпісваецца асаблівая цудадзейная ўлада, дзякуючы містычнай магутнасьці напісаных на ёй сьвятых слоў "Ом Мене падме хум" (каштоўны камень знаходзіцца ў лотасе). Кожны раз, калі сьцягі раздуваюцца ветрам, і шэсць "сьвятых словаў" паварочваюцца да неба, гэта лічыцца адпавядаючым вымаўленню адной малітвы, якая прыносіць даброты не толькі малітоўшчыку, за чый кошт быў усталяваны сьцяг, але і ўсёй мясцовасьці, і ў Тыбеце вока паўсюдна бачыць такія малітоўныя сьцягі.

І вось, чытач, бачучы ўсё гэта, як жа вы зможаце пагадніць сведчанне ўласных вачэй з апавяданнямі пра тую складаную буддыйскую мудрасць і тэасофію, у якой быццам бы яшчэ за 2000 гадоў да нашага наша часу была папярэджана еўрапейская філасофія XIX стагоддзя, ад Канта да Бюхнера?

# Глава XVII.
# Спроба пабудавання кароткага эскізу рэальнай гісторыі буддызму і агульная выснова пра яго развіццё із вучэнняў еўрапейскіх хрысьціян вяртальнікаў (нестарыян) V стагоддзя нашай эры.

Нашы першакрыніцы.

Гаворачы пра ненатуральнасць артадаксальнага і рэзкага размяжавання зямных рэлігій Т. В. Рыс-Дэвідс у сваёй кнізе "Буддызм" справядліва заўважае:

"Кожны кітаец прызнае сябе пасьлядоўнікам філасофіі Канфуцыя, і ў той жа час ён звычайна моліцца таксама ў храмах буддыстаў. Таксама немагчыма паказаць у лічбах уплыў буддызму і ў Індыі". А мы дададзім ад сябе, што нават і ва ўсходняй Яўропе артадаксальнае праваслаўе з'яўляецца здабыткам толькі некалькіх тысяч тэалогаў, а астатнія мільёны насельніцтва, толькі механічна

чытаюць сімвал веравызнання і памятаюць некалькі легенд пра “Хрыста”, што цалкам знікае ў моры забабонных фантазій пра анёлаў, дэманаў, прывідаў, дамавікоў, русалак і г. д”.

У гэтым асвятленні трэба рзумець і прыводзімыя тут табліцы, якія па магчымасьці дакладна паказваюць на колькасць сучасных буддыстаў, каля 1900 г., параўнальна з колькасьцю прыхільнікаў іншых веравызнанняў.

*Табліца I.*
*Колькасць буддыстаў у разных краінах на 1900 год.*

| | |
|---|---|
| На Цэйлоне | 2.000.000 |
| У Бірме | 7.000.000 |
| У іншых частках Індыі | 300.000 |
| У Сіяме (толькі мужчыны) | 10.000.000 |
| У Аname (толькі мужчыны) | 12.000.000 |
| У галандзкіх паўднёва-азіяцкіх уладаннях і Балі | 50.000 |
| У ангельскіх паўднёва-азіяцкіх уладаннях | 500.000 |
| У рускіх азіяцкіх уладаннях | 600.000 |
| На выспах Ліу-Кіу | 1.000.000 |
| У Карэі | 8.000.000 |
| У Бутане і Сікііме | 1.000.000 |
| У Кашміры | 200.000 |
| У Тыбеце | 6.000.000 |
| У Манголіі | 2.000.000 |
| У Манчжурыі | 3.000.000 |
| У Японіі | 41.000.000 |
| У Няпалі | 500.000 |
| Ва ўласным Кітаі (18 правінцый) | 415.000.000 |
| Агульная сумма | 511.000.000 |

*Табліца 2*
*Колькасць буддыстаў у параўнанні з іншымі веравызнаннямі на 1900 год.*

| | | |
|---|---|---|
| Парсы | 150.000 | |
| Сейхі | 1.894.723 | |
| Юдэі | 7.000.000 | 0,5% |
| Усх. праваслаўе | 75.000.000 | 6% |
| Рымска-каталікі | 152.000.000 | 12% |
| Астатнія хрысьціяне | 100.000.000 | 8% |
| Індусы | 200.000.000 | 16% |
| Магаметане | 155.000.000 | 12,5% |
| Буддысты | 511.000.000 | 40% |
| Не ўвайшоўшыя ў пералічаныя катэгорыі | 100.000.000 | 8% |
| | 1.311.000.000 | |

А вось і дыяграмма гэтых лічбаў (мал...).

Усё гэта адлюстроўвае не сапраўднае сьвядомае стаўленне людзей да рэлігіі, а толькі тое, якіх настаўнікаў яны лічаць правільнымі, давяраючы ім. Але і ў гэтым выпадку немагчыма падвесьці рэлігію кожнага чалавека пад пэўную рубрыку. Так, напрыклад, шмат хто із цэйлонскіх буддыстаў прысягаюць на судзе як хрысьціяне, і вялізная большасць із іх верыць у дз’ябла і магутнасьць зорак. Шмат якія із уласьцівых ім разуменняў цалкам стаяць па-за буддызмам. Але прыведзеныя тут

статыстычныя дадзеныя вельмі каштоўныя, так як даюць нам магчымасць да некаторай ступені ўразумець сабе вялізную колькосць нарадзіўшыхся, якія жывуць і паміраюць без якога б то ні было ўяўлення па сучаснае еўрапейскае прыродазнаўства, сапраўды ствараючае цуды ў жыцці чалавецтва. У той час, як наша сучасная навука міжнародная і адзіная, як і адзіная ўсякая ісьціна, рэлігійныя вучэнні нацыянальныя і разнастайныя, як і ўсякая памылковая думка. Сапраўды, патрапіць ў патрэбнае месца можна толькі страляючы ў адным напрамку, а непатрапіць можна па шматлікіх. Можна прама сказаць, што ні адзін із пяцісот мільёнаў якія час ад часу прыносяць у ахвяру кветкі на буддыйсцкія ахвярнікі, не з'яўляецца артадаксальным будыстам. Першапачатковая першакрыніца буддызму, распацоўваемая аж да нашых дзён як дзікімі ордамі халодных пласкагор'яў Няпала, Туркестана і Тыбета так і культурнымі кітайцамі і японцамі ва ўмераных краінах, і сінгалезамі і сіамцамі пад пальмавымі гаямі поўдня – зараз настолькі пераіначана нацыянальнымі асаблівасьцямі сваіх прыхільнікаў, што развілася ў своеасаблівыя недарэчныя і нават супярэчлівыя веравызнані. Але, не гледзячы на гэта, кожнае із такіх веравызнанняў прасякнута ў большай ці меншай ступені духам нейкага першапачатковага веравызнання, вельмі блізкага да хрысьціянскага, і асабліва секты хрысьціян-вяртальнікаў (нестарыян) меўшых пашырэнне як раз у гэтых краінах на пачатку сярэдніх стагоддзяў.

Нават і сам Джон Дэвід, прызнаючы сапраўднае існаванне Будды пад імем Гаутамы, у глыбокай старажытнасьці, кажа: “Развіццё буддызму ішло відавочна паралельна з развіццём хрысьціянства”[117]

Падобна таму, як нашы звесткі пра жыццё Хрыста запазычаны із чатырох Евангелляў, так і звесткі пра Будду із трох Пітак, г. азн. “Сходаў”, як называюцца кананічныя кнігі паўднёвых буддыстаў. І як у хрысьціян Евангеллі дапаўняюцца тлумачэннямі апостолаў і тэалогаў, так і ў буддыстаў з’яўляюцца каментары на Пітакі і сьвятыя кнігі, не атрымаўшыя агульнай назвы. “Із гэтага відаць, – кажа Рыс-Дэвідс (стар. 12), – што Гаутама-Будда не пакінуў пісьмовых твораў, ды і ўяўляецца сумніўным, што пісанне існавала ў яго час у даліне Ганга, хаця буддысты вераць, што ён пісаў творы, якія яго бліжэйшыя вучні, пры яго жыцці, вывучылі напамяць і якія ў іхным першапачатковым выглядзе перадаваліся вусна з пакалення ў пакаленне, пакуль не былі запісаны”.

Чытач бачыць сам, што гэта тое ж самае, што паведамляецца і пра Магамета і пра Хрыста. Нам кажуць, што дакладна таксама і “Кнігі Ведання” (Веды) індускіх брамінаў на працягу шматлікіх стагоддзяў перадаваліся такім жа чынам. Мы не будзем аспрэчваць вялікага развіцця памяці ў індыйскіх жрацоў і манахаў. “Але ўжо са зместу зразумела, – кажа той жа Рыс-Дэвідс (стар. 13), – што гэта не магло мець дачынення да якой-небудзь із вядомых нам буддыйскіх кніг, напісаных на санскрыцкай мове або адносна тых частак “Пітак”, якія паведамляюць пра жыццё Гаутамы. Такім чынам, гэтая ўпэўненасць прававерных буддыстаў скасоўваецца, і мы пакідаемся на ўласныя доследы, калі жадаем вызначыць час стварэння сьвятых кніг”.

А якія ж матэрыялы для гэтых даследаў? Выяўляеца, што цалкам такія ж, як і ў хрысьціян! Выяўляецца, што аналагічна сямі сусветным соборам праваслаўнай царквы, і ў буддыстаў існавалі такія ж саборы, толькі час іх правядзення, вылічаны старажытнымі астраномамі, іншы.

---

[117] Рыс-Дэвідс: Буддызм, стр.12 рускага перакладу, М.Ц.Гінсубрга. 1901 г.

“Пасьля сьмерці Будды-Гаутамы, – кажа той жа аўтар (стар. 198), – буддыйскае грамадства (як і хрысьціянскае) не адразу распала на шматлікія секты. Пасьля сьмерці Настаўніка старэйшыя вучні вырашылі склікаць сабор для выпрацоўкі правілаў і вучэння царквы”.

Першы сабор, аналогічны Нікейскаму, – збіраўся паблізу Раджагрыхі, пад старшынством прэстарэлага Маха Касьяпы (накшталт Панаса Вялікага), аднаго із першых сябраў суполкі, з якім Будда некалі памяняўся адзеннем у адзнаку адзінства адчуваняў паміж імі. Гэты сабор складаўся із 500 сябраў. Паседжанні праводзіліся ў пячоры Сатапані, якая існуе і да нашага часу ў гары Вайхара, паблізу Раджагрыхі, і прыстасаваная спецыялна для гэтай падзеі царом Аджатасатру Магадхскім (аналаг Кастуся Вялікага). Там, згодна з паданнем, увесь сабор разам прасьпяваў словы шануемага настаўніка, захаваныя ў Тхера Вадзе (павучаннях Старэйшых), і прававерныя буддысты вераць, што гэтая Тхера Вада была тоеснай з Трыма Пітакамі, быццам бы існаваўшымі на Цэйлоне на пачатку XX стагоддзя, але не надрукаванымі яшчэ і тады. Змест першых двух быў:

1. Сутта, Выказванні.
2. Гейя, Сумесь прозы і вершаў.
3. Вейякарана, Тлумачэнне.
4. Гатха, Вершы.
5. Удана – Песьні захапення.
6. Ітувутака – 110 урыўкаў, пачынаючыхся звычайнымі славамі ў біблейскіх пракокаў: “так кажа Благаславёны”.
7. Джатака – 350 казак і прыпавесьцей фальклорнага накірунку.
8. Аббхута, Містэрыі.
9. Ведала, шырокія разважанні.

Абедзьве цэйлонскія хронікі паведамляюць, што першы сабор працягваўся сем месяцаў.

Потым мы не маем ніякіх дакументаў да апісання другога Вайсалійскага сабору, адкрытага, быццам бы, прыблізна праз 100 гадоў пасьля першага. Ён быў сабраны для вырашэння надзвычай важнага пытання. Некаторыя манахі падтрымлівалі так званыя дзесяць паблажак, супраць якіх паўставалі іншыя. Важнейшай із іх была тая, што пасьвячэнне ў веру магло здзяйсняцца ў прыватных сядзібах, а не толькі пры кляштарах, і акрамя таго дазвалялася піць перабрадзіўшыя напоі, калі яны маюць такі ж выгляд як і вада.

Пасьля моцнай барацьбы сабор асудзіў гэтыя паблажкі і ўслед за тым, на працягу 8 месяцаў у Вайсалі праводзіў паседжанні другі сабор із 700 сябраў, зноў падцвердзіўшы правілы і вучэнне Веры. Але пастановы гэтага сабору не былі прызнанны ўсімі. Другая партыя таксама склікала сабор, значна больш шматлікі, і таму названы Вялікім Саборам, які прызнаў паблажкі. Гэта было цалкам аналагічна “Разбойнічаму сабору” хрысьціянскіх тэалогаў і пра яго “Дыпаванса” сведчыць:

“Манахі вялікага Сабору перавярнулі рэлігію,
Старажытныя скасаваўшы пісанні і новыя зацвердзіўшы.
Не ведалі яны, пра што гаворыцца падрабязна і коратка,
У чым просты і ў чым найвышэйшы сэнс -
Яны надалі словам Будды новы сэнс
І разбурылі іхны дух, трымаючыся цені літар.
Сутту, Вінайю глыбокія часткова адкінуўшы....
І шмат яны адкінулі, замяніўшы іншым”.

Гэта быў (як і ў паданнях пра еўрапейскія саборы) першы відавочны раскол. Абедзьве цэйлонскія хронікі пералічваюць назвы 18 сектаў, на якія пазней распалася буддыйская царква; але абодва пералічэнні адрозніваюцца як адзін ад другога, так і ад пералічэння васямнаццаці сектаў у тыбецкім пераліку. Мы амаль нічога не ведаем адносна супярэчнасьцей, размежаваўшых гэтыя секты, але ўсе яны належалі да малога Экіпажу, а не да вялікага Экіпажу, як называліся два галоўныя накірункі Буддыйскай царквы, аналагічна праваслаўнай і каталіцкай. Некаторыя із іх павінны былі адрозніваца вельмі нязначна ад астатніх, і хаця спрэчка паміж двума вялікімі партыямі – партыяй менш строгай і партыяй больш строгай дысцыпліны – магла быць пазбаўлена сэнсу, але яны абедзьве прызнавалі, што і іхныя праціўнікі маглі дасягнуць таго ж выратавання, як і яны самі, “абедзьве філасофскія школы, – выказваецца кітайскі буддыст Хіуен Танг, – знаходзяцца пастаянна ў спрэчцы, і шум ад іх заахвочаных пярэчанняў паднімаецца падобна марскім хвалям”. Ерэтыкі розных сект далучаюцца да асобных настаўнікаў, але і яны рознымі шляхамі ідуць да той жа мэты.

Цікава, што хуткае павелічэнне буддыйскіх сектаў гісторыкамі тлумачыцца тымі ж нагодамі, як і ў Яўропе. Ўплыў жрэчаства, – кажа Рыс-Дэвідс (стар. 203), – станавіўся ўсё больш духоўным, па меры таго як сьвецкая ўлада ўзмацнялася. Некаторыя правадыры сталі царамі, і алігархіі ўсё больш набліжаліся да дэспатый. Неўзабаве пасьля сьмерці Гаутамы Аджатасатру, цар Магадхі, – запэўніваюць нас, – скасаваў хаўрус ваджыйскіх кланаў на супрацьлеглым баку Ганга. Наступствам гэтага быў шэраг войнаў паміж Магадхай і суседнімі царствамі. Менш значныя правадыры былі вымушаны стаць на бок таго ці другога із магутных супернікаў, у той час як кожная із краін ператварылася ў арэну інтрыг з нагоды вялікага жадання валодання пасадам.

І вось з’явіўся Чхакраварці, “сусьветны монарх” індусаў. Падобна грэкам далучыўшых бляск сонечнага міфа да славы Аляксандра Вялікага, індыйцы перанеслі на гэты свой ідэал цара рысы ведычных герояў.

Так міжвольна гісторыкі буддызму злучаюць свайго “сусьветнага манарха” з Аляксандрам Македонскім грэчаскіх паданняў, пераносячы падзеі ў тую ж эпоху.

“У 325 г. да н. х, – кажа Рыс-Дэвідс, (стар. 205) – Аляксандр спыніў сваё пераможнае шэсьце на берагах Гіфазія. Там пераможаны мяцежнік, збегшы ад цара Магадхі, наведаў яго лагерь. Затым праз 10 гадоў пад найменнем Чхандра-Гупты, ён прагнаў грэкаў із Індыі, перамог Селеўка, грэцкага правадыра індыйскіх правінцый. Ці магчыма, што гэта і быў Асока, да часу беравання якога як палійскія, так і санскрыцкія кнігі адносяць Вайсалійскія саборы”.

Хай будзе так – пагадзімся мы, – няхай пачатак буддызму будзе адначасова з Аляксандрам Македонскім. Але толькі ці сапраўды заваёўнік, даўшы нагоду да ўзнікнення гэтага міфа, хадзіў на Індыю ў 325 годзе да пачатку нашай эры? Стратэгічна – як я ўжо не раз паказваў, – гэта было цалкам немагчыма пры адсутнасьці якіх бы то ні было шляхоў стасункаў да пачатку нашай эры і пры адсутнасьці ў тагачасным войску тапографаў і інтэндантскай часткі. Я ўжо паказваў, што некаторыя дэталі набліжаюць міф пра Аляксандра Македонскага да легендаў па Аляксандра Сявера (222-235 гг. нашай эры), але і гэты “герой”, як мы бачылі, апакрыфічны. І вось із усіх заваёўнікам старажытнасьці Аляксандра Вялікага хутчэй за ўсё можна атаясаміць з тым, каго нашы першакрыніцы называюць пярсідзкім заваёўнікам Хазроем Справядлівым (531-579) або з яго сынам Хазроем II (591-628), распаўсюдзіўшым сваю (не інакш як тэакратычную!)

уладу як раз у тых межах, як і ў міфе пра Аляксандра Вялікага: ад Ягіпта і Міжземнага мора, праз усю Персію і Афганістан да Індыі.

А ў гэты час і быў як раз самы разгар сусьветных хрысьціянскіх сабораў, із якіх другі – Канстантынопальскі – адбыўся ў 533 г, пад час царавання Хазроя Справядлівага, прычым гэты Хазрой храналагічна з'яўляецца ізатопам Юстыніяна, імя якога ў перакладзе таксама азначае Справядлівы[118].

І гэта зноў сведчыць пра тое, што легенды пра буддыйскія "саборы" спісаны із хрысьціянскіх сабораў.

Ні Чхандрагупта, ні яго сын Біндусара яшчэ не былі буддыстамі; але трэцці ў іхным родзе, вядомы пад імем Асакі, адкрыта прыняў народнае веравызнанне.

Яго імя ўшаноўваецца ўсюды, куды прабралася вучэнне Будды, ад берагоў Волгі да Японіі, ад Цэйлона і Сіяма да межаў Манголіі і Сібіры. "Калі, – кажа Кеппен, – слава чалавека можа быць вымерана колькасьцю вуснаў, з павагай вымаўляючых яго імя, то Асока больш знакаміты, чым Карл Вялікі або Цэзар".

Падобна свайму хрысьціянскаму адпаведніку Кастусю, – дадае да гэтага Рыс-Дэвідс (стр. 206), міжволі робячы новае зближэнне, – ён быў далучаны цудам, – так высока буддыйсцкія пісьменнікі ставяць яго далучэнне да іхнага веравызнання. І тым не менш, нельга сумнявацца ў тым, што гэта быў першы крок да выгнання буддызму із Індыі. Не тое, каб гэтае далучэнне, само па сабе, пашкодзіла царкве, але буддыйскія пісьменнікі магуць, без значных змен дапасаваць да сябе словы Дантэ:

"Ах, Кастусь, якае зло для царквы зрабіла,
Не тваё далучэнне, а тыя маёнткі,
Якімі ты царкву ўзнагародзіў".

Пасьля свайго далучэння, якое адбылося на 10-м годзе яго царавання, Асока пабудаваў шмат кляштароў і забяспечыў манахаў усім неабходным для жыцця; да чаго ён заахвочваў і сваіх прыдворных. Ён таксама заснаваў сады і шпіталі для людзей і жывёл і выдаў указы, абавязваючыя ўсіх яго падданных да маральнага жыцця і справядлівасьці.

У апошнія 50 гадоў было зроблена цікавае адкрыццё некалькіх такіх указаў ад імя Асокі, высечаных на розных пракрыцкіх гаворках на слупах ў Дэлі і Алахабадзе, на скалах паблізу Пешавара, і на шляху, які вядзе ў паўднёва-заходнім накірунку ад Дэлі ў Джайяпуру. У іх загадваеца слухацца бацькоў, дабразычліва ставіцца да сяброў, міласэрдна да жывёл, спачувац ніжэйшым, паважаць брамінаў і буддыйскіх сьвятароў, падаўляць гнеў, жорсткасць, або распусту, вялікадушнасць і памяркоўнасць, чалавекашанаванне, але вельмі магчыма, што гэтыя надпісы таго ж гатунку як і хрысьціянскія цудатворныя іконы.

Пасьля заканчэння сабору ў Патне, – зноў жа як у хрысьціян пад час сярэдніх стагоддзяў, – былі выпраўлены міссіянеры ў разныя краіны, сярод якіх згадваецца Цэйлон і краіна грэцкага цара Антыёха. У іншым указе Асокі згадваецца, што ён выправіў пасланнікаў да чатырох грэцкіх цароў і "здабыў перамогу не мячом, а рэлігіяй".

Цэйлонскім царом у гэты час быў Ціса, меўшы назву ў хроніках "Ціса ўцеха багоў". Да яго быў выпраўлены, адразу ж пасьля заканчэння сабору, ўласны сын Асокі Махінда, які "каранаваў яго".

---

[118] Юстыніян-Справядлівы (у Вялікай Рамеі), яго сын Юстын ад 527 да 578 года, а Хазрой Справядлівы (у Персіі) ад 531 да 579 гады.

Услед за гэтым некаторыя са сваячак цара выказалі жаданне стаць манахінямі і Махінда выпрвіў за сваёю сястрой Сангхамітаю для іхнага навучання. Яна развіталася са сваім бацькай, ўвяла з сабой некалькіх манахінь і пачала навучаць новых вучняў правілам буддызму. Іхныя заняткі, галоўным чынам, зводзіліся да слухання і паўтарэння сьвятых кніг.

Сангхаміта прынесла з сабой таксама галінку сьвяшчэннага дрэва Бо, якое ў той час расло ў Будда-Гаі на месцы сучаснага храма. Пад гэтым дрэвам Будда-Гаутама, быццам бы, вытрымаў духоўную барацьбу, называемую дасягненнем буддства. Яно было пасаджана ў Ану-радхапуры, трохі на поўдзень ад Руванвельскай Дагабы і, як гэта ні здаецца неверагодным, – наіўна выказваецца Рыс-Дэвідс (стар. 241), – яно да гэтага часу там расьце. А сэр Эмерсон Тэнет нават дадае: "Анурадхапурскае дрэва Бо, верагодней за ўсё, з'яўляецца самым старажытным дрэвам сьвету. Яно было пасаджана за 288 гадоў да н. х. і, як следства, яму ў наш час (у 1899 г.) 2147 гадоў"[119].

Баабабам Сенегала, эўкаліптавым дрэвам Тасманіі, драконаваму дрэву Аратавы, Белінгтоніі, Каліфорніі і арэхаваму дрэву гары Этна, – дадае ён, – прыпісвалі ўзросты, вагаючыяся паміж адной і чатырма тысячамі гадоў. Але ўсё гэта толькі здагадкі, і падобныя вылічэнні, якімі ні дасьціпнымі яны з'яўляюцца, прыводзяць толькі да штучных высноваў, у той час як узрост дрэва Бо вызначаецца гістарычнымі крыніцамі, і гісторыя напаткаўшых яго здарэнняў захавана ў цэлым шэрагу пасьлядоўных хронік, належачых да ліку найбольш праўдзівых, якімі валодаюць людзі. У параўнанні з ім элерыйскі дуб з'яўляецца толькі парасткам, а дуб Заваёўніка ў Віндзорскім лесе ледзь налічвае палову яго гадоў. Лічаць, што кактусы Фаунтэнскага абатства цвілі там 1200 гадоў таму назад; масьліны ў Гефсіманскім садзе дасягнулі поўнай спеласьці, калі сарацыны былі прагнаны із Ерусаліма, а сорнскі кіпарыс у Ламбардыі, кажуць, быў ужо дрэвам пад час валадарання Юлія Цэзара. Але дрэва Бо старэйшае із самых старэйшых із гэтых дрэў на стагоддзе і, відаць, імкнецца спраўдзіць прадказанне, выказанае пры яго пасаджэнні, што яно будзе "квітнець і зелянець вечна". Яно належыць да пароды фігавых. Увесь выгляд дрэва і яго агароджы маюць бяспрэчныя сьляды глыбокай старажытнасьці; але мы не маглі б быць упэўнены ў яго тоеснасьці без таго ланцуга дакументальных доказаў, якія так удала злучаны з сэрам Эмерсонам Тэнерам.

Вось да чаго, чытач, можна дайсьці, кіруючыся гістарычнымі доказамі!

Зараз пяройдзем да іншага, на гэты раз не матэрыяльнага дрэва. Некалі Пушкін напісаў пра свае вершы і прозу:

"Я помнік сабе стварыў нерукатворны
Да яго не зарасьце народная сьцежка.
То не тырана помнік ганебны
Да якога безсэнсоўна ідзе натоўп.
Чутка пра мяне пройдзе па ўсёй Русі вялікай,
І назаве мяне кожны ведаючы ў ей мову
І горды ўнук славян, і фін і зараз дзікі
Тунгус і сябар стэпаў калмык".

Але творы Пушкіна былі надрукаваны неўзабаве пасьля яго сьмерці, а тыя, якія не адпавядалі цэнзурным умовам, хутка памнажаліся ў рукапісах, пакуль і не былі надрукаваны за мяжой. А што ж мы ведаем пра Зборы-Пітакі?

---

[119] А ў давяршэнне кур'езу, Рыс-Дэвідс нават папраўляе яго на тры гады; яму, – кажа ён, – ў 1899 годзе было 2144 гады.

Нам кажуць, што пад час царавання Ватты Гаміні на Цэйлоне, час царавання якога як раз адпавядае часам Юлія Цэзара (ад -100 да -44 г.), дакладней у -88 годзе, праз 330 гадоў пасьля сьмерці Будды-Гаутамы ўпершыню былі пісьмова выкладзены ўспаміны пра яго. Махаванса згадвае пра гэтую важную падзею ў наступных вершах, запазычаных ёю із Дзіпавансы:

“Манахі мудрыя перадавалі вусна
Тэкст трох Пітак і камэнтары да іх
Але бачачы, што наступае забыванне іх у народзе
Каб Веру захаваць, запісалі сабраўшыся ў кнігі”.

Але хіба можна захаваць ў памяці не толькі самому, але і прымусіць завучыць сваіх вучняў цэлыя тамы прозы?

Нам, еўрапейскім навукоўцам, – пярэчаць нам, – вядома немагчыма. Але індускія навукоўцы – іншая справа.

“Але гэтае нежаданне запісаць тэкст – наіўна выказваецца Рыс-Дэвідс, – менавіта і каштоўнае як следства сваёй наіўнасьці, – не павінна весьці да высновы пра сумневы адносна тоеснасьці існуючага выкладання тэксту з прынесеным ім некалі на Цэйлон. Ён захаваў такім жа чынам, як і класічныя творы адносна праўдзівасьці якіх не існуе сумневаў (стар. 218)”.

А вось, у папярэдніх тамах мы палічылі апокрыфамі Эпохі Адраджэння ўсе класічныя творы. Дык чаму ж не зрабіць тое ж самае і ў дачыненні да індыйскай класічнай літаратуры, не гледзячы на тае, што “ў 1875 годзе ў Ратнапуры, пад старшынством галоўнага жраца Сумангалы, сабралася рэвізійная камісія, складаўшаяся із манахаў-навукоўцаў, і старанна вывучыла ўсе Пітакі”?

Але вернемся да псеўдагістарычнай часткі. Пераскочыўшы праз чатырохсоценны гістарычны прамежак і становячыся менш экстравагантнымі, гісторыкі буддызму кажуць, што Бірма перайшла да буддызу ўжо толькі ў 450 годзе нашай эры, Сіам у 632 годзе, а Ява атрымала першых місіянераў буддызму адначасова з узнікненнем агаранства ў VII стагоддзі: “Але несумненна, – дадае Рыс-Дэвідс, што буддызм быў пануючай рэлігіяй у трынаццатым стагоддзі нашай эры, да якога адносіцца пабудову храма ў Бара-Будоры (стар. 220)”.

Вось з гэтым можна і не спрачацца. Але справа станавіцца горшай, калі пераходзім да Кітая.

“Буддызм, – кажуць нам, – прыйшоў у Кітай па шляху, агінаючаму паўночна-заходні Гімалайскі схіл і ідучаму праз Усходні Туркестан”. Ужо ў 2 годзе пасьля н. х. амбасада, магчыма выпраўленая Хувішкай, прынесла буддыйскія кнігі (пра адмаўленне ад якіх буддыстамі Індыі мы толькі што згадвалі) тагачаснаму кітайскаму імператару А-ілі, і кажуць, што імператар Мінг-Ці, у 62 г. пасьля н. х., натхнёны пабачаным ім сном, выправіў у Татарыю і цэнтральную Індыю і ўвёў буддыйскія кнігі ў Кітаі: манахі із цэнтральнай і паўночна-заходняй Індыі часта падарожнічалі ў Кітай, і самі кітайцы здзяйснялі шмат падарожжаў у больш старажытныя буддыйскія краіны з мэтай збірання сьвятых твораў, старанна перакладаемых імі на кітайскую мову. У чацьвёртым стагоддзі буддызм стаў дзяржаўнай рэлігіяй ў Кітаі, дзе існавалі і існуюць манахі, належачыя да большасьці разнастайных напрамкаў пазнейшага няпальскага буддызму.

**************** адсутнічае ліст ****************

Падчас свайго знаходжання ў гэтай краіне Хіуен Тзанг прысутнічаў на вялікім Канойскім (Кан’якубжынскім) саборы, скліканым пры Сіладыйі ў 634 г. (і амаль адначасова з III Канстантынпальскім, 680-691 гг.), на якім вучэнне Малога Экіпажа было асуджана.

Нам кажуць, што хутка пасьля пакідання Хіуен Тзангам Індыі буддысты зведалі пераслед і ўціскі з боку індусаў, падбухторваемых вучэннем браміна́ў, але нават у адзінаццатым стагоддзі цары Кашмірскі і Арыскі, усё яшчэ падтрымлівалі рэлігію Гаутамы. У дванаццатым стагоддзі, калі Кашмір быў захоплены мусульманамі, у Індыі не засталося буддыстаў за выключэннем нешматлікіх, якія вялі вартае жалю існаванне, пераняўшы індускія норавы адносна кастовых устаноў і звычак.

Час з'яўлення першых місіянераў буддызму ў Тыбеце дакладна невядомы. Першы буддыйскі цар Тыбету выправіў у Індыю амбасаду за сьвятымі пісаннямі ў 632 г. нашай эры, але праз стагоддзе прыхільнік мясцовага ідолашанавання, – кажуць нам, – прагнаў манахаў, разбурыў кляштары і спаліў сьвятыя кнігі. Але царква вярнулася пераможцай пасьля сьмерці свайго ганіцеля і хутка пачала набываць заможнасць і ўплыў, дзякуючы духу Буддаў, якія прысутнічалі у ёй. Гэты дух прысутнічае ў хутуктах, занімаючых становішча амаль падобнае кардыналам у рымскай царкве, і ён асабліва ўвасоблены ў асобе Далай Ламы, бязгрэшнага кіраўніка царквы, зямнога прастаўніка Адзібудды, у буддыйскім папе. Але Далай Лама стаў толькі ў 1419 годзе адзіным цывільным валадаром Тыбету.

Наступнае апісанне высокага набажэства ў Хласкім галоўным храме дасць чытачу разуменне пра ступень развіцця, якога зараз дасягнуў ламаізм.

У галоўны храм сьвяшчэннага горада заходзяць праз шырокі бабінец, дзе прадаецца сьвятая вада і пацеркі і ў якім стаяць 4 выявы арханёлаў. Сьцены пакрыты грубымі малюнкамі адлюстроўваючымі падзеі із легенд пра Будду, а дах падтрымліваецца шасьцю масіўнымі слупамі, пакрытымі ляпнымі ўпрыгожваннямі з яскравай афарбоўкай і пазалотай. Сама царква складаецца із доўгай сярэдняй прасторы, аддзеленай шэрагам слупоў ад двух бакавых прастораў і срэбнай агароджы на ўсю даўжыню, у выглядзе занавесак – ад двух вялікіх ахвярнікаў. На бакавыя прасторы з кожнага боку выходзяць 14 прыбудовак. На прыканцы знаходзіцца сьвятое месца, у якім змяшчаецца 15 упрыгожаных каштоўнымі камянямі таблічак з містычнымі сімваламі і іншымі высновамі буддыйскай метафізікі, а ў найбольш аддаленай нішы, уяўляючай род апсіды, знаходзіцца цудоўная залатая статуя абагаўляемага Гаутамы Будды. Злева – пасад Далай Ламы, направа – пасад Панчэн Ламы, а з абодвух бакоў у паніжаючымся шэрагу, як згодна з велічынёй, так і з убраннем, – месцы для сядзення хутукт, абатаў і 14 згуртаванняў ніжэйшага сьвятарства. Насупраць статуі Будды знаходзіцца галоўны, ахвярнік, падняты на некалькі прыступак над падлогай. На верхніх прыступках стаяць статуі із золата, срэбра і гліны, на ніжніх – званочкі, лампы, кадзілы і іншыя рэчы, выкарыстоўваемыя пры набажэнствах. Па гуку ражка або трубы, сьвятарства збіраецца ў прытворы ў мантыях і шапачках. Пры трэццім сігналу, працэсія, маючая наперадзе сябе жывога Будду, крочыць па бакавому крылу. Калі Далай-Лама сядзе на свой пасад, кожны лама тройчы кланяецца яму і ў вызначаным парадку садзіцца на дыван, скрыжаваўшы ногі. Тады б’юць у звон, і ўсе прамаўляюць Тры Прытулкі, Дзесяць Загадаў і іншыя формулы. Пасьля наступлення цішыні, зноў б’ць у звон, і жрацы храма пачынаюць сьпяваць больш доўгія ўрыўкі са сьвятых кніг. Пад час сьвяточных дзён найбольш урачыстым момантам набажэнства з'яўляецца малітва пра асьвячэнне прынашэнняў. Б’юць у звон і ўсе манахі пачынаюць сьпяваць малітоўны гімн, у якім просяць пра прысутнасць духу усіх Буддаў. Адзін із манахаў трымае над сабой люстэрка, – сэнсам чаго, відаць, з’яўляецца тое, каб заўважыць выяву духу пры яго з'яўленні;

другі манах паднімае кружку; трэцці – містычны сімвал сьвету; чацьвёрты – чарку; іншыя – розныя сьвятыя пасудзіны і містычныя сімвалы. Галасы сьпяваючых, гук званоў, барабанаў і труб станавіцца ўсё мцнейшы, і храм запаўняецца ладанам із сьвятых кадзілаў. Манах, трымаючы кружку, некалькі разоў аблівае вадой, перамешанай з сахарам і шафранам, люстэрка, якае другі манах кожны раз выцірае шаўковым рушнікам. Вада сцякае із люстэрка над сімвалам сьвету і цячэ ў размешчаную ніжэй чарку. Із яе сьвятая сумесь выліваецца ў іншы кубак. Адна ці дзьве яе кроплі магуць быць капнуты на кожную із рук бяручых удзел у службе манахаў, якія мажуць сьвятой вадкасьцю макушку сваёй выгаленай галавы, свой лоб і свае грудзі. Затым яны праглынаюць астатнія кроплі, веручы, што яны праглынаюць частку боскай істоты, выява якой была адлюстравана ў люстэрку, па якому цякла вада.

“Сапраўды, – заканчвае Рэд-Дэвідс сваю кнігу, – ламаізм са сваімі паголенымі жрацамі, званочкамі і пацеркамі, сваімі статуямі, сьвятой вадой і пышным убраннем, сваёю службай з падвойнымі харамі і працэсіямі, сваімі містычнымі цырымоніямі і каджэннем, прычым цывільныя толькі выконваюць ролю староннiх гледачоў; сваімі абатамі, глыбокім шанаваннем двайной панны, святых і анёлаў, сваімі пастамі, споведзямі і чысьцілішчам, сваімі пышнымі кляштарамі і пышнымі храмамі, сваёй магутнай іерархіяй, сваімі кардыналамі і сваім папай, – са знешняга, ва ўсякім разе, боку, вельмі падобны на рымскі каталіцызм”.

# Глава XVIII.

## Усе шляхі із Цар-Горада

адсутнічае

## Яшчэ раз пра псіхалогію ілжывасьці і падмана. Эпілог буддызма.

Я шмат раз казаў, што ўся філасофія індусаў вынайдзена еўрапейцамі нашага часу і толькі навязана індусам. А як гэта адбылося, я пакажу на прыкладзе гісторыі ”Тэасафічнага таварыства”.

“Асноўныя думкі сучаснай тэасофіі, – кажа д-р Леман ў сваёй ілюстраванай “Гісторыя забабонаў і чараўніцтва” (стар. 355) – асабліва запазычаны із буддызму. Гэтым у развіццё еўрапейскага духа быў унесены новы элемент, які мы таксама не павінны абыходзіць маўчаннем, як не можам пакінуць без увагі і высокаталенавітую, у шмат якіх дачыненнях выбітную родапчынальніцу ўсяго гэтага вучэння”.

Цалкам пагаджаючыся з гэтымі словамі гісторыка забабонаў і чарадзейства, мы і пачнём.

Алена фон Ган-Ротэнштэрн, дачка рускага полкоўніка графа Пятра фон Ган-Ротэнштэрна і пісьменьнніцы Ган, нарадзілася ў 1831 годзе ў паўднёварускім горадзе Екацярынаславе. З самага ранняга дзяцінства яна была пакінута на дагляд прыслугі і яе ўяўленне атрымала сабе першае падмацаване ад нянькіных казак пра разнастайных духаў; звыш таго, ёй рана прышчапілі веру ў тое, што яна, у якасьці “нядзельнага дзіцяці” (так як нарадзілася ў нядзелю), павінна быць асабліва

здольнай бачыць духаў і мецць з імі стасункі. Яна была вельмі нервовым дзіцёнкам-самнамбулай, сны якога набліжаліся да выразнасьці галюцынацый. У выніку яна уяўляла сябе пастаянна аточанай істотамі, якія, хаця і былі нябачнымі для іншых, але ў грамадстве якіх і ў летуценнай адзіноце яна адчувала сябе асабліва добра. Пад час дзяцінства, кажуць, яна была з аднаго боку ў вышэйшай ступені свавольнай і ўпартай, а з другога – выяўляла схільнасць да містычных кніг і роздумаў. Лёгка зразумець, што із такіх задаткаў, з далучэннем яе неўтаймаванай энергіі, павінна было атрымацца нешта асаблівае.

У 1848 годзе, яшчэ ва ўзросьце 17 гадоў, Алена Пятроўна адружылася з генералам Блавацкім, але праз тры гады, калі ёй мінула толькі 20 гадоў, яны разышліся, і Алена Пятроўна на працягу дванаццаці гадоў вандравала за свой кошт па Яўропе, Амерыцы, Ягіпту і Індыі, пакінуўшы прозвішча свайго чалавека, і развіваючы свае здольнасьці як медыума. Згодна з яе, нікім не праверанымі запэўніваннямі, яна правяла сем гадоў – ад 1863 да 1870 – у атачэнні вялікіх махатмаў у Гімалаях. Гэтыя махатмы, гонар знаходжання якіх належыць самой Алене Пятроўне, уяўляюць, згодна з яе словамі, таварыства надзвычай мудрых мужоў, якія хаваюцца ў самых непрыступных мясцовасьцях Тыбету і сваім сьвятым жыццём і руплівым вывучэнем таямніц прыроды набылі амаль чароўную празарлівасць і магутнасць. Махатма, – гаварыла яна, – ці яго адэпты, валодае здольнасьцю чытаць думкі людзей і здзяйсняць ўнушэнні на якой заўгодна аддаленай адлегласьці. Ён здольны разбіраць або разкладаць матэрыяльныя рэчы на іхныя складовыя часткі; з дапамогай таемных здольнасьцей ён у стане “накіроўваць” гэтыя часткі ў якое заўгодна месца, дзе ён зноў збірае іх у першапачатковую форму. Такім чынам нейкая рэч можа знянацку з'явіцца ў замкнёнай прасторы. Далей адэпт можа выклікаць гукі, прыводзіць у рух рэчы, не датыкаючыся да іх, і з дапамогай нябачнай магутнасьці перашкаджаць перамяшчэнню прадметаў. Ён можа на якой заўгодна адлегласьці без дапамогі нейкіх матэрыяльных рэчаў рабіць паведамленні іншым адэптам і, нарэшце, на некаторы час аддзяляць душу ад цела, так што яна атрымлівае магчымасць згодна са сваім жаданнем здзяйсняць экскурсіі незалежна ад часу і прасторы.

Пры гэтым-та Гімалайскім таварыстве мудрых мужоў, якае там існуе шмат тысячагоддзяў, Алена Пятроўна быццам бы правяла сем гадоў, была пасьвечана ў яго таямніцы і сама зрабілася адэптам. Да гэтага часу махатмы, – паведамляе яна, – хавалі сваю мудрасць пры сабе, як вялікую таямніцу, але зараз згодна з іхнымі вылічэннямі, настаў час паведаміць яе людзям. Для гэтага яны і выправілі яе як вучаніцу, каб яна паведаміла сьвету “веды пасьвечаных”. Прыехаўшы із Індыі ў Ягіпет у 1870 годзе, яна спачатку заснавала там у Каіры сьпірытычнае таварыства, якае, аднак, хутка распалася, а затым, згодна з загадам свайго настаўніка махатмы Кута Хумі, ужо ў саракагадовым узросьце, праехала праз Яўропу ў Нью-Ёрк. Тут яна пазнаёмілася з дбайным спірытам палкоўнікам Генры Алькотам і ў 1875 годзе, калі ёй было ўжо 44 годы, яна сумесна з ім заснавала тэасафічнае таварыства, якае мела на мэце:

1) стварыць падмурак ўсеагульнага братэрства, якое б ахоплівала ўсё чалавецтва без разлічэння народнасьцей, колеру і веравызнання;

2) садзейнічаць вывучэнню арыйскіх і іншых твораў па рэлігіі і навуцы і абараняць значнасць старажытнай азіяцкай літаратуры, асабліва ж браманскай, буддыйскай і зараастрыйскай філасофіі;

3) даследаваць патаемныя таямніцы прыроды, асабліва псіхічныя здольнасьці, драмаючыя ў чалавеку".

Палкоўнік Алькот быў першым прэзідэнтам гэтага таварыства і перавёў яго на "галоўную кватэру" ў Індыю ў прадмесьце Адз'яр каля Мадрасы.

Яе літаратурная дзейнасць пачалася ў кансерватыўных выдавецтвах "Рускі веснік" і "Маскоўскія ведамасьці", дзе яна апісвала свае індыйскія прыгоды пад псеўданімам Радда-Бай, а затым, праз некалькі гадоў, у 1877 г., Алена Пятроўна, захаваўшая і пасьля разлучэння прозвішча чалавека, – Блавацкая, – надрукавала ў Бостане, калі ёй было ўжо 46 гадоў, свой вялікі галоўны твор "Разчыненая Ізіда". Тут яна імкнецца давесьці, што так называемая ёю тэасофія з'яўляецца толькі таемнай унутранай сутнасьцю, змяшчаючайся ў рэлігійных і філасофскіх сістэмах старажытных часоў, у магіі, спірытызме і г. д. Прапануемае ёю вучэнне уяўляе сабой экстракт із самых разнастайных сістэм, пры гэтым яна выяўляе глыбокае знаёмства з рэдкімі магічнымі творамі. Аднак, згодна са словамі складальніцы, яе кніга ўзнікла не чыста натуральным шляхам, а цалкам насупраць; большая яе частка належыць махатмам, душы якіх наведвалі аўтара начамі ў яе працоўным кабінеце: на наступную раніцу яна заўсёды зхадзіла шмат напісаных лісткоў, далёка перавышаючых тое, што яна сама была здольнай напісаць за той жа час.

І вось Блавацкая і палкоўнік Алькот пачалі езьдзіць па Індыі і ўсюды прапаведаваць быццам бы выходзячую ад яе ж новую рэлігію, тэасофію. Яны набылі там шмат прыхільнікаў, якія затым распаўсюджвалі гэтае вучэнне далей, так што ў наступныя гады тэасафічныя таварыствы пачалі ўтварацца паўсюдна, асабліва ж у краінах з ангельскай мовай. Тая акалічнасць, што тэасофія знайшла сабе нямала пасьлядоўнікаў, тлумачыцца па-сутнасьці тымі ж нагодамі, як і пашырэнне спірытызма. Перш за ўсё рэлігійныя дагматы тэасофіі, меўшыя нібыта буддыйскае паходжанне, маюць для хрысьціян своеасаблівую прывабнасць у сваім містыка-фантастычным адлюстраванні, ды і адно тое, што тэасофія не ведае вучэння пра вечны прысуд стварыла для яго нямала прыхільнікаў, а Блавацкая, акрамя таго, засведчыла паўдзівасць свайго вучэння і даказала сваю ўласную прыналежнасць да адэптаў з дапамогай шэрагу цудоўных здзяйсненняў. Так, са столі пакоя, дзе яна знаходзілася, падалі лісты ад яе сяброў, махатмаў, у асаблівасьці, ад яе настаўніка Кута Хумі, і ў гэтых лістах змяшчаліся доўгія, падрабязныя абмяркаванні глыбакаразумовых праблем, пра якія толькі што ішла спрэчка. Прадметы, якія яна трымала у руцэ, знікалі і знаходзіліся ў іншых дамах, дзе яе цалкам не было. Брошка, згубленая адной, цалкам ёй невядомай асобай у зусім іншым месцы Індыі, з'явілася, згодна з яе жаданнем, у яе і знайшлася ў падушцы, якая была выбрана адвольна сярод іншых маючыхся ў яе падушак. Асабліва часта падобныя цуды здараліся на яе галоўнай кватэры ў Адз'яры ў Індыі, паблізу Мадраса. Тут упершыню паказаў сябе ў астральным выглядзе Кута Хумі, г. азн. з'явілася толькі яго душа, надзеленая тонкай матэрыяльнай абалонкай, каб яго маглі бачыць смяротныя. Тут жа знаходзіўся "каўчэг", сьвятая шафа, да якой тубыльцы ставіліся з вялікай рэлігійнай пашанай. Разбітыя рэчы, пакладзеныя ў яе, знікалі і замяняліся новымі падобнымі. Дакладна так жа ў ёй знікалі лісты з пытаннямі да махатмаў, а праз некалькі хвілін выяўляліся шматслоўныя адказы на іх і г. д.

Усе гэтыя цуды абудзілі, вядома, вялікую цікавасць, але сапраўдную вядомасць у Яўропе яны набылі дзякуючы маленькай, майстэрскі напісанай кніжцы Сінэта "Патаемны сьвет", 1881 г., якая была перакладзена на большую частку

еўрапейскіх моваў. Аўтар тут выявіў вялікую практычнасць. Ён не задаволіўся простым апісаннем падзей і зацверджаннем, што ўсё гэта здарылася цалкам натуральным шляхам, дзякуючы вышэйшаму разуменню махатмаў і іхных вучняў. Ён усюды паказвае, што гэтыя здаючыяся цудамі здарэнні цалкам пагадняюцца з вядомымі зараз законамі прыроды, так што заходнім прыродазнаўцам патрэбна толькі больш глыбокае веданне прыродных магутнасьцей, каб атрымаць магчымасць рабіць тое ж самае.

"Гэтая кніжка, – працягвае д-р Леман (стар. 359), – сапраўды напісана так добра і атрымлівае праз тое такую здаючуюся пераканаўчасць, што наперад не адважваешся адмаўляць магчымасць паведамляемых тут "цудаў". І ўсё-такі, як выявілася, – дапаўняе ён, – яны былі толькі вытанчаным падманам. Нехта с-р і с-ня Кулом, доўгі час пражываўшыя на галоўнай кватэры Блавацкай у Адз'яры, пасварыўшыся з Блавацкай, пачалі ўсюды паведамляць, што яны разам з двума індыйскімі ашунцамі-факірамі былі саўдзельнікамі Блавацкай ў здзяйсненні ёю падманаў. Гэта выклікала такую вялікую ўвагу, што лонданскае "Таварыства псіхічных дазнанняў" выправіла аднаго із самых выдатных сваіх сябраў, с-ра Хадгсана, у Індыю, каб ён выведаў пра справу на месцы. Ён наладзіў перакрыжаваны допыт абодвух бакоў і здабыў некалькі лістоў Блавацкай, якой тады ўжо было каля 53 гадоў, і тых, якія нібыта належалі махатмам. Гэтыя лісты былі аддадзены для параўнання лонданскім графолагам, прычым выявілася, што лісты махатмаў былі напісаны самой Блавацкай. Затым Хадгсан выявіў, што большая частка апавяданняў пра разнастайныя цуды супярэчаць адзін аднаму, а "каўчэг" выявіўся проста-напраста прыстасаваннем фокуснікаў з высоўваючайся задняй перагародкай, так што ў яго можна было пракрасьціся праз таемныя дзьверы, якія знаходзіліся ў сьцяне спальні Блавацкай. У сваёй шырокай справаздачы, надрукаванай у 9-й частцы "пратаколаў" таварыства за 1885 г., Хадгсан прыходзіць да той высновы, што Блавацкая самая адукаваная, дасьціпная і цікавая падманшчыца, якую толькі ведае гісторыя, так што яе імя заслугоўвае з гэтай нагоды быць перададзеным нашчадкам".

Справаздача Хадгсана нанесла ўдар тэасофіі. Шмат якія із тэасафічных таварыстваў спынілі саё існаванне, і справа ніколькі не выправілася ад таго, што ў 1886 г. Сінет надрукаваў "Выпадкі із жыцця Блавацкай", дзе ён імкнуўся абяліць яе ад усіх абвінавачванняў. Тэасафічныя таварыствы адпалі ад галоўнай кватэры ў Індыі і тая, якая падняла ўсю гэтую буру, памёрла ў 1891 годзе ў Лондане, забытая і пакінутая большасьцю сваіх былых прыхільнікаў у шасьцідзесяцігадовым узросьце.

Паглядзім зараз на яе філасофію.

"Рэлігійная сістэма тэасофіі" была ўпершыню выкладзена ў яе "Разчыненай Ізідзе". Гэты велічэзны твор з'явіўся ў 1887 годзе, калі Блавацкай было 56 гадоў, у цалкам перапрацаваным выглядзе пад загалоўкам "Таемнае вучэнне". Пазней яна надрукавала кароткае выкладанне галоўных пунктаў сваёй сістэмы ў "Ключы да тэасофіі". Але лепшае, найбольш зразумелае і таленавітае выкладанне гэтая сістэма набыла ў Сінэта ў яго "Таемным буддызме", 1883 г. У супрацьлегласць большасьці іншым станоўчым рэлігіям, тэасофія вяўляецца ў гэтых творах як самы чысты пантэізм. У "Ключы да тэасофіі" паведамляецца:

"Мы адкідваем уяўленне пра асабістага, знаходзячагася па-за сьветам, чалавекападобнага бога, які з'яўляецца толькі вялічэзным адбіткам чалавека і нават не самага лепшага чалавека. Мы верым ва ўсёахопліваючы боскі пачатак, ад якога ўсё выходзіць і да якога ўсе вяртацаецца ў вялікім колавярчэнні жыцця". Для гэтага вучэння характэрны таксама дзьве думкі, запазычаныя ў буддызме, а менавіта – пра дзейнасць (карму) і пра пераўвасабленні.

Дзейнасць як быццам бы атаясамляемая з рэчаіснасьцю (па-буддыйскі кармай) з’яўляецца, – кажа ён, – “законам непазбежных наступстваў”. “Усё, што здараецца з чалавекам тут, на зямлі, не толькі яго знешняе стаўленне, але і развіццё яго асобы, з’яўляецца строгім наступствам яго папярэдняга жыцця ў гэтым ці ў ранейшым існаванні. Калі чалавек памірае, яго душа накіроўваецца ў Дзевахан (род раю – нірваны), дзе яна зведвае сапраўднае шчасьце, страчваючы якія б то ні было ўспаміны або веды пра пакуты зямнога існавання. Такі стан шчасьця служыць узнагародай за дабро, якае душа здзяйсняла падчас свайго знаходжання на зямлі; ён працягваецца да таго часу, пакуль гэтыя заслугі не будуць узнагароджаны. Пасьля гэтага душа зноў нараджаецца, зноў набывае чалавечае цела, і як знешнія дачыненні, так і ўнутранае развіццё, якія зараз пачынаюцца для душы, з'яўляюцца прамымі наступствамі яе ранейшага зямнога існавання. У чым душа тады саграшыла, тое ёй адпомшчваецца рана ці позна, прыводзячы за сабой свае натуральныя наступствы. Такім чынам, душа напераменку знаходзіцца то ў раю-дзевахане, то на зямлі, пакуль не будзе выкуплена ўся яе правіна і разам з тым не адпадзе неабходнасць адраджэння. Тады душа злучаецца з усеагульным боскім пачаткам, г. азн. творчай магутнасьцю прыроды – нірванай, дзе рай і бог зліваюцца разам.

Такой з’яўляецца тэорыя, канчаткова выпрацаваная Сінетам толькі ў 1885 годзе для еўрапейскіх і амерыканскіх тэосафаў пад выглядам адноўленага буддызму. Але кожная тэорыя патрабуе падцверджанняў. І вось, падобна таму, як спірыты знаходзяць падцверджанні свайго вучэння ў паведамленнях духаў, тэасафічнае грамадства спасылалася на махатмаў. Тэасофія, згодна з іхнымі запэўніваннямі, гэта да гэтага часу трымаўшаяся ў таямніцы вучэнне гэтых апошніх, а так як яны і ў іншых пытанннях далёка пераўзыходзяць астатніх смяротных сваімі разумовымі здольнасьцямі, то іхнае вучэнне пра сусьветнае ўпарадкаванне і пра лёс чалавечай душы павінна стаяць вышэй усякай крытыкі. Звыш таго, яны атрымалі непасрэдныя павучанні ад Гаутамы Будды падчас яго апошняга ўвасаблення, і так як Будда пры сваім знаходжанні на зямлі паспеў ужо настолькі ачысьціцца, што мог прыступіць да вечнага шчасьця рая-нірваны, і толькі добраахвотна адрокся ад яго, каб яшчэ раз нарадзіцца сярод людзей у якасьці настаўніка, – то веды махатмаў маюць боскае паходжанне. А тым, хто пытаўся, якім жа чынам можна атрымаць доказы ў існаванні і звышчалавечых ведаў махатмаў, паказвалі на цудоўныя падзеі, якія здольны здзяйсняць Алена Пятроўна і іншыя адэпты. Такім чынам і Блавацкая для апраўдання сваёй місіі была вымушана, як і іншыя заснавальнікі рэлігій, звярнуцца да цудаў. Але, як дачка XIX стагоддзя, яна сама не верыла ў цуды ў сэнсе натуральнага парушэння ўпарадкавання рэчаў; яна бачыла ў іх хутчэй толькі вынікі вышэйшага разумення законаў прыроды і схілялася да таго меркавання, што заходняя навука таксама паступова дойдзе да іх. А ў чым складалася “вышэйшае разуменне” Блавацкай і чым даказвалася існаванне яе настаўнікаў-махатмаў, гэта можна лічыць дастаткова высветленым пасьля дазнання ангельскага навуковага таварыства. Разам з тым тэасофія апусьцілася да прыступі простага выніку фантазіі.

З боку Блавацкай, – кажа далей д-р Леман, – было рашуча геніяльнай думкай перанесьці месцазнаходжанне махатмаў у Тыбет, г. азн. недасягальную вобласьць, размешчаную на мяжы Індыі. Таму што індыйскія факіры, асабліва ж іхнае вышэйшае згуртаванне або секта, так званыя ёгі, ужо даўно карыстаюцца ў Яўропе вялікай славой як чараўнікі. Тэосафы бачылі ў гэтых ёгах род недасканалых

махатмаў: хаця яны і здольны здзяйсняць шмат цудоўных рэчаў, але аднак не дасягалі ступені вышыні адэптаў і карыстаюцца толькі гіпнозам, чаму навучыўся ад іх партугальскі абат Фарыя яшчэ на пачатку XIX стагоддзя. Таксама несумненна, што факіры ўмеюць прыводзіць сябе ў стан штучнага сну, падобнага на той, які ўяўляе сабой натуральную з'яву ў некаторых жывёл, так што магуць жыць без ежы і амаль без дыхання даволі доўгі час, цэлыя тыдні, нават месяцы. Але ўсе гэтыя з'явы да гэтага часу не больш асэнсаваны ў асяроддзі факіраў Індыі, чым у Яўропе пад час сярэдніх стагоддзя ў асяроддзі хрысьціянскага сьвятарства, дзе гіпнатычныя наданні параўноўваліся са стасункамі з дз'яблам (слова таго ж кораня, як і халдэй і нават культ).

Самыя старажытныя апісанні выпадкаў наданняў (гіпнозу) мы бачым, напрыклад, у апісаннях цудаў Майсея або цудаў Хрыста, прычым іхная легендарнасць ніколькі не пярэчыць іхнаму рэальнаму існаванню ў старажытнасьці, але наадварот падцвярджае іх: гэтым настаўнікам толькі прыпісваліся такія здзяйсненні, якія паўсюдна выконваліся асобнымі жрацамі, каля сваіх ахвярнікаў, а часовае знікненне гэтай прафесіі ў Яўропе пасьля крыжовых паходаў відаць абавязана менавіта незвычайнаму развіццю саманаданняў, пры гэтым верагодна вялікая частка нервовых жанчын адружальнага ўзросту пад уплывам пачутых імі ад царкоўных ахвярнікаў наданняў, набывалі галюнацыйныя бачанні пра свае стацевыя стасункі з нячыськамі, і, павядоміўшы пра гэта сваім сяброўкам, прызнаваліся ведзьмамі і спальваліся інквізіцыяй, што толькі павялічвала нервовасць і накіроўвала ўяўленне жанчын пры ўзмацненні ў іх стацевага інстынкту ў гэты бок. Першыя спробы навуковага тлумачэння з'яваў гіпнозу мы бачым на прыканцы XVIII стагоддзя ў Месмера (1734-1815), які прыпісаў выраблямыя ўсыпіцелем дзеянні пераходам ад яго на ўсыпляемага асаблівай уласцівай чалавеку магнетычнай магутнасьці, і выкарыстоўваў гэта для лекавання хвароб. Пазней ангельскі лекар Брэд пад час саракавых годоў XIX стагоддзя, адкідваючы тэорыю “жывёльнага магнетызму” як чагосьці падобнага на звычайнае магнітнае ўздзеянне, перайшоў на чыста эксперыментальны шлях, тлумачачы выпадкі ўсыплення простым стамленнем ад аднастайных маніпуляцый усыпіцеля, але не растлумачыўшы гэтым механізма наданняў. Эпоху ў гэтым дачыннні стварылі толькі доследы Шарко ў 1875 годзе ў Парыжскім шпіталі нярвовых хвароб, і з таго часу пачалася сур'ёзная распрацоўка гэтага пытання, якое яшчэ чакае канчаткова вырашэння і вельмі магчыма, што механізм бяздротавага тэлеграфавання растлумачыць нам і гэтую псіхалагічную праблему.

А што да Азіі, то там з'явы гіпнозу і спосабы наданняў стаяць і на пачатку XX стагоддзя на той жа містычнай вышыні, на якой былі і ў Яўропе ў XVIII стагоддзі да з'яўлення Месмера. Усё адрозненне толькі ў тым, што дзейнічаючыя тут магутнасьці лічацца боскімі, а не дэманскімі, а таму і само мастацтва не толькі не пераследуецца, а наадварот, культывуецца, застаючыся на рэлігійна-містычным падмурку.

Асабліва перабольшаныя ўяўленні пра мастацтва індыйскіх факіраў распаўсюдзіў па Яўропе сучаснік Блавацкай Луі Жакольё, выдаўшы ў 1875 годзе “Спірытызм у розных месцах сьвету. Таемныя навукі ў Індыі” і “Прысвячэнне”, дзе ён апісвае фокусы факіраў, бачаныя ім асабіста. Цяжкія бронзавыя рэчы ў Індыі рухаюцца толькі па аднаму знаку чарадзейніка; палачкі пішуць на пяску адказы на задуманыя пытанні; семкі, выбраныя самім Жакольё, на працягу некалькіх гадзін вырастаюць у вялікія расьліны і г. д. Усё гэта адбываецца, відаць, без непасрэднай

сувязі з факірам, які спакойна і напалову раздзеты сядзіць пры гэтым на падлозе, маючы пры сабе толькі сваю бамбукавую палку з сямю вузламі, як адзнаку сваёй годнасьці. Тут, відаць, цалкам выключана якое б то ні было фокусніцтва, і таму Жакольё і прыходзіць да высновы, што тут бяруць удзел яшчэ невядомыя магутнасьці.

Аднак назіранні Жакольё маюць той недахоп, што ён заўсёды сустракаўся з факірам цалкам сам на сам. Гэтым, згодна з яго тлумачэннямі, ён меў жаданне перашкодзіць чараўніку знайсьці сабе саўдзельнікаў у асяроддзі сваіх туземных служак. А так як ён прызнаецца, што не мог вытрымліваць пранізлівага погляду факіра, пільна глядзеўшага на яго на працягу цэлых гадзін, перш чым нешта здарыцца, то няма нічога немагчымага, што апошні прама гіпнатазаваў яго. А падчас гіпнатычнага ўздзеяння факір мог надаць яму ўсё тое, што, згодна з яго ўяўленнем, ён бачыў на свае закрытыя вачы.

На справе ж факіры здзяйсняюць шмат цудоўных рэчаў толькі дзякуючы сваёй здзіўляючай спрытнасьці ў фокусніцкіх хітрыках. С-р Хадгсан выкарыстаў сваё вышэйзгаданае знаходжанне ў Індыі, каб пайсьці ў навучанне да факіраў. Згодна з яго сведчаннямі, ён ведае хітрыкі, неабходныя для большасьці павядомленых фокусаў і, звыш таго, прыводзіць уражваючыя прыклады таго, як нават майстэрскія назіральнікі выяўляліся не ў стане даць надзейныя сведчанні пра тое, што яны бачылі пры такіх пастановах. Факты пры перадачы выяўляліся значна больш цудоўнымі, чым яны былі ў рэчаіснасьці.

Павядомім пра адзін такі фокус, так як ён мае сваю гісторыю. Паведамленне пра яго мы знаходзім у “Разчыненай Ізідзе” Блавацкай. Факір заходзіць на адкрытае месца, – распавядае Алена Пятроўна, – дзе яго адрзу атачае натоўп гледачоў. Ён сьцеле на зямлю кавалак дывана і топча яго навокал нагамі. Дыван хутка пачынае рухацца і неўзабаве із-пад яго выпаўзае хлопчык. Тады чараўнік бярэ скрутак канату і кідае яго ў паветра. Скрутак распускаецца і падымаецца ўсё вышэй і вышэй, пакуль адзін канец канату не знікае ў паветры, а другі апускаецца да зямлі. Хлопчык лазе па канаце і знікае наверсе з вачэй гледачоў. Тады паміж факірам і хлопчыкам пачынаецца размова, якая заканчаецца тым, што факір у гневе хапае нож і таксама залазіць па канату. Ён праводзіць навярху некаторы час, і неўзабаве адтуль падаюць акрываўленыя часткі хлопчыка разам з галавой і тулавам; патым зноў з'яўляецца факір, спускаючыся па канату. Чараўнік кладзе разрубанае цела хлопчыка ў мех і трусіць апошні: із меха зноў выскоквае жывы хлопчык і збягае. Так рапавядае падзею Блавацкая.

І вось, на прыканцы 1890 года, адзін малады амерыканец, с-р С. Эльмар, апісаў такі ж выпадак у “Чікагскай трыбуне”, дадаўшы тут жа, што ён сам прысутнічаў з адным са сваіх сяброў пры гэтай пастанове ў Індыі. Яго сябар, мастак, зрабіў тады, – кажа ён, – некалькі малюнкаў, а Эльмар зрабіў шэраг фатаграфічных здымкаў. На малюнках мастака прысутнічала ўсё, пра што паведамлялася ў арыкуле, а на фатаграфічных здымках быў толькі факір, жвава жэстукаляваўшы і гледачы, якія глядзелі па ходу дзеяння то ўверх, то ўніз. Ні каната, ні хлопчыка, ні акрываўленых шматкоў і г. д. на здымках не было. Із гэтага аўтар зрабіў выснову, што факір загіпнатазваў сваіх гледачоў і надаў ім усё бачанае ў выглядзе галюцінацый.

Гэтая гісторыя была надрукавана ўсімі газетамі, а таксама патрапіла ў навуковыя перыядычныя выданні.

Але так як, згодна з нашымі сучаснымі ведамі пра гіпнатызм, цалкам незразумела, якім чынам асобны чалавек змог загіпнатазаваць цэлы гурт гледачоў і выклікаць адну і тую ж галюцынацыю ва ўсіх, прытым таксама і ў іншаземцаў, незнаёмых з яго мовай, то гэтая справа выклікала вялізную ўвагу, с-р Хадгсан напісаў выдаўцам згаданай газеты, паведамляючы ім, што падчас свайго знаходжання ў Індыі ён дарэмна спрабаваў пабачыць гэты фокус; ён нават не змог знайсьці чалавека, які б калі-небудзь бачыў яго, ці хаця б толькі ведаў каго-небудзь, хто быў сведкам такой пастановы. Таму яму вельмі хацелася б даведацца, дзе с-р Эльмар прысутнічаў пры гэтым рэдкім відовішчы. А с-р Эльмар чыстасардэчна прызнаўся, што ўся гэтая гісторыя ім прыдумана: у яго ўжо раней склалася меркаванне, што фокусы факіраў проста заснаваны на гіпнатычных наданнях, і што гэта можна даказаць з дапамогай фатаграфічных картак. Грунтуючыся на гэтай сваёй гіпотэзе ён і прыдумаў усё сваё апавяданне і выкарыстаў псеўданім С. Эльмар (“падманвай больш”), з мэтай навесьці здагадлівага чытача на думку, што ўсё гэта містыфікацыя. Такім чынам, увесь фокус выявіўся проста вынікам фантазіі вынаходлівага янкі.

Але адкуль жа запазычыла падобную гісторыю Блавацкая? Гэта нам тлумачыць Кізеветэр ў “Псіхалагічных эцюдах” (стар. 419). Вядома, што гэтая панна, ці хутчэй, хто-небудзь із яе найбольш набліжаных саўдзельнікаў, былі вельмі дасведчанымі ў старажытнай еўрапейскай літаратуры, маючай дачыненне да магіі. І вось як раз цалкам падобная гісторыя паведамляецца ў кнізе Ёгана Бейера “Пра чары дэманаў”. Із гэтага зразумела, што Блавацкая вольна распрацавала гэтае апавяданне і перанесла падмосткі пастановы ў Індыю, каб выкарыстаць яе ў якасьці доказу высокіх здольнасьцей, якімі валодаюць факіры. Такім чынам, увесь гэты фокус факіраў уяўляў із сябе прыдумку ад пачатку і да канца. Мараль жа гэтай гісторыі відавочная: да падобных паведамленняў патрэбна ставіцца з вялікай асьцярогай, нават калі фатаграфічныя здымкі і іншыя навуковыя доказы надаюць ім некаторую ўяўляемую праўдападобнасць”.

Так выказваецца д-р Леман у сваёй “Гісторыі забабонаў і чарадзейства” (стар. 365). Ніколі ніякі факір не здзяйсняе гэтыя агульнавядомыя ў Яўропе, але (да перанясення іх туды еўрапейцамі) невядомыя ў Індыі цуды. А ў якасьці доказу я сам магу дадаць, што чуў пра гэты цуд ад аднаго марака, які праязджаў праз Індыю із Адэсы ва Ўладывасток, як бачаны яго ўласнымі вачамі. Такімі з’яўляюцца “цуды Індыі”, дык чаму ж здзіўляцца пасьля гэтага, што там жа знаходзіцца галоўнае месца з'яўлення і цудоўных рукапісаў-унікаў, у якіх мы знаходзім чароўныя казкі пра старажытны залаты час азіяцкіх народаў?

Канец сямідзесятых гадоў быў часам вышэйшага квітнення фізічных медыумаў. Тое, што здзейсніў Слад у Лейпцыгу, ледзь ці калі-небудзь было здзейснена або перавышана раней або пазней. Можна было падумаць, што медыумныя здзяйсненні толькі для таго дасягнулі такой галавакружачай вышыні, каб тым глыбей было іхнае наступнае падзенне.

У шостым томе “Хрыста” у мяне ёсць глава пад назвай: “Псіхалогія ілжывасьці і падману”, дзе я спрабаваў аб'яднаць праявы ілжывасьці ў людзей з мімікрыяй, амаль паўсюдна назіраемай у сьвеце жывёл і нават расьлін. А тут мне зноў неабходна вярнуцца да гэтага ж пытання з нагоды толькі што прыведзенай біяграфіі А. П. Блавацкай, гэтай, згодна з выказваннем Хадгсана, “самай майстэрскай падманшчыцай, якую толькі ведае гісторыя і імя якой праз адно гэта заслугоўвае быць захаваным для нашчадкаў”.

Нельга ж нарэшце не бачыць таго, што ўсё нашы гісторыі надзвычай падобныя на заалагічныя музеі з чучаламі. Як у гэтых музеях вы бачыце толькі знешні выгляд ўсіх прадстаўленых там жывёл, але не атрымліваеце ніякага ўяўлення па іхнае ўнутранае ўладкаванне і тым больш пра псіхічныя здольнасьці, якія прыводзілі іх у рух, так і ў сучасных нам псеўда-навуковых гісторыях дзяржаў вы бачыце, ды і то аперцэпцыйна, толькі знешнія контуры фігуруюых там дзеячаў, але не атрымліваецца ніякага ўяўлення пра ўнутраныя заахвочванні іхных учынкаў і вам не хапае ў гэтых дзеячах самага галоўнага – чалавечай душы.

Паспрабуем жа выправіць гэты недахоп хаця б для Алены Пятроўны. Падобна палеантолагу, які гунтуючыся на адным шкілеце даўно знікшай з твару зямлі жывёліны, аднаўляе яе знешні выгляд і лад жыцця, паспрабуем аднавіць натуральнае развіццё яе псіхікі па той канаўцы, якую мы маем у гэтым караткім эскізе яе жыцця.

Яшчэ ў дзяцінстве яе ўяўленне напаўняецца фантастычнымі апавяданнямі і раманамі із хатняй бібліятэкі яе маці і жывучы напалову ўяўленнямі, яна, як актрыса падчас выканання ролі, ужо перастала адрозніваць уяўляемае ад спраўднага і тое, кім яна была ў рэчаіснасьці, ад таго, кім яна жадала быць. У такім становішчы людзі з моцна развітым уяўленнем жывуць пастаянна, не толькі жанчыны, але і мужчыны, асабліва пад час сваёй маладосьці. Не бачачы вакол нічога цудоўнага, яны напаўняюць цудамі як аддаленае мінулае так і аддаленыя, мала вядомыя ў іхны час краіны, свайго ўнутранага багатага жыцця. Яны звычайна пры першых сустрэчах выпрабляюць на атачаючых зачароўваючае ўражанне, асабліва мужчыны на жанчын і жанчыны на мужчын. Але гэтае зачараванне паступова знікае пры доўгім сумесным жыцці: чалавек, які жыве ў сьвеце прывідаў і які будуе паветраныя замкі, пачынае здавацца іншаму, асабліва штодзённаму суіснавальніку, проста пустым летуценнікам, не здольным да агульначалавечых схільнасьцей. Нешта падобнае павінна было здарыцца і з Аленай Пятроўнай, калі яна яшчэ ў сямнаццацігадовым узросьце зачаравала генерала Блавацкага, адружылася з ім, відавочна, у чаканні аб'ездзіць з ім усю Яўропу, а затым патрапіць і ў маладаступныя месцы чароўнай Індыі, каб пабачыць усе яе цуды. Але генерал выявіўся празаічным, прайшлі тры гады сумнага для яе сямейнага і свецкага жыцця, і яна збягае ад яго вандраваць на нейкія меўшыяся ў яе сродкі па сьвету, у пагоні за яго цудамі. Але цуды паўсюль збягаюць ад яе, спірытычныя сеансы нідзе не даюць ёй новых адкрыццяў, і вось пасьля шматлікіх гадоў пагоні, яна ўжо на 33-м годзе свайго жыцця дасягае апошняга прыстанішча – Індыі. Там, згодна з яе сведчаннем, яна пражыла сем гадоў, адчула, як прайшла яе маладосць ў вечнай пагоні за незвычайным, а развітацца са сваімі ўяўленнямі для яе зараз стала азначаць тым жа самым, што развітацца са сваім жыццём, якое на працягу сарака гадоў было запоўнена імі.

Набытая з дзяцінства звычка маляваць із сябе нешта незвычайнае і выпрацаваўшаяся разам з гэтым звычка самагіпнатазавання сябе, пры гэтым яе рукі, без удзелу яе выразнага ўсьведамлення, пісалі своеасаблівыя кампіляцыі із усіх прачытаных ёю кніг, паступова зрабілі із яе вечную актрысу, а непераадольнае жаданне пераканаць іншых у сваёй праваце, вымусіла яе, ужо страціўшую энтузіязм і зачараванне маладосьці, запаўняць гэтыя праломы з дапамогай шарлатанства.

Яе шарлатанства, як заўсёды бывае, прывяло яе да выкрыванняў, пра якія я ўжо паведамляў. А зараз я толькі прывяду адзін узор яе самаусыпленай несьвядомай творчасьці.

***Працягу пра Блавацкую няма ў гэтай главе, але ёсць у самай апошняй.***

# ЧАСТКА ТРЭЦЦЯЯ
# Святая вестка назіральніка зорак

## Глава I
## Лінгвістыка – як сродак аднаўлення рэальнай гісторыі зямных народаў.

Для таго каб вырашыць, колькі розных варыянтаў можна зрабіць із розных гукаў чалавечага голасу, нам няма патрэбы, ды і практычна немагчыма выкарыстаць алгебраічную тэорыі злучэнняў, даючую абсалютна дакладныя вынікі. Практычна гэта тут немагчыма таму, што некаторыя са спалучэнняў выяўляюцца не маючымі выкарыстання ў той ці іншай існуючай мове (напрыклад: ЖЯ па-руску). А патрэбы нам няма таму, што ў дадзеным выпадку нам дастаткова толькі сярэдні набліжаны вынік, і яго мы здабудзем шляхам простай табліцы памнажэння.

Як у нашай дзесяцічнай сістэме, дзевяць простых лічбаў даюць для ўсіх сваіх спалучэнняў двух лічбаў $9^2$=81 варыянтаў, так і гукі чалавечай гаворкі, калі б усе яе словы складаліся ў сярэднім толькі із двух зычных гукаў (не лічачы дадавання якой-небудзь галоснай у выпадку двух зычных), далі б нам, лічачы нават за адну і тую ж гулкую і шэптавую варыяцыі[120] або цьвёрдае і мяккае вымаўленне[121] , цэлых 14 цалкам адрозных гукаў[122]. Даючы ім адрознае размяшчэнне, атрымліваем $14^2$=196 розных варыянтаў спалучэнняў, нават і не ўлічваючы месцазнаходжанне і вымаўленне, злучаючага іх галоснага гука. Але, нават бяручы да ўвагі аднаскладовыя гаворкі, накшталт кітайскай, не існуе такой мовы, у словах якой у сярэднім было б толькі два зычныя гукі. У жыдоўскай і арабскай мовах налічваецца ў сярэднім тры зычных гукі, ды і ў іншых літаратурных мовах не менш, а нават больш.

Гэта азначае, мінімальная сярэдняя колькасць іхнага размяшчэння, нават не бяручы да ўвагі адрознасць злучаючых іх галосных гукаў (і дадатковых камбінацый ў словах з адным, двума, чатырма ці нават пяццю зычнымі), мы атрымліваем 2744 варыянты, а з дадатковымі нашмат больш за 3000.

Што ж атрымліваецца? Вельмі важны для нас вынік. Вось, напрыклад, два словы аднолькавыя згодна з сэнсам: санскрыцкае ***чатур*** і славянскае ***чатыры***, у той час як у прамежкавых мовах для разумення чатыры цалкам іншыя гукі, напрыклад, па-жыдоўску.

Для выпадковай адпаведнасьці ўсіх зычных гукаў гаворкі ў двух аддаленых мовах для аднаго асэнсаванага разумення тут, згодна з папярэднімі высновамі,

---

[120] Г. азн.  б=п, в=ф, ж=ш і г. д.

[121] Г. азн.б=бь, п=пь, і г. д.

[122] Г. азн.б=п, в=ф, г=к <.>=х, чж=ч, ж=ш, цз=ц, з=с, <.>=й, <.> т=д, <.>т=т, п, р, <.> л

менш чым адзін шанец поспеху із трох тысяч шанцаў адсутнасьці поспеху, а таму гэта практычна цалкам неверагодна. Такое супадзенне магло б быць прынята за рэшткі дагістарычнай першапачатковай агульнай чалавечай мовы, накшталт таго, як рускае ***нос***, ангельскае – <...>, нямецкае – <...>, французкае – <...>, але ўсё такія рэшткі першачалавечай мовы, па-першае: уласьцівы цэлым згуртаваннням разнастайных моваў, а па-другае: маюць дачыненне да вельмі нешматлікіх самых распаўсюджаных рэчаў, заўсёды існаваўшых каля чалавека, накшталт гэтага ж носа. Акрамя таго, усе іхныя карані звычайна аднаскладовыя, як і павінна быць для першапачатковай мовы. Слова чатыры, як мы бачым, не першапачатковае, хаця яму і адпавядае італьянскае <...>, калі гук <...> першапачаткова чытаўся як рускае ***ч***, але і тады гэта не былі рэшткі дагістарычнай прамовы, а таго ж самага славянскага паходжання із сярэднявечнай балканскай Вялікай Рамеіі, накшталт, напрыклад, найменне ***Венецыя***, ад славянскага ***вянок***, са значэннем венчаная.

Ад гэтага мы выводзім наступнае правіла: калі ў мовах двух разнамоўных народаў мы знаходзім аднолькавыя па гучанню, але розныя згодна з сэнсам словы, накшталт, напрыклад, французкага <...> і рускага <мерзі>, то гэтым толькі даказваецца незалежнасць моваў адна ад другой. А калі мы знаходзім нейкае хаця б адно сугучнае і адпавядаючае згодна з сэнсам слова, то грунтуючыся на тэорыі верагоднасьцей за выпадковае супадзенне тут шанцаў менш чым адзін із трох тысяч такіх сугучна-асэнсаваным супадзенняў; мы не рызыкуем памыліцца больш чым у адным выпадку.

Усё гэта вылічана мной на выпадак існавання ў двух аддаленных і па знешнасьці незалежных моваў толькі аднаго сугучна-асэнсаванага слова. Калі гэтае слова не магчыма прасачыць шляхам параўнальнай лінгвістыкі, аж да першапачатковай дагістарычнай элементарнай гукапераймальнай мовы, накшталт толькі што паказанага мной носа, першакрыніцай наймення якога з’яўляецца насавы гук ***н-н-н***, які вы прамаўляеце, закрыўшы рот, то сугучнасць і суасэнсаванасць з'яўляюцца дастатковым доказам перанясення слова із адной аддаленай краіны ў іншую ўжо ў такі час, калі паміж імі ўсталяваліся трывалыя стасункі.

Пры гэтым калі стасункі былі выключна гандлёвыя, мы маем верагоднасць знайсьці такія словы ў галіне гандлю ў мерах, сродках абмену. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца сугучна-суасэнсаваныя словы ў рамейска-візанцыйскім варыянце ***рупія*** і славянскім ***рупь***, асіміляваныя толькі ў нарадным вымаўленні са звыклым словам ***рубель***, вынікам чаго было няправільнае меркаванне існаваўшае ў нядаўніх рускіх філолагаў, што ў маскоўскіх вялікіх князёў існавалі нейкія сечаныя кавалкі срэбра, якія выкарыстоўваліся ў якасьці грошай. Грунтуючыся на толькі што патлумачаным мной меркаванні пра сугучнасць і суасэнсаванасць, тут менш за адзін шанец із трох тысяч за магчымасць памылковасьці майго тлумачэння, і, бадай, больш за тры тысячы шанцаў супраць аднаго за памылковасць звычайнага тлумачэння, так як нікому б не прыйшло ў галаву называць грошы адсечанымі кавалкамі невядома чаго, а не срэбрам, як, напрыклад, у французкай мове <...>. Такім жа чынам слова ***мера*** паходзіць ад грэцкага ***мерас*** <...> – частка або доля і г. д.

Калі ж стасункі былі і адміністратыўныя, то мы непазбежна знойдзем шэраг адміністратыўных назваў. Так, пасьля з'яўлення ў нас голштэйн-гатторнскай дынастыі, якая прынесла ў ранейшую Русь заходнееўрапейскую культуру, у нас

з’явіліся <замест губернатара, генералы, адміралы і г. д.> А пры завяяванні ў падпарадкаваную краіну абавязкова прыходзяць і назвы прадметаў культу.

Так, наше слова ***царква*** сугучна і суасэнсавана з лацінскім цырк <кірха – ням.>, і таму мы смела можам сцвярджаць, што яна з’яўляецца трансфармацыяй старажытнага цырку, і прыйшла на Балканскую паўвыспу выключна праз грэкаў, а таксама і праз Рым. На гэта ж паказвае і найменне рэлігіі “вера” ад лацінскага <...>, г. азн. сапраўдная, і нават слова ***хрэст***, першапачаткова ***крыж***, больш падобна на італьянскае <...> і лацінскае <...>, чым на грэцкае евангельскае <стаўрас> – кол, або слуп, як у Евангеллях называецца прылада пакарання Хрыста.

У мяне не было часу падрабязна філалагічна прасачыць гэты лацінскі ўплыў у справе хрысьціянізацыі Балканскай паўвыспы, а праз яе і Расіі. Але ўжо існаванне каталіцкай Польшчы і ўніяцкіх славян дастаткова сведчыць пра ўплыў Рыму ў гэтай справе. І можна быць упэўненымі, што філалагічная распрацоўка гэтага пытання цалкам вызначыць той шлях, якім хрысьціянва ішло праз Балканскую паўвыспу ва ўсходнюю Яўропу.

І гэтая ж філалагічная распрацоўка паказвае, што праз Балканскую ж паўвыспу і ў якасьці сярэдневечнага хрысьціянства ўніклі і шмат у чым захавалі першапачатковы характар (а ў іншых частках пад мясцовымі ўплывамі адхіліліся ад яго), і вялікія азіяцкія рэлігіі. Каста брамінаў, з гэтага боку гледжання, з’яўляецца толькі пра-пра-ўнукамі першапачатковых рамейска-візантыйскіх місіянераў і, захаваўшыя яго першапачатковую форму, нашмат лепш, чым моцна ўскладніўшыя і пераіначыўшыя гэты культ еўрапейскія навукоўцы-тэолагі, пачынаючы ад папы Рыгора Гільдэнбранта і канстантынопальскіх тэалогаў пасьля іконазмагальніцкага перыяду.

Яшчэ ў III томе “Хрыста” я паказаў, што санскрыцкая мова індускіх набажэнстваў і індускай класічнай літаратуры такая ж чужая для мясцовым моваў Індастану, як і лацінская была чужой для германскіх народаў, калі яны на ёй пісалі і ладзілі набажэнствы, і як так званая арабская мова, – проста гаворка жыдоўскай, – чужая для заходне-азіяцкіх і паўночна-афрыканскіх народаў, карыстаючыміся гэтай мовай выключна для набажэнстваў і літаратуры, як у Заходняй Яўропе некалі карысталіся лацінскай.

І я ўжо паказаў у III томе, што карнявы склад шматлікіх слоў санскрыцкай мовы паказвае, што яе радзімай была сярэднявечная Балканская паўвыспа і не ў старажытнасьці, а ўжо пад час існавання хрысьціянскай эпохі сярэднявечча.

Я ўжо выказваўся, што бог Вішну браманскай тройцы сугучны і суасэнсаваны са славянскім Вышэйшым Богам. І мы тут бачым, што існуе не менш чым тры тысячы шанцаў за тое, што я маю рацыю, і менш за адзін шанс, што я памыляюся.

Я ўжо выказваўся, што браманская тройца Тры-Мурці сужучна і суасэнсавана са славянскім выказваннем тры-морды, і як гэта ні смешна для нашага вуха, але і тут згодна з толькі што сфармуляванай мной высновай з выкарыстаннем тэорыі верагоднасцей больш за тры тысячы шанцаў за тое, што гэты пераклад правільны, і менш за адзін шанец із трох тысяч, што я памыляюся.

Але падобныя лінгвістычныя супадзенні мы без канца знаходзім у вялікіх рэлігіях Азіі. Этнаграфічныя, геаграфічныя і самі гістарычныя ўмовы зямнога жыцця аднагалосна сведчаць нам, што ўсе гэтыя рэлігіі толькі адгалінаванні першапачатковага хрысьціянства, нарадзіўшагася ў Вялікай Рамеі ў IV стагоддзі нашай эры і менш адхіліўшыяся ад першапачатковага стану ў іх, чым у нас.

# Глава II
# Два асноўныя законы распаўсюджвання культурных здабыткаў.

*(Гэта простыя вынаходніцствы, якія здзяйсняюцца індывідуальна, выпадкова і складаныя, якія з'яўляюцца эвалюцыйна на грунце існуючых ведаў).*

Пры археалагічных доследах, якія маюць дачыненне да гісторыі чалавечай культуры, мы заўсёды павінны мець на ўвазе, што чалавечыя вынаходніцтвы бываюць двух родаў.

1. Элементарныя, якія не патрабуюць папярэдняй высокай разумовай падрыхтоўкі, якія непазбежна былі зроблены незалежна адзін ад другога ў розных краінах.

2. Складаныя, якія патрабуюць самай высокай, згодна са сваім часам, адукаванасьці; якія з'явіліся вынікам аднаасобнага разважання вынаходніка ў цэнтры найвышэйшага развіцця культуры свайго часу, распасьціраючыся ад яго, як хвалі ва ўсе бакі.

Як узор першага роду мы можам прывесьці вынаходніцства крамянёвай сякеры, як востарага каменя, прывязанага да канца дубіны, або вынаходніцства кола, як вынік таго, што на кацячайся калодзе бервяна лягчэй перасоўваць цяжары, чым цягнучы па зямлі, і ў выніку вынаходніцства павозкі. Абодва вынаходніцтвы, без сумневаў, былі зроблены ў шматлікіх краінах шматлікімі людзьмі і не падазраваўшымі адзін пра аднаго.

Прыклады другога рода вынаходніцтваў вы і самі можаце прывесьці, напрыклад, вынаходніцства паравой машыны Ўатам, вынаходніцства парахода Фултанам, тэлефона Эдысонам, бяздротавага тэлеграфу Марконі, і г. д.

Усе яны, зроблены аднаасобна ў Заходняй Яўропе ці Паўночнай Амерыцы, як цэнтрах найвышэйшай тэхнічнай культуры XIX, а затым пачатку XX стагоддзяў, пазней распаўсюджваліся як струмені дажджавой вады ва ўсе прыдатныя для іх месцы зямнога шару.

Такі падзел адкрыццяў і вынаходніцтваў на два роды мы абавязкова павінны заўсёды мець на ўвазе пры даследаванні старажытнай культуры, у якой абавязкова павінны пераважаць элементарныя, ўзнікшыя незалежна шмат разоў у шмат якіх краінах, не выключаюцца і такія, якія маглі распаўсюджвацца ад цэнтру да перыферыі.

Вось, напрыклад, дальмены, г. азн. так званыя “каменныя слупы” ў выглядзе трох або чатырох пастаўленых стойма каменных камлыг, на якіх як дах спачывае чацьвёртая камлыга. Іх шмат у Заходняй Яўропе, асабліва ў Брытаніі і паўночна-заходняй Францыі, але яны сустракаюцца і ў Паўночнай Афрыцы, і ў Заходняй Азіі, існуюць нават і ў Паўночнай Амерыцы, а ў дачыненні да часу іхнага ўзнікнення можна сказаць толькі адно: яны там з незапамятных часоў. Ці служыць гэта доказам агульнасьці старажытнай культуры ўсіх гэтых краін? Бо калі ў большасьці іншых краін іх няма, то гэта можа патлумачыць адсутнасьцю ў іх прыдатных для гэтага каменных камлыг, а ў аддаленых адно ад другога месцах яны магуць быць і незалежнага паходжання, так як падобныя пабудовы навязваюцца на розум самі. Мне згадваецца, як я сам у дзяцінстве, нічога яшчэ не ведаючы пра дальмены, зладзіў падобную пабудову. Узяўшы некалькі цаглін, я аднёс іх у глухое

месца нашага сядзібнага парку, паставіў дзве на рабро, накрыў трэццяй, нападобе брамы, і пабачыўшы, што можна зрабіць із гэтага нешта накшталт пячоркі, закрыў заднюю адтуліну чацьвёртай цаглінай. І ўсё гэтае збудаванне засталося ў мяне ў памяці таму, што вечарам таго ж дня да нас у пакой заляцеў верабей і, злавіўшы яго, я надумаў размясьціць яго на ноч у сваю хатку, засланіўшы пярэднюю адтуліну пятай цаглінай. Прыйшоўшы раніцай, я прыбраў яе, і апусьціў галаву да самой адтуліны, але ў гэты момант верабей выляцеў прэч і ўдарыўшы мяне крылом па твару, з крыкам радасна памчаўся ў вышыню. Згадваючы зараз гэты выпадак, я не магу не бачыць, што гэтая мая дзіцячая пабудова была тыповым мініятурным дальменам. Гэта азначае, падобныя пабудовы самі сабой прыходзяць у галаву ўсюды, дзе існуюць прыдатныя для гэтага валяючыяся на зямлі каменныя камлыгі. А мэтай іхнай пабудовы, хутчэй за ўсё, магло быць размяшчэнне там ідала, падобна таму, як і ў IX стагоддзі для гэтага будаваліся капнічкі ў каталіцкіх і праваслаўных краінах. Вядома, першае ж узнікненне такой пабудовы ў якой-небудзь краіне непазбежна выклікала перайманне і падобныя пабудовы распаўсюдзіліся па ўсёй мясцовасьці, дзе існаваў для гэтага матэрыял, так што мы можам у дадзеных межах зрабіць выснову пра распаўсюджваннне іх із аднаго цэнтру. Але вось прыдатны матэрыял для іх знікае на вельмі далёкай адлегласьці, дзякуючы раўніннаму ўладкаванню зямной паверхні, дзе на сотні кіламетраў ва ўсе бакі вы не знойдзеце ніводнага вялікага каменя, а патым як на іншым беразе мора, камяні на зямной паверхні з'яўляюцца зноў, а з імі, хаця і ў непараўнальна меншых памерах, з'яўляюцца і дальмены. Ці можам мы зрабіць выснову, што ідэя іхнай пабудовы перанесена сюды із далёкіх краін, а не ўзнікла самастойна? З такім жа правам можна было б сказаць, што і сваю хацінку для вераб'я я зладзіў згодна з узорам ўжо вядомых дальменаў.

Тае ж самае мы можам сказаць і пра пірамідальныя пабудовы. Іхным прататыпам з'яўляецца кожны магільны насып, ператвараючыся ў курган, калі памёршы быў шырока вядомым і шмат людзей спяшаліся ўшанаваць яго памяць. Звычай будаваць магільныя курганы мог таксама незалежна ўзнікнуць у розных мясцовасьцях, а ў тых месцах, дзе існавала дастаткова каменнага матэрыялу, замест зямельных курганаў, натуральна, маглі ўзнікнуць і каменныя; спачатку цыклапічныя пабудовы, як і першапачатковыя каменныя сьцены із неапрацаванага каменя, а потым, пры ўзнікненні спосабаў апрацоўкі мяккага каменя, накшталт вапняка або пяшчаніка, <...>

<...........................>

Паглядзім трохі навокал і памяркуем.

І ў нядаўнія часы рабіліся адкрыцці і вынаходніцтвы, якія стваралі эпоху ў чалавечым разумовым і эканамічным жыцці. А як яны здзяйсняліся? Заўсёды падобна выбуху нейкага адкрыцця ў чыёй-небудзь асобнай галаве, і ад яе на крылах слова распаўсюджваліся да ўсіх іншых, здольных іх ўспрыняць.

Вось, напрыклад, заалогія. Яе стварыў Ліней (1707-1778), шведзкі навуковец, набыўшы сваю адукацыю ў Галандыі, а потым заняўшы катэдру прафесара на сваёй радзіме ва Ўпсальскім універсітэце. У сваёй “Сістэме прыроды”, якая выйшла першым выданнем у 1735 годзе, ён стварыў падмурак сучаснай заалогіі, якая без натуральнай класіфікацыі жывёл была да яго тым жа, што геаграфія без геаграфічнай мапы, інакш кажучы, простым бязладдзем. Але аднойчы адкрысталізаваўшыся ў яго галаве натуральная заалогія, хаця б і са шматлікімі дробнымі недахопамі і памылкамі, хутка перадалася на крылах надрукаванага

слова ў іншыя галовы, памылкі былі выпраўлены, а недахопы лёгка папоўнены, і вось зараз сістэматычная навука пра жывёл распаўсюдзілася із Упсалы ў Швецыі па ўсяму зямному шару і знаёмства з яе падмуркамі стала абавязковым для кожнага агульнаадукаванага чалавека.

Вось яшчэ батаніка. Яна настолькі блізкая да заалогіі, што падмуркі яе сістэматызацыі спрабаваў стварыць той жа Ліней, але ў сваёй кнізе “Роды раслін”, імкнучыся спрасьціць іхнае размяркаванне, ён надаў занадта вялікае значэнне колькасьці тычынак у кветцы. Яго сістэму выправіў Дэкандоль (1778-1841), спачатку прафесар у Манпелье ў Францыі, а з 1811 года ў Жэнеўскім універсітэце. Мы бачым тут ужо перашкоду; батаніка, як сістэматызаваная навука (а не неаб’яднаны хаос раслінных формаў) узнікла як бы двума выбухамі. Спачатку ў галаве Лінея ў напаловунатуральнай форме, затым у галаве Дэкандоля, распрацаваўшага сістэматыку расьлін (без якой немагчыма іхнае тэарэтычнае вывучэнне) ў цалкам натуральным выгляд, у якім батаніка і распаўсюдзілася, зноў жа на друкарскіх крылах, па ўсяму зямному шару, толькі дапаўняючыся зноў знаходзімымі ў ім незлічонымі відамі расьлін, заўсёды прыстасоўваючыміся да ўжо знойдзеных для іх месцаў.

Вазьмем зараз палеанталогію і непарыўна злучаную з ёю геалогію. Вучэнне пра вымершыя зараз жывёлы і расьліны, ад якіх у недрах зямлі заўсёды застаюцца толькі акамянеўшыя парэшткі, не магло, вядома, нават і ўзнікнуць да Лінея і Дэкандоля, але і гэтая навука, як неабходны дадатак да заалогіі і батанікі ў агульным вучэнні пра развіццё арганічнага сьвету на зямлі, узнікла таксама падобна выбухам у асобных чалавечых галовах. Сучаснік Дэкандоля Кюўе (1769-1832), прафесар батанічнага саду ў Парыжы, пашыраючы падмурак заснаваны Лінеем, рспрацоўвае адразу і параўнальную анатомію і параўнальную палеанталогію і гэтым амаль завяршае ўсю натуральную біялагічную навуку, да якой пазней рабіліся толькі дадаванні, накшталт, напрыклад, мікрабіялогіі, таксама ўзнікшай падобна выбухам ў асобных галовах і пасьля паўсюль распаўсюдзіўшайся на крылах друкаванага слова із аднаго із культурных цэнтраў па зямному шару.

Тае ж самае мы назіраем і ў іншых абласьцях нашых ведаў... Каму не вядома, што вучэнне пра вярчэнне Зямлі вакол Сонца ўнікла ў галаве Каперніка (1473-1543), распрацоўвалася ім пад час яго знаходжання ў якасьці прафесара ў Кракаўскім універсітэце і абнародавана ў год яго сьмерці, калі ён, адышоўшы да прыватнага жыцця, жыў канонікам касцёлу ў Фраўенбурзе?

Каму невядома, што заснавальнікам нябеснай механікі быў Ньютан (1640-1727) у Кембрыджы, заснавальнікам тэорыі паходжання відаў быў Дарвін (1809-1882), заснавальнікам навуковай эканомікі спачатку Адам Сміт (1723-1790) у Эдынбурзе, а пазней Карл Маркс (1818-1883), два разы выгнаны за свае палітычныя перакананні спачатку із Германні, а потым із Францыі і скончыўшы жыццё ў Лондане?

Чытач бачыць, што ўсё значнае ў натуральнай вобласьці ўзнікала як бы выбухамі ў якой-небудзь асобнай адукаванай разважаючай галаве і пры гэтым у Яўропе (аж да культурнага далучэння да яе Паўночнай Амерыкі). Дык чаму ж гісторыкі ўсё яшчэ спрабуюць пераканаць нас, што ў развіцці рэлігійных вучэнняў, якія уяўляюць із сябе толькі варыяцыі аднаго і таго ж містычнага сьветапогляду і культу, справа адбывалася цалкам інакш. Што яны развіваліся не толькі адваротна сучаснаму распаўсюджванню навук ад культурных цэнтраў у малакультурныя, але што і ўзніклі незалежна адзін ад другога ў некалькіх месцах зямнога шара і прытым

выключна ў маладаступных, праз сваю некультурнасць і адасобленасць ад астатняга сьвету: у палестынскім Эль-Кудсе ў ваколіцах Мёртвага мора, дзе нават рыбы дохнуць (месіянства і хрысьціянва); у аравійскіх пустынях Мекі і Мядыны, куды можна было (да сучаснай пабудовы дарог і авіацыі) дабрацца толькі на вярблюдах, рызыкуючы памерці па дарозе ад голаду і смагі (магаметанства); ці ў маладаступных цясьнінах Гімалайскіх гор, дзе нават Каміла-Вата – месца нараджэння Будды, даўно правалілася некуды пад зямлю, так што яе да гэтага часу не магуць знайсьці, нягледзячы на ўсе вялікія намаганні сучасных нам гісторыкаў буддызму?

Бяспрэчна, шмат якія із вынаходніцтваў сапраўды маглі быць зроблены незалежна ў розных месцах зямнога шара. Такім, напрыклад, было, без сумневаў, вынаходніцтва кола, як сродка перамяшчэння цяжараў, але ж яны рабіліся не шляхам напружання думкі, а проста выпадковым чынам, калі што-небудзь цягнулі, паклаўшы перад тым на бервяно. Такім было і рознамясцовае, незалежнае вынаходніцтва чоўна, пасьля таго як прыбярэжныя жыхары, спачатку плаваўшыя на бярвеннях, паспрабавалі іх выдзяўбаць для больш зручнага сядзення... А як толькі ўзнікала патрэбна ў моцным напружанні думкі, напрыклад, пры прыстасаванні да карабля паравога рухавіка, дык зноў спатрэбіўся адзінкавы розум – Франклін – і адзінкавы найбольш культурны цэнтр ад якога вынаходніцтва распаўсюдзілася  да менш культурных мясцовасьцей.

Само сабой зразумела, што і першапачатковы фетышызм містычных уяўленняў паўстаў, як і першыя чоўны, незалежна ў разных мясцовасьцях на глебе баязьні перад навальніцамі, буранамі і іншымі таемнымі для першабытнага чалавека магутнасьцямі прыроды, ўскладніўшыся агульнай для ўсіх здольнасьцю да бачання сноў. Але ад гэтага да ўяўленняў пра стваральніка неба і зямлі і пра яго усёведанне, дабрыню, шанаванне сваіх стварэнняў і вечную правату, такая ж прорва як ад чоўна да парахода. А таму, на падставе толькі што выказанай намі агульнай высновы, мы павінны апрыёрна чакаць і ўзнікненне першага штуршка для заснавання і распаўсюджвання ўсіх філасофскіх веравучэнняў із аднаго не інакш як самага культурна цэнтру таго часу, якім аж да заснавання Карлам Вялікім (каля 800 г. н. э.) Заходняй Рымскай імперыі, магла быць толькі Вялікая Рамея, з яе культурным цэнтрам у Цар-Горадзе, у якім мы дарэмна сталі б шукаць тады грэцкай гегемоніі. У папярэднім томе я ўжо паказаў, што там заўсёды існавала толькі сумесь жывых славянскіх гаворак Балканскай паўвыспы, на якіх таксама размаўлялі, лёгка разумеючы адзін аднаго, насельнікі з традыцыйна жыдоўскай мовай афіцыйных набажэнстваў, радзімай якіх была даліна Ніла і далучыўшыміся да іх выхаднікамі італьянскага рэгіёна, размаўляўшымі на мове вядомай нам пад найменнем лацінскай, радзімай якой былі наваколлі Везувія і Этны, як першых прыродных ахвярнікаў, курыўшых ахвярны дым усемагутнаму богу Грамабою ўстрасальніку зямлі.

Такім чынам, першая ідэя пра бога багоў і валадара ўсяго сусьвету таксама павінна была зарадзіцца ў розуме асобнага чалавека. І калі мы адкінем усё міфічнае, чым завалена гісторыя Яўропы да Кастуся і ўсё такое ж, чым завалена гісторыя азіяцкіх краін, аж да часу крыжовых паходаў, і безстаронне параўнаем усе нашы веды, то адзінае імя, якае даходзіць да нас іх глыбіні стагоддзяў, як прыдатнае для такога чалавека, гэта Арый і не як уяўны праціўнік не існаваўшага яшчэ да яго хрысьціянства, а як першы рэальны настаўнік пра бога багоў, із якога спісаны і міфічны вобраз біблейскага Арона. Нам кажуць, што ён памёр у 336 годзе

нашай эры ў ягіпецкай Аляксандрыі ў вельмі старым узросьце, як першасьвятар заснавальніка Вялікай Рамейскай імперыі Богапрызванага цара (Дыяклетыяна) і што яго вучэнне пазней шырока распаўсюдзілася па Азіі і ў асяроддзі германскіх плямёнаў. Гэтае імя першапачаткова азначала Леў[123], але зрабірася нарыцальным для пасьлядоўнікаў яго вучэння арыян, набыло ў тых краінах, дзе не была вядома жыдоўская мова, але куды прыйшло арыянства, сэнс чыста маральны. Слова арыяне (ці, згодна з сучасным вымаўленнем, арыйцы) па-санскрыцкі азначае "ганараваны" і гэтым самым паказвае, што гэта не назва расы, якім зрабілі гэтае слова еўрапейскія навукоўцы XIX стагоддзя, а назва рэлігіі, распаўсюдзіўшайся пад час сярэдніх стагоддзяў незалежна ад племяннога складу – ад Германіі да Індыі. Той факт, што хрысьціянскія гісторыкі пазнейшага часу лічаць іх праціўнікамі хрысьціян, прызнаваўшымі Хрыста толькі "богападобным чалавекам", збліжае іх з агаранамі сярэднявечных грэцкіх і лацінскіх пісьменнікаў, переназваных пад час крыжовых паходаў у магаметан, ад якіх хрысьціянская царква адлучыла сябе толькі ў 1180 годзе пры рамейскім імператары Мануіле[124].

Толькі з Арыя і можна лічыць праўдзівай абавязковую фанетычную граматнасць для пасьвячэння ў біскупскі сан, а разам з тым павінна было ўзнікнуць у асяроддзі феадальна-невуцкага насельніцтва ўяўленне пра сьвятара як пра мага. Здольнасць ведаць ўсё, што прамовіў чалавек, пры прагляданні нацарапанага ліста папіруса (так грэкі пераіначылі яго першапачатковую назву бібілос, адкуль і слова біблія), павінна была, вядома, здавацца першабытнаму чалавеку несумнеўным сведчаннем стасункаў чытаўшага з нейкай звышнатуральнай нябачнай істотай, якая нашоптвала яму змест прамовы.

З'яўляецца пытанне: ці не быў Арый і тым першым чалавекам, які зразумеў, што словы чалавечай гаворкі складаюцца із невялікай колькасьці асобных гукаў і што, пазначыўшы іх малюнкамі рэчаў, найменні якіх пачынаюцца з гэтых гукаў, можна складаць з іхнай пасьлядоўнасьці якое заўгодна выказванне гаворкі.

Мне здаецца, што гэта вельмі верагодна, і падцверджваецца маёй астранамічнай праверкай усіх старажытных грэцкіх і лацінскіх паведамленняў пра сонечныя і месяцовыя зацьменні, прывядзеныя ў IV томе "Хрыста". Там я ўжо паказваў, што амаль усе паведамленні пра зацьменні пачынаючы з 400 года н. э., падцвярджаюцца астранамічнымі вылічэннямі, а ўсе апісаныя да гэтага часу або фантастычныя, або паказваюць на прыналежнасць апісваючых іх дакументаў, а з імі і падзей да шмат больш позняга часу, чым 400 год н. э. Ад часу дзейнасьці Арыя да 400 года н. э. прайшло ўжо каля 100 гадоў і пры руплівым садзейнічанні рамейскіх імператараў-тэакратаў і вялікіх ахвяраваннях іхных магнатаў, магла назбірацца не адна сотня чытаючых і пішучых людзей, а з імі стала магчымым узнікненне і зборнікаў, накшталт біблейскіх кніг Лявітаў, Лічбаў і Другазаконня ў іхным першапачатковым выглядзе і хронік імператорскіх двароў і здзяйсненняў саміх імператараў, і рэлігійных гімнаў, і драматычных п'ес, аж да літургій.

І гэты, абумоўлены лёгкасьцю вывучэння гукавой азбукі, велічэзны для таго часу, скачок разумовай культуры, павінен быў, як і нашы сучасныя вынаходніцтвы, перадавацца, падобна электрычнаму зараду па правадах, па ўсіх тагачасных шляхах стасункаў, якімі тады былі толькі рэкі, ды марскія берагі. Адбыўшыся ў ягіпецкім горадзе Біблас (адкуль і бібілас-папірус і Біблія) выбух, ўпершыню адкрыўшы для чалавечага розуму літаратурную і навуковую дзейнасьці,

---

[123] Жыдоўскае АРЫЕ – Леў.
[124] Хрыстос, кн. VI., ч. III, гл. IX.

перакінуўся, вядома, спачатку ў іншыя буйныя цэнтры гандлёва-адміністрацыйнага жыцця Вялікай Рамеіі і перш за ўсё ў Антыёхію, і Канстантынопаль. Із Антыёхіі па рацэ Аронта граматнасць, разам з арыянствам, накіравалася на берагі Еўфрата, адтуль па рацэ Тыгр ў Багдад, Масул (лічымыя за старажытную Ніневію) і Дыярбекір, а па берагах Пярсідзкага заліва, праз Басру, нездарма лічыўшуюся адным із цэнтраў месіянскай вучонасьці сярэдніх стагоддзяў, па берагу Пярсідзкага заліва праз гавані Абушэр, Бэндэр-Абаа, Чаубір Пассані і Карачы ў вусьці Інда і перш за ўсё ўверх па гэтай рацэ і яе прытокаў у Гайдарабад і Лагар. Адтуль праз перавал адчыніліся шляхі па прытокам Ганга ў Дэлі і Калькуту і па Марокскаму берагу ў Індакітай, па рэках Іравадзі і Салуіну і ў даліну Янцэкіянга, а адтуль па ўзбярэжжу Жоўтага мора ў Карэю і Японію і на захад па Таанга і Амуру ў Тыбет і Манголію. І яшчэ раней гэтага, струмень граматнай веры павінен быў пайсьці із Інда па прытоку ў Кабул у Афганістане і праз перевалы па рацэ Аму-Дар'і ў Бухару і Туркестан.

Мы бачым, што шлях арыянскай культуры быў не такім прамалінейным, як здавалася б з першага погляду, але ж і электрычнасць ідзе па дратах не ва ўсе бакі, а толькі туды, куды яны яе вядуць. А рэкі ж нават яшчэ і ў XIX стагоддзі з'яўляліся адзінымі шляхамі для пранікнення еўрапейскіх падарожнікаў ва ўнутраную Афрыку. Згадайце толькі пра падарожжы Стэнлі, Лівінгстона і іншых. А пад час сярэдніх стагоддзяў і ўся ўнутраная Азія была для еўрапейскіх падарожнікаў, місіянераў і нават заваёўнікаў тым жа самым, што для нас была Афрыка ў XIX стагоддзі. У Амерыку ж і ў Аўстралію еўрапейская раса і культура прасачыліся выключна па берагах мораў і рэк, а таму тое ж самае павінна было адбывацца і ў Азіі, калі ў яе ўпершыню прасачылася арыянская культура. Паходы міфічнага Аляксандра Македонскага, як іх да гэтага часу малююць[125], годныя толькі для дзіцячых казак. А Ласа толькі пазнейшы пілігрымскі шлях буддыстаў, які ўзнік дзякуючы нейкім прыродным з'явам, абуджаўшых забабоны.

[125] Гл. у мяне т. VI, стар. 568.

Дакладна так жа і ў Яўропу арыянства магло прыйсьці із Цар-Горада, толькі па прытокам Дуная.

І лінгвістычныя сляды цалкам падцверджваюць нашу выснову пра ўзнікненне ўсіх культаў з прэтэнзіяй на філасофію і касмаграфію із адной і той жа галавы Арыя-Арона, ягіпцяніна, які атрымаў свае першыя наданні каля падэшвы Везувія і перанёс іх затым у Цар-Горад разам з адкрытым ім або яго невядомым настаўнікам гукавым альфабэтам, рабіўшым яго ў вачах непісьменнага імператара і яго непісьменнага двора сапраўдным магам і чараўніком.

Не згадваючы ўжо пра найменне ўсяго інда-еўрапейскага насельніцства Арыйцамі (тае ж самае слова, як і арыяне).

Мы бачым у Малой Азіі і Персіі Каран, гэтую першапачатковую Біблію, у індусаў і троіцу-Трымурці, і Крышну-Хрыста, а затым і яго адлюстраванне ў міфе пра Будду і Заратустру, ды і асобу самога Канфуцыя, і ўсё гэта паказвае на тое, што ўсе гэтыя рэлігіі з'яўляюцца толькі мясцовымі адгалоскамі мясцовага хрысьціянства IV і V стагоддзяў, ад якога ўжо далёка адышла сучасная праваслаўная тэалогія, а азіяцкія адгалінаванні адхіліліся ў іншыя бакі. Параўнальнае вывучэнне іх на іхнай зямлі для гісторыка рэлігіі асабліва важна таму, што толькі такім шляхам – адкідаючы ўсе відавочна пазнейшыя ўхіленні і пакідаючы першапачатковае (прызнаваемае за такое грунтуючыся на разнастайных яго адзнаках), мы шляхам параўнання гэтых парэшткаў здолеем аднавіць і сапраўдны выгляд арыянства і хрысьціянства на пачатку іхнага ўзнікнення і падставы, дзякуючы якім яны так шырока распаўсюдзіліся да часу крыжовых паходаў і нават пазьней.

# Глава III

# Зенда-Веста – Сьвятыя паведамленні. Гісторыя іхнага адкрыцця і ўзоры іхных паданняў.

У 1762 Заходняя Яўропа асьвяцілася незвычайным сьвятлом. У гэтым годзе ў яе была прывезена Анкеціль-дзю-Пяронам, як жамчужына са дна мора, як птушка Дадо з выспы Мадагаскар, “старажытная кніга іранцаў” – Зенда-Веста, змяшчаючая вучэнне мудраца Зара-Астра (імя якога на балканскай сумесі моваў азначае Назіральнік Зорак[126]).

Гэтая кніга была знойдзена ў Індыі, у парсаў, інакш гебраў. Іхнае першае найменне сугучна з персамі, з якімі іх і пасьпяшаліся атаясаміць, а другая сугучна з біблейскім словам гебер-юдэй, з якімі іх, аднак, не атаясамілі.

Іх зараз няшмат.

На пачатку XX стагоддзя іх было толькі каля 80 000 чалавек, галоўным чынам у Бамбеі, дзе яны і зараз займаюцца гандлем і банкірскімі справамі, утвараючы заможную частку насельніцтва. Размаўляюць яны на мове гузераці і вельмі схільныя да еўрапейскай адукаванасьці. Акрамя Індыі, яны маюцца, вядома ў менш культурным выглядзе, толькі дзе-нідзе ў Персіі ў гарадах Іездзе (каля 4000) і Кермане (каля 5000), а на пачатку XIX стагоддзя яны яшчэ існавалі ў нязначнай колькасьці і каля “вечных агнёў” паблізу горада Баку, да таго часу, пакуль прыйшоўшыя туды рускія не патушылі іхныя агні, прыстасаваўшы сьвятыя газы да прамысловых мэтам здабывання нафты.

Із усяго гэтага відаць, што яны не нацыя, а адна із рэлігійных сект. Адкуль жа з'явіліся гэтыя сектанты, або ва ўсякім разе іхныя настаўнікі, у Індыю? Параўнанне іхнай рэлігіі, у аснове якой ляжаць храмавыя ахвярнікі, дзе вечна падтрымліваецца сьвятое полымя, з бакінскімі “вечнымі агнямі”, а таксама і некаторыя іншыя сведчанні, прыводзяць да высновы, што яны перасяліліся із Закаўказзя. Усё гэта вельмі праўдападобна; із Балканскай паўвыспы ў Закаўказзе, а адтуль праз Персію ў Індыю. Але чаму ж яны не захаваліся да гэтага часу па ўсяму гэтаму шляху?

Яны былі выціснуты магаметанамі, – адказваюць нам. – І гэта даволі праўдападобна, асабліва калі дапусьціць, як мы зрабілі ў VI томе, што сапраўдным распаўсюджвальнікам магаметанства быў не аравійскі праважаты караванаў паміж Мекай і Мядынай, а Махмуд Гані, заваяваўшы пад сьцягам Карана да 1030 г. н. э. ўвесь Іран. Усё гэта відавочна паказвае на сярэднявечнае паходжанне Зара-Астрава вучэння.

Але не так паставіліся да гэтага ў Яўропе. Тэксту гэтых Сьвятых Паведамленяў прыпісалі глыбокую старажытнасць, і стварылі із гэтага ўражваючыя падрабязнасьці пра існаванне надзвычай высокай навукі і філасофіі ў Персіі яшчэ ў VIII стагоддзі да н. э. Яшчэ тады, – сцвярджалі ўсходазнаўцы, – фарсі філосаф Зараастр атаясаміў супрацьлегласць сьвятла і змроку з супрацьлегласьцю дабрага і злога пачаткаў і сцвярджаў, што над сьветам валадараць бог сьвятла і дабра – Армузд[127], са сваімі сьветлымі духамі, і сатана – Арыман [128], валадар цемры і змроку са сваімі дз’ябламі (дывамі), вядучы паміж сабой пастаянную барацьбу.

---

[126] Ад славянскага – зоркі. Адкуль позірк, азірацца і г. д, і ад міжнароднага астра – зорка. Віндышман перакладае Залатая Зорка, першапачаткова золат-астра, але гэта не дае зразумелага сэнсу.

[127] Сугучна із жыдоўскім АУР – святло і МЗД – у слоўніку адсутнічае.

[128] Сугучна із АРЫЕ – леў і МН – дар.

Яшчэ тады – у VIII стагоддзі да Н. Х. абвясьцілі, што кожны павінен садзейнічаць богу сьвятла. Нейкім таемным чынам даведаліся, што яшчэ тады ў Персіі былі забаронены выявы багоў, а полымя, меўшае такую важную ролю і ў хрысьціян з іхнымі лампадамі, лічылася сродкам ачышчэння – праявай "сьвятога духу".

І ўсе верылі, што такае вучэнне магло існаваць і быць распаўсюджаным яшчэ за дзьве з паловай тысячы гадоў да яго знаходжання Анкеціль-дзю-Пярэнам у 1762 годзе у адзіным экзэмпляры, які ён і прывёз у Францыю.

Пры далейшых разважаннях звыш таго выявілася, што гэтая рэлігія валадарыла ў Персіі нават два разы, перад тым як была выціснута магаметанамі.

З псіхалагічнага боку гледжання гэта цалкам зразумела: усе тагачасныя ўсходазнаўцы шчыра жадалі зазірнуць у глыбіню стагоддзяў як мага далей. Але мы тут паставімся да знаходкі як да факту, існаванне якога датуецца толькі 1762 годам, а таму будзем грунтавацца на перадумове, што старажытнасць перадаваемых ў ёй малітваў, законаў і літургічных заклікаў да розных багоў (ужываемых гебрамі-парсамі і зараз) яшчэ патрабуе пераканаўчых доказаў.

Спачатку скарыстаемся даследам К. Касовіча "Чатыры артыкулы із Зенда-Весты", у выданні 1861 года, так як першыя ўражанні ад знойдзенай літаратуры і яе мовы тады былі яшчэ свежымі, а таму і апісанні больш каларытнымі.

"На прыканцы XVIII стагоддзя, амаль адначасова з выяўленнем у Індыі санскрыцкай літаратуры, былі знойдзены, – выказваецца К. Касовіч, – помнікі зендскай мовы, захаваныя парсамі. Анкеціль-дзю-Пярэн здабыў у іх сьвятыя кнігі[129]. Яго (*ўжо папярэдне*!) натхняла думка, што ў гэтых кнігах змяшчаецца сапраўдная мова і вучэнне Зараастра, мудраца-заканадаўцы, імя якога так было праслаўлена класічнай старажытнасьцю, ведаўшай яго грунтуючыся толькі на аддаленых і перадаваемых праз пасрэднікаў паданнях. Парсы (*інакш гебры, выконваючыя ролю еўрапейскіх жыдоў у Індыі*) паведамілі нарэшце Анкецілю (*у Бамбеі, тады належыўшаму партугальцам)* свае скарбы і паміж імі знайшліся нават тыя якія імкнуліся пасьвяціць яго ў таямніцы сваёй сакраментальнай мовы. Плёнам пяцігадовых пошукаў Анкеціля і быў яго шырокі твор у трох частках пад загалоўкам "Зенд-Авеста, тварэнне Зара-Астра, утрымліваючы багаслоўскія, фізічныя і маральныя ідэі гэтага заканадаўцы, цырымоніі ўсталяванага ім рэлігійнага культу і шматлікія важныя дэталі адносна старажытнай гісторыі персаў. Перакладзена на французкую мову з зендскага арыгінала Анкеціллем-дзю-Пяронам, з заўвагамі і з дадаткам шматлікіх разважанняў, здольных патлумачыць дадзенае пытанне".

Гэта кніга была надрукавана ў 1771 годзе пасьля вяртання Анкеціля із Індыі: у першай частцы ён грунтоўна апісвае сваё ўласнае падарожжа і знаходжанне ў Індыі, а ў двух апошніх частках дае пераклад на французкую мову твораў, належаўшых, – як ён думаў, – Зара-Астру. Рукапіс на мовах зендскай і пеглевійскай (мова сучасных індыйскіх гебраў), набыты Анкеціллем за вялікі кошт у парсаў, быў паднесены Анкеціллем, пасьля заканчэння яго працы, у якасьці падарунка Парыжскай Публічнай бібліятэцы. Да гэтага твора, пасьля пошукаў, паўтораных праз некалькі дзесяткаў гадоў, як у Індыі, так і ў Персіі, Раскам і Вестэргардам змаглі дадаць толькі вельмі няшмат чаго".

Так напісаў К. Касовіч ў 1861 годзе, і із гэтага ўрыўка чытач бачыць, што ад 1771 г. да 1861 г. ў парсаў не было знойдзена другога рукапісу гэтага знакавага

---

[129] Гэта быў французкі авантурыст, які паступіў жаўнерам-валанцёрам у французкае каланіяльнае войска, выпраўляемае ў Індыю.

твору, хаця за такія рукапісы еўрапейскія шукальнікі прапаноўвалі, згодна з прыкладам Анкеціля, вялікія грошы. Але як жа магло такое быць, калі Зенда-Веста была спрадвеку свяшчэннай кнігай у парсаў? Парсы ж не абмяжоўваліся толькі адным сямействам? Вось чаму знаходка Анкеціля адразу ж выклікала вельмі законныя сумневы.

“Праца Анкеціля, – працягваў Касовіч, – з аднаго боку была сустрэта з незвычайным энтузіязмам, а з другога самымі з'едлівымі і горкімі нападамі. Вядомы сэр Джонс імкнуўся даказаць, што Анкеціль быў падмануты жрацамі парсаў, якія навучалі яго іхнаму штучнаму жаргону, ніколі не быўшаму ў народным ужыванні і ніколі не служышаму сродкам перадачы ідэй Зараастра. Анкеціль і яго прыхільнікі абаранялі праўдзівасць перакладзеных твораў, бачная ж няскладнасць выкладання ў гэтэх кнігах, была імі патлумачана старажытнасьцю твору. Справа скончылася тым, што навуковая Яўропа, за выключэннем Ангельшчыны, стала на бок Анкеціля. Гісторыёграфы знаходзілі ў кнігах, перакладзеных ім, жывыя выявы старажытна-пярсідзкай цівілізацыі, філосафы – новыя філасофскія ідэі; тыя і другія будавалі на іх грунце новыя сістэмы, якімі тлумачылі з прамой, як яны думалі, крыніцы, з'явы грамадзкага жыцця старажытных персаў”.

“Кніга Анкеціля, – працягвае Касовіч, – доўгі час заставалася такім чынам, бяспрэчным аўтарытэтам для вывучэння рэлігіі і грамадзкіх дачыненняў старажытнай Персіі, таму што праверыць яе, нягледзячы на тое, што матэрыялы для падобнай працы даваліся ўсім і кожнаму, было справай надзвычай цяжкай. Па-першае, адзіны арыгінал заставаўся ненадрукаваным і карыстацца ім была магчымасць толькі ў Парыжы (няўжо чытач сам не адчувае камічнасць гэтай сітуацыі? Адзіную кнігу, у якой выкладалася вучэнне сучасных нам індыйскіх парсаў, існаваўшае 2000 гадоў, нават і на пачатку XIX стагоддзя можна было знайсьці толькі ў Парыжы, а не ў Індыі. Але ж гэта азначае, што змяшчаючыся ў ёй міфы і паданні былі ўпершыню запісаны для Анкеціля, абяцаўшага за іх вялікую ўзнагароду, дзеля якой варта было папрацаваць!); па-другае, Анкеціль не быў філолагам і таму, толькі што згаданая намі, яго кніга ўяўляла вельмі хісткі граматычны і лексічны дапаможнік для навукоўца, які б пажадаў чытаць прывезеныя ім рукапісы ў арыгінале”.

“Але вось, – працягваў далей Касовіч, – з'явіўся твор датчаніна Раска ў нямецкім перакладзе пад загалоўкам “Пра старажытнасць і сапраўднасць зендскай мовы і Зендавесты”. У ім аўтар (які наведаў тыя ж мясьціны, дзе некалі быў Анкеціль 60 гадоў назад і прывёз адтуль ужо больш значны, чым у Анкеціля збор зендскіх і пеглевійскіх рукапісаў[130]), вызначыў блізкае становішча Зенда-Весты да мовы Ведаў, і гэта заахвоціла тады яшчэ маладога Эжанка Бюрнуфа даследаваць Зенду па рукапісах Анкеціля. Гэты пераклад спачатку быў для Бюрнуфа адзіным і галоўным дапаможнікам. Але амаль адразу ж ён заўважыў, што паміж анкецілевым зендскім арыгіналам і анкецілевым перакладам няма нічога агульнага, акрамя асобных слоў. На счасьце, у ліку рукапісаў калекцыі Анкеціля, знаходзіўся і санскрыцкі пераклад некаторых частак зендскіх тэкстаў, выкананы парсам Нарысенгам, хаця той дрэнна ведаў санскрыцкую класічную мову і перакладаў не з

[130] Зендская мова лічыцца мовай набажэнскіх кніг, а пеглевійская – звычайная мова індустанскіх гебраў, падобна таму як у нас царкоўна-славянская ўжываецца ў набажэнствах, а руская, ўжываемая ў штодзённых стасунках.

арыгінала, а із так званага Пеглевійскага перакладу (які, верагодна, насамрэч і быў арыгіналам) і яго пераклад дапамог Бюрнуфу.

У 1833 годзе Бюрнуф выдаў першы том сваёй вялікай незакончанай працы “Камэнтар на Ясну”, у якой патлумачыў асноўныя законы канструкцыі зендскай мовы, і ў гэтым жа годзе вышла ў сьвет 1-я частка параўнальнай граматыкі Бопа, дзе даводзілася, што формы Зенда ідуць рука аб руку з формамі ўсіх індаеўрапейскіх моваў, у асабліваcьці ж падобны з формамі санскрыцкай мовы. З таго часу цікавасць да зенда ў Яўропе ўжо не знікала.

Затым выявіліся і іншыя падабенствы.

У трыццатых годах XIX стагоддзя іншы авантурыст, ангельскі афіцэр Ролінсан, знаходзячыся ў Персіі згодна са службовымі справамі, наведаў знакамітую Бізутунскую скалу. На ёй, яшчэ згодна з паданнямі Дыядора Сіцылійскага і Стэфана Візантыйскага, была адлюстравана ўрачыстасць Сяміраміды над заваяванымі ёю народамі. І вось, адзін абцёсаны бок велічнай скалы выявіўся ўвесь спісаны клінападобнымі надпісамі, з якімі Роулінсан, згодна са сведчаннем Касовіча, не быў знаёмы ў Яўропе. Ён сапраўды знайшоў на гэтай скале выдатна захаваўшыяся выявыя, але на іхным першым плане стаяла ганарлівая асоба цара ў кароне, а не жанчыны, і перад ім стаялі яго палонныя. Узяўшыся за дэшыфроўку надпісаў, Роулінсан прачытаў там імёны Дарыя і Істаспа і яму стала зразумела, што скала апісвала падзвігі не асірыян, а перамогу Дарыя сына Істаспа над ілжэ-Смердзісам і паўстаўшымі абласьцямі імперыі, заснаванай Кірам, пра якую з такімі падрабязнасьцямі паведамлялася ў Герадота.

Затым ён атрымаў із Яўропы ад Бюрнуфа яго “Камэнтар на Ясну” і прыступіў да яго вывучэння, спадзяюся знайсьці ў вызначаных Бюрнуфам граматычных формах зенда тлумачэнні формаў мовы надпісаў, яшчэ к таму часу дасканала не даследаваных, з нагоды чаго нановаадкрыты ім надпіс быў ім хутчэй разгаданы, чым даследаваны. І раптам лексічная частка і граматычныяе формы гэтых пярсідзкіх надпісаў, належаўшых (*на думку тагачасных асіролагаў*) Ахеменідам, выявіліся амаль тоеснымі з паданнямі зенда!”

“Выданне Бізутынскага надпісу, які можна назваць каштоўным творам, выкрыла, – працягвае Касовіч, – для гісторыі і філалогіі адну із моваў, пра існаванне якой на працягу тысячагоддзяў, ніхто нават і не падазраваў! Усім вядома далейшае далучэнне Зенд да тлумачэння моваў старажытнай Асірыі і Вавілона, зробленае Роулінсам, а затым Лаярдам і іншымі. Выданне ўсіх старажытных пярсідзкіх надпісаў было паўторана з дапаўненнямі Венфеем у Германіі і Юліем Апертам у Францыі. У баку засталіся толькі высновы Петрашэўскага і Гаўга, із якіх першы знайшоў у Ведзідадзе кодэкс “Старажытна-Кольскага ўлажэння” а другі ў санскрыцкой Рыгведзе – арыгінал зендскіх песнапенняў Зараастра”.

Сакраментальныя кнігі парсаў у першай палове XIX стагоддзя складаліся часткова із зендскіх тэкстаў і часткова із перакладаў, парафраз і іхных тлумачэнняў на мовах пеглевійскай і парсі (хаця скептыкі, як я ўжо згадваў, і магуць лічыць менавіта гэтыя пераклады за арыгіналы). Да апошняй катэгорыі адносяцца і санскрыцкія пераклады некаторых асобных частак зендскага арыгінала (калі, зноў дададзім, не зендскія з'яўляюцца перакладамі санскрыцкіх). Акрамя таго, да разраду сапраўдных сьвятых зендскіх тэкстаў адносяць адзін твор, які існуе толькі на пеглевійскай мове (Бундзегеш) і адзін на мовах пеглевійскай і парсі (Мінсхірэд). На апошняй мове маецца таксама некалькі кароценькіх, згодна са зместам зендскіх,

малітваў, а на пеглевійскай мове некалькі артыкулаў нібыта перакладзеных із зенда, арыгінала якіх таксама не існуе.

Мова Парсі, інакш называемая парсі-зенд, уяўляе із сябе ўзор арыйскай гаворкі, сярэдняй паміж зендам і новапярсідзкай мовай. Цалкам іншае мова, якую Анкеціль назваў пеглевійскай, хаця згодна з даследаваннямі Шпігеля яна павінна была быць названай гузварэшскай. Яна граматычнымі формамі амаль не адрозніваецца ад парсі-зенда, яе ж ляксічная частка запазычана ў вялікай колькасьці із сяміцкай мовы блізкага па свайму складу да біблейскай. Апошняя акалічнасць прымусіла некаторых, без значных падставаў, зноў лічыць, што мова каментатараў Зенда-Весты ніколі не была жывой мовай, і што яна створана сьвятарамі парсаў з мэтай перашкодзіць з дапамогай чужых слоў і ўмоўных знакаў выведванню сакрамэнтаў іхнай рэлігіі з боку людзей, якія не былі пасьвечаны ў гэтыя сакрамэнты (хутчэй за ўсё проста таму, што яны былі сірыйскімі місіянерамі, перамяшаўшымі сваю мову з мясцовымі, менш культурнымі, як гэта заўсёды і бывае).

Але сам “Зенд”. Ці быў ён калі-небудзь мовай не адных індускіх парсаў, а таксама і іранскіх персаў? Дзе яго першапачатковая радзіма? Адкуль ён атрымаў гэтую назву? – ставіць пытанні Касовіч і адказвае:

– Словы Зенд і Зенда-Веста адсутнічаюць у творах, якія мы называем зендзкімі. Мова гэтых кніг, гэтак жа, як і мова іхных тубыльных перакладаў і камэнтараў, абавязана сваёй назвай Анкецілю. Слова зенд там азначае тлумачэнне (калі не проста сьвяты), а веста ж (па нашаму вестка або паведамленне), інакш апаста – азначае веданне ў сэнсе рэлігійным, тое ж, што санскрыцкая веда (наша веданне).

І вось атрымліваецца, што мова сьвятых кніг, вядомых пад найменнем Зенда-Веста, не з’яўляецца мовай старажытных парсаў. Нават і самога слова “парса”, якім называюць сябе на надпісах цары так званай “старажытнай Персіі”, не сустракаецца ніразу. Арыйскія індусы таксама наўрад ці  калі-небудзь мелі назву парсаў. Яны называлі сябе проста людзьмі (марцья) і ахвотна дапасавалі да сябе эпітэт “арья”, азначаючы як на зендскай, так і на санскрыцкай мовах: добравыхаваны, шляхетны, шаноўны, а на мове “Ведаў” гэтае слова азначае: падданы, верны родным пастановам і г. д.

“Іхны край, – кажа Касовіч, – ужо тады меў сядзібы, паселішчы (вісі, г. азн. весі), суполкі, гарады (занту) і вобласьці (дах’ю), вельмі часта згадваемые ў ёй з дадаваннем слова арыянскія (аір’я), дакладна так жа, як іншапляменныя (і без сумневу, іншаверныя) вобласьці пазначаюцца ў ёй самой анайр’я, г. азн. завуцца абласьцямі людзей не-арыйскіх. Так, на сваім надмагільным надпісе Дарый сын Істаспа называе сябе: “Парса Парса-путра, і Ар'я, Ар'я-Чытра”, што азначае: “перс сын перса і ар'ян із (племені) ар’еў”, прычым прысутнасць слоў “парс сын парса” тут вельмі здзіўляе, таму што персамі называюць персаў толькі еўрапейцы, а самі яны называюць сябе іранцамі (ірані), а сваю краіну завуць толькі Іранам.

Выяўляецца і яшчэ адно непаразуменне.

Тое, што мова Зенд-Авесты не была агульнай мовай арыеў, робіцца відавочным, калі параўнаць яе з мовай надпісаў, якая сучаснымі навукоўцамі называецца старажытна-пярсідзкай. Роулінсан і некаторыя яго пасьлядоўнікі лічаць з гэтай нагоды, што зендская мова пашырылася пазней іхнай старажытна-пярсідзкай.

Спасылаючыся на “ўсходняе паданне”, нам кажуць, быццам бы цар Арда-Шыр (ІІІ стагоддзе нашай эры)[131] загадаў сабраць з усіх канцоў Ірана раскіданых сьвятароў Заратустры, што ён сабраў іх каля 40 000 чалавек, і што грунтуючыся на іхных сведчаннях, згодна з загадам цара, быў напісаны кодэкс сьвятых кніг гэтага старажытнага настаўніка, які жыў згодна з аднымі аўтарамі падчас біблейскага Майсея, які хадзіў па Аравійскай пустыні быццам бы паміж 1491 і 1451 годамі “да нараджэння Хрыстова”, а згодна з іншымі нават блізка да часу стварэння сьвету, у зямным раю Мідыі,

Дзякуючы Ардашыраву “Сусьветнаму Сабору” і было адноўлена, – запэўніваюць нас, – даўно спыніўшае існаванне служэнне Армузду (г. азн. Стваральніку Сусьвета). “Падабенства абрысаў пісання Зенда з абрысамі надпісаў, захаваўшыхся ад часу першых Сасанідаў (ІІІ-VІІ стагоддзе), – запэўніваць нас у дадатак да папярэдняга, – падцверждвае праўдзівасць гэтага (недарэчнага) падання”. Альфабэт, якім карысталіся Сасаніды ў ІІІ стагоддзі быў сяміцкім, падобным на біблейскі; сяміцкім жа альфабэтам перададзены і зендскія “помнікі”.

Адсюль зразумела, што і рукапісы Зенда не больш старажытныя чым сяміцкі альфабэт. “Але із таго, што Зендскае напісанне не ідзе далей эпохі Сасанідаў, – кажа Касовіч[132], – узнікае пытанне: ці захаваліся Зендскія помнікі ад старажытных часоў да эпохі Сасанідаў (г. азн. ІІІ-VІІ стагоддзя да н. э.) з дапамогай пісьма, або толькі з дапамогай адной памяці сьвятароў, перанесеных імі на пісанні пры Сасанідах?”

І ён жа адкажае з наіўнасьцю, заслугоўваючай лепшай долі:

“Прыклад таго, што помнікі вялікага аб’ёму могуць перадавацца із пакалення ў пакаленне (на тысячы гадоў!) з дапамогай толькі адной памяці, мы маем на прыкладзе Гамера. Але яшчэ больш уражваючыя прыклады вуснай перадачы вялікіх помнікаў уяўляе нам санскрыцкая літаратура. Вядома (!?), што Рамайяна захавалася (шмат тысячагоддзяў!) у трох вусных рэдакцыях, і вялізны зборнік Вед быў запісаны толькі тады, калі іхная мова зрабілася незразумелай (!!) для захоўваўшых іх арыяў Індыі, і калі спатрэбіліся каментары для саміх паўтаральнікаў гэтых сьвятых (безсэнсоўна прамаўляемых!) помнікаў (г. азн. амаль бясконцага механічна завучваемага набору незразумелых гукаў, пачаўшы вымаўляць якія, можна было скончыць толькі праз некалькі месяцаў)! Як вам гэта падабаецца, чытач? А іншага ж выйсьця няма, калі вы заупарціліся да таго, што ўжо ні за што не жадаеце адмовіцца ад раней наданага вам пераканання пра глыбокую старажытнасць зендзкіх кніг.

“Асобны клас людзей (г. азн. брамінаў), – працягвае Касовіч, – быў таксама (вусным) уладальнікам і захавальнікам Вед пасьля іх узнікнення ў Індыі. Разлікам гэтых людзей было не рабіць агульнадаступнай мудрасць, якой яны валодалі, нават і пры ўзнікненні пісьмовасьці. Самы старажытны індыйскі збор – законы Ману – ужо выстаўляюць браманаў на чале чалавецтва: народ павінен быў бачыць у іх галаву самога Брамы. Але вось, цалкам насупраць, ніякага апафеозу жрацоў у кодэксе Зенд (у Вендзідаце[133]) мы не назіраем. Клас жрацоў Зенда-Весты не больш як клас працоўных грамадзян, а не валадарачая каста, як у Індыі, і таму нельга лічыць, каб у іх калі-небудзь было імкненне хаваць перад народам, із асяроддзя

[131] Ён жа Арта-Ксеркс ад грэцкага Орто-Кесарыкос, г. азн. прамацаруючы.

[132] К. Касовіч. Чатыры артыкулы із Зенда-Весты з далучэннем транскрыпцыі рускага і лацінскага перакладаў, тлумачэнняў, крытычных заўваг, санскрыцкага перакладу і параўнальна гласарыя, СПБ, 1861, стар. XXV.

[133] Г. азн. Кніга, “дадзеная супраць дэманаў”.

якога яны выходзілі, сэнс маленьняў, здольных хутчэй прыхіліць да іх насельніцтва, чым прынізіць іх перад ім. Да таго ж мова Зенда такая блізкая да (ўяўляемай) старажытна-пярсідзкай, што і без пісьменства была зразумелай кожнаму парсу". – А із гэтага такая выснова: тым больш уся зендзкая літаратура павінна была захоўвацца нязменнай і без пісьменства да сканчэння вякоў.

"Але як жа патлумачыць перамену альфабэта сьвятых парсійскіх кніг, у той час калі для іхнага ўладальніка, кожная літара тэкста павінна была лічыцца свяшчэннай? – зноў ставіць пытанне Касовіч – таму што падобная перемена напісання, – выказваецца амерыканскі навуковец Вітней, – магчымаса толькі пры поўным перайначанні старажытнага вучэння, што, відаць, і мела месца падчас рэдагавання сьвяшчэннага кодэкса пры Сасанідах. А між тым, помнікі Зенда маюць характар непадробленай каштоўнасьці і відавочна выяўляюць іхную даслоўную перадачу ў тым выглядзе, у якім яны былі, без якіх бы то ні было сумневаў, складзены (тысячу гадоў назад) упершыню у асяроддзі ар'яў. Рэформа абавязкова падвяла б увесь іхны змест пад адзін узровень і наклала б на іх сваю пячатку. А мы не заўважаем якіх бы то ні было слядоў падобных спробаў на гэтых помніках".

Як адказаць на падобнае амаль фатальнае пытанне? Выявілася, што вельмі проста.

Адкідваючы якую б то ні было здагадку маючую дачыненне да здзейсненых пры Сасанідах змяненах у Зендавесьце, – кажа Касовіч, – я цалкам не лічу немагчымым тое, што іранскія жрацы, пры тагачасным вяртанні Ірана да народных веравызнанняў, ахвотна пераклалі гэтыя кнігі з іхнага забытага альфабэта (навошта і чаму?) на альфабэт, які быў у той час, верагодна (!!) агульнадаступным для ўсёй Персіі, хаця і навязаны ёй іншапляменнікамі, і што зрабілі яны гэта з мэтай большага пашырэння сваіх кніг і свайго старажытнага вучэння.

Наіўная фантастыка такога тлумачэння настолькі кідаецца ў вочы, што неяк нават сорамна нешта пярэчыць. Уся ж першапачатковая псьмовасць была аж да эпохі гуманізму ў руках сьвятарства, і пад час змены веравызнанняў новае заўсёды жорстка змагалася са старым, а не перапісвала клапатліва яго творы, з якімі яно вяло барацьбу...

А далей атрымліваецца яшчэ горш.

Параўнанне ўсіх знойдзенных рукапісаў, – кажа Касовіч, – не выявіла амаль ніводнага варыянту ў словах і іх пасьлядоўным размяшчэнні. Адзіныя іхныя адрозненні складаюцца:

1) у невялікім адрозненні вымаўлення некаторых слоў (напрыклад, у замене гука Ш на С, як калі б па-руску было напісана "шіданне" замест "свіданне".

2) у адрозненні транскрыпцыі зучаных слоў (напрыклад, у адным рукапісе два словы злучаны, у другім адасоблены, накшталт таго як па-руску у адным напісана "нізкапробны", а ў другім – "нізка пробны", у адным суфікс далучаны да слова, а ў другім аддзелены, накшталт як па-руску "штобы" і "што бы".

3) у відавочных апісках.

І такая падобнасць усіх зендзкіх тэкстаў паказвае, вядома, што ўсе яны перепісаны із аднаго рукапісу, а іхная нярэдкая аднолькавая ва ўсіх адсутнасць закончанасьці тлумачыцца тым, што і першапачатковы рукапіс быў настолькі нядаўнім і спешна складзеным, што ні аўтар, ні пасрэднікі не паспелі яго скончыць.

Такім з'яўляецца тлумачэнне грунтуючыся на здаровым сэнсе. Але вось і тлумачэнне спецыялістаў.

“Відавочна, – кажа Касовіч, – што пры Сасанідах не было ўжо магчымасьці аднавіць гэтыя творы ў больш поўным выглядзе, і ў той жа час гэта канчаткова даказвае(?!), што аднавіцелі старажытнага вучэння парсаў, склаўшыя гэтыя дакументы, былі далёкімі ад усякай думкі рабіць у іх якія б то ні было змены”.

На справе ж усе вышэйпазначаныя факты паказваюць толькі адно: першапачатак зендзкай пісьмовасьці быў ніяк не раней сасанідзкай дынастыі, валадарыўшай нават згодна з самымі артадаксальнымі гісторыкамі ужо ад 226 г. да 638 г. н. э., а не да яе. А калі мы будзем грунтавацца на самым крытычным і нестароннім даследаванні яе зместу, то пераканаемся, што творчасць на гэтай мове працягваецца і зараз.

Помнікі Зенда, у тым выглядзе, у якім мы іх зараз маем, размяркоўваюцца на чатыры згуртаванні: першае згуртаванне складаюць заканадаўчыя легенды (кніга супраць дэманаў Вен-ды-дад), якая маеца ў вельмі ўрыўкавым стане; другое – літургічныя службы і малітвы (Ясны і Віспарэды); трэццяе – малітвы ў гонар асобных багоў (Яшці), аналагічныя гамерычным гімнам і чацьвёртае – рэлігійныя лірычныя вершы (Гаты). У склад кожнага згуртавання, акрамя лірычных вершаў, нітка якіх не перарываецца нічым староннім, часта дададзены размовы Стваральніка Сусьвет (па-зендзкі Аура-Мазды) са Стваральнікам Зорак (Заратустрай). Заратустра запытвае ў Аура-Мазды пра ўсё, што для яго не вельмі зразумела у вобласьці абавязкаў людзей адзін да аднаго і да бога, а Аура-Мазда адказвае на гэтыя пытанні. Кніга законаў цадкам уся выкладзена ў выглядзе такіх размоваў.

“У Зенда-Весьце, – кажа Касовіч, – над усімі з'явамі прыроды ўзносіцца адзін бог, дзейнічаючы нязменна і ўвесь час, ахоўваючы чалавека, чысты душой і справядлівы, грозны толькі для аднаго зла, і пры ўсім тым, не маючы ніякіх матэрыяльных атрыбутаў”.

Гэты бог па-зендску мае гназву Аура-Мазда[134], бог жыцця і сьвятла: помнікі Зенда не атаясамляюць яго ні з адной са з'яваў прыроды і не ведаюць вярхоўнага бога з іншым імем.

Гэты ж бог прысутнічае і ў індускіх Ведах. І там ён бог – даравальнік жыцця. Яго эпітэт “Медас” пазначае боскую мудрасць. Хутчэй за ўсё гэта пераіначанае слова мегас – вялікі, тады Асура-Мегас будзе азначаць Вялікі Гасподзь. Але ў Ведах гэты бог, як усёабдымаючая і ўсёздзяйсняючая істота, не з'яўляецца адзінкавым: такім жа богам жыцця, але значна больш бліскучым выступае і Агні, г. азн. Полымя (Святы дух і ў той жа час Ягня, спальваемае ў якасьці ахвяры за грахі сьвету) і Індра (ад грэцкага Андрас, г. азн. Богачалавек) і яшчэ больш бліскучы і паўны – Варуна (г. азн. верны, Праўдзівы Бог), другое найменне Стваральніка сусьвету.

Тае, што рэлігія Заратустры з’яўляецца рэзкай рэформай Ведычнай (або наадварот), а не наступства паступовага развіцця адной із другой, даказваецца зменай сэнсу самога слова “бог”. Замест назвы “дэў” і зараз ужываемай як назва бога арыйскімі плямёнамі, мы маем у Зенда-Весьце “майн’я”, што азначае дух (ад кораня “мніць”). А слова “дэў” ператварылася ў парсаў у найменне злых духаў, якія знаходзяцца пад уладай Сатаны, у Зенда-Весьце маючай назву Анрамайнья, г. азн. Злы Дух (Ары-Ман).

---

[134] Ад біблейскага АУР – святло і МАЗАД, а не дзякуючы пераіначванню санскрыцкага Асура-Медас, г. азн. Жывы-Мудры, як тэндэнцыйна лічылася.

Толькі тры ведычныя багі прысутнічаюць у рэлігіі Назіральніка Зорак (Зарат-Устры): першы із іх бог Сома, г. азн. Увасобіўшыся (ад грэцкага словы сома – плоць), або інакш бог Гаома г. азн. Увасобіўшыся ў чалавеку (ад лацінскага гома – чалавек), адпавядаючы таксама ведычнаму сыну чалавека Індры (ад грэцкага кораня Андр – чалавек). Два іншыя агульныя з Ведамі багі, гэта Мітра – сонечны бог і Агні, г. азн. полымя – сьвяты дух, выходзячы, паводле вучэння грэцкай царквы, толькі ад Бога-айца, а ў Зенда-Весьце пастаянна называемы сынам (путра) Стваральніка Сусвету. Яшчэ існуе другарадны бог або іншае найменне аднаго із пералічаных: Нарэсана, бог, заступаючыся за людзей. У ап'яняючым соку расьліны сома, як хрысьціяне ў прычашчальным віне, бачылі прысутнасць крыніцы жыцця, бога, аддаючага самога сябе людзям, для таго, каб узвысіць іх да сябе. І гэта відавочны водгалас хрысьціянскага прычашчэння, калі хор сьпявае "цела (г. азн. сому па-грэцку) Хрыстова прыміце, крыніцу неўмуручасьці паспрабуйце!" У служэнні нябесным сьвяцілам, мы бачым у Зенда-Весьце парэшткі папярэднічаўшага шматбожжа. Зразумела, што гэтая рэлігія (Назіральніка Зорак – Заратустры), хаця і ўсталявала паміж арыямі служэнне адзінаму богу, аднак жа не была настолькі моцнай, каб канчаткова адвярнуць іх ад ушаноўвання з'яваў прыроды, як і хрысьціянская ў Яўропе. У рэфармаванай рэлігіі Заратустры засталося нават ушанаванне дрэваў і вады, асабліва баснаслоўнай крыніцы Ардві-сура, ад якой пачынаецца ўсякае багацце і шчасьце на зямлі. Стваральніка Сусьвету, як і бога-айца ў хрысьціян, атачае незлічоная колькасць неўміручых жывых істот, сярод якіх галоўныя арханёлы і анёлы (Амеша спента), называемыя ўсёўхваліцелямі (Язатамі).

Із анёлаў усёўхваліцеляў (Язатаў) самы выбітны Ўсёчуючы Сраоша (ад кораня сру, пераіначанае слухаць), істота пастаянна надзяляемая эпітэтам ашы, г. азн. чысты, непадкупны. Ад яго слыху нічога не схаваецца. Ён усё ведае, ахоўвае чыстыя істоты падчас цемры.

Ушанаванне Стваральніка Сусьвету (Аура-Мазды) не з'яўляецца, згодна з вучэннем Зенда-Весты, выключным здабыткам людзей аднаго племені. Стваральнік Сусьвету – таксама стваральнік і ўсіх людзей, і ўсе людзі павінны да яго звяртацца. Яшчэ і зараз мае магутнасць Сатана, які называецца Анра-Майя, па-грэцку Арыман, ад жыдоўскага Ары-Мон, г. азн. праўдзівы леў[135]. Гэта здарыцца яшчэ няхутка, але надыйдзе час, калі на зямлю апусьціцца Выратавальнік[136], які зацвердзіць вучэнне Назіральніка Зорак ва ўсім чалавечым родзе і чалавечы род не будзе тады адчувальным да магутнасьці Сатаны – злога духа (Анро-Майнья) і зло канчаткова знікне на зямлі.

Заканадаўчая частка "Сьвятой Весткі" (Зенда-Веста), існуючай толькі ва ўрыўках, і то, большай часткай маючай дачыненне да рэлігійных звычаяў, носіць адбітак надзвычай лагоднага стаўлення не толькі да людзей, але і да жывёл, асабліва калі яе параўнаць з заканадаўствам сапраўды старажытных народ. У "кнізе дадзенай супраць дэманаў" (Вэндзі-дата) не відаць і следу той разнастайнасьці пакаранняў, якіх так шмат у старажытных юрыдычных кодэксах рода чалавечага. Сьмяротнае пакаранне прызначалася толькі за адступніцтва. За іншыя злачынствы ў асноўным прызначаліся штрафы, але не грашамі, якіх пад час сярэдніх стагоддзяў нават у Яўропе не было ў кожнага, а канямі, баранамі і іншым хатнім быдлам, часам, дарэчы, і золатам, колькасць якога вызначалася не вагой і не злічэннем, а

[135] Арые-Амон – праўдзівы леў.

[136] Савашад, інакш Савашанта ад кораня Сава – выратаванне.

вызначанай колькасьцю коней ці наогул хатняга быдла, якое на яго можна было абмяняць.

Сьвятарам за адбыванне малебнаў і лекарам за лячэнне згодна з зендскімі законамі прызначалася пэўная ўзнагарода, адпаведна з маёмасьцю запашаючага да сябе. Але лекар меў права лячыць ар'еў, толькі пасьля папярэдняга вылечвання траіх іншапляменнікаў (ан-ар'еў).

Але тут жа мы бачым і супярэчнасьці. Пры лагоднасьці духу, якім наогул вызначаюцца гэтыя законы, міжволі нас уражвае тое, што цялесныя пакаранні, якія звычайна азначалі ўдары бізуном, даводзіліся часам да тысячы.

У гаспадарчым дачыненні "Кніга, дадзеная супраць дэманаў" (Вэндзі-дад), заахвочвае людзей да земляробства:

"Толькі з дапамогай земляробства, – гаворыцца там, – чалавек можа стварыць для сябе трывалую і неад'емную ўласнасць: не стаўшы земляробам, ты будзеш заўсёды залежаць ад маёмасьці іншых".

Цяжка скласьці ўяўленне пра становішча жанчын у грамадстве старажытных ар'еў, калі звярнуць увагу на тое, што нідзе ў Сьвятой Вестцы не згадваецца пра шматжонства і што вялікую частку анёлаў яны ўяўлялі ў вобразе чароўных жанчын (як і ў хрысьціян). Із гэтага, як мне здаецца, можна зрабіць пэўную выснову, што роля жанчын згодна з меркаваннем аўтараў "Сьвятой Весткі" была далёка не той, якую ім наканавана выконваць на Ўсходзе зараз, і што, як выснова, гэтая рэлігія першапачаткова сфарміравалася ў сярэднявечнай Яўропе, адначасова з Евангеллямі.

У мове зенда існуе дзьве гаворкі: на адной напісаны лірычныя рэлігійныя вершы (гаты) і некалькі кароткіх малітваў у вершаванай форме, на другой – усе астатнія зендзкія помнікі. Гаворка зендзкіх вершаў лічыцца больш старажытнай і супраць гэтага не было б магчымасьці выказаць нейкіх пярэчанняў, калі б гісторыя сучаснай літаратуры не давала б нам прыкладаў паэтычнай мовы, якая ў такой жа ступені адрозніваецца ад сучаснай ёй мовы прозы. Вазьмем, напрыклад, хаця б французкую паэзію.

Вось тры ўзоры апавяданяў Зенда-Весты, грунтуючыся на якіх вы зможаце скласьці уяўленне і пра астатнія. Бяру іх із кнігі К. Касовіча "Чатыры артыкулы із Зенда-Весты", 1861.

### Два апавяданні із "Кнігі дадзенай супраць дэманаў (Вендзідата, скарачэнне Ві-дэва-дата)".

### 1. Выпрабаванне Назіральніка Зорак (Заратустры), гл. XIX, арт. 1-10.

Ад краіны поўначы, ад паўночных краін, прымчаўся Сатана (*Анта-Манья па-зендску*), поўны пагібелі, як дэман дэманаў. Вось што вяшчаў ён, зломудры, поўны пагібелі, гэты Сатана:

"Чорт! Ізді, умары ненарочнага Назіральніка Зорак (Заратустру)!"

Панёсся чорт; гэта быў дэман Бунці, дэман тлення, ад якога ідзе ўсякая порча на целе людзей. Назіральнік Зорак паўтараў у той час "Сутнасць веры! Вось словы яго песьні:

"Славуты той, каму і прырода і рух яе падуладны; таму што сьвятасць яго напаўняе і прастору і час. Ад яго зыходзяць намеры для добрых здзяйсненняў у гэтым сьвеце. Стваральніку Сусвету належыць улада: ён падацель ежы не маючаму. Слаўце яго добрыя воды, слаўце воды добрага стварэння, будзьце верныя закону, ушаноўваючаму Стваральніка".

Уражаны словамі сьпеваў, збег чорт назад, чорт Бунці, дэман тлення, ад якога зыходзіць ўсякая порча на людзей. Гэты чорт сказаў свайму гаспадару:

"Кат Сатана! Не магу я знайсьці для яго пагібелі, для гэтага правядніка Назіральніка Зорак. Ён поўны велічы і бляску, гэты беззаганны".

А Назіральнік Зорак пабачыў у сваёй душы:

"Шкодніцкія, зламудрыя дэманы раюцца пра тое, як загубіць мяне".

Падняўся Назіральнік Зорак, рушыў з месца Назіральнік Зорак, ніколькі не пакрыўджаны злым духам і жорсткім, варожым яго намерам. У яго, у беззаганнага, былі ў руцэ камяні – кожны камень велічынёй з каня: за ім было прызнанне, прызнанне Стваральніка Сусвету.

"Куды, – запытаў яго Сатана, – намерыўся ты ісьці на гэтай зямлі, дзе столькі шляхоў, на гэтай зямлі, якая круглая, межы якой няблізкія, узброіўшыся ў высокім доме Багатага Канямі?"

Назіральнік Зорак патлумачыў зламу Сатане:

"Іду знішчаць тварэнні, створаныя дэманамі; іду знішчыць сьмерць, створаную дэманамі; іду знішчыць знішчальніцу, таму што яна будзе знішчана Выратавальнікам, які народзіцца ад вады Кансаунскай, ад усходняга боку, ад краін Усходу".

Зломудры Сатана звярнуўся да Назіральніка Зорак з прамовай:

"Не вынішчай маіх стварэнняў, беззаганны Назіральнік Зорак. Таму што ты ж Сын Багатага Канямі, таму што сваім жыцьцём ты абавязаны сьмяротнай маці. Лепш адрачыся ад добрай веры, ушаўноўваючай Стваральніка, і знайдзі шчасьце, якае было вынайдзена царом Вадаганам".

На гэтую прамову адказаў яму Назіральнік Зорак, правядны:

"Не адракуся я ад добрай веры, ушаноўваючай Стваральніка; не адракуся, калі б нават мае косткі і жыццё і душа пайшлі паасобку!"

Зломудры Сатана сказаў тады Назіральніку Зорак:

"Чыё слова ўразіць мяне? Чыё слова пазбавіць нас бляску і магутнасьці? Дзе зброя, перад якой парушацца мае трывалыя стварэнні і з імі Сатана?"

Адказаў яму правядны Назіральнік Зорак:

"Сьвятая ступа, сьвятая чарка, аўма і словы, вымаўленыя Стваральнікам – вось мая непераможная зброя! Вось тое слова, якім я буду зьнішчаць, вось тое слова, якім я пазбаўлю цябе бляску і магутнасьці, вось мая зброя супраць усіх тваіх трывалых стварэнняў, Сатана! Зброю гэтую стварыў дух чысты, стварыў і бязмежныя перыяды; стварылі яго безсмяротныя беззаганныя, дабро здзяйсняючыя, добрадумаючыя".

І вымавіўшы гэта, Заратустра вымавіў словы песьні "Сутнасць веры ":

"Славуты той, каму падначалена і прырода і яе рух. Яго сьвятасць аднолькава ахоплівае і прастору і час. Ад яго паходзяць намеры для добрых здзяйсненняў у гэтым сьвеце. Яму належыць улада. Ён падацель ежы не маючым. Слаўце яго, добрыя воды! Слаўце яго, воды добрага стваральніка! Будзьце вернымі закону, ушаноўваючаму Стваральніка!"

## 2. Пра першы час душы чалавека пасьля сьмерці.
## (Кніга, дадзеная супраць дэманаў, гл. XIX, арт. 27-34)

"Стваральнік сусьвету і ўсяго, што існуе ў ім! Запытаў Назіральнік Зорак Стваральніка Сусьвету. – Дзе здзяйсняецца справаздача душы памёршага, дзе рэкамендуецца ён, дзе збіраюцца для яго паведамленні, дзе выяўляюцца перад

асобай усе звесткі для той справаздачы, якую дае смяротны пра сваю душу, калі яна пакідае гэты сьвет?”

Стваральнік Сусвету адказаў яму:

“Пасьля таго, як сканае чалавек, пасьля таго, як адыдзе ён, пасьля таго, як злыя, зломудрыя дэманы падыдуць да яго, калі развідняе і заззяе зорка, калі на гары з чыстым бляскам узыдзе пераможны Мітра (Феб) і бліскучае сонца пачне паднімацца, тады, правядны Назіральнік Зорак, дэман на імя Бізарэш, авалодвае звязанай душой дрэннага чалавека, чалавека ўшаноўваўшага дэманаў, жыўшага брыдка. Тады той, каго вабіла зло, і той, хто кіраваўся праўдай, абодва ўступаюць тады на свае шляхі, прыгатаваныя для іх часам, каля маста, створанага Стваральнікам, каля чыстага <...> месца, дзе разбіраюць, як чыя душа, як чыё сумленне дзейнічалі ў сьвеце, хто што здзейсніў, жывучы ў асяроддзі жывых істот. Сюды прыходзіць чароўная, статная, бадзёрая, высокая дзяўчына: спадарожнічаюць ёй сьвятасць, праўда, улада, магутнасць. Гэтая дзяўчына скідае шкодныя душы благіх людзей у цемру; душы ж людзей чыстых пераходзяць пад яе ўладу на той бок недасягаемых гор Гара-Беразайці. Гэтая дзяўчына праводзіць праведнікаў праз мост Чынвад, далучаючы іх да сонма нябесных анёлаў (йазатаў). Там насустрач праведніку паднімаецца са свайго залатога пасада добры дух і кажа яму:

“Нарэшце, беззаганны, прыйшоў ты сюды да нас, із часовага сьвету ў сьвет, якія не ведае тлення!”

Напоўненыя заспакаеннем душы праведных падыходзяць да Стваральніка Сусвету, падыходзяць да неўміручых святых, да залатых іхных пасадаў. Ідуць яны ў Гара-нман, у месцазнаходжанне Стваральніка Сусвету, у месцазнаходжанне неўміручых сьвятых, у месцазнаходжанне іншых беззаганных.

Калі праведнік патрабуе ачышчэння пасьля свайго скону, злыя, злодумаючыя дэманы трымцяць ад самой яго прысутнасьці, падобна таму, як авечка, асуджаная ваўку, трымціць перад ваўком. Праведнік не перастае быць у супольнасьці беззаганных: пры ім яны, пры ім Найр’я-Сань’я, адзін із набліжаных да Стваральніка Сусвету анёлаў Найр’я-Сань’я.

## Узор із “Кнігі гімнаў” (Ясна)

### III. Праслаўланне Стваральніка Сусвету (гл. XXX, стар. 1-11)

1.

Прамова мая для слухаючых: пра тое, што творыць Стваральнік Сусвету. Яна будзе апавядаць пра яго здзяйсненні, якія даступны разуменню разважаючых. Мая прамова будзе славіць Сьвятло. Яе тэма – тэма глыбокай пашаны для несапсаванага розуму, тэма высокіх сьвятых роздумаў. Поўнае любаты, бляску і дабра тое, пра што я буду казаць.

2.

Ітак, слухай, о, чалавек, з напружаннем слыху, выдатны сэнс майго слова. Яно пакажа табе, што лепш выбраць – кожнаму пакажа яно. Гэта мае дачыненне да тваёй плоці і цябе. Пакуль не настаў велічны час, нас вучаць тыя якія валодаюць мудрасьцю.

3.

Два духі, двое блізнят на пачатку абвясьцілі: адзін чыстае, а другі нячыстае ў думках, прамовах і ўчынках. Благамудрыя ведаюць розніцу паміж апавяшчальнікамі, не ведаюць яе зломудрыя. Суд благадумаючых беспамылковы і правільны, як пра аднаго, так і пра другога духа.

4.

Упершыню, калі яны пайшлі ствараць жыццё і сьмерць, і ўсё, чым трымаецца сьвет, тады там, дзе было кепскае, бачны быў нячысты дух, а добры дух заўсёды быў неразлучным са сьвятасьцю.

5.

Із гэтых духаў злы выбраў для сябе нячыстую справу, а беззаганны дух, абітаючы ў непахісным небе, выбраў сабе чысьціню. Чысьціню выбралі ўшаноўваючыя сьвятло справамі праўды, веруючы Стваральніку.

6.

Не выбралі праўду сонмішчы дэманаў і тыя хто імі падмануты. Як толькі нячысты дух вызначыўся са сваім выбарам, ён аддаўся сумневам і неадкладна кінуліся задавальняць свае жаданні ўсе схільныя да бязладдзяў у гэтым сьвеце.

7.

А Сьвятло абралі маючыя ўладу над добрай мудрасьцю і чысьцінёй; трываласць і неаслабляючуюся моц іхным целам даравала прырода. Ды застануцца яны заўсёды такімі, як пад час калі ты ўпершыню приступіў госпадзі да тварэння!

8.

Калі настае час пакарання злачынцы перад табой, Стваральнік, з’явяцца ўлада і шчаслівая мудрасць. Святло валадарыць над той і другім. Злачынцу аддаюць яны ў рукі бязгрэшнага.

9.

Ды будзем мы тваімі, мы, імкнучыяся да поспеху сьвету. Стваральнік Сусвету ды ўмацуе нас, ды ўмацуе ў нас сьвятасць. Хто мудры тут, таму накавана вечнае знаходжанне там, дзе існуе мудрасьць.

10.

Вось, на злога, на губіцеля, ужо падае пагібель разбурэння, але сыходзяцца ў адно імгненне непашкоджанымі ў чароўнай мясьціне Добрага духу, у мясьціне Стваральніка і Беззаганнасьці, тыя, для каго было асалодай праслаўленне Шчаслівага.

11.

І так, павучайце ўсіх пра двух валадароў. Іхныя ўчынкі адкрыты Стваральнікам чалавеку. Павучайце пра іх з задавальненнем і ўвесь час. Гэтае вучэнне ўжо даўно ўражвае бязбожнікаў. У ім магутнасць таму, хто правядны душой, у ім праслаўленне Стваральніка.

Я знарок прывёў два гэтыя ўзоры із парскай “Кнігі супраць дэманаў” і адзін са “Сьпеваў” (Яснаў), маючы на ўвазе, што крытычны разгляд літаратурных твораў без прывядзення тут жа ілюструючых дакументаў, тое ж самае, што апісанне ніколі не бачанай вамі расліны або жывёлы без малюнка. Яно ніколі не дась вам выразнага разумення. Я таксама знарок пераклаў уласныя найменні парскіх духаў і багоў на нашу мову. Бо не гаворым жа мы, што немцы ўшаноўваюць Гота, французы – Дзью, а ангельцы, наадварот, лічаць Дзьюса ворагом чалавечага рода. Дык чаму ж ва ўсходазнаўстве да гэтага часу пакідаюцца неперакладзенымі ўсходнія назвы тых жа самых уяўленняў. Толькі для таго, каб ад іх адмежавацца, тады як пры перакладзе ўсе паказвае на іхнае агульнае паходжанне або нават на тоеснасць з еўрапейскімі.

Вазьмем, для прыкладу, хаця б наступны ўрывак:

“Паэт Цьютчы, – кажуць нам, – не пакінуў пасьля сябе, падобна Пушы дон-жуанаўскага спісу, але паданне паведамляе нам, што ён шанаваў каханне... Праўда, у выданні яго твораў пад редакцыяй Біккі, з уводным артыкулам містэра Бр’юсоу цьмяна згадваецца, без ініцыялаў нейкая міс Дэніз, як асоба, натхніўшая Цьютчы на яго лепшыя лірычныя творы, але гэтае згадванне не дае нам ніякага ўяўлення пра асобу паэта”.

– Пра каго тут гаворыцца? – запытаю я вас.

– Пра нейкага мала вядомага ангельскага паэта, – адкажаце вы без ваганняў. – тут каларыт выкладання ангельскі.

– Няправда! – адкажу я вам. – Я толькі што ўзяў першую патрапіўшуюся мне на вочы кніжку: “Апошняе каханне Цютчава”, біяграфічнае апавяданне Рыгора Чулкова. Я выпісаў із яго першыя радкі прадмовы, пераіначыўшы імя, Цютчава ў Цьютчы, Пушкіна ў Пушы, выдаўцу Быкова ў Біккі, Брусава ў Бр’юсоу і Дзянісаву ў міс Дэніз, і вось, замест чыста рускага каларыту, атрымаўся цалкам ангельскі, і вы не пазнаеце родны.

Але ці не тое ж самае адбываецца, калі ў нейкім перакладзе пакідаюцца неперакладзенымі прозвішчы дзеючых асоб, асабліва міфалагічных, якія на сваёй мове маюць алегарычны сэнс?

І вось, само сабой узнікае пытанне: калі б вам папярэдне не надалі, зацвердзіўшы гэтае наданне яшчэ чужой фанетыкай імёнаў дзейнічаючых асоб, што прывядзеныя мной некалькі старонак назад тры ўрыўкі із “Зенда-Весты” належаць цалкам чужой для еўрапейцаў рэлігійнай культуры і прытым знікшай натуральным чынам больш, чым за дзьве тысячы гадоў да нашага часу, то ці здагадаліся б вы самі пра гэта? Вы, несумненна, сказалі б, што гэтыя творы падобныя стылем і часам напісання на біблейскія псалмы і евангельскія паданні, і самнамбулічныя творы сучасных нам спірытаў.

А калі на гэта нам адкажуць, што прыведзеныя тут мной тры творы напісаны на мове, захаваўшайся зараз толькі ў рэлігійнай літаратуры індастанскіх парсаў, то якая ж падстава прыпісваць ёй дапатопную старажытнасць, калі яна ва ўжыванні ў парсаў у якасьці літаратурнага жаргону і зараз? Вось у нас жа да самога Пятра I пісалі выключна на царкоўна-славянскай мове нават і цывільныя творы, якімі з’яўляюцца летапісы, хаця размаўлялі паміж сабой па-руску, а ў немцаў нават і ў XIX стагоддзі некаторыя навукоўцы прымудраліся пісаць свае творы на лаціне, размаўляючы паміж сабой па-нямецку. Нагодай гэтага было, вядома, пад час юнацтва перайманне ў старэйшых, а пад час сталасьці кансерватызм, і няма ніякіх сумневаў, што калі б нейкі сьвятар, занадта начытаўшыся сваіх богаслужбовых славянскіх прыпавесьцей, прадказанняў і псалмоў, сам адчуў бы ў сабе прыліў паэтычнай творчасьці, то пачаў бы выкладаць менавіта на царкоўна-славянскай мове, а каталіцкі сьвятар па латыні. Пісаць інакш яму б здалося прама прафанацыяй.

Вось чаму і самі царкоўныя гімны не перакладаюцца на нацыянальныя мовы, так як на іх яны выглядаюць проста сьмешнымі. Вось хаця б сьпевы пры звычаі прычашчэння:

“Прыідзіце, піва піем новае,
Не ад каменя няплоднага цудадзеемае,
А выратавання крыніца!”

Пры перакладзе на сучасную мову атрымліваецца:

“Прыходзьце! Вып'ем новага піва!
Не із камяня няплоднага цудам зробленага
Але ўсё ж крыніца выратавання!”

З той жа нагоды і індускія брамінi і сьвятары парсаў XIX стагоддзя, адзіныя грамацеі таго часу ў сваёй краіне, непазбежна павінны былі пісаць і свае ўласныя творы асабліва рэлігійна-паэтычнага накірунку на іхным звычайным, створаным на мясцовай глебе іншапляменнымі настаўнікамі і ніколі нідзе не ўжываўшымся ў пабытовых стасунках жаргоне. Гэта не першапачатковыя знікшыя народныя мовы,

а нешта накшталт мулаў, якія паўсталі ад спалучэння прышлых місіянерскіх жарабцоў з мясцовымі нацыянальнымі асьліцамі.

Наглядным узорам іхнага ўзнікнення і развіцця служыць сучасная нам мова польска-нямецкіх жыдоў, якая, нягледзячы на нядаўнасць свайго ўзнікнення, ужо паспела развіць сваю самастойную літаратуру і якую, бясспрэчна, ніхто, не палічыць за старажытна-нямецкую мову, захаваную з незапамятных часоў жыдоўскай часткай польска-нямецкага насельніцства.

А парсы ж Індыі знаходзяцца ў цалкам такім жа становішчы, як і жыды ў Польшчы, ды і завуць сябе не толькі парсамі, а яшчэ і гебрамі, г. азн. габрэямі, і я не ведаю, якае із гэтых двух найменняў было іх ўласным і якае дадзена атачаючымі іншаверцамі і як даўно дадзена. Мне здаецца, што найменне гебры ў іх першапачатковае.

# Глава III
# Зенда-Веста – Сьвятыя паведамленні. Гісторыя іхнага адкрыцця і ўзоры іхных паданняў.

У 1762 Заходняя Яўропа асьвяцілася незвычайным сьвятлом. У гэтым годзе ў яе была прывезена Анкеціль-дзю-Пяронам, як жамчужына са дна мора, як птушка Дадо з выспы Мадагаскар, “старажытная кніга іранцаў” – Зенда-Веста, змяшчаючая вучэнне мудраца Зара-Астра (імя якога на балканскай сумесі моваў азначае Назіральнік Зорак[137]).

Гэтая кніга была знойдзена ў Індыі, у парсаў, інакш гебраў. Іхнае першае найменне сугучна з персамі, з якімі іх і паспяшаліся атаясаміць, а другая сугучна з біблейскім словам гебер-юдэй, з якімі іх, аднак, не атаясамілі.

Іх зараз няшмат.

На пачатку XX стагоддзя іх было толькі каля 80 000 чалавек, галоўным чынам у Бамбеі, дзе яны і зараз займаюцца гандлем і банкірскімі справамі, утвараючы заможную частку насельніцства. Размаўляюць яны на мове гузераці і вельмі схільныя да еўрапейскай адукаванасьці. Акрамя Індыі, яны маюцца, вядома ў менш культурным выглядзе, толькі дзе-нідзе ў Персіі ў гарадах Іездзе (каля 4000) і Кермане (каля 5000), а на пачатку XIX стагоддзя яны яшчэ існавалі ў нязначнай колькасьці і каля “вечных агнёў” паблізу горада Баку, да таго часу, пакуль прыйшоўшыя туды рускія не патушылі іхныя агні, прыстасаваўшы сьвятыя газы да прамысловых мэтам здабывання нафты.

Із усяго гэтага відаць, што яны не нацыя, а адна із рэлігійных сект. Адкуль жа з'явіліся гэтыя сектанты, або ва ўсякім разе іхныя настаўнікі, у Індыю? Параўнанне іхнай рэлігіі, у аснове якой ляжаць храмавыя ахвярнікі, дзе вечна падтрымліваецца сьвятое полымя, з бакінскімі “вечнымі агнямі”, а таксама і некаторыя іншыя сведчанні, прыводзяць да высновы, што яны перасяліліся із Закаўказзя. Усё гэта вельмі праўдападобна; із Балканскай паўвыспы ў Закаўказзе, а адтуль праз Персію ў Індыю. Але чаму ж яны не захаваліся да гэтага часу па ўсяму гэтаму шляху?

Яны былі выціснуты магаметанамі, – адказваюць нам. – І гэта даволі праўдападобна, асабліва калі дапусьціць, як мы зрабілі ў VI томе, што сапраўдным

[137] Ад славянскага – зоркі. Адкуль позірк, азірацца і г. д, і ад міжнароднага астра – зорка. Віндышман перакладае Залатая Зорка, першапачаткова золат-астра, але гэта не дае зразумелага сэнсу.

распаўсюджвальнікам магаметанства быў не аравійскі праважаты караванаў паміж Мекай і Мядынай, а Махмуд Гані, заваяваўшы пад сьцягам Карана да 1030 г. н. э. ўвесь Іран. Усё гэта відавочна паказвае на сярэднявечнае паходжанне Зара-Астрава вучэння.

Але не так паставіліся да гэтага ў Яўропе. Тэксту гэтых Сьвятых Паведамленяў прыпісалі глыбокую старажытнасць, і стварылі із гэтага ўражваючыя падрабязнасьці пра існаванне надзвычай высокай навукі і філасофіі ў Персіі яшчэ ў VIII стагоддзі да н. э. Яшчэ тады, – сцвярджалі ўсходазнаўцы, – фарсі філосаф Зараастр атаясаміў супрацьлегласць сьвятла і змроку з супрацьлегласьцю дабрага і злога пачаткаў і сцвярджаў, што над сьветам валадарaць бог сьвятла і дабра – Армузд[138], са сваімі сьветлымі духамі, і сатана – Арыман [139], валадар цемры і змроку са сваімі дз'яблaмі (дывамі), вядучы паміж сабой пастаянную барацьбу. Яшчэ тады – у VIII стагоддзі да Н. Х. абвясьцілі, што кожны павінен садзейнічаць богу сьвятла. Нейкім таемным чынам даведаліся, што яшчэ тады ў Персіі былі забаронены выявы багоў, а полымя, меўшае такую важную ролю і ў хрысьціян з іхнымі лампадамі, лічылася сродкам ачышчэння – праявай "сьвятога духу".

І ўсе верылі, што такае вучэнне магло існаваць і быць распаўсюджаным яшчэ за дзьве з паловай тысячы гадоў да яго знаходжання Анкеціль-дзю-Пярэнам у 1762 годзе у адзіным экзэмпляры, які ён і прывёз у Францыю.

Пры далейшых разважаннях звыш таго выявілася, што гэтая рэлігія валадарыла ў Персіі нават два разы, перад тым як была выціснута магаметанамі.

З псіхалагічнага боку гледжання гэта цалкам зразумела: усе тагачасныя ўсходазнаўцы шчыра жадалі зазірнуць у глыбіню стагоддзяў як мага далей. Але мы тут паставімся да знаходкі як да факту, існаванне якога датуецца толькі 1762 годам, а таму будзем грунтавацца на перадумове, што старажытнасць перадаваемых ў ёй малітваў, законаў і літургічных заклікаў да розных багоў (ужываемых гебрамі-парсамі і зараз) яшчэ патрабуе пераканаўчых доказаў.

Спачатку скарыстаемся даследам К. Касовіча "Чатыры артыкулы із Зенда-Весты", у выданні 1861 года, так як першыя ўражанні ад знойдзенай літаратуры і яе мовы тады былі яшчэ свежымі, а таму і апісанні больш каларытнымі.

"На прыканцы XVIII стагоддзя, амаль аднaчасова з выяўленнем у Індыі санскрыцкай літаратуры, былі знойдзены, – выказваецца К. Касовіч, – помнікі зендскай мовы, захаваныя парсамі. Анкеціль-дзю-Пярэн здабыў у іх сьвятыя кнігі[140]. Яго (*ўжо папярэдне*!) натхняла думка, што ў гэтых кнігах змяшчаецца сапраўдная мова і вучэнне Зараастра, мудраца-заканадаўцы, імя якога так было праслаўлена класічнай старажытнасьцю, ведаўшай яго грунтуючыся толькі на аддаленых і перадаваемых праз пасрэднікаў паданнях. Парсы (*інакш гебры, выконваючыя ролю еўрапейскіх жыдоў у Індыі*) паведамілі нарэшце Анкецілю (*у Бамбеі, тады належыўшаму партугальцам)* свае скарбы і паміж імі знайшліся нават тыя якія імкнуліся пасьвяціць яго ў таямніцы сваёй сакраментальнай мовы. Плёнам пяцігадовых пошукаў Анкеціля і быў яго шырокі твор у трох частках пад загалоўкам "Зенд-Авеста, тварэнне Зара-Астра, утрымліваючы багаслоўскія, фізічныя і маральныя ідэі гэтага заканадаўцы, цырымоніі ўсталяванага ім рэлігійнага культу і шматлікія важныя дэталі адносна старажытнай гісторыі персаў.

[138] Сугучна із жыдоўскім АУР – святло і МЗД – у слоўніку адсутнічае.

[139] Сугучна із АРЫЕ – леў і МН – дар.

[140] Гэта быў францускі авантурыст, які паступіў жаўнерам-валанцёрам у францускае каланіяльнае войска, выпраўляемае ў Індыю.

Перакладзена на французкую мову з зендскага арыгінала Анкецілем-дзю-Пяронам, з заўвагамі і з дадаткам шматлікіх разважанняў, здольных патлумачыць дадзенае пытанне".

Гэта кніга была надрукавана ў 1771 годзе пасьля вяртання Анкеціля із Індыі: у першай частцы ён грунтоўна апісвае сваё ўласнае падарожжа і знаходжанне ў Індыі, а ў двух апошніх частках дае пераклад на французкую мову твораў, належаўшых, – як ён думаў, – Зара-Астру. Рукапіс на мовах зендскай і пеглевійскай (мова сучасных індыйскіх гебраў), набыты Анкецілем за вялікі кошт у парсаў, быў паднесены Анкецілем, пасьля заканчэння яго працы, у якасьці падарунка Парыжскай Публічнай бібліятэцы. Да гэтага твора, пасьля пошукаў, паўтораных праз некалькі дзесяткаў гадоў, як у Індыі, так і ў Персіі, Раскам і Вестэргардам змаглі дадаць толькі вельмі няшмат чаго".

Так напісаў К. Касовіч ў 1861 годзе, і із гэтага ўрыўка чытач бачыць, што ад 1771 г. да 1861 г. ў парсаў не было знойдзена другога рукапісу гэтага знакавага твору, хаця за такія рукапісы еўрапейскія шукальнікі прапаноўвалі, згодна з прыкладам Анкеціля, вялікія грошы. Але як жа магло такое быць, калі Зенда-Веста была спрадвеку свяшчэннай кнігай у парсаў? Парсы ж не абмяжоўваліся толькі адным сямейством? Вось чаму знаходка Анкеціля адразу ж выклікала вельмі законныя сумневы.

"Праца Анкеціля, – працягваў Касовіч, – з аднаго боку была сустрэта з незвычайным энтузіязмам, а з другога самымі з'едлівымі і горкімі нападамі. Вядомы сэр Джонс імкнуўся даказаць, што Анкеціль быў падмануты жрацамі парсаў, якія навучалі яго іхнаму штучнаму жаргону, ніколі не быўшаму ў народным ужыванні і ніколі не служышаму сродкам перадачы ідэй Зараастра. Анкеціль і яго прыхільнікі абаранялі праўдзівасць перакладзеных твораў, бачная ж няскладнасць выкладання ў гэтэх кнігах, была імі патлумачана старажытнасьцю твору. Справа скончылася тым, што навуковая Яўропа, за выключэннем Ангельшчыны, стала на бок Анкеціля. Гісторыёграфы знаходзілі ў кнігах, перакладзеных ім, жывыя выявы старажытна-пярсідзкай цівілізацыі, філосафы – новыя філасофскія ідэі; тыя і другія будавалі на іх грунце новыя сістэмы, якімі тлумачылі з прамой, як яны думалі, крыніцы, з'явы грамадзкага жыцця старажытных персаў".

"Кніга Анкеціля, – працягвае Касовіч, – доўгі час заставалася такім чынам, бяспрэчным аўтарытэтам для вывучэння рэлігіі і грамадзкіх дачыненняў старажытнай Персіі, таму што праверыць яе, нягледзячы на тое, што матэрыялы для падобнай працы даваліся ўсім і кожнаму, было справай надзвычай цяжкай. Па-першае, адзіны арыгінал заставаўся ненадрукаваным і карыстацца ім была магчымасць толькі ў Парыжы (няўжо чытач сам не адчувае камічнасць гэтай сітуацыі? Адзіную кнігу, у якой выкладалася вучэнне сучасных нам індыйскіх парсаў, існаваўшае 2000 гадоў, нават і на пачатку XIX стагоддзя можна было знайсьці толькі ў Парыжы, а не ў Індыі. Але ж гэта азначае, што змяшчаючыся ў ёй міфы і паданні былі ўпершыню запісаны для Анкеціля, абяцаўшага за іх вялікую ўзнагароду, дзеля якой варта было папрацаваць!); па-другае, Анкеціль не быў філолагам і таму, толькі што згаданая намі, яго кніга ўяўляла вельмі хісткі граматычны і лексічны дапаможнік для навукоўца, які б пажадаў чытаць прывезеныя ім рукапісы ў арыгінале".

"Але вось, – працягваў далей Касовіч, – з'явіўся твор датчаніна Раска ў нямецкім перакладзе пад загалоўкам "Пра старажытнасць і сапраўднасць зендскай

мовы і Зендавесты”. У ім аўтар (які наведаў тыя ж мясьціны, дзе некалі быў Анкеціль 60 гадоў назад і прывёз адтуль ужо больш значны, чым у Анкеціля збор зендскіх і пеглевійскіх рукапісаў[141]), вызначыў блізкае становішча Зенда-Весты да мовы Ведаў, і гэта заахвоціла тады яшчэ маладога Эжанка Бюрнуфа даследаваць Зенду па рукапісах Анкеціля. Гэты пераклад спачатку быў для Бюрнуфа адзіным і галоўным дапаможнікам. Але амаль адразу ж ён заўважыў, што паміж анкецілевым зендскім арыгіналам і анкецілевым перакладам няма нічога агульнага, акрамя асобных слоў. На счасьце, у ліку рукапісаў калекцыі Анкеціля, знаходзіўся і санскрыцкі пераклад некаторых частак зендскіх тэкстаў, выкананы парсам Нарысенгам, хаця той дрэнна ведаў санскрыцкую класічную мову і перакладаў не з арыгінала, а із так званага Пеглевійскага перакладу (які, верагодна, насамрэч і быў арыгіналам) і яго пераклад дапамог Бюрнуфу.

У 1833 годзе Бюрнуф выдаў першы том сваёй вялікай незакончанай працы “Камэнтар на Ясну”, у якой патлумачыў асноўныя законы канструкцыі зендскай мовы, і ў гэтым жа годзе вышла ў сьвет 1-я частка параўнальнай граматыкі Бопа, дзе даводзілася, што формы Зенда ідуць рука аб руку з формамі ўсіх індаеўрапейскіх моваў, у асаблівасьці ж падобны з формамі санскрыцкай мовы. З таго часу цікавасць да зенда ў Яўропе ўжо не знікала.

Затым выявіліся і іншыя падабенствы.

У трыццатых годах XIX стагоддзя іншы авантурыст, ангельскі афіцэр Ролінсан, знаходзячыся ў Персіі згодна са службовымі справамі, наведаў знакамітую Бізутунскую скалу. На ёй, яшчэ згодна з паданнямі Дыядора Сіцылійскага і Стэфана Візантыйскага, была адлюстравана ўрачыстасць Сяміраміды над заваяванымі ёю народамі. І вось, адзін абцёсаны бок велічнай скалы выявіўся ўвесь спісаны клінападобнымі надпісамі, з якімі Роулінсан, згодна са сведчаннем Касовіча, не быў знаёмы ў Яўропе. Ён сапраўды знайшоў на гэтай скале выдатна захаваўшыяся выявыя, але на іхным першым плане стаяла ганарлівая асоба цара ў кароне, а не жанчыны, і перад ім стаялі яго палонныя. Узяўшыся за дэшыфроўку надпісаў, Роулінсан прачытаў там імёны Дарыя і Істаспа і яму стала зразумела, што скала апісвала падзвігі не асірыян, а перамогу Дарыя сына Істаспа над ілжэ-Смердзісам і паўстаўшымі абласьцямі імперыі, заснаванай Кірам, пра якую з такімі падрабязнасьцямі паведамлялася ў Герадота.

Затым ён атрымаў із Яўропы ад Бюрнуфа яго “Камэнтар на Ясну” і прыступіў да яго вывучэння, спадзяюся знайсьці ў вызначаных Бюрнуфам граматычных формах зенда тлумачэнні формаў мовы надпісаў, яшчэ к таму часу дасканала не даследаваных, з нагоды чаго нановаадкрыты ім надпіс быў ім хутчэй разгаданы, чым даследаваны. І раптам лексічная частка і граматычныяе формы гэтых пярсідзкіх надпісаў, належаўшых (*на думку тагачасных асіролагаў*) Ахеменідам, выявіліся амаль тоеснымі з паданнямі зенда!”

“Выданне Бізутынскага надпісу, які можна назваць каштоўным творам, выкрыла, – працягвае Касовіч, – для гісторыі і філалогіі адну із моваў, пра існаванне якой на працягу тысячагоддзяў, ніхто нават і не падазраваў! Усім вядома далейшае далучэнне Зенд да тлумачэння моваў старажытнай Асірыі і Вавілона, зробленае Роулінсам, а затым Лаярдам і іншымі. Выданне ўсіх старажытных пярсідзкіх надпісаў было паўторана з дапаўненнямі Венфеем у Германіі і Юліем

---

[141] Зендская мова лічыцца мовай набажэнскіх кніг, а пеглевійская – звычайная мова індустанскіх гебраў, падобна таму як у нас царкоўна-славянская ўжываецца ў набажэнствах, а руская, ўжываемая ў штодзённых стасунках.

Апертам у Францыі. У баку засталіся толькі высновы Петрашэўскага і Гаўга, із якіх першы знайшоў у Ведзідадзе кодэкс "Старажытна-Кольскага ўлажэння" а другі ў санскрыцкой Рыгведзе – арыгінал зендскіх песнапенняў Зараастра".

Сакраментальныя кнігі парсаў у першай палове XIX стагоддзя складаліся часткова із зендскіх тэкстаў і часткова із перакладаў, парафраз і іхных тлумачэнняў на мовах пеглевійскай і парсі (хаця скептыкі, як я ўжо згадваў, і магуць лічыць менавіта гэтыя пераклады за арыгіналы). Да апошняй катэгорыі адносяцца і санскрыцкія пераклады некаторых асобных частак зендскага арыгінала (калі, зноў дададзім, не зендскія з'яўляюцца перакладамі санскрыцкіх). Акрамя таго, да разраду сапраўдных сьвятых зендскіх тэкстаў адносяць адзін твор, які існуе толькі на пеглевійскай мове (Бундзегеш) і адзін на мовах пеглевійскай і парсі (Мінсхірэд). На апошняй мове маецца таксама некалькі кароценькіх, згодна са зместам зендскіх, малітваў, а на пеглевійскай мове некалькі артыкулаў нібыта перакладзеных із зенда, арыгінала якіх таксама не існуе.

Мова Парсі, інакш называемая парсі-зенд, уяўляе із сябе ўзор арыйскай гаворкі, сярэдняй паміж зендам і новапярсідзкай мовай. Цалкам іншае мова, якую Анкеціль назваў пеглевійскай, хаця згодна з даследаваннямі Шпігеля яна павінна была быць названай гузварэшскай. Яна граматычнымі формамі амаль не адрозніваецца ад парсі-зенда, яе ж ляксічная частка запазычана ў вялікай колькасьці із сяміцкай мовы блізкага па свайму складу да біблейскай. Апошняя акалічнасць прымусіла некаторых, без значных падставаў, зноў лічыць, што мова каментатараў Зенда-Весты ніколі не была жывой мовай, і што яна створана сьвятарамі парсаў з мэтай перашкодзіць з дапамогай чужых слоў і ўмоўных знакаў выведванню сакрамэнтаў іхнай рэлігіі з боку людзей, якія не былі пасьвечаны ў гэтыя сакрамэнты (хутчэй за ўсё проста таму, што яны былі сірыйскімі місіянерамі, перамяшаўшымі сваю мову з мясцовымі, менш культурнымі, як гэта заўсёды і бывае).

Але сам "Зенд". Ці быў ён калі-небудзь мовай не адных індускіх парсаў, а таксама і іранскіх персаў? Дзе яго першапачатковая радзіма? Адкуль ён атрымаў гэтую назву? – ставіць пытанні Касовіч і адказвае:

– Словы Зенд і Зенда-Веста адсутнічаюць у творах, якія мы называем зендзкімі. Мова гэтых кніг, гэтак жа, як і мова іхных тубыльных перакладаў і камэнтараў, абавязана сваёй назвай Анкецілю. Слова зенд там азначае тлумачэнне (калі не проста сьвяты), а веста ж (па нашаму вестка або паведамленне), інакш апаста – азначае веданне ў сэнсе рэлігійным, тое ж, што санскрыцкая веда (наша веданне).

І вось атрымліваецца, што мова сьвятых кніг, вядомых пад найменнем Зенда-Веста, не з'яўляецца мовай старажытных парсаў. Нават і самога слова "парса", якім называюць сябе на надпісах цары так званай "старажытнай Персіі", не сустракаецца ніразу. Арыйскія індусы таксама наўрад ці калі-небудзь мелі назву парсаў. Яны называлі сябе проста людзьмі (марцья) і ахвотна дапасавалі да сябе эпітэт "арья", азначаючы як на зендскай, так і на санскрыцкай мовах: добравыхаваны, шляхетны, шаноўны, а на мове "Ведаў" гэтае слова азначае: падданы, верны родным пастановам і г. д.

"Іхны край, – кажа Касовіч, – ужо тады меў сядзібы, паселішчы (вісі, г. азн. весі), суполкі, гарады (занту) і вобласьці (дах'ю), вельмі часта згадваемые ў ёй з дадаваннем слова арыянскія (аір'я), дакладна так жа, як іншапляменныя (і без сумневу, іншаверныя) вобласьці пазначаюцца ў ёй самой анайр'я, г. азн. завуцца

абласьцямі людзей не-арыйскіх. Так, на сваім надмагільным надпісе Дарый сын Істаспа называе сябе: “Парса Парса-путра, і Ар'я, Ар'я-Чытра”, што азначае: “перс сын перса і ар'ян із (племені) ар’еў”, прычым прысутнасць слоў “парс сын парса” тут вельмі здзіўляе, таму што персамі называюць персаў толькі еўрапейцы, а самі яны называюць сябе іранцамі (ірані), а сваю краіну завуць толькі Іранам.

Выяўляецца і яшчэ адно непаразуменне.

Тое, што мова Зенд-Авесты не была агульнай мовай арыеў, робіцца відавочным, калі параўнаць яе з мовай надпісаў, якая сучаснымі навукоўцамі называецца старажытна-пярсідзкай. Роулінсан і некаторыя яго пасьлядоўнікі лічаць з гэтай нагоды, што зендская мова пашырылася пазней іхнай старажытна-пярсідзкай.

Спасылаючыся на “ўсходняе паданне”, нам кажуць, быццам бы цар Арда-Шыр (ІІІ стагоддзе нашай эры)[142] загадаў сабраць з усіх канцоў Ірана раскіданых сьвятароў Заратустры, што ён сабраў іх каля 40 000 чалавек, і што грунтуючыся на іхных сведчаннях, згодна з загадам цара, быў напісаны кодэкс сьвятых кніг гэтага старажытнага настаўніка, які жыў згодна з аднымі аўтарамі падчас біблейскага Майсея, які хадзіў па Аравійскай пустыні быццам бы паміж 1491 і 1451 годамі “да нараджэння Хрыстова”, а згодна з іншымі нават блізка да часу стварэння сьвету, у зямным раю Мідыі,

Дзякуючы Ардашыраву “Сусьветнаму Сабору” і было адноўлена, – запэўніваюць нас, – даўно спыніўшае існаванне служэнне Армузду (г. азн. Стваральніку Сусьвета). “Падабенства абрысаў пісання Зенда з абрысамі надпісаў, захаваўшыхся ад часу першых Сасанідаў (ІІІ-VІІ стагоддзе), – запэўніваць нас у дадатак да папярэдняга, – падцверждвае праўдзівасць гэтага (недарэчнага) падання”. Альфабэт, якім карысталіся Сасаніды ў ІІІ стагоддзі быў сяміцкім, падобным на біблейскі; сяміцкім жа альфабэтам перададзены і зендскія “помнікі”.

Адсюль зразумела, што і рукапісы Зенда не больш старажытныя чым сяміцкі альфабэт. “Але із таго, што Зендскае напісанне не ідзе далей эпохі Сасанідаў, – кажа Касовіч[143], – узнікае пытанне: ці захаваліся Зендскія помнікі ад старажытных часоў да эпохі Сасанідаў (г. азн. ІІІ-VІІ стагоддзя да н. э.) з дапамогай пісьма, або толькі з дапамогай адной памяці сьвятароў, перанесеных імі на пісанні пры Сасанідах?”

І ён жа адкажае з наіўнасьцю, заслугоўваючай лепшай долі:

“Прыклад таго, што помнікі вялікага аб’ёму могуць перадавацца із пакалення ў пакаленне (на тысячы гадоў!) з дапамогай толькі адной памяці, мы маем на прыкладзе Гамера. Але яшчэ больш уражваючыя прыклады вуснай перадачы вялікіх помнікаў уяўляе нам санскрыцкая літаратура. Вядома (!?), што Рамайяна захавалася (шмат тысячагоддзяў!) у трох вусных рэдакцыях, і вялізны зборнік Вед быў запісаны толькі тады, калі іхная мова зрабілася незразумелай (!!) для захоўваўшых іх арыяў Індыі, і калі спатрэбіліся каментары для саміх паўтаральнікаў гэтых сьвятых (безсэнсоўна прамаўляемых!) помнікаў (г. азн. амаль бясконцага механічна завучваемага набору незразумелых гукаў, пачаўшы вымаўляць якія, можна было скончыць толькі праз некалькі месяцаў)! Як вам гэта падабаецца, чытач? А іншага ж выйсьця няма, калі вы заупарціліся да таго, што

[142] Ён жа Арта-Ксеркс ад грэцкага Орто-Кесарыкос, г. азн. прамацаруючы.

[143] К. Касовіч. Чатыры артыкулы із Зенда-Весты з далучэннем транскрыпцыі рускага і лацінскага перакладаў, тлумачэнняў, крытычных заўваг, санскрыцкага перакладу і параўнальна гласарыя, СПБ, 1861, стар. XXV.

ўжо ні за што не жадаеце адмовіцца ад раней наданага вам перакананьня пра глыбокую старажытнасць зендзкіх кніг.

"Асобны клас людзей (г. азн. брамінаў), – працягвае Касовіч, – быў таксама (вусным) уладальнікам і захавальнікам Вед пасьля іх узьнікненьня ў Індыі. Разьлікам гэтых людзей было не рабіць агульнадаступнай мудрасьць, якой яны валодалі, нават і пры ўзьнікненьні пісьмовасьці. Самы старажытны індыйскі збор – законы Ману – ужо выстаўляюць браманаў на чале чалавецтва: народ павінен быў бачыць у іх галаву самога Брамы. Але вось, цалкам насупраць, ніякага апафеозу жрацоў у кодэксе Зенд (у Вендзідаце[144]) мы не назіраем. Клас жрацоў Зенда-Весты не больш як клас працоўных грамадзян, а не валадарачая каста, як у Індыі, і таму нельга лічыць, каб у іх калі-небудзь было імкненьне хаваць перад народам, із асяроддзя якога яны выходзілі, сэнс маленьняў, здольных хутчэй прыхіліць да іх насельніцтва, чым прынізіць іх перад ім. Да таго ж мова Зенда такая блізкая да (ўяўляемай) старажытна-пярсідзкай, што і без пісьменства была зразумелай кожнаму парсу". – А із гэтага такая выснова: тым больш уся зендзкая літаратура павінна была захоўвацца нязьменнай і без пісьменства да сканчэньня вякоў.

"Але як жа патлумачыць перамену альфабэта сьвятых парсійскіх кніг, у той час калі для іхнага ўладальніка, кожная літара тэкста павінна была лічыцца сьвяшчэннай? – зноў ставіць пытаньне Касовіч – таму што падобная перемена напісаньня, – выказваецца амерыканскі навуковец Вітней, – магчымаса толькі пры поўным перайначаньні старажытнага вучэньня, што, відаць, і мела месца падчас рэдагаваньня сьвяшчэннага кодэкса пры Сасанідах. А між тым, помнікі Зенда маюць характар непадробленай каштоўнасьці і відавочна выяўляюць іхную даслоўную перадачу ў тым выглядзе, у якім яны былі, без якіх бы то ні было сумневаў, складзены (тысячу гадоў назад) упершыню у асяроддзі ар'яў. Рэформа абавязкова падвяла б увесь іхны зьмест пад адзін узровень і наклала б на іх сваю пячатку. А мы не заўважаем якіх бы то ні было сьлядоў падобных спробаў на гэтых помніках".

Як адказаць на падобнае амаль фатальнае пытаньне? Выявілася, што вельмі проста.

Адкідваючы якую б то ні было здагадку маючую дачыненьне да здзейсненых пры Сасанідах зьмяненах у Зендавесьце, – кажа Касовіч, – я цалкам не лічу немагчымым тое, што іранскія жрацы, пры тагачасным вяртаньні Ірана да народных веравызнаньняў, ахвотна пераклалі гэтыя кнігі з іхнага забытага альфабэта (навошта і чаму?) на альфабэт, які быў у той час, верагодна (!!) агульнадаступным для ўсёй Персіі, хаця і навязаны ёй іншапляменнікамі, і што зрабілі яны гэта з мэтай большага пашырэньня сваіх кніг і свайго старажытнага вучэньня.

Наіўная фантастыка такога тлумачэньня настолькі кідаецца ў вочы, што неяк нават сорамна нешта пярэчыць. Уся ж першапачатковая псьмовасць была аж да эпохі гуманізму ў руках сьвятарства, і пад час зьмены веравызнаньняў новае заўсёды жорстка змагалася са старым, а не перапісвала клапатліва яго творы, з якімі яно вяло барацьбу...

А далей атрымліваецца яшчэ горш.

Параўнаньне ўсіх знойдзенных рукапісаў, – кажа Касовіч, – не выявіла амаль ніводнага варыянту ў словах і іх пасьлядоўным размяшчэньні. Адзіныя іхныя адрозненьні складаюцца:

1) у невялікім адрозненьні вымаўленьня некаторых слоў (напрыклад, у замене гука Ш на С, як калі б па-руску было напісана "шьвіданне" замест "сьвіданне".

[144] Г. азн. Кніга, "дадзеная супраць дэманаў".

2) у адрозненні транскрыпцыі зучаных слоў (напрыклад, у адным рукапісе два словы злучаны, у другім адасоблены, накшталт таго як па-руску у адным напісана “нізкапробны”, а ў другім – “нізка пробны”, у адным суфікс далучаны да слова, а ў другім аддзелены, накшталт як па-руску “штобы” і “што бы”.

3) у відавочных апісках.

І такая падобнасць усіх зендзкіх тэкстаў паказвае, вядома, што ўсе яны перапісаны із аднаго рукапісу, а іхная нярэдкая аднолькавая ва ўсіх адсутнасць закончанасьці тлумачыцца тым, што і першапачатковы рукапіс быў настолькі нядаўнім і спешна складзеным, што ні аўтар, ні пасрэднікі не паспелі яго скончыць.

Такім з’яўляецца тлумачэнне грунтуючыся на здаровым сэнсе. Але вось і тлумачэнне спецыялістаў.

“Відавочна, – кажа Касовіч, – што пры Сасанідах не было ўжо магчымасьці аднавіць гэтыя творы ў больш поўным выглядзе, і ў той жа час гэта канчаткова даказвае(?!), што аднавіцелі старажытнага вучэння парсаў, склаўшыя гэтыя дакументы, былі далёкімі ад усякай думкі рабіць у іх якія б то ні было змены”.

На справе ж усе вышэйпазначаныя факты паказваюць толькі адно: першапачатак зендзкай пісьмовасьці быў ніяк не раней сасанідзкай дынастыі, валадарыўшай нават згодна з самымі артадаксальнымі гісторыкамі ужо ад 226 г. да 638 г. н. э., а не да яе. А калі мы будзем грунтавацца на самым крытычным і нестароннім даследаванні яе зместу, то пераканаемся, што творчасць на гэтай мове працягваецца і зараз.

Помнікі Зенда, у тым выглядзе, у якім мы іх зараз маем, размяркоўваюцца на чатыры згуртаванні: першае згуртаванне складаюць заканадаўчыя легенды (кніга супраць дэманаў Вен-ды-дад), якая маеца ў вельмі ўрыўкавым стане; другое – літургічныя службы і малітвы (Ясны і Віспарэды); трэццяе – малітвы ў гонар асобных багоў (Яшці), аналагічныя гамерычным гімнам і чацьвёртае – рэлігійныя лірычныя вершы (Гаты). У склад кожнага згуртавання, акрамя лірычных вершаў, нітка якіх не перарываецца нічым староннім, часта дададзены размовы Стваральніка Сусьвет (па-зендзкі Аура-Мазды) са Стваральнікам Зорак (Заратустрай). Заратустра запытвае ў Аура-Мазды пра ўсё, што для яго не вельмі зразумела у вобласьці абавязкаў людзей адзін да аднаго і да бога, а Аура-Мазда адказвае на гэтыя пытанні. Кніга законаў цадкам уся выкладзена ў выглядзе такіх размоваў.

“У Зенда-Весьце, – кажа Касовіч, – над усімі з'явамі прыроды ўзносіцца адзін бог, дзейнічаючы нязменна і ўвесь час, ахоўваючы чалавека, чысты душой і справядлівы, грозны толькі для аднаго зла, і пры ўсім тым, не маючы ніякіх матэрыяльных атрыбутаў”.

Гэты бог па-зендску мае гназву Аура-Мазда[145], бог жыцця і сьвятла: помнікі Зенда не атаясамляюць яго ні з адной са з'яваў прыроды і не ведаюць вярхоўнага бога з іншым імем.

Гэты ж бог прысутнічае і ў індускіх Ведах. І там ён бог – даравальнік жыцця. Яго эпітэт “Медас” пазначае боскую мудрасць. Хутчэй за ўсё гэта пераіначанае слова мегас – вялікі, тады Асура-Мегас будзе азначаць Вялікі Гасподзь. Але ў Ведах гэты бог, як усёабдымаючая і ўсёздзяйсняючая істота, не з'яўляецца адзінкавым: такім жа богам жыцця, але значна больш бліскучым выступае і Агні, г. азн. Полымя (Святы дух і ў той жа час Ягня, спальваемае ў якасьці ахвяры за грахі

---

[145] Ад біблейскага АУР – святло і МАЗАД, а не дзякуючы пераіначванню санскрыцкага Асура-Медас, г. азн. Жывы-Мудры, як тэндэнцыйна лічылася.

сьвету) і Індра (ад грэцкага Андрас, г. азн. Богачалавек) і яшчэ больш бліскучы і паўны – Варуна (г. азн. верны, Праўдзівы Бог), другое найменне Стваральніка сусьвету.

Тае, што рэлігія Заратустры з’яўляецца резкай реформай Ведычнай (або наадварот), а не наступства паступовага развіцця адной із другой, даказваецца зменай сэнсу самога слова “бог”. Замест назвы “дэў” і зараз ужываемай як назва бога арыйскімі плямёнамі, мы маем у Зенда-Весьце “майн’я”, што азначае дух (ад кораня “мніць”). А слова “дэў” ператварылася ў парсаў у найменне злых духаў, якія знаходзяцца пад уладай Сатаны, у Зенда-Весьце маючай назву Анрамайнья, г. азн. Злы Дух (Ары-Ман).

Толькі тры ведычныя багі прысутнічаюць у рэлігіі Назіральніка Зорак (Зарат -Устры): першы із іх бог Сома, г. азн. Увасобіўшыся (ад грэцкага словы сома – плоць), або інакш бог Гаома г. азн. Увасобіўшыся ў чалавеку (ад лацінскага гома – чалавек), адпавядаючы таксама ведычнаму сыну чалавека Індры (ад грэцкага кораня Андр – чалавек). Два іншыя агульныя з Ведамі багі, гэта Мітра – сонечны бог і Агні, г. азн. полымя – сьвяты дух, выходзячы, паводле вучэння грэцкай царквы, толькі ад Бога-айца, а ў Зенда-Весьце пастаянна называемы сынам (путра) Стваральніка Сусвету. Яшчэ існуе другарадны бог або іншае найменне аднаго із пералічаных: Нарэсана, бог, заступаючыся за людзей. У ап'яняючым соку расьліны сома, як хрысьціяне ў прычашчальным віне, бачылі прысутнасць крыніцы жыцця, бога, аддаючага самога сябе людзям, для таго, каб узвысіць іх да сябе. І гэта відавочны водгалас хрысьціянскага прычашчэння, калі хор сьпявае “цела (г. азн. сому па-грэцку) Хрыстова прыміце, крыніцу неўмуручасьці паспрабуйце!” У служэнні нябесным сьвяцілам, мы бачым у Зенда-Весьце парэшткі папярэднічаўшага шматбожжа. Зразумела, што гэтая рэлігія (Назіральніка Зорак – Заратустры), хаця і ўсталявала паміж арыямі служэнне адзінаму богу, аднак жа не была настолькі моцнай, каб канчаткова адвярнуць іх ад ушаноўвання з'яваў прыроды, як і хрысьціянская ў Яўропе. У рэфармаванай рэлігіі Заратустры засталося нават ушанаванне дрэваў і вады, асабліва баснаслоўнай крыніцы Ардві-сура, ад якой пачынаецца ўсякае багацце і шчасьце на зямлі. Стваральніка Сусьвету, як і бога-айца ў хрысьціян, атачае незлічоная колькасць неўміручых жывых істот, сярод якіх галоўныя арханёлы і анёлы (Амеша спента), называемыя ўсёўхваліцелямі (Язатамі).

Із анёлаў усёўхваліцеляў (Язатаў) самы выбітны Ўсёчуючы Сраоша (ад кораня сру, пераіначанае слухаць), істота пастаянна надзяляемая эпітэтам ашы, г. азн. чысты, непадкупны. Ад яго слыху нічога не схаваецца. Ён усё ведае, ахоўвае чыстыя істоты падчас цемры.

Ушанаванне Стваральніка Сусьвету (Аура-Мазды) не з’яўляецца, згодна з вучэннем Зенда-Весты, выключным здабыткам людзей аднаго племені. Стваральнік Сусьвету – таксама стваральнік і ўсіх людзей, і ўсе людзі павінны да яго звяртацца. Яшчэ і зараз мае магутнасць Сатана, які называецца Анра-Майя, па-грэцку Арыман, ад жыдоўскага Ары-Мон, г. азн. праўдзівы леў[146]. Гэта здарыцца яшчэ няхутка, але надыйдзе час, калі на зямлю апусьціцца Выратавальнік[147], які зацвердзіць вучэнне Назіральніка Зорак ва ўсім чалавечым родзе і чалавечы род не будзе тады адчувальным да магутнасьці Сатаны – злога духа (Анро-Майнья) і зло канчаткова знікне на зямлі.

[146] Арые-Амон – праўдзівы леў.

[147] Савашад, інакш Савашанта ад кораня Сава – выратаванне.

Заканадаўчая частка “Сьвятой Весткі” (Зенда-Веста), існуючай толькі ва ўрыўках, і то, большай часткай маючай дачыненне да рэлігійных звычаяў, носіць адбітак надзвычай лагоднага стаўлення не толькі да людзей, але і да жывёл, асабліва калі яе параўнаць з заканадаўствам сапраўды старажытных народ. У “кнізе дадзенай супраць дэманаў” (Вэндзі-дата) не відаць і следу той разнастайнасьці пакаранняў, якіх так шмат у старажытных юрыдычных кодэксах рода чалавечага. Сьмяротнае пакаранне прызначалася толькі за адступніцства. За іншыя злачынствы ў асноўным прызначаліся штрафы, але не грашамі, якіх пад час сярэдніх стагоддзяў нават у Яўропе не было ў кожнага, а канямі, баранамі і іншым хатнім быдлам, часам, дарэчы, і золатам, колькасць якога вызначалася не вагой і не злічэннем, а вызначанай колькасьцю коней ці наогул хатняга быдла, якое на яго можна было абмяняць.

Сьвятарам за адбыванне малебнаў і лекарам за лячэнне згодна з зендскімі законамі прызначалася пэўная ўзнагарода, адпаведна з маёмасьцю запашаючага да сябе. Але лекар меў права лячыць ар’еў, толькі пасьля папярэдняга вылечвання траіх іншапляменнікаў (ан-ар’еў).

Але тут жа мы бачым і супярэчнасьці. Пры лагоднасьці духу, якім наогул вызначаюцца гэтыя законы, міжволі нас уражвае тое, што цялесныя пакаранні, якія звычайна азначалі ўдары бізуном, даводзіліся часам да тысячы.

У гаспадарчым дачыненні “Кніга, дадзеная супраць дэманаў” (Вэндзі-дад), заахвочвае людзей да земляробства:

“Толькі з дапамогай земляробства, – гаворыцца там, – чалавек можа стварыць для сябе трывалую і неад'емную ўласнасць: не стаўшы земляробам, ты будзеш заўсёды залежаць ад маёмасьці іншых”.

Цяжка скласьці ўяўленне пра становішча жанчын у грамадстве старажытных ар’еў, калі звярнуць увагу на тое, што нідзе ў Сьвятой Вестцы не згадваецца пра шматжонства і што вялікую частку анёлаў яны ўяўлялі ў вобразе чароўных жанчын (як і ў хрысьціян). Із гэтага, як мне здаецца, можна зрабіць пэўную выснову, што роля жанчын згодна з меркаваннем аўтараў “Сьвятой Весткі” была далёка не той, якую ім наканавана выконваць на Ўсходзе зараз, і што, як выснова, гэтая рэлігія першапачаткова сфарміравалася ў сярэднявечнай Яўропе, адначасова з Евангеллямі.

У мове зенда існуе дзьве гаворкі: на адной напісаны лірычныя рэлігійныя вершы (гаты) і некалькі кароткіх малітваў у вершаванай форме, на другой – усе астатнія зендзкія помнікі. Гаворка зендзкіх вершаў лічыцца больш старажытнай і супраць гэтага не было б магчымасьці выказаць нейкіх пярэчанняў, калі б гісторыя сучаснай літаратуры не давала б нам прыкладаў паэтычнай мовы, якая ў такой жа ступені адрозніваецца ад сучаснай ёй мовы прозы. Вазьмем, напрыклад, хаця б французкую паэзію.

Вось тры ўзоры апавяданяў Зенда-Весты, грунтуючыся на якіх вы зможаце скласьці уяўленне і пра астатнія. Бяру іх із кнігі К. Касовіча “Чатыры артыкулы із Зенда-Весты”, 1861.

Два апавяданні із “Кнігі дадзенай супраць дэманаў (Вендзідата, скарачэнне Ві-дэва-дата)”.

### 1. Выпрабаванне Назіральніка Зорак (Заратустры), гл. XIX, арт. 1-10.

Ад краіны поўначы, ад паўночных краін, прымчаўся Сатана (*Анта-Манья па-зендску*), поўны пагібелі, як дэман дэманаў. Вось што вяшчаў ён, зломудры, поўны пагібелі, гэты Сатана:

“Чорт! Ізді, умары ненарочнага Назіральніка Зорак (Заратустру)!”

Панёсся чорт; гэта быў дэман Бунці, дэман тлення, ад якога ідзе ўсякая порча на целе людзей. Назіральнік Зорак паўтараў у той час “Сутнасць веры! Вось словы яго песьні:

“Славуты той, каму і прырода і рух яе падуладны; таму што сьвятасць яго напаўняе і прастору і час. Ад яго выходзяць намеры для добрых здзяйсненняў у гэтым сьвеце. Стваральніку Сусвету належыць улада: ён падацель ежы не маючаму. Слаўце яго добрыя воды, слаўце воды добрага стварэння, будзьце верныя закону, ушаноўваючаму Стваральніка”.

Уражаны словамі сьпеваў, збег чорт назад, чорт Бунці, дэман тлення, ад якога зыходзіць ўсякая порча на людзей. Гэты чорт сказаў свайму гаспадару:

“Кат Сатана! Не магу я знайсьці для яго пагібелі, для гэтага правядніка Назіральніка Зорак. Ён поўны велічы і бляску, гэты беззаганны”.

А Назіральнік Зорак пабачыў у сваёй душы:

“Шкодніцкія, зламудрыя дэманы раюцца пра тое, як загубіць мяне”.

Падняўся Назіральнік Зорак, рушыў з месца Назіральнік Зорак, нiколькі не пакрыўджаны злым духам і жорсткім, варожым яго намерам. У яго, у беззаганнага, былі ў руцэ камяні – кожны камень велічынёй з каня: за ім было прызнанне, прызнанне Стваральніка Сусвету.

“Куды, – запытаў яго Сатана, – намерыўся ты ісьці на гэтай зямлі, дзе столькі шляхоў, на гэтай зямлі, якая круглая, межы якой няблізкія, узброіўшыся ў высокім доме Багатага Канямі?”

Назіральнік Зорак патлумачыў злому Сатане:

“Іду знішчаць тварэнні, створаныя дэманамі; іду знішчыць сьмерць, створаную дэманамі; іду знішчыць знішчальніцу, таму што яна будзе знішчана Выратавальнікам, які народзіцца ад вады Кансаунскай, ад усходняга боку, ад краін Усходу”.

Зломудры Сатана звярнуўся да Назіральніка Зорак з прамовай:

“Не вынішчай маіх стварэнняў, беззаганны Назіральнік Зорак. Таму што ты ж Сын Багатага Канямі, таму што сваім жыцьцём ты абавязаны сьмяротнай маці. Лепш адрачыся ад добрай веры, ушаўноўваючай Стваральніка, і знайдзі шчасьце, якае было вынайдзена царом Вадаганам”.

На гэтую прамову адказаў яму Назіральнік Зорак, правядны:

“Не адракуся я ад добрай веры, ушаноўваючай Стваральніка; не адракуся, калі б нават мае косткі і жыццё і душа пайшлі паасобку!”

Зломудры Сатана сказаў тады Назіральніку Зорак:

“Чыё слова ўразіць мяне? Чыё слова пазбавіць нас бляску і магутнасьці? Дзе зброя, перад якой парушацца мае трывалыя стварэнні і з імі Сатана?”

Адказаў яму правядны Назіральнік Зорак:

“Сьвятая ступа, сьвятая чарка, аўма і словы, вымаўленыя Стваральнікам – вось мая непераможная зброя! Вось тое слова, якім я буду зьнішчаць, вось тое слова, якім я пазбаўлю цябе бляску і магутнасьці, вось мая зброя супраць усіх тваіх трывалых стварэнняў, Сатана! Зброю гэтую стварыў дух чысты, стварыў і бязмежныя перыяды; стварылі яго безсмяротныя беззаганныя, дабро здзяйсняючыя, добрадумаючыя”.

І вымавіўшы гэта, Заратустра вымавіў словы песьні “Сутнасць веры “:

“Славуты той, каму падначалена і прырода і яе рух. Яго сьвятасць аднолькава ахоплівае і прастору і час. Ад яго паходзяць намеры для добрых

здзяйсненняў у гэтым сьвеце. Яму належыць улада. Ён падацель ежы не маючым. Слаўце яго, добрыя воды! Слаўце яго, воды добрага стваральніка! Будзьце вернымі закону, ушаноўваючаму Стваральніка!”

## 2. Пра першы час душы чалавека пасьля сьмерці.
## (Кніга, дадзеная супраць дэманаў, гл. XIX, арт. 27-34)

“Стваральнік сусьвету і ўсяго, што існуе ў ім! Запытаў Назіральнік Зорак Стваральніка Сусьвету. – Дзе здзяйсняецца справаздача душы памёршага, дзе рэкамендуецца ён, дзе збіраюцца для яго паведамленні, дзе выяўляюцца перад асобай усе звесткі для той справаздачы, якую дае смяротны пра сваю душу, калі яна пакідае гэты сьвет?”

Стваральнік Сусвету адказаў яму:

“Пасьля таго, як сканае чалавек, пасьля таго, як адыдзе ён, пасьля таго, як злыя, зломудрыя дэманы падыдуць да яго, калі развідняе і заззяе зорка, калі на гары з чыстым бляскам узыдзе пераможны Мітра (Феб) і бліскучае сонца пачне паднімацца, тады, правядны Назіральнік Зорак, дэман на імя Бізарэш, авалодвае звязанай душой дрэннага чалавека, чалавека ўшаноўваўшага дэманаў, жыўшага брыдка. Тады той, каго вабіла зло, і той, хто кіраваўся праўдай, абодва ўступаюць тады на свае шляхі, прыгатаваныя для іх часам, каля маста, створанага Стваральнікам, каля чыстага <...> месца, дзе разбіраюць, як чыя душа, як чыё сумленне дзейнічалі ў сьвеце, хто што здзейсніў, жывучы ў асяроддзі жывых істот. Сюды прыходзіць чароўная, статная, бадзёрая, высокая дзяўчына: спадарожнічаюць ёй сьвятасць, праўда, улада, магутнасць. Гэтая дзяўчына скідае шкодныя душы благіх людзей у цемру; душы ж людзей чыстых пераходзяць пад яе ўладу на той бок недасягаемых гор Гара-Беразайці. Гэтая дзяўчына праводзіць правяднікаў праз мост Чынвад, далучаючы іх да сонма нябесных анёлаў (йазатаў). Там насустрач правядніку паднімаецца са свайго залатога пасада добры дух і кажа яму:

“Нарэшце, беззаганны, прыйшоў ты сюды да нас, із часовага сьвету ў сьвет, якія не ведае тлення!”

Напоўненыя заспакаеннем душы правядных падыходзяць да Стваральніка Сусвету, падыходзяць да неўміручых святых, да залатых іхных пасадаў. Ідуць яны ў Гара-нман, у месцазнаходжанне Стваральніка Сусвету, у месцазнаходжанне неўміручых сьвятых, у месцазнаходжанне іншых беззаганных.

Калі праведнік патрабуе ачышчэння пасьля свайго скону, злыя, злодумаючыя дэманы трымцяць ад самой яго прысутнасьці, падобна таму, як авечка, асуджаная ваўку, трымціць перад ваўком. Праведнік не перестае быць у супольнасьці беззаганных: пры ім яны, пры ім Найр’я-Сань’я, адзін із наблiжаных да Стваральніка Сусвету анёлаў Найр’я-Сань’я.

## Узор із “Кнігі гімнаў” (Ясна)

## III. Праслаўланне Стваральніка Сусвету (гл. XXX, стар. 1-11)

1.

Прамова мая для слухаючых: пра тое, што творыць Стваральнік Сусвету. Яна будзе апавядаць пра яго здзяйсненні, якія даступны разуменню разважаючых. Мая прамова будзе славіць Сьвятло. Яе тэма – тэма глыбокай пашаны для несапсаванага розуму, тэма высокіх сьвятых роздумаў. Поўнае любаты, бляску і дабра тое, пра што я буду казаць.

2.

Ітак, слухай, о, чалавек, з напружаннем слыху, выдатны сэнс майго слова. Яно пакажа табе, што лепш выбраць – кожнаму пакажа яно. Гэта мае дачыненне да тваёй плоці і цябе. Пакуль не настаў велічны час, нас вучаць тыя якія валодаюць мудрасьцю.

3.

Два духі, двое блізнят на пачатку абвясьцілі: адзін чыстае, а другі нячыстае ў думках, прамовах і ўчынках. Благамудрыя ведаюць розніцу паміж апавяшчальнікамі, не ведаюць яе зломудрыя. Суд благадумаючых безпамылковы і правільны, як пра аднаго, так і пра другога духа.

4.

Упершыню, калі яны пайшлі ствараць жыццё і сьмерць, і ўсё, чым трымаецца сьвет, тады там, дзе было кепскае, бачны быў нячысты дух, а добры дух заўсёды быў неразлучным са сьвятасьцю.

5.

Із гэтых духаў злы выбраў для сябе нячыстую справу, а беззаганны дух, абітаючы ў непахісным небе, выбраў сабе чысьціню. Чысьціню выбралі ўшаноўваючыя сьвятло справамі праўды, веруючы Стваральніку.

6.

Не выбралі праўду сонмішчы дэманаў і тыя хто імі падмануты. Як толькі нячысты дух вызначыўся са сваім выбарам, ён аддаўся сумневам і неадкладна кінуліся задавальняць свае жаданні ўсе схільныя да бязладдзяў у гэтым сьвеце.

7.

А Сьвятло абралі маючыя ўладу над добрай мудрасьцю і чысьцінёй; трываласць і неаслабляючуюся моц іхным целам даравала прырода. Ды застануцца яны заўсёды такімі, як пад час калі ты ўпершыню прыступіў госпадзі да тварэння!

8.

Калі настае час пакарання злачынцы перад табой, Стваральнік, з’явяцца ўлада і шчаслівая мудрасць. Святло валадарыць над той і другім. Злачынцу аддаюць яны ў рукі бязгрэшнага.

9.

Ды будзем мы тваімі, мы, імкнучыяся да поспеху сьвету. Стваральнік Сусвету ды ўмацуе нас, ды ўмацуе ў нас сьвятасць. Хто мудры тут, таму накавана вечнае знаходжанне там, дзе існуе мудрасьць.

10.

Вось, на злога, на губіцеля, ужо падае пагібель разбурэння, але сыходзяцца ў адно імгненне непашкоджанымі ў чароўнай мясьціне Добрага духу, у мясьціне Стваральніка і Беззаганнасьці, тыя, для каго было асалодай праслаўленне Шчаслівага.

11.

І так, павучайце ўсіх пра двух валадароў. Іхныя ўчынкі адкрыты Стваральнікам чалавеку. Павучайце пра іх з задавальненнем і ўвесь час. Гэтае вучэнне ўжо даўно ўражвае бязбожнікаў. У ім магутнасць таму, хто правядны душой, у ім праслаўленне Стваральніка.

Я знарок прывёў два гэтыя ўзоры із парскай “Кнігі супраць дэманаў” і адзін са “Сьпеваў” (Яснаў), маючы на ўвазе, што крытычны разгляд літаратурных твораў без прывядзення тут жа ілюструючых дакументаў, тое ж самае, што апісанне ніколі не бачанай вамі расліны або жывёлы без малюнка. Яно ніколі не дась вам выразнага разумення. Я таксама знарок пераклаў уласныя найменні парскіх духаў і багоў на нашу мову. Бо не гаворым жа мы, што немцы ўшаноўваюць Гота, французы – Дзью, а ангельцы, наадварот, лічаць Дзьюса ворагам чалавечага рода. Дык чаму ж ва ўсходазнаўстве да гэтага часу пакідаюцца неперакладзенымі ўсходнія назвы тых жа самых уяўленняў. Толькі для таго, каб ад іх адмежавацца,

тады як пры перакладзе ўсе паказвае на іхнае агульнае паходжанне або нават на тоеснасць з еўрапейскімі.

Вазьмем, для прыкладу, хаця б наступны ўрывак:

“Паэт Цьютчы, – кажуць нам, – не пакінуў пасьля сябе, падобна Пушы донжуанаўскага спісу, але паданне паведамляе нам, што ён шанаваў каханне... Праўда, у выданні яго твораў пад редакцыяй Біккі, з уводным артыкулам містэра Бр’юсоу цьмяна згадваецца, без ініцыялаў нейкая міс Дэніз, як асоба, натхніўшая Цьютчы на яго лепшыя лірычныя творы, але гэтае згадванне не дае нам ніякага ўяўлення пра асобу паэта”.

– Пра каго тут гаворыцца? – запытаю я вас.

– Пра нейкага мала вядомага ангельскага паэта, – адкажаце вы без ваганняў. – тут каларыт выкладання ангельскі.

– Няправда! – адкажу я вам. – Я толькі што ўзяў першую патрапіўшуюся мне на вочы кніжку: “Апошняе каханне Цютчава”, біяграфічнае апавяданне Рыгора Чулкова. Я выпісаў із яго першыя радкі прадмовы, пераіначыўшы імя, Цютчава ў Цьютчы, Пушкіна ў Пушы, выдаўцу Быкова ў Біккі, Брусава ў Бр’юсоу і Дзянісаву ў міс Дэніз, і вось, замест чыста рускага каларыту, атрымаўся цалкам ангельскі, і вы не пазнаеце родны.

Але ці не тое ж самае адбываецца, калі ў нейкім перакладзе пакідаюцца неперакладзенымі прозвішчы дзеючых асоб, асабліва міфалагічных, якія на сваёй мове маюць алегарычны сэнс?

І вось, само сабой узнікае пытанне: калі б вам папярэдне не надалі, зацвердзіўшы гэтае наданне яшчэ чужой фанетыкай імёнаў дзейнічаючых асоб, што прывядзеныя мной некалькі старонак назад тры ўрыўкі із “Зенда-Весты” належаць цалкам чужой для еўрапейцаў рэлігійнай культуры і прытым знікшай натуральным чынам больш, чым за дзьве тысячы гадоў да нашага часу, то ці здагадаліся б вы самі пра гэта? Вы, несумненна, сказалі б, што гэтыя творы падобныя стылем і часам напісання на біблейскія псалмы і евангельскія паданні, і самнамбулічныя творы сучасных нам спірытаў.

А калі на гэта нам адкажуць, што прыведзеныя тут мной тры творы напісаны на мове, захаваўшайся зараз толькі ў рэлігійнай літаратуры індастанскіх парсаў, то якая ж падстава прыпісваць ёй дапатопную старажытнасць, калі яна ва ўжыванні ў парсаў у якасьці літаратурнага жаргону і зараз? Вось у нас жа да самога Пятра І пісалі выключна на царкоўна-славянскай мове нават і цывільныя творы, якімі з’яўляюцца летапісы, хаця размаўлялі паміж сабой па-руску, а ў немцаў нават і ў XIX стагоддзі некаторыя навукоўцы прымудраліся пісаць свае творы на лаціне, размаўляючы паміж сабой па-нямецку. Нагодай гэтага было, вядома, пад час юнацства перайманне ў старэйшых, а пад час сталасьці кансерватызм, і няма ніякіх сумневаў, што калі б нейкі сьвятар, занадта начытаўшыся сваіх богаслужбовых славянскіх прыпавесьцей, прадказанняў і псалмоў, сам адчуў бы ў сабе прыліў паэтычнай творчасьці, то пачаў бы выкладаць менавіта на царкоўна-славянскай мове, а каталіцкі сьвятар па латыні. Пісаць інакш яму б здалося прама прафанацыяй.

Вось чаму і самі царкоўныя гімны не перакладаюцца на нацыянальныя мовы, так як на іх яны выглядаюць проста сьмешнымі. Вось хаця б сьпевы пры звычаі прычашчэння:

“Прыідзіце, піва піем новае,
Не ад каменя няплоднага цудадзеемае,

А выратавання крыніца!”

Пры перакладзе на сучасную мову атрымліваецца:

“Прыходзьце! Вып'ем новага піва!
Не із камяня няплоднага цудам зробленага
Але ўсё ж крыніца выратавання!”

З той жа нагоды і індускія брамiны і сьвятары парсаў XIX стагоддзя, адзіныя грамацеі таго часу ў сваёй краіне, непазбежна павінны былі пісаць і свае ўласныя творы асабліва рэлігійна-паэтычнага накірунку на іхным звычайным, створаным на мясцовай глебе іншапляменнымі настаўнікамі і ніколі нідзе не ўжываўшымся ў пабытовых стасунках жаргоне. Гэта не першапачатковыя знікшыя народныя мовы, а нешта накшталт мулаў, якія паўсталі ад спалучэння прышлых місіянерскіх жарабцоў з мясцовымі нацыянальнымі асьліцамі.

Наглядным узорам іхнага ўзнікнення і развіцця служыць сучасная нам мова польска-нямецкіх жыдоў, якая, нягледзячы на нядаўнасць свайго ўзнікнення, ужо паспела развіць сваю самастойную літаратуру і якую, бясспрэчна, ніхто, не палічыць за старажытна-нямецкую мову, захаваную з незапамятных часоў жыдоўскай часткай польска-нямецкага насельніцства.

А парсы ж Індыі знаходзяцца ў цалкам такім жа становішчы, як і жыды ў Польшчы, ды і завуць сябе не толькі парсамі, а яшчэ і гебрамі, г. азн. габрэямі, і я не ведаю, якае із гэтых двух найменняў было іх ўласным і якае дадзена атачаючымі іншаверцамі і як даўно дадзена. Мне здаецца, што найменне гебры ў іх першапачатковае.

## Глава IV
## Вялікая колькасць слоў відавочна славянскага або часткова грэцкага, лацінскага і нават нямецкага паходжання, маючыхся ў зендскай літаратуры.

Я, бясспрэчна, не разлічваю, на тое, каб чытанне прыкладаемага альфабэтнага спісу было вельмі цікавым для звычайнага чытача, але ён тут цалкам неабходны, так як лепш, чым што-небудзь іншае доказвае справядлівасць маёй высновы, што мова Зенда-Весты не нейкая самастойная мова, а кангламерат із моваў Балканскай паўвыспы, занесеных у сярэдзіну Азіі хрысьціянскімі місіянерамі не раней “асветнікаў Русі” Кірыла і Мяфодзія. Перайшоўшы ад настаўнікаў да мясцовых вучням, для якіх яе граматыка і карэнны склад слоў былі цалкам чужымі, яна пераўтварылася ў зручны для іхнага слыху жаргон, які і зацвердзіўся ў такім выглядзе, як яго знайшоў Анкеціль-дзю-Пярэн на прыканцы XVIII стагоддзя.

Само сабой зразумела, што немагчыма прэтэндаваць на аднаўленне тонкіх нюансаў мясцовага вымаўлення, пры сучаснай адсутнасьці рацыянальнага міжнароднага сістэматычнага альфабэта, пра неабходнасць усталявання якога ва усеагульны ўжытак я ўжо дастаткова выказваўся ў III томе Хрыста. Гэта ўсё адно як замест французкага <...> пісаць па-руску дэман, замест ангельскага <...> пісаць Джэмс, замест лацінскага <...> – Гермес. Але нават із гэтых прыкладаў чытач бачыць, што адрозненне нюансаў вымаўлення не зацямняе асноўную сутнасць справы.

З такога боку гледжання, хай чытач і прагледзіць дадаваемы тут спіс, маючы на ўвазе, што гэта не поўны слоўнік славянскіх, грэцкіх і лацінскіх слоў, якія ўключаны ў мову Зенда, а толькі тыя, якія змяшчаюцца ў перакладзеных тут кароценькіх узорах. Гэта складае больш за палову ўсяго іхнага слоўніка згодна з даследваннем Касовіча "Чатыры артыкулы із Зенда-Весты"!

Вось яны з маімі тлумачэннямі:

**А**

А – прыстаўка перад словам. Адпавядае грэцкаму адмаўленню, напрыклад, у слове а-гностык, г. азн. – не ведаючы.

Ава – славянскае "овы", у рускіх гэта захавалася ва ўсклiцаннi "эва", "эво".

Агура – звычайна атаясамляецца з санскрыцкім Асура, і перакладаецца словам "жывы", як і грэцкае імя Зеўс, і біблейскае Іегава. А слова Мазда атаясамляецца з санскрыцкім Медас – Мудры. Але гэта проста прадузятасць Бенфея і Бюрнуфа, настолькі засяродзіўшых свае думкі на азіяцкім усходзе, адкуль лічылі магчымым вывесьці паходжанне ўсіх рэлігій, што не звярнулі ўвагу на захад Азіі. Першае слова імя Аура-Мазда або Ар-Музда несумненна паходзіць ад біблейскага аур – сьвятло, і ад МАЗД – стваральнік, і азначае Стваральнік Сусвету, а санскрыцкае Асура з'яўляецца тым жа самым што і юдэйскае найменне Асур, якое азначае – бог, валадар. Пагэтаму слова Армузд я ўсюды і перакладаю – Бацька Сьвету.

Азем – славянскае "аз", рускае "я".

Айр'я – арыец, паважаны.

Айр'яна – арыянін, але зараз ўжо лічыцца прадстаўніком племені арыйцаў, а не прыхільнікам арыянскага веравызнання, як, напрыклад, і юдэй (жыд). Ан-айр'я азначае не арыец, накшталт рускага нехрысць (аналагічна ан-архіст).

Ама – грэцкае слова амас – магутны.

Амеша-спента (замест амерша-спента) – лічыцца, што гэта азначае неўміручыя сьвятыя. Тут спента падобна на польскае <...>, а амеша – раўназначна а-мерша, несмяротны. Але ці нельга гэта атаясаміць з французкім амес (душы) і перакладаць – сьвятыя душы?

Ана – пераіначанае аны. Выкарыстоўваецца ў якасьці суфікса, як і ў нас, напрыклад, у слове "амерык-анскі".

Анра (пераіначанае ангра?) – злы, ангельскае angry - злосць.

Апа – грэцкі прыназоўнік "над".

Апара – папарны.

Апаска – апаска, зайздрасць.

Асан – ясн-асць, дзень.

Асту – (замест есту) – існасць.

Атар – лацінскае <...> – эфір, набыло сэнс полымя.

Ачыста – нячысты.

**Б**

Бага – бог, санскрыцкі бага.

Баўрыс (замест бабрыс) – бабёр, санскрыцкае бабру.

Банд – нямецкае <...> – вязаць.

Бера – падобна з бяру.

Бу – быць, маларускае буты.

**В**

Ваз (першапачаткова вазь?) – вязьці, адкуль рускае воз.

Вон – нямецкае <...> – насяляць.
Вакш, санскрыцкае вакш, нямецкае <...> – расьці.
Вата – вецер.
Вач – прадказваць, санскрыцкае ва.
Вачан – веча, гаворка, прадраканне.
Верэ – веру, беру, дапушчаю.
Вэрка (замест вэлка, так як Л у Зендзе замяняецца гукам Р) – воўк.
Від (першапачаткова віздь?) – ведаць, санскрыцкае від.
Віду – ведаючы.
Вінд – нямецкае знаходзіць.
Віра – лацінскае <...> – мужчына.
Віс (першапачаткова вісь?) – славянскае весь, паселішча.
Віш – нямецкае <...> – ведаю, ведаць.

**Г**

Гао – санскрыцкае ГО, грэцкае Гео, зямля.
Гара і Гайра – гара, санскрыцкае гіры.
Гара берэзайцi – гара высокая

Гаомо – лацінскае homo – чалавек, санскрыцкае сома ад грэцкага сома – чалавечае цела. Але тут гэты Гаома, азн. чалавека містычна ператварыўшагася пасьля сьмерці ў расліну, ап'яняючы сок якой выкарыстоўваецца ў глыбіні Азіі ў якасьці прычашчання пры набажэнствах Стваральніку Сусвету – богу-айцу, прычым, як і ў хрысьціян, лічылася, што гэты сок з’яўляецца сапраўднай крывей нейкага сьвятога чалавека. Набліжаючы да евангельскага я і перакладаю гэтага “чалавека” – сын чалавечы.

Гена – грэцкае Гюнэ, жонка, санскрыцкае чжана.

Гу – нямецкае gut – добра, але ўжываецца выключна як прэфікс. Напрыклад, Гу-шыту – добрае жыхарства.

**Д**

Давой (або давай) – рускае давай.
Даздзі – славянскае “даждзь” – дай.
Дат – даць.
Датар – лацінскае data – дацель.
Дайц’я – добрыя стварэнні.
Дасан – дзесяць, польскае.
Двара – дзверы і двор, санскрыцкае двара.
Дзева (дзьева) – дз'ябал.
Дрва (замест здрва) – здаровы, санскрыцкае друва (замест здрува).
Дрвайна (замест дзерэвайна) – драўляны.
Дру – славянскае дрэва, па-ангельскі tree, грэцкае друс.
Друч (замест удруч) – засмучаючы, адкуль і назва Засмучаючага.

**Е**

Ерэ – лацінскае <...> ісьці.

**Ж**

Жап (замест шэпць) – шаптаць.
Жы і Жу – жыць. Таксама зу і зі.
Жыці – жыццё

**З**

Зара (замест зала, так як Л перайшло ў Р) – золата

Зара-т-устра – Назіраючы Сузор'і ад славянскага зара – глядзць і грэцкага астра.

Зафана – пераіначанае Зевана – зяпа.

Зема – славянскае зем – зямля.

Зіма – холад, зіма, санскрыцкае хеймон

**І**

Іава – лацінскае <...> юнак.

Іада (яда) – ежа.

Іазата (язата) – у сучасных парсаў ізеды – арханёлы і херувімы, атачаючыя Стваральніка сусвету.

Іарэ – нямецкае jare – год.

Іасан (ясан) – зразумеласць, бляск, малітвы.

Іасна (ясна) – адкыццё, г. азн. ўразуменне рэлігійных звычаяў.

Іма – санскрыцкае Іяма, пярсідзкае чжэмішд, назва першага цара Ірана, а часам і першага чалавека.

Йувар – лацінскае <...>, рускае юны.

ІУ – лацінскае <...> – злучаць.

Іуж – лацінскае <...>, першапачаткова славянскае ярмо, у пераносным сэнсе ўнія, ад <...> злучаць.

**К**

Камерэ – лацінскае kamera

Кан'сой – невядомая мясцовасць.

Карана – пераіначанае грань, мяжа.

Катара – які (із двух).

Кла? – Лацінскае дзе.

Кшатра – кесар?

**Л**

Адсутнічае, замяняецца на Р.

**М**

Маноя – мая, мой.

Мага – магутны, грэцкае мегас, санскрыцкае ман'х.

Меду – мёд, пітво і віно.

Майдыя – лацінскае media, сярэдні.

Ман (першапачаткова мань?) – рускае мню, думаю, санскрыцкае ман.

Мара – мараю.

Мерэ – рускае мор, мру, паміраю.

Мерэч – забойства.

Мерэта (замест смерэта) – смерць.

Мерезу жыці – брыдка жыць.

Мізда – мзда, падзяка.

Мітра – бог сонца, Феб.

**Н**

На – рускае не, санскрыцкае ма ад грэцкага ме, тое ж адмаўленне не.

Нова – новы.

Найр'я сан'о – славімы людзьмі, імя аднаго з Іазатаў (арханёлаў).

Наман – лацінскае name – імя

Нерэ і Нарэ (пераіначанае Анарэ) – ад грэцкага анер – мужчына.

Нмана (пераіначанае мана) ад лацінскага <...>.

**П**

Па – піць.

Пайры (дакладней перы) – ад грэцкага перы – каля, навокал, напрыклад у слове перыферыя.

Пайрыка (пярка?) – пераіначаная грэцкая назва шкаднай істоты парка.

Панчан – ад грэцкага пента – пяць, адкуль і назва пентан ў хіміі.

Пара – грэцкае пара, прыназоўнік каля.

Паса – пояс і наогул вяроўка, санскрыцкае паса.

Пасу – пасомае быдла.

Пацін – рускае пуціна, шлях, санскрыцкае пан'тан.

Патні – пераіначанае польскае слова пані – спадарыня.

Парвя – першы.

Пач – печ і варыць.

Перасад – пераіначанае прасіць.

Пітэр – грэка-лацінскае патэр – бацька, захаваўшаяся і ў лацінян ў слове Ю-Пітэр.

Пітум – сілкаванне.

Путра – пераіначанае лацінскае <...>, хлопец, сын.

**Р**

Раша – пераіначанае разя, уражваючы.

Рыш – разбураць.

Ру – рот.

**С**

Саванг – французкае ратаваць.

Сіш – французкае ведайце.

Скендзі – лацінскае.

Сома – расьліна, ад грэцкага сома – чалавечае цела.

Спар, нямецкае і рускае саскочыць.

Спайята (пераіначанае свіята) – па санскрыцкі прама – сьвятло-сьветлы.

Спнета (пераіначанае свента) – польскае сьвяты.

Сраван (пераіначанае славан) – слава.

Сру (пераіначанае слу) – чуць.

Ста (пераіначанае вста).

Стэрэ – рускае прасьцерці.

Стэр (замест астэр) – грэцкае астэр – зорка.

Сту (пераіначанае ўсту) – усціць, г. азн. славіць вуснамі.

**Т**

Тад – той, санскрыцкае тат.

Іайбе – табе.

Тан – цягнуць, санскрыцкае тан, грэцкае цейна.

Тап – паліць (печку).

Тарас (замест чараз) – праз.

Таш – цясаць.

Тач – цеча.

Тверась (пераіначанае тверэць) – ствараць.

Цеман – цемра, санскрыцкае тамас.

Ц-історыя ці т-устра – грэцкае тоцерон – сузор’е, прычым захаваўся нават грэцкі безумоўны член, таксама як і ў найменні Зара-т-устра, Назіраючы Зоркі.

Тры – рускае тры, грэцкае трэй.

Тры-зафана (замест тры-зевана) – зеўны.

Трыці або Трайтана – траічны, азначаючы міфічнага трохгаловага змея, імя міфічнага героя.

Трыцця – трэццяя, трэцці, грэцкае трытас.

Трас – трэсьціся, грэцкае тарас.

**У**

Уба – абодва.

Удра (замест вудра) – выдра.

Урбага (пераіначанае ўрабара) – лацінскае <...> дрэва.

Ус (пераіначанае вуз) – славянскае воз, такая ж прыстаўка як у словах узначальваю, ваз-ьмуся.

Уста – вусны, славімы.

Устана – дыханне вуснамі, душа (ад дыхаць).

**Ф, Х, Ц**

Фра (замест пра) – перад, грэцкае про, напрыклад, у слове пралог.

**Ч**

Чатварэ – чатыры.

Чатваро – чацьвёра.

Чы – славянскае што, чый, санскрыцкае чы.

Чад – славянскае чый.

**Ш**

Шыці, таксама жыці – жыхарства, сядзіба, санскрыцкае кшыці.

Шойстра – грэцкае сатрап.

Шус, пераіначанае існаваць.

**Я**

Гл. вышэй пад літарай Й (склад Йа).

# Глава V
# Агульныя высновы пра позняе паходжанне “Святой Весткі” і парсізму.

Пры вывучэнні ўплыву адна на другую двух разнамоўных культур нам, перш за ўсё, патрэбна кіравацца такімі двума эмпірычнымі, г. азн. сфармуляванымі грунтуючыся на назіраннях законамі.

1-ы закон: “Мова пераважаючай культуры ўкараняе ў кіруемую галоўным чынам карані сваіх слоў, цалкам агаляючы іх ад іхнага першапачатковага флексічнага адзення, г. азн. адкідваючы іхныя канчаткі і часткова апранаючы іх у флексічнае адзеньне кіруемай мовы.

Як прыклад страты флексічнага адзення, прывяду нескланяемасць па-руску шматлікіх увайшоўшых ў яе іншаземных слоў, напрыклад: бюро, пальто, а затым і ўсіх жаночых уласных імёнаў, маючых канчатак Ы, І, напрыклад: Мэры, Люсі, Джэні і прозвішчаў на І і О, напрыклад Гарыбальдзі, Фуко і г. д. у дачыненні да наогул жаночых іншаземных прозвішчаў: так місіс і міс Дарвін застаюцца нязменнымі ва ўсіх склонах, тады як самога Дарвіна мы скланяем.

А прыклады агалення чыстага кораня з дапамогай аднімання ад яго флексіўных фанем у нас настолькі шматлікія, што і не пералічыць: лацінскае <...> ў

нас дом, лацінскае <...> у нас іга, Цітас – Ціт, Макус – Мар, Петрас – Пятро, тэлефонас – тэлефон, тэлеграфас – тэлеграф. І прысутнасць гэтых усечаных або нескланяемых слоў відавочна паказвае, што і наша сучасная руская культура, некалі расла пад гегемоніяй лацінскай і грэцкай моваў, як і культуртрэгерская тэндэнцыя надаваць назвы для нановавынайдзеных рэчаў з дапамогй усечаных грэцкіх і лацінскіх словаў, якая захавалася па інэрцыі і зараз ва ўсіх еўрапейскіх мовах.

Усё гэта і зразумела. Для чалавека нават ведаючага не толькі сваю родную мову, але і некалькі іншаземных, непараўнальна лягчэй перайсьці да новага наймення для нейкай рэчы, напрыклад, пакой завуць камерай, з'езд – кангрэсам, паравоз – лакаматывам, пачаць скланяць нейкае сваё слова ў сваім нацыянальным ужыванні па іншаземнаму і вымаўляць па-руску замест тэлеграф, тэлеграфа, тэлеграф – лецелеграф, дюцелеграф, оцелеграф, а француз на сваёй мове менавіта так і вымавіць. Падстава гэтага ў тым, што флексіўныя формы, якіх няшмат, з дзяцінства ўкараняюцца ў нашай сьвядомасьці, а карані найменяў шматлікія і папаўняюцца ў кожным разам з назапашваннем ведаў.

Гэта азначае, кожная мясцовая культура, у мову якой уключана шмат усечаных і пераіначанх слоў <...>.

2-і закон: “Карані слоў культурна пераважаючай мовы набываюць асноўныя адценні дыкцыі культурна кіруемай мовы і асімілiруюцца з бліжэйшымі па вымаўленню мясцовымі словамі, а калі ўтрымліваюць чужыя для дадзенай мовы гукі або незвычайныя для яе спалучэнні ўжо ўжываемых гукаў, то набываюць цяжка вымаўляемыя адценні, якія здаюцца асабліва пачварнымі ў транскрыпцыі. Узоры апошняга кожны із нас чуў пры вымаўленні не атрымаўшымі школьнай адукацыі іншародцамі рускіх словаў, што нават увайшло ў гумарыстычныя апавяданні. Да такому роду належаць пераходы словаў у царкву. Асабліва ж характэрытычна замена разных галосных ў нязвыклых словах праз А, як першапачатковы гук чалавечага вымаўлення, пешым вымаўляемы дзіцёнкам усіх нацый (наколькі мне вядома).

Выкарыстаем жа гэтыя закон да даследавання вендскай мовы.

Вось я ўзяў і прагледзеў гласарый Касовіча да чатырох невялікіх апавяданняў, тры із якіх ужо прывёў, а чацьвёртае прывяду далей. Яны занімаюць усяго восем старонак і што ж выявілся? Не менш за палову каранёвага складу слоў у гэтым гласарыі пераіначанні славянскага і часткова грэка-лацінскага, а часам, на здзіўленне, германскага і франкскага паходжання, як відаць із дададзенага тут спіса, які яшчэ далёка не вычэрпвае ўвесь спіс.

І ўсе прыкметы таго, што не еўрапейцы запазычылі карані адсюль, як быццам бы ад першапачатковай мовы, а відавочна наадварот, у сьвятле толькі што выведзенага мной эмпірычнага закону лінгвістычных з'яваў пры змешванні валадарачай культуры з кіруемай. Закон агалення каранёў словаў ад іхнага папярэдняга флексійнага адзення пры іхным укараненні із кіруючай культуры ў кіруемую тут на кожным кроку і прытым часта з пераходам розных галосных у першапачатковае дзіцячае ***а-а***.

Так, у толькі што прыведзеным спісе, адразу ж замест ***везьці*** мы бачым ***воз***, г. азн. аголены корань ад слоў ***вязу***, ***воз***; замест ***новы*** – ***нова***; замест ***пекчы*** (і варыць) – ***пач***; замест ***той*** – ***тад*** (санскрыцкае ***тат***), замест ***тап-іць*** (печку) – ***тап***, адкуль і рускае топ-ка; замест ***трэсьціся*** – ***трас***, адкуль і рускае трас, замест славянскага ***не*** – ***на***, ***каторы*** – ***катара*** і г. д.

Як прыклад пераіначванняў падобных пераходу лацінскага ***цырк*** у рускае ***царква*** або скарачэння ***цэзар*** у ***цар***, мы маем у пертварэннях словаў: ***даждзь*** (дай) у ***дазды***, ***мзда*** ў ***мізда***, ***мезка жыць*** – у ***мерэзу жыці***.

А потым мы бачым і чыста рускія словы без якіх бы то ні было змяненняў: ***давай*** – рускае ***давай***, ***зіма*** – руская ***зіма***, пры абагульненні холад, ***чатваро*** – ***чацьвёра***, ***бага*** – ***бог***.

А калі мы прымем да ўвагі, што на зендзкай мове рускае ***Л*** цалкам пераходзіць у ***Р***, то і ў массе слоў, якія гучаць па знешнасьці па-чужому, заўважаем роднае. Так ***воўк*** замест ***велка*** вымаўляецца ***верка***; ***слава*** (слаўнасць), замест ***славень*** вымаўляецца ***сравань***; а корань слова слухаць "***слу***" вымаўляецца "***сру***".

Не сустракаўшыся ніколі з парсамі Індыі, я вядома не прэтэндую на тонкасьці вымаўлення ўсіх гэтых іхных словаў, а кіруюся Касовічам, які ў сваю чаргу кіраваўся Бонам, але калі вы прымеце да ўвагі, што Бон не ўмеў вымаўляць мяккіх зычных (пь, ць і г. д.), то і маё меркаваньне, што гукавы склад зендскай мовы на самай справе яшчэ бліжэй да славянскай і грэцкай, чым тут паказана, не будзе здавацца вам недарэчным.

Тады грэцкае слова ***парка*** (злое адчуванне) павінна будзе чытацца не ***пайрыка***, як у транскрыпцыі Бона, а ***пярька***, што нашмат бліжэй да парка; слова ***дайцья*** – добрыя стварэнні – зблізіцца з рускім ***дзеці***, што нагадвае нам херувімаў; слова ***дрвайна*** – драўляны будзе вымаўляцца ***дрвяна***, што яшчэ бліжэй да славянскага.

Але нават і не выкарыстоўваючы гэтыя папраўкі, а задавальняючыся элементарнай фанетыкай, не цяжка прыйсьці да безумоўнай высновы, што зандзкая мова з'яўляецца мовай балканскіх хрысьціянскіх місіянераў, занесенай пад час сярэдніх стагоддзяў не толькі ў Расію, у выглядзе царкоўнаславянскай і хутка замацаваўшуюся пісьмовасьцю, але і ва ўнутраную Азію, дзе дзякуючы адсутнасьці пераемнай і распаўсюджанай пісьмовасьці страціла сваю першапачатковую флексію прыстасаваўшыся да мясцовай, падобна таму, як і ў рускай мове ўсе іншаземныя словы прыстасаваліся да рускай флексіі і запазычыўшы шмат мясцовых слоў ператварылася ў той жаргон, які нам і захавалі парсы.

З гэтага боку гледжання з'яўляецца надзвычай цікавым чацьвёртае апавяданне, прыведзенае Касовічам: Гасма і Заратустра. Таму што у ім змяшчаецца тыповая асноўная хрысьціянская ідэалогія!

Усе мы, прысутнічаўшыя на хрысьціянскіх набажэнствах, ведаем, як пры выкананні звычая прычашчэння хлебам і віном сьпяваецца:

Цела Хрыстова прыміце
Крыніцу неўміручасьці паспытайце!,

Пры гэтым праваслаўная царква з першых стагоддзяў свайго існавання была пераканана, што гэта не сімвал, а сапраўднае цела і кроў евангельскага Хрыста. Як магло ўзнікнуць такае дзіўнае атаясамлене? А хіба вы не памятаеце апавяданне, як у класічным паданні юнак Нарцыс, сын ручая Кафіса і німфы Лейрыёны, быў ператвораны Зеўсам у кветку нарцыс за тое, што занадта любаваўся сабой, гледзячыся ў раку, як у люстэрка? Скажы сам, ці не выходзіць із гэтага, што кожны, хто з'есць гэтую кветку, з'есць і самога міфічнага юнака Нарцыса, калі дапусьціць, што гэты міф праўда?

Нам зараз не згадваюць, што цела евангельскага Хрыста, па-грэцку яго сома[148], пасьля яго ўзнясення на неба ператварылася ў вінаградную лазу за тое, што ён паважаў піць перабрадзіўшы вінны сок, але вось у Індыі, замест вінаграднага віна ўжываецца пры рэлігійных набажэнствах у сэнсе прычашчэння, таксама ап'яняючы сок расьліны, якую батанікі называюць Асклепіяй, а прычашчаючыяся санскрытцы так і завуць сомай, г. азн. па-грэцку чалавечым целам. А прычашчаючыяся зендцы завуць гэтую ж расьліны таомай, г. азн. чалавекам, па-латыні як і евангельскі Хрыстос называў сябе "сынам чалавечым".

"У ап'яняючым соку расьліны сома, – сведчыў Касовіч[149], – бачылі крыніцу жыцця, бога, даруючага самога сябе людзям, каб узвысіць іх да сябе. Праз гэта гэтая расьліна ў вераваннях ар'еў (г. азн. арыян) была і расьлінай і богам. Выцісканне із гэтай расьліны соку і частаванне ім суправаджалася, як у (браманскіх) Ведах, так і Зенда-Весьце, асобнымі звычаямі і малітвамі да Бога, прысутнічаўшага ў ім. Але ў Зенда-Весьце Гаома. (г. азн. Сын Чалавечы) не больш як адзін із геніяў (г. азн. як і Хрыстос у еўрапейскіх пасьля залатавустаўскіх арыян), абараняючых і ацаляючых людзей, якія ўжываюць яго пабожнасць ў выглядзе соку, будучы вернымі Аура-Маздзе, у Ведах жа (як і ў хрысьціянскіх Евангеллях) гэты Сома, і ў той жа час Агні (дзе з разуменнем Сома-Цела зліліся фанетычныя разуменні Полымя і Ягняці – г. азн. Агнец) – атаясамлаецца са Стваральнікам неба і зямлі".

Такімі з'яўляюцца ўласныя словы Касовіча хаця яму і ў галаву не прыходзіла думка зрабіць кідаючыяся ў вочы збліжэнні, бо інакш яму б давялося адмовіцца ад наданага яму ўяўлення пра глыбокую старажытнасць Зенда-Весты.

Але вызваліўшыся ад гэтага гіпнатычнага надання немагчыма не бачыць, што сутнасць звычаю і тут і ў хрысьціян, адна і тая ж самая: дасягаецца стан ап'янення, які лічыцца прысутнасьцю самога бога ўнутры чалавека, а пераход ад вінаграднага соку да соку асклепіі лёгка тлумачыцца тым, што ў Індыі вінаград тады не вырошчваўся.

І вось, скажы сам: калі пры зендзкім прычашчэнні, як і вынікае із самога звычая, сьпявалі Самы-Гаомы прыміце, крыніцу неўміручасьці паспытайце, то ў выпадку перакладання імёнаў на рускую мову гэта і атрымліваецц: цела Сына Чалавечага прыміце, крыніцу неўміручасьці паспытайце.

І пры тлумачэнні ўсяго гэтага згодна з узорам выкладзеным на прыкладзе кветкі нарцыса, гэта і былі б праўдзівыя, а не алегарычныя цела і кроў Сына Чалавечага, ператварыўшагася пасьля сьмерці ў расьліну з ап'яняючым сокам.

І вось глядзіце самі, якім павучальным з'яўляецца з гэтага боку гледжання апавяданне із кнігі Адкрыццяў (Ясна, гл. IX, арт. 1-18), якое я даю грунтуючыся на выкладанні Касовіча, але з перакладам часткі ўласных імёнаў (сэнсу астатніх не ведаю).

### Сын Чалавечы і Назіральнік зорак
### (з зендскай кнігі "Ясны" рад. 1-18).

Аднойчы на світанні Сын Чалавечы (ён жа расьліна Сома-Гаома) уявіўся Назіральніку Зорак, ладзіўшаму полымя для ахвяраванняў і сьпяваўшаму ў той час сьвятыя песьні. Назіральнік Зорак, пабачыўшы яго, запытаў:

– Хто ты, чароўнейшы із людзей, якіх я не бачыў ва ўсім сьвеце, згодна з тваёй вартасьцю і знешносьцю ўласцівай толькі істотам несьмяротным.

---

[148] Па-грэцку Сома азначае цела, плоць і пры гэтым выключна чалавечае.
[149] К.Касовіч "Чатыры артыкулы із Зенда-Весты". Радок. XXXII.

На пытанне маё адказваў мне Сын Чалавечы бес праточны несьмяротны.

– Назіральнік Зорак, ты бачыш ува мне Сына Чалавечага, бес праточнага несьмяротнага. Павярні да мяне ўсе думкі твае, правяднік! Прыгатуй мяне для прычашчанне (ў ежу), услаўляй мяне сваімі сьпевамі як іншыя, прызначаныя для карысьці людзей мяне ўлаўлялі.

– Хвала Сыну Чалавечаму, – прамовіў Назіральнік Зорак. – хто ж першы із людзей прыгатаваў цябе (дзеля прычашчення)? Якога ўшанавання ён дасягнуў гэтым? Якую карысць атрымаў?

Беззаганны несьмяротны Сын Чалавечы адказаў мне наступнае:

– Першым, хто прыгатаваў мяне для прычашчэння (ўжывання) быў Віванао. Ён дасягнуў той падзякі: атрымана ім была тая карысць, што ў яго нарадзіўся сын Йіма, шматслаўны бездакорны правадыр плямёнаў, знакаміцейшы із усіх народжаных людзей, якіх толькі калі-небудзь бачыла сонца, таму што ён зрабіў так, што пад час яго царавання не было сьмерці ні людзям, ні жывёле і не было засухі ні вадзе, ні дрэвам і нідзе не пераводзілася ежа.

– У яго бязмежных уладаннях не было чуваць ні пра халод, ні пра спёку, ні пра старасць, ні пра сьмерць, ні пра зайздрасць, створаную дз'яблам. Усе хадзілі пятнаццацігадовымі юнакамі, як бацька, так і сын, пакуль на зямлі цараваў Йіма, бездакорны правадыр народа, Віванао.

– Хто іншы прыгатаваў цябе на зямлі для прычашчэння (ўжывання) Сын Чалавечы? Якога дасягнуў ён дабрабыту? Якую атрымаў ён ад гэтага карысць?

Беззаганны, несьмяротны Сын Чалавечы адказаў мне:

– Другім чалавекам прыгатаваўшым мяне на гэтым сьвеце быў Атве[150]. Ён дасягнуў такага шчасьця; атрымана ім была тая карысць, што нарадзіўся ў яго сын Трэтана[151], жыўшы ў селішчах волат і забіўшы змея Дахаку, які меў тры пасткі, тры галавы, шэсць вачэй, тысячу магутнасьцей, ворага чысьціні, гэтага чорта із племені дз'яблаў, шкодзіўшага жывым істотам злосна, у асобе якога сатана стварыў на гэтым сьвеце чорта самага шкаднага для ўсяго не распутнага, на сьмерць беззаганнасьці ў сьвеце.

– Хто трэццім прыгатаваў цябе Сын Чалавечы, на зямлі для прычашчэння (ўжывання)? Якога дасягнуў ён дабрабыту? Якую атрымаў ён ад гэтага карысць?

На гэтыя словы адказаў мне Сын Чалавечы беззаганны, неўмручы.

– Трэцці чалавек, прыгатаваўшым мяне на зямлі для прычашчэння (ўжывання) быў Трыта. Ім было дасягнута тое добраславенне, атрымаў ён тую карысць, што ў яго нарадзіліся два сыны: Урва-Кшайя і Керас-Аспа[152], із якіх першы быў ахоўнікам веры і праўды, а другі быў гайсу, высокі, вялікі, бадзёры, узброены паліцай. Ён забіў змея адразу праглынаўшага коней, праглынаўшага людзей, атрутнага, зямнога, па даўжыні якога працякала зялёная атрута таўшчынёю ў вялікі палец. Керас-Аспа каля поўдня рыхтаваў сабе ў катле ежу на гэтым змеі: змей загарэўся і ўзляцеў. Ён выскачыў із-пад катла, патануў у працякаўшай паблізу вадзе. Узрушаны яго рухамі, адхіліўся назад сам мужны Керас-Аспа.

– Хто быў чацьвёртым чалавекам гатаваўшым цябе на зямлі для прычашчэння (ўжывання)? Якога дасягнуў ён дабрабыту? Якую атрымаў ён ад гэтага карысць?

На пытанне маё адказаў мне Сын Чалавечы беззаганны, неўміручы:

---

[150] Згодна з транскрыпцыяй Касовіча сэнс мне не вядомы, як і Віванао і Йімы.

[151] Траетаана згода з транскрыпцыяй Касовіча.

[152] Урвакшайо і Керэсаспасча згодна з транскрыпцыяй Касовіча.

– Чацьвёрты чалавек Паўрушаспа прыгатаваў мяне на зямлі для прычашчэння (ўжывання). Тое дабраславенне было ім дасягнута, тую карысць ён атрымаў, што ад яго нарадзіўся ты, пабожны Назіральнік Зорак ў доме Паўрашасты, вораг дз'яблаў, шанавальнік сьвятла, добра вядомы у арыйскай зямлі. Ты першым, Назіральнік Зорак, даў людзям магчымасць чуць словы малітвы: "Дастаслаўны той"[153] без напеву, услых, і яе ж у гучным сьпяванні. Ты, Назіральнік Зорак, прымусіў усіх дз'яблаў, бадзяўшыхся раней па зямлі ў чалавечых увасабленнях, схавацца пад зямлю, ты, магутней за якога, больш цьвёрдага, больш дзейнага, хутчэйшага, пераможнейшага не было паміж разумнымі стварэннямі.

– Пачуўшы гэта, Назіральнік Зорак сказаў:

– Хвала Сыну Чалавечаму! Благі, Чалавечы Сын!

Шукаць тут алегарычны сэнс у найменнях двух забітых змеяў, Дахака і Сравара, мне здаецца, так жа цяжка, як і ў найменні рускага казачнага Змея Гарыныча. Але ўсё ж нельга не адазначыць у гэтых чатырох, прычасьціўшыхся Сынам Чалавечым алегарычнае апісанне чатырох пор года, як гэта астралагічна паказана у Апакаліпсісе ў выглядзе чатырох сузорных жывёл: Цяляці – сімвала насычаючага лета, Ільва – сімвала пажыраючай восені, Цэнтаўра-Стралка – сімвала ўсёзабіваючай зімы і крылатага каня Пегаса – сімвала паднімаючайся да неба вясны. І тут, як толькі ты ўнікнеш у сэнс імёнаў і ў характарыстыку чатырох прычастнікаў – выяўляецца тое ж самае.

Першы, прычасьціўшыся Сынам Чалавечым, названы Віванатам, верагодна ад – жыву, што адпавядае ажыўляючай вясьне, алегарычна пазначаемай першай апакаліптычнай жывёлай – сузор'ем Целяці, паднімаючым Сонца на сваіх рагах, ад яго як бы нараджаецца наступнае за ім сузор'е – Двайняты, і вось сынам Віваната і завецца Йіма, што азначае блізнюк, а ў Ведах гаворыцца нават і пра двух блізнят Йіме і Йоме. І ўсе былі юнаамі пад час іхнага царавання, як і двайняты на нябесных мпах малююцца юнакамі.

Другім, прычасьціўшыся Сынам Чалавечым быў Ацвя або Апця. – Гэта адпавядае сузор'ю Ільва, другой апакаліптычнай жывёле. У яго нарадзіўся сын Трайтана, які сімвалізуе відаць Валапаса, замяняючага сузор'е Панны і забіўшага змея Дахаку з трыма галавамі, г. азн. Гідру, якая знаходзіцца пад сузор'ем Панны і Валапаса.

Трэццім, прычасьціўшымся Сынам Чалавечым атрымліваецца сузор'е восені Шалі (замест апакаліптычнага Цэнтаўра-Стралка). Тады першым із яго двух сыноў як раз і будзе папіраючы скарпіёна Змеятрымальнік – Урва Кшайя г. азн. цар (нябеснага) горада[154], ахоўнік веры, як атрымліваецца і згодна з апакаліптычным сэнсам. А другі сын – Керас-Аспа, г. азн. Лёгкі Конь, адпавядае як раз наступнаму сузор'ю – Цэнтаўра-Стралька. Ён, – гаворыцца ў апавяданні, – варыў ежу пад Змеем Срвараю г. азн. на сузор'і Ахвярнік, а змей "загарэўся ад гэтага і ўзвіўся", як і відаць на астралагічнай мапе, і патануў у працякаючай побач вадзе, г. азн. Млечным Шляху.

Чацьвёртым, прычасьціўшыся сынам чалавечым быў Паўрош-Аспа, г. азн. Вялізны Конь, што адпавядае чацьвёртай сезоннай жывёле Апакаліпсісу – сузор'ю

---

[153] Г. азн. дастаслаўны той, каму падпарадкавана прырода і яе рухі і сьвятасць яго ў такой жа ступені напаўняе прастору і час. Ад яго выходзяць добрыя намеры для здзяйсненняў на гэтым сьвеце. Стваральніку Сусвету належыць улада. Ён падацель ежы не маючым. Слаўце яго благія воды, слаўце воды благога стварэння. Будзьце верныя закону, ушаноўваючаму Стваральніка.

[154] Урва – горад, а Кшайя – царуючы

вясны крылатаму каню Пегас, сапраўды вялізнаму сузор'ю, заменяўшаму і сузор'е Рыб. Ад яго і нарадзіўся сам Назіральнік Зорак – Заратустра, г. азн. наступнае сузор'е Ягня-Авен, сімвал евангельскага Хрыста.

Адсюль і вынікае, што Зара-Тустра – Назіральнік Зорак – толькі новае найменне "Вялікага цара", заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, які ў нас атаясамлаецца з імператарам Юліянам – Любамудрам.

Але ў мяне нават не ўзнікае патрэбы настойваць на астральным паходжанні даследуемага апавядання. Для нас мае значэнне толькі яго асноўная сутнасць, а яна відавочна мае дачыненне да вобласьці міфаў пра ўзнікненне сакрамэнта хрысьціянскага прычашчэння, падставай да чаго паслужыла легенда пра таемную вячэру евангельскага Сына Чалавечага, дзе ён падаў вучням сваю чарку з ап'яняючым вінаградным сокам, прамовіўшы: "піце із яе ўсе, гэта мая кроў", а хлеб для закускі гэтай крыві ён назваў сваім целам па-грэцку "сома", гэтак жа як і на санскрыцкай мове называецца ап'яняючая расьліна Асклепія, якая, акрамя таго, мае назву і Чалавек ці тое ж самае, але лягчэй прыстасоўваемае да расьліны, – "Сын Чалавечы"

Ды і самая чарка евангельскай таемнай вячэры фігуруе тут як важная прыналежнасць культу. Калі ў вышэйпрыведзеным апавяданні із "кнігі дадзенай супраць дэманаў (Вендзідата)", Сатана запытаў Назіральніка Зорак: "Дзе ў цябе зброя, якой ты ўразіш мяне і мае стварэнні?" Назіральнік Зорак адказваў: "Святая ступа (у якой таўклі збожжа для хлеба да вынаходніцтва жорнаў), сьвятая чарка, Сын Чалавечы (ператварыўшыся як міфічны Нарцыс у аднайменную расьліну, інакш называемую сомай, або чалавечым целам), і словы вымаўленыя Стваральнікам, – вось мая непераможная зброя!"

Мы бачым, што ў гэтым кульце існуюць ўсе адметныя рысы першапачатковай хрысьціянскай ідэалогіі сярэдніх стагоддзяў і прытым захаваўшыяся ў аддаленні ад еўрапейскай, пайшоўшай далёка наперад культуры ў больш першабытным стане. Так што вывучэнне азіяцкіх адгалінаванняў першапачатковага хрысьціянства можа нам адваротных шляхам асьвятліць яго выгляд у Яўропе ў першыя часы пасьля яго ўзнікнення.

Вось чаму працяг падобных даследванняў, мае не меншае значэння для навуковага асьвятлення першай стадыі эвалюцыі еўрапейскага хрысьціянскага светапогляду, чым вывучэнне ніжэйшых тыпаў расьлін і жывёл для аднаўлення эвалюцыі вышэйшых біялагічных арганізмаў.

А у асноўнай выснове із усяго мной павядомленага, мне здаецца, немагчыма сумнявацца: Зенда-Веста – Сьвятая Вестка – гэта перайначанае найменне Евангелля, пры гэтым слова Евангелле і азначае па-грэцку Дабрая Вестка. Зара-Тустра або Зара-Астра, г. азн. Назіральнік Зорак, быццам бы аўтар гэтай Сьвятой Весткі – адзін із варыянтаў легенд пра імператара Юліяна-Любамудрага, сапраўднага заснавальніка хрысьціянства (361-363 гг.), – але гэта яшчэ не азначае, што ў сучасным сваім выглядзе яно і было ім распрацавана, а не яго пасьлядоўнікамі аж да нашых дзён.

Адносіць яе ў VIII стагоддзе да пачатку н. э. замест VIII стагоддзя пасьля яго, азначае перадацца гістарычнаму авантурызму. Супраць таго, што яна валадарыла у Персіі да замяшчэння яе ісламам – як мясцовага, занесенага балканскімі славянскімі місіянерамі хрысьціянва, замененага магаметанствам – пярэчыць няма падставаў, асабліва калі дапусьціць, што зрабіў гэта Магамет Газні, памёршы ў 1030 г. Але думаць, што гэта аднойчы, яшчэ раней яго, зрабіў міфічны

Аляксандр Македонскі пасьля свайго адружання з пярсідзкай царэўнай Раксанай каля 332 года да пачатку н. э., і што пазней, праз 661 гадоў нябыту, гэтая рэлігія была адноўлена ў першапачатковым выглядзе пярсідзкім царам Ардгішрам Вабегатам у 229 годзе н. э., – гэта тое ж самае, як паспрабаваць зараз аднавіць у СССР ушанаванне старажытнага славянскага бога Пяруна, пасьля яго тысячагадовага нябыту.

Непараўнальна прасьцей дапусьціць, лічачы прарока Магамета із Аравіі за міф, – што рэлігія Назіральніка Зорак была першапачатковым адгалінаваннем ахрысьціяніўшагася арыянства (агаранства) да пераходу яго ў магаметанства пры Магамеце Газні на начале XI стагоддзя. Тады ўсё набудзе лагічную сувязь, якой цалкам не хапае пры звычайных уяўленнях, як яны разпрацаваны, напрыклад, у Шпігеля.

# Глава VI
# Чароўная казка пра аўтара Сьвятой весткі (Зенда-Веста, па-грэцку Евангелля).

Не паспелі індыйскія плямёны, – кажа д-р Лемані ў Копенгагене[155], – яшчэ вызваліцца ад свайго качавога, першабытнага жыцця, як іхная першая рэлігія ўжо выявілася дасягнуўшай поўнага развіцця і выкладзенай у вучэбнай літаратуры.

Як вам гэта падабаецца, чытач? На мой погляд, гэта ж сьмяротны прысуд ўсёй старажытна-індускай навуковай літаратуры. Вялікія лёсы, выпаўшыя на долю індскій народаў, мала зьмянілі ўнутранае ўладкаванне іхнага жыцця, і праз цэлыя тысячагоддзі, мы знаходзім у гэтых непахісных народаў тыя ж самыя палітычныя ўмовы, тыя ж норавы і жыццёвыя погляды.

А гэта, чытач, ці не здаецца вам сьмяротным прысудам усёй індускай гісторыі? Але вось, пераходзячы да персаў, аўтар станавіцца яшчэ больш наіўным. “Рэзка разварачваецца, – кажа ён, – жыццёвая драма пярсідзкага народу. Із першабытнага перыяду, цалкам схаванага ў змроку, персы раптоўна выходзяць на яркае сьвятло гісторыі. Валодаючы дзіўнымі вайсковымі здольнасьцямі, яны пад старшынством правадыроў, надзеленых бліскучымі палітычнымі талентамі, распаўсюджваюць сваё валадаранне над старажытнымі дзяржавамі заходняй Азіі і на працягу нешматлікіх пакаленняў ствараюць сусветную дзяржаву ад Турана да Абісініі, ад Інда да Эгейскага мора. Разважлівай памяркоўнасьцю і ўсталяваннем цівілізуючага ўладкавання яшчэ больш, чым магутнасьцю і розумам сваіх дэспатычных кіранікоў, гэтая вялізная дзяржава дасягнула трывалай арганізацыі і квітнеючая культура расла на новай глебе да таго часу, пакуль не разбурылася з нагоды ўласнай велічы, разам з раптоўным разбурэннем дзяржавы праз дзвесьце гадоў”.

Такім, чытач, з’яўляецца гістарычны закон і карысная выснова для кіраўнікоў: не давайце культуры свайго народа моцна развівацца, каб яна не ўпала ад уласнай велічы і не раздавіла вас саміх, але пойдзем і далей.

Узвысіўшаяся на парэштках старажытнапярсідзкага Парфянскае царства запазычыла ваяўнічую магутнасць старажытных персаў, але не культуру, і менавіта таму (*якая супярэчнасць*) не змагло зацвердзіцца на працяглы час. Але павінны былі прайсьці цэлыя стагоддзі спусташальных войнаў, перш чым назаўсёды была знішана самастойнасць гэтага народу, і толькі пасьля яго зліцця з магаметанамі мы бачым, што яго мова і рэлігія паступова згасаюць.

---

[155] Ілюстраваная гісторыя рэлігій, II, 161.

Ад іранскіх народаў, якія жывуць асела паміж Каспійскім морам і Пярсідзкім залівам, варта перш за ўсё аддзяліць жыхароў Сузіяны. Іх нельга лічыць ні іранцамі, ні, як думалі некаторыя, за сумерыйцаў старажытнай Паўднёвай Месапатаміі. Яны, як сведчыць іхная мова, – эламіты; але больш дакладнае этналагічнае вызначэнне сузіян немагчыма без далейшым даследванняў.

Што да мідзян, самага заходняга із іранскіх народаў і прытым першымі за астатніх з'явіўшыміся на гістарычных падмостка, то патрэбна перш за ўсё заўважыць, што скіфы старажытных пісьменнікаў, па ўсёй бачнасьці, знаходзяцца з імі ў плямянным сваяцстве. Такім чынам, квітнеючая і нават вытанчаная культура мідзян вырасла із нетраў качавога скіфскага жыцця. Зліццё абодвух народных элементаў было такім цесным, што пасьля Кіра і Дарыя, можна, бяспрэчна, гаварыць толькі па міда-пярсідзкі народ, так як і грэкі ўпарта называюць персаў "мідзянамі".

Застаецца нявырашаным пытанне, ці сапраўды Кір, заснавальнік Пярсідзкага царства, прытрымліваўся мідыйскіх звычаяў. Цалкам іншая справа з Дарыем. У надпісах ён дзейны шанавальнік Армузда і ўжо гэтае імя ручаецца за тое, што веравызнанне мела сваім падмуркам бяспрэчна развітае вучэнне Заратустры, так як найменні Агура-Мазда, або Гаўса-Мазда маюць прыкметы пераважна абстрактна-дагматычнага характару гэтай тэалогіі і без яго немагчыма.

Але ж Заратустру сучасныя гісторыкі рэлігіі лічаць міфічнай асобай. Справа знаходзіцца ў тым жа становішчы, як і ў дачыненні да легенды пра Будду. Калі разглядаць пазнейшыя і дрэнныя апавяданні пра Будду, то можна, магчыма, падумаць, што маеш справу з міфамі і казкамі; калі ж звярнуцца да сапраўды старажытных (і добрых) крыніц, то справа выяўляецца ў цалкам іншым асьвятленні.

Але чаму ж, запытаеце вы, добрыя апавяданні больш старажытныя, чым дрэнныя? Чым гэта даказваецца? Нічым! Адным жаданнем гісторыкаў.

"Паведамленні пра Заратустру, узятыя із пазнейшай Авесты, або із яшчэ больш казачнай новапярсідзкай Заратустравай кнігі ў значнай ступені легендарныя, але не такімі з'яўляюцца старажытныя гімны (Гата): тут мы бачым перад сабой чалавека, надзеленага духам і верай прарока, мужа, які жыў і пакутаваў, спадзяваўся і змагаўся, і асоба якога і думкі сапраўды надалі рэлігіі свой адбіак"[156].

Але якім жа чынам вызначылі, – запытаеце вы, – што "добрыя" гімны больш старажытныя чым "дрэнная" Авеста, а не наадварот? Зноў тут адвольнае меркаванне.

"Гімны, – працягвае аўтар, – Не сама сабой узнікшая народная рэлігія, уяўленні і звычаі якой, наскрозь прасякнуты забабонамі і чарадзействам, як у Ведах. Тут мы маем справу са строга прадуманай і сістэматычна і практычна паслядоўна праведзенай тэалагіяй, занімаючай у дачыненні да народных вераванняў, на глебе якіх яна ўзнікла, цалкам вызначанае становішча і строга асуджаючай ў іх усё тое, што не адпавядае сістэме. Але падобная сістэма сведчыць пра яе стварэнне адной асобай, а не пра выпадковае самаўзнікненне ідэй. Калі б нават Авеста не давала такіх шматлікіх доказаў існавання Заратустры, якіх і патрэбна чакаць ад такой кнігі, то пра існаванне падобнага яму чалавека належала б зрабіць выснову ўжо грунтуючыся на характары яго твору".

І вось, гэта азначае, што Заратустра, – кажуць нам, – несумненна існаваў. Знаходжанне яго айчыны ўсімі ўсходнімі крыніцамі вызначаецца ў заходнім Іране і "самыя лепшыя із іх адносяць яе да паўночна-заходняй ускраіны Мідыйскага царства. Менавіта тут трэба шукаць вобласць Арыяна-Бэджа (г. азн. арыянскае вядзенне), на якую Авеста заўсёды паказвае як на краіну прарока; таксама і Бундэхеш згадвае пра тое, што ён жыў там. Дык ці можна ў гэтым сумнявацца?

[156] Шанцепі-дэ-ля-Сасей, II, 167.

Згодна з іншымі паведамленнямі ён нават нарадзіўся ў Гецне, у самым Атрапатэне, і жыў ў горадзе Рага.

У Авесьце ён часта мае назву згодна з найменнем свайго продка Спітама; калі ж грунтавацца на імені прарока (якае, верагодна, азначае “валодаючы шматлікімі вярблюдамі”) і яго бацькі Пурушаспа (“валодаючы шматлікімі канямі”), то ён належаў да заможнаму роду. Пры двары цара Гістаспа ён меў уплывовыя сувязі. З Ямаспай, міністрам цара, ён знаходзіўся ў сяброўскіх дачыненнях і нават быў адружаны з яго пляменіцай Хвові і з трыма яго сынамі злучаецца паданне, што ад іх пайшлі тры іранскія станы: жрацы, ваяры і земляробы.

Але вакол гэтых гістарычных (?) паведамленняў, – кажа д-р Леман, – якія і самі па сабе дастаткова бедныя, а праз поўную нявызначанасць іхнай храналогіі, вісяць як бы ў паветры, з цягам часу ўтварыўся цыкл больш ці менш фантастычных легенд. Чэрці і змеі пагражаюць ў сне ўжо маці будучага прарока, але яна таксама бачыць, як ён, аточаны прамянямі сьвятла, разганяе служак змроку; яшчэ апавядаецца, што ён засмяяўся пры сваім нараджэнні і з пераможнай перавагай пераадолеў усе нягоды і цяжкасьці, якія рыхталіся яму яшчэ ў дзяцінстве царом злых духаў (Дурансарунам). Ад пагражаючых яму таемным забойствам, полымем і дзікімі звярамі, Заратустра ратуецца цудоўным чынам, дзякуючы чароўнай магутнасьці; дарослым юнаком ён адкрыта выказвае сваю агіду да чарадзейства і хутка пасьля гэтага прызываецца да прадказанняў магутнымі снамі. Адкрыццё, надаўшае яму ўсю яго мудрасць, набываецца ім у размове з самім Армуздам на небе, куды ён быў дастаўлены анёламі.

Тут зноў мы сустракаем водгалас паданняў пра Хрыста (Ведзідада XIX). Згодна з загадам дз’ябла адзін із дэманаў кідаецца на Заратустру, каб знішчыць яго, але прарок праганяе яго сьвятымі малітвалами і затым сам нападае на дэманаў, кідаючы ў іх вялікімі камянямі (метэарытамі). Дз'яблу становіцца боязна, і ён спрабуе залагодзіць абяцаннем зямнога валадарання. Але Заратустра наадрэз адмаўляецца, кажучы: “Лопні маё цела і мая душа, але я ніколі не адыйду ад закону прыхільнікаў Тора-Мазды”.

Пра далейшае жыццё Заратустры легенда паведамляе яшчэ цэлы шэраг цудаў, якія маюць звычайны легендарны характар. Шмат якія з іх лічаць, што Заратустра, у якасьці прарока, дзейнічаў у Бактрыі. Аднак, вызначана, што старажытны Гістасп не быў бактрыйскім царом; ніводнае слова ў Авесьце не паказвае на гэта, а грэцкія крыніцы паказваюць, што ён цараваў ў Заходнім Іране і ў Мідыі. Такім чынам, цудоўнае падарожжа Заратустры ў Бактрыю з'яўляецца цалкам залішнім. Заратустра, як і яго жрацы, пастаянна называюць сябе выключна атраванамі, жрацамі полымя.

Перш за ўсё мы паспрабуем уявіць галоўныя рысы гэтай рэлігіі, нам патрэбна кораценька разгледзець яе літаратуру. Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу Авеста персаў. Авеста азначае “веданне” і прарок атрымаў яго ў размовах з богам, каб паведаміць яго людзям. Назва “Зенд-Авеста”, якую часта даводзіцца сустракаць, азначае прыблізна “паданні ведання”, адпаведна Ведам – веданню.

Першапачатковая Авеста, – кажуць нам, – верагодна уяўляла із сябе шырокую літаратуру, якая ахоплівала сабой таксама ўсю вобласць навукі. Але найбольшая яе частка даўно загінула; згодна з мала верагодным паданнем, яна была знішчана Аляксандрам; хутчэй за ўсё гэта здзейснілі арабы. Тое што маецца ў нас, складаецца, на жаль, із урыўкаў, прытым у дрэннай редакцыі і на мове, якую асабліва ў самых важных частках кнігі вельмі цяжка зразумець. Яе першыя

рукапісы былі прывезены ў Яўропу французам Анкецілем, які ў якасьці каланіяльнага жаўнера жыў у Індыі на працягу сямі гадоў. Затым дацкі лінгвіст Раск (які ўпершыню правільна вызначыў гістарычнае значэння мовы Авесты) знайшоў у Індыі яе іншыя важныя манускрыпты. Тлумачэнне тэкстаў было навукова абгрунтавана Бюрнуфам (1801-1852), крытычныя выданні зроблены Вестэргардам і Гельднерам, слоўнік – Юсьці, каментуемыя пераклады – Шпігелем і Дармстатэрам. Але пераважная заслуга вывучэння Авесты належыць Віндышману.

Наша Авеста распадаецца на розныя часткі, із якіх Кніга Ахвяр (Ясна) змяшчае гімны, вымаўляемыя пры ахвяраваннях. Частка гэтых гімнаў, так званыя гаты, або сьпевы, з нагоды сваёй больш шырокай формы мовы, старажытна-арыйскага памеру, і цьмянага, сьціснутага спосаба выказвання, прызнаюцца за самую старажытную частку гэтай літаратуры. Яны часта цытуюцца ў больш позняй Авесьце амаль гэтак жа, як мы цытуем біблейскія тэксты; рабіліся нават спробы перайначыць дыялект гат, надаць пазнейшым паэтычным творам старажытнае адценне.

Ахвярныя песьні – яшты – больш новыя. Форма іхнай мовы лягчэйшая, выкладанне больш прасторнае і менш майстэрскае, часта цалкам трывіяльнае. Як гаты з'яўляюцца важнейшай крыніцай нашых ведаў пра вучэньне Заратустры, так яшты маюць значэнне ў якасьці крыніцы ведаў пра вобразы авесьцційскіх багоў; шмат міфаў і паданняў пра багоў і герояў старажытнасьці паведамляецца ў іх вельмі грунтоўна і наглядна. Ведзідада, кніга законаў, як ужо можна бачыць із самой назвы “Дадзеная супраць дэманаў”, з’яўляецца пераважна кнігай ачышчэнняў; тут мы бачым этыку і права міда-персаў. Для іранскай археалогіі Ведзідата з'яўляецца галоўнай крыніцай, так як у ёй мы сустракаемся з норавамі, звычаямі і забабоннымі ўяўленнямі, але малююцца яны цалкам згодна з духам Заратустры і рэдакцыя ўсёй кнігі відавочна вельмі новая: геаграфічны агляд сьвету, якім пачынаецца гэтая кніга, акрамя сьвятой зямлі Арыяна-Вэджы, згадвае толькі правінцыі “Заходняй дзяржавы”. Гэта адзінкавая кніга із Авестаў часоў Сасанідаў, якая дайшла да нас у цэлым выглядзе; яна пачынаецца касмаганічнымі тлумачэннямі і заканчваецца канцом сьвету. Ясны і Вендзідата пры звычайным падзеле, разам з невялікім ахвярным малітоўнікам Вісперады, складаюць асабіста Авесту, а яшты змяшчаюцца ў скарочанай Авесьце, невялікай малітоўнай кнізе, у якой змяшчаюцца таксама малітвы, чытаемые цывільнымі і прызначаныя для розных часоў дня і пор года.

Веданне авесьційскай рэлігіі, якое даюць нам гэтыя фрагменты свяшчэннага пісання, вельмі ўрыўкавае; але дапаўняецца іншымі творамі. Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу Бундзегеш і іншыя творы, якія адносяцца да часу Сасанідаў, і напісаны на пехлевійскім дыялекце, ўтрымліваючыя ў сабе пазнейшую, створаную на глебе Авесты, генеалогію парсізму. Грэкі, меўшыя з персамі такія ажыўленыя стасункі, надавалі вялікую ўвагу пярсідзкай гісторыі. Паведамленні Герадота часта падцверджваюцца надпісамі, гэтак жа, як і паведамленні Бераза і, насупраць гэтаму, Ктэзій, нібыта жыўшы пры пярсідзкім двары, цалкам ненадзейны сведка. Кірапедый Ксенафонта вызначаецца рамантычным характарам, але можна карыстацца творамі Страбона і Плутарха, лічачы іх, вядома, не раней за крыжовыя паходы. Лацінскія крыніцы яшчэ больш бедныя.

Із арабскіх і армянскіх паведамленняў сярэдніх стагоддзяў арабская хроніка Таберы перакладзена Нольдэке (1879 г.), але яна не мае значэння для вывучэння пярсідзкай рэлігіі. Больш дае твор Шарастані “Рэлігійныя партыі”, перакладзены

Хаарбрукенам (1850-51). А армянскія паведамленні пра старажытна-пярсідўкую рэлігію перакладзены Ланглуа (1868-69).

Нельга не заўважыць, што Авеста не ўтрымлівае ў сабе толькі адно чыстае вучэнне Заратустры, але што выкладзеная ў ёй рэлігія часта ўяўляе сабой кангламерат із розных веравызнанняў. Ужо першы гімн Ясны, пералічыўшы пануючых багоў і анёлаў заратустрава вучэння, працягваецца:

“Я ахвярую зоркам, стварэнням сьвятога духа, зорцы Ціштрыі (Сірыусу), бліскучай цудоўнай зорцы; месяцу, які валодае семем цяляці і бліскучаму Сонцу з імчучыміся канямі, воку Армузда; я прыношу ахвяру духам – заступнікам праўдзівых і табе, полымя сын Мазды, разам з усякім іншым полымем; добрай вадзе і ўсякай створанай богам водзе; і кожнаму створанаму богам злаку”.

Тут, за нешматлікімі выключэннямі, пералічаны тыя ж самыя аб'екты ўшанавання, як і ў кожнай яшчэ першабытнай рэлігіі.

Шанаванне стыхій, маючых вялікае значэнне ў сістэме Заратустры, так жа, як і сувязь паміж вышэйшымі духамі гэтага веравызнання і стыхіямі, з розных бакоў паказваюць на першапачатковы культ прыроды.

У Авесьце існуе таксама і анімістычны перажытак: духі-заступнікі, колькасць якіх бясконцая згодна з уласным прызнаннем Авесты, па-сутнасьці з’яўляюцца душамі памёршых, якія маюць рысы старажытных сямейных і мясцовых духаў, якіх можна сустрэць на сьвеце паўсюдна. Злыя духі і чэрці прама кішаць у Авесьце.

Паданні і звычаі жывёлагадоўлі выяўляюцца на кожным кроку. Сьвятасць каровы і сабакі для парса з’яўляецца такой жа непарушнай, як і сьвятасць самога Армузда і з гэтымі жывёламі злучаны такія міфы і звычаі, із якіх дастаткова яскрава заўважаецца вера ў іхную звышнатуральную магутнасць. Утварэнне расьліннага і жывёльнага сьвету із забітай першакаровы належыць у іранцаў, як і ў шмат якіх іншых народаў, да ліку першых касмалагічных ўяўленняў. Забяспечваць багатую ежу каровам з’яўляецца не толькі сьвятым абавязкам, але і звычайным спосабам выжывання для выканання абавязкаў наогул. Як у індусаў і шмат якіх іншых народаў, так і ў Авесьце, бычыная мача з’яўляецца самым сьвятым ачышчаючым сродкам, нягледзячы на тае, што згодна з авесьцінскай этыкай мача наогул у вышэйшай ступені нячыстая і сьмярдзячая. Сабаку ў “Ведзідадзе” прысвячаюцца адна за другой цэлыя главы; яна праганяе чарцей і забіваць яе вельмі небяспечна. Яна, як стварэнне Армузда, цалкам роўная годнасьцю з людзьмі. Вялікая частка практычнай этыкі Авесты, можа быць зразумета толькі з пастаральнага боку гледжання, не кажучы ўжо пра ўяўленне рая ў выглядзе выяваў із пастушынага жыцця са старым пастухом Йіма ў ролі ахоўніка шчаслівых.

Але побач ці над гэтымі адгалоскамі жывёлагадоўлі мы знаходзім у Авесьце невялікі пласт індагерманскіх міфаў і паданняў.

Так ў паданні Авесты пра Йіму – цара памёршых, паведамляецца, што канец сьвету будзе чымсьці накшталт зімы, поўнай халоду і змроку, із якой пазней павінен быў з’явіцца стан асалоды ў выглядзе вечнай вясны ў раю ў Йімы. Гэтае ўяўленне не адпавядае сістэме Заратустры, згодна з якой сьвет павінен загінуць праз полымя і толькі праведныя атрымаюць паратунак ад гэтай катастрофы. Але аўтары Вендыдады не ўсведамлялі гэтай супярэчнасьці і гэтае паданне змяшчаецца ў ліку шматлікіх іншых, як адзін із эпізодаў агульнага ходу сусьветных падзей. У іранскім паданні пра барацьбу героя Трэтаона са змеем Азі-Дахака мы знаходзім рысы, нагадваючыя нават германскія міфы, а таксама і апакаліптычныя

прадказанні. Так Дакхака, пераможаны героем, не забіты, а прывязаны да скалы Дземавенда і павінен знаходзіцца там да апошніх дзён, учыняючы сваімі канвульсіямі землятрусы. Так і ў германцаў зьмей Локі быў прывязаны Торам; і калі дракон перад рашучай бітвай вырываецца са сваіх кайданоў і ў шэрагах злыдняў выступае супраць багоў, то гэтае паданне зноў жа нагадвае міф пра ваўка Фенрыса.

Значна часьцей у Авесьце сустракаюцца супадзенні з індусамі. Сувязь паміж іранцамі і індусамі ў старажытнасьці прызнаецца такой цеснай, што кола паданняў Авесты шмат кім лічылася амаль адназначным з колам ведычных паданняў, і абедзве рэлігіі выводзіліся із аднаго агульнага кораня. Так, бог Мітра існуе і ў Ведах, і ў Авесьце, дзе ён дзейнічае ў якасьці судзьдзі памёршых. Але і ён, і сома, чароўны, ахвярны напой, агульны для абодвух народаў, дзіўным чынам не згадваецца ў гатах.

Больш трывалую падставу уяўляе сваяцтва паміж індыйскай назвай багоў асура і іранскім словам агура, якае ўтварае не толькі галоўную складовую частку ў найменні вышэйшай бога Агура-Мазда, але, як намінальнае імя, таксама пазначае ўвесь падначалены яму сьвет духаў. Тут мы знаходзім сапраўдную агульнасць, поўную значэння; шанаванне асураў (ад юдэйскага асур – правадыр), бясспрэчна быўшае асноўным культам у арыйскія часы, захавалася ў Іране і развілося там у афіцыйную тэалагію, між тым як у Індыі яно ўсё больш і больш замяшчалася ўшанаваннем дэваў. Але багі-дэвы ў іранскай рэлігіі вымушаны былі перадаць сваё найменне дз'яблам, цалкам падобна таму, як і ў Індыі асуры зрабіліся злымі істотамі. Дэвы былі багамі старажытных арыйцаў, якіх адкінула жрэцкая тэалогія і на якіх паціху пачалі глядзець як на дз'яблаў.

Як у індусаў існуе Яма, так і ў іранцаў бог Йіма (па-жыдоўску Эла-Ім), і можна даказаць, што першапачаткова гэта быў адзін і той жа бог, хаця у абодвух рэлігіях яны маюць далёка не адзін і той жа вобраз. Індыйскі Яма з’яўляецца перш за ўсё богам памёршых, царом апраметнай, а пярсідзкага Йіму ў гэтым значэнні мы сустракаем толькі ў выключных выпадках. Йіма ў іранцаў з'яўляецца айцом – заступнікам першабытнага чалавечецства і авесьцінская тэалогія робіць нават спробу пагадніць старажытнае шанаванне Йімы з пазнейшым шанаваннем Заратустры. Армузд (паведамляецца ў Вендзідадзе) спачатку абраў Йіму для таго, каб паведаміць на зямлю нябесную ісьціну. Але ён адмовіўся, пакідаючы гэта будучаму Заратустры і задаволіўся добрымі справамі: ахоўваць стварэнне, дапамагаць яму і рабіць яго шчасьлівым. У яго час быў залаты век, так Йіма быў самым бліскучым, самым заможным, самым цудоўным із асяроддзя народжаных, якому сьвяціла сонца. Усё жывучае так памножылася, што Йіма быў вымушаны да трох разоў пашырыць зямлю, каб знайсьці месца. У яго час не было ні халоду, ні спёкі, ні старасьці, ні сьмерці; ні вада, ні расьліны не высыхалі, а людзі і жывёлы былі несьмяротнымі і вечна юнымі.

Для высвятлення суадносін паміж Ведамі і Зенда-Вестай адзначым, што авестыйскае слова для пазначэння разумення “пераможны” – Вератрагна (г. азн. Забойца Врытры) пераконвае, што іранцы таксама мелі гэты міф. Слова захавалася ў найменні бога перамогі Вератрагні. Найменне Індра таксама існуе ў Авесьце, але толькі як найменне другараднага бога. Лічыцца, што Армузд з’яўляецца тым жа, чым і Варуна, што Тратаона – з’яўляецца індыйскім Трантана і г. д.

Але найбольшая частка авестыйскай рэлігіі ўзнікла на іранскай глебе. У Авесьце лічыцца, што для размяшчэння памёршых ладзіцца асобная пабудова

(дакма), але разам з тым згадваецца і пра першабытны спосаб выстаўлення ў гарах і іншых пустынных мясцовасьцях, і пра спаленне трупаў, таму што Авеста жвава паўстае супраць гэтага бязбожнага звычаю; але ўжо згаданае намі найменне пахавальнага месца “Дакма” (што азначае вогнішча) наводзіць на думку, што спаленьне раней было звычайным спосабам пахавання сярод іранцаў.

“Тут, – гаворыць д-р Леман, – існаваў сапраўдны культ полымя, а не толькі прызнанне яго ў якасьці сьвяшчэннай стыхіі; у гэтым заключаецца адрозненне ад індыйскага ўшанавання Агні; ўжо адно тое, што найменне полымя ў дзвух суседніх і роднасных народаў адрознае: у індусаў агні, а ў Авесьце атар – у вышэйшай ступені цікава”. У барацьбе са злосным пачаткам мы сустракаем полымя ў паданні пра бітву паміж Атарам і драконам за Царскую Славу. Армузд выпраўляе сваё полымя, а Арыман – дракона, каб завалодаць ёю. Яны перасьледуюць адзін другога, дракон набывае перавагу і Царская Слава ратуецца ўцёкамі ў возера Вурукаша, дзе Сын Вады бярэ яе пад сваю абарону. Адзін злы туранец голым кідаецца ў возера, каб выкрасьці яе, але возера паднімаецца і дае магчымасць Славе адплысьці далей. Тройчы паўтараецца адно і тое ж, і туранец, пры ўсёй сваёй спрытнасьці не можа яе схаціць. Яна прыплывае да цара Ірана і прыносіць яму ўрадлівасць, заможнасць і шанаванне, застаецца ў яго і ён знішчае ўсе не арыйскія народы.

Багі ў Авесьце маюць назву язаты (“годныя шанавання”), а ў клінападобных надпісах ўжываецца слова “бага” – рускае “бог”, адкуль багатыр. Затым ідзе яшчэ шэраг духаў, напалову багоў і герояў, а ўсяму гэтаму сьвету багоў супрацьстаіць царства дэманаў з дз'яблам Арыманам на чале.

Аўра-Мазда (ў клінападобных надпісах Аўрмазд, пазней Армузд) азначае мудры дух ці “гасподзь”. Гэта старажытны бог іранскіх плямёнаў. У адной ухвальнай песьні ён ушаноўваецца так:

“Я прызначаю гэтую ахвяру стваральніку Агура-Маздзе, прамяністаму, велічнаму, найвышэйшаму, непахіснаму, мудрэйшаму, пышнейшаму па целе, вышэйшаму па чысьціні, які стварыў нас і даў нам вобраз, свяцейшаму духу, які нас сілкуе”.

У іншым месцы ён мае назву “ведамі і мудрасьцю ўсёбачучы, дасканалай сьвятасьці, вышэйшай дабрадзейнасьці, непераможным абаронцай захавальнікаў”.

Ён паказваецца ў выглядзе цара з тыарай, з пярсцёнкам і са скіпетрам, а таксама з крыламі птушкі. Яго сьвятасць, чысьціня і справядлівасць – у Авесьце утвараюць траічнае адзінства. Ён утварыў гэты сьвет і часта мае назву стваральніка усіх рэчаў, хаця тэолагі і сцвярджаюць, што толькі рэчы, маючыя дачыненне да царства дабра бяруць ад яго свой пачатак. Шчасьлівым, якія вераць у яго і робяць учынкі згодна з яго справядлівасьцю, ён выяўляе сябе як дабрачынны захавальнік і памочнік. Уся прырода ахоўваецца ім, і калі ёсць патрэба, падтрымліваецца яго добрымі духамі, каб не псавалася, не вяла і не разбуралася.

Але хаця Ара-Мазда з’яўляецца самым нераадольным і цудоўным, аднак яго магутнасьць, як і хрысьціянскага бога, мае свае межы. На працягу гэтага сусветнага перыяду ён толькі з дапамогай чыстых магутнасьцей, і перш за ўсё, дзякуючы ўдзелу людзей, верачых у яго, атрымае канчатковую перамогу над праціўнікам Арыманам. Увесь культ Заратустры больш ці менш мае дачыненне да ўдзелу чалавечества ў перамозе над злым Арыманам.

Вакол Аўра-Мазды знаходзіцца яго небеснае атачэнне служак, сем “неўміручых сьвятых”, якія ўсе сямёра маюць адну і тую ж думку, выказваюць

адны і тыя ж словы, здзяйснаюць адны і тыя ж учынкі, “памятаючы благія думкі, словы і дзеі і назіраючы рай; шляхі іх сьветлыя; яны дапамагаюць прыносячаму ахвяру” (Яшты 17).

Двае найвялікшых з іх – дух Дабрамыснасьці і Справядлівасьці. Далей ідуць дух Жаданага Царства і дух Сьвятой пакоры, дух Дасканаласьці, дух Несьмяротнасьці і дух Паслухмянасьці. Абстрактны характар іхных найменняў навёў Дармстэтара на думка, што тут з’явіліся ідэі пазнейшай і чужой філасофіі. Ён згадвае пра неаплатанізм, асабліва ў яго філасофскай форме, і выказвае здагадку, што сучасная Авеста часткова уяўляе сабой яе адваротны пераклад з грэцкай мовы. Гэтую адважную згодна з яго часам здагадку ён распаўсюджвае і далей, даходзячы да высновы, што гімны, у якіх Амеша-Спента набывае значную ролю, як дзякуючы гэтай акалічнасьці, так роўна і ў лексічным дачыненні, утвараюць самую новую частку Авесты.

“Такія дзіўныя высновы, – усклікае Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 186), – спатрэбіліся для таго, каб растлумачыць здзіўляючы ідэалізм і абстрактнасць сямі несьмяротных сьвятых! Тым не менш іх ідэйны і ў той жа час асабісты характар з'яўляецца трывала ўсталяваным, як першапачатковае, грунтоўнае выказванне Заратустры. Такім чынам, Дух Справядлівасьці з'яўляецца і заступнікам полымя, дух Сьвятой пакоры заступнікам зямлі, дух Жаданага Царства – металлаў, дух Дабрамыснасьці – быдла, дух Дасканаласьці – расьлін, і дух Безсмяротнасьці – вады.

Усё ў сьвеце, згодна з Зенд-Авестай, размяркавана па сістэме класаў, з якіх кожны прызначаны пад назіранне нейкай пэўнага істоты. Гэты назіральнік мае назву ратун; ён з’яўляецца тыповым прадстаўніком свайго класу (якім, напрыклад, з’яўляецца ратун чатырохногіх) і ў той жа час правадыром, які кіруе гэтым класам і абараняе гэты класс. І на чале ўсёй гэтай кіруючай сістэмы стаяць Неўміручыя Святыя, як ратуны самага вышэйшага гатунку, якія, падобна міністрам, кіруюць сьветам ад імя Армузда і ажыццяўляюць яго волю. Гэтыя дзейныя духі ў рэлігійнай сьвядомасьці часта выходзяць на першы план і на іх глядзяць не толькі як на назіральнікаў і заступнікаў, але і як на стваральнікаў і кіраўнікоў сьвету; аднак жа правы Аўра-Мазды пры гэтым застаюцца непарушнымі, таму што ўсё тое, што стварылі сем Неўміручых, застаецца ўсё-такі тварэннем Мазды, заўсёды яму належачым сьветам, у якім яны толькі кіруюць, садзейнічаюць і падтрымліваюць упарадкаванне. Нават і яны самі па-сутнасьці яго тварэнні.

Знешні выгляд сямі Неўміручых сьвятых такі ж разнастайны, якімі рознымі з’яўляюцца і тыя рэлігійныя функцыі, якія яны выконваюць. Усе яны наогул уяўляюцца асабістымі істотамі. Так дух Сьвятой Пакоры з’яўляецца жаночай істотай і як багіня зямлі, жонка і дачка Аўра-Мазды, яна ж і маці першага чалавека (Гайомарэтана) і праз яго ўсіх людзей. Дух Добрамыснасьці, наадварот, мужчына; праз яго, як праз хрысьціянскі Логас, Армузд стварыў зямлю і гэты дух не толькі найвялікшы, але і із сямёркі створаны першым; праз яго было абвешчана слова закона; ён вартаўнік неба, які на сваім залатым пасадзе сустракае вызваліўшыяся душы. Духу Справядлівасьці (Аша-Вагісту) нададзена ўся законаздольнасць. У замагільным жыцці ён адказвае за выкананне прысудаў. У асабліва ж абстрактным выглядзе уяўляецца дух Божага царства, г. азн. будучага, чакаемага царства, якое мы імкнемся набыць самі і распаўсюдзіць у асяроддзі іншых людзей. Закончаныя ж абстракцыі ўяўляюць сабой і духі Дасканаласьці і Несьмяротнасьці. А Дух Паслухмянасьці уяўляецца, насупраць, у жывым пластычным выглядзе; ён

малюецца як жрэчаскі бог і нагадвае Агні. У прыродзе гэта бог ранішняй зоркі; яму прысьвечаны певень, які заклікае людзей да дзейнасьці і працы. А ноччу ён ахоўвае сядзібы і асяродак; асабліва ж дапамагае бедным і з паднятай зброяй абараняе стварэнні Мазды супраць нападу дэманаў. У яго заўсёды ёсць справы; ён не можа спаць. Перад ім схіляюцца ўсе дэманы і з жахам збягаюць ад яго ў пекла. Ён самы дужы, самы сьмелы, самы хуткі із юнакоў; ён едзе ў выглядзе ўзброенага дзідай ваяра на чатырох белых канях, бліскучых, хуткіх, залатакапытных; яго слаўныя палаты, падтрымліваемыя тысячай калон, пабудаваны на Эль-Урзе; іхнае нутро зіхаціць уласным сьвятлом, знешні бок падобны бляску зорак. Ахоўваючая дзейнасць духу Паслухмянасьці прасьціраецца таксама і на будучае жыццё чалавека; ён правадыр душ, суправаджаючы іх на поўным небяспек шляху памёршых. Ён жа суддзя над памёршымі. Ён таксама рыхтуе будучае жыццё і барацьбой, якую ён вядзе супраць дэманаў у апошнія часы сьвету заадно з Армуздам. Узнікае барацьба паміж ім і Эшма – дз'яблам, адпавядаючым апакаліптычнаму “зверу з сям’ю галавамі”, і толькі пасьля таго, як ён пераможа яго, Армузд зможа даравацць рай шчаслівым. Як цалкам развіўшыся бог, ён знаходзіцца ў сувязі з Міфрай, які чужы вучэнню Заратустры.

“Паходжанне пярсідзкай Міфры, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 189), – для нас невядома; ён з'яўляецца ўжо толькі ў больш позняй Авесьце(?), ужо з вялікай магутнасьцю і з правамі бога, набыўшага поўнае права грамадзянства. Паведамляецца, што Агура-Мазда стварыў яго такім жа вялікім і годным ахвяр, як і ён сам”.

Слова Мітра азначае ў Авесьце “вернасць” (як у санскрыцкай мітрам – сябар, падманваючы Міфру і клятвапарушальнік адназначныя словы). Але гэта яшчэ не азначае, што такое значэнне не прыйшло сюды із Вялікай Рамеі, дзе Мітра – азначае па-грэцку каранаваны.

Хто парушае клятву яму, той апаганьвае краіну так, як сто ерэтыкоў, і яго ўразіць Міфра, які мае тысячу вушэй і тысячу вачэй, пільны і спрытны, каней якога ніхто не можа дагнаць. У гневе ён разбурае тую сядзібу, вёску, горад, краіну, дзе хто-небудзь дзейнічае супраць яго. Але хто захоўвае яму вернасць і ўшаноўвае яго ахвярамі, таму ён пасылае дабраславенне і перамогу. Калі сам ён не бог сонца, то яго прадвеснік, “які, як першы неўміручы сьвяты, ўзыходзіць над Эльбрус” наперадзе сонца, першым дасягае яго залацістых чароўных вяршыняў і аглядае ўсе арыйскія (г. азн. арыянскія) ўладанні. Але ўжо само яго ўзыходжанне над Эльбрускім хрыбтом на паўднёвым беразе Каспійскага мора паказвае нам, што міф пра яго прыйшоў із захаду праз хрысьціянскую Арменію, гісторыя якой аж да Баграцідаў (859-1046) павінна лічыцца міфам, у які маглі быць уключаны шляхам перамяшання падобных імёнаў дэталі нават із германскага жыцця.

Юнацкі выгляд, у якім Мітра з'яўляецца ў Яштах і пазней перамагае палову сьвету, міжволі сбліжае яго з імператарам Юліянам, які знішчыў арыянскі культ сузор'я Цяляці і замяніў яго шанаваннем сузор'я Авена, згараючага у полымі вечаровай зарніцы пры наступленні веснавога раўнадзенства.

Багіня Анагіта, згадваемая разам з Мітрай у надпісе Артаксеркса Мнемона, бяспрэчна, прыйшла ад арыян. Характар яе культу прама сведчыць пра сяміцкае паходжанне. Магутная і цнатлівая, яна прымушае ўсе струмені і моры разліваацца па сямі частках сьвету і сама мае назву вялікага струменя, які цячэ з гор у акіян. Яна ў мужчыну ўкладае семя, у жанчыну зародак, дае паспяховае вызваленне ад цяжарнасьці і своечасова гатуе малако ў грудзях маці.

Анагіта малюецца ў выглядзе жанчыны моцнай, прамяністай і чароўнай, з поўнымі белымі рукамі. Яе культ, як паведамляе Страбон, ладзіўся пасярод

шматлікіх цырымоній, каля рэк і азёр. І ў яе храмах, якія ў пазьнейшыя часы знаходзіліся ў глыбіні Арменіі, маладыя дзяўчаты павінны былі прасьцітуіраваць ў гонар багіні; грэцкі апавядальнік паведамляе, што дочкі лепшых сямействаў аддаваліся гэтаму служэнню і што гэта не лічылася для іх ганебным. Гэтая рыса паказвае нам, што мы тут маем справу з адной із формаў культу Міліты, або Астарты, які распаўсюдзіўся па ўсёй пярэдняй Азіі[157]. А яе выява прама нагадвае хрысьціянскую панну Марыю. (мал.)

Вельмі часта ў Авесьце згадваюцца анёлы-ахоўнікі – фравашы (новапярсідзкае фервер); цэлы доўгі гімн (яшт 13) прысвечаны ім адным. “Яны больш велічныя, моцныя і пераможныя, чым можна выказаць славамі; дзе існуюць людзі ахвотна ахвяруючыя, яны з'яўляюцца туды 10 000 разоў; у бітвах яны змагаюцца кожны за сваё ўласнае жыллё і сваю радзіму, падобна таму, як абараняецца герой ці сьмелы ваяр на калясьніцы, падпярэзаны калчанам. Калі яны добразычліва ставяцца да людзей, то прыходзяць да іх падобна чароўным акрыленым птушкам; з'яўляюцца для іх мячом і шчытом, наступленнем і абаронай ад злых духаў і няверных насільнікаў і супраць ўсе забіваючага, нявернага Арымана, падобна таму, як дужы чалавек абараняе слабога. Але гэтыя анёлы маляваліся ў выглядзе ягіпецкіх сфінксаў, чым і выяўляецца, што іхны культ прыйшоў із рамейскага Ягіпта.

Натуральны згодна з самой сваёй прыродай рэлігійна-філасофскі дуалізм, так нязграбна затушаваны ў найноўшым хрысьціянскім вучэнні больш позняй ідэяй пра ўсемагутнасць Стваральніка Сьвету, які на справе ўсё ж не здольны да гэтага часу справіцца з сатаной, выяўляецца ў Зенда-Весьце яшчэ ў поўнай меры.

“І на начатку існавалі два духі, падобныя двайнятам, і кожны з іх быў сам па сабе”. Калі яны сустрэліся, то стварылі перш за ўсё жыццё і смерць і вызначылі, каб апраметная служыла для злых, а неба для праведных. Злы дух выбраў для сябе нядобрую справу, а сьвяты дух праведную, і абраў сабе тых, якія чыстымі ўчынкамі дагаджаюць Аўра-Маздзе.

Усё сусьветнае жыццё уяўляе бесперапынна працягваючуюся барацьбу паміж гэтымі двума магутнасцьмі, і сусьветная задача складаецца ў пераадоленні зла і аднаўленні адзінаўладдзя Армузда і яго пасьлядоўнікаў. Арыман (у Авесьце Ангра-Майнью) азначае дух пакуты. Падобна Армузду, ён дзейнічае не як персанальны дз'ябал, а хутчэй як дух супярэчнасьці; дакладна таксама і Армузд, у супрацьлегласць яму разумеецца заўсёды як Спента Майніу – сьвяты дух. Але як Армузд аточаны сваімі неўміручымі сьвятымі, так і Арыман загадвае бясконцай процьмай дэманаў, ведзьмаў і пачвараў, якія выконваюць у жыцці яго злыя намеры. Агульная назва для гэтых дэманаў дэва (новапярсідзкае дэў) было ў больш раннюю рэлігійную эпоху найменнем багоў. Яны уяўляюцца як прынцыпова падманваючыя духі, выдаючыя зло за дабро і лічачыя яго такім, і Арыман не толькі думае, што ён можа дапамагчы злу здабыць перамогу, але ён тым самым робіць шчаслівымі сваіх духаў. Із іх друджы ўяўляюць дэманаў-жанчын, із якіх адна мае асабістую назву Друдж (ашуканка). Яна водзіцца з нячыстымі людзьмі і ўдзельнічае з імі ў разнастайных злачынствах; у яе чатыры палюбоўнікі: той, хто не дае верніку падаяння; той, хто апаганьвае сваю нагу ўласнай мачой; той, хто губляе сваё семя; і той, хто не носіць сьвяшчэнны пояс. Але калі хто адкупляе гэтыя грахі, тады ён як “воўк” вырываецца із яе абдымкаў.

[157] Яшт 5, а таксама Віндзішман: Пярсідзкая Анагіта, 1956.

Увесь сьвет напоўнены мужчынскімі і жаночымі чарцямі, ва ўсіх кутках яны вядуць сваю гульню; ніводзін дом, ніводзін чалавек не абаронены ад іх, і патрэбна здзяйсняць штодзённыя ачышчэнні, ахвяраванні, малітвы і заклінанні, каб аддаліць іх ад сябе. Ўсякае зло і загана з’яўляецца справай пэўнага чорта і да іх далучаецца яшчэ незлічоная колькосць пачвараў: ведзьмакі (Яты), дзейнічаючыя з дапамогай вераломных фокусаў, пайрыкі (грэцкія паркі) – злыя феі і ведзьмы, больш вядомыя пад новапярсідзкай назвай перы; і пасьля сьмерці ўсякі няверны ператвараецца ў злы прывід.

Схільнасць персаў лічыць дз'ябальскім усё ім варожае, выяўляецца ў тым, што грэкі і рымляне, туркі і арабы малююцца імі ў якасьці ваяроў Арымана.

Злыя духі магуць быць як бачнымі так і нябачнымі, як адчувальнымі так і неадчувальнымі. Галоўнае іх месцазнаходжанне знаходзіцца на поўначы, так як ім прыемны халод і змрок; але яны жывуць і ва ўсякіх глухіх месцах: на магілах, у пустынях і гарах; таксама ж і ў сярэдзіне зямлію Як і ва ўсіх міфалогіях, існуе апраметная для дз'яблаў. А першапачатковае жыллё Арымана пераносіцца ў марскую бездань.

Гэтая война злых і добрых духаў вядзецца ва ўсіх сферах. Ужо пры ўтварэнні сьвету Арыман, у супрацьлегласць кожнай добрай зямлі, створанай Армуздам, адразу ж утварыў іншую зямлю; насуперак добраму клімату – з благім; насуперак добрым жывёлам – атрутныя і г. д. Усё, што аголена і пустое: балота і твань, скала і стэп, з'яўляецца прывабным для яго.

9999 хвароб разаслаў Арыман па зямлі і Армузд быў вымушаны пайсьці да старога Арыяманы, свайго родзіча із роду Асур, і вялікімі абяцаннямі заахвоціць яго да таго, каб ён выдаліў іх. З дэманічных паходжаннем хвароб пагадняецца і тое, што паведамляецца пра лекавальнае майстэрства: што із трох лякуючых сродкаў нажа, пітва і замаўлення, заўсёды пажаданы апошні. Але разуменне пра хваробы ў Авесьце распаўсюджваецца і на недахопы чалавека, а багі лічацца лекарамі, валодаючымі лекамі. Сама будучая дасканаласць уяўляецца ў выглядзе аднаўлення першапачатковага здароўя і стану адсутнасьці грахоў.

Арыман імкнецца садзейнічаць сьмерці вернікаў і чым больш дабрадзейным быў памёршы, тым большым з’яўляецца трыумф дз’ябла. Але калі памірае адзін із няверных, то гэтая страта для дэманскага царства суправаджаецца жалобнымі крыкамі дэманаў.

Сьвятары Авесты, нягледзячы на іхнае найменне атраваны, захавалі і сваю першапачатковую назву – магі, г. азн. магутныя, як іх называлі грэкі. Гэтае найменне сустракаецца таксама і ў сьвятой літаратуры і нават да гэтага часу ў найменні Мабед <...>. Кожны мог стаць сьвятаром, але, як і ў хрысьціян, выкананне рытуалу пасьвячэння ў святарства было дазволена толькі прысьвечаным, так што кожны, хто здзяйсняў ахвяраванні ці ачышчэнні, не будучы прысвечаным, лічыўся сьмяротным грэшнікам і прысуджаўся да цяжкіх пакаранняў уключна да адсякання галавы, здзірання скуры і сьмерці на жэрдцы.

Заняткі сьвятароў складаліся не толькі ў ладкаванні царкоўнай служэнняў, але таксама і ў здзяйсненні хатніх, і ў абодвух выпадках іхная дзейнасць мела механічны характар. Фарсі даісламскі рытуал быў не такім цяжкім і складаным, як індыйскі, і ў ім не было месца для разнастайных увеселенняў, што часта суправаджала ведыйскія ахвярныя сьвяты. Запальванне сьвяшчэннага полымя, ужыванне спіртутрымліваючай сомы, падніманне ўверх ахвярных галінак здзяйснялася з педантычнай дакладнасьцю; чытанне гімнаў і малітваў, якія

часткова чыталіся гучна, і часткова вымаўляліся пра сябе, з паўтарэннямі і аднымі і тымі ж прыпевамі, былі манатоннымі і пазбаўленымі зместу. Замаўленні, як можна бачыць на прыкладзе Яшт, часта уяўлялі сабой бясконцыя паўтарэнні пустых імянных спісаў, хаця у адным месцы Зенда-Весты і гаворыцца:

“Бываюць шмат якія людзі, шаноўны Заратустра, – прамовіў Аўра-Мазда, – якія носяць павязкі на вуснах, але якія не перавязваюць свае сьцёгны законам. Калі такі чалавек кажа: “я – сьвятар”, тады ён хлусіць; я не называю яго сьвятаром, шаноўны Заратустра. Ты павінен называць сьвятаром, шаноўны Заратустра таго, хто на працугу ўсёй ночы сядзіць, не засынаючы, і імкнецца да сьвятой мудрасьці, якая дазваляе чалавеку стаяць без баязьні на мосьце сьмерці, той мудрасьці, дзякуючы якой яны дасягаюць сьвятога, чароўнага райскага сьвету”.

Культ полымя, які ўтварае складовую частку авестыйскага служэння багам, не быў, відаць, першапачаткова злучаны з храмам; ранейшыя сьвятары, гэтак жа, як у наш час мабеды, насілі з сабой пераносныя ахвярнікі з пылаючым у ім полымем, каб ва ўсякім месцы мець магчымасць наладзіць служэнне; аднак служэнне ў храмах было самым важным і храмы ўжо ў першапачатковыя часы былі ў Персіі значнымі пабудовамі.

Пра іх можна скласьці ўяўленне грунтуючыся часткова на парэштках, часткова на выглядзе сучасных храмаў. Іхным сьвятым месцам з'яўляецца памяшканне, дзе на ахвярніку гарыць полымя; яно знаходзіцца ўнутры пабудовы і добра ўмацавана з усіх бакоў, асабліва супраць пранікнення вонкавага сьвету. Там, на квадратным камені, у металічнай пасудзіне, напоўненай попелам, і гарыць сьвятое полымя (мал.).

Ад гэтага вогнішча і бярэцца кожнае новае вогнішча, якое павінна гарэць у сядзібах. Адсюль мы бачым, што ў тыя часы, калі яшчэ не былі вынайдзены агніва і запалкі, храмы манапалізавалі ў сабе забяспячэнне насельніцтва полымем, стаўшым ужо неабходным для людзей, якія прызвычаіліся да варанай ежы. У ахвярным памяшканні для гэтага заўсёды знаходзіліся звязкі дроў і сухое галлё. У іншых памяшканнях ладзіліся літургічныя служэнні, а каля храмавых калодзежаў ладзіліся сьвятыя абмыванні, адпавядаючыя хрышчэнню ў хрысьціян. Нарэшце, пры храме існаваў сад з дрэвамі, за якімі старанна даглядалі.

Асаблівае значэння ў кульце Зенд-Авесты мелі ахвярныя галінкі, маючыя назву барэсман і, магчыма, знаходзячыяся ў сувязі з ведыйскай барыс, ахвярнай травой. Але яны не раскідаліся ў якасьці падсьцілкі для сядзення багоў, а іх бралі ў рукі і ўрачыста паднімалі ўверх. Іх належала зразаць з дрэваў пры чытанні адпаведных тэкстаў, і пры выкананні цырымоній, у вызначаны час, павярнуўшыся тварам да сонца. Затым яны дастаўляліся ў храм у якасьці сродку выкуплення рытуальных правін. Адпавядаючы прычашчальнаму віну хрысьціян спіртазмяшчаючы напой гаома (відавочна той жа, што і індыйскі сома) у Авесьце яшчэ не ўзводзіцца на прыступку боскасьці, як у Ведах. Пры ўсіх ухваленнях яго боскасьці, ён усё так жа застаецца ахвяравальным напоем; але ў велічы свайго значэння гаома не ўступае ніякаму богу; нават багі і героі прыносілі ахвяры выходзячаму ад яго ап'яняючаму сьвятаму духу і прасілі ў яго сабе ласкі. Ухвалы ў яго гонар праходзяць праз усю Авесту; праслаўляецца зямля, аблокі і дождж, якія даюць рост выракляючым яго раслінам. На самых высокіх вяршынях Эльбруса апускаецца з неба, поўны нябесных магутнасьцей і ратуючых уласьцівасьцей, усё можа даць чароўны дух, атрымліваемы ад закісання гаомы і ўсё лекаваць. Ён дае мудрасць і шчасьце, робіць сэрца жабрака аднолькавым з сэрцам заможнага, усе

дз'яблы знікаюць у адно імгненне з той сядзібы, куды прыносіцца выратавальны святы дух сьпірту і дзе яго ўшаноўваюць. Сапраўды ён моцны, мудры, сьвяты дух.

Не толькі гаворыцца, што самая нязначная колькасць свяшчэннага спірту здольна прагнаць 1000 дз'яблаў, але нават і прылады для яго падрыхтоўкі лічацца вялікімі сьвятынямі і ім моляцца ва ўхвальных песьнях:

"О, наймудрэйшы, мы ўшаноўваем ніжнюю частку прэса, якая ўтрымлівае сцяблiны спіртаносной гаомы; о, наймудрэйшы, мы ўшаноўваем і верхнюю частку гэтага прэсу, якую я цісну моцнай мужнай рукой", і калі дз'ябал запытвае Заратустру, якой зброяй ён будзе знішчаць зло, той адказвае: "сьвятыя ступы, святыя чаркі, святы спірт гаомы і словы, якім навучыў Мазда, вось мая зброя!"

Такім чынам адбіўся звычай прычашчэння вінаградным віном і хлебам у цэрквах ўсходне-хрысьціянскага веравызнання на рэлігіях ўнутранай Азіі!

Пры ўсіх гэтых цырымоніях рэлігіі Зенд-Авесты вялікае значэнне маюць ахвярныя песьні, замаўленні, малітвы і вызнанні веры. Пасьля слоў: "я адракаюся ад Сатаны", – пастаянна ідзе: "Веру ў Мазду", і гэтае прызнанне мае сваю пэўную і асьвечаную формулу, як і другі пункт веравызнання: "шчаслівы чалавек, справядлівасць якога дасканалая".

У Ясне гаворыцца: калі толькі ведаць сімвал веры на памяць і беспамылкова прамаўляць яго, то можна шчасьліва перайсьці праз сьмерць да вышэйшай асалоды, але калі не памятаць яго траціну або чвэрць, то можна аддаліцца ад неба так далёка, якой шырокай і працяглай з'яўляецца зямля.

Шмат ачышчэнняў, звычаяў, і адкупленняў спадарожнічала культу Зенда-Весты. За спаленьне трупа ў якой бы то ні было форме прызначалася сьмяротнае пакаранне і даюцца дакладныя ўказанні, якім чынам патрэбна ачысьціць апаганенае такой ганебнай справай полымя. Калі веруючы ў Мазду знаходзіць у вадзе падлу, ён павінен ачысьціць ад яе сьвяты элемент, а апаганеная вада павінна быць адведзена, раней чым хто-небудзь зможа напіцца із гэтага ручая або сажалкі. Калі карова ела апаганеную падлам траву, то яе малако, на працягу вызначанага перыяду не можа ўжывацца ў ежу, у ім пасяляецца дз'ябал.

На працягу цэлага года ніва, на якой знойдзены мёртвы чалавек ці сабака, павінна ляжаць пад парам, і калі хто-небудзь наўмысна выкіне іх на ніву, то яму павінна быць прызначана строгае пакаянне.

Наколькі жанчынам даводзілася пакутаваць ад гэтага захаплення ачышчэннямі, відаць із таго, што павінна была зведваць жанчына пасьля выкідышу. На сухім, вольным ад вады месцы, далёка ад полымя, у аддаленні ад быдла, ад вернікаў, павінен быць пабудаваны драўляны загон, у якім яна павінна была адседзець тры дні і тры ночы; затым яна павінна была выпіць бычыную мачу, перамешаную з попелам, каб ачысціць ў сабе месца сьмерці; патым ёй дазвалялася прымаць маленькімі порцыямі вараную ежу, а ваду можна было піць толькі пасьля выканання прызначаных цырымоній, так як святы элемент не павінен без іх заходзіць у яе нячыстае цела. Падобным жа чынам жанчына павінна рабіць і пры звычайным наступленні менструацый, і характэрна тое, што ў такім выпадку ёй прызначалацца надзвычай строгая дыета, каб дз'ябал у ёй памёр з голаду. Звычайным жа сродкам ачышчэння служылі разнастайныя замаўленні, із якіх некаторыя захаваліся ў Авесьце.

"Я адмаўляю ўладу злых чарцей, благіх, ілжывых, злонамераных; я адмаўляюся ад чарцей і іхных прыхільнікаў, чараўнікоў і іхных прыхільнікаў, у думках, у словах і дзеяннях і ў знешніх адзнаках", а далей гаворыцца пра іхнае

выгнанне: “з гэтай сядзібы, з гэтай вёскі, із гэтай акругі, із гэтай краіны”. Абмыванні здзяйсняліся ў вялікіх памерах, як у храмах, так і ў сядзібах. Самым дзейсным лічылася абмыванне бычынай мачой, якое звычайна здзяснялася на самым пачатку, што сбліжае персаў з іншымі народамі. У індусаў вада свяшчэннай каровы таксама з даўніх часоў лічылася ачышчаючым сродкам, а выпіванне мачы ражаніцамі можна канстатаваць яшчэ ў ліку нядаўніх забабонаў Яўропы. За абмываннем мачой ішлі абмыванні вадой, якая ўжо сама па сабе валодае асвячаючай магутнасьцю; з дапамогай абпырсквання ёю праганяўся дз’ябал, які зайшоў у чалавека, напрыклад, ад дакранання да трупа сабакі. Як толькі сьвятыя кроплі дасягалі цела, ён бег ім із цемені ў вуха, адтуль заскокваў на правае плячо, потым на левае, пазней у грудзі, у спіну і нарэшце выходзіць вонкі із пальцаў левай нагі.

Схільнасць да культурнага жыцця ўжо паўсюдна заўважаецца ў Авесьце. Не толькі пастушынае жыццё, якое малюецца ўзорам райскай славы, але і земляробства апісваецца як дабрабыт і дасканаласць. На пытанне, дзе зямля адчувае сябе шчасьлівейшай за ўсё, Агура Мазда адказвае: перш за ўсё там, дзе больш за ўсё здзяйсняецца ахвяраванняў, дзе падпарадкуюцца законам і ўзносіцца хвала багам, а затым ідзе і другі пункт: там, дзе веруючы чалавек наладжвае дом з жарнавамі і з быдлам, з жонкай і дзецьмі; там, дзе квітнее быдла і шануецца сьвятасць, і корм, і сабакі, і жанчыны, і дзеці, і полымя, і ўсякі дабрабыт. А ў трэццім пункце: “там, дзе вернік больш за ўсё вырабляе хлеба, і травы, і пладоў, дзе ён арашае сухую глебу і адводзіць ваду з сырой”, “таму што нешчаслівая тая глеба, якая доўга ляжыць неапрацаванай, у чаканні гаспадара, падобна дарослай дзяўчыне, якая ходзіць бяздзетнай ў пошуках чалавека; але хто абодвума рукамі працуе на зямлі, таму яна прыносіць дастатак, як каханая жонка прыносіць чалавеку свайго дзіцёнка”.

Чытач бачыць сам, што гэтыя радкі напісаны ўжо ў той час, калі існавала не толькі землярoбства, але і арашэнне. А ў Персіі ўсё гэта цалкам немагчыма без ўсеагульнага ўжывання жалезных прылад працы.

“Хто сее хлеб, той сее сьвятасць”, – гаворыцца ў Ведзідадзе, – “калі ўсходзіць ячмень, трымцяць чэрці; калі хлеб расьце добра, у чарцей <...>, яны не магуць заставацца ў доме, дзе сабрана шмат зерня. Для іх гэта тое ж самае, як калі б уставіць у іхную глотку распаленае жалеза.

А ў маральным дачыненні мы тут бачым нешта цалкам адваротнае евангельскаму вучэньню пра шчасьце жабракоў згодна з духам: “гаспадар лепшы, чым бяздомны; маючы ўласнасць лепшы, чым не маючы яе; бацька семейства лепшы, чым бяздзетны чалавек; беднасць – ганебная, калі яна з’яўляецца наступствам ляноты”, “Хто абодвума рукамі не апрацоўвае зямлю, той, сапраўды, павінен стаяць каля дзвярэй і выпрошваць ў выглядзе падаяння недаедкі тых, хто жыве ў дастатку”.

Шматлікасць дзяцей не толькі шануецца ў якасьці пажаданага падарунка (як бачым гэта і ў месіянцаў-юдэяў) багоў, але прызначаюцца строгія правілы для стасункаў паміж стацямі з заклапочанасьцю пра тое, каб дарэмна не прападалі ні намаганні, ні зародкі; хто зрабіў жанчыну цяжарнай, той павінен утрымліваць яе; хто ў непрызначаны час мае з ёю стасункі, або губіць зародак – варты сьмерці. Усе праявы стацевай ненатуральнасьці караюцца самым суровым чынам; яны абвяшчаюцца неадкупляемымі сьмяротнымі грахамі і ператвараюць чалавека ў дз'ябла пры жыцці, а пасьля сьмерці ў небяспечны прывід.

Дакладна так жа мы знаходзім у Зендавесьце і такія патрабаванні, якія паказваюць на цалкам выпрацаваныя формы маральнасьці, збліжаюшчыя гэтую кнігу з евангельскім вучэннем.

Вось, напрыклад, запавет: “Праклінаю дз'яблаў, прызнаю сябе прыхільнікам Мазды, пасьлядоўнікам Заратустры, ненавіснікам чарцей, ухваліцелем сямі Несьмяротных Сьвятых. Клянуся адрачыся ад крадзяжоў і выкрадання быдла; клянуся адмовіцца ад рабаванняў і спусташэньня вёсак веруючых у Мазду. Гаспадарам абяцаю вольнае перамяшчэнне і вольнае жыхарства, дзе б яны ні жылі тут на зямлі са сваімі статкамі. Са шчырай пакорай, з паднятай уверх рукой клянуся: надалей не буду рабаваць і спусташаць веруючыя ў Мазду суполкі, не буду нікому помсціць на целе, ні на крыві”. А вось і хатняе прывітанне: “Ды ўзвысіцца ў гэтай хаце пакарлівасць над непадпарадкаваннем, праўда над хлуснёй, мір над сваркамі, шчодрасць над скупасьцю, справядлівасць над несправядлівасьцю”.

Але яшчэ больш набліжаюцца да хрысьціянва такія месцы, як “царства нябеснае прызначанага для тых, хто дапамагае бедным”. Адпаведна гэтаму ў лік памагатых чарцей залічваецца кожны чалавек, які адмаўляе ў падаянні просячаму. Зенда-Веста паведамляе нам, што падчас ушанавання памёршых бедным сябрам суполкі давалася вопратка і іншыя падарункі і ўрачыста апавяшчалася, колькі памёршы пакінуў у спадчыну ад сваёй маёмасьці на карысць бедных і гэты звычай захаваўся ў парсаў Індыі да нашага часу і пры іхнай заможнасьці.

Зразумела, што там, дзе маральныя загады разумеюцца ў сэнсе запаветаў бога, іхнае парушэнне прызнаецца за грэх. Гэта да такой ступені праводзіцца ў Зенда-Весьце, што на ўвесь Вендзідад можна глядзець як на кодэкс грахоў: калі чалавек здзейсніў тое і тое ці тое і тое, то якое яму прызначаецца пакаранне і якое адкупленьне? Кожны грэх мае наступствам падвойнае пакаранне, адно на зямлі, і другое на небе. Першае выкупляецца з дапамогай ачышчэнняў, нябеснае ж пакаранне можна адкупіць толькі рэлігійнымі здзяйсненнямі. Але існуюць і неадкупныя грахі, якія не даруюцца ні тут, ні ў замагільным жыцці, тут яны караюцца сьмерцю, а на тым сьвеце пякельнымі пакутамі; гэта спаленьне трупаў, ядзенне падлы і ненатуральныя заганы. Спавяданне грахоў і абяцанне не рабіць іх зноў пры шматлікіх выпадках адкладваецца, але яно мае важную ролю на сьмяротным ложку і ў маленьнях пры памінанні памёршых, хаця у Авесьце цалкам не згадваецца пра апраўданне верай.

# Глава VII.

## Зенда-Веста ў выглядзе характарыстыкі яе сучасных апалагетаў.

Адсутнічае.

# Глава VIII

## Гэта старажытная гісторыя ці проста сучасная літаратура гебраў-парсаў, выпрацаваная пад уплывам Апакаліпсіса?

Калі меркаваць грунтуючыся на забабонных звычаях, існуючых у невялікай колькасьці і да гэтага часу ў Індыі і амаль ужо аеўрапеіўшыхся гебраў (або парсаў), то момант сьмерці ўяўляецца для веруючага ў Мазду асабліва небяспечным, так як у той жа час з'яўляюцца дз'яблы і ўзнікае патрэбнасць выкарыстаць усе намаганні, каб вызваліць ад іх як памёршага так і саміх сябе. Вось чаму замаўленні і ачышчэнні, малітвы і ахвяры спадарожнічаюць памёршаму да таго часу, пакуль яшчэ магчымы напад на яго з боку злых духаў.

Паміраючы абмываецца і апранаецца ў чыстую вопратку; затым запрашаецца сьвятар, які чытае спавяданне грахоў, паўтараемае паміраючым і залівае яму ў рот ці вуха пітво сьвятога віннага духу – гаому, пітво неўміручасьці, рыхтуючае яго да вечнасьці. Калі ж наступіла сьмерць, і труп яшчэ раз зведае ачышчэнне і будзе пакладзены на насілкі, да яго ўжо ніхто не можа дакранацца, акрамя людзей, прыбіраючых яго, і насільшчыкаў, таму што ўжо ў момант сьмерці Арыман выпраўляе да сьмяротнага ложка трупнага чорта Назу (ад грэцкага <...>) у выглядзе трупнай мухі, і з гэтага моманту труп трапляе пад уладу чорта. Каб прагнаць яго, у пакой заводзяць чатырохвокую сабаку, гэта азначае сабаку з двума камякамі воўны на ілбе, таму што погляд сабакі з такімі адзнакамі знішчае дз'яблаў. Пакой асьвечваецца, дэзінфіцуецца, для чаго спальваюць духмянае дрэва накшталт сандалавага. Каля пасудзіны з полымем, але не бліжэй за тры крокі ад памёрша, сядзіць запрошаны сьвятар і, не спыняючыся, чытае із Авесты пахавальныя малітвы. Паблізу ад трупа павінны знаходзіцца не менш чым два чалавекі, каб адганяць дэманаў. Хутка з'яўляюцца насільшчыкі, якія таксама пастаянна павінны быць па двое; яны апрануты ў белае адзенне і старанна асьцерагаюцца ад якога б то ні было забруджвання вопраткі. Труп нясецца імі да месца пахавання на насілках, зробленых із жалеза, а не са скважыстага дрэва, і суправаджаецца сваякамі, сябрамі і жрацамі. Перанясенне не павінна здзяйсняцца ноччу, і толькі ў выглядзе выключэння ў дажджлівае надвор'е, каб дэманы не былі занадта моцнымі і каб свяшченая вада не зведала апаганьвання.

Месцам пахавання, куды змяшчаецца труп, і да гэтага часу з’яўляецца дакма, г. азн. вежа трупаў, нячыстае месца, размешчанае ўдалечыні ад горада. На некаторай вызначанай адлегласьці ад яе пахавальная працэсія павінна развітацца з памёршым, што суправаджаецца малітвамі і ачышчальнымі звычаямі. Дакма з’яўляецца шырокай цыліндрычнай пабудовай, каля дванаццаці футаў вышыні, дах якой прыстасаваны для прыняцця трупаў. Пачынаючы ад краёў пабудовы, ён коса апускаецца да сярэдзіны, дзе знаходзіцца адтуліну, накшталт калодежа, зачыняемая крышкай. Трупы кладуцца на дах канцэнтрычнымі шэрагамі, прычым з іх павінна быць знята ўсё адзенне; затым яны пакідаюцца на лёс стыхій і трупаядных жывёл, якія жывуць каля дакмы, асабліва крумкачоў і каршакаў, лётаючыя статкамі каля ўсіх месцаў пахавання.

Калі труп з'едзены ці высах, то косткі скідваюцца насільшчыкамі ў калодзеж, дзе і застаюцца да таго часу, пакуль існуе дакма. Пасьля заканчэння шэрагу гадоў, згодна з запаветамі Авесты, дакма павінна быць разбуранай; такая справа ставіцца ў вялікую заслугу і мае наступствам адпушчэнне шматлікіх грахоў; аднак у рэчаіснасьці яна і раней выконвалася рэдка, а зараз і цалкам не выконваецца.

Мэта дакмы складаецца ў тым, каб пахаванне здзяйснялася з магчыма найменшым судотыкам са сьвятымі стыхіямі. Полымя пры гэтым не выкарыстоўваецца цалкам; вада з дапамогай старанна наладжанай у сьцяне дакмы сістэмы дрэнажу і фільтравання адводзіцца ад нахільна ляжачых трупаў як мага

хутчэй і як магчыма ў найбольш чыстым выглядзе. Судотык з зямлёй папярэджваецца сімвалічна тым, што чатыры драўляныя слупы, служачыя падмуркам дакмы, абвязваюцца залатым або шарсьцяным шнурком, што павінна азначаць, што ўся пабудова знаходзіцца ў паветры. Адносна апошняй стыхіі, зразумела, немагчыма ніякае адмежаванне, але пры гэтым разлік робіцца на пераважнае знішчэнне трупа нячыстымі жывёламі і птушкамі.

У парсійскіх суполках Індыі яшчэ і зараз існуе некалькі дакмаў; у наш час яны маюць назву “вежы цішыні” таму што знаходзяцца ў бязлюдных месцах; толькі насільшчыкі трупаў бываюць каля іх. Тое што каля дакмаў водзяцца чэрці, якія кожную ноч, з усімі сваімі хваробамі і брудам, бегаюць вакол іх, скачуць, балююць, п'юць і савакупляюцца – усё гэта, зразумела, само сабой, і пра гэта з лішкам і падрабязна паведамляецца ў Авесьце.

У першы дзень пасьля пахавання пачынаецца сьвята ў гонар памёршага. Яно працягваецца тры дні, таму што павінна прайсьці тры дні перш, чым душа памёршага цалкам аддзеліцца ад зямной сферы і яе шлях у далёкі край замагільнага сьвету будзе закончаны.

Сьвята ў гонар памёршага здзяйсняецца часткова ў роднай хаце, часткова ў бліжэйшым храме шанавання полымя. Недалёка ад сядзібы нябожчыка, у тым месцы, дзе яго цела ляжала перад тым, як яго забралі, запальваецца вогнішча, якое гарыць тры дні, і лямпа, якая сьвеціць дзевяць дзён; тут жа ставіцца кружка з вадой, у якую сваякі памёршага кожную раніцу і кожны вечар ставяць свежыя кветкі. На працягу гэтых трох дзён бліжэйшыя сваякі памёршага павінны ўстрымлівацца ад усякай мясной ежы і наогул гатаваць ежу ў сядзібе нельга. У ёй спраўляюцца штодзённыя малітвы з асаблівай урачыстасьцю. Але вышэйшы пункт хатняга сьвята складаецца ў цырымонні, якая адбываецца вечарам ад таго часу, калі з'явяцца зоркі, да паловы ночы. Яна мае назву “сьвята божай ласкі”. Два сьвятары сядзяць адзін насупраць другога і трымаюць у руках кветкі, чітаючы ў той жа час малітвы; пад час гэтай цырымоніі сьпяваецца гімн “добраславенне праведнага”.

Святкаванне ў храме, здзяйсняемае на наступны дзень, мае характар памінальнай службы; яго свяшчэннадзейная частка заключаецца ў прынясенні хлеба у ахвяру Духу Паслухмянасьці. Гэтая плоская аладка пасьля гэтага раздаецца усім удзельнікам ахвярапрынашэння; затым здзяйсняецца ахвяраванне Віннаму Духу (гаоме) і чытанні із Ясны, або із Вендзідады. На трэцці дзень сьвятары, сваякі і сябры збіраюцца на агульнае сьвята; раздаюцца падаянні бедным і паведамляюцца дакументы пра ахвяраванні зробленыя памёршым на карысць суполкі, суправаджаемыя, калі яны вялікія, падзячнымі ўшанаваннямі памёршага з боку суполкі.

На чацьвёрты дзень са світаннем святкаванне дасягае свайго наівышэйшага развіцця; у гэты самы момант вырашаецца лёс душы; пагэтаму патрэбна быць нястомнымі ў малітвалах і шчодрымі на ахвяры; яшчэ раз Духу Паслухмянасьці прыносяцца ў дар аладкі і “ахвяра правядных”. Гэтым заканчваецца рэлігійная частка сьвята, і яго ўдзельнікі магуць піраваць. У ліку падарункаў, раздаваемых падчас піравання, знаходзіцца новае адзенне для сьвятароў і для бедных, а калі не даць іх сьвятарам, то на жахлівы суд памёршы зьявіцца голым і будзе вымушаны саромецца.

Пазбаўленая цела душа ў гэтыя дні бывае вельмі адчувальнай і ласкавай, як толькі што народжанае дзіця, якае не здольна самастойна знайсьці дарогу; патрэбна каб Дух Паслухмянасьці прыняў яе, як дабрая бабка-павітуха, карміў і клапаціўся

пра яе, каб яна набралася моцы для цяжкага і жахлівага шляху; патрэбна таксама, каб на зямлі гарэла шмат вогнішчаў, якія адганяюць дэманаў, так як Дух Паслухмянасьці, падтрымліваемы богам Перамогі, падымаецца разам з душой; на шляху ў паветры іх моцна праследуюць дэманы, імкнучыся выкрасьці душу.

У верхнім паветраным пласьце ўзвышаецца зіхацячы мост ветру ад гары, якая знаходзіцца пасярэдзіне сьвету, да вяршыні Эльбурза. Да яго далятае Дух Паслухмянасьці з вызваленымі душамі, калі іхныя добрыя справы былі дастатковымі для таго, каб выратаваць іх ад дэманаскага нападу. Тут, на сусветнай гары, пры пачатку маста, адбываецца першы суд над душой. Суддзяць трое: Мітра – бог Справялівасьці, Дух Паслухмянасьці і Рашну з шалямі. Мітра, у якасьці старшыні, кіруе паседжаннем і абвяшчае прысуд; побач з ім знаходзіцца Рашну з "шалямі духаў, якія не адхіляюцца ні на волас дзеля дагаджэння нейкаму чалавеку і аднолькава ўзважваюць як цароў і валадароў, так і бедных і нікчэмных людзей". Тут узважваюцца ўчынкі людзей, і добрыя параўноўваюцца са злымі на падставе самай строгай справядлівасьці. Дапамагаюць толькі выратавальныя споведзі: як спавяданне грахоў самой душой і яе сябрамі, так і спавяданне веры. Яны далучаюць сваю вагу да той чашкі шаляў, на якой ляжаць добрыя справы, і магуць прымусіць яе апусьціцца. Але нават у тым выпадку, калі добрыя справы пераважваюць злыя, суд яшчэ доўга не залічвае апошнія адкупленні; яны караюцца адно за другім рознымі пакараннямі, выконваемымі тут жа на месцы, і толькі пасьля гэтага душа можа ісьці на неба праз мост. Для праведнага ён шырокі як вуліца, для асуджанага ён вузкі як волас, і ён падае з яго ў прорву пекла, жахліва зіяючую пад мастом.

А калі праведны, суправаджаемы Духам Паслухмянасьці, пяройдзе праз мост, ён ужо здалёк адчувае, як насустрач яму вее духмяны арамат рая, і ў гэтым пахучым паветры каля дзвярэй неба душу ласкава сустракае высокая прамяністая дзяўчына. Душа пытаецца:

– Хто ты, дзяўчына, найпрыгажэйшая із бачаных мной жанчын?

– Чалавек добрых думак, слоў і справаў! Я твая добрая вера, тваё ўласнае спавяданне. Ты быў усімі шануемы за тваю веліч, дабрыню і прыгажосць, за тваю духмянасць і пераможную магутнасць, бо і ты мяне шанаваў за маю веліч, маю дабрыню і прыгажосць. Калі ты бачыў чалавека які жыве легкадумна, бязбожна і ў нянавісьці, хаваючага свой хлеб, то ты садзіўся каля яго і спяваў гімны і прыносіў ахвяры вогнішчу Аура-Мазды, а праведнага ты падбадзёрваў, адкуль бы ён ні прыходзіў: з блізкіх месцаў ці із далёку.

З такімі славамі яна вядзе душу ў памяшканне шчаслівых. Першы яе крок прыводзіць да добрых думак, другі – да добрых словаў, трэцці – да добрых спраў і праз гэтыя тры пераддзверры раю душа дасягае яго і заходзіць у вечнае сьвятло (яшт 22).

Аднак жа суд над асобамі не з'яўляецца апошнім словам Зенд-Авесты. У ёй гаворка ідзе і пра больш важныя рэчы: пра канчатковае знішчэнне зла, пра ўсталяванне аднаасобнага валадарання Аўра-Мазды, пры якім шчаслівыя праведные будуць жыць з ім вечна. Да гэтага заканчэння сусветнай гісторыі, ужо з самага пачатку існаваўшага ў прызначэннях Армузда, накіраваны погляды ўсіх вернікаў. Як і ў хрысьціянскіх прадказаннях, мы тут сустракаем згадкі пра "прышэсьце царства" у бліжэйшым будучым.

“Апошнія часы” – гэта тры апошнія із дзевяці тысячагоддзяў вялікай сусветнай гісторыі, пад час якіх магутнасць зла ўяўляецца пераважаючай, але існуе і міласэрднасць.

Пры наступленні гэтага часу з'явяцца знаменні на сонцы і на месяцы; адбудуцца шматлікія землятрусы, вецер ператворыцца ў буран; у сьвеце знікнуць смутак і пакуты, і ворагі з'явяцца сотнямі і тысячамі: грэкі, туркі арабы кінуцца на Іран і спустошаць яго вобласьці. Калі нехта яшчэ і зможа выратаваць сваё жыццё, то ўжо не будзе мець магчымасьці выратаваць сваю жонку, дзіцёнка або маёмасць. Калі ж дэманы з распушанымі валасамі наблізяцца з Усходу, тады з'явіцца чорнае знаманне і Гушадар (г. азн. Гасудар), сын Заратустры, народзіцца на возеры Фраздан. Ён герой першага тысячагоддзя. Ён збярэ незлічоную колькасць ваяроў із усіх арыйскіх краін і тры разы пераможа дз'яблаў са скуранымі паясамі так, што Эшма і ўсе дэманы вымушаны будуць ісьці да іх на дапамогу. Тады Аўра-Мазда выправіць Духа Паслухмянасьці і яго анёлаў, і ён натхніць на барацьбу сына Вістасаны (Гітаспа), каб ён зноў аднавіў валадаранне веры. Яны выйдуць, перамогуць і разгоняць дэманскае войска і спустошаць паганскія храмы. Тады час ваўка пройдзе і на зямлі пачнеца валадаранне ягняці. Другі сын прарока, Гушэдар-мах (Гасудар-мір) з’явіцца валадаром другога тысячагоддзя. Яму таксама давядзецца змагацца са злымі і дэманамі, але затым ён прынясе час замірэння, на працягу якога людзі зробяць такія поспехі ў лекавальным майстэрстве, што чалавека ўжо нельга будзе забіць ні нажом, ні мячом, а іхная патрэбнасць у ежы будзе такой малой, што яны паціху змогуць і цалкам адмовіцца ад яе. Але менавіта ў гэты шчасьлівы час адбудзецца адпадзенне ад веры, праз гэта Арыман набудзе такую магутнасць, што зможа паўстаць зноў. Ён вызваліць ад кайданоў дракона, звязанага Трэтаонай, і дракон будзе злосна перасьледаваць вернікаў: ён вынішчць трэццюю частку жывучых людзей, сапсуе ваду і полымя, загубіць расьліны і здзейсніць жудасныя зверствы. Тады стварэнні з маленнем звернуцца да Аўра-Мазды, каб ён стварыў героя, які б змог яго выратаваць. Такім чалавекам будзе мужны Керэзаспа; ён заб’е злога дракона; сваркі і спусташэнні знікнуць з зямлі, і наступіць тысячагадовае царства.

Тады адна дзяўчына будзе купацца ў возеры Касаве і зацяжарыць ад семені Заратустры, якае ўпала ў возера, і народзіць сына на імя Выратавальнік (Саашыант). Авеста паведамляе пра яго, як пра Месію, які павінен з'явіцца ў апошнія часы для выратавання сьвету. Із некаторых месцаў можна нават зрабіць выснову, што Выратавальнік не толькі сын Заратустры, але што сам прарок увасобіцца ў ім, каб у гэтым адроджаным выглядзе садзейнічаць канчатковай сусветнай перамозе. Вялікі ўчынак, здзяйсняемы Выратавальнікам, мае назву у Авесьце “тварэнне будучыні”, г. азн. новага сьвету, пры чым, перш за ўсё, адбудзецца ўваскрашэнне памёршых. Калі душа пасьля прысуду суда на мосьце Цінват ідзе на неба, або ў пекла, цела ў гэты час яшчэ застаецца на зямлі, дзе яго асобныя часткі пераходзяць у разнастайныя стыхіі: косткі – у зямлю, кроў – у ваду, жыццё – у полымя, валасы – у расьліны; і ўсе гэтыя цялесныя часткі душа збярэ у апошні дзень і тады кожны чалавек, злы ці добры, аднавіцца ў поўнай цялеснасьці, з усімі сваімі індывідуальнымі асаблівасьцямі, на тым месцы, дзе ён памёр.

Першым, падняўшым свае косткі із магілы, будзе Гайамард (біблейскі Адам) – першы чалавек; за ім рушыць услед першая чалавечая пара і за імі астатняе чалавецтва, кожны ў тым выглядзе ў якім ён быў. Усе яны збяруцца разам, і кожны будзе бачыць перад сабой свае добры і злыя справы, і злога чалавека можна будзе

гэтак жа лёгка адрозніць, як чорную авечку паміж белымі. Тады правядны будзе разлучаны са злосным: адзін пойдзе на неба, а другі ў пекла, дзе ён на працягу трох дзён будзе зведваць пакаранні на сваім целе, як раней зведваў іх на сваёй душы. Тады паднімецца плач ва ўсім сьвеце, таму што чалавек будзе разлучаны з жонкай, брат з братам, сябар з сябрам; усе будуць плакаць: добрыя за злых, а злыя самі за сябе; і смутак зямлі будзе як смутак авечкі, схопленай ваўком.

Тады ўсе горы і пагоркі расплавяцца і расьцякуцца па зямлі, і ўсе людзі будуць вымушаны ісьці праз струмені расплаўленага металу. Тут здзейсніцца апошні суд над людзьмі, як бы вялікае выпрабаванне полымем, бо для правядных расплаўлены метал будзе як цёплае малако, для грэшнікаў жа, як пажыраючае полымя. Але, перайшоўшы праз гэтае вогненнае выпрабаванне, усе людзі злучацца ў самым цесным шанаванні адзін днаго, і будуць пытацца адзін у другога: дзе быў ты столькі гадоў, і які лёс быў прызначаны тваёй душы? Ці быў ты апраўданы, ці зведаў пакаранне? І ўсе людзі аднагалосна будуць ухваляць Аўра-Мазду.

Затым застанецца яшчэ барацьба паміж нябеснымі і пякельнымі духамі. Усе сем вечных духаў (накшталт хрысьціянскіх арханёлаў) будуць змагацца з адпавядаючымі ім дз’яблавымі істотамі і цалкам знішчаць іх. Злавіць самога Арымана і змея будзе справай Мазды і Духа Паслухмянасьці. Абодва багі, з дапамогай малітваў і пацерак, адалеюць іх і кінуць у палаючы струмень. Сьвет стане цалкам чыстым, будзе напоўнены толькі стварэннямі Мазды і ўсё жывучае атрымае несмяротнасць і нябесную дасканаласць (Бахман-Ягіт 43; Бундзегег 30).

Але, чытач! Гэта ж усё перапісана прама із Апакаліпсіса, амаль выказванне ў выказванне! Выпадковае супадзенне тут цалкам немагчыма! Але аўтар Апакаліпсіса не мог запазычыць гэтага із Зенд-Авесты, таму што, як я ўжо гэта добра патлумачыў, ён браў усё гэта з натуры, рабіў высновы грунтуючыся на становішчы планет, сузор'яў і па форме аблокаў падчас навальніцы на Патмасе 30 верасня 395 года нашай эры. Гэта азначае, што ўсё тут напісана Янам Залатавустам і паданне пра аўтара Зенд-Авесты – з’яўляецца паданнем пра яго або пра самога “Вялікага Цара”, заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, своеасабліва аформіўшымся на індыскай глебе, верагодна ўжо пры панаванні еўрапейцаў у Індыі.

# Глава IX

## Персы, парсы і парыжане.

Нас пераконваюць, што ад 226 г. да 651 гады ў Персіі царавала дынастыя Сасанідаў, заснаваная Ардашырам-Бебегатам (цараваў 226-240 гады), якая імкнулася аднавіць старажытна-пярсідзкі побыт і рэлігію Заратустры, панаваўшую быццам бы некалькі тысяч гадоў таму назад.

Із іх Сапор І, – кажуць нам, цараваў 241-271 гады нашай эры і паланіў рымскага імператора Валерыяна; Сапор ІІ (309-380) быў сучаснікам Юліяна і Феадосія І. Ён пакарыў Арменію і Месапатамію і быў жорсткім ганіцелем хрысьціян, г. азн. не інакш як у якасьці арыяніна. Хазрой Акушырван (г. азн. Справядлівы, 531-578 гг.), заваяваўшы Месапатамію, Калхіду і Сірыю, быў першым з правам на гістарычнасць, а яго сын Хазрой Парвез (578-628 гг.) быў быццам бы такім пабожным, што прывёз да сябе із Іерусаліма (Эдь-Кудса) нават крыж Хрыста. А апошні з іх Ездзегерд ІІІ (632-651) быў быццам бы пераможаны

аравійцамі, страціў Персію і ўтрымаўся толькі на берагах Аму-Дар'і, дзякуючы чаму "насуперак розуму, наперакор стыхіям" узнікла Ездзегердава эра летазлічэння, датуемая годам пачатку яго наўдалага царавання з 16 ліпеня 632 года ў нейкіх азіятаў зведаўшых паразу. У той жа час агаранства, – кажуць нам, – замяніла рэлігію Зараастра ў Персіі.

А хто ж паведамляе нам пра ўсё гэта?

Перш за ўсё: Аміян Марсельскі, апакрыфічнасць якога я ўжо даказаў у IV кнізе Хрыста (стар. 354) грунтуючыся на адсутнасьці згадваемага ім сонечнага зацьмення ў 360 годзе. Затым апакрыфічная кніга ад імя Пракопа і шэраг іншых аўтараў вельмі сумнеўнай дакладнасьці (напрыклад, Табары).

Сасаніды, – кажуць нам, – ўзвысілі Зараастрава веравучэнне да прыступкі дзяржаўнай рэлігіі і заснавалі свой пасад на яе ахвярніках. Іерархічна арганізаванае жрэцаства склада галоўную магутнасць дзяржавы і ўзнгароджвала цароў, выконваўшых іхныя жаданні, арэолам сьвятасьці. Дзякуючы гэтаму Сасаніды будавалі храмы, сярод якіх быў асабліва знакамітым храм полымя ў галоўным горадзе Істархе. Яны ж і клапаціліся пра правільную рэдакцыю Авесты, г. азн. проста стварылі яе.

Нам кажуць, што Ездзегерд II (438), перасследаваўшы як хрысьціян так і юдэяў, дзейнічаў не толькі магутнасьцю, але і прыводзіў доказы супраць хрысьціян, папракаючы іх за тое, што яны прыпісвалі богу як добрае, так і благое, што яны дапусьцілі нараджэнне бога ад жанчыны і ўкрыжавалі яго, што іхнае вучэнне паўстае супраць адружання, праслаўляе галечу і бяздзетнасць і, такім чынам, пагражае далейшаму існаванню чалавецтва. Але гэта ж магло быць толькі не раней часу з'яўлення Евангелляў, г. азн. пасьля VII стагоддзя, а не ў IV, калі яшчэ не існавала ніводнага Евангелля. Імператар Іраклі нанес, – кажуць нам, – жахлівы ўдар пярсідзкай магутнасьці і зноў падняў крыж у Ерусаліме (14 верасня 629 года). І ў гэты ж час набліжалася арабская магутнасць, якае знішчыла царства Сасанідаў.

Пра рэлігійныя вучэнні таго часу распавядаюць па рознаму і нават тлумачаць іх адрозна. Так, маніхейства пры Сасанідах ў Персіі разумелі і як форму хрысьціянскага гнасьціцызму (Басобр і большасць гісторыкаў царквы) і як буддызм (Ф. К. Баур). Іншыя навукоўцы гэтага часу апісваюць маздакізм (сугучна з найменнем Армузд, якое складаецца із Аўр – святло і Мазда – яго заснавальнік). Маздак апавясьціў, – кажуць нам, – камуністычнае вучэнне, і спачатку нават праводзіў падзел маёмасьці і жанчын паміж усімі мужчынамі. Але дваранства і жрэцаства пазбавілі пасаду цара Ковада, які слухаўся гэтых парад, і калі ён зноў зацараваў, то сам зразумеў небяспеку, якая пагражала грамадству з боку камуністаў, і ён пagраміў іх, а яго сын Хазрой Анушырван, пакончыў з застаўшыміся ад бацькі. Аднак яшчэ і пазней, у часы валадарання ісламa, – кажуць нам, – мы сустракаем таемных пасьлядоўнікаў тэорый Маздака.

Арыгінальная літаратура сасанідзкага перыяду напісана на пехлевійскай мове, якая складаецца із перамяшання пярсідзкіх і біблейскіх слоў. З аднаго боку, на яе перакладзены і каментаваны зендзкія тэксты, з другога – напісана шмат самастойных твораў. Але яна атрымала сваё завяршэнне толькі ў часы ўжо пасьля Сасанідаў. Існуючыя ў нашым распараджэнні рукапісы адносяцца не далей XIV стагоддзя, большасць жа пехлевійскіх твораў маюць ў саміх сабе ўказанні на тое, што яны з'явіліся ўжо пасьля падзення Сасанідаў; адносна некаторых гісторыкі самі вызначылі час каля заканчэння X стагоддзя. А між тым яны ўтрымліваюць

паданні і тэалагічныя разважанні, якія маюць дачыненне да Сасанідаў, а не пазнейшага часу, калі на думку артадаксальных гісторыкаў ужо існаваў магаметанскі ўплыў.

Із яе твораў, кніга “Першапачатковае тварэнне” (Бундзегеш) з’яўляецца самым цікавым тэалагічным трактатам із усіх наогул маючыхся ў нас адносна пярсідзкай рэлігіі. У яе трыццаці чатырох главах (у Юсьці 35) выкладаецца касмагонія, касмалогія і эсхаталогія, апісваецца барацьба паміж двума духамі: адным – добрым, сьветлым, усёведаючым, і другім – злым, цёмным, абмежаваным. Злы дух толькі часова атрымлівае перавагу, а ў рэшце рэшт заўсёды пераможаны. Але шмат главаў у ёй проста даюць пералік розныя краін, гор, мораў, зямных істот або генеалогію цароў і сьвятароў.

Бундзегеш ужо параўноўвалі з кнігай Быцця, ды і іншыя творы пехлевійскай літаратуры нагадваюць сабой біблейскія і хрысьціянскія апакаліпсісы. Так кніга Бахман-яшт дае падрабязны агляд будучага ходу сусветнай гісторыі з боку гледжання зараастравай рэлігіі. У ім паведамляецца пра дкрыцці, у якіх бог паказаў прароку будучыню рэлігіі. Аўтар прадказвае тут і турак, і нават распаўсюджванне еўрапейскага валадарання ў Азіі. То, кажуць, што сапраўдная рэлігія адсуната імі толькі на некаторы час; на прамежку 1000 гадоў з'явяцца тры прарокі, якія працягнуць справу Заратустры і давядуць яе да канца.

Скажы сам чытач: ці магчыма лічыць такую кнігу не тое што старажытнай, але нават і сярэднявечнай?

Цалкам у іншым родзе трактат пад назвай “Прыстойна-непрыстойна” (Шайаст-шайастла), утрымліваючы запаветы адносна чысьціні і розных грахоў, разам з правіламі для рэлігійных цырымоній і звычаяў.

Маюцца яшчэ творы Манушыгара, пярсідзкага першасьвятара, які жыў, – кажуць, – на прыканцы IX стагоддзя, уяўляючыя сабой лісты да яго адзінаверцаў і шырокі твор Дадзістан-і-дзінік, г. азн. рэлігійныя рашэнні, маючыя дачыненне да разнастайных пытанняў. Кніга напісана без сістэматычнага ўпарадкавання, але, нягледзячы на гэта, прызнаецца навукоўцамі каштоўнай для вывучэння рэлігіі.

Дакладна так жа і кніга Мінакірэд: без усялякай сувязі пералічваюцца 62 пытанні, на якія адказвае дух Мудрасьці. Яны маюць дачыненне да стасункаў паміж добрым і злым духамі, стану душы пасьля сьмерці, а таксама этычныя правілы і пералікі грахоў і добрых спраў.

Акрамя гэтых твораў, у склад пехлевійскай літаратуры ўваходзяць яшчэ некалькі іншых твораў, карысных для вывучэння рэлігіі і яшчэ адна кніга, якая напісана на новапярсідзкай мове, але, згодна са сваім зместам, адносіцца сюды ж. Гэта “100 главаў” (Сад-дар), у якіх гаворыцца пра рэлігійныя абавязкі і звычаі. Гэтая кніга адносіцца да XVI стагоддзя і ўяўляе сабой празаічны твор, які быў прызнаны вельмі старажытным і быў перакладзены ў вершы.

“Відавочна, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 224), – у часы Сасанідаў старажытныя тэксты атрымалі канчатковую рэдакцыю, і ў той жа час збіраліся старажытныя паданні, і рабіліся спробы адказаць на разнастайныя рэлігійныя пытанні, якія былі злучаны з імі. Але, відаць, выявілася немагчымым стварыць закончаную сістэму”.

Мы не маем асобных паведамленняў пра лёс пярсідзкага культу на працягу стагоддзяў пасьля арабскага заваявання. Але што тады не было забароны парсізму, відаць із таго, што як манускрыпты Авесты, так і пехлевійскія пісанні, усе адносяцца да гэтага перыяду. Нават на новапярсідзкай мове пісаліся творы з мэтай тлумачэння цёмных пытанняў із пярсідзкай рэлігіі, аж да найноўшага часу. Іншыя

творы таксама сведчаць пра духоўную дзейнасць гэтага часу; між іншым выклікае цікавасць твор Улемай-Іслам, у якім веранастаўнік фарсі выкладае сваё веравучэнне перад некалькімі мусульманамі. Высокай павагай у асяроддзі персаў карысаецца яшчэ адна кніга, якая ўтрымлівае адкрыцці, дадзеныя 15-цю старажытнымі прарокамі на новапярсідзкай мове. Гэты твор мае назву “Дзезатыр” і надрукаваны аеўрапеіўшымся тубыльцаў Індыі мулой Фірузам бен Каусам у 1818 годзе. “Але ўжо і ў той час, калі гэтая кніга толькі што стала вядомай еўрапейскім навукоўцам, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей, – яна абудзіла сумневы; зараз жа, вядома, ніхто ўжо не лічыць яе сапраўды старажытнай і праўдзівай крыніцай” . А між тым аўтар “Дабістана”, адносімы да XVII стагоддзя, склаў сваё выкладанне пярсідзкай рэлігіі на падмурку менавіта гэтай кнігі.

Толькі пры дынастыі Газневідаў атрымалі сваю канчатковую форму старажытна-пярсідзкія геаічныя паданні. Абуль-казім, згодна з празваннем Фірдусі (памёр 1020 г.), сучаснік (грунтуючыся на мяркаваннях выказаных у VI томе Хрыста) або пераемнік Абул-казіма (згодна з мянушкай Дастаслаўны (Магамет)), стварыўшага Каран, перадаў нам геаічныя паданні ў сваёй “Царскай кнізе” (Шах-Намэ) на-фарсі. Яны маюць аднолькавую каштоўнасць як для навукі так і для літаратуры. Першая частка яго кнігі ўтрымлівае міфічную першабытную гісторыю, у якую ўключана шмат цікавых эпізодаў; гэтая частка даводзіцца да з'яўлення прарока пры Гістаспе. Другая палавіна “Царскай кнігі” ўтрымлівае легенды пра Аляксандра Вялікага (Іскандэра), вельмі кароткую гісторыю Аршакідаў (Ашканідаў) і больш падрабязную гісторыю Сасанідаў. Яна уяўляе цэлы шэраг геаічных здзяйсненняў і шматлікіх цароў, да ўчынкаў і прыгод якіх аўтар абуджае цікавасць з дапамогай чыста псіхалагічных заахвочванняў. Галоўны матыў – барацьба іранскіх герояў супраць цёмнай магутнасьці Турана (турак).

А ў рэлігійным дачыненні паэт не заўсёды верны сам сабе. Мы знаходзім у яго сумесь старажытна-пярсідзкіх і магаметанскіх ідэй, але апошнім належыць пераважаючая частка. Згодна з Фірдусі старажытныя міфічныя цары ўжо стваралі вялікія храмы для ўшанавання полымя і ўяўленні пра бога маюць больш магаметанскае, чым пярсідзкае адценне. Існуе толькі адзіны бог, ад якога бяруць пачатак як дабро, так і зло і героі пастаянна адчуваюць сваю залежнасць ад магутнага, падспуднага і непазбежнага лёсу.

“Сучасныя парсы ў Заходняй Індыі, – выказваецца Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 228), – налічваюць толькі 85 000 душ, із якіх амаль 50 000 жывуць у Бамбеі. Іхным звычайным заняткам з’яўляецца гандаль і прамысловасць; паміж імі вельмі мала земляробаў і цалкам адсутнічаюць жаўнеры. Наогул жа яны заможныя і займаюць ганаровае становішча. Іхныя кіраўнікі надаюць адукаванасьці вялікае значэння, але веданне старажытна-зендзкай мовы ў іхным асяроддзі нязначнае і таму іхныя традыцыі не трывалыя і толькі ў іхных паданнях і звычаях працягвае існаваць шмат чаго, што лічыцца старажытным...”

Із падобных крыніц і атрыманы тыя паведамленні, якія знаходзілі еўрапейскія вандроўнікі з часоў Анкеціль-дзю-Перона, ці адукаваныя парсы, як Дасабхай Фрамхі адносна жыцця і заняткаў парсаў, пра іхныя сьвяты і пахавальныя звычаі, або пра ўладкаване іхных дакмаў, згодна з нібыта старажытнымі пастановамі. Іхнае рэлігійнае вучэнне ў тым выглядзе, як яно, напрыклад, выкладаецца ў катэхізісе Гузараці, вельмі простае: вера ў адзінага бога і яго прарока Заратустру, выкананне маральных запаветаў, вера ва ўзнагароду і пакаранне ў замагільным жыцці. Тут парсізм вельмі набліжаецца да ісламу, хаця сапраўднага ведання ўласнай рэлігіі і разумання яе крыніц у парсаў не назіраецца, –

Зразумела, што ўсе гэтыя дэталі дынастычнай гісторыі Безадружальнікаў-Ахеменідаў не пакідаюць ні наймалога сумневу ў яе міфічнасьці і ў тым што рэальную першакрыніцу прывёўшую да ўзнікнення падобнага міфа мы павінны шукаць у падзеях IV і V стагоддзяў нашай эры, калі быў створаны Апакаліпсіс і ўслед за ім з'явіліся біблейскія прароцтвы Ерамія і Езекііл, як я ўжо казаў.

Але перанёсшы ў такую глыбіню стагоддзяў дуалістычнае вучэнне пра магутнасьці ўпершыню распрацаваныя ў Апакаліпсісе (395 г. н. э.) у сімвале змагання навальнічных хмар з засланяемым імі сонцам (толькі пасля гэтай натур-сімвалістыкі і мог узнікнуць рэлігійны дуалізм), гісторыкам фантазёрам было патрэбна неяк скончыць са сваім апокрыфам. І вось, у якасьці класічнага dues ex machina быў выкліканы ў выглядзе новага апокрыфа Аляксандр Вялікі, і яго нашчадкі-дыядохі Селеўкіды, якія быццам бы знішчылі напачатку свайго супольнага 200-гадовага кіравання (ад -312 па -64) рэлігію Зараастра ў Персіі. А потым на падмосткі былі выведзены яшчэ і італьянцы з міфічнага старажытнага Рыма, прытым ад -64 па +226 год нам малююць амаль на працягу 300 гадоў такі смутны перыяд, пра які можна сказаць, што ў ім нічога не разабраць, апроч таго, што міф пра старажытна-пярсідзкае царства тут канчаткова ліквідаваўся, а з ім і міф пра першапачатковага дапатопнага Назіральніка Зорак Заратустру набыў сваё завяршэнне.

І вось на падмосткі выступае так званае Сярэдне-Пярсідзкае Царства. Яго першы перыяд характарызуецца дынастыяй Сасанідаў, валадаранне якой працягваецца артадаксальнымі гісторыкамі Персіі ад +241 па +636 год, калі Персія – кажуць нам – пасля амаль чатырохсотгадовага кіравання гэтай дынастыі пераходзіць да агаранства:

Але ад якой жа рэлігіі?

Выяўляецца, што ад той жа самай рэлігіі Зараастра. Яна, азначае, панавала ў Іране да 636 года н. э.: якім жа чынам злучыць гэта з тым, што яна была знішчана яшчэ хутка пасьля заваёвы Персіі Аляксандрам Вялікім, калі б мы нават і атаясамілі яго з Юльянам. Пра адраджэнне нейкай рэлігіі збанкрутаванай і пакінутай яшчэ за некалькі пакаленняў перад гэтым, як я толькі што паказваў, не менш смешна думаць чым пра аднаўленне ў нас ушанавання старажытнага Перуна пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі, таму нам тут нічога і не застаецца рабіць, як спыніцца канчаткова і беззваротна на ўжо зробленай намі выснове што рэлігія Назіральніка Зорак Зараастра нікім не знішчалася, таму што ўся дынастыя Ахеменідаў – міф, а гэтая рэлігія ўзнікла ў V стагоддзі, як асобнае адгалінаванне рамейска-візантыйскага арыянства, якое развівалася ў Іране збольшага самастойна, а збольшага пад уплывам хрысціянскіх плыняў на Захадзе. Гэта было хутчэй за ўсё яніцства, г. азн. рэлігія прыхільнікаў аўтара Апакаліпсіса, Яна Залатыя-Вусны.

Як Старажытна-Пярсідзкае Царства, пачаўшыся Ахеменідамі, закончылася Селеўкідамі, спадкаемцамі Аляксандра Вялікага, так і Сярэдне-Пярсідзкае Царства, пачаўшыся Сасанідамі, закончылася агаранскімі каліфамі, да часу якіх адносяць першае з'яўленне сярэднявечнай пярсідзкай паэзіі. Потым – кажуць нам – улада перайшла да малаазійцаў сельджукідаў, якія валадарылі каля 150 гадоў (ад 1037 да 1187 г.), пасля чаго зноў пачынаецца нейкая відавочная гісторыка-геаграфічная блытаніна. Крыжак граф Балдуін засноўвае ў Паўночнай Месапатаміі ў 1098 годзе Эдэскае княства, але дзе ж ён размяшчае сваю рэзідэнцыю? Галоўным горадам ён робіць – кажуць нам – абсалютна не маючую ніякага культурнага ці стратэгічнага значэнні Арфу, размешчаную на адлегласьці ў 50 кіламетраў ад Еўфрату на

несуднаходнай рачулцы, тады як кожны разважаючы чалавек аддаў бы перавагу размешчанаму на самым Еўфраце Самасату, недалёка ад Арфы. І аднак жа тут у Арфе гісторыкі размяшчаюць і сваю знакамітую класічную Эдэсу. Як усё гэта асэнсаваць? Эдескае княства – кажуць нам – існавала да 1144 года, калі яго і захапілі туркі. Пасьля гэтага на сустрэчу крыжакам прайшоў па Азіі Чынгіс-Хан (1223 г.), а праз паўтараста гадоў пасьля яго Тымур (1380 г.).

Толькі ў 1502 годзе нарэшце было заснавана псеўда-трэццяе пярсідзкае царства названае Нова-Пярсідзкім з дынастыяй Саідаў згодна з найменнем яго заснавальніка Ізмаіла аль Сафі, які абвясьціў у Персіі дзяржаўнай рэлігіяй шыітызм, што працягваецца і да нашага часу.

Із гэтага мы бачым, што цалкам надзейная ў храналагічным і побытавым дачыненні гісторыя Персіі пачынаецца толькі з Нова-Пярсідзкага Царства, г. азн. з 1502 года н. э. Агаранскі перыяд гісторыі псеўда Сярэдне-Пярсідзкага Царства які працягваўся згодна з сучаснымі нам уяўленнямі ад +636 да 1502 года н. э., г. азн. 866 гадоў, патрабуе далейшых дасьледванняў, асабліва ў побытавым і рэлігійным дачыненні. А першы ранні перыяд таго ж Сярэдне-Персідскага Царства які працягваўся згодна са звычайнымі ўяўленнямі каля 400 гадоў (ад +241 да +636 года н. э.) патрабуе радыкальнай перапрацоўкі ў побытавым дачыненні і сур'ёзнай праверкі ў храналагічнай частцы.

А Старажытна-Пярсідзкае Царства Ахеменідаў і Селеўкідаў, якое працягвалася быццам бы каля 500 гадоў (ад мінус 558 да мінус 64 года), павінна быць цалкам аднесена да вобласці міфаў, і нам застаецца толькі пашукаць рэальныя першакрыніцы такога складанага міфа ў падзеях меўшых месца падчас дынастыі Сасанідаў, якая існавала, як мы толькі што бачылі, каля 400 гадоў (ад +241 па +636 год н. э.).

Пачнём жа з гэтай апошняй праверкі.

Больш Сасаніды ў гэтай частцы не абмяркоўваюцца, іхнае далейшае абмяркаванне існуе ў чарнавіках у главе VIII другой часткі кнігі “Міражы гістарычных пустынь”.

# ЧАСТКА ЧАЦЬВЁРТАЯ

## Індуісцкая боская сям'я як пераҗытак сярэднявечнага класічнага хрысьціянства.

### Глава I.
### Славяне і Хрыстос.

Чым больш разважаеш пра распаўсюджванне хрысьціянства па старому сьвету пад час сярэдніх стагоддзяў з філалагічнага боку гледжання, тым больш пераконваешся ў вялізнай ролі рамейска-візантыйскіх славян у гэтай справе. Еўрапейскім гісторыкам, якія ў дзяцінстве атрымалі амаль гіпнатычнае па сваёй магутнасьці наданне, што хрысьціянва распаўсюдзілася з берагоў Мёртвага мора ў

Палестыне (“краіне качэўнікаў”, па біблейску) праз грэкаў і рымлян, яшчэ даравальна было б не звяртаць увагу на гэты факт, дзякуючы іх недастатковому або няпоўнаму веданню славянскіх моваў. Але як да гэтага часу гэтага не заўважылі нашы славянафілы?

Мне адкажуць: лінгвістычнымі параўнаннямі можна даказаць, што заўгодна... Але ж гэта толькі да таго часу, пакуль вы параўноўваеце словы безсэнсоўна, накшталт, напрыклад, нямецкага словы Got – бог з рускім словам “год”. Або юдэйскую назву таго ж бога з рускім словам “елка”.

А калі вы, наадварот, параўноўваеце іх не толькі згодна з гучаннем, але і з сэнсам – сугучна і сусэнсоўна – і прытым не адзінкава, а цэлымі роднаснымі згуртаваннямі, то гэты метад згодна з матэматычнай тэорыяй верагоднасьці павінен лічыцца адным із самых надзейных і трывалых спосабаў гісторыка-археалагічнага пошуку.

У дачыненні да абмяркоўваемага мной пытання пра вялізную ролю славян ў справе распаўсюджвання сярэднявечнай тэалогіі, філалагічны метад дае ўражваючыя вынікі, паказваючы культурную ролю Вялікай Рамеі ў цалкам новым асьвятленні, але адпавядаючую таму, што мы і зараз назіраем на Балканскай паўвыспе і асабліва ў яе сталіцы Цар-Горадзе.

І ў XIX стагоддзі нашай эры там жывуць у цесным перамяшанні і туркі з іхным Каранам – гэтай лёгкай варыяцыяй біблейскага Пяцікніжжа і біблейскіх псалмаў, як згодна з мовай, так і згодна з сэнсам, і славяне з іхнай славянскай бібліяй і Евангеллямі, і адзінаверныя з імі грэкі і лаціны-італьянцы, з іхнай рымска-каталіцкай культурай, а калі зірнуць не на адзін Цар-Горад, а на ўсю найбольш культурную еўрапейскую частку першай Вялікай Рамеі – Балканскую паўвыспу, то пабачыце, што нават і ў XIX стагоддзі славянскае насельніцтва з’яўляецца ў ёй пераважаючым, а раней славяне былі яшчэ больш пашыранымі, пра што сведчаць славянскія назвы месцаў, дзе ўжо амаль знікла славянскае насельніцтва. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца: назва Венецыя, г. азн. венчаная, паўвыспа Марэя, г. азн. Марская Зямля, не згадваючы ўжо пра шматлікія мясцовасьці ў сучаснай Грэцыі, захаваўшыя ранейшыя славянскія карані, згадваемыя Фальмеранерам. Ды і само слова грэк – з’яўляецца славянскім гарак або горац, так як яно невядома на грэцкай мове, таму што самі грэкі называюць сябе заўсёды рамеямі, г. азн. рымлянамі або эллінамі, што азначае “народ божы”, ад жыдоўскага кораня ЭЛ – бог. Акрамя таго, і выступілі яны на гістарычныя падмосткі толькі ў V стагоддзі нашай эры, як рэлігійныя бунтаўшчыкі супраць сяміцкага арыянства пад уплывам Апакаліпсіса, магчыма, першай кнігі, напісанай па-грэцку геніяльным грэкам-астролагам Янам, які атрымаў за гэта празванне Залатавуст. Толькі на некалькі стагоддзяў пазней з'явіліся на грэцкай мове і Евангеллі, умацаваўшыя грэцкую рэлігійную гегемонію на ўсходзе Яўропы і ў Азіі, хаця аўтарамі іх маглі быць і славяне, для якіх грэцкая мова, як богаслужбовая з часоў Яна Залатавуста, была тым жа, чым лацінская для Заходняй Яўропы. І тыя і другія вучылі першапачаткова на сваёй, вузкай і цеснай, богаслужбовай мове, а пазней распрацавалі яе ў адпаведную класічную, ужо нашмат больш прасторную і складаную, як згодна са слоўнікам так і згодна з граматычнымі формамі. Але ці настолькі славяне на Балканскай паўвыспаве, складаўшыя большую частку насельніцтва, схіляліся перад сваёй літургічнай мовай, каб не спрабаваць стварыць зараз жа і сваю нацыянальную літаратуру? Самі нашы гістарычныя першакрыніцы паказваюць адваротнае. Балканскія славяне пайшлі нават далей заходніх радоў, так як ўжо ў сярэдзіне IX стагоддзя двое

славянскіх навукоўцаў Кірыл (пам. 885 г.) і Мяфодзі (пам. 869 г.) пераклалі, нягледзячы на супраціўленне вялікіх рымскіх пантыфікаў і самі Евангеллі і Біблію на славянскую мову, і ў такім выглядзе пачалі распаўсюджваць хрысьціянскую літаратуру і далей. А калі вы згадаеце маю выснову ў I томе “Хрыста”, што важнейшае, грунтуючыся на яго паэтычнай магутнасьці і таленце, Евангелле Яна, амаль напэўна напісана Янам Дамаскіным (пам. у 777 г.) не ў Дамаску, а ў Дар-Мешку, г. азн, у горадзе Спадчыннай Улады, як Дамаск ўсюды называецца ў біблейскай кнізе Параліпаменон, і што Евангелле Лукі разам са Здзяйсненнямі апосталаў напісана Лукой Эладзкім (850-946) ужо пасьля Кірылы і Мяфодзія, то вы прыйдзеце да высновы, што славянскія тэксты гэтых кніг існавалі адначасова з грэцкімі і што славянская богаслужбовая літаратура зусім не дачка грэцкай, а сястра і грэцкай і лацінскай, і можа лічыцца дачкой толькі равінска-месіянскай літаратуры, як яна адлюстравалася у апакаліпсісе і біблейскіх прароцтвах і нават, здаецца, што ў справе распаўсюджвання хрысьціянства на азіяцкім кантыненце яна выконвала не меншую ролю, чым і равінскае месіянства.

Даследуем жа гэтае пытанне філалагічна, кіруючыся нашым метадам сугучна-сусэнсоўнасьці цэлых згуртаванняў слоў.

Я не буду паўтараць таго, што ўжо дэталёва распрацаваў у III томе гэтага даследавання, пра тое, што вялізная колькасць грунтоўных слоў богаслужбовай мовы індусаў чыста славянская. Уся гэтая мова, такая ж чужая для мясцовага насельніцтва Індыі, якой была для жыхароў Яўропы і лацінская, мае згодна са сваім лексічным характарам сумесь славянскіх і жыдоўскіх слоў, толькі з нязначным дамешкам мясцовых, і ў такім выглядзе магла быць перанесенай туды толькі балканскімі славянскімі прапаведнікамі адначасовымі з Кірылам і Мяфодзіем.

Не вяртаючыся ўжо да павядомленага пра яе раней, я прывяду толькі некалькі надзвычай павучальных прыкладаў.

Вось Буда (або Будда) будыстаў; яго імя азначае будзіцель і абуджаны, ад славянскага кораня будзіць, і сугучна і сусэнсоўна.

Вось бог-Выратавальнік індусаў на імя Крышна. І без мяне ўжо паказвалі, што гэта двайнік Хрыста. Але двайнікамі ад нараджэння да сьмерці былі толькі сіямскія двайняты, ды і тыя, праехаўшыся па Яўропе і зарабіўшы сваім падарожжам шмат грошай, папрасілі, кажуць, нарэшце іх разрэзаць.

Крышна відавочна сам Хрыстос, ужо са сваім міжнародным найменнем прышоў із Яўропы ў Індыю не інакш, як праз Басфор і Цар-Горад.

Вось індуская тройца Тры-Мурці... І сугучна і сусэнсоўна гэтаму славянскае выказванне Тры-Морды, пры гэтым слова морда першапачаткова не мела, вядома, сучаснага рускага насмешлівага сэнсу і Тры-Мурці азначала тры выявы сьвятой хрысьціянскай тройцы.

Паглядзім зараз на кожную із трох асоб: Брама, Вішну і Шыву.

Слова Вішну сугучна са славянскім вышэйшы або найвышэйшая ступень Ўсявышні бог. Тут таксама і сугучная і сусэнсоўная тоеснасць. Ён, спусьціўшыся з неба, абышоў увесь сьвет трыма крокамі, цалкам як Юлі Двух Канцоў Зямлі (Джуль Карнайн у Каране), атаясамляемы ў нас і з Аляксандрам Македонскім і з імператарам Юліянам, здзейсніўшымі паход і ў Галію, і ў Індыю, а сам Юліян і быў Вялікім Царом (Васілём Вялікім па-грэцку), заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства, даўшаму нагоду для міфа пра Хрыста. Хрысьціянская ж літаратура ўпершыню паўстала пад час яго царавання і не магла з’явіцца супраць яго волі. Ён

быў адступнікам толькі ад сяміцкага арыянства. Вышэйшы Бог (Вішну), як і Хрыстос згодна з вучэннем праваслаўнай царквы, з’яўляецца крыніцай існавання ўсіх істот. Яго жонкай замест Марыі Магдаліны з'яўляецца мясцовая індуская Венера (Лакшмі), багіня прыгажосьці і шчасьця. Яго малююць з дыскам сонца (іерогліф Эліса-Юлія), з жазлом і (мясцовае дадаванне!) з чатырма рукамі, тады як у асяроддзі еўрапейскіх хрысьціян для гэтага не хапіла фантазыі: адзіны выпадак, які мне даводзілася бачыць – гэта ікона Багародзіцы-троеручніц (мал....), але і ў яе яшчэ не хапае чацьвёртай рукі.

Бог Шыва, па-славянску відавочна бог Жывы, прычым ***Ж*** ператварылася ў ***Ш*** дзякуючы няўменню прамаўляць гэты гук у прамежкавых краінах. Ён у лацінскім вымаўленні пераходзіць таксама і ў ***С*** (так што Шыва нават ператрыўся і ў Сіву). Асабліва ж цікава, што і грэцкае слова Зеўс таксама азначае Жывучы. Да яго імя пастаянна дадаецца Мага-Дзева – Вялікі Бог, але ён не лічыцца стваральнікам сусьвету, а больш адпавядае сьвятому духу хрысьціян, хаця і малюецца не ў выглядзе голуба, а ў выглядзе чалавека з трыма вачамі. Акрамя таго, гэтага сьвятога духа, які ўсё ачышчае і разбурае (як полымя) ў дадатак яшчэ і адружылі ў Індыі з мясцовай багіняй Марвайт.

І, нарэшце, першая асоба гэтай індускай тройцы – Трымордзі – бог Брама, што азначае бог Слова, цалкам як у Евангеллі Яна, пачынаючагася славамі: “спачатку было Слова і Слова было ў бога, і Слова было Бог”. Гэта паказвае, што браміны, як завуцца ўсе яго служкі, з'яўляюцца нашчадкамі хрысьціянскіх прапаведнікаў, якія прыйшлі не інакш як з Балканскай паўвыспы праз Цар-Горад, на што паказвае і больш белы колер скуры гэтых брамінаў. Але ці можна і найменне Брамы вывесьці ад нейкага славянскага кораня? Мы ведаем толькі адно сугучнае славянскае слова “барматаць”, прычым мог існаваць і першапачатковы назоўнік “барома”, г. азн. гоман, ад якога, з аднаго боку, магло ўзнікнуць слова Брама, а з другога – бармот, падобна таму, як грэцкае “логас” (слова), аблюстравалася ў рускім “лгаць”.

Я не настойваю, вядома, на апошнім словаўтварэнні. Далейшыя доследы, магчыма, выявяць лепшае словавывядзенне для наймення Брама-слова, а хачу толькі пакзаць, што адпаведнасць яго Богу-айцу хрысьціянскай тройцы не выклікае сумневаў. Як у рускіх і грэцкіх хрысьціян вы знойдзе храмы з прысьвячэннямі: храм Святой Тройцы, храм Спаса, храм Святога Духа, храм Найсьвяцейшай Багародзіцы, храм Арханёла Міхала, храм Мікалая Цудатворцы, але не знойдзе нідзе “храма Богу Айцу, Усётрымальніку, Стваральніку неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага”, так і ў брамінаў існуюць храмы каму заўгодна, але няма ніводнага прысьвечанага вярхоўнаму богу – Браме. Звычайнае тлумачэнне, што першая асоба найсьвяцейшай тройцы наогул “вышэй якіх бы то ні было ўшанаванняў”, прыдатна толькі для таго, хто запамінае словы, як папугай, не асэнсоўваючы іхнага значэння. Існуе ж у хрысьціян малітва: “Ойча Наш” – з рознымі прашэннямі да бога-айца, дык чаму б не пабудаваць яму і ахвярнікі? Тое ж самае і з Брамай. Тлумачэнне тут можа заключацца толькі ў тым, што першапачаткова храмы яму ставілі каля падножжа Везувія і Этны, а затым і ў мясцовасьцях Міжземнага мора, схільных да частых землятрусаў, лічачы яго богам-устрасальнікам зямлі, і тая акалічнасць, што ён сам жа і разбураў час ад часу ўзводзімыя яму ахвярнікі, і магла прывесьці да высновы, што ён не жадае для сябе ахвярнікаў, апаганьваемых прыходам нягодных.

І тут мы бачым указанне на падабенства хрысьціянскага культа з брамаізмам, але ўжо на больш позняй стадыі, як у сучасных тэалогаў, адмовіўшыхся ад першапачатковай звычкі маляваць яго магутным старым, лётаючым над аблокамі, з развяваючайся па ветру сівой барадой, і абвясьціўшых бога бацьку ўсюдыісным і бясконцым творчым пачаткам. Так і ў індусаў Брама зараз стаў пантэістычнай сутнасьцю, крыніцай усяго жывога, вяртацаючагася да яго ж. Мы бачым, што і тут тэасофія брамаізму ішла следам за тэасофіяй у Яўропе і ледзь ці магла быць самастойнай, а першапачатковае ўяўленне пра бога-слова і ў індусаў было асабістым, яму ў Індыі нават далі жонку на імя Сара-Сваці, інакш Цара-Сьвяці, г. азн. Святая Царыца.

Такімі з’яўляюцца найгалоўнейшыя славянізмы ў ведыйскай рэлігіі, дзе і сама назва сьвятых кніг Веды славянская і азначае “вядзенне”, што захавалася і ў нас у назвах землявядзенне, міравядзенне і г. д, а слова санскрыт сугучна і сусэнсоўна з італійскім <...>

А вось, напрыклад, яшчэ і Зендавеста, і яе міфічны аўтар Зараастр.

Зендавеста і сугучна і сусэнсоўна са словам Санта-Веста, г. азн. Сьвятая Вестка, па-грэцку Евангелле. Ці выпадковая гэтая сугучнасць і сусэнсоўвасць? Яе аўтар – Зараастр – сугучна з Назіраючым Зоркі, г. азн. з астраномам, калі лічыць, што первая частка паходзіць ад славянскага “взор”, а другая частка ад рамейскага “астра” – зорка, чаму не пярэчыць і клінапіснае напісанне “Зарат-уштра”, так як слова “астра” сугучна з уштра пры звычайным пераходзе ***С*** у ***Ш*** і назад і выходзіць: назірае зоркі.

Усё гэта, мне здаецца, не пакідае ні найменшых сумневаў у тым, што ўсе азіяцкія рэлігіі прыйшлі туды з Балканскай паўвыспы і галоўным чынам праз славянскіх місіянераў. Але і на захадзе мы заўважаем іхны ўплыў.

Вось, напрыклад, бог Одын. Гэта вярхоўны бог скандынаўскай міфалогіі, стваральнік сусьвету і яго законадаўца. У тых месцах, дзе яго шанавалі, гэта імя не мае ніякага сэнсу, а ў славян гэта Адзіны Бог. Зноў і сугучна і сусэнсоўна, а таму з'яўляецца надзейным паказчыкам таго, што гэты Адзіны Бог прыйшоў зноў з той жа Балканскай паўвыспы, калі там ужо ўсталявалася адзінабожжа, г. азн. пад час сярэдніх стагоддзяў, не раней ўзнікнення частай сейсмічнай дзейнасьці.

Так, тэалагічнае параўнанне рэлігійнай тэрміналогіі можа служыць нам надзейным компасам пры гістарычных даследаваннях, і гэты метад заслугоўвае непараўнальна больш шырокага выкарыстання, чым назіралася да гэтага часу.

# Глава II.

## Кожны празаічны твор з’яўляецца не больш старажытным таго часу, калі ён упершыню запісаны.

*Пра каго яны апавяданні пішуць?*
*Дзе размовы гэтыя чуюць?*

Такімі словамі ахарэктыразаваў у першай палове XIX ст. частку нашай тагачаснай белетрыстыкі, якая, не бяручы да ўвагі псіхалагічны стан тагачаснага грамадства, выводзіла на падмосткі небывалыя тыпы і ўкладала ім у вусны небывалыя прамовы.

Зараз нам, звыкшымся з рэалістычным раманам, гэтыя творы здаюцца проста няўмелымі, па-дзіцячаму наіўнымі, а нашы дзеці, яшчэ не меўшыя іншай вытанчанай літаратуры, акрамя больш дзіцячых фантастычных казак, яшчэ зачытаваліся імі.

Але рэалізм, даўно пранікшы ў еўрапейскую белетрыстыку, усё яшчэ амаль адсутнічае ў еўрапейскай гісторыяграфіі, калі можна так выказацца.

Нашы гісторыі дзяржаваў або нават, так званыя, “сусьветныя гісторыі”, усё яшчэ шмат у чым падобныя на тыя раманы, дзе аўтары, забыўшыся на тое што іхным героям і гераіням згодна з іхнай фізічнай прыродай неабходна было хаця б праз суткі піць і есьці, ставілі іх у такія спалучэнні прыгод, пры якіх ім абсалютна немагчыма было гэтага зрабіць на працягу цэлых месяцаў.

Праўда, што ў іх ўжо няма такіх першабытных волатаў, пра якіх гаворыцца ў рускіх казках, калі пры сустрэчы з незлічоным полчышчам ворагаў:

Махне мячом направа – вуліца,
Махне налево – завулачак,

але ўсё ж прыпісываюць людзям мінулага такія якасьці, якія не ўступаюць гэтым волатам мяча.

Галоўнейшая із гэтых незвычайных якасьцей нашых продкаў – гэта іхная вельмі вялікая памяць.

Каб мець тут рэалістычную аснову, я паведамлю пра вопыт, які не аднойчы рабілі ў мой час для ілюстрацыі дакладнасьці апавяданяў, перадаваемых вусна праз некалькіх чалавек. Вакол стала садзілася з дзесятак чалавек, із якіх першы, выпісаўшы на паперку нейкае караценькае апавяданне, хаця б радкоў дзясяць, передаваў яго на вуха свайму суседу, той рабіў тое ж самае свайму суседу і так далей, аж да апошняга, які яго запісваў са слоў апошняга апавядальніка. Затым абедзьве паперкі чыталіся ў голас і заўсёды выяўлялася, што змест абодвух паперак настолькі адрозніваўся, што яго цяжка было пазнаць, асабліва калі ў ім сустракаліся нейкія іншаземныя імёны. У выніку атрымліваліся два цалкам розныя апавяданні на падставе таго псіхалагічнага закону, што ўяўленні слухаючага ніколі не бываюць тоеснымі з уяўленіямі апавядаючага.

Такім з’яўляецца асноўны закон кожнай традыцыі, у тым ліку і гістарычнай, так як слова традыцыя і азначае перадачу словамі нейкага шэрагу падзей. Праз дзесяць пакаленняў яна павінна зрабіць кожнае апавяданне непазнаваемым і да такой ступені пераіначыць найменні чужых месцаў і дзеячаў, што іх давядзецца аднаўляць на грунце ўскосных мяркаванняў, вызначыўшы агульныя псіхалагічныя законы эвалюцыі міфаў, і параўноўваючы паміж сабой іхныя варыянты.

– Але гэта, – скажут нам, – ужо і робіць гістарычная крытыка.

– Так, – адкажу я. – але толькі як?

Вось, напрыклад, у двух знойдзенных ў розных месцах у разны час спісах нейкіх апавяданняў пра даўно мінуўшыя падзеі, акрамя варыянтаў, час ад часу сустракаюцца мясьціны, літальна паўтараючыя адна другую. Калі б такія літаральныя супадзенні, хаця б у памеры некалькіх выразаў, з’явіліся ў творах двух вучняў сярэдняй школы, зробленых згодна з заданнем настаўніка ў класе, то ён абвясьціў бы, што адзін проста спісаў у другога, а ў гістарычнай крытыцы робіцца выснова, што адзін дакумент падцверджвае другі, або, ва ўсякім разе, што абодва карысталіся трэццім згубленым зараз дакументам. Хай так, але ці стаў бы гэты больш старажытны дакумент больш праўдзівым ад таго, што яго перапісалі два чалавекі? Наколькі ж Евангелле Марка з яго цудамі стала праўдзівей ад таго, што

яго амаль цалкам перепісалі евангелісты Лука і Мацвей, дапоўніўшы толькі новымі дадаткамі неверагоднага.

Гістарычная крытыка XIX стагоддзя, калі з ёю пазнаёмішся грунтуючыся на першапачатковых творах яе заснавальнікаў, такая па-дзіцячаму наіўная, што часта яе нельга чытаць без усмешкі. А падмацаванні гістарычных фактаў іншымі навукамі нярэдка ставяць дасведчанага ў гэтых навуках чытача прама ў тупік. Вось, напрыклад, адзін ягіптолаг "астранамічна" вылічыў, што піраміда Хеопса пабудавана за столькі-та тысяч гадоў да пачатку н. э., таму што знойдзенны ў ёй канал ад грабніцы, які быў накіраваны, вядома, на нябесны полюс, адступіў ад яго на столькі-та градусаў. А так як зрушэнне нябеснага полюса вакол сузор'я Дракона роўна на 1° 39' за стагоддзе, то, падзяліўшы на гэтую лічбу поўную велічыню адступлення, мы знойдзем, за колькі стагоддзяў да нас была пабудавана гэтая піраміда. Як усё гэта здаецца, простым і зразумелым. Але яно проста і зразумела толькі для не ўяўляючага сабе сутнасць прэцэсіі.

Нябесны ж полюс з'яўляецца той кропкай неба, на якую накіравана зямная вось. Гэта азначае, для таго каб канал піраміды паказваў на нябесны полюс, трэба толькі адно, каб ён быў пабудаваны паралельна зямной восі і больш нічога. І калі ён зараз выяўляецца непаралельным зямной восі, то ніколі і не быў паралельным, і больш нічога. Ён мог бы зрабіцца паралельным толькі ад перамяшчэння зямной восі на самой зямной паверхні, а не на небе. А раз ніякага сістэматычнага перамяшчэння зямнога полюса на зямной паверхні, акрамя лёгкіх ваганняў, не знойдзена, то і пытанне пра канал вырашаецца толькі ў тым сэнсе, што будаўнікі піраміды трохі памыліліся ў яго накірунку і больш нічога.

Але і без такіх наіўных ляпсусаў, яскрава сведчачых пра аднабаковасць адукацыі ранейшых гісторыкаў, ранейшая гістарычная крытыка не дае ніякіх падстаў для здзіўлення яе дасягненнямі, хіба толькі ў адваротным сэнсе.

Вось, напрыклад, хаця б індуская літаратура. Пісьмовасць жа занесена ў Індыю не так ужо даўно, у арабскія часы. (Параўнайце санскрыцкі альфабэт з арабскім).

– А як жа перадаваліся індыйскія паданні да таго часу?

– Шляхам іх вуснай перадачы із вуснаў у вусны на працягу тысячагоддзяў, – адказваюць нам.

– Але ж у прыродзе няма нічога нязменнага, – адкажам мы

Усё-такі кажуць класічны <...>

# Глава III
# Калі напісаны Веды?

Найбольш старажытны, вядомы нам перыяд індыйскай рэлігіі мае назву "ведычнага", згодна з найменнем сьвятых пісанняў гэтага часу.

Слова "Веда" азначае "вядзенне", што ў рускай мове, напрыклад, ужываецца ў словах "землявядзенне", "міравядзенне". Сьвятое вучэнне, выкладзенае ў гэтых кнігах, лічыцца ўзнікшым шляхам адкрыцця, і таму з'яўляецца непарушным аўтарытэтам для веры і жыцця. Ведыйская літаратура ўключае ў сябе не толькі сьвятыя сьпевы, але таксама настаўленні да здзяйснення богаслужбовых звычаяў і да практычнай тэалогіі, а таксама пачаткі філасофскага светапогляду. Зборнік сьпеваў, складаючы галоўную частку Веды на індускай мове носіць назву

“мантрас”. Ён распадаецца на чатыры зборнікі: Рыг-Веда – кніга змяшчаючая рэлігійныя гімны; Сама-Веда – тэксты; Яджур-Веда – малітоўныя формулы, ўжываемыя пры ахвяраванях і Атарва-Веда – кніга магічных сьпеваў і замаўленняў.

Із гэтых кніг для вывучэння рэлігіі маюць значэнне толькі Рыг і Атарва, а два іншыя сборніка носяць больш тэхнічны характар. У іх выкладаюцца наогул розныя звычаі пры ахвяраваннях, але пры гэтым утрымліваецца таксама шмат міфалагічнага, тэалагічнага і нават граматычнага матэрыялу.

За Ведамі ідуць “Сутры” (інакш вегандас – “часткі вядзення”), якія зрэшты, часткова належаць да той жа вобласьці літаратуры. Яны служаць “кіраўніцтвам” для школьнага навучання і таму выкладзены ў значна больш сьціслай форме, чым веды, якія шырокія і шматслоўныя. Яны паведамляюць, між іншым, пра хатнія звычаі і пра заканадаўства. Знакаміты збор законаў Ману ўзнік із гэтай літаратуры.

У дачыненні да старажытнасьці ведычных песень існуюць толькі цьмяныя здагадкі, але час узнікнення гэтых песень не мажа быць глыбокім таму, што на іх ляжыць сучасны чыста індыйскі адбітак.

Легкадумна грунтуючыся на астранамічных паведамленнях, існуючых у ведыйскім апісанні сусьвету і маючых неабмежаваную колькасць рашэнняў, Якобі быццам бы вызначыў час іхнага ўзнікнення за 2000 гадоў “да н. х.”; ён нават думаў, што знайшоў сьляды больш старажытнага летазлічэння, адносімага да мінус 4000 года.

Да такой жа легкадумнай высновы адначасова прыйшоў і індыйскі астраном Цілак. Але нават самыя схільныя да думкі пра старажытнасць санскрытолагі не былі пераканаактны іхнымі вылічэннямі, якія не маюць пад сабой дастаткова цьвёрдага падмурку.

Калі мы і знаходзім у ведах сьляды юнацкай фантазіі і прымітыўных поглядаў, якія сведчаць пра маладосць народа, то гэтыя ж рысы характэрызуюць індускі фальклор і зараз. А схаластыка-філасофскія разважанні, якія характэрызуюцца шматслоўем, таксама з’яўляюцца першабытнай прыкметай, абумоўленай недахопам ведаў. Вялікая частка так славутых ведыйскіх вершаў рэлігійнай або павучальнай накіраванасьці, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей ў сваёй ілюстраванай гісторыі рэлігіі, – мае фармальны і безжыццёвы характар, вызначаючыся беднасьцю разумення і нават для саміх індусаў яны з'яўляюцца цёмнымі. Але не ўсе вершы Рыг-веды духоўнага зместу, ды і сабраны яны зусім не дзеля літургічных мэт; шмат якія із гэтых сьпеваў носяць цалкам цывільную афарбоўку, як, напрыклад, жалобная песьня гулякі, песьня пра жаб, дзе выказваюцца насьмешкі над браманскімі школамі. Сустракаюцца ў Рыг-ведзе байкі пра звяраў і паэтычныя казкі, не кажучы ўжо пра песьні, якія маюць дачыненне да конскім багоў і пра непрыстойныя вершы. Заахвочваючай нагодай для складання такіх сьпеваў былі вялікія ахвяравальныя сьвяты, ладзімыя згодна з загадам нейкага князя, або заможнага гаспадара. У такіх выпадках браман, навучаны вершаскладанню, павінен быў прадставіць песьню і аўтары самым ганебным чынам прыстасоўвалі свае творы да дадзенага становішча. Шмат якія із песьняў Вед носяць не толькі ліслівы характар, перапоўнены дагодлівасьцю перад гаспадаром у гонар якога ладзіцца ахвяраванне, і яго захапленнямі, але ў іх цалкам адкрыта выказвае жаданне атрымаць вялікі ганарар. Усё гэта магло існаваць нават і пасьля прыезда ў Індыю ангельцаў.

Пры большай частцы ведыйскіх песень пазначана імя складальніка, але гэтыя паведамленні не маюць ніякага значэння, так як прыпісваць фальклорныя

паданні якому-небудзь знакамітаму складальніку справа вельмі звычайная. Самым знакамітым з усіх міфічных аўтараў быў Васішта, якому прыпісваецца сёмая кніга Рыг-Веды. Падобна таму, як усе іншыя паведамленні пра аўтараў у ведыйскай літаратуры маюць легендарны характар, так і гісторыя Васішты цесна злучана з міфам пра бога Індру і яму прыпісваецца боскае паходжанне. Ён уяўляецца нам у такім жа выглядзе, як Арфей і іншыя сьпевакі далёкай старажытнасьці, якія не маглі існаваць у тым выглядзе, у якім іх малююць. І вось замест таго, каб глядзець на Веды як на нядаўна складзеныя зборнікі індыйскага фальклору, якія маюць толькі этнаграфічнае, а не гістарычнае значэнне, атрымаўшыя іх еўрапейскія навукоўцы, пачалі з чыста дзіцячай наіўнасьцю вызначаць час іхнага стварэння грунтуючыся на прозвішчах міфічных аўтараў. Гэтае размяркаванне песень было выканана так старанна і згодна з чыста адвольнымі правіламі, што француз <...> нават знайшоў у іх выкарыстанне арыфметычнай сістэмы (колькасць і даўжыня песень і слупкоў). Некаторыя ў пошуках храналогіі пачалі размяркоўваць песьні грунтуючыся на імёнах аўтараў, затым на імёнах багоў. Раней за ўсіх стаіць Агні, пасьля яго – Індра, і г. д. Пачалі храналагізаваць і па памерах, звяртаючы ўвагу на радкі і прытрымліваючыся дакладнасьці даходзячай да педантызму. Дзесятая кніга Ведаў, утрымліваючая асабліва вялікую колькасць заклінальных і філасофскіх песень звычайна лічыцца больш позняга паходжання, чым іншыя кнігі. А на самай справе пра іх “старажытнасць” прасьцей за ўсё меркаваць толькі грунтуючыся на часе знаходжання іх еўрапейцамі, дзеля задавальнення пошукаў якіх, верагодна, і быў запісаны ўвесь гэты фальклор у перамешку з брамінскімі паданнямі нядаўняга часу. З гэтым згодны і самі арыенталісты. “Перш за ўсё варта заўважыць, што Веды на працягу стагоддзяў былі перадаваемы вусна, не пісьмова, – кажа, напрыклад, Шантэпі-дэ-ля-Сасей (стр.12). – апафеоз іхных аўтараў дасягае ў іх саміх ўжо поўнага развіцця. Іх атаясамлаюць нават з багамі (і перш за ўсё з Агні); яны былі надзелены боскай уніклівасьцю, былі сутрапезнікамі багоў і сваімі песьнямі і замаўленнямі вырабілі геніяў, а іхныя ахвяраванні надалі сонцу яго ззянне. У Пурушазукце (X, 90) паведамляецца, што ад ахвяравання першабытнага чалавека паўсталі тры веды, разам з якімі хаця і не згадваецца Атарва-Веда, але згадваюцца заклінальныя песьні, а ў Сатапаці-Брамана апавядаецца, што Праджа-Паці, які першапачаткова існаваў адзін, на падставе сваёй пабожнасьці вырабіў із сябе тры сусьветы (зямлю, паветра, неба), адкуль у сваю чаргу паўсталі тры багі: Агні, Вайя, Сурыя; а ад іх тры Веды, як неабходная ўмова ахвяравання. Із гэтага і падобных месцаў выводзіцца як боскае паходжанне, так і сусьветнае значэнне Вед: ўсе сусьветы сабраны ў тых Ведах і спачываюць на іх; такім чынам апошнія з'яўляюцца як эсэнцыяй, так і падмуркам светабуду. Вывучэнне Вед належыць да пяці штодзённых абявязкаў: 1) прынясенне падарунка жывёлам (кармленне птушак); 2) Людзям (гасціннасць, да падання глытка вады); 3) Продкам; 4) Багам (да звязкі дубцоў); 5) Вывучэнне Вед. Хто занімаецца гэтым вывучэннем, той ужо прыносіць такім чынам ахвяру багам: песьні Рыг-Веды – ўсё адно, што дар малака, песьні Яджур-Веды – масла, Сама-Веды – сомы, Атарвы-Веды – тлушчу. Выканаўшы гэты абавязак узнагароджваецца тым, што атрымлівае вечнае жыццё і злучаецца з Брамой. Але ўсё гэта, чытач, гаворыцца толькі ў саміх жа Ведах або ў прамовах брамінаў. А ці сапраўды гэтыя Веды пастаянна чытаюцца і вывучаюцца нават брамінамі? Але ж, калі б гэта было так, то іхныя асобнікі павінны былі б мецца нават і ў XVII стагоддзі ў кожнай індыйскай пагадзе? Бо гэта ж не іголкі ў маленькай скрыначцы, якія можна ўтаіць. Акрамя таго, для іхнага пастаяннага

папаўнення ў Індыі павінны былі існаваць ва ўсіх буйнейшых гарадах асобныя цэхі перапісчыкаў, занятых толькі гэтай справай, як было ў Яўропе да вынаходніцства друкавальнага станка. А для іхнага распаўсюджвання павінны былі б існаваць і кніжныя лавачкі... Дзе ўсё гэта? Чаму пра гэта ніхто не піша? І калі Веды ў рукапісах да такой ступені распаўсюджанны па Індыі, што іх маюць ўсе браміны ў сваіх хатніх біблятэках, то як жа ўсё гэта схавалася ад еўрапейцаў?

“Сістэматычнае вучэнне пра Веды выкладаецца, – кажуць нам, – каментатарам Саяна-Мадгава (XIV стагоддзе пасьля Н. Х.) Становішча, занімаемае філасофскімі школамі адносна Вед, было, – кажуць нам. – надзвычай супярэчлівым, тым не менш усе школы адчувалі неабходнасць патлумачыць для сябе гэтае сьвятое слова і падмацаваць яго сваім вучэннем. Таксама трэба было абмяркаваць разнастайныя сумневы і непаразуменні і вызначыць стаўленне падання да Вед. Да паданняў, акрамя Сутры, яшчэ дадавалі заканадаўчыя кнігі, філасофскія афарызмы і яны прызнаваліся заснаванымі на Ведзе і прызначанымі для судраў і жанчын, каб і яны маглі знайсьці шлях да выратавання, між тым як вывучэнне Веды было прывілеем мужчын трох чыстых каст”.

Але ж, зноў, чытач, для таго, каб паверыць у існаванне гэтых спрэчак, патрэбна дапусьціць, што ва ўсіх спрачаючыхся меліся гэтыя кнігі, інакш гэта была б не спрэчка, а простыя крыкі. І вось, пакуль еўрапейскія навукоўцы не растлумачаць нам, чаму рукапісы такіх распаўсюджаных, згодна з іхнымі запэўніваннямі, кніг не былі вывезены імі хаця б у некалькіх сотнях аднайменных асобнікаў у Яўропу і не захоўваюцца ва ўсіх музеях, хаця б па аднаму асобніку, мой скептыцызм адносна агульнай вядомасьці іхнага зместу ў Індыі, застаецца ў поўнай магутнасьці.

Адносна таго, што слова Веда існавала там з часоў сярэдніх стагоддзяў, і таго, што з гэтым найменнем злучалася ўяўленне пра нейкае сакрамэнтальнае божае пісанне, я, вядома, ніколькі не сумняваюся. Але ж номены яшчэ не з’яўляюцца феноменамі.

# Глава IV.

## Узоры ведычных паданняў.

Адсутнічае

# Глава V

## Браманская тэалогія згодна з еўрапейскімі уяўленнямі.

Самым агульным тэрмінам для пазначэння бога на санскрыцкай мове з'яўляецца ***дэва***, тое ж што лацінскае ***дэўс***, ад лацінскага кораня ***дыес*** – дзень, г. азн. сьвятло, а разам з ім і блакітнае зіхацячае неба, па санскрыцку ***дзіу*** або ***дзіў***. Але, побач з агульнай назвай бога, слова ***дэва*** ў той жа час пазначае пэўнае згуртаванне звыш-натуральных істот называемых “***дэвамі***”, якія ў шматлікіх гімнах супрацьпастаўляюцца іншаму згуртаванню багоў – “***аузарам***” (ад азу-жыццё), паказваючы тым самым, што яны з'яўляюцца жывымі істотамі.

Колькасць усіх багоў у ведыйскай тэалогіі звычайна налічвае 33, пры гэтым іх яшчэ падзяляюць згодна з трымя месцамі знаходжання – неба, паветра і зямля –

на ***вазус рудрас і адаміес***. Аднак жа лічба 33 далёка не дастатковая для фактычнай колькасьці багоў; у адной песні Веды гаворыцца, што “3339 багоў узносілі ўшанаванні Агні”. Аднак кожная ведыйская песьня звычайна мае дачыненне да аднаго або да двух богоў (хаця і сустракаюцца песьні звяртаючыся да “усіх богоў”), і абраны бог часта ўшаноўваецца як адзіная і найвышэйшая істота, пры гэтым без якой бы то ні было крытыкі яму надаюцца рысы, функцыі і падзеі із жыцця гэтых апошніх. У выніку, дзякуючы такому змяшанню ўсіх божых уласьцівасцей, надзвычай абцяжарваецца магчымасць выпрацавання пэўнага ўяўлення пра індывідуальнасць асобных багоў. Нельга ўявіць сабе, каб падобнае своеасаблівае становішча магло б служыць пярэдаднем монатэізма; яно хутчэй змяшчае ў сваіх недрах зародкі больш позняга пантэізму.

Ведыйскія багі часьцей за ўсё прызнаюцца “багамі прыроды”, прычым іх звычайна уяўляюць сабе ці непасрэдна ў якасьці натуральных магутнасьцей прыроды, ці ў якасьці выразнікаў гэтых магутнасьцей. Індра не ёсць маланка, але ён кідаецца маланкі; Індра не дождж і сонца, але ён з’яўляецца тым, хто насылае дождж і сонечнае сьвятло. Агні з’яўляецца полымем і не уяўляе із сябе нічога большага, як гэтую стыхію ў яе розныя формах, а такі бог як Сурыя, цалкам тоесны з сонцам.

Немагчыма з дапамогай кароткіх выказванняў ахарактарызаваць багоў веды. Гэтая рэлігія складалася на працягу доўгага часу і з’яўляецца вынікам дзейнасьці шматлікіх пакаленняў і народаў, таму не варта здзіўляцца тым супярэчнасьцям і адрозненням ва ўяўленні пра багоў, якія заўважаюцца ў ведах. Гэтае адрозненне заўважаецца яшчэ больш выразна, калі мы пачнем назіраць стракатую рэчаіснасць ніжэйшага рэлігійнага жыцця, уласьцівага сучаснай народнай масе. Тут, разам з шэрагам сьветлых чыстых багоў, у паветры і на зямлі існуе цэлы рой духаў і дэманаў: чэрці, нячысьцікі, эльфы, ведзьмы і прывіды, ад якіх чалавек павінен імкнуцца або абараніць сябе, або набыць іхнае размяшчэнне да сябе. Гэтыя багі другога разраду, як больш задавальняючыя рэлігійныя патрэбы народнай масы, чым прызначаныя жрацамі сьвятыя істоты вышэйшага гатунку, карыстаюцца ў ёй не менш сур'ёзным ушанаваннем і так часта з'яўляюцца дзеючымі асобамі ў міфічным асяроддзі афіцыйных багоў, што цяжка нават правесьці мяжу паміж сьветам багоў і дэманаў. Калі ж мы яшчэ дададзім да гэтага першабытнае шанаванне разнастайных рэчаў і з'яваў прыроды, якімі з’яўляюцца горы, рэкі, жывёлы і расьліны, – адным словам, самы першабытны фетышызм, з далучэннем да яго культу памёршых і ўшанавання продкаў, то мы атрымаем надзвычай стракатую і далёка не заўсёды ўзнёслую выяву ведыйскай рэлігійнасьці, якая аднак мае тую перавагу, што яна дае нам усебаковую і не падробленую яе характарыстыку. Лічыць гэтых дэманаў парэшткамі першабытных тубыльных культаў няма ніякіх падставаў і яна настолькі ж сумеснага паходжання, як і самі багі і як цалкам падобны ж сьвет духаў, сустракаемы намі і зараз у Яўропе.

Але ўсе гэтыя багі звычайна ўяўляюцца валодаючымі цалкам чалавечымі ўласьцівасьцямі: яны ядуць і п'юць, адчуваюць прыхільнасць і нянавісць; акрамя таго, яны не пазбаўлены здольнасьці да выкарыстання спрытнай хітрасьці і грубых жартаў. Яны часта малююцца ў выглядзе ваяроў і яшчэ часьцей, а ў больш позні перыяд нават пераважна – у выглядзе сьвятароў, выконваючых ахвяравальныя звычаі.

А там, дзе вобразы багоў не зліваюцца ў нешта нявызначанае, яны губляюцца ў жахлівым і звышнатуральным. Выявы ў выглядзе напалову жывёлін,

або цалкам у выглядзе жывёлін, заблытаныя сімвалы і розныя незвычайныя стварэнні і зараз лічацца ў індусаў за багоў. Не варта аднак забывацца (пры часта здараючымся параўнанні з грэцкай рэлігіяй), што падобныя ж грубыя ўяўленні пра багоў існавалі і ў народнай фантазіі элінаў і еўрапейцаў сярэдніх стагоддзяў, і што пластычная прыгажосць алімпійцаў была набыткам найноўшага мастацтва, а не рэлігіі.

Духаўнае жыццё вышэйшых багоў валодае звычайнымі якасьцімі цалкам развітага боскага тыпу – неўміручасцю, ўсемагутнасцю, усёведаннем і г. д. Аднак, гэтая неўміручасць надаецца ім чароўным напоем. Усемагутнасць часта з’яўляецца чыста фізічнай магутнасьцю, а іхнае ўсёведанне ў міфалогіі часта засяроджана ў вельмі вузкіх межах.

У ліку індыйскіх  багоў першае месца належыць старажытнаму “Дыявус-Пітару”, г. азн. Дэўсу Юпітэру лацінаў і Дыясу-о-Патэру грэкаў. Але немагчыма зрабіць выснову, ці лічыўся ён у ведах бацькам усіх багоў, ці роўным ім богам; мы не маем таксама ніякіх звестак пра яго характар, дзейнасць і культ, як у наш час няма і праваслаўных храмаў, прысьвечаных богу-айцу. Уяўленне пра Дыявуса цесна змучаецца з уяўленнем пра Прыцівi (зямля), і ў індусаў, як амаль і ўсюды, зямля лічыцца багіняй.

Таксама высокаўшаноўваемая Адзіці, згона з вучэннем індыйскай тэалогіі, з'яўляецца багіняй зямлі. Яна таксама часта, на падставе надзвычай вольнага і вельмі сумнеўнага тлумачэння яе імя (“незвязаная”) і яе сыны Адзіціімы ахоўваюць ўсё: яны па-сутнасьці нябесныя абаронцы ўсяго сусьвету; “далёка глядзяць сьвятыя і, ахоўваючы вышэйшае валадаранне, караюць ўсякае злачынства”, – кажуць веды. Этычны бок іхнай дзейнасьці ўсюды выступае на першы план.

Мітра, культ якога быў так характары для Візантыі ў IV і V стагоддзях н. э., таксама належыць да ліку багоў якія ў ведычны перыяд мала прыкметны. Толькі адна песьня прысьвечана выключна яму; ў іншых выпадках ён звычайна згадваецца разам з Варунай, сугучна са славянскім Пяруном і грэцкім Уранам. Раней Мітра, як здаецца, быў магутным богам заходніх арыйцаў, на што, ва ўсякім разе, паказвае яго найменне (па санскрыцкі “сябар”). Із Веды мы ведаем, што яго шанавалі як паблажлівнага бога-ахоўніка, які вызваляе ад патрэбы і бедстваў, абараняе сваіх прыхільнікаў ад хвароб, сьмерці і пагібелі, памнажае багацце і дае людзям здароўе, але, нягледзячы на ўсё гэта, варта баяцца яго гневу. “Мы не жадаем зведаць гнеў Мітры, шаноўнейшага із мужоў”.

Варуна ва ўяўленні індусаў малюецца звычайна ў вобразе чалавека; яго мясьціна знаходзіцца высока на нябёсах, ён раз’язджае туды і сюды на сваёй калясьніцы, і носіць пышнае адзенне. Яго часта называюць “цар Варуна”; ён пануе над усім сьветам і кіруе ім, падпарадкоўваючыся строгім законам. Ўсюды, дзе з’яўляецца вада, там Варуна выяўляе сваю магутнасць; ён размяркоўвае нябесныя струмені і пасылае іх на зямлю. Варуна ўсюдыісны, аднак пераважна знаходзіцца на захадзе. Яму ўсё вядома, нават ўнутраныя памкненні сэрцаў, а тое, што ён не можа даследаваць сам, тое яму паведамляюць тысячы духаў. “Хто ідзе ці стаіць, хто таемна крадзецца, хто шукае сабе прытулак, або спяшаецца ад яго, пра што гавораць двое седзячых разам, тое ведае цар Варуна, які прысутнічае ў якасьці трэццяга. І калі б я перайшоў за межы неба, то ўсё ж я не выйшаў бы із пад улады цара Варуны; з нябёсаў спяшаюцца сюды яго наглядчыкі, аглядаючы сьвет тысячай вачэй”. Так падобна з біблейскімі словамі гучыць песьня Варуны.

У якасьці валадара сьвету Варуна перш за ўсё ўпарадкаваў прыроду. Ён аддзяліў неба ад зямлі і заснаваў падпоркі падтрымліваючыя неба; ён праклаў шырокі шлях сонцу і распрасьцёр пад ім зямлю як скуру; ён кіруе днямі, як фурман сваімі коньмі.

Варуна-судзьдзя ў большасьці выпадкаў з'яўляецца мсціўцай, але часта ён уяўляецца і ў якасьці бога міласэрднасьці, прабачаючага і забываючага на правіну, які ў той жа час настаўляе людзей на розум і рахмана кіруе імі на працягу іхнага жыцця.

Пры звяртанні да яго малітва набывае вельмі вялікую ролю і некалькі адсоўвае на задні план рэлігійнае камерцыйнае пагадненне з богам – ахвяры; у ведыйскіх песьнях, асабліва ў тых із іх, якія прыпісваюцца сьпеваку Васішце, нярэдка чуецца шчырая, перажытая малітва, і не без жалобнага ляманту: “Прабач нам, Варуна тое чым некалі зграшылі нашы бацькі; даруй і тое, што здзейснілі мы ўласнай рукой; забяры ад мяне мае ўласныя злачынствы і не дапусьці мяне, о валадар, зведаць адкупленне за чужыя грахі”. Тут хутчэй за ўсё можна б дапусціць параўнанне з біблейскай пабожнасьцю.

Імя Варуны звычайна выводзіцца ад слова вар – атачаць, пакрываць. Але нядаўна Альдэнберг і Гардзі мелі намер давесьці, што ён быў богам месяца, а першы прыпісаў яму нават сяміцкае паходжанне, гістарычным падмуркам для чаго паслужыла некаторае яго падабенства з вавілонскімі ўяўленнямі пра багоў.

Але дзейнае жыццё пастаянна ваяўнічых індусаў не задаволілі адны гэтыя таямнічыя багі – азуры. Была патрэба ў смелых і адважных багах, якія маглі б дапамагаць на вайне і на працы і бралі б удзел у жыццёвых радасьцях; такімі багамі, зноў відаць з захаду, з'явіліся дэвы, ад дэўс – бог, якім пераважна і прыносіліся ахвяры. У шматлікіх ведыйскіх песьнях гаворыцца, што дэвы выкрадаюць у азураў чароўнае пітво і прыманіваюць да сябе ахвярнае полымя Агні. Варуне прапануюць падпарадкавацца панаванню дэваў і перамога апошніх, як перамога хрысьціянскіх багоў над паганскімі ў Яўропе, была настолькі поўнай, што слова дэва стала служыць для пазначэння бога, а азуры – для пазначэння дэманаў, і яго сталі разумець у сэнсе а-зуры – нячыстыя.

Характар дэваў найболей выразна раскрываецца ў асобе галоўнага прадстаўніка гэтай чароўнай сям'і, Індры, імя якога, згодна з навейшым тлумачэннем, як быццам бы, азначае “муж”, як і грэцкае Андрэй. Гэты “Андрэй Першазванны” з’яўляецца ўлюбёнцам індусаў; ён самы нацыянальны і самы папулярны із ведыйскіх нябесных сьвятых; ён часьцей за усіх заклікаецца і часьцей за ўсіх ўслаўляецца. Яго магутная мужчынская існасць дастаткова характарызуецца мянушкай: “выцякаючы бык”. У бітве ён з'яўляецца непераможным волатам і жахлівым руйнавальнікам ворагаў.

Сьветла-русы, а не цёмны сын поўдня, імчыцца ён – індускі Ілля – на сваёй калясніцы, якую вязуць па паветры бліскучыя коні: з громавай паліцай у руцэ кідае ён маланкі на ўсе бакі. Неба і зямля слухаюцца яго волі. Зямлю ён закрывае адным пальцам нагі, а ў сьціснутым кулаку трымае ўвесь сьвет – даходзіць да абсурду праслаўляючая яго фантазія.

Яго ворагамі з'яўляюцца ўсе дэманы, шкодзячыя прыродзе і ўціскаючыя людзей; паміж імі асабліва часта згадваюцца чарнаскурыя дазівусы, якіх быццам бы выціснулі індусы; але ў міфічных паданнях яны працягваюць жыць у краіне і зараз у якасьці дэманаў, і ў выглядзе жахлівых прывідаў; у паветранай прасторы яны таксама вядуць свае падкопы і нават спрабуюць пракрасьціся на нябёсы.

Акрамя іх на Андрэя-Індру паўстаюць начныя духі – іяты, таямнічыя істоты, і нарэшце пані – чароўныя скнары, якія не жадаюць выдаць скарбаў дажджу. Яны выкралі воблакавых кароў, із якіх струмяніўся дождж, і схавалі іх у скалістай пячоры; толькі з дапамогай Ураспаці, бога малітвы, Індра набывае здольнасць пракрасьціся ў іхную скалу і вызваліць кароў.

Але самым лютым ворагом для Індры з'яўляецца Врытра, паветраная пачвара, якая пільнуе ваду і праз сваю злосць трымае яе замкнёнай. І вось "стоячы высока ў паветры, кінуў Індра сваю ўражваючую дзіду ў Врытру. А Врытра, ахінуўшыся туманам, знянацку кінуўся на яго, але Індра сваёй вострай зброяй перамог ворага". Іхная барацьба і зараз такая жахлівая, што неба і зямля і ўсе стварэнні дрыжаць, уражаныя дыханнем Врытры, ўсе багі збягаюць, неба асьвечваецца маланкамі Індры, і нават Твастар, які скаваў грамавы молат, падае без пачуццяў пры выглядзе яго руйнуючых здзяйсненняў. Імя Врытра азначае "перашкода", адсутнасць дажджу падчас засухі. Часта ён пазначаецца мянушкай Агі змея.

Звычайнай дзейнасьцю Індры з'яўляецца перамога над дэманамі засухі; у якасьці бога вятроў ён праносіцца па небу і з рыкам бягуць воблачныя каровы. Горы ўстрасаюцца, калі ён руйнуе дрэвы і віхуром высока паднімае пыл. Пасьля дажджу Індра таксама дзейнічае як дабрадзейны бог, калі людзі ўжо задаволіліся колькасьцю вільгаці і адчуваюць неабходнасць у сонцы, то ён зноў параджае сонца, злучае яго сьвятло са сьвятлом дня і дазваляе зямлі глядзець на неба. І ў чалавечым жыцці ён пастаянна з'яўляецца ў выглядзе дапамагаючай магутнасьці. Той каму ён дапамагае ніколі не бывае пераможаным і без яго ніколі не магчыма пераможная бітва. Ён дае абодвум рукам: і правай і левай; дае не мала, а шмат, і нічаго ніколі не пакідае для сябе.

Аднак ён не дасягае найвышэйшай мудрасьці, уласцівай Крану – Варуне. Ён валодае як цнотамі, так і слабасьцямі ваяра; ён грубы, схільны да пачуццёвасьці, неўстрыманы ў ежы і пітве і праглынае "цэлыя сажалкі ап'яняючай сомы", а пасьля гэтага ён кружыцца ў паветранай прасторы і не ведае што знаходзіцца знізу, што наверсе. Сьвятасць адружання таксама не вельмі выразна адлюстроўваецца ў яго маральнай сьвядомасьці, і яго жонка Індрані, гэтая грэцкая Андрамеда, вымушана спадабацца яму ўсімі сродкамі. Аднак жорсткасьці ў характары Індры няма; ён запальчывы, але яго лёгка ўтаймаваць; ён лагодны і не вызначаецца практычнай разважлівасьцю. Таму, нягледзячы на ўсю сваю магутнасць, ён часта зведвае сур'ёзную небяспеку, якую пазбягае толькі дзякуючы хітрасьці сваіх памочнікаў. Наогул жа Індра малюецца з вялікім гумарам і ў гэтым дачыненні ён нагадвае германскага Тора.

Служкамі і спадарожнікамі Індры з'яўляюцца бурныя Маруты, шматлікі рой дзікіх і неўтаймаваных вятроў. Яны маюць назву распаўсюджвальнікаў дажджу; дождж – гэта іхны пот, які цячэ на зямлю, калі яны са свістам і выццём разам з Індрай носяцца па паветры; падобна апошняму, яны па-сутнасьці адважныя ваяры на калясніцах і ў бойцы знаходзяцца побач з ім, хаця ў сьмеласьці і энергіі далёка ўступаюць вялікаму богу. Гэта відаць із адной песьні (1, 165), у якой Індра, знайшоўшы зручную нагоду ў выглядзе падарожжа дзеля прынясення вялікай ахвяры, незнарок зацягнуў іх у бойку; як толькі Маруты заўважылі Врытру, так і кінуліся на ўцёкі, і потым з пагардай былі абсмяяны богам.

У цеснай і нават сваяцкай сувязі з Марутамі знаходзіцца Рудра, злы бог Ведаў. У ведыйскай манаграфіі поруч з Адытыямі існуе цэлае згуртаванне

“Рудраў”; ён разам з тым прылічаецца да шэрагу нешматлікіх ведыйскіх багоў, якія захаваліся да гэтага часу. Паданне паведамляе, што калі бог Праджапаці здзейсніў кровазмяшанне са сваёй дачкой, то багі, маючы намер стварыць такую істоту, якая была б дастаткова жорсткай, каб пакараць гэтую правіну, зняслі ў адну кучу самыя жахлівыя рэчывы, якія ў іх былі, і з іх утварыўся Рудра – дзікі паляўнічы, які са сваім статкам накіроўваецца на зямлю і ўражвае стрэламі із лука ненавісных яму людзей; “жывот яго чорна-сіні, а сьпіна чырвонага колеру”; цёмна-сінім ён афарбоўвае ворага, а чырвоным уражвае таго, хто яго ненавідзіць. Асабліва блізкія дачыненні ў яго з быдлам, над якім ён валадарыць і на якое, будучы ў дрэнным стане духу, насылае разнастайныя хваробы. Але так як, будучы ўлагоджаны ахвярамі, ён можа і зняць хваробу, то пагэтаму ён лічыцца таксама і лякуючым богам. І над людзьмі ён таксама выпрабоўвае сваю магутнасць насылаць хваробы і лячэнне, з нагоды чаго над хворым вымаўляюцца замаўленні: “стралу, якою Рудра працяў табе члонкі і сэрца, мы зараз выцягваем у цябе з усіх бакоў”. Альдэнберг (Рэлігія Веды № 223) даказаў, што ён істота падобная шматлікім фаўнам і сільванам індагерманскай міфалогіі, якіх баяцца як варожых магутнасьцей і якія праяўляюць сваю боскую магутнасць то ў якасьці ахоўнікаў статкаў, то ў якасьці духаў буры.

“Прачнулася полымя на зямлі, ўзышло сонца; велічная, бліскучая зарніца паказвае сваё хараство і вы, о браты Асьвіны, ужо наладзілі сваю калясьніцу; бог Выратавальнік Санітар паўсюдна шырока разлівае жыццё”. Так адзін гімн малюе нам выяву ведыйскай раніцы. Асьвінамі, якім прысьвечана гэтая песьня, былі два браты. Іхнае найменне паходзіць ад асва – конь, харэктэрызуючы іх як кіруючых коньмі. Несумненна, што згодна са сваім міфалагічным вобразам яны тоесныя з Двайнятамі, але больш чым сумнеўна, каб яны тут мелі нейкую сувязь з гэтым сузор'ем. Хутчэй яны тут знаходзяцца ў сувязі са сьветавымі з'явамі раніцы: прыцемкам або першымі прамянямі сонца, з ранішняй і вечаровай зарніцамі. Асьвіны апісваюцца як багі моцныя, сьмелыя, пастаянна ветлівыя, усім дапамагаючыя і ўсіх ахоўваючыя; яны не толькі прыносяць сьвятло і ранішнюю расу, але і дапамагаюць чалавеку пры розных патрэбах і небяспеках і спадарожнічаюць яму ў якасьці добрай магутнасьці пад час розных адказных момантаў жыцця. Яны ахоўваюць праведнага падчас бітвы; з'яўляюцца падчас буры і пры небяспецы пагібелі на моры і шчасліва вяртаюць яго дадому. Да іх таксама звяртаюцца як да лекараў, і яны лякуюць пераважна вокавыя хваробы і нават магуць вярнуць сьляпому зрок. Людзям, якія ад старасьці зрабіліся нямоглымі, яны даюць маладосць, жанчынам у гадах вяртаюць прывабнасць і прыгажосць; не маючым дзяцей даюць іх, і хто жадае шчасьліва адружыцца, таму павінны садзейнічаць Асьвіны. Гэтыя ж сьвятыя браты, падацелі расы, даюць ўсім поспех і посылаюць урадлівасць зямлі.

Ружовая дзяўчына, багіня ранішняй зарніцы – Ушас, суправаджае сваіх братоў Асвінаў; яна іх абодвух абрала сабе ў якасьці чалавека і кожную раніцу акуратна спяшаецца да месца спаткання, шукаючы сабе нарачонага, падобна дзяўчыне страціўшай родных, якая з гэтай нагоды вымушана самастойна турбавацца пра сваё адружанне; яна не саромеецца паказаць ўсяму сьвету сваю юную прыгажосць, або ўпрыгожвае сябе як жанчына, жадаючая спадабацца мужчыне. З'яўленне зарніцы Ўшас служыць сігналам для наступлення дня: яна разганяе па небу аблокавых чырвоных кароў і едучы на сваёй прамяністай калясьніцы, пракладае шлях да сонца. І вось наступае абуджэнне жыцця на зямлі:

птушкі вылятаюць із гнёздаў, полымя ўспыхвае на вогнішчы і на ахвярніку; людзі ідуць шукаць сабе ежу; жрацы сьпяваюць ухвальныя песьні і спадзяюцца з дапамогай яго ахвяры набыць сабе багацце. Падобна грэцкім багіням Эос і Аўроры, з якімі яна тоесная згодна з найменнем "багіня Ўшас" (гарэць), існуе настолькі ж паэтычны, наколькі і рэлігійны вобраз.

Бог Вішну, г. азн. Вышні, мяркуючы па яго найменню, прыйшоў із Балканскай паўвыспы ад славян, як другая асоба Тройцы (Трымурці – Тры морды), і пра яго ў Ведах паведамляецца толькі тое, што ён усё неба праходзіць трыма крокамі, і ведыйская тэалогія атаясамляе гэта з раніцай, поўднем і вечарам. Але із браман мы раптам даведваемся, што Вішну лічыўся карлікам, суправаджаўшым цара багоў Індру ў яго палётах і, дзякуючы сваёй хітрасьці, выказваўшым яму дапамогу пад час крытычных момантаў. Гэта яму ўдавалася тым лягчэй, што ён ведаў разнастайныя чарадзействы, і з дапамогай цудоўных пераўтварэнняў мог набываць такі выгляд, які быў патрэбным пры дадзеных абставінах. Такія пераўтварэнні, дарэчы, не рэдкія ў тэалагічнай міфалогіі.

Паралельна гэтаму Вышняму Богу мы маем і другое адлюстраванне славянізму ў індыйскай тэалогіі ў выглядзе бога Агнца, званага Агні, што таксама сугучна са славянскім найменнем полымя (агонь) і з лацінскім агонь.

Падобна таму, як паўсюдна на зямлі полымя ўшаноўваецца як сьвяты скарб вогнішча і заступнік сядзібы, так і ў жрэцкай рэлігіі Ведаў Агні ўшаноўваецца як ахвярнае полымя; агні, агульнаўжываемае індыйскае слова для пазначэння полымя, служыць таксама і найменнем бога. Жывучы ў дрэве, ён як быццам драмае ў ім, але як толькі ахвяравальнік размяшчае дровы, дык ён зноў адраджаецца; ён жыве на сонцы і нават замяняе яго, калі-нікалі. Загарэўшыся да ўзыходу сонца полымем зарніцы, ён паднімаецца да неба. Там нават існуе паданне, што гэты бог быў выкрадзены з неба і індыйскі Праметэй мае назву Матарысван.

У цеснай сувязі з культам Агнца-Агні знаходзіцца Сома – напой, прыгатаваны са сцяблоў расьліны <...>. Яго сьветла-жоўты сок, даведзены да закісання і звычайна змешваемы з малаком, ўжываецца падобна віну ў выглядзе сьвяшчэннага напою, і таму замяніў у Індыі і Персіі хрысьціянскае прычашчальнае вінаграднае віно, для заваблівання багоў, у асаблівасьці Індры, валадара і цара сомы, каб яны, сышоўшы на зямлю, разам з сабой неслі свае падарункі, асабліва дождж. Што Сома, як і Вінны Дух, ушаноўваецца як бог – цалкам адпавядае поглядам не адных толькі індусаў; але магутным богам ён з'яўляецца таму, што багі не магуць абысьціся без гэтага "сьвятога духа" і як следства, як толькі яны пачуюць яго пах, яны неадкладна з'яўляюцца на месца ахвяравання.

Пытанне па тое, якім чынам бог Сома ператварыўся ў бога Месяца або, ва ўсякім разе, быў пастаўлены ў цесную сувязь з ім (слова Сома па-санскрыцку з'яўляецца назвай Месяца), застаецца да гэтага часу прадметам спрэчак. Часта сьвяты дух Сома злучаецца з Агні або прыраўноўваецца да яго. Маланка-полымя нясе дождж, дождж у сваю чаргу стварае полымя, так як ён, садзейнічаючы росту дрэваў, укладвае ў іх полымя; Сома – гэта полымя у вадкім стане. Такім чынам старажытны добра вядомы міф пра нізвядзенне Самы варта тлумачыць сувяззю, якая існуе паміж Агні і Сомай.

"Сваім пастаянна павялічваючымся значэннем багі Агні і Сома абавязаны іхнай сувяззю з ахвярапрынашэннямі, так як рэлігія Веды з пачатку да канца з'яўляецца ахвяравальнай рэлігіяй", – што і цалкам натуральна. Бо без ахвяраванняў у перыяд натуральнай гаспадаркі не магло існаваць і служак культу, а

таму зразумела, што яны і праслаўлялі іх. “Ахвяра – гэта сэрца сусьвету”. Самі багі ў параўнанні з ахвярай маюць другараднае значэнне, уяўляючы із сябе як бы нешта дадатковае. Яны самі прыносяць ахвяры, і толькі дзякуючы магутнасьці ахвяры атрымліваюць магчымасць праяўляць сваю магутнасць. Сам сусьвет створаны божай ахвярай, і самі багі паўсталі із ахвяры. Месца пачынання ахвяры з’яўляецца неба.

Ахвяра асьвячае і благаслаўляе не толькі паўсядзённае жыццё чалавека, і ўсе яе важнейшыя моманты, але таксама ахоўвае яго на працягу ўсяго яго існавання і засьцерагае ва ўсіх абставінах нават чыста фізічнага характару.

У сваім першабытным выглядзе ведыйская ахвяра з’яўляецца, як і хрысьціянская сьвяшчэнная оргія, вясёлым баляваннем, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей, – сьвяты дух віна, прыгатаваная для агульнага з’ядання ахвяра і сьпевы, вымушаючыя багоў сысьці на зямлю; ім прапануецца заняць месца на сьвяшчэннай траве, раскіданай перад ахвярнікам, і тады ў вялікай колькасьці прыносяцца нябачным несьмяротным усё, што можа даць ім задавальненне: бліны, клёцкі із хлеба і рыса, малако і масла, тлушч і мяса ахвярных жывёл, але перш за ўсё сома, каштоўнейшы із напоеў. Водар, музыка і скокі таксама цешаць гэтых высокіх гасьцей, не кажучы ўжо пра праслаўляючыя іх сьпевы.

Усімі сродкамі спрабуюць вымаліць міласьцівае стаўленне боскай магутнасьці; аднак вялікая ветлівасць, выказваемая ў гэтай гасьціннасьці, мае падставу, у значнай ступені, у эгаістычных мэтах. Я табе – а ты мне. Такой з’яўляецца кароткая формула ведыйскай ахвяры, як і нашай і цалкам як пры нейкім гандлёвым пагадненні пры гэтым падлічваецца, колькі падарункаў павінны аддаць багі ў якасьці аплаты за ахвяру.

Цалкам падобны ж характар маюць малітвы, суправаджаючыя ведыйскія ахвярапрынашэнні. Сквапнае прагненне ўзнагароды паглядаецца ва ўсіх сьпевах. “Калі б я, о Індра, быў такім жа магутным, як ты, то, о ўсяшчодры, я б вельмі адарыў спевака; я б не дапусьціў яго да беднасьці і прыйшоў бы на дапамогу таму, хто кожны дзень мяне ўслаўляе” (VII, 32). А ў прыватных выпадках ахвяра мела і адкупленчы характар.

Ахвярапрынашэнні здзяйсняліся ў сядзібах, або пад адкрытым небам; пра храмы веды не згадваюць. Па свайму прыватнаму або афіцыйнаму характару яны падзяляліся на ахвяры з адным ці трыма вогнішчамі. Найбольш ужываемым і першабытным із іх было вогнішча гаспадара сядзібы, сьвятое полымя вогнішча; іншымі двума былі “ахвярнае вогнішча” у гонар багоў і “паўднёвае вогнішча” у гонар душ памёршых і дэманаў. Здабыванне полымя звычайна здзяйснялася трэннем дрэва аб дрэва, пры гэтым полымя вогнішча ўрачыста запальваемага гаспадаром сядзібы пры яе заснаванні, звычайна служыла крыніцай вогнішчам ахярнікаў, на ім жа гатавалася сьвяшчэнная ахвярная ежа.

Асабліва ўрачыстай часткай падрыхтоўкі да ахвяры з’яўлялася выцісканне соку. Жрацы былі абавязаны памыцца, нацерціся духмянымі мазямі, апрануцца і падперазацца і выконваць незлічоныя прэдпісанні адносна цырымоніі і рытуалу: хадзіць павольным крокам, звяртаць увагу на накірунак сьвятла і на выкананні чарадавання прызначаных звычаёвых ускліцанняў і таямнічага маўчання; да гэтага яшчэ далучаўся абавязак прамаўляць сьпевы і выслоўі пазбягаючы найменшай памылкі, дапасуючы іх да адпаведных дзеянняў.

Мы тут назіраем ужо сапраўдную літургію першапачатковага сярэднявечнага хрысьціянства, захаваўшуюся ў далёка Індыі як стара-французкая мова ў далёкай Канадзе.

Ахвяруючы таксама не заставаўся ў баку; разам са сваёй жонкай ён рыхтаваўся да гэтага свяшчэннадзейства, старанна выконваючы над сабой ачышчаючы звычай асвячэння, які складаўся ў абмыванні – першабытным ахрышчэнні, якое паўтаралася колькі заўгодна разоў, у пасьценні і ўстрыманні ад стасункаў паміж чалавекам і жонкай, што ўжо пачыналася за дзень раней; пры гэтым таксама стрыглі бараду і валасы. Пры вялікіх грамадзкіх ахвяраваннях гэтае “прысьвячэнне сябе” набывала ўсё большую працягласць і выконвалася з надзвычайнай строгасьцю, як і іншыя хрысьціянскія пасты. Праз кожныя четырнадцаць дзён ладзіліся ахвяраванні пад час маладзіка і поўнага месяца; (цырымоніі, здзяйсняемыя пры гэтым мелі той жа тыповы характар, які ўласьцівы для вялікіх ахвяраванняў). Звычайна прыносілі бліны або аладкі, лілі шмат масла ў полымя і ладзілі агульную трапезу для прыносіўшых ахвяру і жрацоў.

Вялізкай пышнасьцю вызначаліся чарговыя вялікія ахвяраванні пры пачатку трох пор года: вясны, дажджлівага часу і восені. Здабыванне і распальванне новага вогнішча пры пачатку гэтых новых перыядаў мела сімвалічнае значэнне. Падчас сьвята з нагоды пачатку перыядычных дажджоў, гатавалі із цеста і воўны ягня, сімвал Агні-полымя. Падобныя сімвалізацыі, або вобразныя ўяўленні вельмі часта выкарыстоўваліся пры ахвяраваннях; пад час апошняга сьвяткавання асабліва дабрадзейнымі выстаўляліся багі ветру і бог вады, Варуна.

Ахвяраванні із першага збору ладзіліся падчас жатвы ячменю і рыса (як і ў месіянцаў). Падчас абодвух сонцастаянняў і пры пачатку дажджлівага часу (восенню) не задавальняліся прынясеньнем раслінных ахвяр, а звычайна калолі казла, варылі і дзялілі паміж багамі і людзьмі; толькі тлусты сальнік і тут, падобна таму, як і ў астатніх культах, спальваўся багам. Із гадавых сьвятаў самым вялікім было сьвята “праслаўлення Агнца-Полымя” у вясновы час, на якое людзі сходзіліся з усіх бакоў. “Цырымоніі пачынаюцца з самай ранняй раніцы. То ідзе падрыхтоўка і прынясенне ахвярных аладак і малака, то адзінаццаць казлоў колюцца для ахвяры ў гонар адзінаццаці знакаў Задыяка, спадарожнічаючых Агні-Авену, то займаюцца выцісканнем сьвятога духу із сомы, ачышчэннем здабытага напою, злучэннем яго з разнастайнымі прымешкамі і пераліваннем у разнастайныя пасудзіны. На працягу цэлага дня ладзяцца цырымоніі і прынашэнні, адпавядаючыя тром пасьлядоўным працэсам выціскання, менавіта – ранішняму, паўдзённаму і вячэрняму; ўсе яны суправаджаюцца выкананнем звычаяў як новага, так і старажытнага паходжання, заклікамі да багоў і чарадзействамі дзікага, першабытнага часу” (Альдэнберг, стар. 460).

Асобнае і рэдкае ахвяраванне мела назыву “цар ахвяр”. Яно ладзілася для абароны краіны толькі згодна з загадам цара і пры ўдзеле ўсяго народа і суправаджалася пышнымі цырымоніямі, падрыхтоўка да якіх працягвалася цэлы год. Асьвечаны купаннем конь павінен быў за гэты час абыйсьці ўсю краіну, ахоўваемы 400 юнакамі. Непасрэдна за забіццём каня, царыца павінна была легчы ў якасьці яго жонкі побач з яшчэ цёплай жывёлай (што давала нагоду да разнастайных непрыстойнасьцей з боку жрацоў[170]). Час ахвяравання каня – нават і раней трох сапраўдны ахвярных дзён – быў часам народнага сьвята,

[170] Шантэпі-дэ-ля-Сасей, т. II

суправаджаўшымся гуляннем накшталт нашай масьляніцы, дзе ўсё што толькі магло быць названа грамадзкай весялосьцю, выяўлялася з поўнай свабодай. Спаборніцствы ў конскіх бягах і гульня ў косткі, якой індусы займаліся з захапленнем і якой надавалася рэлігійнае адценне, гульня і спевы штукароў і скакальніц, распавяданне казак і загадванне загадак, сьпяванне песень – усё гэта злучалася ў стракатым народным жыцці, якое мела пераважна цывільны характар.

Паміж ахвяраваннямі, апісанымі ў Ведах, існуе і ахвяраванне духам памёршых. Уся цырымонія носіць характар прымітыўнага звычаю і складаецца із простага кармлення жыўшых у зямлі продкаў, якія выклікаліся замаўленнямі, прычым у той жа час із сядзіб праганяліся і дэманы. Ахвяраванне продкам аладак пачынаецца вечарам, пасьля таго, як праведзены разоры для захавання ад дэманаў. Падлогу прыскаюць асьвечанай вадой, засьцілаюць нарванай травой і на ёй прапануецца заняць месца бацькам, дзедам і прадзедам. “Ды наведаюць нас зараз нашы хуткаразумныя продкі”, такім з’яўляецца выслоўе, якое прамаўляе пры гэтым чытальнік. Уласна ахвяраванне здзяйсняецца самім гаспадаром ахвяры: ён становіцца на левае калена і палівае выкапаную разорку, а таксама траву, трыма прыгаршнямі вады ў адзнаку абмывання продкаў: затым працягнутай уніз рукой ён кладзе тры аладкі на мясціны, палітыя вадой: “гэта табе, бацька мой, і тым, якія разам з табой!”. Затым ён адразу паварочваецца і прамаўляе: “тут, продкі, няхай кожны із вас карыстаецца сваёй доляй”. Потым выказваюцца пажаданні атрымаць дзякуючы прынясенню гэтых падарункаў доўгае жыццё. Потым зноў выліваецца вада для таго, каб продкі маглі абмыцца вадой пасьля ежы; акрамя таго, яны атрымліваюць пахучыя націранні, адзенне або авечую воўну. “Вось, бацькі, мы даем вам адзенне; не бярыце ад нас больш нічога!” Толькі пасьля гэтага пачынаецца вымаўленне сапраўдных малітваў, прысьвечаных продкам: “Ды ўслявяцца вашы магутнасьці, ваша жыццё, ваш гнеў і жах; ды будзеце вы мацнейшымі за ўсіх із тых, хто жыве на гэтым сьвеце, а із жывучых на гэтым сьвеце ды буду я самым дужым!” Пасьля гэтага ладзіцца ўрачыстае адпусканне продкаў: “Падніміцеся продкі і ідзіце вашым ранейшым таемным шляхам, дайце нам заможнасць і славу і праслаўляйце перад багамі вашы падарункі”. За ўласна ахвяраваннем ідзе праслаўланне полымя вогнішча і прашэнне накіраванае Агні пра скасаванне грахоў. Аладкі паднімаюцца: адну із іх ахвяравальнік дае з'есьці сваёй жонцы, для таго, каб яна праз гэта атрымала мужчынскі плод, а дзьве астатнія кідае ў полымя або ў ваду, або аддае іх браміну.

Ды і наогул ведыйскае ахвяраванне мае ў значнай ступені характар чарадзейства. Так і ў цырымоніі штогадовага ахвяравання перад дажджлівым часам года, замаўляючае адценне надаецца ёй не толькі кіданнем у полымя арэхаў карыра для атрымання дажджу, але і наогул уся гэтая цырымонія з’яўляецца ні чым іншым, як вядзьмарствам, з дапамогай якога выклікаецца дождж, і гэта не адзінкавы прыклад.

Чарадзейства, якое часта прасвечваецца ў Рыг-Ведзе і цалкам пераважае ў Атарве, з'яўляецца практычным праяўленнем сапраўднай індыйскай народнай рэлігіі. Яго зародкі, бясспрэчна, караняцца ў вераваннях самага старажытнага, першабытнага часу і часткова захаваліся да нашага часу ў ніжэйшых пластах індыйскага грамадства. Такім чынам, брахман – сьвятар Атарвы, самая значная і папулярная асоба са сьвятарства, з'яўляецца жрацом-чараўнікам у Ведах, ды і зараз яго характар такі ж. Нават у афіцыйным жыцці брахман павінен быў выконваць

ролю чарадзея-гадацеля. На вайне ён быў павінен скасоўваць дрэнныя адзнакі і павялічваць уздзеянне добрых і таму ён заўсёды знаходзіўся каля цара.

Адсюль зразумела, што Веды і іншыя індускія кнігі адлюстроўваюць зусім не глыбокую старажытнасць, а не раней чым канец сярэдніх стагоддзяў і нават наш час. Гэта зборнікі сучаснага нам фальклору Індыі, пра што сведчыць і сама ўнітарнасць іхных асобнікаў.

“Стракаты чароўны сьвет Ведаў для нас яшчэ амаль цалкам не даследаваны, – усклікае верачы ў іхную старажытнасць ардзінарны прафесар тэалогіі ў Амстэрдаме Шантэпі-дэ-ля-Сасей (т. II, стар. 36) – Тыя нешматлікія часткі Атарвы, якія да гэтага часу былі патлумачаны, вырабляюць ўражанне забабонаў, або культу дэманаў, шматлікія таямнічыя звычаі якога падобна сетцы заблытваюць усё жыццё, пранікаючы і ў афіцыйны культ. Усё, што выклікае ў чалавека жах, ці ад чаго імкнецца вызваліцца: злыя духі, ворагі і супернікі, няшчасьці, хваробы і адсутнасць поспеху, – ўсё гэта скасоўваецца замаўленнямі, дакладна так жа, як і ўсё тое, чаго ён хоча дасягнуць, атрымліваецца з дапамогай тых жа сродкаў. То з’яўляецца патрэба прагнаць ведзьму із хлява або са двора, то знайсьці расьліну, з дапамогай якой можна бачыць усе злыя істоты. Ці сядзе дэман ў выглядзе запалення на патыліцы, або нападзе на яго праказа, панос або частковая страта розуму, неадкладна пачынаюць выкарыстоўваць для папярэджвання бяды розныя замаўленні і напоі. Рог хутканогай антылопы спрыяе вылекаванню ад усякай хваробы; сома і камяні, якімі яе расьціраюць, разам з Агні і Варунай праганяюць жаўтуху. Кожны праклён не толькі магчыма знішчыць замаўленнем, але нават і перанесьці на самога чараўніка і, пры ўменні карыстацца належнымі чароўнымі сродкамі, можна нават атруту з’есьці як кашу.

Для кахання існавалі цудадзейныя сродкі: закаханая, але не кахаемая дзяўчына клала пад падушку юнака вядомыя травы, або макала чароўную галіну ў мёд, каб даць яму адчуць асалоду яе вуснаў. Падманутая жонка магутнасьцю замаўленняў забівала сваю суперніцу, а неадружаная дзяўчына хутка здабывала сабе чалавека дзякуючы чарадзейству сваіх бацькоў.

Чараўніцтва набывае і рэлігійнае значэнне. Амулеты із неўміручага золата гарантуюць доўгае жыццё і надаюць бадзёрасць: нават паміраючы можа зноў вярнуцца да жыцця. З дапамогай чарадзейства робяць прыроду паблажлівай, а шматзначныя словы пасьля заканчэння працы даюць заможнасць і шчасьце. Злоба і правіна чалавека можа быць змыта сьвятой вадой, спалена полымем і знішчана раслінамі і замаўленнямі: той факт, што “паўднёвае полымя” ужываўся для адагнання дэманаў, тады як яго паходжанне злучана са старажытным культам дэманаў і паказвае на тое, што апошні так блізка стаяў да служэння багам, што ўжо з даўніх часоў яны зліліся разам адзін з адным.

Фактычную частку ўсяго паведамляемага я галоўным чынам бяру із ілюстраванай “Гісторыі рэлігі” Шантэпі-дэ-ля-Сасея. Грунтуючыся на ёй жа буду працягваць і некалькі далей, так як нашай мэтай не з’яўляецца адкрыццё новых фактаў, а толькі іх новае тлумачэнне.

Недаўняе стварэння Ведаў характэрызуецца і ідэалізацыяй імі “добрых старых часоў”. Яны сцвярджаюць, напрыклад, быццам бы семейнае жыццё індусаў была яшчэ да пачатку нашай эры “заснавана рэлігіяй на трывалых, маральных падставах; на адружанне глядзелі як на боскую ўстанову; парушэнне якой мела наступствам пакаранне, а пасьля добраахвотнага прызнання правіны жанчынай, павінна было быць выкупленне. Цнатлівасць дзяўчат клапатліва ахоўвалася і не

парушалася, як пазней, звычаямі культу; калі ў яе не было сваякоў, то яна аддавалася на дагляд суполцы і абразіць яе лічылася цяжкім злачынствам. Трагічны лёс шматлікіх індыйскіх жанчын, а менавіта спаленьне ўдоваў, не было ўсеагульным звычаем і часта замянялася адпаведнымі сімвалічным дзеяннямі”.

Так добра было, чытач, у Індыі “да Нараджэння Хрыстова”. І аднак жа сьляды першапачатковай культуры, калі ўсё прыносілася ў ахвяру дзеля дабрабыту і аховы племені, яшчэ працягваюць заўважацца; так, напрыклад, атрымліваецца, што ў ведыйскія часы існавалі чалавечыя ахвяраванні...

Прысвячэнне цара, як і ў хрысьціян, у Ведах разглядаецца як адна із найбольш важных рэлігійных урачыстасцей і пастанаўленне саміх багоў, і дзе рука правасуддзя не можа дастаць злачынцу, там не спіць боскае правасудзе, так што ён ні ў якім разе, як і ў хрысьціян, не зможа пазбегнуць пакарання. Гэта мы бачым у вобразе Варуны (сугучна з рускім словам Верны), ад якога нічога не схаваецца і які ўсюды ладзіць правільны суд. “Ці зрабіў я злачынства ўсё ўсьведамляючы, ці здзейсніў злачынства ў сне; здзейснена яно, ці можа быць здзейснена, ад усяго гэтага вызваліце мяне, як ад катавальнага слупа, – гаворыцца ў Атарве (VI, 15).

Як і ў хрысьціян споведзі прыдаецца вялізнае выратавальнае значэння. Усе цьвёрда верылі, што калі б напрыклад, парушальніца адружальнага абавязку не спавядалася б у сваёй правіне перад ахвярнікам, то яна абавязкова зведала б нашмат большае няшчасьце. “Усведамленне памяншае правіну, так як праўда заўсёды перамагае”.

Пахаванне згодна з Ведамі спачатку зводзілася або да закопвання ў зямлю, або да спалення. Але гэтыя два звычаі не былі сучаснікамі: пахаванне было відаць больш старажытным і ўжо ў недаўні час дзякуючы полымешанаванню было заменена спаленнем; сляды пахавання працягвалі існаваць і ў больш позьнім рытуале.

Само сабой зразумела, што пры атаясамленні, дзякуючы сугучнасьці найменняў, бога Агнца з богам Агні, спаленьне трупа было адназначным з перадаваннем яго апакаліптычнаму богу Агнцу ў сузор'і Авена, і таму ў рытуале спалення да Агні звяртаюцца з прашэннем не рабіць шкоды душы памёршага, а зямлю, у якую раней закопвалі памёршага, малілі не давіць на яго, а даць яму прасторны і зручны прытулак. Такім чынам, жыццё памёршага, у вядомым сэнсе працягвалася і ў попеле, дакладна гэтак жа, як для першабытнага ўяўлення здавалася цалкам натуральным працяг яго існавання ў пахаваным трупе.

Дваякасьці формы гэтых звычаяў адпавядаюць таксама і розныя ўяўленні пра існаванне пасьля сьмерці. У недрах зямлі цар памёршых Яма (зноў ад славянскага слова “яма”, г. азн. месца, куды можна зваліцца) заснаваў сваё царства. Ён першым із памёршых выправіўся ў тое месца, куды вядуць глыбокія ямы, каб падрыхтаваць сьмяротным мясьціну і там узніклі мясьціны бацькоў, адкуль яны назіраюць за жыццём сваіх дзяцей і пасылаюць ім дапамогу, суцяшэнне і парады.

Але падобнае ўяўленне пра бога Яму істотна змяняецца, як толькі ведыйскае веравызнанне дасягае поўнага развіцыя. Адначасова з узнікненнем звычая трупаспалення, прынесенага першапачатковым хрысьціянствам, у рэлігію пачынаюць пранікаць іншыя ўяўленні пра замагільнае жыццё. “Туды, дзе сьвятло ніколі не згасае, дзе самае нутро неба і дзе струмяніцца вечная вада, туды, дзе жывуць радасць і весялосць, сяброўства і шчасьце, дзе воля жадаючага знаходзіць сабе выкананне, – туды, у вечную неўміручасць завядзе мяне дух віна сомы!” У гэтым сьветлым сьвеце ўзвышаецца царства Ямы, ужо страціўшага сувязь з ямамі,

дзе ён разам з Верным (Варунай) валадарыць у бляску і пышнасьці; сюды ж спадарожнік душ Агні (Ягня-Авен) адводзіць памёршых, і тут яны сустракаюцца са сваімі продкамі.

Мы бачым, што спаленне памёршага было толькі даручэннем яму аднесьці душу памёрлага на неба, а не ў зямлю, як было згодна са старым запаветам Бібліі: “Зямлёй з’яўляешся і ў зямлю адыдзеш”, а пры звычаі спалення чалавек толькі набывае новае цела, у якім не застаецца нічога хваравітага, або знявечанага. Яго розум таксама аднаўляецца ад полымя і ўжо больш не з'яўляецца абмежаваным нейкімі зямнымі межамі. Там, на небёсах бацькі пабачацца са сваімі дзецьмі, і вольныя ад грахоў будуць бачыць Вернага (Варуну) і Адзіці (Гадэса?). Вядома, для таго, каб набыць шчасьце, патрэбна было жыць добра і справядліва, а перш за ўсё належала выказваць паслухмянасць багам, рупліва ладзіць ахвяраванні і быць шчодрым у дачыненні да жрацоў. Хто выяшляўся благім, злым ці скупым у ахвяраваннях, той трапляў у Пекла; гэтае месца прызначана для тых, хто сапсаваў дзяўчыну, у якой няма братоў, таксама для няверных жонак, або для тых, хто спакушае жонку брамана. А хто не ўшаноўвае брамана або неяк яго ганьбіць, той будзе пагружаны ў крывавы струмень і будзе есьці валасы. Уяўленні пра пекла ў Ведах наогул бедныя і невыразныя, яны хутчэй маюць характар выпадковай пагрозы, а не складае неабходную частку ў сістэме рэлігійнай дагматыкі. Пра спыненне існавання ўсіх рэчаў у ведах цалкам не гаворыцца, у іх не згадваецца ні пра аднаўленне сьвету, ні пра жахлівы суд, ні пра разбурэнне сьвету і яго абнаўленне. Верагодна, іхныя кампілятары тэндэнцыйна не збіралі гэтую частку індускага фальклору.

Час узнікнення найноўшых Ведаў і першых твораў пасьля-ведыйскага перыяду, звычайна называемага браманскім, з'яўляецца для нас ва ўсіх дачыненнях больш зразумелым, чым уласна ведыйская эпоха; указанні пра гэта мы можам знайсьці ў кнігах закону і ў шырокай філасофскай і навуковай літаратуры.

Калі ў Рыг-Ведзе індускае размежаванне народа згодна з паходжаннем на розныя грамадзкія прыступкі мала заўважаецца, то гэта зусім яшчэ не азначае, што яна напісана да ўзнікнення каст. Хутчэй за ўсё гэта назіраецца дзякуючы таму, што кампілятары ўжо не лічылі іх божым стварэннем, або глядзелі на іх як на агульнавядомы факт, які няма патрэбы падкрэсліваць. Але пад час так званага новага ведычнага перыяду, які з нашага боку гледжання з'яўляецца больш старым, падзел грамадства на касты праводзіцца з няўмольнай пасьлядоўнасьцю. Браман навучаецца сьвятым ведам, здзяйсняе ахвяраванні і пагружаецца ў разважанні, цалкам задаволены адчуваннем уласнай годнасьці і разумовай перавагі над іншымі. Кшатрыя або ваяр, вядзе сваё княжае або панскае жыццё сярод ушанаванняў і матэрыяльнага дабрабыту, і калі ён не накіроўвае свае намаганні на вайну ці не ўжывае іх на якую-небудзь богадагаджаючую дзейнасць згодна з абяцаннем, то ён бавіць час на паляванні, на конскіх бягах і ў вясёлых начах. Жыццё вайсіі праходзіць сярод прамысловых заняткаў; у якасьці жывёлавода і земляроба, возчыка і каваля, гончара і ткача, марака, купца або цірульніка, ён знаходзіцца ў ніжэйшым становішчы адносна вышэйшых станаў і не можа параўноўваць сябе з імі, але ў сваю чаргу з пагардай глядзіць на плябеяў-служак; пры набажэнствах, ладзімых вышэйшымі кстамі, ён можа прысутнічаць толькі як пасіўны назіральнік. Брахманы паходзяць із галавы Брамы, ваяры ад яго рук, вайсіі аж яго сцёгнаў, а судры – ад яго ног. Гаварылася, акрамя таго, што ўсе людзі былі спачатку брахманамі і толькі з нагоды выраджэння ўзніклі іншыя касты. Але слова каста

(варна) па-індускі азначае проста колер, із чаго можна зрабіць выснову, што гэты тэрмін спачатку ўжываўся ў сэнсе колеру скуры і азначаў розныя касты. І гэта цалкам пагадняецца з маімі высновамі, што браманы-прамоўцы былі місіянерамі сярэднявечнага хрысьціянства з белым колерам скуры, якія прышлі з Балканскай паўвыспы, а кшатрыі – ваяры, нейкія заваёўнікі. Даведацца пра гэта із Ведаў нам немагчыма, раз яны толькі зборнікі сучаснага фольклору, з чым не магуць не пагадзіцца ўсе.

Вось, напрыклад, дакладныя словы Шантэпі-дэ-ля-Сасея (II, 45). “Вывучэнне вед адбывалася выключна вусным шляхам, і павінна было быць даведзеным да віртуознасьці. Ужо з сямі гадоў вучань-браман выпраўляўся да якога-небудзь настаўніка і тут цэлыя дні праводзіў у пастаянным паўтарэнні паведамляемага, засвойваючы такім чынам па частках усю Веду. У якасьці ўзнагароды за гэта ён павінен быў прыслужваць свайму настаўніку; уся хатняя праца і асабісты дагляд за настаўнікам з’яўляліся яго абавязкам; ён рабіў усё, пачынаючы ад палення печы і прыгатавання абеду і заканчваючы выціраннем настаўніка пасьля купання і падаваннем яму пад час абеду паласкання для рота і зубоў”.

Міжвольна здзіўляешся, як аўтар не заўважае поўнай несуразнасьці такага становішча, не даючага вучню вольнага часу для такога зубрэння вялікіх кніг! Затым ён, супакоіўшы сябе гучаннем гэтых слоў, падобных на гул пустога бачонка пры ўдары, працягвае: “Гэта была першая із чатырох прыступак або крокаў (асрама), якія кожны дзвіжа (двойчы народжаны, гэта была назва брамана), быў абавязаны прайсьці. Пасьля заканчэння навучальнага часу, вучню галілі галаву (толькі на цемені пакідалася адна пасма) і ён пакідаў настаўніка, каб уступіць на другую жыццёвую ніву і выканаць “абавязак бацькоў” (г. азн. нарадзіць сыноў). Адначасова з гэтым ён пачынае дзейнічаць і ў якасьці ахвяравальніка. А пасьля заканчэння выхавання дзяцей, браман аддаляеца ад мітусьні цывільнага жыцця ў лясную чашчобу, што звычайна здаралася ў састалым узросьце”.

Ну, няўжо ты сам, чытач, не бачыш недарэчнасць гэтай спробы растлумачыць вуснае перадаванне цэлай ведычнай літаратуры ад настаўніка да вучня без якіх бы то ні было кніг на працягу двух тысячагоддзяў? Паверыць гэтаму так жа немагчыма, як таму, калі б хто сказаў, што перш, чым атрымаць права на здзяйсненне набажэнстваў, кожны браман быў абавязаны аббегчы сто разоў вакол зямнога шара. Усе гэтыя прыдумкі – толькі дзіцячыя спробы браманаў растлумачыць еўрапейскім навукоўцам, якім чынам у іхным асяроддзі захавалася ўся гэтая літаратура без існаваня распаўсюджаннных паўсюдна і аднолькавых паміж сабой копій кожнага твору?

Спачатку прыдумалі легенду пра тое, што браманы быццам бы іх хаваюць, а затым, калі пасьля шматстагоддзевага сумеснага жыцця адбылося ўзаемнае зьліжэнне і брамінскія дзеці пачалі набываць выхаванне ў еўрапейскіх універсітэтах, падобнае тлумачэнне стала немагчымым, і тады для браманаў была прыдумана звышнтуральная (віртуозная згодна са славамі Шантэпі) памяць, якая ў іх таксама не выявілася ні ў адной із еўрапейскіх школ. Адсюль зразумела, што ўся індуская літаратура з’яўляецца нядаўна створанай і таму знаходзімымі ўнікамі звычайнымі зборнікамі сучаснага індыйскага фальклору, якія складальнікі апакрыфіравалі ў старажытнасць, каб надаць ім большае значэнне. З гэтага боку гледжання мы і разгледзім далей іхныя асаблівасьці.

Галоўным богам псеўда-нова-ведыйскага перыяду быў, – кажуць нам, – Праджарата, г. азн. Перша-Патэр. Ён служыць ўвасабленнем творчай магутнасьці, а

другім богам быў Вісвакарман, што азначае “Усёстваpаючы”. Першы у адной із песень Веды праслаўляецца як залатое яйка (Хіраніагарба Брам), ён той, хто спачатку быў адзіным стваральнікам сусьвету, – той, які ўмацаваў неба і зямлю, які даруе жыццё і магутнасць, перад якім схіляюцца ўсе істоты, нават і самі багі. Мора і горы сведчаць пра яго веліч, бакі сьвету гэта яго рукі; ён з’яўляецца адзіным богам, богам ўсіх багоў.

Падобная ж веліч і адзінства ўласьцівы і дэміургу Вісвакарману, які паўстаў із вады і зараз узвышаецца над усім сьветам і ўсімі багамі і гэтыя апошнія існуюць толькі яго існаваннем. Па сваёй сутнасьці ён непазнавальны і невычэрпны, накшталт Хрыста.

Але найвышэйшым багам браманізму, першанароджаным прынцыпам існавання з'яўляецца Брама. Брама (г. азн. слова) паступова быў узведзены на прыступку бога. Мы можам крок за крокам прасачыць працэс пераходу Брамы-Слова да годнасьці вышэйшага бога. Спачатку яго ўшаноўваюць у выглядзе сонца; пазней ён узводзіцца ў сан бога і прыраўноўваецца да бога бацькі Праджа-шляху, затым зноў узвышаецца і ператвараецца ў абсалютны, самадастатковы сусветны прынцып. Як бог, Брама існуе ў мужчынскім выглядзе і выяўляецца адружаным з багіняй Сарасваці (Св. Царыца). Выяўляючыся ж у форме вышэйшага метафізічнага прынцыпу, ён пераходзіць за межы асобы і зноў становіцца цалкам абстрактным разуменнем “Стварающым Словам”.

Поўнае выкладане гэтых думак мы знаходзім у філасофскіх творах Веды – Ўпанішадах, г. азн. у “Таемных Паседжаннях”. Са шматлікіх упанішад, якія нягледзячы на сваю шматлікасць, як быццам бы амаль усе знойдзены ў адным экзэмпляры, асабліва заслугоўваюць быць згаданымі: Ката, Чандогія і Брад-Араніака. Усе яны, у тым выглядзе, у якім мы іх маем, ставяцца да даволі позняга перыяду. Няма ніякага сумневу ў тым, што філасофія, выкладзеная ў гэтых творах, не выключнае стварэнне брамінаў; шмат якія іхныя дадзеныя сведчаць пра тое, што яна таксама з’яўляецца вынікам тэарэтычнай творчасьці і вайсковай касты. Цары Індыі, відаць, таксама маюць вялікія заслугі ў справе развіцця ведыйскай мудрасьці; яны часта малююцца ў выглядзе спрачаючыхся, прыводзяx брамана ў няёмкае становішча, але яшчэ больш ахвотна даюць яму тысячу кароў за ўдалае вырашэнне пытання. Ставіцца, напрыклад, пытанне: што такое “Ён”, які быў спачатку і які з’яўляецца усім? “Ці з’яўляецца ён “тым” або “гэтым”. Адказ такі: “Ён” з’яўляецца духам (атман па-санскрыцку, тое ж што і дыханне, паветра), але гэтае “паветра” ці дух варта разумець не ў сэнсе псіхічнай душы, а ў сэнсе ўнутранага, жыццёвага прынцыпу. Гэты атман бясконцы, вечны і нязьменны, не мае ніякіх вызначаючых якасьцей, стаіць вышэй усякага вызначэння і неспасьцігаемы. Адным словам, “ён не з’яўляецца і ні тым і ні гэтым”. Ён не выказваецца словамі, не думае думкамі, не глядзіць вачамі, не слушае вушамі і не дыхае дыханнем. “Гэта – пачатак”, аддзяліўшы ад сябе ўсякае зло, ніколі не старэючы і не паміраючы, ніколі не адчуваючы ні засмучэння, ні голаду, ні смагі, яго-та і патрэбна імкнуцца выведаць; падобна таму, як кавалак солі з’яўляецца толькі згуртаванай смакавай масай, гэтак жа і гэтая сутнасць з'яўляецца згуртаванай масай выведвання. Але як бы моцна ні імкнуліся паказаць Атмана цалкам абстрактным, тым не менш нярэдка сустракаецца і чыста матэрыялістычнае вызначэнне – узоры мовы ўпанішад часта тоесныя з атамістычным вучэннем, магчыма, дзякуючы сугучнасьці слоў “атман” і “атамны”? Так, – кажуць нам, – насенне ў смокве складаецца із драбнюсенькіх нябачных яго зярнятак. Часта ён

таксама апісваецца ў выглядзе эфіру, або вады з'яўляючайся касмічным прынцыпам. Падобна таму, як вада пранікае ва ўсе рэчы і валадарыць над усім; із яго паўстаў увесь сьвет; але акрамя таго, паходжанне рэчаў часта прыпісваюць першабытнаму “Нішто” – вызначэнне, якое шмат хто лічаць не маючым сэнсу. Гэтае першабытнае неіснуючае імкнецца набыць існаванне і становіцца або духоўным, або тонкім матэрыяльным прынцыпам, як, напрыклад, вада, із якога праз працягваючаяся імкненне, або праз адкупленне і ахвяраванне паўстае ўсё большая колькосць істот, часта шляхам сукуплення са стварэным самім жа Атманам жаночым прынцыпам. Стварэнне сьвету пастаянна уяўляецца як эманацыя Атмана; ён ствараецца ад яго, як павуціна ад павука, як іскра ад полымя; і так як усе рэчы паходзяць ад яго, то ўсе яны ў ім і, так сказаць, ім і існуюць. Із гэтага вынікае, што чалавек па сваёй сутнасьці тоесны Атману. Калі сусветная душа з’яўляецца Атманам, у такім выпадку і чалавек носіць у сабе Атмана, так як у ім выяўляецца самаўсведамленне. Калі сусветная душа – асоба, то яна жыве ў сэрцы чалавека ў выглядзе маленькага духа, ростам з мізінец, або ў воку, у выглядзе маленькага чалавечка. Калі гэта эфір, у такім выпадку ён ўсюдыісны і нябачна прысутнічае ў сэрцы, велічынёй менш рысавага зерня, або нават самага маленькага зерня, але больш за зямлю, неба і ўсе сусветы.

Задачай чалавека з’яўляецца выведаць гэтую тоеснасць: “Я ёсьць Брама!”. Хто зведаў гэта, той пераадолеў смерць, – смерць над ім не мае ўлады; ён дасягае поўнага ўзросту жыцця і становіцца адным із гэтых багоў. Звыш таго, гэта выведванне дае найвышэйшую асалоду: “Той, хто гэта знайшоў і выведаў, той удзельнічае ўсюды і ва ўсіх асалодах, так што дабрабыт саміх багоў не магчыма параўнасць з дабрабытам вышэйшага выведвання”. Для дасягнення гэтага стану патрэбна да такой ступені пагрузіцца ў назіранне, каб уся свядомасць злілася ў адну ідэю. Яно з’яўляецца снобачаннем, ці хутчэй такім сном, падчас якога чалавек пазбаўлены якіх бы то ні было жаданняў і не бачыць ніякіх мрой. Пагружаны ў гэтае часовае згасанне свядомасьці, чалавек бліжэй за ўсё набліжаецца да абсалютнага.

Так малюе Шантэпі (стар. 51) філасофію брамаізма... Але ці сапраўды яна яго агульная філасофія, калі ён дастаў усё гэта із рукапісаў, знойдзеных у адным экзэмпляры і не меўшых пашырэння на сваёй радзіме?

Адным із самых шануемых разважанняў гэтых асобных аўтараў былі такія, якія мелі дачыненне да касмагоніі. Так ужо ў Рыг-Ведзе мы знаходзім шмат гімнаў касмаганічнага зместу, з афарбоўкай то штучна надуманай школьнай мудрасьці, то жрэцкага каставага духу. Самай знакамітай із гэтых песень з’яўляецца Рыгведа X, 129.

“Тады не было нічога існуючага і нічога неіснуючага; не было ні паветранага кола, ні неба зверху. Што ж рухалася? Дзе? Пад чыім пкрывалам? Ці была вада бяздоннай?”

“Не было тады ні сьмерці, ні неўміручасьці, ні змены дня і ночы. Адзінае дыхала, некалыхаемае ветрам, дзякуючы сваёй асабістай магутнасьці, і акрамя гэтага нічога іншага не існавала”.

“Была цемра, аточаная цемрай; і спачатку ўся маса вады была неразлічымай. Толькі вялізнае адзінае, змешчанае ў пустую прастору было створана магутнасью адкуплення”.

“Перш за ўсё ў ім абудзілася воля; і гэта была першая праява духу; мудрацы, запытаўшыя пра яго свае сэрцы, пранікліва знайшлі сродак існуючага і неіснуючага”.

“Хто ведае напэўна, хто можа патлумачыць, адкуль пачалося тварэнне? Праз эманацыю (сусьвету) ўзніклі ўсе багі, як яе следства; хто ж ведае, адкуль паўстала яна сама?”

“Тае, із чаго яны паўсталі, ці было створана ці не?”

“Гэта вядома толькі жывучаму на вышэйшым небе ахоўніку сусьвету, або магчыма, і яму невядома?”

Вытанчаны скептыцызм апошняга радка выяўляе рэфлектыўны накірунак поглядаў, а як следства і пазняе ўзнікненне песьні. Побач з філасофскай, з якой тут апісаны хаос, у гэтым малюнку сустракаецца спецыфічна хрысьціянская рыса, складаючаяся ў тым, што адкупленне лічыцца ствараючай магутнасьцю. Самым пазітыўным і ў той жа час самым першапачатковым элементам гэтай касмагоніі з'яўляецца відаць ідэя пра першабытную ваду, як пра нейкую хаатычную масу, якая існавала дзякуючы ўласнай магутнасьці без старонняга ўздзеяння. Ва ўсякім разе тут заўважаецца тая акалічнасць, што шляхам эманацыі ўзніклі і самі багі. Ды і ў іншых песьнях, маючых дачыненне да касмагоніі, таксама апісваецца “нараджэнне багоў”.

Біблейскае выслоўе “спачатку была вада” шматразова паўтараецца ў ведыйскіх тэкстах, ці ж пра ваду гаворыцца, як пра першастворaны элемент. Большасць тэкстаў сыходзяцца паміж сабой у апісанні таго, якім чынам зародак, узнікшы ў вадзе, з нагоды яе пажадлівасьці, або аскезы, або ўкладзены ў яе непасрэдна “Словам”, развіваецца ў сусьвет: неба, зямлю і чалавецтва. Так апавядаецца, напрыклад, на пачатку кнігі законаў Ману.

“Неспасьцігаемы, невыведны, прадвечны, натхняемы сваім імкненнем, пажадаў утварыць із сябе разнастайныя рэчы; перш за ўсё ён стварыў ваду і паклаў у яе зародак. Гэтае семя ператварылася ў залатое яйка, заззяўшае падобна сонцу, у якім ён сам, бацька ўсіх сусьветаў, нарадзіўся ў выглядзе Брамы”.

Створаны гэтай першай магутнасьцю, неспасціжны і спрадвечны, адначасова існуючы і неіснуючы, зародак (Пуруша) стаў вядомым у сьвеце пад найменнем Брамы. Ён, найвышэйшы, правёў цэлы год у залатым яйку і затым падзяліў яго адной сваёй думкай на дзве часткі. Із двух палавінак шкарлупкі ён утварыў неба і зямлю, а паміж імі змясьціў паветраную прастору, восем краін сьвету і пастаяннае ёмішча для вады.

Побач з такім апавяданнем пра ўзнікненне сусьвету із вады, існуе і іншае, якое паведамляе пра ўзнікненне ўсіх жывых істот. Гэта асабліва падрабязна выкладзена ў Брад-Аранака-Упанішад (1, 4).

“Спачатку існавала “гэтае нешта” (Пуруша). Агледзеўшыся, яно не знайшло нічога іншага, акрамя сябе; першае, што ім было вымаўлена, было “Я існую”, але яно не было гэтым задаволена і жадала мець іншае. Тады гэтае нешта падзялілася на дзве часткі і з гэтай нагоды ўтварыліся чалавек і жонка... Чалавек спалучыўся з жонкай і такім чынам узніклі людзі. Але жонка пачала думаць: “як жа можа ён, стварыўшы мяне із сябе, злучацца са мной? Паспрабую я ад яго схавацца”. Тады яна ператварылася ў карову, а ён у быка. Бык у сваю чаргу спалучыўся з каровай і ўзнікла рагатае быдла. Яна ператвараецца ў кабылу, а ён у жарабца; зноў яны спалучаюцца паміж сабой і ўтвараюцца аднакапытныя жывёлы і г. д. Такім чынам “нешта” стварыў усё, што існуе папарна, нават да мурашак. Пасьля гэтага яно стварае полымя і сому і нарэшце заканчвае вышэйшымі стварэннямі – багамі. Гэтае “нешта” з’яўляецца самай найвышэйшай істотай, так як ім, хаця і сьмяротным, было створана несмяротнае”.

А вось і іншае апавяданне пра тое ж.

“Калі багі, жадаючы зрабіць ахвярнае паліваньне, падрыхтавалі ахвяру із Пурушы (чалавечай сутнасьці), ахвярным алеем была вясна, дравамі – лета, ахвярным паліваньнем – восень. Із гэтай усёдаючай ахвяры паўсталі песьні Рыг і Аама, із яе ж узніклі метры паэзіі; із яе ж узнікла рагатае быдла і ўсе жывёлы, меўшыя два шэрагі зубоў; із яе ж узнікла рагатае быдла, авечкі і козы. Калі багі разрэзалі Пурушу, – на колькі частак яны

раздзялілі яго? У што ператварыўся яго рот, як пачалі называцца яго рукі, сьцёгны і ногі? Яго рот ператварыўся ў брамана, із яго рук паўсталі раджані, са сьцёгнаў вайсіі, а із ног – судры. Месяц узнік із розуму, сонца із вачэй, із рота ўтварыўся Індра і Агні, ад дыхання – Вайу. Із пупа ўтварылася паветраная прастора, із галавы утварылася неба, із ног – зямля, із вушэй – краіны сьвету, так былі створаны сусьветы”. (V, X, 90)

Але якімі б ні былі спачатку разнастайнымі міфалагічныя элементы гэтай касмагоніі, тым не менш усе яны, з нагоды пазнейшай перапрацоўкі, зрабіліся складовымі часткамі аднаго пасьлядоўнага шэрагу думак.

У Каушытакі-брамана – ва Ўпанішадах сустракаецца адно надзвычай цікавае месца, якае паведамляе так: “Усе пакрываючыя гэты сьвет маюць сваё месцазнаходжанне на месяцы, які пад час першай паловы месяца пастаянна павялічваецца ад іхнага жыццёвага дыхання; пад час другой паловы месяца ён рыхтуе іх да адраджэння. Месяц з’яўляецца дзвярамі, вядучымі ў нябесныя мясьціны; хто яму адказвае на яго пытанне, таго ён прапускае, а той, хто не дае яму адказ, – скідаецца ўніз, ператвараецца ў дождж. Такія людзі, адпаведна з іхнымі ўчынкамі і іхнымі ведамі, зноў тут нараджаюцца ў выглядзе чарвяка, молі, рыбы, птушкі, ільва, кабана, дзікага асла, тыгра, чалавека або нйкай іншай істоты ў тым ці іншым стане”.

Распрацоўка тэорыі перасялення душ, зрабіўшайся непахіснай асновай усяго індускага светапогляду, ледзь ці пачалася раней сярэдніх стагоддзяў.

**Выпіска із пытанняў тэасофіі (стар. 67)**

Сляды ўяўленняў пра перасяленне душ прыкметны і ў кельтаў, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (стар. 57), і асабліва выразна гэтае ўяўленне выступае ў філасофіі і містэрыях грэкаў. У поглядах Піфагора, Эмпедокла, Платона і Піндара і ўжо ў Каушытакі-Упанішад, злілося з хрысьціянскім вучэннем пра адплату, хаця і моцна ўскладніла гэтую яго наіўную ідэю. Тут ужо прызнавалася, што высокае і нізкае становішча, шчасьце або непрыемнасць кожнага існавання па-сутнасьці следства яго паводзін у мінулым, а маральнымі годнасьцямі або заганамі сучаснага існавання рыхтуецца яго будучы лёс. Самае поўнае развіццё гэтай сістэмы перасялення душ мы знаходзім у 12-й главе кнігі законаў Ману. Усе грахі ў ёй падзяляюцца на класы, адпаведна якім размяркоўваюцца нараджэнні: цялесныя грахі маюць наступствам неадушаўлённае існаванне ў разных рэчах, славесныя – ператвараюць грэшніка ў птушку ці жывёлу, разумовыя – робяць яго асобай ніжэйшай касты. Кожная із гэтых формаў існавання, у сваю чаргу, складаецца із цэлага шэрагу розных прыступак, пачынаючы ад каменя, казюлькі і рыбы, і пераходзячы праз усе класы жывёл, да сланоў, коней і асоб касты судраў (якія прылічаюцца да жывёл) і далей да разнастайных дэманскіх існаванняў, якія таксама служаць пакараннем за пачуццёвыя асалоды і грахі. Далей гэты шэраг працягваецца ўверх праз усе класы чалавечых істот, ад гуляк і п'яніц да цароў і рыцароў, а ад іх зноў у разнастайныя віды духаў (якімі з’яўляюцца гандарвы і апсаразы), і толькі ўжо потым даходзіць да вяршыні чалавецтва: пустэльнікаў, аскетаў і браманаў, якія уяўляюць сабой як бы апошнюю прыступку да боскага існавання усё вышэйшай і вышэйшай годнасьці; даходзячы нарэшце, да Брамы і да Неспасьцігальнага. Пасьля ўсіх гэтых вызначэнняў прыводзяцца прыватныя прыклады: так, напрыклад, забойца ператвараецца ў драпежную жывёлу, выкрадальнік зерня – у пацука, выкрадальнік мяса – у ястраба, забіўшы брамана – у сабаку або асла, браман, п’яніца або злодзей, ператвараецца ў моль або ў вужа. Усё гэта па-сутнасьці тое ж самае, што мы ўжо бачылі ў будыстаў.

Такім чынам, вучэнне самсары вырашае для індусаў усе пытанні, маючыя дачыненне да жыццёвых стасункаў, і пытанні, уяўляўшыя для заходніх навукоўцаў вялікія цяжкасьці, накшталт пытанняў: дзе ты быў да свайго нараджэння? Што будзе з тваёй душой пасьля сьмерці? Для чаго мне быць добрым, калі дзякуючы гэтаму я не буду шчасьлівы? Як можа ў тым сьвеце, дзе існуе праўда, злы быць шчасьлівым, а пабожны нешчаслівым? Усе гэтыя пытанні вырашаліся адным адказам: ты ўжо існаваў у незлічоных шматлікіх формах, і ўвесь час будзеш з'яўляцца ў новых целах; твой лёс з’яўляецца вынікам тваіх ранейшых учынкаў, твае ж сучасныя ўчынкі – насеньне твайго будучага лёсу.

І нельга не прызнаць, што ў гэтым дачыненні буддызм і брамаізм больш пасьлядоўныя чым хрысьціянства і магаметанства, чым і даказваецца іх больш позняе паходжанне.

Філасофія ўпанішад, развіваючыся ў недрах рэлігіі, ніколі не магла вызваліцца ад уплыву апошняй. Цалкам іншае мы назіраем у вучэнні Веданты, якае можа быць названа філасофскім выяўленнем уласна-індыйскага светапогляду. Школа Веданты прызнае існаванне сувязі паміж ёю і Ведамі, на што паказвае, між іншым, яе назва: заканчэнне веды; але адавочна, што сапраўдная сувязь у ёй існуе толькі з ідэямі найноўшай Веды, якая мае мала агульнага з рэлігійнымі ўяўленнямі старажытных гімнаў. Сістэма гэтай філасофіі нам знаёма пераважна з сутраў веданты, вядомых пад найменнем Бадараян і із твораў вялікага каментатара Санкара, дарэмна адносімага да IX ст. н. э., так як тут праглядаюцца ідэі найноўшай еўрапейскай тэасофіі.

Асноўная думка веданты – гэта атаясамленне Брамы і душы, адлюстроўваючая тое, што браман, г. азн. магутнасць, якая ствараe і ахоўвае ўсе сусьветы, зноў праглынае іх у сябе, тоесная з Атманам, г. азн. з душой. Гэтая душа, маючаяся ў кожнага із нас, не з’яўляецца часткай Брамана або нечым паходзячым ад яго, але яна з’яўляецца вечным, непадзельным Браманам ва ўсёй яго паўнаце і цэласьці.

Задача выратавання заключаецца ў вызваленні Атмана ад індывідуальнага існавання, якое яго абмяжоўвае і таму выклікае ў яго пакуты. Аднак вызваленне Атмана не можа быць дасягнута шляхам учынкаў, так як апошнія, добрыя яны або дрэнныя, патрабуюць сваёй адплаты, і такім чынам вядуць чалавека да новых існаванняў, у якіх гэтая адплата можа быць здзейснена; як следства, учынкі вызначаюць сабой толькі перасяленне душы. Як следства вызваленне ніяк не можа быць наканавана тым, каб што-небудзь рабіць, а толькі ў дасьледаваннем таго, што ўжо існуе. Толькі веды паляць насенне ўчынкаў і такім чынам для далейшых адраджэнняў не застаецца больш ніякага зместу. Але ў той час, калі брамінская Веданта яшчэ не паспела ператварыцца ў вучэнне школы, філасофія Пералічэння (Санкія), узнікшая ў асяроддзі вайсковай касты, ужо ўзброілася крытыкай супраць усяго падобнага складу думак. Анты-жрэчаскі характар, які вылучае вучэнне Пералічэння, заснаванне якога ўзводзіцца да міфічнага Капілы, выяўляецца ў тым, што яно адмаўляе якую б то ні было сувязь з Ведамі, не надае ніякага значэння святым творам і не хоча ведаць ні пра якога Бога.

На тое, што гэтая філасофія разглядае сьвет як множнасць, паказвае ўжо сама назва гэтай школы: Санкія, што азначае “пералічэнне”, – і менавіта пералічэнне дванццаці пяці грунтоўных пачаткаў, ад якіх паўстаў сусьвет. Першым із гэтых пачаткаў была матэрыя (або прырода), апошнім жа, дванццаць пятым пачаткам з'яўляецца дух. Матэрыя лічыцца “стваpаючай”, а дух, або душа, як і ў

упанішадах, лічыцца за асобу. Матэрыя складаецца із трох складовых частак: сутнасьці, як пачатку лёгкага і сьвечагася; палкасьці, як пачатку ўзрушаючага і рухомага, і цемры, як пачатку цяжкага і супрацьдзейнічаючага, і яны ўваходзяць у склад станаў чалавечай індывідуальнасьці.

Такім чынам, паміж матэрыяй і духам існуе абсалютнае адрозненне згодна з іхнай сутнасьцю. Тым не менш, яны злучаны паміж сабой і гэта неабходна, так як без кіраўніцства думаючай душы рух матэрыі выявіўся б пазбаўленым мэты, а без руху матэрыі і душа была б пазбаўлена магчымасьці выяўляць сваю дзейнасць. Але, так як душа сама па сабе не мае аб’екта і не можа здзяйснять самастойных учынкаў, то з гэтай нагоды, каб нешта стварыць, яны павінны абедзьве злучыць свае намаганні. Але з дапамогай ведання, дасягнуць якога, дрэчы, вельмі цяжка, так як чалавек мае прыроджаную схільнасць да “неразлічэння”, атрымліваецца поўнае аддзяленне душы ад цела і ад цялеснай душы. Душа пры гэтым не гіне, так як яна непадзельная і разам з тым незнішчаемая; яна не свараецца і богам, так як ніякага бога не існуе.

Згодна з вучэннем “Пералічэння” не можа быць і гаворкі пра тое, каб нейкія рэлігійныя або этычныя ўчынкі лічыліся заслугай, або мелі нейкае значэнне; яны толькі магуць перашкаджаць дасягненню вызвалення. Аскетычныя практыкаванні толькі тады маюць значэнне, калі яны накіраваны выключна на тое, каб узмацніць вызваляючую магутнасць разлічэння, толькі для гэтай мэты яны не безкарысныя.

Нельга не прызнаць за гэтай школай некаторай своеасаблівай гуманнасьці. Перш за ўсё яна, хаця б дзякуючы палеміцы супраць жрацоў, цалкам скасавала каставы падзел і, у супрацьлегласць Веданце, адчыняе як судрам, так і жанчынам магчымасць выратавання. Акрамя гэтага, кожны дасягнуўшы вызвалення, можа выступіць у якасьці настаўніка ісьціны. Але пасьлядоўнікі Санкіі ўхіліліся ад дзейнай праявы павагі да чалавецтва, дзякуючы іхнаму вучэнню пра шкоду ўсякай дзейнасьці.

Мы некалькі спынімся на яшчэ адной своеасаблівай з'яве браманскага перыяду, на так званых ёганах. Ёга ў перакладзе азначае злучэнне, менавіта злучэнне душы з найвышэйшым пачаткам.

Практыкаванні ёгі зводзіліся да самагіпнатызавання, якое здзяйснялася згодна з некаторымі правіламі. Стан экстаза падчас якога чалавек адчуваў сябе паядланым з найвышэйшым, дасягаўся постаццю нерухомага сядзення на кукішках, глядзення у адну кропку, затрымкі дыхання і пастаяннага трымання ў розуме знакамітага слова “ом”, служыўшага містычнай формулай для Брамы. Ёгам (таго ж кораня, як і Егова) называўся той, хто падпадаў пад экстаз, лічыў сябе валодаючым божай усемагутнасьцю. Усім вядома, з якой дзікай жорсткасьцю браманскія жрацы выконвалі “выхаванне” цела: яшчэ і зараз распавядаюць пра такія ўчынкі, як перавязванне рук, праз што яны высыхалі, глядзенне на сонца да асьляплення, нерухомае стаянне паміж чатырма вогнішчамі, стаянне на працягу цэлых гадзін на галаве, небяспечнае калыханне на галовакружачай вышыні, пост, пры якім колькосць ежы дадаецца або памяншаецца адпаведна павелічэнню або памяншэнню месяца і г. д.

# Глава VI

## Секта Джанаў.

Сьвятарская годнасць, вывучэнне Веды, з самага пачатку было прысвоена сабе брамскай кастай; але, як мы бачылі, гэта не заўсёды так было: каста ваяроў таксама брала дзейны ўдзел у тэалагічных спрэчках; яна нават дасягнула вальнадумства, адкінуўшы веру і боскае паходжанне гэтых кніг, і магла некалькі з вышыні глядзець на браманаў, цвёрда прытрымліваўшыхся пісання.

Секта Джаіна атрымала назву ад слова “пераможца”. Із ліку шматлікіх (24) пераможцаў, якія з'яўляліся згодна з паданнем пачынальнікамі рэлігіі Перамогі, асабліва вылучаецца Вардамана.

Празваны Магавіра (г. азн. вялікі герой), Вардамана быў сынам дробнага князя ў краіне Магада. Да трыццаці гадоў яму давялося весьці цалкам цывільны лад жыцця, але к гэтаму часу, пасьля сьмерці сваіх бацькоў, ён прасякнуўся строгім меркаваннем пра жыццё, пакінуў жонку і родных, і пачаў вандраваць па сьвеце як не маючы прытулку аскет. Дванаццаць гадоў ён правёў у самых цяжкіх знясільваючых выпрабаваннях і ў глыбокіх роздумах. Тады яго асяніла сьвятло яго разумення і ён паверыў, што дасягнуў прыступкі сьвятога. Ён выступіў у якасьці настаўніка і пасьля таго, як набыў шмат прыхільнікаў у навакольных краінах, заснаваў рэлігійную суполку. Ён дзейнічаў, як нам кажуць, у якасьці прарока, на працягу 30 гадоў, і памёр ва ўзросьце каля 72 гадоў ад роду.

Яго светапогляд быў цалкам атэістычны. Толькі пачаткам усіх рэчаў тут з’яўляюцца не матэрыяльныя атамы, але душы і гэтыя душы, якія па-сутнасьці рэальныя незалежныя існаванні, пранізваюць сваёй дзейнасьцю ўсё, што існуе, нават матэрыю. Яны прыкаваны да цела, таму што імкненне да дзейнасьці, якае ўласціва душам, заахвочвае іх трымацца пачуццёвасьці і цялеснасьці. Прадуктам гэтай дзейнасьці душ у целе з'яўляюцца ўчынкі. Яны ставяцца або ў заслугу душы, або ў грэх, і іхны род вызначае лёс чалавека, ці павінен ён ісьці да новага лепшага ці горшага адраджэння, ці ж цалкам вызваліцца ад перасялення душ. Толькі поўнае знішчэнне дзейнасьці ў якой бы там ні было форме вызваляе душу ад цялеснага рабства існавання і вандраванняў. Гэта вызваленне і з’яўляецца нірванай; але нірвана у гэтай сістэме не з’яўляецца знікненнем сьвядомасьці: душа застаецца, таму што сутнасць яе незнішчаемая; яе абсалютны стан вызначаецца толькі як незалежнасць ад дзейнасьці і цялеснасьці.

Не ўсе прыхільнікі гэтай секты жывуць аскетамі. Асноўная яе частка – цывільныя, якія павінны несьці больш лёгкія абавязкі, але затое яны могуць чакаць і меншай узнагароды. Між тым як аскеты павінны цалкам прысьвячаць сябе выкананню сьвятых абавязкаў, цывільны чалавек можа працягваць сваё цывільнае жыццё, так што пяць абяцаньняў сьвятых: “не крыўдзіць, не гаварыць няпраўды, нічога не браць без дазволу, захоўваць цнатлівасць і практыкавацца ў адрачэнні”, – выкананне якіх з самай крайняй строгасьцю абавязваецца аскету, для цывільнага маюць значэння лёгкіх этычных правілаў, у якіх, напрыклад цнатлівасць азначае вернасць пры адружанні.

Ідучы насустрач рэлігійнай патрэбе народа, культ Перамогі (Джана) мае характар сапраўднага богашанавання, з храмамі і выявамі, са сьвятамі, з прынашэннямі кветак і фіміама. А аскеты, каб мець магчымасць клапаціцца пра духоўны стан аселай суполкі, перамянілі сваё безпрытульнае бадзяжніцства па краіне на аседлае жыццё. Гэта павяло да заснавання кляштароў, і дзейнасць манахаў джанскай секты распаўсюдзілася на такія пытанні на якія першапачаткова не звярталася ўвага. Такім чынам, у кляштарах назапасілася дастаткова значная літаратура, якая мае не толькі рэлігійны і філасофскі змест, але і элегантныя творы,

і нават разглядае сапраўдна навуковыя пытанні. Гэтая літаратура напісана большай часткай на нарадным дыялекце – пракрыце. У мастацтве, асабліва ў архітэктуры, секта джанаў таксама дасягнула значных поспехаў, як гэта пераважна відаць на прыкладзе храмаў.

У наш час прыхільнікі вучэння джана існуюць у большасьці індыйскіх гарадоў. Сваім спакойным жыццём яны набылі трывалае становішча ў грамадстве і часта нават вызначаюцца сваім дабрабытам. Так як земляробства, з нагоды злучанага з ім парушэння правоў жывых істот, ім забаронена, то яны жывуць большай часткай гандлем; у правінцыях захаду і паўночнага-захаду яны набылі нават выбітное значэнне. З браманістамі яны ўжываюцца вельмі добра.

# Глава VII

## Агульная характарыстыка індускіх культаў.

Рэлігія індуізма ў той самай форме, у якой мы бачым яе праявы ў Ведах, існуе амаль нязменнай і ў наш час, у выглядзе культу духаў, ці дэманаў, якія злучаюцца ва ўяўленні з вёскай і полем, з лесам і гарой, або маюць значэнне для асобных выпадкаў жыцця: нараджэння, хваробы, сьмерці; пры гэтым няма недахопу ў шанаванні дрэваў і камянёў, змей і іншых жывёл і ў разнастайным фетышызме, і ўвесь культ мае характар чарадзейства, з якім мы знаёмы у Атарве. Але да гэтага дзікага ствала зараз прывіваюцца ідэі, якія развіліся ў асяроддзі вышэйшых каст. Ведыйскія элементы ў гэтай перадачы застаюцца яшчэ прыкметнымі не толькі ў назвах багоў, але ў легендах і павучаннях, якія злучаюцца з імі, і нават у звычаях ведыйскага паходжання. Але яшчэ выразней прыкметны ўплыў браманізма і філасофскіх школ. Што браманы бралі дзейны ўдзел пры стварэнні першапачатковага “індуізму”, гэта відаць із усяго характара старажытных сект. Веды яшчэ і зараз пастаянна прызнаюцца асноўнай крыніцай сьвяшчэннай мудрасьці, і на глебе Ўпанішад заснаваны рэлігійны змест думак. Можна ў той жа час заўважыць і накірунак школы Сакіа-Муні, што і зразумела, так як мы ведаем, што сярод першых значных асоб, ад якіх пачаўся індуізм, былі і кшатрыі. Пры гэтым, з цягам часу, меркаванні школ не заставаліся нязменнымі; ад галоўных плыняў аддзяляліся адгалінаванні, развіваўшыя ўласныя погляды і ўтвараўшыя адасобленыя самастойныя вучэнні.

Адпаведна гэтаму і выратаванне дасягаецца markрознымі шляхамі. Абодва старажытныя шляхі: – шлях спраў, які ў асаблівасьці азначаў ведыйскую практыку ахвяраванняў, і – шлях вучэння, пад якім разумеліся разважанні, яшчэ і да гэтага часу застаюцца першапачатковымі шляхамі сістэмы, але да іх, у якасьці трэццяга, далучаецца яшчэ новы, які з'яўляецца ў вышэйшай ступені характэрным для індуізма. Гэта шлях поўнай адданасьці богу і яго міласэрднасьці.

Хаця розныя секты і былі пераважна заснаваны людзьмі із вышэйшых каст меркаванні якіх былі пакладзены ў падмурак іхнай тэорыі, міфічныя ўяўленні і формы культаў выяўляюцца маючымі народнае паходжанне. Праўда, што вялікія багі індуізма маюць часам імя, а часам і тыя ці іншыя характэрныя рысы, агульныя ім з багамі Веды: але фактычную форму, пад якой яны абагаўляліся сектамі, яны большай часткай запазычылі ад духаў і дробных мясцовых багоў і выпадковых культаў. Яшчэ і зараз мы можам назіраць той працэс, з дапамогай якога мясцовы бог паступова ўключаецца ў пантэон, то памяшчаецца на прыступку самастойнага

бога, то разглядаецца ў якасьці аднаго із бакоў, або формаў праяўення ўжо прызнаных багоў; такім чынам не падлягае сумневу, што вялікія багі сучаснага індуізму набылі свой характар дзякуючы такому зьліццю. Бог зямлі Бумія, культ якога вельмі прымітыўны, атаясамляецца з Вішнай. Ваба, дух плямёнаў-абарыгенаў, у шматлікіх месцах ператварыўся ў новую праяву Сівы, і такім чынам усюды ў культах і міфах, у формах і адметных адзнаках багоў, можна пазнаць або перажытак ранейшых мясцовых рэлігій або нараджэнне новых.

У сувязі з гэтым знаходзіцца і тая характарная для індуізму акалічнасць, што вобразы эпічнай паэзіі выконваюць у ім галоўную ролю; Рама, герой вялікага эпасу Рамайяна, у той жа час ‘яўляецца і нацыянальным героем, і атаясомлены з Вішнай, дакладна гэтак жа, як і Крышна і бог.

Пра гістарычны пачатак індуізму, – выказваецца гісторык рэлігій Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 125), – вядома вельмі мала, і асабліва непраўдзівымі з’яўляюцца першыя храналагічныя паведамленні. Бюлер спрабуе прыпісаць самым старажытным індыйскім сектам даволі глыбокую старажытнасць. На яго думку, яны павінны былі існаваць значна раней буддызма, нават раней джайнізма, таму што ў творах апошніх сект пра іх гаворыцца, як пра здаўна існуючыя. Ва ўсякім разе, у дачыненні да так званых Аджывакаў (сугучна са славянскім Ажывакі, г. азн. ажыўшыя або аджывакі – аджываючыя) прызнае, што яны існавалі да з'яўлення Будды і варожа ставіліся да новага руху. Яны – кажуць нам, – стварылі манаскі ордэн і як Джаіны (сугучна з янітамі, дзякуючы звычайнаму пераходу ***Я*** ў *ДЖ*, напрыклад Ян-Джон і г. д.) яны ўзвялі ў правіла адрачэнне ад зямнога жыцця (адсюль і іхная назва: аджывака “да жыцця”) і праз аскетызм спрабавалі дасягнуць шчасьця. Яны – кажуць нам, – рупліва шанавалі Нарайяну, Вішну, але не пакінулі пасьля сябе ніякай літаратуры, так што мы ведаем пра іх толькі з асобных надпісаў (напрыклад, у пячорах, якімі яны карысталіся) і са згадак пра іх у буддыйскіх і джаіністычных (яністычных) творах.

Керн і Бюлер атаясамлялі Аджывакаў са знакамітай сектай Багаватаў (сугучна са славянскім бога-веды), якія таксама ўшаноўвалі Вішну (Усявышняга) і Крышну (Хрыста), але характэрным для іх імем бога з’яўляецца Вазу-дэва, г. азн. бог Уазу, сугучна з Йязу. Ці жылі Багаваты падобна Аджывакам манахамі, мы не ведаем; але іхная тэалогія і філасофская сістэма выкладзены ў Панкаратры і займае самастойнае становішча і прасякнута духам эпічнай паэзіі.

І цалкам такую ж тэорыю, як у Панкаратра мы знаходзім ў пасьлядоўнікаў Рама-нуджы, брамана із паўднёвай Індыі, які жыў у XII стагоддзі, быццам бы абнавіўшага філасофію Багаватаў (існаваўшую як следства і ў XII стагоддзі). Секта Рама-Нужда вышэй за ўсё ўшаноўвае Раму (бога Рама) і мае сапраўды найноўшае ўяўленне пра бога.

Із галоўнейшых правадыроў, каля асоб якіх збіраліся секты ў Індыі і якія карысталіся вялікай павагай, мы назавём, перш за ўсё, паўднёвага рэфарматара Рама-Нанда (каля 1400 года н. э). Ён прапаведаваў марнасць усіх знешніх рэлігійных звычаяў і карыстаўся народнай мовай для выказвання свайго вучэння. На ёй ён напісаў шмат павучаючых вершаў. Два самыя ўплывовыя чалавекі найноўшага індуізму, рефарматар Кабір (у XV стагоддзі) і паэт Тулсідас (каля 1600) абавязаны яму сваім накірункам.

Гэтыя секты распаўсюдзіліся на ўсе станы народа, але секта Мадва, сябры якой былі пасьлядоўнікамі знакамітага філосафа Анандацірта, усё яшчэ імкнулася захаваць браманскі характар і ўсе яе сябры павінны былі належаць да гэтай касты,

а крышнаіцкая секта Валлаба вяла цалкам цывільнае жыццё і нават у значнай ступені карысталася свецкімі задавальненнямі.

Вішнуіцкія секты не магуць пахваліцца такімі слаўнымі імёнамі. Усе гэтыя секты аддаюць перавагу Ўсявышняму богу (Вішну), чаму і маюць назву вішнуіцкія, але існуюць яшчэ рэшткі і жываіцкіх, дзе Жывы бог (Жыва, Шыва, Сіва, Зіва, Зеўс) абагаўляецца больш за іншых, пры гэтым і Зеўс у класікаў таксама азначае Жывы. Пад час сярэдніх стагоддзяў шываізм, відаць, быў найбольш магутнай із усіх сектаў і толькі рэфарматарскія рухі XV стагоддзя надалі большую магутнасць вішнуізму. Дарэчы, іхнае суперніцтва ніколі не даходзіла да барацьбы і багі вішнуітаў без вялікіх ваганняў ушаноўваліся прыхільнікамі Шывы і наадварот.

Як мала было жрэцкага характару ў гэтым індуізме, відаць ужо із таго, што эпічныя творы маюць вялікае значэнне ў яго сьвятой літаратуры. Магабарата – гэтая Іліяда індусаў, якая з цягам часу вырасла із гераічнай паэмы ў цэлую літаратуру з сагамі і легендамі, філасофскімі і рэлігійнымі высновамі, нават і самага навейшага часу. Але калі гэта пачалося? Ужо ў VII стагоддзі – кажуць нам, творы В’яза, міфічнага паэта, шанаваліся як кніга праўды, кодэкс маральнасьці і праваднік да бога, і ўжо тады, як і зараз, прызначалася, як Евангелле ў хрысьціян, для чытання ў храмах, у якасьці сьвяшчэннай кнігі і для павучанняў. Але я ўжо даводзіў, што імя В’язу паходзіць ад імя Йезу, якое набыло столькі варыянтаў (Йешуа, Езус, Ісус, Йезус, Джызес, Жезю і г. д.), а таму і час з'яўлення кнігі багаватаў (г. азн. богаведаў), як першакрыніцы Магабараты, павінны быць аднесены да часоў Кірыла і Мяфодзія ў славян, і сапраўды санкара паведамляе каля 800 г., што Магабарата прызначалася для рэлігійнага навучання тых каму было недаступным вывучэнне Веды і Веданты.

У сучаснай нам рэдакцыі гэтай кнігі існуюць усе асноўныя рэлігійныя напрамкі нашага часу: шанаванне Вішну, Крышны і Шывы, паведамляюцца іхныя легенды, пашыраюцца іхныя тэалагічныя погляды. Магабарата ў сучасным нам выглядзе складаецца із 18 кніг, змяшчаючых каля 220000 вершаў і яе асноўная тэма – барацьба двух радоў Куру (сугучна са словам Кір (гаспадар) і Туру), нешта накшталт Іліяды з даданымі эпізодамі накшталт “Наль і Дамаянці”, перакладзена ў нас Жукоўскім. Падобнае можна сказаць і пра вялікі паўднёвы эпас, Рамайяну, які складаецца із 24000 двухрадкоўяў, па аб'ёму складаючы толькі адну чацьвёртую частку Магабараты. Яе найменне азначае лёс Рамы, г. азн. Раменца, які з’яўляецца нічым іншым як Усявышнім богам (Вішну) ўвасобіўшымся ў чалавечае цела. Яе складальнікам (із народных паданняў) называюць індускага паэта Вальмікі і ўпершыню яна надрукавана ў Калькуцце ў 1859 годзе, а па латыні яе першыя дзве кнігі выдадзены Шлегелем яшчэ ў 1838 годзе, за 21 год раней выдання арыгінала.

Падчас бегства прагнанага царскага сына Рамы на поўдзень, – гаворыцца ў ёй, – і ў яго бітвах, да якіх належыць таксама яго спроба вярнуць сваю скрадзеную жонку Сіту (аналогічна жонцы Менелая Алене), з'яўляюцца мядзьведзі і малпы ў вобразе чалавекападобных істот і дапамагаюць яму разнастайнымі цудамі. Ды і наогул увесь гэта твор з'яўляецца плёнам смелай рамантычнай фантазіі і вельмі ўзвышаецца не толькі над грубай народнай фантазіяй паўднёвай Індыі, але і над яе мастацкай паэзіяй не заўсёды бездакорнай ў маральным дачыненні.

Індыйскія старажытныя кнігі, называемыя пуранамі, на санскрыцкай мове маюць касмалагічны характар, накшталт біблейскай кнігі Быццё, жыдоўская назва якой Барашыт азначае “спачатку”. І тут, як і ў Бібліі, пураны згодна са сваёй задачай павінны абнімаць сабой усё развіццё існуючага, пачынаючы ад касмалогіі,

сусьветных пераваротаў і генеалогіі багоў дагістарычных перыядаў чалавецтва і дынастыі цароў, але фактычна яны уяўляюць даволі бязладныя зборы тэалагічных і філасофскіх разважанняў, легенд, казачных паданняў, звычаёвых і аскетычных павучанняў і г. д. І ўсе яны выяўляюцца прадуктамі сярэднявечча больш позняга паходжання, чым Магабарата, да якой яны часта далучаюцца, як тэалагічныя працягі.

Із іх самая вялікая, перакладзеная і выдадзеная Бюрнуфам – Багавата-пурана прызнаецца Бюлерам за падробку XII стагоддзя.

Як на дапаўненне да Пуранаў варта глядзець на Тантры, якія ўжо ўсімі лічацца за творы апошніх стагоддзяў. Гэта рітуалістычныя творы, якія дастаткова часта складаюцца толькі із масы імёнаў і формул, але яны маюць асаблівую цікавасць дзякуючы таму, што ўтрымліваюць у сабе правілы таемнага культу які мае такую важную ролю ў сучаснай Індыі. І акрамя таго, рэлігійная літаратура індуізма змяшчае значную колькосць ухвальных песень (Стотраў), якія пастаянна складаюцца і да гэтага часу і зборы якіх маюць такую ж ролю, як кнігі царкоўных сьпеваў у хрысьціянскім царкоўным жыцці.

Міфалагічны элемент у індуізме, наогул кажучы, адступае на задні план і распазнаваць яго секты прыходзіцца арыентуючыся на знешнія формы жыцця, а ў тэорыях асноўныя філасофскія погляды часта маюць значна больш важную ролю, чым уяўленні пра багоў. Магутнейшага бога Ведаў, цара багоў Індру называюць імем “сын Індры” ў Магабараце. Галоўны бог браманскага часу, Брама часта мае назву проста Праджапаці (Папярэдні пацер), але часта згадваецца і як бог-Слова (Брата). У сучасных выявах ён стаіць на кветцы; яго скура цёмна-жоўтая; у яго чатыры твары, або галавы; пятую ў яго адсёк Шыва за тое, што ён запэўніваў, быццам бы стварыў і самога Шыву; у яго локаны ўплецены ніткі жэмчугу. Дзьве рукі ўздзены для малітвы, а дзве іншыя трымаюць чарку і пацеркі. Аднак гэтая выява, кажа Цыгенбальг, не лічыцца прадметам шанавання, як выявы Вішну і Сівы. Брама, як і хрысьціянскі бог-айцец, не мае ні сваіх пагад, ні святочных дзён і пастоў, ні ахвяр; яму жрацы сьпяваюць толькі некалькі ўхвальных песень; ён бог, які жыве толькі ў выяве.

Але як у хрысьціян царыца небесная, так і ў індуізме вельмі вялікае значэння мае Сара-сваці (Святая царыца), яго жонка, якая, як багіня красамоўства і вучонасьці, мае сваё пэўнае месца ў індускім пантэоне.

Культ Вішну, як вышэйшага бога, узнік, – кажа гісторык рэлігіі Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 133), – відаць, адначасова з узнікненнем індуізму, бо Нарайяна, якога ўшаноўваюць ужо Аджывакі з’яўляецца нічым іншым, як Вішну, і Вазу-дэва вышэйшы бог Багаватаў, таксама атаясамляецца з Вішну. У якасьці вярхоўнага бога, Усявышні (Вішну) занімае месца адразу і Брамы і Індры. Ён, перш за ўсё, уяўляе сабой абсалют, г. азн. атмасферу (Атма). Прама сцвярджаецца: “няма нічога вышэй за Вішну, Вішну больш чым Брама”. У той жа час Вішну, падобна Індры, з’яўляецца жывым, дзеючым богам, які дапамагае людзям і ў сваім цялесным выглядзе вызначаецца пэўнымі адзнакамі, із якіх некаторыя атрымны ім у спадчну ад Індры. Ён носіць дыск (сонца), баявую ракавіну і булаву, і на чацьвёртай руцэ ў яго пярсьцёнак, калі толькі абедзьве верхнія рукі не распрасьцёрты “для суцяшэння і даравання”. Колер цела часта зялёны або цёмна-сіні; ён пышна апрануты, увешаны кветкамі і стаіць на кветцы лотаса. Або малюецца спакойна лежачым на завівах сусветнай зямлі Ананты; каля яго ног сядзіць яго жонка Лакшмі (Венера – багіня прыгажосьці і шчасьця) із яго пупа на доўгім сцябле расьце кветка лотаса, на

якой размяшчаецца вельмі маленькая выява Брамы. А часам Вішну уяўляецца седзячым на птушцы Гаруда, забіваючай змей, якой таксама выказваецца ўшанаванне, асабліва на поўдні і якой, у такім выпадку, прыдаецца змешаны выгляд чалавека і птушкі.

Усявышні – Вішну, як і Хрыстос, – бог заўсёды паблажлівы, пастаяннае імкненне якога заключаецца ў тым, каб дапамагаць людзям, паведамляць ім ісьціну, ахоўваць у небяспецы, абараняць ад зла і прынімаць да сябе на неба, якое уяўляецца ў выглядзе рая. Але вышэйшая асалода вернікаў заключаецца ў тым, каб зрабіцца тоесным з Вішну (як у хрысьціян – прыпадабніцца Хрысту). Удзел Вішну ў лёсе людзей ажыццявіўся з дапамогай яго Аватар, г. азн. авантур, увасабленняў, або “сыходжанняў”, дзякуючы якім ён набліжаецца да людзей, становяцца ім падобным. Гэтыя ўвасабленні Хрыста, якіх у Індыі было ўжо некалькі, замест аднаго выпадаку ў Яўропе, разумеюцца ў сэнсе глыбокага сакрамэнту. “Гэта не маючае заканчэнне з’яўленне бога, але поўнае існаванне бога ў жывым целе: ён з’яўляецца праўдзівым богам і праўдзівым чалавекам у іхным цесным паяднанні”.

І, як у хрысьціян першае ўвасабленне Хрыста сімвалізавана рыбай, што магло прыйсьці толькі із Вялікай Рамеіі з Балкан, то такжа так як там рыба служыла анаграмай Хрыста – IX TIC – Ісус Хрмстом Тэу, Іаас Соцер, г. азн. Ісус Хрыстос Бога Сын Выратавальнік. (мал....) Але тут першапачатковы сімвал атрымаў ужо новае тлумачэннне.

Першае ўвасабленне мае дачыненне да легенды пра патоп, у тым выглядзе, якой яна існуе ў Са-таната-Брамане: Вішну паведамляе Ману-Менесу пра ўсеагульны патоп і загадвае яму пабудаваць каўчэг; пад выглядам рыбы ён сам паказвае яму шлях, пакуль каўчэг не прыстае да адной гары ў Кашміры. Другая Аватара (г. азн. авантура) Усявышняга бога-Вішну – г. азн. увасабленне яго ў чарапаху, падтрымліваючую зямлю (мал....), што тлумачыцца двума апавяданнямі, якія ўтрымліваюць ведыйскія элементы. Першае апавяданне заключаецца ў тым, што багі ўзнамерыліся размяшаць малочнае мора (Млечны шлях) горад – Мандарагіры, каб прыгатаваць сабе чароўны напой Амрата – несьмяротны; але так як яны не змаглі адарваць гару ад зямлі, то Вішну спусьціўся ў выглядзе чарапахі ў падземную пустэчу і адарваў у гары корань. А другое апавяданне паведамляе, што аднойчы сьвет пачаў падаць; каб утрымаць яго, Вішну зрабіўся чарапахай і ў гэтым выглядзе падпёр зямлю. Трэццяй авантурай з’яўляецца ператварэнне ў мядзведзя, г. азн. ў сузор'е Вялікай Мядзьведзіцы, прычым ён перамог аднаго дэмана і выцягнуў із вады зямлю, што таксама нагадвае ведыйскую легенду пра Праджараці. Чацьвёртай авантурай з’яўляецца ператварэнне Ўсявышняга ў чалавека-ільва, разарваўшага праклінаючага бога. Гэта відаць навеяна яго ўяўляемым увасабленнем у Арыя, імя якога азначае па-жыдоўску Леў, і магчыма сімвалізавана ў сузор'і Ільва (мал.). Пятай авантурай з’яўляецца яго ўвасабленне ў дзіцёнка, і магчыма адлюстроўвае евангельскае паданне пра дзіцёнка Хрыста ўжо павучаючага дарослых, што магчыма сімвалізавана яслямі Хрыста ў сузор'і Рака (або адным із Двайнят). Шостай авантурай (аватарай) з’яўляецца яго ўвасабленне ў Пар-неў-Раме, г. азн. Парысе-Рамейцы, верагодна аўтары Апакаліпсіса Яне Залатавусту, дзе ён малюецца з кветкай у адной руцэ для ўзнагароды верных і сякерай ў другой, для пакарання напышлівых цароў зямлі, як гэта прадказана ў самым Апакаліпсісе (мал.). Сёмая авантура, відаць, павінна быць храналагічна перанесена ўжо зноў назад: гэта ўвасабленне Ўсявышняга бога Вішну ў выглядзе Рамы, што нагадвае Аб-Рама, г. азн. Бацьку-Рыма – магчыма Рымскага вялікага

Пантыфекса. Восьмай авантурай з’яўляецца яго ўвасабленне ў Крышне-Хрысьце і ўяўляе сабой пяты варыянт авантуры. Дзевятай авантурай-ўвасабленнем з’яўляецца ўвасабленне Ўсявышняга-Вішну ў цела Будды-Гаутамы, што магчыма з'яўляецца адгалоскам літаратурнай творчасьці Яна псеўда-Дамаскага, аўтара Евангелля ад Яна, ці зноў жа хутчэй за ўсё варыянтам шостай авантуры, г. азн. ўвасаблення ў аўтары Апакаліпсіса. І, нарэшце, дзесятая авантура Ўсявышняга бога – апошняя са звычайна прызнаваемых яго “аватар”, тоесна з чаканнем “другога прышэсьця Хрыста” у хрысьціян; ён прыйдзе, як паведамляецца ў апакаліпсісе, на белым кані, з зіхацячым мячом і пасьля знішчэння няверных і злых, усталюе царства шчаслівых.

Крытычна думаючы і знаёмыя з Апакаліпсісам, Евангеллямі, біблейскімі прарокамі і асноўнымі ўяўленнямі грэка-расійскіх хрысьціянскіх тэалогаў з канца сярэдніх стагоддзяў і да пачатку XX стагоддзя чытач, бачыць сам, што гэта толькі далейшае фантастычнае ўскладненне еўрапейскай тэалогіі. Хто ў каго тут запазычыў? Ці хрысьціяне скарацілі дзевяць здзесніўшыхся ў Індыі ўвасабленняў Усявышняга бога да аднаго ў сябе ў Яўропе, ці, наадварот, хрысьціянва, дайшоўшы да Індыі, на шляху вырабіла дзевяць авантур із адной?

Але гэта падобна таму, як калі б вы запыталі: ці індусы памножылі дзве рукі еўрапейскага заснавальніка хрысьціянскага набажэнствы да колькасьці чатырох рук (Мал...) ці еўрапейцы скарацілі чатыры рукі, быўшыя ў Крышны ў Індыі, да колькасьці двух.

Адказ тут магчымы толькі адзін: асноўныя законы развіцця міфаў сведчаць нам, што яны заўсёды ўскладняюцца з цягам стагоддзяў і на шляху ў больш аддаленыя краіны, а таму і павелічэнне колькасьці рук у Крышны-Хрыста і павелічэнне колькасьці яго ўвасабленняў ў Індыі безумоўна паказвае, што багаслоўе ў тым выглядзе, у якім мы ягоназіраем у Індыі, ды наогул у сярэдняй і паўднёвай Азіі, прыйшло туды ад балканскіх рамейцаў-славян і наўрад ці раней з'яўлення ў іх Кірылы і Мяфодзія.

Як у хрысьціян “Вялікі цар” – заснавальнік набажэнства – зрабіўся із чалавека богам, так і ў індусаў Крышна із героя зрабіўся богам. У гістарычных частках Магабхараты ён з'яўляецца яшчэ вазнічым Арджуны, і сваёй адвагай і хітрасьцю садзейнічае перамозе Пандыдаў над Куруідамі. І лёс яго тут таксама трагічны: у якасьці адплаты за жорсткасць, з якой ён раней знішчыў свой уласны род, ён пазьней ператвараецца ў газель і забіваецца стралой паляўнічага. Ды і нараджэнне нагадвае Хрыста. Апавядаецца, што Крышна быў сынам Васу-дэвы (г. азн. Васідыя бога, цара-бога) і дэвакі (г. азн. дзяўчыны). Яго злы дзядзька Камса (какірод) жадаў сьмерці дзіцёнка, таму ён быў вымушаны збегчы ў зямлю Гакула (накшталт Ягіпта), дзе быў прыняты пастухом Нандай і яго жонкай Язадай. Тут юны бог правёў вясёлае дзяцінства, пестуемы дзяўчынамі-пастушкамі, ашчасьліўлены з боку багоў падарункамі із цацак і каштоўнасьцей. Крышна-дзіцёнак (бала-Крышна), як і Хрыстос-немаўля ў хрысьціян, самая шануемая тэма тэатральных пастаноў у індусаў; ў выглядзе маленькіх фігурак адлюстрўваецца як ён поўзае навокал, гуляецца з шаром і інш. Але ён хутка выявіў сваю боскую магутнасьць. Калі бог-айцец Індра, раззлаваўшыся за ўшанаванне Крышны больш чым яго, выправіў на яго і яго гульнёвых сяброў моцную навальніцу, сямігадовы хлопчык падняў вялізную гару Гавардхану і трымаў яе на працягу сямі дзён, у выглядзе абароны над спалохаўшыміся пастухамі. Таксама апавядаюць, што аднойчы ён перамог цара змей (накшталт хрысьціянскага сатаны), у сажалку якога

ён скокнуў, і з трыумфам раздавіў яго галаву; Крышна-змеязабойца ў выглядзе скакуна выконваючага музыку на флейце, з'яўляецца, як і Хрыстос у катакомбных малюнках (мал...), другой ушаноўваемай божай выявай індусаў.

Але вось тут і супярэчнасць у якой не ведаеш, на які бок схіліцца: у хрысьціян яго заўсёды малююць у суправаджэнні жанчын лёгкіх паводзінаў, але яго схільнасць да іх тлумачыцца жалем, ды і самі яны малююца каючыміся, дзякуючы яго павучанням. А ў індусаў, наадварот, з дзяўчынамі-пастушкамі, тысячы якіх былі да яго паслуг, ён аддаецца шумным плюбоўным заняткам; асабліва паведамляеца пра яго каханне з нейкай Радхе, адпавядаючай Марыі Магдаліне; іхная схільнасць узаемная, іхная сварка і прымірэнне маюцца ў лірычнай драме Гітагавіндэ. Гэты верш, з яго зменлівымі напевамі і яго пламяністым эратызмам, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (II, 136) – можна назваць Песняй Песняў індусаў і падобна апошняй, яго таксама можна разумець у сэнсе алегарычнай выявы стаўлення бога да душы. Гэтае юнацкае жыццё Крышны дало нагоду развіццю ў нацыянальных культах разнастайных забаваў і паслужыла падставай да вялікай распусты, якая існавала і ў хрысьціян на працягу ўсяго сярэдневечча. А дыдактычныя часткі тэксту Магабхараты даюць нам ужо цалкам іншую, узнёслую выяву Крышны. У іх ён, як і ў хрысьціян новага часу, цалкам атаясамлаецца з Усявышнім богам (Вішну) і сам уяўляецца як вярхоўны бог.

У паданні пра Раму, г. азн. пра сёмую авантуру Ўсявышняга бога, Якобі спрабаваў знайсьці працяг міфа пра Індру. Яго барацьба з Раванай (Равінам), выкраўшым яго жонку Сіту, ў шмат чым – кажа ён, – падобна на змаганне Індры з Вартрай (ветрам?), дэманам засухі; Сіта з'яўляецца ўжо атаясомленай ў Рыг-Ведзе палявой баразной, спусташэнне якой мела такое ж значэнне ў асяроддзі земляробчага насельніцтва пазнейшай Індыі, якое мела воблачная змяя ў занімаўшыхся галоўным чынам жывёлагадоўляй плямёнаў ведыйскага часу.

Але ў гэтай аналогіі, аднак, мала пераканаўчасьці, і апавяданне нагадвае хутчэй барацьбу Юлія Цэзара з Антоніем за Клеопатру, пры чым, згодна з нашымі ўяўленнямі, ў жіццяапісанне міфічнага Юлія Цэзара шмат што ўвайшло із жыцця імператара Юліяна, які згодна са шматлікімі высновамі і быў вялікім Царом, заснавальнікам хрысьціянскай літургіі, даўшым нагоду дя легенды пра Хрыста. Але тут фантазія ўжо ператварыла дапамагаўшых Раме іншародцаў (магчыма маўраў) у малпаў.

"У цеснай сувязі з Рамой, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (П, 138) згадваецца правадыр малпаў Гануман (вяліка-сківічны). У барацьбе супраць Раваны (Равіна) ён моцна дапамагае Раме і, падобна сабаку Індры Сааме пры пошуку скрадзеных кароў, пераскоквае праз ваду на Цэйлон, і там знаходзіць жонку свайго гаспадара". У наш час гэты вайсковы правадыр індускага Хрыста адзін із найбольш ушаноўваемых багоў Індыі, у якасьці дзейнага абаронцы ад злых духаў. "Яго нязграбная выява ў выглядзе малпы, намазаная маслам і чырвонай охрай, сустракаецца кожнаму, хто наведае індыйскую вёску". Сінаіты таксама ўшаноўваюць Ганумана, як і вішнуіты; у храмах часта можна бачыць яго ў якасьці бога-брамніка, з ушанавання якога пачынаецца штодзённае набажэнства.

Культ Шывы (Жывога бога – Зеўса па-грэцку) згодна з усімі прызнакамі пранік у Індію адначасова з культам Усявышняга бога. У Магабхараце адначасова сустракаюцца абодва і гара Каіласа ў Гімалаях згадваецца як месцажыхарства Шывы. Ён мае найменне "гаспадар гор" і яго жонка Парваці "дачка гор". Гэта прыводзіць яго ў сувязь з Зеўсам Грамабоем на Палаючай гары і з індускім Рудрай,

так як апошні таксама жыве ў гарах. Ён уяўляе сабой разбураючую магутнасць землятрусаў. Жудасна яго магутнасць і шматлікі натоўп яго служак. У яго згодна з індускімі ўяўленнямі: тры вокі, вакол цела – змеі маланак, на шыі – чарапы. А між тым слова Сіва або Шыва, раптам азначае Міласэрдны! Вось чаму мне і здаецца, што гэтае слова славянскае і з'яўляецца толькі індускай асіміляцыяй славянскага выслоўя Жывы бог.

Пад гэтым найменнем ён лічыцца сваімі прыхільнікамі за вышэйшага із багоў і мае назву Магадэва – вялікі бог, або Ісвара, г. азн. гасподзь і сябар. І ён не толькі разбуральнік, але таксама і аднавіцель, і для таго, хто яго ўшаноўвае ён можа паказаць сябе літасьцівым збавіцелем і выратавальнікам, які ўзнароджвае шчасьцем і праганяе смутак; ён можа выявіцца нават вясёлым спадарожнікам, які, палююючы, блукае па гарах, суправаджаемы разбэшчаным п'яным натоўпам, сам аддаецца віну і скокам з жанчынамі. Наогул ён з’яўляецца ўсёабдымаючым і ўсёпранікаючым богам, і з гэтай нагоды, згодна з індыйскімі звычаямі, яму прыпісываюцца ўсе магчымыя якасьці. Несумненна, што гэты шматбаковы вобраз узнік шляхам перамяшання шматлікіх культаў, і народныя дадаванні выяўляюцца ў ім значна мацней і значна больш груба, чым у кульце Вішну. Фалус зрабіўся яго галоўным сімвалам і пад гэтым сімвалам Шыва пераважна і ўшаноўваецца, а ў шматлікіх месцах нават выключна.

Індусы прызнаюць яго таксама богам пісьмовага мастацства і вучонасьці і ён мае сваіх прыхільнікаў ва ўсіх пластах грамадства. Суровыя аскеты і распутныя зборышчы спасылаюцца на яго прыклад; у ліку яго служак выяўляюцца навучаныя брахны і секта лінгаітаў на поўдні Індыі, заснаваная ў XII стагоддзі Базебай, якія атрымалі сваю назву ад іхнага звычая заўсёды насіць пры сабе маленькі фалус ў якасьці засьцерагаючага сродка.

Абодва бакі характару Шывы, суровы і міласэрдны, адюстроўваюцца ў вобразе яго жонкі, заўсёды ўшаноўваемай разам з ім. Яе найменні разныя: Парваці (сугучна са славянскім Пярвата – першая) і Дурга (недаступная). Імем Дэва яна пазначаецца як багіня, імем Калі – як чорная, імем Шакці – як магічная магутнасць. Гэтая Дэва-Калі багіня дзікая і жорсткая, багіня вынішчэньня, а пад найменнем Сакці яе ўшаноўваюць таемнымі магічнымі цырымоніямі. А з другога боку, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей (П, 141), – яна таксама з'яўляецца літасьцівай заступніцай вернікаў і ў пазнейшых вучэннях выконвае ролю каталіцкай Мадоны; хаця яна і жонка Інсвары і мае некалькіх дзяцей, але яна ўсё ж беззаганна цнатлівіцая і яе адружанне з богам толькі містычнае; літасьцівым вокам яна пільнуе ўсё тварэньні і з'яўляецца пасрэдніцай перад сваім чалавекам за ўсіх людзей, каб ён паблажліва кіраваў імі, аберагаў і ратаваў іх; як дабрая і спачуваючая маці, яна імкнецца дапамагаць усім, і ратаваць ўсіх. Адпаведна гэтым двум функцыям, яна малюецца то ў выглядзе агіднай жанчыны з дзікімі рысамі і жэстамі, то як грацыёзная дзяўчына, упрыгожаная вянком і кветкамі, толькі з зялёным колерам цела. Абстрактна яна ўяўляецца то як жаночы пачатак існавання, ад якога паходзяць ўсе багі і жанчыны, то як таемная магутнасць Ісаўры, пры дапамозе якой ён кіруе зямлёй”,

З культам Шывы звычайна злучаецца шанаванне яго сына Ганеса. Падобна Гануману, ён, напалову жывёльны бог і малюецца са слановай галавой, у сядзячым становішчы з тоўстым жыватом, каралямі із жамчужын, або мёртвых галоў вакол шыі. “Правадыр полчышчаў”, ён жа і бог мудрасьці, тады як слон для індуса – разумнейшая із жывёлін, пагэтаму Ганеса са слановай галавой прызываюць на

пачатку ўсякай справы, як бога пісьменства і вучонасьці і на пачатку шмат якіх кніжак з шанаваннем згадваюць яго імя.

Як і ў хрысьціян пад час Эпохі Адраджэння так і ў Індыі, верагодна з часоў адкрыцця туды шляху еўрапейцамі праз Мыс Добрай Надзеі, першапачатковая рэлігія пачала набываць філасофскі характар, але відаць таксама не без апакрыфізмаў.

Так, у Рамануджы, якога адносяць яшчэ да XII стагоддзя, як і ў артадаксальнай Веданце, сьвет заўсёды разглядаецца з маністычнага боку гледжання; няма нічога іншага, акрамя ўсёабдымаючага існавання, але яго існаванне і яго думкі толькі ўласьцівасьці; абсалют не складаецца із існавання і думкі, але ён з’яўляецца існаваннем, якое і існуе, і думае, і якое валодае ўсімі ўласьвасьцямі ў такім дасканалым выглядзе, што яны надаюць яму абсалютную магутнасць і абсалютную годнасць. Такім чынам, Брама – бог слова, уяўляецца ўсёпранікаючым, ўсемагутным, усёведаючым, усе спачуваючай істотай, як бог у навейшым хрысьціянскім катэхізісе, які верагодна і з’яўляецца арыгіналам, а не перайманне Рамануджы. Адпаведна гэтаму Бог не з’яўляецца таксама абыякавым адзінствам. Уся шматузорная рэальнасць заключаецца ў ім; душа і рэчывы ствараюць яго цела, але не яго сутнасць; яны падпарадкаваны яму, як цела духу, але існуюць у ім у стане адноснай самастойнасьці. Такім чынам, робіцца магчымай індывідуальнасць душы, і самастойнасць душ прасьціраецца так далёка, што, як гаворыцца, не яны заключаюцца ў Браме а Брама насяляе іх у якасьці пачатку, ўваходзячага у іхны склад; пры гэтым яны, як адвечна існуючыя, не цалкам раствараюцца ў ім. Але так як усе рэчы першапачаткова ўзніклі ад Брамы, то яны павінны знаходзіцца ў дваякім становішчы да яго. Спачатку рэчы існавалі ў Браме як зародкі і ўтварыліся ад яго згодна з валявым актам Брамы, які і з’яўляецца ствараючай магутнасьцю; па-другае, пасьля стварэння, яны, згодна са сваёй сутнасьцю, ўсе такі працягваюць заставацца ў ім. Усе жывучыя разумеюцца як знаходзячыяся ў стане перасялення душы, ад якога душа можа вызваліцца праз даследаванне Брамы, але не справамі; пасьля гэтага яна ідзе у сьвет Брамы для вечнага і шчаслівага жыцця і бярэ ўдзел у яго боскіх уласьцівасьцях за выключэннем, дарэчы, яго здольнасьці вылучаць із сябе мір, кіраваць ім і зноў успрымаць яго ў сябе. – Мы бачым, як шмат у гэтай сістэме пакідаецца месца рэальнасьці рэчаў; але яшчэ важней у ёй тая роля, якую мае ў ёй асоба; таму што, з аднаго боку, бог згодна са сваёй сутнасьцю з’яўляецца асабістым пачаткам, з другога боку, душа таксама мае сапраўдную і пастаянную індывідуальнасць, якая вызваляецца ад падарожжаў не тым, што яна ўласным намаганнем даведваецца пра сваё адзінства з Брамай і пераходзіць у Браму, але тым, што, з літасьцівай дапамогай Брамы, яна навучаецца выведваць і назіраць яго сутнасць, дзякуючы чаму набывае вышэйшы стан вечнай свабоды і шчасьця на яго небе”.

“Але самастойнасць, якую такім чынам прыпісаў Рамануджа для рэальных рэчаў і індывідуальных душ, – працягвае ён далей, – не ўсіх задаволіла. Асноўны характар гэтай сістэмы ўсё яшчэ быў маністычным і рэчы існавалі толькі як атрыбуты бога. Незадаволены гэтым, Анандацірта або Мадва стварыў сваю дуалістычную сістэму, у якой быў праведзены рэзкі падзел паміж: 1. – богам і душой, 2 – богам і рэччу, 3 – душой і рэччу, 4 – паміж рознымі душамі, 5 – паміж рознымі рэчамі. Тут, як відаць знікае ўжо апошняе адлюстраванне думак Веданты; аднак новы накірунак думкі не прывёў да стварэння новай рэлігіі, і характар веравызнання Багавата захаваўся і ў секты Мадва.

Насупраць, у секце Валаба нельга не бачыць поўнага пераіначвання рэлігійнага характару; разам са спірытуалістычным разуменнем сусьвету, тут страціўся таксама і духоўны сьветапогляд і ідэі пра Бога і чалавека, пра жыццё і шчасьце, выпрацаваныя ў рэлігіі Вішну, яны набылі грубы пачуццёвы характар у кульце Крышны. Неба тут мае назву Галока “свет кароў”; у ім жывуць Крышна і Голы, з якімі шчаслівыя цэлую вечнасць працягваюць юнацкія прыгоды бога.

Філасофскія сістэмы сіваітаў грунтуюцца на філасофіі Санкіа як сістэмы вінуітаў на Веданце, але ўсё далей аддаляюцца ад першапачатковай школы, набываючы выразна тэістычны характар. Сьвет складаецца із трох сутнасьцей: бога, душы і матэрыяльных рэчываў; яны па сваёй сутнасьці спачатку адрозныя адзін ад аднаго. Праўда сьвет стварыў Бог, але толькі як уздзейнічаючы чыннік, а не як матэрыяльны чыннік у пасьлядоўнікаў Веданты, таму што ён па-сутнасьці адрозны ад усякай матэрыі. Ён стварае сьвет, як гаршочнік вырабляе гаршкі, г. азн. не вырабляючы само рэчыва, або як люстэрка дае адбітак, г. азн. бывае мала закрануты гэтым працэсам. Гэты бог з’яўляецца Шывай, які пануе над сьветам таксама ў якасьці прывіду.

Такім чынам, прырода павінна быць разглядаема як дзеянне, і бог як чыннік; але, з іншага боку, прырода (пракрыці) мае свой матэрыяльны пачатак ў самой сабе, таму што яна надзелена пластычнай здольнасьцю; яна можа да пэўнай ступені стварацца незалежна, але ўсё такі кіруяецца Шывай, г. азн. ахоўваецца і знішчаецца ім. У сферы сусветнага руху знаходзяцца душы, сярод якіх існуе шмат розных відаў, але ўсе яны заключаны ў матэрыю і таму аддалены ад бога. Задача заключаецца ў тым, каб вызваліць душу ад повязяў матэрыі і і вярнуць яе богу, падобна жывёле вызваляемай ад ланцуга, каб яна вярнулася да свайго гаспадара (паці). Згодна з найменнем Шывы як валадара быдла (пасу-паці) атрымала сваю назву важнейшая сіваіцкая секта. Гэтае вызваленне здзяйсняецца або дзякуючы божаму вызначэнню, або дзякуючы свабоднай ініцыятыве чалавека. Шлях да выратавання складаецца часткова ў разважаннях (йога), часткова ў выкананні прэдпісаных рытуалаў. Мэтай выратавання, з боку гледжання гэтага вучэння, не можа быць зліццё з богам; выратаваўшыся не станавіцца самім Шывай, але толькі падобным на Шыву.

Такой з’яўляецца сучасная тэалогія адукаванных індусаў. Яна не дайшла да сучаснага дыялектычнага матэрыялізму, але ўжо змяшчае ў сабе і Канта, і Гегеля, і Гартмана, і Ніцшэ, а таму і не можа лічыцца ўзнікшай за сотні гадоў да іх. Стаўленне да багоў у індуізме такое ж разнастайнае, як і ўяўленні пра багоў; разнастайныя віды пабожнасьці адпавядаюць тром ступеням разумення бога, існуючым у гэтай рэлігіі: пантэізму, тэізму і фетышызму. Вышэйшым шляхам да выратавання ўсё яшчэ пастаянна прызнаецца разважанне, якае пры практымным ўжыванні той час жа заменяецца аскетызмам.

Вялікую ролю маюць сьвятары, не ў якасьці ахвяравальнікаў, як у Ведах, а ў якасьці настаўнікаў (гуру) і арганізатараў рэлігійнага жыцця. Сьвятар уяўляецца пасярэднікам паміж чалавекам і богам; нават больш за тое, у’яўляецца жывым прадстаўніком бога, які ўвасабіўся ў ім і ў яго асобе патрабуе сабе ўшанавання. І ў асяроддзі адукаваных класаў сьвятар з'яўляецца неабходным кіраўніком і дарадцай, а для ніжэйшых класаў, у якіх няма ні грошай ні адукацыі для таго, каб на самай справе браць удзеў ў рэлігійным жыцці, дастаткова, як і ў хрысьціян, чыста знешняга шанавання бога і сьвятара ці простага далучэння да культу.

Культ найбольш значных індускіх сектаў засяроджваецца вакол храмаў, якіх у Індыі вялізная колькасць (джайністы і буддысты таксама маюць свае ўласныя храмы); часта гэта вельмі шырокія пабудовы са шматлікімі дварамі, залямі і капніцамі і прытым пабудаванымі з вялікім мастацтвам і раскошай. Характарным тут з'яўляецца тое, што цэнтр цяжару набажэнства знаходзіцца не ў ахвяраванні; а ў шматузорным ушанаванні выяваў багоў і ідалаў, у якім вядома і ахвяраванне мае сваё пэўнае месца. Кожны бог мае не толькі свае выявы ў прысвечаным яму храме, або ў сваёй маленькай пагадзе, але таксама шмат вобразаў і сімвалаў (мал....), пад якімі яго ўшаноўваюць. Так, акамянеўшы аманіт і расьліна туласі злучаны з культам Вішну, а фалус (лінга) з культам Шывы; нават уласна ён і з’яўляецца той знешняй формай, пад якой ушаноўваецца Шыва. Хаця гэты культ фалуса, які існаваў і ў Яўропе, уключае ў сябе таксама адпаведны жаночы сімвал (йонэ), але з гэтымі выявамі не злучана ўласна ніякіх непрыстойных уяўленняў. Культ фалуса не мае адпавядаючага прыкладу пад час ведыйскага перыяду, але наогул прызнаецца тубыльным і мае незвычайнае распаўсюджванне ў Індыі, дзе паўсюдна, асабліва ў сьвятых месцах, можна пабачыць каменны фалус.

І вось я пытаюся, якім жа чынам злучыць з такім культам тую шопэнгаў’эраву філасофію, пра якую мы толькі што згадвалі, калі яна ўся не апокрыф?

Такім чынам фетышызм трывала зацвердзіўся ў храмавым служэнні індусаў. Індуісцкія ўхвальныя песні (стотры) у іхны гонар, якіх існуе незлічонае мноства, наогул складаюць адметную рысу гэтай рэлігіі ў Азіі і згодна са сваёй рэлігійнай вартасьцю стаяць непараўнальна вышэй, чым так праслаўляемыя гімны Веды. Вось, напрыклад, два – з падачы Вільсана, – нагадваючыя і біблейска-хрысьціянскія псалмы:

“Ты – мой валадар, ды ўхваляць цябе ўсе. Усё жыццё маё ў табе. Ты – мае бацькі, я – тваё дзіця; вечнае шчасьце зыходзіць ад тваёй шчодрасьці. Ніхто не ведае твайго заканчэння. Вышэйшы валадар сярод вышэйшых, ты кіруеш ўсім існым, і ўсё, што бярэ пачатак ад цябе, падпарадкуецца тваёй волі. Што цябе закранае, што цябе радуе, то ведаеш ты адзін. Твой раб, з чыстым сэрцам прыносіць табе сябе у ахвяру”.

Ці іншы гімн: “Шануй бога і давер яму ўсё тваё сэрца! Сьвет злучаны з табой толькі шчасьцем і дабрабытам. Пакуль у цябе ёсць багацце, шмат хто прыйдзе і сядзе каля цябе; пакіне яно цябе – і яны разбягуцца і нікога не застанецца навокал. Жонка, якая цябе кахае і заўсёды на тваіх грудзях, з жахам збяжыць ад памёршага, калі душа твая пакіне цябе. Так адбываецца на сьвеце з усім, чаму мы адданы. У апошні твой час спадзявайся толькі на бога”.

Супрацьлегласць паміж мірскім шляхам і шляхам выратавання з'яўляецца, як і ў хрысьціян, пастаяннай тэмай у рэлігійных гімнах і пабожных назіраннях.

Знешні характар храмовага служэння выказваецца ў стракатай разнастайнасці цырымоній, у форме якіх здзяйсняюцца набажэнствы. Яны часта маюць, асабліва ў сіваіцскім кульце вельмі прымітыўны характар і складаюцца не толькі ў абмыванні, ахвяраванні, вымаўленні малітваў і ўрачыстых працэсіях, але таксама ў смеху, сьпевах, скоках, перайманні храпенняў, дрыжанні і хістанні, у закаханых рухах цела, у безсэнсоўным барбатанні і наогул ва ўсіх магчымых праявах хваравітага экстазу. Выяву із храмовага культу намаляваў Бургес ў сваім апавяданні пра храм на выспе Рамісварам, дзе галоўную ролю мае культ бога Амона.

Рана раніцай, пры першай зарніцы, трубяць і барабаняць перад пагадай Ганумана; музыканты, скакальніцы, служкі з барабанным боем і шумам ідуць і

адчыняюць дзверы храма, запальваюць лампады, рыхтуюць ежу для служак культу, і г. д. Вось сьвятар з вялізнай свечкай накіроўваецца ў галоўную капэлу, дзе бог ляжыць у ложку, запальвае для яго камфорны сьвяцільнік, прапанаўвае яму плады і арэхі і ў той жа час з вытанчанай ветлівасьцю будзіць яго ад сну. Залатую выяву бога змяшчаюць ў паланкін і ўрачыста прыносяць у храмовую залу пры музыцы і скачучых дзяўчынах, пры сьвеце факелаў і бляску срэбных пакрывалаў. Затым служкі храма пачынаюць мыць падлогу і посуд, шматразова абліваючы іх вадой; чысьціцца какосавы арэх і мангавае лісьце, здзяйсняецца ўшанаванне фалуса, які старанна вымываецца і намазваецца сандалавай маззю. Рыхтуецца абед, які складаецца із рысу, хлеба і курры, і са сьціплымі паклонамі ставіцца перад богам, між тым, як лампады і свяцільні запальваюцца і разгойдваюцца туды сюды. Так робіцца на працягу цэлага дня; пастаянна ідуць новыя працэсіі са сланамі і баядэркамі ў галереях храма, зноў ладзяцца прывітанні багам і ўшанаванні фалуса, прынашэнні кветак, пладоў і рысу, сьпяванні гімнаў; выявы багоў абносяцца па колу, як у хрысьціянскім хрэсным ходзе, пакуль нарэшце бог Амон, адлюстраванне Зеўса-Юпітэра, не атрымае сваю вячэру і са сьвяцільнікамі, музыкай і скокамі не будзе аднесены ў ложак. Толькі каля паўночы заканчваецца святкаванне і храм зачыняецца.

І вось узнікае пытанне: ці не з’яўляецца гэты рытуал дакладна захаваўшымся першапачатковым сярэдневечным арыянскім або нават хрысьціянскім набажэнствам?

Культ індусаў, як і хрысьціян, не абмяжоўваецца храмамі і ўшанаваннем адной Вялікай Тройцы. У вясковых мясцовасьцях, дзе няма магчымасьці браць удзел у храмавых культах гарадоў, паўсюдна маюцца свае сьвятыя месцы.

“Не існуе такой малой вёскі, не існуе такога адасобленага месца, каб там немагчыма было знайсьці сьвятых адзнак. На вяршынях пагоркаў, у гаях, нават амаль пад кожнай скалой або ўшаноўваемым дрэвам, можна пабачыць, як і ў каталікоў, маленькія капнічкі адкрытых ідалаў, ці простыя кучы камення ці дрэва, пазначыя фарбаванымі рыскамі, у якасьці пазначэння месцазнаходжання нейкага бога”.

Смакаўніца, туласі і шмат якія із іншых расьлін лічацца сьвятымі, як у хрысьціян кіпарыс. У сіваітаў асабліва часта яшчэ сустракаецца перажытачны культ змяі; малпы, якія былі вернымі паплечнікамі Рамы на вайне, лічацца ў шмат якіх месцах самымі сьвятымі жывёламі; забіваць або праганяць іх – старанна пазбягаюць, хаця б яны і рабілі шкоду земляробу ці садаводу. Корова яшчэ і зараз, як у часы Веды і Авесты, сьвятая жывёліна, і маленькія выявы прыносячых дабрабыт кароў можна купіць паўсюдна. Але гэта ж мы сустракаем і ў ягіпцян. Ды і Аргон рабіў выявы цялят для ўшанавання. І на самай справе, калі Зеўс-Юпітэр набываў форму быка, то чаму б і яго жонцы не надаць выгляд каровы? Асобнае становішча занімае культ вады. Святыя азёры і ручаі можна знайсьці паўсюдна, і кожны рачны бераг лічыцца сьвяшчэннай глебай. Перш за ўсё, за сьвятыню прызнаецца рака Ганг: “не існуе такога жахлівага граху, не існуе такой чорнай душы, якой бы вада Ганга не вярнула чысьціню”.

І гэта нагадвае паданне, як Ян Хрысьціцель купаў народ у Ярдане, ды і Ўладзімір Сьвяты здаецца таксама ахрысьціў Русь у Дняпры. Яшчэ ў папярэднім стагоддзі існаваў звычай штогадова прыносіць у ахвяру гэтаму богу першанароджанага дзіцёнка, і падарожжы да сьвятых мясьцін, якія маюць важную ролю ў Індыі, пераважна накіраваны да гэтай ракі як і ў Палестыну да Ярдана.

Падарожжа ад вытокаў Ганга ўздоўж яе плыні да вусьця і затым вяртанне па другім беразе, працягваючаяся шэсць гадоў, з'яўляецца адным са сьвятых учынкаў пра які марыць кожны індус. На гэтай рацэ размешчаны і Венарэс, сучасная сталіца браманаў, гэты Ерусалім Індыі. Пабываць там з’яўляецца палкім жаданнем кожнага пабожнага індуса, і незлічоныя натоўпы пілігрымаў збіраюцца сюды, каб пакупацца ў сьвятых хвалях і пагуляць пад скляпеннямі тысяч храмаў і пагад. Але ў Індыі існуюць дарэчы і іншыя гарады, якія карыстаюцца славай вялікай сьвятасьці як, напрыклад, Алага-бад і Гайа.

Сьвятаў у Індыі вельмі шмат і большасць з іх абумоўлена астранамічнымі з’явамі: дзень нараджэння Крышны (Нараджэнне Хрыстова), бясрэчна, найвякшае са сьвятаў індусаў, але і сьвяты ў гонар Ганесы, Рамакандры і Шывы лічацца сьвятымі. Большасць із іх мае вясёлы характар; быдла ўпрыгожваецца кветкамі і водзіцца па вуліцах; ладзяцца пастановы ў драматычным выглядзе нейкага міфалагічнага здарэння, напрыклад выкраданне Сіты, жонкі Рамы. З марнатраўнай пышнасьцю ладзіцца сьвята лампад ў гонар Лакшмі, але самым вясёлым часам для індусаў з'яўляецца сьвята Голі, пад час веснавога поўнага месяца, як у юдэяў паска; хлопчыкі тады скачуць на вуліцах, усе абсыпаюць адзін аднаго жоўтым і чырвоным парашком, запальваюцца агеньчыкі і паўсюдна ладзяцца гульні і жарты ў выглядзе радаснага згадвання пра юнацтва Крышны. Толькі сьвята Шывы ў лютым праводзіцца пабожна, пасярод строгага пасту і няспання, ды бенгальскае сьвята аскетаў Харатш-Муджа суправаджаецца вар'яцкім самабічаваннем, як дарэчы было і ў хрысьціян-флагелатаў.

У большасьці сект праводзіцца рэзкая мяжа паміж клірам і цывільнымі; рэлігія аддаляе цывільных ад храмавага жыцця. Пасьлядоўнікі Рамануджы ўпрыгожаюць свае сядзібы выявамі і адзнакамі Вішны і ўшаноўваюць іх. У астатнім яны не адрозніваюцца нейкімі асаблівасьцямі; яны носяць падобна сябрам усіх іншых сект святыя адзнакі на ілбе – у дадзеным выпадку дзьве вертыкальныя белыя рысы, злучаныя адной чырвонай над бровамі; часам у іх вытатуіраваны на руцэ узбраенне Вішну. У іх існуе сваё асаблівае прывітанне: “дасо смі”, “я твой раб”, і калі яны ядуць, не павінны быць апранутымі ў папяровую тканіну, а толькі ў ваўняную або шаўковую, і ні адзін іншаземец не павінен прысутнічаць пры іхным абедзе або нават пры яго прыгатаванні.

Маральныя абавязкі цывільных у вышэйшых сектах абумоўлены браманскай мараллю і амаль аднолькавыя з тымі, якія мы сустракаем у джаініцкіх і буддыйскіх суполках; гэтыя абавязкі: не падманваць, не бэсьціць, не абгаворваць, не ставіцца груба, не гаварыць лішняга, не красьці, не парушаць адружальнай вернасьці, не рабіць насілляў, не думаць блага, не выказваць саманадзейнасьці і ганарыстасьці. Павага да людзей з’яўляецца вышэйшай дабрачыннасьцю і праліццё крыві лічыцца найвялікшым грэхам. Іншае вялікае патрабаванне – праўдзівасць, таму што ўсё зло на сьвеце паходзіць ад аблуд і хлусні. Выдаліцца ад цывільнага жыцця з яго захапленнямі і пакутамі заўсёды з'яўляецца пажаданым, калі хто хоча захаваць чысьціню сваёй душы і зведаць бога; шанаванне сьвятара ў думцы, слове і справе і перакананне ў яго абсалютнай мудрасьці з’яўляецца апошнім вялікім абавязкам пабожных. Але ж гэтак жа і ў хрысьціян!

Існуе шмат сектаў, якія адмовіліся ад грамадзянскага жыцця і пайшлі ў аскетызм. Так пасьлядоўнікі Вайрагі – “пазбаўленыя захапленняў” – вандруюць, як выдаліўшыяся ад цывільнага жыцця аскеты.

Яшчэ далей ідзе секта Нага, прыхільнікі якой нават адракаюцца ад адзення і вядуць дзікае жыццё. Яны цалкам абгрунтавана выклікаюць жах у насельніцтва, таму што іхнае жабрацтва часта набывае разбойнічы характар.

Сярод сіваітаў існуюць прафесійныя йягіны, жыццё якіх прысьвечана вар'яцкім пакаяльным практыкаванням, таму што такім шляхам яны лічыць магчымым цалкам перамагчы матэрыю. Пры гэтым яны таксама занімаюцца разнастайнымі сакрамэнтальнымі мастацствамі і на працягу свайго вандроўнага жабрацкага жыцця занімаюцца прадказаннямі і чарадзействам, скокамі і сьпевамі, і ладзяць пастановы з дрэсіраванымі козамі або малпамі, накшталт таго, як у нас у нядаўнія часы рабілі цыгане.

Самы нізкі бок рэлігійнага жыцця ў Індыі – гэта таямнічая дзейнасць прыхільнікаў Сакці, жонкі Шывы. Як жаночы пачатак, містычная магутнасць, з дапамогай якой Шыва ўсім кіруе, гэтая панна Сакці ўжо ў пуранах дала нагоду да шматлікіх шматслоўных разважанняў; але чаго не далі ў гэтым дачыненні касмолагі (пураны), пра тое, тым больш, паклапаціліся шматлікія рытуальныя творы новага часу (тантры). Містычная магутнасць панны Сакці ў гэтых творах ператвараецца ў загадкавую пачуццёвую істоту. Яе культ падзяляецца на афіцыйны, які істотна не адрозніваецца ад культу Шывы, і на таемны культ “левай рукі”, у якім распутнасць першабытных культаў ў прыхаваным выглядзе працягвала існаваць яшчэ і ў XIX стагоддзі. У асобе абранай голай жанчыны, пры начных вогнішчах ушаноўваецца багіня. Ёй падаецца віно і мяса і таксама размяркоўваецца для пачастунку ўдзельнікаў; песьні, якія пры гэтым выконваюцца, маюць непрыстойны змест, і ўсё сьвята заканчваецца дзікай распустай. Гэтыя цырымоніі, – кажуць нам, – трымаюцца ў самай строгай таямніцы і згодна са сведчаннем Вільсана кожны вішнуіт, або сіваіт згубіў бы сваё добрае імя, калі б гэты схаваны бок яго рэлігійнасьці зрабіўся вядомым непасьвечаным. Ушанаванні магутнасьці Чорнай багіні (Калі), звычайна атаясамляемыя з паннай Сакці, згодна з паведамленнямі Крука, несумненна былі злучаны з чалавечымі ахвяраваннямі і ў Нагпуры існуюць капніцы, дзе яшчэ пад час апошніх пакаленняў здзяйсняліся такія эксцэсы. Намаганні ангельскай адміністрацыі скасаваць культ Калі, відаць, яшчэ не цалкам прывялі да задавальняючых вынікаў.

Ці з'яўляецца гэта перажыткам ранейшага фетышызму, які замяніла рэлігія Ўсявышняга бога? І калі так, то ці не даказвае гэтая акалічнасць, што гэтая замена была не так ужо даўно.

# Глава VIII

## Развіццё горнаазіяцкіх рэлігій пад уплывам ісламa і сучаснага хрысьціянства.

Перш за ўсё паглядзім, што нам паведамляюць артадаксальныя гісторыкі заканчэння XIX стагоддзя і пачатку XX стагоддзя.

Ужо ў VIII стагоддзі, – кажа Шантэпі-дэ-ля-Сасей[171], – агаране з’явіліся ў Сіндзі, але не змаглі заснаваць там трывалага валадарання. Нам кажуць, што гэта былі ўзбекі, складаючыя і зараз пануючы клас у Бухары, Хіве, Фергане, на Аму-Дар’і і ў афганскім Туркестане. Яны ў той жа час з'яўляюцца і продкамі сучасных

[171] Шантэпі-дэ-ля-Сасей, II, 154.

малаазіяцкіх турак, г. азн. прыйшлі ў глыбіню Азіі із Вялікай Рамеі, як малаазійскія агаране ў перыяд іконазмагальніцства IX стагоддзя або нават, магчыма, яны хлынулі на ўсход з нагоды свайго адлучэння ад усталяваўшагася ў Яўропе праваслаўя. Першым іхным правадыром быў, – як кажуць, – Альн-Цегін (960-975 г.), затым Себук Цегін (975-998 г.), які далучыў Кабул, Пешавар і Харасан і, нарэшце, з'явіўся і сам Махмуд-Газні (998-1030 г.), якога, як я ўжо даводзіў у VI томе Хрыста, і можна лічыць калі не заснавальнікам, то першапачатковым распаўсюджвальнікам каранічнага магаметанства, выклікаўшага пазней крыжовыя паходы, пачынаючы з 1098 года.

Затым, пасьля мала вядомага прамежку часу, з’явіўся цюркскі ж правадыр Султан Бабур, завалодаўшы Індыяй у 1505 годзе; еўрапейскае найменне якога Вялікі Магол, не мае ніякага дачынення да яго нацыянальнасьці, таму што ў ім і ва ўсёй яго дынастыі не было ні кроплі мангольскай крыві, але і пры ім у Індыі, відаць яшчэ не выкрысталізаваліся асобныя рэлігіі.

Кабір, які жыў на пачатку XV стагоддзя, у сваім вучэнні (Кабір-Пантыя) ўжо скасоўвае якое б то ні было адрозненне каст і рэлігій. Усе тыя, хто шануе бога і робіць дабро, – казаў ён, – браты, будзь яны індусы або мусульмане. Ідалапаклонства і ўсё, што з ім злучана, ён строга асуджае, храм павінен быць толькі домам малітвы і нічым іншым. Ён не хоча ведаць ні пра якія знешнія адзнакі, азначаючыя прыналежнасць да якой-небудзь секты, таму што яны раз’ядноўваюць людзей адзін ад другога, прапаведуе адрачэнне і назіральніцкае жыццё, але перш за ўсё патрабуе маральнай чысьціні, не абмяжоўваючы яе нейкім асаблівым ладам жыцця.

Лёгка зразумець, што ініцыятарам такіх поглядаў мог аднолькава быць як індускі вішнаіт так і мусульманін; пасьлядоўнікі абодвух веравызнанняў імкнуцца прысвоіць яго сабе. Ды ён жа і наогул даў моцны штуршок рэлігійным новаўтварэнням у Індыі, і сама рэлігія сікхаў чсткова ўзнікла пад яго ўплывам. Нанак, іхны заснавальнік, нарадзіўся ў 1469 г.; ён вучыў пра адзінства бога, якога патрэбна ўшаноўваць пабожным жыццём, і лічыў кставыя адрозненні неістотнымі, хаця прама і не паўставаў супраць іх. Яго тэалогія ў тым выглядзе, як яна патлумачана ў Адзі-Грант, заключае самыя несумяшчальныя думкі, прычым погляды індыйскага паходжання пераважаюць. Не рай або неба з’яўляецца канчатковай мэтай, а вызваленне ад перасялення душ, спыненне індывідуальнага існавання. Чалавеку, які дзейнічае пад уплывам дабрыні, захаплення або невуцтва, наканаваны новыя нараджэнні; апошнія спыняюцца дзякуючы поўнаму растварэнню ў богу. Але сікхі не робяць із гэтага вучэння тых высноваў, які ў вучэнні буддызма і іншых прывялі да ўсталявання манаскага жыцця, так як яны цалкам не прызнаюць аскетычнага жыцця. Вышэйшая істота, якую яны называюць Гары-Гавінда, ці іншымі найменнямі, апісваецца то як абсалютнае існаванне, з дапамогай выказванняў і выяваў характэрнымі для пантэізма, то як у поўным сэнсе самаўсведамляючая асоба. Адносна ўшанавання сваіх правадыроў і настаўнікаў, сікхі падзяляюць думкі шматлікіх іншых рэлігійных згуртаванняў; але ледзь ці дзе аўтарытэт настаўніка ставіцца так высока, як аўтарытэт Нанака і яго пераемнікаў. Яны з'яўляюцца не толькі ўвасабленнямі Нанака, але і прама абагаўляюцца. Але толькі Арджун (1581-1616) скампіліраваў Ады-Грант і пакінуў паэтычныя творы. Пры ім сікхі ўпершыню дасягнулі палітычнага значэння і пачалі барацьбу з магаметанамі. Але сваёй вышэйшай кропкі гэтая барацьба дасягнула толькі пры дзесятым настаўніку, Гавінда-Сінгху, сучасніку цара Аурангзеба. Калі ён у 1708

годзе памёр, то не прызначыў сабе пераемніка, так што на ім скончыўся шэраг настаўнікаў, але ён стаў сапраўдным заснавальнікам нацыянальнасьці сікхаў, аб'яднаўшы іх у адно грамадзкае цэлае, злучанае простай цырымоніяй пасьвячэння, і тым самым усталяваў іхнае поўнае адзяленне як ад магаметан, так і ад індуістаў. Таму, калі ў XVIII стагоддзі царства маголаў (г. азн. цюрак) распалася, то сікхі ў Пенджабе, падобна маратам у Дакане, сталі нашчадкамі іхнай магутнасьці. Уарства Ранджыт-Сінгха (1780-1831) у Лагоры было падпарадкавана толькі пасьля 1849 года, але і ў наш час у Пенджабе налічваецца яшчэ каля двух мільёнаў пасьлядоўнікаў рэлігіі сікхаў.

Але тут мы ўжо забеглі наперад, а вярнуўшыся на заканчэнне XVI стагоддзя, мы не можам не адзначыць там рэлігійнай дзейнасьці вялікага Акбара, прычым Акбар ў перакладзе таксама азначае “вялікі”, а яго звычайным імем было Джэлал-Эддзін Магамет (1556-1605). Гэты цар асабліва цікавіўся разнымі веравызнаннямі. Выхаваны ў ісламскім веравызнанні, ён атачыў сябе індускімі навукоўцамі і паэтамі і прызначыў большую частку сваіх міністраў із ліку гэтых індусаў. Парсіцкая суполка таксама выклікала ў яго вялікую цікавасць, ён запрасіў да сябе аднаго жраца, каб ён навучыў яго вучэнню маздэізма. Ён таксама звярнуў асаблівую ўвагу і на хрысьціянва, і партугальскія міссіянеры набылі пры яго двары вялікае значэнне. На Акбара глядзяць як на папярэдніка ў справе вывучэння параўнальнай тэалогіі. Кожная із галоўных рэлігій выклікала ў яго цікавасць. Яго вабіў і манатэізм ісламa, і сакрамэнтальныя сімвалы індуізма, і культ полымя і сонца парсаў, і маральнае вучэнне Езуса, і ён падпарадкоўваўся рэлігійным звычаям, запазычаным із розных рэлігій. Імкнучыся злучыць ўсе разам і падтрымліваемы сваім міністрам Абуль-Фацлем, ён заснаваў “боскую рэлігію (Дын-Ілагі)”, у якой адзінства бога, развіццё жыцця ў сьвеце і перасяленне душ, утварылі асноўныя дагматы. Культ быў прысвечаны галоўным чынам сонцу, пры гэтым набажэнствы служыў сам цар; так што вера ілагіеў знайшла сваё ўвасабленне ў формуле: “Няма бога, акрамя Аллаха і Акбар каліф Аллаха”. Гэтая новая рэлігія ледзь пераж<br>ыла свайго заснавальніка, але ў ёй мы знаходзім прыкметы шмат якіх, больш распаўсюджаных індыйскіх формаў верованьня. А таму і можам выказаць здагадку пра іхную параўнальную недаўнасць.

Цікавым сведчаннем эклектычнага і сінкрэтытычнага духу гэтага перыяду з'яўляюцца творы шмат падарожнічаўшага Махсан-Фані, які жыў у XVII стагоддзі і паведамляе грунтоўныя звесткі пра розныя веразвынанні ў Дабістане, прычым галоўнымі называе: рэлігію парсаў, хрысьціянва і іслам. А сьведчаннем таго, што і яны не застывалі там на тысячагоддзі, служыць тое, што і ў XVIII стагоддзі колькасць настаўнікаў, якія засноўвалі якую-небудзь школу, секту або рэлігію, была такой вялікай, што часта іхнае тварэнне існавала толькі на працягу аднаго пакалення, затым зноў пэратваралася ў іншыя формы.

Нават у XIX стагоддзі Індыя мела сваіх вялікіх рэлійных настаўнікаў. Іхны шэраг пачынае Рамагун-Рой (1774-1833), заснавальнік вучэння Брама-Самаджы. Ён быў дбайным змагаром супраць ідалапаклоства і прытрымліваўся адзінабожжа нават раней, чым вывучыў Біблію і Каран. Ён пачаў ужо заводзіць сяброўскія дачыненні з еўрапейскай культурай і памёр падчас аднаго із наведванняў Ангельшчыны. Яго пераемнік Дзебендранат-Тагор адмовіўся ў сваёй Брахма-Дарма ад аўтарытэту Веды яшчэ больш вызначана, чым яго папярэднік. За ім ішоў Кешуб-Шундэр-Сен (1838-1884 гг.), які зрабіў спробу правесьці рэформы таксама і ў соціяльным дачыненні. На каставыя адрозненні ён цалкам не звяртаў увагі, і

выказваўся супраць адружвання дзяцей і паганскіх звычаяў індустскай рэлігіі, хаця і здзейсніў як адно так і другое пад час адружвання сваёй дачкі з магараджай, разлічваючы, што гэта будзе садзейнічаць далейшаму пашырэнню яго рэлігіі. Як індыйскую, так і хрысьціянскую філасофію і рэлігію ён імкнуўся аб’яднаць у вышэйшым адзінстве і пастаянна накіроўваў свае погляды на Яўропу, дзе яго сустракалі з надзвычайнымі ўшанаваннямі ў вышэйшых колах. Ён дзейна ліставаўся з Максам Мюлерам, Хрысту адводзіў першае месца сярод пракрокаў, так, што шмат хто зрабілі выснову, што ён мае жаданне прыняць хрысьціянва. Ён толькі меў жаданне ўсё злучыць у сваёй новай, касмапалітычнай, унітарнай, містычнай рэлігіі і ў 1880 годзе ён надрукаваў сваё сусветнае пасланне (Нава Бідхан), у якім гармонія рэлігій найперш выражаецца ў сімвалах, запазычаных із індуізму. Але яно набыло прыхільнікаў толькі сярод адукаваных людзей у гарадах, і выклікала рэакцыю пад правадырствам навукоўцы Дінанады-Сарасваці (1827-1889), які ў абароне аўтарытэту Веды дайшоў да цверджання, быццам бы ведыйскія сьпевакі валодалі нават усімі ведамі нашага часу.

Я адмыслова паведамляю гэтыя звесткі, якія адлюстроўваюць сучасны стан індускай культуры. Мы бачым, што яна ўжо аб’еўрапеілася і таму ўжо смешна працягваць размовы, што браміны нешта хаваюць ад еўрапейцаў. І хай Дынананда-Сарасваці колькі заўгодна ўзвялічвае Веды і дапасуе іхнае стварэнне хаця б за мільёны гадоў да н. э., мы ўсё ж будзем сцвярджаць, што калі б гэта было так, то іхныя манускрыпты былі б не менш распаўсюджанымі па Індыі, чым нядаўнія манускрыпты Карана ў магаметан або Евангелляў у хрысьціян XV стагоддзя.

Вось чаму, перш за ўсё, патрэбна зрабіць сістэматычную статыстыку ўсяго рукапіснага матэрыялу, знойдзенага ў Індыі Аленай Пятроўнай Блавацкай і ёй падобнымі, хаця, па-знешнасьці, і больш сур’ёзнымі шукальнікамі індыйскай старажытнай мудрасьці; і ўсе творы, якія маюцца толькі ў адным рукапісным экзэмпляры, прызнаць не маючымі распаўсюджвання апокрыфамі, хаця б і выявіліся із іх, таксама адзінкавыя экзэмпляры, пераклады на тыбецкую, палійскую або яшчэ нейкую іншую мову. Бо амаль кожнаму зразумела, што шукальнікам усходніх манускрыптаў было больш за ўсё цікава паказаць адукаванаму сьвету нешта цалкам новае, а не літаральнае паўтарэнне у новым рукапісе нечага ўжо кімсьці надрукаванага. А таму і мастацтва апакрыфістаў накіроўвалася не на зацьверджванне нейкай адной чужой славы, а на стварэнне ўласнай, у выніку чаго і атрымалася, што амаль усе іхныя “псеўда-знойдзеныя” рукапісы выявіліся “унікамі” і іх больш ніхто не знаходзіў.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## Апошняя ўспышка дагараючага полыя акультных плыняў новага часу.

# Глава I

## Забабоны і штукарствы ў рэлігійных культах

Няма ніякага сумневу, што кожная рэлігія пачыналася ад забабонаў, але ўслед за тым непазбежна павінна была наступіць і наступная стадыя яе развіцця – штукарства і шарлатанства. Як толькі з'яўлялася, дзякуючы асаблівым з'явам прыроды, накшталт вывяржэння вулканаў, падзення метэарытаў і іншых уражваючых з'яваў прыроды ў нейкім месцы сьвятая мясьціна і існаваўшы пры ёй штат сьвятароў, а ўражваючая з'ява, быўшая нагодай узнікнення іхнай установы спыніла сваё уздзеянне, для іх не заставалася нічога іншага, як: або спыніць сваё існаванне, абвясьціўшы, што звышнатуральныя здольнасьці іх пакінулі, або замест натуральных цудаў прыдумляць іншыя штучныя.

Але кідаць ужо наладжаны звыклы занятак і губляць рэпутацыю свайго высокага, у вачах усяго атачэння, блізкага знаёмства з багамі, на зневажаючую рэпутацыю пакінутага багамі за нейкія правіны чалавека, было прама немагчымым для чалавека, ужо звыкшагася з усеагульным ушанаваннем і нават небяспечна: так як першабытны натоўп, вызваліўшыся ад свайго сляпога абагаўлення, неадкладна пасьля яго знікнення пераходзіў да сляпой нянавісьці і расправа натоўпа бывае жудаснай. З гэтай нагоды кожны містычны культ, пачаўшыся із забабонаў яго заснавальнікаў, заканчваўся шарлатанствам яго пасьлядоўнікаў.

“Зараз мы несумненна ведаем, – кажа Д-р Леман (стар. 608), – што фокусы ўжываліся ва ўсе часы з намерам падмануць натоўп, каб умацаваць яго веру ў праўдзівасць вядомых поглядаў”. Бяспрэчна, спачатку прыёмы былі грубыя і простыя, так як больш тонкія спосабы былі невядомы. Такімі, напрыклад, зяўляліся сродкі, якія ўжываліся грэцкімі (г. азн. рамейскі, візантыйскімі) чарадзеямі часоў заняпаду, для таго, каб выклікаць сьветлую постаць Гекаты. У паўночных паданнях паведамляецца, што некаторыя статуі багоў ажывалі і із паведамляемага для нас зразумела, што ў гэтых драўляных ідалах сядзелі людзі, браўшыя на сябе ў патрэбны момант ролю багоў. Хрысьціянскія сьвятары таксама не заўсёды чураліся такіх прыёмаў, хаця і ў больш вытанчанай форме. Размаўляючымі трубкамі і таму падобнымі прыстасаваннямі, яны ўмелі наладзіць справу так, што бог непасрэдна размаўляў з натоўпам сабраным ў царкве. Нам зараз здаецца непраўдападобнай магчымасць такіх фокусаў у царкве, але згадаем толькі самазагараючаяся полымя і зараз існуючае ў Ерусалімскім храме і неапалітанскі цуд з крывёй сьв. Януарыя. Сярэднявечныя магікі пускалі ў ход усе вядомыя ім веды пра прыроду, каб спадабацца народу. Для гэтага, відаць, на сьцяне малявалася фосфарам чалавечая фігура, нябачная пры дзённым аьвятленні, але зараз жа з’яўляўшаяся як толькі вокны храма зачыняліся занавескамі. Ці ж выпускалі лётаць у цемры па храму птушак таксама намазаных самасьвечачымся рэчывам. Па меры павелічэння прыродазнаўчых ведаў, яны не прапускалі магчымасьці пашырыць і вобласць чарадзейных прыёмаў.

Самая каштоўная частка першага выдання “<.......>” Яна дэла Порта (1538-1615) заключаецца ў паведамленні спосабаў выкарыстання меўшыхся тады ведаў для мэтаў практычнай магіі.

Першым, распрацаваўшым натуральную магію як самастойную навуку, быў Джыянбэтыста-дзелла-Порта (Ян Батыста Порта).

Ён нарадзіўся ў 1538 годзе ў Неапалі і належаў да заможнай і паважаемай сям'і, так што мог свабодна аддацца вывучэнню сваіх шануемых навук. Ужо ў 1553 годзе, маючы ад роду ўсяго 15 гадоў, ён выдаў свай галоўны твор, выклікаўшы ўсеагульнае здзіўленне. Пасьля доўгіх падарожжаў ён заснаваў у 1560 годзе ў Неапалі “Таварыства для дасьледавання таямніц прыроды”, якое, аднак, было

забаронена згодна з загадам папы. Тым не менш, ён працягваў свае фізічныя доследы, і ў 1589 годзе надрукаваў новае выданне сваёй магіі, вельмі дапоўненае. У той час, як першае выданне змяшчала 4 часткі, другое з’яўляецца ужо вельмі шырокім творам із 20 кніг. Памёр ён ў 1615 годзе. Больш за ўсё, відаць, чыталася першае выданне із 4 кніг, верагодна, таму, што яно змяшчае ў сабе найбольшую колькасць забабонных поглядаў таго часу. Порта сцвярджае, што ён асабіста зрабіў усе апісаныя ім доследы; калі гэта так, то ён, відавочна, не звяртаў ніякай увагі на вынік даследу, так як прыводзіць шмат немагчымых доследаў. Магчыма, аднак, менавіта ім кніга і абавязана сваім вялізным поспехам, цалкам адпавядаючы тагачаснаму ікненню да незвычайнага.

Першая кніга ўтрымлівае выкладанне тэорыі натуральнай магіі, г. азн. пераказ магічнай сістэмы Агрыпы, нават з яго прыкладамі ў тым жа парадку і з тымі ж тлумачэннямі. Астатнія тры ўтрымліваюць, насупраць, практычныя парады, добрыя ў перамешку з недарэчнымі. Яны па-сутнасьці не маюць ніякага дачынення да першай кнігі, так як тэорыя нікольки не ўжываецца для тлумачэння досьледаў. Другая кніга з’яўляецца нечым накшталт трактата па садаводству; у ёй утрымліваюцца пералічэнне спосабаў змянення знешняга выгляду пладоў, афарбоўкі кветак, што можна надаць чорны колер вачам дзіцёнка, намазаўшы яму патыліцу маслам перамешаным з попелам спаленага крыжа, і што можна зрабіць так, што ўсе прысутнічаючыя ў пакоі будуць мець па знешнасьці асьліныя галовы. Для гэтай мэты варта толькі кіпяціць асьліную галаву 3 дні ў масле, пакуль не агаляцца косткі. Іх таўкуць, перамешваюць парашок з маслам і наліваюць ім лампы, і як толькі іх запаляць, так усе і пабачаць адзін аднаго ў такім выглядзе. Ён таксама распавядае і пра свае досьледы над чароўнымі мазямі, дзеяннем якіх было тое, што ведзьмы западалі ў глыбокі сон і перажывалі ў мроях разнастайныя цудоўныя прыгоды, што ўжо зноў падобна на гіпноз.

Яшчэ ў часы Галілея шмат хто із даследчыкаў працавалі хутчэй на карысць магіі і штукарства, чым на карысць сапраўды сур'ёзнай навукі. Такія людзі, як Панас Кірхнер (1601-89) і Каспер Шот (1608-56) мелі асаблівую схільнасць да цудоўнага і да ўсяго, што можа імпанаваць і падманваць людзей.

Нават і ў наш час разнастайныя формы штукарства выкарыстоўваюцца з мэтай умацавання веры людзей у легкадумныя высновы фантазёраў. Матэрыялізуючыя духаў медыумы – усе з’яўляюцца штукарамі. І толькі пры дапамозе фокусаў тэасафічная сістэма Блавацкай змагла ператварыцца ў рэлігійную дактрыну, прыцягнуўшую да сябе нямала інтэлігентных прыхільнікаў.

Ангельскі фізік Брустар ўпершыню даў сур'ёзнае апісанне фізічных і хімічных дапаможных сродкаў, якія несумненна ўжываліся старажытнымі магікамі, а сучаснае штукарства, якае мае больш сьціплую задачу весяліць публіку, было ўпершыню сістэматычна апісана Гофманам. Ён дае падрабязныя тлумачэнні адносна шмат якіх фокусаў. Тэорыю гэтага майстэрства разгледзеў і псіхолаг Дэсуар ў кнізе “Псіхалагічныя эскізы”. Абедзве гэтыя працы маюць для нас значэнне ў тым дачыненні, што вельмі палягчаюць разуменне спецыяльных метадаў, якія ўжываліся спірытычнымі медыумамі. А яшчэ больш падрабязна ў Трусдэла, Більмана і ў справаздачах Гаджсана.

Цяжка сказаць, у якой ступені старажытныя магі карысталіся тым, што сучаснікі называюць “спрытам рук”, але мастацтва, вядомае пад назвай чрэвавяшчанне, было ім вядома і ўжывалася ва ўсе часы. Вельмі грунтоўнае выкладанне гісторыі і тэорыі чрэвавяшчальніцства мы маем у працы Флатау і

Гуцмана “<.......>” (Лейпцыг, 1893 г.), але аўтары толькі трохі захапіліся, сцвярджаючы, што ўсе чараўнікі і прадказальнікі старажытных часоў абавязаны сваёй славай менавіта гэтаму сродку.

# Глава II

## Магія ў Вялікай Рамеі.

Пачнём некалькі здалёк, каб патлумачыць сучасную рэчаіснасць з дапамогай не такога ўжо і далёкага мінулага, як гэта здаецца.

“Грэцкая магія” лічыцца асобным раздзелам усенароднай магіі старажытных народаў і яе падзяляюць на першабытную “да пярсідзкіх войнаў”, лічачы іхны час згодна з Герадотам ад -490 г. да -450 г. і наступныя за імі. Але я ўжо даводзіў, што “Пярсідзкія войны” таго часу – вельмі позні міф, які мае сваёй першакрыніцай крыжовыя паходы, падчас якіх туркі мелі назву персаў. Гэта азначае: тое што мае назву грэцкая магія, на самай справе з’яўляецца магіяй візантыйскай, ці больш дакладна, магіяй Вялікай Рамеі, ахопліваючай сабой усе культурныя краіны міжземнаморскага этнічнага басейна, асабліва ж Ягіпет і ўзбярэжжы Мармуровага мора.

З гэтага боку гледжання галоўнай крыніцай для малявання рамейскай гісторыі перад крыжовымі паходамі служылі эпічныя творы, скампіляваныя ад імя Гамера і створаныя не раней росквіту Генуэзкага і Венецыянскага мараплавання.

І цікава тое, што, чытаючы Адысею, мы не знаходзім у ёй ніводнага падрабязнага падання пра дэманаў або злых духаў. Акрамя сапраўдных алімпійскіх багоў (прычым першакрыніцай паданняў пра гару Алімп была, вядома, не тая група невялікіх пагоркаў паміж Македоніяй і Янінай на паўночным усходзе Грэцыі, якую жыхары завуць Элімбам, а нейкая вогнедышачая гара накшталт Этны або Везувія), мы там знаходзім толькі з'яўленне німфаў (па-грэцку нявест), уяўляюшчых сабой прыгожанькіх напаловупаветраных, хаця і цалкам матэрыялізаваных істот, сярэдніх паміж жанчынамі і багінямі.

“Здаецца дзявочы гучны паблізу мне пачуўся голас.
Ці німфы тут, уладальніцы гор круглагаловых, духмяных,
Вільготных лугоў і вытокаў рачных патаенных, гуляюць”.
(Адысея, VI, 122)

І тая акалічнасць, што Адысей услед за тым выходзіць да людзей са свайго прытулку, паказвае нам, што на думку аўтараў гэтай эпапеі, чалавеку не было нагоды баяцца німфаў. Яны былі добрымі духамі, якія, падобна багам, толькі ў тым выпадку ставіліся да людзей варожа, калі апошнія абражалі іх нейкім учынкам. А пра злых духаў там гаворыцца толькі мімаходзь, як пра нагоду захворванняў:

Якой невыказваемай радасьцю дзецям бывае выратаванне
Жыцця бацькі, хворага цяжкай хваробай, усе здольнасьці
У ім знішчыўшай (як быцам злы дэман да яго дакрануўся),
Пазней жа на радасць ім усім акрыяўшага воляй несьмяротных.
(Адысея, V, 394)

Але падобныя згадванні ў гэтай кнізе уяўляюць толькі выключныя з'явы. Розныя непрыемнасьці, спасьцігаючыя чалавека, служаць вынікам гневу не злых духаў, а багоў. Дзесяцігадовае падарожжа Адысея і ўсе яго нягоды былі

наступствам помсты Пасяйдона за тое, што герой асляпіў яго сына Цыклопа Паліфема (Адысея, I, 19):

“Перапоўненыя спачуваннем богі ўсе,
Пасейдон толькі адзіны ўпарціўся гнаць Адысея,
Богападобнага мужа, пакуль не дасягнуў ён айчыны”.

Адысей безперапынна прызывае на дапамогу Афіну-Паладу:

“Дачка беззаганнага Зеўса, эгідадзяржаўца, Паллада,
Зараз пачуй ты малітву, табой непачутую, калі я
Гінуў у хвалях, уражаны зямлі калыхальніка гневам;
Дай мне знайсьці і прыстанішча і прыязнае стаўленне ў людзей феакійскіх,
– Так прамаўляў ён, молячыся, і быў ён Палладай пачуты;
Але перад ім не явілася багіня сама, баючыся
Магутнага дзядзькі, які ўпарціўся гнаць Адысея,
Богападобнага мужа, пакуль не дасягнуў ён айчыны”.

У Гамера таксама сустракаецца нямала месцаў, із якіх відаць, што рамейцы верылі ў магчымасць чарадзейства, і прытым не толькі ў мастацтва прадказання, але і ў аперацыйную магію, г. азн. у магічныя дзеянні, магучыя змяніць ход падзей. Мы бачым у яго нешта накшталт сьвятых, маючых вялікую магутнасць. Калі Менелай на Фаросе намерваецца злавіць “праўдзіва прадказваючага марскога старца Пратэя, надзеленага чароўнай магутнасьцю, позірк якога пранікае праз марскія глыбіні” (Адысея, IV, 384), то гэта яму не лёгка ўдаецца, як відаць із яго апавядання (Адысея, IV, 454):

“Кінуўшыся з крыкам на сонната, моцнай рукой усе разам
Мы абхапілі яго; але стары не забыўся пра чарадзейства;
Раптам ён у злоснага з грывай вялізнай ільва ператварыўся,
Пазней паўстаў перад намі драконам, пантэрай, вепруком вялікім,
Хутка цякучай вадой і дрэвам густаверхавінным;
Мы, не баючыся, тым мацней яго, тым больш упарта трымалі”.

Але і людзі схільныя да такіх метамарфозаў. Так, Цыртэя, дачка багоў, ператварыла паплечнікаў Адысея ў сьвінней. А калі Адысей вяртацаецца на радзіму, Афіна надае яму выгляд жабруючага старога для таго, каб вестка пра яго вяртанне не распаўсюдзілася занадта рана. У выглядзе такога пераўтварэння пабачыць яго ў першы раз яго сын Тэлемак, а калі яны сустракаюцца ў другі раз і Афіна ўжо вярнула Адысею яго ранейшы мужны выгляд, Тэлемак яму кажа:

“Не, не бацька, Адысей, ты, а дэман, сваім чарадзействам
Вочы мае асьляпіўшы, каб пазней я больш гаротна плакаў;
Сьмяротнаму мужу падобных цудаў здзейсніць немагчыма
Уласным розумам; толькі бог можа ператвараць у імгненне
Воляй сваёй старога ў маладога і юнака ў старца.
Быў ты спачатку старым, неахайна апранутым, зараз жа
Бачу, што свой ты багам, бязмежнага неба валадарам”.
(Адысей, XVI, 194)

Вядома толькі адно месца, на якое часта спасылаюцца як на доказ таго, што магія была пашырана ў рамейцаў; гэта апавяданне пра тое, як Алена прывяла ў вясёлы настрой гасьцей, калі яны засумавалі пад уплывам успамінаў пра Трою (Адысей, IV, 219):

“Разумная думка прабудзілася тады ў шляхетнай Алены:
У чаркі яна кругавыя падліць узнамерылась сок,
Гораўсладны, мірастваральны, сэрцу забыццё
Бедстваў даючы; той, хто віна выпіваў, з дабратвоным
Налітым сокам, быў вясёлым ўвесь дзень і не змог бы заплакаць.

Калі б незнарок брата страціў, ці мілага сына,
Раптам перад вачамі яго ўражанага ваяўнічай меддзю.
Дыева сьветлая дачка валодала тым сокам цудоўным;
Шчодра ў Ягіпце яе Палідамна, жонка Аона,
Ім надзяліла; зямля там радзючая вельмі
Злакаў нараджае шмат – і добрых гаючых, і злых атрутных.

Але тут, вядома, гаворка ідзе пра гашыш, здабываемы із індыйскай канаплі; яшчэ і зараз паўсюдна ўжываемы на Ўсходзе як ап'яняючы сродак. А ў іншых месцах мы сапраўды маем згадкі пра чарадзества. Так, у Адысеі апавядаецца (Адысей, VIII 557):

“Кормшчык не правіць у марах караблём феакійскім; руля мы,
Патрэбнага кожнаму караблю, на нашых караблях не маем;
Самі яны разумаюць сваіх корабельшчыкаў думкі”.

Падобнае ж уяўленне мы знаходзім у паўночных народаў, якія прызнавалі за некаторымі нацыямі асобны дар, які заключаецца ў тым, што калі яны распускалі парус свайго карабля, зараз жа падымаўся спадарожны вецер, нёсшы іх куды трэба.

“Са шматлікіх месцаў Іліяды відаць, – кажа д-р Леман, із якога я рэферырую гэтыя вытрымкі, – што пад Трояй з грэкамі (г. азн. рамейцамі) былі лекары, якія пры лекаванні ран дзейнічалі цалкам традыцыйна: абмывалі іх і прыкладвалі да іх гаючыя травы. Толькі ў адным месцы мы сустракаем указанне на лячэнне з дапамогай замаўленняў. Калі на паляванні Адысей быў паранены вепрам, паведамляецца, што лекары:

“... Адысееву рану перавязалі рупліва; кроў жа, бягучую моцна,
Спынілі чароўнай песьняй”.
(Адысея, XIX, 457)

Як бачыць чытач, тут як быццам бы, ўжо праглядаецца вучэнне пра Логас. Аўтары Адысеі прызнавалі, што вымаўляемае слова само па сабе валодае здольнасьцю ўплываць на натуральны ход падзей. Гэтая ідэя ляжыць у падставе як Евангелля Яна, так і сярэдневечнага чарадзейства, ды і наогул на гэтай думцы заснаваны рэлігіі ўсіх еўрапейскіх народаў. Мы толькі што бачылі, як яны пры лекаванні ран карысталіся замаўленнямі і таму натуральна выказаць здагадку, што тое ж рабілася і пры лекаванні ўнутраных хвароб, правільнае лекаванне якіх патрабавала, вядома, значна больш глыбокага разумення справы і мы ведаем, што яно сапраўды было злучана з храмамі, галоўным чынам, Апалона і Эскулапа, сама назва якога стала сінонімам лекара. Што там пры гэтым адбывалася, было таямніцай жрацоў; але і невялікая колькасць таго, што нам вядома, дастатковая, каб пераканацца ва ўжыванні там рэлігійнай магіі. Хворыя, жадаўшыя быць прынятымі ў храм для лячэння, павінны былі спачатку паклясьціся ў тым, што будуць строга ўсё выконваць. Потым яны павінны былі некалькі дзён пасьціцца, пасьля сьвятары вадзілі іх па храму і паказвалі ім выявы і прысвечаныя багам табліцы, якія служылі нагадваннямі пра цуды, здзейсненыя чароўнай ласкай. Пры гэтым прамаўляліся малітвы і сьпяваліся сьвятыя песьні, якія хворыя павінны былі паўтараць услед за сьвятаром. Сьпевы часта суправаджаліся музыкай. Затым ладзілася ахвяраванне, часьцей за ўсё, як і ў Бібліі, барана, але часам і іншых жывёл, пераважна птушак. Хворых прымушалі абмывацца, затым намазвалі іх і накладалі на іх рукі. Яны павінны былі ўдыхаць каджэнні, клаліся спаць на асвечаныя месцы ў сярэдзіне храма, і пад час сну атрымлівалі наказы ад бога, прадказваўшага ім сьмерць або вылячэнне; на гэтых прадказаннях засноўвалася далейшае лячэнне.

Такім было першапачатковае сьвятарскае лячэнне, і падобным жа было сьвятарскае прадказанне падзей. Непасрэдныя прадказанні адбываліся ў храмах, із якіх у Вялікай Рамеі найбольш шануемымі былі храм Апалона (Хрыста) у Дэльфах, у Бастыі, і аракул Зеўса (Еговы) палізу горада Дадоны ў Эпіры.

Святарка Апалона мела назву Піфія (г. азн. Ванючка), а Зеўса – Пеліяда. Але яны не маглі агучваць выказванні багоў пры звычайных умовах: ім была небхадна асобная падрыхтоўка для пераходу ў стан экстаза. У Дэльфах для гэтага служылі выпарэнні, якія выходзілі із расколіны ў скале, над якой быў пабудаваны храм. Ванючка паднімалася на трыножнік, наладжаны над расколінай, і пад уплывам выпарэнняў, пранікалася наданнем бога і, прамаўляла яго адказ, які звычайна быў такім невыразным, што яго спачатку патрэбна было патлумачыць жрацу.

А ў Дадоне святарка Пеліяда піла ваду із бягучай там адурманьваючай крыніцы і, дзякуючы гэтаму набывала здольнасць успрымаць паведамленні багоў.

Існавалі і прыватныя прадказальнікі, не меўшыя патрэбы ні ў якіх асобных прыёмах. Яны неаднаразова згадваюцца ў Гамера (Адысей, X, 492; V, 75; XI, 329).

А некаторыя сьмяротныя маглі прадказваць падзеі шляхам тлумачэння розных адзнак, з дапамогай якіх багі паведамлялі сваю волю. Да ліку найбольш распаўсюджаных із такіх знаменняў належыць палёт птушак; пра што не раз згадваецца ў Гамера (Адыс., I, 200; II, 158; Іліяда II, 585; X, 274; XII, 199).

Падобна таму, як зараз лічыцца добрай прыкметай сустрэць нованароджаны месяц з правага боку, так падчас крыжовых паходаў лічылася добрай адзнакай пабачыць птушку справа.

“Добрае знаменне сьмелым неаднаразова пасылала Афіна,
Чаплю на правай руцэ ад дарогі; яны не бачылі
Птушку скрозь цемру ночы, але чулі звонкія крыкі.
Птушкай абрадаваны быў Адысей і памаліўся Афіне”.

Падобна таму, як пад час эпохі Адраджэння метэарыты лічыліся знаменнямі, так мы знаходзім і ў Іліядзе, дзе згадваецца пра крывавы дождж, як пра прадказанне паграждаючага бедства (Іліяда, XI, 63).

Рамейцы карысталіся і некрамантыяй, г. азн. заклікамі да памёршых з мэтай даведацца ад іх пра будучыню. Падобнае магічнае дзеянне ладзіць Адысей, згодна з парадай Цыртэі прыплыўшай праз Акіян да ўваходу ў Гадэс (Адысея, XI, 23):

“Я меч агаліў меднавостры і ім выкапаўшы
Яму глыбокую ў локаць адзін шырынёй і даўжынёй,
Тры ўчыніў узліванні памёршым, прызваным разам;
Першае сумессю медзьвянай, другае віном духмяным,
Трэццяе вадой, і мукой ячменнай усё перасыпаўшы,
Даў абяцанье безжыццёва веючым ценях памёршых:
У дом вярнуўшыся, карову, цялят не меўшы, у ахвяру
Ім прынесьці і ў запаленае вогнішча каштоўнасьцей шмат
Кінуць; Тырэзія ж больш за іншых уважыць асабліва,
Чорнага, лепшага ў статку барана яму прысьвяціўшы.
Даўшы абяцанне такае і зрабіўшы заклік да памёршых,
Сам я барана і авечку над ямай глыбокай зарэзаў;
Чорная кроў палілася, у яе зляцеліся натоўпам
Душы памёршых, з цёмнай бездані Эрэва падняўшыся:
Душы маладзіц, малавопытных юнакоў, вопытных старцаў,
Паннаў маладых, пра страту нядоўгага жыцця тужыўшых,
Бранных мужоў, меднавострай дзідай уражаных сьмяротна
У бітве, і броні, абпырсканай крывёю, яшчэ не скінуўшых.

Усе яны, вылецеўшы разам незлічоным роем із ямы,
Паднялі крык неперагазваемы; быў схоплены я жахам блеклым".

Тут мы зноў бачым сярэдневечнае павер'е, што кроў як жыццёвы сок, на кароткі час вяртае жыццё памёршым. І гэта зноў падцверджвае маю выснову, што Адысея з'яўляецца паэмай часоў развіцця Генуэзкага і Венецыянскага мараплавання, а Іліяда, г. азн. здабыванне Іліёна за выкраданне грачанкі (Элены па-грэцку) Персам, г. азн. Туркам – Парысам па-рамейску, з'яўляецца паэмай із часоў крыжовых паходаў, прычым Іліён з'яўляецца горадам Іліі, сучасны Эль-Кудс, лацінскі Эліа-Капіталіна.

Паглядзім зараз, што было пасьля гэтага пад час росквіту Лацінскай Федэрацыі крыжаноснай дзяржаваў (1204-1463).

"Шмат хто із фесалійскіх жанчын, – кажуць нам, – былі цалкам такімі ж, як і заходне-еўрапейскія ведзьмы часоў інквізіцыі. Яны былі здольнымі пры дапамозе асобных націранняў ператвараць людзей у жывёл і ў камяні, а ноччу яны па паветры выпраўляліся на палюбоўныя прыгоды. Вось дзе пачатак сярэднявечнага веравання ў падарожжа ведзьмаў", – усклікае д-р Леман, пазначаючы, што згодна са старой храналогіяй яны раздзелены прамежкам у 2000 гадоў адно ад другога[172]. Багіня месяца, Геката, першапачаткова з'яўляўшаяся багам дабрадзейным, абараняўшым ад зла, паступова ператварылася ў абаронцу ведзьмаў, і правадыра ўсяго сьвету чарадзейства. Гэта быў ужо не месяц, а яго персаніфікацыя, якая згодна з грэцкімі класічнымі апокрыфамі дае загад выклікаць сябе так[173]:

"Змайструйце статую із гладка адпаліраванага дрэва згодна з маімі больш падрабязнымі ўказаннямі, якія я зараз дам. Зрабіце тулава гэтай статуі із кораня дзікай руты і ўпрыгожце яго маленькімі хатнімі яшчаркамі; потым замясіце мірру, сьціраксу і ладан разам з гэтымі жывёламі і пастаўце сумесь на паветры, пры нарадждаючымся месяцы. Потым вымавіце ваша прызыванне ў наступных словах:

"Прыдзі, падземная, зямная і нябесная Бамба, багіня дарог і скрыжаванняў, прыносячая паветра, хадзячая ноччу, варожая сьвятлу, схільная да ночы і спадарожнічаючая ёй, радуючаяся сабачаму браханню і праліццю крыві, блукаючая ў змроку зіхацячым полымем сярод магіл, прагнучая крыві і наводячая жах на памёршых. Гарго,释 Мармо, Месяц з 1000 абліччамі, пачуй паблажліва нашу ахвяру".

Вы павінны выкарыстаць столькі яшчарак, колькі я прынімаю абліччаў; выканайце ўсё старанна, наладзьце мне жыллё із упаўшых лаўровых галін і пасьля таго, як вы выкажаце гарачыя малітвы да маёй выявы, я з'яўлюся вам у сне".

Але яна з'яўлялася і не ў сне, і скептыкі эпохі Адраджэння сведчылі, што для гэтага патрэбны быў цалкам цемны пакой; там вядзьмак загадзя маляваў на сьцяне нейкім гаручым рэчывам чалавекападобную фігуру, і калі асоба, звяртаючаяся да багіні, была дастаткова падрыхтавана да яе з'яўлення замаўленнямі і іншымі цырымоніямі, вядзьмак падносіў полымя да намаляванай ім выявы, якая зараз жа ўспыхвала. Часам жа гэтыя чарадзеі замест таго выпускалі птушку, да нагі якой было прывязана лёгка запальваючаяся рэчыва; перапалоханая птушка, вядома, насілася па пакоі, а не менш перапалоханы наведвальнік падаў ніцма на зямлю і накрываў сабе ад жаху галаву.

Спадарожніцы Гекаты мелі назву эмпузы або ламіі. Некаторыя аўтары малююць іх як ведзьмаў, спадарожнічаўшых багіні ў яе начных вандроўках і выкарыстоўваючых кожны выпадак кінуцца у палюбоўныя прыгоды. Некаторыя уяўляюць іх сабе ў выглядзе дэманаў, якія, праўда, стасуюцца з мужчынамі, але

[172] Д-р Леман, стар. 63.
[173] Д-р Леман, стар.64.

толькі для таго, каб высмактаць з іх сокі, якімі яны сілкуюцца. Так як у дачыненні да падобных фантастычных вобразаў, ўяўленню быў адкрыты неабмежаваны прастор, не акрэслены ніякімі пэўнымі ўяўленнямі, то нас не павінна здзіўляць вялікая разнастайнасць у іхным апісанні.

Змешваючы міфічнага Ксеркса і не менш міфічнага Аляксандра Вялікага з дзеячамі крыжовых паходаў апокрыфа, называючы сябе Плініем, сведчыць, што распаўсюджванне магіі ў Грэцыі (г. азн. Рамеі) бярэ свой пачатак ад нейкага Астана, прыдворнага прадказальніка Ксеркса, спадарожнічаўшага яму падчас паходу ў Грэцыю і напісаўшага вялікі твор пра магію і што вядзьмарства асабліва распаўсюдзілася пасьля таго, як Аляксандр Вялікі (у дадзеным выпадку не інакш, як граф Балдуін Фландрскі) захапіў Персію (г. азн. Сірыю) і Ягіпет. Тады Грэцыя была перапоўнена пярсідзкімі і егіпецкімі прадказальнікамі, якіх называлі “халдэямі, манамі і матэматыкамі”.

Дзякуючы ім грэкі пазнаёміліся з чужымі рэлігіямі, багі якіх насілі варварскія найменні, а так як Гамер і Гесіёд не пакінулі для гэтых багоў месца на Алімпе, то грэкі аднеслі іх да ліку дэманаў. Народ пачаў адчуваць перад гэтымі новымі дэманамі жах, якога ўжо не адчуваў перад старымі алімпійскімі багамі, паступова страціўшымі якую б то ні было павагу, з нагоды сваіх залішне чалавечых, неаднаразова апетых слабасьцей. Пра новых багоў такіх слабасць не было вядома, і грэкі пачалі выказваць ім чыста ўсходняе шанаванне, выяўляўшаяся ў прызываннях і замаўленнях на пярсідзкай, асірыйскай і ягіпецкай мовах, якіх грэкі не разумелі і якія яны з гэтай нагоды пераіначвалі, так што ў рэшце рэшт гэтыя замаўленні ператварыліся ў цалкам не маючыя сэнсу формулы.

Адносна развіцця забабонаў у Рыме пад час сярэднявечнай эпохі мы маем параўнальна вельмі бедныя звесткі; але, наколькі можна меркаваць, сярэднявечныя італьянцы стаялі на той жа прыступцы развіцця, як і рамейцы гамераўскай эпохі. Яны верылі ў прывіды, у душы злых людзей, асуджаныя за свае грахі пасьля сьмерці блучакаць па зямлі. Акрамя таго, рымскія пісьменнікі згадваюць таксама пра ведзьмаў, адпавядаючых грэцкім эмпузам або ламіям, лётаючым ў выглядзе птушак.

Пра пераемніка міфічнага Ромула, міфічнага Нуму Пампілія, паведамляюць, што ён займаўся тэургічным мастацствам, г. азн. разнымі дзеямі, пры дапамозе якіх ён мог нават прымусіць багоў з'яўляцца ў бачным выглядзе. Яго пераемнік міфічны Тул Гасьціілі быў нават уражаны маланкай за тое, што пры адным такім выпадку падмануў багоў. Верылі таксама, што пры дапамозе магіі можна пераманіць збожжа з чужога поля на сваё, і што самыя старажытныя рымскія законы, законы дванаццаці табліц. Але ж мы ўжо ведаем, што гэтыя старажытнарымскія імператары спісаны з рамейскіх нашчадкаў Діяклетыяна, а таму гаворка ідзе пра Цар-Горад.

Сапраўды італьянскім вынаходніцтвам магчыма лічыць толькі вучэнне аўгураў, якае грунтавалася на назіранні над палётам птушак. Само слова аўгур азначае птушыны чалавек. У крумкачоў, соваў, пеўняў – знаменнямі для іх служылі крыкі, у іншых, напрыклад, у арла і коршака – палёт справа налева або злева направа.

А пазней, калі вера ў старажытныя спосабы прадказання была скампраментавана няўдачамі, быў прыдуманы новы спосаб. Аўгуры трымалі ў клетках маладых курэй, і калі ў каго-небудзь была патрэбна ў падказанні, то іх выпускалі. Калі яны з прагнасьцю кідаліся на ежу – гэта быў выдатны знак, калі ж

яны не звярталі на яе ўвагу, то гэта тлумачылася як прадказанне бяды. Такі спосаб быў, вядома, вельмі зручным, так як лёгка можна было зараней забяспечыць сабе жаданы знак, прымусіўшы курэй пагаладаць або папярэдне накарміць іх.

Падабенства паміж сярэдне-італьянскімі (этрускімі) і халдэйскімі творамі мастацтваў, – кажа д-р Леман (стар. 67), – настолькі вялікае, што не пакідае сумневаў адносна адзінства свайго паходжання, ды і паміж прыёмамі этрускага і халдэйскага і рымскага прадказальніцства назіраецца такое поўнае падабенства, што яго вельмі цяжка было б патлумачыць выпадковым супадзеннем. Амаль усе тыя віды халдэйскай мантыкі існавалі, згодна са сведчаннем розных аўтараў, і ў этрускаў. Сюды далучаецца тлумачэнне цудоўных падзей, грунтуючыся на: назіраннях над маланкай, над вантробамі ахвярных жывёл, над палётам і крыкам птушак, над нованароджанымі вырадкамі і г. д. А жыхары Рыма запрашалі да сябе этрускіх <....>, г. азн. даследчыкаў вантробаў ахвярных жывёл і выпраўлялі шляхетных юнакоў у Этрурыю для вывучэння разнастайных відаў мантыкі. Але із гэтых відаў у Рыме распаўсюдзіліся, галоўным чынам назіранне за вантробамі жывёл і маланкамі.

А знакамітыя Сівіліны кнігі, з нашага боку гледжання,даводзіцца аднесьці (разам з Тарквініем) да часу Апакаліпсіса і замест Рыма ў Цар-Горад.

“Цару Тарквінію Ганарыстаму (а не Старажытнаму?) было прапанавана спачатку купіць дзевяць такіх кніг, але ён знайшоў кошт за іх занадта высокім; тады прадавец спаліў спачатку тры кнігі, потым яшчэ тры, нарэшце, цар купіў застаўшыяся тры за той жа кошт, якім былі ацэнены ўсе дзевяць кніг. Яны былі напісаны грэцкімі гекзаметрамі на пальмавых лістах. Іх размясьцілі для захавання ў храме Юпітэра Капіталійскага і для іхнага тлумачэння была заснавана калегія із пятнаццаці чалавек, якія павінны былі захаўваць у вялікай таямніцы іхны змест. Нейкі апакрыфіст ад імя Цыцэрона выказваецца з гэтай нагоды:

“Аўтар напісаў іх з такім майстэрствам, што ўсё, адбыўшаяся можна лічыць прадказаным ім, так як у гэтых выслоўях няма ніякага ўказання на пэўных людзей або пэўны час. Акрамя таго, ён знарок выказваецца так цьмяна, што адны і тыя ж выказванні ў разныя перыяду часу магуць быць дапасаваны да цалкам розных падзей. Пабудова вершаў паказвае, аднак, што яны напісаны не страціўшым розум; у іх хутчэй праглядаецца вынік майстэрства і працавітасьці, чым вынік ўнутранага ўзбуджэння і хвалявання”. Гэты твор, – кажуць нам, – загінуў падчас пажару каля 400 года пасьля Н. Х.”

Гэты год з’яўляецца як раз датай пазбаўлення пасады Яна Залатавустага і наўдачы яго Апакаліпсіса, прызначаўшага на гэты тэрмін вяртанне “Хрыста”. Але перанёсшы падмосткі падзей міфа пра старажытны Вялікі Рым на ўзбярэжжа Басфора і паменшыўшы час яго ўзнікнення на 1000 гадоў[174], – мы гэтым самым набліжаем псеўда-рымскую магію да рамейскай.

І вось нам даводзіцца вырашыць пытанне: ці халдэйская магія прышла із Азіі ў Яўропу ці наадварот, прыйшла ў Азію із Яўропы праз Цар-Горад?

Перш за ўсё, што азначае слова халдэй? Ніякай краіны, меўшай назву Халдэя, не існуе і не існавала. Слова халдэй паходзіць ад кораня **КЛД**, адкуль і наш калдун. Па-жыдоўску халдэй вымаўляецца хазды, а халдэйскай мовай у XVI стагоддзі называўся пасьля-хрысьціянскі месапатамскі дыялект. Нашы сучасныя веды пра рэлігійныя уяўленні месапатамскіх сьвятароў запазычаны галоўным

[174] Уцараванне Нумы Пампілія -716 г., а уцараванне Дыяклетыяна (і эра Дыяклетыяна) з +284 года. Зрух роўна на 1000 гадоў.

чынам са шматлікіх плітак, зваленых ў кучу каля Масуда, куды адносяць міфічную Нінэвію і толькі на прыканцы XIX стагоддзя прачытаных еўрапейскімі даследчыкамі. Матэрыялам, на якім зроблены гэтыя запісы, служыла гліна; пісьмовыя значкі выдаўліваліся на ёй, калі гліна была сырой; затым пласьцінкі плітак абпальваліся, або высушваліся. У дачыненні да магіі там знойдзены вялікі твор, першапачаткова занімаўшы не менш чым 200 плітак. Яго асобнік захоўваеца ў лонданскім музеі і калі верыць напісанаму, быў адноўлены з больш старажытнага арыгінала згодна з загадам цара Асурбаніпала ў VII стагоддзі да пачатку н. э. Тэкст напісаны на двух мовах: на асірыйскай, якая, кажуць, была размоўнай падчас Асурбаніпала, і на акадзкай, мове старажытных халдэяў, хаця яна на час Асурбаніпала была ужо мёртвай мовай і незразумела, навошта яе "аднавіў" Асурбаніпал, у якога ледзь ці была класічная магія.

Тэалогія тут таксама занадта высокая і ў ёй, як і ў хрысьціян, маецца тройца: разумная, усемагутная і валадарачая на небе, у вадзе і на зямлі. Бог неба – бог-айцец – меў назву Ану (Он), валадар зямлі бог-сын меў назву Бел, г. азн. Гасподзь, а Сьвяты Дух меў назву Эа – сярэдняе ад Іевіс-Іегава. Яны ў "халдэйскай" тэалогіі маюць назву Вялікая Тройца. Кожны з іх мае сваю сям'ю, сваіх служак, якія былі мясцовымі багамі аднаго із буйных гарадоў або мясцовасьцей. Але з цягам часу адбылася блытаніна. Бог важнейшага горада "Брама Госпада" (Вавілон), Мардук (г. азн. Забіты, аналогічны Хрысту) стаў называцца "сынам Эа" а з Госпадам (Бэлам) ён атаясамляцца да такой ступені, што Бэл Брамы-Гаспада, якому быў пабудаваны храм, быў на справе Мардукам, якога шанавалі зараз як найвышэйшага ўладара, як Бэла (Госпада). Бога Неба (г. азн. Прарока), аналагічнага Яну Залатвусту, лічылі сынам Мардука і ён разам з Забітым Госпадам, Мардук-Белам, і з народным богам Асурам (г. азн. Правадыром) былі галоўнымі багамі таго перыяду, які такім чынам не мог быць раней канца сярэдніх стагоддзяў.

Сьвяты дух Эа быў богам прадказанняў, і чарадзейства, і вады, якая выпарваючыся, ператвараецца ў духа (г. азн. у газ), дзякуючы чаму і была галоўным элементам пры лекавальным чарадзействе і пры замаўленнях. Асабліва шанавалася цудадзейная вада із Эрыду (г. азн. із Эрыда на Ярдане), горада Эа (Сьвятога Духа), быўшага пры вусьці вялікай ракі. Гэта трэццяя асоба святой тройцы станавіцца богам мудрасьці, які ведае ўсе майстэрствы і ремёствы і навучае ім; ён таксама той чароўны майстар, які выляпіў із гліны чалавека і даў яму жыццё; ды і ўвесь сьвет, усё, што ў ім існуе з'яўляецца яго тварэннем, а так як сьвет уяўляўся ўзнікшым із вады (міфічнага акіяна), то Эа вельмі часта атаясамляцца з <...>, і да нейкай ступені можна сказаць, што ўсе існаванне пачалося ад самога Эа.

Мы бачым, што гэта прама ўзята із тэалогіі хрысьціян і нават не вельмі старажытнага перыяду. Ды і вучэнне пра злых духаў амаль цалкам сярэднявечнае хрысьціянскае. Яго крыніцай была спроба тлумачэння буранаў, навадненняў, навальніц, зацьменняў сонца і месяца і чалавечых бедстваў. Так, напрыклад, у замаўленні пра няшчасьці бога месяца (Сіна) і яго збавенні (ад зацьмення).

"Нячыстая магутнасць, віхуром круцячая злыя духі, бязлітасныя дэманы, народжаныя каля нябеснага краю (г. азн. на даляглядзе), злыдні і каты, са злом кожны дзень выступаўшыя, – наперад ўсе нясуцца яны, каб бедствы ўсюды тварыць. Із іх першы з'яўляецца буранам, другі ж драконам, і яго атрутваючай пасткі ніхто не пазбегне, трэцці пантэра і ўсе сямёра – анёлы Ану (Она) цара. Адзін за другім у цемру зводзяць яны горад. Ураганы, якія злосна бушуюць у небе, віхуры, якія цемру наганяюць на неба, ператвараючы ясныя дні ў змрочныя; яны нясуць дажджавыя патокі Рамана (бога грома) разам са злымі ўраганамі і вятрамі, а на ускрайках неба бліскаюць яны зіхатлівай

маланкай. Нясуцца яны па шырокаму небу, каб забіваць; яны варожа ставяцца да жылля Ану і не маюць сабе роўных”.

А якімі ж наогул з’яўляюцца гэтыя духі? На адной пласціне паведамляецца:

“Яны па-сутнасьці стварэнні пекла; таму, што высока, падзеннем пагражаюць, унізе ж вялікія смуты здзяйсняюць; яны атрута ў жоўці багоў, яны выкрадаюць сябе ў неба, вялікія розумы, яны падаюць з неба, як дождж; яны стварэнні, зямлёй вырашчаныя; навокал вежаў высокіх, пабудоваў прасторных таўпяца, кружацца яны; яны пранікаюць із адной сядзібы ў другую і затрымаць іх дзьвярамі немагчыма, нельга зачыніць і замкамі; яны прапаўзаюць скрозь дзверы, як змеі; прашкаджаюць жонцы ад чалавека зацяжарыць; із рук чалавека крадуць дзяцей, із бацькоўскіх сядзіб выганяюць ўладальнікаў. Яны – той голас злавесны, які, людзей праклінаючы, перасьледуе ўсюды”.

Яны катуюць не толькі людзей, але і жывёл, якія не магуць знайсьці сабе спакою ад іх:

“Яны нападаюць на краіны, на адну за другой; яны перашкаджаюць рабыні стаць маці; яны выганяюць ўладальнікаў із бацькоўскіх сядзібаў. Нават галубак яны прымушаюць пакінуць іхныя гнёзды, усіх птушак прымушаюць на крылах сваіх падымацца, а ластавак нават із гнёздаў выганяюць бадзяцца ў прасторы; яны перасследуюць быка, ганяюць ягнёнка; яны па-сутнасьці вялікія розумы, злыя, ганіцелі-дэманы”.

Яны насылаюць разнастайныя хваробы, якія разумеюцца то як праява злосьці варожых дэманаў, то як духі, авалодваючыя чалавекам. Гэта галоўным чынам мае дачыненне да двух жудасных хваробаў Халдэі: да чумы і ліхаманкі; тут дэманы заўсёды выступаюць у выглядзе двух істот, адрозніваючыхся ад усіх астатніх дэманаў і вядомых пад найменнямі Намтар і Ідра. Астатнія дэманы згуртаванны ў розныя гурты і кожны із такіх гуртоў уздзейнічае толькі на сваю асобную частку цела; гэта відаць між іншым із наступнага:

“На галаву чалавека накіроўвае сваю магутнасць пракляты Ідпа (дух ліхаманкі), на жыццё чалавека накіроўвае сваю лютасць Намтар (дух чумы), на горла пагарджаемы Ўтук, на грудзі чалавека згубны Алал, у вантробы пранікае злы Гігім, на рукі жудасны Тэлал”.

Маюцца на гэтых плітках і гномы і кобальды, жывучыя паблізу чалавечага жылля, між тым як іншыя дэманы, падобна хрысьціянскім, звычайна жывуць у бязлюдных месцах, у пустынях, або на верхавінах гор. Прыпісваюцца з'яўленню духаў і сонныя бачанні і дэталізуюцца дэманы мужчынскай і жаночай стаці, маючыя назву “начныя насільнікі”, “абдымкаў якіх не мажа пазбегнуць ў сне ні мужчына, ні жанчына” (тлумачэнне эратычных сноў).

Духі ажыўляюць усё на сьвеце, кіруюць шляхамі планет; выклікаюць рэгулярную змену пор года, дождж і навальніцу. Яны надаюць зямлі ўрадлівасць, рост расьлінм, але яны ж прыносяць смерць і хваробы. Яны знаходзяцца ўсюды: на нябёсах, на зямлі, у паветры і ў вадзе. Кожная рэч мае свайго ўласнага духа. Некаторыя з іх добрыя істота, некаторыя – злыя; паміж імі адбываецца неперарыўная і паўсюдная барацьба, прычым перамогі змяняюцца паразамі, і гэта тлумачыць тое, чаму за спакойным станам прыроды ідуць неспакойныя перыяды.

Пры такіх уяўленнях пра сусьвет, магія выявілася, вядома, неабходнасьцю. Як толькі чалавек уяўляе сябе аточаным злымі духамі, перасследуючымі яго і магутнаць якіх далёка пераўзыходзіць яго ўласную, то ён заклінае іх імем добрых духаў. Але не кожны жадаючы здольны здзяйсняць магічныя аперацыі, а толькі чалавек, які прысвяціў усё сваё жыццё вывучэнню духаў і такім чынам блізка знаёмы з тым, што патрэбна рабіць у кожным асобным выпадку. Такім чынам, мастацтва замаўлення пераходзіць да сьвятарства, якое хутка размяркавалася па

спецыяльнасьцях. Утварыліся сьвятары заклінацелі, сьвятары лекары і сьвятары чарадзеі, а із іх астролагі і прадказальнікі будучых падзей.

Як узор замаўленняў прывяду із д-ра Лемана (стар. 27), толькі адносна падрабязнасцей знаходжання якога ён, на жаль, не паведамляе падрабязнасьцей.

“Сем іх, сем! Сем іх у найглыбейшых пучынах мора. Сем спакуснікаў нябёсаў, паўстаюць яны із найглыбейшых нетраў акіяна, із патаемных таямніц. Не мужчыны яны і не жанчыны. Яны – распаўсюджваюцца як сетка. Няма ў іх жанчын, не нараджаюцца дзеці; гонар і шчасьце ім не вядомы. Маленняў і прашэнняў яны не слухаюць. Поскудзь, народжаная ў гарах, ворагі бога Эа (г. азн. Яговы, сьвятога духа) яны па-сутнасці прылады гневу багоў. Каб сапсаваць дарогу, падаюць яны на зямлю. Ворагі! Ворагі! Сем іх, сем іх, двойчы сем іх! Ды пркляне іх бог неба! Ды пракляне бог зямлі!”

А вось адтуль жа і замаўленне хваробы, дадзенае адной жанчыне-знахарцы на асобны выпадак.

“Вазьмі шкуру ад самкі вярблюда, не ведаўшай ні аднаго разу самца. Чарадзейка хай стане справа ад хворага, прылады свае хай пакладзе налева, а шкуру раздзеліць на дваццаць сем кавалкаў і перадась ім тое чараўніцтва, якое паходзіць прама ад Эрыду (Эрыдыяна-Ярдана). Абгарні галаву хворага адзеннем, захутай і шыю хворага, абкруці сядалішча яго жыцця, абкруці і рукі і ногі яго. Хворага загадай посадзіць на ложак і прысні чароўнай вадой. Каб знікла ў нябеснай прасторы хвароба галавы, падобна бушуючай буры, каб знікла яна з зямлі, падобна таму, як знікае вада, падняўшыся на некаторы час над берагамі! Каб замаўленне Эа яго ацаліла! Каб Даўкіна яго ацаліла! Каб Мардук, гэты першынец мора, яму вярнуў бы магутнасць здароўя!”

А чаму былі патрэбнымі менавіта тыя сродкі? Гэта было і для ўжываўшага іх такой жа таямніцай, як і для нас. Больш зразумела ўжыванне маленькіх пудзілаў, для таго, каб, пабачыўшы іх, дух хваробы з жахам кінуўся ўцякаць. Такія пудзілы (мал.....) прыкладалі да хворага месца, думаючы, што гэтым можна прагнаць хваробу. На Цэйлоне яшчэ і да гэтага часу ўжываецца такі гаючы сродак.

Вось і месапатамскае апавяданне пра лячэнне чумы, якая ўвасабляецца ў злым духу Намтары.

“На дапамогу пасьпяшаўся Мардук; ён уступіў у мясціну Эа (святога духа) бацькі свайго і звярнуўся да яго са славамі:

“Бацька мой, злосны Намтар апустошвае краіну падобна полымю”.

Другі раз звярнуўся да яго са славамі:

“Што гэты чалавек павінен зрабіць, невядома; чым ацаліць яго можна?”

Эа запярэчыў свайму сыну Мардуку:

“Сын мой, што табе невядома? Чаму я павінен цябе вучыць? Усё, што ведаю я, ведаеш і ты? Ідзі ж, сын мой, Мардук, перемяшай глей акіяна і выляпі із яго выяву падобную на Намтару. Загадай пакласьці чалавека, здзейсні над ім ачышчэньне і пакладзі яму на распухшы жывот (выяву падобную Намтару); чараўніцтва яму паведамі, што прама ад Эрыду паходзіць. Позірк яго звярні на захад. Каб злосны Намтар, які ў целе яго знаходзіцца, той жа час выйшаў бы адтуль!” Амін. Тая выява, якая паднімае яго галаву, вялікай магутнасьцю напоўнена”.

“Пры раскопах каля Масуда, – кажа д-р Леман, – знаходзілі шмат гліняных статуэтак вельмі дзіўнага выгляду, галава, шыя, цела і члены якіх належалі розным жывёлам. Ледзь ці падлягае сумневу, што гэтыя гліняныя статуэткі адлюстроўвалі дэманаў розных хвароб і што яны ўжываліся пры вядомых нам замаўленнях”.

Але ж у гэтым мы можам і ўсумніцца. Бо нарабіць іх спецыяльна для прыехаўшых шукальнікаў-гяўраў было нашмат лягчэй, чым прыгатаваць пліткі з клінапісамі.

Як і ў нашы дні, акрамя лячэння ўжо пачаўшайся хваробы, існавалі і папярэджваючыя сродкі – талісманы і амулеты. Талісманы ў выглядзе выяваў багоў (мал......) ставілі і перад сядзібай і ў памяшканні; амулетамі для нашэння на шыі былі невялікія гліняныя або каменныя пліткі, шматкі тканіны і таму падобныя рэчы, на якіх было напісана моцнае замаўленне.

Пра талісманы д-р Леман прыводзіць такі надпіс:

"Размясьці ў агароджы сядзібы выяву бога Ўнгал-Нірра, які роўнага сабе не мае, размясьці выяву Боа, які зззяе бляскам сьмеласьці, які роўнага сабе не мае... і выяву бога Нарудзі, валадара магутных багоў, размясьці яго на падлозе пад ложкам, каб стрымліваць ўсякае блізкае зло, размясьці бога (імя сцёрта) і бога Латарака каля дзвярэй, каб адвярнуць ўсякае зло, размясьці... (імя сьцёрта) у выглядзе пудзіла, да дзвярэй. Размясьці выявы Мардука каля парога; размясьці іх направа і налева".

А ў якасьці прыклада амулетаў той жа аўтар дае адзін, які, верагодна, насіла жанчына падчас цяжарнасьці, і на ім напісана:

"О, Бітнур, прагані хваробы далёка-далёка; умацуй зародак; давядзі галаву чалавека да поўнага развіцця".

А ў іншым паведамляецца:

"Злобны дэман, злая чума, дух зямлі прагнаў цябе із цела. Ды злучацца ўсе разам анёл-ахоўнік, абаронца-калос і дэман-ахоўнік з духам зямлі. Замаўленне вялікага, вялікага, вялікага бога. Амэн".

А вось малюнак аднаго (стар.....).

Але ж падобная літаратура, чытач, існуе ў Месапатаміі і іншых малакультурных краінах і зараз! Дык якая з патрэба адносіць усё гэта за 5000 гадоў да нашага часу?

Скажу больш. У сучасных арабскіх кабалістаў існуе вераванне пра вялікае, усемагутнае імя бога, якае ведае толькі ён адзін. А вось апавяданне пра яго ў д-ра Лемана:

"Была адна ўлада, перад якой (у Месапатаміі) схіляліся ўсе на сьвеце, як добрыя, так і злыя духі: гэта было таемнае боскае імя, найвышэйшае імя, ўсемагутнае боскае імя, якае ведаў толькі Эа (вс. дух). Нават багі падпарадкоўваліся яму. Гэтая імя ніколі не прамаўлялася ў замаўленнях, таму што кожны, хто б даведаўся пра яго, атрымаў бы уладу роўную ўладзе багоў". Калі нават сам Эа дае загад Мардуку здзейсніць замаўленне ад яго найвышэйшага імя, але папярэджае не вымаўляць яго гучна. Так у апавяданні пра тое, як Сфінкс Асузу-Намір быў выпраўлены да багіні пекла Алаты, каб запатрабаваць ад яе вяртання ранішняй зоркі Істар, гаворыцца:

"Эа схаваў загад ў патаемнай таямніцы свайго сэрцы; ён стварыў Асузу-Наміра, сфінкса з чатырма галавамі. "Ступай туды, Асузу-Намір; каля брамы той краіны, адкуль ніхто не прыходзіць назад, пакажаш сваё аблічча. Ды пабачыць цябе Алата (жонка Аллаха) і ды адчуе радасць пры выглядзе тваім! Супакоіцца глыбіня яе сэрцы, яе гнеў знікне. Закляні яе імем усемагутнага бога".

Само сабой зразумела, што ўяўленне пра магчымасць лекавання хваробы замаўленнямі злых духаў адразу ж выклікала ўяўленне пра магчымасьці прызываць іх і для наслання хваробы на нялюбага чалавека. Такія заклікі, вядома, не друкаваліся, але пра іхнае існаванне паўсюдна меліся ўказанні і яны носяць найменне чарадзейства або чорнай магіі. У перыяд валадарання містыкі ўсе былі перакананы, што ледзь ці існуе такае зло, якое не было б магчымасьці выклікаць пры дапамозе чарадзейства. Як далёка прасьціралася ўлада злых дэманаў, так жа далёка прасьціралая і ўлада служыўшага ім чарадзея, так як чарадзей усё робіць ад іхнага імя.

Таму ўзніклі замаўленні і супраць чарадзеяў:

“Таго, хто зачароўвае чыю-небудзь выразбленую выяву, злое аблічча, злы погляд, злы рот, злы язык, злыя вусны, шкодную атруту, о, дух неба, закляні іх! Дух зямлі, закляні іх!”

А вось яшчэ і іншае:

“Той, хто зрабіў выяву цалкам падобную на мой выгляд, той зачараваў усю маю выяву, ён забраў прыгатаваны для мяне чароўны напой і апаганіў маё адзенне”.

Але толькі, чытач, як жа аднесьці ўсё гэта ў глыбокую старажытнасць? Бо мы ведаем, што першая забарона рабіць чалавечыя выявыя з'явілася толькі ў Каране, г. азн. згодна з нашай храналогіяй напярэдадні крыжовых паходаў, а згодна са звычайнай храналогіяй не раней VII стагоддзя н. э.! Бо нават і ў саміх месапатамскіх помніках старажытнасьці мы бачым не толькі выявы разнастайных “ассіра-вавілонскіх” цароў, але нават і самога Дарыя, які згодна з агульнапрынятым злічэннем жыў нашмат пазней гэтага часу! Нідзе, акрамя Карана, мы не маем такой забароны, а адсюль відавочная выснова: гэтыя гліняныя пліткі належаць да эпохі распаўсюджвання Карана ў Месапатаміі, у якім, між іншым, не адкідваюцца і багіні, што дало нагоду найноўшым прававерным сцвярджаць, што Магамет напісаў гэтае месца ў прыпадку страты розуму. Але вернемся да прадмета.

Пасьля гэтага немагчыма сумнявацца, – кажа д-р Леман (стр. 42), – што “халдэйскія” чараўнікі ўжывалі тыя ж прыёмы, як і зараз знахары-лекары дзікуноў; яны гатавалі выяву таго, на жыццё якога рабілі замах, і тым або іншым чынам псавалі гэтую выяву; пасьля гэтага, як лічылі, няшчасьце павінна было напаткаць адлюстроўваемую асобу. Тут жа маецца цалкам пэўнае ўказанне і на выкарыстанне чароўнага напоя: (“шкодны яд”). Але чараўнік мог псаваць людзей і адным толькі позіркам. Але вера ў “нядобры погляд” ці ў “нядобрыя вочы” яшчэ і зараз вельмі распаўсюджана не толькі па ўсёй Азіі, але і ў паўднёвай і ўсходняй Яўропе. Нават і анафема хрысьціян знайшла свой водгалас ў клінапісе.

“Агідны праклён дзейнічае на людзей падобна злому дэману, прысуд праклёну вісіць над чалавекам; прысуд пагібелі вісіць над ім; гнюсны праклён з’яўляецца чараўніцтвам, якае мае наступствам вар'яцтва. Агідны праклён, ён душыць чалавека як ягня; яго бог пакінуў яго цела; яго багіня рассердзілася і перайшла ў іншае месца”.

Яшчэ больш моцны доказ пра аднастайнасць, а як следства і адначасовасць месапатамскай культуры з сярэднявечнай, паўднёва-еўрапейскай, мы маем на прыкладзе астралогіі на берагах Тыгра і Еўфрата.

Нас запэўніваюць, што “яшчэ ў часы цара Саргона II, г. азн. прыблізна за 700 гадоў да н. э., былі перапісаны із копій, якія адносяцца да XII стагоддзя да Н. Х., астралагічныя кнігі яшчэ больш глыбокай (!) старажытнасьці, частка якіх цудам дайшла да нас. Найбольш выбітным із гэтых кніг, з’яўляецца вялікі твор па астралогіі на 70-80 таблічках і вялікі аўгуральны твор прыблізна на 100 таблічках; акрамя іх яшчэ на 25 таблічках маецца змест невялікага астралагічнага твору, падзеленага на 25 главаў, але ад яго тэксту здаецца, ўжо нічога не захавалася.

“Аноўнай рэлігійнай думкай, праглядаемай у астралагічных творах, з’яўляецца вера ў тое, што нябесныя целы з'яўляюцца сапраўднай нагодай усяго, што адбываецца на зямлі. А так як яны ўжо заўважылі, што дадзенае становішча нябесных цел перыядычна паўтараецца, то із гэтага рабілася выснова, што ўсе з'явы ў прыродзе і чалавечым жыцці таксама нязменна павінны паўтарацца пасьля заканчэння такога перыяду.

Гэта азначае, для прадказання падзей наперад або высвятлення гісторыі чалавецтва назад, дастаткова параўнання астранамічных і гістарычных запісаў, абдымаючых толькі адзін перыяд часу. Такая праца, – пераконваюць нас, – была выканана

яшчэ пры Саргоне I і з таго часу пры разнастайных выпадках звярталіся за парадай да ўзнікшых такім чынам астралагічных таблічак”.

Але месапатамскія мудрацы, падобна сучасным нам за-гімалайскім махатмам Алены Пятроўны Блавацкай, мелі ў сваім распараджэнні яшчэ і зямны сродак для прадказання ходу падзей. Калі ўсё, што адбываецца на зямлі, мае сваю нагоду ў рухах нябесных цел, і як следства, паўтараецца перыядычна, то пазначаючы ўсе значныя падзеі ў межах даволі працяглага перыяду часу, можна з дапамогай гэтых запісаў прадказваць будучыню, і не звяртаючы ўвагі на нябесныя сьвяцілы. Калі зноў паўтараецца згуртаванне адначасова здарыўшыхся некалі падзей, то за імі павінны наступіць тыя ж падзеі, якія адбываліся пасьля іх і раней; бо нічога не адбываецца выпадкова, а ўсё залежыць ад нябесных целаў і ўсё перыядычна, усё паўтараецца зноў, таму што паўтараецца сам рух нябесных целаў. Із гэтых назіранняў узнікла мантыка, вучэнне пра прадказанне будучых з’яваў з дапамогай зямных падзей, а таксама і аднаўленне старажытнай гісторыі.

Астранамічныя назіранні, на якіх халдэі заснавалі сваю астралогію, прасьціюцца, – пераконваюць нас, – далёка ў глыбіню стагоддзяў. Гіпарх, напрыклад, сцвярджае, што халдэі назіралі зорнае неба за 270000 гадоў да таго, як Аляксандр Вялікі ўступіў у Персію. Пліній жа (пераставіўшы 7 і 2 месцамі) ужо кажа пра 720000 гадоў. Яны ведалі ўжо за 720000 гадоў да нас, што сонечны год мае працяглацсь =365,25 суткам, іхны год ужо тады падзяляўся на 12 месяцаў, а кожны месяц – на 30 дзён; але так як сонечны год выяўляўся даўжэйшым на 5 дзён, то за перыяд кожных 12 гадоў разніца дасягала двух месяцаў. Пры гэтым не браліся ў разлік тыя тры чвэрці дня, на якія сонечны год быў большым за 365 дзён і гэтыя штогадовыя рэшткі за 124 годы станавіліся роўнымі ў суме 30 дням, г. азн. цэламу месяцу, які тады і дадаваўся.

Яны, – пераконваюць нас, – ужо ведалі пра сарастычныя перыяды, – перыяды роўныя 18-ці сонечным гадам або 223-ом месяцовым абарачэнням, за якімі паўтараліся (быццам бы!) сонечныя і месяцовыя зацьменні. Дзякуючы гэтаму яны мелі магчымасць вылічваць наступланне зацьменняў; але іхныя прадказанні не заўсёды былі абсалютна дакладнымі, таму што сонца аднойчы не паслухалася іхных вылічэнняў і прадказанага зацьмення не было. Пра гэта, – кажа д-р Леман, із кнігі якога я запазычыў гэтыя звесткі, – маецца ў вышэйшай ступені цікавы дакумент, пасланы цару Асурбаніпалу яго обер-астролагам Абіль-Істарам; пачатак гэтага паслання такі:

“Царю майму ўладару ад твайго служкі Абіл-Істара. Ды будзе мір майму цару, майму ўладару. Ды даруюць вялікія багі доўгія гады, здароўе целу і радасць сэрцу цару майму ўладару. На 27-ы дзень знік месяц. На 28, 29 і 30 дзень мы чакалі сонечнае зацьменне. Але сонца не ўступіла ў зацьменне. У першы дзень месяц назіраўся ў дзенны час”.

“Сэнс гэтага паслання, – працягвае аўтар, – дастаткова зразумелы. Астраномы чакалі сонечнага зацьмення, але яно не адбылося. Калі б гэта здаралася дастаткова часта, то ледзь ці яны лічылі б патрэбным паведамляць пра гэта цару. Із гэтага мы робім выснову, што іхныя астранамічныя веды былі дастаткова дакладнымі і яны маглі вылічваць зацьменні амаль з дасканалай дакладнасьцю”[175].

А вось я, у якасьці астранома, магу паведаміць, што з дапамогай сароскага цыклу вы із 2000 прадказанняў памыліцеся 1995 разоў, а патрапіце толькі 5 разоў. І калі цытаваны ў дакуменце астролаг са здзіўленнем піша, што яго прадказанне не

[175] Д-р Леман: “Гісторыя забабонаў і чараўніцтва”, стар. 45 рускага перакладу.

спраўдзілася, то гэта азначае, што і яго ліст адносіцца не раней як да XVI стагоддзя нашай эры (гл. Хрыстос, кн. IV. стар. 415).

А як жа гэты дэтэрмінізм гістарычных падзей, які, дадам, быў уласцівы і еўрапейскаму сярэднявеччу пасьля з'яўлення Апакаліпсіса – вамай старажытнай астралагічнай кнігі – у 395 годзе, злучаўся з уплывам дэманаў і багоў? Растлумачыць гэта можна толькі аднабаковасьцю старажытнага разумення: калі яны думалі пра дэманаў, яны забываліся пра астралогію, і наадварот. Вось зноў адна із астралагічных выпісак д-ра Лемана (стар. 47).

“Калі вяртаецца зорка лёсу – у краіне чума. Калі вяртаецца зорака Ірбі – краіна квітнее. Калі вяртаецца зорка ззяючага цела – у краіне магутнасць і жыццё. Калі вяртаецца зорка жахлівага дня – краіне пагражаюць бедствы. Калі вяртаецца зорка Дыльме – шчасьце чакае краіну. Калі вяртаецца зорка каменя Абзіі – перасьцярога краіне. Калі вяртаецца зорка Алабастэра – росквіт у краіне.

На табліцы, – кажа д-р Леман, не ўдакладняючы ў рускім перакладзе, дзе яна знаходзіцца зараз, – гэты пералік ідзе далей; на ёй пазначана каля 30 зорак з тлумачэннем абставінаў, якія будуць іх суправаджаць на зямлі пры сваім з'яўленні, але прывядзенага ўрыўку, аднак, дастаткова, каб даць разуменее пра такія прадказанні.

Больш дакладна прыводзяцца звесткі пра з'явы, якімі суправаджаюцца зацьменні. Вось урывак із месяца Тамуз, із вялікай табліцы: тут сонца стаіць у знаку Рака, г. азн. у чацьвёртым згодна з халдэйскім зьлічэннем часу:

“У першы дзень (Тамуза), калі адбудзецца зацьменне, і калі яно пачнецца на поўдні і будзе сьветла, памрэ вялікі цар.

У месяцы Тамуз, на другі дзень, калі наступіць зацьменне і пачнецца з поўначы і будзе сьветла – цар будзе ваяваць з царом.

Тамуза на трэцці дзень, калі наступіць зацьменне і пачнецца з усходу і будзе сьветла – паллюцца дажджы і будзе навадненне.

Тамуза, чацьвёрты дзень, калі наступіць зацьменне і пачнецца з захаду і будзе сьветла – у Фінікіі ўрадзіцца збожжа.

Тамуза, пяты дзень, калі наступіць зацьменне і ўзыйдзе вялікая зорка – будзе голад у краіне”... і г. д.

Але гэта ж, чытач, як дзьве кроплі вады падобна на астралагічныя зборнікі XVII стагоддзя ў Яўропе. І сам д-р Леман дадае: “Пад час сярэдніх стагоддзяў гэтае майстэрства ў Яўропе дасягнула высокага развіцця”.

Пяройдзем зараз да мантыкі, г. азн. вучэння пар сапраўднае значэнне зямных з'яваў. Як ужо пазначана вышэй, яна мела свае карані ў астралогіі і з гэтай нагоды была з ёю ў цеснай сувязі. “Але із вялікага твора Саргона, – кажа д-р Леман, – да гэтага часу перакладзена так мала, што можна атрымаць толькі вельмі павярхоўнае ўяўленне пра тое, згодна з якімі правіламі выкладаліся зямныя з'явы. Увесь твор падзелены на 14 главаў, якія паведамляюць як і рымскія аўгуральныя кнігі, пра назіранні за палётам птушак і вантробамі ахвярных жывёл, апісваюць разнастайныя з'явы прыроды і даюць тлумачэнне сноў. Аднак гэтым мантыка далёка не вычэрпваецца; із іншых крыніц мы ведаем, што “халдэі” таксама займаліся і геамантыяй, г. азн. прадказаннямі з дапамогай геаметрычных фігур; акрамя таго, яны часта кідалі жэрабя, каб у вядомых выпадках даведацца пра волю багоў.

Із 14 главаў вялікага мантыйнага твору, апакрыфіруемага Саргону, гэтыя тры паведамляюць пра гэта, але із гэтых трох главаў амаль нічога не вывучана. Некалькі лепшае становішча ўяўляе сабой справа ў дачыненні да тлумачэння назіранняў за вантробамі ахвярных жывёлаў. Некаторыя аддзелы, паведамляючыя

пра гэта, маюцца ў перакладзе. Яны змяшчаюць ў сабе цэлы шэраг фантастычных тлумачэнняў цалкам у такой жа форме, як і астралагічныя.

“Калі ў страўніку асла маюцца з правага боку выемкі, то хутка будуць навадненні. Калі вантробы асла павёрнуты на правы бок і чорныя, то бог дарує багацце на ўсё ў краіне цара. Калі вантробы асла павернуты на левы бок, і чорныя, то Бог не дась багацця краіне цара. Калі вантробы асла павёрнуты на правы бок і сіняватыя, то будзе смутак і гора ў краіне цара. Калі вантробы асла павёрнуты на левы бок і сіняватыя, то не будзе ні смутку, ні гора ў краіне цара”.

Із гэтага відаць, што тое, што на адным баку цела прызнавалася за спрыяльную прыкмету, на другім – сведчыла пра няшчасьце; шчасьце і няшчасьце аднолькава размяркоўвалася направа і налева.

Падобна гэтаму прыкметамі служылі вецер і надвор’е, дождж, воблакі, маланка і іншыя з'явы прыроды, напрыклад, гойданне дрэваў. Із дзікіх жывёл асаблівае значэнне для халдэяў мела змяя, як і для большасьці сучасных дзікуноў. Змяя была сімвалам і звышнатуральных ведаў; яна была атрыбутам чароўнай мудрасьці. Магчыма, што змей нават трымалі ў некаторых храмах і выкарыстоўвалі іх у якасьці аракула. Таксама і каштоўныя камяні мелі сваё значэнне ў мантыцы. У адным дагістарычным дакуменце із “ніневійскай бібліятэкі” (г. азн. із груды плітак паблізу Масула) апавядаецца, што калі мелі намер даведацца, ці будзе шчасьлівым паход, то з гэтай мэтай разглядалі зверху і знізу ззяючыя прамяні, якія адбіваў направа і налева “бральянт на пальцы”[176].

Асобнае значэнне мелі сабакі і іхныя паводзіны. Адна табліца тлумачыць, што павінна азначаць, калі б чужая сабака забегла ў храм або ў палац цара:

“Калі шэрая сабака забяжыць у палац, то ён загіне ў полымі. Калі жаўтаватая сабака забяжыць у палац, то яго чакае гвалтоўны канец. Калі рыжая сабака забяжыць ў палац, то з ворагамі будзе заключаны мір” і г. д.

Гэты пералік працягваецца ў табліцы ў тым жа духу і становіцца цалкам камічным, дзякуючы той педантычнасьці, з якой пералічваюцца разнастайныя колеры сабак, а таксама і ўсе даволі непрыемныя адпраўленні, якія толькі можа рабіць сабачы арганізм!

“Калі вырве сабаку ў хаце – памрэ гаспадар хаты. Калі сабака абмочыць у палацы пасад, дык памрэ цар і ворагі падзеляць паміж сабой яго царства. Калі сабака памочыцца ў храме, то з неба пальюцца плыні дажджу, на вуліцах будзе патоп, голад і мор у краіне”.

Нараджэнне вырадкаў, – цалкам як у Ціта Лівія, – той жа час запісвалася самым дакладным чынам разам з тлумачэннямі. Снабачанні маюць надзвычай важную ролю ў гераічнай паэме “вавіланян”, у эпасе Німрода або Гільгамеша; герой Гільгамеш і яго сябар Эабані прадказваюць, дзякуючы снам, усе выбітныя падзеі свайго жыцця і ўмеюць патлумачыць іх адзін аднаму. Прарок Данііл робіцца згодна з Бібліяй магутным чалавекам у дзяржаве, паведаміўшы цару Навуханосару сон, які той бачыў і патлумачыўшы яго. “Тады ўзвысіў цар Данііла, і даў яму шмат вялікіх падарункаў, і паставіў яго над усёй вобласьцю вавілонскай і галоўным кіраўніком над усімі мудрацамі вавілонскімі (II, гл. 48). У

---

[176] Майстэрства шліфавання алмазаў была вынайдзена ў 1454 годзе Людзвігам Беркенам, які выпадкова заўважыў, што калі алмаз церці аб другі алмаз, то яны абодва паліруюцца. Адпаведна, да гэтага часу ні пра якія брыльянты (аграненыя алмазы) і зіхацячыя ад іх прамяні не магло быць і гаворкі. Без агранкі алмаз дастаткова непрыгожы, хаця і цьвёрды.... Калекцыянаванне вялікіх алмазаў і выкарыстанне іх у якасьці ўпрыгожванняў, напрыклад для пярсцёнкаў, магло пачацца толькі з часу, калі іх навучыліся шліфаваць. А да гэтага яны маглі цікавіць толькі рамеснікаў у якасьці трывалага абразіва і штыхель.... На мой погляд гэта дапамагае зразумець датыроўку “кучы плітак паблізу Масула” (і – Плінія)

летапісах цара Асурбаніпала маецца цэлы шэраг сноў, якія цар бачыў незадоўга перад выбітной падзеяй і г. д, і грунтуючыся на гэтых снобачаннях кожны раз прадказваўся вынік, які сапраўды мелі наступныя падзеі.

Грэцкія гісторыкі прызнаюць Зараастра, заснавальніка пярсідзкай рэлігіі, за вынаходніка ўсёй магіі, а сучасныя асіролагі сцвярджаюць, што нічога падобнага і быць не магло. Магія была халдэйскага і мідыйскага паходжання. А з боку гледжання новай храналогіі выходзіць, што і тая і другая прыйшлі із сярэднявечнай Рамеі, або нават із Заходняй Яўропы, калі там пачалася ўжо дакладная астраномія з сапраўднай магчымасьцю прадказваць зацьменні сонца і месяца.

Нам застаецца толькі сказаць тут некалькі слоў пра стаўленне Бібліі да магіі. У законе Майсея чараўніцтва прыраўноўваецца да ідалапаклонства.

Так, у 5-й кнізе Майсея (X, 12) гаворыцца: “Не павінен знаходзіцца ў цябе праводзячы сына свайго або дачку сваю, праз полымя, прадказальнік, гадацель, варажбіт, чарадзей, абаяцель, выклікаючы духаў, чараўнік і запытваючы ў памёршых: бо агідны перад Госпадам кожны, робячы так, а за гэтыя-та мярзоты Гасподзь, бог твой, праганяе іх ад твару твайго”.

А далей прызначаецца і пакаранне (III Майсея, XX, 27):

“Ці мужчына ці жанчына, калі будзе ён вызываць памёршых, або валхваваць, ды будуць адданы сьмерці; камянямі трэба пабіць іх, кроў іх на іх”.

А як жа гэта пагадніць з тым, што шмат хто із жыдоўскіх цароў, а з імі і ўвесь народ, часта парушалі згаданыя пункты закона? Саул, хаця і прагнаў прадказальніц, аднак сам жа звяртаўся да чарадзейкі эндорскай, а пра Манасію паведамляецца (2, Параў, XXXIII, 6.): “Ён праводзіў сыноў сваіх праз полымя, у даліне сына Еномава, і гадаў, і варажыў, і чарадзейнічаў, і заснаваў вызывацелей памёршых і чарадзеяў: шмат чаго ён рабіў непажаданага ў вачах Госпада, і прагнявіў яго”.

Вядома, толькі адным спосабам: у Біблію патрапіла не мала дадаткаў з вельмі позняга еўрапейскага сярэднявечча раней, чым яе сучасны тэкст быў замацаваны друкарскім станком. А нашы параўнанні Манасіі, спісанныя з Юстыніяна, паказваюць, што вядзьмарства, сапраўды квітнела і ў Вялікай Рамеі IV стагоддзя н. э.

# Глава III

## Схематычны нарыс развіцця спірітызму і аккультызму – у хрысьціянскай Яўропе XIX ст.

Першабытнае чалавецтва, – кажа д-р Леман, – заўсёды верыла ў магчымасць магічных аперацый, вынікам чаго было вывучэнне фактаў, нетлумачымых звычайнымі спосабамі і спрабавала атрымаць уладу над знешнім сьветам, недасягальную звычайнымі сродкамі. На працугу ўсіх сярэдніх стагоддзя ў Яўропе, а ў Азіі і зараз, мы бачым упартае імкненне падняць завесу будучага пры дапамозе гадання і гарачае жаданне атрымаць звышнатуральную ўладу для дасягнення сваіх розных практычных мэтаў. А пад час усіх эпох першапачатковай чалавечай гісторыі мы сустракаемся з цьвёрдай перакананасьцю, што ўсё гэта магчыма дасягнуць з дапамогай магічнага мастацства. А зараз гэтая вера ўжо выганяецца ў асяроддзе малаадукаваных станаў.

Першапачатковы тып магіі можа быць названы “спірытычным”, так як усе магічныя з'явы тлумачацца ім тым, што ў вырашэнні бяруць удзел вышэйшыя разумныя істоты, а наступны тып можа быць названы філасофска-акультычным так як сапраўднай нагодай яшчэ не патлумачаных сучасным прыродазнаўствам з'яваў ён лічыць нейкую невядомую вышэйшую магутнасць прыроды. Зразумела, што філасофскі акультызм ні ў якім разе не знішчаў спірытызм і наадварот. Так д-р Леман у сваёй “Гісторыі забабонаў і чарадзейства” (стар. 375) паказвае нам, што сам заснавальнік акультнай філасофіі Карнэлі Агрыпа (1456-1535) прызнаваў, што панаванне навукоўцаў-магікаў над таямніцамі прыродных магутнасьцей дасягае найвышайшай ступені ў тых выпадках, калі ім удаецца заручыцца садзейнічаннем нябесных “розумаў” або дэманаў, ад якіх гэтыя таемныя магутнасьці зыходзяць.

Добрым узорам гэтага служыць сярэдневечная астралагія. Пакуль нябесная механіка не падвяла рух нябесных свяцілаў пад агульны закон прыцягнення, апакаліптычны погляд на тоеснае ўзаемадачыненне паміж рухамі на небе і падзеямі на зямлі владарыў над розумамі навукоўцаў ад узнікнення Апакаліпсіса ў 395 годзе н. э. да Ньютона. Тое ж трохі пазней паўтарылася і з алхіміяй, ўзнікненне якой было злучана з адкрыццём зменаў у знешнім выглядзе металлаў пры розных маніпуляціях над імі, што дало нагоду думаць, што маніпуляцыі маюць містычную магутнасць нават і без удзелу “духаў”, дзякуючы таемнай магутнасьці, якая выходзіць ад самога чалавека. Але гэтая магутнасць не аднолькавая ва ўсіх, як і талент і ўсе іншыя якасьці, якія прытым жа ўдасканальваюцца навучаннем.

І вось, магічнае майстэрства выставіла пэўныя патрабаванні таму, хто меў жаданне ім валодаць. Ведзьмы, ведзьмакі, медыумы, магікі перш за ўсё павінны былі валодаць пэўнай “схільнасьцю”, якая ў сваю чаргу павінна была зведаць некаторую апрацоўку і развіццё.

Толькі што згаданы Карнэлі Агрыпа, які жыў у перыяд найвышэйшага развіцця еўрапейскай магіі, выказваецца ў сваім лісьце да Аўрэлія Аквапендэнта: “Унутры нас жыве актыўная істота, якая здольна без абразы бога і рэлігіі выканаць усё, што абяцаюць астролагі, магікі, алхімікі і некраманты. Я сцвярджаю: у нас саміх жыве пачатак ствараючы цуды. Жывуць у нас не пякельныя магутнасьці і не сьвяцілы нябесныя, а дзейнічаючы дух, і ўсё гэта здзяйсняючы”.

Таксама мы знаходзім такое месца:

“Шмат што можа зрабіць наш дух пры дапамозе веры, які складаецца із глыбокага пераканання і напружанай увагі, і надае магутнасць прадпрыемству, якае мы маем намер здзейсніць... пагэтаму для магічных дзеянняў патрэбна цьвёрдая вера і непахісны давер да сябе. Нельга мець ні найменшага сумневу ў поспеху і нават дапускаць падобную думку. Цьвёрдая вера творыць цуды нават часам быдучы няправільна накіраванай, а найменшы сумнеў ці абмоўка разганяе духоўную магутнасць магіі”.

Чытач бачыць із гэтага, як ужо на прыканцы XV і на пачатку XVI стагоддзя Карнэлі Агрыпа пачаў прыходзіць да высновы, што не толькі ад адной прысутнасьці духаў, а таксама і ад душэўнага стану самога магіка залежыць поспех ці не поспех яго справы. Але толькі ўжо ў XIX стагоддзі ў кнізе лекара Бруна Шындлера: “Магічныя бакі духоўнага жыцця” (1857 г.) мы знаходзім сістэматычна праведзенае тлумачэнне магічных з’яваў на глебе псіхалогіі.

“У сне, – кажа ён, – разчыняецца ўнутранае ўсьведамленне. Індывідыум адмяжоўвае сябе ад усіх з'яваў знешняй прыроды, у ім адлюстроўваюцца незлічоныя прамяні касмічных і тэлурычных магутнасьцей і ў той жа час у ім

працягваецца ніжэйшае, рэчавае жыццё. Дзякуючы гэтаму ў снах і праяўляюцца абодва гэтыя накірункі душэўнай дзейнасьці: з аднаго боку ўзнікае мутная гульня фантазіі, абуджаемая ніжэйнымі адчуваннямі плоці, абцяжараная захапленнямі цела, ўражаннямі грахоўнага дзённага жыцця, а з другога боку ўзвышаецца голас прыроды, падобна аракулу, растлумачваючы прайшоўшае, усведамляючы сапраўднае, прадказваючы будучае, і дасягае мяжы ўсведамлення ў форме прадчування, натхнення і прароцства”. Больш высокую ступень магічнага стану мы назіраем у “прадчуванні”, узнікаючым у тых выпадках, калі начны, г. азн. сонны стан пачынае праяўляць сябе ў “дзённым (г. азн. не спячым) усведамленні”. Калі ўяўленні ў гэты час набываюць пэўныя выявы, то мы маем часовую “празарлівасць”. А калі “начное ўсведамленне” робіцца пераважаючым, то мы маем “наданне”, якае выяўляецца толькі пры поўным экстазе, са знешняга боку праяўляемы сутаргавымі рухамі. Гэтая апошняя акалічнасць выразна паказвае, што ўлада волі над целам страчана і “дзённае ўсведамленне” канчаткова адціснута ў бок так як ва ўсіх падобных станах чалавек сам не ведае, адкуль у яго ўзяліся яго ж уяўленні, то і прыпісвае іх ці адкрыццю, ці дэманскаму наданню.

Усе штучныя сродкі ўжываемыя для выклікання стану экстаза: націранні, курэнні, замаўленні, пазбаўленні, гіпнатызуючыя сродкі і г. д., дзейныя, на думку Шындлера, толькі таму, што спрыяюць ўзмацненню начной сьвядомасьці за кошт дзённай. Уражанні, дрэмлючыя ў начным усведамленні, выступаюць на першы план і атрымліваюць выразнасць сапраўдных з'яваў. Суб'ект бачыць толькі тое, што яму пажадана бачыць, пагэтаму ўсе выкліканні духаў прыводзяць толькі да галюцынацый. Сапраўдную каштоўнасць мае толькі празарлівасць мінулага і будучыні, ахопліваючыя індывідыум пры экстатычным стане, таму што гэтыя з'явы нараджаюцца ўздзеяннем “усяго існага” на наша начное ўсведамленне (якае згодна з Шындлерам уяўляецца падабным адваротнаму полюсу таго ж самага магніта), хаця дакладны шлях такага ўздзеяння – нам невядомы. Уся практычная магія заснана на ўздзеянні на адлегласьці некаторай магутнасьці, якая паходзіць із “начнога полюса” чалавека і якая можа выклікаць рух неадушаўлённых рэчаў і разнастайныя змены ў іншых людзях.

Само сабой зразумела, што падзел чалавечай сьвядомасьці на пільнае і соннае, з іх прыпадабненнем двум палюсам магніта, было настолькі ненавуковым з фізіялагічнага боку гледжання, што захапленне ім хутка скончыўся. Ужо ў 1861 годзе прафесар заалагіі ў Берне Максіміліян Пэрці ў сваім творы: “Містычныя з'явы чалавечай прыроды” тлумачыць вялікую частку містычных з'яваў (сны, месяцызмы, шаленства, выкліканне духаў, цудоўныя ацаленні) без якога б то ні было магічнага дамешку, падводзячы іх пад фізіялагічныя і псіхалагічныя рубрыкі.

Але, на жаль, ён спыніўся на палове шляху і замест рацыяналізму захапіўся містыцызмам. У сваёй больш пазняй працы “Сучасны спірытызм”, ён выказваецца вельмі вызначана: “калі прыняць да ўвагі, якая значная колькасць выбітных і з цьвярозым розумам людзей Яўропы і Амерыкі падтцверджвае існаванне спірытычных з'яваў, то толькі невуцтвам можна патлумачыць смеласць некаторых пісьменнікаў, называючых ўсю вобласць гэтых з'яваў трызненнем, забабонамі і шарлатанствам. Сведчанні грунтуючыяся на ўяўленнях органаў адчуванняў здаровых людзей прызнаюцца дастатковымі на судовых паседжаннях усіх народаў; як следства павінны быць прызнаны дастатковымі і адносна праяваў спірытызму. Тая акалічнасць, што гэтыя з'явы маюць характар незвычайнага і супярэчаць вядомым да гэтага часу законам прыроды, не можа брацца да ўвагі ў якасьці

дастатковага абгрунтавання для іхнага адкідвання. Спірытызм, відавочна, можа прывесьці да пранікнення чалавечага розуму за межы сферы механічных з'яваў".

"Пераход Петры ў шэрагі спірытаў, – кажа д-р Леман, із якога я рэферырую большасць прыведзных тут мной фактаў, – можа служыць выдатным прыкладам, куды можа завесьці сляпая вера ў праўдзівасць набыцця ведаў". Аўтар цалкам правільна адзначае тое, "вялізнае значэнне, якое маюць ўварванні несьвядомага ў вобласць нашага сьвядомага жыцця", дзякуючы чаму назіраючая здольнасць чалавека выяўляецца вельмі недасканалай.

"Дакладнасьцю сваіх высноваў, – кажа ён, – прыродазнаўчыя навукі абавязаны менавіта таму, што яны ставяць назіральныя здольнасьці даследчыкаў у самыя спрыяльные ўмовы, пры якіх магчымасць памылак робіцца мінімальнай. У музеях, лабараторыях і абсерваторыях даследчык знаходзіцца ў поўным спакоі і нішто не перашкаджае яго працы; ён мае магчымасць адвольную колькасць разоў паўтараць свае назіранні, каб па магчымасьці выключыць выпадковую памылку. Чаго ён не заўважыў сёння, тое ён пабачыць заўтра. Тыхніка дае ў яго распараджэнне шмат сродкаў для павелічэння ўспрымальных магчымасьцей органаў адчуванняў і г. д. Але галоўнае – гэта магчымасць неадкладна запісаць вынік і адсутнасць неабходнасьці разлічваць на сваю памяць; кожны назіральнік выдатна разумее, што ўжо праз кароткі час ён выпусціць із пад увагі шмат дробязяў, калі яны не будуць той жа час зафіксаваны. Толькі пры такіх умовах магуць быць здзейснены дакладныя – вядома ў межах чалавечых магчымасьцей – назіранні. Назіральніку таксама неабходна некаторая колькасць практыкаванняў. Кожны настаўнік натуральнай гісторыі са свайго вопыту ведае, што нават самыя здольныя дзеці старэйшага ўзросту, калі ім паказваюць жывёлу або расьліну і засяроджваюць іхную ўвагу на пэўнай частцы прадмета назірання, усе такі не магуць паведаміць пра тое, што яны павінны былі заўважыць: яны як быццам бы не бачылі яго. Для назіранняў, як і для ўсяго іншага, патрэбна звычка. Таму толькі тады можна спадзявацца не праўдзівасць сведчання, калі дасведчаны назіральнік сведчыць пра назіранне здзейсненае пры самых спрыяльных умовах.

А назіранні містычных падзей большай часткай зроблены людзьмі цалкам неспрактыкаванымі ў справе назірання і прытым у самых неспрыяльных умовах. Гэта вельмі рэдкія з'явы, знаходзячыяся па за межамі нашай улады, узнікаючыя і знікаючыя нечакана і раптоўна, большай часткай у цемры; таму назіранне над імі, нават ва ўмовах лабараторыі, вельмі абмежавана.

Вялізны ўплыў фантазіі можна бачыць із такіх прыкладаў:

Вось, напрыклад, жывёла "марскі мніх". Самае старажытнае яе апісанне сустракаецца ў нямецкага натураліста Конрада Мегенберга, напісаўшага ў 1349 г. першую нямецкую натуральную гісторыю.

"Марскім мніхам называюць пачвару ў выглядзе рыбы, верхняя частка якой як у чалавека; яна мае галаву падобную на толькі што пастрыжанага мніха. На галаве ў яе лустка, а вакол галавы чорны абруч вышэй вушэй; абруч складаецца із валасоў, як у сапраўднага мніха. Пачвара мае звычай завабліваць людзей да марскога берага, робячы розныя скокі, і калі бачыць, што людзі радуюцца, гледзячы на яго гульню, то яна яшчэ весялей кідаецца ў розныя бокі; калі ж мае магчымасць схапіць чалавека, то цягне яго ў ваду і з'ядае. Яна мае твар не вельмі падобны на чалавечы: рыбіны нос і рот вельмі блізка каля носа".

А вось і іншае незалежнае апісанне:

Дацкі гісторык Арыльд Хвытфельд паведамляе ў "Хроніцы Дацкага каралеўства": "У 1550 г. каля Арэзунда злоўлена і даслана каралю ў Капенгаген

незвычайная рыба. У яе была чалавечая галава, а на галаве манаская танзура. Пакрыта яна лусткамі і як бы манаскім капелюшам. Кароль загадаў гэтую рыбу пахаваць. Із рыбы было зроблена некалькі малюнкаў, якія былі дасланы розным каранаваным асобам і натуралістам Яўропы”.

Вядомы лекар і натураліст Конрад Геснер ў Цюрыху (1616-1665) паведамляе пра гэтую пачвару:

“Гэты марскі мніх, кажуць, быў злоўлены ў Балтыйскім моры, каля горада Эльб’е на адлегласьці 4 мілі ад Капенгагена, сталіцы Дацкага каралеўства. Даўжыня рыбы чатыры локці; яна была даслана каралю і лічыцца за цуд. Кажуць, яна была злоўлена з дапамогай сеткі разам з сялёдкай. Альбертус піша, што падобныя рыбы неаднаразова бывалі злоўленымі ў Брытанскім моры”.

А вось і яе малюнкі.



Марскі мніх. Ілюстрацыя із “Кніга Дзён”, 1869 г.



Япетус Сцеенструп. Параўнанне "марскога мніха (згодна з малюнкамі XVI ст.) с гіганцкай каракаціцай.

Здавалася б няма сумневаў: такая дзіўная жывёла існуе. Яна і выявілася існуючай: гэта дзесяці-шчупальцавая каракаціца (мал.....). Калі ўявіць сабе гэтую жывёлу, лежачай на беразе, брушной паверхняй ўніз, пры ўдзеле ўяўлення можна ўгледзець у ёй некаторае падабенства з мніхам, маючым рыбіны хвост. А астатняе дададзена. Але чаму ж усе паведамленні пра мніха згадваюць пра лусткі, якіх няма на каракаціцы? Відавочна разважалі так: марскі мніх – рыба, рыба пакрыта лусткамі, як следства ў марскога мніха з’явіліся лусткі. Падабенства было перабольшана. Перабольшана і велічыня.

А вось, напрыклад, выява каметы і метэарытаў, падаўшых на зямлю з неба, дзе фантазія назіральніка страціла ўсякае абмежаванне. Гэты малюнак павінен перадаць выгляд каметы, якая з'явілася ў 1527 годзе, г. азн. пры жыцці самога Лікатэнеса. Пра гэтую дзіўную камету ён піша наступнае: “У 1527 годзе кастрычніка 11, рана раніцай, у 4 гадзіны, з’явілася бачная амаль па ўсёй Яўропе вялізная зорка-венік, гарэўшая на небасхіле каля 1¼ гадзіны і меўшая ўражваючую даўжыню і крывавы, чырвоны колер. Яе верхняя частка мела выгляд сагнутай рукі, трымаўшай у кулаку аголеную шпагу, быццам бы гатовую ўразіць. Каля вастрыя шпагі і па абодва бакі ад клінка знаходзіліся тры вялікія зоркі, прычым першая пераўзыходзіла абедзьве іншыя па велічыні і ззянні. Ад яе ва ўсе бакі ў выглядзе хваста выходзілі цёмныя прамяні, якія мелі

выгляд дзідаў алебард, шабель, кінжалаў, аточаных шматлікімі чалавечымі галавамі з барадамі і валасамі. Усё гэта мела крывавае ззянне, так што шмат хто спужаліся і захварэлі. Затым наступілі часы смутку і выпрабаванняў: туркі ўварваліся ў Яўропу, і Рым быў захоплены Бурбонам. Папа ледзь ацалеў у замку св. Анёла, але 40000 дукатаў вызвалілі яго, і імператар аднавіў яго на пасадзе".

Што гэта такае – спытаеце вы? Навошта было так падманваць? Але гэтая хлусня з'яўляецца фактам і із яе вы бачыце, што нават прафесійныя навукоўцы ранейшых гадоў не цураліся выкарыстаць яе каб зрабіць сваё апавяданне больш прывабным. Дык чаму ж тут здзіўляцца, калі і паляваўшыя за рукапісамі, вяртаючыся із далёкіх краін, прывозілі з сабой падобныя творы сваёй уласнай фантазіі?

# Глава IV

## "Голас маўчання" як вышэйшы ўзор псеўда-індускай рэлігійна-апакрыфічнай філасофскай літаратуры нашага часу.

Насуперак ўсім традыцыйным правілам, я тут спачатку пакіну ў спакоі нашых аўтарытэтаў па Індыі і пачну сваё апавяданне ні з каго іншага, як з вядомай заснавальніцы тэасафічнага таварыства ў Лондане Алены Пятроўны Блавацкай і не без падставаў.

Яе, вечна аточаную, як кветка матылькамі і пчолкамі, разнастайнымі звонячымі і стукаючымі духамі, лягчэй крытыкаваць, чым запантаваных навукоўцаў-індолагаў, прыкрытых, як стальнымі панцырамі і шчытамі, доктарскімі дыпломамі, не гледзячы на тое, што ў справе знаходжання новых дакументаў яны былі яшчэ больш даверлівымі і прастадушнымі, чым Алена Пятроўна[177].

Мне, бясспрэчна, запярэчаць, што агучваемы мной дакумент прыдумала сама Алена Пятроўна, але я на гэта адкажу: а чым жа ён адрозніваецца ад тых, якія іншыя, менш экспансіўныя і літаратурна пераследуемыя падарожнікі па Індыі прапаноўваюць нам у якасьці праўдзівых дакументаў? Абсалютна нічым! Дык чаму ж мы ім верым, а не верым Блавацкай, якая таксама без усякіх сумневаў пражыла некалькі гадоў у Індыі?

Прапануемы ўрывак із кнігі "Голас маўчання" можна разглядаць у якасьці узора ўяўляемай еўрапейцамі індускай містыкі. Гэтая кніга зведала шмат выданняў у Ангельшчыне, перакладзена на ўсе еўрапейскія мовы і складаецца із трох частак: "Голас маўчання", "Два шляхі" і "Сем брамаў". Для нас, рускіх чычатоў, гэтая кніга павінна ўяўляць асаблівую цікавасць, так як была перададзена Заходняй Яўропе рускай жанчынай, якая мае, – як запэўніваюць ушаноўваючыя яе тэосафы, – "ганаровую вядомасць ва ўсім сьвеце, акрамя сваёй радзімы, дзе да яе імя да гэтага часу ставяцца не старонне, а сапраўднае значэння яшчэ цалкам не ацэнена, нават і ў Яўропе".

"Алена Пятроўна Блавацкая, – кажуць яны нам, – несумненна, была вучаніцай адной із эзатэрычных (таемных) школ усходу, інакш яна б не змагла выкласьці патаемныя вучэнні ўсходу ў такой арыгінальнай форме, у якой яно выкладзена ў "Голасе маўчання". Гэтая форма выразна паказвае на веданне ёю

[177] Надрукаваўшая свае прыгоды ў Індыі спачатку пад імем Рода-Бай (Рускі Веснік ад 1881 да 1891 года).

першакрыніц; яе змест не сустракаецца ні ў адной із санскрыцкіх кніг, даступных вывучэнню арыентолагамі, і ўпершыню з'яўляецца ў 1889 г. на ангельскай мове ў выкладанні Е. П. Блавацкай.

Гэтыя павучанні даюцца тым, каму не вядомы небяспекі (ніжэйшай псіхічнай магутнасьці).

“Хто жадае пачуь голас маўчання (Наду) “Нягучны гук” і зразумець яго, той павінен дасягнуць дасканалага засяроджвання (ў самым сабе).

Дасягнуўшы абыякавасьці да знешняга сьвету, вучань павінен знайсьці ўладара сваіх адчуванняў, Стваральніка думкі, таго, які нараджае ілюзіі. Розум з’яўляецца вялікім забойцай рэчаіснага. Вучань павінен пераадолець забойцу. Таму што калі яго ўласны вобраз стане для яго рэчаісным, якімі не рэчаіснымі з’яўляюцца для яго ўсе вобразы яго снобачанняў, калі ён перестане чуць шматлікасць, тады ён разлічыць Адзінае, унутраны гук, забіваючы знешні. Толькі тады – не раней, – ён пакіне вобласць фальшывага і ўступіць у царства праўдзівага.

Перш чым душа пабачыць – гармонія ўнутры павінна быць дасягнута і цялесныя вочы павінны закрыцца назаўсёды для ўсякай ілюзіі. Перш чым душа пачуе, чалавек павінен стаць аднолькава глухім, як для грымот, так і да шэптаў, як да крыкаў равучых сланоў, так і да срэбнага гудзення залатога сьветляка. Перш чым душа зможа разумець і ўспрымаць, яна павінна з Маўклівых Голасам злучыцца так жа, як з розумам ваяцеля была злучана мадэль, згодна з якой фармавалася гліна.

Бо толькі тады душа пачуе і згадае. І толькі тады да яе ўнутранага слыху звернецца Голас Маўчаньня і скажа: “Калі твая душа ўсьміхаецца, купаючыся на сонцы твайго жыцця; калі яна спявае ўнутры сваёй абалонкі із плоці і матэрыі; калі яна плача ў сваім умацаванні, пабудаваным ілюзіямі; калі твая душа намагаецца парваць сярэбраную нітку, якая прымацоўвае яе да Настаўніка[178], – ведай, вучань, твая душа із праху.

Калі прыслухоўваецца твая распускаючаяся душа да турбот гэтага сьвету, калі на грымотны голас Вялікай Іллюзіі[179] яна дае адказ; калі, напалоханая пры выглядзе гарачых слёз пакуты, калі, аглушаная крыкамі журбы яна адступаецца, падобна палахлівай чарапасе, пад абарону сваёй асобы, ведай: душа твая – няварты каўчэг свайго маўклівага бога.

Калі, прыходзячы ва ўзрост, твая душа выступіць са свайго надзейнага прытулку і, вызваліўшыся ад абараняўшага яе каўчэга, працягне сваю срэбную нітку і накіруецца наперад; калі, угледзеўшы сваё адлюстраванне на хвалях прасторы, яна прашэпча: “гэта я”, ведай: душа твая захоплена ў павуціну спакусы.

Гэтая зямля, вучань, з’яўляецца Палацам Смутку, дзе на ўсім шляху цяжкіх выпрабаванняў размешчаны пасткі, каб злавіць тваё Я спакусамі, імя якім “Вялікая Ерась[180]”. Гэтая зямля, о, няведаючы вучань, толькі сумны падступ, вядучы ў змрок, за якім распасьціраецца даліна сьвятла, таго сьвятла, якое не тушыцца ніякімі буранамі, якое гарыць без сьвяцільніка і без масла.

Вялікі закон сцвярджае: “Каб выведаць сусьветнае Я, ты павінен выведаць сваё ўласнае Я”. Для гэтага ты павінен аддаць сваё Я таму, што мае назву “не Я”, сваё існаванне – Нябыту, і толькі тады ты будзеш мець магчымасць спачываць паміж крыламі Вялікай Птушкі[181]. Сапраўды добра супакоіцца ў крылах таго, што не ведае нараджэнняў і сьмерці, што з’яўляецца АУМам[182] на працягу бясконцых стагоддзяў. Ускараскайся на птушку Жыцця, калі хочаш выведаць[183]. Аддай сваё жыццё, калі жадаеш жыць.

---

[178] Найвышэйшае Я.

[179] Інакш – аб'ектыўны сьвет.

[180] Ілжывая вера ў адлучанасць кожнай чалавечай душы ад адзінай Сусьветнай Душы.

[181] “Лебедзь у Прасторы і Часе”, сімвал Брамы, сімвалічная птушка, кідаючая яйка ў хаос; яйка, якое ператвараецца ў Сусьвет.

[182] Згодна з Блавацкай гэта сьвятое слова старажытнага Ўсходу, якое мае некалькі значэнняў, вымаўляемае з глыбокім ушанаваннем ёгамі падчас малітвы і назірання: “Склад А з’яўляецца правым крылом птушкі, У – яе

Тры палацы, о стомлены вандраўнік, трэба прайсьці табе да канца цяжкага шляху. Тры палацы, о пераможца Сьмерці (Мары), правядуць цябе праз тры станы[184] у чацьвёрты, а адтуль у сем сусьветаў, у сусьветы вечнага Заспакаення.

Калі жадаеш даведацца іхныя найменні, слухай і запамінай. Імя першага палаца – Недасведчанасць. Гэта той палац, у якім ты пабачыў сьвятло, у якім жывеш і памрэш. Імя другога – палац Ведання. У ім твая душа знойдзе росквіт жыцця, але пад кожнай кветкай скруцілася змяя[185]. Імя трэцяга палаца – Мудрасць; за ім распасьціраецца не маючая межаў вада, невычэрпная крыніца Ўсёведання.

Калі жадаеш прайсьці бяспечна першы палац, не дазваляй сваёй душы лічыць вогнішчы жаданняў, падпаленыя ў ім, за сонечнае сьвятло Жыцця. Калі жадаеш бяспечна перайсьці другі, не замядляй свае крокі, каб ўдыхнуць у сябе водар яго ап'яняючых кветак. Калі жадаеш вызваліць сябе ад ланцугоў уяўлення пра нагоды і вынікі (Карму), не шукай свайго духоўнага кіраўніка ў гэтай прывіднай краіне.

Мудры не марудзіць у мясьцінах пачуццёвых уцех. Мудры не слухаецца хараша гучачых галасоў іллюзій. Шукай таго, хто дась табе жыццё ў палацы Мудрасьці, які знаходзіцца за межамі, дзе не вядомыя цені і дзе сьвятло Ісьціны ззяе ў незгасальнай славе.

Няств604ранае жыве ў табе, вучань, як яно жыве і ў палацы Мудрасьці. Калі ты пажадаеш дасягнуць яго і аб'яднаць абодва сусьветы разам, ты павінен скінуць з сябе цёмныя покрывы ілюзій. Заглушы голас плоці, не дазваляй пачуццёваму стану станавіцца паміж тваім сьветам і сьветам мудрасьці, каб абодва маглі зліцца у адзіны сьвет. Калі ж ты выведаеш сваё ўласнае няведанне[186], бяжы із палаца Выведвання. Небяспечна яго вераломная прыгажосць і патрэбны ён толькі для твайго выпрабавання. Глядзі, каб душа твая, асьлепленая яго падманчывым бляскам, не захапілася і не патрапіла пад уладу яго прывіднага сьвятла.

Гэтае святло паходзіць ад каштоўнага вянца вялікага спакушальніка Мары. Пачуццё, зачараванае ім, асляпляе душу і неразумнага прыводзяць да крушэння.

Моль, завабленая сьветам тваёй начной лампы, асуджана загінуць у яе полымі. Безклапотная душа, якая слабее ў барацьбе з дэманам іллюзіі, вернецца на зямлю рабой Мары.

Глядзі на процьмы крылатых душ. Назірай, як яны мітусяцца над бурлівым морам чалавечага жыцця, як, знясіленыя, сплываючыя крывёй, з разбітымі крыламі, яны падаюць адна за другой у падымаючыяся хвалі. Кідаемые лютымі парывамі ветру, гнаныя буранам, яны топяцца ў вадаваротах і знікаюць ў першай жа разчыняючайся бездані.

Калі табой будзе пройдзены палац Мудрасьці і ты пажадаеш дасягнуць Даліны Шчасьця, крэпка замкні твае пачуцці, каб не пранікла ў іх згубная ерась раз'яднання, якая адарве цябе ад цэлага. Не дазваляй "народжанаму на небе", апушчанаму ў хвалі...[187],

---

левае крыло, М – яе хвост". А на маю думку гэта ўзята ад юдэйскага бог – AIM (цалкам ЭЛ AIM). Спачатку гэта быў проста множны лік ад ЭЛ – бог, і азначала багі, бо прыстаўка ІМ у жыдоўскай мове з'яўляецца знакам множнага ліку. А пазней, пры пераходзе да адзінабожжа, яно было патлумачана як Бог-Аіс ці, дзякуючы іншаму вымаўленню няўстойлівых жыдоўскіх галосных бог АУМ ці Ам.

[183] Тры станы ўсьведамлення: няспанне, дрымота, глыбокі сон, вядуць да чацьвёртага стану ўсьведамлення – звыш усьведамленне.

[184] Некаторыя ўсходнія містыкі прызнаюць існаванне 7 духоўных сфер у целе … Лебядзі па-за часам і прасторай, што пераўтвараючагася ў Лебедзя ў часе і прасторы, калі нявыяўлены … робіцца выяўленым. (Заўв. Блавацкай).

[185] Палац Навучання – гэта і ёсць "астральная сфера", псіхічны сьвет звышпачуццёвых успрыманняў і падманных з'яваў, сьвет медыумаў. Ніводная кветка, сарваная ў гэтай вобласьці ілюзій, не была перанесена на зямлю без змяі, затаіўшайся ў яе пялёстках.

[186] Вобласць поўнага духоўнага ўсведамлення, падняўшыся да якой, чалавек дасягае поўнай бяспекі ад усіх ілюзій (заўв. Блавацкай).

[187] Іллюзія, сьвет бачных формаў, часовых і падлягаючых знішчэнню, у процілегласць Вечнаму і Нязменнаму.

адрываецца ад адзінага Айца[188], але дабівайся, каб вогненная магутнасць[189] адступіла ў самыя патаемныя пакоі твайго сэрца, у сваю сапраўдную мясьціна.

І тады падымецца гэтая магутнасць із твайго сэрца ў шостую вобласць, сярэднюю, у засяроджанне тваіх вачэй, дзе яна стане дыханнем Адзінай Душы, голасам Настаўніка, напаўняючым усё. Толькі тады ты можаш стаць "нябесным вандраўнікам"[190], тым, які падпарадкоўвае вятры, нясучыяся над хвалямі, і ступнямі сваімі не датыкаецца да хваляў.

Перш, чым ты ступіш на верхнюю прыступку лесьвіцы містычных гукаў, ты павінен пачуць голас бога, існуючага ўнутры цябе, у сямі адрозненнях. Першы голас падобны на салодкія сьпевы салаўя, які спявае развітальную песьню сваёй сяброўцы. Другі голас гучыць як сярэбраны кімвал незямнога Духу, абуджаючы міргаценне зорак. Трэцці падобны меладычнай скарзе духу Акіянаў, паланёнага ў сваёй ракавіне. Чацьвёрты – як спевы лютні[191]. Пяты пракрадаецца ў цябе падобна звону бамбуковай флейты і пяройдзе ў трубны гук. А ён, шосты, пранясецца падобна глухому раскату грымотнай хмары. І сёмы паглыне ўсе астатнія гукі. Яны памруць і не будзе больш чутна іх.

Калі ўся твая асоба[192] пераможана і кінута да ногі Настаўніка, тады вучань зліваецца з Адзіным, атаясамляецца з Адзіным і знаходзіцца ў ім. Перш чым ступіць на Шлях, ты павінен знішчыць сваё "цела жаданняў", ачысціць сваё "цела думак", зрабіць сваё сэрца бязгрэшным.

Чыстая вада вечнага жыцця, іскрыстая і крыштальная, не можа перамяшацца з забруджанай, гнанай бурным ветрам. Кроплі нябеснай расы, зіхацячыя ў першых прамянях ранішняга сонца, на грудзях сьвяшчэннага лотаса, падаючы на зямлю, ператвараюцца ў прах... Глядзі! – Чыстая жамчужына ператварылася ў пляму бруду.

Змагайся са сваімі нячыстымі думкамі раней, чым яны адалеюць цябе. Не шкадуй іх, як яны не шкадуюць цябе, бо калі ты саступіш ім і яны ўмацуюцца і пачнуць расьці, ведай ісьціну: думкі твае перамогуць і заб'юць цябе. Сьцеражыся, вучань, не дапускай нават цені ад іх наблізіцца да цябе. Бо гэты цень пачне расьці, павялічвацца ў памеры і магутнасьці і стварэнне змроку паглыне тваю істоту раней, чым ты паспееш заўважыць прысутнасць цёмнай магутнасьці.

Перш, чым твая патаемная магутнасць[193] зробіць цябе чароўным, воля твая павінна зрабіцца пераможцай над целам жаданняў. Твой прах і твой дух не магуць сустрэцца ніколі. Адзін із двух павінен знікнуць, бо не магуць яны існаваць разам. Перш, чым розум тваёй душы даведаецца, зародак асобы павінен быць разбураны, чарвяк пачуццёвасьці знішчаны без магчымасьці вяртання да жыцця. Ты не можаш ісьці па шляху, не зрабіўшыся самому гэтым Шляхам[194].

Ды пачуе твая душа кожны крык пакуты падобна таму, як сьвяты лотас адчыняе сваё сэрца, каб напіцца прамянямі ранішняга сонца. Не дапускай, каб пякучае сонца высушыла хаця б адзіную слязу пакуты, перш чым ты сам выцярэш яе з вачэй Самотнага. І ды ўпадзе кожная пякучая сляза чалавечая ў глыбіню твайго сэрца і ды будзе яна там; не пазбаўляйся ад яе, пакуль не знікне нагода, яе нарадзіўшая.

О ты, сэрца якога поўна спачування, – ведай, што гэтыя слёзы – бруі, насычаючыя нівы несьмяротнага спачування. Толькі на насычанай глебе квітнее паўночная кветка Будды, самая рэдкая із усіх кветак. Гэта зерне вызвалення ад нараджэння і сьмерці.

---

188 Сусветная Душа.

189 Адна із містычных магутнасьцей Йога (дасягнуўшая паяднання з сусветнай Душой).

190 "Ідучы па нябёсах". Гаворыцца, што цела йёга робіцца як "воблака, із якога чальцы выступаюць як парасткі", пасьля чаго йёг "бачыць па той бок зорак; ён чуе мову багоў і разумее яе, і чытае думкі мурашкі" (заўвага Блавацкай).

191 Індуская старадаўняя музычная прылада, падобная на лютню.

192 У арыгінале "ўсе шэсць", г. азн. шэсць прынцыпаў чалавека.

193 Яна мае назву змеяпадобнай ці колападобнай магутнасьці, з нагоды яе спіральнага руху ў целе йёга, калі ў ім саспявае ўнутраная магутнасць. Гэта электрычная акультная магутнасць, першапачатковая магутнасць, ляжачая у падмурку кожнай арганічнай і неарганічнай матэрыі (заўвага Блавацкай).

194 "Шлях" згадваецца ва ўсіх містычных кнігах.

Яно адасабляе Архата[195] і ад духу сварак, і ад пажадлівасьці, і вядзе яго праз даліны існавання да міру і заспакаення, дасягальнаму толькі ў краіне Маўчаньня і Нябыту[196]. Забі жаданне, але забіваючы яго, глядзі, каб яно не ажыло зноў. Забі прагнасць да жыцця, але калі ты заб'еш прагнасць да жыцця, ды будзе гэта не дзякуючы імкненню да вечнага жыцця, а дзеля замены існуючага на канчатковае. Ня шкадуй нічога. Не распаляй сваё сэрца супраць Кармы[197] і не абурайся на нязменныя законы прыроды. Змагайся з асабістым, часовым, вагаючымся, належачым быць знішчаным.

Дапамагай прыродзе і працуй заадно з ёй; і тады прырода прызнае ў тваёй асобе аднаго са сваіх стваральнікаў і будзе пакорнай табе. Яна шырока адкрые перад табой ўваход у свае патаемныя нетры, адчыніць перад тваімі поглядам скарбы, размешчаныя ў глыбінях яе беззаганных цнатлівых грудзей. Незаплямленая цялесным дакрананнем, яна разчыняе свае скарбы толькі духоўным вачам, ніколі не закрываючымся, для якіх няма пакрыцяў на працягу ўсіх яе царстваў.

Тады яна пакажа табе і сродкі і накірункі, першы ўваход і другі, і трэцці, аж да сёмага. І за імі мэта, за межамі якой, купаючыся ў прамянях духоўнага сьвятла, існуе невыказваемая Слава, небачная іншаму погляду, акрамя погляду душы.

Толькі адна сьцежка вядзе на Шлях; толькі на самым яго заканчэнні магчыма пачуць Голас Маўчання. Лесвіца, па якой падымаецца імкнучыся, пабудавана із прыступак пакут і засмучэнняў; уціхамірыць іх можа толькі голас сьвятасьці. Гора табе вучань, калі ты панясеш з сабой хаця б адзіную загану, не пакінуўшы яе знізу; бо тады лесьвіца падломіцца і скіне цябе. Яе падножжа стаіць у глыбокай ціне памылковых думак і грахоў тваіх, і, перш чым адважышся перайсьці праз шырокую бездань цялеснасьці, ты павінен памыць свае ногі ў вадзе адрачэння. Гора таму, хто адважыцца нячыстымі нагамі апаганіць хаця б адзіную прыступку. Цёмны і вязкі бруд зацвярдзее, прыліпне да ступні і замацуе адважыўшагася да месцы; і, падобна птушцы, злоўленай ў вераломныя сілкі птушкаловам, не будзе для яго далейшага руху наперад. Яго заганы апрануцца ў выявы і пацягнуць яго ўніз. Яго грахі падымуць свае галасы, падобна шакалам, плачучым і рагочучым на заходзе сонца; яго думкі стануць войскам, якое захопіць яго і павядзе паланёным рабом.

Забі свае жаданні, вучань, знясілі свае заганы раней, чым уступіш на Вярхоўны Шлях. Вынішчы свае грахі, зрабіўшы іх назаўсёды безгалосымі, перш, чым пачнеш сваё ўзыходжанне. Сціш свае думкі і накіруй усю сваю ўвагу на твайго Настаўніка, якога ты яшчэ не бачыш, але якога ўжо адчуваеш.

Аб'яднай усе свае пачуцці ў адзінае адчуванне, калі жадаеш быць у бяспецы ад ворага. Інакш не адчыніцца для тваіх цёмных вачэй крутая сьцежка, вядучая да Настаўніка. Доўгая і стомная дарога, якая разсцілаецца перад табой. Нават адзінае шкадаванне пра мінулае, пакінутае ззаду, пацягне цябе ўніз і табе зноў давядзецца пачынаць цяжкае ўзыходжанне.

Не азірайся назад, бо ты загінеш. Не вер, што жаданне можна знішчыць, задаваліўшы яго: гэта хлусня нададзеная Марай. Сілкаваннем загана пашыраецца і набірае магутнасць, як чарвяк, тлусцеючы ў сэрцы кветкі. Ружа павінна зноў ператварыцца ў пупышку, народжаную ад роднай сьцяблiны, раней, чым чарвяк падтачыць яе сярэдзіну і вып'е із яе жыццёвы сок. Залатое дрэва (Дрэва Жыцця) выпускае каштоўныя парасткі раней, чым яго ствол завяне ад буранаў.

Вучань павінен стаць як дзіця раней, чым першы гук закране яго слых. Святло ад Адзінага Настаўніка – незгасаемае залатое Святло Духу кідае на вучня свае сьветазарныя

---

[195] Адэпта, які валодае звыш свядомасьцю.

[196] Нірвана з'яўляецца нябытам толькі з боку гледжання нашай маючай заканчэнне сьвядомасьці; у рэчаіснасьці Нірвана раўназначная абсалютнаму існаванню; гэтак жа, як абсалютная сьвядомасць, з боку гледжання абмежаванай сьвядомасьці, раўназначна адсутнасьці сьвядомасьці, але злучае разам вывучаючага, вывучаемае і вывучэнне (заўв. перакладчыка на рускую мову).

[197] Тут Карма згадваецца ў сэнсе свайго лёсу, створанага самім чалавекам.

прамяні з самага пачатку Шляху. Яны пранізваюць густыя, цёмныя аблокі цялеснасьці. То тут, то там гэтыя прамяні асьвятляюць яе падобна сонечнаму сьвятлу, пранізваючаму густыя зараслі джунгляў і адбіваецца сьветавымі плямамі на зямлі. Але памятай, вучань: да таго часу, пакуль плоць не перастане жадаць, галава не астыне і душа не стане цьвёрдай і чыстай як алмаз, ззянне не пракрадзецца ў патаемны пакой тваёй душы, яно не сагрэе сэрца, і містычныя гукі[198] з духоўных вышынь не дасягнуць твайго слыху, як бы дбайна ты ні слухаў на першай прыступцы.

Пакуль не пачуеш, не зможаш ты бачыць, пакуль не пачнеш бачыць, ты не можаш чуць. Бачыць і чуць – вось другая прыступка.

Калі вучань, закрыўшы органы зроку і слыху і спыніўшы дыханне, недасягальны для вонкавага сьвету, бачыць і чуе, адчувае пахі і смак, калі яго чатыры пачуцці зліваюцца і гатовы перайсьці ў пятае – ўнутранае адчуванне[199], тады вучань паднімаецца на чацьвёртую прыступку. А на пятай, о, пераможца сваіх думак, усё адчуванні павінны быць зноў забіты і без вяртання да жыцця[200].

Утрымлівай свой розум ад усіх знешніх прадметаў, ад усяго бачнага. Устрымлівайся ад унутраных вобразаў, каб не накінулі яны цёмныя магутнасьці на сьвятло тваёй душы.

З гэтага часу ты дасягнуў сапраўднага Засяроджвання – прыступкі шостай. А калі пяройдзеш у сёмую, ты не будзеш больш назіраць Сьвятое Тры[201], бо сам станеш Трыадзіным. Ты сам і твой розум стануць падобнымі на побач знаходзячымся Блізнятаў, а над імі загарыцца Зорка – мэта тваіх пошукаў.

"Тры", знаходзячыяся ў славе і шчасьці невыказваемым, не маюць больш наймення. Яны зліліся ў адзіную зорку, у полымя гаручае, але не апаляючае, у тое полымя, якое ахоплівае Полымя. Ты дасягнуў, о, пераможны йёг, таго, што людзі называюць...[202] – перадапошняй прыступкі, за якой ідзе апошняя прыступка –.....[203]. З гэтага часу тваё "Я" аточана адзіным Я, злілося з тым Я, із якога вылучалася тваё існаванне.

Дзе ж твая індывідуальнасць, вучань, дзе сам вучань? То – іскра, зьнікшая ў полымі, капля ў недрах акіяна, непраходзячы прамень, стаўшы "Усім" і вечным ззяннем. З гэтага часу ты – і стваральнік, і сведка, і сьветавы цэнтр і выпраменьванне прамянёў, Святло ў Гуку і Гук у Сьвятле.

Усе пяць перашкод вядомы табе, о, благаславёны. Ты перамог іх, ты – валадар над шостай перашкодай, ты – захавальнік чатырох відаў Ісьціны. Святло, на іх падаючае, зыходзіць із цябе самога, о, ты, які быў вучнем, з гэтага часу ж стаўшы Настаўнікам. Із чатырох відаў Ісьціны: ці не прайшоў ты праз веданне пакут – ісьціну першую? Ці не перамог ты валадара Мару ў пераддзверры вядучым ў царства спакус – ісьціну другую? Ці

---

198 Містычныя гукі – гукі ці мелодыя, якая чуецца ёгам на пачатку яго апускання ва ўнутранае сузіранне.

199 Эзатэрычнае (г. азн. таямнічае) вучэнне пра чалавечы арганізм сцвярджае, што ўсярэдзіне чалавека існуюць зародкі новых органаў пачуццяў, не вядомыя нам, якія разаўюцца ў далёкай будучыні ва ўсіх людзей натуральным чынам; йёгі ў стане паскорыць сваю эвалюцыю і развіць у сабе гэтыя органы сьвядома, выкарыстоўваючы вядомыя ім метады строгай унутранай дысцыпліны (заўв. перакладчыка на рускую мову).

200 Павінны перайсьці ў сёмае пачуццё, найбольш духоўнае.

201 Развівае таемныя магчымасьці пераважна механічным шляхам, тады як … развівае іх духоўнай дысцыплінай (заўв. Блавацкай).

202 Апошняя прыступка на зямлі перад дасягненнем усіх уласцівасцей высокага Адэпта. На гэтай прыступцы йёг яшчэ захоўвае духоўную самасвядомасць і дзейнасць сваіх вышэйшых прынцыпаў, але яшчэ адзін крок наперад, і яго свядомасць пяройдзе на найвышэйшы ўзровень духоўнага развіцця. Тры станы йёга – поўнае пераадоленне праяўваў найніжэйшага зямнога розуму, апусканне ў найвышэйшыя духоўныя аб'екты, даступныя чалавечай душы пасьля згаданага пераадолення.

203 Стан духу, калі йёг страчвае ўсведамленне якой бы то ні было індывідуальнасьці, уключаючы і сваю ўласную. Ён зліваецца з сусветным існаваннем і робіцца Ўсім.

не адолеў ты ў трэццяй браме грэх і ці не дасягнуў тым трэццяй ісьціны? І ці не ўступіў ты на Шлях[204] вядучы да ведання – ісьціну чацьвёртую?

Будзь жа ад гэтага часу пад дрэвам.., якае з'яўляецца дасканаласьцю ўсякага ведання, бо, ведай, ты авалодаў апошняй прыступкай, твой зрок беспамылковы і дасканалы. Глядзі! Ты сам стаў Святло, ты сам стаў Гук, з гэтага часу ты для сябе і Бог, і Настаўнік, і прадмет свайго ўласнага пошуку: неперарываючыся Голас, які гучыць на працягу вечнасьцяў, не зведваючы змянення, не даступны граху, Сем Гукаў у адзіным ГОЛАСЕ МАЎЧАННЯ".

Ці можаце вы, чытач, пераказаць мне ўласнымі словамі тое, што тут напісана? – Не? – І я таксама не магу. Усё гэта шэраг выказванняў, узятых із розных рэлігійна-філасофскіх кніг і далучаных адно да другога ў галаве шмат і бязладна чытаўшага аўтара без якой бы то ні было сістэмы, як у калейдаскопе; нешта накшталт духоўнай музыкі, без усякага дачынення да пасьлядоўнасьці ідэй і характэрызуючы напалову сонны стан аўтара. З псіхіатрычнага боку гледжання гэта вельмі цікавы дакумент, і яшчэ ён больш цікавы з боку гледжання крытыкі шматлікіх іншых, такім жа чынам вывозімых із Індыі твораў, якім аднак жа, надаецца нават гістарычнае значэнне.

Упершыню мне давялося пазнаёміцца з гэтым відам несьвядомай творчасьці ў 1912 годзе, калі мяне аддалі на суд Маскоўскай судовай палаты, з удзелам прадстаўнікоў станаў, за зборнік вершаў "Зорныя Песьні", надрукаванага выдавецтвам "Скарпіён" грунтуючыся на артыкуле, які пагражаў шматгадовым заняволеннем.

Усе былі вельмі здзіўлены, што ўрад мае намер зноў заняволіць ва ўмацаванне чалавека, які ўжо прасядзеў у ім 25 гадоў, не ўлічваючы папярэдняга заняволення, і прытым грунтуючыся на цалкам пустой падставе: інкрымінуемыя вершы былі толькі перадрукаванннем тых, якія некалькі гадоў таму ўжо былі надрукаваны ў зборніку "Шлісельбургскія песьні", і безперашкодна прададзены ў свой час.

Калі я неўзабаве пасьля атрымання абвінаваўчага заключэння прыйшоў да маіх сяброў Небалсіных, маці гаспадыні, меўшая здольнасць западаць у "транс" згодна з уласным жаданнем, г. азн. у нейкі напалову сонны стан, пры якім яе рука, як казалі, сама пісала, ледзь прывітаўшы мяне, прамовіла ўсім:

– Маўчанне! Зараз я напішу, што з ім будзе.

Яна ўзяла аловак і аркуш паперы і, накіраўшы вочы некуды ў прастору, пачала пісаць, прамаўляючы кожнае слова глухім голасам. Закончыўшы пісаць на аркушы, яна як бы прыйшла ў сябе і пачала чытаць напісанае ёю ўжо сваім штодзённым голасам, як нешта новае для яе, пасьля перадала аркуш мне, прамовіўшы:

– Схавайце добра, і прачытайце, калі ўсе адбудзецца.

Вось гэты цікавы дакумент.

< ************* >

Ці не праўда, чытач, як усё гэта падобна на толькі што прыведзены дакумент, нібыта перакладзены Е. П. Блавацкай із таемнага санскрыцкага манускрыпта?

---

[204] У буддызме: Ху – пакута, Ту – злучэнне спакус, Му – разбурэнне граху і Таа – Шлях. "Пяць перашкод" – гэта ўсведамленне пакуты, усведамленне часовасьці чалавечай, цяжкай прызначанасьці чалавечага лёсу і абсалютнай патрэбе вызваліцца ад якіх бы то ні было павязяў запалу і нават ад жаданняў. "Шлях выратаваў сьвет" апошняя із іх.

І я скажу больш: выявілася, што ў такім жа стане экстазу с-ня Юркевіч, якая са сваёй маладосьці вельмі спачувала нашай барацьбе з самаўладдзем і праваслаўем, і была адукаванай і шмат чытаўшай жанчынай, напісала ў такім жа стане самнамбулізму (у які яна западала згодна з уласным жаданнем ледзь не кожны вечар) цэлы том псеўданавуковых наданняў таго ж тыпу, які мы маем і ў псеўда-індыйскіх тэосафаў. Некалькі старонак із гэтага свайго супра-натуралістычнага дзёніка даследаў яна чытала і мне, пытаючы пра маё меркаванне, і вы можаце ўявіць сабе маё становішча, чытаючы яе наданні па сваёй фантастычнасьці далёка пераўзыходзячыя раманы Вэлса, але толькі без яго планамернасьці. З майго боку гледжання (што наш розум тое ж, што павозка, якую, як пара коней цягнуць паўшар'і галаўнога мозгу, а вазнічым, які рэгулюе іхную дзейнасць з'яўляецца мозжачок) здавалася, што яе вазнічы ў гэты час засынаў, а абодва кані, адчуваючы поўную свабоду, неслі павозку па полю, як патрапіцца – то на поўнач, то на поўдзень, то да захад, то на ўсход. Узнікала ўражанне нейкай сапраўды мэтанакіраванай язды і нават з агульным настроем, але толькі нейкай цалкам бязмэтавай і не маючай нагоды!

Але менавіта гэты ж стыль мы бачым і ў шматлікіх пісаннях, прыпісваемых глыбокай старажытнасьці не толькі ў Азіі, але і ў Яўропе. Калі чытаешь іх, міжволі здаецца, што паўшар'і вялікага мозгу аўтара замест таго, каб працаваць асацыяцямі ідэй і набытых ўражанняў, пачалі карыстацца назапасіўшыміся ў іх шэрагамі пачутых або прачытаных імі фраз, адпаведна са сваім настроем. І калі аўтары і не пісалі іх у напалову сонным стане, як у толькі што прывядзеным выпадку, то гэта яшчэ не азначае, што ў момант сваёй творчасьці яны былі нармальнымі. Нездарма ж пра паэтаў сцвярджаецца, што яны, як гэта і сапраўды ёсць, твораць у стане натхнення, г. азн. вядомага роду экстаза, хаця яшчэ і не дасягаючага таго, каб іхнае апавяданне набліжалася да мяжы вар'яцкіх уяўленняў, як мы толькі што бачылі тут і бачым, напрыклад, у біблейскіх прарокаў, а таксама і ў індускай філасофіі. Менавіта такой нам яе паказваюць не толькі дакументы, нібыта існаваўшыя ў Індыі ў руках Блавацкай, але і прывезеныя адтуль іншымі паляўнічымі за "таемнай індыйскай літаратурай", пра якіх можна сказаць "на лаўца і звер бяжыць", так як большасць гэтых рукапісаў, паўтараю, больш як адным чалавекам не была знойдзена. Блавацкую я ўзяў тут, паўтараю яшчэ, таму, што яе зручней крытыкаваць, як найбольш неабароненую, з нагоды адсутнасьці ў яе афіцыйных патэнтаў на ўсходазнаўства, палахлівасьці яе бесцялесных духаў, збягаючых ад найменшай крытыкі.

Але справа ў тым, што калі мы прызналі, што прывядзеную напалову безсэнсоўнасць прыдумала сама Алена Пятроўна, у стане экстазу, гэтым самым мы скасоўваем звычайнае пярэчанне: як і хто мог напісаць усё астатняе, напісанае ад імя індусаў у тым жа русле. Адказ тут будзе адзін: у лепшым выпадку ўся індуская метафізіка ўзнікла, як і ў Блавацкай, а ў горшым, што гэта наўмысны падман з карыслівымі мэтамі.

Да якой ступені даходзіла містыка, а разам з ёю і пошукі сенсацыйных дакументаў у мала даступных на сёнішні час краінах, можна асабліва добра бачыць на гісторыі еўрапейскага спірытызму.

Да канца 70-х гадоў XIX стагоддзя ў Яўропе была сапраўдная манія спірытычных сеансаў. Я распавяду тут, перш за ўсё, гісторыю з фотаздымкамі духаў.

На пачатку, – паведамляе д-р Леман, – атрымалася фотаздымкі істот, якія былі бачнымі выключна медыумам, для ўсіх жа іншых застаючыся нябачнымі. Але праз 20 гадоў духі развілі матэрыялізацыю да такой дасканаласьці, што іх можна было назіраць вялікай колькасьці гледачоў і фатаграфаваць пры моцным электрычным асьвятленні. Іхнае дыханне і пульс былі вымераны, у іх адразалі пасмы валасоў, захоўваючы іх дзеля вечных успамінаў. Аднойчы на сеансе ў Круса, дзе абвясьціўся дух Кэці Кінг, адзін із удзельнікаў нават прама заявіў, што калі гэты дух з’яўляецца нейкай псіхічнай магутнасьцю, то апошняя павінна быць жанчынай.

Самые першыя фотаздымкі духаў адносяцца да часоў дагератыпіі. У адным амерыканскім спірытычным часопісе за 1856 г., яго рэдактар паведаміў, што доўгі час рабіў марныя спробы запісаць з'яўленне духаў на дагератыпічнай пласьціне, але што зараз маюцца самые вялікія надзеі дасягнуць гэтага.

Адзін прафесійны дагератыпіст, які быў у той жа час медыумам, зняў выяву са свайго маленькага сына, і на гэтым адбітку зверху выявілася шырокая воблакападобная сьветавая паласа, якая апускалася на плечы хлопчыка і там гублялася.

У гэтым жа годзе і ў тым жа часопісе паведамляецца пра другі падобны выпадак. Але пасьля гэтых вынікаў дух, відаць, перестаў выяўляць сябе такім шляхам: пра падобныя картачкі больш нічога не было чуваць аж да 1862 года. У гэтым годзе пачаў сваю дзейнасць Мемлер, самы, магчыма, вядомы із усіх асоб, якія заніmaліся фатаграфаннем духаў.

Ён першапачаткова быў граверам, але ў нядзелю ён меў звычай наведваць аднаго свайго сябра, які працаваў у фатаграфавальнай установе і паступова вывучыў тэхніку фатаграфавання, не маючы ў той жа час ніякага ўяўлення пра прыроду і дзеянне хімічных рэчываў. Знаходзячыся пад час адной із нядзель цалкам адзін у майстэрні свайго сябра, ён паспрабаваў зрабіць свой уласны партрэт і атрымаў пры гэтым на пласцінцы, акрамя сябе, яшчэ нейкую іншую фігуру. А зрабіць такую падвойную фатаграфію няма нічога прасьцей: варта толькі зняць на пласцінку недатрыманую выяву каго-небудзь, а пасьля, не праявіўшы пласьцінку, выкарыстаць яе, як навую, хаця б для фатаграфання вас, чытач. У выніку на пласьцінцы вы атрымаецеся ў нармальным выглядзе, а недатрыманая выява будзе бачнай каля вас або за вамі нападобе духа (мал....).

Ён пачаў працаваць ў якасьці фатографа медыума, але яго дзейнасць працягвалась нядоўга, так як выявілася, што на розных яго фотаздымках у выглядзе духа фігуруе выява асобы, якая была жывая.

Пры гэтым адкрыцці публіка страціла да яго давер, і ні пра яго ні пра яго картачкі больш нічога не было чуваць, пакуль ён не з'явіўся ў 1869 годзе ў Нью-Ёрку. І тут, аднак, праз некалькі месяцаў на яго было пададзена абвінавачанне ў падмане. Аднак судзьдзя вырашыў, што, хаця асабіста ён і перакананы ў тым, што абвінавачваемы дзейнічаў падманна, але ўсё-такі ў дачыненні да яго нельга вынесьці абвінавачваемы прысуд дзякуючы адсутнасьці дастатковых доказаў.

Такім чынам Мемлер быў апраўданы і яшчэ шмат гадоў працягваў сваю дзейнасць на радасць веруючым спірытам, а з прафесійнымі фатографіямі духаў, выступіўшым у Яўропе, справа пайшла значна горш. У 1872 годзе ангельскі фатограф Гедсан пачаў гатаваць такія ж выявы, якія атрымліваліся ў Мемлера, але яны былі выкананы настолькі груба, што ў саміх спірытаў узніклі падазрэнні і яны адмовіліся ад Гедсана. Але найбольшую ўвагу і абурэнне выклікаў Бюге ў

Парыжы. Рэкамендаваны Леймары, рэдактарам “спірытычнага агляду” і падтрыманы дастаткова вядомым у той час медыумам Фірманам, ён пачаў сваю дзейнасць у 1873 годзе. Але Ламбар, фатограф, які быў на службе ў вышуковай паліцыі, западозрыў, што ў яго ўсё заснавана на падмане. Ён з’явіўся пад несапраўдным імем да Бюге, з прапановай сфатаграфаваць яго разам з духам. А калі Бюге намерыўся ўставіць касету з пласьцінкай у апарат, Ламбар забраў у яго касету і запатрабаваў, каб пласьцінка была праяўлена без экспазіцыі. Бюге пачаў адгаворвацца тым, што выява духа ўжо раней магла знаходзіцца на пласьцінцы. Затым пры вобыску ў яго былі знойдзены лялькі, закутаныя ў саван, і звыш таго, шмат галоў, выразаных із фатаграфічных картачак і наклееных на картон. З дапамогай такіх прыстасаванняў Бюге падробліваў разнастайныя выявы духаў.

Хаця у гэтым выпадку шмат хто із людзей заявілі, што яны пазнаюць у выявах духаў на картачках Бюге сваіх памёршых сяброў, аднак абвінавачваемыя ўсё-такі былі прызнаны вінаватымі ў падмане: Бэге і Леймары расплаціліся годам турмы і грашовым штрафам у 500 франкаў, Фірман жа – шасьцю месяцамі турмы і штрафом у 300 франкаў.

Самым цікавым у гэтых фотаздымках духаў і ўзнікшых з іхнай нагоды працэсах магчыма была тая акалічнасць, што яны выразна паказваюць, наколькі моцнае ў чалавеку імкненне быць падманутым. Вядомы спірыт Аксакаў доўгі час з недаверам ставіўся да Бюге. Але хаця яго працэс цалкам відавочна даказаў, што Бюге быў проста падманшчыкам, Аксакаў усё-такі хапаецца за надзвычай слабую падпорку, намякаючы ў сваім адным лісьце, што пасярод шматлікіх тысяч фальшывых здымкаў, атрыманых Бюге нібыта з духаў, маглі аднак існаваць і сапраўдныя (“сапраўднае перамяшана з падманам”). Тое ж, на яго думку, можна сказаць і пра Гедсана. Пад славамі “сапраўднае” маюцца на ўвазе здымкі, на якіх можна знайсьці разнастайныя рэчы, – асабліва ж часткі адзення, – якія былі характэрыстычнымі для памёршых. На смутных выявах духаў (г. азн. на недатрыманых фатаграфічных пласьцінках), такі прадмет, які мае асаблівую форму, можа быць пазнаны значна лягчэй, чым рысы чалавечага твару, і таму падобная пэўная прыкмета міжволі здаецца моцным доказам сапраўднасьці выявы, вядома, калі лічыць, што фатограф не ведаў памёршага, а як следства і характэрнай для яго прыкметы і калі дух памёршага паклапаціўся, адлятаючы із цела, захапіць з сабой і дух свайго адзення і дух сваёй шапачкі; у адваротным выпадку фатограф, бяспрэчна, з такой жа лёгкасьцю пераняў бы дадзены доказ тоеснасьці, як і выяву самога духа; але, вядома, няма ніводнага апавядання ад імя вядомай асобы, з якога можна было бачыць, у якой ступені былі прыняты неабходныя захады засьцярогі. Калі грунтавацца на адной із нешматлікіх гісторый, апісаных з некаторай падрабязнасьцю, то гэтыя доказы не цалкам пераканаўчыя.

Вось адна з іх, надрукаваная вядомых спірытычным пісьменнікам Стэнтанам Мозесам пад псеўданімам М. А. (Оксан): місіс Х. жыла ў вёсцы ў пятнаццаці мілях ад Лондана і не ведала ніякіх іншых спірытаў, акрамя сваіх дзвух дачок, із якіх адна была медыумам. Праз гэтую дачку яна пастаянна атрымлівала паведамленні ад аднаго духа, які выдаваў сябе за яе памёршага бацьку; гэты дух вельмі жадаў паказаць сябе ёй, але магутнасць медыума была для гэтага недастатковай. Аднойчы вечарам, калі яны, як звычайна, сядзелі каля стукаючага медыумнага стала, раптам атрымалася паведамленне: “Ідзі да Гедсана, я пакажу сябе там”. Тады яны пагадзіліся ў тым, што трэба дамовіцца пра нейкую пэўную прыкмету на выпадак, калі падабенства выявы будзе нязначным, і маці паведаміла дочкам, што яна толькі

будзе думаць пра гэты прывід, але не назаве яго, каб яго не выдаць. Яна так і зрабіла і іхны стол паказаў сваімі ажыўленымі рухамі, што ён ўхваляе яе выбар.

Праз некалькі дзён, маці выправілася з той дачкой, якая была не медыумам, у Лондан. Дарогай дачка папрасіла ў маці, каб тая паведаміла ёй абраную прыкмету, так як калі гэтая прыкмета будзе вядома толькі маці, то скептыкі пазней лёгка магуць аспрэчыць усё. Маці паведаміла дачцы на вуха тое, што яна задумала. Пасьля прыбыцця ў Лондан яны развіталіся: дачка пайшла наведаць розныя лаўкі, а місіс Х. пайшла да сваёй прыяцелькі, каб ісьці разам з ёю да Гедсана. Яна ніколі не была ў яго раней, а ён нават не ведаў яе імя; але ўжо на самай першай пласьцінцы атрымаўся яе памёрлы бацька са сваімі выразнымі рысамі твару пад згаданай бархатнай шапачкай, якая была як раз тым доказам тоеснасьці, які задумала маці.

Такім з’яўляецца кароткі змест ліста і гэты факт бяспрэчна здаваўся б пераканаўчым, калі б аўтар артыкула прамаўчаў пра пытанне дачкі, і пра яе сыход за пакупкамі перад здымкам. Для чаго яе дачка абавязкова пажадала ведаць гэтую прыкмету? Хіба не натуральна падумаць, што яна, жадаючы прынесьці маці радасць, вырашылася на добразычлівы падман, паведаміўшы таяміцу Гедсану? У яе было дастаткова часу для гэтага, так як яна ведала, што яе маці павінна спачатку зайсьці да прыяцелькі, а Гедсан быў зацікаўлены ў захаванні сакрэту; такім чынам не ўяўлялася ні найменшай верагоднасьці, што справа будзе выкрыта.

Але гэтая гісторыя мае яшчэ і цікавы эпілог. У адной кнізе адносна фотаздымкаў духаў, якая з'явілася таксама ў 1894 годзе пад загалоўкам “Прыўзнятае покрыва” знаходзіцца наступнае літаральнае апавяданне пра гэты ж выпадак.

“Маці, – паведамляецца там, – пайшла да Гедсана са сваёй дачкой. Яна не паведаміла фатографу, што ёю задумана. Яна думала і жадала, каб паказаўся яе бацька. Яна нічога не паведаміла ні дачцэ, ні каму-небудзь іншаму пра тую прыкмету, якая была ёю абрана. Яна задумала, каб яе бацька з’явіўся ў сваёй асаблівай чорнай шапачцы, якую ён насіў пад час апошніх гадоў свайго жыцця. Гэтую прыкмету яна трымала ў таямніцы, пакуль не была праяўлена пласьцінка, а на ёй выразна бачылася шапачка, як гэта можна бачыць і на малюнку; рысы твару таксама былі адлюстраваны настолькі выразна, што не заставалася ніякіх сумневаў”.

Гэтае апавяданне служыць добрым прыкладам таго, якім чынам апісваюць у спірытаў факты. Аўтар без якой бы то ні цырымоніі апускае тут маленькую падрабязнасць, якая, вядома, і заключае ў сабе тлумачэнне ўсяго выпадка, менавіта, што дачка выманіла ў маці таямніцу, а гэта-та і было патрэбна верачаму аўтару.

Але калі спірытычныя пісьменнікі дапускалі падобныя памылкі нават у тых выпадках, калі ім былі вядомы сапраўдныя абставіны справы, то можна скласьці сабе прыблізнае ўяўленне па тое, наколькі надзейнымі з’яўляюцца іхныя паведамленні ў тых выпадках, калі яны выкладаюць свае ўласныя назіранні.

У той час, як усе выбітныя прафесійныя фатографы пазней выяўляліся падманшчыкамі, некалькі інакш было ў дачыненні да людзей, якія спрабавалі атрымаць фотаздымкі духаў грунтуючыся на простай цікавасьці да справы. Некаторыя із гэтых асоб, ва ўсякім разе, дзейнічалі з поўнай верай і цалкам не магуць быць западозраны ў сьвядомым падмане, а між тым некаторым із іх ўдалася атрымаць выявы духаў. Найвялікшую вядомасць сярод іх набыў ангелец Біці, чалавек, занімаўшы паважанае становішча ў грамадстве; ён быў фатографам, але пазней пакінуў гэты занятак. Калі былі выкрыты падманы Гедсана, яму прышла ў галаву думка самому даследаваць справу.

Для гэтага ён аб’яднаўся з некалькімі сваімі сябрамі, людзьмі сумленнымі і паважанымі, і наняў майстэрню і прылады ў аднаго спецыяліста-фатографа, Джастэя; гэты Джастэй, пра якога Біці нідзе далей не згадвае, пастаянна дапамагаў яму то ў здымках, то ў праяўленні, і часткова, відаць, служыў яму таксама ў якасьці медыума. Пра гэтага ўдзельніка нічога больш не вядома, акрамя таго, што ён пачаў піць гарэлку, страціў маёмасць і скончыў жыццё ў багадзельні.

Досьледы Біці былі здзейснены ў 1873 і 1872 гадах. Спірыты лічаць іх найбольш годнымі увагі із усіх падобных эксперыментаў, якія калі-небудзь былі зроблены. Спачатку на здымках нічога чужога не выяўлялася, але паступова пачалі з'яўляцца няправільныя сьветлыя часткі, якія, нарэшце, набылі выгляд чалавечых фігур. Прыкладзеныя фотаздымкі (мал.....) уяўляюць із сябе чатыры із картачак Біці, выбранныя з усяго іхнага шэрагу, каб паказаць паступовую эвалюцыю падобных фотаздымкаў і для безстаронняга даследчыка цакам зразумела, што перад здымкам Джойст, шануючы заробкі, выкарыстоўваў свае пальцы, намазаныя праявіцелем так, каб святло не ўздзейнічала на гэтыя месцы фатаграфічнай пласьцінкі. Але гэты маленькі і ў той жа час істотны недахоп досьледаў стаў вядомым толькі ў 1891 годзе, а першапачаткова весткі пра вопыты Біці ні словам не згадвалі пра ўдзел Джастэя, і таму зразумела, што яго фотаздымкі мелі вялікае значэнне для спірытаў.

Гэта азначае, зрабілі яны выснову, нябачныя для нашага вока духі магуць з'яўляцца ў выглядах выпускаючых хімічныя прамяні. Пагэтаму яны і дзейнічаюць на фатаграфічную пласьцінку, не ўздзейнічаючы на сеткавую абалонку звычайнага чалавечага вока. Заставалася толькі дасягнуць яшчэ новай прыступкі: заахвоціць дух выпускаць бачныя прамяні, тады перамога спірытызма будзе відавочнай і канчатковай. Гэтая новая прыступка бачнасьці духаў і была дасягнута неўзабаве пасьля таго, як Біці вырабіў свае стаўшыя эпохай фотаздымкі. Ужо гады за два да гэтага із Амерыкі прыйшла вестка, што духі выразна з’явіліся перад цэлым сходам у прысутнасьці медыума м-ра Эндру. Еўрапейскія медыумы неадкладна пачалі ладзіць сеансы з той жа мэтай, і ім таксама хутка ўдалося выклікаць такія з'явы. Падазронай тут была толькі адна акалічнасць: матэрыялізаваныя духі заўсёды праяўлялі крайняе падабенства з самімі медыумамі не толькі ў рысах твару, але і ў голасе, і ў паходцы, і ў вымаўленні. На ўвазе гэтага праціўнікі спірытызму пачалі разважаць пра падман, і за дазнанне справы ў 1872 годзе ўзяўся знакаміты ангельскі фізік Крукс, якога ніяк нельга было западозрыць ў падмане. У якасьці медыума ён выбраў пятнадцацігадовую дзяўчынку Фларэнсу Кук, ад якой, дзякуючы яе юнаму ўзросту, нельга было чакаць ніякага падману. Больш за два гады яна знаходзілася ў выключным падпарадкаванні ў Крукса і яго сябраў: яны ўвесь час эксперыментавалі з ёю на розных прыватных кватэрах і пры ўсіх магчымых захадах засьцярогі, каб выключыць усякі падман. І ўсё-такі яны не змаглі высветліць, каго ўяўляла із сябе тая фігура, якая пастаянна з’яўлялася разам з ёю. Яны былі занадта джэнтльменамі, каб паставіцца да яе недэлікатна. Паведамленні пра гэтыя досьледы друкаваў то той, то другі із удзельнікаў сеансаў, і гэтыя артыкулы раскіданы ў розных перыядычных выданнях. Найбольш цікавыя ўрыўкі із іх прыведзены ў аксакаўскіх “Псіхічных эцюдах” (1874 г.), але апісанні і тут настолькі кароткія, што цалкам абгрунтавана можна лічыць, што ў іх апушчаны шмат якія із істотных падрабязнасьцей. Таму зараз няма магчымасьці вызначыць, менавіта хто быў духам, называўшым сябе Кэці Кінг і заўсёды суправаджаўшым Фларэнсу. Сам ён паведамляў, што уяўляе із сябе матэрыялізаваны вобраз адной

прыдворнай дамы, Эні дэ-Морган, часоў каралевы Ганны, а калі не верыць яго словам, то застаецца толькі тры магчымасьці: або Фларэнса сама выконвала ролю духу, ці ж гэта была яе памочніца, або часова фігурыравалі то тая, то другая.

За тое, што Фларэнса Кук і Кэці Кінг былі адной і той жа асобай, кажа тая акалічнасць, што ніхто не бачыў іх абодвух адначасова. Падчас досьледаў Фларэнса пастаянна ляжала ў стане трансу ў цёмным месцы, якое было адгароджана ад месца знаходжання гледачоў шчыльнай занавескай, тады як дух часта на працягу цэлых гадзін вольна перамяшчаўся паміж гледачамі. Удзельнікі толькі па аднаму атрымлівалі дазвол заходзіць у цёмнае месцазнаходжанне медыума, але тут, калі яны бачылі Фларэнсу, то дух Кэці Кінг звычайна для іх знікаў. На адным із апошніх сеансаў Кэці была сфатаграфана пры дапамозе электрычнага асьвятлення, прычым занавеска была адкінута ў бок так, што можна было бачыць і Фларэнс, але на фотаздымку, паказанаму тут (мал.), бачна толькі частка нейкай фігуры, твар якой закрыты адзеннем Кэці. Таму можна думаць, што Фларэнса тут сама выконвала ролю духа, пры гэтым клунак набітага адзення павінны быў уяўляць яе ж спячай, на што, аднак, мала паходзіць атрыманая выява. У іншых жа выпадках, відаць, фігурыравалі дзьве падобныя адна на адну асобы, хаця і дзіўна, што яны не далі сфатаграфаваць сябе адначасова. Удзельнікі сведчаць, што хаця яны несумненна былі вельмі падобныя адна на адну, але Кэці была на паўгалавы вышэй медыума, яе валасы былі больш светлыя і пышныя, і яе вушы былі пазбаўлены праколаў, тады як Фларэнса звычайна насіла завушніцы. Звыш таго, Кэці была паўнейшай і мела больш сьветлае адценне скуры. Яна заўсёды з’ўлялася ў белым адзенні, з выразам на шыі, а Фларэнса да пачатку сеанса звычайна была ў цёмным, шчыльна закрываўшым шыю плацці. Часта Крукс, заходзячы ў цёмнае памяшканне, бачыў там Фларэсу ўсяго праз некалькі секунд пасьля таго, як Кэці станавілася бачнай для ўсіх, і лічыў немагчымым, каб яна магла так хутка перамяніць сваю вопратку. Пры некаторых досьледах ён ўжываў нават электрычную прыладу, якая адразу ж паказвала на найменшы рух Фларэнсы і ён не заўважаў ніякай змены, у той час як Кэці Кінг хадзіла сярод гледачоў.

Але кім жа была гэтая Кэці? Яна была як цалкам жывая адчуваемая на дотык дзяўчына. Крукс шчупаў яе пульс і дасьледаваў яе дыханне; ён адрэзаў у яе завіток, пасьля таго, як пераканаўся, што ў яе на галаве сапраўды былі валасы. Аднойчы ён нават пацалаваў яе, вядома, пасьля асобна запытанага дазволу. Пры гэтым, згодна з яго ўласнымі словамі, ён прыйшоў да пераканання, што яна уяўляе сабой такую ж цялесную жанчыну, як і ўсе. Іншыя прысутнічаўшыя таксама сведчылі, што яны мелі выпадак адчуць цеплыню яе цела скрозь яе лёгкае адзенне. Яны нават ледзь ці не скакалі з ёю. Але чаму ж яны цалкам не асьвятлілі пакой? Але як жа можна было гэта зрабіць, супраць волі дамы, якая, вядома, пакрыўдзіцца, знікне і больш не прыйдзе? Крукс і яго супрацоўнікі нават не паклапаціліся даведацца, ці няма ў Фларэнсы зямной сваячкі, чым адразу былі б патлумачаны як і іхнае значнае падабенства, так і іхныя індывідуальныя адрозненні. Але гэтай высновы Крукс аднак не зрабіў. Як праўдзівы джэнтльмен, Крукс лічыў немагчымым, каб малодзенькая Фларэнса на працягу некалькіх гадоў магла здзяйсняць наўмысныя падманы. Ён хутчэй пагаджаўся, што дух Кэці ўяўляў із сябе род яе выпраменьвання, вынік яе псіхічнай магутнасьці. Але якім чынам псіхічная магутнасць можа ствараць самастойную, разумную істоту з целам і крывёй, у якой можна падлічыць пульс і нават на памяць адрэзаць завіток, – пра гэта ён прамаўчаў.

Але вось, праз сем гадоў надышоў і фінал. Напрактыкаваўшыся хадзіць у прыцемку сярод гледачоў у якасьці ўвасобленага на час духа, Фларэнса ў 1879 і 1880 гадах наладзіла ў "Брытанскай асацыяцыі спірытолагаў" і правяла шэраг сеансаў, на якіх з'яўлялася ў выглядзе Кэці. Але тут, на жаль, не ўсе выявіліся джэнтльменамі. У некаторых із прысутных узнікла падазрэнне, што яна (быўшая тады ўжо адружанай з м-рам Карнерам) сама выконвае ролю духа, пераапранаючыся ў белае адзенне. На адным сеансе, 9 студзеня 1880 года, яны ўскочылі і раптоўна схапілі дух Кэці, які, пры поўным асьвятленні і пасьля даследавання, сапраўды выявіўся самой Фларэнсай, толькі з фланеллю пад плаццем і ў карсеце.

Спірыты абвясьцілі гэты сумны выпадак "псеўдаматэрыялізацыяй". Яны сцвярджалі, што медыум, лежачы ў трансе, лёгка можа пад уплывам саманадання несьвядома выступіць у ролі духа, перш, чым пачнецца сапраўдная матэрыялізацыя. Акрамя вышэй паказанага круксаўскага фотаздымка Кэці Кінг і Фларэнсы Кук, быў праз дзясяткі гадоў атрыманы і яшчэ адзін праўдзівы фотаздымак, адначасова адлюстроўваўшы як духа так і медыума, паказаны на мал.81. Гэты фотаздымак быў зроблены ў 1887 годзе Аксакавым у адным лонданскім прыватным згуртаванні. Роль медыума тады выконваў вядомы, і неаднаразова абвінавачаны ў падмане Эглінгтон, дух жа, які не быў цялесна даследаваны прысутнымі, даволі падобны на лялька, створаную із маскі, сюртука і просьціны. А сам фотаздымак, нават і ў арыгінале, настолькі невыразны, што спачатку трэба паставіць пытанне, ці не з'яўляецца "дух" – медыумам, а медыум – куклай. Ды і пакінутае Аксакавым апісанне таго, што адбывалася на сеансе, ніколькі не выключае магчымасьці лічыць, што Эглінгтон выконваў абедзьве ролі, з'яўляючыся наперамену, гледзячы на абставіны, то ў сваім уласным адзенні, то у адзенні "духа".

Мы бачым, што з часу прывозу духаў у Яўропу із Індыі Аленай Пятроўнай фон-Ган-Блавацкай, яны моцна памножыліся ў Заходняй Яўропе і Амерыцы і нават пачалі набываць цялесныя формы, у якіх іх немагчыма было адрозніць ад жывых людзей. Яны яшчэ не былі ганараваны магчымасьцю назаўжды застацца паміж намі, але пакідалі на памяць свае валасы і нават дазвалялі рабіць гіпсавыя адбіткі са сваіх рук і ног, згодна са спосабам амерыканскага геолага Дэнтона. Неяк аднойчы гэты навуковец зрабіў тое назіранне, што калі апусьціць палец ў растоплены парафін, а затым апусьціць у халодную ваду, то на пальцы атрымліваецца тоўстая парафінавая абалонка, якую можна зняць, не пашкодзіўшы яе. Калі потым напоўніць гэты парафінавы футляр гіпсам (або зноў стэарынам), то атрымліваецца цалкам дакладны адбітак пальца: кожная пора і лінія скуры адлюстраваны на ім так выразна, што ніводзін мастак не мог бы адлюстраваць іх з такой дакладнасьцю. І вось ён выкарыстаў гэта на адным сеансе з матэрыялізацыяй і атрымаў ад пальцаў матэрыялізаваўшагася перад усімі духа адбітак пальцаў, якія не мелі ніякага падабенства з пальцамі прысутных. Спірыты пачалі потым такім спосабам рабіць адбіткі нават цэлых рук і ног, лічачы гэта моцным доказам прысутнасьці духа.

У кнізе Аксакава "Анімізм і спірытызм" (частка І) знаходзяцца шматлікія паведамленні пра падобныя сеансы. Здабытыя формы былі то цалкам падобнымі з рукамі і нагамі медіума, то не, а у апошнім выпадку нідзе няма поўнай гарантыі таго, што медыум не меў дадзеную форму пры сабе яшчэ да пачатку сеанса.

Сярод людзей, якіх нельга, вядома, западозрыць у шарлатанстве, апынуўся і Фрыдрых Цэльнер (1834-1882 г.г.), прафесар астрафізікі ў Лейпцыгу, заняўшага

становішча падобнае з Вільямам Круксам. Іхныя паведамленні ўжо нельга было без асаблівых тлумачэнняў абвясьціць вынікам фантазіі. Навуковы аўтарытэт Крукса і Цельнера меў як для спірытаў, так і для іхных праціўнікаў больш вялікае значэнне, чым тысяча аднастайных сведчанняў, зробленых асобамі, імя якіх чуеш першы раз у жыцці. З гэтай нагоды і пры разгляданні з'яваў, ужо задоўга да іх назіраўшыхся іншымі, для нас асабліва цікавы вынікі, да якіх прыйшлі гэтыя даследчыкі.

Досьледы Цельнера былі здзейснены сумесна з амерыканскім медыумам Генры Слэдам і пераважна мелі дачыненне да дваякага роду з'яваў: "непасрэднага пісання" і "пранікальнасьці матэрыі".

"Непасрэднае" ці "псіхічнае пісанне" ўпершыню было вынайдзена ліфляндзкім баронам Людзвігам фон-Гюльдэнштубе і яго сястрой Юліяй. Ён выдаў справаздачу пра свае досьледы пад загалоўкам "Пазітыўная і эксперыментальная пнеўматалогія" <...> (Парыж, 1857 г.). Ён пачаў, згодна з яго неправеранымі славамі, з таго, што паклаў паперу і аловак у замкнёную шкатулку, ключ ад якой ён пастаянна насіў з сабой. Ад часу да часу ён аглядаў паперу. Пасьля заканчэння дванаццаці дзён на ёй упершыню з’явіліся нейкія містычныя адзнакі. Пры далейшым жа назіранні, адчыніўшы шкатулку, ён выразна пабачыў, што пісанне як бы зараджаецца на паперы, без якога б та ні было ўдзелу алоўка. З гэтага часу ён цалкам адмовіўся ад алоўка і паступова атрымаў тысячы псіхаграм проста таму, што клаў кавалак белай паперы на стол у сваім пакоі, або на падстаўку нейкай статуі ў грамадзкім будынку, на надмагільны помнік у царкве або на могілках. Падобныя факты мелі месца ў Антычнай зале Луўра, у саборы Сэн-Дэні, у Брытанскім музеі, у Вестмінстэрскім абатстве, на розных парыжскіх могілках і г. д, часта (зноў дададзім, згодна з яго ж уласнымі свдчаннямі) у прысутнасьці шматлікіх сведак. Гэтыя пісанні пастаянна належалі духам знакамітых памёршых і, як Гюльдэнштубе, так і яго сястра, бачылі іх на ўласныя вачы за працай.

Другім чалавекам (пасьля Гюльдэнштубе), зрабіўшым найбольшыя поспехі ў вобласьці псіхаграфіі, быў амерыканец Слэд. У сябе на радзіме, згодна з яго славамі, ён дамогся непасрэднага пісання ўжо ў 1860 г. Але вядомасць ён набыў толькі з таго часу, як у 1876 годзе прыехаў у Лондан і тут наладзіў публічныя сеансы. Гэтыя апошнія абудзілі да яго вялікую ўвагу, у іх бралі ўдзел шмат хто із больш ці менш вядомых людзей, якія паведамілі пра свае назіранні ў газетах і часопісах. Сябры Брытанскай асацыяцыі спірытаў выказалі жаданне дакладна даследаваць здзяйсняемыя Слэдам з'явы ў сваім уласным памяшканні. Слэд пагадзіўся, але з той дзіўнай умовай, каб пры доследах кожны раз прысутнічала не больш двух сябраў. Чаму ж не больш, калі тут не было ніякага падману?

Але вось апісанне двух сябраў. Першы – м-р Эдэмс піша між іншым: "Слэд быў праведзены ў прызначаны для доследу пакой, дзе ён пасьлядоўна прынімаў па два чалавекі. Апошнімі туды зайшлі м-р Хена і я. Мы знайшлі Слэда стаяўшым каля звычайнага складаемага стала, які разам з трыма прызначаннымі для нашага сядзення крэсламі быў аддалены ад астатніх рэчаў, знаходзіўшыхся ў пакоі, на адлегласць ад васьмі да дзесяці футаў. Я выказаў жаданне, каб што-небудзь было напісана ў маёй нататкавай кніжцы, якую я падаў Слэду разам з кавалкам сіняга алоўка. Слэд, узяўшы кішэнную кніжку, трымаў яе над сталом адкрытай і цалкам у нас на вачах; затым ён паклаў перададзены яму мной кавалак алоўка на разгорнутую старонку і закрыў кніжку, наколькі гэта дазваляў зрабіць яго вялікі палец, якім ён трымаў кніжку за адзін яе кут. Праз хвіліну мы пачулі ўказанне, што справа зроблена, хаця за гэты час медыумам не было зроблена ніводнага руху, так

як мы цалкам маглі бачыць як кніжку, так і абедзьве рукі Слэда; ў кніжцы сапраўды выявілася пісьмовае паведамленне". Але змест паведамлення з нейкай нагоды не паведамляецца.

А м-р Хена піша пра гэта ж: "М-р Эдмендс выказаў жаданне, каб што-небудзь было напісана ў яго кішэннай кніжцы. На яе быў пакладзены кавалак каляровага алоўка, Слэд трымаў яе цалкам разгорнутай, але напалову бачнай для нас, а напалову схаванай пад кутом стала. Пасьля заканчэння хвіліны кніжка выявіла ўстрасанне пры адсутнасьці якога б то ні было руху з боку медыума, і мы пачулі ўказанне, што нешта напісана; мы мелі магчымасць бачыць як кніжку, так і абедзьве рукі Слэда".

І так, згодна з адным сведчаннем Слэд трымаў кніжку загорнутай над сталом, а згодна з другім выходзіць як раз наадварот: кніга была не загорнутай, а разгарнутай і не бачнай не ўся, а часткова знаходзілася пад сталом. Але гэта не адзіная супярэчнасць: і ў паведамленнях іншых сябраў камісіі сустракаюцца падобныя, хаця і не такія значныя супярэчнасьці. Звыш таго, адно паведамленне выпускае із-пад увагі надзвычай важную акалічнасць, пра якую згадвае іншае. Так, напрыклад, Эдмендс ў сваім прыведзеным вышэй апавяданні сведчыць, што яны бачылі падвойную лодку, калі тая была пакладзена на стол; між тым м-р Хена цалкам не згадвае пра гэта. А самае ж важнае, усюды і заўсёды вяўляецца, наколькі мне вядома, як бы наўмысна прапушчаным: якім было асьвятленне пакоя, у якім з'яўляліся духі і здзяйсняліся гэтыя цуды. Чытаючы, лічыш, што справа адбывалася калі не днём, то, ва ўсякім разе, у прыцемку, або пры слабым лампавым асьвятленні, а калі мне даводзілася асобна задаваць пытанні непасрэдным удзельнікам, то выяўлялася, што іхныя сеансы заўсёды адбываліся хаця б часткова ў поўнай цемры, калі ніхто не мог ні бачыць нічога, ні фатаграфаваць. "Каму ж зараз верыць? – Пытаецца д-р Леман (стар. 344). Калі разныя паведамленні адносна той жа самай рэчы ў такой ступені адрозніваюцца паміж сабой і выпускаюць важныя акалічнасьці (накшталт асьвятлення пакоя), то гэта, бясспрэчна, не ўмацоўвае нашага даверу да надзейнасьці назіраючага. Бо пры гэтых умовах магчыма, што абодва бакі памыліліся нават і ў той частцы, дзе яны пагадняюцца паміж сабой. Таму і пры даследаванні "Брытанскай асацыяцыі спірытаў" прыходзіцца перш за ўсё шукаць якім спосабам Слэд падмануў іх. А тое што ён падмануў, гэта было нават засьведчана.

У верасні 1876 года прафесар заалагіі Ланкастэр нарэшце западозрыў, што доследы Слэда не што большае як спрытна выкананыя фокусы, і калі Слэд апускаў пад стол нібыта чыстую дошку, Ланкастар імгненна выхапіў яе ў яго і пабачыў, што там ужо мелася "паведамленне ад духаў". Ён яшчэ і раней заўважыў, што ўся рука Слэда здзяйсняла такія рухі, як быццам бы ён пісаў ў цемры на дошцы. Ланкастэр распачаў супраць Слэда абвінавачанне ў падмане, і той, згодна з ангельскім "закон пра валацуг-шарлатанаў" быў асуджаны на тэрмін тры месяцы працоўнай турмы, але апеляцыйны суд адмяніў гэты прысуд, хаця і не грунтуючыся на сутнасьці справы, а толькі на грунце таго, што была парушана форма. Слэд быў вызвалены і ў наступным годзе жыў напераменку ў Ангельшчыне і Галандыі. Восенню 1877 г. ён прыбыў у Берлін, дзе яго дзейнасць абудзіла такую ж увагу, як і ў Лондане. Але, не гледзячы на ўсе намаганні, берлінскія спірыты не змаглі заахвоціць да дасьледавання гэтых з'яваў ні Гельмгольца, ні Вірхава ні іншых знакамітых навукоўцаў, і толькі ў Лейпцыгу гэтай справай адважыўся заняцца вядомы астрафізік Цельнер. 15 лістапада 1877 г. Слэд, згодна з яго

запрашэннем, упершыню з’явіўся ў Лейпцыгу, і Цельнер эксперыментаваў з ім да чэрвеня 1878 г. Пры гэтых досьледах “здольнасьці” Слэда дасягнулі сваёй вышэйшай праявы: у прысутнасьці Цельнера ў яго выдатна атрымліваліся разнастайныя досьледы, якіх пасьля яго ніколі не ўдавалося паўтарыць зноў. Апісанне іх Цельнер надрукаваў, разам са сваімі высновамі, у трох тамах сваіх “навуковых артыкулаў” (Лейпцыг, 1878-79), дзе самім досьледам прысьвечана толькі нязначная частка зместу гэтых тамоў, змяшчаючых ў сабе 2000 старонак. А большая частка іх прысвечана лютым нападам Цельнера на розных нямецкіх навукаўцаў за тое, што яны не згадзіліся на дасьледаванне здзяйсненняў Слэда, а пастаянна лічылі яго спрытным фокуснікам, які ўвесь час падманваў яго, Цельнера. Яго гарачае жаданне даказаць праўдзівасць дасьледаў медыума ператвараецца тут у сапраўдную манію і замест таго, каб паведаміць цалкам дакладныя звесткі пра свае досьледы і паказаць іх у такім выкладанні, якое б цалкам выключыла б усякую думку пра магчымасць пры дадзеных умовах якога заўгодна падману, ён абмяжоўваецца тым, што паведамляе на некалькіх радках высновы, прапускаючы атачаючыя абставіны; але пры гэтым узнагароджвае сваіх праціўнікаў адборнымі абразамі. Толькі ў выглядзе выключэння, Цельнер апускаецца да апісання самага галоўнага, менавіта атачаючых абставін. Пра адзін са сваіх цікавейшых досьледаў у дачыненні да пісання ён паведамляе, напрыклад, наступнае: (т.2 с. 216, заўв.)

“Дзьве самім мной набытыя, пазначаныя меткамі і старанна выцертыя аспідныя дошкі былі моцна замацаваны разам крыжападобна накладзеным шнуром у 4 квадратных міліметры таўшчынёй, пасьля таго як спачатку паміж імі быў змешчаны адломак ад новага грыфеля таўшчынёй каля 5 міліметраў. Такая дошка была пакладзена каля самага кута, незадоўга перад тым асабіста мной набытага, ламбернага стала із арэхавага дрэва. У той час як В. Вебер, Слэд і я сядзелі за сталом і рабілі магнетычныя досьледы, прычым усе нашы шэсць рук ляжалі на стале, а рукі Слэда былі аддалены ад дошкі на адлегласьць больш за два футы, раптам паміж нікім некранутымі дошкамі пачуліся вельмі выразныя гукі пісання. Развязаўшы пазней дошкі, мы знайшлі дзевяць наступных радкоў... На дошцы знаходзілася тая метка, якую я раней нанёс на яе, так што тут не магло быць гаворкі пра яе падмену, або папярэднюю падрыхтоўку”.

Але ж нават самы пасрэдны штукар быў бы ў стане напісаць што-небудзь на пары злучаных разам дошак, у той час як два седзячых каля яго навукоўцы заняты магнетычнымі досьледамі: ледзь ці можна знайсьці больш спрыяльные ўмовы для падману. Ды і, звыш таго, і сам Цельнер ухапіўся за гэтыя з'явы з мэтай чаго б гэта ні каштавала падцвердзіць свае разважанні пра тое, што чыстая алгебра ў дычыненні да геаметрыі не абмяжоўвае прастору межамі трох вымярэнняў – даўжынёй, шырынёй і вышынёй. Сапраўды, калі мы лініі пазначым праз **a** (мал...), то зроблены на ёй квадрат будзе $\mathbf{a^2}$, пабудаваны на квадраце куб будзе $\mathbf{a^3}$. Але ж алгебра дае нам магчымасць напісаць і a, a, a, і г. д. Чаму ж прастораваму будуць адпавядаць гэтыя алгебраічныя выразы? Выяўляецца, што не існуе даступнай для нашага руху прасторы: усе жывёлы маюць магчымасць рухацца толькі ў даўжыню, шырыню і вышыню, але не магуць рухацца грунтуючыся яшчэ і на чацьвёртым вымярэнні, якае не з’яўляецца ні даўжынёй, ні шырынёй, ні вышынёй, а нечым цалкам асобным. І акрамя таго, фізіка паказвае нам што ні ў адну із такіх шматмерных прастор не заходзяць і фізічныя магутнасьці прыроды. Так можна даказаць, што ў двухмернай прасторы, якой з'яўляецца паверхня гэтага аркуша паперы, святло, прамяністая цеплына, электрамагнітныя хвалі і сама магутнасць прыцягнення слабелі б прапарцыйна сваёй адлегласьці ад кропкі свайго выходжання, што і можна доказаць для сьвятла, распаўсюджваючагася ў вузкай

прасторы паміж двума люстэркавымі паверхнямі, у трохмернай (аб'ёмнай) прасторы ўсе гэтыя магутнасьці прыроды павінны слабець прапарцыйна квадрату адлегласьці, як гэта і выяўляецца. Ва уяўляемай чатырохмернай прасторы, як паказвае тая ж матэматычная тэорыя, яны б слабелі прапарцыйна кубу, пяцімернай прапарцыйна чацвёртай ступені адлегласьці ад кропкі свайго выхаду і г. д. Але ўсе натуральныя магутнасьці прыроды слабеюць у бясконцай вольнай прасторы сусьвету толькі прапарцыйна квадрату адлегласьці ад сваёй пачатковай кропкі... І вось Цельнер прыйшоў да высновы, што існаванне прастораў больш высокага вымярэння можна даказаць тым, што ў іх здольны залятаць духі. Але тады зразумела, што яны магуць нечакана з'яўляцца ў цалкам замкнёных прасторах. Уявіце, напрыклад, што яны магуць лётаць не толькі ў даўжыню, шырыню і вышыню але таксама і ў мінулае і будучыню.

Так як мы адчуваем толькі наш час, які з'яўляецца мяжой паміж мінулым і будучыняй, яны павінны, пераляцеўшы, напрыклад, у мінулае, цалкам схавацца ад здольнасцей нашых адчуванняў, а затым пераляцеўшы ў наш час, зноў з'явіцца паміж намі, і тады адбываюцца нейкія цуды.

Вось, напрыклад, заткнутая бутэлька, і вось сьвінцовая куля. Як яе памясьціць ў заткнутую бутэльку? Для нас гэта немагчыма. А дух можа захапіць гэтую кулю з сабой у мінулае (пры гэтым яна знікне на нашых вачах) выбраць у мінулым той момант, калі бутэлька была яшчэ незаткнутай, пакласьці кулю туды, вярнуць яе ў наш час, калі мы зноў яе пабачым, а сам дух зноў вернецца ў наш час да спірытычнага стала.

Вы самі бачыце, як важна было для Цельнера, прыйшоўшаму да высновы пра існаванне яшчэ чацвёртага вымярэння нашага сусьвету (якае я тут атаясаміў, дзеля зразумеласьці, з часам яе існавання), знайсьці доказы такіх з'яваў.

Слэд быў для яго сапраўдным скарбам. Ён рабіў цуды, нават нашмат больш цікавыя, чым звычайныя пад час сьпірытычных сеансаў фокусы, калі нейкая рэч перад тым знаходзіўшаяся перад вамі, праз некаторы час выяўлялася ў замкнёнай вамі ж шафе, таму што ключ да яе можна было і падрабіць. Пад уплывам містычнай магутнасьці Слэда (якога так недэлікатна злавіў на круцельстве толькі прафесар заалогіі Ленкестэр у Лондане і больш ніхто) у прысутнасьці Цельнера з'явіліся вузлы на шнурку, абодва канцы якога былі запячатаны ўласнай пячаткай Цельнера, што магло быць, вядома, зроблена толькі ў тым выпадку, калі дух на імгненне перамясьціў яго ў мінулае, калі канцы яшчэ не былі запячатаны і зрабіўшы на ім вузлы, зноў вярнуць іх у наш час. І гэтым жа тлумачылася і тое, што калі замест шнурка выразалася із кішкі кола, на якім нельга было зрабіць вузла без яго разарвання, то нягледзячы на ўсе намаганні Слэда іх не з'яўлялася.

Але чытач сам, вядома, разумее што пры гарачым жаданні Цельнера атрымаць такія вынікі і пры спрытнасьці Слэда, які падчас сваіх сеансаў мог нават і загіпнатызаваць Цельнера, нам няма патрэбы спасылацца на чацьвёртае вымярэннем сусветнай прасторы. Спрытнасць штукароў часта бывае ўражваючай. Я сам разумею, як адна маладая жанчына здзівіла і мяне самога. Яна даставала сваю насавую хусьцінку, мы клалі ў яе запалку, яна закручвала яе ў хусьцінку, выцягнуўшы перад намі голыя рукі і паказваючы, што ў іх нічога няма, а затым давала нам усім пераламаць у хусьцінцы запалку. Мы зразумела нашчупвалі яе ў хусьцінцы, у ламалі так, што пры пераходзе праз некалькі рук яна ператваралася ў дробныя кавалачкі. А затым, пасьля некалькіх замаўленняў, хусцінка разгортвалася і спічка выяўлялася там цалкам цэлай. Пра магчымую падмену, здавалася не магло

быць і гаворкі, і мы так бы і разышліся ў поўным здзіўленні. Але на мае ўзмоцненыя прашэнні яна паказала свой сакрэт. Яшчэ раней, перш чым яна прыйшла ў наш гурток, яна ўжо прыгатавалася накіраваць размову так, каб мы самі папрасілі яе паказаць нам што-небудзь. Яна папядне паклала запалку ў край сваёй насавой хусьцінкі так, што калі яна выцягнула яе са сваёй кішэні і патрэсла перад нашымі вачамі, яе ніяк нельга было заўважыць. А загарнуўшы ў хусьцінку нашу запалку, яна нам дала ламаць не яе, а сваю запалку, у краі, падвярнуўшы яе таксама ў сярэдзіну. У выніку атрымалася нешта сапраўды ўражваючае.

Чытач, верагодна, ужо здагадаўся, што я прывёў тут як Крукса так і Цельнера толькі для таго, каб паказаць: ад містыфікацый нас не засьцерагае нават і сведчанне цалкам добрасумленных і знакамітых навукоўцаў новага часу.

Затым наступае рэакцыя і недавер. На адным матэрыялізацыйным сеансе ў Галандыі, які меў месца ў 1878 годзе, у чыста спірытычным гуртку, прысутнічаўшыя схапілі медыумаў Вільямса і Рыту і выкрылі іх у тым, што яны самі выконвалі ролю духаў. 1880 год прынёс не менш за два падобных сенсацыйных выпадкі, прычым у адным із іх справа ішла, як мы бачылі, пра Эглінгтона ў Мюнхене, а ў другім пра Фларэнсу-Кук, містыфікаваўшай фізіка Крукса. Наступныя гады таксама былі запоўнены выкрываннямі: у 1881 г. былі выкрыты м-р і м-рыс Флетчар, у 1882 м-рыс Вуд; асабліва выбітным у гэтым дачыненні быў 1984 год, калі вядомы ўсёй Яўропе медыум, амерыканец Басціян, быў абвінавачаны ў падмане австрыйскім кронпрынцам Рудольфам і эрцгерцагам Янам[205].

Пры ўсіх такіх выпадках спірыты натуральна спрабавалі паслабіць дрэннае ўражанне пры дапамозе больш ці менш дасьціпных гіпотэз і тлумачэнняў, як мы ўжо гэта бачылі на прыкладзе выпадка з Фларэнсай. Медыумы сталі больш баязлівымі і гэта, ў сваю чаргу, паменшыла іхныя медыумныя здольнасьці, так што шмат хто із іх больш не адважваўся выступаць публічна, некаторыя ж праявы іхнай магутнасьці былі параўнальна нязначнымі. У наступныя гады медыум стаў вялікай рэдкасьцю. Гэтаму істотным чынам садзейнічала і з'явіўшаяся ў 1881 годзе ў Лондане кніга “Споведзь медыума” (1883 г, стр.191). Вядомы па працэсу Бюге медыум Альфрэд Фірман меў на працягу некалькіх гадоў сваім памочнікам нейкага Чэпмена, які патроху быў пасьвечаны ва ўсе таямніцы прафесійнага медыума. Пры гэтым ён даведаўся, што фізічныя праявы – ва ўсякім разе ў медыума Фірмана – былі проста штукарскімі хітрыкамі. Нарэшце яму стала невыносным далей пастаянна падманваць легкаверных і прастадушных людзей, і ён адмовіўся саўдзельнічаць. За гэта Фірман пакінуў яго ў чужой краіне, дзе ён быў пазбаўлены ўсякіх сродкаў да існавання і таму парушыў дамову маўчання і напісаў згаданую кнігу. У ёй сеансы фізічных медыумаў, апісаны з такой дасканаласьцю, якая ні ў кім із прысутнічаўшых калі-небудзь на падобных пастановах не магла пакінуць сумневаў у тым, што аўтар цэлыя годы меў непасрэднае дачыненне да гэтай дзейнасьці. Тут жа былі падрабязна апісаны і ўсе хітрыкі для вытварэння згаданых з'яваў.

Рэдактар псіхічных эцюдаў Вітынг нават скарыстаўся гэтым выпадкам, каб адкрыта прызнаць несумненную падробленасць лепшых доказаў на карысць матэрыялізацыі духаў. Ён меў на ўвазе таксама і некалькі парафінавых выяваў, знятых з рук, якія з'яўляліся нечакана на сеансах, наладжаных у Ангельшчыне з рознымі медыумамі немцам Реймерсам.

[205] Д-р Леман, “Гісторыя забабонаў і чараўніцтва”, (стр 367).

Але калі такім чынам справа з доказамі праўдзівасьці спірытызма стаяла даволі дрэнна, то тым пышней расквітнела тэарэтычная літаратура па гэтаму пытанню. У 1885 г. з'явіўся вядомы твор Эдуарда фон Гартмана “Спірытызм”, дзе ён, грунтуючыся на медыумных з'явах як фактах імкнецца даказаць, што медыум у трансе выказвае гіпнатычнае ўздзеянне на ўсіх прысутных, якія прыводзяцца ў нейкі самнамбулічны стан. Пры гэтых абставінах разумовыя ўяўленні медыума пераносяцца ў выглядзе галюцынацый на атачаючых, так што апошнія сапраўды пазней пачынаюць верыць, быццам яны перажылі тое, што ім толькі што было нададзена. Але так як фатаграфічную пласьцінку або школьную дошку немагчыма загіпнатазаваць, то, верачы ў рэчаіснасць нават і іх, Гартман прызнаў, што “псіхалагічная магутнасць” медыума здольна выклікаць нават сьвечачыяся прывіды ў прасторы і прыводзіць у рух неадушаўлёную матэрыю, так што магуць атрымацца і фотаздымкі, і пісанні, і парафінавыя формы, і таму падобныя бачныя вынікі.

Калі на нейкім сеансе з'яўляецца выява духу, то гэта, згодна з Гартманам, проста галюцынацыя, ўяўленне ўсіх прысутных; а калі хто-небудзь знянацку нажме кнопку фатаграфічнага апарата (хаця б і ў цемры) і раптам атрымае на здымку постаць, то яна ўтварылася із псіхічнай магутнасьці медыума ў якасьці прывіда, бо інакш яе нельга было б сфатаграфаваць. І Гартман часта карыстаецца абедзвюма гіпотэзамі, гледзячы на тое, як яму зручней і, седзячы такім чынам адразу на двух стуліках, псуе сваю пазіцыю. У сваіх артыклах “Крытычныя заўвагі” на кнігу доктара Ф. Гартмана “Спірытызм” друкаваўшыхся ў “Псіхічных Эцюдах” на працягу пяці гадоў і выйшаўшых пазней у асобным выданні пад загалоўкам “Анімізм і спірытызм”, Аксакаў пункт за пунктам аспрэчае яго, грунтуючыся на цьверджанні, што ўсякая з'ява павінна быць патлумачваемай аднолькава, спірыт цалкам саступае тут філасофу. І адказ Гартмана “спірітычная гіпотэза пра духаў” (Лейпцыг, 1891 г.) мімаволі падцверджвае гэта вартымі жалю выкруткамі, якімі карыстаецца аўтар, падаўлены крытыкай свайго суперніка”, – кажа д-р Леман (стр. 369).

Аксакаў падзяляе медыумныя з'явы на тры вялікія згуртаванні, у залежнасьці ад абумоўліваючых іх нагод. Да першага згуртавання ён адносіць элэментарныя медыуныя з'явы якімі з’яўляюцца столавярчэнне, паведамленні праз стук стала, праз механіческае пісанне і вымаўленне. Пры ўсіх гэтых з'явах, натуральным чынам дзейнічае асоба самога медыума; самае большае, у некаторых выпадках, асабліва ў пішучых і размаўляючых медыумаў, выяўляецца неабходным больш ці менш ненармальны псіхічны стан, транс. Другое згуртаване складаюць анемічныя з'явы, пры якіх псіхічная магутнасць медыума, грунтуючыся на пакуль невядомых законах, вырабляе дзеянні пераўзыходзячыя тое, што магуць зрабіць цялесныя здольнасьці. Сюды належаць, напрыклад, перадача думак на значныя адлегласьці, рухі прадметаў без дотыку і матэрыялізацыя. У пытаннях пра гэтыя з'явы Аксакаў далучаецца да акультыстаў. А спірытычныя з'явы, – на яго думку, – ні ў чым не ўхіляюцца ад першых двух згуртаванняў: яны цалкам аднолькавыя з імі і адрозніваюцца ад іх толькі сваім інтылектуальным зместам. Да іх адносяцца тыя паведамленні медыумаў, якія пераўзыходзяць іхныя веды. Толькі ў такім выпадку мы маем права мяркаваць пра ўдзел вышэйшых разумных істот. Таму Аксакаў толькі ў вельмі абмежаванай колькасьці выпадкаў бачыць несумнеўныя доказы ўдзелу духаў і прама перасьцерагае ад прызнання кожнай незвычайнай з'явы за сведчанне дзейнасьці духаў.

Такой жа думкі прытрымліваўся і спірытычны пісьменнік Карл дзю-Прэль. Распрацаваўшы вучэнне Цельнера пра чатырохмерныя разумныя істоты, ён прыйшоў да высновы, што бранне імі ўдзелу ў людзкіх справах не толькі не супярэчыць законам прыроды, а з'яўляецца натуральным следствам іхнага прагрэсіўнага развіцця, а таксама і развіцця саміх людзей. Яго акультычнае вучэнне з'яўляецца нават, як бы высновай із тэорыі дарвінаўскага развіцця.

Так містыка пачала шукаць збліжэння з прыродазнаўствам і гэтаму асабліва садзейнічалі навуковыя досьледы адносна гіпноза, пачаўшыяся каля 1880 года, калі вявілася, што шмат якія са з'яваў, якія да гэтага часу былі вядомымі толькі дзякуючы спірытычным сеансам, магуць быць выкліканы штучна ў загіпнатызаваных асоб, асабліва калі апошнія маюць істэрычныя схільнасьці, г. азн. знаходзяцца ў істэрычна-гіпнатычным стане. І вось загадкавыя да таго часу з'явы атрымалі цалкам іншае асьвятленне.

Але спірыты ўсё ж не зніклі. У 1891 г. адна італьянская сялянка Еўсапія Палмадзіна, падрыхтаваная да ролі медыума сіньёрам Эрколе Кіалай, была прадстаўлена для доследаў некаторым навукоўцам. Іхныя сеансы былі наладжаны ў Неапалі ў 1892 годзе. У іх браў удзел знакаміты італьянскі псіхолаг Ламбразо, астраном Скіапарэлі, французкі фізіёлаг Шарль Рышэ, спірыты Аксакаў і дзю-Прэль і некаторыя італьянскія навукоўцы. У гэтым выпадку пастановы былі тымі ж, якія вядомы із вопытаў іншых спірытычных сеансаў: рухі, перамены ў вазе неадушаўлённых прадметаў, перамены ў вазе медыума, матэрыялізацыя, адбіткі рук духаў на гліне або муцэ і г. д. Частка навукоўцаў былі пераканаваны, але Рышэ, выклаўшы свой погляд на справу ў 1893 годзе ў “Летапісе псіхічных навук”, прышоў да той высновы, што ніводная із гэтых з'яваў не адбылася пры безумоўна пераконваючых абставінах. Пастаянна выяўлялася, што калі стол павінен быў падняцца без дотыку, плацце Еўсапіі аттапырвалася, тады як дакраналася да нейкай ножкі стала; калі яна стаяла на шалях і адбывалася змена яе вагі, то гэта здаралася толькі тады, калі яна да каго-небудзь дакраналася, “каб увабраць больш магутнасьці”, або калі яе сукенка датыкалася да падлогі так, што пад ёй цалкам магла схавацца падпорка і г.д. А калі спрабавалі пазбавіцца ад гэтых выклікаючых падазрэнні дэталяў, то Еўсапія або працівілася гэтаму, ці больш нічога не здаралася. Камісія навукоўцаў кожны раз павінна была абмяжоўвацца толькі назіраннем пастановы, якая выконвалася згодна з умовамі на якія яны пагадзіліся раней. “А як толькі прысутныя спрабавалі вылучыць свае новыя ўмовы, пастанова спынялася” – сведчыць Рышэ. А выхаванне прысутных перашкаджала зрабіць нейкія рэзкія ўчынкі, асуджаемыя ў добра выхаваным грамадстве ў дачыненні да жанчыны, накшталт таго, напрыклад, каб нечакана выхаціць падпорку із пад апушчанага прыполу яе сукенкі, калі на шалях пачынала памяншацца яе вага.

Аднак, і выхаванасьці бывае канец і ў 1895 годзе, калі яна, набыўшы вядомасць, паехала па Ангельшчыне, яе выкрылі ў Кэмбрыджы.

Адзін із яе звычайных прыёмаў заключаўся ў тым, што за сталом збіралася кола людзей, із якіх кожны клаў сваю правую руку на левую суседа (мал....). У выніку ўсе рукі былі занятымі. Пакой замыкаўся. Хто-небудзь тушыў лямпу на стале і вярнуўшыся клаў сваю руку на левую суседа. Нічога не адбывалася, акрамя нервовага дрыжання рук медыума, якае неўзабаве таксама знікала і раптам нехта нябачным і нячутным пачынаў хадзіць па пакою, дакранаючыся рукой то да аднаго, то да другога із прысутнічаючых. Ён пакідаў і адбітак сваіх пальцаў на прыгатаваным для яго нейкім пластычным рэчыве. Як было патлумачыць справу? І

раптам, дзякуючы недалікатнасьці аднаго із прысутнічаўшых, справа была патлумачана.

Падчас сеансу ў цемры Паладзіна выконваючы як быццам-бы нервовыя гарызантальныя рухі паступова набліжала сваю правую далонь, якую не выпускаў са сваёй левай далоні сусед, да сваёй левай далоні. А яе левая далонь, як быццам бы нервова падпрыгваўшая ўверх і ўніз, пад правай далонню другога суседа, дасягнуўшы судотыку з правай, імгненна замянялася ягонай. Яе леваму суседу здавалася, што яе рука толькі на момант падпрыгнула над яго рукой і ён не прыдаваў гэтаму значэння, а другі сусед не прыдаваў значэння таму, што яе сутаргава рухаўшаяся справа налева рука ўжо значна пасунулася са свайго ранейшага месца. Атрымлівалася становішча паказанае на сярэднім і правым малюнках і яе правая далонь свабодна датыкалася да галоваў і рук прысутных, званіла ў выняты із-за карсажу званочак, пакідала адбіткі і гэтак далей, а патым зноў вярталася замест правай. Зручнасць такіх падманаў заключалася ў тым, што амаль заўсёды прэстыдыжытатар можа ўхіліцца ад дапушчэння на свайго досьледу такіх асоб, якіх баіцца, як гэта я магу паведаміць пра ўласны вопыт. Я не адкідваю тэлепатую ў прынцыпе, г. азн. перадачу некаторых думак або настрояў чалавека згодна са спосабам бяздротавага тэлеграфу. Бо кожная наша думка і кожнае адчуванне павінна суправаджацца электрамагнітнымі хваляваннямі атамаў нашай галаўной нервовай сістэмы, распаўсюджваючыміся хвалепадобна ва ўсе бакі, і паслабляючыся ў трохмернай прасторы нашага сусьвету, як і хваля сьвятла, прапарцыйна квадрату адлегласьці. Раз гэта так, то гэтыя хвалі здольны і нават заўсёды схільны аднавіць ў іншым мозгу тую ж самую пасьлядоўнасць думак і пачуццяў, як гэта робяць і нашы радыёпрыёмнікі, калі паміж мозгам розных індывідаў няма ніякіх ізалятараў, перашкаджаючых сімпатычнаму адлюстраванню, або калі мазгавыя паўшар’і розных асоб настроены не на “адну і тую ж серыю хваль”; як асабліва павінна быць у няспячым стане людзей, калі кожны мозг працуе самастойна і гэтым самым як бы адбівае чужыя псіхічныя хвалі. Дапусьціўшы, што ў гіпнатычным сне адгароджваючыя перашкоды або адбіваючая здольнасць нашага мозгу для знешніх электрамагнітных хваляў знікаюць, мы лёгка прыдзем да высновы пра магчымасьць такога ўварвання чужых думак і ўяўленняў ў нашу галаву, якія затым замацоўваюцца ў нашай сьвядомасьці, як нашы ўласныя перажыванні і не адрозніваючыяся ад сьлядоў нашых уласных рэальных адчуванняў. Гэта тое ж самае, як кожны камертон і кожная струна пачынаюць гучаць, калі да іх набліжаецца гук іншага камертона або струны, настроенага з імі ва ўнісон. А калі пры гэтым прысутнічаюць і “ўзмацняльнікі”, то ўспрынятыя імі ваганні магуць стаць нават мацнейшымі, чым у іхным абуджальніку.

З такога боку гледжання гіпнатычныя наданні, магчымы нават і без шаптання гіпнатызёра на мове, зразумелай для загіпнатызаванага, а шляхам простага ўяўлення ім загадзя пазначанага шэрагу з'яваў.

З мэтай навуковага дасьледавання такіх з'яваў, я меў вялікае жаданне пысутнічаць на медыумным сеансе. Але тыя два-тры медыумы, з якімі мне давялося сустрэцца, імгненна пакідалі мяне, хаця я і папярэджваў іх, што не адкідаю магчымасьці існавання такіх магутнасьцей прыроды, пра якія яшчэ нічога невядома нашым сучасным навукоўцам, а таму і пайду да іх на сеансы са шчырым сэрцам. Першы раз расчараванне напаткала мяне з адным навучаным акультыстам М. у 1913 годзе. У яго, як мне на вуха паведаміў адзін агульны знаёмы, была таемная акультная школа, у якой практыкаваліся адэпты і адбываліся вялікія цуды,

а яго друкаваныя працы пад псеўданімам “О”, я ўжо чытаў. Калі мяне прывялі да яго на кватэру, узяўшы абяцанне не выдаваць таямніцу, я пабачыў высокага сухаватага чалавека, з нярвова торгаючымся тварам і такую ж жанчыну, яго жонку. Ён мне паведаміў, што набыў свае веды ў Індыі, дадаўшы, што з задавальненнем паведаміць мне акультныя таямніцы, але толькі я, перш чым пачаць вызываць духаў самастойна, павінен прайсьці іспыты, якія моцна падзейнічаюць на нервовую сістэму. Ці лічу я сябе здольным на гэта? Я запытаў у яго, якімі, напрыклад, будуць досьледы.

– Вы, – адказаў ён, – будзеце, перш за ўсё, адзін пасажаны на крэсла ў пакоі і будзе абведзена вакол мелам рыса. Пасьля гэтага з'явіцца слабае сьвятло пачуюцца розныя гукі потым і жахлівыя бачанні. Яны будуць на вас кідацца, а вы будзеце адбіваць іх дадзенай вам шпагай, але ні ў якім разе вы не павінны пераступаць рысу, інакш справа можа скончыцца сьмерцю. Ці гатовы вы на такія іспыты?

– Цалкам гатовы! – адказаў я.

– Але ці абяцаеце вы, што не пераступіце праз рысу?

– Абяцаю!

– Як вы можаце адказваць так спакойна! Бо будзе нешта жудаснае.

– Толькі не для мяне, – адказаў я. – змагаючыся з гэтымі духамі, я перш за ўсё буду ім гаварыць: вы нічога не зможаце са мной зрабіць! Бо калі б із кватэр, дзе займаюцца акультнымі навукамі, выносіліся час ад часу трупы, то гэтая акалічнасць ужо даўно б звярнула на сябе ўвагу ўрада! Што б не здзяйснялі пачвары, я буду адчуваць сябе ў поўнай бяспецы.

– Адкуль у вас такая ўпэўненасць?

– Аднойчы ноччу, у Шлісельбургскім умацаванні, у мяне быў такі кашмар. Мне мроілася, што я ў Індыі; стаю, прыхіліўшыся да скалы ў гушчары джунгляў, цалкам бяззбройны. Раптам джунглі раздаюцца і проста перада мной з'яўляецца вялізны тыгр. Выратавання нідзе не было. Ён глядзеў прама мне ў твар палаючымі вачамі, а я прама на яго. Прайшла, здавалася мне, хвіліна ці дзве ў гэтай нерухомасьці. Раптам мне прышла ў галаву думка: але ж нічога гэтага быць не можа, хаця усё выглядае так выразна, як у рэчаіснасьці і нічым адрозніць нельга. Я адразу адчуў заспакаенне і сказаў яму:

– Ты нічога са мной не можаш зрабіць! Бо ты толькі мой сон!

Тыгр зарычаў жахлівым голасам, павярнуўся і пайшоў. А я прачнуўся з сэрцабіццем. Так я пастаўлюся і да таго, што пабачу ў вас пры выпрабаванні.

Мой новы знаёмы ўважліва паглядзеў на мяне. Пачаставаў гарбатай, распавёў сёе тое пра цуды недасягальных мясьцін Індыі і, калі мы развіталіся паведаміў, што заняткі ў яго таемнай школе акультных навук пачнуцца не раней як праз два месяцы, а калі будзе час ён сам зайдзе да мяне і прывядзе куды трэба.

І не прыйшоў...

Другі раз была няўдача праз год ці два з прыехаўшым у Пецярбург із Аўстрыі знакамітым медыумам Гузікам. Адзін із сеансаў павінен быў адбыцца ў добра знаёмага мне лекара, лекаваўшага таксама і наданнямі. Я і мая жонка запісалі сябе першымі кандыдатамі... Але сеанс адбыўся без нас; я сам прапанаваў Гузіку праз аднаго із сябраў таварыства Аматараў Сусветазнаўства наладзіць сеанс ў яго зале паседжанняў для прэзідыума. Ён абяцаў і прызначыў час. Мы ўсе сабраліся, а ён не з'явіўся, на другі дзень папрасіў прабачэння спаслаўся на хваробу і адмовіўся прыехаць. А трэцці раз мне давялося сустрэць на балу, які быў наладжаны Максімам Кавалеўскім у яго доме. Туды быў запрошаны вядомы сьпірыт. Мяне з

ім адразу пазнаёмілі і прапанавалі наладзіць досьлед. Схаваць нешта дзе-небудзь, а потым увесь час думаць пра гэтае месца, а ён прачытае мае думкі і знойдзе. Я схаваў свой грабянец за спінкай аднаго дывана у адным із пакояў, даступных для гасьцей. Ён узяў мяне двума пальцамі за далонь рукі і прапанаваў прайсьціся па пакоях. Увесь час ён кідаўся то налева то направа, цягнучы мяне за сабой, я трымаў у розуме месца знаходжання свайго грабянца, але не выяўляў нічым. Вось мы прайшлі побач з дыванам, ён кінуўся да яго, я не супраціўляўся і не паслабіў руку, мы прайшлі месца і вярнуліся ў ранейшы пакой. Госьці ішоўшыя за намі, пачалі ўсміхацца. Яго твар паказаў поўную роспач, яго пальцы, сціскаўшыя маю руку, дрыжэлі.

– Пройдзем яшчэ раз, – сказаў ён з роспаччу. Вы відавочна не ўвесь час думалі пра тое месца і прадмет.

Зноў пачалася ранейшая гісторыя. Мне стала вельмі шкада яго і вось, калі мы зноў праходзілі побач з дыванам і ён да яго пацягнуўся, я знарок паслабіў сваю руку. Ён паваліўся на дыван і правёўшы рукой паміж мяккай яго спінкай і сядзеннем, з урачыстасьцю дастаў мой грабянец!

Зразумела што я нідзе не апісваў гэты выпадак, як пацверджанне магчымасьці чытаць мае думкі:

Але ці не такое ж паходжанне маюць і большасць апісаных відавочцамі ўдач? Бо сапраўды ж бывае вельмі цяжка бачыць пакуты гэтых людзей і міжволі становішся іхным саўдзельнікам, жадаючы нейкім чынам выйсьці із непрыемнага становішча.

А яны станавяцца дзякуючы гэтаму знакамітасьцямі.